УДК 821.161.3-3
ББК 84(4Беи)
А28

Укладанне і каментар
Наталлі Адамовіч і Міхася Тычыны
Прадмова
Міхася Тычыны

Кніга выдадзена дзякуючы дапамозе
і **Аляксандра Старыкевіча**.

ISBN 978-985-7007-95-0



## НАЗЫВАЦЬ УСЁ СВАІМІ ІМЁНАМІ

Аднойчы, яшчэ ў часы Каіна, стаўшы на «сцяжыну вайны», чалавек асуджаны зноў і зноў паўтараць свой сумны вопыт і спрабаваць вырашаць свае праблемы з дапамогай сілы. Алесь Адамовіч, празаік, крытык, вучоны, кінасцэнарыст, публіцыст, грамадскі дзеяч, які ўвайшоў у гісторыю беларускай літаратуры як аўтар твораў пра вайну, заўсёды помніў пра гэта. Аднак няўжо зло непазбежнае і вечнае? Розум і сумленне пісьменніка-гуманіста не маглі згадзіцца з наканаванай ад пачатку асуджанасцю роду чалавечага. На самым ускрайку прорвы, у якую па інерцыі гісторыі спаўзаў свет, ён шукаў словы, здольныя абудзіць людзей да актыўнага дзеяння, да ўпартага супраціўлення лёсу.

У пачатку 60-х гадоў, калі Адамовіч быў ужо знаным аўтарам раманаў «Вайна пад стрэхамі» (1955–1960) і «Сыны ідуць у бой» (1950, 1960–1963), у беларускім друку з’явіўся сяброўскі шарж. Пад фатаграфіяй пісьменніка, на якой ён знаёма-іранічна пазірае некуды ўбок, значылася:

Дарэмна вярнуўся
Пад гэтыя стрэхі:
Маскоўскіх дыскусій
Не чутна тут рэха.

Алесь Адамовіч, тады малады доктар філалогіі, які кінуў надзейнае хлебнае месца ў акадэмічным НДІ і стаў слухачом Вышэйшых сцэнарных курсаў у Маскве, завітаў у Мінск на нейкі чарговы пісьменніцкі з’езд ці пленум. Яго, па натуры байца, заўсёды цягнула ў эпіцэнтр сацыяльных і літаратурных сутычак, дзе вырашаўся лёс самой будучыні. А Мінск у тыя пасляадліжныя часы, вядома, успрымаўся як глухая правінцыя. Аднак пасёлак Глуша на Бабруйшчыне, дзе прайшло яго дзяцінства, ніколі не звязваўся ў яго ўяўленні з палескай глухаманню, хоць этымалогія назвы і заахвочвала да гэтага. Там жыла яго маці. Там ён стаў падпольшчыкам, а потым партызанам. Там былі магілы бацькі, бабулі.

Пад беларускімі стрэхамі дзесяцігоддзямі ішла маўклівая, але зацятая, да апошняй магчымасці, «малая вайна» з ворагам, які паўставаў то ў абліччы ўзброенага да зубоў акупанта, то ў скуры пярэваратня-калабаранта, то ў вобразе суседа-даносчыка ці сябра-стукача. Пра гэта Адамовіч і напісаў у сваіх аўтабіяграфічных, літаральна «з натуры», раманах. Ёсць там і пра захапленне падлетка паэзіяй Аляксандра Пушкіна: «вершы, ой-ё-ёй, дзесьці на дне ў ім, як вада ў тым калодзе-

жы». Ёсць і пра чытанне запоем «складаных» кніг, накшталт эпапеі Льва Талстога «Вайна і мір», рамана Максіма Горкага «Жыццё Кліма Самгіна», артыкулаў Вісарыёна Бялінскага. Ёсць і пра раскулачванне (дзеда Мітрафана Тычыну разам з сям'ёй выслалі ў Якуцію), і пра сталінскія рэпрэсіі (бацьку Адамовіча, на якога паступіў данос, выратаваў выпадак: яго дапытваў следчы, які аказаўся земляком-аднавяскоўцам).

У вайну ў пасёлку Глуша было сваё падполле, і маці будучага пісьменніка нейк натуральна і проста ўключылася ў народнае супраціўленне ворагу, пачаўшы з малога — з дапамогі бежанцам, палонным харчаваннем, медыкаментамі (яна была загадчыцай аптэкі). Як яна ні аберагала ад актыўнага ўдзелу ў агульным і смяротна небяспечным змаганні сваіх дзяцей, старэйшага сына Яўгена і малодшага Алеся, але само жыццё пад акупацыяй міжволі ўцягвала ў вір супрацьстаяння. Спакойна сузіраць факты прыніжэння і гвалту ніводзін сумленны чалавек не мог, тым больш калі справа ідзе аб маладых і чыстых душою, летуценных юнаках, якія атрымалі ў сям'і поўны «джэнтльменскі» набор маральных прынцыпаў, заснаваных на вяскова-сялянскай, нацыянальна-беларускай этыцы. Абодва хутка сталі падпольшчыкамі, а з зімы 1943 года, калі Адамовічы вымушаны былі акалічнасцямі «пайсці ў лес», і партызанамі атрада імя Кірава. Алесь Адамовіч, пакідаючы родны пасёлак, замест пакладзенага маці ў торбу бохана хлеба, узяў з сабою томік Пушкіна, гэтак адразу вызначыўшы свае прыярытэты ў векавечным клопаце аб «хлебе надзённым» і «хлебе духоўным».

У студэнцкія і аспіранцкія часы, пішучы і публікуючы крытычныя артыкулы пра сучасную беларускую літаратуру, Адамовіч крадком пісаў раман пра тое, што добра зведаў на ўласным вопыце, пра ўсенародную вайну з фашызмам, якою яна была на самой справе, а не такою, як у большасці тагачасных твораў. «Вельмі хацелася расказаць пра перажытае, бачанае ў час вайны, — успамінаў пісьменнік пазней. — І чым больш чытаў аб вайне, тым больш верыў, што «маё» яшчэ не расказана… Вельмі ўдзячны лёсу, што не асмеліўся тады напісаць і паспрабаваць надрукаваць нешта закончанае. Сапсаваў бы, мабыць, матэрыял. Перачытваючы тыя запісы, бачу, што «зносіла» мяне моцнымі вятрамі таго часу: не-не ды і пачынаў пісаць не так, «як яно было», а так, «як павінна было быць».

А.Адамовіч з яго тэмпераментам змагара і апантанасцю новымі ідэямі, якія луналі ў паветры часоў "адлігі», прагай калі рабіць, дык рабіць з поўнай самааддачай, кінуўся ў літаратурную крытыку. Ён лічыў, што вельмі многае, калі не ўсё, вырашалася ў тэарэтычнай барацьбе з устарэлымі поглядамі на жыццё і творчасць. Расчышчаючы шлях для іншых, малады вучоны і крытык тым самым расчышчаў яго і для самога сябе як мастака слова. «Я кінуўся ў крытыку, увесь, з усімі думкамі і эмоцыямі, — пісаў Адамовіч. — І літаратурная крытыка, магу засведчыць, здольна стаць тваёй страсцю, але пакуль ты верыш, што гэта не «бура ў шклянцы вады», а сапраўды грамадская справа».



Менавіта тады ён зразумеў, што чалавек, надзелены талентам, становіцца пісьменнікам, калі ўсведамляе сябе грамадзянінам.

«Жыццё, — сцвярджаў Адамовіч, — можа падарыць пісьменніку сапраўды яркую і значную знаходку толькі ў тым выпадку, калі ён сам ідзе насустрач фактам, калі ён падыходзіць да жыцця з вялікай думкай». Раман-дылогія «Вайна пад стрэхамі» і «Сыны ідуць у бой» (публікаваўся і пад агульнай назвай «Партызаны») багаты на факты аўтабіяграфіі празаіка. Пераважная большасць яго герояў мае сваіх прататыпаў, падзеі ўзяты з асабістых успамінаў раманіста, з вусных апавяданняў яго родных і блізкіх, сяброў па зброі. У лёсе падлеткападпольшчыка Толі Корзуна амаль дакладна паўтараецца жыццё самога Алеся Адамовіча. Вачыма гэтага наіўна-летуценнага кніжніка, закаханага ў жыццё, захопленага веліччу падзей, у якіх яму выпала ўдзельнічаць, чытач бачыць вайну, вылучае ў яе хадзе найбольш яскравыя моманты, каларытныя вобразы, шматзначныя падрабязнасці. Сваімі жанравымі асаблівасцямі раман нагадваў традыцыйную хроніку, аднак аўтарскі пачатак вельмі актыўна выяўляе сябе ў стылі і тэмпе мастацкага апавядання, якое імкліва вядзе да новых і новых падзей, няспынна папаўняючы панараму вайны новымі дэталямі, паказваючы многае ў нечаканым ракурсе. Вялікае месца ў вобразнай сістэме твора займае «кінематаграфічнасць» светабачання: асобныя сцэны-«кадры» з дапамогай мантажу выбудоўваюцца ў напружаны сюжэт, які перадае сам ход і напрамак лірычна-філасофскага мыслення празаіка.

А. Адамовіч не проста «успамінаў» і «запісваў», але ствараў уласны вобраз вайны. Менавіта «вайны пад стрэхамі», якую зусім не па прымусу, а па жыццёвай неабходнасці распачынаюць і вядуць да апошняга мірныя людзі, старыя, жанчыны, дзеці. Нешта запомнілася мацней, а нешта слабей, «але нішто на гэтай вайне не запомнілася больш, рэзка, страшней і прыгажэй, чым твары нашых маці», — нездарма гэтыя словы («у вайны не жаночы твар») вынесены ў эпіграф да рамана «Вайна пад стрэхамі». «Выявілася, — адзначаў пазней аўтар, — што я нават уласную маці па-сапраўднаму не ведаў. Любіў — і толькі. А як чалавека ўбачыў і зразумеў, калі пачалося страшнае жыццё. Калі мне што і ўдалося ў рамане «Вайна пад стрэхамі», дык гэта таму, што раней гэтую кнігу маці напісала ўласным жыццём». Канцэпцыя ўсенароднай вайны як «вайны пад стрэхамі», калі змаганне набывала формы штодзённай барацьбы за выжыванне, за захаванне ўласнай годнасці, з лёгкай рукі Алеся Адамовіча набыла шырокую вядомасць і актыўна выкарыстоўвалася і разгортвалася ў прозе В. Быкава, І. Шамякіна, А. Карпюка, І. Навуменкі, І. Чыгрынава, І. Пташнікава, В. Казько і інш.

Да тэмы вайны А.Адамовіч звяртаўся ў сваіх творах, прозе і публіцыстыцы, кінасцэнарыях і навуковых працах з відавочным пастаянствам. Аднак пафасам яго творчасці стала не гераізацыя подзвігу народа, што назіралася ў першых раманах, а талстоўска-чорнаўская

«думка народная» аб вайне як непрымальным сродку вырашэння актуальных праблем. Ён аб'яўляў, калі выкарыстоўваць назву драмы Якуба Коласа, «вайну вайне». Аб'яўляў ён вайну і тым палітыкам, якія яе прапагандавалі і апраўдвалі («войны справядлівыя і несправядлівыя», «вызваленчыя і захопніцкія»). У 1968 г. паводле сцэнарыя Адамовіча быў пастаўлены дакументальны фільм «Хатынь, 5 кіламетраў» (рэжысёр І. Калоўскі), з якога пачаўся новы этап у мастацка-філасофскай распрацоўцы ваеннай праблематыкі. На змену «гераізацыі» прыйшла «трагедыйнасць» у паказе мінулага. Паводле ўласнага вызначэння пісьменніка, «вярнуўся смак да паўнаважкага слова, але не ранейшага, лішне кампанейскага, акружанага шумным, жывапісным і неабавязковым натоўпам сяброў-слоў, а да слова-ўчынку, слова-дзеяння».

Менавіта такой мовай пісалася аповесць «Апошні адпачынак» (1969), якая сведчыла аб напружаным творчым пошуку празаіка. Ён звярнуўся да сучаснай тэмы і паспрабаваў злучыць у адно цэлае роздум над духоўнымі пошукамі асобы і вырашэнне агульначалавечых калізій суровага XX ст. Лірычны герой твора ацэньвае духоўныя і фізічныя магчымасці сучасніка, вымяраючы іх успамінамі пра паводзіны чалавека на вайне. Яго маці неверагодным высілкам разгінае чыгунныя пруты агароджы, каб даць магчымасць малому сыну ўцячы, і немец-карнік, уражаны ўбачаным, дарue хлопчыку волю: «Колькі разоў яна (мы не ведаем, колькі разоў) — гэтая звышсіла любові чалавечай — перамагала пагрозу, якая навісла над намі, людзьмі!»

Узлёты чалавечага духу цікавілі не толькі Адамовіча-мастака, але і Адамовіча-даследчыка роднай літаратуры. Ён раптоўна для самога сябе адкрыў менавіта з гэтага боку К.Чорнага, пра якога ўжо не раз пісаў раней (кніга «Маштабнасць прозы», 1972). Паставіўшы творчасць лепшых беларускіх празаікаў М.Гарэцкага, К.Чорнага, І.Мележа, В. Быкава, Я.Брыля, В.Казько ў шырокі кантэкст сусветнай літаратуры, Адамовіч пераканаўча прадэманстраваў вялікія мастацкія і філасофскія магчымасці нацыянальнай літаратуры і прыйшоў да лагічнага пытання аб перспектывах эстэтычнага руху: «А што там, далей?», «Ці адэкватная рэакцыя?», «Як быць геніяльным?», «Калі не мы, дык хто ж?» Так называліся публіцыстычна-эўрыстычныя артыкулы пісьменніка, які шукаў адказ на адвечнае пытанне, што рабіць.

І адказ яго быў, на першы погляд, парадаксальны: «Ну дык рабіце звышлітаратуру!» Гэты тэзіс выклікаў у многіх літаратараў неразуменне і рэзкае непрыняцце. Найбольш глыбокія даследчыкі, уважлівыя да зместу, а не формы выказвання, такія, як бліскучы рускі крытык Ігар Дзядкоў, паспрабавалі належным чынам ацаніць Адамовічаву думку: «Звышлітаратура, да якой заклікаў Адамовіч, мабыць, утопія, але гэтым пісьменнікам добра зразумела, што без новага мыслення і новай пачуццёвасці чалавек, магчыма, і вытрывае, але не пераможа. Магчыма, звышлітаратура — гэта браць ношу як мага цяжэйшую?..»



«Хатынская аповесць» (1970) стваралася як своеасаблівы адказ А.Адамовіча на сумненні асобных тэарэтыкаў сучаснай літаратуры, якія сцвярджалі, што «мастацкая літаратура немагчыма пасля Асвенціма» (вядомае выказванне філасофа Тодара Адорна). Беларускі празаік, здаецца, свядома ўступае ў адкрытае спаборніцтва з гістарычнымі дакументамі і ўспамінамі відавочцаў і ахвяраў страшных ваенных злачынстваў на тэрыторыі Беларусі, дэманструючы здольнасць літаратурнага слова перадаваць эмацыянальны напал падзей часу вайны, невыносны боль беларускіх жанчын і дзяцей, якія перажылі ўласную пагібель і намагаюцца адшукаць словы, адэкватныя перажытаму імі. Аповесць (у старажытным разуменні гэтага жанру) складваецца з некалькіх канцэнтрычных кругоў, якія пастунова, сказ за сказам, абзац за абзацам, набліжаюць чытача да ўспрыняцця абпальваючага болю людзей з «вогненных вёсак», узводзячы яго да глыбокага філасофскага разумення беларускай гісторыі XX ст.

Аўтар імкнуўся ўлічыць спецыфіку чалавечай псіхікі, якая адмаўляецца ўспрымаць жахлівае і агіднае, і ў той жа час сказаць праўду пра вайну «ў яе сапраўдным, крывава-пачварным абліччы» (словы Льва Талстога). Твор адрасаваўся не толькі беларусам, якія добра помнілі, што такое вайна, але і ўсяму цывілізаванаму свету, які не зведаў у поўнай меры жахі этнацыду і генацыду, а таму не адразу ацаніў нялюдскасць рэжыму ў Камбоджы, маштабы ваенных злачынстваў амерыканцаў у В'етнаме. Мастацкае апавяданне ў «Хатынскай аповесці» раз-пораз перапыняецца ўстаўкамі з дакументальных запісаў, зробленых Алесем Адамовічам і яго сябрамі па пяры, па змаганні ў гады вайны Янкам Брылём і Уладзімірам Калеснікам. Чытач мог лёгка пераканацца ў тым, што вобразнае слова годна вытрымлівае канкурэнцыю з гістарычным дакументам, а мастацкая літаратура і ў новых акалічнасцях не страціла сваёй пераканаўчасці.

Аднак сам аўтар прызнаваўся, што, нягледзячы на поспех твора ў чытача, беларускага, саюзнага і сусветнага, жыў з адчуваннем «літаратурнага паражэння»: «Выявіў, узняў, паказаў адну толькі крупінку праўды, кроплю таго, што пабачыў, спазнаў, а бяздонны акіян народнай, вогненнай, хатынскай памяці застаўся, там жа, нячутны, нябачаны свету». Менавіта тады прыйшла ідэя стварыць дакументальную кнігу, у якой была б вычарпана хоць часцінка народнай памяці, бо «ўсё пра вайну ведае толькі народ» (словы класіка савецкай літаратуры Канстанціна Сіманава). На працягу 1970–1973 гг. Адамовіч, Брыль і Калеснік аб'ехалі, абкалясілі з магнітафонам і фотаапаратам усю Беларусь, пабывалі ў сотнях спаленых вёсак, апыталі і запісалі больш за трыста сведкаў масавай трагедыі шматлікіх «беларускіх Хатыняў». Выдатнымі пісьменнікамі рухала думка аб тым, што няўмольны час вельмі хутка «вымывае» з народнай памяці страшныя веды пра вайну, якой яна была для беларусаў і якой яе не ведаў цывілізаваны свет.

Проста памiралi апошнiя сведкi гэтай трагедыi, якiя цудам выратавалiся ад немiнучай пагiбелi, нiбыта дзеля таго, каб расказаць праўду нашчадкам i народам свету.

Перакладзеная на многiя замежныя мовы, кнiга «Я з вогненнай вёскi…» (1975) стала лiтаратурным бестселерам. Паказальным быў пачатак артыкула рускага крытыка Мiхаiла Кузняцова: «Страшней за гэту кнiгу я нiчога не ведаю…» Сустракалiся ў iншых водгуках i такiя словы: «Гэта кнiга не магла не з'явiцца…» Аднак аўтары яе, i асаблiва настойлiва А.Адамовiч, сведчылi, што кнiга вельмi нават магла не з'явiцца, што i яны спачатку не былi перакананы ў неабходнасцi менавiта такой калектыўнай кнiгi-памяцi.

«Я з вогненнай вёскi…» сваiм узнiкненнем нiбы падвяла рысу пад цэлым этапам лiтаратурнай гiсторыi, абудзiўшы ў грамадстве iмкненне ведаць як мага больш пра мiнулае, якiм бы яно нi было жахлiвым.

Яшчэ ў 60-я гады Алесь Адамовiч актыўна распрацоўваў iдэю аб драматызацыi жанру беларускага рамана i аб тым, што толькi такi раман здольны перадаць сапраўдны маштаб падзей XX ст. У 70-я гады ён усё больш настойлiва, з уласцiвай яму страсцю i паслядоўнасцю, даводзiў калегам-лiтаратарам неабходнасць мастацка-фiласофскага асэнсавання эпохi, пранiкнення ў глыбiнную сутнасць гiсторыi, якая здзяйсняецца на нашых вачах. Як звычайна, сам жа iнiцыятар новых падыходаў да паказу жыцця першым i распачынаў ажыццяўляць уласныя праекты. Так узнiк раман «Карнiкi» (1981).

«Пасля ўсяго намi пачутага, запiсанага, сабранага ў кнiзе «Я з вогненнай вёскi…», — адзначаў Адамовiч, — нiбыта лёгка напiсаць яшчэ адну аповесць, раман напiсаць. Пра гэта, пра вайну. Толькi навошта? Пасля такiх расказаў, такой праўды! Не хутка адважышся. Аднак тое ж самае, што закрывае шлях, таксама i адкрывае яго — толькi ў зусiм iншым напрамку… Патрэба зразумець такая ж моцная, як патрэба даведацца». Галоўным у новым рамане было пытанне, якое ён не раз чуў з вуснаў сваiх герояў, апавядальнiкаў, вiдавочцаў хатынскiх трагедый, а менавiта: а хто вiноўнiк усяго? Хто ўсё гэта рабiў? Як ён мог?

Раман, як усе мастацкiя творы Адамовiча, нараджаўся пакутлiва доўга, аб чым сведчаць даты: 1970–1980, 1987–1988 гг. Ужо былi апублiкаваны чатыры яго раздзелы, калi ўзнiкла патрэба ў дапаўненнi твора пятай, заключнай часткай, якая атрымала назву «Дублёр» i пэўны час успрымалася як самастойная аповесць. «Атрымаў лiст ад палкоўнiка авiяцыi, франтавiка, — тлумачыў аўтар. — Лiст, поўны дакору, якi прысаромлiваў: вашу аповесць крытыкi расхвальваюць, але ж у вас паўпраўда, дзе ў вас Галоўны Карнiк? Меў на ўвазе палкоўнiк Сталiна. Але пакольк«Карнiкi» i задуманыя былi, i пiсалiся як «сны двух тыранаў», а раздзел пра Сталiна ляжаў з 1979 года, схаваны да лепшых часоў, папрокi лётчыка гучалi для мяне як голас аднадумцы».

Раман «Карнiкi» пабудаваны пры дапамозе ўжо знаёмага чытачу дакументалiзма. Прозвiшчы яго «антыгерояў» (карнiка-выканаўцы Тупiгi, былых савецкiх афiцэраў Сурава i Мураўёва, штурмбанфюрара Дзiрлевангера) фiгуравалi ў пратаколах суда над нацысцкiмi злачынцамi. Аднак гiстарычны факт i дакумент цiкавiць празаiка таму, што ў iм яму бачыцца глыбокi фiласофскi сэнс падзей. Ён даследуе, як даследуе вучоны-псiхолаг, не толькi працэс унутранага жыцця персанажа, але i матывацыю яго ўчынкаў, якiя не паддаюцца разуменню нармальнага чалавека. Мадэрнiсцкi прыём паказу «плынi свядомасцi» дакладна адпавядае аўтарскай задуме: разгортваючы перад чытачом хаатычную карцiну пачуццяў i думак героя, супастаўляючы менталiтэт герояў, якiя знаходзяцца на розных ступеньках сацыяльнай лесвiцы, празаiк спрабуе праз псiхалогiю людзей раскрыць фiласофiю эпохi.



Гiсторыя таталiтарных, некрафiльскiх рэжымаў XX ст., на думку раманiста, — гэта гiсторыя забойстваў, падступства, генацыду i этнацыду, якая, на жаль, мае тэндэнцыю да паўтарэння. Хто гэтыя людзi, iнiцыятары масавых злачынстваў? Звышчалавекi, якiмi яны сябе ахвотна ўяўляюць? Таямнiчыя, з глыбiнь пячорнага веку, гiпербарэi (так гучала першапачатковая назва твора)? А можа, проста карнiкi, як называе iх народ? Людзi, якiя прысвоiлi сабе функцыю самога Бога караць i мiлаваць, судзiць i даваць па заслугах. Гэтыя беспадстаўныя прэтэнзii карнiкаў — ад радавога Тупiгi i афiцэра Мураўёва да генералiсiмуса Сталiна i фюрара Гiтлера — самавыкрываюцца ў маналогах гэтых антыгерояў. Карнiкамi, сцвярджае аўтар, не нараджаюцца, а становяцца. I тады самыя малыя дэфармацыi ў псiхiцы i дэфекты выхавання трансфармуюцца ў паталогiю, улада, тым больш улада, нiчым неабмежаваная, ператварае такога чалавека ў выканаўцу задум самога д'ябла, у нелюдзя. Погляд на прыроду ўладара, якiм ён паўстаў у сярэдзiне XX ст., у рамане «Карнiкi» вельмi глыбокi i вобразна пераканальны.

Малюючы вобразы Гiтлера i Сталiна, раманiст асаблiва ахвотна выкарыстоўвае iронiю як прыём. Фюрара ён параўноўвае з малпай, якая ўзбiраецца па дрэве, i чым вышэй яна залазiць на дрэва, тым лепш бачны яе голы азадак (менавiта гэтыя словы сталi назвай адпаведнага раздзела). Сталiна аўтар называе «дублёрам», якi нiколi не быў здольны прыдумаць нешта сваё i адно прысвойваў чужыя iдэi (пералiк iх, унушальны i поўны, даецца ў заключным раздзеле). Пасрэднасць, якая захоплiвае ўладу над паўсветам, сцвярджае Адамовiч, здольная нарабiць шмат бяды, бо яна па прыродзе сваёй пазбаўлена сумлення, а значыць i адчування мяжы памiж дабром i злом, разумення самакаштоўнасцi чалавечай асобы i глыбiнi Боскай задумы. Спакуса парушыць адвечныя запаведзi, i ў першую чаргу запаведзь «Не забi!», была асаблiва моцнаю ў XX ст. Вяртанне да галоўных iсцiн, якiя былi дадзены людзям як багадаць, да першаснай чысцiнi дзяцiнства, кахання, творчасцi сталi пафасам грамадскай i лiтаратурнай дзейнасцi Алеся Адамовiча ў апошнi перыяд яго жыцця.

Дакументальная «Блакадная кніга» (1982), матэрыялы для якой А. Адамовіч збіраў на працягу некалькіх гадоў разам з рускім празаікам Д. Граніным, была не толькі працягам кнігі «Я з вогненнай вёскі…», але і выяўленнем узбагачэння жанру «магнітафоннай літаратуры». Трагічны лёс беларускай вёскі ў гады вайны, як у люстэрку, адбіваўся ў такім жа трагічным лёсе вялікага горада Ленінграда, асуджанага на галоднае выміранне. Ствараўся, па сутнасці, незнаёмы літаратуры жанр, які Адамовіч называў кнігай-араторыяй, сімфоніяй, хорам (як у антычных трагедыях). «У новага жанру, — пісаў ён, — тая перавага, што яму дадзена здабываць глыбінныя пласты, залежы псіхалогіі, праўды народнага жыцця адкрытым спосабам. Само жыццё сучаснае, якое геалагічна зрушылася, выбухнула небывалымі катаклізмамі, калі верхнія пласты сарваныя і агаліліся нетры, падрыхтавала і нарадзіла гэты спосаб, гэты жанр літаратуры». У «Блакаднай кнізе» шмат спроб звычайных людзей спасцігнуць з дапамогай інтэлекту сэнс падзей вайны, адносіцца да ўласнага існавання разумна, востра крытычна ацэньваючы сябе і іншых, разважаючы над тым, што было, што ёсць і што можа быць.

У гады «галоснасці» А.Адамовіч прыкметна актывізаваў сваю грамадскую дзейнасць. У яго мастацкіх творах узрасла доля публіцыстычнасці. Асабліва выразна гэтая рыса праявілася ў кінафільме «Ідзі і глядзі» (1985), знятым па сцэнарыі празаіка і заснаваным на матэрыяле яго ваенных твораў. Фільм трыумфальна абышоў экраны свету. Адамовіч у гэты час шмат ездзіў за мяжу, прапагандуючы свае ідэі і падыходы да балючых праблем сучаснасці, выступаў на шматлікіх міжнародных антываенных канферэнцыях, раздаваў ахвотна інтэрв'ю журналістам на самыя розныя тэмы. Пасля выбуху на Чарнобыльскай АЭС ён першым стаў шукаць магчымасць разбурыць сцяну сакрэтнасці вакол падзей, стаў арганізатарам многіх акцый у дапамогу пацярпелым ад катастрофы людзям, пераадольваў супраціўленне мясцовага кіраўніцтва, якое не ўспрымала належным чынам смяротэльную пагрозу, навіслую над краінай. «У ядзернай вайне, — пісаў ён, — могуць быць толькі прайграўшыя. Узняцца над разнагалоссямі, над нацыянальным эгаізмам, разлікамі на часовы выйгрыш, над спрэчкамі і звадамі, значэнне якіх сапраўды нікчэмнае, калі стаўкай служыць само жыццё на Зямлі, — гэтага вымагае і здаровы сэнс, і вышэйшыя інтарэсы людзей, і ўсе, якія ёсць, простыя ісціны, само маральнае пачуццё». Вынікам яго роздуму стала кніга «Апакаліпсіс па графіку».

У мастацкіх творах А.Адамовіча апошніх гадоў, з аднаго боку, памацнеў лірычна-філасофскі пачатак, які дапамагаў аўтару сцвердзіць каштоўнасць «простых законаў чалавечай маралі». А з другога — выявілася імкненне пісьменніка да адкрытай размовы з чытачом, што адгукнулася ў павышанай экспрэсіі малюнкаў, у напружанні сюжэта, у сугестыўнасці вобразнай мовы. Усе гэтыя якасці так ці інакш уласцівыя аповесці-антыутопіі «Апошняя пастараль» (1987), дзе створана ўражлівая карціна магчымага Апакаліпсісу, які людзі рыхтуюць міжволі сваім бяздзеяннем самім сабе. У творы навідавоку свядомае супрацьстаўленне сучаснасці мінуламу, калі ўзнік жанр ідыліі, пастаралі, утопіі (Апулей, Луіджы Лонг, Тамаза Кампанела, Томас Мор і інш.), дзе героі жывуць у поўнай гармоніі з прыродай і іншымі людзьмі. Героі аповесці, Жанчына і Мужчына, Ён і Яна (як у паэме Янкі Купалы, радкі з якой сталі эпіграфамі да некаторых раздзелаў), — апошнія ў чалавечым родзе, бо адбылася ядзерная катастрофа, сілы зла ўзялі верх. Яны адчуваюць сябе Адамам і Евай пасляатамнай эры, ад якіх залежыць, быць ці не быць жыццю на Зямлі. Яны шмат спрачаюцца, высвятляюць адносіны паміж сабой, часта вяртаюцца ў мінулае, шукаючы адказы на «цяжкія» пытанні зямнога быцця. Твор завяршаецца драмаю: гіне ўсё жывое, гасне праменьчык свядомасці апошніх прадстаўнікоў чалавецтва («Зніклі апошнія сведкі ўласнай трагедыі, і яна адразу перастала быць трагедыяй і стала руцінным фізічным працэсам ператварэння, падзення энергіі ў нікчэмна малым куточку Сусвету. Святло згасла, апусцелі і сцэна, і глядзельная зала…»).



У дні жнівеньскага путчу ў Маскве ў 1991 г. А. Адамовіч знаходзіўся сярод абаронцаў Белага дома. Пра гэта ён напісаў у эсэ «Бывай, хунта!» (1992), якое скончыў, знаходзячыся ў шпіталі пасля перанесенага цяжкага інфаркта. У гэты ж час ён завяршыў аповесць «Венера, або Як я быў прыгоннікам» (1988–1992), якая працягвае працэс мастацка-філасофскага асэнсавання эпохі XX ст. Былы падлетак-партызан праз гады згадвае вобраз беларускай прыгажуні Венеры Станкевіч і пачынае разумець, што ў яе лёсе ўвасобілася драма народа і чалавека.

Само імя гераіні невыпадковае: у кабінеце Адамовіча, перад яго вачыма, заўсёды знаходзілася мармуровая статуэтка Венеры Мілоскай, увасабленне жаночага хараства, ідэі гармоніі паміж фізічным і духоўным у чалавеку. У споведзі безыменнага героя, у вобразе якога шмат аўтабіяграфічнага, аўтарскага, разгортваецца кароткае жыццё Венеры, паказана яе трагедыя, якая ў асноўных рысах паўтарае трагедыю беларусаў (рэпрэсіі, вайна, нямецкія карнікі і берыеўскія спецатрады, калгасны прыгон і пасляваенны голад). Аповесць «Венера» ў жанравых адносінах з'яўляецца творам-пакаяннем, у якім паказваецца працэс «разліку з мінулым». Як ні дзіўна, у трагічнай па каларыту і настрою аповесці вельмі шмат гумару, спецыфічна беларускага, калі невядома, ці чалавек з іншых пасмейваецца, ці з самога сябе іранізуе. У найбольш цяжкія моманты, калі атмасфера безвыходнасці невыносна гняце і герояў, і аўтара, і чытача, з'яўляецца стары Тамаш, беларускі неўміручы Кала Бруньён, які высмейвае шматлікія стэрэатыпы савецкай прапаганды і нялюдскія паводзіны мясцовых, вялікіх і малых, начальнікаў, савецкіх «паноў» і «падпанкаў», лёкаяў і чэлядзі.

Своеасаблівай «фрэскай» мінулага з'яўляецца аповесць «Нямко» (1992), дзе апавядаецца пра каханне нямецкага салдата Франца і бе-

ларускай дзяўчыны Паліны ў час акупацыі і ў пасляваенны перыяд. А.Адамовіч старанна рэстаўруе адзін з эпізодаў беларускай гісторыі, каб наглядна прадэманстраваць разбуральную сутнасць чалавеканенавісніцкай ідэалогіі, якая калечыць людскія лёсы і дэфармуе душы. Юныя героі аповесці, Франц і Паліна, супрацьстаяць неспрыяльным акалічнасцям, кіруючыся ў сваіх паводзінах простымі правіламі агульначалавечай маралі і законамі прыроды. Яны змаглі захаваць сваё каханне, адолець шматлікія перашкоды, абсурднасці сітуацыі і выйсці з выпрабаванняў маральнымі пераможцамі над шматаблічным злом.

«Добра быць запісной кніжкай Бога! — думка вылецела аднекуль са сну», — такі запіс сустракаем у дзённіку Алеся Адамовіча ў снежні 1992 года, неўзабаве пасля перажытага ім цяжкага інфаркту, ад якога пісьменнік так і не ачуняў. Бог даў Адамовічу крыху больш за 2 гады тэрміну, каб ён давёў да ладу свае творчыя задумы, зрабіў апошнія паспешлівыя запісы сваіх назіранняў, разваг, ацэнак, высноў. Пісьменнік плённа выкарыстаў адпушчаныя яму дні, тыдні, некалькі месяцаў, завяршыўшы незавершанае, падвёўшы рахункі з мінулым.

«Лепшая за ўсё ў Гогаля ягоная запісная кніжка…» — у гэтым спрэчным сцвярджэнні Івана Буніна галоўнае — дакладна выяўленыя адносіны пісьменніка да літаратурнай класікі, калі хрэстаматыйны глянец перашкаджае ўбачыць яе вечна жывую сутнасць. Сёння, заўважана, цікавей чытаць не мастацкія шэдэўры нашых класікаў, а чарнавікі, варыянты, папраўкі, заўвагі на палях для сябе, накіды планаў, калі гарачая магма слоў і вобразаў яшчэ не застыла і мы ўвачавідкі адчуваем варыятыўнасць і шматзначнасць задумы…

Такое ўражанне можа скласціся і ў чытача запісных кніжак, чарнавых сшыткаў, блакнотаў, дзённікавых нататак Алеся Адамовіча. Слынны празаік, праніклівы крытык («Мой самы праніклівы крытык», — сказаў аднойчы пра яго Васіль Быкаў), бліскучы публіцыст, каларытная асоба паўстае ў іх з нечаканага боку — у якасці назіральніка, нязвыкла адстароненага, падкрэслена іранічнага, уважлівага да адваротнага, ценевага боку з'яў і падзей, вынаходлівага ў параўнаннях і метафарах, якімі ён шчодра перасыпаў не толькі сваю мастацкую прозу, але і акадэмічныя літаратуразнаўчыя даследаванні. У аснове гэтага адчування, вядома ж, грунтоўнае знаёмства з яго творчасцю, неабыякавае (у дачыненні да Адамовіча іншае і ўявіць цяжка) стаўленне да яго самога як асобы, адсутнасць стомленай і лянотнай развагі, — калі пра пісьменніка хочацца ведаць больш і больш, радавацца кожнай новай знаходцы ў яго архіве, жыць у стане чакання, што вось-вось будзе сказана аб ім «апошняе слова».

Хутчэй за ўсё ён жа сам, Адамовіч, і скажа гэтае апошняе слова, як бы неасцярожна абмовіўшыся. Хто яшчэ больш і глыбей сказаў пра самога сябе і сваю творчасць ва ўласных інтэрв'ю, эсэ, артыкулах, навуковых працах, быццам не спадзяваўся на прыход уважлівага чытача-аналітыка, аднадумцу-даследчыка, сябра-суразмоўцу?!



Першыя свае запісы, вельмі нерэгулярныя і таропкія (у маладыя гады гэта натуральна, бо здаецца, што наперадзе яшчэ столькі ўсяго, куды больш значнага, і што памяць свежая і надзейная, калі спатрэбіцца, дык усё прыгадаецца), Алесь Адамовіч рабіў яшчэ у студэнцкія гады. Тым больш значным успрымаецца яго пазнейшае адкрыццё вялікіх тэхнічных магчымасцей «магнітафоннай літаратуры», здольнай усё зафіксаваць і «запомніць».

Аднойчы, недзе ў сярэдзіне 70-г гадоў, я зайшоў да яго на кватэру і заспеў за разборам, праглядам, адборам старых папер, лістоў, запісных кніжак розных фарматаў. «Ды вось старыя запісы праглядаю!» — самакрытычна-весела патлумачыў ён. Узяў з адкладзенай горкі адну з кніжак і зачытаў запіс пра Якуба Коласа, якога ён чуў у 1946 годзе ў БДУ разам з аднакурснікамі.

Здаецца, амаль усё, што ўспаміналася тады пра нашага класіка, я чытаў, шмат чуў ад людзей, якія бачылі, помнілі дзядзьку Якуба, так бы мовіць, апокрыфаў пра яго самога, розныя анекдатычныя гісторыі, але нічога падобнага, як запісанага ў Адамовіча, я ні ад каго не чуў. Коласа я пабачыў уважлівымі да падрабязнасцей і адценняў вачамі Алеся Адамовіча, нядаўняга партызана, студэнта-філолага, пачынаючага літаратара. Гэта была дэталёва апісаная сцэна сустрэчы з жывым класікам, які здаўся юнаку прыкметна стомленым, тады здавалася, што ўсякімі непатрэбнымі візітамі і пустымі гаворкамі цікаўных наведвальнікаў, старым і адзінокім чалавекам, далёкім і чужым маладому, незнаёмаму племені («Не я пабачу твой узлёт»). І гэта была, як я сёння разумею, сапраўдная мастацкая проза на добрай беларускай мове.

Сам Адамовіч, падобна, не вельмі высока цаніў чарнавікі, рабочыя сшыткі, аддаючы перавагу завершаным творам, выдадзеным кнігам. Праўда, гэта датычылася толькі яго асабістага архіва. Сямейныя архівы Максіма Гарэцкага, Кузьмы Чорнага, Івана Мележа ніхто, акрамя хіба толькі тэкстолагаў, не вывучаў з такой увагай і павагай, як Алесь Адамовіч, аб чым выразна сведчаць ягоныя цудоўныя навукова-даследчыя працы і літаратурна-гістарычныя каментарыі да твораў згаданых празаікаў.

Адамовіч рабіў свае запісы імклівым, хвалістым почыркам без папярэдняга ўступу, тлумачэння, абмалёўкі тэмы і назвы. Так робяць накіды, эскізы, напаміны для саміх сябе. Яго, як заўсёды, захапляла, спальвала прага «думку вырашыць», «дайсці да канца», «выказацца дарэшты». А пытанняў на працягу ўсяго ягонага жыцця і творчасці было занадта багата, каб вырашыць іх з ходу, адным узмахам пяра, хваробы грамадства былі такія застарэлыя, што пісьменніку, і не аднаму Адамовічу, часцей выпадала выступаць у ролі хірурга, чым тэрапеўта. Адсюль «вяртанне» да пачатку, жаданне нешта ўдакладніць, зігзагі і павароты думкі, раптоўныя асацыяцыі, імкненне не ўпусціць самае істотнае, трымаць ідэю на вастрыі пяра і адначасова не занядбаць

падрабязнасці, «адгалінаванні», удакладненні, пошук трапнага слова, лаканічнага і запамінальнага параўнання, якое было б апошнім. Як цвік у труну ўсяму, што аджыло, блыталася пад нагамі, не давала вольна дыхаць.

Адчуванне «сваёй» і «чужой» аўдыторыі, калі рабіліся нататкі да новай задумы, накідваўся шпарка, амаль без паправак, тэкст выступлення, у Адамовіча было рэдкасным. Матэрыял у асноўным быў «на слыху», асаблівых тлумачэнняў не вымагаў, а праблемы ўздымаліся часта вельмі хваравітыя як для ўлады, так і для асобных набліжаных да яе літаратараў, аднак сёе-тое, звязанае з асаблівасцямі літаратурнага жыцця ў краіне, трэба было ўдакладніць, патлумачыць, падаць як мага ўражлівей. Тады Адамовіч ахвотна і дасціпна здзяйсняў «партызанскія» рэйды ў пісьменніцкі побыт, у гісторыю асабістых стасункаў паміж літаратарамі і ўладай, добра ўяўляючы магчымую рэакцыю і адных і другіх, сяброў і ворагаў, а ўрэшце і прадстаўнікоў улады, без якіх у тыя часы не абыходзілася ні адно больш ці менш важнае мерапрыемства, а, можа, і найперш іх.

Асабліва шмат запісных кніжак, блакнотаў, якія шчодра выдавалі тады да кожнага з'езда ці пленума дэлегатам, належыць да апошніх двух дзесяцігоддзяў жыцця Адамовіча, самых актыўных і баявых у яго літаратурнай біяграфіі. Ужо набірала сілу эпоха галоснасці, а ў Беларусі панавала дзіўная маўчанка: выдавецкія планы былі складзеныя на цэлую пяцігодку наперад, і можна было наогул нічога не пісаць, не адгукацца на бурныя падзеі. Затое кіпела калялітаратурнае жыццё: класікі (Іван Мележ, Аркадзь Куляшоў, Уладзімір Караткевіч, Міхась Стральцоў) пайшлі з жыцця, Васіль Быкаў і Алесь Адамовіч адбівалі амаль у поўнай адзіноце нападкі мясцовага «генералітэту», якое абвінавачвала іх у касмапалітызме, пацыфізме і непатрыятызме, а… святое месца пустым не бывае. Патасоўка ішла вакол салодкага пірага славы, і такая заядлая, што насмешлівае ўціхамірванне («Не будзем дзяліцца, Давайце мірыцца: Лімітнае бронзы не хопіць на ўсіх!») у запале пабоішча ніхто не чуў.

Рэха і падрабязнасці гэтай калялітаратурнай міжусобіцы тут і там чутныя на старонках запісак Алеся Адамовіча, па сутнасці, нарыхтовак для будучай карціны літаратурнага жыцця 2-й паловы XX стагоддзя. Многія падзеі гэтага часу здаваліся тады ледзь не лёсавызначальнымі, і Адамовіч не мог адносіцца да іх абыякава, спадзявацца на тое, што гнойная рана сама рассмокчацца і зацягнецца, а хворы ачуняе. Ён з усёй жарсцю былога байца-падпольшчыка і партызана кідаўся ў чарговы бой, як самы апошні і самы вырашальны ў пабоішчы з ворагамі перабудовы, з літаратурным мяшчанствам і замшэлым правінцыяналізмам у «геаграфічным цэнтры Еўропы». А на вайне як на вайне, азірацца і разважаць, што з усяго атрымаецца і «абы ціха было», не даводзілася. Ды і не ў манеры, не ў натуры гэта Алеся Адамовіча — быць абачлівым, разлічваць, выгадваць, спадзявацца на шчаслівы збег акалічнасцей і на добрую волю ўладатрымцаў.



Запісы фармальна незавершаныя, «заканчэнні» пачатых і «кінутых» на паўшляху фраз, «вісячыя радкі» асобных роздумаў, часам «цёмныя» мясціны, — усё гэта сёння, у эпоху постмадэрнізму, успрымаецца як частка агульнай задумы аўтара і поўніцца надзвычайным сэнсам і шматзначнасцю. Як, зрэшты, і ўсякае «апошняе слова» чалавека, які пакінуў незабыўны след у памяці тых, хто яго ведаў, любіў і любіць. Алесь Адамовіч і на малой пядзі «запісных кніжак» і «дзённікаў» паранейшаму змагаецца і перамагае. І за яго, за Адамовіча, сёння, такое часам узнікае адчуванне, змагаюцца, і гэтак, быццам ён усё яшчэ жывы.

У апошнія два гады жыцця Алесь Адамовіч, добра разумеючы свой стан і не паддаючыся ілюзіям, рацыянальна распланаваў рэшту сваіх дзён, каб завяршыць задуманае і надаць уласнаму жыццю пэўную завершанасць. У аповесці «Vixi» («Пражыта») (1992–1993), напісанай у жанры пісьменніцкай аўтабіяграфіі, узнаўляюцца з першаснай свежасцю і яркасцю малюнкі даваеннага дзяцінства, пераасэнсоўваецца мінулае, аддаецца даніна пашаны блізкім і знаёмым людзям, без якіх аўтар не ўяўляе самога сябе, яшчэ раз прыгадваюцца некаторыя знаёмыя чытачу па іншых творах эпізоды ваеннага юнацтва, падаючы іх на гэты раз ад імя асабістага «я», расстаўляючы ўсё на свае месца. Маральна-духоўныя падрахункі з былым патрэбны пісьменніку, каб быць пэўным, што жыццё не прайшло марна, а некаторыя яго маральныя ўрокі яшчэ спатрэбяцца людзям. У гэтым творы запамінаюцца іранічна-філасофскія адносіны аўтара да самога сябе і імкненне падвесці філасофскія вынікі свайго роздуму над агульнымі для ўсіх жывых і сумленных людзей «вечнымі пытаннямі» дабра і зла, любові і нянавісці, жыцця і смерці. Аповесць завяршаецца на высокай, аптымістычнай ноце: «Так, жыццё пражыць — не поле перайсці. Як усё проста, але сказана назаўсёды, пра ўсіх. З Вечнасці перабегчы ў Вечнасць. А па шляху — столькі ўсяго».

За два тыдні да скону пісьменнік прыехаў у Беларусь, пабываў на могілках у Глушы, дзе пахаваны яго родныя і дзе паказаў месца самому сабе, паспеў наведаць рэдакцыю часопіса «Нёман», куды здаў у друк дакументальную аповесць «Падарожжы з Мінска ў Маскву і назад» (1994), дзе змясціў свае ўспаміны пра літаратурна-творчае жыццё рэспублікі ў савецкія часы. Смерць наступіла 26 студзеня 1994 г. ад апошняга інфаркту, пасля выступу Алеся Адамовіча з прамовай у Вярхоўным судзе Расійскай Федэрацыі з прамовай у падтрымку Міжнароднага Літфонда ў пытанні непадзельнасці маёмасных правоў пісьменнікаў былога СССР, — факт сам па сабе сімвалічны, як і многае ў жыцці і творчасці пісьменніка-гуманіста, змагара за праўду і справядлівасць.

Жыццё пісьменніка не завяршаецца з яго фізічным зыходам у лепшы свет, а яго мастацкія творы і яго зіхоткая публіцыстыка знаходзіць

свой працяг і паглыбленне ў сучаснай рэчаіснасці. Імя і прозвішча Алеся Адамовіча згадваецца пры нагодзе і надзвычай часта. У беларусаў досыць шмат выдатных дзеячаў мінулага, адсутнасць якіх у жыцці іх нашчадкаў адчуваецца вельмі абвострана. І не толькі беларусаў.

Нядаўна ў Маскве, дзе пісьменнік жыў і тварыў у апошнія гады свайго жыцця, выйшаў у свет першы том Збору твораў выдатнага рускага паэта і ўсенародна вядомага барда Уладзіміра Высоцкага ў 10 тамах. Цікава і сімвалічна, што ў якасці ўступу да гэтага тома выдаўцы змясцілі слова Алеся Адамовіча пра паэта, напісанае ім і апублікаванае ў часопісе «Беларусь».

Асабліва часта згадваецца імя Алеся Адамовіча ў размовах пра вынікі Чарнобыльскай катастрофы. Вядома, што адным з першых менавіта ён падаў свой голас аб жыццёвай патрэбе ведаць усю праўду пра гэту трагедыю, а яго роля і заслугі ў працэсе пераадолення яе наступстваў немагчыма пераацаніць. У гэтым сучасны чытач можа лёгка пераканацца, азнаёміўшыся з кнігай «…Імя гэтай зорцы Чарнобыль», якую ўклала дачка пісьменніка Наталля Аляксандраўна Адамовіч (2006). Назву кнізе даў кінасцэнарый, напісаны Алесем Адамовічам па дамоўленасці з сусветна вядомым амерыканскім кінарэжысёрам Стэнлі Крамерам, які пагадзіўся зрабіць па ім кінастужку пра Чарнобыль, і змешчаны сярод іншых, у тым ліку і невядомых, публіцыстычных і мастацкіх твораў пісьменніка.

На жаль, не збылося! Як і шмат іншага з задум Алеся Адамовіча, сярод якіх аповесці «Чалавек у рэспіратары», «Краіна, якой не шкада», «Апавяданне пра мудрае і клапатлівае кіраўніцтва народа, якога не было», «Аповесць пра тое, як «выжылі» (у справаздачах) пасля Чарнобыля»…

А што збылося? У запісной кніжцы ад 11.05.1990 чытаем: «Метадам «да ўпору» мне ўдалося ў жыцці вось што: 1. Садзейнічаць нараджэнню жанру такіх кніг, як «Блакадная» і «Вогненная»; 2. Падштурхнуць працэс дыскрэдытацыі «сваёй» ядзернай зброі; 3. Блакаваць атамную энергетыку і вывесці з зоны сакрэтнасці чарнобыльскае злачынства; 4. Дапамагчы генералісімусу рухнуць канчаткова. Ну, а цяпер застаецца вярнуць селяніну зямлю. Што наступнае мне жыццё накіне на шыю, як ласо?»

Нямала, як для аднаго чалавека. І шмат для пісьменніка-грамадзяніна.

*Міхась Тычына*

# АПОВЕСЦІ

# ХАТЫНСКАЯ АПОВЕСЦЬ

У Беларусі фашыстамі знішчана каля 9200 вёсак. У больш чым шасцістах вёсках забіты ці спалены ўсе жыхары, выратаваліся адзінкі.

*З дакументаў Другой сусветнай вайны*

Я выскачыў з машыны і пачаў праціскацца між мікрафонаў.

— Лейтэнант Колі! Вы сапраўды забілі ўсіх гэтых жанчын і дзяцей?

— Лейтэнант Колі! Як сябе адчувае чалавек, які забівае жанчын і дзяцей?

— Лейтэнант Колі! Вы не шкадуеце, што не здолелі знішчыць яшчэ больш жанчын і дзяцей?

— Лейтэнант Колі! Калі б вы маглі сёння вярнуцца і зноў забіваць жанчын і дзяцей…

*Са «Споведзі» амерыканскага лейтэнанта Уільяма Колі — віноватага ў знішчэнні в'етнамскай вёскі Сангмі*

Не месціцца нават у галаве, што на гэтай планеце можа быць вайна, якая нясе гора мільёнам людзей.

*Зварот Георгія Дабравольскага, Уладзіслава Волкава, Віктара Пацаева да людзей Зямлі з Космасу 22 чэрвеня 1971 г.*

* * *

— Тут ужо цэлы ўзвод! — гучна кажа чалавек у цёмных акулярах, з белай металічнай палкай у руцэ.

Хлапчук у блакітным плашчыку, які ўскочыў у шумны аўтобус перш за яго, выбірае позіркам свабоднае месца.

Чалавек у акулярах прыпыніўся ля дзвярэй, слухае раптоўную, напружаную цішыню; глыбокія дугі, складкі каля рота, твар, звужаны ўніз, непрыгожа завостраны, затое лоб надта шырокі і, як у малога, пукаты. Рот паторгваецца вінаватай усмешкай сляпога.

— Татка, там месца, — кажа хлапчук у празрыстым плашчыку і кранаецца працягненай яму насустрач рукі.

Зноў зашумеў, закрычаў аўтобус, але нядаўняя раптоўная цішыня таксама засталася — як дно. Галасы, вясёлы крык занадта ўжо таропкія.

— Гайшун! Сюды, братка!

— Да нас, Флёра.

— Сюды давай!

Чалавек з застылай ціхай усмешкай сляпога некага чакае. Металічная палка суха, пустацела дзынкнула: сляпы зачапіў стойку.

На прыступку аўтобуса паставіў мех узмакрэлы мужчына ў пакамечаным суконным гарнітуры.

— Гэта куды аўтобус?

— У Хатынь.

— Куды?

— У Хатынь.

— А! — няўпэўнена прамовіў гаспадар суконнага гарнітура, забіраючы свой мех.

У дзвярах узнікла жанчына ў квяцістай летняй сукенцы з сумкай і плашчом-балонняй на загарэлай руцэ. Паднялася на прыступку, смуглявы твар усміхаецца побач з коратка пастрыжанай, зусім белай галавой сляпога.

— Глаша, да нас!

— Сюды сядай, у трэці ўзвод!

— Надакучылі вы ёй і ў лесе! Праўда, Глаша?

Жанчына, кінуўшы ціхае «добры дзень», кранулася локця сляпога, і ён пайшоў па аўтобусе. І адразу стала прыкметнай узаемная іх нетаропкасць, напружаная плаўнасць, якая бывае, калі нясуць разам поўнае вядро.



— Сюды, татка, тут месца, — гучна паклікаў хлапчук, які ўжо ўладкаваўся спіной да кабіны, па-дзіцячы паклаўшы далоні на сядзенне абапал сябе.

Маладжавы і шумны пасажыр прыўзняўся з месца і ашчаперыў сляпога за плечы.

— Флёра, з маёй пасядзі. А я з Глашай.

— Косця, — дакорліва сказала жонка шумнага пасажыра, уся занадта беленькая, зычліва ўсміхнуўшыся сляпому, — не замінай чалавеку прайсці. Які ж ты!..

Чалавек у цёмных акулярах звыкла нёс руку; а з ім здароўкаліся, кранаючыся худых пальцаў, якія чуйна ўздрыгвалі.

— Жывём, Флёра?

— Гэта хто? Ты, Стома?

— Пазнаў? Я, братка, я гэта.

— А гэта чыя галава?

— Рыжага. Помніш такога? Падай голас, Рыжы.

— Пакажыся, — рука сляпога вярнулася назад, — пакажыся. І сапраўды — Рыжы!

— Здароў, Гайшун. — Пасажыр прыўзняўся, з няёмкасцю, як дзіцячую, пацiснуў руку сляпога.

Жанчына, пакуль ідзе гэтая працэдура распазнавання, стаіць за мужавай спіной, яна таксама ўсміхаецца, але ні на кога не глядзіць, у той час як чорныя акуляры сляпога ўважліва ўглядаюцца на кожны голас.

Руку сляпога перахапіў таўсматы пасажыр з касавокімі вачыма.

Раменьчык ад фотаапарата палавініць ягонае мяккае плячо, і ўвесь ён нейкі выпнуты, кругленькі ў сваім новым сінім гарнітуры.

— Не пазнаеш Сталетава?

— І ты тут? — здзівіўся сляпы.

— А дзе ж мне быць? — Сталетаў пакрыўдзіўся.

Але жанчына павяла ўжо Гайшуна далей. Ён зачапіў калена грузнага і нават тут, на сядзенні, высокага чалавека, які, як пераростак за партай, сядзіць крывавата, бокам, загароджваючы праход.

— Дзень добры, — ціха і вельмі спакойна сказаў грузны пасажыр. І паўтарыў: — Дзень добры, Флёра.

Ад ягонага голасу на нейкае імгненне зноў адкрылася — як блізкае дно — цішыня.

Жанчына, перасмыкнуўшы адразу тварам, схапіла Гайшуна за плечы і хуценька правяла яго наперад. Пасадзіла і сама села тварам да кабіны і спіной да ўсіх.

Хлапчук паклікаў:

— Тут лепей, татка.

— Вось і сядзі! — абарвала яго маці.

Ля кабіны — тварам да ўсіх — зручней сядзець было б і грузнаму пасажыру. Але ён таксама не сеў там.

…Касач! Гэта яго голас. Упэўнена ціхі: чалавек ведае, прывык, што яго пастараюцца пачуць. Гэты голас я распазнаў бы і сярод тысячы.

А як перамянілася Глашына рука — нібы з-пад машыны мяне выхапіла!

Які ён цяпер, Касач? Ва ўсякім выпадку, не сляпы, як яе муж.

Матор і вядро, што дзынкае пад сядзеннем, глушаць агульную гаворку. Толькі самыя рэзкія і самыя вясёлыя галасы далятаюць, выпадкова сутыкаючыся і пераплятаючыся. («Летась… ды ўжо і ўнукі ёсць… бомба разарвецца, воблака ўзаўецца… ну, Косця, які ж ты! Дай людзям пагаварыць… я кажу, што касачоўцы ўсюды… не, я яму скажу, нашаму «летапісцу», гэтаму… Гэй, Сталетаў!.. Экзамен здае ў інстытут замежных…»)

Нерэальныя, да немагчымасці блізкія галасы з далёкага-далёкага мінулага затапляюць аўтобус. Сённяшнія выпадковыя словы плаваюць на паверхні, як смецце, а знаёмыя галасы як бы незалежна ад слоў уліваюцца ў мяне, саланаватыя, пякучыя…

Чалавек дваццаць нашых партызанаў. Некаторых я ўжо чуў, разбіраю: Касача, Косцю-начштаба, Стому, Рыжага, Сталетава…

Косця, наш начштаба, — усё гэтакі ж хлапчукоўскі голас — уразаецца адразу ва ўсе размовы: рагоча, выкрыквае прозвішчы, клічкі, знарок бяссэнсавыя словы («Дзеда не забылі?.. Сталетаў, здымі нас для гісторыі. У цябе гэта здорава выходзіць… Дзед, ты ў каго такі капялюш сцёг?.. Мэнш!.. Не перашкаджай, жонка!..»).

Так, ён такі, наш Косця-начштаба, з ім і ў чыстым полі будзе цесна: кожнага зачэпіць, абніме і тут жа абсмяе. Не надта самавіты для сваёй пасады. Дваццаць два ці дваццаць тры яму… Было. Але яго любяць (любілі): справу сваю разумеў, ваяваць умеў. Не горш за Касача.

Касач тут, побач. За спіной у мяне. «Дзень добры!» — паздароўкаўся спачатку і з Глашай, але нешта прачытаў на Глашыным твары і тут жа аддзяліў: «Дзень добры, Флёра!» Вунь якою зрабілася Глашына рука! Спалоханая і цвёрдая. Сядзіць побач са мной, вельмі прамая, напружаная, — я і не бачу, а ведаю.



Такі ж ён аграмадны, моцны? Голас, прынамсі, той жа. Мне заўсёды хацелася зразумець: прыкмячае ён сам ці не прыкмячае гэтую сваю пастаянную іронію, часамі, здавалася, недарэчную?

— Я яму ў вочы сказаць магу! — голас аднекуль ззаду. — Мы яго, прымачка, з-за печы выцягнулі, у партызаны сілай прывалаклі, а цяпер…

Пра каго гэта там? І чый голас? Нервовы, запальчывы. Хлопцы падзаводзяць, бач, чалавека, гэта ў нас заўсёды ўмелі.

— Сакратарка не пусціць.

— А ты па тэлефоне яму. Верна, Зуёнак? Ці тэлеграмай.

Ну, вядома, гэта ён, Зуёнак! Наш галоўны хавальнік партызанскай геральдыкі. Зуёнак заўсёды помніў, і вельмі дакладна, хто ў якім годзе і нават у якім месяцы прыйшоў у партызаны. І хто якой павагі заслугоўвае. Усю сям'ю Зуёнка немцы выбілі яшчэ ў сорак першым, калі ён пайшоў у лес. Менавіта з дапамогай ягоных доўгіх і настойлівых пісем пастаўлены многія нашы помнікі. І гэты, які мы едзем адкрываць. Я ўпершыню еду: калі мог, вочы былі, сустрэчы такія не праводзіліся. А Зуёнку нават перапала за спробы сабраць нас: «Якія такія сустрэчы? Каму гэта трэба?»

— Да ночы паўзці будзем з такой яздой. Я на сваім хозузводаўскім хутчэй паспяваў.

— О, дзед наш да самалётаў прывык!

Заехаць заадно і ў Хатынь, хоць гэта зусім не па дарозе ў партызанскія мясціны нашы, — таксама ініцыятыва Зуёнка. Для мяне гэта асабліва важна — наведаць Хатынь. Хаця што я там убачу? Убачу не тое, што там цяпер, а што было. Што яно такое, нашы Хатыні, я ведаю. Гэта я ведаю…

А хозузводаўскі дзед усё непакоіцца, ці паспеем у два канцы, ці не спознімся. Колькі яму? Дзедам і тады ён нам здаваўся. Гаворыць, нібы гарачую бульбачку есць: сіпіць, дзьмухае, крэкча за кожным словам. І няўпэўненае смяхоццейка клапатлівага і трапятлівага селяніна. Неяк жа здолеў, сабраў Зуёнак усіх нас, і гарадскіх і з раёна, у гэты аўтобус.

— Нічога, — абзываецца нехта (здаецца, Рыжы), — болей нас там чакалі.

У Рыжага нават іронія прабілася ў голасе. Пасляваенная, мабыць. Раней усе з яго жартавалі, а ён толькі пасопваў аблупленым носам ды абяцаў: «Вось як дам левай!»

— А які хоць помнік, га, Зуёнак? — пытаюць з задняга сядзення.

— Курган, школьнікі насыпалі.

— А які б ты хацеў сабе? — крычыць Косця-начштаба.

— Я нешта не падумаў пра гэта, калі хадзілі — памятаеце? — па гарэлым балоце. Як на вяроўцы хадзілі па крузе.

Мільгацяць твары ў маёй памяці, тасуюцца і ніводны не накладваецца на гэты голас з ціхім пакашліваннем.

— Хлопцам усё роўна цяпер. (Дзед.)

— Усё роўна, ды не зусім! (Стома.)

— Пад такім, як у мінулым годзе, я не лёг бы.

— Зуёнак, улічы пажаданні. (Косця-начштаба.)

— Не, а помніце Чортава Калена, як хадзілі па крузе, па балоце? Расказваеш — не вераць людзі.

Хто гэта гарэлае балота, Чортава Калена, успамінае. Голас з такім знаёмым, ласкава-хітрым пакашліваннем. Вядзмедзь, ён?…

Ну, вядома ж! Які ён цяпер, без кулямётных стужак цераз грудзі і па паясніцы? Вельмі нязручна насіць так патроны і непрактычна: іржавеюць, а ў час бою выцягвай па адным, запіхвай у «магазін», у патроннік. Ужо для той, для Першай сусветнай вайны прыдумана была зручная абойма: паставіў у паз, націснуў вялікім пальцам — і адразу пяць патронаў у вінтоўцы. Але Вядзмедзь пакорліва цягаў сваю кіношную ўкрасу, а сам шчупленькі, сутулы, у акулярах. Не каля дзяўчат, вядома, яго думкі круціліся, як у зухаватых, прыбраных у зброю і рамяні разведчыкаў і ад'ютантаў, а каб хоць пакармілі. Цётка адразу бачыла: чалавек ваюе! А можа, і тады кіно сядзела ў падупалых грудзях Вядзмедзя? Неяк пайшлі мы ў кінатэатр, пачаўся фільм, і раптам смяшок у зале: «Леў… Вядзмедзь…» Глаша ціхенька ўсклікнула: «Ой, Флёра, наш Вядзмедзь Лёва дырэктар гэтай карціны!»

У кіно я звычайна з Сярожам хаджу. Мы заходзім у памяшканне перад самым пачаткам сеанса, каб не мучылася публіка недаўменнем, навошта сляпому кіно.

Спачатку Сярожа пошапкам тлумачыць, што там на экране, пакуль я не ўцямлю, куды аўтары гнуць, а потым ужо я яму памагаю, слухаючы фільм, як радыё. Каторыя фільмы нібы для мяне і зроблены — усё растлумачана, услых, гучна.

Але калі раптам заміраe зала перад анямелым экранам, і толькі дыханне соцень людзей, як перад ускрыкам у сне, вось тады ўключаецца, загараецца мой экран. Пад раптоўныя



крыкі, стрэлы з іхняга экрана я бачу сваё. Тое, чаго ніхто не бачыць…

— А вы, дзядзя, таксама партызан? — прыстае Сярожа да Сталетава, які перайшоў да кабіны і цяпер, я чую, сядзіць насупраць мяне.

— Тут усе партызаны, хлопчык. — Пытанне Сталетаву не спадабалася. — А ты піянер?

— Вядома, — Сярожа таксама абурыўся.

— Не выпацкай дзядзьку сваімі чаравікамі, — папярэджвае Сярожу Глаша.

З таго імгнення, калі яна ўбачыла Касача, усё ў ёй — я па голасе чую (бачу!) — нібы здранцвела.

— Вы таксама касачовец? — дапытваецца Сярожа. Ён калі ўжо возьмецца за сваё!.. прычэпіцца!..

— Э, не-е! — узрадаваўся пытанню Сталетаў. — Я з атрада імя Сталіна.

Сталетаў цяпер сядзіць тварам да Касача, яны бачаць адзін аднаго. Ці Сталетаў, як звычайна, уверх касавосіць? Вочы яго дзіўна касавосяць — да неба, да столі.

— І бацька твой ніякі не касачовец, а імя Сталіна.

Гэта адно і тое ж: па паперах мы — атрад імя Сталіна, а ў вёсках, мусіць, і цяпер помняць касачоўцаў.

Даволі экзатычны экземпляр гэты Сталетаў нават сярод такіх розных, як партызаны, людзей.

Спачатку, калі прывялі ў наш Замошанскі лагер нашкодзіўшага інструктара анямечаных школ, які раз'язджаў па раёне з лекцыямі пра «Гітлера-вызваліцеля», гэта быў азызлы, бледны чалавек з вачамі, вытарашчанымі, як нам тады здалося, ад страху. Але не расстралялі, пакінулі ў атрадзе (даказаў, што перадаў дэсантнікам пішучую машынку і яшчэ нешта канцылярскае), і тады мы зразумелі, што вочы ў яго такія ад прыроды. Ад прыроды і вельмі ў згодзе, як выявілася, з натурай сталетаўскай.

На змену сполаху хлынула ў Сталетава, а з яго на нашы галавы, захапленне, ды такое, што хлопцы не ведалі, куды дзявацца. Падыдзе нячутна, зачараванай хадой, стане перад Рыжым, Зуёнкам ці Вядзмедзем і глядзіць улюбёна скасавуранымі вачыма ў неба. Нібы галовы іхнія недзе там, у вяршалінах лесу. Жывымі на неба ўзносіць!

— Ты чаго? — здзівіцца партызан з непрывычкі.

— Я?.. Нічога я… Можа, абед вам таксама прынесці. Я іду на кухню.

— А што, а прынясі! Прынясі, братка.

Вярнуліся аднойчы з нейкай аперацыі, а Сталетава не відно, няма ні ў нашай зямлянцы, ні паблізу. У лагеры ён, але нас быццам ужо не заўважае. Выявілася, Сталетаў ужо штабная адзінка, пісар, а дакладней, летапісец. Пераканаў нейкага прыезджага з брыгады, што вунь як неабходна пісаць гісторыю нашых атрадаў. Фронт ужо не так далёка, іншыя брыгады спахопяцца, а ў нас, калі ласка, усё гатова.

Больш Сталетаў перад Вядзмедзем не ўздыхаў, скошаныя вочы яго перанесліся на іншых, нас яны нейк ужо не ўбіралі.

Дзіўныя і на самай справе вочы ў гэтага чалавека. Быццам мерку здымаюць: прыпнуць цябе да нечага нябачнага, пацягнуць крыху ўгору, як кравец выцягвае каўнер, спінку, а ў вачах ягоных прысуд, нават крыўда — э, не, не дацягваеш! Да гісторыі, ці што? Яшчэ раз пацягне цябе ўгору чорнымі пякучымі (іншы раз здаецца — звар'яцелымі) вачамі, а і ў іх усмешка. То-онкая-тонкая! Нас, маўляў, не падманеш… І ўжо канчаткова ўзнясе позірк да неба, пакінуўшы цябе, нібы перад ліфтам, які мільгануўся толькі што. Усякая фраза яго ўздымаецца на дыбы захоплена-выкрываючым: «Э, не-не!» Скажы яму, што цяпер дванаццаць, ён тут жа выкрые: «Э, не-е! Без дзвюх хвілін!»

Што там выйшла з летапісам брыгады, невядома. Толькі з касачоўскага штаба ён раптоўна вылецеў, гэтак жа імкліва, як і трапіў туды. У Касача такія справы без затрымкі афармляліся, не памог Сталетаву і апякун брыгадны.

Дайшло да Касача (у вёсках паскардзіліся), што «нейкі ваш касы» дзядзьку пабіў, баб палохаў вінтоўкай, некага да сцяны прымерваў.

— Мы тут ваюем, — апраўдваўся Сталетаў, — а нейкі там сядзіць, барадой прыкрыўся, і, калі ласка, вызваляй яго. Я б не ўсіх назад пускаў.

— Ваюем? — перапытаў Касач. — Вось і павваюй. А гісторыю пасля прыдумаеш, напішаш. Першым разам на «губу» яго!

«Гісторыю» Сталетаў прыдумаў, напісаў, ды толькі зусім не тую…

Злучыліся з арміяй. Адных — на фронт, другіх — гаспадарку ўзнімаць, і раптам затрымка з тымі, каго працаваць у раёне пакінулі. Сталетаўская папка ўсплыла, а ў ёй, выявілася, такое было напісана (асабліва пра Касача, ды і пра другіх таксама), што, калі хлопцаў выклікалі, ім не зачытвалі ўголас, а толькі пальцам па радках вадзілі. Не рашаліся сваім голасам зачытваць фразы, нібыта чутыя Сталетавым у атрадзе. Што ён



там чуў, а што прыплёў, цяжка сказаць. Партызаны сапраўды разважалі (і часам горача і шчыра) пра многае, пра што толькі пасля пяцьдзясят трэцяга загаварылі і сталі пісаць. Магчыма, і ў штабе нешта чуў. Ды ён, здаецца, перамыш'ячыў: адна смяротная доза мыш'яку — смяротная, а дзесяцікроць, здараецца, ірвоту выкліча, імгненна выверне сябе з страўніка. Не вяртаць жа палавіну атрада з фронту! Да кагосьці не дурнога трапіла справа. Сталетаву самому давялося апраўдвацца, а заадно і за «Гітлера-вызваліцеля». Доўга пра нашага «летапісца» не чуваць было нічога, але раптам голас аб сабе падаў: нарысы па радыё, артыкулы. Ажыў! Выдаў нават брашуру пра тое, як геройствавалі дэсантнікі (тыя, якім ён перадаў друкарку). Неўзабаве і на сустрэчах пачаў паяўляцца Сталетаў. Я не быў на тых першых сустрэчах, але чуў, што Сталетаў вынырнуў, што зноў захапленне і ўлюбёнасць у гарачлівых вачах, узнятых да неба вачах «летапісца». Спачатку, думаю, без цырымоніі нагадвалі яму пра «гісторыю брыгады», але падобна на тое, што з часам пачалі да яго прывыкаць. Адыходлівыя нашы гарачуны.

— Э, не-е, — марудзіць Сталетаў, нібы правяраючы рэакцыю аўтобуса, — не-е, хлопчык, мы з тваім таткам партызаны, а не якія-небудзь… («касачоўцы» ўсё ж не сказаў).

І песні пяюць ужо, дзве ці тры разам.

Сярожка доўга не здагадваўся, што ў яго бацька не такі, як у іншых. А калі дайшло да яго дзіцячага сэрцайка — зірнуў аднойчы і раптоўна зразумеў! — закрычаў, заплакаў, нібы ў гэты міг са мной усё і здарылася: «Хто цябе, татка, ты не бойся, скажы! Немцы, так, фашысты, так? Скажы, ты скажы!» Пабег у свой куток, схапіў чырвоны завадны млын і пачаў яго, моцна плачучы, ламаць, кінуў на падлогу. А Глаша і я сам угаворвалі яго: цацку рабілі іншыя немцы, зусім іншыя.

З таго часу і дня не мінала, каб Сярожка не загаварыў пра мае «вочкі». Мы з ім абмяркоўвалі план, як мяне вылечыць, і я яго, рабенькага і чарнавокага, убачу. Сярожа няўпэўнена смяяўся, калі я расказваў, якім ён сам паўстане перада мной і як я яго не пазнаю.

Першая аперацыя — за тры гады да гэтага — не дала вынікаў. Я рашыўся зноў, на другую, дзеля Сярожы. Яны з Глашай прыходзілі да мяне ў клініку, шмат гаварылі, Сярожа ўзбуджана смяяўся. Ён быў цалкам упэўнены, што здымуць павязку — і я ўбачу яго, усё ўбачу зноў. А потым мяне адвозілі дамоў усё з той жа цемнню. Глаша ціхутка плакала і гладзіла маю руку. Сярожа сядзеў каля таксіста, і я яго не чуў.

Больш пра мае «вочкі» Сярожа ніколі не загаворвае. Іншым разам, па яго дыханні, што раптоўна ападзе, я адчуваю, як пакутліва-вывучаючы глядзіць на мой твар. Надта сталі балець адамавы яблыкі, яны нібы большаюць, круглеюць. Мне нават прапанавалі вылушчыць іх, каб не балелі, але я не згадзіўся — таксама дзеля Сярожы.

Сёння Сярожа вельмі ажыўлены, вясёлы: ён едзе ў партызаны, акрамя таго, вакол нас людзі, якім не трэба тлумачыць, хто яго татка, наадварот, можна слухаць, распытваць.

Матор глушыць галасы ў аўтобусе, мы едзем лесам, але калі дрэвы расступаюцца, адкрываецца поле, я добра разбіраю галасы нават з задніх сядзенняў. І ўсё стараюся ўявіць, хто як выглядае.Прымушаю сябе рабіць папраўку на час — чвэрць веку мінулася, як я іх бачыў.

Я і самога сябе ўяўляю толькі дзесяцігадовай даўнасці, якім я быў, калі ў свеце яшчэ існавала такая рэч, як люстэрка, а ў люстэрку — бледны вузкатвары чалавек з набраклымі павекамі, з пабялелымі скронямі і глыбокімі дугамі каля рота, што заўсягды стрымліваў вінаватую ўсмешку.

Глаша пайшла за такога замуж, але яна, мусіць, у нейкім іншым люстэрку мяне бачыла, не ў такім бязлітасным. У яе памяці я звязан з яе дзявоцтвам. З шмат чым звязан. Вось і з Касачом таксама. Аднак як яна яго ненавідзіць! Ці баіцца. Сябе баіцца. Не, гэта я баюся. Палахлівы і завідлівы сляпы! І няўдзячны.

Пакуль я яшчэ быў, як усе (толькі час ад часу пачыналі раптам балець, чырванелі вочы), жыццё з Глашай у нас не надта ладзілася: тое, што нас зблізіла, тое і падзяляла, мучыла. Наша сумеснае партызанства, Касач… Не гаварылі мы, не ўспаміналі ўголас, але гэта было з намі, чулася. А калі са мной здарылася самае страшнае (за нейкіх паўгода), Глашу як падмянілі — яе голас, яе рукі, яе дотык. І яна сама захацела, каб нарадзіўся Сярожа.

І зноў побач Касач! Ён у нас за спіной, усю дарогу за спіной. Глаша ні на імгненне не забывае пра гэта, я адчуваю. Вунь як яна напружана маўчыць! Я сам настояў, каб ехаць на гэтую сустрэчу, калі Зуёнак нам напісаў. Глаша не хацела, а мы з Сярожам настойвалі. Я — каб адпомсціць за ўсё ранейшае. Сабе ў адплату. Удзячнасць сляпога…

У аўтобусе гучная, вясёлая спрэчка. Мне заўжды лягчэй, калі людзі вось так захапляюцца, і тады не яны за мной, а я за імі назіраю.

— Пры ім і гэты не рыпаўся, сядзеў у прыёмнай, як міленькі. (Зуёнак.)



— Во-во, адзін перад адным! (Дзед.) У нас у вёсцы быў адзін…

— Сувораў пра Кітай казаў… Вы ведаеце, што казаў Сувораў? Спіць, і слава Богу: не будзіце сабе на бяду!

І ён тут, Ілья Ільіч, наш камроты! Цыганская, невялікая барodка, абавязкова кніжка ў кішэні ці ў сумцы… Дзе ён браў тыя кнігі, аднаму Богу ведама: у вёсках апошнія «Бібліі» ўжо дакурвалі!

— А я вам далажу, калі яшчэ не ведаеце (Косця-начштаба), іхняга таксама даўно на свеце няма. Дзеля гэтага кучу малу — культурную рэвалюцыю — прыдумалі. І каб зенкі не прадралі, кожныя сем год — валі ўсіх у кучу малу! Не верыце — спытайце Сталетава!

— Гэта ж Кітай! — падхапіў Ілья Ільіч. — Імператар, які Вялікую сцяну будаваў, аб'явіў, што будзе жыць вечна. А потым узяў ды і памёр. Цэлы год не хавалі, раз ён так аб'явіў. Пасадзілі за шырму на трон, а чыноўнікі, міністры прыходзілі і слухалі, як ён за шырмай маўчыць, угадвалі ягоныя загады. А паху дамовіліся не чуць.

— Во! — усклікнуў Косця-начштаба. — Не тое, што наш Сталетаў!

— А што! — Сталетаў абазваўся, быццам і сапраўды мае да гэтага дачыненне. — Я не апраўдваю, але так таксама нельга: раз — і ўсе яйкі аб падлогу! Э, не-е, так таксама не робяць. Праўду кажа Зуёнак: пры ім…

— Спяём! — крычыць ужо Косця-начштаба і тут жа пачынае: «А какая встреча будет у вокзала в дни, когда победой кончится война!..»

Касач маўчыць, аднаго яго як бы не датычыць шумная спрэчка. Цікава, што ён сказаў бы і як, што ён усе гэтыя немаўклівыя гады думаў.

Адразу пасля вайны ён працаваў у райвыканкаме, потым яго зрабілі дырэктарам торфзавода, потым — саўгаса. Дзе ён зараз, не ведаю. І Глаша не ведае. Палон, у якім ён пабываў, а магчыма, і папка Сталетава на ім усё-такі віселі. Ды і сам ён чалавек дастаткова складаны, з нечаканасцямі. На партызанскай сустрэчы я ўпершыню, але ўжо бачу (па размовах, рэпліках, па яго цяжкім маўчанні), што да яго не надта кідаюцца. Ну, а ён — тым больш. Гаваркім, кампанейскім ён ніколі не быў, гэта не Косця-начштаба. Магчыма, мае значэнне і тое, што ў памяці нашай Касач звязаны шмат з чым, што не надта хіліць да вясёлай балбатні, захавана на самым донцы памяці. Вайна ёсць вайна, але побач з Косцем-начштаба — гэта цалкам партызанская, з шумам,

з анекдотамі, з памяццю пра розныя казусы, вайна, побач жа з Касачом успамінаецца нешта іншае, больш рэзкае, завостранае… У Касача няма гэтага нашага касачоўскага, партызанскага шыкавання, лірыкі партызанскай, якая ў некаторых з гадамі ўсё разрастаецца. Ён вось і на сустрэчу едзе, як чужы. Староннi хто-небудзь і рашыў бы, што ён адзіны тут не касачовец!

Чуў я ці чытаў, што людзей, якія ведалі адзін аднаго ў абставінах асабліва пакутлівых і абразлівых, потым не надта цягне на сустрэчы. Зрэдку — хай сабе, але не больш. Цяжка, немагчыма жыць з пастаянна раскрытай памяццю, дзе ўсё гэта схавана. Такія людзі наўрад ці сябруюць сем'ямі. Я сам ведаў двух чалавек, што перажылі Асвенцім у адным бараку. У калідоры педінстытута, у курылцы яны сустракаліся, іншы раз з падкрэсленай бесклапотнасцю звяралі лагерныя нумары на руках («Я на 120 тысяч чалавек маладзей за цябе…»), але з іх гутарак можна было зразумець, што яны нават не ведаюць адзін пра аднаго, хто на якой вуліцы жыве.

Ды што казаць, я вось і Сярожу не ўсё стаў бы расказваць (нават калі студэнтам стане), хаця, здаецца, хаваць, саромецца нам няма чаго. На сваіх студэнтах я і пераканаўся, што ёсць рэчы, якія немагчыма перадаць другім, хто не паспытаў чаго-небудзь падобнага.

Даведаліся мае трэццякурснікі ад некага пра выпадак, калі камандзір у час блакады, сярод нямецкіх засад, каб не вынішчылі атрад, быццам бы гатоў быў ахвяраваць дзіцем, якое ўсё крычала на руках у маці. Пераказалі мне з абурэннем. Але і запытальна: як я тут выкручуся з маёй універсальнай навукай псіхалогіяй? Паводле іх пераканання, пасля такога выпадку атрад абавязкова распаўся б: людзі, здрадзіўшы, страціўшы самую мэту барацьбы, узненавідзелі б адзін аднаго і саміх сябе, уласнае жыццё, купленае такой цаной. Абураючыся разам з імі самой магчымасцю падобнага выпадку, я ўсё-такі не згадзіўся, што скончылася б менавіта так. Напомніў пра «абарончы» механізм псіхікі, без якога вайна наогул немагчымая, невыносная была б для чалавека…

Я не бачыў твараў маіх студэнтаў, але ўпершыню адчуў — у інтанацыях адных, у маўчанні другіх — не проста нязгоду, а варожасць. Быццам ім сама слепата мая, мае чорныя акуляры непрыемныя, агідныя. Не, яны не згаджаліся ні на якую «абарончую рэакцыю», ставячы сябе на месца таго атрада!

І дзякаваць Богу! Хоць занадта многае ў жыцці паўтараецца, але праўда ўсё ж іх, хто не жадае ў такое верыць. Гэта праўда



вясны, якая не хоча знаць, што паўторыцца і восень, і зіма. Гэта праўда юнацтва, якое не верыць, што ў іншых пачыналася вось гэтак жа. І бласлаўёнай хай будзе рака, што пачынаецца чыстай і светлай крынічкай; нават калі б крынічка ведала, што нізоўі ракі забруджаны, гэта не замуціла б яе. Рэчку можна ачысціць. Але гэта не мела б ніякага сэнсу, каб не бруіла чысціню пачатковая крынічка, падземныя крыніцы…

Вось як… А маё першае партызанскае каханне — зусім не Глаша. І Глашу я пакахаў як бы водгукам ад Касача. Касач! Хлапчукоўскае, смешнае, але з якімі парываннямі, фантазіямі, крыўдамі і радасцямі — інакш як і назавеш гэта, калі не каханнем.

Яшчэ да таго, як прыйшоў у атрад, наслухаўся я: «Касачоўцы, ого, не кожнага возьмуць да сябе!», «Узброеныя, як дэсантнікі!», «У Касача адны кадравікі, ваяваць умеюць!», «Касачоўцы бой вядуць», «Касачоўцы… касачоўцы…»

Марылася стаць не проста партызанам (іх нямала праходзіла праз нашу вёску), але абавязкова касачоўцам.

Зброю, без якой да іх не прасіся, я здабыў. А спосаб падказаў мне Хведзька Вераб'іная Смерць — рабы, як вераб'інае яйка, сын калгаснага бухгалтара. Яму было ўсяго толькі чатырнаццаць, на два гады маладзей за мяне, і каб пазбавіць мяне гэтай маёй пастаяннай перавагі, Хведзька ўвесь час толькі і вышукваў, чым бы пахваліцца. Гэтым разам ён дастаў з дупла дзве гранаты-«лімонкі» і паказаў мне, які стаяў пад дрэвам:

— Што, бачыў, кум, сонца?

Мяне гэта так уразіла, што ён не вытрываў і наважыў мяне даканаць. Павёў да балота, з-пад яловага пня-вываратня дастаў загорнутае ў кавалак брызенту тое, пра што я даўно марыў: іржавую, з падгнілым прыкладам, але самую сапраўдную вінтоўку! Цяпер і дурню было зразумела, што мая перавага над ім у два гады — непаразуменне і нахабства.

— Добра, — сказаў Хведзька, палагаднеўшы, — у іх такога дабра многа.

Я не зразумеў.

— У нябожчыкаў, — растлумачыў Хведзька. — А што?

Я міжволі паглядзеў на свае адразу растапыраныя пальцы, якія неяк адразу зрабіліся ліпкія. Вось чаму дрэва на вінтоўцы чорнае, нібы абгарэлае!

Назаўтра мы выправіліся на могілкі. Іх шмат было ў сасонніку на пясчаных грудах. Тут закопвалі ў 41-м. Дзе забіты, там і пахаваны, кожны ў сваім акопчыку. (Бaі ў нас на Палессі грымелі

доўга: ужо Смаленск немцы ўзялі, а тут, у лясах, на балотах, іх стрымлівалі бронецягнікі і конніца вусатага Акі Гарадавікова, як у грамадзянскую.)

Жоўтыя пясчаныя грудкі акопчыкаў-магіл аселі, іх зацягнула верасам, як маскіровачнай сеткай. Хведзька сеў пад куст, закурыў. Я стаяў перад ім з рыдлёўкамі, гатовы папрасіць: «Лепш не трэба!»

— Ну? — спытаў ён хмура.

Я не зразумеў.

— Наняў ты мяне? Арбайтэн!

Я, мусіць, пачырванеў.

— Дай! — ён выраў з маіх рук рыдлёўку. — У нябожчыка зубы не баляць!

Жоўты вільготны пясок, яркі, як свежая кроў, паступова вырастае каля нас, а мы ўсё апускаемся ў зямлю. Я раптам выскачыў наверх: падалося, што зямля пачала асядаць, слізка папаўзла пад босымі пятамі.

— Па вадзіцу пабег? — пагардліва крычыць Хведзька.

— Цесна… дваім, — тлумачыў, каўтаючы ліпкую сліну.

Нешта чорнае выкінуў Хведзька на жоўты жвір, — як гарэлая папера.

— Нямецкі… гузікі нямецкія… Няма тут ні халеры!

— Чаму? — прымушаю сябе цікавіцца, хоць мне аднаго цяпер хочацца: пайсці адсюль, уцячы. Такое адчуванне, быццам страціў нешта назаўсёды.

Як гаспадыня бульбу ў карыце, Хведзька сячэ рыдлёўкай у яме, шукаючы металічны гук.

— Я ж кажу! У іхніх не бывае, праверана. Сваіх яны закопвалі без зброі.

Драўляны нейкі гук громам аддаецца ў маёй чарапной карobцы. Хведзька зірнуў на мой твар:

— Памочнічак! А ну засыпай! Наняў?

Адышоў убок і лёг з закрытымі вачыма, а я пачаў сыпаць ужо падсохлы пясок у яму.

Толькі ў трэцяй яме рыдлёўка (не яго, мая) дзынкнула. І тут я забыўся пра ўсё.

Вінтоўка ляжыць на свежым пяску, а мы стаім над ёй. Метал ад іржы жоўты, як вясновы кураслеп, а дрэва да вугальнай чарнаты набрыняла пахам і сырасцю смерці.

— Бачыш, кум, сонца! — крычу я.

З гэтай вінтоўкай я і папрасіўся да касачоўцаў. (Брызентавы рэмень давялося перамяніць.)



Пачаў не з мамы, ведаючы, як ёй цяжка такое вырашаць, а пачаў з таго, што двойчы хадзіў (і Хведзька з намі) тэлеграфныя слупы спілоўваць. Знаёмым хлопцам-касачоўцам за тое, што бралі нас з сабой, заплацілі патронамі. І гэта было ў Хведзькі назапашана. Але Хведзьку зноў мучыла зайздрасць:

— Добра табе, у цябе бацькі няма.

Але ў мяне была мама. Сабраўся з духам, паклікаў на дапамогу ўсю сваю закаранелую зухаватасць двоечніка і паведаміў маме, што сын яе — партызан.

Сястрычкі мае, сямігадовыя блізняты, разглядалі нечаканага, што раптоўна з'явілася ў іх сям'і партызана з захапленнем і спагадлівым чаканнем: зараз ён будзе плакаць. Мама наша на папругу і нават на кій скорая. Потым сама плача, але спачатку парумзаеш ты.

Цяпер першая заплакала яна. Ціха, бездапаможна, зірнуўшы чамусьці на пляскатыя, як сподачкі, тварыкі блізнят, абвёўшы позіркам сцены, куткі хаты, нібы зараз жа трэба ўсё кідаць, уцякаць.

Пайшла на кухню, не сказаўшы ні слова. Нешта корпалася там ля печы і плакала, а мы напаўшэптам гаварылі.

— А табе каня дадуць?

— Сам разжывуся. У касачоўцаў самі ўсё здабываюць.

— А нас пакатаеш? Агарод наш засееш? А то мамцы цяжка будзе.

— Прыеду і зраблю. Цяпер вы — партызанская сям'я.

— Мамка плача.

— Яна заўсёды… Як і бацька на фінскую ішоў… Вы не помніце, малыя былі.

Блізняты нашы прыгажунямі не лічыліся, нават мама казала са шкадуючай усмешкай (калі абедзве разам — цяжка не ўсміхнуцца):

— Божа, растуць векавухі, мала адной, дык на табе дзве!

Я любіў іх пляскатыя, губастыя тварыкі, хоць часта і сварыўся на іх, як злы мужык, калі яны стараліся прыстаць да нашай дзіцячай кампаніі. Але ў сваім двары мы былі сябрамі. Каго хочаш кране гэта — здвоеная пакорлівая ўсмешка на добрых тварыках, здвоеная павага да старэйшага брата!

І вось цяпер, калі мама заплакала і так паглядзела на іх, на сцены, я адчуў сябе вінаватым. Упершыню падумалася ўсур'ёз, чым усё можа скончыцца. Цяпер і не партызанскай сям'і ацалець, выжыць трэба вялікае шчасце, удача. А на партызанскія немцы палююць круглы год.

— Дай прышыю табе бацькаў каўнер. Залезь на гарышча, прынясі, — сказала мама, вярнуўшыся ад печы да нас, адразу прыціхлых. — Усё роўна чорт нейкі знойдзе ды забярэ. Ці спаляць.

Я кінуўся ў сенцы, ускараскаўся па лесвіцы. У рыззі ля лежака раскатаў рукаво ад старой ватоўкі, яно моцна пахла тытунём. У рукаве наша адзіная сямейная каштоўнасць: каракулевы каўнер, загорнуты (ад молі) у тытунёвае лісце.

Мама прышывае каўнер, які паблісквае чорнымі завітушкамі, да майго рудога школьнага палітончыка, а мы сядзім каля яе, зблiжаныя цішынёй, чаканнем. Маме, зябка павяла сваімі прамымі худымі плячыма, я пабег і прынёс ёй з шафы старую цёплую хустку. Калі хустка ў яе на плячах, постаць маці не такая рэзкая, і ўся яна робіцца дабрэйшай, журботнай, задуманай. Вось такая — пад хусткай, у халаднаватым паўзмроку — яна расказвала нам пра гарадское жыццё, пра сваю маладосць, пра бацьку. (Я — гарадскі, а сястрычкі нарадзіліся ў вёсцы. Бацька сам напрасіўся працаваць у МТС, дырэктарам быў да самай фінскай вайны. А потым здарылася нешта незразумелае, ашаламляльнае — бацька ў палоне! Былі два пісьмы аднекуль з поўначы перад самай ужо новай вайной.)

Маміна хустка ды каракулевы каўнер, куплены сабе бацькам на паліто, — усё, што засталося ад нашага «дырэктарскага» жыцця. Гарадскія рэчы мы пачалі прадаваць яшчэ да вайны.

Скончыла мама работу, агледзела маё паліто з шыкоўным каўняром і нават усміхнулася:

— Якраз табе прыдалося.

Мы, узрадаваныя мамінай усмешкай, кінуліся прымерваць паліто: блізняты трымалі яго, нібы сурдут пану, а я на іх пакрыкваў. Каракуль прапах тытунём, нібы яго ўжо насілі. Мусіць, і маме так падалося.

— Бацькавым тытунём будзеш пахнуць.

Я знарок весела і гучна пацягнуў носам, панюхаў — спалохаўся, што яна зноў заплача. Сястрычкі таксама сунуліся, а я загадаў ім перш выцерці насы, і яны паслухмяна выцерлі.

Першыя дні і тыдні ў партызанскім лагеры былі для мяне суцэльным святам пазнавання. Дысцыпліна ў атрадзе была амаль армейская, гэтым касачоўцы ганарыліся перад суседзямі. Але ўсё роўна гэта былі партызаны — усё ў іх з выдумкай, з вясёлай лаянкай, з патэфонам, пры якім адна на ўсе настроі пласцінка: «Брось сердиться, Маша». Гэтая «Маша» па-рознаму гучала,



калі ўсё добра было і калі забітых прывозілі і партызаны хадзілі па лагеры прымоўклыя, змрочныя.

Вельмі падабалася нам паглядзець на сябе збоку — касачоўцы! Аднойчы злоўлены паліцай пачаў расказваць, як ён хаваўся ў склепе і адтуль чуў нашу атаку, што крычалі, якія словы. Спецыяльна хадзілі паслухаць паліцая, а ён, зразумеўшы, што трапіў у кропку, ужо як мог выдумляў вунь якую мудрагелістую лаянку ў свой адрас.

Ваяваць весела — гэта лічылася абавязковым. Толькі новенькія пра бой расказвалі сур'ёзна, падрабязна, бывалыя ж касачоўцы — як пра забаўныя, амаль бязглуздыя прыгоды. Іншы прымчыць, ледзь ногі ўратаваў, вочы — з яблык кожнае, а, бач, прыдумляе, шукае ў здарэнні смешнае, нібы з немцамі ў нейкую злую, але вясёлую гульню гуляў. Не атрымалася, даў здачы немец — таксама смешна!

І толькі калі забітых прывязуць, лепш не падыходзь, калі цябе ў тым баі па нейкай прычыне не было. Гыркнуць, як на чужака. А ўвечары ціха спяваюць песні ці задумліва слухаюць, як даваенны барытон пераконвае Машу, што «жизнь прекрасна наша в солнечные дни».

Касача ў атрадзе паважалі, бадай, пабойваліся. Але і пабойваліся таксама па-партызанску: маўляў, так і трэба з намі, не хадзі, такі-сякі, дзе не трэба, напрасткі, умей выкруціцца нават з-пад Касача, калі ты касачовец!

І ўсё-такі нечага ў ім не разумелі, гэта бачыў нават я. Так, жарсткаваты, можа, залішне, але затое і смелы, і касачовец ведае, што яго параненага не кінуць, як здараецца часам у іншых, а ўжо з засады сарвацца, пабегчы без каманды — такога ў нас не бывае. Храбры не пабяжыць таму, што ён храбры, а баязлівец, бо ён баязлівец і ведае, што лёс ягоны вырашаць будзе Касач.

Але гэтая яго незразумелая, іранічная да ўсяго — і дрэннага і добрага — усмешка! Яна ўсіх і ўсё па-крыўднаму раўняла: здаецца, Касач бачыць, помніць цябе толькі ў той момант, калі ты ў яго перад вачамі. І кожны раз як бы ўпершыню заўважае.

Зрэшты, іншых гэта, магчыма, мала бянтэжыла. Але ж я быў закаханы!

Вось я стаю на пасту каля штабной зямлянкі. Лагер паволі засынае, рассядланыя коні пад стрэшкай гучна хрумстаюць сухой канюшынай. Нехта ідзе да штаба, шастаючы падмерзлым пад вечар мінулагоднім лісцем. У халодным змроку пазнаю мажную, у кароткім кажусе і вушанцы постаць Касача.

— «Хто ідзе?» — аклікаю грозна, радуючыся, што ён чуе мяне, мой партызанскі вокліч, але і саромеючыся трохі. Бо я пазнаў яго, і ён ведае, што я пазнаў яго, нібыта гульню прапаноўваю.

— Пароль! — патрабую, ужо цішэй.

А ён ідзе на мяне з цемені, моўчкі, не суцішаючы хады. Я клацаю затворам, але тут жа кажу:

— Гэта вы, таварыш камандзір?

Як яшчэ не закрычаў: «А, пазнаў, ага!»

Касач рашуча падышоў, пагардліва, як палку, адвёў убок маю вінтоўку.

— Чаму не страляў?

Гульня дык гульня, ён вось якую мне прапаноўвае!

— Я ж адразу пазнаў вас.

— Калі не спыніўся, не назваў пароля, — бі!

— Я ж…

— Не мае значэння, — Касач блізка і ўважліва зазірнуў у мой разгублены і пакрыўджаны твар, усміхнуўся: — Двое сутак гаўптвахты.

Мабыць, каб зразумеў, што вайна — гульня сур’ёзная, лютая.

Але і тут касачоўцы рабілі, давалі папраўку на характар свайго камандзіра. Удзень на гаўптвахце сапраўды моташна, няўтульна: нары з альховых жэрдак прыбіраюць, стой ці сядзі на кукішках у прамерзлай зямлянцы, дыхай у каўнер, прапахлы бацькоўскім тытунём… Але затое ноччу! Ноччу ў цябе ўсе прывілеі, падкрэслены клопат каравульнага ўзвода.

Цікава, расказалі Касачу хаця б пасля вайны, як кармілі гаўптвахту са штабнога катла?

Я сам у гэтым удзельнічаў, калі надаралася стаяць на пасту каля кухні. Стаіш і ведаеш, што неўзабаве з’явяцца. (Брынканне кацялкоў замест пароля.)

— Глядзі добранька, калі пастаўлены! — захліпнецца смяшком які-небудзь Рыжы ці Зуёнак, а ў самога ўжо рукаў закасаны па локаць. Хапае з меншага катла кавалкі мяса, дзьмухае на пальцы, а ты, вартавы, яму яшчэ і кацялкі трымай. Адзін — для гаўптвахты.

…Касач сядзіць у мяне за спіной, той жа, але і зусім іншы. Урэшце, я не ведаю які.

Нешта сваё, добрае і благое, аддавалі мы тады гэтаму чалавеку, нешта наша ён нёс у сабе.

А зараз сваё адабралі, узялі, і ён нібы той, ранейшы, але ўжо і другі.



Па-рознаму гэта людзі пераносяць. Каторыя страшна здзівіліся б і пакрыўдзіліся: быў гаспадар над жыццём і смерцю, а цяпер кожны мае права жыць, быццам цябе і не было над ягонай воляй, лёсам. Іншы жыве і ўсё прымярае: ды ўчора, ды я мог, ды цябе ж!..

Касач не здаецца мне такім. Ён умеў камандаваць. Але не думаю, што ўвесь быў у гэтым. Яго іранічная, часам нават недарэчная ўсмешка — гэта нейкі погляд збоку на тое, што ён рабіў так умела і цвёрда. Бадай, рахункі ў яго былі не з аднымі немцамі, фашыстамі, але і яшчэ з чымсьці. З самою вайной, ці што? Ці не таму ён — менш касачовец, чым усе мы. Не збліжала яго з людзьмі справа, якую ён так дакладна і цвёрда рабіў. Так, мы яму аддавалі нешта сваё, нёс ён у сабе і наша. Але не вясёлую зухаватасць, як Косця-начштаба, а нешта зусім іншае. Магчыма, чалавечую патрэбу помсціць вайне вайной жа. За тое, што табе выпала з ёю спазнацца.

Калі я, вядома, не ўскладняю Касача. Але і спрошчваць яго таксама нельга.

Але ж, праўду сказаць, сённяшняга Касача я амаль не ведаю.

Усю дарогу ён маўчыць. Удваіх з Глашай маўчыць. Калі яна яго ўбачыла, на твары яе, магчыма, нічога не адбілася. Тварам людзі вучацца валодаць, але рукі скажуць усё — на маім плячы была яе рука.

Я заўсёды лічыў сябе пачварай, нават калі вочы былі. Быццам можа чалавек з вачамі быць пачварай. Зрэшты, да сустрэчы з Глашай мяне гэта не цікавіла. А калі ў атрад трапіў, дык нават дужа сабе падабаўся. Вінтоўка, граната — партызан! Якой яшчэ прыгажосці ад чалавека трэба!

А потым глянула на гэтага партызана дзяўчынка, засмяялася на ўсю вуліцу — і ўсё перамянілася.

Дзень той выдаўся, бы назнарок, сыры, халодны, шэры. Сена пада мной, якое я ўзяў на залітым паводкаю лузе, таксама было сырое, цяжкае. Лежачы на высокім, нічым не ўціснутым возе, ехаў я вясковай вуліцай, выглядаючы, у якой хаце мне папалуднаваць. І раптам убачыў Касача верхам на дужым, злосным жарабку, а за ім ад’ютант у рамянях і гусарскіх бакенбардах. Пакуль я любаваўся *намі*, *касачоўцамі*, неўпрыкмет і лёгка (у думках, вядома) перасадзіўшы Жэньку-ад’ютанта на свой воз, а сам ускочыўшы на яго каня, я зусім забыў пра свайго шыраказадага Герынга, а ён, фашысцкая морда, мне і падстроіў. Раптоўна я адчуў, што воз нахіліўся, што саслізгваю, спаўзаю разам з сенам, паволі і непазбежна —якраз у вясковую лужыну.

— Валі, сушэй будзе! — крыкнуў Жэнька, пахаваўшы мяне ў вачах Касача, які сярдзіта на нас азірнуўся.

А ўсе мы азірнуліся на гучны смех — дзяўчынкі. Я гатовы быў забіць і сябе, і Герынга, і гэту рагатуху, якой менавіта ў гэтае імгненне абавязкова трэба было з’явіцца. У вялізныя разбітыя боты, як ружовыя свечы ў падсвечнікі, уторкнуты буслянячыя ногі, у гарэзліва адкінутай руцэ — бруднае вядро, на другой руцэ — вялікая цяжкая з аўчыны рукавіца. Збірае свінням дабро, што коні губляюць, а самой вунь як весела!

Глаша любіць успамінаць гэты выпадак, асабліва весела ёй ад майго абурэння тым, што яна так па-балетнаму трымала сваё вядро. Але, выявілася, развесяліў яе Жэнька, ягонае крыўлянне і бакенбарды, а зусім не я са сваім возам.

Касач і Жэнька звярнулі ў яе двор, яны таксама выпрашылі адпачыць. А мне ўжо было не да таго.

Жыла Глаша з маці, яшчэ маладой, з маладым станам жанчынай, бацьку свайго ведала толькі па фатаграфіі, дзе ён на ўвесь рот смяяўся. Аднекуль з Урала прыходзілі ад яго аліменты. А аднойчы прыляцела яшчэ адна фатаграфія з цэлай гронкай гэткіх жа, як у бацькі, усмешак: Вера, Надзя, Любоў — далёкія Глашыны сястрычкі па бацьку.

У вёсцы Глашу і яе прыгажуню-маці называлі: Глашка-дзесяцітысячніца, Ульяна-дзесяцітысячніца. Пашчасціла ім выйграць такую суму на аблігацыю, нават у раённай газеце пісалі пра гэта. Вось тады гаспадара дома і закруціла-замуціла, аж на Урал закінула.

Падабаўся Глашы спачатку не Касач, а Жэнька, «каб толькі не такі рукасты». Яны з Жэнькам сварыліся, аблівалі адно аднаго вадой, амаль біліся і гучна, зласліва апраўдваліся, яна — перад маці, ён — перад камандзірам: «Няхай сам (сама) не лезе!»

Летам сорак трэцяга немцы пачалі бамбіць партызанскія вёскі. Глаша раптам апынулася ў нашым атрадзе. Ульяна ўгаварыла Касача, хоць у нас нават на кухні і ў санчасці былі амаль адны мужчыны. Глашына маці справядліва разважыла, што ў партызанскім лагеры усё ж такі бяспечней, чым у сямейным, куды яна сама перасялілася з усёй вёскай.

Спачатку каля кухні і ў санчасці пачалі заўважаць каротка-валосую, вузенькую, як лінеечка, дзяўчыну, сарамліва рослую і жвавую. Для сваіх сямнаццаці год яна была даволі высокая, але з такімі вузенькімі плячамі, ніякавата ўзнятымі ўгору, такія ў яе былі радасна сінія вочы, што часамі яна здавалася зусім дзеўчанём.



Тое, што прыйшло, прыйшло не адразу — пасля чарговай «блакіроўкі», блакады.

Блакада скончылася, мы зноў пачалі заўважаць многае ў свеце. З блакады людзі звычайна выходзілі, як з пакутлівай хваробы: аслабелыя, але неверагодна прагныя да цішыні, да сну, смеху, галасоў, дзённага святла. Дзень зноў рабіўся днём, а ноч — ноччу, месяц ужо не быў падобны на асвятляючую ракету, а чалавечыя цені — на магільныя ямы.

Вось тады мы і заўважылі, што побач з намі жыве «камандзірка».

Ранейшы наш лагер немцы разбурылі, спалілі, жылі мы ўжо ў другім лесе, спалі не ў зямлянках, а проста пад дрэвамі ці ў «райскіх шалашах» — маленькіх буданах з яловай кары.

Дняваліш пад раніцу сярод гэтага часовага табара, абкружанага зябка, сарамліва белымі елкамі з садранай карой, і раптоўна заўважыш, як у крайнім ад дарогі буданчыку вытыркнуцца з-пад кажушка разутыя ногі і тут жа спалохана схаваюцца. Голас Касача ў буданчыку непраўдападобна дабрадушны, а Глашын смех такі раптоўна жаночы, глыбокі.

Калі Касач адлучаўся куды ў гэту пару, праводзілі яго закахана-раўнівыя позіркі, мае і Глашыны. А аднойчы нашы з ёю позіркі сустрэліся: Касач задумлівым трушком праехаў паўз мяне, я позіркам праводзіў яго і азірнуўся на буданчык. Глаша сядзела, зябка абхапіўшы рукамі кажух на каленях, вочы яе, згубіўшы за дрэвамі Касача, натрапілі на днявальнага. Не ведаю, што мой позірк сказаў ёй: здаецца — так і быць! —дазволіў і ёй любіць камандзіра. На твары яе мільгануў спалох, і яна схавалася ў буданчыку.

Уставала «камандзірка» цяпер пазней за ўсіх. Але я разумеў, што гэта ад страху перад намі, перад нашымі ўсмешкамі, позіркамі. Усё, чаго Касач, магчыма, і не заўважаў, удвая гняло яе, як толькі наставалі раніца, дзень.

Вось прачнуўся наш лагер: кашляюць, смяюцца, закурваюць, мыюцца жоўтай, як халодны чай, балотнай вадой. Хто сухар грызе, хто высек крэсівам ці з кухні прынёс агонь і цешыцца, ратуецца ад камароў маленькім вогнішчам, а хто зброю аглядае. Ноч скончылася, але дзень яшчэ не пачаўся — самая пара гучна перагукнуцца з сябрам цераз увесь лагер, абгаварыць ці высмеяць кагосьці.

У камандзірскім буданчыку быццам і няма нікога. «Камандзірка» паяўляецца перад намі ўжо адзетая і прычасаная. Наўзбоч ідзе да бочкі з вадой, ціха, быццам пабудзіць каго

баіцца, мыецца пад дрэвам. Часцей за ўсё ў акуратных боціках і шэрым нямецкім світары, які не закрывае яе худзенькую шыю, але нечакана ўзялася аднекуль яшчэ і чорная сукенка — такая прасторная вузенькім плячам, такая шоўкавая, недарэчная. Ёй хацелася перад намі быць як мага больш дарослай, а выглядала яна ў гэтай доўгай сукенцы яшчэ больш безабароннай. І асабліва гэтая роўная і непрыемная, такая чужая жаночая бялюткасць, што праступала праз чорны шоўк!

Воч не ўзніме, губы сцятыя, твар заспаны і нясвойскі — «камандзірка»! Але хто-небудзь, хто сталей, дабрэй, пакліча ці паздароўкаецца — яна ўздрыгне, уся зачырванеецца спалохана-радасна, а вузенькія прыўзнятыя плечыкі так і ходзяць, перамагаючы збянтэжанасць, няёмкасць,

Але калі Касач у лагеры, забывае яна і пра нас, і пра сябе. Бачыць толькі яго. Як трымціць цень, ловячы сонечны промень, што насцігае яго (вось-вось пасвятлее, растане ў ім), так успыхвала, святлела яна, калі паблізу быў Касач.

Мы збіраемся на аперацыю, агульнае пастраенне атрада на парослай дробнымі хмызамі паляне. Усе стаяць, толькі мы, ездавыя, сядзім на тачанках. Высока, нам усё відаць. Некалькі камісарскіх слоў гаворыць перад строем Шардыка. Колькі помню яго, заўсёды ён хадзіў з перавязанай рукой ці забінтаванай галавой: надта старанна адшуквалі кулі гэтае маленькае рухавае цела. Косця-начштаба аднойчы растлумачыў, чаму так адбываецца:

— Шустры ты надта, камісар. За ўсіх усюды паспець хочаш. Пад дажджом бегчы — усе кроплі збярэш: і твае і не свае. Прывык у калгасе — ад акна да акна. Не, няхай кожны сваё сам знае!

Касач слухае камісараву прамову, апусціўшы галаву, пра нешта думаючы ці проста чакаючы, калі трэба будзе даваць агульную каманду.

Глаша з хозузводаўскімі і лёгкараненымі чакае, я бачу, як яна чакае ягонага позірку. (Я нават злаваў на яго часам, так яна чакала, а ён сярдзіта не заўважаў гэтага). Урэшце Касач узняў галаву і паглядзеў у яе бок. Неасцярожна доўга глядзеў, пра нешта сваё думаючы. Перавёў позірк на камісара. Але было позна ўжо: Глаша, нібы яе паклікалі, рушыла на сярэдзіну паляны. І як назнарок, на ёй тая самая сукенка — недарэчна доўгая, шаўковая.

Увесь атрад назіраў за яе дзіўным, лунацічным рухам. Камісар змоўк і з папрокам зірнуў на Касача. Косця-начштаба засмяяўся, сказаў нешта.



Я абмёр, бачачы, як Глаша ідзе на сярэдзіну паляны, не заўважаючы ні раптоўнай цішыні, ні змрочнага за ўсмешкай твару Касача. Але раптам заўважыла, нібы на вострае наступіла. Стала, агледзелася ў жаху, як чалавек, што раптоўна ўбачыў сябе на крызе, якая адышла ад берага. Касач адвярнуўся, а яна пабегла ў лес.

Калі я што і любіў у ёй у тую пару, то менавіта гэтую яе закаханасць у Касача. Водгаласам, так сказаць.

У дзяцінстве так жа адлюстравана закаханы быў у брата сваёй аднакласніцы. Ён быў для мяне жывым адбіткам, паўтарэннем сваёй сястры. Тыя ж вочы, той жа рот, а не бянтэжышся — глядзі, колькі хочацца. Хлапчукі здзекаваліся з бязвольнага і плаксівага сына прыезджага настаўніка, а я апекаваў яго, абараняў. Ён жа, адчуваючы незразумелую маю ад яго залежнасць, у сваю чаргу тыраніў, капрызіў са мной. Але гэта рабіла яго яшчэ больш падобным на сястрычку і яшчэ больш хінула да яго. З ім я мог, быццам незнарок, назваць імя той дзяўчынкі, уголас назваць пры ўсіх, галоўнае — уголас, — у гэтым была ўся справа, асаблівая слодыч.

Вось так, здаецца, і Глашу напачатку ўспрымаў. Амаль так. Але яна не заўважала патаемнай, змоўніцкай дабрыні маёй, апякунства, нашага трайнога саюзу не заўважала. Да самай сустрэчы на той паляне, дзе чырвоныя конікі разлятаюцца, пырскаюць з-пад ног.

…Гэтыя іскры, гэтыя жвавыя кропкі на чорным экране маёй слепаты — іншы раз мне здаецца, што гэта не асколачкі болю, што яны адтуль, з нашай паляны. На паляне я быў і раней, не раз шукаў свайго Герынга, але чырвоных конікаў не заўважаў, хаця, вядома, яны там былі ўсё лета.

А лета ўжо на сконе, вільготны і цёплы лес прапах грыбамі, чарніцамі, густой гніллю, як старая варыўня. Пастуквае дзяцел. Спачатку здаецца — далёкі кулямёт. Услухаешся — не, блізка, дзяцел стараецца. Бой будзе не сёння, а толькі пад раніцу. Непасрэдны мой начальнік Сашка сядзіць у лагеры, змазвае кулямёт, мой жа клопат — коні, калёсы. Нешта сур'ёзнае, калі пойдуць тачанкі. У кустах цераз паляну бачу шэрую спіну нашай прыпражной. Значыцца, і Герынг недзе тут. Я заняўся арэхамі. Іх столькі завязалася, што можна ўсляпую, вобмацкам рваць: нахіліш галіну і камечыш падсохлае, калючае ў далоні лісцё, пакуль не намацаеш цвёрдую цяжкую гронку. Ад зялёнай арэхавай мякаці ў роце кісла і халаднавата…

Арэшнік спачатку завёў мяне ў цёмныя лясныя нетры, а затым вывеў, выштурхнуў на паляну, ужо ў другім яе канцы.

І тут я пачуў плач: жаночы, потым дзіцячы… Я ўжо бачу Глашу, яна ляжыць пад дубам, бачу яе дрыгатлівую, пад чорным шоўкам, вузенькую спіну, а ў самога яшчэ недаўменне: дзе ж тое дзіця, што плача? І тут яе глухое жаночае рыданне сталася дзіцячым усхліпам. Ляжыць пад дубам на цвёрдых, выступіўшых з зямлі каранях-рэбрах жанчына ў доўгай шаўковай сукенцы і захліпаецца дзіцячымі слязьмі. Боты пастаўлены ў галавах, і на іх акуратна развешаны, сушацца анучы. А босыя ногі сярдзіта ўздрыгваюць: кусаюць камары ці мурашкі.

Вочы мае прагна і спалохана, як забітага, разглядалі жаночую белізну, застыла праяўленую чорным шоўкам. Глаша раптам села, падціснуўшы ногі, і схапіла боты.

— А, гэта ты…— сказала, быццам усяго толькі Герынг з кустоў выламаўся.

— Каня шукаю, — растлумачыў я сваё існаванне на свеце.

Як акуратна боцікі стаялі каля яе, сплаканай!

Пасля вайны ўжо Глаша ўспамінала: «Іду праз увесь лагер, размаўляю, калі хто зачэпіць, смяюся, рагачу, але сама *іду плакаць*. Ужо лагер ззаду, ніхто мяне не бачыць, а я ўсё не плачу, спяшаюся на сваю паляну, да дуба. Дабегла, сцягваю боты, ладкуюся, анучы развешваю сушыцца — усё цяпер так зручна, добра! — і нарэшце даю волю слязам, што так доўга стрымлівала, таму і салодкім».

Тое, што Глаша спалоханая, заплаканая, — якая там прыгажосць! —_амаль дурнічка губы распухлі, вочы патухлыя, зласлівыя, — мяне вельмі кранае. Нібы дзеля мяне паблажэла, зліняла знарок, каб мне прасцей было з ёю, лягчэй. Удзячны за такую шчодрую, добрую яе непрывабнасць (нават носам хлюпае, як хлапчук!), я стаю, не адыходжу, забаўляю яе развагамі наконт заўтрашняга бою. Значыцца, ніштаваты гарнізон, калі мы з тачанкамі ідзём! Гэта добра, што сілу пакажам. Даўно пра блакаду новую пагаворваюць (восень, за ўраджаем палезуць), а атрад наш на самым выступе партызанскай зоны. Трэба пашырыць гэты выступ, і наогул заседзеліся…

— Я не хаджу на аперацыі, — кажа Глаша, не даслухаўшы маіх разважанняў, — я ж — камандзірка!

Глядзіць, нібы гэта я яе абазваў так.

— Ну і дурні!

Я ахвотна згадзіўся. Само сабой, зразумелая справа…



— Ну, і можаце цалавацца са сваім камандзірам. А ў мяне будзе дзіцятка. Хоць лопніце ўсе ад злосці!

Я спалохана скасавурыўся, нібы гэта зараз будзе. Нешта ва мне ёсць такое, у несамавітай і вялай маёй постаці, дзякуючы чаму Глаша мяне зусім не саромеецца.

— І правільна, — радуюся я, — гэта вы здорава прыдумалі. Вайна скончыцца, а ў вас…

Я мог бы сказаць «у нас»: я ахвотна прымаў *яе да нас*, у той фантастычны свет, дзе мы з Касачом задушэўныя сябры і нам Глаша не замінае.

— «Здорава прыдумалі», — перадражніла Глаша маё захапленне. — Дурань ты.

Але глядзіць так, нібы просіць яшчэ раз паўтарыць маю дурасць. А я на гэта хуткі:

— Будзеш мамай!

Словам гэтым я нібы ўдарыў яе: раптам пакутліва пачырванела, адвярнулася, спахапілася абуваць боты.

— Угу, камандзір наш, вядома … — цягну я і падаю Глашы кончык абарванай гаворкі. —Вайна пройдзе…

— Думаеш, я не ведаю, што ў вас у кожнай вёсцы па «цешчы»?

І зноў — нібы ўдарылася балючым месцам, нават застагнала. Устала і пайшла палянкай. А я ўсё ніяк не магу кінуць тую размову, па-дурному цягну яе ўслед за ёю, гавару, гавару. Глаша маўчыць, амаль варожа, і я змаўкаю нарэшце.

Яна ўперадзе, я крокаў на дзесяць ззаду, ідзём між старых, асеўшых штабялёў. Цёплая кіслая гніль казыча ноздры. Да вайны тут нарыхтоўвалі дровы. Бярозавыя, асінавыя, грабавыя плахі дагніваюць, зляжалыя, зліплыя, нібы аблітыя мыльнай пенай.

Між штабялёў — тоўсты дыван з маладога, густога, лапушыстага грабніку. Камень кінь — падскочыць, як ад гумы. Глаша ступае паволі, задумліва. Грабнік такі густы, што трэба доўга трымаць раўнавагу на адной назе, адшукваючы месца, куды паставіць другую, і ад гэтай, напэўна, позы Глаша ўсё весялее. Зноў балет, як тады з вядром.

— Глядзі, ружовы! — кажа пра зубчасталісты, як бы пасланы на зямлі грабнік.

І праўда, увесь абпырсканы чырванню. У напаленым сухім цяні гэтага зялёна-румянага дывана хаваюцца конікі лясныя. Цэлы касцёр іх узлятае з-пад нашых ног, праляцеўшы, падаюць на зубчастыя лісты з сухім шалясценнем і тут жа згасаюць. На маёй далоні лясны конік, як датляваючы вугольчык, пацягнены

шэрым попелам. Глаша ўзяла яго, пасадзіла на сваю дзіўна вузкую руку. Дазволіла яму выстраліцца і глядзіць, як успыхнуў іскаркай і зноў патух на зялёна-ружовых лістах.

Я пачаў уголас разважаць, што, магчыма, яны прыстасоўваюцца. Вайна, пажары — вунь колькі ўсё гэта цягнецца, ужо і не спадзяюцца, што скончыцца. Мы і самі думалі — раз, і ўсё!

— Яны, можа, адзін дзень жывуць, — запярэчыла Глаша, — што яны помняць!

Тады я пабедаваў за іх: раптам у дажджлівы дзень народзяцца, толькі хмары і ўбачыш! Нават не будзеш ведаць, што неба бывае чыстае, сіняе-сіняе…

Глаша перахапіла мой зладзейкаваты позірк, глядзіць на мяне здзіўлена-заахвочваючы, быццам я не падумаў усяго толькі, быццам я ўслых сказаў пра яе вочы. Адвярнулася, засмяялася:

— Які ты смешны! Асабліва на тачанцы сваёй. Немцы ад смеху паміраюць.

(Вось што ў Глашы мяне асабліва здзіўляла тады. Бывала, абкружаць яе хлопцы, пасміхаюцца адзін з аднаго, з яе, а яна нібы тонкая былінка на ветры: доўгія рукі, уся яе порсценькая постаць па-дзявочы вырываецца з-пад нашых позіркаў, узнятыя плечы так і ходзяць — нейкі ўсходні танец сарамяжлівасці. Але сінія вочы нечакана смелыя, смяшлівыя. У іх радаснае ўсведамленне сілы, якая сабрала і трымае нас каля яе, жаночай улады над намі.

У Глашы і пасля гэта заставалася: дзявочая нязграбнасць, сарамлівасць рухаў і смеласць сініх вачэй, усведамленне іх сілы.)

Амаль трыццаць год да той зялёна-ружовай паляны. Але колькі разоў я вяртаўся туды. У снах… Ад чырвонага дажджу конікаў раптам пачынае тлець зямля, мы з Глашай разгублена азіраемся, не ведаючы, куды паставіць нагу, а потым імчым назад, а над намі, грукочучы, нібы цягнік на мосце, коціцца вяршалінамі лесу хваля агню, абсыпаючы нас пякучымі пырскамі… Прачнешся — доўга не можаш зразумець, адкуль і куды ты вярнуўся, усё намагаешся расплюшчыць вочы…

Калі чалавек страчвае зрок, першы жах — не можаш расплюшчыць вочы, усё намагаешся — і не можаш. Гэты стан бясконца паўтараецца, у снах. І адначасна другая пакута: заплюшчыць таксама не можаш. Назаўсёды адкрыты, адзін на адзін са светам! І з самім сабой, са сваёй памяццю…

Я іду след у след за Глашай, гляджу, як з-пад яе боцікаў і маіх цяжкіх ботаў страляюць, успыхваючы і гаснучы, іскры, чую сухі шоргат лісця, і сам я — як гучны, лёгкі, вясёлы бубен. І я ведаю, што бой (і, можа, раненне, смерць) будзе толькі раніцай — цэлая вечнасць наперадзе!



— А што гэта за імя — Флёра! — пытаецца Глаша, павярнуўшыся так, каб самой стаяць, а яе дарослая сукенка яшчэ варушылася б каля ног. Ногі ў яе доўгія, прамыя, і гэта з сукенкай у яе хораша атрымліваецца.

Я кажу, што значыць «Флёра» (чытаў некалі ў календары).

— Кветка? — Глаша смяецца.

Я таксама смяюся. Нішто сабе кветка: з гэтымі малпінымі дугамі ля рота, у гэтым нехлямяжым нямецкім мундзіры з абвіслымі штанамі, якія я выменяў у разведчыкаў на сваё хатняе паліто.

— Дай я стрэлю, — Глаша ўжо глядзіць на маю вінтоўку.

— Тут забаронена, — весела папярэджваю я, здымаючы з пляча вінтоўку, — загад Касача.

Імя гэта прагучала раптоўна незнаёма, нават як бы здзекліва, і я, нібы спрачаюся, сказаў сумным голасам:

— І правільна. Хутка ў лагеры будуць пуляць.

Глаша не слухае, пакінула мне аднаму магчымыя непрыемнасці. Цэліцца ў дрэва знізу. Я хуценька прыўзняў ствол вінтоўкі.

— Прыцісні да пляча, — узяў за плячо і локаць, каб паказаць, як трэба. І нібы апёкся аб слізготу шоўку.

— Я сама.

Павяла вінтоўкай, як зеніткай, і нарэшце стрэліла. Аддала мне вінтоўку, засмяялася:

— Бедны, зноў на гаўптвахту.

— Гэта яшчэ трэба даказаць.

Я сеў на пянёк, выцягнуў шомпал, пашукаў у сваёй сумцы ад процівагаза бутэлечку з маслам.

— А як ты знайшоў паляну? — Глаша шпацыруе перада мной, збіваючы нагой мухаморы, якія пыхліва-радасна гараць сярод сыра-зялёных асін.

— «Як, як?» Цяжка хіба?

Яна столькі разоў, мусіць, бегала сюды плакаць, што лічыла паляну сваёй таямніцай.

Вечарам мы пакідалі лагер, каб пад раніцу акружыць гарнізон. Які — даведаемся на месцы. Але ад гэтага яшчэ мацней тое двайстае пачуццё, з якім звычайна збіраешся, ідзеш на баявую аперацыю. Ты і нехта там (яшчэ не ведаеш, дзе і хто) ужо звязаны — вам забіваць адзін аднаго. І таму, што ведаеш пра гэта, а ён яшчэ не, ты і за яго ўяўляеш: як пачуе першыя стрэлы, як спалохана ўсхопіцца… Табе самому так знаёмыя і гэтыя аглу-

шальныя, як удар у дзверы, першыя стрэлы, і дзіўнае пачуццё палёгкі перад рэальнай нарэшце небяспекай: «Вось яно!..»

Калі атрад, выстраіўшыся, слухаў камандзіра, я зноў сядзеў высока на тачанцы ззаду свайго ўзвода і глядзеў, чакаў, як Глаша падыдзе да Касача. Але ён сам пад'ехаў на кані да тых, хто стоўпіўся ля краю паляны. Нешта гаварыў, а твар у яе быў закахана-бледны.

…Зусім заціх наш аўтобус, дрымота змарыла нават Касцюначштаба. Адзін мой Сярожа не змаўкае: старанна расказвае, што цяпер за акном, міма чаго праязджаем. Раптам засмяяўся, усклікнуў:

— Ой, татка, а ў тваіх акулярах усё ўпоперак плыве… Ой, заяц, заяц! У канюшыне, глядзіце!

— Э, не-е, у грачысе, — прагучала ў соннай цішыні.

…У тым баі мяне кантузіла. Атрад наступаў на чыгуначную станцыю з боку рачушкі і лугу, парослых кусцікамі бярозы і вольхі. Доўга чакалі світання, хаваючыся пры беразе рачулкі, туды ж нашу тачанку спусцілі. Роўна ў пяць без страляніны кінуліся да агародаў, над якімі, нібы крапасная вежа, цямнела цагляная вадакачка.

Наш ротны, Ілья Ільіч, перад самай атакай папярэдзіў:

— Трымайце каланчу пад прыцэлам. Жлобам буду, калі там не сядзяць з кулямётам. Вось, няхай пабудзе з вамі.

І кінуў нам на воз кніжку Някрасава «Каму на Русі жыць добра».

Мы падвярнулі коней так, каб невысокі бераг закрываў, хаваў хаця б іх, і засталіся сам-насам з вежай.

Ужо затрашчалі стрэлы — бой пачаўся. Плывучы ў перадсвітальным тумане, вежа раптоўна зайграла, пачала дражніцца чырвоным язычком — кулямёт! Сашка адразу распачаў з ёю дуэль. Спачатку немец нас ігнараваў, біў па наступаючых. А Сашка ніяк не мог як след злаўчыцца, загадваў мне то так, то гэтак павярнуць коней. Наш «люіс», высокі, як веласіпед, замацаваны на станку ад «максіма» — не надта зручны гібрыд: ні ляжаць за такім, ні сядзець, хіба што па-турэцку. І шчыткa ў нас ніякага. Нарэшце Сашка прыладзіўся, і «люіс» загугнявіў басавіта, пабульдожы. Зжаваў усю стужку — вафля… Я падаў новую, памог уставіць у акенца-выраз. І тут нас дастала, але пакуль ззаду, па вадзе, нібы каменьчыкі сыпанулі. Сашка зноў «нацкаваў бульдога» (мы гэтак называлі сваю стрэльбу), я трымаю напагатове



яшчэ адну паўметровую стужку на далонях, як афіцыянт. Больш мне рабіць няма чаго, хіба што лічыць каменьчыкі на вадзе, што скачуць наўкруг нас. Раптам паявілася на вадзе чырвоная змейка, нетаропкая, гнуткая, усё падаўжалася … Не адразу ўцяміў, што гэта кроў. Хутка (у думках) абмацаў сябе ўсяго. На Сашку таксама нічога не відно. Коні стаяць спакойна-абыякава, але Герынг усё апускае храпу да вады, як бы ловячы губамі чырвоную змейку. А яна ўсё распаўзаецца, выгінаецца па плыні і не можа адарвацца, адплысці ад нас.

— Хутчэй! — крычыць Сашка. — Хутчэй! Прышые ён нас.

Страляніна то нарастае, то раптоўна ападае, але ўжо зразумела, што здарылася самае паршывае: мы іх не прыбілі з налёту, цяпер усё залежыць ад боепрыпасаў і часу, у каго болей. У нас меней і таго, і іншага.

На агародах міны кладуцца адна на адну, нам відаць чорныя вяршаліны выбухаў. Топчуць, утоптваюць залеглыя там ланцугі, проста стагнаць хочацца. Сашка зноў пусціў трасу куль у чорнае акенца вежы, якая з кожнай хвілінай усё больш адкрываецца, з чорнай робіцца цагляна-чырвонай.

Адразу адчулі — ёсць, дастаў немца!

— Давай яшчэ адну! — крычыць Сашка і ад задавальнення локцем, рукавом трэ свой узмакрэлы рабацiністы нос і лішаістую галаву. — Я яму дам дыхту.

Я паказаў чатыры пальцы — столькі стужак засталося ў скрынях.

Бухаючы па вадзе, нехта бяжыць за кустамі… Ад'ютант Касача.

— Вы што тут? Камандзір загадаў туды, на той край… да лесу… на фланг! Давай хутчэй!

Але «наш» немец зноў ажыў — абсыпаны каменьчыкамі, Жэнька прыпаў да калёс ля маіх ног.

— А гэта бачыў? — зароў на яго Сашка. Ён добры-добры, але заводзіцца з паўабарота. Ён у нас стары партызан, разам з Касачом прыйшоў у атрад, хапіла часу нервы растузаць! Зноў націснуў на гашэтку, «бульдог» гулка і выразна адлічыў дзесяць патронаў, амаль паўстужкі зжаваў.

Я паказаў Жэньку, што ў нас мала патронаў.

— Давай! Касач загадаў, — не зірнуўшы нават, крыкнуў ён і пабег.

А немец зноў сыпануў, чутно, як ударыла ў кола якраз пад намі.

— Добра, паехалі, калі загадваюць! — крычыць Сашка.

Перазараджалі кулямёт, калі наляцеў Касач. Гэта быў ужо Касач:

— Вы што? У неба? Ах вы!..

Ніколі я не бачыў так блізка гэты буйны і ў той час рэзкі твар. Рэзкім яго робяць дзве глыбокія, як шрамы, баразёнкі, што спадаюць па шчоках ад вочаў да падбароддзя. І вочы. Асабліва вочы, ярасныя і ўсё адно насмешлівыя, яны так бязлітасна ўбачылі мяне, нарэшце менавіта мяне ўбачылі, прызналі.

— Ану наверх!

Не чуючы, не разумеючы, што яны, Касач і Сашка, крычаць адзін аднаму і што робяць, чаму рвуць адзін у аднаго ручку кулямёта, я кінуўся да коней з нейкім утрапёным пачуццём непапраўнасці таго, што адбылося, і гатоўнасці рабіць нешта апошняе, страшнае, чым толькі і можна выправіць тое, што адбылося. Я цягнуў за храпы коней. У Герынга вуха разарвана куляй (вось адкуль тая чырвоная змейка), кроў залівае ягоныя звар'яцелыя вочы, сцякае на пену ля ноздраў, афарбавала мне рукі, зялёныя рукавы нямецкага мундзіра. Рэзка шмаргануўшы тачанку з вады на бераг, я адарваў ад яе, ад кулямёта, Сашку і Касача, і яны быццам бы апамяталіся. (Потым ужо, перабіраючы ў памяці, я сцяміў, што Касач ярасна і пагардліва спіхваў Сашку, хапаўся сам за кулямёт, а Сашка, мацюкаючыся і бадай што плачучы, не даваўся.) Нарэшце Сашка адштурхнуў Касача. Узбегшы на бераг, укінуўся ў калёсы:

— Гані!

І я пагнаў. Першыя метраў сто, мабыць, у гарачцы і ад лютай гайданкі па лугавых купінах здавалася, што мы імчым як бура. Я біў коней пугаўём, балюча падскокваў на каленях, а Сашка, ухапіўшыся за кулямёт, усё крычаў:

— Гані!

Вежа, калі мы вымчалі на луг, адразу вырасла перад намі, насунулася, уся чырвоная ад набухлага сонца. Затое лес — нібы адрынула яго ад нас далёка-далёка. І тут прыйшло адчуванне, адначасна да абодвух — мае і Сашкавы вочы сустрэліся, — што мы ўжо ведаем, колькі секунд засталося вось так імчаць. Надта выразнае, дакладнае адчуванне, нібы хто пачаў адлічваць тыя секунды ўслых. Мы як быццам ужо бачым сябе адтуль, з чырвонай высокай вежы: безабаронныя, жалю вартыя паўзучыя па лузе калёсы, бачым, як немец падводзіць кулямёт, зараз секане… Храснула пад намі, калёсы перакасіла, але мы яшчэ коцімся, падмінаючы апошнія секунды. І тут коні, нібы спатыкнуўшыся, абодва разам спляжыліся проста пад нас, закрытыя выбухам, а калёсы яшчэ праляцелі паўкруга і перакуліліся, выкінуўшы нас. (Я, пакуль ляцеў, увесь час помніў, дзе цяжкі кулямёт, а дзе мая галава…)



На нас абрынуліся выбухі. Мяне падкінула, адарвала ад самога сябе і апусціла ў напятую глушэчу. Адтуль, як з-за тоўстага шкла, я гляджу, як паволі, занадта паволі паўзе Сашка. Я бачу, што зрабілася з ягонай нагой, а ён не разумее, таропка адпіхвае ад сябе зямлю чырвоным, дрыготкім абрубкам, палівае крывёю траву. Бот і тое, што ў ім, целяпаецца на доўгай калашыне далёка ззаду. Вочы вялізныя, недаўменныя, і чаканне ў іх, вось зараз ён пра нешта даведаецца! Я нязграбна здзіраю з сябе нямецкі пінжак і паўзу следам па крывавай дарожцы, лаўлю і не магу загарнуць у пінжак тое, што засталося ад нагі. А *яно* трапечацца, торгаецца ў маіх руках і адпаўзае. Здаецца, я чую пранізлівы крык гэтага звераняці, якое з паспешлівымі дрыжыкамі адпаўзае па чырвонай сцяжынцы…

Той, хто быў хоць аднойчы паранены ці кантужаны, ужо не ранейшы чалавек. Ён ужо адчуў, *як гэта будзе*. Да гэтага толькі ведаў, што смяротны, а цяпер — адчуў.

Я хадзіў па лагеры і ўсім усміхаўся. Выявілася, што быць смяротным вельмі весела, што гэта дае вунь колькі пераваг.

Па-першае, усе пачынаюць цябе заўважаць і любіць. Паранены сярод партызанаў — самая паважаная асоба, настолькі ўсімі заўважаная, што чалавеку з непрывычкі робіцца няёмка і ён як найхутчэй стараецца пазбавіцца ад бінтоў, мыліц, каб зноў быць, як усе. (Праўда, здаралася і другое: каму-небудзь прыйдуцца даспадобы бінты, як эпалеты, але тут і чакае яго самае жахлівае — раптам адхлыне ад яго цёплая хваля, ён яшчэ цягнецца ўслед, а тут ужо недаверлівыя ўсмешкі, пагардлівая абыякавасць.)

Ну, а па-другое, смяротны — гэта дарослы, роўны ўсім. (Бессмяротныя толькі дзеці.) Адразу наблізіцца да іх, дарослых — гэта варта бяссмерця. Да ўсіх, да Глашы…

Калі мяне прывезлі, глухога, вялага ад шуму ў галаве і млоснасці, Глаша падбегла да майго воза. Раптам я ўбачыў на нізкім рухомым шэрым небе яе сінія вочы — нахілілася нада мной. Ужо прайшло шмат калёс з забітымі, параненымі, і яна нахілілася нада мной, плачучы. Бегла да забітага, мёртвага, а тут убачыла кволую збянтэжаную ўсмешку жывога, узрадаваная, яна яго пацалавала, жывога (недзе каля вачэй) і, здаецца, толькі потым зразумела, што пацалавала мяне. Такое ўзрушэнне было

напісана, мусіць, на маім, да гэтага вялым твары, што Глаша нават адхіснулася, па-дзявочы абурана, але тут жа ўсміхнулася і цёплымі пальцамі пагладзіла пацалаванае месца, аддаючы яго мне.

Праз тры дні я ўжо хадзіў па лагеры: неразумна ляжаць, калі столькі добрых, ласкавых усмешак можаш сабраць! Хаджу і збіраў, як грыбы. Але я шукаў Глашыну, а яе не было. Цэлы тыдзень Глашы ў лагеры не было. Некалькі разоў я здалёк бачыў Касача. Ён мяне зноў не заўважаў. А мяне ўсё мацней прывязвалі да гэтага чалавека тыя сорам, захапленне, жах перад непапраўным, якія адчуў каля рэчкі.

Сашку, які памёр ад ран, хавалі ў лесе, каля дарогі. Касач стаяў з патупленым цяжкім поглядам, нязвыкла сутулячыся. Салюту бліз лагера даваць не дазволена. Касач кінуў разам з усімі жменю зямлі, а камячок затрымаў у пальцах і ішоў з ім, я бачыў, да самага лагера…

Я хадзіў на паляну, падоўгу сядзеў там, глухі, адзінокі, смяротны. Я ўжо не чуў сухога дажджу конікаў і толькі глядзеў на іх бязгучныя чырвоныя ўспышкі. Маштабы паступова мяняюцца, і вось я ўжо сярод чырвоных выбухаў, якія паўтараюць пульсуючыя ў галаве грымоты.

Закрадваецца і пачынае расці трывога: а што, калі ў лагеры ці побач ужо ідзе бой, а я сяджу тут, глухі, і не ведаю? Нешта перамянілася ў свеце, рэзка, пагрозліва, толькі ты не ведаеш. Каб хто ўбачыў, як я вяртаўся ў лагер — асцярожна, са зброяй напагатове, — падумаў бы, што хлопцу мала сапраўднай вайны, яму яшчэ і пагуляць у яе хочацца.

Аднойчы заснуў, прыгрэўшыся на сонейку, па-восеньску мяккім, пяшчотным, утульна ўсеўшыся між высокіх, як падлакотнік крэсла, каранёў таўшчэзнага дуба. Расплюшчыў вочы — Глаша! Стаіць і глядзіць проста ў твар. Я ўжо расплюшчыў вочы, а яе сіні погляд усё нерухомы, аблічча строгае, бадай суровае. Нарэшце заўважыла, што я прачнуўся, нешта сказала і падсела да дуба, у суседняе «крэсла» з каранямі-падлакотнікамі. Падставіла твар сонцу і сцішылася з закрытымі вачамі, толькі павекі і вейкі дробна дрыжаць над набрынялай слязой. Глаша ў нямецкім світары з адкрытай, яшчэ больш схуднелай шыяй, спадніца ў яе, па-партызанску, надзета на сінія штаны, упраўленыя ў боты.

Але здаецца, што сама яна сябе не бачыць сёння, не думае, якая яна, ёй усё роўна.



Нешта сказала, не расплюшчваючы воч. Не помніць, што я аглух, не чую? Ці ёй усё адно, пачуюць ці не, што яна гаворыць. Я не чую, затое пагаварыць рады. Пра Касача, вядома. Як я магу яшчэ аддзячыць ёй за тое, што прыйшла, сядзіць са мной, замест таго, каб яго шукаць, быць каля яго?

Я ведаю пра Касача, вядома ж, болей, чым яна: для жаночага кахання ўсе гэтыя гісторыі, магчыма, не маюць таго значэння, як для хлапечай. Вось гэта гісторыя, як Касач паявіўся ў лесе і з ім яшчэ сямёра ваеннапалонных, а іх павялі расстрэльваць як шпіёнаў, падасланых. Сашка лаяўся і плакаў ад крыўды і злосці. Косця-начштаба ўсё прасіў пакурыць (і калі ішоў, і калі яму капаў), астатнія быццам не верылі, што гэта сур'ёзна. А Касач раптам сказаў з напалову выкапанай магілы:

— Калі цябе вось так буду, не екачы. Дамовіліся?

Моцна так сказаў (усе яго пачулі), але невядома да каго. (Не ведаю, ці здолеў бы ён сам растлумачыць, што меў на ўвазе? Нейкая горкая, прытоеная думка наогул, а не папрок ці пагроза. Не мог жа ён ведаць, што зараз пачнецца бой: метраў за дзвесце паявяцца немцы, і ён, Косця, Сашка ў гэтым баі пакажуць сябе так, што праз некалькі месяцаў Касач стане камандзірам роты, а потым і атрада). Дзіўна толькі, што іх ужо паставілі пад расстрэл, але, калі навальіліся немцы, тут жа выдалі ім зброю.

Я ўсё гаварыў, гаварыў, і ўсё пра Касача і пра наш з Сашкам бой каля рэчкі, і ўсюды Касач у мяне быў справядлівы, таму што ён і сябе не беражэ, не шкадуе. Глаша, здавалася мне, уважліва і са згодай слухала, хаця і не расплюшчвала вачэй. І раптам сказала:

— Замаўчы! Дурненькі.

Я гэта на вуснах яе і па гнеўнаму позірку вачэй прачытаў.

Паднялася і пайшла цераз паляну, як і той раз. Нешта ў іх з Касачом здарылася! Я быў забіты гэтай здагадкай. Бо так добра ўсё складвалася, так згодна. Куды ж мне, за кім, калі яны ўжо не разам? Без яе для мяне і ён цяпер не ўвесь. А без яго гэтая паляна і нашы сустрэчы зусім іншае нешта, аб чым я не падрыхтаваны думаць: я так звыкся са зручнай упэўненасцю, што мы сюды прыходзім, каб Глаша ўслых магла пра яго думаць, а я дапамагаць ёй у гэтым…

Бой пачаўся адразу і нечакана блізка, нават не за рачулкай, дзе быў насып разбуранай чыгункі, а на нашым баку, ледзь не ў лагеры.

Мы ішлі хвойнікам, ён пах смалою і летнім пяском. Глаша, адхінаючы голле, пакалола запясці — цяпер аблізвала іх

прагавітым смешным языком. І раптам застыла: умольна глянула на мяне. «Страляюць!» — адразу прачытаў я. Рукой паказала дзе.

— Моцна?

Яна заківала галавой.

— Аўтаматы?

«Так-так!»

Значыць, зусім блізка.

Выбухі я пачуў сам, неяк усім целам. Мабыць, міны. Але калі да гранат адразу дайшло, справа дрэнь!

Глаша слухае бой і глядзіць на мяне, чакае, нібы ад мяне залежыць, каб не было таго, што ўжо ёсць. І трэба ж было мне якраз цяпер аглухнуць: глухі, як і сляпы, — усяму адкрыты, безабаронны. Ты, нібы ў клетцы, злоўлены, і хто хоча, можа падысці і разглядваць. Немцы доўга разглядваць не будуць…

Глаша ўхапілася рукамі за мой локаць, па яе дрыготкіх пальцах адчуваю: страляюць зусім блізка, вось… вось!.. Вінтоўку я зарадзіў, трымаю напагатове, азіраюся, але разам з тым я яшчэ помню, думаю і пра тое, што іду *пад ручку* з дзяўчынай і гэта зараз убачаць, тыя ж немцы ўбачаць. Яшчэ горш (так і падумалася: горш!), калі ўбачаць нашы зубаскалы. А раптам Касач?

Пальцы на маім локці сціскаюцца, уздрыгваюць ад блізкіх стрэлаў і выбухаў, напаўголаса я ўдакладняю:

— Кулямёты? Аўтаматы, так?

Глаша вачамі паказала ўгору. Э, нават самалёты! Значыць, блакада, не іначай. Цяпер галоўнае — да сваіх трапіць, не адарвацца, не застацца адным. Глаша ці то вядзе мяне, ці то вісіць на мне сярод не чутных мне стрэлаў. У галаве ў мяне свой шум, грукат, пусты, бессэнсоўны. Мы стараемся так абысці страляніну і крыкі (пасля Глаша казала, што і галасы нямецкія чула, каманду), каб трапіць у лагер. Усё правей бяром, каб не нарвацца, каб зайсці ў лагер з другога боку. Але колькі мы ні ідзём, ні бяжым, бой усё не застаецца ззаду. Глаша паказвае, што ён наперадзе, збоку, наўкруг. Я ўжо злуюся, мусіць, блытае, дзе страляніна, а дзе толькі рэха. Адарваў яе пальцы ад сябе і паказаў, каб ішла ззаду: яшчэ, яшчэ больш адстань! Я накіраваўся проста на лагер. Азірнуўся, Глаша слухмяна брыла ззаду, вінавата, квола ўсміхнулася. Я міжволі ёй адказаў, і яна тут жа дагнала мяне. Зноў абхапіла руку. Нешта мянялася і перамянілася ўжо ўва мне, паміж намі. Я сябе цяпер другім бачу, і гэты другі ўжо не цырымоніцца: ён ратуе Глашу, цяпер гэта галоўнае, а бянтэжацца, саромеюцца няхай іншыя!

Раптам сасна, да якой мы падыходзілі, якраз перад вачамі нашымі пырснула белымі трэскамі, нема і страшна, нібы знутры



ўзарвалася. Глаша ўжо ўпала і мяне за крысо пінжака цягне да зямлі. А сосны ўзрываюцца — белае клочча, нібы пена, вырываецца з-пад кары. Разрыўныя кулі! Але адкуль б'юць, не зразумець!

(Некалі Сашка пра такое расказваў, але там пена была чырвоная, і я нібы сам гэта помню — чырвонае, успененае… Яны брылі з Касачом у пыльных калонах сорак першага года, і раптам выскачыў на дарогу заяц, немцы-канваіры азартна, весела адкрылі страляніну па ім, а заадно і па калоне. Перад вачыма ў Сашкі, у Касача вось так, пырснуўшы чырвонай пенай, узарвалася патыліца чалавека, які ішоў паперадзе іх.)

Б'юць з бярэзніку, што метраў за сто ад нас бялее за ствaламі сосен. Я штурхнуў Глашу, паказваючы, каб паўзла, а яна глядзіць, быццам я і сапраўды магу нешта перамяніць у цэлым свеце.

На белай бярозавай сцяне, нібы прасочваючыся, паявіліся цёмныя людскія плямы. Яны адклейваюцца ад белай сцяны і падаюць, адклейваюцца і падаюць, як пад немым кулямётам. Але ўжо зноў узнімаюцца, расцягваюцца ў ланцуг.

Глаша, лежачы, глядзіць на мяне, вочы вялікія, безабаронна-сінія, галаву прыўзняла, вось-вось твар таксама ўзарвецца. Чырвоным.

Дрэвы ўсё пырскаюць белай пенай у нямым жаху, я нагамі пнуся на Глашын твар, паказваю ёй раз'ятранай мінай, каб паўзла хутчэй за паваленую высахлую елку. І баюся, што твар гэты, павернуты да мяне, узарвецца чырвоным, успененым… Раптам пачынае ўяўляцца, што толькі твар, вялізныя сінія вочы — Глаша, а жвавае, таропкае цела — гэта нехта, хто яе самую ж схапіў і валачэ, і таму такі жах, такое маленне ў гэтых вачах.

Немцы прайшлі зусім блізка ад сухой елкі, якая абсыпалася, і за ёй мы ляжалі. Я нават бачыў, як той, што бліжэй да нас (пад каскай, у стракатым плашчы-накідцы) паглядзеў на паваленую елку і збіўся з нагі, мабыць, падумаў, што трэба зазірнуць за яе ці пастрачыць з аўтамата. Здалося, нават патрон у маёй вінтоўцы варухнуўся, такі быў гэта момант. Вузкі малады твар яшчэ нейкі час быў павернуты да нас, але ён не застрачыў і не падышоў…

А мы, калі іх не стала відаць, ускочылі на ногі і пабеглі. Бегчы не мела сэнсу і нават вельмі небяспечна было, мы ж не ведалі, што, хто перад намі паявіцца праз пяцьдзясят, праз сто метраў, але ў нас прарвалася назапашанае за гэтыя хвіліны пачуццё, жаданне быць як мага далей ад таго месца, дзе мы цяпер. Але вось небяспека перастала напіраць, ціснуць у спіну, затое паўстала наперадзе…

«Пастаіш — бяда нагоніць, пабяжыш — напрэшся на яе!» — гэта Рубеж любіў паўтараць, Цімох Рубеж — смешны, дзіўны чалавек, з якім мы сустрэліся праз два дні… У нашым аўтобусе ніхто яго не помніць, яны яго не ведалі, Рубяжа. Сышлася мая дарога з ягонай на нейкім невялікім адрэзку, а далей пайшла толькі мая, а яго абарвалася. Мусіць жа, і акрамя нас з Глашай яго помняць нехта, недзе (сям'я ў яго была), але ўсё роўна такое пачуццё, што з жывых толькі я ды Глаша ведаем, што ён быў, і пакуль мы яго ўтрымліваем у сабе, гэта праўда, што ён быў.

Дзіўна, што людзей, якія зараз у аўтобусе, я ўспрымаю, як пасрэднікаў, праз іх я звяртаюся, *як да жывых*, да тых Косці, Зуёнка, Вядзмедзя, якіх ведаў, бачыў многа год назад. І Косцяначштаба, вось гэты шумны, смяшлівы, і Касач, што маўчыць усю дарогу, і Сталетаў — усе яны як бы проста адтуль, з дваццацігадовай далечы. Дзіўна, калі памяць вось так раптам набыла плоць, знаходзіць цела, рэальныя галасы… Відушчыя павінны напружвацца, каб у сённяшнім убачыць таго, хто чвэрць веку назад быў Касачом, Зуёнкам, Сталетавым, Косцем-начштаба. А мне намагання не трэба, — толькі тых, ранейшых, я і бачу. А сённяшнія толькі пацвярджаюць, што ўсё — праўда.

…Глаша сядзіць на кукішках, прысланіўшыся да дрэва. Пасля шалёнага бегу на шчоках яе плямамі распаўзаюцца бледнасць і румянец, а ў немігатлівых вачах цёмны спалах. Я стаю над ёй, сушу на сваім твары казытлівы пот і насцярожана азіраюся адразу ва ўсе бакі.. Глаша паказвае, што страляюць усюды, кругом.

Так, у лагер нам не праскочыць. Ды і няма там нікога, калі такое робіцца.

— Здзівіцца Касач, дзе ты? — кажу я.

Глаша нацягнула ўніз шэры світар, зняла з мысіка бота бярозавы ліст, разглядвае.

— Восень ужо, — сказалі яе вусны і вочы, што зірнулі на мяне.

І я ўзяў ад яе зжоўклы, але яшчэ мяккі, жывы ліст, быццам яна немаведама што важнае і значнае гаворыць і нам зараз гэта важна.

Калі пачалася сапраўды блакада, значыцца, усё гэта — страляніна, самалёты — цяпер ужо і там, дзе мама, сястрычкі. Добра, калі здагадаюцца адразу пайсці на «востравы», углыб балота. Вёска наша там і ў сорак першым, і ў сорак другім хавалася.

Глаша глядзіць на мяне і згаджаецца з тым, што я думаю. Фу, ды я ж уголас думаю! Размаўляю ўголас, не заўважаючы таго. Кажу далей, нібы нічога не заўважыў:



— Там, у сваім лесе, я на немцах катацца буду як толькі захачу. Там яны не дастануць. А схлыне — дастаўлю цябе…

Я не сказаў: «Касачу». Яе пагляд замінаў называць гэта імя. Раней памагаў, патрабаваў, а цяпер чамусьці замінае.

Мы зноў ідзём праз лес, і зноў Глаша паказвае, дзе страляніна гусцей. Павярнулі да балотца, зялёнага, з палеглай доўгай травой. Я набраў у пілотку вады і, падняўшы над тварам, лаўлю губамі саланаваты ад поту струменьчык. Глаша п'е з далоні.

— Есці хочаш? — здагадаўся я.

Яна жвава кіўнула і зірнула па-дзіцячы, нібы я зараз вось дастану з дрэва і падам ёй. Чорт, нават сумку сваю ў лагеры пакінуў, добра яшчэ, што вінтоўка ды граната пры мне. А Глаша зусім улегцы, хоць бы дзеля фасону Касач даў ёй які карабін. Цяпер прыклыпаем да маіх аднавяскоўцаў, а там падумаюць, што я проста з дзяўчынай — нявесту прывёў, дзень добры ў шапку вам!.. Заб'юць немцы, падыдуць і будуць разглядаць нас на зямлі.

Я адняў у Глашы свой локаць, зрабіўшы выгляд, што мне трэба вярнуцца на прасеку, пагалядзець.

…Аўтобус наш дрэмле. Глаша, нахіліўшыся, пашукала ў сумцы, падала Сярожу бутэльку з вадой. Сказала строга:

— Не абліся.

Цяпер глядзіць у акно. Я адчуваю яе перацятае дыханне і, здаецца, бачу сіні мазок скасавураных вачэй, які і ззаду Касачу, мусіць, відзён. Касач за спіной у нас. Мы едзем, каб сустрэцца. На сустрэчу з самімі сабою едзем.

А вы ж, Фларыян Пятровіч, абавязаны партызану Флёру, саманадзейнаму, заклапочанаму, глухому, у абвіслых нямецкіх абносках, абавязаны тым, што выйшлі сюды, з Глашай выйшлі вось сюды… Часам я зусім збоку бачу таго Флёру — сябе сямнаццацігадовага. Быццам не ўва мне ён, а там застаўся. І часамі здаецца, што мы з Глашай усё ідзём за ім, падпарадкоўваючыся яго сярдзітым знакам, а ён, заграбаючы лісце, шыгалле цяжкімі ботамі, то прападае за дрэвамі, то выныРвае з-за іх нешырокай худой спіной. А яму яшчэ пра маці трэба думаць, пра сястрычак. Нясе, прыціснуўшы локцем, сваю нягеглую, чорную ад несціраемай магільнай сырасці вінтовачку, быццам яна і на самай справе ўсім нам абарона.

…І тут мы ўбачылі людзей. Адразу пазнаць можна было, што гэта вёска, якая збегла ў лес, і менавіта сёння, можа, дзве гадзіны таму гэта адбылося. Ні буданоў, ні ям, ні абжытых дрэў,

на якіх была б развешана апратка, анучы. Людзі як разбегліся, а потым як сабраліся, збіліся ў кучу, так і тоўпяцца, застылі, гледзячы ў адзін бок: там дагарае іхняя вёска. Саміх хат не відно, а толькі рвуцца з-за высокага поля ў неба розныя па гушчыні і колеры касмылі дыму, якія яшчэ не сталі адной суцэльнай сцяною пажару. Спачатку людзі, усе, як адзін, павярнуліся ў наш бок, таргануліся, гатовыя зноў сарвацца, бегчы, але выгляд наш адразу супакоіў іх. Толькі жанчына ў белай чыстай кофце, якая вылучалася сярод заношанае старызны, кінулася да нас, нешта лямантуе, крычыць зласліва, паказваючы на маю вінтоўку чыгунком, які чамусьці трымае ў руцэ.

Мы пастаялі з Глашай, як бы чакаючы, калі ў людзей прападзе да нас цікавасць, а потым паціху пайшлі. Падлескам. Не хацелася траціць яго, адваяванага ў страху, зноў зашывацца ў лес, брысці наўздагад. Нам яшчэ поле — кіламетраў са тры адкрытых — перасекчы трэба, перш чым пападзём у «мой» лес.

Да змяркання трымаліся падлеску і бачылі, як то ў адным, то ў другім кірунку — бліжэй, далей — вырастаюць новыя дымныя касмылі. А між іх, быццам на гіганцкіх трапецыях, гойдаюцца самалёты. Паяўляюцца то з аднаго, то з другога боку. Такой блакады ў нашых мясцінах яшчэ не было — каб столькі самалётаў!

Пад вечар неба зацягнула, загрузіла хмарамі. Дым уверсе распаўзаецца, як пад чорнай нізкай столлю, варушыцца там. Раптам сыпануў дождж, а потым, нібы не тое зрабіў, знік, і пасыпаўся сухі, калючы пясок — вецер недзе падняў яго і цяпер кідаў проста з хмар.

Зарава спачатку расцякалася па гарызонце, ціснулася да зямлі, а водбліскі падскоквалі пад цяжкое чэрава неба. Потым зарава пачало расці, расці і нарэшце ўчапілася за хмары, павісла на іх. Неба знізу гладчэй і як бы цвярдзейшае робіцца і ўсё чарнее, змрочнае ў сваёй глыбіні, у тоўшчы. Аграмадныя цені сутыкаюцца, папіхаюць адна адну. Ночы не стала. І не было дня. Сусвет зрабіўся вузкай і доўгай, на ўвесь гарызонт, амбразурай, асветленай знутры…

Спатыкаючыся, разрываючы нагамі картаплянік, мы хутка ішлі полем, спяшаліся да далёкага, акрэсленага заравам, вугальна-чорнага грабеньчыка лесу.

І тут раптоўна ўбачылі людзей, яны беглі па зараве, па гарызонце. Далёкія чорныя постаці, нібы згараючы, трапечуцца ў асветленай амбразуры, знікаюць, з'яўляюцца новыя і таксама правальваюцца ў чарнату.

Людзі зноў выбягаюць, ужо бліжэй, з чарнаты, бягуць, гонячы перад сабой доўгія цені. Цені, якія ўсё падаўжаюцца, пранесліся



ўжо, пранесліся паблізу нас, а самі людзі толькі падбягаюць. Другія, лявей, вырываюцца з жыта, што кіпіць, як ад рыбы сажалка, з якой хутка выцякае вада. Нас людзі заўважаюць у самы апошні момант. Вочы чалавека спатыкаюцца («Хто гэта? Чаму не ўцякаюць?»), і ён імчыць далей. Услед глянеш — зноў пабачыш вочы. Дзіцячыя. Галоўкі дзіцячыя, якія прыпалі да пляча дарослых пралятаюць міма нас, неадрыўна глядзяць назад — на зарава.

І раптам у тым баку поля, куды ўсё імчыць, нешта адбылося. Выцягнутая ў даўжыню траса куль разрэзала цемень, і стала відаць, што адтуль таксама бягуць, — мусіць, другая вёска. Убачыўшы адны адных, людзі разгублена прыпыніліся і, можа, закрычалі (а можа, яны ўвесь час крычаць, мне не чутно). Замітусіліся і кінуліся, ужо ўсе разам, да лесу, з якога толькі што выйшлі мы з Глашай.

У лесе, куды нарэшце дабраліся мы, звыклым, партызанскім, адразу стала вальней. Лес нас прызнаў, павалок, павёў, аблізваючы па-сабачы дрыготкім стракатым святлом нашы твары, рукі. Мы прайшлі яшчэ з кіламетр і селі адпачыць. Глаша прыхінулася спіной да дрэва і тут жа заснула, пакінуўшы мне аднаму і гэтую вайну, і ўвесь гэты свет, — ёй надакучыла. Я сядзеў, глядзеў на яе капрызлівы сонны твар, як быццам з выклікам сонны, і ціхенька, нібы вар'ят, смяяўся, мабыць, ад стомы і сваёй недарэчнай глухаты.

Ад таго, што нельга было гэтага рабіць — а я таксама моцна заснуў, бестурботна спаў (быццам паддаўшыся дзіцячаму Глашынаму настрою), і што нічога страшнага не здарылася — было весела прачнуцца і паглядзець на свет, у якім усё засталося на месцы.

Глаша адначасова са мной адарвала ад уласнага пляча галаву і расплюшчыла вочы, шчодра сыпнуўшы ў гэты свет сінькай. Мы нейкі час глядзелі адно на аднаго, усяму адкрытыя.

Усё ў лесе прапахла дымам: і папараць, іігліца, і твае рукавы, і, напэўна, халодныя ад расы Глашыны кароткія валасы, якія во абгладжвае абедзвюма рукамі. Ад дыму шчыпле пад рукамі.

Сонца, дагэтуль нябачнае за дрэвамі, раптоўна, адразу ўварвалася ў лес, і тады дым, нібы жывы, заклубіўся па нерухомых разыходных спіцах святла.

Мы пайшлі старым сухім борам, збіраючы чарніцы, ужо падсохлыя і падсалоджаныя за лета сонцам. Трэба хутчэй ісці адсюль, але Глашын голад нас не пускае, ён такі ж смешны, капрызліва-дзіцячы, як і сон яе, і мы, развесяліўшыся, нібы

прагнаму трусіку моркаўку скормліваем з далоняў, аддаём яму салодкія цеплаватыя ягады. Нешта перападае і мне, але трусік такі радасна-прагавіты, такі сінявокі, што цяжка ўтрываць і не аддаць яму.

Лес зачароўвае, трымае; ён нейкі прывідны з-за гэтага сінявата-аранжавага дыму, празрыста расцягненага на сонечных спіцах.

У нейкі момант мы паднялі вочы ад чарніц і ўбачылі, што ідзём па могільніку. Лясны, сярод адвечных сосен, стары, як сам бор, могільнік. Час і лішайнік так адфактурылі трох-пяціметровыя крыжы, што спачатку тупа падумалася: «…Тут і крыжы растуць!» А ля ног крыжоў-волатаў валяюцца, параскіданы даўно гнілыя, падобныя на маленькія цені волатаў крыжы-дзеткі, крыжы-немаўляты. Дзе-нідзе засталіся разламаныя агароджы, чыгунныя і жалезныя. Час зрасціў іх з камлямі тоўстых сосен. Да самай сарцавіны ўрасло жалеза. І мох папоўз па чыгуну, робячы яго як бы часткай лесу.

Вунь як хавалі сваіх мёртвых: на кожнага такі крыж, чыгун! Крыжы нязвыклыя: не то стараверскія, не то каталіцкія…

…Так, Фларыян Пятровіч, вось тут бы вам і ляжаць! Касанула б кулямётная чарга, пырснуўшы вашай крывёю на чужы крыж, чужую агароджу. І Глашу зрэзала б у тое ж імгненне… Флёра выратаваў і гэты раз. Са сваёй чорнай вінтовачкай, самаўпэўнены, нехлямяжы ў сваім нямецкім мундзірчыку, вёў ён вас на вачах у нямецкай засады, што чакала партызан на гэтых самых могілках.

Цяпер памяняліся ролямі: ужо я вяду таго партызана з вінтовачкай, працягваю, так сказаць. З якога толькі моманту, з якога месца? З таго хіба, калі скончылася вайна? А можа, пазней я яго падмяніў? Ці наадварот, раней?

Неяк у Бялградзе наш турыст пажартаваў у музеі (пакуль я быў відушчы, я стараўся як паболей ездзіць, глядзець, краем думкі ўсведамляючы, што раблю гэта *ў запас*), дык вось наш турыст прывёў сваю зямлячку да шкла і паказаў ёй белы чэрап, маўляў, гэта Аляксандра Македонскага, калі яму было сямнаццаць год.

— А дзе? — жанчына хацела даведацца, а дзе дарослага Македонскага чэрап, але тут жа ўцяміла, рассмяялася разам з усімі.

А сапраўды ж: дзе? Дзе мы мяняемся ролямі, месцамі, напрыклад, я з Флёрам? Бо я ж яго абсалютна збоку бачу, памятаю, нібы ён — гэта нехта другі, з кім я быў, за кім я ішоў, хто мяне выводзіў і ратаваў гэтак жа, як Глашу.



О, гэта варта было бачыць, як пайшоў, пятляць, хітраваць Флёра, калі з-за пахілай агарожкі яго погляду адкрыўся раптам кулямёт, што аднавока глядзеў на нас ва ўпор, а над кулямётам — нерухомы чорны чэрап каскі! А Глаша нічога не заўважае, яна ідзе наперадзе, кранае кончыкамі пальцаў абымшэлыя, аксамітныя тулавы крыжоў, што ў немым крыку ўзнялі пад ёю рукі. На яе вялікае здзіўленне, Флёра пачаў раптам махаць рукой і крычыць у той бок, адкуль мы з'явіліся:

— Гэй, камандзір, сюды ўсе ідзіце! Што мы знайшлі!

Дзіўнаватым голасам затрымаў, паклікаў Глашу:

— Глаша, пачакай, нешта пакажу…

Узяў Глашу за плячо (рука трымціць, а твар нібыта смяецца, але нейкі скамянелы), павёў яе ўбок, мармычучы нешта бессэнсоўнае. І зноў крыкнуў:

— Гэй, дзе вы там? Сюды ідзіце!

Мінулі лясную прасеку, пакідаючы могілкі. Глаша не разумее, што адбываецца, а ён на яе не глядзіць і не адпускае плячо (ёй нават балюча), ідзе ўсё жвавей. І раптам крыкнуў:

— Ды немцы ж, дурная, бяжы!

І, схапіўшы яе за руку, кінуўся ў густы арэшнік. А калі адбегліся і калі яна зразумела, што там было, Глашу пачалі біць дрыжыкі. Флёра накінуў ёй на плечы пінжак з алавянымі нямецкімі гузікамі.

Разглядаючы свой зялёны кіцель на Глашы, Флёра сказаў:

— Маці не ведае, што я абмяняў паліто. Апошні раз зайшоў дамоў, яна спытала, чаму не прынёс яго. Там каўнер добры быў… А ведаеш, давай вернемся на хутар. Ты ж хочаш есці. І я хачу.

…Калі мы беглі пасля могілак, прыкмецілі на лясной паляне пагарэлы хутар ці лясніцтва, вуголле яшчэ дымілася. Бульбу, і нават печаную, знайсці там можна.

Але я раптам адчуў, што глухата мая баіцца лесу. Усё ўяўляецца чорны чэрап каскі і лупатае кулямётнае вока… Галоўнае, са мной Глаша, побач!

Сказаў, назнарок злосліва (на той выпадак, калі пачне прасіцца), што я сходжу адзін, а яна пачакае ў ельніку. Глаша пазірае ўмольна, але пярэчыць не адважваецца.

А мне дык і падабаецца гэта, быць з ёю вось такім, вырашаць за абаіх. Быць злоснаватым. У чалавека вясёлага, а тым больш няпрошана, дакучліва вясёлага, выгляд заўсёды, бы ён апраўдваецца. За змрочнасць, панурасць ніхто не апраўдваецца. Наадварот, другія сябе адчуваюць вінаватымі перад такім. З гэтым і звыкнуцца можна, на ўсё жыццё спадабаецца.

Знайшоў яду я хутка, проста на дарозе. Мне трэба было пераскочыць гэтую дарогу, свежавыбітую, расцёртую танкавымі гусеніцамі. Я ступіў на яе, а проста ў вочы мне — кардонная каробка, такая нечаканая тут у лесе, нібы з другога свету. Мяне нават за дрэва павяло спачатку, як ад небяспекі. Але тут жа кінуўся і схапіў яе, як бы баючыся, што насланнё мінецца. Схапіў каробку, падумаў, што гэта можа быць пастка-міна, а разрываючы кардон і надкусваючы акуратненькую галету, ляніва змікіціў, што яна, магчыма, атрутная. Галеты надта сухія, але галоднай сліны хапіла і на другую і на трэцюю. Я жую на хаду, п'янеючы ад кволага, нейкага далёкага хлебнага паху, і заспакойваю сваё сумленне тым, што трэба ж добра пераканацца, што яны не атрутныя. У мяне нават галава закружылася у дадатак да звыклых млоснасці і шуму, якія суправаджаюць мяне з моманту кантузіі.

І я заблудзіўся, раптам зразумеў, што іду наўздагад. А я ж нават не здолею гукнуць Глашу, праўдзівей, не пачую яе голасу. Забыў, зусім забыў, што я глухі!

Я спалохана, разгублена пабег і тут зусім паверыў, што не знайду яе, і спалохаўся яшчэ больш. А неабавязкова ж было пакідаць яе і хадзіць аднаму. Не кажы, што засады пабаяўся, проста спадабалася быць, *як іншыя*, змрочным, загадчыкам. Дурань, дурань, якая табе справа да іншых! Ім, іншым, магчыма, і Глаша не тое, што табе…

Я ледзь не наскочыў на яе — яна здалёк мяне ўбачыла і пабегла напярэймы, устрывожаная такім маім з'яўленнем: імчыць чалавек, вочы белыя, у руках нейкая каробка, нібы ўкраў і за ім гоняцца!

— Еш смела, не атрутныя! — закрычаў чалавек.

Святло пакідае лес, збіраецца ўверсе. Па-начному вострa пахне зямля, хвоя. Мы ішлі цэлы дзень, а цяпер ладкуемся, каб спакойна адаспацца. Галеты мы даелі ўсе, да іх добра пасавала кісленькая зайцава капуста. Наедку не шмат, але само ўсведамленне, што сёння еў хлеб, супакойвае: у хлебе заўсёды столькі надзеі!

Глаша сядзіць пад цёмным дрэвам, знябытая, стомленая, накінула на плечы мой нямецкі кіцель. Імжака, сыра. Я ламлю лапнік, калючы, халодны, і нашу, складваю да яе ног.

Дажджавыя хмары ўсё апускаюцца над лесам, але ад іх робіцца не цямней, а святлей — неба асвятляюць водбліскі пажараў. Гэта ўжо амаль мая мясцовасць, да маёй вёскі кіламетраў трыццаць.



Лапніку я нарыхтаваў, цяпер толькі перацягнуць яго ў густы ельнік. Пакінуў вінтоўку каля Глашы і валаку калючую цяжкую ношку ўсляпую, спіной рассоўваючы цесна сплеценыя елачкі: трэба як далей, глыбей, ад усіх, ад усяго далей. Глаша нібы і не бачыць, чым я заняты, сядзіць дзіўна безуважная, і ўжо здаецца, што не толькі ад адной стомы.

Усё гатова. Я падышоў, узяў вінтоўку. Глаша знізу глянула на мяне і падала пінжак.

— Дождж цяпер не дастане, — кажу я.

Глашыны вочы ўзняты ўгору, асветленыя, нешта ў іх запытальнае і зусім мне незнаёмае. Але што тут такога? Усё звычайна: трэба перабыць ноч, каб не натрапіць на немцаў, не заблудзіцца, і наогул жа людзі, як сабакі, станіліся. Я расказваю Глашы пра тое, як мы раніцай выйдзем і пад вечар будзем на месцы. Глаша моўчкі глядзіць. Як яшчэ, калі я глухі? Усё звычайна.

Падышла да густога, як шчотка, мокрага ельніку, глядзіць зацікаўлена: што тут, як я тут уладкаваў?

— Сюды ідзі, я і страху зрабіў, — кажу я і спіной расхінаю калючую сцяну ельніку, а Глаша ідзе следам, рукамі адводзячы яловыя лапкі ад твару. Я бачу яе твар, вочы. Такая раптам неўразумелая, някемная стала, надта з усяго дзівіцца, нібы ўпершыню ў лес трапіла. Здаецца, выбрала для сябе, якою ёй быць, пакуль сядзела пад маім пінжаком, а я цягаў лапнік, і вось зрабілася такой, чакае, каб ёй усё паказалі, растлумачылі, самой ёй няўцям, што тут і як. Вельмі добра адчула, якой ёй трэба быць з Флёрам.

Вось яно, наша жытло: страха ёсць, пасцель ёсць, усё з лапніку. Глаша стаіць і не разумее, як і што далей. Я нахіліў ёй галаву.

— Паўзі.

Валасы ў Глашы мокрыя і цёплыя — мая далонь таропка сказала мне пра тое. Глаша прысела на кукішкі і папаўзла ў цемень, пад стрэшку. Папоўз у калючую цемень і я. Халодная Глашына рука прасунулася да майго твару — паказвае, дзе мне лажыцца. Лапніку нам хапае, каб і пад бок было, і накрыцца, як коўдрай. Прыўзнімаючыся, выцягваем лапкі з-пад спіны, кладзём іх на сябе, каб як раўней, паколатыя рукі нашы сустракаюцца і паказваюць: вось так, табе вось так будзе лепей! Яшчэ лепей будзе, калі я здыму свой кіцель і мы ім спярша накрыемся, а ўжо тады зверху мокрымі, калючымі галінкамі.

Нарэшце ўсё як трэба: спружыністая яловая пасцель — пад намі, цяжкі, зляжалы лапнік — на нас, вінтоўка — паміж, а рукі нашы прытрымліваюць цёплы пінжак бліжэй да шыі.

Усё ў свеце неверагодна і адразу, нібы бінокль другім бокам павярнулі, аддалілася. Усё будзе заўтра, а зараз толькі гэта, толькі мы. Маўчанне пачынае палохаць, як доказ, і я пачынаю гаварыць, шаптаць. Вядома, пра атрад, пра Касача. Ён шукаў Глашу, ён усё думае, куды яна знікла… Глаша, каб лепей чуць, павярнулася са спіны на бок, тварам да мяне. Я адчуваю яе дыханне, чамусьці халаднаватае. Ці гэта ў мяне такія разгарачаныя шчокі? Але мне зусім не горача, мне чамусьці холадна. Яшчэ энергічней, як малітву, шапчу пра тое, як яе схаваю на «востраве», а потым мы знойдзем сваіх, атрад… (Глашына рука праверыла, ці добра закрыты мой бок, ці не мерзну.) Я ўсё мармычу сваю малітву, расказваю пра Касача, пра тое, як ён умее быць строгім, негаваркім, затое калі скажа, то ўжо бяжы, рабі, і кожны з радасцю бяжыць і выконвае. І я разумею, чаму Глаша… Я і сам… Рука Глашына ўжо ляжыць паверх пінжака, я адчуваю яе даверлівы цяжар каля шыі. Так пасуе ёй гэта дарослая прастата. Паклала руку і ні пра што не думае, а я толькі пра тое цяпер і думаю, як яе рука на мне ляжыць і што гэта значыць.

Захацела і стала дарослай, на вачах ва ўсяго атрада. А я ж толькі ў снах, але і ў сне абавязкова каго-небудзь спалохаюся, у самы апошні, у самы саромны міг, нібы забаўляецца з мяне нехта, падманваючы заўсёды аднолькава, і заўсёды гэта яму ўдаецца.

Глаша заціхла зусім, дыханне паслабела, а я ўсё шапчу, шапчу сваю малітву. Я ўжо расказваю самы пачатак: як Касач і Косця арганізавалі ўцёкі з палону, праламаўшы падлогу ў цяплушцы, і як яны падалі пад колы таго цягніка — ён імчаў іх праз Польшчу…

Нарэшце я зразумеў, што Глаша спіць — утульна, па-хатняму, як гэта яна ўмее ў любым становішчы.

Адразу перамянілася ўсё. Побач — даверлівы камячок, я павярнуўся да яго і магу без страху, моўчкі дыхаць ім, радавацца яму. Спаць я сабе не дазваляю, хоць усё цела зліпаецца, склейваецца ў сонны камяк, і трэба яе, гэтую вязкасць, якая склейваецца, разрываць зноў і зноў. Калі нас, калі цябе заўтра заб'юць, усё жыццё мінецца гэтай ноччу. Закрыеш вочы — і ўжо раніца! Не, няхай кожная хвіліна доўжыцца, цягнецца, як толькі мага, яе трэба разбіраць на секунды, на імгненні… Глашына рука даверліва, сонна ляжыць на мне, каленкі грэюцца аб мае ногі, дыханне смешна лашчыцца аб мой рот, казыча павекі, якія просяць сну. Можна нават заплюшчыць вочы, трэба толькі не даваць імгненням зліпацца ў хвіліны, а хвілінам склейвацца ў гадзіны, а ўсяму цэлу — у адзін салодкі, мёртвы камяк сну. Не даваць, дазваляць, затрымліваць, разрываць, расклейваць… Дзе



цяпер мама, сястрычкі, дзе яны ў гэтую хвіліну, пра што думаюць? Мне трэба ўбачыць іх, упэўніцца, што нічога не здарылася, што яны існуюць…

Я праваліўся ў сон, як пад ваду. І тут жа вынырнуў — у холад, у сырасць, світанне, якое страляе, перагукаецца гулкім рэхам. У нас у ельніку яшчэ цёмна, толькі паблісквають, як бы сваім святлом, нанізаныя на іголкі кроплі. Ды ў хісткім тумане бялеюцца, як незапаленыя ці пагаслыя свечкі, камлі елак, з якіх высока садрана кара.

Нават дзіўна, як гэта здолелі амаль да макавак садраць кару.

— Яны нас знойдуць? Яны нас убачаць?..

Голас, шэпт яе таропкі, такі спалоханы, а вочы, усяведы-смелыя і ўсмешлівыя, глядзяць на мяне знізу. Гэта я, і гэта праўда, упершыню гэта не ў сне, а праўда, і так блізка страляюць, але мы адны, рукі нашы просяць, перашкаджаюць, дазваляюць, забараняюць, памагаюць. Яны і ласкавыя, і груба-нязграбныя, і насмешлівыя, і сарамліва-моцныя. Вочы так блізка, вось-вось сальюцца ў адну кроплю, вялізную, блакітную…

— Не глядзі! Чуеш!.. Як страляюць, чуеш?

Я заплюшчыў вочы. І прачнуўся. Зноўку нехта мною пагуляўся, пазабаўляўся маёю дурною баязлівасцю. Глаша ўжо не спіць, прыўзнялася, ссунуўшы ўбок, зваліўшы з нас зляжалую яловую коўдру, напружана ўслухоўваецца. Сон адышоў, але і астаўся, перашкаджае на яе глядзець. Цяпер, мабыць, на самой справе прачнуўся. Я пашукаў вінтоўку, якая закацілася пад бок, выцер на твары дажджавыя кроплі — памыўся.

— Страляюць, — паведаміў я.

Гэта я прачытаў у яе чуткіх вачах.

…Вось яны, мае Белыя Пяскі, я прывёў Глашу да сябе дамоў. Вёска вялікай выдае ад раптоўнай пустаты, што адкрылася ў ёй. Позірк, не пагаджаючыся, хапаецца за дзве ці тры будыніны, ацалелыя ў розных канцах вялізнай пустэчы, што ўспыхвае яшчэ дзе-нідзе апошняй гарачынёй, то ў адным, то ў іншым месцы. Плячо маё дрыжыць пад дрыгатлівай Глашынай рукой, і мне падумалася, што яна адчувае гэта так, як адчуваў я, калі лавіў, адпаўзаючы, абрубак Сашкавай нагі. Я адышоў ад Глашы. Амаль з агідай да яе, да сябе, да нас, якія прыйшлі сюды не ўчора, не пазаўчора, калі мы яшчэ былі патрэбныя тут, патрэбныя былі …

Я пачынаю спускацца з сасновага ўзгорка да дарогі, якая ў сутонні бялела пасярод лугу. Глаша, не заўважыўшы ці не жадаючы заўважыць маёй *да нас* прыкрасці, ідзе побач.

Неаднойчы, бывала, да змяркання загуляўшы на гэтым узгорку, глядзеў я на вёску: вось гэтак жа ўспыхвалі агні ў розных канцах вёскі — у вокнах. Вось гэтак жа.

Дарога ціха, нібы чакала, прыняла мяне, калі мы сышлі ўніз, павяла, пабегла наперад, унерадзе… У майго суседа Юстына ўтапіўся дарослы сын (перад самай вайной здарылася гэта), а Юстын вярнуўся аднекуль праз дзень, калі ўжо стаяла труна ў хаце. Чалавек ідзе па вуліцы, ужо ведае пра сваё гора, да яго ціха падыходзяць і моўчкі ідуць побач людзі, суседзі, вось так Глаша побач ідзе. А наперадзе ідзе белая дарога, паказвае, куды ісці, дзе тваё гора. Але пры гэтым яна не забывае рабіць усе свае даўнія павароты, нават непатрэбныя: каля даўно перасохлага ўзболатку, каля колішняга, які спаліла маланка, калгаснага свірна. І я, як гэтая пакручастая дарога, усё ўцякаю ад думак пра маму, сястрычак, суседзяў, вёску, усё нешта пра другое, зусім пра другое…

Мая хата у самым канцы вёскі, і мы ідзём туды. Успыхваюць ад ветру пагуркі, дзе стаялі хаты, а цяпер грузна бялеюць печы; водбліскі датыкаюцца Глашынага, майго твару — так адчуваеш чужы пагляд, хоць і не бачыш яшчэ, хто сочыць за табой. Нешта адвечна жаночае ёсць у гэтых бяссільна аселых бялеючых печах. «А чый жа гэта? Гайшуніхі хлопец, Флёра? Ці чый?» Нібы стараючыся разгледзець ці паказаць нас, гарачыня на агародах раптам успыхвае, разгараецца ярчэй. Апусцелыя двары адступілі ад вуліцы, пакінуўшы на ранейшым месцы толькі лавачкі, ды абгарэлыя платы, ды бярозы з закінутымі, як галовы, вяршалінамі. (Нешта белае перабегла вуліцу, жвава, па-сабачы, але я добра бачу, што гэта не сабака, а свіння, зусім як дзікая.) Каля гэтых бяроз, пад імі некалі праходзілі летнія вечары. Старэйшыя сядзяць, стаяць, кураць, вядуць гамонку — адпачываюць пасля рабочага дня, а мы, хлапчукі, носімся па вуліцы, па агародах, добра нам ад адчування, што ў дарослых гэткі ціхамірны, вячэрні час, увесь свет чалавечы здаецца супакойным, абаронным, добрым. Да гэтай пары ў істоце маёй, у нейкіх сотах захавана тое колішняе пачуццё, якое я сам адзначыў, спыніў, калі заскочыў па драбінах на гарышча, хаваючыся ад «сініх», паглядзеў уніз і ўбачыў на лаўцы пад бярозай бацьку і маці: сядзяць, як хлопец з дзяўчынай («цілі-цілі-цеста, жаніх і нявеста»), смешна так сядзяць і замілавана, думаючы, што іх не бачаць, ён цалуе яе каля вуха, яна, адпіхваючы, гладзіць яго левай рукою. («Пеця, здурнеў, суседзі ж!») Мне хораша і вусцішнавата, нібы няма на свеце мяне, а толькі яны ўдваіх. Затаіўшыся, я глядзеў на свет, дзе мяне яшчэ няма. Сам не ведаю чаму, але я закрычаў, моцна, нібы працягваў гульню ў вайну, а на самай справе, каб зноў з'явіцца ў гэтым свеце, нагадаць пра сябе. Мама азірнулася, а бацька раззлаваўся:



— Ты што як рэзаны?!

Сердаваў ён адразу, рэзка, і я яго любіў і баяўся. Наогул я заўсёды любіў суровых, няласкавых, мажа, менавіта таму, што такім быў і мой бацька. Нават ад'язджаючы на вайну ў Фінляндыю, бацька не пацалаваў мяне, а толькі сціснуў рукою плячо і паказаў на заплаканую маму і сястрычак-блізнят, абвязаных хусткамі, як вазніцы, пад пахі: «Глядзі іх!»

Цяпер я падыходзіў да таго самага месца, дзе гэта было, *дзе наша хата*. Тут агеньчыкі ўжо не поўзаюць па агародах, толькі каля печаў трымціць гарачы дух, значыцца, пачыналі з гэтага канца… Бяроза ўзвышаецца нада мной, задраўшы раскудлачаную галаву ў чорнае неба. Ацалелі весніцы, прасла плота. Каля печы зямля прыцемнена свеціцца.

Глаша паціху накіравалася да печы, а я ўсё не заходжу ў расчыненыя весніцы. Хто, чыя рука іх расчыніла? І што было потым? Ад Глашыных ног успыхваюць і застаюцца святлівыя чырвоныя сляды. Зачапіла вуголле носікам бота — коратка ўзляцеў рой іскраў… Як на той паляне… Пра што гэта я? Думка ўсё стараецца збочыць, уходзіць ад самага страшнага. Рашуча, перакаанана, каб самому паверыць, кажу Глашы, што ўсе ўцяклі, усе ў лесе… Глаша нахілілася, разглядае нешта. Я кідаюся туды ад весніц і сам палохаюся свайго бегу. О, я ведаю, што гэта такое — белае вуголле! А мне раптам здалося, што яно белае — як згарэлыя косці. Не, не, гэта ад печы адсвечвае, ад пабеленай мамінымі рукамі нашай печы! І гарэлы пах бульбы і яблыкаў, толькі бульбы і яблыкаў! Яны схаваліся ў лесе, заўтра іх знайду, убачу…

Я падыходжу да печы, кранаюся яе, нечакана халоднай сярод неастылага вуголля. Боты мае, як вільгаць на балоце, выціскаюць з зямлі гарачыню, святло. Сляды згасаюць не адразу, тлеюць, успыхваюць ад ветру, па іх прабягаюць сінія і чырвоныя агеньчыкі.

За яблынямі плямай бялеецца печ Юстына — нашага суседа. На плоце нешта развешана белае, пачынае здавацца, што гэта людзі, жахліва нерухомыя.

Я пайшоў назад, да весніц. Глаша ўжо там, глядзіць мне насустрач. Села на лаўку, і я сеў побач. У Глашы нешта такое азначылася — жаночае, проста ўзяла маю галаву і паклала сабе на калені, а сваю — мне на спіну. Потым я зусім лёг на доўгую

лаўку, і не было дзіўна ці сорамна, што яна сядзіць, а мая галава ў яе на каленях, як не дзіўна і не сорамна параненаму. Час ад часу я расплюшчваю вочы, бачу адкінуты да бярозы твар Глашы, заўважаю, як вецер кратае вуголле на папялішчы і крывавыя водбліскі кідаюцца на дровы, знаходзяць і паказваюць яблыкі, чырвона-чорныя яблыкі. У галаве стукае, і гэты гук то аддаляецца — стукае ўжо недзе на агародах, — то вяртаецца ў мяне ж. Нешта пустое, полае то напаўняецца, *мною напаўняецца*, то апаражняецца. Гэты стук, пахі гарэлых яблык, печанай бульбы забаўляюць мяне ўсё ў адзін і той жа сон, які перапыняецца і зноўку доўжыцца: раніца ў нашай хаце, на печы шэпчуцца і стрымана рагочуць блізняты, на кухні мама, я чую, як яна сячэ на дошцы мяса, як перастаўляе чыгункі, грукае патэльняй, і я баюся, што зараз яна ўвойдзе і ўбачыць мяне з Глашай, *якія ляжаць у ельніку на лапніку*…

Прахапіўся я пад яркай, б'е ў вочы, сінечай. У прахалоднай вышыні калышацца бяроза; жоўтая палавіна кроны — як раптоўная сівізна. Вераб'і, цёмная густая чародка, не зляцелі, а неяк ссыпаліся з бярозы на агарод. Я правёў іх позіркам і прачнуўся канчаткова. Унізе на зямлі, на агародах, чорна і страхавіта-пуста. Печы не белыя, як на змярканні, а брудна-шэрыя. Калі глядзеў на пажаўцелае голле, на вераб'ёў, здалося, што чую шум бярозы, вераб'інае чыліканне. Цяпер зноў усё наўкол анямела, і толькі ўва мне самім шум. І пачынае нудзіць. І лёгкая млоснасць.

Я пашукаў вачамі вінтоўку, Глашу — не ўбачыў, нязграбна адштурхнуўшыся ад краю лаўкі, павярнуўся і, падымаючыся, абапёрся рукой… Нешта гарачае падатліва хруснула пад далонню, і страшэнны ўдар у локаць, у патыліцу падкінуў мяне. Ротам, языком я злізваў, высмоктваў востры боль, што засеў у далоні, і адначасова заглытваю смачную гарэлую бульбяную кашу. Глаша спалохана спынілася каля весніц з кавалкам чорнай бляхі ў руках, як з падносам, а на ім падгарэлая бульба і яблыкі. Паставіла «паднос» на траву і вінавата падбегла да мяне, але я вырваў з яе рук сваю апечаную далонь і схапіўся за прыклад вінтоўкі — цёплая! Да жалеза прыклаў — не памагае. Траву памацаў — цёплая. Я круціўся, шукаў і не знаходзіў холад. Абцасам выбіў яму ў доле, уціснуў у яе далонь — боль адразу аддаліўся, зямля яго адсмактала, але там, у аддаленні, боль застаўся, як пчаліная джала. Глаша вінавата кратае пальцам гарэлыя бульбіны, якія я не змахнуў, якія засталіся на лаўцы, нешта гаворыць, мусіць, папракае мяне, сябе. Боль ужо вяртаецца, і я,



ускочыўшы, выбіваю новую ямку ў доле, прыцiскаю далонь, і боль уходзіць, як вада ў пясок. Тое, што я раблю, як я кручуся, ускокваю, б'ю нагой зямлю, хапаюся за яе, мусіць, вельмі выглядае недарэчна, і я злую, што не магу не рабіць гэтага. Глаша, выбраўшы момант, узяла маю руку, падзьмула на пачырванелую і раздзьмутую далонь.

— Ты што — цыганка? — вырваў руку і зноў пачаў хаваць яе ў халодным чарназёме.

Глаша — нічога не заставалася — усміхнулася мне, а я ёй знізу, і мы заняліся кожны сваім: я сядзеў, прыкуты да зямлі, яна раскладала на лаўцы наш сняданак. Падышла да мяне, выняла з маіх ножнаў нямецкі штык-кінжал і пачала абшкрабаць бульбу, хукаючы сабе на пальцы. Вунь з якога прыску набрала бульбы — адно вуголле! Час ад часу адрываю руку ад долу, боль не адразу, але абавязкова вяртаецца, зноў укручваецца ў локаць, у галаву, у патыліцу. Кладу далонь на жалеза вінтоўкі — ужо памагае. Перахопліваючы апечанай далонню ўсё новыя, яшчэ не нагрэтыя часткі вінтоўкі, пайшоў на пажарышча, да печы. Боль перайшла ў печ, у яе глыбокі холад. Я трымаўся за гэты холад і разглядваў усё, што засталося ад хаты: некалькі пачарнелых вялікіх камянёў на вуглах, жалезны ложак, увагнуты пасярод, рама ровара, на якім ужо даўно не было гумы, сплясканае вядро. Была яшчэ швейная машына, — гэта добра, што яе не відаць. Вядро маглі і не браць, тым больш бескарысны ровар, а машыну мама панясе — галоўная наша каштоўнасць. Мы і да вайны жылі, апраналіся з маміната шыцця, а ў вайну тым больш.

У печы стаяць чыгункі. У тым, які бліжэй, чорнае вуголле. Я дастаў другі, там крупнік — выкіпеў ледзь не да дна, ён яшчэ цёплы, я нясу чыгунок ў далонях, але болю не адчуваю, забыў пра боль. Стаўляю мамін абед на лаўку, дастаю з кішэні лыжку. Каштую, з'ядаю трохі насычанага дымам, агорклага крупніку, перадаю лыжку Глашы і бяру з яе рук абшкрэбеную бульбіну. Глаша пакаштавала і ціхенька паклала лыжку.

Паснедалі, Глаша акуратна прыбрала з лаўкі на «паднос» лушпінне, гар. Чыгунок я аднёс і паставіў зноў у печ. Боль вярнуўся ў руку, і я ішоў па нашым садзе, кранаючыся цеплаватых дрэў, шукаючы сярод яблыкаў неабпалены, зялёны, надкусіў яго і прыклаў да далоні. Зямля ўся ўсыпана чорнымі яблыкамі. Іх столькі, што ідзеш па іх, наступаеш, як на жывое нешта… Вось што бялелася ноччу на плоце — клочча ад бялізны, пачварна абгарэлай. Яе тут іскрамі абсыпала ад нашай і Юстынавай хаты. Але чаму яе не забралі з сабой: не змаглі, не паспелі? Трывога зноў працяла мяне халодным потам.

Глаша глядзіць у неба. Так, ужо лятае. Яна заўсёды над намі, калі нам дрэнна, — нямецкая «рама». Партызаны не раз спрабавалі збіць яе, але не ўдавалася. Кажуць, што на ёй браня.

«Рама» аддаляецца ў бок лесу, нам таксама туды.

Калі пасля вайны мне даводзілася лятаць у самалёце, увесь час не пакідала думка: вось так, вось такімі бачыла зямлю, хаты, нас, людзей, тая «рама», бачыў *ён* — нехта абагулена агідны. Ён, менавіта ён надта рана, не па праву бачыць зямлю, чалавека з такой вышыні, з якой усё здаецца нязначным, макетным, умоўным. Мусіць, нават не са злосцю, а весела ганяліся «месеры» за бежанцамі, калі тыя, як мурашкі, рассыпаліся з дарогі. Вось таксама цэлілі бы з чорнага космасу ў блакітна-шкляны шарык, якім любаваліся, шчаслівыя, што яны — людзі, першыя касманаўты…

«…Паслухайце, Фларыян Пятровіч, што гэта ў вас зноў?»

З гэтымі словамі звычайна паяўляецца ў маёй кватэры Барыс Бокій, мой былы аспірант, а цяпер таксама кандыдат навук, псіхолаг. Я яго ніколі не бачыў, ведаю толькі голас, поціск тонкай моцнай рукі, жвавы крок, энергічныя, шумныя рухі: ён для мяне нешта чорненькае, бліскучае, вострае. Відаць, хударлявенькі маленькі брунет з тонкім і вялікім носам, «вальтэраўскім». Я некалі адзначыў сабе, што людзі са смешным, птушыным тварам абавязкова іранічныя, аддаюць перавагу, каб насмешка выходзіла з іх, а не іх ішла за імі.

Партфель у майго Бокія заўсёды набіты кнігамі, часопісамі, ён пакідае яго ля парога з такім грукатам, нібы з пляча скідае. І тут жа выкрыквае навіны: апраўдалі яшчэ аднаго каменданта лагера, партрэтамі «чалавека-сонца» б'юць па галаве дзяцей і жанчын (сем'і непажаданых дыпламатаў), лейтэнант Колі пакараны хатнім арыштам…

— Што ў вас там, Фларыян Пятровіч, зноў?

«У нас там» — гэта тут, на нашай планеце. Барыс не тое што захоплены, ён «разношвае» (так ён гэта называе), як новыя чаравікі, ідэю, гіпотэзу, запазычаную з нейкай фантастыкі, рамана. Мы, зямляне, з вышыні гэтай гіпотэзы, не самі па сабе, а пад нечым наглядам, нейкая звышцывілізацыя ставіць дослед, каб вырашыць, ці можна нас дапусціць, падключыць да сябе. Альбо — «закрыць дослед».

Усё, што я некалі казаў яму, студэнту і аспіранту, да чаго ён тады пачціва прыслухоўваўся, цяпер вяртае мне, звяраючы з новай і ўсё больш нечаканай рэальнасцю. У іранічнай абгортцы вяртае. Забывае Бокій, што сам цяпер педагог і надта скора можа апынуцца ў маёй ролі. Тону гэтаму, трохі штучнаму, памагае яшчэ і тое, што Барыс забягае да мяне часцей за ўсё па званку Глашы, якая напаўголаса пытае, ці не змог бы ён суправаджаць мяне ў інстытут (калі гадзіны — Глашыны ў школе і мае ў інстытуце — супадаюць). Барыс паяўляецца нібы дзеля таго толькі, каб выкласці мне ўсё, што думае ён пра нас, пра зямлян.



— Слухайце, Фларыян Пятровіч. Гэта мільярд адной глоткай крычыць. Заўважце! Мільярд! Не, не, закрываю дослед, безнадзейна.

— Пацярпі. Гэта праходзіць.

— Каб пачацца ў другім месцы? Бо вы ж прытвараецеся, Фларыян Пятровіч, што можаце пра гэта спакойна! Вы сваімі вачамі бачылі, чым такое канчаецца. Чалавек, які аднойчы трапіў пад кола, на ўсё жыццё перастае верыць у руль, тармазы. А вы, значыць, псіхалагічнае выключэнне? Ці маеце што паведаміць пра знікненне ці хаця б збліжэнне «нажніц» паміж тэхнічнай і маральнай культурай?

— Дастаткова, на першы выпадак, пачуцця самазахавання.

— Не ўсім відам млекакормячых гэта памагло. І потым, яшчэ не даказана, што гэта пачуццё ў чалавецтва ёсць, захавалася.

— Homo sapiens вылучаецца яшчэ і тым, што надзелены здольнасцю разумна выбіраць напрамкі і варыянты. Не заўсёды ён карыстаўся гэтай здольнасцю, але цяпер усё так паскорылася, сціснулася, стала відавочным, што выбіраць прасцей.

— Паскорылася! Скарастрэльныя ракеты, кароценькія ідэі! Кнопкі!

— Затое і другое з'явілася. Раней колькі пакаленняў нараджалася, жыло, памірала — і ўсё пры адной фармацыі. Здавалася людзям, што нероны, людовікі, раманавы — гэта навечна, што рабства, што абсалютызм, чыёсьці самаўладства не скончацца ніколі. А цяпер у адно чалавечае жыццё ўмяшчаецца і першае, і другое, і чацвёртае. Можна разумнець — і паасобку, і разам! Адной нагой у крыжовых паходах, другой — на далёкіх планетах. Не словы гэта, а рэальнае пачуццё — у нас (прынамсі, каго захапілі і трыццатыя гады), — што мы жывыя сучаснікі і тых, хто жыў пяцьсот год таму, і тых, хто прыйдзе праз пяцьсот. Так, усім заўсёды здавалася, што іх пакаленне на самым заломе гісторыі. Але тут ужо сапраўды прамы вугал. Хіба няма ў табе такога пачуцця, што на адной плоскасці — нероны, людовікі, гітлеры, а на другой — гарманічны свет яфрэмаўскай «Андрамеды»? А ты, а мы — на вяршыні прамога вугла. І тое і другое — у полі зроку, твая біяграфія, твой час…

— У мяне з Шылерам другое пачуццё: «Когда боги были человечней, человек божественнее был».

— Калі гэта яны былі больш чалавечныя?

— Калі не ў бранявых лімузінах гойсалі, а сядзелі на алімпах. Заўсёды багам людзі аддавалі свае вартасці, напаўнялі іх уласнымі вартасцямі і недахопамі, але ніколі такім кепствам, дрэнню, подласцю не нафаршыроўвалі сваіх багоў, як у дваццатым веку.

— Заўсёды гістарычны прагрэс лічыў за лепшае піць нектар з чэрапа забітага. Памятаеш, у Маркса? Таму і кажам, што ўсё гэта перадгісторыя.

— А гісторыя? Хатыні, Сангмі?

— Так, адна нага ўсё яшчэ там.

— І яе не засмоктвае? Успомніце, як Талстога палохала, што ў агромністай краіне знайшлося некалькі ахвотнікаў усенародна выконваць работу ката. Спачатку быў адзін, яго вазілі з Масквы ў Кіеў, у Адэсу — надзяваць «вераўчаныя гальштукі». А потым знайшлося яшчэ некалькі кандыдатаў у каты, і як гэта ўстрывожыла Талстога. Ну, а каго здзівіш такой навіной у сярэдзіне дваццатага веку? У Сангмі забівала нават не спецыяльна падабраная каманда, а радавая рота, звычайныя, дзевятнаццацігадовыя. Толькі што ад татаў і ад мам… Які ж клімат патрэбны, каб звычайныя людзі былі на гэткае здольныя! Вам, Фларыян Пятровіч, пра што-небудзь кажа такое паскарэнне, ушчыльненне?

— Так, але калі гэта было, каб так адкрыта бунтавалі супраць вайны? І дзе? Ваяўнічай, моцнай дзяржаве!

— Сарвуцца ў фашызм — куды толькі і дзенуцца вашы бунтары! Не, не, і не прасіце, закрываю дослед…

Я яго не бачыў ніколі, свайго пастаяннага апанента, толькі голас помню, які саслізгвае ў не да месца жарцікі. Мне спрачацца з Бокіем не проста, таму што вельмі часта і з памяццю ўласнай трэба спрачацца. Тое, што Бокій толькі ўгадвае, я *бачу*, таму што ўжо бачыў — учора…

…«Рама» вісіць над лесам, куды мы з Глашай ідзём. То ўзнімаецца, то апускаецца ніжэй. Выглядае жывыя дымкі. Можа, ужо склікае сваіх, з бомбамі. Вісіць над усім, у брані, нетаропкая, і нібы глядзіць на цябе вокамаграмаднага насякомага.

Сон мне адзін запомніўся, і не сам наогул сон, а ягонае адчуванне, незвычайнае, дваістае. Быццам я ўверсе, на самалёце, але ўнізе — таксама я. І бачу сябе — і баюся самога сябе: ганяю па



голым, як стол, полі таго, што ўнізе, безабароннага, маленькага. І раптам маленькі, спалоханы, злосны — там я — падае на спіну і страляе, страляе ў самалёт. Я адчуў, што пацэліў і што падаю, лячу прама на стралка, вось-вось стрэцімся, насмерць разаб'ёмся адзін аб аднаго, і я прашу, малю, каб той, хто падае або страляе знізу, каб хоць нехта застаўся, ацалеў…

Лес сустракае мяне знаёмымі цяністымі дарогамі, прасекамі. Сосны, дубы, потым пойдзе елка і сырая вольха, а там — балота, «астравы», дзе мы заўсёды хаваліся, дзе хаваюцца нашы. Колькі ўсяго ўжо было, а ў лесе ўсё як заўсёды было. Мне нават захацелася паказаць спадарожніцы нашы з Хведзькам лясныя таямніцы, але я толькі пасміхнуўся ў бок усяго гэтага, дзіцячага. Дзе цяпер Хведзька — вераб'іная смерць? У партызаны яго не пусціў бацька: «Хочаш, каб сям'ю выбілі, матку ды малых пашкадаваў бы!» І хітра раззброіў Хведзьку. Падказаў, нагаварыў знаёмым партызанам, што ў сына цэлы склад зброі. Хведзьку прыціснулі, і ён аддаў. Пра ўсё гэта я даведаўся, калі забег аднойчы дамоў, яшчэ да кантузіі. Мама тады дужа ўзрадавалася майму прыходу, а сястрычкі-блізняты з падвоеным захапленнем і павагай разглядвалі брата, абвешанага зброяй. Толькі мундзір нямецкі ўсё адцягваў іх увагу: нібы акрамя нас чацвярых яшчэ нехта ў хаце быў чужы. Не пры маме, а калі яна выйшла на кухню, блізняткі ў адзін голас выдыхнулі:

— Ты яго забіў?.. Гэтага!..

І паказалі на мой мундзір.

Ад мамы я даведаўся пра тое, як Хведзька адплаціў бацьку. У іхнім садзе схаваны быў вяпрук — «кормны», пудоў на восем. Хведзька шапнуў пра гэта нейкім вандроўным веселунам у падзяку за абяцанне, што возьмуць яго ў сваю групу. Тыя вепрука сцягнулі, а Хведзьку, які чакаў іх каля лесу, сказалі: «Ідзі, бацька шукае. А нам здраднікі не трэба!» Хведзька два дні хаваўся ў кустах, а бацька хадзіў паўзлессем і гукаў на ўвесь лес: «Ідзі дамоў, свалата, ідзі, гад, не зачаплю, хоць забіць цябе мала!»

Ад мамы я выправіўся да Хведзькі — з вінтоўкай, якую ён падарыў, пры поўным партызанскім парадзе.

— Яшчэ адзін герой! — сустрэў спакушальніка сам гаспадар, даўгарукі, сутулы Хведзькаў бацька. — Няма на цябе бацькоўскай папругі!

Хведзька выйшаў з хаты і прайшоў моўчкі паўз нас.

Я услед за ім.

Быў ён журботны, мой сябра нейкі, гаварыў неахвотна.

— Ну як? — крануў маю вінтоўку. — Страляў? Ці самагонку жлукціце там? Я сабе аўтамат здабуду.

Глянуў на сваю хату, дзе бацька нязграбна цягнуў на страху куль саломы і пытаўся ў некага па-бабску сварліва, пранізліва:

— Дзе гэтыя героі? Куды ён пабег ужо?

…Рука мая ўсё баліць, апёк узняў тоўстую, змярцвела-белую скуру на далоні. Я прыкладваю да яе ўсё, з чаго толькі можна выціснуць холад: ліпкае лісце вольхі, вільготны мох. Балота ўжо чуецца пад нагамі. Мы брыдзём з Глашай, а я шукаю вачамі, што халадней, нібы намерыўся правяраць тэмпературу ўсяго, што трапляецца па дарозе.

Пах пажарышча, дыму, гарэлага адстаў ад нас, толькі печаная бульба ў маіх кішэнях нагадвае пра яго.

Ужо другі пах забівае лясную свежасць, паўзе нам насустрач, усё больш цяжкі і густы. Менавіта гэты пах мы раскопвалі, калі шукалі зброю. Мімволі выціраеш куточкі рота, а яны робяцца непрыемна ліпкімі.

Але лес усё такі ж чысты, вочы мае нічога не знаходзяць. Раптам убачылі некалькі пакалечаных, асколкамі ссечаных асінак, светлых, свежых. А пад імі чорныя, нібы дзёгцем налітыя варонкі. Варонкі вядуць у бок парадзелых карчоў, да «астравоў». Я ўжо амаль бягу, Глаша ледзь за мной паспявае. Галоўнае — гэты злавесны ліпкі знаёмы пах… Тут ужо балота рудое, з барадаўкамі-купінамі, на якіх неяк прыладзіліся, трымаюцца крывыя дрэўцы. Твань узварушана бомбамі, гразь параскідана, рудая трава, парудзелае кустоўе аерцу нібы кім развешана на суччы і вяршалінах спалохана паніклых сасонак і чэзлых бярэзін. Чыгунны корч прыціснуў да вады лазовы куст, з вялікай вышыні, мабыць, падаў. Лазовыя кусты, круглыя, як стажкі зялёнага сена, відны ўсцяж па балоце. Але ніякіх трупаў. А пах падступае, ён побач, яго адчуваеш нават скурай, як ліпкае павуціння.

Мы ўжо каля першага «вострава», зялёнага, зарослага густым алешнікам. (Да вайны тут касілі асаку для індывідуальных кароў.) Застаецца толькі перабрацца праз чорную паласу вадкай гразі, над якой, нібы затоплены частакол, тырчаць вострыя канцы карчоў, пнёў. А побач яшчэ нейкія бурыя астраўкі выпінаюцца. Я не адразу разгледзеў, зразумеў, што гэта такое, ніколі іх тут не было. Аднолькавыя ўсе нейкія. Раптам агледзеў у балотнай чарнаце бельмаватае вока, круглае, вялікае, а над ім каровін рог. Тады толькі сцяміў, што такое гэтыя падобныя адзін да аднаго, бурыя астраўкі. Цэлы статак засмактаных тванню і ўсплылых распухлых каровіных туш! Вялізныя бурыя і чорныя пухіры — як спіны бегемотаў. Глаша не вытрымала, далонню заціснула



рот і кінулася назад. І праўда, смурод яшчэ большы, калі бачыш гэтыя пухіры.

Але прайсці на «астравы» можна толькі тут, не адным мной гэта праверана. Як мы будзем плёхацца ў гэтай смуроднай багне? Каб адзін я, а то ж і Глаша!.. Закінуўшы вінтоўку за спіну, я ўзяў з лазовага куста кінутую некім жэрдку і пайшоў з ёю, як з пікай, на буры пухір. Трэба распіхаць іх. Уздутая туша цяжка і незадаволена гайданулася — і толькі. Глаша пазірае здаля, вочы пакутныя, хворыя.

А я (зусім як Хведзька на тых старых магілах) весела загарлапаніў, заспяваў нейкія бессэнсоўныя словы:

— А мы сейчас, а мы сейчас! У покойника зубы не болят, не болят!..

Я ўжо не звяртаю ўвагі на гразь да пояса, на ліпкі смурод, ускараскаўся на хісткі корч, пастаяў, паківаўся над ім, паспяваў, паказваючы Глашы, як усё пацешна і проста, пакратаў жэрдкай астравок-тушу і скокнуў на яе. І адразу ж саслізнуў, нібы нават не крануўся тушы нагамі. Вінтоўка балюча стукнула па галаве, па вуху, ногі праваліліся ў пустату, пальцы прагавіта хапаюцца за агідную слізгату поўсці, скуры.

Нарэшце ногі нешта намацалі. Гразь па грудзі, але я ўжо стаю. Глаша з жахам глядзіць на мяне, паказваючы, каб ішоў на бераг. Але тут жа сама, нібы паклікаў хто, ідзе, сунецца да мяне, працягвае руку. Гэта з ёю бывае, вось так і на паляне тады пайшла да Касача…

Я не варушуся, баюся, што страчу апору, што напалохаю яе ці сам спалохаюся канчаткова. Калі я выпаўзу зноў на бераг, ніякая сіла не прымусіць мяне лезці ў гэты смурод. Глаша ўсё ўзнімае рукі над гразёю, гідліва, засцярожліва. Спачатку боты, потым спадніца, што зверху штаноў, патанулі ў гразі, чорная твань засмактала Глашыны калені, падцягнуты жывот, чарната ўзнімаецца па шэрым світары да спалоханых яе грудзей, Глаша сціскае іх локцямі, трымаючы рукі перад тварам, каля рота… Я кінуўся да яе і якраз у час: яна ўжо амаль падала, калі я схапіў яе за руку і пацягнуў. Не даючы апамятацца ёй, сабе, цягну міма раздзьмутых «бегемотаў», хапаючыся свабоднай рукой за карчы і голле, і ўсё крычу, моцна і роспачна:

— Чудо-юдо рыба-кит! Чудо-юдо рыба-кит!..

Прымушаючы сябе не думаць ні пра што, не адчуваць нічога, з бяссэнсавай і небяспечнай паспешлівасцю рвуся, цягну Глашу да «вострава». Твар яе перасмыкнуўся ад гідлівасці, жудасці, запырсканы граззю. Колькі разоў ногі нашы зусім трацілі апо-

ру, і тады мы кідаліся, як ад агню, убок, бачачы сваю роспач у вачах другога. Ужо асака, ужо блізка бераг, тут ужо да пояса гразь, можна б спакойна дабрысці, але мы, нібыта з лодкі, якая тоне, ратуемся, адчайна караскаемся і выбіраемся, выпаўзаем на бераг амаль паўзком.

Выпаўзлі, стаім у асацэ каля кустоў і ачуньваем, адчуванне такое, нібы нехта цягнуў нас і раптам пакінуў. Нібы нас абсмактала нячыстая зяпа пачвары, стаім прыцішэлыя, зняважаныя, у Глашы слёзы на вачах. Я пачаў ламаць альховае голле, сашморгваць ліпкае лісцё і абціраць, абціскаць ім з Глашынага світара бурую гразь, якая сцякала з яе рук, а яна стаіць і плача, раскінуўшы рукі, каб не кранацца самой сябе, разглядвае сябе грэбліва. Заўсёды яна здавалася мне такой вузкай і прамой, як лінеечка, толькі высокія калені ламалі лінію. А цяпер, калі адзенне ліпка аблягае плечы, грудзі, жывот, я бачу, што жаночая стройнасць — гэта сапраўды ломаная лінія… Глаша злосліва забрала ў мяне голле, і цяпер я толькі ламлю і падношу ёй чыстае, адначасна на хаду абціскаю і сябе.

Раптоўна я адчуў чужы позірк, у спіну нам. Так і ёсць: за кустом стаіць чалавек. Вінтоўка ў яго на плячы, ніякай пагрозы ў постаці, адна цікаўнасць на твары, чакае, што далей будуць рабіць двое, што выпаўзлі з балота на «востраў».

Складанае і дзіўнае гэта пачуццё — успамінаць першую сустрэчу з чалавекам, які ўвайшоў пасля ў тваё жыццё. Ты яшчэ не ведаеш, кім, чым ён для цябе будзе, і ўсё ў ім здаецца неабавязковым, як і сама сустрэча з ім, выпадковым: усмешка, хада, вочы, рукі, жэсты. Усё ў такім чалавеку як бы паасобку жыве. Гэта спачатку. Ну чаму абавязкова чорныя цыганскія вочы, калі і бровы і валасы чалавека, што тырчаць з-пад выцертай зімовай шапкі, і гэты дрымуча-няголены твар — усё такое светлае, ільняное, саламянае? Ці да чаго ж не пасуе яму гэты здзіўлена доўгі нос, на якім расселіся аж дзве гарбінкі (чамусьці аж дзве!), калі ў чалавека такі спакойны, разумны, прасторны белы лоб! Навошта такія тонкія і крывыя ногі, абкручаныя анучамі, калі сам чалавек і стройны і дужы, і гэта можна ацаніць, не зважаючы на шырокую шэрую світку, якую ён туга перацяў папругай з вялізнай камандзірскай спражкай-зоркай? Усё спачатку здаецца такім неабавязковым, неадпаведным, амаль недарэчным, як і ягоная зімовая скураная шапка сярод сакавітай зеляніны.

Так, тады, разглядаючы яго, што стаяў між кустоў, незнаёмага, які ішоў да нас, я не ведаў, кім ён для нас стане і што нас абаіх чакае, што мы перажывём… Але цяпер, калі ўсё ўжо было і засталася толькі памяць, цяпер у мяне раўнівае пачуццё, што Рубеж толькі такі і мог быць, што другога маёй памяці і не трэба. Чалавек, калі заняў назаўсёды нейкае месца, *кропку* ў тваім сэрцы, ён не свабоднае месца заняў, якое мог бы запоўніць і нехта другі. *Ён не* займае, — ён сам творыць гэтую светлую кропку, без яго яе і не было б у табе…

Вінтоўка ў мяне за спіной, я як скуты спакойным позіркам незнаёмага, які набліжаецца. Не, я не думаю, не хачу думаць, што гэта паліцай, але ўсё адно больш звычна сябе адчуваў бы, каб вінтоўка была бліжэй. А зняць, выхапіць яе з-за спіны чамусьці нязграбна пад позіркам гэтага чалавека. Будзе палахліва, і знарок, і дэманстратыўна.

Незнаёмы нешта сказаў, спытаў у Глашы, тая адказала, расказвае яму, абое паглядзелі на мяне, незнаёмы з раптоўнай узнепакоенасцю і як бы збянтэжана. Усё ўва мне загуло, паслабелі калені. Я амаль зразумеў, пра што яны гавораць і чаму так зірнуў чалавек.

Калі глядзіш на пражытае, яно ўяўляецца адной-адзінай лініяй; наперад зазіраеш — разбягаецца пучок дарог, толькі не ведаеш яшчэ, якая з іх адзіная. Пражыў месяц, дзень, мінуту, і тое, што было пучком, абшморгваецца, агаляецца, як галінка, працягнутая скрозь шчыльна сціснуты кулак.Але нават пасля таго, як застаўся толькі гэты голы дубчык, чалавек будзе зноў і зноў азірацца, з безнадзейнай спробай вярнуцца да таго моманту, калі ўсё магло быць па-іншаму. Калі не было гэтай аголенай, бязлітаснай, адзінай праўды…

Я ўжо ведаў, бачыў праўду — чорны тунель, уваход у яго. Але ўсё яшчэ з надзеяй некага маліў, не ўваходзіў: толькі не гэта, толькі не туды! Я ўжо хаваўся за сваю глухату, якая аддаляла ўсю праўду, аддаляла імгненне, калі больш не застанецца надзеі.

А незнаёмы ўжо ішоў наперадзе, паказаўшы нам, каб ішлі за ім. Крывыя ногі яго, абутыя ў сырамятныя, з каровінай скуры, пасталы, блытаючыся, ірвуць густую асаку, што расце проста з вады. Глаша зачэрпвае далонню ваду і змывае з сябе гразь, адламала галінку і хацела сцерці гразь з майго парудзелага мундзіра, але я адхіснуўся, мяне палохае яе раптоўная вінаватая клапатлівасць, яе апушчаны позірк, я ўсё стараюся не ўпускаць у сябе тое, што ўжо ўвайшло ў мяне, што ўжо ведаю…

На другі «востраў», яшчэ больш парослы алешнікам, мы пераходзім па кладках, затопленых, апушчаных у рэдзенькую багну. (Потым мы даведаліся, што такая ж кладка ёсць і да першага «вострава». А кароў патапілі паліцаі і немцы, калі

спрабавалі вывесці іх з «вострава». На другі «востраў», куды перабеглі жыхары і дзе былі пакінуты, схаваны параненыя партызаны, яны не пайшлі, і гэта выратавала людзей.)

Узброіўшыся доўгімі жардзінамі, якія наш праваднік выцягваў з кустоў, абапіраючыся на іх, мы ступалі ўслед за незнаёмым па схаваных у багне слізкіх жэрдках. Іх дзве, а дзе і тры, ногі трэба ставіць упоперак, і таму ідзём мы, рухаемся не прама, а бокам. Усё гэта неяк памагае хавацца ад самога сябе, пераконваць сябе, што нічога яшчэ не вядома, дойдзем да месца, і тады даведаюся, толькі тады!..

На другім «востраве» нас ужо чакаюць. Жаночы натоўп, дзеці, некалькі партызанаў са зброяй стаяць каля кустоў, глядзяць на нас, пра нешта яшчэ здаля распытваюць нашага праваднікa. Сышлі мы з кладак на бераг, у мяне таксама пытаюцца, пасля здагадаліся (ці сказалі ім), што я глухі, і мяне перасталі чапаць, толькі дзеці яшчэ з большай цікаўнасцю пачалі глядзець на мяне, вывучаць. Звычайныя на той час дзеці: абкураныя дымам, пакусаныя заеддзю, з вялікімі ад голаду вачамі, і занадта сур'ёзныя, але ўсё роўна вельмі цікаўныя, прагнуць зразумець, каго яшчэ прыгнаў на іхні бераг той свет, дзе нешта небяспечнае, страшнае адбываецца? Праваднік нешта сказаў, і позіркі жанчын зноў знайшлі мяне. Глядзяць, глядзяць; мусіць, вось так я глядзеў на Сашку, калі ён поўз па чырвонай сцежцы з ненатуральна доўгай, адарванай нагой, і Сашка вось так у маіх вачах убачыў, што з ім адбываецца нешта страшнае…

Ніводнага знаёмага аблічча, людзі не з нашай вёскі, але на мяне глядзяць так, нібы пазнаюць, пазналі. Нібы па металічнай полай трубе ўдарылі, загуло, заныла ўва мне ўсё — у нагах, у руках, адразу набрынялых цяжарам. Я сеў у асаку, Глаша апусцілася на кукішкі, нібы даўно чакала таго, зняла з маёй галавы мокрую пілотку і выцерла халодны пот з майго твару.

Мяне палохае пакутная рысачка, што торгаецца ля адразу пастарэлага Глашынага рота, ненавіджу гэтую ўпартую і прагавітую жаночую шкадобу, шукаю наўкол сябе нешта другое, але нават у дзіцячых вачах *гэта*, што бязлітасна асуджае на праўду. З безнадзейнасцю злоўленага я ўсё адно шукаю выратавання, хаваюся ў паспешлівую думку, што я ж во глухі, не чую, а таму ўсё-такі нічога не ведаю напэўна. Але я ў кальцы — твары, вочы, бязлітасна шкадуючыя! — адступаць ад праўды няма куды. І раптам з'яўляецца, дурманіць, супакойвае яшчэ адна шалёная думка, што маму, сястрычак, што ўсіх вяскоўцаў *ужо не заб'юць, ніколі не заб'юць*… Смерць іх схавала ад забойцаў, ад новых забойцаў…



На гэтым, як на апошнім павуцінні, я правісеў адно толькі імгненне. Адхіснуўшыся ад самога сябе, які шкадуе не іх, забітых, спаленых, а ўсё яшчэ сябе, я цяпер ужо сам накіраваўся насустрач болю. Увесь адкрыўся і ўраз захлынуўся ім, у слязах. Ускочыў на ногі, адбег як далей і лёг у жорсткую асаку, прыціснуўся тварам да зямлі, з якой выступае халодная вільгаць. Але зямля не адбірае, не высмоктвае з мяне боль, ды і я не аддаю. Я ўжо шукаю яго, боль, караю сябе, што столькі часу не ведаў, што іх ужо няма, нават адпіхваў ад сябе праўду. Не прыйшоў, не ўратаваў, не павёў ад пагібельных пакут, ад смерці!..

Людзі зноў падышлі і абкружылі мяне, сталі нада мной. А я то падаю ў кароткае выратавальнае забыццё, то вяртаюся да явы. У дзяцінстве, хворы, я нават у забыцці помніў, што побач усё сядзіць мама. І зараз мне гэта ўяўляецца. Ява і трызненне, як два люстэркі: кожнае адбівае глыбіню другога, забірае яе сабе і зноў вяртае, ужо як сваё… Я дома, я ляжу за нашай квяцістай шырмай; несправядліва пакрыўджаны мамай, злосны на яе, плачу і ўяўляю, як я вырасту і не буду любіць яе, не буду любіць… Вінаватая, добрая, ласкава іранічная рука кранулася маёй патыліцы, пагладзіла валасы, я адразу забыў сваю дурную дзіцячую злосць, схапіў руку… І тут жа вярнуўся да явы.

Не, гэта не мама! Але і не Глаша, як мне тут жа падалося. Незнаёмая жанчына сядзіць, пагойдваючыся, каля мяне, твар цёмны, распухлы, страшны. Нешта кажа, мармыча, і я нават чую яе голас, але не слухаю, ведаю, што мне толькі здаецца, быццам я яе чую:

— Дзе ж ты быў, сынку, я ўжо думала, што няма цябе, не ўбачу, плакала-гаравала, думала, забілі…

Але і другія галасы мне трызняцца:

— Цётка Маланка, цётка Маланка, гэта з Белых Пяскоў хлопец, не ваш, цётка Маланка!

Я ляжу тварам да зямлі, але ўсё бачу: як стаяць нада мной людзі, як паднялі і павялі тую жанчыну з распухлым цёмным тварам… Ды не ж, гэта я чую. Я зноў чую!

— Флёра, Флёрачка, — голас Глашы.

Цяпер яна на месцы той жанчыны, на месцы маёй мамы…

І яшчэ галасы:

— Юстын таксама з Белых Пяскоў, каторы ляжыць у нас, абгарэў, спалены.

Не, гэта праўда, я чую!А што яны пра Юстына гавораць? На плоце бялелася клочча бялізны, яго ці нашай, на апусцелым агародзе яго печ побач з нашай. Сын яго ўтапіўся, а стары

Юстын ішоў праз вёску і ўжо ведаў, што ў хаце труна, што сын — тапелец…

Шум пульсуе ў маёй галаве па-ранейшаму, але праз яго праразаюцца, нахлынаюць галасы: дзіця плача, ушчуваюць яго, пра Юстына гавораць… Як бывае, калі далонямі закрываеш і адкрываеш вушы. Але чакай! Юстын? Дык ён тут?

— Дзе ён? Юстын!.. Гэта наш сусед. Дзе ён?

Я ўскочыў на ногі. Нешта ўва мне ўжо палохае іх, гэта я заўважаю па дзіцячых вачах і нават па Глашыных.

Я кінуўся ўслед за натоўпам жанчын, дзяцей, што падаўся на другі край «вострава», так, быццам яшчэ можна нешта перайначыць, выправіць, вярнуцца на два дні назад. Мяне вялі праз увесь «востраў». Гэта толькі назва «востраў», а на самай справе — усё тое ж балота, толькі сушэйшае, парослае асакой і хмызамі. Ногі па костачкі ў вадзе, у вадкай ускаламучанай твані. На пажаўцелым галлі — знак таго, дзе сямейнае жытло, — валяецца апратка, сядзяць і ляжаць дзеці, каторыя зусім малыя. Чуцен іх кволы плач, і ў ім нават гукання няма, а звыклая скарга на сырасць, на кусучых рудых аваднёў, якія абляпілі іх цельцы. Нідзе нават дымка не відно, мусіць, «рама» ўвесь час вісіць над лесам.

Пад адзіным на гэты «востраве» вялікім дрэвам на бярозавым галлі ляжыць нешта чырвона-сіняе, нешта ў асклізла-мокрай лусцэ. У вачах пацямнела, калі мне пачулася (ці гэта мне здалося) сухое парыпванне пры кожным уздыху-ўсхліпе таго, хто, мабыць, і ёсць мой сусед Юстын. Каля яго сядзіць старая з галінкай, грэбае над ім ёю, ціхенька адганяючы ад абпаленага, здаецца, само паветра, яго цяжар. На нас яна і не зірнула.

— Юстын, Юстынко, вось прыйшлі да цябе, з тваёй вёскі партызан, твой сусед, Юстынко!..

Жанчыны, некалькі галасоў адразу, аклікаюць спаленага чалавека, галасы зліваюцца ў суцэльны лямант, — ён для Юстына, для мяне, для гэтага балота, для сутоністага неба.

— Ты нас чуеш, Юстын? Прыйшлі да цябе, вось і яго мамку спалілі, усіх вас пабілі, папалілі. Зачынілі ў хляве і запалілі, так, Юстынко? Усіх: і ўнукаў тваіх, і нявестку, і ягоную мамку, усіх… А ты выпаўз з агню, ты прасіў, каб дабілі, бег за імі і прасіў, так табе балела… Як яны, Юстынко? Ты бег, ты прасіў, маліў забіць і цябе… Смяяліся, яны смяяліся, Юстынко? Смяяліся: «Жыві, бандыт!.. На расплод…»

Асляпляльна рэзнула нешта па вачах, наўкол стала бела-бела; бяроза, лускавіта парыпваючы чалавек на зямлі, асака, балота, людзі, якія стаяць каля мяне, неба, раптоўна ўспыхнулі празрыстай, нясцерпнай беллю і, тут жа пачарнеўшы, усё прапала разам са мной.



…Я ў нейкім буданчыку. Знадворку ходзяць, сядзяць на кукішках, нешта робяць людзі. Ніяк не зразумею — трызненне гэта ці ўсё, што я помню, было трызненнем. Але не, усё было і ўсё асталося. Я — гэта той, у каго ўсіх забілі. Мама, малыя… Я спалохана заплюшчыў вочы, пачуў ужо свой уласны стогн.

Знадворку галасы, прастуджаныя, зласліва-вясёлыя (значыцца, праўда, што я стаў чуць!).

— Гэй, Сцёпка-Фокуснік, прыдумаў бы хлебца. Што з твайго пудзіла — ні малака, ні мяса!

— Ніяк не нагуляецца, цацку яму давай!

На мне нейкая незнаёмая, чужая кашуля з неафарбаванага вясковага палатна, а перад вачамі, павешаны ў будане на сучок, сушыцца памыты мой кіцель. Вінтоўка пад локцем ляжыць і папруга з падсумкамі, нехта зняў іх з мяне.

А гэта Глаша, падышла з рэчавым мяшком у руцэ, пастаяла каля параненых партызанаў (я зразумеў ужо, хто гэта там размаўляе, смяецца), ёй чамусьці абрадаваліся да крыку. Партызан, з няўклюднасцю кульгавага падняўшыся з зямлі, паставіў каля сябе вялізнае, зробленае з ануч пудзіла чалавека і крычыць:

— Глашанька, пабудзь з намі. Ці чулі, калекі, як салаўі зноў запузырвалі? Добрыя ў нас салаўі, Глашанька?

— Ідзі сюды, Глаша, не слухай гэтага бязногага. Салаўі яму прымроіліся!

— Ад бязрукага чую! — весела адгукнуўся цаніцель салаўіных спеваў.

Глаша звонка, як некалі ў нашым лагеры, смяецца, уздымаючы вузкія плечы.

— Ой, ачнуўся! — прытворна, як здалося мне пасля яе нядаўняга смеху, узрадавалася Глаша, зазірнуўшы ў мой буданчык. Прысела, глядзіць на мяне, а крычыць некаму знадворку: — Кацярына Аляксееўна, вочы адкрыў, глядзіць!

Яшчэ нехта падышоў паглядзець на мяне, вялізная, ахінутая цёплай хусткай галава. Пачала кашляць; цяжка адкашляўшыся, галава спытала прастуджаным, хворым голасам:

— Табе лепей, хлопчык?

— Зараз мы пакормім яго, — завіхаецца Глаша, развязваючы рэчавы мяшок. — А то мы ўжо за яго баяліся.

Я для Глашы ўжо «ён», «яго». Затое вось пазнаёмілася з другімі, салаўямі яе дражняць!

— Гэта што? — паказваю я на чыстую кашулю.

— А што? — бязвінна здзівіліся яе сінія вочы. — Нічога. Тваю вымыла.

— Добра, ідзі, я зараз.

Штаны на мне таксама чыстыя, вымытыя — здымалі, надзявалі, чорт ведае што!

Я, лежачы, зацягнуў на штанах папругу, якая аказалася нязвычна доўгай, заправіў кашулю. Рукі і ногі нязграбныя, ватныя, паколвае па ўсёй скуры, асабліва на спіне. Нешта ў далоні замінае, як прыклеілася — сухая, абмерлая, нечуллівая скура.

— Мы ўжо думалі, што тыфус, — кажа Глаша, корпаючыся ў рэчавым мяшку, раскладваючы на анучу ежу.

Нешта вочы мае баляць пасля той белай успышкі? (Дарэчы, пад вечар яны балець перасталі. Потым, калі зразумеў, што слепну, я пра гэта расказваў урачам, пра асляпляльную ўспышку каля абгарэлага чалавека, але яны ветліва і неяк нязграбна слухалі пра гэта і цікавіліся: ці не было фізічнай траўмы? Была, была і фізічная!..)

Мяне чакаў абед: халодная печаная бульба, яблыкі. Глаша дастала з мяшка яшчэ нешта, загорнутае ў альховае лісце, панюхала.

— Памятаеш свінню, калі мы былі ў тваёй вёсцы? Перабегла яшчэ вуліцу. Хлопцы пазаўчора хадзілі ў Белыя Пяскі… Толькі без солі. Пакінулі табе, а яно вось… Нічога, есці можна.

Узяўшы яблык, я паспяшаўся адысці далей ад гэтага мяса. Мяне хістала.

Параненыя партызаны (чалавек дзесяць пад брызентавай стрэшкай, а трое, каторыя дужэй, знадворку) адзначылі маё ажыўленне гучнымі рэплікамі:

— Галоўнае — на ногі ўстаць.

— Было б на што ўстаць.

— Будзеш, братка, вартаваць «востраў», а то бачыш, якія тут ваякі.

Я запознена паздароўкаўся, мне адказалі. Хоць я хаджу на нагах, а яны ляжаць ці бездапаможна сядзяць, але са мной размаўляюць, нібы я самы хворы тут.

Адзін з партызанаў захоплены дзіўнай работай — з ануч і дубцоў змайстраваў ляльку ў чалавечы рост, а цяпер малюе на фанерцы, што павінна азначаць твар, знаёмую фізіяномію: вусікі, акуратную хуліганскую грыўку, круглы разяўлены рот.

Партызан у зімовай шапцы, той, што сустрэў нас на першым «востраве» і прывёў сюды, стаіць, абапёршыся на вінтоўку, і гутарыць то з майстрам, то з яго лялькай:



— Не то страляць у цябе, ануча старая, не то казыраць! Малайчына, Фокуснік, задаеш немцам задачку… Ну, што вочы вылупіў? Намалявалі цябе, а ты ўжо і гарлапаніць! Глядзі, Сцяпан, на цябе крычыць. Намалюй яму за гэта крывое вока.

Сцяпан сядзіць, падклаўшы пад сябе мыліцу, у яго занадта, цудоўна прыгожы, тонкі твар. І ўсё ўсміхаецца, і водбліскі ягонай усмешкі на Глашыным твары. Нават калі яна не глядзіць на яго.

— Я штук пяць іх ставіў ужо, — кажа Сцяпан-Фокуснік, ускокваючы на здаровую нагу і падымаючы з зямлі «Гітлера», на якога і абапёрся.

(Сцяпан увесь час і вельмі жвава то садзіцца, то ўскоквае, хаця другая ягоная нага ў цяжкіх лубках.)

— Абодва аднаногія, — крычаць з-пад брызенту, — што Фокуснік, што «фюрар»!

— Абыдзецца! — кажа Сцяпан, усміхнуўшыся Глашы. — Любата на іх глядзець? Пад'едуць на машынах, на матацыклах і глядзяць, як папуасы. Як так, хто адважыўся?!. І што рабіць, не ведаюць. Зачапіць — баяцца, што замініравана, гранату кінуць — таксама нельга, бо «фюрар» жа. Абсмяешся! Можна шчоўкаць, як цецерукоў! Зразумеў, Рубеж? Дзейнічай!

— Зразумеў! — абазваўся мой праваднік. — Толькі я яму зраблю начынку, вантрабянку з толу. Ён у мяне пабрэша!

— Эх, мне б з вамі! — раптам засумаваў Сцяпан.

І адразу Глаша зірнула на яго. Да чаго ж яны адно аднаго чуюць. Я ўсё прыкмячаю, нават нейкім абвостраным зрокам. Але ўсё ад мяне як бы збоч. Нейкая паласа пралягла паміж мной цяперашнім і ўсім, што нядаўна было такім важным. Тое, што я бачу, заўважаю, што адбываецца па-за мной, адразу ахінаецца агульным горкім пачуццём, якое поўніць мяне да краёў, і раствараецца ў ім, нават само пачуццё не робіцца ад гэтага мацней ці вастрэй.

(Вочы Сцёпкі-Фокусніка мне асабліва помняцца: светлыя і вясёлыя да шаленства. А твар няпраўдападобна прыгожы, зусім дзявочы. З доўгімі чорнымі вейкамі. Я столькі разоў потым уяўляў, як усё здарылася тут праз сем ці дзесяць дзён: як падбегам прыкульгаў ён з мыліцай адтуль, дзе трашчалі нямецкія аўтаматы, кінуў долу пустую вінтоўку, сарваў з пояса гранату і сеў пад брызентам, падцягнуўшы да сябе мяшок з толам; як папаўзлі да яго з усіх бакоў, нібы да збавіцеля, параненыя і ён укладваў іх галовамі да сябе, прыспешваў. Усе тварамі да зямлі, а ён вось такімі ж шалёна-вясёлымі светлымі вачамі апошні раз за іх усіх глядзеў на свет. І апошні, хто бачыў гэтыя вочы, — Глаша.)

Уторкнуўшы пудзіла ў балотную зямлю і падхапіўшы з долу мыліцу, Сцёпка-Фокуснік аб'явіў:

— Хай будзе «фюрар шосты»!

— А ў нас у сорак першым, — не змаўкае праваднік (гаварун ён, і яму ўсё адно, слухаюць, не слухаюць), — у нас, як прыйшлі вось яго малайцы, найперш склады вывезлі, а семкі (не ведаю, навошта іх было столькі на бабруйскіх складах), семкі не забаранялі браць, ды яшчэ цукар з пяском, ну і стаялі ў чэргах людзі, а адзін наш, са Слуцка, вельмі ж быў падобны на гэтага з вусікамі. А тут ішоў немец, прыпыніўся, глядзіць! І ўсе чакаюць, што будзе. Стаяў, глядзеў, думаў, а потым — плясь па фізіяноміі! За тое, што на фюрара ягонага пасмеў быць падобным? Ці рахункі з фюрарам зводзіў? Нават казалі, што паляк або славак, а не немец… Ну, добра, браткі, што вам прынесці? Заказвайце.

— Задушыце скора сваёй бульбай: халоднай і без солі, — сказаў Сцяпан-Фокуснік.

І другія падхапілі:

— Дойдзеш з вамі і без немцаў.

— Хлебца б расстараліся, а то выпаўзуць, дзе бліжэй — і назад!

— Добра яшчэ, што вяртаюцца. Я на іх месцы даўно б драла даў. Надта вы каму трэба, бязногія, сядзі з вамі, чакай доўбні. Праўду я кажу, Рубеж?

Рубеж (мой праваднік) усміхаецца, зусім не збянтэжаны такой атакай. Грэбаючы тонкімі худымі нагамі па асацэ, падышоў да мяне:

— Пойдзеш з намі, хлопец? Не, не сёння! Адпачні, а то і праз багну не пралезеш. Тут, бач, ратоў колькі, і якія зубастыя, бачыш?

…«Рама» праляцела высока, роўненька, як па дроце. Здавалася, яна толькі крэсліць свае нейкія нябачныя лініі, а да нас, да «вострава» ёй няма ніякай справы. Праляцела, мы выйшлі з кустоў і зноў памахалі жанчынам і параненым. Яны застаюцца; мы, чацвёра, адыходзім. Паміж намі ўжо кладкі. Глаша стаіць побач са Сцёпкам-Фокуснікам. Прасілася з намі, але камандзір нашай групы (параненыя яго называюць «камендантам вострава») у сваю чаргу папрасіў яе:

— Калі будзеце настойваць, я дазволю. Але трэба некаму з імі застацца. Гэты раз мы ўсе чацвёра ідзём, і далёка — да чорта ў зубы. Трэба хоць нейкія запасы зрабіць. Пакуль яшчэ можна.

Наш «камендант» — ленінградзец, пра гэта гавораць, як пра ягоную асабістую вартасць. І яго далікатнае «вы», нават з падлеткамі, і сарамлівая маўклівасць, гатоўнасць доўга і складана тлумачыць тое, што іншы камандзір вырашаў бы адным «так» ці «не», і сама юнацкая стройнасць гэтага сіваватага, аброслага шчэццю чалавека ў чырвонаармейскіх абносках — усё для нас месціцца ў адным паняцці «ленінградзец», афарбавана ім і афарбоўвае яго. Карацей, «камендант» нам падабаецца, і таму вельмі дарэчы, што ён менавіта з таго горада, які ты хоць і не бачыў ніколі, як не бачыў таямніча-цудоўнага паўночнага ззяння, але без далёкага, неназойлівага існавання якога не ўяўляеш ні сябе, ні свету.

— Я і яго не браў бы, — кіўнуў у мой бок «камендант». — Гэта ж Рубеж надумаў.

Невясёлыя мы ішлі, нібы ўсё наперад ведалі. А тут яшчэ гэтая цётка Храмеліха! Прынесла Глебу Васільевічу, «каменданту» нашаму, анучы, памытыя і сухія, хоць і кожны дзень імжэў густы дождж.

— Дзе вы, цётка, сушылі? — здзівіўся Глеб Васільевіч. — Агню мы быццам не палім.

— Сакрэт ёсць, — сказала кабета, — насіце здаровенькі.

Але дзяўчынка выдала цётчын сакрэт:

— Цётка Храмеліха на сабе сушыла, пад кофтай.

Ленінградзец наш пачырванеў, нават зняў з нагі анучу, нібы не ведаючы, як цяпер быць. А тут другая кабеціна падтыкнулася, папрасіла:

— Вы хоць не пакіньце нас адных, хлопчыкі.

— Ды што мы, аліментшчыкі, — сказаў Рубеж, — каб уцякаць?

— І вашы ж тут, параненыя, — яшчэ раз нагадала кабеціна.

Мы перасеклі другі «востраў». Вось яно, месца, дзе нам з Глашай тады трапіўся Рубеж. «Камендант» закурыў нямецкую цыгарэту, і ўсе па чарзе зацягнуліся па колькі разоў, каб не так наліпаў на нёба пракляты смурод. Я таксама атрымаў глыток дыму — галава адразу паплыла, закружылася. Глеб Васільевіч дакорліва глянуў на Рубяжа, узнепакоена — на мяне:

— Усё-такі дарэмна мы вас, Гайшун, узялі.

— Нічога, воўка ногі кормяць, — сказаў Рубеж, — а яму трэба падкарміцца.

Я змоўчаў, таму што мне раптам захацелася вярнуцца на «востраў».

З кустоў выцягнулі доўгія жэрдкі, спецыяльна прыхаваныя, і рушылі па кладках. Патопленыя жэрдачкі выслізгваюць з-пад ботаў, а тут яшчэ захлёбваешся смуродам: каровіны тушы зусім

усплылі, іх нібы болей стала. А Рубеж цягне яшчэ і «фюрара», Сцёпкаў падарунак. («Абмяняеце ў фрыцаў на галеты».) Гэты смешны даўганосы і тонканогі Рубеж ухітраецца нават на слізкіх кладках пускацца ў разважанні, гаворыць, гаворыць, і за сябе, і за ўсіх нас, і за «фюрара», і нават за распухлых «бегемотаў».

— Давай, давай, цыркачы! Гэта вам не каля цётак грэцца. Цягні мяне, нясі, калі дурань! (Галаском фюрара.) Пы-ых! Па-а! Нюхайце нас, брыдоту. (Глухім басам нерухомых «бегемотаў».)

…Але галоўны суразмоўца Рубяжа, як выявілася, — сам лёс, доля партызанская. Балбоча Рубеж з ёю ўвесь час, з ёю і ад яе імя. Як са сварлівай жонкай. Ад мармытання яго (а мы ўжо двое сутак цягаемся па акрузе) пачынае здавацца, што нас у групе больш, што побач нехта пяты — дурная і порсткая кабеціна, ад якой няведама чаго можна чакаць. Тая самая партызанская доля.

— Вось я на вас яшчэ зверху папырскаю, а то мала вымаклі ў балоце, — здзекліва абяцае сварлівым голасам Рубеж, зірнуўшы на нізкае неба.

І, нібы па ягонай просьбе, нас ужо палівае. І так усю дарогу, і ўдзень і ўночы.

«Рама» з намі завядзе гаворку:

— Вось і я! Засумавалі? А, гэта вы? Зараз, зараз, я вось толькі палятаю над вамі. Зараз прышлю з бомбачкамі.

Месяц, недарэчы яркі, раптам пачне дурнаватыя хаханькі:

— Ах, які я кругленькі і светлы! А салаўёў вам не прысланьць? Магу!

— Раскаркаўся! — злуецца на Рубяжа наш чацвёрты партызан, хваравіты, бледны, нават пад жменькай гразі, — Скараход. Ён з першага кіламетра закульгаў, брыдзе, нязграбна ставячы ногі і пахістваючыся налева-направа. Скулле абсела чалавека, ды яшчэ ў самым непатрэбным, нацёртым, месцы. А тут яшчэ прозвішча — Скараход: сапраўды нейкая суцэльная насмешка з чалавека!

— Ну навошта ты гэтага псіха цягнеш? — злуецца Скараход, нібы не Рубяжу, а яму самому даводзіцца несці пудзіла — «фюрара».

— Я яго! А можа, ён мяне? — адгукаецца Рубеж. — Не было б яго, і ты б не націраў сваё скулле, сядзеў, як бог, у Мінску. Якія ж мы «вылупні» будзем, калі я кіну яго? Без «фюрара»?

Мы ўжо «каюкалы», «мукамолы», «пукалы», а Рубеж усё падбірае нам імя па нашым незайздросным становішчы: «баўтрукі», «туебні»,_«падмацакі», і цяпер вось — «вылупні».



Што ні здараецца з намі і ў нас па дарозе — нібы так і павінна быць: а чаго яшчэ хацець ад «вылупняў»? Зайцава капуста замест галет, на якія мы разявіліся, — а што, для «мукамолаў» і гэта аж занадта! Пуднулі нас, пабеглі, і Скараход згубіў у гразі дзіравы чаравік, застаўся з адным — на тое і «вылупні», «дзярыбздні», каб губляць! Нічога вясёленькага ў такой весялосці няма, але як бы і сапраўды лягчэй ад гэтай непавагі да ўсякай няўдачы, што з намі здарылася ці можа здарыцца.

Адзін Скараход і стамляецца, і мокне, і галадае, і злуецца, і палохаецца — усё ўсур'ёз, пагарджаючы блазенствам, якім Рубеж заразіў і мяне і нават нашага «каменданта».

І калі трэці раз налезлі на засаду і перлі, як ласі, праз гарэлы, звонкі ад куль і рэха бор, Скараход у адным чаравіку бег першы, а потым стаў і здзекліва глядзеў, нас чакаючы: ну што, усё яшчэ весела?! І як бы на злосць (не Скараходу, а некаму і нечаму наогул), «вылупні» пачалі душыцца смехам, а Рубеж у трэцяй асобе пачаў расказваць, як падыходзілі да ўзлесся, як «мукамолы» глядзелі на сытых нямецкіх коней, а Скараход нібыта завыў па-воўчаму — і як ім, «вылупням», па зубах, па зубах! І як «пукалы» драла давалі: «Ногі мае, ногі, нясіце маю жопу!» І далей карцінкі: як знойдуць немцы кінутага Рубяжом «фюрара» і як накрычыць пудзіла на іх за тое, што ўпусцілі Скарахода, «вылупняў»…

Я ўдзельнічаў у гэтай дзіўнаватай весялосці, але мяне не пакідаў, а ўсё ўзрастаў нейкі ўнутраны жах перад самім сабой. Чаго гэта я, няўжо гэта я?..

Ідзём насустрач пажарам і начной страляніне, усё навокал перайначана заравам, трывожнай невядомасцю і тым, што адбылося са мной. Усё не магу паверыць, згадзіцца, што я — гэта той, у каго так страшна забілі маму, сястрычак, што гэта і ёсць я! Што вайна, што немцы, смерць побач — гэта ўжо не перашкаджае мне *быць*. Але на свеце ўсё яшчэ няма мяне, у каторага ўсіх забілі. Але і ранейшага мяне няма. Усё раблю, як яны, Рубеж і Глеб Васільевіч, яшчэ больш, чым яны, весялюся, кплю з «вылупняў» і з гневу Скарахода, але нешта чужое, дзіўнае цяпер ува мне ёсць, прыкметнае нават староннямy: я чуў, як Рубеж сказаў у мяне за спіной: «Навошта я, дурань стары, узяў хлапчыну? Вунь што з ім робіцца!»

Узлесак і дарога праз луг, начное поле адпрасавана, адлакіравана святлом пажараў і ракет, якія скачуць над даляглядам. З цемені раптам вырываюцца трасы куль, што, падсцерагаючы, шукаюць нас. Спачатку яны бязгучна памчаць і толькі потым, нібы металічны ланцуг павалакуць, працягнуць — та-та-тах…

Сярод поля цень твой робіцца доўгім і мнагаслойным: зарава, месяц, ракеты прагавіта ловяць, спыняюць, паўтараюць цябе, тваю прысутнасць, падвойваюць, патройваюць, расцягваюць. Мы брыдзём, стомленыя, галодныя, то наступаючы на свае доўгія, нібы дарога, цені, то несучы іх узбоч, то валакучы за сабой. Нам ужо надакучыла падаць, мітусіцца пры кожнай ракеце. За нас усё гэта нашы цені робяць. Узляціць ракета — цень спалохана, па-сабачы кінецца да тваіх ног, скурчыцца і панікне; ракета апускаецца, згасае — цень імкліва расцягваецца, зносіць тваю галаву, плечы кудысьці ў поле. А вакол рухаюцца, варушацца паўцені ад зарава і месяца, напаўзаюць адна на адну і тут жа зноўку палахліва пакідаюць цябе, як толькі ўзляціць блізкая ракета.

Нарэшце мы дасяглі выратавальнага жыта, да яго Глеб Васільевіч трымаў кірунак ад самага ўзлеску. За жытам дарога, якую нам трэба будзе мінуць. Утапілі свае цені ў радкаватым вытаптаным жыце, брыдзём, як па глыбокай жоўтай вадзе. Месяц над намі круглы, вялікі.

— Не, вы гляньце, — шэпча Рубеж, — як усё расце ў вайну. І колькі самасейкі замест чалавечага жыта. Расце ўсё, нібы злуе. А, не ўмееце вы жыць, тады — я! Раз не ўмееце, як людзі!

— Вы Спіноза, Рубеж, — кажа Глеб Васільевіч. Ён напружана ўслухоўваецца ў татаханне кулямётаў, прыкідваючы, дзе нам лепей зрабіць кідок праз дарогу.

— Забіваюць чалавека — лес адразу на вяршок падскоквае, — мармыча Рубеж нам у патыліцу.

— Цябе стукнуць, — не вытрымаў Скараход, — на два падскочыць.

Скараход, як толькі прыпынімся, пачынае абкручваць анучай сваю неабутую правую нагу, абвязваць яе. Ніяк не адважыцца кінуць і другі чаравік.

— І правільна! — згаджаецца Рубеж. — Калі самі не ўмеем. Заб'юць — і буду расці, усе дарогі, усе палі зарасту, запоўню.

Слухаем далёкі перастук кулямётаў і незразумелую цішыню белай ад месячнага святла дарогі, жмуток якой нам відзён, а побач шэпт, мармытанне і дзіўнаватыя вочы чалавека, якія нібы моляць: «Ды спыніце мяне, бачыце, што са мной, гэта не я, гэта са мной!..»

Я раптам падумаў і, здаецца, зразумеў, што чалавек гэты тужліва баіцца, ён амаль як хворы. У другога гэта выявілася б іначай, а ў Рубяжа — у няспыннай сур'ёзнай ці смяшлівай гамане, у якой ён нішчыць свой страх. І зусім ён не дражніцца



з самою смерцю, як лічыць Скараход, зусім наадварот. Страх перад уласным страхам, тужлівым, знясіленым, — вось што мучыць, прымушае яго быць такім: ён увесь час рыхтуецца, рыхтуе сябе да нейкай рыскі, якую заўжды бачыць, пра якую не ўмее забыць, як другія ўмеюць.

— Зараз мы вас вылавім з гэтага жыта, — мармыча Рубеж, — дзе вы тут, мілыя?

І праўда, шчоўкнула ракета, гэты раз блізкая. Узнялася, зрабіла дугу і ўпала метраў за сто ад нас. Мы засталіся, хто на кукішках, хто на каленях, у жыце, налітым, як акварыум, жоўтым святлом. Ракеты адна за адной шчоўкаюць, узлятаюць, павісаюць вогненнымі кроплямі, нібы выглядаючы, куды падаць, і тут жа абрынаюцца ўніз.

Можна ўцячы, але ўцякаць не мае сэнсу. Немцы недзе тут, побач, але менавіта гэта нам трэба: засесці бліжэй да іх, але каб пра гэта яны не здагадваліся. За іх кошт мы разлічваем разжыцца чым-небудзь больш каларыйным, чым бульба і зайцава капуста, вось і трэба сядзець і чакаць моманту. Цяпер толькі разабрацца, якія тут немцы, дзе ў іх што. Праўда, мы разлічвалі ісці далей, але калі па дарозе гэтай сядзяць нямецкія пасты, засады, значыць, па ёй хутка пацягнуцца абозы, статкі. Глеб Васільевіч услухоўваецца, прыкідвае і ўсё чапае сваю невялікую бародку — прывыкае да яе.

— Не падабаецца мне, — кажа Скараход.

Ён раптам узяўся размотваць анучу, адкінуў яе. Зняў свой адзіны чаравік і таксама адкінуў са злосцю. Падрыхтаваўся да нечага.

Так, няўтульна будзе ў жыце, калі сыдзе ноч, якая, як цёмны калідор, звязвае нас з далёкім лесам. Дзень надоўга адрэжа нас ад лесу, а без яго нам надта не па сабе. Хоць бы які-небудзь лясок. І як панясём, пагонім мы што-небудзь па адкрытым полі: тут каб і сваё не кінуць!

Калі мы яшчэ ішлі па жыце, справа чарнелася нешта, здаецца, хмызы. Туды і скіраваны цяпер нашыя думкі, нашыя позіркі. А следам і ногі нашы падаліся — ціхутка, крадком. Расістае жыта халодзіць калені, плашч мой (падарунак «вострава») набрыняў вадой, зрабіўся як бляха. Ракеты згаслі, не ўзлятаюць болей, аселі, і зарава над гарызонтам, ноч перадсвітальна пашарэла. Жыта скончылася, а вось і хмызняк, што ўзлазіць на пагорак. Глеб Васільевіч, не гледзячы, крануў, штурхнуў падказваючы рукой тых, хто стаяў бліжэй, мы і папаўзлі. Я і Рубеж. Крысо грубага брызентавага плашча трапляе пад калені, перашкаджае. І здаецца, што грыміць гэты брызент на ўсю акругу!

Мы былі ўжо каля бярозавых кусцікаў, калі рэзка шчоўкнула і засвяціла ракета якраз над намі. І тут жа, як абвал, загрымеў кулямёт, зусім блізкі. Нешта адбылося, жывы блізкі гук дастаў мяне, таргануўся ў самой руцэ. Нешта здарылася, гэта я адчуваў у руцэ, але ўсё не разумеў — што. А кулі ікаючым гукам упіваліся ў купіны, у зямлю каля галавы, каля самага пляча; краем вока я бачу, як імчыць да нас вогненная іголка — то прападае, то паяўляецца, як джала…

Кулямёт змоўк раптоўна, як і пачаў страляць. Але ракеты ўсё ўзлятаюць, адна за адной. Нам добра відаць, што ленінградзец і Скараход ляжаць у лугавой траве бліжэй да жыта, чым да нашых кусцікаў. Ага, вось што здрыганулася, па-жывому тузанулася ў маёй руцэ — папала ў прыклад, разбіла маю вінтоўку. Мы з Рубяжом запаўзлі ў кусты глыбей і адтуль глядзім, як заварушыўся Скараход, прыўзнімаючыся і пазіраючы ў наш бок. А ленінградзец усё нерухомы. Потым Скараход папоўз да жыта, ён рыўкамі падцягвае да сябе ленінградца, параненага ці забітага. Вось і раскідалася тое, што яшчэ хвіліну назад было нашай групай. Што мы такое цяпер і што будзем рабіць? Дзіўна, але чалавек, чым больш напружана ён прыкідвае, вырашае, што і як яму рабіць, тым больш з незразумелай, адчужанай цікаўнасцю і нават неяк абыякава пазірае: ну а што я зраблю зараз? І нібы чакаеш самога сябе, нібы цябе тут яшчэ няма.

— Усё, хана! — шэпча Рубеж. — Не пераплывуць яны сюды.

Ракеты ўжо не ўзлятаюць, немцы супакоіліся, аднак ноч, цемень, што ратуе нас, не вярнуліся, амаль ужо світанне! Мы азіраемся, ацэньваючы наша новае становішча. Цяпер мы ўжо не тое, што былі дзесяць хвілін назад, і ўсё бачым па-другому, як пасля раптоўнага кароткага сну. Ніякага тут лесу і нават лясочку няма, лапік бярэзніку, і толькі. Нас абкружае голае, адкрытае поле.

— Чакай цяпер, куды панясе, — мармыча Рубеж.

І праўда, такое адчуванне, што рэдкае туманнае світанне адносіць нас ад тых, што ў жыце і ўсё бліжэй да дарогі, дзе прытаіліся ворагі. Мы ўжо бачым гравійку — жоўта-шэрую палоску пасярод лугавой зеляніны.

І пацёк час. Ён цёк па дарозе: усё адбываецца, перайначваецца там, а мы толькі можам глядзець, чакаць.

Мы ведаем, што з жыта вось гэтак жа сочыць за дарогай і за нашым бярэзнікам Скараход, стараючыся адгадаць, што мы будзем рабіць. Каб вырашыць нешта разам, нам трэба паўзці назад у жыта, і нам вельмі хочацца гэта зрабіць, проста замань-



вае нас да сябе жытняя паласа. Але паўзці цяпер — значыцца, канчаткова выдаць немцам нашую прысутнасць. Мы так і не ведаем, выпадкова, усляпую сакануў блізкі кулямёт ці яны нас заўважылі і цяпер сочаць, чакаюць…

Толькі цяпер, калі ранак настаў, бачым, як няўдала мы выйшлі да дарогі: усё тут, вядома, праглядаецца, прастрэльваецца да самага лесу. Цяпер чакай ночы, а за доўгі дзень столькі і такога можа здарыцца! Да чаго ж моцная ў нас нелюбоў да «адкрытай прасторы»!

Набылі за ўвесь гэты час.

Каб заглушыць нудлівую тугу, млоснасць, мы з Рубяжом пачынаем снедаць. У мяшках, прызначаных пад нямецкія кансервы і галеты, ляжыць у нас дзясятак расціснутых бульбін, мы іх і жуём. Я ўсё спрабую праверыць, ці змагу страляць з вінтоўкі без прыклада. У жыце дзесяцізарадка ленінградца, але туды не перабрацца. Піць хочацца, мы азіраемся з бессэнсоўнай надзеяй, але пакуль не загаворваем пра ваду, можна яшчэ цярпець, усякай пакуце свая чарга!

— Глядзі! — шэпча Рубеж.

З-за жоўтага грудка зямлі, прыкрытага бярозавым голлем, якое наламалі, мабыць, у нашых кустах, узняўся немец. Пакруціў галавой і выйшаў на гравійку. Без каскі, у зялёнай плашчнакідцы, немец здзейсніў рукамі рух з паваротам. Жмурачыся, весела паглядзеў у наш бок. За спіной у нас узыходзіла сонца. Не, немцы не здагадваюцца пра нашу прысутнасць: не разгульвалі б яны па дарозе. Раптам немец нешта сказаў, гук яго нечаканага голасу прагучаў па-ранейшняму гучна. Сонца ружовіць мяккую гнуткасць маладых бярозак, гравійку пад нагамі ў немца. Святло гэтае лягло і на твар, і на рукі салдата, здзеклівая вясёлка блішчыць ад яго рук да зямлі. Салдат кракнуў, напяўся — з акопа азваліся смехам. Нагнуўся і ўзяў, мусіць, з нейчых рук бранклівыя кацялкі. Шоргаючы ботамі, пайшоў па гравійцы, і жыта засланіла яго.

— Вы глядзіце, — сказаў за яго Рубеж, — а я падсілкуюся як чалавек.

Ад сонечных промняў сцяна жыта як бы знутры засвяцілася, зрабілася светла-аранжавай. А там, дзе ляжыць пілотка нашага ленінградца, матляецца некалькі зусім чырвоных каласкоў. Не адразу зразумееш, што гэта кроў. Ці жывы ён цяпер? Чырвоныя каласкі ціхутка, пацяжалела гайдаюцца. Распачалі ўжо свае дзелавітае сакатанне конікі. Адзін, зялёны, шчоўкнуў аб разбіты прыклад маёй вінтоўкі, сеў мне на рукаво.

Мусіць, у немцаў там кухня, чуюцца галасы, смех, раве машына. (Кожны гук — такі раптоўны!) Затуркацелі і прамчалі паўз нас два матацыклы з устаноўленымі на калясках кулямётамі. І памчаў час, як з абрыву. Па дарозе. А ў нашых кустах нібы спыніўся, аціх пад спякотным стракатаннем конікаў. Гэта імклівасць і адначасова нерухомасць расцягваюць, раздзіраюць, нешта хочацца зрабіць, здаецца, ускочыў бы на ногі, паказаўся б, а там няхай, што будзе! Каб вырвацца з гэтага стану, я пачаў корпацца з вінтоўкай: зняў, перарэзаўшы кінжалам, пачопку, якая ўтрымлівае адбітую дзеравяшку прыклада, і прыкідваюся, прымерваюся, як буду страляць, калі настане тое самае імгненне. Яно яшчэ не падышло, не падступіла, яно недзе наперадзе, але там яно ёсць, гэта імгненне.

— Ну, дзе ж ён? — нецярпліва мармыча Рубеж. — Са снеданнем.

Даўганосы твар Рубяжа занадта сур'ёзны. Пайшоў мармытаць!

Я ўжо злую на яго, як нядаўна Скараход.

Брызентавы плашч, якім мяне ашчаслівілі на «востраве», абсыхае, святлее плямамі. Душна ў ім робіцца, як у мяшку. Трэба зняць. Вечарам можна надзець, а днём не спатрэбіцца. Не пабяжыш у ім, і наогул бегчы тут не давядзецца — няма куды. З кішэні дастаў гранату і паклаў перад сабой: чорная, круглая, з далікатна-блакітнай галоўкай нямецкая лялька-матрошка. Яе выточвалі, зараджалі, каб нямецкі салдат кінуў яе ў мяне, мне пад ногі. І не думалі, што яна будзе мне другам, страшным, апошнім маім выратаваннем. Вось так адкруціць блакітную галоўку, тарганучь і прыціснуць чорны металічны мячык да зямлі, сабой, сваім целам!.. Граната нямецкая вельмі доўга не ўзрываецца, шэсць ці нават сем секунд. І рве не надта, не далёка, толькі вельмі гучна. Яшчэ на трэцяй, нават на чацвёртай секундзе можаш адкаціцца ад яе ўбок, як далей. Ці адкінуць. Небяспечная граната. Для такой справы. За шэсць секунд чаго толькі не перавырашыш! Шэсць секунд утрымлівацца на самай строме — ці здолееш?

Нават калі перад табой нешта страшнейшае за саму смерць.

Лічыцца, што людзі таму такія бесклапотныя перад непазбежнасцю, смерцю, што не ўмеюць думаць пра яе, не ведаюць сваёй мяжы. Але тым невыносна доўгім днём я адчуваў другое: я мог ляжаць, расслабіўшы ногі і рукі, чуць, як суха пахне зямля, слухаць стракатанне конікаў, прагна глытаць апошнюю бульбіну і думаць пра далёкае шчасце з глытком вады, я ўсё гэта



мог, я слухаў мармытанне Рубяжа, злаваў ці ўсміхаўся, адным словам, жыў, як наогул жывуць, але менавіта таму, што ў мяне была магчымасць смерці, якая засланяла мяне ад чагосьці больш жахлівага. Так, на шчасце, я быў смяротны. Хаця і помніў я пра пакуты, допыты, якія чакаюць партызана, калі ён трапляў жывы ў рукі фашыстаў, але не гэта мне ўяўлялася самым страшным, страшнейшым за смерць. У міг апошняга рашэння — падарвацца! — будучая жорсткасць ворага павінна здацца такой няблізкай, а гадзіны, суткі палону — цэлай вечнасцю жыцця, калі ж граната, смерць — вось яна! І таму чалавеку не здзекі, пакуты (калі яшчэ тое будзе!) страшней самой смерці, не, тут гідлівасць, нязносная і вострая гідлівасць да таго першага імгнення, калі ты стаіш ці ляжыш перад імі, а яны глядзяць на цябе. Ужо не страх, а гідлівасць да чужой, да поўнай улады над тваім болем, жыццём, — гэта накіроўвае руку, у якой заціснута апошняя, для сябе, граната. Пераскочыўшы гэтую рыску, міг першай сустрэчы з няволяй, чалавек потым можа і не помніць пра такое пачуццё. Але яно, дзякаваць Богу, існуе, яно раптам уключаецца ў чалавеку, якому даводзіцца выбіраць саму смерць, і няма, мусіць, чалавека больш свабоднага, чым у такія хвіліны…

Цяпер шмат пішуць, клапоцяцца пра тое, каб падоўжыць чалавечы век. Аднаклетачныя наогул не паміраюць, дык чаму ж групы клетак абавязкова павінны быць асуджаны на старэнне, смерць? Добра б, вядома, каб нам, мнагаклетачным, жыць вечна. Толькі як тады з пажыццёвым турэмным зняволеннем? Яно ж яшчэ існуе на планеце. Дзе адмяняецца, а дзе і ўводзіцца. Ці з пакараннем смерцю — з ім таксама трэба лічыцца. Даўгажыхару давялося б расплачвацца безлічонымі дзесяцігоддзямі ці нават стагоддзямі жыцця за чалавечае імкненне да свабоды, справядлівасці, да свайго і агульнага шчасця. Ці настолькі ён Праметэй, каб рашыцца рызыкаваць, ахвяраваць не дваццаццю гадамі, а двумастамі гадоў жыцця? Прынамсі, практыкі на гэты конт у людзей няма…

Па-сапраўднаму свабодны той, хто гатовы пайсці на смерць, гэта і сёння справядліва. І справа не ў тым, каб доўга жыць, а ў тым, ці больш свабоднымі былі б яны, амаль бессмяротныя, ці яшчэ трэба памеркаваць-падумаць? Ці не рабскае гэта жаданне, прынамсі, на сённяшняй планеце — жыць і жыць?..

Усё гэта так, і ўсё-ткі! Калі мець на ўвазе сямнаццаці-дваццацігадовых, якіх так любіць кожная вайна, дык яны ж заўсёды ахвяравалі бессмяротнасцю! У сямнаццаць, у дваццаць тваё жыццё здаецца бясконцым. Вось яна, практыка, што мільёны разоў паўтаралася!

Так ці інакш, але Флёра, той, што ляжаў над гранатай, куды больш сімпатычны мне самому, чым ягоны нашчадак Фларыян Пятровіч, што так трымаецца за сваё аслеплае жыццё, за крыўднае каханне, якое надта ўжо нагадвае посах сляпога. Вунь як учапіўся (слыхам, усёй істотай сваёй) у Глашу, у Касача, які незразумела маўчыць ззаду, у Сярожу, які сваім існаваннем, прысутнасцю павінен абараняць ад нечага, ад Касача…

…Флёра ляжыць над чорнай нямецкай лялечкай-матрошкай з блакітненькай галоўкай, кранаецца яе гладкага холаду то падбародкам, то шчакой, чакае, калі ўсё, што адбываецца па дарозе (машыны пайшлі ўжо), раптоўна сціснецца, зараве спалохана і ўрачыста-злосна і кінецца да яго, на яго. Гэта адбудзецца, як толькі немцы даведаюцца, што Флёра тут, што яго можна забіць. Як яны ўспудзяцца і ўзрадуюцца, што гэта магчыма! Нават не верыцца, што для іх гэта так важна — Флёра!

Але тут жа і наадварот усё ўяўляецца: вось ён устаў бы, адкрыўся, пайшоў, куды надумае, а машыны ўсё гэтак жа ішлі б сваёй дарогай, бо тут жа не хто-небудзь, а ўсяго толькі ён, Флёра… Ён ляжыць над чорнай гранатай, як над прадоннем, і ведае, што ў той самы міг, калі яны абрынуцца на яго, ён саслізне ўніз… І ён глядзіць на дарогу нават з цікаўнасцю. Рубеж нешта мармыча, шэпча, расказвае за тых, хто на гравійцы і хто ў жыце, за само жыта («Асыплюся я, мышам на радасць»), а Флёра яго не слухае, ён разглядвае сваіх забойцаў.

Зніклі, адраўлі і аддымілі машыны і браневікі, пачалі рухацца абозы — вялізныя, па-цыганску накрытыя вазы і звычайныя сялянскія калёсы, а на іх і побач — немцы і ўласаўцы ў зялёным, паліцаі ў чорным ці проста цывільным.

Ва ўсіх іх пакрыўджаны выраз на твары.

Гэта мы з Флёрам зблізку, ва ўпор разгледзелі, запомнілі ў той дзень, у тыя дні: у катаў, у забойцаў заўсёды на тварах, у вачах крыўда. Крыўда на тых, каго ўжо забілі, забіваюць, павінны забіваць… Асабліва крыўдлівыя фізіяноміі былі ў немцаў, якія ішлі пасля абозу, на павадках у іх аўчаркі, брыдуць не дарогай, а абочынай, па траве, рукой дастаць да Флёравых кусцікаў. Гэтыя гоняць натоўп людзей, які збіўся ў гарачы пыльны камяк, напаўапранутых мужчын і босых жанчын з дзецьмі. Аўчаркі раптам пачынаюць ірвацца да кусцікаў, да Флёры, да жыта, нацягваючы кароткія павадкі; канваіры ў шырокіх пляміста-зялёных і чорных плашчах сярдзіта торгаюць іх, выпраўляючы на дарогу, да натоўпу. То адзін, то другі канваір разам з сабакам кідаецца да людзей, адцясняючы іх (рыканне, дзіцячыя ўскрыкі!), а калі яны вяртаюцца назад (яшчэ бліжэй да кусцікаў), крыўда на вузкім, на поўным, на круглым, на худым, на рабым, у акулярах, без акуляраў абліччы выступае яшчэ прыкметнай, гняўлівай фарбаю. Яны праходзяць міма, адцягваючы, адводзячы аўчарак, якія рвуцца да кусцікаў, і ад гэтага нам здаецца, што і дарога з людзьмі, і абочына, і луг, па якім ідуць і прабягаюць немцы з аўчаркамі, — што ўсё гэта касабочыцца, вось-вось спаўзе, рассыплецца, зваліцца нам на галовы! Гэтага амаль што хочацца, такое пакутлівае чаканне…



І тут здарылася! Два ці тры чалавекі з запыленага натоўпу кінуліся да жыта. О, якім пакрыўджаным віскам адказалі на гэта аўчаркі, якім урачыстым! Адны кінуліся, скіроўваючы канваіраў, да жыта, другія — да людзей, якія засталіся на дарозе. Мы з Рубяжом пераглянуліся: «Канец, усё!»

Некалькі рэзкіх чэргаў, і потым толькі крыкі, брэх. Немцы спусцілі аўчарак і цяпер баяцца падстрэліць іх. Ды і куды дзенуцца ўцекачы з гэтага абкружанага пустым полем жыта? Два немцы забеглі з боку кусцікаў, мы глядзім ім у зялёныя спіны, па-ахотніцку напружаныя. А жыта кіпіць сабачым брэхам, рыканнем, густым рваным хаканнем. Раптоўны роўны стук — пяць стрэлаў дзесяцізарадкі. Ленінградца нашага вінтоўка? І тут жа сапраўды віск дварнягі. Мусіць, падстрэлілі аўчарку.

На імгненне ўсё аціхла. Першыя апамяталіся і кінуліся назад, да дарогі, два немцы, што занадта далёка адбегліся, што з нашага боку. Але тыя, што былі ля дарогі і каторых многа, рынулі да жыта. І ўсё патанула ў спалоханай страляніне і крыках.

…Калі забітых ты раней бачыў жывымі, заўважаеш, што наваколле не адразу прымае мёртвага: усё наўкол павінна прывыкнуць да яго прысутнасці. Потым, калі і гадзіна прайшла, і паўдня, а трупы ўсё перад вачамі, яны паступова робяцца як бы часткаю самога наваколля, варожага, трывожнага, у яго палоне і мы з Рубяжом. Па дарозе ідуць, едуць немцы і «бобікі», а тыя, што ноччу сядзелі ў акопе, усё бегаюць з кацялкамі, і толькі мы з Рубяжом ды забітыя нерухомыя. Глеба Васільевіча і Скарахода немцы павезлі як нечаканы, радасны падарунак, трафей, а перад тым доўга тоўпіліся каля іх. Мёртвых мужчын і, здаецца, адну жанчыну з калоны кінулі ля дарогі, мы іх цяпер бачым, вось ужо дзве гадзіны яны ў нас перад вачамі.

Забілі чалавека, чалавека не стала, і тады паяўляецца вось гэта — нерухома палеглае на траве. Магчыма, да вечара заб'юць

і цябе, і зноў нешта паявіцца ў свеце, і гэтак жа, як ты цяпер, нехта, чыесьці вочы будуць прывыкаць да гэтага.

Рубяжа нечакана кінула ў дзіўную дрымоту. Толькі паспеў сказаць: «Ты пакуль пагледзі, добра?» — і заснуў тварам да зямлі. Скураная выцертая шапка адкацілася ўбок, паклычаныя саламяныя валасы пераблыталіся з травой. Я ўзнепакоена паглядаю на яго. У соннага, ды яшчэ калі сон заспее нечакана, нешта вельмі мёртвае ў позе. Ужо здаецца, што ляжыць занадта доўга, і ўсё навокал пачынае да гэтага прывыкаць… Хто з нас двух убачыць другога вось такім? Хто раней *паявіцца* перад вачамі другога? Мне ўсё прыгадваецца з даваеннага фільма: людзі падышлі і глядзяць на чысты пусты снег, чакаюць, і раптам на ім пачынае праступаць, праяўляцца чалавек — забіты англійскімі паліцэйскімі невідзімка.

Я гатовы ўжо разбудзіць Рубяжа, не хачу бачыць гэтай ягонай позы, баюся яе, як самай апошняй адзіноты на свеце.

Па дарозе зноў ідуць машыны, а калі ля акопа спыняецца танк, я штурхнуў Рубяжа. І дзіўна, як я узрадаваўся, калі ўбачыў жывы, зарослы светлым шчаціннем, насаты твар Рубяжа.

— Даўно яны? Чаму ж не разбудзіў?

Шэпча гучна і так, нібы, каб ён прачнуўся раней, чагосьці не дапусціў бы. Чалавек заўжды прачынаецца ў свеце трохі другім, чым той, які пакінуў засынаючы. У добры час — з вясёлай гатоўнасцю дагнаць страчанае. У дрэнны — з непакоем чалавека, які не ведае, куды перамясцілася небяспека.

— Як я заснуў?

Глядзіць на дарогу, на забітых, прачынаючыся канчаткова.

— Што ж, братка, рабіць, калі і нас заб'юць? Скажуць там: уцяклі!

Так, «востраў», Глаша…

— Зусім ім блага будзе, — мяркуе Рубеж.

Там нас чакаюць, там сам час адмерваецца: у мінулае — нашым адыходам, у будучыню — нашым вяртаннем. А гэта ж адзінае на зямлі месца, дзе нас, мяне чакаюць, і як гэта, выяўляецца, неабходна, каб чалавека чакаў нехта. Раней, даўным-даўно, калі жывыя былі мама, сястрычкі, я пра гэта не думаў, як можа падоўгу не думаць чалавек пра сонца: яно заўжды ёсць і будзе, няхай яно і забыта за хмарай.

Цяпер толькі Глаша, «востраў» пра цябе помняць, маюць патрэбу ў табе, іменна ў табе.

…Калі ракета падае, зямля нібы прыўзнімаецца ёй насустрач. І ўсё, што можна бачыць у хісткім святле ракеты, нібы на дыбачкі ўстае: чамусьці пагледзець, куды ўпала. І ты таксама адрываешся ад зямлі, узнімаеш галаву, падаешся наперад, цягнешся туды…



Учора мы з Рубяжом доўга хаваліся ад такіх ракет, ад праклятай гравійкі, дзе страцілі ленінградца і Скарахода, дзе пакінулі незнаёмых забітых сялян. Спачатку ў жыта перапаўзлі, паўзлі па прыбітым уцекачамі, аўчаркамі, немцамі жыце, а потым усталі і пайшлі. І калі сталі на замлелыя ад доўгага ляжання ногі, свет адразу пашырэў, мы ішлі полем да лесу, уласныя кароткія цені падпіралі нас, і яны радасна, аддана сведчылі, што мы ёсць, што існуём…

Але прайшло два дні, і ракеты зноў прыціскаюць нас да зямлі, толькі зараз мы не ўцякаем ад іх, мы паўзём ім насустрач. Бо нічога ж не змянілася, і нам трэба здабыць хоць што-небудзь, з чым можна вярнуцца на галодны «востраў». Нічога вартага нам яшчэ не трапілася. Праўда, бачылі ў лесе карову, але забраць яе не здолелі. Што мы знойдзем у вёсцы, куды паўзём, невядома. Але нешта трэба рабіць, хаця б вось так паўзці па няўбраным бульбянішчы к паліцэйскаму гарнізону.

— Ну як пасля цётчынага малачка? — падбадзёрвае сябе і мяне Рубеж, які ляжыць праз дзве баразны ад мяне.

Гэта ён прыгадвае тую самую карову, мусіць, уяўляючы, як мы зараз вялі б яе на вяровачцы на «востраў», замест таго, каб паўзці да чорта ў зубы.

О, як узрадаваліся «вылупні», калі нечакана ўбачылі яе на лясной паляне: паўтоны мяса на ўласных нагах і нават вяровачка на рогі накінута! Гэта быў такі цуд, што «вылупні» нават прыселі на траўку палюбавацца і ўпэўніцца, што гэта не сон. Уцякла, мусіць, ад немцаў. Рубеж вытрас з кішэні картовых галіфэ ўсе тытунёвыя пылінкі, але паперы няма, і ён папоўз па траве, шукаючы сухі ліст, яму трэба абавязкова дубовы. Поўзае, а позіркам лашчыць круглыя бакі нашай красулі. Узяўся высякаць крэсівам агонь. Пакуль выкрасіў агонь і пакурыў, паспеў гісторыю расказаць.

— Была ў нас у Слуцку сям'я адна. Вылупень Цімох, а ў яго поўная хата дзевак, сямейка, як у мяне. Мае і цяпер у Слуцку. Калі старэйшых не пахапалі ў Германію. А што, усё магло быць!.. Мяне як забралі ў 41-м вясной у абоз — славакі тады ішлі на партызан — і як трапіў да партызан разам з тым абозам, так і не падыходзіў да Слуцка блізка. Ад граху далей. Жонка ведае, дзе я, а дзецям лепш, калі і не сказала. Не дай Бог прагаворацца, што Цімох Рубеж у партызанах! Жывуць дома, ну і няхай жывуць, пакуль можна. Ага, дык я пра Вылупняў… Мянушка ў іх такая

была, у той сямейкі. Бесталковая хата, у нас пра такіх кажуць: «Як сала без хлеба!» Але якое там сала? Хоць бы хлеб быў. Ёсць такія сем'і, што ні кажы, ліпне да іх беднасць, нішчымніца, як кароста. І здарыўся цуд: Вылупні купілі карову! У цыганоў. Але не былі б то Вылупні! Трэба малачка — хапае конаўку і пад карову. Па чарзе, кожны. Як водаправод. Тыдзень ці два бегалі, пакуль не сапсавалі водаправод.

Рубеж ужо раскурыў сваю дубовую самакрутку і ўзяўся зразаць бяросту, конаўку рыхтуе. Вылупні, нябось, падказалі?

І тут мы ўбачылі цётку. Яна трымалася за арэшыну і глядзела на незнаёмых людзей, што поўзалі каля яе каровы. Што карова яе, мы зразумелі адразу.

— Дзень добры! — павітаўся Рубеж, нават узрадавана.

— Ой, так напалохалася! — жанчына пайшла да каровы, каб дакрануцца да яе. — Гляджу, хто гэта? Аж гэта партызаны, нашы!

Сказала — як напомніла. На жанчыне доўгая цёмная спадніца, ватоўка, валасы раскудлачаныя, ногі босыя.

— Толькі дастала яе з ямы, пусціла, адышлася на крок, а тут незнаёмыя людзі! — жанчына ўсё не можа супакоіцца.

— Адкуль самі, цётка? — пытаецца Рубеж, усё яшчэ важдаючыся са сваёю конаўкай.

— З пасёлка, на пасёлку мы жывём… жылі. А як пачалі яны кругом вёскі паліць, завіталі і да нас ранічкай, на самым золку. Глянула ў акно — немцы, поўны двор, а божачка! У хату заходзяць, адзін, перакладчык, пытае: «Вы за кім лічыцеся: Убойнае ці Бабровічы?» Усё ведае, гад: гэта ж некалі хутары, пасёлкі ў вёскі ссялялі, толькі наш двор не паспелі ці неяк там застаўся. Ён і пытае: да Убойнага ці Бабровіч мы прыпісаны? Я адразу здагадалася: «Гэта ж яны прыехалі паліць, забіваць Бабровічы ці Убойнае. Таму і пытаюць, чые мы». Гляджу на яго, на дзяцей сваіх гляджу. Так мне не хочацца сказаць, што Убойнае. Не ведаю… Можа, таму, што ў тую вайну ў нас многа пазабівалі, і калі французы ішлі, дзед расказваў, таксама мы гарэлі. Што сказаць, як адказаць? «Убойнае?» — пытаецца перакладчык. Гляджу на яго: падказвае ці пастку расстаўляе, о, Гаспадзі? І не зразумееш: толькі ўсміхаецца, з вусікамі такі! «Мы бабровінскія», — ціхенька кажу. А рукі, а ногі аж загудзелі! Ён яшчэ пастаяў, усміхнуўся, з вусікамі такі: «Ну добра…» Чую, немцам сказаў нешта пра Убойнае. Не Бабровічы, а Убойнае. Хацела, як лепей, а сама ў агонь лезу. А ён немцам: «Убойнае!» Усё-ткі ж чалавек! Таму што яны Бабровічы ішлі забіваць. А я



схапіла дзяцей, кароўку вось — і ў лес. Яны Бабровічы спалілі, усіх пабілі, а вечарам і Убойнае таксама. Заляцелі яшчэ раз і на наш хутар, спалілі. Са мной тут сям'я з Убойнага, жанчына…

У густым ельніку выкапана яма, як робяць гэта салдаты для машын і гармат, з плаўным спускам.

Тут жанчына і хавае сваю карову, сюды і заганяе яе цяпер, як бы паказваючы нам, што вось тут яе месца і нідзе болей. А з ямы на нашы галасы ўсталі, выбраліся дзве дзяўчынкі (адна — у доўгім мужчынскім пінжаку з закасанымі рукавамі, другая — ледзь прыкрытая парванай сукенкай) і хлопчык, нечакана пухнаты, тоўсценькі.

— Што ж у вас пясок жоўты відзён? — папракнуў Рубеж. — Ну-тка, малыя, збірайце мох. Вашу хованку за кіламетр відаць.

— Ой, і праўда! — прывычна спалохалася жанчына. — Мы закрывалі пясок, але бачыце, якія ў мяне работнікі.

Дзяўчаткі тут жа адбегліся рваць мох, а пухнаты хлопчык падышоў і, каб зручней нас было разглядваць, прыхінуўся да нагі жанчыны.

— Сынок той жанчыны з Убойнага. Дзе мама, Паўлік? Там у іх свая ямка.

А яна паявілася ўжо з кустоў — жанчына з Убойнага.

— Ідзіце смела, гэта ж партызаны, — сказала гаспадыня каровы.

— Што гэта дзеецца, хлопчыкі, што будзе? — адразу загаварыла хударлявая рабацiністая жанчына, вельмі падобная на такую ж рабацiністую дзяўчынку, што ішла за ёй. Толькі ў дзяўчынкі твар сур'ёзны, вельмі строгі, а ў жанчыны ён дзіўна ўсміхаецца.

— Што ў вас было? — спытаў Рубеж.

— Што? Пабілі нас, і ўсё. З хаты ў хату пераходзілі і забівалі. — Жанчына сказала гэта неяк вельмі проста. — «Заходзьце ў хату! Кладзіцеся ніц! Кладзіцеся!» І — страляе.

— Чаго ж чакалі? Хіба не ведалі, што яны робяць?

— Хто і ўцёк, мы вось уцяклі. А то баяліся каторыя: яны праз старасту аб'явілі, што Убойнае не зачэпяць, а Бабровічы паляць таму, што ад іх многа моладзі ў партызанах. А нашых там няма, стараста так сказаў. І каго ў лесе знойдуць, сказалі, расстраляюць. І праўда, спачатку загадалі мужчынам з сякерамі, рыдлёўкамі сабрацца дарогу рамантаваць. Хто не схаваўся, аб'явіўся, яны тых мужыкоў сабралі і па пляцу пачалі ганяць у канцы вёскі. З паднятымі рукамі па крузе бегаюць, а пясок, а пясок!.. Хто адстане — б'юць. Мы ў вокны глядзім, што яны

робяць з нашымі. А яны гэта, каб змардаваць людзей, бо, вядома, мужчыны, яны супраціўляцца будуць. Гэта каб потым лягчэй было ў гумно загнаць. Загналі і пачалі хадзіць па хатах. Музыку па вуліцы пусцілі, крычыць музыка, а яны ходзяць, і нейкая страляніна. А я бабам кажу: «Гэта ж яны людзей забіваюць». Мы гэта, сямей дзесяць, сабраліся ўсе ў адну хату, каб не так страшна. «Забіваюць нас», — кажу я бабам. У акно глядзім, на вуліцы людзей не страляюць, не чапаюць, а толькі бачым, што паказваюць: «Заходзьце ў хату!» Глядзім у акно, як немцы зайшлі, трое ці чацвёра, у адну хату і столькі ж у хату насупраць, пабылі там і выйшлі, паправілі аўтаматы і зноў да хат ідуць, усё бліжэй да нашай. Падыходзяць да веснічак, глядзяць на нас, а мы з вакна — на іх, глядзім і так плачам, так плачам… Не ведаю, што… Яны прапусцілі кагосьці, успомнілі і вярнуліся назад. Схапіла я дзяцей — і на агарод. Музыка крычыць на вёсцы… (Пухнаты гультай Паўлік падышоў да распавядаючай жанчыны і прытуліўся цяпер да яе нагі.) Мы за калодзежам схаваліся на агародзе, закідала я дзяцей бульбоўнікам, лебядой, прысыпала пяском, а з вуліцы немцы ўсё падыходзяць да калодзежа. Вып'е халоднай вады: «А-ах!» Добра, значыць! Рукі мыюць, плёхаюцца, смяюцца. А на мне косы растуць… Не чутно гэтых немцаў стала, тады ён, — кранула Паўлікаву галоўку, — і яна, — зірнула на дзяўчынку са немірганючымі вачамі, — яны мне: «Мамо, мамо, уцякайма, уцякайма, мамо, нас не заб'юць!» Гэта ж яны бачаць, што я паміраць ужо сабралася. Бо куды ж тут дзенешся? А яны: «Не заб'юць нас, і ўсё!»

Твар жанчыны безуважны да таго, што здараецца ў яе апавяданні. (Затое ўсё на твары, у немірганючых вачах дзяўчынкі, што стаіць побач.) Жанчына нібы сама ў свой расказ не верыць, нібы ў нас пытаецца, што гэта такое ёй прытрызнілася, вінавата і ніякавата ўсміхаецца. І ўсё азіраецца, дзе яе дзеці, ці тут.

— Ну, папаўзлі мы да калгасных гумнаў, а там ужо гарыць, а немцы кулямі свішчуць, свішчуць… Гэта ж яны там мужчын забіваюць, паляць! А нам усё чуваць, як крычаць, галосяць людзі, а Божачка! Як пішчаць і, гэта, крычаць, брэшуць! Мы паміж падпаленых сцен, паміж хлявоў. Сцяна так, і так, і так… Я дзяцей сабой накрыла, пясок на ногі награбаю, бо пячэ, так блізка агонь, валасы на галаве трашчаць, смаляцца… А Паўлік усё роўна: «Мамо, нас не заб'юць». А дзе тут не заб'юць, калі мы ўжо гарым, і куды нам паўзці, там немец стаіць. Я яго бачу за дымам. Не вытрывала, устала на калені, паднялася — хутчэй няхай заб'е! Што ж, жывымі гарэць? І дзеці ўжо ад агню пішчаць, бо гарым. А немец замахаў на дым, сагнуўся і прапаў. Ну і мы папаўзлі, пабеглі з агню, з дыму…



Усмешка на худзенькім рабацiністым твары жанчыны недарэчная, дзіўная, але нам яна не здаецца вар'яцкай. Проста пагубляліся ўсе меркі: калі чалавек павінен плакаць, калі ўсміхацца. І ўсё здаецца, чалавек не верыць, што гэта было з ім, магло быць такое, што гэта праўда; у нас пытае, ці праўда.

Як гэта страшна, калі чалавек усміхаецца.

…Сабачы брэх далёка аддаецца ў адным і другім канцы вуліцы — вялікая вёска. Узлятае ракета, і тады ўсё пачынае варушыцца: доўгія цені, як вялізарныя рычагі, паварочваюць пуні, хаты, дрэвы. І тут жа, як рып сухога драўлянага вората, кулямётная чарга. Рваныя трасы куль імчаць у поле, нам за спіну. Гэта адбываецца, паўтараецца праз аднолькавыя прамежкі часу, быццам і на самай справе самазапускаецца нейкі механізм. Значыцца, тут сапраўды ёсць немцы. У паліцаяў такой метадычнасці не бывае. Днём мы бачылі, што ў вёсцы стаяць машыны.

Ад расы, ад сырасці плашч робіцца цвёрды, як шалупіна, як панцыр. Я, лежачы, вызваліўся ад свайго брызенту, падперазаўся папругай з падсумкамі па нямецкім кіцелі, а плашч пакінуў каля грушы-дзічкі пасярод бульбянага поля. І ўсё чамусьці азіраюся на яго, як на некага трэцяга і самага хітрага з нас. Рубеж паўзе па баразне і таксама азіраецца, нібы і яго збівае з панталыку той, трэці. Рэзкі начны пах халоднага гару. Падобна, што вёска, дзе мы наважылі разжыцца ядой, не такая цэлая, удачная, як здалося нам, калі вывучалі яе днём з лесу. Рубеж тады здорава паказваў, прадстаўляў, як перакладзём, перагрузім сала і каўбасы з паліцэйскіх драўляных бочак-кублаў у свае прагныя мяшкі і як паявімся з усім гэтым на «востраве», а нас сустрэнуць пацаны, якія вішчаць ад захаплення і скача на мыліцы Сцёпка-Фокуснік.

Чым чалавек бліжэй да небяспекі, тым ён — пасля нейкага моманту — неасцярожным робіцца. Бо такое адчуванне, што ўжо адбылося непапраўнае, што быў празмерна нязграбны, і ўжо быццам бы ўсё роўна, як скончыцца, абы толькі хутчэй усё здарылася. Чым глыбей упаўзалі мы ў паліцэйскую вёску, стараючыся трымацца, аднак, у баку ад вынесеных у поле прыбудоў (там абавязкова пост або засада!), тым відочней усведамлялася, што робім загадзя вядомую і небяспечную бяссэнсіцу. Не паспееш кроку ступіць у вёсцы, як падымецца ўвесь гарнізон. Сабакі,

праўда, і на ракеты, і на кулямётныя чэргі абзываюцца брэхам. Але які яны вэрхал падымуць, калі пачуюць нас!

Паўзеш па градах, што так свежа пахнуць кропам, натыкаешся на цвёрдыя і халодныя лбы гарбузоў, але такое адчуванне, што не паўзеш, а выпростваешся на ўсё поле, як спружына, замацаваная адным канцом далёка ззаду, дзе застаўся плашч. І не ведаеш, куды цябе ў наступны міг — наперад кіне ці шугане назад. Спружына з кожным метрам напінаецца ўсё тужэй і ўсё больш назад цягне. Чапляешся, трымаешся локцямі, каленьмі за мяккую зямлю і на кожным метры дарогі нібы пакідаеш нешта, як плашч пакінуў, выпаўзшы, вылузаўшыся з яго. Ты ўжо па ўсім полі. І ўжо самому незнаёмае, чужое тое, што ўсё яшчэ паўзе наперад, крадзецца да сцен, да вокнаў хаты. Як паступіць, што зробіць у наступны міг чалавек з цяжкой, нагрэтай ад рукі гранатай і з нягеглай, без прыклада, вінтоўкай, якую ён валачэ за сабой?

Стукнулі ў сенцах дзверы, тыя, што ад хаты! Бразгаціць металічная клямка, гучна расчыніліся знадворныя дзверы. Пакуль аглушальна чаргаваліся гэтыя гукі, Рубеж з нечаканай лёгкасцю дабег да вугла хлява і стаў там. Я хутка прапоўз да плота і стаіўся.

А на двары мужчынскі пракураны кашаль, чалавек смачна плюнуў і пакіраваў да хлява, мільгануўся перада мной белы, у сподняй кашулі.

— Падыдзі, дзядзя!

Няўжо гэта Рубеж гукнуў? Такі голас — рэзкі і іранічны — у Касача.

— Гэта… гэта хто? Хто тут?

— Цішэй, сюды ідзі!.. Ты хто? Паліцай?

— А вы? Хлопцы…

— Добра. Хлеў адчынены?

— Не-е ведаю… Што вы тут хочаце рабіць, хлопцы? Тут жа немцы, два дні, як сталі.

— Ведаем. Зараз выведзеш нас з вёскі. Разам з каровай. Зразумеў, дзядзя? І не ўздумай чаго! Выведзеш — можаш назад бегчы.

— Счас, хлопцы, я счас. Раз трэба — трэба!

— Я люблю свядомых. Флёра, ідзі сюды. Дзе твая пачопка? Цішэй… Паказвай, дзядзя. Рыплівыя ў цябе тут дзверы. Трэба змазваць… Чаго гэта немцы сабак не пастралялі? Непарадак!.. І ты белы, і карова… Чым вас накрыць?

— Я вазьму ў хаце…



— Вінтовачку? Гэта ты зробіш з маім суседам. Вылупень яго прозвішча. Запомніў? Вось табе мех, закрой кашулю.

…Мы вяртаемся на «востраў». Карова ў нас цудоўная: вялізная, чорна-белая, з агромністым вымем. Мяса будзе, а малачко ўжо і ёсць. Амаль што на руках выносілі яе з вёскі: гаспадар за рогі, а мы пад бокі. Хутка і як толькі можна ціха адыходзілі гародамі, а пасля беглі, прыціскаючыся да гучных, ёкаючых бакоў, падштурхоўваючы. Каля лесу спыніліся, аддыхваючыся. Узрадаваны Рубеж папрасіў у дзядзькі закурыць, і той збянтэжыўся, што не ўзяў з сабой, залопаў, як певень, па кішэнях чорных галіфэ. Але тут жа, нібы ад прыску, адхапіў рукі: штаны былі яўна паліцэйскія. І боты не за страх зробленыя, вайсковыя.

— А нішто сабе выбавіліся! — кажа дзядзька. — Як засвецяць ракетай, ну, думаю!..

— Ну, вяртайся, покі цёмна, — лагодна кажа Рубеж.

— Ага, пайду, каб не здагадаліся.

— Ну тады ідзі.

— У нас не паліцыя, а самаабарона. Два дні таму немцы прыехалі, у школе сталі.

— Ідзі, добра.

— Шкада, закурыць не ўзяў.

— Другім разам.

— Пайду, пасплю яшчэ.

— Ага, паспі.

Мы пабеглі далей, ужо ад дзядзькі. (Усё-такі занадта паліцэйскія на ім штаны, таго і чакай, што падыме, прывядзе пагоню.)

Але нам весела: ці таму, што самі адпусцілі, а цяпер уцёкамі ратуемся («Так вам і трэба, «вылупням»), а можа, таму, што вяртаемся нарэшце на «востраў», і не з пустымі рукамі.

Але скора нашы пануканні і штуршкі ў мяккія каровіны бакі перасталі памагаць, карова пайшла сваёю хадой, цяжка калышучы раздзьмутымі бакамі, а потым і зусім стала. Паглядае на нас добрымі недаўменнымі вачамі: вось вымя, малако, чаго яшчэ вам, «вылупням», ад мяне трэба? Мы таксама стаміліся, зняможана сядзім, прыхінуўшыся патыліцамі да соснаў, слухаючы праз іхні гуд неспакойную перадсвітальную цішу. Рубеж, пашукаўшы ў сваёй світцы, дастаў расціснутую бяроставую шклянку. На сагнутых нагах, як бы не могучы выпрастаць калені, не падышоў, а падкаціўся танцам да каровінага вымені. Карова мукнула яму, як гаспадыні. Рубеж па-ўмельску абгладзіў на-

бухлае вымя, цыркнуў сабе на далонь і памыў каровіны цыцкі, выцер далонь аб калена. І давай даіць у бярозавы кулёк-шкляначку. Я міжволі рассмяяўся, так гэта падобна на яго расказ пра сямейку Вылупняў.

— Вось так і мае дзеўкі з конаўкай бегалі, — сказаў Рубеж. — Шэсць іх у мяне.

— Вашы? А вы пра суседа расказвалі!

— Пра суседа? Можа быць. Кожны каму-небудзь сусед. Ці мала бывае на свеце «вылупняў»?

Тут мне падумалася, што і дома Рубеж быў такі ж: там, тады ж навучыўся ён любую няўдачу, заўсёднае нешанцаванне суправаджаць невясёлым смехам з самога сябе. І часта, мусіць, даводзілася быць вясёлым з гэткай сямейкай!

Па-дзіцячы тапырачы губы з-за белай шчэці, Рубеж пакаштаваў са шклянкі.

— Сап'ёмся мы з табой. Вось гэта жытуха! Пашанцавала і «вылупням»!

Мы па чарзе каўтаем цёплы, пенны, свежасцю ранішняй прапахлы, дзяцінствам прапахлы напітак, і сапраўды, галасы, словы нашы, смех набіраюць і гучнасці, бескантрольнасці, як у п'яных.

— Дзе цяпер наш дзядзька? — раптам успомніў Рубеж. — Добрыя ў яго чобаты былі, хромавыя. А штаны ўсё ж паліцэйскія.

Паглядзеў на свае «чобаты» — на сырамятныя лапці, на залубянелыя ад гразі анучы і аборы.

— А можа, ён шукае нас, хоча памяняцца на мае. Добра, пабяжым, а то і праўда разбаляваліся да часу.

Перад ноччу мы зноў адпачывалі. Самае цяжкае было наперадзе. Што нас чакае на шасці кіламетрах адкрытага поля, мы маглі толькі здагадацца, на добрае, аднак, не надта спадзяваліся. Рубяжа зноў пацягнула на ягонае нястрымнае мармытанне — таксама невясёлы знак, прыкмета. Адвязваючы ад дрэва выдаеную і сытую ад сакавітай лясной травы карову, засмучаецца, гэты раз за карову, замест яе:

— Заставалася б я лепш зубрам! Усё роўна трэба па лесе бегаць. Затое была б зубрам!

Паспрабавалі зацерці, запэцкаць гразёй раскошныя белыя матэрыкі на каровіных баках.

— І ўдзень цябе відаць, і ўночы, — дакарае Рубеж.

Ноч паступова распаўзаецца, з лесу на падлесак і ўсё далей, на поле, ад гарызонту папаўзла да неба, сціраючы ценем няяркі водбліск дня. Але паявіліся новыя водбліскі — ад пажараў. Яны



расцякаюцца на цёмнае сырое неба мнагаслойна, вясёлкава, як газа на вадзе. Там, дзе пажараў няма, дзе выгарала ўчора, пазаўчора, неба чорнае, як сажа, а на ім апошнія іскры-зоркі.

Трывожная пустэча поля засмоктвае нас, як труба, міжволі пачынаеш спяшацца, і вось пусціліся бегма. Рубеж хвастае карову дубцом, я, перакінуўшы рэмень праз локаць, стрымліваю яе морду вышэй, далей ад свірэпкі і самасейнага жыта. Ёй усё здаецца, што мы ўжо прыйшлі і можна заняцца траўкай. Вінтоўку сваю я нясу за ствол, бо кароткая ж стала. Страляць з яе, беспрыкла́днай, можна ад жывата, як немцы з аўтамата, але ж, можа, не спатрэбіцца. Вось толькі гэтае поле перайсці.

Поле не аралі, не засявалі ўжо колькі год, але старыя барозны засталіся, нечаканыя, небяспечныя для каровы. А нам яе ногі даражэй цяпер за ўласныя. Ідзём ужо мы амаль гадзіну, кіруючыся ўсё лявей і лявей, але зарава таксама ўлева спаўзае, нам напярэймы. Яно пераліваецца з-за краю гарызонту на наша поле. Гэта непакоіць усё больш, менавіта там невысокі грабеньчык лесу, да якога імкнёмся мы. Ужо вяршаліны елак відны на трывожным небе. І чым бліжэй да лесу, тым шпарчэй стараемся ісці. Рубеж сцёбае жывёлу дубцом, я торгаю, цягну за повад. Карова збіваецца з нагі, капыты драўляна шчоўкаюць ад бегу.

Раптам нешта хрумснула, карова спатыкнулася. Першая думка — ногі! Зламала!

На нас вадаспадам абрушылася святло ўзляцелай ракеты, святло густое, сляпучае. Я яшчэ разглядзеў каля самага лесу стагі сена. Азірнуўся і ўбачыў Рубяжа, на нагах, жывога. І адразу ж памчалі на нас, міма нас, праз нас вогненныя іголкі. Б'е кулямёт ва ўпор, з-за стога плюючыся агнём. Здалося, дзясяткі гэтых святлеючых іголак праціналі прастору, якую ўсю заняло маё няўклюднае, аграмаднае цела, якое падае. Адпусціўшы повад, упаў на зямлю. Я ляжаў і вырываў са свядомасці гэтыя іголкі, як стрэмкі, пераконваючы сябе, што вось ён я, жывы і нават не паранены!

Карова спакойна скубе сцябло свірэпы. Па гэтым слабым гуку зразумеў, што стралянiны ўжо няма. Скончылася раптоўна, як і пачалася. Але блізкі лес ужо не здаецца збаўленнем, ён пагрозліва, цяжка навісае над намі, распасцёртымі на зямлі. Рубеж ляжыць непадалёку ад мяне, нерухома і цярпліва. Я зрабіў спробу, не ўстаючы, злавіць карову за повад, што звісаў з яе шыі, але яна чмыхнула, зрабіла некалькі крокаў убок і пачала нюхаць зямлю. Не адважваючыся пазваць, паклікаць Рубяжа, я папоўз да яго. І толькі калі быў зусім побач, падумаў благое: чалавек ляжыць

ротам да зямлі, зімовая шапка, што ўпала з галавы, здаецца пустой, як пустая, перакуленая чаша. Рука мая кранулася галавы, Рубяжовых валасоў, неспадзявана мяккіх і цёплых (гэта мае пальцы адзначылі, запомнілі!).

— Цімох! Цімох! — я чамусьці назваў яго па імені ўпершыню, і яно прагучала як чужое.

Але гэта і быў ужо не Рубеж, а нехта, хто паявіўся замест яго. Рубеж пакінуў мяне аднаго, адзін на адзін *з гэтым* перад самым лесам, дзе за стагамі стаіліся ворагі. З кожным імгненнем той, што ляжыць побач са мной, робіцца ўсё больш мёртвым, чужым. Рукі мае зрабіліся ліпкія і вялікія ад таго, што дакраналіся да яго. Я паспрабаваў забраць вінтоўку Рубяжа, але нерухомая рука не аддае, трымае моцна. Нібыта нехта раней мяне перахапіў вінтоўку.

Нібы даючы мёртваму яшчэ час для чагосьці, я пакінуў яму вінтоўку і тым часам пачаў выграбаць патроны з ягонай сумкі. У Рубяжа вінтоўка нямецкая, патрэбны і яго патроны. Пазапіхваў патроны сабе ў кішэні, нагрузіўся і зноў пачаў выслабаняць вінтоўку з мёртвае рукі. Рука пацягнулася следам за вінтоўкай і нарэшце адпусціла.

Я перапоўз у зарослую травой старую баразну, каб лепей было пасля адпаўзаць ці страляць, калі пойдуць сюды ад лесу. Успомніў і пашукаў позіркам карову. Яна хутка аддаляецца ад нас. Спачатку яна белая на цёмным фоне лесу, а калі выйшла на зарава, зрабілася вугальна-чорнай. Нават мой рэмень відзён, ён целяпаецца, звісае да зямлі. Ногі яшчэ ў цемені, а тулава, галава на фоне барвовага неба. Аддаляючыся, выцягваючы ногі з цемені, як з гразі, карова робіцца вышэйшай, вырастае. Тое, што карова ўходзіць, адразу вярнула мяне да галоўнага, я падумаў пра «востраў». Але той, хто ляжыць непадалёку, настойліва чакае ад мяне нечага. Я зноў папоўз да яго. Паспрабаваў, падбіўшы руку пад мёртвы, ліпкі ад крыві цяжар, цягнуць услед карове, якая аддалялася, нават працягнуў некалькі крокаў, пакуль не зразумеў, што не гэта я хацеў зрабіць.

Карова ўсё чарнейшая і чарнейшая робіцца ад святла над гарызонтам і ўсё больш вырастае, хутка і весела вырываючы ногі з чарнаты. Я адклаў вінтоўку ўбок і рукамі, зліплымі ў пальцах, падгарнуў колькі зямлі да Рубяжовых ног. Мёртвы зноў рабіўся Рубяжом, я ўжо звыкаўся з яваю, з думкай, што Рубеж забіты, мёртвы. Нагарнуў яшчэ зямлі, зрабіў гэта, нібы пытаючыся ў мёртвага. А наша карова знікае, яе размывае святлом, і яна нібы растае, ногі ўжо не дастаюць да мігатлівай рысы гарызонту. Я ўстаў на калені і пачаў таропка гарнуць вільготны пясок бліжэй да Рубяжа, але яшчэ не накідваючы на яго. Я гарнуў пясок рукамі, каленямі, самімі грудзьмі, бадай што тварам, я нібы сам закопваўся ў зямлю і ўсё чакаў, што гэтыя мае рэзкія, неасцярожныя рухі зноў абрынуць на нас кулямётны агонь. Але чым вастрэй адчуваў сваю неасцярожнасць, тым неасцярожней і спяшаючыся ўсё рабіў, як бы назнарок, на злосць нечаму, камусьці… Пясок у мяне ў роце, за каўняром, у валасах. Нарэшце я наважыўся, адным рухам нагарнуў капец жвіру на Рубяжа, які ляжаў у баразне. Я рабіў гэта, стараючыся не глядзець, не думаць, хутка, таропка, каб скончыць, не адчуўшы *ўсяго*. З нейкага імгнення ўжо не дазваляў падступіцца да сябе ўсяму, што адбылося: я быў перапоўнены, а лішак выцякаў цераз край. На шчасце, для чалавека такое магчыма.



Мокры, абліваючыся брудным потам, з пяском, які хрумсцеў на зубах, я застаўся адзін сярод поля. Я так спяшаўся заваліць пяском, засыпаць мёртвае цела, каб адарвацца ад гэтага месца, паўзці за нашай каровай, але вось скончыў і ляжу нерухома. Усё раптам здалося такім нерэальным, захацелася проста перачакаць, пакуль усё мінецца само па сабе. Я безуважна гляджу, як знікае карова, тоненькія ногі зусім не кранаюцца зямлі, яна імі жвава перабірае, адштурхоўваецца ад святла, мігатлівае, як бы лёгкай параю яно расплываецца над гарызонтам.

(Да гэтага часу не магу зразумець, чаму так дзіўна паводзілі сябе тыя, што абстралялі нас з-за стагоў. Магчыма, гэта быў нямецкі ці паліцэйскі «сакрэт», а не засада, і яны проста забаўляліся, бо «сакрэт» павінен толькі назіраць, не выдаючы сябе. Але ж надта адкрытыя мы былі іхняму кулямёту на падсветленым полі — спакуслівa!)

Нарэшце я адпаўзаю ад лесу, ад Рубяжа, ад бясконцага жаху следам за каровай, тоненькія ногі якой зноў пачалі мясіць чарнату, патанаць за лініяй гарызонту. Я валаку вінтоўку забітага, паўзу з цяжкой, тупой абыякавасцю, раблю адзінае, што магу, хоць і не спадзеючыся ўжо ні на што.

Карова раптоўна замерла на месцы. Нахіліла галаву, панюхала гарызонт і, рэзка збочыўшы, пайшла ўлева і назад, зноў да лесу. Я таксама папоўз туды, напярэймы ёй. Карова зноў узышла на палоску гарызонту, якая выпараецца, і таму, што гляджу на яе знізу, як з цёмнай ямы, здалася яна мне аграмаднай і зусім чорнай, нейкі зубр-адзінец. Пот залівае вочы, мяшаецца з ліпкай крывёй, якою я вымазаў шыю, з пяском, у якім я боўтаюся, я падобны на тапельца, што робіць апошнія безнадзейныя рухі.

А карова наблізілася, ды зноў адыходзіць убок метраў на сто ад мяне. Туды, да лесу, дзе стагі, дзе сядзяць немцы, і я нічога ўжо не магу! Паварушыцца больш не магу. Слёзы змяшаліся з брудным потам на губах, сцякаюць на ліпкую шыю. Я ўзяў камяк зямлі і квола шыбнуў услед карове, якая зблізу зноў ужо пляміста-белая, рэальная, весела памахвае хвастом. Цяпер, аднак, яна больш недасяжная для мяне, чым тады, калі апускалася за гарызонт. Рэмень, нібы здзекуючыся з мяне, матляецца ля яе пярэдніх ног.

Мне здалося, што мая крыўда, мая нянавісць да яе гэта зрабілі: карова раптам спатыкнулася, наступіўшы на повад, і стала, нюхаючы зямлю. Я па-драпежнаму пагробся да яе, невядома адкуль вярнулася да мяне сіла. Ад стомы зубы нясцерпна шчымяць, яны быццам выштурхоўваюць адно аднаго з раду.

Я паўзу і скрыгачу зубамі і, абліваючыся не то потам, не то слязьмі, грабуся да гэтай гадаўкі, да сваёй забойцы, каб ухапіцца за рэмень і замерці, ужо выратаваным. Хоць бы на адну-адзіную хвіліну замерці, нерухома ляжаць, ведаючы, што не ўцякае, што можна не варушыцца.

Караскаючыся, сапучы перад ёю, я палохаю карову, яна перастала скубці траву, глядзіць, слухае, гатовая адысці ўбок і зноў сыходзіць, уцякаць. З пяском, які набіўся ў рот, у вушы, мокры і знясілены, я злосна шапчу салёнымі вуснамі:

— Кароўка, кароўка, кароўка… — І яшчэ чамусьці: — Кось, кось, кось…

Але не каровай і не канём, а хітрым, здзеклівым забойцам уяўляецца мне гэтая істота: яна заадно з тымі, што заселі каля лесу, за стагамі і зараз заб'юць мяне. Калі кранецца з месца, пачне ўцякаць, я ўскочу на ногі — няхай страляюць! Я цягнуся да повада, быццам ён мяне з прадоння выцягне, толькі б ухапіцца! Карова, трохі прывыкнуўшы да мяне, зноў жуе, рэмень матляецца ля зямлі, метраў за дзесяць ад мяне! Я бачу яе вока, якое цёмна пабліскiвае, і баюся глядзець, баюся напалохаць прагнасцю і злосцю, што ў маіх вачах. Я ўжо ўсміхаюся мокрым тварам, шапчу нейкія словы, заміраючы ад пяшчоты і нянавісці. І ціхенька, ціхенька падпаўзаю, не перастаючы ўсміхацца і шаптаць.

Учапіўся за рэмень так, што карова спалохана рванулася, працягнула па зямлі маё стомленае і шчаслівае цела. Як хочаце цяпер, а я буду ляжаць! Ляжаць, ляжаць…

Тварам да заплямленага святлом неба, услухоўваючыся ў лясную цішу, шчасліва ўбіраючы ў сябе блізкае дыханне каровы, я ляжу і хвіліну, і другую. Месяц проста над маім астываючым тварам. На круглым дыску, як за матавым жоўтым шклом, знаёмыя з дзяцінства цені-сілуэты, і яны папраўдзе падобны на чалавечыя: і постаць таго, што падае, і таго, хто адхіснуўся, ахоплены жахам ад здзейсненага…



Цяпер мы пасоўваемся так: я задам, на баку, папіхаючыся локцем, вінтоўкай; карова, палохаючыся гэтай маёй позы і рухаў, то рвецца ўбок, то раптам адстае, напінаючы повад, робячы кругі. Калі немцы сочаць, іх, мусіць, дзівіць гэты цырк. А што калі яны ўзлескам ідуць туды, куды я паўзу, цягну карову? І недзе ўжо чакаюць там? А я спіной, задам — проста ў рукі да іх!

Не ведаючы, што рабіць, я лёг зноў, чакаю. Карова стаіць нада мной, спалохана напяўшы рэмень, у пуклявым люстэрку яе вока чорна пераліваецца далёкае зарава. Раптам яно кругла ўспыхнула, каровіна вока, бліснула. Ракета, шчоўкнуўшы, павісла над тым месцам, дзе застаўся Рубеж. Другая — у наш бок. І тут жа — тонкі вогненны струмень. Некалькі куль, хлюпнуўшы, упіліся ў каровіна цела. Яно нібы ікнула, вялікае і няўклюднае, глытнуўшы іх. Я тарганууўся да яе, на дапамогу, быццам яшчэ мог нешта зрабіць, паправіць, карова таксама падалася да мяне і ўпала на ўраз падламаныя пярэднія ногі. Шырока і да вусцішнасці па-чалавечы яна хістала галавой з боку ў бок, потым адкінулася ўсім целам на зямлю і замерла. Ногі зноў тарганулiся, неспадзеўна і рэзка, балюча ўдарыўшы мяне па локці, адштурхнуўшы.

А я ўсё трымаю рэмень, прыціскаючыся да зямлі.

Пуклявае круглае вока забірае з сабой далёкае зарава, якое пераліваецца, мігціць у чорнай глыбіні. Але вока ўжо мёртвае. З адкінутай каровінай шыі б'е, ільсніць смоллю струменьчык, часам ён падае на мігатлівае люстэрка вока, прыцямняе яго. Зноў успыхнула, узнялася ракета, я прыціснуўся да каровінага чэрава, хаваючыся, і раптам разгледзеў на вымені белыя пражылкі малака. Ракета згасла, але я ўсё бачу жывыя белыя нітачкі на чорнай смале крыві. Не ведаю чаму, але менавіта гэтыя белыя струменьчыкі — быццам прабачэння нехта ў некага просіць! — неймаверна на мяне падзейнічалі. Я не проста заплакаў, я бязгучна закрычаў, як ад нясцерпнага болю. Выпацканы крывёй, зямлёй, потам, змардаваны дарэшты, я глядзеў на гэтыя жалю вартыя, чыстыя, дзіцячыя струменьчыкі-нітачкі і плакаў, як даводзілася плакаць толькі ў раннім маленстве: кожнай жылкай сваёй, кожным уздыхам. Ува мне жыла такая бязмежная, такая дзіцячая крыўда на ўвесь свет, што абараняцца я мог толькі ёю,

жадаючы толькі, каб мне было яшчэ горш, каб зусім ужо кепска было і каб памерці, на злосць ці на радасць *усім ім*…

Агромністае, немігатлівае вока месяца вісела над скутым цішынёй полем, над чорным валам лесу, над барвовым гарызонтам. А ў гэтым воку, як у люстэрку, два чалавекі нешта адзін з адным рабілі, нешта страшнае адбывалася…

— …І вы, Фларыян Пятровіч, будзеце мяне яшчэ пераконваць? Не, калі б за нашай планетай назіраў я, даўно ўжо зрабіў бы аргвывады!

На гэты раз Барыс Бокій, кінуўшы на канапу свой набіты кніжным цяжарам партфель, расказаў пра Хатынь, куды ён нядаўна ездзіў, пра могільнік паўтысячы беларускіх вёсак.

— Ды вы ж гэта сваімі вачамі бачылі, Фларыян Пятровіч? Ну вось растлумачце, як такое магчыма? Не, я не пра фашызм як пра сістэму, у гэтым я яшчэ магу разабрацца. Хоць і не вазьмуся вытлумачыць усе гэтыя метастазы, якія выяўляюцца на самых нечаканых кантынентах. А вось канкрэтны чалавек, які ад чалавека радзіўся, асобна ўзяты выканаўца?

— Не было… Асобна ўзятага не было. Спрадвечнае «мы». Яно самае: «Мы — немцы!», «мы — арыйцы», нават «мы — спадчыннікі Шылера і Канта!» Іменна так, тое самае «мы», без якога немагчыма калектыўная чалавечая гісторыя, але тут яно са знакам мінус. Адключана толькі ўсведамленне, пачуццё, што над усімі «мы» ёсць самае агульнае і галоўнае: «Мы — людзі!», «мы — чалавекі, чалавецтва!» У імя самага галоўнага і ўсё астатняе, а інакш нават гордасць, што «суайчыннікі Канта і Вагнера», паварочваецца варварствам, здзічэннем. Такая самазадаволеная «культурная дзікасць» ужо Талстому здавалася асабліва пагрозлівай. Дзе ўжо тут думаць пра бліжніх ці чужых і не рабіць іншым, чаго не жадаў бы сабе, іншыя ж — не «мы»! У іх адзенне, колер скуры, звычаі, мова, узровень жыцця вунь якія не такія! Талстой прыводзіць і такі прыклад: людаеды ставілі ніжэй за сябе, лічылі дзікунамі свае ахвяры якраз за тое, што тыя елі толькі фрукты ды гародніну. За тое, што яны не людаеды! Дык чаму арганізатарам Асвенцімаў і Хатыняў не глядзець звысоку на тых, каго яны знішчалі? Я вось упэўнены, што ў Хатынях і гэта мела значэнне: напрыклад, непадабенства нашых вёсак на іхнія, чарапічныя. Для «чалавека разумнага» адрозненні народаў, рас, людзей — нагода для радаснага здзіўлення, роздуму, затое для «голай малпы» — повад, прычына пагарджаць і кусаць усіх, хто на яе, арыйку, не падобны.



— «Народ, які абраў самога сябе», — так кажа Заратустра.

Асабліва гэта заўважалася ў іх стаўленні да ваеннапалонных. Спачатку холадам і голадам даводзілі людзей да жудаснага, амаль нялюдскага аблічча, а потым які-небудзь лагодны вахман гнаў іх у ямы расстрэльваць і сам, магчыма, уздыхаў: «Не, што ні кажы, а нешта недачалавечае ў іх!» Думаецца, усё пытанне ў тым, ці ўзвышае дадзеная ідэя здольнасць чалавека спачуваць чужому болю, пакутам. Ці, наадварот, паніжае, глушыць гэтую самую чалавечую з усіх здольнасцей — чужы боль адчуваць, усведамляць, як свой уласны і нават мацней. Калі прытупляе, тады гэта наркотык, што нічым не адрозніваецца ад гераіну, якім у В'етнаме карнікі глушаць сваё сумленне. Ну, а тэхніка гэтаму дапаможа. Вунь хочуць устанавіць на рысавых палях і лясных сцежках электронныя датчыкі, механічных сышчыкаў накідаць. Пройдзе побач штосьці цёплае, жывое — на інфрачырвонай плёнцы далёкага аэрадрома ўзнік пучок святла, адразу ўзняліся ў паветра нагружаныя смерцю самалёты. Не толькі спачування, але нават і нянавісці ўжо няма. Пучок святла на экране — якія тут могуць быць пачуцці?

— Вось-вось, дарагі Фларыян Пятровіч! Што ж атрымліваецца? Раней мільёны гадоў «мы» вандравалі гуртамі па халодных плато, развітаўшыся з райскімі малпавымі кушчамі, нейкіх паўсотні тысяч гадоў «мы» — істоты, так сказаць, разумныя. Але як толькі імі зрабіліся, разумна разбегліся па самых далёкіх кутках планеты, як мага далей ад другіх, каторыя для нас ужо не «мы». Потым зноў знайшлі адны другіх, адкрылі, пазналі, узрадаваліся, а заадно і каланізавалі тых, хто слабейшыя і прасцейшыя. Ажно да атамнай энергіі homo sapiens паразумнеў! І што ж? Ці не па другому вітку ідзём? Ці не той самы разумны рэфлекс падштурхоўвае, падначвае нас разбегчыся зноў, цяпер па ўсім Млечным Шляху? Вы як хочаце, а я за гэта! Збяромся як-небудзь пазней. Га?..

…Калі я ўсё-ткі споўз з поля, аблітага здрадніцкім святлом, дабраўся да свайго лесу, а днём да «астравоў», дык вяла мяне і вывела, напэўна, усё тая ж нясцерпная дзіцячая крыўда — унутраныя слёзы, якія я быццам нёс камусьці. І я прынёс іх да «вострава», бо знаў, чакаў, як узрадуюцца, як кінуцца мне насустрач і як я пра ўсё раскажу. Што будзе далей, потым, я неяк не думаў, не зазіраў. А што я ім прынsocіў, акрамя весткі, што ўсе забітыя і толькі я жывы? Загінулі ўсе, на кім трымалася надзея не памерці з голаду.

На хаду я жаваў, што траплялася: шчаўе, ягады.

У лесе каля першага «вострава» ўсё той жа пах, але зараз гэта знак, што я амаль дома. Пашукаў у кустах — усе шасты на месцы. Я нават пералічыў, нібы не адмовіўся яшчэ ад думкі, што Скараход ці Рубеж вярнуліся раней за мяне. Я ішоў з палкай да вады, і тут мяне паклікалі:

— Прыйшлі?.. Хлопчыкі!..

Каля балотнай сасёнкі сядзіць, стуліўшыся, жанчына. Ногі выцягнуты знясілена прама, на каленях брудны клуначак. Вочы пранізліва блішчаць на схуднелым, высахлым твары. (Аднойчы пачуў я расказ былога ваеннапалоннага: «Цэлыя паўгода хварэў на гэтую смерць» — гэта значыць на галодную, паміраў з голаду. *У хворых на галодную смерць* вочы заўсёды такія — запытальна-пранізлівыя.)

— Вось і добра… Прыйшлі…

Не хапіла паветра ўзрадавацца, і жанчына глыбока ўздыхнула. Паказала на свой клуначак:

— Шчаўліку сабрала… Добра, што вы…

Яна глядзіць, шукае вачамі астатніх, хоча ўбачыць, што мы прынеслі яе дзецям. Толькі тут я адчуў, што значыць для «вострава» мой зварот, які адчай і безнадзейнасць я нясу.

— Так… прыйшлі… зараз… так, — я мармытаў нешта і паказваў назад, як тады на лясным могільніку, аддаляючыся, уцякае ад жанчыны, і ўсё не кідаў шост. Спатыкнуўся, упаў, усміхнуўся (вось, маўляў, упаў!), а пранізліва зіхатлівыя вочы жанчыны з жахам чапляліся за мяне, затрымлівалі мяне, гналі мяне.

Я ўжо амаль бег, шпурнуў шост. Я вяртаўся. Куды, чаго? Я гэтага не ведаў. Ведаў толькі, што вось так, ні з чым на «востраве» з'явіцца не маю права. Не магу. Перад такімі вось вачамі, дзіцячымі, жаночымі. І яшчэ — параненыя. Хворыя голадам, *на галодную смерць* усе падобныя: аднолькавыя вочы, рот, які выпірае. Прайшла б, прамільгнула першая надзея, ажыўленасць сустрэчы, і я ўбачыў бы вочы, якія ашукаў сваім з'яўленнем.

…Наш аўтобус зусім заціх. Толькі жаночае (роўнае, бясконцае) казанне пра паездку на поўдзень і як пужліва-весела ўцякалі ад халернага каранціну, ды хто-небудзь назаве вёску ці мясцовасць.

— Хутка будзе Казловіцкі лес…

— А потым — Рудня.

Так, Рудня.



І ўжо зноў агульная размова расцякаецца па аўтобусе, ужо пра Пераходы.

— Трэба было атакаваць у вёсцы.

— Заднім розумам і я Напалеон!

— Я і тады казаў.

— Што гэта? — Голас Сярожы. — Гэта могільнік?

— Гэта — Рудня.

Аўтобус прытармоўвае. Шарганула шкло шафёрскай кабіны, малады голас:

— Глядзіце, што тут! А здалёку вёска як вёска.

— Адны крыжы і слупкі, татка, — ціха кажа мне Сярожа, — замест дамоў. І бярозы.

— Тут усіх знішчылі, — растлумачылі шафёру. — Як у Хатыні.

— І ніхто-ніхто не застаўся? — спытаў Сярожа амаль шэптам. (Нібы самому сабе сказаў. «Значыць, і я не застаўся б», — напэўна, гэта ён сказаў.)

— І ў сне не прысніцца! — гучна, молада прамовіў шафёр і засунуў шкло.

А мне і вочы заплюшчваць не трэба, каб праснілася, уявілася. Бачу і так. Баляць яны, мае вочы, з кожным годам мацней, нібы нясцерпнае святло на іх увесь час скіравана. Не знадворку, знутры святло — з памяці.

…Я іду, уцякаю… Падумалася, што мяне могуць забіць, а жанчына скажа ўсім на «востраве», што бачыла мяне і што я ўцёк. Уцёк ад параненых, ад дзяцей! І Глаша там… Усё стаіць перада мной, усё ўяўляю таго дзядзьку. (Ад яго самога чуў у атрадзе расказ.) Таксама блакада была, а ён жыў тады ў цывільным, у сямейным лагеры. Паразганялі карнікі жыхароў па лесе, а ён з трохгадовай дзяўчынкай. Ад сырых грыбоў і ягад у дзяўчынкі пачалася «крываўка», бацька (ці дзядуля) і адважыўся. Узлез з ёю па лесвіцы-«яршу», якую знайшоў каля пустых вулляў, спачатку апусціў яе ногі ў шырокае і глыбокае дупло клёна, потым усю ўпіхнуў. Дзяўчынка заплакала, калі перастала яго бачыць. А ён папрасіў паказаць ручкі — толькі брудныя пальчыкі ў дупле паварушыліся. Ён узяў яе за рукі, падцягнуў да дуплянога акенца: «Ну, вось, ну, бачыш? Вось так дастану цябе, калі вярнуся. Чаго табе прынесці? Хлеба. Ну, вось малайчына!»

Злез на зямлю, схаваў «ярша», паслухаў пакорлівае маўчанне дзяўчынкі. «Ну, я пайшоў, я хуценька!» — і пабег. Як я. Каб хутчэй вярнуцца. І раптам, як на сцяну, наскочыў на думку:

«Заб'юць мяне, а яна будзе там сядзець і дзень і тры, плакаць, паміраць ад смагі, ад голаду!» Кінуўся назад. Ад страху, ад хвалявання заблудзіўся. Натыкаўся на дрэвы, як сляпы, плакаў, клікаў. «Выў, браткі мае, як воўк, покуль не знайшоў тое дрэва!»

Заб'юць, а жанчына раскажа, што бачыла мяне і як я ўцякаў. *Збег*!

Вёска, да якой я нарэшце выйшаў, спіць у халаднаватым тумане, што поўзае па лузе, па гародах шматкамі, як гурт авечак. Пасля ночы, якую ў галодным паўтрызненні-паўсне пракачаўся пад елкай, нешта дзіўнае ў сабе заўважаю. Вось лаўлю сябе на тым, што мармычу, напяваю «Суліко». Чамусьці іменна гэтую мелодыю. Нейкая ненатуральная лёгкасць, пустата ўнутры. І нейкая бесклапотная няпамятлівасць. Я накіраваўся проста да вёскі і толькі потым спахапіўся: вінтоўка на плячы! А хто там, у гэтай вёсцы, хіба я ведаю? Зусім цэленькая вёска. Стрэхі, стрэхі над калыханнем туману, як днішчы перавернутых лодак. А над усім, нада мной такое чыстае і свежае неба. Справа за туманам цямнее высокі насып дарогі. Ці не тая самая гравійка тут цягнецца, каля якой забілі ленінградца і Скарахода? На паўдарозе да вёскі сярод лугу ўздымаецца, вырастае з туманнай каламуці, як з вады, некалькі маладых бяроз. Да іх я і кіруюся. Ногі блытаюцца ў пабурэлым ад дажджу, непрыбраным сене. Каля бяроз я спыніўся, азірнуўся. Гэта адна бяроза, але трохствольная: тры выгнутыя застылыя рухі. Вельмі зручнае сядзенне для пастушкоў. Аб чым гэта я?.. Нагой згроб сена і сунуў пад яго вінтоўку. Не адразу ўспомніў, што на мне яшчэ папруга з падсумкамі і нямецкім штыком-кінжалам. Я злосна засмяяўся. Ну, ну, давай яшчэ «Суліко»!.. Сунуў пад сена падсумкі і штык і тады ўцяміў, што кіцель на мне нямецкі. Ды і штаны нямецкія. Але на штанах бруду столькі, сыдуць за невядома якія. Схаваў кіцель пад сена і застаўся ў шэрай кашулі з белымі гузікамі, якую мама мне пашыла. Гранату пераклаў у кішэню штаноў. Ну, здаецца, усё, можна ісці ў вёску. Ці яшчэ што не так? «Долго я бродил и вздыхал…» Ну-ну, заспявай, дурань!

Нечаканы гук наперадзе насцярожыў мяне. Я не адыходжу ад вінтоўкі, стараюся адгадаць, што азначаюць гэтыя стукі, якія паўтараюцца ў лагчынцы, налітай халодным туманам. (Аказваецца, мне трэба нанава вучыцца хадзіць па зямлі, без вінтоўкі.) Гукі вясковыя: стук па дрэве, мармытанне, вокрык на каня. Як ад берага адштурхнуўся, я адарваўся ад месца, дзе схаваў вінтоўку, і пайшоў у той бок. Спачатку каня заўважыў, калёсы. З туманнай гушчы вынырнуў задыханы дзядзька, граблямі гоніць



валок, копку сена. Убачыў мяне і хутка, як і павінна быць зараз, азірнуўся — адзін я ці са мной яшчэ хто? Дзядзька ўспацеў, бачна, што спяшае, нервуецца, нібы крадзе ён тое сена.

— Добрай раніцы! Гэта якая вёска? — спытаўся я і сам здзівіўся, што зусім інакш гучыць голас, калі ты без зброі.

— Пераходы.

— А! — узрадаваўся я так, нібы іх я акурат і шукаў. — Ціха ў вас як!

— Дзе зараз ціха? Сядзім вось як на агні. Хто ў лесе, хто дзе… Прыязджалі ўжо, нікога не зачапілі, толькі коней пабралі. І тры сям'і з Вялікіх Борак, пастралялі. У лесе ў куранях хаваліся, жылі. Раз у лесе — «бандыты»!.. Пабілі. А самі вы адкуль будзеце?

Я назваў далёкую вёску.

— Спалілі вас? — адразу спытаў дзядзька.

Дзіўны гэты дзядзька. Блакітныя вочы чыстыя, як у дзіцяці, шчыра спалоханыя, а зараслы рот увесь час расцягваецца хітраватай усмешкай.

Я ведаю, што азначае яго пытанне, ці не са спаленай я вёскі. Калі спалілі, выбілі маю вёску, я для Пераходаў чалавек небяспечны. Уцалелых ці ўратаваных жыхароў такіх вёсак немцы шукаюць, праследуюць, як пракажоных, і забіваюць, дзе б ні сустрэлі. Іх ураўноўваюць з партызанамі, і таму небяспечна, калі такога чалавека захопяць у Пераходах. Я разумею дзядзьку і спяшаю супакоіць:

— Не, у нас нармальна.

Зараслы рот не верыць.

— Нас даўно з самалётаў папалілі, — папраўляюся я. — А тут у мяне цётка жыве.

— Хто гэта? — дзядзька паспешліва ўзвальвае на калёсы сена.

— Ганна… Пераход Ганна…

Назваў наўгад. Ведаю, што бываюць цэлыя вёскі аднафамільцаў. У Ласях — усе Ласі, у Мікітках — усе Мікіткі…

— У нас тут уся вуліца на Пераходах, — згаджаецца дзядзька, папраўляе сена перад мордай жуючайканякі і зноў бяжыць. Пяты ў яго чорныя, хаця і вымытыя расой.

«Долго я бродил и вздыхал…»

Я накіроўваюся ў вёску. Пераходы? У нас у атрадзе двое ці нават больш з такім прозвішчам.

Сонца ўжо ўздымаецца за лесам. Туман пасвятлеў і паружавеў. Не падабаецца мне гэта гравійка справа, што вылазіць з туману

і з кожнай хвілінай падаўжаецца. Калі дзядзька сказаў, што прыязджалі, ён махнуў граблямі ў той бок. Але туман густы, шчыльны, як лес, ён да самых дамоў дацягваецца, дахі нібы плывуць па ім. Гэта супакойвае. Мяшка ў мяне ўжо няма, прыйдзецца папрасіць. Заадно ўжо. Як у нас нахабныя курцы просяць: «Пазыч агеньчыку, бо ў мяне ўся табака выйшла, а паперкі няма!» Але хто я такі без вінтоўкі, хто мне і што дасць? Нейкі пабіраха. Толькі зараз я пра гэта падумаў. Але я гатоў і паклянчыць, з пустымі рукамі я не магу вярнуцца на «востраў».

Нейкі гук тузануўся за лесам і знік. Зноў тузануўся. І застаўся, роўны, далёкі. «Рама», ці што? Даўно не бачыліся!

Я ўсё-ткі спыніўся, стаў слухаць! Не, нічога. Далёка, ва ўсякім разе. Раса такая, што хлюпае пад нагамі. Я прысеў і, збіраючы яе чысты холад далонямі, трохі змыў з твару бруд. І нібы яшчэ нешта змыў, сцёр: знікла, адвязалася нарэшце бесклапотная і дзіўная лёгкасць, адчуванне нерэальнасці ўсяго, што адбываецца. Я падняўся і азірнуўся з такім пачуццём, нібы здарылася нешта. Не, усё тое ж…

І тут убачыў: дзядзька, той самы босы дзядзька з граблямі і ў кашулі навыпуск ідзе за мной следам. Ён не ідзе, а раз-пораз парываецца бегчы. І ўсё азіраецца. За ім сцяна паружавелага туману, але зараз яна нешта хавае. Я яшчэ не спалохаўся, але ўжо звычна прыкідваю, куды бегчы, дзе ўпасці.

Наперадзе каламутна цямнее хлеў без даху, патанулы ў тумане. Я хутка зірнуў у бок гравійкі. Не, там, як і раней, нікога. І раптам!.. Правей, там, дзе засталася трохствольная бяроза, дзе схаваў вінтоўку, туман пацямнеў, заварушыўся, у ім, з яго сталі вылепліваецца фігуры людзей, плывуць, неpraўдападобна буйныя, з аднолькава прадаўгаватымі галовамі. Яны хістаюцца і насоўваюцца, як са сну, з жаху…

Я ўжо ляжу на зямлі. Але адразу ж ускочыў на ногі і хутка пайшоў да хлява — мы з дзядзькам ідзём у вёску, у *сваю* вёску! Так папаўся, так недарэчна і неабавязкова! Мог бы зараз быць у лесе, памарудзіць, пачакаць бы мне яшчэ паўгадзіны ў лесе, але я тут, і гэта канец, і гэта непапраўна! Я ведаю, адчуваю ўсёй сваёй істотай, што ратунку няма, не будзе, але ўсё роўна прагна шукаю тую адзіную, апошнюю магчымасць, выпадковасць, якая яшчэ можа выратаваць. Я накіроўваюся да хлява, дзядзька ідзе за мной, мы абодва азіраемся. Каскі, плечы, фігуры аддзяліліся, адарваліся ад паружавелай сцяны туману, зараз яны чорныя, рэальныя, іх шмат ужо і ў тым баку, дзе гравійка. Марудна ідуць немцы да вёскі.



Я абмацваю ў кішэні гранату: выкінуць ці пакінуць? Я ўсяго толькі жыхар вёскі Пераходы, а з гранатай я партызан. У ёй мая смерць, але смерць, якой я сам распараджуся, а не тая, якая паўстане перада мной і спакойна, колькі ёй захочацца, будзе мяне разглядваць, перш чым забіць…

За хлявом на высокім пагорку нейкія лодкі, патанулыя або напаўзатопленыя з задранай кармой. Што гэта? Ці праўда, што гэта сон, жахлівы, недарэчны, вар'яцкі і трэба прымусіць сябе прачнуцца? Гэта скляпы, усяго толькі збітыя з дошак тамбуры скляпоў-зямлянак. Вось куды схавацца! Кінуўся ў адзін тамбур, а на дзвярах замок, на другіх — таксама. Пацягнуў — замок лёгка адчыніўся. Дзверы па-здрадніцку піскнулі, прапусцілі мяне ў цемру, ад якой патыхае ямай, цвіллю. Дастаў гранату, але адразу ж схаваў яе ў кішэню, стараўся не дадумваць, што я хачу зрабіць. Граната — гэта канец. Недзе ёсць, яшчэ ёсць апошні шанц! Паспець выскачыць, пакуль яны не падышлі: адразу шпурнуў у склеп гранату. Кінуўся наверх гэтак жа паспешліва, як і хвіліну назад нырaў у яму.

Дзядзька ўжо зраўняўся са мной, зірнуў белымі вачамі.

— Немцы! Ай-ай-ай, папаліся, во папаліся!..

І адразу мы ўбачылі, як з туману, дзе цямнее вёска, пабеглі людзі насустрач нам. Удалечыні за вёскай гулка і працягла прастукаў кулямёт. Людзі, што беглі нам насустрач, убачылі немцаў і з нашага боку, замітусіліся, сталі падаць, паўзці, кінуліся назад у вёску.

Дзядзька, дзіка азіраючыся, пабег да склепа, як нядаўна я. А я прыціснуўся да сцяны хлява, каб паспець нешта вырашыць. Усё здаецца, што калі хоць на міг адарвацца ад немцаў, хаця б не бачыць іх, вернецца становішча, калі яшчэ можна было нешта змяніць, калі *гэтага* яшчэ не было. Тое, што ў мяне пад рукой граната (я ўсё трымаюся за кішэнь), паскарае, гоніць тое, што адбываецца, да апошняй мяжы. Не вытрымаў, зірнуў з-за вугла: ужо твары пад каскамі магчыма распазнаць, рукі на аўтаматах. Па гравійцы паўзуць машыны. Час імчыцца, як з гары, насустрач нямецкаму ланцугу, забірае, зносячы ўсё паветра і не дае дыхаць, нібы бяжыш цераз сілу.

У сцяне знізу шчыліна — згніло бервяно. Я ўпаў на каленкі, зазірнуў у сярэдзіну. Пачуў за сабою чыюсьці паспешлівасць: гэта дзядзька перабягае да другога склепа. Я запоўз у хлеў. Над галавой доўгі прамавугольнік сіняга, ніводнага воблачка, неба. Каля самай сцяны некалькі жэрдак, рэшткі столі. У далёкім кутку куча гнілой, чорнай саломы.

Нібы гук уключыўся, калі сцены закрылі мяне ад таго, што адбываецца, памацнелі крыкі, брэх сабак. Дастаў гранату, гляджу, нібы чакаю, куды мяне павядзе. На жэрдкі трэба, наверх! Гэта хоць на міг аддаляе ўсё…

У расчыненыя вароты хлява забег чалавек — зноў дзядзька! Дзіка зірнуў на мяне, на гранату. Вочы яго шныраць па сценах, па кутках. Кінуўся да жалю вартай кучкі саломы і стаў нешта недарэчнае рабіць, грэбці і сыпаць на сябе пыльную труху, яна нібы задымілася ў промнях сонца, ціснуцца ў зямлю, у сцяну.

Я палез на жэрдкі. У сцяне шырокія, можна руку прасунуць, шчыліны. Зноў убачыў ланцуг карнікаў, якія былі ўжо блізка, і некалькі аўчарак, што рваліся, напіналі павадкі. Хуценька лёг на жэрдкі, каб не заўважылі мяне. І тут пачуў, як жудасна, злоўлена вые вёска. Галасы і гамонка немцаў, нават рэзкія каманды немагчыма — будзённыя, рэальныя. Я нават чыйсьці смех пачуў у нямецкім баку.

Непаслухмянымі пальцамі выкруціў блакітную галоўку гранаты-матрошкі. Перад вачамі з'явіўся белы віты шнурок. На канцы яго — выбух. Далоням балюча, так сціскаюць яны галоўку і халоднае цельца гранаты.

Немцы ўжо зусім блізка, я бачу ў шчыліну, як двое (адзін з рагуляй-кулямётам) выбеглі з ланцуга і, бухаючы ботамі ў зямлю, рынуліся да хлява. Не, да скляпоў. Рукі мае нібы наручнікамі схоплены — белы шоўкавы шнурок выцягнуўся сантыметры на чатыры з цела гранаты. Вось яно, нярадаснае, вымушанае права чалавека памерці, вызваліцца хаця б у самую смерць! Яна трымае мяне, як наручнікі, але і яна ў мяне ў руках. Гэта адзінае, што робіць мяне, злоўленага, бездапаможнага перад тым, што насоўваецца, мацней за самога сябе.

Адгароджаны ад таго, што адбываецца, непамерна тужлівым адчуваннем блізкай смерці, як скрозь шкляную сцяну, гляджу я на чорных і зялёных карнікаў, што бягуць да скляпоў і хлява, на ўвесь ланцуг, які далёка абдымае вёску. Вухнуў выбух зусім блізка — гранату ў склеп кінулі. Зараз нехта пачуе такі ж выбух, маю гранату…

Я бачу, як жанчыны на гародах перабягаюць з месца на месца, падаюць і зноў ускокваюць, паўзуць, цягнуць дзяцей. А ланцуг карнікаў марудна і няўмольна набліжаецца да гародаў, да вёскі. Вось жанчына ў яркай, *чамусьці ружовай*, кофце падбегла да лазенькі і, азіраючыся кругом, падзывае малых. Двое, не, трое бягуць да яе, падаюць і паднімаюць адзін другога. Жанчына запіхвае іх пад стрэшку з пацямнелага бульбоўніку. Схавала і сама адбегла, упала каля плота, але зноў узняла галаву і, напэўна, нешта кажа дзецям. Зверху я добра бачу яркую ружовую яе кофту.



Усё стаіць над вёскай злавесны гук, але не бачна, адкуль ён бярэцца, здаецца, што людзі ўсё робяць у мёртвай немаце. А гук вісіць над усім, над усімі…

Па прамой вясковай вуліцы марудна, нават урачыста, як у царкву, ідзе стары ў палатняных, здалёку зусім белых штанах і кашулі. Усё навокал кідаецца, а ён ідзе, нібы можна яшчэ кудынебудзь ісці.

Але вось усё знікла, засталіся ўжо зусім блізкія крокі, шаргануліся аб сцяну хлява галасы. Сюды ідуць! Яны ідуць сюды!

— Пан, а пан, — голас узняўся, старанны, запабеглівы, — трэба ў скляпах глядзець. Сюды беглі.

— А табе што, што беглі? — другі голас, пануры. — Загадаюць, калі трэба, не бойся.

— Я не баюся, а ты заўсёды занадта разумны.

Зараз зойдуць. Нічога няма на зямлі страшней: у дзверы, у вароты ўваходзяць людзі! І зараз гэта будзе, я прыціскаюся да жэрдак, гляджу на свае звязаныя белым шнурком рукі і адчуваю, як раздалося, якім вялікім, прыкметным адсюль стала маё цела… Зойдуць, заўважаць яго і адразу ўдараць з аўтаматаў. І я не паспею… Я не дадумваю, што ж я не паспею… Магчыма, гэта страх, што не паспею памерці. Ад сваёй гранаты. Чалавек, калі і здольны настроіцца на якуюсьці смерць, то толькі на адну, на пэўную. Ледзь што змянілася — і ўсё рассыпаецца… (Помню, як жанчына ў вагоне расказвала, што, калі немцы забівалі вёску і падышлі да хлява, дзе яе сям'я хавалася, людзі гатовы былі згарэць у сене, абы не выходзіць да забойцаў, дзе іх застрэляць. Трымаліся ў дыме, у пекле, абы не памерці пад кулямі. Нарэшце не вытрымала і вырвалася з агню адна толькі гэта жанчына, а муж і сёстры яе згарэлі, іх стрымліваў страх перад *іншай* смерцю, няхай нават менш пакутлівай.)

Зараз ударыць знізу, і я не паспею рвануць шнурок, граната не паспее ўзарвацца, пакуль я яшчэ буду жывы…

— Эгэ, тут ёсць!..

Голас вясёлы, забаўляецца, усё блытаючы і гэта стрымала мае рукі, дало мне час успомніць, скеміць, што я ж не адзін у хляве хаваюся. Не ўздымаючы галавы, паглядзеў, гляджу, як двое ў чорных паліцэйскіх мундзірах накіроўваюцца ў кут хлява.

Дзядзька ўскочыў на ногі, абсыпаны пацярухай, сонечны слуп пылу, як дым, забялеў, узняўся над ім.

— Хаваўся б як трэба. Эх, дзя-дзька! — вясёлы голас паліцэйскага. (Напэўна, гэты казаў немцу пра скляпы.)

— Не пайду! Ведаем, які сход.

— Ну, ну… Аўсвайсы праверацьі — і «на хаўз, матка». Сход…

— Не пайду! Ведаем, які сход.

— Ах ты, бандыцкая морда! — вясёлы ўжо сярдуе.

— Тут забівай, не пайду!

— Не хочаш як чалавек?..

Удары, крактанне. Тузаюцца толькі двое. Пануры паліцай спакойна назірае, нібы яго гэта не датычыць. Дзядзька вылецеў на сярэдзіну хлява, але зноў, як прыцягнуты, кінуўся назад, прыліп да сцяны, засунуў пальцы і далоні ў шчыліны паміж бярвення.

— Забівай, не пайду ў агонь!

— Які агонь? Ба-андыт! А ты што стаіш, пазіраеш?

— Хопіць у дурня гуляць, дзед, — лянівы голас другога паліцая, — праверацьі, і ўсё.

— Сам ідзі ў агонь!

Удары прыкладам па бервяне і па жывым адначасова. Крык амаль дзіцячы… Напэўна, я заварушыўся на сваіх жэрдках, бо пануры паліцай адразу ж здзівіўся:

— Эгэ, яшчэ адзін! Ану злазь, уніз скачы!

Наставіў на мяне вінтоўку. Я заварушыўся, прыўзняў зад, цела маё паказала, што я нічога, што я падпарадкоўваюся, а сам я гляджу на гранату, на белы шнурок у яе адтуліне. Пачуў слабае, зазыўнае супраціўленне смерці на схаваным у гранаце канцы напятага шнура. Зараз я бясконцы, без выдыху, удых. Балюча распірае грудзі, а ўдых усё не канчаецца, я ўсё расту, раблюся вялізным і тонкім, бязважкім, як шар… Раптам здарылася нешта ўнізе: двое — дзядзька, а за ім вясёлы паліцэйскі — вылецелі за дзверы.

— Ну, доўга буду? — пытае паліцай, які застаўся.

Я ўзняўся, устаў на калені, трымаю руку з гранатай на жэрдках і сунуся да сцяны, усім сваім абліччам паказваю, што буду спускацца. За сцяной зноў гахнуў выбух.

— Гранату ў склеп кінулі, — паведаміў я паліцаю.

— Доўга буду чакаць?

Я ўжо не той, хто хвіліну назад гатовы быў узарваць сябе аднаго. Нешта змянілася, і з'явіўся ў свеце хітраваты, са згоднай і бязглуздай усмешкай… Ён паўзе, трымае і хавае гранату, а я назіраю і за ім і за паліцаем і чакаю, што ж зраблю я… Той я, што чакае, назірае, надзіва спакойны. Нібы і не са мной усё гэта.



— Скачы сюды, ну! — Паліцай адчуў нешта нядобрае, голас яго ўстрывожана рвануўся.

Я спешна прыўзняўся, пакорліва павярнуўся спіной да яго вінтоўкі і, не гледзячы, як з самога сябе, пацягнуў шнурок — сарваў аглушальны шчаўчок у круглым цельцы гранаты. «У нябожчыка зубы не баляць!» Нехта другі і, здалося, уголас палічыў навошта секунды фразай майго сябра Федзькі, і ён жа, гэты хітраваты, злы, лоўкі, не далічыўшы, нечакана для сябе самога, кінуўся за сцяну, як за борт, пакінуўшы ў хляве гранату, і яна падае на паліцая…

Балюча стукнуўся аб дол, аб выбух, аб цемру. Сцяна хлява дыхнула на мяне дымным смуродам — у заплюшчаныя ад болю вочы, у нос. Ускочыў з вывіхнутым ці зламаным плячом, каб бегчы абы-куды, толькі далей ад таго, што я зрабіў.

— Хальт! Комм Гер!

Боль у плячы адпусціла, не засцілае вачэй. Немец стаіць каля склепа, наставіў на мяне аўтамат. Я іду да яго, нават спяшаю, абы далей быць ад хлява. Два немцы паўляжаць каля кулямёта, пастаўленага на высокія ногі-распоркі.

А яшчэ двое стаяць над нейкай старой. Яна ляжыць тварам у зямлю, чакае худымі вострымі лапаткамі стрэлу, а немцы стаяць над ёю, закурваюць. Смешна ім, што яны ўсяго толькі кураць, усміхаюцца, а чалавек ужо паміраць прыгатаваўся!

— Нах хаўз, матка, — кранае яе аўтаматам немец.

Я з палёгкай заўважаю, што выбух мой нікога на ўстрывожыў. Зараз яшчэ адзін немец кіне гранату ў склеп. Шпурнуў і прыпаў да пясчанай страхі-накату. «Мой» немец апусціў аўтамат, дачакаўся новага выбуху і ўжо тады накіраваўся туды, дзе ляжыць старая. Паказаў, каб і я ішоў да таго месца.

І адразу не стала тут партызана, што кінуў гранату, забіў паліцэйскага, — да немцаў ідзе даўно не голены вясковы хлопец у брудных ботах і ў шэрай навыпуск кашулі. Вось толькі штаны з італьянскага, так, так, з нейкага жаўтлявага, не нямецкага сукна, проста з коўдры: разведчыкі, вядома, абдурылі мяне, штаны з коўдры, і нічога няма ў іх нямецкага, салдацкага!

— Мутэр? — немец паказвае на старую.

Худы вясковы хлопец на ўвесь рот бязвольна ўсміхаецца (упершыню я ацаніў гэту сваю бязглуздую усмешку) і кранае старую за плячо.

— Хадземце, не бойцеся.

Старая хутка ўсхапілася на калені, глядзіць невідушча, губы яе хутка-хутка варушацца.

— Вэк, нахаўз! — немец у ўсмешлівых акулярах паказвае ў бок вёскі. Я памагаю жанчыне ўстаць, і мы спяшаем пайсці, ідзём з ёю да гародаў.

Першы ланцуг карнікаў ужо наперадзе нас, рух яго замарудзіўся каля хлявоў. Другі ланцуг, радзейшы, даганяе нас. З гэтага да нас кіруецца немец з паліцаем. Паліцай, відавочна, гарадскі, апрануты ў чорны мундзір з шырокімі шэрымі абшлагамі і такім самым каўняром. Абодва, і немец і паліцай, самаздавольна маладыя і вельмі падобныя фізіяноміямі, хаця нямецкая галава накрыта стальным каўпаком каскі, а паліцэйская — чорнай пілоткай.

Яны падштурхоўваюць мяне і старую і наперамenку тлумачаць, хто мы, чаму нас трэба гнаць.

— Шнэль, шнэль, рус!

— Давай, давай! Сталінскія бандыты!

Малады немец ідзе так, каб паліцай таксама быў у яго перад вачамі.

— Швайн!..

— Бандыты!..

Гэта не проста лаянка. У гэтых лаяльных мянушках усе іх перакананні, іх тлумачэнне таго, што адбываецца і ў чым яны ўдзельнічаюць. Зброя скарастрэльная, ідэі кароценькія — адно даганяе другое!..

— Швайн… шнэль… сталінскія… рус… бандыты, шнэль… давай… шнэль! Шнэль! Давай! Давай!..

Дзіўна, што ўвесь час, пакуль мяне гналі, пакуль я ішоў да вёскі, я помніў хлеў і флегматычнага паліцая, на якога скінуў зверху гранату. Спачатку вісела нада мной боязь, што яны выявяць гэта. Потым на змену іншае пачуццё ўсплыло, мне ўжо знаёмае. Мы аднойчы абстралялі з рэдкага сасонніку каля самага горада нямецкіх веласіпедыстаў. Яшчэ сонечна круцілася кола над целам забітага мною салдата, а мы ўжо ўскочылі на ногі, каб бегчы. Нечакана з'явіліся немцы на машынах. Нас глушылі, даганялі блізкія разрыўныя кулі, немцы ўжо акружалі нас, а пад нагамі сухі, сыпкі, як мука, пясок: не бяжыш, а абяссілена буксуеш на месцы! І, галоўнае, зрабілася раптам усё роўна, тупая абыякавасць да самога сябе. Тое, што я нядаўна забіў, адыгрывала ў гэтым нейкую ролю, спрашчала ўсё, і маю смерць таксама…

Першы ланцуг карнікаў ужо на гародах. Раптам заспяшаліся яны, закрычалі, нямецкія каманды, паліцэйскія вокрыкі, сабачае выццё, жаночыя і дзіцячыя крыкі і плач, як полымя, ускінуліся над вёскай. Карнікі зазіраюць у кожныя дзверы, у кожную яму, шчыліну, раскідаюць жытнія бабкі, якімі застаўлены гароды. І тут я зноў убачыў жанчыну ў ружовай кофце пра якую ўжо пазабыў. Яна ўстала на калені каля плота, сама паказала сябе, калі немец падышоў да лазні і пачаў шнырыць ствалом вінтоўкі пад развешаным бульбоўнікам. Немец убачыў жанчыну, што ўстала з зямлі, і накіраваўся да яе. Але другі карнік (гэты не ў касцы і не ў пілотцы, на галаве ў яго зялёная фуражка з вельмі доўгім брылём) упэўнена падышоў да лазні і скінуў на зямлю жэрдку з бульбоўнікам. Дзеці, двое старэйшых, стаяць на каленях, прыціснуліся тварамі да сцяны і закрылі вочы рукамі, а хлопчык гадоў трох здзіўлена і непаразумела, як пасля сну, глядзіць на чалавека ў дзіўнай фуражцы.



Жанчына нялюдскі закрычала і папаўзла, а потым пабегла да лазні.

— Швайн! — штурхнуў мяне аўтаматам малады немец.

— Бандыты! — спахапіўся, растлумачыў (сабе і мне) паліцай і таксама мяне штурхнуў.

Крык, чалавечы плач і выццё выбухнулі ў нейкі міг, каціліся праз вёску, як пажар, і ўжо не спыняліся ўвесь дзень, да самага, да таго апошняга імгнення…

Нас выпіхнулі на вясковую вуліцу — мяне са старой і жанчыну ў ружовай кофце, у якой не хапала рук, каб сабраць, трымаць каля сябе малых. Таксама, як у нейкі міг выбухнулі і ўжо не спыняліся плач і крык, так з гэтага моманту пачаўся той шалёны гон, бег. Нас выгналі на вуліцу, па якой ужо людзей, дзе ўжо мітусіліся людзі, і ўсё новых і новых жанчын з дзецьмі, мужчын выдзіралі з хат, з двароў, выпіхвалі з брамак, выкідвалі на вуліцу і гналі, гналі наперад, некуды ў канец вёскі. З крыкам, хрыпам, ударамі прыкладаў, палак, з вышчэрваннем і кіданнем аўчарак некуды прапіхвалі разбухлы натоўп. Спачатку працэсія сунулася марудна, толькі ўнутры яе быў бесперапынны, як крык і плач, рух, мітусня, перабяганне з месца на месца, спалоханае шарахание ад сабак, якіх карнікі раз-пораз кідалі з павадкамі ў натоўп, *кусалі яго*. Але ўсё прарэзлівей каманды, вокрыкі, удары, кіданне, выццё і чалавечы плач, і ўсё хутчэй коціцца разбухлы натоўп да нечага апошняга, што чакае ў канцы вуліцы. І чым больш хуткі, шалёны бег, тым больш лютымі робяцца карнікі, тым часцей штурхаюць, б'юць, равуць, гыркаюць.

І ўсё больш пакрыўджанымі становяцца чырвоныя спацелыя морды катаў. Нават пакута на іх фізіяноміях, мука, крыўда. Мы

ж такія недысцыплінаваныя, ніяк не хочам зразумець, чаго яны ад нас дабіваюцца, такія мы крыклівыя, супраціўляемся, не жадаем верыць у аўсвайсы, у праверку дакументаў, у звычайнасць і неабходнасць таго, што адбываецца.

Асабліва да дзяцей цягнуцца карнікі з палкамі і аўчаркамі. А калі хлопчык гадоў дзесяці з-пад рук маці кінуўся ў жыта, немец аж застагнаў ад крыўды і пусціў аўчарку. Жанчына кінулася за імі, а на яе наскочыў другі карнік. О, якім гняўлівым ён быў, як пакрыўдзіўся за непарадак, у якой пакуце скрывіўся яго твар!

Я яшчэ раз убачыў белага старога, якога заўважыў раней з хлява. Ён паспеў ужо прайсці ўсю вёску і зараз стаяў, нібы чакаў нас, каля нечага чорнага, што вісела на сцяне вялікага калгаснага свірна. Каля гэтай вялікай, чорнай, не тутэйшай, не вясковай анучы — нейкага злавеснага знаку для карнікаў — сабралі людзей, якіх прыгналі раней. (Толькі потым, калі ўспамінаў усё, я зразумеў, чаму так стаяў каля чорнага палотнішча, так трымаў галаву белы стары, — ён быў сляпы.)

Збоку хлява тоўпяцца немцы ў афіцэрскіх фуражках, стаяць машыны, матацыклы. І два станковыя кулямёты, нацэленыя на свіран.

Каля расчыненых варот нас чакае калідор з аўчарак і карнікаў. Спакойна, дзелавіта стаяць дзве шарэнгі людзей з аўчаркамі, нібы тое, што яны робяць, самы просты, зразумелы ў жыцці занятак. Усё гэта (таксама, як і чырвоную супрацьпажарную дошку на сцяне свірна) я *разгледзеў* потым, праз шмат дзён, калі зноў і зноў перабіраў усё ў запалёнай памяці.

А ў той момант было толькі адчуванне, што нас, мяне спіхваюць са смяротнай кручы і я чапляюся рукамі, нагамі, жыватом, не даюся і не жадаю верыць, што гэта канец, але ў той жа час да жаху ясна ўсведамляю, што *гэта* няўхільна здарыцца. Мог, мог жа я вось у гэты самы час быць зусім не тут! Але няўжо ёсць яшчэ нешта іншае на зямлі, калі тут вось *гэта*?..

Жывая, звілістая кішка з карнікаў і аўчарак стала заглытваць натоўп і прапіхваць да чорнай адтуліны расчыненых варот порцыямі па пяць, па дзесяць чалавек. Нехта нераспазнавальны сярод карнікаў, якія штурхаюць, б'юць нас у спіну, па галовах, выкрыквае:

— Падрыхтуйце дакументы, пашпарты, метрыкі, школьныя даведкі, падрыхтуйце дакументы!..

Але ніхто ніякіх дакументаў не глядзіць, не пытае, напэўна, план, сцэнарый жудаснага спектакля зменены на хаду чыімсьці распараджэннем і той, што выкрыквае, выконвае ўжо неабавязковую, лішнюю ролю.



— Падрыхтуйце даведкі!..

Рухавая кішка з эсэсаўцаў і сабак то пашыраецца, то сціскае нас, захоплівае ўсё новыя і новыя партыі людзей, адрывае іх ад акружанага, здушанага з усіх бакоў натоўпу, прапіхвае да свірна, да расчыненых варот. Твары ў тых, хто нас штурхае, шпурляе, б'е, кусае — раз'ятраныя, злосна сляпыя і абавязкова пакрыўджаныя. Мы гэтак дрэнна, гэтак тупа паводзім сябе, не жадаем зразумець, чаго ад нас хочуць, патрабуюць, мы аглушаем іх такім жаночым крыкам, такім дзіцячым плачам і выццём, гэтак нялёгка з намі, а трэба ўсяго толькі зайсці ў свіран і трэба падрыхтаваць пашпарты і метрыкі!..

Двое карнікаў занадта адпусцілі сабачыя павадкі на высокага маладога мужчыну, які дзвюма рукамі ўпёрся ў касяк і не ўпускае людзей у вароты. Аўчаркі спачатку рвалі яго, але, дацягнуўшыся, нечакана ўчапіліся ў глотку адна адной.

Мужчыну, які ўпінаўся, ужо прыстрэлілі і кінулі да сцяны свірна і яшчэ шчыльней сціснулі натоўп, але эсэсаўскую кішку ў гэтым месцы скруціла, карнікам усё не ўдаецца разарваць сабак. Яны замкнулі клыкі на глотцы адна адной, яны соладка замерлі, раскірэчыўшы дужыя ногі. Іх штурхаюць, б'юць ботамі, расцягваюць. А другія карнікі валакуць, шпурляюць да варот нас…

Непрыгожы чалавек, калі яго забіваюць! Гэта заўсёды прачытваецца на пакрыўджаных тварах катаў. Як я помню і гэтыя фізіяноміі і помслівае пачуццё таго, каго забіваюць: вось вам, вось жа вам! Я выкручваюся, кусаюся, агідна вішчу, я гатоў тхарыны смурод пусціць у гэтыя морды, на якіх трапечацца катаўская крыўда.

Уразіла мяне аднойчы фатаграфія ў Бялградскім партызанскім музеі. Напэўна, і зараз яна там. Да яе здалёку пачынаеш ісці, абы зірнуў, — як на святло. Дзіўная прыгажосць чалавечай усмешкі! Але падыходзіш і раптам бачыш, што на шыі ў шчаслівага юнака пятля! А ззаду, за спіной яго, стаіць фашыст, падрыхтаваўся выбіць з-пад ног асуджанага апору. Каму ён усміхаецца, гэты юнак з белым адкладным каўняром вакол чыстай тонкай шыі, з такім адкрытым тварам студэнта? Каму такая ўсмешка? На злосць катам? Але ні ценю выкліку, пагарды, ніякага напружання! Нібы нявеста перад вачамі ў яго, а не яго забойцы. Не было б за спіной у юнака той дзелавітай фігуры ў мундзіры, можна было б падумаць, што проста на самадзейнай сцэне забаўляюцца студэнты, паказваюць пакаранне смерцю па-маладому неразумна

і весела, як нешта немагчымае, і «асуджаны» бачыць вакол сябе ўсмешлівыя твары сяброў. А не морды забойцаў…

Каму ж гэта чалавечая ўсмешка? Апошнім людзям, якіх ён бачыць? Бо другіх ужо не будзе, лепшых, жаданых. Ніколі. Гэта ўсё-ткі апошнія. Не, не!.. Я не мог з гэтым згадзіцца. І не мог адысці ад партызана, які ўсміхаўся. І нарэшце зразумеў. Чалавек заўважыў вока фотаапарата і скрозь яго зірнуў за спіны забойцаў — на сяброў, магчыма, на нявесту. Ён бачыць людзей, якіх пакідае жыць замест сябе! Каты самі далі яму гэту магчымасць…

Мы ж бачылі толькі катаў, толькі іх, хто хацеў нас загнаць у свіран, каб зручней было зрабіць з нас агульны факел, хутчэй ператварыць нас у бяспечныя для іх трупы, спакойныя, дысцыплінаваныя. І я кідаўся разам з усімі паўз сцяну з мордаў аўчарак і катаў, злы, бездапаможны, куслівы, брудны, гатовы смуродам заляпіць іх пакрыўджаныя і ярасныя зяпы і вочы!

Аднойчы, калі ўжо студэнтам быў, убачыў у кнізе групу людзей, звязаных, аблытаных змеямі, — Лаакаон. (Памяць мая ўсё ўцякае ад свірна, нават памяць доўга не можа там прабыць!..) Тоўстыя скруткі змей на чалавечых руках, нагах, напружаных у халодным жаху, адкінутыя твары, галовы… Стол, за якім я сядзеў, пахіліўся, вокны перакасіліся, я ледзьве данёс ваніты да памыйнага вядра. Аднакурснікам маім смешна было, што ў Гайшуна такая рэакцыя на мастацтва. А я проста ўбачыў тое, што ўжо бачыў аднойчы, але толькі не на рэпрадукцыі. Было гэта ў самым пачатку маёй партызаншчыны. Немцы і ўласаўцы злавілі нашага разведчыка, а мы потым хадзілі забіраць яго кінутае на могілках цела. Партызан доўга адстрэльваўся ад немцаў з-за камянёў і загародак, але яго ўсё-ткі схапілі жывога… Рукі, шыя чалавека былі абматаны сінімі жахлівымі скруткамі з яго ж вантробаў. І на мёртвым відаць было, як чалавек сам ірваў іх ад сляпой жудасці і болю…

Натоўп, сціснуты, звязаны, абматаны шарэнгамі-змеямі салдатаў з аўчаркамі, звіваўся ў жаху, адчаі, гневе, а воддаль застылі непраўдападобна спакойныя фігуры афіцэраў у высокіх фуражках. Я іх заўважыў, а потым убачыў зноў ужо з акенца свірна. У гэтага немагчыма халоднага, пільнага спакою быў свой цэнтр, і гэта быў *ён*, мой самы галоўны вораг.

Але яго я разгледзеў, вылучыў пазней.

Калі людзей усё-ткі пазапіхвалі, пазакідвалі ў свіран і нас глынула злавесная цемра, я апынуўся каля самых дзвярэй, іх зачынілі і зараз забівалі глухімі, як на могілках, ударамі. І я зноў з упартасцю вар'ята стаў шукаць, у чым яшчэ можа быць выратаванне, апошні шанец. Гэта было ўва мне звыклае, партызанскае. Але я быў часткай і таго, што крычала, ірвалася, кідалася пад высокай страхой свірна, скрэсленай, парэзанай вузкімі палосамі сонечнага святла. (Значыць, у той дзень і нават у тыя гадзіны, хвіліны ярка і шырока свяціла сонца!..)



Сонечныя палосы, слупы святла, якія падаюць зверху, дымяцца пылам. І ўжо дзіцячыя крыкі па ўсім свірне:

— Мамачка, дым.

— Ой, запалілі!

— Мамка, гэта будзе балюча, мамка, гэта будзе балюча?..

У гэтым жахлівым натоўпе мне ўжо бачацца ўмольныя вочы, тварыкі маіх сястрычак-блізнят. Усе твары, усе вочы дзіцячыя тут аднолькавыя. І я ўжо шукаю і баюся пазнаць маці (мне пачынае здавацца, што гэта адбываецца ў тым хляве, дзе іх палілі). Яна ўбачыць, што і я тут, што сын яе таксама тут…

Знадворнага святла болей каля дзвярэй — з дзвюх вузкіх, высока прарэзаных дзірак-аконцаў. Яны прыцягваюць да сябе, тут асабліва цесна. Нейкі мужчына не вытрымаў, падцягнуўся на руках, зірнуў. І адразу рэзка адкінула яго галаву — чалавек упаў на нас. (Крык стаіць такі, што аўтаматнай чаргі мы не пачулі.) Сонечныя палосы на тварах, на плячах людзей адразу афарбаваліся крывёю. Ліпкім і цёплым пырснула і мне на лоб. Але нельга руку падняць, каб выцерці, так сціснуты мы.

І тут мы ўбачылі, як мокра пачарнелі пазы паміж бёрнаў і дошкі дзвярэй, рэзка запахла бензінам.

Шматрукі, шматгаловы, шматгалосы Лаакаон з вялізнымі жаночымі, дзіцячымі вачамі варочаўся, ірваўся ў паўцемры, і часткай гэтага быў я.

А недзе ёсць поле, цішыня са строкатам конікаў, пустая палявая дарога, чалавек, што спакойна ідзе некуды…

Раптам вузкае акенца над намі заслланілася знадворку. Нас разглядваюць нейчыя вочы з-пад доўгага казырка. Нібы каго шукаюць. Стала цішэй. Толькі дзіцячы плач застаўся, як раўчукі, калі адхлыне прыбой.

— Без дзяцей — выходзь, — загучаў голас з акцэнтам. — Можна. Хто без дзяцей. Сюды вось, у акно. Дзяцей трэба пакінуць…

Стала зусім ціха, але ў гэтай цішыні зрушыўся з месца свет, як, напэўна, непрыкметна зрушвалася, нахілялася вось планеты перад абледзяненнем. Жанчыны першыя зразумелі, усведамілі сэнс сказанага. Такога чалавечага стогну я не чуў за ўвесь той

жудасны дзень. Не, такой цішыні. Людзі замоўклі, быццам усё да канца зразумеўшы. Да гэтай рысы, хвіліны іх яшчэ нешта звязвала: людзей у забітым свірне і тых, што стаялі знадворку. Людзей — і людзей. А цяпер няма да каго гукаць. Вось ужо хутка чвэрць стагоддзя не заціхае той нямы чалавечы стогн і над усім:

— Сынок, сынок мой, нашто ты ў гэту рызіну абуўся? Твае ж ножкі вельмі доўга гарэць будуць. У рызіне.

І толькі тут я зразумеў, што яны рабілі, людзі, паспешна, у нямым крыку: яны раздзяваліся, раздзявалі дзяцей, зрывалі адзенне, быццам яно ўжо тлела на іх…

А нехта падцягнуўся ўжо да вызваленага акенца, зірнуў. Яго падсаджваюць, яму памагаюць. Чалавек адхіляе твар, галаву ад святла, як ад нясцерпнай гарачыні, — чакае аўтаматнай чаргі. Не вытрымаў, задрыгаў нагамі, споўз уніз. Тады я паказаў, што хачу падцягнуцца, і мяне з гатоўнасцю ўзнялі нейчыя рукі, плечы. Спачатку я ўбачыў машыны і тых, хто далей ад хлява, — афіцэраў. Перад хлявом наўкола салдаты ў насунутых на вочы касках, з аўтаматамі напагатове. Мяне паднімаюць, ужо не твар мой, а калені, ногі на ўзроўні акенца. Я прасунуў у дзірку адну нагу, асядлаў сцяну, сагнуў галаву, праціснуў плячо. Убачыў пад сабою зяленіва травы і салому ўздоўж сцяны. Амаль выштурхнуты. Зваліўся на дол і зноў адчуў выбітае плячо. Мяне схапілі і адкінулі ад хлява гэтак жа злосна і рэзка, як перад гэтым шпурлялі ў дзверы. Піхнулі яшчэ і яшчэ раз, і я апынуўся каля самых машын.

І тут я зблізку ўбачыў яго, галоўнага свайго ворага. Лысы, паголены да бляску (ён адзін сярод афіцэраў з непакрытай галавой), у залатых акулярах, назірае за ўсім нібы збоку, ён падобны на ўрача ці чыноўніка, апранутага ў ваеннае.

Магчыма, я таму адразу стаў глядзець на яго, што на яго плячы круціцца, заносячы доўгі, як у пацука, і тоўсты хвост, грымаснічае малпачка з круглымі белымі плямамі вакол вачэй. Ён яе ласкава дастае, пагладжвае рукой. Вочы нашы сустрэліся: мае, яго, малпачкі. Ён разглядвае мяне цікаўна (так мне здалося), у малпы выгляд бессэнсоўна засмучоны.

Каля мяне аказаўся той самы малады паліцай, які гнаў мяне да вёскі. Але я пазнаў яго не адразу — такі ў яго сцёрты, бледны, не ранейшы твар. Здаецца, тут скончылася наркатычнае ўздзеянне кароценькіх ідэек наконт «сталінскіх бандытаў». Такое, напэўна, упершыню бачыць, удзельнічае ў такім.

А ў дзіркі акенцаў ужо праціскаюцца: у адным мужчына засеў, завіс, дрыгае нагой, не можа прасунуць плячо і галаву; у другой дзірцы то з’яўляецца, то знікае сцяты ад жудасці жаночы твар. Потым дзіцячая галоўка з’явілася, і зноў дапытлівы, не адважваецца, скажоны пакутай твар жанчыны. Ён страшэнна, нема крычыць. Але вось у дзірцы дзяўчына, амаль дзяўчынка, тоненькія яе рукі, ногі разам з галавой прасунуліся на вуліцу, аголена і бездапаможна як бы крыкнулі. Яна звалілася на салому. Але адразу ўскочыла, каб узяць дзіця, якога прапіхваюць, падаюць ёй адразу чатыры ці больш рукі. І адначасова, нібы адбылося нешта невыноснае для іх усіх: пратэстуючы ўздрыгнулі афіцэрскія фуражкі, абурана калыхнулася ўся шарэнга салдат і аўчарак. Двое ці трое з аўтаматамі кінуліся да дзяўчынкі і сталі адрываць яе ад дзіцяці і дзіця ад яе. Свіран жудасна, да самага неба крычыць. Толькі зараз мяне працялі буйныя халодныя дрыжыкі. Гэтак жа дрыжыць і малады паліцай, які мяне гнаў да вёскі. Але там, дзе стаіць мой самы галоўны вораг, зноў нерухомасць або плаўныя жэсты, непаспешлівасць якіх падкрэсліваецца шалёным кіданнем белавокай маленькай малпачкі, што пераскаквае з пляча на плячо, зіркае то з-за фуражкі, то з-за паголенай галавы. Дзяўчынку і дзіця разарвалі на два целы, якія крычаць, і адно, меншае, ужо зусім раздзетае, голенькае, сталі запіхваць у дзірку. Дзяўчынку шпурнулі да машын, яна дабегла да калодзежа, дзе вартуюць мяне. Ніхто ніколі не бачыў такіх старадаўніх жаночых вачэй, як у гэтай дзяўчынкі, калі яна бегла да нас, нібы па дапамогу. Дабегла, упала тварам на зямлю і не стала паднімацца.

А той, з малпачкай, цяпер дзяўчынку, як нядаўна мяне, правёў цікаўным позіркам, здаецца, яму ўсё было зразумела. І тым, што навокал яго, было ўсё зразумела. Непаразумелы чалавечы выраз быў на бела-чорнай валасатай мордачцы малпы з вырачанымі сумнымі вачамі.

Тых, хто выкідваўся з аконцаў, гналі да машын, да калодзежа, нас станавілася ўсё больш, і чым менш людзей заставалася ў свірне, тым больш нясцерпным, гучным быў іхні крык, выццё.

Вываліўся хлопчык, устаў, спалоханы, да яго рвануліся людзі ў касках, схапілі. Распята трымаюць за абедзве рукі і глядзяць на лысага афіцэра з малпай. Ён памарудзіў, але махнуў у бок калодзежа: дазволіў лічыць не дзіцем. Ужо старая праціскваецца ў дзірку, доўга, нязграбна, жах і непаразуменне на чорным ад маршчын твары…

Нешта адбываецца, зразумелае людзям у фуражках, людзям у касках і асабліва брытагаловаму. Ён спакойна, дапытліва глядзіць на тое, што адбываецца, але сам больш заняты малпай, чакае,

калі з чужога пляча вернецца да яго, пагладжвае яе, торгае за хвост.

Зноў выкінулі ў дзірку хлопчыка. На гэты раз брытагаловы зморшчыўся, як ад непрыемнасці, зробленай асабіста яму. І адразу абурана завылі людзі з аўчаркамі, да іх падбег афіцэр. Хлопчык вырываўся з салдацкіх рук, якія лавілі яго, а не неслі, а перакідвалі назад да акенца-дзіркі, упускаючы на зямлю, але не выпускаючы. Жанчына, напэўна, яго маці, спяшае вылезці надвор, яна ціснецца ў дзірку, а сама глядзіць на хлопчыка: дзе ён, што з ім? Але яго ўжо прыцягнулі пад другое акенца і пхнуць назад у свіран. Жанчына хоча таксама назад, у свіран, але яе пхнуць адтуль рукі, думаючы, што памагаюць ёй. Упала на дол, а хлопчык ужо знік у чорнай дзірцы. Жанчына ўскочыла на ногі, падбегла да яе, цёмная, вялізная ад жаху і пакуты, яе схапілі і павалаклі, стрэлілі… І шпурнулі пад сцяну на салому.

Брытагаловы з грымасай незадаволення і гідлівасці рушыў да адкрытай легкавой машыны. Зараз я бачыў яго старэчую сутулую спіну, па якой кідаўся, матляўся, як маятнік, тоўсты доўгі хвост…

Гэта быў знак — канчаць. Маладзенькі афіцэр падбег да свірна, немцы, што ляжалі за кулямётамі, падрыхтаваліся, шарэнга карнікаў адступіла ад сцен свірна. Выбухнула ад саломы па сцяне — як крыкнула! — полымя. Яно ўдарыла па вачах, як тады на востраве. Але я ўсё глядзеў, як з акенцаў выкідваюць дзяцей і яны падаюць проста ў палаючую салому…

Іосіф Іосіфавіч Камінскі (в. Хатынь, Лагойскага раёна, Мінскай вобласці):

*І мяне павялі ў той хлеў… Дачка, і сын, і жонка ужо там. І людзей столькі. Я кажу дачцэ: «Чаму вы не адзеліся?» — «Дык сарвалі з нас адзежу, — кажа дачка. — З мяне і даху з плеч сарвалі, раздзелі нас…» Ну, прыгоняць у хлеў і зачыняць, прыгоняць і зачыняць. Столькі людзей нагналі, што і не прадыхнуць ужо, руку не падымеш. Людзі крычаць, дзеці гэтыя. Ведама, столькі душ, і страх гэтакі. Сена там ляжала, салома, кармілі яшчэ, трымалі кароў. Зверху і падпалілі. Падпалілі зверху, гарыць страха, агонь на людзей сыплецца, сена, салома загарэліся, душацца, задыхаюцца людзі, так сціснулі, што і дыхаць ужо няма як. Няма як. Я сыну кажу: «Упірайся ў сцяну нагамі і рукамі, упірайся!» А тут дзверы расчыніліся. Расчыніліся, а людзі не выходзяць, не выбягаюць. Што такое? Аж там страляюць у дзвярах, страляюць, кажуць. А крык такі, што стрэлу таго, што стуку таго і не чуваць. Ведама ж, гараць людзі, агонь на галовы ды дзеці — такі крык, што… Я сыну кажу: «Праз галовы як-небудзь, праз галовы выбірайцесь!» Падсадзіў яго. А сам па нізе, паўз ногі. А на мяне бітыя і наваліліся. Наваліліся на мяне бітыя тыя, прадыхнуць нельга. Паварушыў плячыма — тады я здаравейшы быў, — стаў паўзці. То-толькі да парога, а страха і абвалілася, упала, агонь на ўсіх!.. Я яшчэ выпаўз, а ка мне падбягае немец і я-як прыкладам — зубы мае і пабеглі. І сын таксама паспеў выскачыў, толькі голаў яму трохі абсмаліла, валасы абгарэлі. Адбег метраў пяць — яго і палажылі з кулямёта…Палажылі…*

*А сусед наш, ён такжа выбег з агню і на мяне ўпаў, сеў, гарыць, як пень, чырвоны, і кроў на мяне з яго льецца… «Ратуй, — крычыць, — ратуй мяне!» Потым паехалі немцы. Я сына стаў валачы, пацягнуў, а ўжо і кішкі за нім… Спытаў яшчэ толькі, ці мама жывая, сястра… Не дай Бог нікому, хто на зямлі жыве. Каб не бачылі і не чулі гора такога!..*

Аўдоцця Іванаўна Грыцэвіч (в. Капацэвічы, Салігорскага раёна, Мінскай вобласці):

*Схавалася на гарышчы за лежаком, пад кучай лыку. А лесвіца скрып-скрып — падымаецца. Чую, ён ужо тут, побач, дыхацельны нехта. Шагі — ідзе да лежака. Адкрыла я вочы, а ён на мяне глядзіць, глядзім адзін на аднаго. А там ужо іншы ўзлазіць. Дык ён узяў вязку лыку і паклаў мне на твар, закрыў…*

Якаў Сяргеевіч Стрынатка (в. Шалаёўка, Кіраўскага раёна, Магілёўскай вобласці):

*У сорак другім летам гэта было, а партызанах тут не вельмі яшчэ чуваць было. Тут, у Борках, паліцыя была. І раптам немцы акружылі Боркі. Каго на полі, у кустах сустрэнуць, не забіваюць, а гоняць перад сабой у вёску. А я якраз ехаў у Боркі, ячменю абяцалі прадаць. З Шалаёўкі сам, гэта пяць кіламетраў. Чэрці мяне пагналі якраз пад гэта! Хацеў назад завярнуць, не дазволілі. Не білі, што праўда, то праўда, толькі паказалі, каб ехаў у Боркі. Тады я хутчэй пагнаў каня, заехаў у двор, знаёмыя ў мяне там жылі. Яны таксама бачаць, што немцы з усіх бакоў, а чаму, што — не ведаюць. Дзед лае хлопцаў боркаўскіх, што ноччу да дзевак бегаюць у іншыя вёскі: «Вечарынка яшчэ гэтая, дзеўкі наўме, немцы падумалі, што да партызанаў бегаюць!»* Мы з гаспадаром з хаты выйшлі, дровы сталі пілаваць: не так на душы,

*калі што-небудзь робіш. Гаспадыня не вытрымала, хацела да суседкі забегчы, а немцы не пусцілі: «Нах хаўз, матка». Нікога на вуліцы не чапалі, не забівалі, што праўда, то праўда. Толькі дамоў, нах хаўз, усіх адпраўляюць. Дачку іхняю з сяброўкай, каторыя не вытрымалі, пайшлі па вуліцы, загналі ў чужую хату. Сядзім мы ў хаце, глядзім у вокны. Гаспадар гаворыць жонцы: «Давай мы з чалавекам паснедаем, да ну іх!» — «Паедуць, тады і вып'еце», — кажа жонка. А тут хутка і застукалі ў двары. Заходзіць з аўтаматам, за ім яшчэ — і адразу адштурхнуў гаспадыню ад парога і перасек яе з аўтамата, адразу. А я як адскочу спачатку ад стала, сеў на кравацъ, так і сяджу, толькі цёмна ў вачах зрабілася і загудзела. Гаспадар з-за стала падняўся, яны і яго! Паспеў я яшчэ ўбачыць, як з бакоўкі старога піхалі. Тут ужо і па мне разанулі, я адкінуўся на кравацъ. Калі ачнуўся, дзед ужо мёртвы ляжыць каля самага парога…*

Ганна Мікітаўна Сініца (в. Боркі, Кіраўскага раёна, Магілёўскай вобласці):

*Зайшлі ў хату і, не гаворачы ні слова, стрэлілі ў маму. Перад гэтым мы чулі: «пак-пак-пак!» — страляюць у суседзяў. Мама тады сказала: «Курэй ловяць». Нават не падумалі, а на вуліцу баяліся выйсці. Хто выйдзе, яны прасілі: «Матка, нах хаўз». Як стрэлілі ў маму, яна яшчэ ў нашу комнату забегла: «Дзеткі!» Я адразу на печ узляцела, і дзеўка за мной. Я ля сценкі ляжала, таму і асталася. Адзін на кравацъ стаў, каб вышэй, і страляў з вінтоўкі. Раз — зарадзіць, і зноў — бах! Сястрычка была з краю, і на мне ляжалі сяброўкі, суседкі нашы, я чула, як забілі іх. А кроў на мяне льецца. «Ой! Мамачка!» — а на мяне кроў. Потым я чула, як гаварылі, смяяліся. Патэфон быў, дык яны завялі, нашы пласцінкі слухаюць. «Полюшко-поле»… Пайгралі і пайшлі. Я спаўзла з печы, печ красная-красная, мама на падлозе, а ў акне гарыць вёска, і мы гарым, школа таксама…*

Марыя Фёдараўна Кот (в. Вялікія Прусы, Капыльскага раёна, Мінскай вобласці):

*Акружылі нашу вёску раніцай… Мы ў глінабітцы сабраліся, чалавек дваццаць суседзяў. Чуем, ужо ідуць… І як застралялі ў дзверы, у вокны, малодшанькая мая: «Ой, мамочка!» Глянула я, а ёй сюды папала, у пераноссе. Только захрапела. А другой ужэ шаснаццать было, маёй старшай. Ляжу ў маіх дзецях. Забілі нас, а ўсё чую, як за печкай дабіваюць суседзяў. І вочы адкрыла.*



*Жанчына цалуе яму левую руку, не дае адсунуць кравацъ — там дзеці, а ён б'е яе наганам па галаве. Таўкуць кравацямі тых дзяцей, а яны пішчаць, Госпадзі! А другі ўбачыў, што я гляджу, падбег і — трах, трах, трах! Я як цяпер бачу сіні наган, сіні-сіні, і агнём мяне па твары, па твары. Адцягнуў мяне за ногі ад маіх дзяцей. А я ўсё жывая. Чую, зноў ходзяць. Думаю, гэта ж зноў немцы. А гэта сын мой, Жора, у крыві, нічога не бачыць, ідзе да парога. «Сынок!» А ён: «Я думаў, мама, вас ужо няма, хацеў ісці, няхай і мяне заб'юць…» — «Лажыся, сынок, на тое самае месца, можа, яно шчаслівае!» Не ведаю, ці пачулі там ці што, але забягае адзін: «Уставай!» Пастаяў. Потым пад печ гранату кінуў. А ўжо дым, ужо паляць глінабітку, аблілі нечым. Столь гарыць над галавой. Не забілі яны нас, дык яшчэ горш — жывымі згарым. Ускочыла я, кравацъ ля акна стаяла, раму выбіла, заву Жору: «Памажы выцягнуць іх!» Паднялі старшанькую, дык яно такое маладое, мя-яккае!.. Не магу, цяжолая, і рукі мае амярцвелі, а не хачу, каб яшчэ і згарэлі. Неяк зацягнула на кравацъ, на акно, самі вываліліся з Жорам, у яму ад картошкі зацяглі. А вёска ўся гарць, людзей цягнуць, каго ад-куль, пішчаць, крычаць, а немцы па агародах ходзяць, свішчуць, а тут свінні чаўкаюць над абгарэлымі гаспадарамі сваімі… Бліжэй яны, усё бліжэй свішчуць, чаўкаюць, ужэ жалею, што не забілі нас там: знайдуць, будуць мучыць зноў, а мы тожа будзем крычаць, пішчаць…*

Таццяна Фёдараўна Краўчонак (в. Брыцалавічы, Асіповіцкага раёна, Магілёўскай вобласці):

*Пасля Сталінграда гэта было. Я гэта памятаю, таму што брат з лесу прыходзіў, радаваўся. І сказаў, што немцы злыя цяпер будуць. А назаўтра і камандзір нейкі прыязжаў, раіў, ледзь пачуем немцаў, у лес хавацца. Але потым папрасіў авечак даць, тут некаторыя і рашылі: а во чаго пужаў! Зналі мы пра гэта і самі, а гэта ж зіма, мароз, а тут дзеці, а адзежы, каб цёплай, не было… Цяжка ўвесь час у лесе. Нас і захапілі ў вёсцы. Загадалі к школе сабірацца, дакументы, аўсвайсы правяраць. Запёрлі нас, ні вады дзецям, ні выйсці. Узялі чалавек колькі ў падводы: у лес, у пусты лагер партызанскі хто-та павёў немцаў. Вярнуліся яшчэ злей, возчыкаў пабітых к нам бросілі. Яны ў тым лагеры падарваліся. Спярша ў партызанскую зямлянку паслалі нашых, дзеравенскіх. Тыя вашлі, пастаялі, ні да чаго не датрагіваліся. Ні да гітары, ні до шынелі. А потым немцы вашлі, чацвёра, і тронулі. Іх і закінула аж на сасну.*

*Сталі яны нас гнаць. З школы ў хлеў калгасны. Спачатку партыямі гналі, а потым сем'ямі. Мяне апошнюю, я апошняй была. І чацвёра дзетак маіх са мной. Майго старшага дык на самым парозе паклалі. Упала я на ўбітых, а дзеткі са мной. Вось сюды, у шыю мне, трапіла. Толькі чула, як немец сеў на мае ногі і страляе з гэтага... аўтамата. Дым, чад такі, няможна. А калі паднялася, паглядзела на ўсіх, то думаю: «Гэта ўсе будуць уставаць ці адна я?..*

Юліян Рудовіч (в. Доры, Валожынскага раёна, Мінскай вобласці):

*Сказалі ўсім ісці ў царкву і памаліцца Богу, і нас адпусцяць дамоў. У царкве немец падышоў да мяне: «Аддай кіндэр матцы», — а мяне за каўнер і выштурхнуў вон! Выштурхнуў. Калі дзяцей пакідаеш, пушчалі! Пушчалі! Жанчын, мацярок таксама, але ж не кожная маці так можа здзелаць. Ну, мая жонка не кінула, не кінула... Не знаю... Але нехта павінен і ў жывых астацца, калі так, праўда ці не? А мая не захацела, асталася з малым. Немцы царкву падпалілі, мы ўсе, каторыя на двары, чуем, як людзі там лётаюць. З кулямётаў усіх перарэзалі — агонь толькі...*

Надзея Аляксандраўна Няглюй (з былой вёскі Лявішчы, жыве ў Краснай Старонцы, Слуцкага раёна, Мінскай вобласці):

*Некалькі разоў яны прыязджалі, але мы ў лесе хаваліся. Тады яны прыехалі і засталіся. Нікога не трогаюць, нічога, сваё ядзяць, а самы іхні галоўны, начальнік іхні з вучыцелькіным сынам у шахматы гуляе. А на плячы ў эсэса малпачка ў штанішках, жывая. Праўда! Жывая такая малпачка! Ну і сталі некаторыя дадому прыходзіць. Не трымаюць і назад таксама адпускаюць. А мароз, а адзежа вядома якая да вайны ў людзей, ну і пацягнуліся дамоў. А яны вечарам палічылі, колькі вакон свеціцца, і — раз — ужо нікога не выпускаюць з вёскі!..*

*Скот увесь сабралі на выган, за вёску. І мужчын, каторыя здаравей. Я мужа свайго адправіла, не хацеў, плакаў, усе мы плакалі, угаварыла, бо нашто, каб усе разам. А дзеткі ўсё спрашваюць: «Нас будуць забіваць, мамка?» О, Божа!.. Выскачу на двор і назад бягу, а то ўбьюць, а яны адны там. Зайшоў немец, глядзіць, быццам лічыць. Паказаў мне ісці за ім у хлеў. Я не пайшла. Ён нічога, выйшаў. І тут жа забягае другі і прама ко мне. Ачнулася, усе дзеткі тут жа ляжаць мёрцвенькія, гарыць паталок нада мной, а я зачым-та чыгуны хапаю і выношу, зачым-та чыгуны выношу...*



Марыя Аляксандраўна Ліхван (в. Боркі, Маларыцкага раёна, Брэсцкай вобласці):

*— З васямнаццаці да сарака ўсім мужчынам выйсці!*

*З васямнаццаці да сарака... Дык муж мой як трымаў дзяўчынку, апусціў, пацалаваў і выйшаў. А немец узяў крыўзу — так багата тых мужчын навыводзіў, у тры шэрагі паставіў: і старшых, і каторыя маладзей, і зусім маладых — а потым узяў крыўзу і во так крыўзаю, такой жэрдкаю, на ёй копы носяць, мужчын параўняў, каб яны ўжо так роўненька стаялі. Параўняў іх, а мы ўжо так плачам, плачам! І дзеці плачуць. Нідзе нітачкі ў хустках не была сухенькай.*

*І гоняць, гоняць іх на дарогу тую трактавую. Тых мужчын гоняць. І тыя немцы, што гоняць, то ўжо — чакушку з кішэні: хлебануў, хлебануў і во так у плашч захутваюцца. І пагналі іх.*

*А наш солтыс у той, легкавік, сеў і некуды ў бок ад'ехаў і злез. І так па хатах усе бегаюць, па хатах бегаюць і тых лапат назбіраў. Яшчэ людзі не зналі, думалі, што, можа, аблаву рабіць на партызан ці яшчэ што. Нічога не зналі... А як лапат назбіраў, то кажам: «Ужо на нашу галаву назбіраў, на нашу галаву». І паехаў у той бок — на клады...*

*І пагналі адну пачку, прыйшлі зноў браць, зноў набралі тых мужчын.. Забыла, тры ці чатыры разы... Загналі і прымусілі там ямы капаць. Давай ямы капаць. Для нас усіх... І нават не вельмі далёка... Сталі забіваць нашы Боркі...*

## СПРАВАЗДАЧА (7)

Знішчэнне вёскі Боркі з 22.IX да 23.IX 1942.

«22.9.42. Рота атрымала заданне знішчыць вёску Боркі, размешчаную за 7 км ад Макран*.

У начны час таго ж дня ўзводы роты былі праінструктаваны аб запланаваным заданні. Была зроблена адпаведная падрыхтоўка.

Колькасць аўтамашын была дастатковай, каб 22.IX пагрузіць і адправіць да месца збора ў Макраны ўсе ўзводы і прыданы ўзвод роты. Пераезд прайшоў без здарэнняў.

Неабходныя для запланаваных деянняў вазы былі падрыхтаваны загадзя, так што ў назначаны час яны дасяглі мэты марша

* Маларыцкі раён.

Боркі. Пры адборы вазоў былі выяўлены некалькі ўпартых сялян, рота запатрабавала іх пакарання.

Дзеянні праходзілі планамерна, за выключэннем зрухаў пэўных яе этапаў у часе. На гэта былі наступныя прычыны: на карце вёска Боркі паказана замкнутай групай дамоў. У сапраўднасці аказалася, што гэта паселішча расцягваецца на 6–7 кіламетраў у даўжыню і шырыню. Калі развіднела, то я звярнуў ўвагу на гэты факт і таму расшырыў ачапленне з усходняга боку і арганізаваў ахват сяла ў форме клешчаў пры адначасным павелічэнні дыстанцыі паміж пастамі. У выніку мне ўдалося захапіць і даставіць да месца збору ўсіх жыхароў сяла без выключэння. Спрыяльным аказалася тое, што мэта збору да апошняга моманту ўтойвалася ад насельніцтва. На месцы збору панаваў спакой, чысло кантрольных пастоў было зведзена к мінімуму, і вызваленыя сілы ўведзены ў дзеянне. Каманда магільшчыкаў атрымала рыдлёўкі толькі на месцы расстрэлу, дзякуючы чаму насельніцтва аставалася ў няведанні таго, што будзе. Непрыкметна ўстаноўленыя лёгкія кулямёты задушылі ў самым пачатку ўзнятую паніку, калі прагучалі першыя стрэлы з месца экзекуцыі, якое ляжала за 700 метраў ад сяла. Двое мужчын спрабавалі ўцякаць, але праз некалькі крокаў яны ўпалі, скошаныя кулямётным агнём. Экзекуцыя пачалася ў 9 гадз. 00 мін. і закончылася ў 18 гадз. 00 мін. Яна праходзіла без усялякіх здарэнняў. Падрыхтаваныя мерапрыемствы аказаліся надзвычай мэтазгоднымі.

Канфіскацыя зерня і маёмасці адбывалася, калі не лічыць зруху ў часе, планамерна. Колькасць вазоў была дастатковай, таму што колькасць зерня была невялікая і месца куды складвалася незмалочанае зерне, — недалёка.

Хатні набытак і сельскагаспадарчы інвентар былі адвезены з падводамі з хлебам.

Прыводжу колькасны вынік расстрэлаў. Расстраляны 705 чалавек, з іх мужчын — 203, жанчын — 372, дзяцей — 130.

Лік сабранай скаціны можа быць вызначаны толькі прыкладна, таму што на месцы прыгону ўліку не рабілася: коней — 45, рагатай скаціны — 250, цялят — 65, свінней і парсюкоў 450 і авечак — 300.

З інвентара сабрана: 70 павозак, 200 плугоў і барон, 5 веялак, 25 саломарэзак і іншы дробны інвентар.

Усё канфіскаванае зерне, інвентар і скот былі перададзены упраўляючаму дзяржаўнага памесця Макраны.

Пры дзеяннях у Борках было зрасходавана: вінтовачных патронаў 786, патронаў для аўтаматаў 2496 штук.



Страт у роце не было. Адзін вахмістр з падазрэннем на жаўтуху адпраўлены ў шпіталь у Брэст.

*Мюлер».*
*Падпісана: обер-лейтэнант,*
*в. а. камандзіра роты.*

«На світанні стараста ў Барысаўцы сабраў усё насельніцтва. Пасля праверкі насельніцтва, пры садзеянні паліцыі бяспекі з Дзівіна, 5 сямей былі пераселены ў Дзівін. Астатнія былі расстраляны асоба выдзеленай камандай і пахаваны за 500 м на паўночны ўсход ад Барысаўкі. Усяго было расстраляна 169 чал., з іх: 49 мужчын, 97 жанчын і 23 дзіцяці… Прысуды аб расстрэле былі выкананы толькі апоўдні к 1 гадзіне дня, з-за падрыхтоўкі (капанне магіл).

*Камандзір 9-й роты 15-га паліцэйскага ахоўнага палка*
*капітан Каспер».*

Фёкла Круглова (г. п. Акцябрскі, Гомельская вобласць):

*Я ляжала, ляжала ды і думаю... Пайду я ў Рудню, там жа ў мяне знаёмая, можа, мяне хто схавае. Можа, там жывыя людзі засталіся...*

*Устала я. Каб дзе кот, ці які верабей, ці хоць бы што на свеце — усё... Такая ціішыня, такая... А можа, я толькі адна ў цэлым свеце асталася?.. Таму думаю — няхай гэтыя немцы ці прыстрэляць мяне, ці што... Таму што як я буду жыць адна на свеце.*

*А далей думаю: «Пайду я ў Рудню». Ні немцаў, нікога няма. Ужо ўсе паехалі адсюль, з Кастрычніка, — падпалілі і паехалі...*

*Толькі я прыйшла, пад нейкі падышла хляўчук, і там маленькая хата з краю. І стаю, чую — крык... Такі крык там, што Божа мілы, які крык! А яны ўжо з таго канца ўзялі і адтуль гоняць ужо на гэты канец, пад саўхоз.*

*Я стаю пад гэтым хлеўчуком, а далей, думаю, гляну, што яны там робяць, што такі крык. Толькі я галаву торк з-за кутка, а немец якраз паглядзеў сюды. Дык ён да мяне ляціць: «А-а-а!» Як стаў мяне прыкладам... Поўны рот крыві. Я ўжо вазьму во так гэту кроў, выграбу рукамі, ох, каб хоць дыхнуць!..*

*А далей давай нас... Паставілі, прывезлі скрынку і паставілі на скрынку кулямёт. На скрыню, што бульбу возяць. Прыйдзе ў тую хату немец, выштурхне якіх, значыць, душы тры, чатыры,*

*пяць — колькі ён адсюль выштурхне. Хто ж гэта хоча ісці пад расстрэл? Ну, маці, гэта забірае сваіх, сям'ю вось абхопіць і падае, таму што яны крычаць: «Падайце!» Маці сваіх дзяцей, якая там ёсць радня — абдымуцца і падаюць. А яны з кулямёта страляюць...*

*Я да апошняга ззаду стаяла, не выходзіла, ага.*
*А ўсе бачаць, глядзяць у акно, кажуць:*
*— Вунь мая дачка гарыць і ўнучка гарыць!*
*І вы падумайце — каб хто заплакаў!..*

«Рота атрымала заданне знішчыць размешчаную на паўночны ўсход ад Макран вёску Забалоцце і расстраляць насельніцтва. Да роты былі прыкамандзіраваны: узвод Фрома з 9-й роты і 10 чал. бронеаўтамабільнага падраздзялення 10 палка... 23 верасня 1942 г. каля 02 гадз. 00 мін. рота падышла да першых паасобных двароў Забалоцця. У той час як галоўныя сілы рушылі далей у глыб вёскі, да тэрыторыі ачаплення, асобныя двары былі акружаны выдзеленай для гэтага камандай, жыхары выведзены з дамоў... Усё насельніцтва пад кіраўніцтвам старасты было сагнана ў школу, а адна каманда адразу ж адправілася на выселкі за 7 км ад вёскі, каб забраць жыхароў… Усе астатнія былі падзелены на 3 групы і расстраляны на месцы пакарання…

Вынікі аперацыі наступныя: расстраляна 289 чалавек, спалены 151 двор, узята 700 галоў рагатай жывёлы, 400 свіней, 400 авечак і 70 коней…

Пакаранне было праведзена планамерна і без асаблівых здарэнняў, калі не лічыць адной спробы ўцёкаў. Большасць жыхароў вёскі захоўвала прысутнасць духу, ішла насустрач лёсу, які поўнасцю заслужыла і які па прычыне іх нячыстага сумлення не з'яўляўся для іх нечаканасцю.

*Камандзір 11-й роты 15-га паліцэйскага ахоўнага палка капітан Пельс».*

…Нас штурхаюць, адціскаюць кудысьці да калодзежа, ззаду, каля свірна, гулка б'юць кулямёты, але нават яны не заглушаюць чалавечага крыку.

Нешта са мной робіцца, я ўсё цягнуся, незразумела і шалёна, да адкрытай машыны, дзе застылі старэчая спіна і гладкая, голеная галава майго ворага, каля якой усё гойсаў, грымаснічаючы і дражнячы, белавокая морда з пацучыным хвастом. Паліцай мяне штурхае, але ён і сам як у сне. Я ўжо амаль дабраўся да машыны, калі яна раптам сарвалася з месца. Што я хацеў рабіць, ды і што я мог зрабіць, не ведаю. Магчыма, мяне цягнула да яго нясцерпная патрэба глянуць і помсліва запомніць. І ўбачыць, што закрывае сваім хвастатым задам, не то хаваючы, не то клічучы паглядзець, малпа, якая мітусіцца.



Па нейкім пачуцці гэта ў маёй памяці падвойваецца на тое, як у Луўрскім склепе, разглядваючы сярэдневяковыя раманскія надмагільныя помнікі, я заглядваў у твары бабуль манашак, што нясуць мёртвага рыцара. (Я ўсё ездзіў, усё глядзеў, назапашваў нешта, як бы ведаючы, што хутка застануся сам-насам з цемрай.) Рыцар каменна выцягнуўся ўздоўж свайго доўгага мяча з дзяржаннем-крыжам, падэшвамі ног ён папірае льва, пакорліва маленькага, а чорныя манашкі па-жывому сагнуты пад цяжарам яго цела, і твары іхнія схаваны ў глыбокіх раструбах капюшонаў. Нясцерпна цягне нахіліцца і глянуць пад чорныя капюшоны, усё здаецца, што там бязгучныя задаволеныя грымасы смеху!

Я не ведаю, што вывозіла, закрываючы, хаваючы, сутулая спіна майго ворага, пакорліва схіленая над малпай, якая скакала, якая грымаса была на яго твары. Усё тое ж: жорсткая, халодная цікаўнасць? Упэўненасць чарговага пераможцы, што так і назаўжды застанецца: «яны» — пад намі, «мы» — над імі? І самая кароценькая, але і жывучая ў гісторыі наркатычная ідэя, што сіла — гэта і ёсць права, мэта, справядлівасць. І абавязкова грымаса людаедскай пагарды да некультурнасці ахвяры, аблічча якой скажона нечалавечай пакутай! Думаю толькі, што ён ад'язджаў ад ахопленай полымем, галашэннем свірна без думкі, што ўжо сёння ўсё раптам пераменіцца. І сонца яшчэ не схаваецца, як усё яму здасца другім. І будзе другім.

— Фларыян Пятровіч, я вось слухаю вас заўсёды… І вось думаю, як людзі паклёпнічаюць на жывёл! «Жывёльныя інстынкты», тое ды сёе… Добра ж, каб якраз жывёльныя! Я ў гэтым годзе месяц пражыў у Белавежскай пушчы. Як проста, я сказаў бы, маральнымі сродкамі зубр і нават дзік сцвярджаюць першынство над суродзічамі. Нават самы крыважэрны звер рэдка калі загрызе сабе падобнага. Ва ўсякім разе, барацьба з прадстаўнікамі свайго віду ў іх не набывае знішчальнага характару. Гэта і ёсць інстынкт самы жывёльны — захаванне віду! Вось гавораць, і не надакучыць ім пра адно і тое ж! — Бокій пастукаў далонню па ліпкай цмокаючай скуры партфеля. — Маўляў, прырода вінаватая ў тым, што агрэсіўны, што жорсткі чалавек да. Калі і ёсць віна маці-прыроды, дык толькі тая, што

занадта далёка адпусціла яго ад сябе. І ён занадта выйшаў з сферы прыцягнення прыроды, — амаль страціў асноўны інстынкт, так, той самы жывёльны інстынкт захавання віду!

— Вось-вось, калега! А далей пачынаецца «другая прырода» — культура. І ўсё пытанне цяпер, якая яна. Наколькі гуманная, чалавечная і чалавечая. Ну, а фашызм — гэта паклёп і на прыроду чалавечую, і на культуру яго. Самы злосны ў гісторыі паклёп!

— А сама гісторыя? Таксама паклёп? Войны, інквізіцыі, крыжовыя паходы, Варфаламееўскія і ўсякія іншыя «ночы», смярдзючыя «розы», незлічоныя Тамерланы і багдыханы, што ўпрыгожваюць планету манументамі з мільёнаў чалавечых чарапоў?!

— І ўсё ж фашызм — гэта паклёп на чалавека. Нават дагістарычны наш прашчур у звярынай скуры, нават ён не заслугоўвае такой абразы — быць продкам фашыста. Не, вы добра ўявіце яго сабе, нашага беднага прашчура: без клыкоў і хуткіх ног і зусім не асілак сярод звяроў, аблыселы ўсім целам ад потных намаганняў выжыць! Адзіная смяротная істота, такая адзінокая ў свеце, таму што ніхто ж больш не ведае, што ёсць смерць! Добра, калі ад звера аднапляменнік памёр, на паляванні загінуў. А калі без прычыны, гэта значыць ад хваробы? Як тут не жахнуцца, не тлумачыць гэта чараўніцтвам суседзяў? Жывёльнае пачуццё бессмяротнасці сутыкалася з чалавечым вопытам, усведамленнем, што смерць можа дагнаць. Дагнаць бессмяротнага? Не інакш як чараўніцтва! Памёр «наш» — шукай суседа «чараўніка» і забі! І не помста гэта нават, а прафілактыка — тагачасная медыцына. Ён не люты, ён расчульвае, гэты наш продак, сваёй дзіцячай бездапаможнасцю перад клыкастым і незразумелым светам…

— Ну вось, калі ласка, ужо тады чалавечая свядомасць разышлася, як нажніцы, з інстынктам захавання віду. Свядомасць абмежавала гэты інстынкт, звузіла да маштабу племені: іншае племя — ужо не «мы», можаш забіць, можаш зжэрці! Ну, а калі чужога «ведзьмака» можна забіць, чаму ж, калі да яго далёка, не пашукаць яго ў сябе, сярод суродзічаў? Так нават хутчэй і зручней. «Шукай ведзьмака!» — хіба не гэтым просценькім спосабам, Фларыян Пятровіч, дзейнічалі маніпулятары ўсіх часоў і народаў? І атрымлівалася, заўважце, спраўна. «Мы» — арыйцы, «мы» — белыя, у «нас» — самы-самы, «мы», «мы», «мы!»…

— Так, але без «мы» няма і супраціўлення ўсяму гэтаму. «Мы» — рэвалюцыя! «Мы» — людзі працы! «Мы» — чалавецтва! Я пра такое «мы», што сілкуе і ўзмацняе чалавечую здольнасць усведамляць, адчуваць чужыя пакуты, боль як свае ўласныя. І нават вастрэй, чым свае. Што і казаць, пасля ўсяго, што плыло па рацэ гісторыі, нізоўі забруджаны добра, чым толькі не запаскуджана рэчышча. І ўсё ж выток заўсёды чысты. Але трэба, каб як мага больш людзей зразумелі нарэшце смяртэльную пагрозу забруджвання не аднаго толькі прыроднага асяроддзя, але таксама і чалавечых душ. Вядома, прывыклі спускаць атрутны бруд у рэкі і азёры. Хутка і танна! І яшчэ больш зручна мецы не грамадзян, не людзей, а налітых фанатычнай бурдою крыжаносцаў, штурмавікоў, хунвэйбінаў, супермэнаў. Хутка, найкарацейшым шляхам, танна з іх дапамогай вырашаюцца справы дзяржаўныя і ўсякія іншыя. Так некаторым здаецца. Ды толькі вельмі дорага сёння, заўтра можа гэта абысціся ўсяму чалавецтву, планеце. Прыйдзецца зразумець і гэта, калі свет не хоча загінуць. Як там у паэта: «Асцярожна, чалавецтва! Слова «нянавісць» уключана!»



— Хэ, калі не хоча загінуць! Чаго захацелі! Ды ў вашага свету вока, як у курыцы: бачыць толькі асобна ўзятае зерне, якое бліжэй. І наогул вы не вельмі спадзявайцеся на маю доўгацярплівасць. Гэта пры цяперашняй бомбе?! Не спазніцеся, Пятровіч!

…Гарэла і выла, як у гарачай трубе. Нас гналі па вуліцы палаючай вёскі, а мы гналі кароў. Дзеля гэтай, відавочна, работы нам дазволілі выратавацца, выбрацца са свірна: пакуль жывіце! Ці, можа, таму з малпачкай захацелася паглядзець, як людзі палезуць у пакінутую для іх шчыліну?

Кіёў нам не далі, мы далоньмі, кулакамі б'ём кароў па баках, па касцях, хапаем за рогі. Прапіхваем ашалелую скаціну скрозь вогненны калідор. А за намі ідуць карнікі з кіямі і прыкладамі. Некаторыя з іх у дзіўным, незнаёмым адзенні. Жоўта-зялёныя мундзіры, а на галовах круглыя зялёныя фуражкі з вельмі доўгімі брылямі. Крычаць на нас і на скаціну не па-нямецку, хаця таксама незразумела.

Цяпер і я пайду па той клятай гравійцы, на яе мы выходзім. Палаючая вёска нема і жудасна варушыцца ў нас за спіной, як нешта жывое ў смольна-чорным шырокім мяшку дыму.

Я прагна гляджу на лес наперадзе — там *гэта* здарыцца. Нават дзіўна, што немцы і гэтыя, пад доўгімі брылямі, усё такія ж упэўненыя, злыя, крыклівыя, заклапочаныя тым, каб не адстала якая-небудзь карова і не звалілася з калёс сялянская барана, плуг,

мяшок з зернем, гэтым заклапочаны, а не тым, што ў гэтым лесе яны памруць, захлынуцца сваёю крывёю! Я так добра бачу тое, што робіцца зараз у лесе: як бягуць людзі да гравійкі, як ставяць кулямёты і глядзяць з-за пнёў і дрэваў на лясную паляну, на якую выедуць нямецкія машыны, абоз, выйдуць карнікі. Немцы ўсё не рассаджваюцца па машынах, кожная група, каманда ідзе за сваёй машынай расцягнутым строем. Гэта дрэнна. Але, значыць, баіцёся, ведаеце, што так гэта не абыдзецца вам, ведаеце! Я ўсё азіраюся, гляджу, дзе зараз легкавая машына з маім галоўным ворагам. Я так гэта бачу, усё, што зараз адбудзецца! Нават вочы іх бачу, партызанаў. І я малю іх, я патрабую, каб яны былі, каб з'явіліся. Пасля ўсяго, што здарылася, яны не маюць права не быць, яны павінны быць! Я хаваю вочы ад паліцаяў, каб не выдаць таго, што ведаю, бегаю больш за ўсіх за каровамі, падняў сцябло ад ссечанага сланечніку і ганю кароў на дарогу, моцна крычу, гарлапаню на іх. За мной бегае хлопчык, якога жаночыя рукі выпіхнулі ў акенца і якога не забілі. Я яму сказаў: «Трымайся за мной!» — і ён паслухмяна ходзіць следам, а сам усё азіраецца на вялізны, шэры, варухлівы, быццам жывое там, дымавы мяшок над вёскай. З намі яшчэ і дзяўчынка, якая тады так падхапіла дзіця са свірна і так доўга не аддавала. Па бледным строгім твары яе ўсё цякуць і цякуць слёзы, яна нікога і нічога не заўважае і толькі плача, ідучы сярод статка кароў. І старая тут, тая самая, з якой я ішоў ад хлява да вёскі. Яна ўсё падносіць да рота чорныя, высахлыя рукі, адну, другую (па чарзе), ці то кусаючы іх, ці то стараючыся стрымаць, каб не дрыжэлі зморшчаныя вусны.

У мужчын, мужыкоў, якіх выпусцілі, якія вырataваліся (іх не больш як пяць-шэсць), у вачах, у рухах бяссэнсавая паспешлівасць і нейкае агульнае непаразуменне: навошта яны, куды яны, як апынуліся тут?..

Карнікі раптам занепакоіліся, загучалі нямецкія каманды, ад машын бягуць да нас. Я нават спалохаўся, што здагадаліся, даведаліся пра тое, што вядома мне. Але самую іх трывогу, непакой бачыць хочацца: ага, баіцёся, значыць, гэта сапраўды будзе!

Зараз немцы таксама памагаюць нам і паліцаям збіраць статак на дарогу. Мін баяцца, рашылі нагамі кароў дарогу правяраць? Я непрыкметна азіраюся, шукаю вачамі, дзе там адкрытая легкавушка?

Нарэшце на хаду перастроіліся, як хацелася немцам: наперадзе статак кароў, потым мы, паганятыя, за намі паліцаі і тыя, з доўгімі брылямі, а ўжо за імі немцы — пешыя, потым на машынах, абоз. Паліцаі ўсё азіраюцца на немцаў, як на гаспадара



сабака, што пачуў мядзведзя. А, бобікі! Зараз вам, зараз!.. Лес ужо зусім побач. Зноў убачыў маладога паліцая, які так сярдзіта гнаў мяне і старую ў вёску. Я раптам гукнуў яму:

— Чаго адстаеш, давай!

Здзівіўся ён да жаху. Быццам дрэва на яго гаркнула ці мёртвы. Тут, паблізу лесу, мы непрыкметна мяняемся месцамі, хаця вінтоўка ўсё яшчэ ў руках у яго. Вінтоўка, здаецца, французская, доўгая, як граблі, нязручная. Лепей бы аўтамат. У паліцая толькі боты добрыя: не цвёрдыя і кароткія, як у немцаў, а нашы, армейскія…

Нас зноў бягом даганяюць немцы. Паліцаі адразу пасмялелі, падбадзёрыліся.

Але я ўжо бачу, я ўжо гавару з тымі, хто іх чакае, хто наперадзе — хвілін на дзесяць, на дваццаць наперадзе…

Дарога звузілася, сціснутая з двух бакоў лесам, глыбокія канавы па абодва бакі забіты алешнікам. Каровы надыхаліся дыму, крыві, усё збіваюцца ў кучу, рыкаюць, нюхаюць зямлю, бадаюцца. Немцы, падасланыя на падмогу паліцаям, рашылі, здаецца, хавацца ад партызанскіх куль сярод статка, за спіны кароў, бакі. І іх зараз круціць, носіць гэты рыклівы, бадлівы вір кароў. Нас усіх ён засмактаў, кідае аднаго да другога і адразу раскідвае. Нават весела робіцца ад такой бязглуздай бездапаможнасці. Аднаму немцу мой твар здаўся нейкім насмешлівым, абразлівым.

— Бандыт? — пытае ён. Немец вельмі нізенькі, нават гаршчок-каска не дадае яму росту. — Партызан?

— Швайн? — памог яму паліцай.

У гэтым каровіным віры і ад страху яны, здаецца, не заўважылі, як памяняліся языкамі, галовамі, сваімі кароценькімі ідэйкамі.

— Нікс! — крычу я, адцёрты ў другі бок. — Я ёсць шулер. Бандыты там. — Я паказваю на блізкі алешнік. — Мы ёсць баўэр. Ну, ты, падла, пайшла!.. Шуле, баўэркалектыў!..

Я сам бачу свой твар, урачыста-зларадны, ведаю, што я перабіраю, і не магу стрымацца. Здалёку, з-за п'яна апушчаных каровіных галоў вочы нашы, мае і нізенькага немца, сустрэліся, счапіліся. Ён спрабуе прабіцца да мяне, я ведаю, што ён выстраліў бы, каб не баяўся падняць трывогу, мне б адвесці вочы — але я нічога не магу з сабою зрабіць. Зараз, куды б мяне ні адносіла, я адчуваю злоснага карантыша. Ён, стукаючы аўтаматам па рагах кароў, усё прабіваецца да мяне бліжэй, а я адступаю ад яго па рыклівым, бадлівым крузе. Кінуцца ў лес? Ці дачакацца першага стрэлу, панікі? Нават дзіўна, наколькі я

ўпэўнены, што засада чакае, нібы і на самай справе бачу яе. І зусім не думаю пра тое, што кулі разбірацца не будуць, хто які і чый. Але для мяне мала, каб гэта здарылася, мне трэба быць *пры гэтым, у гэтым* — толькі так і можа завяршыцца такі дзень, а інačай яно і не скончыцца для мяне ніколі…

Што такое? Лес канчаецца? Нібы самую зямлю з-пад мяне выхапілі.

А злы карантыш пад гаршком-каскай ужо вырваўся са статка, ужо адступіў на паляну, заходзіць збоку, шукае мяне вачамі. Не, гэта ўсяго толькі вялікая паляна, якая з аднаго боку пераходзіць у поле, а наперадзе зноў лес.

Той самы, дзе чакаюць, адкуль ударацъ! Карантыш зноў уціскаецца ў статак, усё-ткі няўтульна, зябка яму там, на адкрытым. Затое я зараз магу выбрацца вонкі, ісці збоку, ведаючы, што ён да мяне на выйдзе.

Статак ашалелых, здзічэлых ад дыму і паху крыві кароў, як рачны вір, нясе на сабе плечы, галовы, каскі, пілоткі немцаў і паліцаяў, ужо вырваўся на паляну, ужо распаўзаецца па ёй. Я і некалькі мужчын з Пераходаў ды паліцаі палкамі, крыкамі гонім кароў на дарогу, зноў у лес. Ужо і машыны з'явіліся, паўзуць па паляне, я бачу адкрытую легкавушку і нават мітуслівую там малпу…

Я ведаю, помню, як бачыцца з засады вось такая калона (двойчы сам ляжаў у засадзе), і я зараз гляджу на паляну нібы ўздоўж ствала вінтоўкі, лаўлю мушкай, вяду на сябе голеную галаву, над якой носіцца малпа. (Я ўсё азіраюся на легкавую машыну, нават забываюся сачыць, дзе зараз небяспечны карантыш.)

Машыны і немцы ўжо на паляне, статак і дазорныя паліцаі зусім блізка да вузкай пашчы лясной дарогі, што чакае нас — зараз, зараз! Я паклікаў да сябе хлапчанё з Пераходаў, трымаю яго за плячо, каб у час штурхнуць на зямлю… Я не іду далей, прапускаю міма сябе статак і чакаю легкавушкі, каб быць бліжэй да яе, калі пачнецца. Падганяю палкай кароў, гатоў і карнікаў, і машыны падганяць: хутчэй, хутчэй, зараз, зараз!..

— Адразу падай! — радасна дрыжучы, шапчу я хлопцу, які нічога не разумее, але таксама ўздрыгвае. — Дзе тая дзяўчынка, трэба яе сюды.

Але нічога не адбылося. Рыклівы, бадлівы статак занёс на сабе вартавых паліцаяў, немцаў у лес, заглыбіўся, уцягваецца, і нічога не здарылася. Лясная цішыня не пераламалася з громам, не расчынілася гучнай прорвай пад нагамі ў карнікаў.

Не, адбылося! Самае страшнае адбылося! Ніхто не бег, не спяшаўся сюды, калі пад сцяну свірна ў палаючую салому падалі з рук матак дзеці і звар'яцелыя рукі гэтыя цягнуліся, крычалі, малілі, клікалі… Як я пагарджаў, як ненавідзеў сябе за тое, што нікога няма, ніхто не бег, не прыбег хаця б зараз, каб сцерці з твару зямлі гэтых, гэтых, гэтых!.. Я луплю палкай па спінах быццам вінаватых у чымсьці кароў, ганю іх на дарогу, нейкую лаянку абрынаю на самога сябе, зусім не думаючы ўжо і пра злога карантыша, які, напэўна, зноў падпільноўвае мяне…



— Ага, ага вам!

Помсліва, аглушальна завылі раптам кулямёты — не наперадзе, а ззаду калоны. Вогненныя посвісты куль густа, шырока прашываюць паляну. Там, дзе машыны, ужо бухае, гарыць, а над лесам (ці гэта ўва мне?) крычыць, рагоча, плача ад злога, помслівага шчасця шырокае, як цэлы свет, рэха. Ага, ага вам! Вось вам, вось вам! Я налятаю на бакі, на рогі, на морды, на кароў, на карнікаў, якім непаваротлівыя каровы перашкаджаюць залегчы і страляць. Я бачу, як бягуць у лес паліцаі. Дзе ж мой хлопец і тая строгая заплаканая дзяўчынка з Пераходаў?.. І дзе легкавушка?

І тут я ўбачыў яе, якая імчалася проста на мяне, спалохана падскоквала на купінах і калдобінах легкавушку. Не разумеючы яшчэ, што я магу, што збіраюся рабіць, я кінуўся ёй насустрач. Яшчэ паспеў разгледзець, як трэслася, нібы адрывалася, як бы лялечная цёмна-глянцавая галава майго ворага, вялікія, на ўсё шкло залатых акуляраў, яго вочы і жах на белай мордачцы малпы. Машына амаль наляцела на выбух…

І я таксама. Лес, як крылы вялізнай птушкі, аглушальным чорным узмахам разламаўся над дарогай, над машынамі, якія гарэлі, карантыш падняў і панёс з сабою ўсё. Ва ўсім свеце засталося вельмі простае і вельмі спакойнае здзіўленне: «Гэта смерць? Гэта і ёсць смерць?»

…Зварот, святло я адчуў спачатку, як рэзкі боль у вачах. Я ляжу, апушчаны ў роўную з посвістам цішыню, а на твар мне падаюць кроплі, цвёрдыя, халодныя. І жоўтыя. Я іх бачу, жоўтыя. Не, гэта бярозы нада мной, спакойныя, мокрыя, асеннія. І нейкія людзі побач. Вочы мае наліты болем, слязьмі… Я ляжу не на зямлі, а на нечым высокім. Белае нешта —так гэта конь. Я на калёсах. І нейкія людзі. Балюча скошаныя вочы мае злавілі шырокі твар чалавека, мужчыны, расплываецца ў вясёлцы, а побач жаночы твар. Як даўно я гэтага не бачыў, вясёлага чалавечага твару. І як гэта дзіўна — чуць ціхія, спакойныя галасы…

— А ўсё-ткі здрадзіла ты мне, Наташа.

— Гэта чаму ж?

— Калі б я ведаў чаму.

— Занадта мала ўсім вам ад мяне трэба. Вось так, Алёша.

— Ды я…

— Чакай!.. Ой, хлопчык, звалішся!

А я ўжо зваліўся, на зямлі ляжу. Так лёгка падняўся з калёсаў, нібы ўзляцеў, а вось жа стаяць на нагах не магу! Ногі, як анучы. І нешта з вачамі.

— Ой, як цябе! — зусім блізка плыве, то з'яўляецца, то знікае ў вясёлцы жаночы твар.

Мне памагаюць устаць. Не, нічога, ногі цвярдзеюць, толькі вельмі дрыжаць.

— Дай я прамыю. Падай, Алёша, сумку. Сумку! А рукі прымі. Я не ўцякаю, Аляксейка. Нічога, міленькі, цэленькія вочы, трохі ўдарыла, засыпала. Ты з вёскі гэтай? Твае пайшлі, назад пабеглі ў вёску. Чаму ж яны не сказалі, забыліся пра цябе?

— Не… ага… Немцаў пабілі? Там быў такі ў акулярах, галоўны, з малпай.

— Каго пабілі, а хто вырваўся. І захапілі нейкіх. Цэлую кучу ўзялі жыўцом. Пачакай, не торгайся! Баліць?

Жаночыя рукі кранаюць мае вочы нечым пахучым, аптэчным, прыемна халодным.

— Пацярпі. Пакуль жаніцца…

— Дзе яны? Такі ў акулярах, з малпай!

— Ды пачакай! Куды ты? На вось, прыкладвай…

Адпіхваючы дрэвы, што нечакана ўзнікаюць перада мной, я бягу па лесе, потым па лясной прасецы, застаўленай вазамі, на якіх сядзяць і ляжаць параненыя партызаны, навалена зброя, нямецкія коўдры.

— Дзе яны? Дзе жывыя? — пытаю ў партызанаў: нібы працягваецца мой перарваны выбухам бег да імклівай спалоханай легкавушкі.

— Немцы? Там яны!

— Малпу хочаш паглядзець?

Зноў вясёлка плыве перад вачамі, іх зноў залівае сляза, згубіў анучку і зараз ірву шурпатыя, мокрыя, халаднаватыя лісты арэшніку, спрабуючы імі сцерці боль.

Вось яны, немцы! Збітай кучкай, у такіх недарэчных тут касках сядзяць на зямлі на прасецы, а над імі стаяць партызаны — вялікі натоўп. Я адразу заўважыў злога карантыша. Толькі зусім ён не злы. Які ён злы, ён самы добры, ціхі, самы ціхмяны на зямлі чалавек! І ростам ён такі маленькі. І мундзір на ім такі не свой, такі гаматны. І каску на галаву яму нехта надзеў, як гаршчок, на здзек…



З пукам арэхавых лістоў у кулаку я кінуўся да яго, да іх і, як каменні, высыпаў на карантыша іх жа словы:

— Рус, швайн, бандыты, цурук, люс!.. Ах вы!..

Ніхто не зразумеў. Партызаны на мяне глядзяць здзіўлена. А карантыш яўна не помніць, што гэта яго словы, што зусім нядаўна яны выказвалі ўсё, што ён думаў, што рабіў. З-пад каскі-гаршка на мяне глядзіць з непаразуменнем і непадробленым жахам зусім не той, зусім другі чалавек.

— Гэта яны, яны! — закрычаў я, спалохаўшыся, што гэтым іх здзіўлена-засмучаным і рахманым вачам, тварам паверылі ўжо. — Яны! —крычу я і сціраю бруднымі рукамі плыткую вясёлку, боль, што перашкаджае мне.

Нарэшце я разгледзеў і *яго.* На яго ўсе глядзяць. Не, не на яго, а на малпу, якая на ім. Малады партызан-«весялун» (у кожным атрадзе, у кожным узводзе ёсць такая добраахвотная пасада), абвешаны рамянямі і зброяй, робіць выгляд, што хоча ўзяць малпу, кратае яе за хвост. Мітусня, уцёкі, смешныя нечаканыя рухі сухенькай бабульчынай лапкай, але мордачка, але вочы малпачкі зблізку ўжо здаюцца нічога не выяўляючай нерухомай маскай.

— Не даецца, зараза! — задаволены, смяецца партызан, і другія таксама ўсміхаюцца.

А ворага майго нібы і не заўважаюць, нібы ён і сапраўды ўсяго толькі падстаўка пад малпай. Тая ж паголеная галава, толькі брудная і спацелая, тыя ж вялікія вушы, той жа мундзір, толькі залатых акуляраў няма. І няма ранейшых вачэй, погляду, няма ранейшага твару. Твар, позірк іншай істоты, зусім іншай. Схіляе галаву, каб малпачка не магла хавацца за яе ад рукі «веселуна»-партызана і каб самому знізу паглядзець, ці добра ён трымае, ці падабаецца партызанам. Вочы без акуляраў сляпыя, устрывожаныя і бяссэнсавыя, як у нованароджанага. Застылы спалох на фізіяноміі малпачкі. На яго ж твары па-ідыёцку рахманая, дысцыплінаваная, смутна-паслужлівая стараннасць, якая крычыць усім і насуперак усяму: «Гэта я і ёсць, вось гэты, гэты, што хочаце са мной рабіце, вы маеце права, вы самі вырашыце, але вось гэты ціхі, усмешлівы, пакорлівы стары — гэта я, ён — гэта я, вось гэты — гэта я!»

Яны з малпачкай нібы месцамі, ролямі памяняліся: не яна пры ім, а ён пры ёй. На ім так і напісана: «Я добра трымаю? Усім відаць? Ці вось так лепш? Ці як яшчэ трэба трымаць?»

— Гэта ён! — кажу я, ужо не крычу, а кажу, майго крыку нібы не чуюць, не разумеюць: — Галоўны іхні.

Неяк дзіўна пазіраюць на мяне партызаны, адчужана і нават здзіўлена. Нібы і сапраўды не даходзіць да іх сэнс маіх слоў.

Потым дык я адчуў, убачыў, што ўласнай нянавісці можна баяцца, як закамянелага ў табе болю: чалавек пачынае стрымліваць яе, сціскаць у сабе, чакаючы і баючыся імгнення, калі ўжо не стрымаць яе будзе.

Але спачатку я, як на сцяну, наскочыў на гэту глухату, на непаразумелыя, неахвотныя позіркі.

Не, я ведаў, што карнікаў заб'юць, таксама, як ведалі гэта партызаны і самі карнікі. Мяне спалохала, што ім дазволяць памерці, пайсці вось такімі — добранькімі, здзіўлена-смутнымі, рахманымі, нібы пераклаўшы нешта на нас. Нібы падставілі нам некага замест сябе! Не, расплаціцца павінны *тыя*, іменна *тыя*!..

З адзінаццаці палонных карнікаў толькі два ці тры з закарэлымі ад крыві валасамі і тварамі, астатнія нават не параненыя. І сярод іх чацвёра не ў касках, а ў фуражках з доўгімі-доўгімі брылямі. Гэтыя, пад доўгімі брылямі, сядзяць хоць і шчыльна каля немцаў, але ўсім выглядам сваім паказваюць, што яны тут самі па сабе і іх нельга змешваць з астатнімі. Асабліва адчужана і нават пагардліва на суседзяў-немцаў зіркае самы доўгі з усіх, з шыяй, зламанай вялізным кадыком.

— Малады чалавек правільна сказаў, — нечакана вымавіў ён, ловячы позіркам мае вочы, — ён сказаў праўду. Гэта нямецкі камандзір усёй каманды. Ён даваў загад. Ён рабіў справаздачу ў Берлін, як правільна праводзіць экзекуцыю, як лепш выконваць баявую задачу…

І павярнуўся ў бок майго ворага, і тры суседы яго таксама павярнуліся. Немцы, не разумеючы, аб чым гаворыць кадыкасты, з трывогай глядзяць, сцяліся. А брыты нават малпачку прытрымаў, нібы ўхапіўся за яе!

Але ці не гэты голас (такі ж пранізлівы, тонкі, з акцэнтам) выкрыкваў каля свірна: «Падрыхтуйце дакументы, аўсвайсы, пашпарты!»

— Э, дык ты па-руску шпрэхаеш! — здзівіўся партызан-«весялун», забыўшыся пра малпачку, павярнуўся да кадыкастага: — Ну як, добра мы вас па патыліцы? Што ж вы ходзіце і не азіраецеся? Здаецца, не дома.

— О так, добра! Немцы ідуць, як на шпацыр, а вы іх здорава!

— А ты сам хто?

— Мы не немцы! — Кадыкасты нават пакрыўдзіўся.



Тут я ўбачыў Касача. У ваеннай фуражцы і ў сваёй абшытай футрам зялёнай венгерцы, трымаючы аўтамат пад локцем, ідзе па прасецы, а за ім нашы, наш атрад! Такія ж партызаны, як і іншыя, як і гэтыя, што навокал мяне. Такія ж для старонняга. Для мяне ж асаблівыя: гэта набліжаецца, гэта вяртаецца мой свет, без якога і мяне ўжо няма ўсяго. Я сарваўся з месца, гатовы бегчы насустрач: убачыць усіх, вярнуць сябе ў той свет, дзе было ўсё так трывала, надзейна!.. Але наперадзе атрада па вузкай зарослай прасецы ідзе Касач. І хаця мне трэба іменна Касачу сказаць вельмі важнае для яго, для нас абодвух важнае, я стрымаў сябе. Набегчы на Касача, наляцець, невядома адкуль з'явіцца на яго непазнаюча-іранічны строгі позірк?.. Я гэтага так баюся зараз, пасля ўсяго, што са мной было. Ува мне і так усё дрыжыць анямелай ад напружання струной.

А Касач, гаворачы з вусатым партызанам камандзірскага выгляду, спыніўся крокаў за сто ад нас. І атрад спыніўся. Не, не ўсе. Абыходзяць, абцякаюць Касача, па два, па тры хутка ідуць сюды. Ім насустрач аднекуль выскачыла, пабегла дзяўчынка, якая са мной ішла з Пераходаў і ўсё плакала з той хвіліны, як каля свірна з яе тоненькіх рук вырвалі дзіцятка.

Дзяўчынка дабегла, схапіла за руку, за локаць вялікага, цяжкага, які рашуча ішоў, з выгляду партызана ў нягнуткім брызентавым плашчы, і я пазнаў гэтага партызана — Пераход. Гэта зноў вярнула мяне да тых, што сядзелі каля нашых ног, — да карнікаў.

— Гэ, суседзі нашы! — усклікнуў партызан, што не стамляецца весці сваю добраахвотную ролю веселуна. — Ну, што выседзелі на той дарозе? А мы на гравійцы — вось што! Малпу!

(Карнікі звычайна адыходзяць не па той дарозе, якой прыходзяць, з'яўляюцца. Напэўна, таму і падзяліліся засады і нашы сядзелі на другой дарозе. А партызан ва ўсім ваенным і з біноклем на грудзях— каля яго прыпыніўся, размаўляе Касач, — напэўна, камандзір вось гэтага незнаёмага атрада.)

Пераход, вялізны ад мокрага, што стаіць тырчком, плашча, хутка, рэзка падышоў да нас. Стаў здымаць з локця тоненькія рукі павіслай на ім дзяўчынкі, заплаканай і строгай. Пакуль ён няспрытна адрываў па адным яе ўчэпістыя худзенькія пальцы, падбег да немцаў і спыніўся другі Пераход — яго пляменнік. У Перахода-маладшага, вельмі бледнага і танкатварага, вочы нечым падобныя на вялікія вочы нашай заплаканай дзяўчынкі з Пераходаў.

Перад ім расступіліся, нібы адразу зразумелі, хто яны.

І зноў я ўбачыў, як крайняя сіла пачуцця раптам паралізуе чалавека, забірае на сябе адразу ўсю энергію, волю, скоўвае, як сутарга. Пераход-малодшы спыніўся за тры крокі ад карнікаў: спацелы лоб, бледныя скулы як заледзянелі, позірк нерухомы, а ніжняя частка яго тонкага твару ўздрыгвае, перакошваецца, з горла вырываюцца гукі, якія здаліся б смехам, калі не бачыць яго твару.

Старэйшы Пераход, нечым падобны на Касача, але больш вуглаваты, гламаздкі, як у ваду, увайшоў у самую сярэдзіну карнікаў, што сядзяць на зямлі, распіхваючы каленьмі, тое, што на шляху. Стаў над галовамі немцаў.

Здаецца, само дажджлівае неба цяжка спусцілася, знізілася. Зрабілася душна. Зараз чуваць толькі дыханне, нібы мы сарваліся з месца і моўчкі, страшна некуды бяжым, імчымся.

— Ну, — ціха спытаў Пераход. — Дык гэта вы?

— Мы — не немцы, — паправіў яго кадыкасты перакладчык.

— Вось ты мне і патрэбны… Ану ўставай! Усе ўставайце!

Наўрад ці ведаў чалавек, што ён збіраецца рабіць. Як абпалены мітусіцца, кідаецца ў пошуках холаду і становішча, у якім не так нясцерпна балела б, закідаўся, забіўся і гэты вялізны, моцны чалавек.

І ў іншых гэта прарвалася.

— Гані іх на паляну! Што тут глядзець!.

— Канчаць іх! Ану, вы!..

— Сядзяць, як хрыстосікі!

Хутка, спяшаючы на крык, падышлі Касач і вусаты камандзір. Іх убачылі карнікі і, здаецца, вытлумачылі крыкі і штурхялі як патрабаванне выказаць воінскую павагу партызанскім камандзірам, перад якімі партызаны расступіліся. Спалох адразу змяніўся стараннасцю, рукі выцягнуліся па швах. Толькі небарака фюрар пакутуе ад нязручнасці, няўпэўненасці: ён не адважваецца скінуць з пляча, пакрыўдзіць малпу, якая спадабалася партызанам, а з ёй выцягвацца — нібы непавага, не па форме атрымліваецца. А яму так хочацца, вялікімі літарамі напісана на ім, як стараецца ён паказаць, прадэманстраваць камандзірам воінскую павагу. Тым больш што яны апрануты па форме. Як і ён! Яны заўважаць, успомняць, што на ім ваенная форма. Але малпа!.. І скінуць яе боязна, як з хованкі выйсці. А з малпай якая ж форма, якая павага? Фюрар карнікаў і выцягваецца, і сутуліцца, і дысцыплінавана, падцягнута глядзіць, і нясмела, нібы пытаючыся, схіляе голеную галаву. Можа, партызанскія камандзіры якраз малпай, а не ім зацікавяцца?



Касач разглядвае карнікаў з такой знаёмай жорстка-іранічнай усмешкай, але як яна зараз дарэчы. Як я разумею і люблю яе ў гэту хвіліну! Я таксама павінен быў не бегчы, не крычаць, а вось так падысці і глядзець на іх!

Вусаты камандзір стаяў побач з Касачом і любаваўся сваім трафеем — палоннымі — з прыкметнай задаволенасцю. Але Касач раптам убачыў мяне і зусім нечакана пазнаў. (Цяжка было не пазнаць, калі ўсё на мне крычала, што гэта я, што мне трэба яму сказаць, расказаць…)

— Ты? Ну што?

— Таварыш камандзір, яны на «востраве», — я праціскаюся да Касача з-за спін, — там параненыя, мы з Рубяжом хадзілі на гаспадарчую аперацыю, яго забілі, і Скарахода, і каменданта «вострава» забілі…

Я ўсё не вымаўляю «Глаша», не называю гэта імя, сам не ведаю чаму.

— Ты як тут апынуўся? Добра, што ў цябе з вачамі? Ідзі да Філіпава.

Філіпаў — наш атрадны медык.

Мне ўсё здаецца, што Касач ведае пра тое, што я быў з Глашай, але таксама не хоча называць яе імя, таму што *пры ўсіх*…

— Камандзір, хочаце на памяць? — партызан-«весялун» падае вусачу пачку фатаграфій. — Знайшлі вось у гэтых. «Люби меня, как я тебя!»

З рук дабрадушнага вусатага камандзіра фатаграфіі пайшлі па крузе (толькі Касач не бярэ). Мне трапілася салдацкая, адзіночная. Нехта з гэтых: у чорным плашчы, рукі на аўтамаце, а ствол скіраваны проста ў аб'ектыў, у твар таму, хто будзе глядзець. Я разглядваю жывых карнікаў, каб угадаць, чыя фатаграфія. Але ні ў кога няма такога твару, такога позірку. На фатаграфіі спыніўся міг, калі не было нават думкі, нават намёку на думку, што можа быць становішча, калі ён сам будзе не разумець, не будзе помніць, як яму магло хацецца нечага іншага, а не гэтага толькі, каб не было настаўленага яму ў галаву аўтамата, каб не забівалі яго, каб жыць, жыць!..

— Што з імі рабіць будзем? — пытае пажылы партызан, мусіць, з тых, каго прызначылі ахоўваць палонных карнікаў. — Хутка на забеспячэнне папросяцца. Гляджу я, нібы і людзі, калі не ведаеш.

— Самі ведаюць, чаго яны заслужылі, — спакойна сказаў вусаты камандзір. — Па-руску тут ёсць хто гаворыць?

— Во гэты, доўгі.

— Ну дык што? Навошта здаваліся? Няўжо спадзяваліся, што пасля ўсяго зямля вас насіць будзе? — Вусаты гаворыць роўна, цвёрда і ўсё гэтак жа лагодна.

Напэўна, усё вельмі проста каля такога камандзіра. Да яго партызаны звяртаюцца з абавязковай усмешкай, і гэта ўсмешка здавальнення.

— Мы не немцы. Немцы вось, — упарта паўтарыў кадыкасты перакладчык.

— Больш нічога ў сваё апраўданне?

— Што? Забіць?! — раптам усклікнуў Пераход-старэйшы. З пратэстам, з нязгодай усклікнуў: — Ды іх трэба!.. Ды іх!..

У гэтым амаль бяссэнсавым, але адразу зразумелым намі пратэсце супраць таго, што яны знікнуць, *схаваюцца ў смерць*, а вёска Пераходы, а тое, што там адбылося, застанецца з намі, у гэтым, мабыць, тлумачэнне, чаму мы іх пагналі далей, павялі з сабою жывых. Яны для нашай нянавісці, якая абпальвала, былі замест таго холаду, які я некалі шукаў, хапаў на хаду, нёс у пачырванелай, апухлай далоні…

…Ужо праз дзве гадзіны нас праследавалі браневікі, ланцугі аўтаматчыкаў. Над узлессем праносіліся самалёты. Мы адыходзілі на балоты — на Чортава Калена, ведучы з сабой злоўленых карнікаў.

Па сляпым злым артабстрэле, па самалётах адчувалася, што немцы, якія сціскалі кола блакады, моцна занепакоіліся, выявіўшы партызанаў у сябе за спіной. (Касачоўцы і атрад вусатага камандзіра дзён за пяць да Пераходаў вырваліся з блакаднага мяшка.)

Пакуль нашы засады стрымліваюць немцаў, абодва атрады адыходзяць, несучы параненых. Параненых шмат, і амаль усе нядаўнія, блакадныя. Людзей, рук не хапае для насілак, хоць нас нямала ідзе, сотні з тры. Злоўленых карнікаў таксама прыстасавалі бегчы з ношай (з коўдраў і жэрдак насілкі). Яны цягнуць старанна і вельмі палохаюцца, вельмі губляюцца, калі паранены ад трасяніны пачынае стагнаць.

Каля самага балота нас сустрэла ноч. Праследавацелі спыніліся, нямецкія ракеты скачуць кіламетры за два ад нас. Час ад часу немцы кідаюць снарады ў балота, лічачы, што мы ўжо там. Пад нагамі мокра, холадна, насілкі трэба трымаць навісу, падстаўляючы калені, і людзі збіраюцца групамі, ціха размаўляюць, кураць.



А я шукаю Касача. Некалькі разоў я прайшоў каля карнікаў, што сядзелі на кукішках. Партызаны, якіх выдзелілі ў варту пры карніках, прыкметна нервуюцца, злуюцца: у такой цемры, ды калі нас саміх акружылі, нас саміх вартуюць нямецкія дывізіі, вядома ж, карнікі прыкідваюць, каб уцячы.

Нарэшце я ўбачыў яго. Касач з кімсьці гучна гаворыць каля белай, нібы яна святло выпраменьвае, бярозы ці асіны. Дачакаўся, калі ён застанецца адзін, і падышоў. Касач сядзіць на пні і стомлена курыць. Я вымавіў:

— Таварыш камандзір! — І зноў заспяшаўся: — «Востраў»… параненыя… Рубеж… туды можна прайсці, выйсці праз гэта ж балота… Глаша…

— Якая Глаша? Чакай! Глаша?! Як яна туды трапіла? Дык ты адтуль, з ёй быў?

— Бой як пачаўся, я быў на паляне, Герынга шукаў, Глашу сустрэў, у лагер не змаглі прабіцца…

— Як яна? Жыва?

— Так, — я адгукнуўся, як злоўлены.

Што такое, што адбылося? Чаму я не магу пра Глашу з ім гаварыць? І з Глашай апошні час пра яго таксама не атрымлівалася. Я зноў пра тое, што адсюль праз балота можна прайсці да «астравоў», хаця гэта і далёка…

— Бачыш, падстаўляюць нам новы мяшок, яшчэ мацнейшы, — пасля маўчання сказаў Касач.

Мы глядзім на ракеты, зусім блізкія. Снарады ўсё падаюць у балота. Стукне стрэл, рэха паўторыць яго, потым рване ў цемры, і зноў рэха пацвердзіць. Вельмі баляць і слязяцца мае вочы, усё навокал растае, расплываецца ў надакучлівай вясёлцы. А тут яшчэ рознакаляровыя ракеты скачуць, сіні, чырвоны, жоўты колер, мройлівы, дрогкі сцякае з шэра-белага цела асін, з зарослага, змрочнага твару Касача, з маіх рук… Я — нібы ў паўсне. І размова з Касачом, і гэта наша, на адзіноце, маўчанне — такое ўсё нерэальнае, немагчымае, несапраўднае. Мяне пачынае калаціць, хоць на мне зноў салдацкі кіцель і нават швэдар, таксама нямецкі. (Знайшоў на возе, калі пад абстрэлам ужо, разбіралі з калёсаў трафеі, — захоплены ў немцаў абоз давялося кінуць.) Я ўсё ачуньваю ад рэальнасці і толькі помню, што трэба яшчэ сказаць пра «востраў».

Мне ўсё здаецца, што дрэнна расказаў, растлумачыў і Касач не зразумеў.

— Страшна было? — нечакана пытае Касач. Сіні колер на яго стомленым, зарослым твары змяніўся белым, чырвоным,

а я ўсё пра «востраў» тлумачу, не магу скеміць, што мяне пра Пераходы спыталі.

— У Пераходах, — вяртае мяне Касач да пытання.

— Жанчыны ў акенца выкідвалі дзяцей, а знізу пад сцяной салома гарыць, і туды падаюць дзеці… З акенца рукі — вось так рукі… Мацяркі, жанчыны рукі цягнуць…

Я, як сляпы, сам працягваю рукі з растапыранымі пальцамі, а з іх сцякае зменлівае, мройлівае святло. Касач глядзіць на мяне, на мае агніста пафарбаваныя пальцы, і ўпершыню на твары яго я бачу такое: нерашучасць, пытанне.

— Трэба ж было мне іх паслухаць! Упрасілі, угаварылі не чапаць карнікаў у вёсцы. Каб людзей не спалілі. Самі ж Пераходы, і дзядзька, і пляменнік, прыйшлі прасіць. Спаляць сем'і, калі ў вёсцы атакуем! Вось табе і «калі»! — Ён нібы перада мной апраўдваецца, Касач! — Гэта ў іх ужо вар'яцтва! Не іначай! Не проста забіць нават, а абавязкова жыўцом спаліць, замарозіць, голадам замарыць. Абрад такі прадпісаў ім касы маньяк іхні, ці што? Ніводнаму небу не прыносілі такіх ахвяр, як прыносяць зараз зямным ідалам — якому-небудзь вусатаму яфрэйтару. Цябе яны палілі, а мяне ў сорак першым вымаражвалі. Да апошняй, брат, слязінкі. Зямля, як жалеза, голае поле, абгароджанае калючкай, і пасярод згарэлая цагляная каробка. Былы цагельны заводзік, ці што. Пабітыя печы, ямы. І нас шмат тысяч. Ляжаць, хто дзе скарчанеў. У ямах, у мёрзлых печах. Па два, па тры, кучамі. Не падзелішся — не сагрэешся! А хто яшчэ мог поўзаць, нашыліся ў цагляную каробку. Даверху. Хто пад нізам, той сагрэўся, а хто сагрэўся, той ужо задыхнуўся. У жывых, як у мёртвых, ледзяныя бароды ад апошняга дыхання. І апошняя сляза, таксама ледзяная. Так, брат, чалавека можна глыбока вымаразіць. Да апошняй слязінкі. Можна. Толькі самі потым не скугольце…

Ён нават устаў, калі вымавіў: «… самі не скугольце!» Устаў, здзіўлена зірнуў на мяне і раптам усміхнуўся, як закрыўся. Нібы засланіўся сваёй непазнавальнай усмешкай.

…І зараз яна на ім, тая заўсёдная бязадрасная ўсмешка. У голасе была, калі павітаўся. Мне б зірнуць на яго, толькі зірнуць. На Глашу. І ўбачыць хаця б адзін раз Сярожу. Сярожу свайго я *помню* блакітнавокім: шмат разоў бачыў такога ў сне. Блакітнавокага, светлагаловага. А па расказах Глашы ведаю, што ён чорненькі і вочы таксама цёмныя. Убачыўшы сапраўднага, калі б мяне вылечылі, страціў бы таго, блакітнавокага, светлага. Нават вось так можна страчваць!



Якія яны разам — Касач і Глаша! У іх свеце людзі змяняюцца, старэюць. А для мяне яны ўсё тыя ж. (Здаецца, адзіная перавага мець такога мужа, як я.)

А мой жа Бокій нечым падобны на Касача! Мне гэта толькі зараз прыйшло ў галаву. Я ніколі не бачыў твару Бокія Барыса, але так і бачыцца на ім гэта заўсёдная, адрасаваная бог ведае каму, касачоўская ўсмешка. Яна ў голасе, у словах Барыса.

Вось у чым справа! Вось чаму мне ў гэтым аўтобусе ўсё нагадваюцца спрэчкі з Бокіем, суправаждаюць мяне. Вось у чым справа!..

Глаша пасля вайны сустрэлася з Касачом. У сорак шостым, пасля звароту з Германіі. Касач працаваў у райвыканкаме ў тым жа раёне, дзе партызаніў.

Праз шмат гадоў, у пяцьдзесят трэцім, Глаша мне расказвала пра іх апошнюю сустрэчу. Яна ніяк не магла вытлумачыць (і гэта яе мучыла, здзіўляла, нават злавала), чым так уразіў новы, пасляваенны Касач і што прымусіла яе паехаць, пайсці ад яго ужо назаўсёды. Як у пушкінскай «Мяцеліцы» : «Гэта не ён! Не ён!» Імчалася да яго, столькі марыла пра дзень, калі ўбачацца, сустрэнуцца, — і ў Азарыцкім канцлагеры, дзе валялася, тыфозная, на снезе, і ў Германіі, куды яе вывезлі немцы. А ўбачыла: «Не ён!»

Але гэта, па яе расказах, іменна ён, Касач, які і раней быў, але абставіны зусім іншыя, і перад ёй усё па-другому раскрылася. Адна справа, калі вайна, усё хістаецца, смерць, жорсткасць на кожным кроку, а сярод усяго нехта самы цвёрды, упэўнены ў кожным слове і ўчынку, такі ўладны і трохі таямнічы, на ўсё пазірае з нейкай незразумелай, нават пагардлівай вышыні. На ўсё — і на дрэннае, і на добрае. На ўсіх і на сябе таксама, таму што і сябе ўсялякім бачыў, знае, помніць. І ў партызанах, і да партызанаў, у палоне, а магчыма, у даваенным: не абмінула яго і перадваеннае.

(Магчыма, я ўскладніў, ускладняю Касача. Вунь, з Бокіем падабенства ўбачыў! Але Глаша — ёй было васемнаццаць, да таго ж дзяўчынка, закаханая! — яна, вядома яшчэ больш яго ўскладняла. Проста адмаўлялася зразумець яго, толькі кахала і пакутавала. Бегала на паляну плакаць. Выдумляла сабе на пацеху што толькі магла, фантазіравала, вунь нават дзіцянятка нафантазіравала на той паляне!)

А потым — зусім іншае! — яны сустрэліся ў сорак шостым.

Неаднолькава гэты час адгукнуўся ў розных мясцовасцях, хаця галодны ён быў усюды: паўкраіны зруйнавана, забіта, спалена, а тут яшчэ жудасная сухмень! Але ў былой партызанскай

зоне, дзе пакінулі Касача працаваць, усё гэта мела асаблівую афарбоўку. Ад вёсак засталіся толькі бярозы, ды клёны, ды лавачкі каля зарослых лебядой пагарэлішчаў і рэдкія дзе-нідзе зямлянкі. Ні машын, ні коней, людзі самі ўпрагаліся ў плуг, на сабе аралі і баранавалі.

Але да гэтага ўжо ўвыклі за вайну.

Да чаго людзі прывыкнуць не маглі, не хацелі, не чакалі, што трэба будзе прывыкаць, дык гэта да таго, што не будуць помніць пра тое, што яны вынеслі, перацярпелі ў вайну.

Гэта потым, пазней сталі нанава прыгадваць усё: прыязджаць на сустрэчы, ставіць помнікі, пісаць, узнагароджваць.

У сорак шостым, беручы падатак, мала хто цікавіўся, з якой вёскі. І ці ёсць, ці існуе вёска, ці ёсць хата. І атрымлівалася, як у прыказцы: муж любіць жонку здаровую, а сястру багатую.

Як выглядаў у гэтых абставінах Касач, калі ад яго ўжо не патрабавалася асабістай храбрасці, халоднай гатоўнасці на смяртэльную рызыку, але затое заставалася пры ім яго іранічная адчужанасць ад людзей з усімі іх пастаяннымі і жорсткімі клопатамі, пра гэта я магу толькі здагадвацца. Але іменна ў гэту мясцовасць і да гэтага Касача прыехала Глаша.

— Стаіць чалавек перада мной, сядзіць за сталом, размаўляе па тэлефоне або з заплаканай бабай, крычыць або ўсміхаецца, а ў мяне такое адчуванне, што я не туды, не да таго прыехала. Усё такое ж, як было: твар, рукі, моцныя плечы, нават кіцель той жа, толькі больш выцерся. Але нам абаім нязручна. Ну, уяўляеш: была ноч, і чалавеку здавалася адно, а тут раптам дзень, светла!.. Я не магу гэта растлумачыць. Не ён, і ўсё! Але самае галоўнае і крыўднае — я не ведаю, я не помню, а які ж сапраўдны ён. І ў мінулым яго няма. Ёсць вялізны чужы чалавек. Гэта я помню. І пачуццё сваё помню. Але падзелена тое і другое. Нешта ў самім паветры было разліта, акружала яго, нас, злучала. Знікла гэта паветра, і — нічога… Ты вось усё тлумачыш пра чужы боль. Было б вельмі проста, калі б па-твойму. Калі б той, хто сам шмат выпрабаваў, калі б такі і другога чалавека бліжэй разумеў. А то ж бывае і наадварот, зусім наадварот! Робіцца чалавек — як вымаражаны. Гэта Касач пра сябе добра сказаў, толькі дзіўна, мне нават зараз крыўдна, што са мной ён ні аб чым сур'ёзным не гутарыў, а з табой раптам чамусьці… Вось бачыш, вось і зразумей нас, жанчын. Не, сапраўды, вымаражаны! Дом з выдранымі вокнамі і дзвярамі. У вайну і такі дом — шанцаванне, нібы нават грэе. Але ўсё жыццё ў такім?! Гэта ўжо страшнавата. Уцякла я. Не паглядзела і на тое, што вас, мужыкоў, на дваццаць мільёнаў меней, а нас на тыя ж дваццаць болей. Будзе няпраўда, калі скажу, што я абавязкова аб табе тады думала. Успамінала, паплакала, калі сказалі, калі прайшла чутка, што Флёра Гайшун памёр у нейкім шпіталі. І ў снах цябе неаднойчы бачыла, як мы ратуемся, пажары. Але ўсё роўна галоўнае быў ён, вакол яго ўсё. А тут сабралася і паехала. Сказала, што мама хворая (гэта праўда, ногі ў яе аднімаліся). Як ён зразумеў мой напамінак пра маму, не ведаю. І яна мне ніколі нічога не сказала… Не ведаю. І баюся ўсё ведаць… Такой старой сябе адчула, стомленай. Толькі і адпачывала, калі ўспамінала пра нашу з табой паляну, лячылася гэтымі ўспамінамі. А часам вельмі хацелася яго сустрэць, але самотнага, старога, нецікавага. Ну дык гэта глупствы жаночыя…



Чаму мне так хочацца пабачыць іх зараз побач — Глашу і Касача? У чым хачу пераканацца? Што нічога не мінаецца ў жанчын? І наогул нічога? Дык хіба я гэта па сабе не ведаю! Вунь як усё даўно адмерлае, адсохлае адчуваеш. Пачынае балець. Так у цяпле пачынаюць шчымець адмарожаныя пальцы. І чым менш іх адчуваў да цяпла, тым мацней шчымяць, ажываючы.

Мяне Глаша так знайшла. У пяцьдзесят трэцім прыехала паступаць у інстытут на завочнае. Маці пасля доўгага пакутлівага ляжання памерла, і яна прыехала. Раптам бачыць каля дэканата Флёра, жывы! Каб не думала яна, што я памёр у тым шпіталі, магчыма, і не ўсклікнула б так, на здзіўленне ўсяму калідору, не кінулася б на шыю радасна пачырванеламу маладому выкладчыку. І не сцёрліся б так адразу гады, што прайшлі з таго дня, як я ішоў праз балота, а яна засталася на «востраве», сумная, нібы прадчувала. Што потым адбылося на «востраве», я ад яе дазнаўся ў тым жа інстытуцкім калідоры.

Праз пяць дзён карнікі дапялі і да «вострава». Калі ўспаўзлі, мокрыя, смярдзючыя, злыя, на бераг і пачалі страчыць па ўсім, што хавалася ці бегла за кустамі, Сцёпка-Фокуснік (ён адзіны з партызанаў мог на мыліцы хадзіць) адстрэльваўся, а потым прыскакаў і сеў сярод параненых, падцягнуўшы да сябе рэчмяшок з толам. Глаша з трыма малымі ляжала ў балоце за вываратнем і бачыла, як гэта было. Ён прыбег, адкінуў мыліцу, вінтоўку і сеў. І да яго папаўзлі параненыя, а ён іх укладваў галовамі да сябе, да мяшка з толам, Глаша таксама хацела падбегчы — вось-вось з-за кустоў з'явяцца карнікі! Ужо галасы іх чула. Але не магла падняць сябе, так ёй зрабілася жудасна. Асабліва калі папаўзлі да яго параненыя, нібы да збавіцеля, а ён акуратна ўкладваў іх галовы. Напаследак яе вочы і Сцёпкі-Фокусніка сустрэліся. Ён глядзеў (Глаша тут кожны раз, калі расказвала, плакала ў гэтым месцы) і неяк дзіўна ўсміхаўся.

— А мо мне здалося. Да яго паўзуць, а ён трымае гранату на мяшку з толам і глядзіць на мяне, нібы просіць памагчы, не прыбраць позірк, не хавацца, а каб я не баялася, усміхаецца мне… Я не вытрымала, схавалася, і адразу — выбух!.. Калі немцы цягнулі нас праз «востраў», гналі ўсіх, каго не забілі, я яшчэ раз убачыла месца, дзе былі параненыя…

Перад самай нашай жаніцьбай былі мы з Глашай на Браслаўшчыне — паехалі на азёры. Пакуль я ставіў палатку, яна некуды знікла, а потым паклікала мяне незнаёмым, нейкім чужым голасам. Я спалохана прыбег, а яна сядзіць спакойна, абхапіўшы загарэлыя калені, і глядзіць уніз — на застылую вячэрнюю прыгажосць возера, акружанага жоўтымі бярозамі, якія адбіваюцца ў вадзе і на якіх нібы гарыць яшчэ дзень, і цёмнымі, амаль начнымі елкамі.

Я заўсёды зведваў ад прыгажосці бачнага свету пачуццё хутчэй пакутлівае, чым радаснае. Нібы ты вузкагорлая пасудзіна, у якую шырокім струменем льюць густы ліпкі мёд: нешта ўсярэдзіну трапляе, але больш па сценках, звонку… (Затое зараз магу тоненькім, эканомным струменем цадзіць, зберагаючы кожную кроплю. Тое, што сабрана ў пасудзіне, цёмнай, назаўсёды закрытай, толькі тое табе засталося і новага не будзе. Пералівай, цадзі — з сябе, у сябе…)

Глаша па-свойму ацаніла маю маўклівасць:

— Скажы: не перашкаджай мне, калі сама нічога не робіш!

І ўсміхнулася вінавата, радасна-пакорліва. Гэта ў яе было новае, незнаёмае, узніклае пасля вайны: гаварыць за мяне, і прычым заўсёды мне на палёгку, а сабе на дакор («Скажы: не хапала мне яшчэ бабскіх слёз…», «Скажы: сама разбірайся са сваім Касачом…»).

А то раптам пачынала расказваць пра тое, што было з ёю пасля «вострава»: пра тыфозны прыфрантавы канцлагер каля палескіх Азарыч, пра пяцігадовага хлопчыка, які памёр на мокрым снезе:

— Ён усё суцяшаў мяне, я яго грэю, а ён абяцае: «Прыйду дамоў і зраблю тры печкі: мамцы, сабе і табе!» А яго мамка, застрэленая, ужо ляжыць каля калючага дроту: хацела суччა сабраць, каб сагрэцца… Ну вось, зноў я… Скажы: не бачыў я вайны!

Глашы ўсё здавалася, што яна навязвае мне свае ўспаміны, свае слёзы, сваё мінулае. А я прымушаў яе зразумець, паверыць, што гэта і маё мінулае, і мае ўспаміны, усё гэта наша. Паступова яна гэтаму паверыла, але, паверыўшы, як гэта бывае ў жанчын, адразу пайшла далей. Зараз ёй ужо здавалася, што любіла яна зусім не Касача, а мяне, але я сам сваёй дурной улюбёнасцю ў камандзіра і сваёй пераконанасцю, што можа яна любіць толькі яго, толькі такога, — адным словам, гэта я перашкаджаў ёй разабрацца ў самой сабе. Дый наогул мог бы быць больш падобным на Касача! Толькі каб не такі абыякавы…



Я не вытрымліваў — так шчыра яна папракала мяне, з такой упэўненасцю ў сваёй праваце і ў маёй віне, — і пачынаў гучна рагатаць. Глаша злавалася і крыўдзілася яшчэ больш:

— Ну чаго ты цешышся, як Флёра на тачанцы! З-за цябе я столькі папакутавала. А з-за каго ж?

— Ага, каб вочы Акуліны Іванаўны ды да фігуры Мікалая Фёдаравіча…

— З табой немагчыма размаўляць сур'ёзна!

Што зараз яна адчувае, што ў ёй, калі абодва мы тут, я і Касач? Першапачатковае напружанне, калі яна, бадай, сама яшчэ не ведала, як успрыме гэту сітуацыю, прайшло. Яна ўжо па-другому і сядзіць, і з Сярожам гаворыць. Звычайна, як дома. А на твары яе, хутчэй за ўсё, той наіўна-спакойны выраз, з якім яна тады, у час блакады, заснула, прыхіліўшыся да дрэва: а, самі разбірайцеся з гэтай вайной, з гэтай смерцю! Ёй надакучыла. Самі разбірайцеся, *калі вы такія*… Але якія мы — мы з Касачом, — калі глядзець яе вачамі? Я неаднойчы заўважаў у ёй злосць супраць нас абодвух. Ужо супраць абодвух. Так, Касача нібы не існуе для яе, нават здзіўлена, што было, магло нешта быць, але і маё, Флёрава, яе часта раздражняе:

— Добра быць Флёрам, але не да такой ступені! Табе ўжо не сямнаццаць. Колькі можна саступаць кожнаму? Так і будуць усё жыццё верхам на табе!

Ужо не да Касача, а да трэцяга кагосьці раўнуй, які не такі, як Касач, але і не такі, як Флёра. Да яе будучага пачуцця. У іх, жанчынах, яно заўсёды жыве, гэта «будучае пачуццё». Як заўтрашняя, а не толькі сённяшняя мера чалавека, чалавечага. І для гэтага самім жанчынам зусім не абавязкова быць лепшымі за нас. Проста ім аддадзена гэта на захаванне. І куды б жыццё ні накіроўвалася, вымяраем мы сябе, выяўляем, любім або пагарджаем усё-ткі жаночым позіркам…

…Ноччу атрады рушылі ў глыбіню балота. Зарава запаленых лясоў, на якія ўжо перапаўзлі пажары, жоўта адбіваецца ад вузкіх, што нам насустрач бягуць, хмар, кладзецца на ваду, пад

ногі нам, надаючы ўсяму яшчэ больш імклівы, трывожны тэмп. Адстанеш — дагоняць, паспяшыш — напорашся! Мы адыходзім ад карнікаў — насустрач ім. І чым больш выразнае гэта пачуццё, тым больш упарта мы спяшаемся на другі край балота, дзе, напэўна, перасоўваюцца ўжо, расцягваюцца батальёны і засады, чакаючы нас. Хлюпанне па гразі, усплёскі, злыя ці недарэчна вясёлыя воклічы, цяжкае дыханне — усё здаецца несканчоным, невядома калі ўзніклым, бясконцым. Твае і нейчыя рукі сустракаюцца, хапаюцца, счапляюцца ці спалохана адпіхваюць адна другую і — наперад, наперад! Параненых нясём, тоўпячыся каля насілак і коўдраў па шэсць, па восем чалавек, да болю ўчэпіста трымаючы пальцамі, пазногцямі сукно або брызент. Трэба як мага вышэй трымаць, але нечакана знікае ўсякае дно пад нагамі, і тады людзі кідаюцца ў адзін, у другі бок, трымаючы ношу і як бы чапляючыся за яе. На дапамогу кідаюцца тыя, хто бліжэй, і пачынаецца нібы схватка, барацьба — з крэктам, воклічамі, лаянкай.

Твары, вочы параненых сярод усяго гэтага ўражваюць нерухомасцю, нібы нават абыякавасцю, за якімі адчай і сорам, бездапаможнасць, крыўда на сваю няўдачу. Але і сярод параненых ёсць свае «веселуны».

— Цягні, браткі, невад! Юшка будзе.

Мяне змянілі каля насілак-коўдры, але адразу ж у твар зазірнуў Косця-начштаба, не пазнаў, вядома, але загадаў:

— Памажы ахове. Валочым яшчэ фрыцаў для нечага! Чорт ведае!..

Мы іх і сапраўды для нечага гонім перад сабой і нібы разумеем, для чаго, чаму, але па чарзе здзіўляемся: «Чорт ведае што!» Я знайшоў іх там, дзе галасы гучней, самыя рэзкія. Тут і Пераходы — дзядзька і пляменнік. Яны самыя маўклівыя ў ахове.

Дзіканазіраць, як карнікі стараюцца ўратавацца ад балота, як боўтаюцца, цягнуцца да чэзлых дрэўцаў і купін, хапаюцца за партызанаў, нават за Пераходаў, адзін за аднаго, нібы не разумеюць, што яны ўжо мерцвякі. Але, мусіць, не верыць у гэта ніхто, пакуль жывы. І таму паводзіць сябе чалавек часам вельмі дзіўна, недарэчна, калі глядзець збоку.

Я не адразу пазнаў свайго брытагаловага ворага, так выматала карнікаў балота, а гэты яшчэ без акуляраў, як сляпы. (Малпы ўжо пры ім няма.) Некалькі разоў мы аказваліся побач. Але дзіўна, я нібы саромеюся чагосьці. Не хачу, каб ён пазнаў мяне зараз, калі мы адзін на адзін, а не ў натоўпе партызанаў, дзе я гучна



дабіваўся, каб ён убачыў, разгледзеў, пазнаў мяне, уратаванага з забітай ім вёскі. Не дарэмна я так пратэставаў, так ненавідзеў з самага пачатку гэту іх бездапаможную пакорлівасць, паслухмяную стараннасць. Яны нібы загадзя ведалі, чакалі, што ўва мне з'явіцца гэта няёмкасць ад усведамлення поўнай улады над нейчым жыццём і смерцю. Няёмкасць, якой у іх саміх, помніцца, не было.

Я іду следам за сваім галоўным ворагам, як навязаны, вартую, як з засады, але блізка, вачамі сустракацца мне не хочацца.

Раптам пагрозліва ўскалыхнулася ў жоўтай цемры падманлівая паверхня, на якую ён стаў. І адразу ж, па-бабску ўсклікнуўшы і ўзмахнуўшы рукамі, ён праваліўся. Спачатку з'явіліся пальцы, растапыраныя, выцягнутыя, потым выкацілася галава і засталася, як адрэзаная, на дрогкай паверхні цвёрдага моху — без твару, без вачэй, аплеценая цінай, нібы нечакана аброслая.

— Гэй, памажы таму, не бачыш! — гукнулі да мяне.

Няўстойліва трымаючыся за нізенькі корч, я падаў ствол вінтоўкі, крануў ім варухлівыя пальцы. Яны адразу кінуліся да маёй вінтоўкі, я ледзь не адхапіў. А ён ужо ўсім цяжарам павіс, сцягваючы і мяне з хісткай купіны. Была б гэта палка, а не вінтоўка, я ўжо выпусціў бы яе з рук. А тут мы нібы змагаемся за вінтоўку, вырываем адзін у другога. Я падцягнуў да сябе аплеценую багавіннем, цінай галаву, дрыготкія плечы, рукі майго ворага, ён схапіўся за корч, за мяне, прагна, спалохана, слепа. Я ўжо адпіхваю яго, адрываю ад сябе, крычу раз'юшана:

— Ну што, так і будзеш? Пайшоў, гадзіна!

Гразь сплыла з голенай галавы, і ўжо бачны вочы, блізкія, шалёныя ад перажытага жаху! І нібы пазналі мяне.

І тады я рвануў вінтоўку ўбок, клацнуў затворам, але не ўтрымаўся і сам схапіўся за яго плячо. Схапіўся, схваціў і, зверху гледзячы ў жоўтыя ад далёкага зарава вочы, крычу:

— Ты, фашыст, глядзіш, вылазіш, гадзіна, жыць, так, жыць?!

Я выкрыкваю яму прысуд і не магу прабіцца скрозь бяссэнсава спалоханы позірк старога з запэцканай галавой. Перада мной гэтыя вочы, а мне трэба — калі мы ўжо так блізка і зараз я заб'ю яго, — я хачу ўбачыць таго, хто стаяў каля машыны, сядзеў у машыне…

Ён, мусіць, зразумеўшы, што гэта смерць, крычыць, ірвануўся ўбок і зноў праваліўся па пояс. Я кінуўся за ім, проста на яго кінуўся. Цяпер я штурхаю, ганю яго, выціраючы свае вочы, якія слепяцца, менавіта яго ганю, і ён ведае, што гэта я, што я ёсць, што я ўвесь час іду следам. Ён блізарука азіраецца, нібы

шукае мяне. Зараз ён ведае, хто яго гаспадар, яго жыцця і смерці гаспадар, і гэта неяк дзіўна на яго падзейнічала: ён яшчэ больш старанна, ужо нібы спецыяльна для мяне ратуе сваё жыццё…

Нарэшце мы выбраліся на залітыя вадой узбалоткавыя лугі. Імжыць ранішні дождж на нашы разгарачаныя твары, распараныя шыі, рукі.

Спрабуем, не здымаючы ботаў, выліць з іх жоўтую ваду. Збоку гэта выглядала б як дзіўная ранішняя зарадка: вялізны натоўп змучаных людзей сярод мокрага лугу, заняты тым, што кожны, хапаючыся за суседа, па-птушынаму падкурчвае назад нагу або выпроствае яе перад сабой. Тыя, у каго не боты, а сырамятныя каровіны пасталы ці, яшчэ лепш, лазовыя лапці, стомлена расхвальваюць свой абутак, у якім нічога не затрымліваецца — ты і абуты і босы адначасова. Налятай мяняцца! Але ахвочых мяняцца з імі і нават падтрымаць стомленую балбатню не знаходзіцца.

Чалавек з трыста стаяць сярод лугу ў неглыбокай вадзе, безнадзейна мокрыя, выматаныя, трымаюць насілкі. Пазіраючы адзін на другога, як на свой адбітак, змываюць бруд з адзення, з твараў, палошчуць у вадзе кепкі, пілоткі. Спрабуюць сцерці чарнату з твараў параненых, калі тыя не могуць самі.

І карнікі мыюцца, нерашуча, моўчкі.

На вадзе, вялізнымі зялёнымі шарамі кусты лазняку, падобнага на копы сена, хоць сядай на іх! І пакуль наперадзе нейкая затрымка, многія спрабуюць адпачыць, сесці, а не выходзіць, дык легчы жыватом або спіной, пластам. Ужо смех чуецца, стомлены, невясёлы.

Карнікаў мы сабралі да аднаго вялікага лазовага куста, і яны таксама прытуліліся да яго, хісткага, пругкага. Ужо не як ноччу, а як раніцай, бачацца твары, а гэта зусім іншае. Раніца пасля цяжкай ночы падкрэслівае ў любым чалавеку стомленасць, але таксама і палёгку, што *гэта* скончылася, прамінула. Карнікі мыюцца ўжо смялей, старанней, было б чым — зубы чысцілі б: адной рукой, далонню зачэрпне ваду, яшчэ раз і яшчэ раз, і ўсё гэта нібы не так сабе. Яны рыхтуюцца жыць яшчэ адзін дзень і быццам бы асцярожна пытаюць у нас, што стаяць са зброяй насупраць, ці пераконваюць нас…

Мой вораг акуратна абмывае галаву, зноў гладкую і заплямленую, як дрэнна пафарбаванае велікоднае яйка; блізарукія вочы яго некага шукаюць, усё здаецца, што мяне. І быццам бы з надзеяй нейкай. Сярод агульнай, безаблічнай нянавісці ён учуў асабістую, маю, няхай таксама нянавісць, але за якой пэўны чалавек. Замест таго, каб баяцца мяне яшчэ мацней, ён, на табе, шукае мяне! Усё-ткі ў яго тут знаёмыя! Я не дазваляю яго бездапаможна плаваючым вачам зачапіцца за мой твар, прапускаю міма, не прызнаючы. Не хапала, каб я і сапраўды саромеўся вось так сурова, бязлітасна стаяць перад ім, брудным і рахманым! Не шукай, не знойдзеш, не дачакаешся!..



Сярод «не немцаў», якія трымаюцца падкрэслена асобна, найбольш вылучаецца кадыкасты перакладчык. І не толькі рост яго спыняе ўвагу, але і выраз нейкай заўсёднай бяссэнсавай хітрасці на твары. Ён згубіў сваю фуражку з доўгім брылём, што адрознівала яго ад немцаў, і гэта яго вельмі непакоіць, быў нават момант, калі ён зняў фуражку з галавы ў земляка-суседа нібы для таго, каб пагрэць галаву, але той спахапіўся і забраў назад. Усё спрабуе з намі гаварыць:

— У-ух, стаміліся! Якія тут балоты!

Паглядзеў з кароткім спалохам: ці не перастараўся? І тады паведаміў, што «дождж зараз не патрэбны, самая ўборка, жніво».

— Але затое памые *нас*.

Як хітра ён падкрэсліў гэта агульнае «нас».

— Заткніся! Ты! — не вытрымаў нехта, і перакладчык спалохана сціснуўся, але адразу ж пераклаў сваім, падаў гэта, мусіць, як агульную каманду.

Карнікі паварушыліся, замерлі.

Падыходзяць яшчэ партызаны. Нешта прыцягвае сюды. У пабурэлай ад бруду «венгерцы» з залізаным мокрым футрам па бартах, трымаючы аўтамат пад локцем, падышоў Касач, змрочна ўсміхнуўся суседу — вусатаму камандзіру:

— Доўга трафей свой будзеш валачы?

— У цябе ёсць людзі з Пераходаў, вось і забірай, вырашайце.

Касач глядзіць на карнікаў нібы вельмі спакойна, неяк здалёку, але перакладчык не вытрымаў, напомніў:

— Мы не немцы!

І паказаў на фуражкі (і на сваю непакрытую галаву таксама).

— Сур'ёзна? — здзівіўся Касач. — Ну, а з імі што рабіць? З тваімі гаспадарамі?

— Яны заслугоўваюць пакарання смерцю, — выразна і гучна сказаў перакладчык.

— Вы гэта і зробіце зараз. Калі ім служыце!

Касач некалькі разоў мімаходзь пазіраў на Перахода-старэйшага, што нерухома стаяў перад карнікамі. Позірк быў нейкі, бы свідруе: ці так, ці тое ён, Касач, робіць, збіраецца зрабіць? І таму не па-касачоўску запытальны. Аднак было ў гэтым і нешта

вельмі касачоўскае, нядобра выпрабавальнае. Выпрабавальнае, але з загадзя вядомым яму адказам.

— Ану дайце гэтым вінтоўкі.

І ўсё-ткі мы яго не зразумелі.

— Без затвораў, — нечакана раздражнёна растлумачыў Касач.

Заклацалі затворы. Ад гэтых гукаў карнікі заварушыліся, аселі, куст за іх спіной задыхаў, затрашчаў. Але жах, сапраўдны жах перакасіў іхнія твары, калі карнікі-немцы ўбачылі, што вінтоўкі перадаюць іх суседзям у дзіўных фуражках.

Аднекуль прыбег Сталетаў, нібы баючыся спазніцца. Ён не бачыў, як і што тут адбывалася, вочы касавурацца спалохана і прагна. Ён не разумее, чаму вінтоўкі ў руках у карнікаў. Пераступае з нагі на нагу, прапіхваецца бліжэй да «не немцаў». А за спіной у яго рэчмяшок — варушлівы, дрыготкі, жывы. Я не адразу зразумеў, а зразумеў — адразу ж забыў і пра Сталетава і пра яго рэчмяшок, каб успомніць і доўга помніць потым, калі ўсё скончылася. Вось дзе, аказваецца, з'явілася малпа з пляча галоўнага забойцы — Сталетаву яе сунулі валачы. Нібы наўмысна. «Летапісцу» акурат. Жывы, дрогкі, дыхаючы мяшок, і сам Сталетаў таксама паторгваецца, пераступае з нагі на нагу…

Нехта гукнуў:

— Давай мясі, калі мяснікі!

Чацвёра «не немцаў», зачаравана слухаючы ціхія, напаўголасу, каманды свайго перакладчыка-кіраўніка і беручы вінтоўкі за ствол, адступаюць ад другіх карнікаў, якія прысядаюць, уціскваюцца ў лазовы куст, а ён увесь ходзіць, дыхае, хістаецца. І гэтыя з вінтоўкамі-палкамі таксама ціхенька, сцеражліва хістаюцца, пераступаючы з нагі на нагу і ўзважваючы дубінны цяжар прыкладаў. Прымерваюцца і ўсё перагаворваюцца па-свойму, ціха і хутка пераклікаюцца. Перакладчык, рэзка ўскрыкнуўшы, нечакана кінуўся да майго ворага. Ускінуты над брытай галавой прыклад, кароткі, пустагулкі хруст удару, адразу ж заглушаны зусім заячым крыкам немца-карантыша, на якога накінулася адразу двое!..

І аўтаматная чарга! Нечаканая, рэзкая, усё перакрэсліўшы, як палёгка, выратаванне.

Два карнікі з вінтоўкамі і некалькі немцаў, нязручна хапаючыся адзін за другога, за куст, асядаюць у ваду. Адгучала чарга, пранеслася рэха, а яны ўсё хапаюцца адзін за другога, усё падаюць. У перакладчыка твар незнаёма расслаблены, не лжывы. Пастаяў, нізка абапёршыся на вінтоўку, і раптам крута баднуў галавой зямлю, гразь.



— К чорту! К чорту! — крычыць Пераход. Гэта ён страляў. — Усіх к чорту!

І тут адчайны стогн-крык за кустамі:

— Стой! Што робіце? Вы! Што робіце?

Мы кінуліся ўбок, за куст, такі гэта быў крык! Пераход-малодшы стаіць на каленях і нібы што шукае ў вадзе, разглядвае ў гразі, усё ніжэй і ніжэй схіляе галаву, твар. А партызан, што крычаў, ярасна глядзіць на нас і цягнецца да яго рукамі, ці то паказваючы на яго нам, ці то жадаючы падхапіць, падняць. У чарнаце, у гразі плавае, хутка разыходзячыся, цёмна-чырвоная пляма з сіняватым адлівам. Прыціснутая да фуфайкі, да жывата рука Перахода-малодшага страшэнна палымнее крывёю.

Пераход-старэйшы аглушана глядзіць на гэта. Зрабіў крок да карнікаў, схапіў двух — немца і «не немца». Ад яго цяжкіх рук яны зваліліся, але ён ускінуў іх на вялыя ногі і ўдарыў аднаго аб другога, і яшчэ, і яшчэ, з кожным разам слабей, але ўсё з большым адчаем і крыкам:

— Праклятыя! Праклятыя! Праклятыя!

…І мы пабеглі далей, насустрач ледзь бачным у ранішнім святле нямецкім ракетам. Мы ўсё яшчэ спадзяёмся праскочыць у вялікія лясы, дзе няма блакады. Гэта імкненне соцень людзей да выхаду, які ўжо зачыніўся ці вось-вось перакрыецца, было таксама ўцёкамі ад таго (але і насустрач таму), што здарылася каля копаў-кустоў лазняку і нібы ўсё яшчэ працягвалася. Як толькі мы спынімся, зноў адбудзецца, вернецца гэта. Але куды пойдзеш, уцячэш, калі наперадзе нас чакаюць такія ж карнікі, як і тыя чацвёра ўцалелых, якіх мы гонім з сабой?.. «Рама» ўжо завісла над намі, то ўздымаецца, то падае ніжэй, рэдкія кусцікі не могуць нас схаваць. Мы зноў пад позіркам, які сочыць зверху. І ўжо адчуваем — нібы цені бачым, — як наперадзе, куды мы бяжым, перасоўваюцца нямецкія батальёны, перамяшчаюцца засады, чакаючы нас.

Скончылася пад нагамі вада, потым чорная, як дзёгаць, старая падсохлая гразь, і нарэшце мы на сухім, на здзіўленне сухім тарфяніку. Тут нібы і дажджу не было, толькі папырскала трохі нібы дзеля сонечнага бляску ды васковага і вострага паху торфу і багуну. Не засталося сіл адмахвацца ад каротказадых куслівых аваднёў. Затое ўжо няма палескіх камарыных хмар: сонца змахнула іх, хаця яшчэ і халаднавата, раніца. Ляжыш на зямлі пластам і ўсім целам адчуваеш, якая яна мяккая, лёгкая, уся з траў і пахаў. Высокія высахлыя купіны смачна і прызыўна

цямнеюць познімі ягадамі — вялізнымі сінімі буякамі. Людзі так выматаліся, што толькі глядзяць на ягады, аблізваючы перасохлыя вусны, неахвотна перамаўляюцца. («Галава ад гэтых буякоў баліць, калі шмат», «Ану падай!», «Бягу!») Але ўжо прыстройваюцца да апетытных купін, нібы да стала падыходзяць, падпаўзаюць, а іншы, як бервяно, падкоціцца — і так яму добра і нават не трэба ўставаць!

Вось ужо разабралі-расхапалі самыя шыкоўныя купіны, з сумак галеты нямецкія дастаюць, пра ваду гавораць:

— А чаю не хочаш?

— Трэба было хлябаць, не зяваць, калі пад бараду было.

Ягадамі частуюць параненых, якія ў стане есці. Іх шмат, занадта шмат, параненых. Некаторыя беспрытомныя, трызняць, ускрыкваюць, а тыя, у каго вочы расплюшчаны, глядзяць у нізкае неба, дзе назольна шукае, гудзе «рама». Параненыя ведаюць, куды, насустрач, да якіх баёў мы нясём іх, бездапаможных, цалкам залежных ад рук, ад ног, ад смеласці ці слабасці другіх…

Сярод іх Шардыка — наш камісар. Калі атрад вырываўся з блакады, яго секанула па поясе кулямётная чарга. Але ён усё яшчэ жывы, хаця і страціў прытомнасць. Некалькі разоў, я бачыў, падыходзілі да яго насілак Касач і Косця-начштаба ў суправаджэнні рухавага кругленькага Філіпава. Атрадны медык вінавата называе нейкія лекі, уколы, якія неабходны і якіх у яго няма.

На зямлю не садзіцца, не адпачывае, здаецца, адзін Пераход. Вялізны, у нягнуткім брызентавым плашчы, стаіць над насілкамі, на якіх цяжка дыхае смяртэльна-белы яго пляменнік. Пераход глядзіць на параненага з недаўменным, нейкім адчужаным здзіўленнем. Нешта вельмі трывожнае ў яго паставе — вось-вось зробіць чалавек нечаканае і страшнае… Каля ног яго над маладым Пераходам сядзіць дзяўчынка, рот яе напханы ягадамі, вымазаны, на шчоках слёзы. Яна зноў плача, дзяўчынка з Пераходаў.

У карніках, ацалелых, нешта змянілася. Яны сядзяць збітай кучкай, хаваючы вочы. Дакорлівае нешта ў іх паставах, у гэтых пакрыўджана апушчаных вачах. Іх дысцыплінаванасць, іх рахманасць не ацанілі партызаны — у гэтым яны пераканаліся ўжо. Але яны, нягледзячы ні на што, застануцца такімі ж. Нам у дакор. Можа, і не гэта ў іх у галовах было. Але пастава, выраз у іх такі. І цяпер яны не стараніліся адзін другога, два немцы і два «не немцы». Можа, таму, што іх засталося мала. Але ўсё-ткі дзіўна, тое, што адбылося каля куста, не развяло іх канчаткова, а нібы нават нанава зблізіла…



Ужо вось паатрадна, паўзводна, адлучыўшы людзей, у якіх рукі звязаны параненымі (яны — асобна, ззаду), мы рухаемся высахлым балотам, гатовыя адразу разгарнуцца да бою. Старыя, зарослыя жоўта-бурай асакой канавы, кучы-барханы зляжалай тарфяной крошкі, іржава-чорныя і толькі дзе-нідзе пакрытыя травяной зелянінай, — канца гэтаму няма. Да вайны торф тут нарыхтоўвалі. Зямля спружыніць пад нагамі, адчуванне, нібы па падвесным мосце ідзеш. Не сантыметры, а метры торфу ўглыб! Малады партызан (у Пераходы не трапіў, вочы не баляць, не слязяцца, як у мяне!) раптам падскочыў, як уджалены, і гопнуў на зямлю каленьмі.

— Як сяннік, браткі-беларусы!

На яго глядзяць, адны са здзіўленнем, другія з дакорам — на чалавека, якому яшчэ ахвота пагуляць. Разважаюць:

— Сюды агеньчык — паўгода тлець будзе.

— Там ужо гарыць, бачыце.

Над далёкімі тарфянымі буртамі сапраўды вісіць тонкі блакітны дымок, мякка растаючы ў нізкім сырым небе.

Мы ўбачылі людзей. Спачатку дзяцей, што бегалі сярод тарфяных барханаў. Зусім блізка перад намі з-за чорна-зялёнай тарфяной кучы выйшла басаногая жанчына, прайшла колькі крокаў, але раптам заўважыла нас і хуценька назад, схавалася. Зніклі і дзеці.

За намі, здаецца, назіраюць. Але вось зноў выйшлі са сховішчаў жанчыны, дзеці. Іх з'яўляецца ўсё больш. І толькі некалькі мужчынскіх барадатых твараў. У шчыльна аселых, парослых травой тарфяных узгоркаў чарнеюць дзіркі — уваходы. Цэлая вёска, напэўна, хаваецца ў гэтых норах.

— Хлопчыкі, так напалохалі вы нас, так напалохаліся мы! — загаварылі адразу некалькі жанчын нам насустрач. — Учора немцы ці гэтыя «дняпроўцы» іхнія праходзілі, толькі тым краем. Нас не заўважылі. А тут, думаем, ну, усё, проста на нас!

— Шмат ішло? — пытае вусаты камандзір.

— Ды шмат! Мо разоў у тры больш, чым вас тут.

Партызаны зазіраюць у неглыбокія тарфяныя норы: цёмна, валяюцца коўдры, посцілкі, каля ўваходаў чыгункі, вёдры.

— Што, і не абвальваецца?

— За ноч — хоць адкапвай нас! І ў рот і ў вушы набярэш. Затое ад дажджу.

— Вы галодныя, хлопцы?

— А што ў вас, цёткі, ёсць?

— Вядома што! Печаная бульбачка. І шчаўе кісленькае. Яно ў нас замест солі.

— На гэты раз мы вас пачастуем. У немцаў пазычылі, — гаворыць вусаты камандзір. — Дзе там наш начхоз?

Але і ад печанай бульбы ніхто не адмаўляецца. А яна тут даходзіць хутка, і колькі хочаш засыпай у жар — у гарачую тарфяную яму. У зямлі нібы правал утварыўся, белаваты, зольны, задымлены — прадаўгаватая пляма крокаў на пяць. Кожнаму цікава памераць глыбіню вогненнага торфу, сунуць шост, кій. Дым горкі, едкі, асабліва для маіх вачэй. Але і мне хочацца зірнуць: нібы звычайны агонь, жар, але нешта ў ім пагрозлівае, злавеснае, у гэтым агні, што жарэ самую зямлю.

— Навошта вы так блізка распалілі, цяпер не патушыце, — гаворым мы гаспадарам, — папаўзе агонь пад вас.

— А Бог яго ведае, хто падпаліў! Ляжыць, ляжыць — і загарыцца, — упэўнена пярэчаць жанчыны. — Як порах, сухенькі! Вады тут і не знойдзеш, да балота ходзім па ваду. А яшчэ міны гэтыя, ракеты страляюць, чаго ж хацець! Гарыць усё.

— А туды, пад лес, дзе з вясны гарыць, зусім не даступіцца, — умяшаўся стары, што качагарыў каля ямы. — Учора дзеці ўбачылі дзіка, пабеглі нашы, пагналі яго на агонь. А падысці не змаглі. Не трымае. Дажджы ўсё былі, дык яно там тлее, а зверху кара. Стаў — і прапаў! Шухнуў кабан — толькі іскры. Можа, метр, а можа, і ўсе тры! Гатовая смажаніна, ды не дастанеш.

— Бабы, а можа, яно пад намі ўжо, сюды агонь дапоўз? А што, прачнёмся ранічкай, а ўжо спякліся!

Смяюцца жанчыны. Ёсць мяжа бядзе чалавечай, за якой слёзы ўжо высыхаюць і калі чалавек і скардзіцца ўжо не можа…

Нам трэба іменна туды, дзе сцелецца над гарызонтам, зламаным тарфянымі горамі, злавесны блакітны дымок. Недзе трэба абысці гэты дымок, гэты земляны пажар.

Вусаты камандзір застаўся са сваім атрадам, са сваімі параненымі, не адважыўся ісці далей, пакідаць балота. Касач з ім доўга пра нешта дамаўляўся ці спрачаўся. Я чуў, як сказаў Косцю-начштаба, калі мы ўжо рушылі:

— Хопіць, што я там іх паслухаў! У Пераходах.

Нават зараз цяжка сказаць, хто праў быў: вусаты той ці наш камандзір. Але, як заўжды бывае пры такіх трывожных і няпэўных сітуацыях, самы малы непакой наверсе адразу памнажаецца на непакой многіх, ператвараецца ў сапраўдную, у вялікую трывогу. Галоўнае, што ў нас на руках амаль два дзесяткі параненых!

Гэты бой пачаўся незразумела, а таму злавесна…



Мы ўжо прайшлі кіламетры з чатыры, але ўсё ніяк не можам абмінуць дымную паласу торфу на гарызонце. Некалькі разоў набліжаліся да яе. Касач і сам хадзіў глядзець, што там робіцца. Вяртаюцца тыя, што хадзілі, узбуджаныя і трохі разгубленыя.

— Ну, браткі, ціхі вулкан!

— За паўкіламетра зямля цёплая!

Нарэшце далёка наперадзе мы ўбачылі лес. За дымнай смугой не разгледзець, суцэльны ён ці гэта толькі шматок лесу, але ўсё роўна лес, а не гэтыя абрыдлыя зялёна-рыжыя «барханы» ды разбежыстыя ва ўсе бакі чэзлыя хвоечкі. Людзі заходзяцца ад кашлю, параз'ядала ўсім горлы. Хапаюцца за вочы. А для маіх, засыпаных, дык і зусім бяда гэты тарфяны ўчадлівы вецярок. Усё навокал мяне плыве, афарбавана гарачай вясёлкай. Моцна нудзіць. Але наперадзе лес, сапраўдны, жывы, і хутка скончыцца гэтая агідная, чорная, брудная, рыхлая, мяккая, задымленая падушка, узыдзем, станем на сапраўдную зямлю. Такое адчуванне, што наогул вернемся аднекуль на зямлю.

Параненыя ззаду. Ацалелыя карнікі ідуць з намі, з баявой групай, усё яшчэ абараняе іх наша да іх аглушальная нянавісць.

Дазорныя падыходзілі ўжо да лесу, калі гахнулі першыя міны: перад намі, збоку, ззаду…

Усе заляглі, каб скончыліся гэтыя няпэўныя першыя хвіліны бою, такога нечаканага. Зямля ўздрыгвае мякка, як жывая, а чорныя лапіны выбухаў адразу ж пачынаюць суха тлець, дыміцца.

Дзіўна, што ні кулямёты, ні аўтаматы не б'юць, адны толькі міны намацваюць нас. Адкуль жа нас накрылі?

Каманды ўсё няма, гэта ўсіх нервуе. Толькі б не сарваліся, не пабеглі! Вось ужо нехта ўскочыў, бяжыць.

І яшчэ два ці тры. Нічога горш за гэта не бывае! Бягуць направа, да тарфяных куч, якія, калі ляжыш, з зямлі ўяўляюцца спінамі дапатопных звяругаў, затоеных, цёплых. Паветра над імі дрыжыць, струменіць…

Пачуліся раптам стрэлы, чарга аўтаматная. Адзін упаў, а тры пабеглі яшчэ хутчэй, сагнуўшыся, улукаткі. Гэта ж палонныя разбягаюцца! Карнікі!

Здалося спачатку, што яго мінай накрыла — самага першага, які пабег. Слуп іскраў на тым месцы, дзе ён толькі што быў. І адразу ж знік, як праваліўся, яшчэ адзін, што бег апошнім. Ды гэта ж яны правальваюцца ў торф, які гарыць! У працятую жарам распаленую зямлю!..

Той, што быў пасярэдзіне, замёр на месцы, потым закруціўся, і мы пачулі, як ён не закрычаў — завыў у нечалавечым жаху…

— Першая рота застаецца тут, першая рота! — крычыць Косця-начштаба, бегучы перад намі.

І адразу ж гучны голас Касача, што прарываецца з-за выбухаў:

— Другая рота! Другая рота, за мной!

Ён бяжыць да кустоў, узмахвае аўтаматам.

Вось яно, тое імгненне, калі ўсё, што было, ёсць і будзе, зазірае ў вочы табе: «Гатовы?» Не прапусціць яго, не страціць!..

Я ўскокваю і бягу за Касачом, за Пераходам, за тымі, хто наперадзе мяне. Людзі ўздымаюцца з-пад выбухаў і бягуць на нябачнага ворага. Мяккая спружыністая зямля, як жывая, удзельнічае ў нашым бегу, яна нібы нахіляе нас наперад. Мы нясёмся ў нізінку, паўз лазняк. Злева няпэўны ў дыме, зломаны тарфянымі горамі гарызонт, які плавае ў блакітным чадзе; справа гэты зялёны, густы, як сцяна, лазняк. А наперадзе, недзе за краем лазняку, нябачныя яшчэ ворагі, якія нас закідваюць мінамі. На многіх тварах людзей, якія бягуць побач са мной, разгарачаных ці стомлена-шэрых, недаверлівая і трывожная цікаўнасць да таго, што мы зараз робім. Мы бяжым, а не заляглі, не чакаем, калі немцы адкрыюць сябе, калі яны з'явяцца, не стараемся хоць бы выявіць, дзе яны і колькі іх, адкуль яны нас абстрэльваюць. Замест гэтага мы бяжым туды, дзе чакае, магчыма, засада або пастка. Але ж мы робім гэта, хоць і самі здзіўлены, а наш бег такі злосны, безаглядны, на тварах нашых, у цяжкім дыханні, у бязгучным мільганні ног, у напружаных плячах, шыях, у разведзеных локцях — ва ўсім пераконанасць, якая расце, што вось зараз мы навалімся, зломім ворага, які не чакаў, што так усляпую, рызыкоўна, мы кінемся наперад.

Грузна, цяжка і спераду ўсіх бяжыць Пераход-старэйшы. У яго бясформеннай і, як камень, шэрай ад брызенту спіне, у набычанай галаве, у густым дыханні адно — дабегчы, дабрацца нарэшце, вызваліцца ад самога сябе, невыносна злога, бяссільнага перад сваім закамянелым гневам.

Мы абягаем гэты без канца і краю лазняк, і ўсё няма тых, да каго мы імкнёмся дабегчы, дарвацца.

І тут убачылі: дзве мінамётныя трубы, нахіленыя ў наш бок, стаяць каля кустоў. Пырснула аўтаматная чарга — гэта Касач. Мае вочы, заслоненыя болем, таксама выхапілі нешта мільгнуўшае спераду. Я, не цэлячыся, стрэліў туды. Стрэлы ўдараюць, ірвуць паветра ззаду, збоку. Адзін Пераход бяжыць, не падымаючы аўтамат, не страляючы.



Кусты выраўняліся сцяной, і вось яны — пяцёра ці шасцёра ўцекачоў! Яны так паспешліва і бездапаможна спрабуюць забегчы за нябліжкі край лазняку, асабліва адзін з іх, які адстаў, каратканогі, з адвіслым задам нямецкіх салдацкіх штаноў, што усё раптам набывае афарбоўку жорсткай весялосці. І самае недарэчнае — ад едкага гару, ад беганіны і яны і мы кашляем. Бяжым, на хаду стукаюць паспешлівыя стрэлы, вось-вось пачнуць падаць забітыя, а яны, а мы не можам стрымацца ад самага простага — ад надрыўнага, апрыкрага кашлю.

Яны чамусьці не кідаюцца ў кусты, а ўсё бягуць перад намі, бачаць, напэўна, толькі край лазняку, які іх схавае ад нас, ад нашых стрэлаў. Чым бліжэй гэты край, тым хутчэйшая, больш паспешлівая стральба. І вось ужо, нібы развалілася нешта, па адным падаюць: направа, назад, налева. Два ўсё-ткі заскочылі за лазняк. А самы апошні з уцекачоў, старанны, нязграбны таўстун, яшчэ паспявае азірнуцца: вочы, перакрыўлены рот чалавека, які бачыць сваю смерць…

Касач прастрачыў па ім і таксама азірнуўся папераджальна, строга, каб не затрымліваліся каля забітых. Пераход бяжыць, не зважаючы на тых, хто ўпаў. Тыя, хто яму патрэбны, — наперадзе, яму патрэбны жывыя, жывыя…

І вось яны зноў астатнія два. Спачатку мы іх пачулі: іх надрыўны кашаль, як слабае рэха, адгукаецца на наш, у дзясятак глотак, кашаль. Зноў роўна пайшоў лазняк, і зноў яны перад намі, адкрытыя, асуджаныя. Азіраюцца.

Адзін адразу ж упусціў з рук вінтоўку і нарэшце нырнуў, уламаўся ў кустоўе. А другі ўсё бяжыць проста, хоць відаць, што сам ён адчувае, разумее, што гэта яго апошнія крокі.

Пераход перакрэсліў яго пагардліва-кароткай чаргой і пабег далей, нават не зірнуў на забітага. Не, параненага. Як пасля танка, які пранёсся над ім, паранены заварушыўся і, не ўздымаючы твару, папоўз нам насустрач. А рукі, акрываўленыя пальцы, якія ён нібы разглядвае пільна, так дзіка падобныя на гусіныя лапы…

Ён прапоўз і замёр за тры крокі ад мяне, пагадзіўся, што так, забіты!..

А мы бяжым следам за Пераходам, Касачом, аблітыя потам, і ніяк не можам вызваліцца ад недарэчнага кашлю, бяжым, нібы дакладна ведаем, што не гэтыя галоўныя, што галоўнае — наперадзе.

— Уласаўцы, сволачы! — крыкнуў нехта запознена пра забітых.

Я азірнуўся і ўбачыў, як партызан, на міг затрымаўшыся, перавярнуў цела таўстуна і вырваў з-за пояса ў яго доўгую гранату. І сапраўды ж —вінтоўкі ў іх не нямецкія! Ды і мундзіры нібы жаўцейшыя…

Мы яшчэ раз абгінаем лазняк, пакідаючы выбітую не намі сцяжынку лявей, яна пайшла з-пад ног у задымленыя, распаленыя тарфяныя далечы.

І тут мы ўбачылі: з-за лазняку нам насустрач выбеглі людзі ў зялёным, нямецкім. У касках, з аўтаматамі! І адначасова з лазовага гушчару вырваўся, вываліўся назад нядаўна зніклы ў ім уласавец і пабег насустрач немцам перад намі. І ён і мы нясёмся як з кручы і нібы над вострымі камянямі. Разумееш, як бывае ў сне, што трэба спыніцца, пакуль яшчэ не позна, але ўжо не маеш сілы зрабіць гэта, не можаш і нават баішся: пакуль бяжыш — усё доўжыцца; як толькі спынішся — пацягне цябе, пакоцішся па вострых камянях, абліваючы іх крывёю…

Рыпнула аўтаматная чарга, наша, не наша, яшчэ і яшчэ. Немцаў выбегла з-за куста дзесяць, не больш, а мы адкрыты ўсе, уся сотня, калі не паўтары. І нешта неадольнае ёсць у нас, якія нясуцца проста на іх (мы гэта самі адчуваем, разумеем: нібы бачым сябе!), таму што немцы, замест таго каб залегчы і ва ўпор расстрэльваць нас, кінуліся туды, сюды і раптам, павярнуўшыся таропкімі спінамі да нашых стрэлаў, пабеглі.

Я міжволі азірнуўся — *на нас*, на нашу сілу, якая так падзейнічала, так змяла гэтых немцаў. Мне і радасна, і страшна. Гнаць іх, гнаць!.. Гэта нядоўгія, хуткія хвіліны (ты гэта разумееш, ведаеш), таму што надыдзе міг, калі скончыцца і гэтая пагоня па спружыністай тарфяной зямлі, і гэтае пачуццё. Наш разгон будзе працягвацца, але ўжо як у скінутага з кручы: па вострых, што ловяць цябе, тваё цела камянях!..

Пераход усё бяжыць наперадзе. Астатніх я толькі адчуваю побач, ззаду, а яго бачу. Вочы мае, заліваныя слязой, балюча ўчапіліся, трымаюцца за яго, як за нешта самае галоўнае і апошняе, што *засталося ад мяне* на ўсёй зямлі. Я міжволі паўтараю яго рухі (ці то на самай справе, ці толькі ў думках, толькі ў глыбіні сваіх мышцаў), усё больш зліваючыся з гэтым цяжкім, вялізным чалавекам, закаваным у бясформенны, каменнага колеру брызент.

Марудна-марудна (як бы разважае!) Пераход паднімае аўтамат дзвюма рукамі, як цяжкі молат, над каскай невысокага немца, што бяжыць проста перад ім. Марудна ўздымаюцца локці, рукі… Але нейчая куля выбіла немца з-пад Пераходавага



аўтамата, адкінула ўбок. Пераход, не зірнуўшы туды, даганяе ўжо наступнага. Здаецца, што ён (што ты) не здольны спыніцца, пакуль жывы, пакуль сам не ўпаў, будзеш вось так бегчы вакол лесу, пакуль нехта ёсць наперадзе.

Немцы, якіх мы даганяем і расстрэльваем на хаду, усё спрабуюць абагнуць лазняк, закрыцца ім, а мы не ведаем, што, хто там наперадзе, магчыма, ляжаць, ужо чакаюць нас з кулямётамі…

Вочы мае зусім плывуць у гарачай вясёлцы — сіняе, аранжавае, чырвонае! Усё змазана, расплываецца, і я трымаюся ўчэпістым поглядам за цёмную фігуру Перахода, як за самую рэальнасць.

Я не ведаю, колькі працягваўся наш бег, колькі часу сціскалася спружына пад нашым нечаканым напорам. Але помніцца дзікая, неразумная палёгка (як у таго, хто пакінуў бегчы, усё разганяючыся, з каменнай стромы і нарэшце пакаціўся!), якая вострым холадам паласнула душу, калі мы выбеглі на адкрытае месца і адразу ўбачылі перад сабой у чаканні залеглы за тарфянымі купінамі нерухомы нямецкі ланцуг. Каскі, каскі, каскі…

Але Пераход не спыняецца, не падае, і гэта мяне ўтрымлівае на нагах, хаця ўсё ўва мне адразу каменна пацяжэла.

— Лажыся! — крыкнуў Касач, але таксама не падае, яму таксама перашкаджае зрабіць гэта Пераход.

А Пераход яшчэ хутчэй пабег, адрываючыся ад нас, ад партызанаў, якія падаюць адзін за адным. Ні страляніны, ні голасу чалавечага — нямая цішыня, што падае ў нябачную (але яна побач!) прорву.

Ужо на зямлі, лежачы, я адчуў, як нешта пранеслася над намі, нібы цягнік, зрываючы з нас паветра, *зрываючы мяне з зямлі*, прымушаючы ціснуцца да яе. Цягнік усё нясецца, бясконцы, нізкі, шырокі, над самай галавой, над маімі плячамі, вось-вось захопіць, павалачэ, растрыбушыць — кулямёты і аўтаматы проста выюць! Калі я адарваў галаву ад прапахлага гарам торфу і зірнуў скрозь плыткую вясёлку, Пераход усё яшчэ быў тут, хаця, здавалася, цэлая вечнасць пранеслася. Але ён ужо не бег, ён стаяў і марудна паварочваўся тварам да нас, нібы яго паварочвае кулямёт, які б’е ва ўпор, (здаецца, я ўбачыў і ўсплёскі полымя і нават самі рукі немца). Пераход павярнуўся да нас тварам, ён быў непраўдападобна спакойны, нібы прыслухоўваўся. Чалавек усё не падае, але над ім нясуцца нізкія лёгкія хмары, і здаецца, што там ён падае, як вяршаліна ссечанага, уздрыгануўшага, але ўсё яшчэ нерухомага знізу дрэва…

З моманту, калі ён упаў і мае вочы згубілі яго, здаецца, што менавіта з гэтага моманту ўсё змянілася.

Мяккія тарфяныя купіны закіпаюць перад вачамі, яны дымяцца, пырскаюць, не закрываючы, а паказваючы шлях да тваёй галавы. Калі такія грымоты, роў, здаецца, што і сэнсу мала страляць. І трэба хутчэй выстраліць, каб адчуць, што можаш хоць на міг усё заглушыць.

Касач жывы, я бачу яго перад сабой: ён таксама прастрачыў з аўтамата і ўсё паварочваецца назад, шукае. Мне здаецца, што ён мой позірк шукае, патрабавальна, нецярпліва. Я ўздымаю галаву, хаця так нялёгка адарваць яе ад зямлі, ад крохкай купіны. Губы Касача нешта гавораць, крычаць нешта сярдзіта, а я не магу разабраць у громе і грымотах смерці. І нарэшце — праз нядоўгую цішыню:

— У абход… начштабу…

І рукой махнуў, круг апісаў, нібы абдымаючы лазняк.

Няма нічога паскудней, але і весялей — адыходзіць пад агнём, калі не бяжыш, не, не гоняць цябе, а сам павінен адыходзіць па справе, па загаду. Ад блізкіх куль нешта ў табе сціснулася да кропкі, але не захопліваючы ўсё цела, якое, наадварот, зрабілася па-здрадніцку вялізным, нязручным, адусюль бачным. Кожны чалавек, міма якога прапаўзаеш, — мяжа, табой пераадоленая і пакінутая, на ёй нейчае жыццё і нейчая смерць, але ўжо не твая. І ва ўпор ці ўслед табе трывожна-запытальныя вочы, позіркі («…Што? Адыходзім? Так дрэнна?») або гнеўнае, патрабавальна-пагардлівае («Адпаўзаеш? Хочаш, каб я тут, а ты…»). Адказваць, тлумачыць няма калі, ты павінен аблічам сваім паказваць, што не ўцякаеш, не спалохаўся, што цябе паслалі, табе загадалі паўзці назад.

Да выратавальнага краю лазняку яшчэ далёка. А вочы, чужыя вочы ўсё хапаюцца за мяне, пытаюць, патрабуюць, і трэба быць вясёлым, лёгкім, каб адразу зразумела было, хто і чаго паўзе. З *такім* тварам не ўцякаюць! Я дрэнна бачу і таму ўсміхаюся — на ўсякі выпадак — усім. І забітым таксама. Некалькі разоў мяне па-сабачаму рванула за рукаў, за локаць. Заміраю, чакаючы, што вось зараз усяму канец! І з’яўляецца неадольнае жаданне падхапіцца на ногі і бегчы, бегчы туды, дзе край лесу, за яго. Туды адпаўзаюць параненыя, туды іх цягнуць. Вочы ў параненых здзіўлена, астаноўлена-дзіцячыя, нібы чалавека адразу адкінула далёка-далёка ад таго, чым яшчэ міг назад жыў.

За лазняком іх шмат, параненых, тут гучаць галасы, стогны, адсюль і бой чуецца інакш. Ужо не суцэльныя навіслыя грымоты, роў, а асобныя стрэлы, чэргі кулямётныя, аўтаматныя. Яны то счэпліваюцца мнагазуба, то адна за адной коцяцца і раптам



заціхаюць на момант. Такі бой надоўга, пакуль боепрыпасы ёсць. Толькі б хапіла ў нас патронаў. На тварах, на руках, пад падраным адзеннем людзей, што паўзуць некуды, адносяцца ці спакойна, мёртва ляжаць, зыркія размытыя чырвоныя плямы. Я паўзу, я прабягаю міма, далей, а ў вачах гэта і ўсё не адыходзіць. Я паўтараю, магчыма, нават не ўголас, сам сабе:

— Камандзір мне загадаў. Я ў першую роту. Касач…

Бягу ўжо на поўны рост, там, дзе нядаўна мы гналіся за немцамі. Вось і яны, забітыя. Зброі каля немцаў ужо няма, і ляжаць яны не так, як упалі. Гэта адразу прыкметна, чапалі ці не чапалі забітага. Нават не ведаю, па якіх прыкметах, але заўважаеш. У забітым заўсёды застаецца апошні рух, апошняя спроба выратавацца. І заўсёды яны па-рознаму ляжаць. А гэтыя усе аднолькава, тварам угору. Я пранёсся над нерухомымі вачамі мёртвых і нейкі час бег, нібы забыўся, куды, чаго.

Не, я да начштаба, нічога яшчэ не скончылася, мы павінны, нам трэба ў абход, ззаду зайсці, выручаць сваіх…

Наперадзе мяне чакаюць уласаўцы. Яны далей ад стральбы, ад бою, смерць дагнала іх раней. У целах, у паставе больш мёртвай распластанасці, цяжару… Як даўно ўсё гэта было: вось тут мы беглі, а яны перад намі, ратаваліся ад нашага гневу, ад смерці, а Пераход іх гнаў, імчаўся насустрач сваёй смерці. Бой усё грыміць, цягнецца, невядома, што праз пятнаццаць хвілін, праз паўгадзіны будзе са мной таксама, а я ўжо ўспамінаю бой, як нешта даўняе і далёкае.

Я дамчаўся, убачыў сваіх: ляжаць, напружана падрыхтаваўшыся да бою, а некалькі чалавек тут жа стаяць, кураць, чакаюць. Як бывае на групавых фатаграфіях. А параненых, насілак не відаць, некуды іх занеслі, схавалі, магчыма, у кусты, але няма часу ўсё зразумець, я падбягаю да Косці-начштаба, які курыць, седзячы на рэчмяшку, я выкрыкваю яму загад Касача:

— Кругом лазняку!.. Абысці, бягом трэба! Бо самнуць нашых, камандзір загадаў!..

Косця глядзіць на мяне ўсё так жа, не ўстаючы, але ў поглядзе, у вачах яго нешта рэзка і жорстка зрушылася. Нарэшце ён сунуў папяросу пад бот, яшчэ прыціснуў яе моцна і тады ўстаў:

— Усе, хто не каля параненых, сюды! За мной бягом!

Цяпер лазняк у нас злева, мы бяжым, зноў абыходзячы яго і чуючы бой на супрацьлеглым баку лесу. Лес гэты, лазняк гэты, аказваецца, зусім не вялікі і круглы. Толькі дзе-нідзе кусты, адрываючыся, адыходзяць, адбягаюць па тарфяніку да бурых і чорных куч, а ў адным месцы зарослая канава, мы яе зараз

прамінулі. Старая, цесная ад лазняку меліярацыйная канава, даўно высахлая, адпаўзае да тых жа тарфяных барханаў.

— Вярніся! — Косця-начштаба спыніўся, затрымаў аднаго партызана. — Вярніся да тых, хто застаўся, і скажы: параненых сюды, у гэту канаву. Зразумеў? Няхай нясуць і залягуць тут. Вядзі іх сюды.

Партызан пабег назад, а мы зноў імчымся навокал лазняку — туды, дзе грыміць бой. Але нам ужо здаецца, што бой зрушваецца ўсё лявей, адыходзіць ад нас. На хаду я спрабую расказваць Косцю-начштаба, як мы гналіся за ўласаўцамі, за немцамі, як перад намі апынуўся ланцуг з кулямётамі, як Касач мне крычаў, паказаў, каб нашы ў абход, з тылу ўдарылі… Косця напружана слухае і мяне, і бой, які і сапраўды аддаляецца. Па тым жа крузе адыходзіць. Няўжо збілі Касача, адціскаюць?

Справа за едка-сінім покрывам сухога тарфянога дыму мы ўбачылі далёкія прысадзістыя (напэўна, сад?) дрэвы і некалькі стрэх. І дарога відаць туды, адтуль. Па ёй, па гэтай дарозе прыйшлі немцы? Вось і сляды, тут і на конях ехалі. Хутка, зараз мы іх убачым, а яны — нас! Тарфянікі тлеюць, блакітны дым з'ядае далеч, стрэхі і дрэвы растаюць, плывуць. Вецер адтуль, і нас зноў душыць кашаль, перашкаджае, збівае з нагі.

Мы іх убачылі каля асядланых наўючаных коней і адразу кінуліся да іх. Чэргі аўтаматныя спляліся, рэзка ўдарылі вінтоўкі. Людзі ў зялёным сталі ўскокваць з зямлі, адстрэльвацца. Коні, параненыя ці забітыя, вельмі ціха апускаюцца на зямлю. Спачатку на калені, потым кладуцца. Стаіць, нібы чакае, і раптам, як рабізна на вадзе, задрыжыць ад крыжа да шыі і падае на заднія, на пярэднія ногі…

Мы пагналі абозных немцаў у бок вялікага бою, услед яму. Яны раз'юшана адстрэльваюцца, і нам зноў і зноў даводзіцца падаць, уставаць, паўзці, страляць.

Цяпер лазняк, невялікі гэты лес, нібы акальцаваны стралянінай. І гэты кальцавы бой, бой па колу, марудна кружыць. Немцы адцяснілі, цясняць Касача, а мы цяснім іх. Косця-начштаба зноў паслаў сувязнога: зняць тых, што пакінуты ў канаве, каб адводзілі, адносілі ўслед за намі, па колу нашых параненых.

(Што адбывалася і як гэта атрымлівалася — як на малюнку: кола, «кальцавы» бой! — добра відаць адсюль, здалёку, з аўтобуса, *з памяці*. Тады ж было толькі адчуванне непрадбачанасці, дзіўнасці таго, што адбываецца, і нават немагчымасці. Бадай, у такое і не паверыў бы, калі б не з намі гэта адбывалася.)



Вось, здаецца, тое месца, дзе нас сустрэў ланцуг немцаў з кулямётамі. Зямля, торф тлеюць, усюды стрэляныя гільзы, іржавыя плямы крыві, чырвона-белыя бінты, каскі, пілоткі, шматкі адзення. Але забітых не відаць. Касач вынес нашых. І немцы таксама забралі сваіх. Ляжаць засталіся на месцы трупы ўласаўцаў. Але іх зноў патрывожылі: усе яны без рамянёў і падсумкаў, а адзін — і без ботаў.

Трэба б спыніцца і дачакацца сваіх параненых (з той канавы), трэба хутчэй бегчы, каб дагнаць асноўных немцаў, якія цясняць Касача. Але чакаць няма калі, але і сіл ужо не застаецца бегчы. Мы то рвёмся бегчы, то валачомся, задыхаючыся ад едкага чаду, кашлю. Сонца — як чырвоная круглая ніша ў зварушлівым ад дыму і воблакаў небе.

Кола бою кружыць вакол лесу, не здольнае разарвацца: ні мы, ні немцы не адважваемся кінуцца ў бок, дзе гараць тарфянікі, ці адысці па дарозе, адкрываючы сябе кулямётам. Аўтаматныя чэргі там, дзе немцы і Касач, гучаць усё радзей. Ужо не бой — нібы папераджальнае рыканне. Гэта на супрацьлеглым баку круглага лесу. Хто каго зараз праследуе, гоніць, а хто адыходзіць, хто ззаду, а хто спераду?

А сонца — чырвонае, вялікае на варухлівым дымным небе — быццам распаленае, накіраванае ва ўпор жэрла…

Вось зноў тая канава, дзе мы пакідалі сваіх параненых. Косця-начштаба загадаў затрымацца, чакаць. Заляглі на ўсякі выпадак. Чакаем сваіх, але хто з'явіцца на самой справе? Ад чаду, ад млоснасці кружыцца галава, вочы зусім раз'ела дымам, а тут яшчэ і кашаль гоніць слёзы. Тыя, у каго вочы лепшыя, ужо бачаць нашых, ужо гавораць, абмяркоўваюць, пасмейваюцца нават. Гэта заўжды забаўна: назіраць збоку, як знаёмыя людзі ідуць з асцярогай, з аглядкай, «на пальчыках». А я бачу толькі свае слёзы — вясёлкавае нешта, гарачае ад болю. Потым і для мяне нешта цёмнае замітусілася, з'явілася. Наперадзе ідуць дазорныя, а ўслед, па тры, па чатыры — з насілкамі. Шмат іх у нас, параненых, хлопцы зусім выбіліся з сіл, пашарэлыя, мокрыя, апусцілі, паставілі на зямлю насілкі і лаюць нас:

— Уцякаеце, чэрці! Ад каго, ад нас?

Параненыя цяжка маўчаць, трывожна ўслухоўваюцца ў стральбу. Толькі тыя, хто страціў прытомнасць, нешта гавораць, гавораць. Просяць вады. Нам усім нясцерпна хочацца піць. А ад іх сухога, з гарачкі шэпту яшчэ больш…

Але ў некаторых параненых погляд, вочы вельмі, неправўдападобна спакойныя, засяроджаныя. Гэта — тыя, хто памірае.

Яны памруць, незалежна ад таго, як скончыцца гэты неверагодны бой. Калі смерць прыйшла да чалавека і ўжо не пойдзе, ён застаецца адзін. Колькі б і хто б ні быў побач. (Я бачыў аднойчы, як паміраў у лесе пажылы партызан. Каля яго стаялі два сыны, таксама партызаны, і старая. І ўсе мы, хто быў паблізу, падышлі да калёсаў, на якіх ён ляжаў. Чалавек, не чуючы ўжо сваіх ран, увесь белы ад бінтоў, глядзеў на нас ясным позіркам, але так, нібы нас і няма тут, а толькі ён і яшчэ нешта, нам не бачнае. Старая ціха пахіствалася над ім, трымаючыся дзвюма рукамі за калёсы, а калі позірк канаючага яшчэ больш адыходзіў ад нас, аддаляўся, яна пачынала нараспеў гаварыць, галасіць:

— Ціхан, я плачу, бачыш, і дзеці плачуць, Ціхан, і твае таварышы тут, Ціхан, ты чуеш, мы плачам!..

Жанчына так наіўна, але і так зразумела спрабавала разарваць страшнае адзіноцтва смерці — адзіноцтва апошніх імгненняў чалавека. Мяне нехта пераконваў, што апошняя абавязковая слязінка мёртвага — пра яе і Касач гаварыў, пра апошнюю, пра вымаражаную, — гэта слязінка адзіноцтва, страшнай пакінутасці кожнага перад тварам смерці.)

Касач са сваімі зараз павінен з’явіцца. Калі толькі ўсё так, як нам уяўляецца, калі яны сапраўды па крузе ідуць і адразу ўслед за намі. Косця рашыў чакаць, і мы, падрыхтаваўшыся на ўсякі выпадак да бою, глядзім, хто зараз з’явіцца.

З намі чацвёра памерлых, забітых, іх паклалі збоку, але таксама на насілках. Ператасаваліся мы, і зараз ужо я каля насілак, мне несці. Я пастараўся стаць так, каб несці не забітага, не мёртвага. Хадзіць па гэтым сляпым крузе, ды яшчэ з нябожчыкам на руках! Жывы лягчэйшы — гэта праверана, не так прыцягвае да зямлі…

— Глядзі, а ідуць як! Адразу відаць касачоўцаў!

— І Касач, ды ён паранены! Бачыш, забінтавана плячо.

— Не Касач гэта. Не, быццам…

— Спыніліся, заўважылі. Аб’явіцца, паклікаць трэба, а то яшчэ бой пачнуць. Таварыш начштаба!

— Ага, баішся касачоўцаў!

— Вер ім!

Нашы некалькі чалавек усталі, выйшлі з канавы, махаюць рукамі, сігналяць, паднімаючы і апускаючы вінтоўкі.

Трое дазорных патапталіся на месцы, таксама паказалі зброяй пароль і ўжо весялейшыя рушылі да нас. З-за кустоўя выцягваецца ўвесь ланцуг касачоўцаў: пярэднія з вінтоўкамі, з аўтаматамі ў руках. У тых, што ідуць услед, купкамі (па чатыры, па шэсць чалавек) знаёмы нам выгляд людзей, якія нязручна, стомлена



нясуць раненых, забітых. Мы моўчкі і ўголас лічым. Так, той, у каго забінтавана правае плячо, — Касач. Ён без курткі, у адной гімнасцёрцы і без знаёмай фуражкі. Аўтамат пад левай рукой.

Косця пайшоў яму насустрач, потым спыніўся, стаў чакаць.

І вось мы ідзём усе разам, і ўсе забітыя, раненыя з намі.

— Тут раўней, камандзір, тут ужо сцяжынку прабілі, — пачуў я, як Косця-начштаба сказаў Касачу.

А той адгукнуўся, коратка засмяяўшыся:

— Вось так, Косця, следу чалавечаму будзеш рады!

І загадаў:

— Пастраляй, начштаба, адгукніся. Чуеш, пытаюць? (Немцы на другім баку лесу час ад часу страляюць.) Мы дык свае дыскі разбазарылі. І скажы, каб падзяліліся патронамі.

— Патронамі? — Косця недаверліва ўсміхнуўся. — Патронамі, кажаце!

— Нічога, загадай.

Косця скіраваў у бок кустоў аўтамат, даў чаргу, другую. Немцы адгукнуліся адразу ж. Цэлым залпам чэргаў. Рады, што мы ёсць? Ці што мы не блізка, далёка?

І зноў — як мецiна на крузе — трупы коней. А два кані мірна ходзяць каля самых тарфяных гор. Узмахваюць галовамі, пераходзяць з месца на месца — дым, гар іх мучаць.

— Праваляцца ў агонь, — гаворыць барадаты у гадах партызан з перабітай нагой, якога мы нясём на коўдры. Ён натужна выцягвае галаву, выглядвае са свайго нязручнага гамака.

— Зараз збегаю, завярну, — сярдзіта адзываецца Вядзмедзь, учапіўшыся ў коўдру, у цяжкую ношу збялелымі пальцамі. Пот есць яму вочы, залівае шкло акуляраў. Нізкаму Вядзмедзю асабліва блага: яму прыходзіцца свой рог коўдры ўвесь час паднімаць, цягнуць яго ўверх.

— Ірвануў бы я па гэтай дарозе, адкуль немцы прыйшлі. Колькі можна так хадзіць? — скардзіцца Вядзмедзь.

Мы ўчатырох нясём свайго параненага. Трымаць за рагі коўдры прыходзіцца дзвюма рукамі, а вінтоўку таксама за спіну не закінеш, патрэбна пад рукой. Вінтоўка перашкаджае, б’е па каленях.

І кожнаму здаецца, што сусед не так трымае, не так ідзе. І не тое, не так гаворыць.

— А ты знаеш, хто цябе чакае на той дарозе?

— Вось і дазнаемся.

— Лепш вось трымай як трэба! Адыходзіць, дык назад, на балота. На дарогу, па якой мы прыйшлі. Вусаты хітры, сядзіць зараз і бульбачку пячэ. А мы кружым, як сляпы конь.

— Сядзіць і ў вус не дзьме, — флегматычна пазайздросціў бялявы хлопец.

— Ідзі вось у нагу, — распараджаецца сярдзіты ад стомы таўсцяк Пухаў, які ўсіх нас усё папраўляе. — Што ты на куст прэшся? Ён хоча (гэта зноў Вядзмедзю) на дарогу выбегчы. А я цябе з кулямётаў і накрыю. Немцы толькі і чакаюць, каб мы адарваліся ад гэтага клятага лесу. Ды не цягні ты, падымі вышэй!.. Прыцiснуць на адкрытым, куды пабяжыш? У гарачыя ямы?

— Коней шкада — праваляцца, — зноў гаворыць паранены. Ён нас не чуе: аглушыла мінай. Галава, худая шыя барадатага дзядзькі па-птушынаму цягнецца ўверх з глыбокага гамака.

— Даруйце, хлопцы, цяжкі я, — просіць паранены.

— Нічога, баця, — гаворыць белабрысы флегматык. — Перахода ўшасцёх ледзь-ледзь! Толькі навошта мёртвага?

Вядзмедзь раптам здзівіўся:

— Сапраўды! Такая вайна, што і за мёртвага баішся. Дзе ўжо там раненага пакідаць праціўніку.

Мы ўсё ідзём ад немцаў, несучы сваіх параненых, забітых, і нібы нават разумеем, чаму мы ходзім і яны ходзяць, чаму яны не спыняцца, не залягуць і не навяжуць нам бой (у іх для гэтага патроны ёсць, у іх заўсёды чамусьці ёсць патроны). Чакаем, што вось зараз наскочым на засаду. Ідзём ад іх, ідзём следам за імі, прыслухоўваючыся да пагрозлівай (а можа, паперадзжальнай?) страляніны.

Усё-ткі першае тое адчуванне, калі мы наскочылі на іх, калі гналі, раз-пораз адкідалі, а яны ўцякалі, напэўна, працягвае дзейнічаць. Немцы і самі, бадай, не знаюць пэўна, праследуюць яны нас ці ўцякаюць ад нас. Магчыма, таксама ідуць і баяцца нашай засады. І можа, зараз думаюць пра тое, каб ад нас адарвацца, пайсці, пра тое, як ім сарвацца з гэтага заклятага круга, з гэтай бясконцай арбіты, не падстаўляючы сябе пад агонь і не правальваючыся ў ямы.

Пераход, абодва Пераходы — і паранены малодшы і забіты, старэйшы, — у нас за спіной. Спераду нясуць камісара Шардыку, кажуць, ужо памерлага. Час ад часу мы мяняемся ролямі з тымі, хто ідзе наперадзе атрада, і з тымі, хто прыкрывае атрад ззаду. Ці нясі забітых, ці чакай, калі з засады ўдараць па табе пярэднім. Але стаміліся так, што любы ахвотней пойдзе наперадзе калоны. Пот, едкі, горкі ад дыму, аблівае ўсё цела, яго проста співаеш з твару, так ён струменіцца, так ён залівае вусны. Цяпер я нясу Перахода-старэйшага, мы ўчатырох нясём, і замест насілак — яго брызентавы плашч. Пазногцям балюча, такі ён цяжкі, так цягне мёртвае цела да зямлі. І самому хочацца ўпасці і не варушыцца, апусціцца ў стому без астатку, соладка замерці. Вочы мае плаваюць у вясёлцы, усё афарбавана ў розны колер, але ўсё часцей, як цень, наплывае чорная паласа. Раптам выйшла наверх усё, што назбіралася за гэтыя дні, злілося ў адно тупое пачуццё самай апошняй стомы, за якой ужо суцэльная абыякавасць — нават да самой смерці.



Немцы ўсё страляюць за лесам, а мы ўжо маўчым. Наша маўклівасць іх непакоіць, палохае, і стральба ўсё ўзмацняецца. Колькі прайшло з таго імгнення, як разарвалася першая міна і мы кінуліся на ўласаўцаў? Вось яны ляжаць, папераварочваныя, вачамі ў неба, для іх прайшла цэлая вечнасць. Нават секунда смерці — такая ж вечнасць, як і мільён гадоў. А над намі яшчэ ходзіць жывое сонца, яно прайшло большую частку свайго паўкола, пакуль мы круцім свае жорны. Колькі разоў іх круцілі і да нас… Яшчэ шмат разоў абыдзем вакол лесу, пакуль сонца спусціцца за тыя дымныя ўзгоркі. А потым што? Што потым будзе, невядома, але толькі пра гэта і марыш: хутчэй бы яно звалілася з дымнага, пякучага неба і перастала плавіць, паліць нас. Я нахіляюся да свайго локця, каб працерці вочы, і бачу блізкі твар Перахода. І нейк нехаця здзіўляюся таму, што ён зусім не спацелы. Пра што я, куды гэта саслізгвае мая ўвага?.. Здаецца, да ўсяго ўжо абыякавы, і разам з тым заўважаеш якраз драбніцы.

Нешта заварожвае ў гэтай дзікай хадзьбе па сваім і па чужым следзе. Мы ўжо дарожку прабілі ў торфе, мы і немцы. Колькі ж мы кружым? І колькі нам яшчэ хадзіць?.. Не, мы ўжо не ходзім. Ногі соладка выцягнуліся, яны гудуць, як прапелер, а заплюшчыш вочы, дык і сапраўды здаецца, што цябе паднімае, што цела тваё, якое ные, дрыжыць кожнай мышцай, пакалыхваецца над зямлёй. Млосна ад такога пакалыхвання, спяшаешся расплюшчыць вочы. Мы ляжым у той самай, зарослай лазняком, канаве, нас тут пакінулі. Косця-начштаба прапанаваў Касачу схаваць некалькі чалавек і паглядзець, як ідуць немцы, колькі іх, што ў іх і чаго чакаць ад іх? Начштаба сам застаўся з намі. Чацвёра нас у гэтай канаве. Мы яшчэ бачым нашых касачоўцаў, глядзім, як яны знікаюць. Шмат насілак, занадта шмат. Людзі ледзь ногі перастаўляюць, хістаюцца ад стомы, ад спёкі, ад чаду. Жывых душыць, б'е кашаль. Калі ляжыш спакойна, кашаль не так мучыць, але і нас ён не пакідае, асабліва тоўстага Пухава. Косця пытае час ад часу:

— Ну, не надакучыла?

Чалавек рукой, кепкай хоча заглушыць кашаль, прыпадае тварам да зямлі, глядзіць вінавата мокрымі, чырвонымі вачамі. Апраўдваецца:

— Вады б.

— Зараз прынясуць — немцы, — гаворыць Косця-начштаба, — слухай, паўзі ты, дзядзька, па канаве вунь туды, далей.

Але тут закашляўся Зуёнак, а потым і сам начштаба.

— Усё роўна паўзі, — гаворыць Косця, — хопіць тут і без цябе хрыпуноў.

Тоўсты партызан папоўз, душачыся кашлем, а мы яму паказваем: яшчэ чутно, далей, яшчэ далей!

Лежачы, можаш хоць вочы працерці. Калі не мог, калі занятыя былі рукі, здавалася, што толькі працерці іх трэба добра, зняць гэту казытлівую слязу і стане лепш. Насоўкі ў мяне, зразумела, няма, а ўсё астатняе такое запэцканае граззю, сажай, што да вачэй не паднясеш. Я выцягнуў ніз споднай сарочкі, жоўтай і салёнай — самае чыстае, што ў мяне ёсць, — і ёю тру вочы. А сонца плавіцца ў дыме, плыве, таксама запаленае: яно з нейкім злавесным сінявым адлівам. Сонца пячэ, паліць, а мяне дрыжыкі праймаюць. Здаецца, што і ў паветры, прапаленым, прадымленым, разліты гэты холад, спіны тарфяных узгоркаў-звяруг дрыжаць дробна, бесперастанку…

Вось яны — пярэднія немцы, дазор! Гэтае пачуццё заўсёды асаблівае — з засады глядзець, як паяўляюцца перад табой ворагі. Вы ніколі адзін аднаго не бачылі, не ведалі, што другі ёсць на зямлі, але недзе нешта склалася так, а не інакай, і няма цяпер людзей больш звязаных адзін з другім, чым вы. Адно жыццё на дваіх, адна смерць на дваіх — дзяліце!

Але мы не засада, мы самі сябе пасадзілі ў пастку. Тут і застанёмся, нас заб'юць у гэтай канаве, калі немцы раптам уздумаюць агледзець яе ці мы выдадзім сябе кашлем, які пачынае раптам калаціць то мяне, то Зуёнка, то Косцю. У нас па чарзе робяцца спалоханыя і вінаватыя твары. Мы кідаемся тварам, ротам на руку, у зямлю і не кашляем ужо, а ціха гудзім, стогнем.

У зялёных мундзірах ці ў плямістых накідках, у касках ідуць немцы. Па адным і групамі. І ўсё глядзяць на лазняк, насцярожана трымаюцца, адступаючы ад кустоў. Яны адтуль чакаюць нашага з'яўлення? Вось яно што! Немцы лічаць, што загналі нас у гэты лазняк (мы ўжо даўно не адгукаемся на іхнія стрэлы), што мы заселі ў лесе. Ходзяць і чакаюць, калі мы выбежым на адкрытую мясціну. Вось адзін спыніўся і застрачыў з аўтамата ў глыб лесу. І адразу другі, трэці стрэлілі з вінтовак. Хмызняк абстрэльваюць. У наш бок яны і не глядзяць. Шмат іх, больш за сотню вываліла з-за лазняку, і ўсё новыя з'яўляюцца, ідуць у кірунку да нашай канавы. Тыя, што ўсярэдзіне калоны, не глядзяць на кусты, не страляюць: нясуць параненых, забітых. І таксама, як мы, на плашчах, на коўдрах. Па чатыры, па шэсць чалавек каля ношы, спатыкаючыся, перашкаджаючы адзін аднаму. Водзіць іх у бакі. Чуваць вялыя галасы. Усё бліжэй падыходзяць немцы, і іх кашаль, выратавальны, гучны, чуваць нам. Свой мы заціскаем у сабе — хто далонямі, хто рукавом. Вось ужо і апошнія немцы паказаліся з-за лазняку. Гэтыя збіліся ў цесную групу і не на кусты глядзяць, а назад азіраюцца, чакаюць нас ззаду. Увесь выгляд іх паказвае, што не яны нас, а мы іх гонім. Пярэднія пераканаsuccessful, што загналі нас у кусты, што гоняць нас, а гэтым здаецца, што партызаны ціснуць, гоняць іх. Павернецца, пастрочыць з аўтамата назад і даганяе сваіх, на хаду выцягваючы з халявы ці з сумкі новы «ражок» з патронамі.



Спачатку мы ўсё чакалі, што нас адкрыюць. Але вось яны зусім побач: кашляюць, размаўляюць, страляюць метраў за пяцьдзесят ад нас. Наша канава ўпіраецца проста ў лазняк, і немцам даводзіцца спускацца, перасякаючы яе. Усё падступіла ўсутыч, здаецца, што проста на нас яны ідуць — вось-вось на галаву стануць. І ў той жа час аддалілася, нібы не ты гэта ляжыш тут ці ты, але не цяперашні, а было гэта некалі з табой і ўжо прайшло, прамінула і толькі ўспамінаецца — да жаху рэальна…

Пайшлі немцы са сваімі параненымі, са сваімі забітымі, услед нашым пайшлі, і мы сталі чакаць зноў з'яўлення партызанаў, Касача. Цяпер мы сваіх бачылі таксама збоку, і хаця іншымі вачамі, па-другому, з радасным пачуццём звароту да саміх сябе, але зноў здалося на міг, што і гэта толькі ўспамін аб нечым такім, што адбывалася з табой даўно-даўно. Падпоўз, далучыўся да нас і Пухаў. Ён усё кашляе, але зараз адкрыта, вітаючы нас, жыццё, бяспеку ўжо не абмежаваным, не стрымліваным кашлем. Косця-начштаба пастукаў кулаком па яго тоўстай спіне, але і сам закашляўся і засмяяўся.

Мы рушылі насустрач сваім, памахалі ім зброяй і зараз ідзём насустрач. Укліniліся ў калону, зліліся з ёю, з яе рухам. Цяпер нам весела расказваць, як блізка былі немцы, як мы іх разглядвалі і якія яны.

І зноў ідзём вакол лесу, несучы сваіх параненых, забітых, даганяем ворагаў і ўцякаем ад іх, і ўжо не верыцца, што было што-небудзь, акрамя гэтага бясконцага блукання пад вялізным нялітасцівым сонцам, і што будзе, магчыма, нешта іншае. Становішся ўсё больш абыякавы, далёкі самому сабе. Нас,

жывых, быццам меншае, а тых, каго нясём — параненых, забітых, — становіцца больш. Ужо няма падмены, ужо і шасцярым цяжка цягнуць мёртвую ношу ці раненага.

Сонца амаль завяршыла свой паўкруг, пакідаючы нас адных. Спёка сышла, але стома большае, хаця, здаецца, і немагчыма стаміцца больш. Тарфяны дым гусцее, зрабіўся атрутным, кашаль душыць усіх, параненых таксама. Толькі забітыя ціха ляжаць у правіслых гамаках-коўдрах, на якіх мы іх носім.

І ў той меры, як чырвонае, з дымным, сінявым абадком, сонца спускалася за пачарнелы край зямлі, за тарфяныя ўзгоркі, а неба ўздымалася да сям-там ацалелых зорак, з чорнай зямлі выступала, сачылася, пачынала трапятацца, дрыжаць сваё святло — злавеснае, нутраное. Яно таксама падсінена тарфяным дымам, гэта вырастае знізу распаленае святло землянога пажару. Яно ўжо ўсюды, усё больш шырокім кальцом замыкае і нас, і лес, вакол якога мы ходзім, і нябачных, дзесьці пастрэльваюць, немцаў. Ужо не знаеш, дзе яны, тыя сцежкі, якімі сюды прыйшлі мы, немцы, якімі можна вырвацца назад ці наперад. Агонь усюды, і ён наступае. Глянцавыя водбліскі яго на лазняку, на нашых тварах і тварах мёртвых. З кожным колам тыя забітыя, якіх і мы, і немцы пакінулі на зямлі — уласаўцы, — быццам неяк змяняюцца, кожны раз яны па-іншаму нас падсцерагаюць. Трупы бялеюць там і тут, і яны то бліжэй (пачынае здавацца) адзін да аднаго, то распаўзаюцца, пакуль мы і немцы робім наступны круг. Потым заўважаеш, што яны на тым жа самым месцы і ўсё тыя ж. Адзначаеш гэта з бяссэнсавай, выпадковай зацікаўленасцю чалавека, стомленага смяртэльна. Мы ўсё часцей спыняемся: апускаем на зямлю раненага і самі падаем каля яго як забітыя. А потым ён, голасам, рукой, будзіць нас па агульнай камандзе. Нехта там, спераду, Касач, Косця-начштаба, нехта распараджаецца, але ўжо праз параненых — яны зараз самыя свежыя, жывыя, не змучаныя, яны нас будзяць, штурхаюць. І мы зноў нясём іх, нясём забітых, вяла і цяжка. Нешта ў гэты час робяць нашы ворагі, напэўна, такія ж вымотаныя, робяць тое ж, што і мы, — уцякаюць і даганяюць нас. І мы, і яны занадта вытрыбушаны, выматаны, каб спыніцца і завязаць бой.

Недзе ёсць дарога, па якой мы прыйшлі, па якой прыйшлі нашы ворагі. Можна паспрабаваць адной з гэтых дарог вырвацца з сціскаючага кола землянога пажару. Але адразу адкрыеш сябе кулямётам другога. Другі адразу ж скарыстае перавагу праследвальніка. Земляны агонь усё разгараецца пад пацямнелым небам, ён так шчыльна нас акружае, што ўжо не верыцца ў



ацалелыя дарогі, сцежкі. Дзе яны там? Але яны ёсць, не мог за адзін дзень торф падгарэць кругом, усюды. Трэба толькі знайсці тую дарогу, але спачатку забяспечыць сябе ад праследу.

А пакуль што спыніліся, услухоўваемся, дзе немцы, дзе страляюць. Можна ўпасці і ляжаць, ляжаць… Зноў нас будзяць раненыя, гукаюць:

— Хлопцы, пад'ём!.. Пад'ём! Пабудзіце таго!..

Трэба ўставаць, але можна пабыць яшчэ міг у стане салодкага небыцця, пакуль не ўсе яшчэ ўсталі. Штурхаюць, трэба…

Ага, мы зараз на тым месцы, дзе пабілі коней. Сюды падыходзіць дарога, па якой немцы з'явіліся. Значыць, па ёй будзем адыходзіць, нам туды прарывацца. Значыць, будзем адыходзіць…

Адразу зляцела санлівасць, і нават пра стому нібы забыліся. Па ланцугу ідзе каманда, яе падхопліваюць, жывей і гучней, чым трэба: як заўсёды бывае пасля сну.

— Раненых нясіце, другая рота нясе раненых, — мармыча з насілак малады партызан, у якога на лбе набраклы крывёй белы бінт, а твар закарэў, чорна зіхаціць ад засохлай крыві.

— Першая пойдзе, першая насустрач немцам, — напружана слухаючы, зычна паўтарае каманду паранены, строга пазіраючы на нас з зямлі, нібы мы і сапраўды спім ці самі можам пачуць.

Не, я пайду з першай, мы пойдзем насустрач немцам, а тым часам нашы панясуць параненых як мага далей. Нарэшце і вось гэтак скончыцца — мы павернем, мы рушым назад, насустрач ворагу, і ўсё, што было за гэтыя дні, што збіралася на бясконцых кругах, разрадзіцца. Магчыма, смерцю, але разрадзіцца. Вочы мае слязяцца, але я нібы звыкся ўжо з гэтым станам — з тым, што ўсё, што бачу, расплываецца, растае, афарбоўваецца болем і вясёлкай…

Тым, хто пойдзе на немцаў, збіраюць і перадаюць патроны. У мяне нямецкая вінтоўка, мне патрэбны нямецкія… Ага, ужо ідзём, адыходзім, ну, вось і добра! Мы азіраемся на сваіх, пакуль яшчэ можна бачыць. Няспрытна, стомлена, ярасна ўчапіўшыся ў коўдры, у брызент, ці проста так, за рукі, за ногі нясуць параненых, забітых, расцягваюцца ў трывожную і таропкую працэсію, ідуць насустрач дымнаму зараву. Не, мы ўжо не вернемся на гэтую дарогу, мы гэта ведаем, нас мучыць туга гэтага ведання, і, каб заглушыць, задушыць яе ў сабе, мы ўсё паскараем крок. Плямамі зіхаціць лістота лазняку, твары ў людзей афарбаваны злавесным земляным агнём, цені ад купін і калдобін, ад кустоў здаюцца чорнымі ямамі… Мы ўжо бяжым, аднекуль сіла ўзялася бегчы, мы растрачваем нейкі НЗ, апошні запас, які раней несвя-

дома зберагалі. Зараз ужо няма патрэбы берагчы. Зробім менш, чым паўкруга, і тады знойдзем, сустрэнем тых, ад каго ўцякалі, каго праследавалі. Косця-начштаба з намі, калі ён азіраецца на хаду, мне здаецца, што твар яго, што вочы ў яго ненатуральна вясёлыя.

Зрэшты, я дрэнна бачу, мне шмат што толькі здаецца.

Мы ўжо стаміліся бегчы, дыхаць няма чым, перайшлі на таропкі крок. Ланцуг наш моцна перакасіла, крыло, што далей ад лесу, адстае. Як ваду ў нізінку, усіх зганяе да лесу, дзе і калдобін не столькі, і кола меншае.

Справа ад нас няроўна-падсветленая сцяна лазняку, злева зламаны тарфянымі ўзгоркамі гарызонт, які з'ядаецца агнём — чырвоным, жоўтым, сінім, нават чорным. Нават чарната нібы палае, плавіцца.

Прайшлі роў, яшчэ прайшлі і ўбачылі людзей, якія ляжаць. Гэта мёртвая засада — уласаўцы. Знаёмымі плямамі бялеюць на зямлі трупы. Нешта помслівае, зларадпае ў іх нерухомасці, заспакоенасці…

Косця-начштаба ўсё азіраецца на нас, нібы прыкідвае, колькі часу гэтыя трыццаць ці сорак чалавек змогуць пратрымацца. Мы адбеглі, адышлі даволі далёка ад сваіх, даўно ўжо не бачым іх, а немцаў няма. І не чуваць больш, каб яны стралялі.

А што калі і яны, адначасова з намі, наважыліся павярнуцца і ісці нам насустрач? І таму зноў адыходзяць ад нас і зараз наскочаць на нашых параненых. Косцю-начштаба відавочна непакоіць гэта. Немцы нібы скрозь зямлю праваліліся. І не страляюць больш, а раней увесь час мы іх чулі.

— Вунь яны, глядзі! — крыкнуў нехта, узрадаваўшыся, з палёгкай. За кіламетр, калі не больш, ад лазняку, нейкі жывы рух, падсветлены дымным заравам. Так, яны пайшлі дарогай, якая нас сюды прывяла.

Там іх сустрэнуць вусаты камандзір, яго атрад. А нас чакаюць іншыя немцы — знешняе кола блакады.

Мы завяршаем свае апошняе кола, каб усё-ткі пераканацца, што немцы сапраўды пайшлі, што пайшлі ўсе.

Нам трэба даганяць сваіх.

…І ўсё ж, чаму за Касачом мне бачыцца Барыс Бокій і, наадварот, — Касач за Бокіем? Я ж не вельмі разумею, што такое Касач, каб параўноўваць іх. А Бокія я і не бачыў ніколі, толькі чуў яго ў спрэчках голас. Бокій — увесь з кніг, з бібліятэкі, з радыё і газет, а ў Касача ўсё гэта ад вайны. Што *гэта,* я, здаецца, і не



сфармуляваў бы дакладна. Горкая, бязрадасная, часам жорсткая думка пра людзей, пра чалавека? У аднаго настоеная на ўласным жыцці, у другога вырасла з вопыту іншых, але прымаецца вельмі асабіста. Часам (у Касача) *гэта* прарываецца нейкай спыненай (як яго ўсмешка) думкай, патопленай у дзеянні, праглынутай дзеяннем; у другіх жа, як у Бокія, думка, пакутлівая, няспынная, і ёсць дзеянне. Бокій нагадвае чалавека, які не верыць у добры канец хваробы, бо звыш усякай меры балюча, страсна жадае такога шчаслівага выніку. Думку яго на ляту, як спазмай, перацінае нецярплівасцю, гаркотай, болем. (Такая ж спазма, але якая пераходзіць ужо ці перайшла ў бязлітаснасць, часам адчувалася і ў Касачу. Асабліва гэта прарвалася ў ім пасля Пераходаў, на тым балоце.) Бокій часам мне ўяўляецца Касачом, але які раптам разгаварыўся…

…І тое сказаць, няма сёння спакойнага разумення. Калі яно спакойнае, значыць, чалавек не зразумеў усёй пагрозы. Я дэманструю перад Бокіем такое ўраўнаважанае разуменне, але ён яўна не верыць мне, бачыць у гэтым палемічна задзірлівы прыём і яшчэ рэфлекс сляпога, прывычку асцерагацца рэзкіх рухаў. А сам ён, мой пастаянны апанент, увесь з такіх рухаў! Часам ён так намацвае, адгадвае мае ўласныя сумненні, мой боль, што яго можна было б прыняць за сваё апанентнае «я», без якога няма «стэрэаскапічнага», аб'ёмнага бачання падзей — свету і самога сябе… аб'ёмнага погляду на падзеі, на свет і самога сябе.

— Вось, палюбуйцеся, Фларыян Пятровіч, якое сабе свята зрабілі — патрыятычнае! — нават з суда над забойцамі Сангмі! Тысячы лістоў прыходзіць да лейтэнанта Уільяма Колі, які ўзяў на сябе нацыянальную ношу забіваць. А ён драпіруецца, какетнічае: «Скажа мне большасць (учора гаварылі: «Фюрар скажа»!) забіць цэлую краіну — заб'ю! Я заўсёды буду ставіць волю Амерыкі вышэй за сваё сумленне!» Заўважце розніцу: Клод Ізэрлі, які ўдзельнічаў у забойстве Хірасімы, сам лез у турму, пад суд, покуль не схавалі «нацыянальнага героя» ў вар'яцкі дом. Там вайна ўсё-такі супраць фашызму была! А гэты толькі здзіўляецца: «Забойства? Смешна! Вы ж мяне паслалі, я выконваў абавязак! Дык якога вам д'ябла!» — не смяшыце Колі. Сённяшнім ізэрлі смешны суд сумлення. І ўсякі іншы таксама. Хоць, у адрозненне ад Клода Ізэрлі, яны будуць ведаць, які груз у чэраве іх самалёта ці ў зяпе ракеты… Вось такое паскарэнне, ушчыльненне, а вы мяне ўсё ўгаворваеце! Па-ранейшаму разлічваеце на маю боскую цярплівасць? Усе

знакі выстаўлены, паказаны. Выбірай, чалавек, куды ісці! Хіба мала знакаў: Бухенвальды, Хатыні ды Хірасімы… А дзесьці і апошні. Дойдзеш — звароту не будзе. Раней замест чалавека прырода старалася. Цяпер сам паклапаціся. Ёй ужо не саўладаць з тваімі бомбамі ды фашызмамі. Самому прыйдзецца адольваць, homo sapiens!

І ўсё-такі! Так яно, але і не так, дарагі мой Бокій. Калісьці Гегель кінуў горкую думку, што гісторыя вучыць толькі таму, што яна нікога нічому не навучыла. Здавалася б, і сённяшняму чалавеку ёсць ад чаго адчаяцца: зноў Хатыні, зноў адольфы!.. Зноў знаходзяць легкаверных, усё забываючых прасцякоў, знаходзяць недальнабачных, знаходзяць жорсткіх — зноў знайшлося сухое сучча для агню, які папаўзе. Зноў кароценькія наркатычныя ідэі і наркотыкі замест ідэй.

Стрэлка скранулася, дрыжучы, і зноў намацвае дзесьці каля тых жа рысак…

Так і не навучыліся людзі нічому? Але ж мы не ведаем, так, Бокій, не ведаем, дзе б цяпер быў свет са сваімі бомбамі, калі б не пякельны вопыт трыццатых-саракавых гадоў!

І калі б не было ў чалавецтва тых пятнаццаці хвілін…

Калі Нюрнбергскаму суду, журналістам, ахове, публіцы (і падсудным таксама) паказалі кінадакументы нацысцкіх зверстваў у Еўропе (у Беларусі, у Падмаскоўі, ва Украіне, у Польшчы, у Югаславіі), паказалі Асвенцімы і Хатыні (яны яшчэ не называліся Хатынямі) і калі пасля гэтага ўспыхнула святло ў зале, людзі, падняўшыся, усе павярнуліся і сталі глядзець на галоўных забойцаў: пяць хвілін, дзесяць, пятнаццаць… Моўчкі глядзелі на сябе падобных, *якія такое сатварылі*…

Ужо не пятнаццаць хвілін — дзесяцігоддзі доўжыцца ён — позірк у вочы. Так, дзе-нідзе фашызм ужо падняўся з той лавы, размінае застоеныя мускулы, змяніў смірненька-здзіўленую, ліслівую міну на нахабную ўхмылку. Ён ужо рыкае сытым баварскім голасам: «Сёння Германія дастаткова моцная. Мы маем права патрабаваць, каб усё мінулае было забыта!»

Але новыя фюрары нервуюцца, дзе б яны ні паявіліся.

Позірк у вочы доўжыцца…

Сангмі… І адразу ўспыхвае, як у промні: Лідзіцэ, Арадур, Хатынь, Хатыні!

Малойчыкі, што лупяць рамянямі за чытанне кніг… Адразу паўстае: вогнішчы з кніг на плошчах Берліна і Мюнхена!..

Штраус, Адольф фон Тадэн, Галдуотэр, Альмірантэ… І адразу праяўляюцца сапляпадобныя вусікі…



Пра іх, пра новых фюрараў, людзі памятаюць усё.

І яны самі памятаюць пра сябе… Хоць вельмі ж хацелася б забыць! Як сядзелі, злоўленыя, а людзі ў Нюрнбергу, у Мінску, у Кіеве, у Варшаве, у Бялградзе разглядвалі іх, а ахвяры з кінаэкранаў глядзелі ў вочы… Выпарылася, быццам і не было яго, дзесяцігоддзе жорсткай улады над жыццём, над лёсамі мільёнаў… Помняць яны, як у іх, тады іх называлі герынгамі і кохамі, расцягваліся ад ліслівай усмешкі губы перад канваірам, пераможцам, салдатам. Як бездапаможна, непадобна выглядалі яны, нядаўнія дучэ, пад дулам партызанскага аўтамата («Я ведаю, што мне не зробяць шкоды!»). Як вішчэлі, як не хацелася ім, кальтэнбрунэрам, у пятлю, як яны, розенбергі, трацілі прытомнасць, зусім па-жаночы, хоць чужыя смерці, мільёны, імі запланаваныя чужых смярцей, абуджалі ў іх толькі прафесійную нудоту.

І як у іх, што называліся тады гітлерамі, шамкаў рот і дрыжэлі пальцы, абмацваючы ампулу з атрутай.

Як бы нахабна ні паводзілі сябе сёння пад абаронай новай сілы, улады, яны памятаюць, што тады была ў іх улада над паловай свету, а потым быццам прачнуліся, апынуўшыся сам-насам са сведкамі-суддзямі, якіх, здавалася, яны даўно знішчылі…

Як гэта ў Піта Сігера — пявучага амерыканца?.. «Апошні цягнік у Нюрнберг! Апошні цягнік у Нюрнберг! Кожны займае сваё месца! Вы бачылі лейтэнанта Колі? Вы бачылі капітана Медыну? Вы бачылі генерала Костара? Вы бачылі Уастморленда? Адпраўляецца цягнік у Нюрнберг!»

Так, знакі сапраўды выстаўлены, асветлены, ва ўсіх перад вачамі, памяццю!..

Усялякае ашуканства не можа цягнуцца вельмі доўга, немагчыма ўсіх ашукваць вечна. Сёння гэта такая ж ісціна, як і ў даўнейшыя часы. Але гэта ўжо не суцяшае, як раней. Занадта небяспечны і нядоўгі падман многіх. Таму што ёсць Бомба, для якой і малога часу дастаткова. На сабе спыні ланцуговую рэакцыю! У час спыні, homo sapiens, і ў сабе таксама абарві дроцік, які цягнецца да Бомбы!..

У армейскім лазарэце, памятаю, сусед па палаце, сапёр з выпаленымі вачамі, апавядаў пра тое, як аднойчы ён тапіўся, а яго ратавалі, адкачвалі на беразе возера. Па яго словах, ён увесь час чуў галасы ратаўнікоў, а ў нейкі момант пачаў і разумець, пра што гавораць. І раптам — выразнае:

— Баста! Нашто яго мучыць? Сорак хвілін — і ніякай адзнакі! Безнадзейна!

Чалавеку хацелася крыкнуць, што ён жывы, хоць бы застагнаць, губамі паварушыць, а ён не мог. І памятае, што чакаў з жахам, а раптам і астатнія згодзяцца з гэтым: «Безнадзейна!»

Не спыняць намаганняў, нават калі здаецца, што ўсе магчымасці вычарпаныя, што канчаткова прайграна бітва, — гэта заўсёды лічылася правілам, якасцю сапраўдных палкаводцаў. Але ж там на кон ставіўся лёс усяго толькі нейчае ўлады ці няхай сабе нават дзяржавы. Тут жа, сёння — лёс чалавека на планеце на вечныя часы. У самым прамым, не філасофскім сэнсе: быць або не быць? Занадта многае пастаўлена, і — якая б сітуацыя ні склалася! — чалавек не мае права рашыць: «Баста! Безнадзейна!»

…— Паваротка на Хатынь, — сказалі ў аўтобусе. Нас хіснула, нахіліла, і гул машыны зрабіўся лясны, блізкі.

— Адзін… два… тры… — Сярожа гучна чытае лічбы. Мабыць, на кіламетровых слупах.

Зноў адкрытая прастора (гук адступіў). Спыняючыся, мы зрабілі круты разварот.

— Прыехалі, татка.

Дзень вельмі сонечны, цёплы. Гэта мая звычка: выходзячы з будынка ці машыны, перш-наперш пашукаць тварам, скурай, павекамі казытлівую ласку сонца. Агульная, так сказаць, арыенціроўка ў космасе.

Галасы навокал, шмат, прыглушаныя. І замежнікаў галасы. Іх цяпер і на вуліцы нашага, не сталічнага горада пачуеш. З тых часоў, як я перастаў бачыць, аслеп, асабліва ў апошнія гады, іх з'яўляецца ўсё больш, галасы гэтыя прыблізіліся.

Шорганне ног па цэменце, шархаценне колаў і матopы машын, якія пад'язджаюць. Ударыў мне пад ногі рэзкі металічны гук. Гэта мой кіёк, тут ён нязвыкла і непрыемна гучны. Я падняў яго, узяў пад локаць. Пачакаў, пакуль мяне знойдзе Глашына рука. Але металічны гук, як рэха, застаўся ў прасторы, ён здалёку прабіваецца да нас — праз галасы і шорганне падэшваў. Гэта і ёсць Хатынскія званы? На высокіх пячных комінах, кажуць, вісяць званы — на месцы былых хат …

Мы ідзём насустрач гэтаму гуку, кволаму, быццам расколатаму. Прыпыніліся каля людскіх галасоў, што паўтараюць лічбы:

— …Два мільёны дзвесце трыццаць тысяч… На Беларусі загінуў кожны чацвёрты жыхар…

— Татка, тут ступенькі, — папярэджвае Сярожа.



Глаша, сціскаючы мой локаць, паказвае: *тут!* Тры крокі, і зноў — *тут!* Пад нагамі сцежка шурпатая, цвёрдая.

— Гэта магільныя пліты? — ціха пытае Сярожа.

— Не, гэта проста дарожка.

Глашына рука паказвае і падказвае, як ісці, як ставіць нагу, сёння не тая, што звычайна бывае дома ці на вуліцы горада. Яна — як тады у лесе, дзе грымела нямая для мяне, аглушанага, страляніна, а Глаша, учапіўшыся, віснула на маёй руцэ, паказвала, ці далёка, ці блізка страляюць…

Гук ужо мацнейшы, бліжэй. Уздрыгнуўшы, узнікшы, ён глухне, як заціснуты боль, каб тут жа раздваіцца. Прагучыць падвоены, патроены — расколата, цымбальна — і таксама абрываецца, быццам на яго легла нейчая далонь. Але зноў і зноў паяўляецца ў свеце расколаты, цымбальны звон, гук, яго ўжо чакаеш, і з ім узнікае даль, яна імкліва пашыраецца. І ў табе таксама штосьці шырыцца. Звон, гук зноў і зноў шукае, абмацвае дно, кліча рэха.

Тры крокі і — ступенька. Пліты, мабыць, чорныя. Сярожы яны паказаліся як магільныя. Тры крокі, і мы трошкі ніжэй, на ступеньку ніжэй.

— Мамка, і тут ніхто-ніхто не застаўся жывы?

— Цішэй, Сярожа, паслухай, што цёця расказвае.

Малады дзявочы голас тлумачыць, як тут было, што тут дзелася шмат, шмат гадоў назад: як наляцелі карнікі, як сагналі ўсіх у хлеў і падпалілі, а людзі выбягалі на кулямёты…

За дзявочым маладым голасам, як праўда, якую выказаць, перадаць немагчыма, але якая тым не менш праўда, усё тое ж цымбальнае перакліканне званоў, уцягваючы ўдалеч пералік мёртвых комінаў.

«Дзіця з'ядае хлеба больш, чым дарослы» — гэта засела як стрэмка пад чэрапам маньяка ў адным канцы Еўропы, і праз некалькі гадоў сюды, у другі канец кантынента, прыйшлі, каб забіць дзяцей… Якія «спажываюць, з'ядаюць больш…».

У каменнага старога, таго, што трымае забітага хлопчыка, далонь, пальцы прастрэлены. Я не ведаю, ці заўважаюць гэта відушчыя. Я бачыў не адзін раз пасля вайны. Амаль ва ўсіх, каго расстрэльвалі разам з дзецьмі і хто выпадкова пры гэтым застаўся жывы, рука знявечана. Тая, якая закрывала, прыціскала да зямлі галаву дзіцяці. Чалавек упаў побач з забітымі, паспеў паваліцца жывы з жывым дзіцем, іх залівае жах, залівае кроў мёртвых. Не рухацца, не варушыцца, што б там ні тварылася!.. Але дзіця, яно хоча ўстаць, вось-вось заплача, закрычыць! І яго трымае, прыціскае да зямлі рука бацькі ці маці, просіць, моліць

маўчаць, не клікаць да сябе смерць… А смерць падышла ўжо, глядзіць у вочы, цэліцца. Страляе ў галоўку дзіцяці — і ў руку, якая абараняе, хавае круглую цёплую, як летняя зямля, галоўку…

Гук усё, ломячыся на дзве часткі, на тры часткі, адскоквае ўдалячынь і ўсё лічыць, лічыць… Я сярод неіснуючай вёскі, слухаю, як нейчыя галасы счытваюць з нябачных табліц імёны, прозвішчы спаленых людзей, назвы забітых вёсак. Назвы гарадоў і напаўголаса вымаўленыя — лічбы тысяч закатаваных у канцлагерах: восемдзесят тысяч… сто восемдзесят тысяч… дзвесце пяцьдзесят тысяч…

Сонца казыча павекі, стараецца іх, раскрытыя, раскрыць.

Калісьці я любіў глядзець на сонца заплюшчанымі вачамі: праз жывую расплаўленую чырвань павек. Сесці дзе-небудзь, ці вось так стаяць, ці ісці ціхенька насупраць сонца і глядзець на сонца, афарбаванае маёй жывой крывёю, быццам ад крыві маёй, цёплае.

Цяпер мае павекі чорныя і толькі іскры болю паласуюць чорнае, заўсёды гарачае неба…

Гук Хатынскіх званоў ужо за спіной у нас лічыць коміны, мы ідзём адсюль, а ён застаецца, але зноў даганяе, крышыцца, пытае: «Дык вы — за-пом-ні-лі?.. Дык вы — пом-ні-це?.. Вы пом-ні-це?.. Пом-ні-це?»

Тры крокі — і ступенька. Тры крокі — і мы на ступеньку аддаляемся. Я ўжо апусціў кіёк, ён звініць аб пліты нязвыкла гучна, патрэбны час, каб гук гэты зноў стаў звычайны. Усяго толькі стук металічнага кійка аб камень. Я кудысьці іду, і нічога больш.

Але ці ёсць цяпер у свеце што-небудзь, пра што можна сказаць: і нічога больш?

Гук ззаду робіцца слабейшы, а мой кіёк, нашы крокі, галасы хадакоў — гучаць больш упэўнена, звыкла.

— Ну, далей паехалі? — малады голас нашага шафёра.

*1965, 1968–1971 гг.*



# НЯМКО
## *Нявыдуманая гісторыя*

Ich werde dich schützen*.

*Памяці брата*[1]

### АД АЎТАРА

«Здымаюць скальпы (нават з дзяцей), кастрыруюць, праз маленькую дзірку ў цемені выцягваюць з жывога чалавека мозг, ірвуць ногі» — гэта хто, фашысты 40-х гадоў? Не, гэта сённяшнія газетныя паведамленні з нашых «блізкіх» рэгіёнаў-дзяржаваў аб высвятленні нацыянальных, кланавых і палітычных прэтэнзіяў адно да аднаго. Гэта мы з вамі. Калі ў 41-м немцы-фашысты забівалі савецкіх ваеннапалонных на вачах у жыхароў майго пасёлка, старая, ушчэнт раздушаная бессэнсоўнай гібеллю ў засценках НКУС яе мужа (поруч з яшчэ васьмю дзясяткамі заводскіх рабочых), галасіла ў слязах: «Чаго хацець ад чужых, калі свае вунь што тварылі?..» О, гэтыя «чужыя» і гэтыя «свае»! Як лёгка асуджаем іншых і як цяжка паварочваецца язык сказаць жорсткую праўду сабе, уласнаму народу, нават калі верх у ім бяруць ці ўзялі ўжо «свае» падонкі і расісты (як бы яны сябе ні называлі). Ці шмат мы чулі самаасуджальных галасоў хаця б ад вядомых усёй краіне інтэлігентаў з Азербайджана і Арменіі, з Кіргізіі і Узбекістана, з Малдовы і Таджыкістана? Свет пахаладзеў ад Сумгаіта і Хаджы, ад Ферганы і Ошы, ад Бендэр і Курган-Цюбэ. Мільёны людзей ва ўсіх краінах у жаху, а наша нацыянальная інтэлігенцыя адмоўчваецца. І ў Прыбалтыцы маўчаць, і ў Грузіі ніхто не сказаў, не гаворыць «на ўвесь голас»

* Я цябе абараню (*ням.*).

уласнаму народу, што шавінізм «малога» народа такі ж агідны, як і любы іншы, што імперскія замашкі ў дачыненні да ўласных «меншасцяў» падрываюць і твае правы на самастойнасць. І дабром гэта ніколі не заканчваецца. Сведчаннем таму — Асецiя, Абхазія, Прыднястроўе. Пра расійскіх і ўкраінскіх «нашых», якія адкрыта і ў самазабыцці дэманструюць свой нацысцкі радавод, і гаварыць не хочацца, хаця разумеем: вірусы расізму ў такім вялізным целе — небяспека ўжо для ўсёй планеты.

Не будзем недаацэньваць падобную ж небяспеку і для адносна спакойных Беларусі ці Казахстана. Мы пераканаліся ўжо: гэта прарываецца нечакана і, здавалася б, «з нічога».

Бачачы ўсё, перажываючы, суперажываючы з іншымі — а непакоіць, мучыць гэта ўсіх, — я раптам прыгадаў рэальную гісторыю беларускай дзяўчынкі і маладога нямецкага салдата — з мінулай вялікай вайны, з часоў фашысцкага азвярэння цэлых краін і кантынентаў. Яны, амаль яшчэ дзеці, змаглі пераступіць праз наймагутнейшыя нацыяналістычныя і дзяржаўнаідэалагічныя міфы, догмы і выканаць на зямлі сваю Чалавечую місію — быць братам, сястрой, быць каханнем, быць чалавекам для іншага чалавека.

У нас перасыхае горла, перахоплівае дыханне, калі трэба сказаць жорсткую праўду пра нас саміх. Тады няхай яны яе нам скажуць, за нас — дзяўчынка і юнак адтуль, з самай ночы фашызму і сталінізму.

Гэта — аўтарскі адказ на зусім законнае, верагоднае пытанне: зноў пра вайну, навошта?

*11 верасня 1992 г.*

## 1

У вёсцы Петухі вырашылі затаіцца і адседзецца колькі дзён. Gross Dorf Pietuchi*. Праца эйнзацкаманды ўзбударажыла ўсё наваколле. На кожным узлеску засады, абстрэлы, на дарогах міны. Узварушылі партызанскае гняздо. А гэтая вёска ад лесу адгароджаная рачулкаю, сама на горцы. Выкапалі акопы для кулямётаў, парасстаўлялі ў садах лёгкія танкі і бронетранспарцёры ды зажылі мірна. Па два, па тры салдаты ў кожнай хаце, на сям'ю. Каравул размясціўся ў зручна пастаўленых у канцы вуліцы былой школе і калгаснай канторы. Загадалі, і тутэйшыя кабеты вычысцілі, вымылі загаджаныя пакоі, ім за гэта заплацілі

* Вялікая вёска Петухі (*ням.*).



па тры маркі. Няхай ніхто не кажа, што ў штурмбанфюрара Дзірлевангера служаць не салдаты, а бандыты, крымінальнікі.

Штурмбанфюрар уласнаю асобаю меў палітычную суразмову з малодшымі афіцэрамі, а тыя — з салдатамі: як паводзіць сябе на гэты раз, у гэтай вёсцы. Аніякіх пагроз і канфіскацыяў, за паслугі дзякаваць і нават плаціць, смела ўступаць у асабістыя кантакты — усё, як у цывілізаванай краіне. А калі надыдзе дзень акцыі (аб чым будзе ў час паведамлена), усіх гаспадароў свайго дома ліквідаваць, дом і ўсе забудовы падпаліць. Словам, далей дзейнічаць, як і ў іншых вёсках. Быдла, як і раней, асабліва буйное, не знішчаць, выгнаць з хлявоў, перадаць пагоншчыкам.

Прытым кожны абавязаны: з першага ж дня зафіксаваць, колькі чальцоў сям'і пад ягоным кантролем, размеркаваць, хто і за каго асабіста адказвае ў дзень акцыі, каб не ўцяклі, не схаваліся. Асабліва важныя апошні дзень і ноч перад ліквідацыяй: яны, як жывёла, чуюць блізкую розніцу.

Маладога салдата Франца Ш. (малады сапраўды, сямнаццаць гадоў, прызваны татальнай мабілізацыяй) прымацавалі да напарніка вопытнага, надзейнага, праверанага ў справе. Ота Залеўскі, паводле нармальных армейскіх мерак, можна сказаць, ужо стары, ён з вясковых жандараў. Таксама татальнік, але не з 1943 года прызыву, а з 1942-га. Пасля Маскоўскай бітвы, тады як Франца фюрар паклікаў пасля Сталінградскай.

Франц у баявое падраздзяленне патрапіў проста з Бабруйскага вакзала, разам з цяжкім узбраеннем, што прыбыло спецыяльна для гэтага батальёна. Так што вёска Петухі — яго першае баявое хрышчэнне. Кажуць, тут самы гадзючнік партызанскі. Як выказаўся штурмбанфюрар, тут і курыца — партызан.

Аднак, Францу ў гэта нялёгка было паверыць, калі ён бачыў тутэйшы люд — што ў Бабруйску, што ў гэтай вёсцы. Запалоханы і нейкі прыгнечаны: ахвотна саступаюць тратуар, дарогу, у вочы, праўда, пазбягаюць глядзець (дзеці, тыя пазіраюць з пужлівай цікаўнасцю), але калі немец пакліча, паслухмяна падыдуць і нават колькі словаў па-нямецку скажуць, якія ведаюць. «Ніксфарштэйн» — нават з гонарам, што таксама могуць па-нямецку.

Калі па праўдзе казаць, дык Францу нашмат больш не падабаюцца мясцовыя паліцаі: ілжыва-дагодлівыя, а тым не менш у руках у іх зброя. Што ён там насамрэч думае і што зробіць у наступны міг — хіба ведаеш?

Сітуацыя, у якой ён адразу ж апынуўся ў Петухах, не простая для любога. А Францу, навічку, як яму нават уявіць, што сёння ён

вось з гэтымі людзьмі жыве ў адной хаце, яны яму грэюць ваду, смажаць яечню, з імі ён гамоніць, смяецца, а заўтра ён іх усіх заб'е? Прачнецца раніцай, павітаецца, пачысціць зубы, пасядзіць за сталом, пераглядваючыся з Палінай, маладой гаспадыняй, а затым яны з Ота паглядзяць на гадзіннік і бразнуць затворамі…

Пераглядвацца і пасмейвацца пачалі не адразу, толькі на другі дзень — Франц з дзяўчынай. Спачатку яму здалося, што ў гэтай хаце — дзве бабулькі. Старая, сівая бабулька з нейкай бязглуздай вечнай усмешкай і бабулька маладзейшая, ані не харашэйшая за тую, першую. Нават больш брудная і ўся закручаная ў нейкія анучы, ды яшчэ і кульгае, горбіцца.

Але назаўтра раніцай другая бабулька некуды знікла, а аб'явілася амаль дзяўчынка, чарнавокая, з падкарочанымі валасамі, цікаўна і як бы смеючыся прыглядаецца да Франца. Спадніца тая ж, па-вясковаму даўгая, бруднага колеру, але кофта беленькая, нават з нейкімі вышыванкамі. Не падазраючы, што Франц па-руску разумее (бацька яго быў у расійскім палоне, і дома ў іх нямала расійскіх кніг, нават Біблія ёсць славянская), старая шыпіць на сваю, відаць, дачку, не паварочваючы да яе твару:

— Што гэта ты сабе дазваляеш, язві тваю душу? Перад кім ты выфранцілася? Што гэта з табой робіцца?

Ота, хаця па-іхняму ані слова, тым не менш бачыць і разумее тое, што адбываецца, лепш за Франца. Растлумачыў. Яны тут усе так, хто маладзей і харашэй, прыкметней: твар, шыю ў сажу запэцкаюць, вымажуць, амаль не ў гной — рукі, ногі, апрануцца, быццам хлеў ім чысціць, яна табе і кульгавая, і гарбатая — адно не руш яе! Не спакушайся на яе хараство! А гэта, бач ты, адразу змяніла тактыку, як толькі ты аб'явіўся, — ганарыся, Франц!

Старому Ота даручаны яго бацькоўскай апецы маладзён, проста з гітлерюгенда, нават спадабаўся. Хаця гараджане, ды яшчэ гарластыя, нахабныя юнцы, яму не надта да душы. Ад іх старому, ды яшчэ вяскоўцу, заўжды трэба чакаць нейкае насмешкі, непрыемнасці. Адзін ужо быў у яго такі, хуценька адхапіў пасаду цугфюрара, узводам камандуе, і Ота цяпер яму падпарадкуецца. Начыста забыў, якім быў рахманым першыя дні, як зазіраў у рот бываламу салдату, лавіў кожнае яго слова, параду, а цяпер на Ота глядзіць заўжды з насмешачкай, штораз пры пастраенні пацікавіцца: «Hast du dein Scheiss beendigt?», ці пасраў гер Ота, а то цуг, узвод можа яго і пачакаць.

А з гэтым Францам яшчэ і такое магчыма: падстрэліць па дурноце, усё не нацешыцца атрыманым шмайсарам, важдаецца,



як з цацкай, зараджае, перазараджае. На Ота пазірае, бы шкадуючы, — у старога ўсяго толькі вінтоўка. З імі, з гэтаю дзявухай па-іхняму гамоніць, хіхікаюць, ці не з Ота? Калі паспеў і дзе так насабачыцца па-руску.

## 2

Прыгледзеўшыся да немцаў, што пасяліліся ў іх хаце, паслухаўшы, што суседзі расказваюць пра сваіх пастаяльцаў, Паліна сапраўды перастала баяцца. Не, страх, жах перад тым, што немцы вычварылі ў суседніх Борках і Каменцы, не знікаў, душыў. Але ж не Франца ёй баяцца, гэтага дылду-хлапца, які не можа з уласнымі рукамі-нагамі справіцца, падобны да ястрабяня, што вывалілася з гнязда. Шаснаццаць гадоў — гэта шаснаццаць гадоў. Менавіта столькі споўнілася Паліне ў студзені. Так хочацца верыць у лепшае. Ну а немцу гэтаму — ці нашмат больш? Хаця і ўздзеў мундзір, рамянямі і нейкімі тэрмасамі абвешаны, як пудзіла агароднае, з аўтаматам і спаць кладзецца, смярдзіць конскім потам і нейкімі памадамі, адэкалонам. Без смеху глянуць на яго нельга. І ўвесь час бачыш яго блакітныя вочы. Нават спінаю адчуваеш.

Варта ёй апрануцца па-людску, твар памыць, як тут жа жаночым чуццём зразумела: гэты хлопец яе, старацца дужа не трэба. Праўда, ён немец, не той час, калі на вечарынках забаўляліся. Але шаснаццаць ёсць шаснаццаць. Яе раптоўнае ператварэнне — прычына, каб весела, жартам пераглядвацца з Францам. Быццам разыгралі яны кагосьці трэцяга. І ўсё яшчэ разыгрываюць — старога Ота, скажам. Так яго шкада — з яго пагаслымі, абыякавымі вачыма, індычаю зморшчакаватаю шыяй. Памерці можна, слухаючы, як яны, старыя — Ота з маці Паліны — гамоняць. Старая звяртаецца да яго, як да глухога. Мабыць, ёй здаецца, што гучныя словы чужое мовы яму больш зразумелыя.

— Пан, а пан, вада цёплая трэба, галіцца, кажу, будзеце? Што франштэйн, што франштэйн: я кажу, галіцца будзеце?

Частка жыхароў загадзя ўцяклі ў лес, на балота. Жывыя яны, не — ніхто не ведае. Скрозь немцы папярэджваюць: каго ў лесе заспеюць — усіх пастраляюць. А ў вёсцы ўсё-ткі не так страшна. Але таксама страшна. І яшчэ як! Петухоўцы, хто застаўся ў сваіх хатах, карыстаюцца любым выпадкам, прычынаю, каб дазнацца, пачуць ад суседзяў супакойлівыя словы, весткі. Адно аднаго абнадзейваюць: а здаецца нічога, не лютуюць, штокроку: «данке! данке!», не падобна, каб задумалі нешта благое. Можна бачыць,

як мірна мыюцца, палошчуцца немцы ў прасторным двары Францкевіча ля калодзежа: дзеці ім паліваюць спіны халоднай вадой: ахканне, смех. Вёску дзівіць, як часта і шмат яны ядуць. Дзень у дзень над вёскай стаіць чадны дым з комінаў: згатуеш ім ранні сняданак, тут жа стаў другі, тут жа полудзень і яшчэ падвячорак — гэтак да позняе ночы. Як у прорву, як на згубу ядуць. Ну абы людзей не чапалі. Харчы ў іх свае. «Свае» — што нахапалі ў іншых вёсках, свіней, гусей на вазах вязуць, муку і нават бульбу выграблі.

А петухоўскае не чапаюць, нічога не скажаш.

Дзеду Пархімчыку салдаты памагаюць вароты ставіць. Старыя заваліліся, ён нарыхтаваў лес на новыя слупы, і вось навешваюць на іх вароты. Пархімчык, былы брыгадзір калгасны, нават пакрыквае на немцаў:

— Старайся, хлопцы, а то працадзён не запішу!

Чым мацней і нясцерпней чаканне чагосьці жахлівага і няўхільнага, тым з большым самазабыццём людзі імкнуцца да найменшага пробліску надзеі. І таму збоку магло здацца, што не да кары, забойства рыхтуюць вёску і не сутаргава адпіхаюць жыхары ад сябе жудасную праўду, што гэта накшталт падрыхтоўкі для якогасьці свята — бабы бегаюць па суседстве па ўсялякую драбязу, узрушана абмяркоўваюць падзеі, вочы зіхцяць.

Супакойвае вяскоўцаў аднак тое, што дазваляюць выходзіць з сяла, калі ты на далёкае поле кіруешся, і ўваходзіць у сяло — нават з лесу дзве сямейкі вярнуліся, калі прачулі, што так паводзяць сябе немцы, у лесе страшней чакаць невядома чаго.

А ў Паліны з Францам наогул поўны парадак. Тым больш, што ён ведае мову. Гаворыць, праўда, марудна, шукаючы словы і расцягваючы іх, як дзіця, часам блытае націск, але да гэтага прывыкаеш. Як прывыкаюць да заікання даўняга знаёмца. Амаль не заўважаеш. А ў іх абаіх такое адчуванне, быццам не тры дні, а са школы знаёмыя. Словы ім не дужа і патрэбныя. Усмешка, кароткі жэст ці позірк, непрыкметны рух плячыма, і яны ўсё сказалі адно аднаму і ўсё зразумелі. Ну а калі старым гэта не падабаецца, незразумела — тым больш забаўна і весела гуляць у гэтую гульню Паліне і Францу.

Бацька (Франц цяпер гэта ацаніў) непрыкметна, але вельмі ўмела скіроўваў яго цікаўнасць і здольнасці менавіта да моваў — лацінскай, ангельскай, расійскай. Толькі цяпер Франц пачаў кеміць: тым самым ягоны фатэр працівіўся агульнай пошасці — анічога апрача свайго ў свеце не цаніць, усё звесці да нямецкага кораня, сэнсу, разумення. Тое, што Франц моцна захапіўся расійскімі кнігамі, а таму і моваю, мабыць, заслуга (ці віна) Дастаеўскага. Ён прыцягваў тым, што пужаў. Калі быў малым, сястра дала Францу ў руку сталовы нож і раптам паднесла да яго нейкую чырвоную падкоўку (магніт) — нож разам з рукой пацягнула незразумелая сіла. Ажно ўскрыкнуў і ўпусціў нож. Такая ж вусцішная сіла — у кнігах гэтага расійскага пісьменніка. Нешта выцягвае з цябе, чаго раней, здаецца, і не было, быццам і не ты гэта.



У вачах Паліны Франц мала чым адрозніваецца ад тых хлопцаў з суседніх вёсак, якіх заманьвалі знакамітыя на ўсё наваколле петухоўскія вечарынкі: прыходзілі пад чаркаю, спачатку трымаліся ўсе гуртам, рыхтуючыся да адпору, калі іх пакрыўдзяць, а прыцемкам разбягаліся за петухоўскімі кралямі, хто куды, як рахманыя цяляты, даводзілася іх абараняць, апекавацца імі, не папускаць іх у крыўду мясцовым раўніўцам. Франц цягаў ваду, сек дровы, нават расаду памідораў гэтая дзеўка прымусіла высаджваць на агародзе, старога Ота гэта зацікавіла. Ён стаяў ля агароджы з люлькай у роце і цікаўна пазіраў, як гітлерюгенд няўмела гнецца над градкай, а на шыі аўтамат матляецца, грэбаецца, як курыца, у зямлі, запэцкаў ад няўмелага старання нос, шыю.

Старая Кучарыха час ад часу дзе-небудзь адлоўлівала дачку, шыпела, як гуска (але нехта сказаў бы: добрая гуска):

— Супыніся, дзеўка, што ты сабе думаеш? Што ты над ім свае штучкі вычвараеш? А калі яго камандзірам гэта не даспадобы?

— А вы ведаеце, мама, яму крыху больш гадоў, чым мне. А вырас — гляньце, які дылда!

— Вы ўжо і гадкамі памераліся! Дурное і ёсць дурное, тое і яно, дзіця горкае. Ды толькі гэта табе не гульня! Ох, яшчэ пакажуць яны сябе, чуе маё сэрца!

І паказаў… У тую ж ноч.

Бадай, ніводная дзяўчына не падабалася так Францу, як раптам гэтая кінулася ў вочы — з бандыцкае вёскі. Ды калі папраўдзе, нічога сур'ёзнага і не было яшчэ ў яго з жаночым племем. Хаця сярод аднагодкаў, асабліва калі быў у маладзёвым лагеры «Сіла праз радасць», не горш за іншых выстаўляўся вопытным лавеласам, абаяльным самцом, які не з чужых словаў ведае, што і як. А сам нават да прастытутак не хадзіў, куды ў маладзёнаў з лагера сцежка была пратаптаная. Не толькі боязь заразіцца, адгукалася і хатняе выхаванне ў сям'і пастара.

І вось перад ім тая, якую, яшчэ крыху, і ён пакахае пасапраўднаму. Але часу на гэта не будзе: неўзабаве дзяўчыну

застрэляць. (Хто? — стараўся не дадумваць.) Ён жа так і не спазнае таго, пра што гэтулькі гаворкі, пішуць у кнігах, у кіно паказваюць — прытым не з распуснай, а вось з такой чыстай, прывабнай. У гэтым халодным нібыта разліку: не ўпусціць! — нейк прысутнічала пачуццё закаханасці. Яно, гэтае пачуццё, нават завастрылася ад драпежных намераў, думак, што ўсё мацней бралі над ім уладу. Ад безабароннасці яе і асуджанасці яе плоць станавілася ўсё больш жаданаю. На трэцюю ноч толькі пра гэта і думаў, вячэралі, нікому ў вочы не мог паглядзець. Дзяўчына разумела гэта па-свойму і дражніла яго яшчэ больш: падсочваючы, ловячы яго позірк. Так і дурное шчаня пачынае гуляць перад пашчаю воўка.

Што яшчэ жыло ў яго, Франца, свядомасці, як ні дзіўна — пратэст. Жорсткасць, эгаізм жадання супраць жорсткасці догмы, ідэалогіі.

Расавы закон, аднак, яму гэтага не дазваляе. Забіць дазваляе і нават абавязвае. А вось падобным пралюбадзействам прынізіць сваю расу — тое самае што скаталожніцтва. І таго горш, больш небяспечна: скаціна табе сваю ідэалогію не перадасць.

Што пра гэта кажа закон, які вызнае ягоны бацька, пратэстанцкі святар, Франц, калі трэба, можа прыгадаць, але кіравацца ім немец не абавязаны. Фюрар вызваліў ад гэтага абавязку, даў свой запавет, закон. Але цяпер менавіта з законам расы спрачаўся эгаізм маладога немца, не вяртаючыся, аднак, да бацькавага наказу. Новыя скрыжалі ўзнагароджваюць ягоную вернасць толькі трупам. І адбіраюць радасць уладання жывым. Дзе ж сіла праз радасць? Нешта тут не так, мой фюрар, гэта прывабіць хіба што Ота — яму важней за ўсё сабраць смачную пасылку і паслаць яе сваёй жонцы…

Што адбылося ў тую ноч на кухні, на шырокай лаве ля акна, дзе клалася спаць Паліна, цемра не дала разглядзець ні Кучарысе, ні старому Ота (яна спала на печцы, ён — у другім пакоі).

Я ж гэтую сцэну нібы бачу (з боку Франца), выразна яе ўяўляю: сам перажыў нешта падобнае.

Гадоў за пяць да вайны да нас у госці прыехала цётка з мужам і іх пляменніца. Быў я яшчэ пяцікласнікам-школьнікам. Дужа запала мне ў вока пляменніца, дзень у дзень мы з ёю лёталі па двары і ў хаце, абліваліся вадою, шчыпаліся, яна на мяне скардзілася, і нас абаіх прысаромлівалі, сварылі, мая мама мяне, цётка яе. А калі згасілі святло, леглі спаць (госці ў сталоўцы), я ў цемры папоўз, каб напалохаць іх. Дапоўз да стала — далей іх ложак і канапа — і крыкнуў па-дурному: «А-а-а!» Нешта гучна фыркнула, зашыпела, як клубок змеяў, і па маёй фізіяноміі, па шыі прайшліся чыесьці кіпцюры. Ды такія вострыя, шалёныя. Мне б у час успомніць, што ў нашай кошкі нарадзіліся кацянята, і карабок, іх пасцель, пад тым сталом. Нічога не цямячы, залямантаваў, як зарэзаны. Спалох быў усеагульны. Пакуль не запалілі святло і не пабачылі мяне, з распісанай фізіяноміяй, і не скемілі, што адбылося. Мяне тут жа расфарбавалі яшчэ ёдам, доўга не маглі супакоіцца — потым ужо ад смеху.



У хаце Кучарыхі рагатаў толькі Ота Залеўскі. Астатнім было не да таго. Франц выбег за дзверы, на вуліцу. Паліна кінулася на печ, да маці пад крыльца. І стаіліся абедзве.

Раніцой жанчыны ўсталі, як звычайна, раненька, асцярожна корпаліся ля печы, даілі карову, кармілі кабанчыка, курэй — усё, як заўсёды. Выйшаў да іх Ота, выспаны, дужа задаволены мінулай ноччу. Яны яго абслужылі цёплай вадзічкай: падрэзаў свае вусы, пагаліў зморшчакаватыя шчокі і шыю, часцей звычайнага паўтараючы: «Данке, гут, гут!» Франц выйшаў са спальні, як выбег, звонячы зброяй і металічнымі карабкамі на поясе, адварочваючы падрапаную, з барвовымі шнарамі, фізіяномію. Не павітаўшыся, пабег на вуліцу. Кучарыха правяла яго спалоханымі вачыма, нават Паліна, зусім ціхая, збялелая, стаяла ля шафы, вінавата маўчала. Ота ж проста свяціўся ўвесь, як новы пятак.

— Лыбіцца, быццам подмазку з'еў! — не стрывала Паліна. Здаецца, яна пакрыўдзілася за Франца.

Старая Кучарыха на яе накінулася:

— Ты хоць гэтага не чапай! Хопіць, ужо дагулялася.

Паліна ціхутка шмыганула за дзверы. Вярнуліся яны абое, зміраныя, задобраныя (што яна яму там казала, чым суцешыла?), хоць ты іх з іконай бласлаўляй.

— Мама, у нас лой быў, гусіны тлушч. Памазаць — і пройдзе.

Выбегла ў кладоўку, а Франц стаіць і збянтэжана пасміхаецца, пагладжваючы шчокі, лоб, шыю.

— Война, матка, крыг! — спрабуе жартаваць.

— Вы ўжо на яе не гневайцеся, маладое-дурное, што з яе ўзяць?

Дзякуй Богу, хоць стары немец пайшоў у прыбіральню, не хутка вернецца. Паліна ўжо нясе шклянку, беланапоўненую, калупнула пальцам.

— У нас так лечаць, — растлумачыла Францу, — калі хто незнарок падрапаецца. Я змажу ранкі, гут? Не балюча, крышачку.

Франц пакорліва схіліўся. Паліна, водзячы пальчыкам, замаўляе:

— Па саломе, па мякіне, няхай пабаліць і пакіне. Пакуль жаніцца — загаіцца. Зажыве да вяселля.

3

Дзень расправы набліжаўся выверанаым ваенным крокам. А вяскоўцам як вушы заклала, вочы заляпіла: так ім не хацелася ў гэта паверыць. За ўсе крыўды Германіі, паслявярсальскія пакуты нямецкага насельніцтва павінна была расплаціцца беларуская вёска Петухі. Аб тым ведала адна частка людзей (пастаяльцы), другая ж частка (самі жыхары) з кожным спакойна пражытым днём усё больш верыла: пранесла, на іх бяда не абрынулася, хаця б гэты раз.

Апошнюю ноч, калі ўжо быў аддадзены загад ажыццявіць на світанні (а 8.00) акцыю, Франц амаль не спаў. Ота Залеўскі паведаміў яму агульнае распараджэнне: больш нікога з вёскі не выпускаць (але тым, хто з лесу вяртаецца, не перашкаджаць), па магчымасці трымаць сваіх гаспадароў у хаце, папярэджваючы, што вось-вось можа пачацца бой з партызанамі, яны, маўляў, падыходзяць, акружаюць. Ота спаў адным вокам, некалькі разоў ноччу прачынаўся і курыў на кухні, бегаў вады папіць ці на двор па патрэбе. Франц ліхаманкава думаў, уяўляў, як гэта адбудзецца. Ота ў яго спытаў, ухмыляючыся: ты, вядома, маладую выбраў? Што ж, падабаецца, бітэ, калі ласка, а я па-старэчы прыгрэю старую каргу.

І ўсё-ткі задрамаў Франц, а калі прачнуўся і пачуў на кухні мірныя галасы старой і Ота, што ўсё спрабавалі растлумачыць адно аднаму, якая гэта ліхая штука вайна, яго раптам працяў холад, узялі дрыжыкі. Гэтага яшчэ неставала! Як жа ён выйдзе да іх, як паглядзіць на Паліну, вачыма сустрэнецца з яе позіркам? О Божа, лепш бы не прачынацца наогул! Не жыць, не ведаць нічога гэтага. Бацька, ты любіў паўтараць словы пра чашу, якую Сыну Божаму назначана было выпіць да дна. За нас, каб і мы свае выпрабаванні прайшлі з гонарам. Ну а сыну твайму — вось такое выпала. Не я выбіраю, за мяне Фатэрлянд, фюрар вызначылі маю ношу. Як з ёю быць, што рабіць мне? У мяне засталася гадзіна часу, хто, хто падкажа?

Чуў, як з двара зайшла Паліна, грымнула дровамі ля печкі. Перад гэтым у пакой да Франца забег ашалелы стары: ты што, забыў, твая пабегла некуды, за яе ты адказваеш! О Божа, няхай бы яна і сапраўды ўцякла, не з’елі б за гэта Франца, ну няхай бы пакаралі як след. Ці няхай, калі ўжо на тое пайшло, Ота ўсё гэта зробіць, яму гэта не навіна.

Чутно, як Паліна мые даёнку, пойдзе карову даіць, а сюды ізноў уляціць гэты ашалелы падганяць Франца. Вось ён, аж задыхнуўся ад гневу, словы ў глотцы заселі.



Франц адно махнуў рукой, навешваючы на плячо аўтамат і кіруючы на кухню. Павітаўся з гаспадыняй, яна паабяцала:

— Зараз Паліна малачка свежага прынясе, а вы трошкі шпацырэн. Будзе апетыт гут.

Да чаго здольная да моваў. Што ж, Франц пагуляе, а то яго апякун хутка забрэша ад абурэння.

Франц накіраваўся да варотаў, выглянуць на вуліцу. Чутно, як у хляве за не шчыльна прычыненымі варотамі пішчыць, патрабуе кармлення кабан, далятае голас Паліны, што пакрыквае на неспакойную карову. Усё так мірна, звычайна. І такі сонечны ранак. Самы чорны ў жыцці Франца. Глянуў з варот на вуліцу, там нейкі рух, заведзены машыны, перабягаюць вуліцу салдаты. А раптам раздумаў штурмбанфюрар, гэта ў яго ўладзе, раптам аб’явяць: акцыя адмяняецца, адыходзім. Ну няхай другі раз, няхай недзе, але не зараз, не тут. Зразумейце ж, Паліна, Паліна! Фюрар мой, Германія, я дрэнны патрыёт, сам бачу, але я яшчэ набяруся мужнасці, волі, рашучасці. Я спатрэблюся ў справе. Але толькі не цяпер!

Чутно, скрозь усе ранішнія гукі прабіваецца да Франца, як звонка б’е ў дно даёнкі струмень малака, ласкавы голас Паліны, што ўгаворвае: «Стой спакойна, што гэта з табою сёння?» Ох, дзяўчынка, дзяўчынка, нават быдла нешта чуе, а ты — як жа ты не бачыш, што рыхтуецца? Сказаць ёй, махнуць на ўсё рукой і папярэдзіць! Ну і што, куды яна цяпер уцячэ, дзе схаваецца, калі ўсё пачне гарэць, а яшчэ Ота, ужо ж ён не дасць парушыць загад! Раней трэба было, хаця б учора, пазаўчора. Чаго чакаў, чаму так не зрабіў? Але ж гэта здрада, гэтым ты здраджваеш інтарэсам свайго народа. Які там яна, гэта дзяўчына, вораг для Германіі, але важны прынцып: дзейнічаеш патаемна, за спінай усіх, парушаючы загад, у інтарэсах не Германіі, а яе ворагаў.

З расчыненых варотаў выйшла Паліна з цынкавай даёнкай у руцэ, убачыла распісаную ёю фізіяномію Франца, збянтэжана ўсміхнулася, нават румянак радасны сагрэў яе шчокі. Франц дапамог зачыніць цяжкія вароты. Знаёма ўскінула кароткія валасы і раптам паспешліва накрыла краем даўгой спадніцы малако. Растлумачыла, сарамліва смеючыся:

— Каб не сурочылі. Каб малако не скісла, вымя ў каровы не высахла. Калі ў вас благое вока.

— Паліна, я хачу сказаць, — усё, што здавалася самым важным, раптам перастала нешта значыць, — я хачу… папярэдзіць. Блягі чалавек прыйшоў ужо, вам усім будзе бляга.

На Франца ўмольна глядзяць вялікія чорныя вочы: гэта няпраўда? Я не так зразумела? Ты абароніш!..

— Трэба вам… я не ведаю што… — сказаў і азірнуўся на дзверы, на вароты. Раптам гучна зарагатаў, гучна вымавіў: — Малако гут? Малако карашо!

Як бы перакрыўляючы Ота. Паліна на яго глядзіць у зваротнай надзеі, а можа, яна не так зразумела яго? І ўсё не так страшна. Пайшла дахаты, а Франц, трымаючы аўтамат ля пояса, услед.

І пастаяльцы-немцы, і старая — усе ўважліва пазіраюць (гэта заўсёды заварожвае), як малако льецца і пеніцца ў шкляным збане. Старая ўжо накрыла на стол: нязменная бульба, кавалачкі сала, смятана, кансервы (відаць, Ота расшчодрыўся і адкрыў бляшанку).

Паліна ўзяла другі, непразрысты збан, гліняны, накрыла марляй і цэдзіць малако ў яго. З выразам смутку і асуджанасці на твары: Францу прыгадаліся такія твары ў музеі, куды яго часта вадзіў бацька — на карцінах з выяваю мадоннаў. Ота выразна, не спяшаючыся, каб другія не звярнулі ўвагі, дастаў свой вялікі срэбны гадзіннік і, шчоўкнуўшы вечкам, паглядзеў на стрэлкі. Заўважылі, аднак, усе: яшчэ б, такі гадзіннік, старадаўні, такі гук. Кучарыха нават пацягнулася разглядзець яго бліжэй. Як да ляза сякеры ў руках ката: ці вострае? Жах скаваў галаву Франца жалезным абручом, сталі раптам балець вочы, нават слязіцца ад болю.

Міжволі зірнуў на свой гадзіннік, наручны, падарунак маці: без пяці хвілін восем! Заўважыў, што міжволі ўслухоўваецца, што адбываецца за акном: *ці не пачалося*? І ў жоўтых (якія яны жоўтыя ў яго!) вачах, на зрэзаным глыбокімі змаршчакамі твары Ота такое ж чаканне. Змаршчакаватая шыя сцярвятніка… Абодва заварожана глядзяць, як льецца пеністае малако, быццам і гэта звязана з чаканнем: скончыцца і… пачнецца.

— Вы снедайце, а я набяру бульбы, абед варыць трэба, — раптам пачуўся голас старой гаспадыні. Спалох на твары Ота: *сітуацыя ўскладняецца*! Кабета за кольца ўзяла вечка падполу, у другой руцэ трымае пусты кош.

— Dorthin darf man nicht*, — памкнуўся да яе Ота, падхопліваючы вінтоўку, што стаяла ля сценкі. Старая, не разумеючы, што немец мае на ўвазе, перадала яму з рукі ў руку вечка склепа, і Ота, як дурань, прыняў яго, трымае.

А старая, усё ўсміхаючыся, спускаецца ў склеп. І тут глуха застукалі за акном, недзе ў суседзяў, стрэлы.

---

* Туды нельга (*ням.*).



— Komm raus*, — закрычаў Ота.

Франц глядзіць на Паліну, што, уставіўшыся ў акно, прыслухоўваецца. Твар яе такі ж белы, як малако, што сцякае, ужо льецца цераз край чорнага збана, хлюпае на падлогу. Старая з склепа ані гуку, быццам і няма яе там. Ота ў адчаі кінуў вечка, якое да таго бязглузда трымаў, на падлогу і, паспешліва зарадзіўшы вінтоўку, грымнуў у падполле стрэлам. Франц ад нечаканасці (усё-ткі) падскочыў з табурэта, і цяпер Ота, ашчэрыўшы пракураныя жоўтыя зубы, яму крыкнуў:

— Was steckst du da, Scheisser?**

І скіраваў вінтоўку на Паліну. Але Паліна за спінай у Франца, і Ота не можа стрэліць. Стрэліў Франц. Ён і не заўважыў, як рука ўскінула затвор аўтамата, апамятаўся толькі, калі аўтамат забіўся ў яго руках. Скрозь чад, што запоўніў пакой, лёгкія, вочы, свядомасць, Франц бачыць, як Ота, узмахнуўшы рукой і як бы адкідваючы вінтоўку, якая стукнулася аб кухонную шафу, хіліцца да печкі, хапаецца рукамі за яе, быццам узлезці на яе хоча. Спаўзае на падлогу, а белая бакавіна печкі заплывае чырвонай, крывавай плямай, што шырыцца на вачах у Франца (і ў вачах Франца).

Нейк адчужана ён пачуў гук свайго аўтамата, што ўпаў пад ногі. Нехта яго штурхае ззаду (Паліна), ён пераступіў аўтамат і апынуўся ля ямы, што вяла пад падлогу. Паліна трымае яго за плечы, нахіляе:

— Туды! Там ёсць ход! Туды!

Франц паспрабаваў нешта растлумачыць, спытаць, павярнуцца да яе, але чужыя рукі ўчэпіста і ўпарта скіроўваюць яго некуды. Толькі б далей ад гэтага жаху: Франц ступіў на лесвічку, адразу ж нязграбна слізгануў з яе і ўпаў каленьмі на нешта слізкае, коўзкае. Рукі загрузлі ў бульбе, мокрай, падгнілай.

— О Божа! О Божа! О Госпад Бог!

Старая тут, жывая, але яе не відно. А Паліна закрывае за сабою вечка падполля. Шэпча:

— У цябе ліхтарык, запалі ліхтарык!

Дзейнічае надзіва ўпэўнена, з разлікам, быццам не раз з ёю такое адбывалася. Гэта прымушае падпарадкавацца і чакаць яе распараджэнняў. Праціснулася каля Франца, скіравала прамень ліхтарыка ў руцэ Франца на патрэбную ёй сценку і адразу стала зрываць, здымаць з яе драўляны шчыт.

---

* Вылазь наверх (*ням.*).

** Ты што, засранец, сядзіш? (*Ням.*)

— Ціха вы, мама! — прыкрыкнула на старую, што вохкала, стагнала.

За шчытом адкрылася дзірка-лаз. Паліна падсаджвае маці:

— Вы першая. Толькі ціха. Не бойцеся, татка вучыў вас, вы ж помніце.

Бездапаможна, бы ў жабкі, заторгаліся і зніклі ў чарнаце скрыўленыя ногі, на Франца жмурачыся (промень ліхтарыка б'е ёй у вочы) глядзіць Паліна. Вялікія спалоханыя дзіцячыя вочы, не верыцца, што гэта яна так сурова распараджалася. Просіць:

— Паўзі цяпер ты, а я зачыню за сабой. Там у нас схованка, такі вялікі склеп. Спецыяльна мой фатэр зрабіў для нас. Нас не знойдуць, не бойся.

Франц поўз па халодным пяску, плячыма, локцямі, галавой адчуваючы дошкі вузкай, як труна, нары.Даводзіцца віцца, як чарвяку. Ён ужо і здаецца сабе чарвяком, у адзін міг з самаўпэўненага вясёлага гітлерюгенда, з начытанага, музыкальнага сына паважанага ў наваколлі пастара ператварыўся ў нешта запалоханае, паўзучае, што шукае ратунку. Чуе, як наперадзе цяжка крэкча старая, услед за ёю адпаўзае ад усяго ранейшага, ад сябе былога. Як хутка ўсё змянілася. Усё было і нічога не засталося. А недзе ззаду — Паліна. Адзінае, што яшчэ засталося на зямлі (пад зямлёй!) для яго, як праменьчык надзеі, — гэтая спалоханая, але такая рашучая дзяўчынка. Франц скіраваў ліхтарык назад і ўбачыў… аголеныя белыя лыткі ног, стаптаныя чаравікі. Паліна паўзла нагамі наперад — скеміў: яна зачыняла лаз шчытом, маскіравала і не змагла развярнуцца ў вузкай нары.

— Патушы зараз жа! Ты што? — гнеўны дзявочы голас.

Некуды зніклі рухавыя ногі старой. На руках Франц споўз, спусціўся ў нейкую яму, пасвяціў і агледзеўся. Тут скрынкі, на адной ужо ўселася старая, стаяць бочачкі, вядро і нават кружка ля яго — усё нарыхтавана для працяглага сядзення. Старая паказвае: сядайце і вы! Сказаў машынальна: «данке», а не «дзякуй» — нямецкае слова для самога прагучала па-чужому, адразу павеяла пагрозай. Яны там знойдуць забітага Ота, а можа, ён толькі паранены, раскажа, хто ў яго страляў. Аўтамат Францаў застаўся ў хаце. Лепш бы згарэў дом, так надзейней было б, трэба было падпаліць, раней чым хавацца — з баязлівай жорсткасцю падумалася Францу. Яму не да самаацэнак. Дый не пра сябе ён думае, больш баіцца (упэўнены ў гэтым) за родных, калі ўсё раскрыецца, іх у Германіі чакае лагер, ганьба, нянавісць і пагарда суседзяў.



Паспешліва ў склеп слізганула Паліна, балюча аб нешта стукнулася, войкнула, сярдзіта паправіла на сабе спадніцу.

— Памажы мне.

Ага, і тут ёсць шчыт, можна задраіць дзірку-лаз, што вядзе да хаты. Паліна растлумачыла непраўдападобна абыякавым тонам:

— Гэта ад дыму, калі гарэць будзе хата, — і прастагнала: — О Божа, што цяпер там?!

## 4

Дым у зямлянку пранік зусім не з таго боку, адкуль прыпаўзлі. Паліна растлумачыла:

— Гарыць лазенка. Нам туды выпаўзаць.

Але тут жа дым паваліў і праз шчыт на супрацьлеглай сцяны — дзе хата. Паліна шэптам супакойвала маці:

— Абы жывыя засталіся. Не плачце, а то яшчэ пачуюць!

Хутка ўсіх пачаў душыць кашаль. Паліна і Франц міжволі прыціскаюцца да пляча адно аднаго, каб не так чуваць было. Нехта гулка прабег проста над галавой, стрэл, другі. Старая, заціскаючы твар, упала проста на дол: Франц з бессэнсоўнай паспешлівасцю патушыў ліхтарык. Як бы ад надышоўшай цемры, чутней стала, што робіцца на паверхні. Машыны равуць, і стральба. Ці гэта полымя так гудзе і страляе? Некалькі разоў цяжка стукнула, глухія выбухі збоку, як бы з глыбіні зямной, пасыпаўся зверху пясок.

А можа, і насамрэч бой пачаўся, падышлі партызаны? Калі і так — адначасова падумалі Паліна і Франц — калі выйдзем на паверхню, а там ужо нашы (а там — гэтыя, каго называюць бандытамі), брат Павал і тата прыбягуць, забяруць і Франца, але мы яго абаронім, растлумачым, як немец выратаваў нам жыццё (тварам да твару апынуся перад бязлітаснымі, жахлівымі партызанамі, але, прынамсі, маёй сям'і не будзе пагражаць Дахаў).

Франц заснуў, нейк адразу, як, здаралася, засыналі дзеці ў самай страшнай сітуацыі (б'юць, паляць) — менавіта ў самы жудасны момант. Паліна не адразу зразумела, чаму ўздрыгваюць плечы Франца, што ацяжэла прытуліўся да яе, а калі раптам зразумела — яе сэрца востра пранізаў адвечны жаночы боль і жаль да мужчыны, амаль як да дзіцяці. Немец-хлапчук спаў. Ён плакаў.

— Бедны, плача, — сказала старая, — таксама чалавек. Божа мой, Божа!

А Францу снілася яго кватэра ў Дрэздэне: за даўгім хатнім сталом нейкія людзі, мабыць, госці, але ўсе маўчаць і глядзяць на строга, ва ўсё чорнае апранутага бацьку і разадзетую, як дзяўчынка, маці Франца, якая і з выгляду не старэй за яго сясцёр. Яны таксама за сталом, з імі Паліна. Самая малодшая ў сям'і, Галена, крычыць (чамусьці па-руску):

— У нас вяселле, Франц. Глядзі, якая нявеста. Чаму ты плачаш? Ты іх напужаеш.

— Ота ім расказаў, — ціха кажа Паліна і незразумела: — Але ты не бойся, ён мёртвы.

Ачнуўся, мабыць, ад блізкага выбуху, не разумее, дзе ён, цёмна, як у магіле, але побач нейчае дыханне, нейчая прысутнасць. Далонню правёў па твары сваім, шчыміць скура ад салёных слёз. У горле пяршыць — гэта ад дыму. Немагчыма дыхаць.

— Дзе ліхтарык, запалі, — Палінін голас.

Франц намацаў на скрынцы круглую рукаятку, запаліў святло і канчаткова вярнуўся, вырваўся са сну.

— Табе лягчэй? — спытала Паліна і растлумачыла, у голасе паблажлівая ўсмешка. — Ты заснуў.

— Так! Сон такі!

— А там сціхае, чуеш? Ты нахіліся долу, там менш дыму.

На гадзінніку Франца (Паліна ўзяла ягоную руку, каб паглядзець) поўдзень ужо.

Яшчэ цэлая вечнасць мінула, нешта ў гэтым свеце скончылася назаўсёды, а яны трое ўсё яшчэ жывыя. Дым больш не валіць са шчылін, але ўсё роўна сухім туманам стаіць перад вачыма, ён у грудзях, у лёгкіх, здаецца, што і галаву, і сэрца — усё, усё запоўніў. Паліна не вытрывала, пачала здымаць шчыт з боку, як яна сказала, лазенкі. Франц кінуўся на падмогу. Пра сябе падумаў: «Wie ein Unterseeboot»*.

Паліна не гаворыць, *каб іх не напалохаць*, але сама замірае ад думкі: а ці ўдасца выбрацца, раптам абодва выхады — і праз лазенку, і праз хату — завaліла так, што не выдзерашся? Францу не дазволіла паўзці за сабой (не будзе чым дыхаць двaім у нары!), падбіраючы спадніцу, падсаджаная Францам (усё-ткі паправіла яго рукі, калі ўзяў яе нібыта не так), уціснулася ў нару і знікла. Францу і старой здалося: доўга, нясцерпна доўга яе не было. Спачатку чуўся асцярожны кашаль, а затым і яго не стала чутно. Франц бессэнсоўна спрабаваў промнем ліхтарыка высвеціць задымленую дзірку, ужо і батарэйкі садзіцца сталі,

* Як падводная лодка (*ням.*).



святло цьмянае. Нарэшце з'явілася, і зноў перш ногі, чаравікі, белыя лыткі ног. Франц — ад бяды далей! — адвёў святло ўбок. Прыняў на рукі яе лёгкае стомленае цела, памог стаць на ногі. Што, што там?

— Яшчэ агонь там, жар. Трэба пачакаць.

Выбраліся толькі апоўначы. Усё роўна іх сустрэў несатлелы жар. Франц на гэты раз папоўз першым і атрымаў апёкаў больш. Яму давялося разграбаць выхад. Прапаліў мундзір на локцях, штаны на каленях. Шчыміць скура на запясцях, шчака, шыя гараць ад апёку, колькі ні аблізвай іх, не змочвай слінай. Але ўсё-ткі ён падняў, адкінуў вечка (вуголле так і пасыпалася на яго), зрабіў выхад, затоптваючы і раскідваючы чырвонае вуголле, памог выбрацца на паверхню жанчынам. Ужо ноч, але ўся распаленая, куды ні глянь, бачныя за ствaламі і скрозь сукі садовых дрэваў папялішчы, што ўсё яшчэ вогненна тлеюць, раздзьмухваюцца ветрам. Ад хаты Кучарыхі засталася адна печка, знізу чырвоная, падсвечаная жарам, вышэй бялейшая, а яшчэ вышэй — як цёмны абеліск, што ідзе ў чорнае неба. Уражвала цішыня: недзе выў сабака, яму падвываў яшчэ адзін, але гэта не парушала мёртвай, нейкай нетутэйшай цішы, здавалася, яна ідзе проста ў космас.

Людзей, што перажылі смерць сваёй вёскі, — думаю, і тыя, хто жыўцом гарэў у Дрэздэне, маглі б засведчыць, — аглушала думка, перакананне: *усюды так! На ўсёй зямлі! У гэтую хвіліну забіваюць усіх!..*

Завыла Кучарыха на поўны голас, ужо не баючыся забойцаў, карнікаў. Быццам і іх таксама не засталося! Кінулася да свае хаты, аббегла вакол пажарышча раз, другі, як бы спрабуючы дабрацца, дацягнуцца да сіратліва бялеючай печкі, прыпасці, абняць. Паліна чамусьці адышла ад Франца, ён машынальна рушыў услед, яна яшчэ далей пад дрэвы адступіла. І калі ён зноў захацеў наблізіцца, раптам закрычала не сваім голасам:

— Што ты ўсё аблізваеш свае рукі? Што, баліць? А ім не балюча было? Дзеткам! Жывымі ў агні!

І зарыдала, закінуўшы галаву, схапіўшыся рукамі за ствол дрэва.

— Фашыст! — праз рыданне. — Ненавіджу! Усе вы фашысты!

Франц адышоў убок і сеў на нейкі слупок. Паклаў на калені сваю пляскатую сумку. Там у яго прыбор галіцца, мыла і яшчэ — чорная круглая граната з блакітнай галоўкай. Жыць яму не хацелася.

5

Было б бяспечней пайсці ў гушчар лесу, куды-небудзь на балота, але нешта трымала іх у вёсцы, якой ужо не было. Удзень абышлі сяло — ад пажарышча да пажарышча. Кучарыха час ад часу хапалася клікаць гаспадароў:

— Хведарка! Прузына! А дзе ж вы, чаму не выйдзеце да нас, чаму не паклічаце нас у госці? Ці мы правініліся перад вамі? А мая ж ты Ганначка, а ты ж заўжды павітаешся, спытаеш пра дзетак, пра ўсё распытаешся. Што ж ты маўчыш, не чуваць цябе?..

Паліна і Франц ішлі наперадзе, але таксама не разам, кожны сам па сабе — лепш каб Франц наогул не хадзіў з імі. Але ён не адстае.

Ужо некалькі разоў дождж браўся астуджваць неастылую зямлю, чорныя папялішчы, але ўсё яшчэ гойдаліся блакітныя дымкі то ў адным, то ў другім месцы — быццам нейчая затрымалася душа.

Палілі вогнішча: трэба было есці, кіпяцілі ваду. Праз лаз на месцы спаленай лазні выцягнулі нейкія сухары, старое ёлкае сала, жоўтае вязьмо рэпчатай цыбулі, бульбу — што назапашана было на такі, відаць, выпадак. Жылі, як бы некага ці нечага чакаючы. Толькі некалькі сутак мінула з тае ночы, як выбраліся на паверхню, а здавалася — прайшло Бог ведае колькі часу. Вось так сядзелі ля агеньчыка, акрытыя чорным з рэдкімі зоркамі небам, як раптам Франц, азірнуўшыся, быццам паклікалі яго, ускочыў на ногі. Услед за ім — Паліна са старой. Хто, што?! А на іх, уставіўшыся з ночы, глядзяць вочы, мноства запаленых вачэй! З усіх бакоў. Кучарысе здалося — душы людскія, яна пачала хрысціцца, але тут жа ўсіх супакоіла:

— Каты, гэта каты. З усёй вёскі сышліся — на пах ежы, на жывую прысутнасць людзей.

Франц сваім склюдам насек, нарыхтаваў для ўсіх яловага голля, наламаў бярозавага сучча, што пахла ўжо вясной, сокам, — на чым спаць. У Паліны і старой агульнае ложа пад шырокай яблыняй. У Франца — сваё, наводшыбе. Але які там сон, холадна начамі і наогул не спіцца. Старая сабрала побліз нейкія абгарэлыя, з брыдкім пахам палавікі, радно. Каб было чым акрыцца.

А раніцой Паліна раптам пачула: птушкі пяюць! І ўсе гэтыя дні, мабыць, гучалі іх галасы.

— А дзе мы яго схаваем? — спытала Кучарыха, якая таксама не спала.



— Няхай ідзе, адкуль прыйшоў! Што яму тут рабіць?

— Хто ж яго, дачушка, прыме? Не іхны і не наш. Прыйдуць партызаны, і таксама невядома, як на яго паглядзяць.

— Я і кажу. З'явяцца героі. Калі адны вугольчыкі ад людзей засталіся. Як жа, немца ў палон узялі!

— Ці жывы Паўлік, бацька? О Божа святы!

Над шэптам людзей — птушыны разгай. Іх дом — сады, падлесак бярозавы — цэлы. Даюць знаць, што яны ёсць, жывуць, цэламу свету, не баючыся. Пі-ікаюць пеначкі, бы стракозы, сквірчаць шпакі, на ўзлеску (першы раз сёлета) паспрабавала свой голас зязюля, Паліна толькі пачала лічыць — тая падлік абарвала.

Паліна паглядзела ў той бок, дзе пад старой парэпанай ігрушай спіць немец: падцягнуў ледзь не да падбароддзя калені, акрыўся брудным палавіком — як у мамкі ў гасцях. Хто цяпер адзінокі ў гэтым свеце, дык гэта ён. Паліне ў цяжар, мука, як асуджана Франц ходзіць за ёю, як глядзіць, але з сабой нічога парабіць не можа: як выйшлі на свет, як пабачыла апусцелую вёску, быццам у ёй нешта замкнула. Не можа яго ні бачыць, ні чуць.

А тут нешта ў ёй здрыганулася, як абарвалася: зацеплілася шкадоба да гэтага, страшна сказаць, немца. Тут жа вырашыла: трэба яго пераапрануць, выкінуць, схаваць усю конскую збрую, што на ім, гэты ненавісны мундзір. У хованцы, там, у скрынках, схаваныя бацькавы і брата старыя апраткі, бялізна. Хаця цяжка будзе падабраць пад гэтую каланчу, да бязглузда доўгіх рук і ног нешта вартае.

Пераапрананне ажыццёўлена было тут жа, яшчэ бульбу Кучарыха не паспела зварыць. Штаны і пінжак, некалі купленыя ў сельпо, даўно страцілі фабрычны колер, ну, а кашуля, бялізна — наогул саматканыя. І світка на ім — таксама з рудога самаробнага палатна. На ногі Паліна не знайшла нічога. Няхай застаюцца на ім нямецкія боты, іх цяпер і партызаны носяць. Затое бялізну адшукала новенькую, з свайго палатна. Так, шорсткае, не так яго адбельвалі раней, да вайны, затое неапрананае. (Колькі яно пакут пасля прынясе беднаму Францу, не здагадвалася.)

Франц схаваўся ў яшчэ бязлістыя кусты і там пераапранаецца. Час ад часу радасна паказвае, што зняў з сябе і што апранае. Паказаў рэмень з усёй салдацкай аснасткай, дыскамі аўтаматнымі, з круглым карабком супрацьгазу. Паліна махае рукой: кінь і гэта! Калі свайго жыцця не шкада, гэтага не шкадуй.

Вярнуўся з кустоў зусім іншы Франц. Хоць ты з ім на петухоўскую вечарынку ідзі. Не, вядома, не на вечарынку ў гэтых караўках, хутчэй на калгасны сход ці ў абору. Але гэта тое, што трэба, — зноў жа калі жыць хочаш. Немец сумленна паказаў: круглую гранату ён сабе пакідае. Паднёс да ўсмешлівага твару і прадэманстраваў, як ён адкруціць блакітную галоўку гранаты, як пацягне за яе і… Рукой, пальцамі змяў свой твар, як памідор. І растлумачыў:

— Butiges Fleisch*. Ніхто не пазнае немца Франца. Што яго фатэр і мутэр жывуць у Дрэздэне.

Паліна бачыць, што на руцэ ў яго (рукавы кароткія) паблісквае, кідаецца ў вочы, «не наш» гадзіннік, але не выкідаць жа і яго. Будзе насіць у кішэні. Ён ужо нечага напхнуў туды.

— Добра, што ты па-нашаму кеміш, але вымова — ну проста гарачая бульба ў роце. Зробім так: ты будзеш нямы, а гаварыць буду я!

6

— Пайду схаджу да Пархімчыкаў.

Або:

— Адведаю бабку Капусціху.

І ідзе. Да суседзяў, ледзь не на ўвесь дзень. Гэта яна наведваецца да нябожчыкаў. Паліну палохае, з якім спакоем, як сур'ёзна гучыць яе: «схаджу», «адведаю». Ні слязінкі ў голасе, а твар, вочы маці — нейкія нетутэйшыя. Каб жа, ратуй Божа, не кранулася з розуму.

Яна пастарэла за гэтыя дні. Старонія называлі яе бабуляй даўно, яшчэ калі Паліна дзяўчынкай была. Не згаджалася:

— Няпраўда! Мая мама самая маладая!

Паліну нарадзіла, калі ёй пяцьдзясят ужо было, Паўліка — на год з палавінай раней. А датуль усё не было ў сям'і дзяцей. Вось і атрымалася: малыя дзеці, а маці — «бабуля». Але ў вёсцы на гэта ніякай увагі, старых могуць назваць — «дзеўкі», маладзіц — «бабкі»: хоць гаршком назаві, адно ў печ не стаў!

Паліна высачыла, куды і чаго маці ідзе зранку. Нічога, толькі збірае на пажарышчах костачкі, чарапы спаленых і складвае ля печы. Як каля помніка. Прачытаўшы малітву, пераходзіць у наступны двор. І так увесь дзень. Паліна стала прыносіць ёй паесці, папіць. Моўчкі прыме чорнымі ад сажы рукамі, з

* Крывавае мяса (*ням.*).



адсутнымі, пустымі вачыма пад'есць, на пытанні не адказвае. Паліна таксама змоўкне, пасядзяць побач, і Паліна вяртаецца. Цяпер ідзе да Франца. Ён звычайна сядзіць ля вогнішча, добра, калі ёсць занятак — сачыць, ці спяклася бульба, а то не ведае, куды сябе падзець, увесь час шукае вачыма Паліну. Яна ў іх за разведзяшчага ці, калі па-даваеннаму, за брыгадзіра. За ўсіх павінна галава балець.

Паліна і Франц цяпер начаваць ідуць у лес, хаця і недалёка. Каб, калі што, яны першыя, а не іх, прыкмецілі. Акрамя іх траіх у вёсцы жывымі засталося яшчэ колькі курэй, кошкі, сабакі. Прыцемкі ўжо не пахнуць каравякамі. Але ў жывых у кожнага свой занятак, свой клопат. Паліна выявіла, што сабакі, якія не збеглі ў лес (сустрэнеш і палохаешся: воўк!), таксама вышукваюць курыныя яйкі, жаруць іх разам з шкарлупіннем. А яна сама ўзялася яйкі збіраць, каб «карміць сям'ю» — маці, Франца. Смешна ўспамінаць, але дзед Пархімчык так тлумачыў нянавісць немцаў да габрэяў: і тыя, і другія любяць яйкі, для ўсіх не хапае. Як цяпер у Паліны з сабакамі.

Так пражылі тыдзень, другі. Дні не занятыя, доўгія. Бадзяліся па лесе, белым ад бяроз, запоўненым вясновым сонцам і птушынымі галасамі, не сядзець жа на месцы. У адну з цёплых травеньскіх раніц здарыўся цуд. Ці як гэта назваць? Жыццё такое, што ўвесь час услухоўваешся. А тут — нейкі шэлест, крадком, як бы дробны дожджык па лісці прабег. Але на небе ні хмурынкі, і на дрэвах лісця ўсё яшчэ няма. Тут Паліна ахнула: гэта ж пупышкі, лісце бярозавае распускаецца! Мільярды аднячасова, аднамомантавыя электрычныя зарады выбухаюць! Зацерабіла Франца: чуеш?! Чуеш?! Ён глянуў на шчаслівую Паліну, глянуў уверх і — малайчына! — адразу скеміў, пра што яна.

— Wie bei einem Kommando! — і сам пераклаў: — Як па камандзе!

Самае дзіўнае: пачынае здавацца, што не толькі над галавой выбухаюць пупышкі — бярозавыя бомбачкі! — але і далёкія-далёкія чуеш, гук зліваецца ў агульны электрычны шэлест.

І тут Паліна і Франц нырнулі на зямлю: як быццам цела пранізаў віск сапраўднай бомбы. Як стаялі, так і ўпалі, схапіўшыся за рукі, пацягнуўшы адно аднаго да долу: убачылі сярод дрэваў людзей, рух сярод нерухома-белых бяроз. Зялёныя мундзіры — немцы! Франц панічна зашнырыў рукой у кішэні, ярасна спрабуе адарвацца ад рук Паліны, адкаціцца ўбок: гэта ён

гранату выцягвае — Паліна ўбачыла чорнае яйка і яшчэ больш учэпіста ўпілася ў ягонае рукаво! Кінь, кінь, выкінь!

Няўжо і сапраўды ёсць нешта страшнейшае за смерць? Ды колькі хочаш — у гэтым жыцці, не адзін чалавек у гэтым пераконваўся. Вось і Франц вырашыў: «крывавае мяса», але толькі каб не ўзялі яго жыўцом, не прызналі ў ім «свайго», немца! Змог бы ён ці не змог — калі б не перашкодзіла Паліна, — хто ведае. Але што ён больш, чым смерці пужаюцца, сваіх спужаўся — гэта было. Такое бывае з людзьмі.

З нейкага часу мяне займае пытанне: што было ў фюрарах ХХ стагоддзя, што магло мёртва паралізаваць волю іншых людзей? Ці, можа быць, *гэта* знаходзілася, змяшчалася не столькі ў фюрарах, «правадырах», колькі ў навакольных людзях? Якое такое рэчыва з лішкам прысутнічала, вылучалася арганізмамі ХХ веку?

Сцэна. «Пры нас» гэта адбывалася, але зразумець да канца гэта немагчыма нават сучаснікам, не кажучы ўжо аб тых, хто ідзе на змену.

За сталом сядзяць салідныя людзі — і не проста, а тыя, каго называюць «людзьмі навукі», «людзьмі мастацтва», у іх вытворчая нарада. Не сядзіць, а ходзіць толькі адзін чалавек, ходзіць за спінамі тых, хто сядзіць, раскурвае смярдзючую люльку, папыхвае. У нейкі момант, калі галоўныя пытанні «вырашылі», той, хто праходжваецца, прамаўляе за спінамі:

— А цяпер мы павінны разгледзець пытанне аб варожай дзейнасці таварыша Н. у галіне тэатральнай справы.

Уявім сабе, што не ўсяго толькі словы прагучалі, а блізкая, «на паражэнне», аўтаматная чарга — як паводзілі б сябе ўсе гэтыя людзі? І той, з люлькай? Мабыць, апынуліся б пад сталом. Страх смерці іх скінуў бы туды, на падлогу. Але каб ускінуцца на стол і пеўнем закукарэкаць (а менавіта гэта адбылося ў рэальнасці) — тут страху смерці мала. Трэба яшчэ, каб волю сваю ты (сам) некаму перадаў. Як кажуць, дэлегаваў — чалавеку-вампіру. Смактуну чужой волі.

У спробе схавацца ў смерць Франц, што курчыўся на зямлі, быў адным з такіх — з абязволеных вампірамі. Ну, а па наш бок — ці шмат было з нявысмактанай воляй? І як нялёгка, не проста яе сабе вярталі — і тады, у вайну, і шмат гадоў, ды не, дзесяцігоддзяў пасля.

— Не вашы, не немцы! — крычала Францу Паліна, а ён быццам аглух, усё вырываецца, хавае пад сябе гранату.



Нарэшце, здаецца, сам разгледзеў, што набліжаюцца людзі, хаця і са зброяй, але ў звычайным цывільным адзенні, якое і на ім, і толькі адзін з іх ва ўсім нямецкім. У дзве рукі, Франц і Паліна, сунулі чорнае яйка смерці пад леташняе лісце і адскочылі ўбок. Гэта не маглі не заўважыць тыя, хто падыходзіў. Адзін з іх, ва ўсім зялёным, раней, чым наблізіцца да іх, завярнуў да таго месца, дзе пакінулі гранату. Калупнуў чаравікам, нагнуўся і падняў. Гучна хмыкнуў. Калі нарэшце ён павярнуўся спінай, на яго нямецкай пілотцы Паліна разгледзела чырвоную зорачку — ззаду, ён чамусьці яе адзеў перадам назад. У двух другіх чырвоныя стужкі — на зімовых шапках. На адным кажушок, на другім світка, не лепшая, чым Францава. У «немца» варашылаўскія вусікі. (Франц таксама адзначыў: як у фюрара!) Паліна трымае руку каля рота як бы ад спалоху, але гэта для Франца: падказвае яму, нагадвае, што ён нямы. Пастух калгасны, дурненькі. О Божа, гадзіннік! Вось яго забыліся зняць з рукі, схаваць: тоненькі, не наш, адразу бачна. А яшчэ боты нямецкія! «Немец» прыглядаецца да Франца нейкім паляўнічым позіркам.

— Нямы ён, гэта мой брат, — тут жа затараторыла Паліна, сама адзначыўшы, якім раптам бабскім зрабіўся яе голас.

Прыжмураныя вочы «немца» з вусікамі (ён самы нізкарослы з усіх) не адпускаюць Франца, і той, бедны, стаіць перад ім, як перад начальнікам.

— Адкуль такі? — паказаў на гадзіннік. — Трафейны? Боты таксама?

І ўвесь час падкідвае на руцэ Францаву гранату.

— Брат, кажаш? — павярнуўся да Паліны і раптам — да Франца: — Як цябе звалі, калі ўмеў гаварыць? Імя як тваё? Што на яе глядзіш, я ў цябе пытаю? Пакажы гадзіннік. Замаскіраваўся, толькі б дома адседзецца. На цябе можна пліту мінамётную ўзваліць. Станкач неразабраны.

У адной руцэ ў «немца» Францава граната, у другой ужо і гадзіннік. Цяпер ён позіркам ацэньвае боты.

— Трафейныя, давядзецца здаць.

Твар прыдуркавата-строгі — вялікі, мабыць, майстар па трафеях. Яго саўдзельнікі глядзяць на яго таксама цікаўна. Ткнуўшы пальцам у самага пажылога, загадаў Францу:

— Вось з ім памяняйся.

Ох, і сказала б яму Паліна, калі б не баялася, што разгадаюць, хто такі Франц. Няхай забіраюць усё, абы толькі адчапіліся.

— Ну што ты, як певень перад курыцай, тупаеш? — уляцела і пажылому партызану ад «Варашылава». — Здымай і мяняйся.

Бачыш, хлопец рашыў памагчы народным мсціўцам! Раз сам не ваюе, няхай паможа.

Разглядае Францаў гадзіннік ужо на сваім запясці:

— Во, тут не па-нашаму напісана.

Нарэшце пацікавіўся:

— Вы з якой вёскі?

— З Петухоў.

— Дык вас жа спалілі.

— Гэта мы ведаем.

Усё-ткі збянтэжыўся.

— Вы не крыўдзіцеся. Мы не ведалі, што вы петухоўскія.

Але чамусьці не вярнуў «трафеі».

7

Дзень пачаўся, як звычайна. Прачнуліся ў ранішнім сутонні густога лесу пад яловым шатром-балдахінам. Па адзін бок таўшчэзнай яліны з падцёкамі смалы ляжала Паліна, акрыўшыся старэнькай з праплешынамі плюшавай жакеткай, па другі, нацягнуўшы да падбароддзя вясковую ваўняную світку, — Франц. Змрочнае дрэва паміж імі, як строгі вартаўнік. Парушальнікаў не было: паспрабаваў бы гэты немец яшчэ раз, як тады! Дасюль на шчоках, на лбе ў яго меткі ад кіпцюроў Паліны. Весела скардзіцца, што кляшчы на яго дажджом сыплюцца. Во, і на шыі, і за вухам. Паліна паглядзела (пакорліва схіліў каротка голеную галаву), пераканалася: чарнеюць адарваныя галоўкі, скура запалілася. Не хлопец, а трыццаць тры няшчасці, гэты Франц. Беды на яго сыплюцца, як гэтыя кляшчы.

У двары спаленага Падабеда, ён жыў ля самай рэчкі, знайшлі лазовую вяршу-таптуху — Паліна навучыла, як лавіць уюноў, Франц натупаў з дзясятак змеепадобных вёрткіх рыбак. А скулаў займеў яшчэ больш — усяго абсыпала. А можа, таму, што на зямлі даводзіцца спаць, ночы халодныя? Бялізна з шорсткага вясковага палатна нацерла мяккія месцы, цяпер ён ногі ставіць уроскід, як цыркуль, — здохнуць можна, як ён ходзіць. Сябры Паўла, партызаны, называюць гэта: здагнаў воўка! Добра яшчэ, што не ные, сам над сваімі бедамі паджартоўвае. Запэўнівае, што абавязкова сваёй мутэр завязе і пакажа: якую бялізну сын яе насіў. «Калі быў у партызанах», — ад сябе дадала Паліна. Франц змоўчаў: мулкае для яго слова, накшталт гэтай бялізны. І насіць немагчыма, і іншага няма, сваю, нямецкую, затаптаў у балоце.



І вось надышоў дзень, якога Паліна і чакала як ратунку, і адчайна баялася. З лесу ўбачыла ля свайго двара верхавых на конях, адразу ж пазнала Паўліка, стаіць побач з маці. З ім, мабыць, яго разведчыкі, наязджалі вось так неаднойчы.

— Сядзь і сядзі тут, — загадала Францу, паказваючы на нагрэтае сонцам падгнілае бервяно, — пакуль я не вярнуся. Або паклічу. Толькі не ўцячы! Не пойдзеш?

— Не пайду.

Ну зусім як разумнага сабаку яна яго ўгаворвае. Але ім не да смеху. Франц нейк панік, твар сшарэў.

І Лазарчука пазнала здалёк, ён з Зарэчча, вёска гэтая некалі сапернічала з Петухамі: у каго больш зычныя і шматлюдныя вечарынкі. І трэці нехта з імі, сядзіць на кані, трымаючы на каленях вінтоўку. Што, што ім расказала мама? Пра Франца. Яна ўгледзела ўжо на агародах Паліну, што бяжыць да іх, паказвае ў яе бок. Што ім сказаць? Павязуць у атрад, а там што? Ці з ім гэтак жа будзе, як з трыма нямецкімі афіцэрамі? Самі перайшлі да партызанаў, уцёкшы з Бабруйскага аэрадрома, а датуль працяглы час пастаўлялі атраду розныя звесткі, медыкаменты. На машыне прыкацілі, усяго навезлі. Іх спачатку прынялі з пашанай, нават пісталеты не адабралі. А потым — арыштавалі. Быццам атруту знайшлі. Паліна бацьку давярае, яго спакойнай разважлівасці, вопыту, ну не Паўлу ж верыць — такому ж, як сама, школьніку? Для школьнікаў усё адразу ясна. А бацька ўсумніўся:

— Які там мыш'як? Для сябе ампулу зашылі ў каўнер. Не да цешчы на бліны ехалі. А ў нас рады прыдумаць: хацелі атруціць некага, камандаванне! Адзначыцца трэба было асобаму аддзелу — вось і ўвесь мыш'як. Жывога немца ідзі злаві, а тут самі ў рукі прыйшлі.

Кінулася брату на шыю.

— Вось што з намі, Паўлік, зрабілі, пабілі, папалілі!

— Бачу! — які ж ён стаў худы, вочы ўваліліся, рука падвязаная. Зморшчыўся: Паліна неасцярожна кранула яе.

— Паранілі цябе?

— Ды ерунда!

У яго ўсё глупства, драбяза. Раптам прыкінула: а яны, бадай, аднагодкі з Францам, васямнаццаці няма.

— Донька, дзе вы там ходзіце? А ён дзе? — спытала Кучарыха.

Сказала, расказала пра Франца, пра немца!

— Ну дзе твой фрыц? — пацікавіўся Павал.

Лазарчук, што стаяў ля каня, глядзіць дапытліва. Вочы незнаёма жорсткія. Аброс так, што і хвацкія бакенбарды яго зніклі. Як часнок у лебядзе ў дрэннай гаспадыні.

— Ой, мама! — Паліне чамусьці лягчэй сваю нечаканую выдумку-хлусню паведамляць усім праз маці. — Забралі Франца! Нейкія з не ведаю якога атрада. Забралі гадзіннік, боты, як я пабачылі шкарпэткі з блакітным паяском: «А, немец!» І павялі. Я ўжо ім і пра тое, як ён нас выратаваў, што ён не забіваў, не паліў, — не паверылі, забралі. Не ведаю, што з ім зробяць.

— А што з ім рабіць? — глуха вымавіў Лазарчук. — Ясна што.

— Ён жа нас ад лютай смерці… — узмалілася Кучарыха.

— Дайце, маці, за зло расквітацца. А ўжо затым астатняе, — абарваў яе Лазарчук.

Умяшаўся Павал:

— Мы вас, мама, з Палінай забяром у атрад, калі назад паедзем. Што вам тут цяпер заставацца? Праз пару дзён. А то яшчэ карнікі вернуцца. У нас тут у яме бялізна ёсць, хлопцам, ды і мне — пераапрануцца. Завашывелі.

— А як жа! І сала, і сухары. Вось Паліна, злазь, дачушка.

А праз нейкі час брат непрыкметна адвёў Паліну ўбок.

— Дык, кажаш, павялі?

— А вы б што з ім? А, Паўлік?

— Не ведаю, як у атрадзе. Вунь у Лазарчука ўсю сям'ю выбілі, нікога не пакінулі. Ох, і палітыкі вы з мамай! Калі недалёка павялі яго, няхай ён ідзе. Раз вы кажаце, што ён такі.

— Дык ён забіў немца, яму нельга вяртацца!

— Ну не ведаю.

## 8

Воддаль, над лесам, а часта і проста над спаленай вёскай пралятаюць самалёты. Франц, прыхіліўшыся да дрэва, з хлапчукоўскай дасведчанасцю абавязкова паведаміць марку: «месершміт», «фокевульф», Паліна ў такія хвіліны раўніва заўважае, як позірк яго на час некуды аддаляецца, затуманьваючыся. Гэта ягоная Германія лётае. А сам жа ад яе хаваецца і больш за ўсё баіцца, што яна яго адшукае. Маці таксама ўсё часцей адыходзіць у сваю далеч, усё менш у яе размоваў з жывымі, яна цалкам — з нябожчыкамі.

— У сне прыходзяць: «Што ж ты нас, Кучарыха, нашы белыя косці зямелькаю не прысыплеш?» Трэба ім, дзеткі, магілкі выкапаць.



Цяпер Паліна з Францам ходзяць услед за ёю, закопваюць тое, што яна сабрала на пажарышчах. З рыдлёўкай, з кашом пераходзяць з двара ў двор. Франц на агародзе рые невялікую, але як мага глыбейшую яму («Каб, дзеткі, не адкапалі іх ваўкі, сабакі не расцягвалі»), Паліна, сабраўшы ў кош тое, што засталося ад сямейкі, нясе да ямы — закопваць. Перад гэтым магілку высцілаюць расквечанымі галінкамі з гаспадаровай ігрушкі ці вішанькі, прысыпаўшы, Франц спецыяльным валікам з круглага паленца выціскае на вільготным пяску крыж. Моўчкі перахрысціцца, і Паліна таксама. Няпраўдай было б сказаць, што яна раней ніколі гэтага не рабіла. Гэта яе таямніца, салодкая і саромная. І не набожнасць у ёй тады прачыналася, а, бадай, нешта зусім іншае. Спачатку яна рабіла гэта ў гумне, на таку, што соладка пах нагрэтымі снапамі, сенам. Зладзейкавата пракрадалася туды, станавілася наўколенцы на зацвярдзелую гліну і пачынала шчыра хрысціцца і класці паклоны. Перад гэтым паспешліва і груба мазала вусны памадай, падоранай ёй дачкой ляснічага Эвірай, хвалюючы пах нецяперашняй, чаканай жаночай долі дадаваў сораму і забароненасці. Зойдуць і пабачаць, і што ты будзеш казаць? Стала гэта рабіць у хаце, перад маміным абразком, і менавіта тады, калі нехта блізка быў: на кухні ці за акном гамоняць маці з суседкай або з бацькам — вось-вось зойдуць! Нават у школе рызыкавала гэта рабіць, калі ўсе пабягуць на перапынак (у той жа Эвіры спецыяльна дзеля гэтага выпрасіла маленькі авальны абразок) — вось дзе пачуццё сораму і забароны было самае вострае. Забягуць, пабачаць — пасля гэтага жыць стане немагчыма. Толькі памерці!

Успамінала яна цяпер пра гэта? Куды ад памяці схаваешся? Але цяпер нават смерць не дужа хвалявала, больш пужала — грубай прастатой і канчатковасцю. Гэтыя паўсатлелыя косткі нядаўна жывых знаёмых ёй баб, мужчын, дзіцячыя, яны пазбаўлялі цябе ўсякай надзеі. Кладучы крыж услед за Францам, але справа налева, як мама хрысціцца, як гэтыя некалі хрысціліся (хто старэйшы быў і чые косткі перад вачыма), Паліна толькі адгароджвала сябе ад памерлых, набліжэння не адбывалася. Хаця нават у Франца, чужога тут, яна бачыла, было інакш. Што ж яна за вырадак такі? Вось тады — незразумелая страсць шукаць саромна-забароненае (і дзе, у чым?!), а цяпер — натужная няздольнасць далучыцца да нечага, што яна ўжо ведае: *ёсць*, *ёсць*, *існуе*, але ёй пазнаць не дадзена.

— У вас у школе маліліся? — спытаў раптам Франц.

— Не, вядома! — Паліна чамусьці пачырванела.

— І ў нас таксама: вядома! Але бацька і асабліва мутэр — вельмі веруюць. Фюрара яны толькі баяцца. У вас мала цэркваў, дзе ў вас вянчаліся (ці як гэта)?

— У сельсавеце.

— Гэта… а, муніцыпалітэт! Каля пня? Старажытныя германцы так рабілі. Ці гэта гістарычны жарт, не ведаю.

Аднойчы раннім світаннем Паліна ўбачыла, што Франц ходзіць па папялішчы яе хаты, уважліва разглядвае ў сябе пад нагамі, нешта шукае. Мабыць, косці Ота хоча і баіцца пабачыць.

Кучарыха «з працы» звычайна ішла, не аб'яўляючы пра гэта Паліне, Францу: знікала і ўсё, прыходзілі ў свой двор, а яна ўжо там, варыць вячэру ці спіць, загарнуўшыся ў калгасную сваю целагрэйку.

На гэты раз чамусьці развіталася. Падышла.

— Ну я там сабрала, і там, і там. Я пайшла — пахавайце.

Паліну потым мучыла памяць, здагадка: яна сказала «я пайшла — пахавайце!» Ведала, што зараз ляжа і памрэ? Калі яны з Францам вярнуліся «дахаты», Паліну ўразіла, як падзіцячы спіць яе маці. Ірваныя свае салдацкія чаравікі акуратна паставіла ля галавы (бацька заўсёды смяяўся з Паўла, калі ён так рабіў па сялянскай звычцы), руку паклала пад шчаку, босыя ногі, падціснуўшы, схавала ў даўгой сваёй спадніцы. Гаманілі напаўголасу: няхай паспіць. Згатавалі вячэру, сталі будзіць, а яна…

Паліна не крычала, ціха і безнадзейна цяклі слёзы, усё рабіў, што трэба, Франц. У гэтай вёсцы столькі смерцяў, што закрычаць (а так хацелася!) было страшна: як у гарах з навіслым снегам і лёдам.

На мёртвым твары зноў узнікла, як бы праяўленая смерцю, маміна ўсмешка. Толькі тут скеміла Паліна, чаго неставала ўсе апошнія дні, тыдні. Усё жыццё, колькі Паліна сябе памятае, поруч быў немалады твар з нязменнай добрай усмешкай, ласкавымі рысамі, што так спалучаліся з пявучым «мамінымы» голасам. «Алтайскі галасок у нашай мамы, ведаеце, якое ў гарах рэха!» — любоўна казаў бацька. І яшчэ: «Мама наша ў дзяцінстве падмазку з'ела, заўсёды ўсміхаецца, праўда, дзеці?» Ён прывёз маму з Беламорканала, з ссылкі, бо яна — «з кулакоў». Простыя бацькавы словы пра гэта калісьці пужалі Паліну, патрабавалі іншых, а не тых, што ў яе да маці, пачуццяў. Яны вершаў, паэм столькі завучвалі пра Паўліка Марозава. Свой жа Паўлік, здавалася, не перажываў, нават калі бацька, выпіўшы (рэдка, але здаралася), абзываў сябе з выклікам: «шкоднік», «вораг народа».



Мама яго тады старалася адвесці ад дзяцей, пакласці спаць. Як з гэтым было справіцца дзіцячай душы, збістай свядомасці? Павал спраўляўся лёгка. А можа, і не так, проста характар у яго мужчынскі. («Крэмень наш Павал», — казаў бацька ці то жартам, ці то ўсур'ёз.) Паліна ж не раз начамі, плачучы, перапісвала маме і бацьку біяграфію. У яе фантазіях бацькі былі тыя ж самыя, з мамінай заўсёднай усмешкай, бацькавай рэзкай гарачлівасцю, але на Беламорканал яны ездзілі па камсамольскай пуцёўцы, і, наогул, усё, як у кнігах і ў кіно.

На агародзе каля старой ігрушы Франц капаў магілу Кучарысе. Прыкідваў, з чаго зрабіць труну. Ні дошак акуратных няма, ні інструменту. Капаў і ў думках абыходзіў двор за двaром, усю вёску, прыгадваючы, што і дзе бачыў. Пайшоў шукаць дошкі, а калі прынёс патрэбнае (нават зламаную пілу патрапіў, паўабгарэлую сякеру), пабачыў, што Паліна пабывала ўжо ў схованцы-склепе і дастала шэры валік саматканага палатна. Моўчкі, кожны сабе, рабілі. Франц толькі сачыў увесь час, ці не трэба памагчы. Прынёс з калодзежа вады, калі Паліна, падышоўшы да ямы, пастаяла, як бы што забыла і ўспамінала:

— Я сама абмыю, хоць крыху.

Бацька, можа, і не ўхваліць, што не на могілках, а проста на агародзе будзе пахаваная. Але і суседзі так — кожны ў сваім садзе. Уся вёска цяпер могільнік. Хату яны самі будавалі, бацька з маці. Вось так разам рабілі, як Франц з Палінай, але зусім-зусім іншую працу рабілі. Паліне, што ведала іх, лёгка ўявіць, як радаваліся адно аднаму і таму, што робяць. Асабліва пасля гэтага Беламорканала. Хату ставілі, нарадзілі Паўла, тут жа неўзабаве — Паліну, працавалі ў калгасе, бацька рахункаводам, мама — «куды пашлюць», дзеці сямігодку канчалі, і тут зноў забралі бацьку. Перад самай вайной. У школу хоць ты не хадзі, але Павал не адступіў, цягнулася ўслед за ім і Паліна, а там дырэктрыса-гістарычка тлумачыла дзецям: у такім вось выступленні таварыша Сталіна тое і тое, усё, што ён калі-небудзь сказаў — вернае назаўжды. Вось і пра рахункаводаў. Ворагаў трэба ўмець распазнаць пад любым абліччам, маскай: кулак не абавязкова з бярданкай або абрэзам пад крысом. Ён можа з бухгалтарскіх касцяшак стрэліць. Як сказаў таварыш Сталін. Сядзіць сабе такі ў калгаснай канторы і шчоўк-шчоўк, як з-за вугла. Нашчоўкаў і, калі ласка: каровы з бяскорміцы дохнуць, свінні і куры ад чумы, зерне мокне, гніе, на працадні — грамы.

Вясковыя «лічыльнікі» бацькі з жоўтымі касцяшкамі чамусьці не забралі, калі быў вобыск, яны дачакаліся ягонага

звароту з турмы. Калі вайна пачалася. Прачнулася ноччу Паліна ад спалохана-шчаслівага крыку маці:

— Дзеці! Дзеці!

Затым усе дружна грэлі ваду, памагалі бацьку мыцца, як немаўля, паставілі яго ў балею — вялізную і нізкую — і палівалі вадой, намыльвалі, церлі вяхоткай. А ён зусім не саромеўся свайго голага цела, непраўдападобна худога, адны косці. Шапялявіць стаў, зубоў пярэдніх няма. Маці са страхам пытала:

— Што ў цябе са спінай? Па ўсім целе — што гэта за шнары?

Спачатку бацька нічога не расказваў. Што *там* было, як ён вызваліўся. Вайна ішла, з лесу сталі наведвацца «акружэнцы», хутка гэтае слова было выцеснена іншым: «партызаны». У бацькі нейкія справы з імі пачаліся, адразу ж. Некуды іх вадзіў, знікаючы нанач, а то і на некалькі сутак. Аднойчы загаварыў:

— Паслухайце і забудзьце. Невядома, што яшчэ нас чакае ў жыцці. Але хачу, каб вы ведалі ўсё.

Пра тое, як у мінскай турме білі, выбівалі зубы і «прызнанні» ў шкодніцтве, затым нейкага «пісьменніка» прыплялі, мабыць, ён ім быў патрэбны больш, чым сам Кучэра. Раскажы, як прыязджаў чытаць вершы, а сам вербаваў для польскай дэфензівы, ахранкі! Пра тое, як гэты «нацдэм» падбіраў людзей для сувязі з замежжам. А тут — вайна, Мінск сталі бамбіць, турма трэслася ад грымотаў. Па Маскоўскай шашы ўцякалі гараджане, следам вялі «ворагаў», некалькі доўгіх калон, у аховы чырвоныя пятліцы, такія ж аколышы фуражак, вінтоўкі з даўгімі рускімі штыкамі. І гэтыя штыкі вартуюць цябе, радзіму ад цябе ахоўваюць. А немец лупіць зверху, і ты ўжо нібыта з ім супроць сваіх. Спрабавалі ўгаворваць канвой: адвядзіце нас у ваенкамат, здайце ў армію, ваяваць з немцам хочам. Заткніся, варожае адроддзе! Але вось выстраілі арыштаваных у шарэнгу, самі насупраць з вінтоўкамі, кулямёты на зямлі: нейкі загад зачытваць будуць. Маёр-энкавэдыст трымае ў руцэ паперку, дачакаўся, пакуль усіх падраўнялі, усе падрыхтаваліся, і, гледзячы ў паперу сваю: «Аго-онь!» А тут якраз наляцелі самалёты.

— Я ляжу сярод бульбянішча, скашу вочы — крыжы над галавой равуць і адтуль стракочуць. Хто яшчэ жывы, бегчы спрабуе, па тых — энкавэдэшнікі. А адзін, бачу, падбег, штыком на суседа замахваецца, як я нагамі даў яму між ног, аж узвыў. Падскочылі мы і наўцёкі, а збоку бачу: энкавэдэшнік стаў над жанчынай, на абедзве рукі нагамі, ды я-як штыком ёй у грудзі ці жывот! З усяго маху — жанчыну!



Так забівалі царскую сям'ю (сведчанне забойцы):

«…Арыштаваныя ўжо ўсе ляжалі на падлозе, сцякаючы крывёю, а наследнік усё яшчэ сядзеў на крэсле. Ён чамусьці доўга не падаў з крэсла і заставаўся яшчэ жывы. Упрытык пачалі яму страляць у галаву і грудзі, нарэшце і ён зваліўся з крэсла. З імі разам быў расстраляны і той сабачка, якога прынесла з сабой адна з дачок…

Ермакоў, бачачы, што я трымаю вінтоўку са штыком, прапанаваў мне дакалоць, хто застаўся жывы. Я адмовіўся, тады ён узяў у мне з рук вінтоўку і пачаў іх даколваць. Гэта быў самы жахлівы момант іх смерці. Яны доўга не паміралі, крычалі, стагналі, ператоргваліся. У асаблівасці цяжка памерла тая асоба — дама. Ермакоў ёй усе грудзі скалоў. Удары штыком ён рабіў так моцна, што штык кожны раз глыбока ўтыкаўся ў падлогу» (Стракоцін).

«Апошняй сканала, каторая абаранялася падушачкай, што знаходзілася ў яе ў руках… (Пакаёўка царыцы Дзямідава). Малодшая дачка цара ўпала на спіну і прытаілася забітай. Заўважаная тав. Ермаковым, яна была забітая стрэлам у грудзі. Ён, стаўшы на абедзве рукі, стрэліў ёй у грудзі» (Нятрэбін В. Н.)*.

## 9

Вырашылі пайсці з вёскі — са смерцю Кучарыхі, здавалася, яна памерла канчаткова — і пасяліцца ў лесе, куды не дабраліся б ні немцы з паліцаямі, ні партызаны. А як знайсці такое месцайка? Даганяючы, пераследуючы, уцякаючы і хаваючыся адно ад аднаго, яны бяспечных мясцін на гэтай зямлі не пакідалі.

Але пашанцавала. У густым непраглядным ельніку (праўда, прасека блізка) набрылі на закінутую зямлянку. Мяркуючы па тым, як параслі, пакрыліся грыбамі і чагай бярвенне і жэрдкі, а бляшаная бочка-«буржуйка» афарбавалася ў охру іржы, тут даўно ніхто не жыў. Магчыма, з восені–зімы 41-га, калі акружэнцы-партызаны таіліся ў лясах, выходзілі адно здабываць харч. Часам абстрэльвалі нямецкія машыны.

Прыбралі з нараў гнілое галлё, выслалі ложа свежым ельнікам і бярозай. Франц сякерай, якую з сабой прыхапілі, насек сухіх дроваў — падрыхтаваліся жыць доўга. Па лесе распоўзся

* З кнігі Алега Платонава: Убийство царской семьи. — М.: Сов. Россия, 1991.

дымок, а з ім і трывога: каб не ўнюхаў хто. Пакуль сушыліся іх апраткі, сядзелі пад дрэвамі. Франц сказаў:

— Добрая чалавек твая мутэр. Паказаць маю?

Запусціў руку пад кашулю, на далоні ў яго зазіхацеў медальён. Як гэта не ўгледзеў той, «трафейшчык»? Шнурок засмаліўся, брудны, а золата зіхціць, як жывое. Падкалупнуў пазногцем, і паказалася фатаграфія. Паліна наблізіла свой твар, на яе глядзіць строгая чужая жанчына з акуратна ўкладзенай прычоскай. Франц вытрас сабе на далонь фатаграфію, перавярнуў яе.

— Тут напісана: «Ich werde dich Schützen». «Я цябе (як гэта? Ага!) абараню». Усім ім так здаецца.

Франц доўга і нязграбна тлумачыў, што насіць гэта рызыкоўна, а замазаць нямецкі надпіс будзе нядобра, а таму просіць Паліну забраць і захоўваць, пакуль яму зноў можна будзе…

Паліна не ведала, як тут ёй быць. Нібыта яна прысвойвае права, не спытаўшы ў той жанчыны, трымаць на грудзях яе фатаграфію. Нейк няёмка перад ёю, што далёка жыве. Пацерла зіхоткае золата між далоняў, заадно і шнурок, і спусціла халоднае сардэчка пад кашулю. Памяць яе міжволі сцялася: чамусьці прыгадаўся Эвірын круглы абразок…

— Аўтаматная чарга! — Франц насцярожана ўзняў галаву. Далекавата, але чаму разрыўныя кулі паўтарылі яе зусім побач, у кустах за зямлянкай?

— Гэта ж салавей! — засмяялася Паліна. — Як будзе панямецку?

— Nachtigall. Нікому толькі не расказвай, што Франц ужо…

Пакруціў пальцам ля скроні.

— Не, праўда, падобна, — супакоіла Паліна, — во, ну зусім, як кулямёт. А цяпер палошча горла. І да вайны спявалі салаўі, але нікому ў галаву не прыходзіла такое.

— Многае не прыходзіла, — згадзіўся Франц. — А ў вашай школе…

І пайшлі разбіраць сценку няведання адно аднаго — і таго, і другога, і трэцяга няведанне. Як у вас? А ў вас як? Выявілася, што многае вельмі падобна: дзяўчаты больш разумеюць хлопцаў, чым тыя іх — што ў нямецкім Дрэздэне, што ў беларускіх Петухах. І так жа аднолькава жывуць у вечным супрацьстаянні жаночай часткі школы і мужчынскай, але здраднікаў свайму племені больш сярод дзяўчат. Вось была ў дзясятым класе Клаўка, дзеўка ніякая з сябе, у яе і хлопца свайго не было на выпускным вечары, дык старшакласнікі потым расказвалі: яна столькі пар разбіла, развяла за адзін той вечар! Нават у каго справа ішла да вяселля ўжо. І чым узяла, ты падумай! Тыя, нявесты, трымалі сваіх хлопцаў на адлегласці: пацалунак яшчэ можна, а больш — ні-ні! — гэта каб давесці іх да вяселля. Вам жа толькі саступі і — адз'ю! Гэтая нахабніца ўсім дала ўрок: танцавала з хлопцамі з усімі запар і ўсе яе наперабой запрашалі — прыціскалася, бессаромная, глядзела так, што кожны паверыў: сёння ён усё і атрымае, калі з ёю пойдзе. Ну як апаіла зеллем! І пакінула дурнямі. У нявест пасля гэтага вечара разлад з жаніхамі, у некаторых назаўсёды — адпомсціла за ўсе дзесяць гадоў няўвагі.



Паліна задала тон, Франц вось гэтак жа асуджальна загаварыў аб лёгкіх, проста-ткі свінскіх норавах сярод хлопцаў, захапіліся, ажно дыханне стала гарачым і ў яе, і ў яго, здавалася, цяпер ужо не змогуць стрымаць сябе, зблізяцца рукі, вусны, але што вы, як цяпер гэта магчыма?! Пра што толькі што гаманілі?.. Як асуджалі! Як абураліся! Збянтэжана змоўклі Паліна з Францам, адчуўшы сябе падманутымі кімсьці: наздзекаваўся і глядзіць на іх збоку, каб гучна зарагатаць пры першым іх дотыку. Расчараванa паляжалі і заснулі кожны на сваім месцы — прыблізна за метр адно ад аднаго. Але дзяўчына ўсё-ткі сказала «на расстанне»:

— На новым месцы прысніся жаніх нявесце.

Аднак сказана было гэтак іранічна, што Франц так і не адважыўся працягнуць у яе бок руку. Помніць, бедалага, кіпцюрыкі!

Перш чым заснуць, Паліна шмат паўспамінаць паспела. Віру прыгадала. Вось яна б ведала, як распарадзіцца і сабой, і Францам.

Жыла гэтая сям'я, як уяўлялася петухоўцам, «бы паны». А імя Віры — ад Эвіры, што азначае: Эпоха Войнаў і Рэвалюцыяў. Імя ёй такое дала маці, тая самая дырэктрыса-гістарычка.

Бацька Віры (пакуль і гэтых не перасаджалі) працаваў ляснічым, гаспадарка яго была ледзь не з паўраёна, дзясяткі леснікоў у яго распараджэнні, і лес з грыбамі-ягадамі, і трава на палянах, і дровы. Усё, чым у лясным краі люд жывы. Прасторнае лясніцтва размяшчалася наводшыбе вёскі, за высокай дашчанай агароджай, дзе стаяла вялізная кантора, раздольны дом ляснічага, высокія, з моцнага дрэва, цёсу, гаспадарчыя збудаванні. У лясніцтве было некалькі коней, добры выезд. Усё не як у рваным-гнілым калгасе: што збруя, што вазок — кашоўка, коні — воч не адарваць! Нават свая сажалка была за той высокай

агароджай, а зімой — каток для Віры і яе сяброў. Але сяброў у яе было няшмат. Гэта яшчэ трэба было заслужыць. І перш за ўсё — непадобнымі на агульныя паводзінамі, смеласцю ведаць тое, чаго іншыя ведаць баяцца. Сама яна была і разумніца, і красуня. Чытала шмат, але галоўнае — пра ўсё ў яе было сваё меркаванне. І сапраўды — анічога не баялася. Так здавалася Паліне. Аж галава кругам ішла поруч з ёю. Я сама сабе кніга, любіла паўтараць. І паведамляла, што падумалася, што адчулася — чаму? як так? — у такіх вось і такіх вось абставінах. Аднойчы бацька — вусаты, чарнагрывы прыгажун — яе проста высек. «З цікаўнасці», як сама казала, падпаліла капу сена проста ў двары. Дык вось: «Ён мяне пугай, пугай, так спужаўся пажару, а я ў гэтыя хвіліны любіла яго больш, чым калі-небудзь. Да слёз».

З Палінай яны, забраўшыся на сенавал, пад ластаўчына цвірканне, чыталі, дзяліліся сакрэтамі, спалі, летуцелі, як наладзіцца іх жыццё. Аднойчы Паліна папярэдзіла:

— Я паклікала Косцю і Бубліка. Выбірай, каго хочаш.

— Навошта яны мне?

— Што, трусіш? Мы ж дамовіліся.

— Ну гэта мы так.

— Так ці не так, а я іх запрасіла. Сказала: прыходзьце з цікавымі кніжкамі.

Яны і прыйшлі з кніжкамі, Бублік, той дурань дурнем, а школьны прыгажун Косцік (хутчэй па спалохана-скаваных паводзінах Паліны, чым з выклікам — Віры) зразумеў, што ўсё не так сабе. Дурыліся, валтузіліся ў сене, усё больш распальваючыся і дазваляючы сабе ўсё больш. Пакуль Паліна не зазлавала і не ўцякла да вакенца, адштурхнуўшы Бубліка. Той вінавата пацягнуўся следам. А Віра з Косцікам нейк незразумела і *страшна* аціхлі. Глянула Паліна ў паўзмрок вышак і ўбачыла голае, высока ўзнятае калена Віры і бессэнсоўнае нейкае гойданне спіны ў блакітнай майцы, спіна гэта здалася такой *мужчынскай*, агіднай. Разгублены Бублік паглядзеў на Паліну, яна затрымлівала яго вочы бессэнсоўнай усмешкай, абы ён не павярнуўся, не паглядзеў *туды*. (Але абое *чуюць* : глядзяць адно на аднаго і чуюць.)

З гэтага дня Віра ўзненавідзела Паліну. А аднойчы на зімовым катку, калі Косця, які хадзіў цяпер за ёй, як галодны сабака, прывязваў канёк да яе стройнай нагі, Віра з раптам скажоным ад агіды і нянавісці тварам з усяе сілы ўдарыла яго проста пад бараду, так што ён адваліўся на снег.



Калі Вірынага бацьку таксама арыштавалі (пасля ветэрынараў узяліся за леснікоў), сям'ю выгналі з-за дашчанай агароджы, і яны з маці некуды выехалі, як згінулі.

Раніцой Паліна і Франц прачнуліся чамусьці незадаволеныя сабой і адно адным. Але хутка гэта мінула, ім сапраўды цікава было разам. І вось так — удваіх. Вось, калі ласка, жылі кожны далёка ад другога і зусім нібыта інакш, але столькі агульнага ў іх. Гэтая просценькая думка чамусьці хвалявала.

— Хутка ў цябе каўтун будзе! — ускалмаціўшы валасы Франца, сказала Паліна. Ён толькі што памыў іх у зарослай альхоўнікам і асакой рэчцы, і яны ляжалі на траве каля разваленага мастка, адпачывалі. Франц у недарэчнай на ім, кароткай яму бялізне з суравога палатна, што нямала памучыла яго беднае гарадское цела, але ўжо размякчэла ад ноські і частага акунання ў ваду, чамусьці не саромеецца Паліны — як не саромеўся б, мабыць, апранахі клоўна. Ну а Паліне проста весела на яго, такога, глядзець.

— Ты сказала: каўтун? — мабыць, Франц нешта прыпомніць намагаецца.

Поруч на траве зіхцяць змейкамі вёрткія ўюны, вылаўленыя ў балотнай затоцы, дзе вада цяплейшая, Паліна з дзіцячай несвядомасцю жорстка пляскае іх далонькай.

— Нашы палешукі некалі наогул не стрыглі валасоў, — паведамляе Паліна.

— Як сікхі.

— Хто гэта?

— У Індыі каста такая. Па тры метры валасы адрошчваюць.

— Ну нашы менш, але таксама. Лічылася: зрэжаш — захварэеш. У каўтуне ўсе хваробы.

— Ой, чакай, успомніў! Багіня Мэб. У яе крылы з камарыных хмараў, з ледзь прыкметных мошак. Яна хвасты коням заплятае начамі, багіня Мэб. А людзям каўтуны робіць. У Шэкспіра, ведаеш, «Рамэа і Джульету»?

Джульету на школьнай сцэне Віра іграла, Паліна помніць белы твар, перадсмяротны грудны голас. Паўтарыла перад Францам:

— Чакай мяне, Рамэа! І я з табой, я іду да цябе!

І «закалола» сябе «кінжалам».

— Здаецца, яна п'е атруту? — запярэчыў Франц.

— А ты што, носіш з сабой? — міжволі спытала, прыгадаўшы тых нямецкіх афіцэраў.

— Нядрэнна б. Гранату канфіскавалі.

Калі да зямлянкі ішлі, убачылі на бярозавым кусце дзіўна завіслую варону. Глядзіць на іх з жахам, паварушылася і заслізгала па лісцях, ледзь стрымалася на ніжняй галінцы. Хворая? Ці гэта ўжо так падраслі птушаняты, з неасцярогі вывалілася каторае з гнязда. Не заўважылі, а ўжо нахапілася лета. Лес пацяжэў ад лістоты, елка выкінула свежыя зялёныя (тут жа пачынаюць жаўцець) стрэлкі. А салаўі запускаюць свае трэлі-чэргі і ранкам, і ўвечары. З'явіўся ў лесе майстар, і ўсе астатнія спевакі цягнуцца, падладжваюцца пад яго, стараюцца з усяе сілы, каб і ў іх не горш атрымлівалася. А тут яшчэ нябачныя жабоцькі на ўсё наваколле паведамляюць:

— Я-ак до-обр-ра-а, соладка!

Калі Паліна міжволі пацягнула руку, каб памагчы вараняці, яно са страху — дзе і сіла, і ўменне ўзялося — узляцела і села на ніжні сук сіратліва, у яловай засені выраслай бярозы. Гайданулася, каб не ўпасці, умацавацца. І ўхапілася атрасаць вільгаць роднага гнязда, саскрабаць дзіцячую ліпучку з пер'я, прапускаючы праз дзюбу то адно, то другое крыло. Усім добра. А што людзям дрэнна, дык хто ў гэтым вінаваты, калі не яны самі?

Павячэралі бульбай і падсмажанымі на распаленай блясе ўюнкамі (Франц запэўніваў, што нічога больш смачнага не еў, будзе мутэр сваёй расказваць).

На гэты раз спаць уладкаваліся моўчкі, як бы баючыся слоў, яны адно перашкаджаюць. Рассцялілі Францаву вясковую саматканую світку — гэта пад ніз будзе, акрыцца — плюшаўка Паліны. Усё без слоў, і быццам заўсёды так вось спалі і нічога асаблівага няма.

— Холадна табе?

— Крыху. Я бачу, і табе таксама холадна.

— Беднае варанятка. З гнязда выпала.

— Цікава, якія цяпер у муці сны? Яна любіць іх пераказваць, і мы абавязаныя слухаць, як урадавую зводку. Крыўдзіцца. Вярнуся калі, яна мне іх абавязкова раскажа.

— Табе ж холадна. Акрыйся добра. Спі, спі. Не дыхай так! Чуеш, не дыхай так!

Хацела адсунуцца, а ён спалохана і вінавата аціх. Беднае варанятка! Працягнула сама да яго ў цемры рукі, ён прыціснуўся да іх гарачымі шчокамі, прыціснуўся да яе, як схаваўся. Такі бездапаможны, такі разгублены… Калі боль пранізаў яе і, галоўнае, спалох, што *гэта ўжо адбылося, здарылася* (падкраўся, гад!), яна адштурхнула яго з сілай, якой сама не чакала!



— Звер! Фашыст! Фашыст пракляты!

— Я ж цябе кахаю, Паліна.

— Воўк — кабылу! — і зарыдала.

Печка выгарала, згасла, у зямлянцы няўтульна, сыра, пах закінутасці і нейкай безвыходнасці. За дзіравым акенцам насмешлівы, здзеклівы хор жаб. Загарнуўшыся ў свой плюш, ціха ўсхліпвала Паліна. Аціхлы, быццам і няма яго тут, ляжыць Франц. Ён, здаецца, мацней за яе аглушаны тым, што здарылася. Ціхенька ўстаў, раздзьмуў у печцы агеньчык, падкінуў дроваў. Пад смалістае пастрэльванне агню заснуў.

Крык уварваўся ў расчыненыя дзверы:

— Ану выходзь! Фэрфлюхтэр, мацьвашу!

І проста над галавой — у акенца:

— Кідаю гранату! Язві вашу душу: выходзь!

Гэта маміна «язві» падзейнічала асабліва паралізуюча.

— Ой, дзядзечка, не трэба, мы вясковыя!

Адштурхнуўшы Франца, выйшла, выбегла першаю, папярэджваючы крыкам:

— Там брат, ён нямы, зусім нямы!

Плямісты нейкі чалавек (плашч-накідка і голеная галава — усё ў яго ў плямах) адкінуў Паліну:

— А мы зараз пабачым.

І Франца аўтаматам адштурхнуў убок:

— Ану, выпенцюх! Хто яшчэ там?

— Нікога, паночак, толькі мы! — спяшае адказаць Паліна.

— Правер, — загадаў плямісты другому ў такім жа плашчы, але ў гэтага на галаве нямецкая каска.

— Бач, бандыцкія морды! — нядобрымі вачыма разглядвае голенагаловы злоўленых. — Хочаце пабачыць беларускую птушку бусла? Пакажам вам, сталінскія бандыты!

І ўжо да сваіх, чалавек шэсць іх, жалезнагаловых.

— Мала было Сталіна гэтым бульбянікам, не нацешыліся калгасамі. Вы за што гэта ваюеце?

— Мы цывільныя, дзядзечка, брат, ён нямоглы зусім, хворы, — галасіла Паліна, а сама думала: не горш за бабку Адарку, яна карміласяя тым, што аплаквала нябожчыкаў. Адно каб Франц не ўздумаў памагаць.

А плямістагаловы ўсё шукае, да чаго прычапіцца. Вось ужо свой яму не дагадзіў:

— Іваноў, ты куды? У кусты ўсё цягне? Ой, глядзі! Можа, як Валошын рашыў? Бяжыце, бяжыце, вас бандыты прылашчаць!

— Скуль ты ўзяў? — агрызнуўся ўласавец у акулярах (Паліна ўжо разумее, хто гэта). — Чалавеку пасц… нельга?

Франц жа пра сваё ўсё думаў, трывожыўся: на просецы адразу ж убачылі немцаў. Некалькі афіцэраў у такіх жа плашч-накідках, але высокія фуражкі на іх, а не каскі і не пілоткі. І галоўнае, глядзяць так — яны і астатнія на іх, — што адразу разумееш: самыя вялікія начальнікі — гэтыя.

Франц з усяе сілы стараецца не спужацца, не прыцягнуць іх увагу. Але ўсё-ткі гэта былі першыя немцы пасля ўсяго, і сам ён не мог не перажываць наймацнейшых пачуццяў, дзе былі не толькі трывога, страх, але і шчымлівы боль за сябе, за свой вось так пакручаны лёс.

— Warum grinzt er?* — спытаў раптам афіцэр. Пра што гэта ён?! Няўжо пра Франца? — глядзіць на яго. Ну вось. Ну вось, зараз усё і адбудзецца, здарыцца! А калі знойдуць медальён у Паліны: нямецкі, адкуль?! — а калі яна не вытрымае? Як умеюць дапрасіць чалавека, каб дазнацца пра ўсё, — для Франца не сакрэт. Тут прыйшоў страх ужо не за сябе — за Паліну. Скеміў, як дарагая яму гэтая наравістая істота!..

Падобна, перакладчык, што стаяў поруч з афіцэрам, спытаў у рускага:

— Хто яны?

— Нямы, — ахвотна растлумачыў той і дзеля пераканаўчасці пальцам пакруціў каля сваёй скроні, — калгаснікі. Усе яны тут бандыты.

Раптам занепакоіліся ўсе, па-нямецку, па-руску прагучала папярэджанне: сысці з просекі, у лес, наперадзе нейкія людзі! Бяжыць па просецы нехта, апрануты па-вясковаму, але па тым, як ён бяжыць, а ўсе чакаюць яго, зразумела, што ён свой, мабыць, сувязны, разведчык. Дабег, запыхкаўшыся, прасіпеў:

— Ідуць! Там іх цэлая група.

І тыя, што заставаліся на просецы, усе зрушыліся, паглыбіліся ў гушчар, штурхнуўшы туды і Франца з Палінай. Тут шмат іх, уласаўцаў, і, мабыць, немцаў. Апынуліся побач з тым самым «Івановым», ці ён падсунуўся наўмысна, раптам як бы паказаў сабе за спіну: уцякайце, пакуль не позна! Але, здаецца, позна: тут ужо і голенагаловы.

— Ты і ты, — загадаў двум уласаўцам, — адвядзіце іх… Ну хоць бы да мосціка.

Тыя на яго пазіраюць запытальна.

* Чаму ён пасміхаецца? (*Ням.*)



— Што незразумела? *Адпусціце* там. Каб ані гуку. Адна нага тут, другая там. Фарштэйн? Выконвайце!

І ўзняў вочы да неба, пасміхаючыся гадка. Паліна зразумела, а Франц, падобна, перажывае палёгку, супакаенне, што ён ужо не ў полі зроку нямецкіх афіцэраў.

Францу нават цікава назіраць ягдкаманду ў дзеі, колькі разоў чытаў з захапленнем пра смельчакоў, што, пераймаючы тактыку партызанаў, пранікаюць у самае гняздо іх, а там, затаіўшыся, чакаюць, як паляўнічы звера, ворага, які нічога не падазрае. Але пісалі менавіта пра нямецкія «паляўнічыя каманды», гэтая ж — уся амаль з рускіх іншаземцаў.

Паліна разумела, куды іх і навошта вядуць. Той, што з вінтоўкай, адзеў на ствол штык-кінжал (сталь драпежна клацнула), у аўтаматчыка, рыжабровага пад каскай, кінжал вісіць на поясе. *Будуць рэзаць!* — рукі-ногі ў Паліны загулі, як быццам яны пустыя, полыя, прадзьмутыя марозным зімовым сіверкам. Яе на вачах у Франца *рэзаць*, Франца на вачах у яе. Страх не толькі болю і не толькі жах сам па сабе, але і сорам. Яе жывёльны жах будзе бачыць Франц, а яна — ягоны жах. Па гэтай кароткай лясной дарозе ўчора ішлі да рэчкі ўюноў лавіць. Тут, зусім побач, зараз, зараз гэта здарыцца!

— Ну, ідзі, ідзі! — штурхае Паліну штыком пажылы ўласавец, нечым, нейкай унутранай злосцю ён нагадаў Ота. Франца наперадзе вядзе рыжы аўтаматчык. Як сказаць Францу, што іх вядуць забіваць (калі ён яшчэ не дапетрыў), і, галоўнае, што страляць, шумець, калі партызаны блізка, ім нельга. Калі кінуцца ў лес, ім будзе не да таго, каб лавіць, але трэба абаім разам. «Ота» не дарэмна нервуецца, злуе, чуе, што можа так адбыцца. Паліна пабегла б ужо, будзь што будзе, але Франц, Франц…

— Дык, значыць, Пушкіну цар кажа, — раптам паварочваецца рыжабровы аўтаматчык, звяртаючыся да «Ота» цераз галаву Паліны, — кажа: «Пушкін, ці не ты напісаў Луку Мудзішчава?» А Пушкін, язві яго душу…

— Вы не з Алтая, не алтаец? — перахапіла яго позірк (здалося, дабрадушны, не пагрозлівы) Паліна.

— Ну алтаец, а што?

— У мяне мама з-пад Ленінагорска.

— Гэ, я таксама з Рыдэра. Гэта па-сталінску: Ленінагорск. А сапраўдная — Рыдэр, англічане руду здабывалі. Дык што ты хацела сказаць?

— Ну што мама мая з Алтая таксама. Яна, як і вы, гаворыць.

— Гэ, чуеш, Муха, — звярнуўся да «Ота», — зямлячка мая.

— Ідзі лысага гэтым абрадуй. Вось зараз яны там падыдуць ды ўлепяць табе чаргу ў спіну — пабратаецеся. Я б іх усіх! Чаго гэта мы іх так далёка праводзім?

Франц не дужа перажываў тое, што адбывалася. Яму здалося, што большая пагроза мінулася. Той сказаў: «адпусціце». Афіцэры ж нічога падазронага не заўважылі. А разгадай яны Франца! У 40-м нямецкія маці па радыё і ў газетах пракліналі сыноў, якіх збілі над Англіяй і яны не так нешта сказалі пра фюрара. А што зрабілі б з яго маці, бацькам, што іх змусілі б зрабіць, калі б адкрылася, што яго не схапілі партызаны, забіўшы Ота (хацелася верыць, што менавіта так падумалі), што гэта ён забіў таварыша, немца забіў, здрадзіў самаму святому.

Вось і знаёмая рачулка адкрылася, злавесна тырчаць вывернутыя з жоўтага пяску чорныя бярвенні, гнілыя жэрдкі, унізе густы алешнік — выйшлі да мастка. Вось і кош валяецца. Францаў кош, якім уюноў лавіў. Схапіць за руку, заплюшчыць вочы, і, пацягнуўшы яго, скочыць проста на кусты. Як будзе, так і будзе. Няхай страляюць, калі адважацца: яны так жудасна спыніліся насупраць, гэтыя двое, самі як бы разгубіліся, не ведаюць, з чаго пачаць. А Франц ззяе блакітнымі ўдзячнымі вачыма, лічачы, што яго і Паліну адпусцяць.

— Дзякуй! — ад паўнаты пачуццяў вымавіў нямко.

— Ах ты, сука! — узвыў «Ота» і штыком пырнуў яго збоку. Коратка, але рэзка. Паліна пранізліва закрычала і паляцела ўніз. Яна ўжо не бачыла, як «Ота», не вышморгваючы штык, спіхнуў услед Франца. Тут жа ўсё вакол як выбухнула — ад блізкай страляніны. Не чула крыку:

— Канчай іх аўтаматам!

Страчыў па ёй, па ім рыжы алтаец ці не, Паліна не ведае. Аглушаная падзеннем, уся падрапаная, амаль трацячы прытомнасць ад болю ў плячы, Паліна расплюшчыла вочы і ўбачыла раптам (ці здалося гэта) над сабой шызую морду сабакі, што пільна глядзеў проста ў вочы ёй. Дзіўныя вушы ў гэтага сабакі: буданом, быццам склееныя, нібыта рог у яго на галаве. Тут жа знік, як прывід. Прымусіўшы сябе ўстаць, Паліна гарачліва шукала вачыма Франца: яна ў нейкі міг паспела ўбачыць, як раскрэсліла неба распластанае чалавечае цела. Густы алешнік прымяты, прыціснуты да долу — там! Хапаючыся за кусты нямогла — вялымі рукамі, пагрэблася ў той бок, раптам пабачыла — што гэта?! — чырвонае павуціннне, што апляло галіну вольхі. Ліпкія ніткі крыві цягнуліся, ярка палалі ў сонечных прамянях. А на лістах яна дзягцярна-цёмная. (Гэта не была



толькі гульня святла: на хінна-гаркавых альховых лістах кроў чамусьці робіцца чорнай — гэта ўжо маё назіранне з вайны.)

Нарэшце ўбачыла цела Франца — камяком. Ногі, рукі, шыя — як у вузел звязаныя. У самой жывот падцягнула да схаладзелых пазванкоў, калі, выхапіўшы з штаноў Франца кашулю, убачыла сінюшную рваную рану і, як ёй здалося, белую палоску рабра. Рукі яе афарбаваліся ў кроў, яна глядзела ў твар, збялелы, мёртвы.

— Ды памажыце ж! — крыкнула невядома каму. Рэха бою чулася недзе высока над імі. Вочы расплюшчыліся, блакіт у іх цьмяны, нежывы, чалавек спытаў:

— Wohin soll ich springen? Mama, Wohin?* Сюды?..

## 10

Не ўсе загінулі, не ўсіх забілі, жывыя застаюцца нават на такой вайне, што дасталася нам. Штык-кінжал загруз, здаецца, проста ў жываце. Але ў апошні міг без усякай яго волі цела само выгнулася, бегучы ад вернай смерці. І штык, рыпнуўшы, прайшоў між рэбраў. Адна Паліна магла б расказаць жанчыне з чужымі строгімі вачыма, фатаграфію якой насіла ў медальёне, як Францу, ім з Францам пашанцавала ацалець. І там, каля моста, і пазней, калі несла іх грозная перадфрантавая хваля, штурхаючы перад сабой, абрынаючыся зверху, накрываючы іх разам з тысячамі такіх жа, як яны, уцекачоў ад пагібелі. А як уцячэш, калі яна навокал, усюды, нясе ўсіх, як трэскі ў паводку, — ты ў яе ўчэпістых абдымках, сам не верачы, што яшчэ жывы?

Спачатку вярнуліся ў тую ж зямлянку, адкуль іх нядаўна пагналі забіваць. Паліне туды вяртацца было страшна, але некуды трэба было схавацца з параненым. Не дзень, не два патрэбны, каб ён акрыяў. Яна цягнула Франца, слухаючы рэдкую страляніну аддаленага бою, кожны іх крок пакутаю, болем люстраваўся на сшарэлым твары параненага. Паліна прыціскала да параненага боку Франца камяк альховае лістоты, што зліплася ад крыві, разумела, што гэта бессэнсоўна, кроў гэтым не супыніш, але тым мацней уцісквала руку, як бы затрымліваючы ў абмяклым целе рэшту сіл, жыцця.

Дні пакаціліся без ліку, зліпаючыся з трывожнымі начамі, падсвечанымі пажарамі, з неспакойнымі, дрыготкімі ад далёкіх і блізкіх выбухаў світанкамі — зліваліся ў нешта суцэльнае, як

---

* Куды скакаць? Мама, куды? (*Ням.*)

спіцы ў коле, што імкліва коціцца. Ужо праз тыдзень давялося пакінуць сваё сховішча. На шчасце, Паліне трапілася на вочы кімсьці кінутая двухколка (на такіх калгаснікі вазілі сена з балота, на сабе, вядома, каня мець ім было забаронена). Уклаўшы параненага — то ногі, то галава яго занадта звешваліся, даводзілася бясконца спыняцца, папраўляць, — Паліна ўцякала ад неадступнай бяды. Часам здавалася, што не нейкія там карнікі — немцы ці паліцаі іх пераследуюць, а ўся Германія, тая самая «праклятая», як пра яе спяваюць, помсліва кінулася ў пагоню. Не паспявала дацягнуцца да якой-небудзь вёскі ці хутара, дзе разлічвала адпачыць, перахапіць што-небудзь, пад'есці, як змушаная была разам з жыхарамі бегчы далей: зноў страляніна, ірвуцца міны, зверху абстрэльвае самалёт. Франтавыя часці, адступаючы з усходу, ярасць сваю абрушвалі на ўсё жывое. Неўзабаве давялося кінуць і вазок, а Францу ўстаць на ногі, хаця паранены бок яго ўсё яшчэ сцякаў гноем, крывёю. Іх загналі ў гнілыя балоты, якія ўжо там вазкі. Даводзілася не тое што ісці, а паўзці на пузе. Былі моманты, калі ад страху з галавой праваліцца, ад нечаканкі, што ў Франца вырываліся нямецкія словы — ускрыкі, і тут ён раптам прыкмячаў побач твар дзіцяці ці жанчыны з расшыранымі ад жаху вачыма: як калі б поруч з імі загыркаў, узняў поўсць воўк ці, больш дакладна, клацнуў зяпай кракадзіл. А калі выбраліся на «дальнія», як тут называюць, «астравы» («Камар-мох») і ўжо можна было стаяць і нават ляжаць, перадыхнуць, Франца раптам закалаціла ліхаманка, жар зваліў, як і многіх, — тыф! Мала ўсяго, дык яшчэ і гэта. Пачаў трызніць, выкрыкваць скрозь нямецкія фразы. А побач людзі, што ўцякаюць ад немцаў. Паліне давялося выдумаць легенду. Гэта італьянец, ён уцёк з іхняй арміі, многія ўцякаюць пасля таго, як Італія выйшла з вайны. Немцы іх заганяюць у лагеры. Але Паліне верылі нядоўга: нават дзеці добра ведаюць, чые гэта словы: «хальт» ды «ком». Жанчыны і суровыя падлеткі пачалі нядобра касіцца на Паліну і яе «італьянца», нічога не заставалася, як распавесці ім праўду. Чуццё падказвала Паліне: трэба расказваць падрабязна, з усімі перажываннямі, як яно насамрэч адбывалася. І Паліна пастаралася: пра тое, як Франц выратаваў іх з маці, як разам хавалі вёску, а мама памерла, як Франца ледзь не зарэзаў уласавец і яны цудам ратаваліся. А калі пра той вазок стала апавядаць, расплакалася. Колькі ж гэта дзён, начэй яна цягнула такі цяжэразны вазок, уцякаючы ад пагібелі і зноў трапляючы ў лапы смерці. Слёзы ўжо і на вачах у іншых жанчын: усё гэта і яны перажылі, ёсць каго і што аплакваць кожнай. Але, вядома, і спрэчка ўзнікла. Паліна правільна



зрабіла, што замоўкла. Няхай, няхай жанчыны нагаворацца, колькі ім пажадаецца.

— А, усе яны добрыя! Адных ратаваў, а другіх, можа, караў, мучыў.

— Дзеўка ж казала: ён толькі што з Германіі, калі ён мог паспець?

— Ужо нагледзеліся мы на іх! На ўсякіх.

— Не, не, бывае, не кажыце! Вось адна жанчына на гарышчы схавалася, цыбуля там сушылася, дык яна пад яе зашылася. А ён: рып па лесвіцы, рып-рып… Узлез, падышоў, адкрыў твар ёй, паглядзелі адно на аднаго, назад паклаў вянок і пайшоў, не чапіў.

— А то расказвалі… Афіцэр адзін, таксама немец, не вытрываў, як яны тых дзяцей, баб забіваюць, адышоў убок і сабе ў галаву…

— А гэты, калі ён праўда застрэліў свайго, хто ж яго цяпер памілуе, калі не мы?

Калі пал і смяротная слабасць адступіліся, і Франц стаў пазнаваць Паліну, убачыў людзей каля сябе, ён раптам павітаўся:

— Добры дзень!

— Нічога, можаш гаварыць, — супакоіла Паліна, — людзі ўсё ведаюць.

— А ён па-нашаму гавора! — абрадаваліся бабы.

А калі пераканаліся, што і гаворыць, і разумее добра, распачаліся сапраўдныя палітразмовы. Завадатар гэтых бясконцых размоваў — стары, якога ўсе называюць Бязвухі. Ён без вушэй насамрэч. Калі такімі не лічыць кароткія агрызкі, прыкрытыя рэдзенькім касмыльком валасоў. Бабы, тыя ўсе ведаюць, паведамілі Паліне: у грамадзянскую вайну так удружылі дзеду, адно вуха адрэзалі чырвоныя, другое — балахоўцы, белыя. Не дагадзіў ні тым, ні другім. Мабыць, ім таксама дакучаў,назаляў сваёй асобай, сялянскай праўдай, як зараз во Францу. Бабы ўжо гоняць яго, як авадня.

— Дай хоць чалавеку паляжаць. Да чаго прыставучы дзед.

Каб гэтыя людзі раптам зрабілі Паліне нават вялікае зло, яна не змагла б ім не даравацъ — за тыя кружачкі малака, што прыносілі Францу. На ўвесь «цывільны лагер» было дзве ці тры каровы, каб дабрацца да іх, трэба ажыццявіць небяспечнае падарожжа па балотных купінах, і вось кроплямі малака, што прызначаліся адным толькі дзецям, дзяліліся з немцам.

А Бязвухі ўсё намагаўся нешта сваё даказаць Францу. І выклікаць яго на спрэчку. «Дзеду-ўсяведу» (яшчэ і так клічуць Бязвухага глумлівыя падлеткі) трэба абавязкова атрымаць

пацвярджэнне, што гэта немцы прыдумалі калгасы. І зрабілі знарок, каб гэтыя дурні на ўсходзе развучыліся і працаваць, і ваяваць. Армія заўсёды трымалася на самастойным гаспадары, а з калгасніка — што спытаць? Які работнік, такі і воін. А надумаў, зрабіў так усё ўнук «Карлы Маркса», ён пры Гітлеру галоўны дарадца. У Франца галава ішла кругам ад несакрушальнай упэўненасці Бязвухага. Бабы ж папярэдзілі свайго дзеда:

— Ой, глядзі, адрэзалі табе вушы, і язык адрэжуць!

Хто адрэжа, не казалі, але, мяркуючы па ўсім, ведалі і яны, і сам стары. Таму што гаварун на нейкі час змаўкаў, сыходзіў да сваіх спраў. Але неўзабаве вяртаўся.

— А вось скажыце вы мне!.. — і зноў раскручваў Францавы мазгі, але ўжо ў зваротным накірунку: а ці праўда, што Гебельс у Маскве вучыўся, там школа адмысловая ёсць для такіх?..

Згадваючы меркаванні свайго бацькі пра Расію, пра ўсё, што ў ёй адбылося пасля рэвалюцыі, Франц таксама не супраць быў сёе-тое пераправерыць, а раптам зможа потым бацьку пераказаць. Ці праўда, што калгасы задумваліся як вяртанне да камунаў, абшчын ранніх хрысціян? Сумесная праца, агульны стол, роўнасць, няхай і не пры вялікім дастатку. «Капіталіст — во! — Франц зграбаў да сваіх ног усё смецце, шышкі. — А камуніст…» — раздаваў тыя ж шышкі: «Табе, табе і табе!» Рэакцыя была нечаканая. Не, здаецца, ніхто не аспрэчваў, але нават старыя бабы глядзелі на Франца як на блазна, хворага. «Дзед-усявед» усё-ткі адкаментаваў:

— Бязвухі не я, а вось хто! — і ўрачыста паказаў на Франца. — Можа, самі вы, немцы, яшчэ пасмакуеце, што гэта за мёд.

На ўсе пярэчанні (Паліна таксама з ім спрачалася) дзед сцвярджаў адно:

— Ну а чаму Гітлер калгасы не распускае? Адно шыльду змяніў. Тое і яно! Што гэты, што Напалеон — спужаліся мужыцкай волі.

Паліна чула, як збоч бабы так гэта абгаворвалі.

— Мо ён камуніст? Не ўсіх жа Гітлер пасадзіў.

— Кажа так пра калгасы, думае, нам гэта спадабаецца.

— Бедны, кожнаму жыць ахвота.

Паліну мучыць неспакой: з'явяцца партызаны, і нехта абавязкова пахваліцца немцам. Не ў кожнага ёсць свой немец. Каб жа можна было ведаць, што яны зробяць. Ты ж не ведаеш, якія трапяцца партызаны.

Што асабліва ўражвала Франца, дык гэта тактоўнасць, з якой гэтыя людзі абыходзілі размовы, што гучалі б, як абвінавачанне яму — усё-ткі немец. Калгасы — гэта так, анекдот. Чакаў, што загавораць пра выбітыя вёскі, пра тое, што ім вось тут трэба хавацца з дзецьмі. Ані слова. Нават фюрара амаль не згадваюць. Але аднойчы рабаціністы падлетак, боязка азірнуўшыся на жанчын, прашыпеў:



— Ну што, капут твайму Гітлеру? Кажы: капут!

Адказалі за Франца:

— Трэба будзе — скажа. Чаго ты чэпішся?

— Ён што, пытаў, гэты Гітлер, у Франца, ваяваць ці не?

Не падымалі размову Бязвухага пра тое, сустракаліся ці не сустракаліся — Сталін з Гітлерам.

— Не чапай ты ліха, пакуль ціха.

Не ўдакладнялі: тычыцца гэта аднаго фюрара ці і іх уласнага правадыра таксама. Паліна Францу растлумачыла пра сарочку: беларуская прымаўка з адваротным сэнсам — «нарадзіцца ў сарочцы», г. зн. «дабра б яму не знаць». І зноў жа, каму?

Ці не таму не загаворваюць пра Гітлера, каб не зачапіць і Сталіна. Знаёма гэта Францу, у Германіі, асабліва да вайны, пажылыя людзі паводзілі сябе падобна.

Ну а ў Паліны іншы клопат, куды важнейшы за праблемы — чый правадыр лепшы. Яе непакоіць затрымка з жаночымі справамі. Няўжо тое, што паміж ёю і Францам адбылося, можа быць прычынай? Ды нічога ж і не было, акрамя болю і крыўды. Хіба такое магчыма? Хутчэй за ўсё перанапружанне адбіваецца: асабліва тыя трое сутак, калі цягала вазок з паўжывым Францам. Ведаў бы ён, які быў цяжкі! А яшчэ ўсё ногі звальваліся, хоць смейся, хоць плач!

Згадваючы вясковыя бабскія гаворкі пра самаадчуванне цяжарнай, перапраўярала — што і як з ёю адбываецца. Вось ужо смыліць унутры — ці не яно самае? А яшчэ ўзнікае неадольнае жаданне, гэта вядома. З'есці што-небудзь, асабліва салёнае. Ці такое, што і ў горадзе не знайсці. Маме, калі «хадзіла Палінай», зажадалася раптам беламорканальнай баланды з гнілымі селядцамі. Ці гэта выдумка бацькі, ён любіў з яе пажартаваць. Пакуль Паліна гадала-разгадвала, наклікала на сваю галаву: захацелася, хоць забі, чаго-небудзь халоднага. Усё згадвала марожанае, якім бацька пачаставаў калісьці ў чыгуначным буфеце: жоўтае, на слізкай металічнай чашы, а ад гэтага яшчэ халаднейшае.

Сказаць, не сказаць — Францу?

Тое, што было, здарылася ў іх зямлянцы, паступова, па дэталях узнаўлялася, але ўжо не як пярэдадзень усяго жахлівага, што

адбылося ў той самы ранак і пра што не хацелася ўспамінаць, а па-іншаму: гэта ж была іх першая блізкасць. У Паліны — першая, яна пра сябе ведае. А *пра іх* — хіба можаш ведаць? Вунь як тады палез у хаце! І атрымаў! Раптам рэўнасць — смешна. Ляжыць, як немаўля, слабенькі, бездапаможны, захацелася б, дык не параўнуеш.

Ад таго, што грудзі дзіўна зацвярдзелі і баляць, адчуваеш і ўвесь час успамінаеш *яго* рукі. Як тады! Але ўжо не адштурхнула б, наадварот, прыціснула б іх, каб было балюча, соладка…

Франц ужо сядзець мог, прытуліўшыся да дрэва, сядзеў так гадзінамі, праводзячы і сустракаючы ўсіх слабой усмешкай ачунялага. Тыф зваліў многіх, некаторых пахавалі, ён жа — як з таго свету вярнуўся, аціхлы, задуменны. Валасы ў беднага пасыпаліся, няма ратунку. Добра, лес таксама хутка лысым стане, не гаруй і ты! Лес ужо зжоўк, дажджы пайшлі, лясныя людзі з неабходнасці асмялелі і пачалі паліць вогнішчы, абсушыцца не абсушышся, таму што лье без канца, але хоць сагрэецца мокрая апратка, кіслая пара з яе ідзе.

Паліна ўсё не казала яму пра галоўнае. Цяпер у яе занятак: гледзячы на Франца, параўноўваць, уяўляць, якія вочы, твар, валасы ў яе дзіцяці. Забывалася ва ўсмешцы, але раптам яе твар (*сама бачыла*) рабіўся халодным, чужым, як бы пярэчыла каму: *а вам якая справа? Ну, ад немца, не вам яго гадаваць!*

Мамачка стала мамай, а тата бацькам для Паліны, будучы такімі старэнькімі. У яе дзіцяці мама будзе зусім маладая. Разам на вечарынкі бегаць будзем! — упарта вяртала ўсмешку на твар.

А потым усё пачыналася зноўку: абстрэлы, бамбёжкі. Выкрыкнула сваю таямніцу Францу, калі прабіралася па халоднай гразі па калена, раптам спужалася (сосенка ад выбуху, узляцеўшы, іх абаіх накрыла, балюча хлабыснула па галовах, спінах), што заб'юць каго-небудзь або абаіх, а ён так і не даведаецца.

Але Франц, падобна, не расчуў ці не зразумеў, пра якое яна дзіця. Іх столькі навокал, дзяцей; нягледзячы на слабасць, і Франц стараецца памагаць жанчынам, у каго па трое, а то і больш.

У гарачцы ўжо амаль не прыкмячаў Франц (а спачатку пужаўся), калі побач з'яўляліся людзі са зброяй, партызаны. Яны то рухаліся разам з жыхарамі, то некуды ішлі, знікалі. Франц пераконваўся: такія ж, як і астатнія, вясковыя людзі.

Праўда, калі і Францу, пры яго маскарадзе, апратцы, даць зброю, сыдзе і ён за свайго тут.



А аднойчы здарылася такое, што ўсяго перавярнула, як бы не помніў ужо, хто ён, дзе ён. Такое давялося пабачыць (Паліне), у такім удзельнічаць (Францу) — пра гэта ніколі потым не гаварылі адно з адным і ўспамінаць не хацелася. Не, не самае жорсткае і жахлівае з бачанага, перажытага, бо мера даўно страчана на гэтай вайне, у гэтым жыцці.

Гэтыя пяцёра з'явіліся пасля яўна няўдалай аперацыі, бою. Ніяк супакоіцца не маглі, па выгуках і нервовай перапалцы можна было дапетрыць, што толькі яны і вырваліся адтуль жывыя. Двое з іх параненыя, у руку, у галаву, здавалася, ледзь трываюць на нагах. Спачатку насядалі на чалавека ў пацёртым скураным паліто, з сухім непрыгожым тварам. Ён не аддаў нейкую каманду і сам апынуўся не там, дзе павінен быў знаходзіцца. Францу цікава было і крыху вусцішна назіраць за імі: гэта і ёсць тыя самыя партызаны, якіх так ненавідзяць і так баяцца немцы. А ў скуранцы, мабыць, камандзір, магчыма, камісар. Але ён не габрэй, хаця сярод немцаў лічыцца, што яны запраўляюць усім. Ёсць і габрэй: гэты, аднак, амаль не ўдзельнічае ў звадцы, зусім як старонні. Уссеўся на рэчмяшок і глядзіць проста перад сабой, як быццам цягніка чакае, што вось-вось вынырне з-за дрэваў. А профіль, профіль, ну, проста-ткі карыкатура на «юдэ-камісара» ў салдацкіх газетах! Нешта прыцягвае ўвагу Франца менавіта да гэтага чалавека. Зрэшты, зразумела: столькі напісана, нагаворана пра габрэйскае племя, якое ўмудраецца ва ўсё ўлезці і ўсё павярнуць на карысць сабе і на шкоду іншым, што сустрэча з габрэем, *з жывым* — у Германіі іх ужо няма, — нечакана ўсхвалявала. Не, Франц не лічыць сябе нацыстам-антысемітам, у іх дома гэтага саромеліся. Але Франц апошнія гады дадому да бацькоў толькі наведваўся час ад часу, а жыў і працаваў у маладзёжных лагерах. Дзе трэба было адпавядаць вобразу маладога і крыважэрнага тыгра-салдата фюрара. Франц вучыўся адпавядаць. Чакаў, як і іншыя, дзень, калі, як пасвячэнне, будзе і ў яго пад пахай наколка эсэсаўца. Наколькі, аднак, далёка зайшло, ён і сам не ведаў: не было блізка і навокал габрэяў, каб праверыць свае пачуцці. Але помніць, што халадзеў ад жаху і як яго ванітавала, усё ж намагаўся выглядаць не горш за іншых, калі франтавік з «жалезным крыжам» апавядаў, як весела ваюе СС на Усходзе. Недзе ў паўднёвым горадзе: руская жонка прынесла перадачу арыштаванаму габрэю. Ёй вынеслі, вярнулі посуд. На талерцы, пад ручніком — яго галава!..

І вось габрэй сядзіць перад ім, але сітуацыя зусім супрацьлеглая: не «юдэ» ў руках у «арыйца», а «арыец» — у поўнай яго

ўладзе. Досыць габрэю, даведаўшыся, што гэта немец глядзіць на яго, ткнуць у яго бок пальцам, і з немцам зробяць тое ж, што заслугоўваюць, паводле пераканання салдат фюрара, габрэі.

А тым часам нешта змянілася ў сцэне, што разыгралася ў лесе. Дагэтуль закручвалася вакол камандзіра ў скуранцы, якога вінавацілі ў нядаўняй бядзе, пагрозліва лаялі за неразумныя распараджэнні і, падобна, за трусасць. Скураны падышоў да седака на рэчмяшку, паглядзеў бессэнсоўна, як бы нешта кемячы, і раптам спытаў гучна:

— Чакай, а дзе дыскі да кулямёта?

— Што дыскі, калі кулямётчыка страцілі, кулямёт, — здалёк азваўся паранены ў галаву.

— Усё роўна. Дыскі я даручыў вось яму, Фуксону.

— Якія дыскі, якія дыскі? — азіраючыся, як бы шукаючы падтрымкі, закрычаў чалавек, што сядзеў на мяшку.

— Што значыць «якія»? — не адставаў скураны. — Табе было даручана насіць запасныя. Што, згубіў, кінуў?

— Нехта нешта не так зрабіў, пабег першы, а вінаваты Фуксон! — непрыемна высокім голасам выкрыкваў, адбіваўся гаспадар мяшка.

— Ты за другіх не хавайся, — умяшаўся паранены ў руку, крывячыся, мабыць, ад ныючага болю, — кожны за сябе адказвай.

— Што ў цябе там, чым мяшок набіты? — усё больш рашуча наступаў скураны. Здаецца рады, што пра яго віну забыліся. — Вось гэта ён не кінуў? Ану, развяжы!

І яшчэ нейчы голас прагучаў, далучаючыся да камандзірскага:

— За згубленую зброю, ведаеш, што ў нас бывае?

Скураны схапіў мяшок за шлейкі і вырваў з-пад седака, той смешна па-бабску заваліўся на бок. З мяшка вываліліся скруткі скуры, што зіхацела на святле, новыя чаравікі.

— Хром, глядзіце, колькі з той машыны загатовак нагроб! — узрадаваўся скураны. — Нябось, скуру не кінуў.

— Што хром, што нагроб! Калі другія пакідалі, значыць, і я павінен…

— Пра дыскі гаворка, куды іх падзеў?

— А што яны без кулямёта? Самі ж потым папрасілі б: Фуксон, боты трэба пашыць, Фуксон, абцас знасіўся!

— А ты і кінуўся рабіць! Ведаем мы цябе! — гэта той, з ныючай рукой.

— Што тут з ім базар разводзіць? Ану! — скураны забраў з рук Фуксона вінтоўку, і той аддаў. — Адыдзем туды.



Накіраваліся ў бок невялікай паляны, але скураны раптам азірнуўся на Франца:

— І ты! Пайшлі з намі.

«Што, чаму?» — Франц разгубіўся. Аніяк не чакаў. У яго бок ніхто нават не глядзеў, а тут раптам…

Паліна загаласіла:

— Навошта ён вам? Ён хворы, ён немы, ён…

— Ён, ён, ён! — акрысіўся скураны. — Ну што заенчыла? Нічога не зробіцца з тваім нямым.

— А нашто ён вам, а Божа ж, а што гэта робіцца? — на ўсякі выпадак выкрыквала Паліна, але і разумела: нельга пераборшчыць. Раптам тут ёсць нехта, хто ведае ўсё пра Франца, успомніць, скажа — вось тады і сапраўды паенчыш. Пабегла ўслед, не выпускаючы ні на міг з выгляду, гатовая зноў узняць бабскі лямант.

Выйшлі з лесу на паляну, і тут Франц блізка разгледзеў чалавека ў скуранцы, яго вузкі і непрыгожы твар, воўчыя зморшчакі на пераноссі, нешта знаёмае падалося яму ў бессэнсоўна злым паглядзе, у рэзка апушчаных кутках белагубага рота. Менавіта такім лёгка падпарадкоўваюцца: злосць, што ідзе ад іх, заўсёдная, як атмасферны слуп. Яна і цябе пачынае спавіваць, спачатку непрыяззю да яго ж. Але затым ты сам зараджаешся яго незразумелай, незразумела да каго злосцю — ад неспакою, трывогі, страху.

Куды ён і навошта вядзе ўсіх, і ўсе ідуць? Як быццам ведаюць — нават Фуксон — разумны сэнс і мэту гэтага паходу. Карычневая, пачварна даўгая скуранка з белымі праплешынамі і трэшчынамі на камандзіры вісіць, як на вешаку, у руцэ ў яго пісталет, а ў другой — вінтоўка арыштаванага. Навошта паклікаў Франца, што ад яго хочуць? Вочы скуранога, здавалася, бессэнсоўна шнырацъ навокал, але не, пабачыў некалькі бярозак наводшыбе і тут жа скіраваў да іх. Паказаў Францу на белае стройнае дрэва:

— Ты самы высокі, бярыся, гні. Чаго не разумееш? Вось так — гні! Вышэй, вышэй забірай.

Франц паспрабаваў — дрэва толькі пашумела ўжо зжоўклай і парадзелай кронай, не паддаецца. Сапраўды, давялося прыўстаць на дыбачкі і схапіць прыгажуню вышэй, як за горла, звіснуўшы, пацягнуў уніз. Перабіраючы рукамі бліжэй да вершаліны, змусіў упартую, што плаўна слабела, прыгнуцца, наваліўся зверху на яе, локцямі, усім целам, нехта поруч павіс, схілілі, як трэба. Хаця

як трэба і што трэба, вядома тут, здаецца, адзінаму чалавеку. Ад яго патаемнай незразумелай думкі ідзе пагроза.

— А ты, — камандуе скураны таму, у каго перавязаная галава, — здымі з гэтага рэмень.

— Сам здыме, калі трэба. Добра, Фуксон, давай твой рэмень.

— Што? Навошта? Што вам ад мяне трэба?

— Давай, калі загадваюць.

І той паспешліва распаясаўся, цёмны плашч з раздзьмутымі кішэнямі павіс на ім пачварна, як халат. А скураны распараджаецца далей:

— Прывязвай за нагу. Ну што незразумелага? Нагу. Да бярозы. Рэменем. Зразумеў, нямая ступа?

І сам штурхнуў Фуксона да Франца.

Франц і другі, што памагаў стрымліваць спружыністую бярозу, недарэчна намагаюцца злавіць нагу Фуксона, той адступае, смешна адскочыў, вырваўшы калашыну нямецкіх штаноў з Францавых пазногцяў.

— Вы што? Што вы надумалі? За гэта адкажаце!

— Э, адкажаце, адкажаце! — раптам раззлаваўся лянівага выгляду дзяцюк-мацак, што датуль ні ў чым не ўдзельнічаў. Як бы кусілі яго.

Схапіў галаву беднага Фуксона моцнымі рукамі «ў замок» і падцягнуў яго да дрэва: прывязвайце! Франц схапіў нагу раменнай пятлёй, хутка працягнуўшы канец праз металічную спражку, быццам не раз такое рабіў. Скураны адабральна памахаў пісталетам. На пару з тым, што памагае трымаць бярозу, паспешліва сталі канец рэменя прывязваць да ствала. Фуксон ужо ляжыць на зямлі, нага задзёртая пад неба.

— Вы што, вы што? — усё паўтарае няшчасны, торгаючы рэмень, як бы спрабуючы, ці дастаткова моцна, добра нага прывязана.

— А вось зараз пабачыш!

— Будзе табе хром!

У выкрыках не злосць, а як бы гульня, усіх заварожвае сама дзея, тое, што адбываецца з *імі*.

— Нахіляй другую, — камандуе скураны і, адкінуўшы вінтоўку, сам кідаецца да такой жа бярозы, што стаіць метраў за сем. — Сюды, да яго гні!

Фуксон у адчаі закрычаў на ўвесь лес:

— Людзі, памажыце! Гэта фашысты! Вы што, фашысты? Вы фашысты, ці хто?



Ухітрыўся скочыць з зямлі, на назе, яшчэ не прывязанай, спрабуе адскочыць, уцячы, зноў упаў, на руках намагаецца адпаўзці, а яго цягнуць, валакуць, прыціскаюць, вяжуць:

— Ах, мы фашысты?.. Значыць, вось мы хто?.. Зараз ты пабачыш, хто фашыст!.. Сука! Фэрфлюхтар! Свіння! Фуфло! Юда! Шайзэ!..

Чые былі словы, чые галасы ў тым пачварным клубку ярасных цел, хто маўчаў нема, а хто не — ніхто не мог бы разабраць. На другім канцы паляны таксама крычалі жанчыны, іх спалоханыя галасы ўсё нарасталі.

— Мацней, мацней навязвай! — камандуе скураны.

Ногі нябогі ўжо глядзяць у неба, плячыма, галавой ён коўзаецца па жухлай траве, перамяшчаючыся з месца на месца на локцях, як нейкая членістаногая казюрка.

— Адпускай! Паехалі!

Пачуўся лямант жаху — дрэвы, уздрыгануўшыся, падскочылі, спрабуючы выпрастацца, стаць, як раней, але не змаглі. Іх трымалі распята голыя, страшныя ў гэтым становішчы чалавечыя ногі. А рукі звіслага галавой уніз амаль дастаюць да долу, шкрабуць траву, апалае лісце. І нейкае вухканне: «У-о-х! У-о-х!» — чуецца з-пад звіслага ўніз плашча, што закрыў галаву, твар падвешанага.

Што было б далей, сказаць немагчыма: крык з усіх бакоў рос, людзей на паляне ўсё больш. Скураны, як бы ўспомніўшы пра свой пісталет, паспешліва стрэліў — ва ўпор у аголены худы жывот павіслага. Рукі распятага напружана павярушыліся і павіслі мякка.

Анямелая Паліна ўсё гэта назірала з-за куста, ускрыкнуўшы ад болю, прыціснула далоні да свайго жывата. Як бы заплюшчваючы вочы дзіцяці.

## 11

Расказваючы пра Паліну, Франца, не-не дый вернешся да самога сябе, мы як-ніяк жылі ў адзін час, вопыт наш не так ужо і адрозніваўся. Вось і пасля расказанай дзікай гісторыі прыгадаўся наш уласны габрэй. Не толькі ў немцаў пры Гітлеру ён быў — уласны ў кожнага. Так павялося ўжо здаўна: Пётр лепш пазнае сябе праз Паўла. А яшчэ лепш — праз Абрама, Ісака…

Быў у нас у атрадзе свой Фуксон, не, нічога з ім такога не здарылася. Пасля вайны сваёй смерцю памёр. На партызанскія

сустрэчы акуратна прыязджаў. Помню фразу, якую наш Мікалай Носаў часта казаў:

— Скончыцца вайна, ты, Фуксон, маеш права казаць: «Я ваяваў». Але калі ты скажаш: «Мы ваявалі!» — глядзі, Фуксон, нос адкушу.

Не, з дружбай народаў у атрадзе было ўсё ў парадку. А Хаім Хануцін, кулямётчык з першай роты, быў фігурай, якую камандаванне наогул за прыклад ставіла. Злы ў яго кулямёт, самы гучны ў кожным баі. Быў выпадак, калі выручыў увесь атрад, тады нас прыціснулі да ракі.

Але не магу забыць адну сцэну, на памяць прыйшла, калі апавядаў пра выпадак з нянашым Фуксонам. (Абедзве гісторыі аднолькава не выдуманыя.)

Вярталіся мы з «жалезкі». Хадзілі туды і вярталіся, што называецца, гамузам. Цэлай ротай. Менавіта так было ў жніўні, у верасні сорак трэцяга — падчас «рэйкавай вайны». Пераваліпі ўжо небяспечную «варшаўку», уніклі ўдала самалётаў, якія пасля трэцяга дня жніўня, калі ўпершыню прагрымеў на ўсёй чыгунцы ў Беларусі «канцэрт», не злазілі з неба, увесь час віселі над намі. Вырашылі адпачыць у вялікай вёсцы Старое Сяло — хто на траўцы прысеў, хто на бярвёнах, прываленых да агароджы, уладкаваўся. Толькі размясціліся — бягуць да нас жыхары з весткай: а вас тут чакае габрэй з Бабруйска. І не проста габрэй, а які два гады хаваўся ад немцаў у нейкай жанчыны. Жыў у яе падвале, быў шаўцом, працай яго карміліся, дваіх дзяцей нарадзілі. (Заўважце, гісторыя нечым падобная на Францаву з Палінай.)

Ён не паспеў яшчэ з'явіцца перад нашымі вачыма, а мы ўжо ведалі: адыходзіў з Бабруйска чамусьці па кантралява-най «варшаўцы», яго, вядома ж, цапнулі паліцаі (профіль!), пераправерылі першае падазрэнне «нямецкім спосабам» — прымусілі штаны спусціць. І вось нейкім дзівам змог з іх падвала ўцячы. Праўда, паспелі з яго выцягнуць, выбіць адрас жанчыны, у якой ад яго дзеці.

Гісторыя, зразумела, сама па сабе неардынарная, ніхто не стаў бы адмаўляць. Але ў залежнасці ад таго, як яе пераказваць, на чым рабіць акцэнты, будзеш глядзець на гэтага чалавека. Па-рознаму глянеш. Для нас акцэнт адразу ж збіўся на адзін бок: выдаў добрую жанчыну, якая яго выратавала. Цяпер усё залежала, якім ён нам здасца жывы, як павядзе сябе. І хто з ім распачне размову. З ротай ішоў Васіль Емяльянавіч, камісар (далей паедзе на сваім кані: разведчыкі прыгналі з атрада) — вось яму і накіроўваць размову.



З'явіўся наш госць у самым няўдзячным для сябе вобразе. Усё ў ім, як знарок, з выклікам і неўпапад. Неўпапад з агульным настроем роты, з уражаннем ад папярэдняга расказу пра яго (тая жанчына і выданыя ўласныя дзеці!), з чаканымі паводзінамі яго. Яму б з выразам гора-бяды, віны з'явіцца, а не з гэтай шыракаротай шчаслівай усмешкай на ўвесь габрэйскі твар. Не спадабалася хлопцам нават тое, што звычайна іх цешыць: як радасна кідаюцца нам насустрач тыя, хто доўга і з вялікай рызыкай шукаў партызан. На шчаслівае яго «добры дзень» камісар — пытаннейка:

— Два гады, кажаш, хаваўся? А чаму раней не прыходзіў?

Ну прыдумаў бы нешта, а то:

— Лепей позна, чым ніколі.

Жартаўнік! Ён што, вораг сабе самому? Знайшоў што сказаць!

— За гэтыя два гады — ведаеш, колькі хлопцаў галовы паклалі!

Адказ горш няма куды:

— Камусьці і жыць трэба.

Ён што, нахабнік? Ці гэта ад разгубленасці, ад нечакана непрыязнай сустрэчы? Ці проста дурны гэты падпольны шавец? Вунь як па-дурному сам жа апавядаў жыхарам пра тое, што выдаў сваю выратавальніцу.

Як бы праверыўшы агульны настрой (і адначасова накіроўваючы яго), камісар задаў яшчэ пытанне:

— Значыць, ты ў партызаны сабраўся? А што можаш рабіць, кім хочаш быць?

— Я-то наогул шавец. Але і поварам магу. Усім магу.

— Усім можаш, — камісар хмурна зірнуў на нас, як бы запрашаючы палюбавацца на гэтага разумніка, — ну а чаму не кажаш: магу кулямётчыкам, магу аўтаматчыкам?

— Калі трэба, калі ласка.

— Ласка твая нікому не патрэбна. Не за нас (мы самі), за сябе паваюй! Досыць усім на дурніцу ехаць!

Калі ў камісара была свая нейкая мэта, дык ён яе дасягнуў цалкам, ані не рызыкуючы парушыць формулу нашага інтэрнацыянальнага выхавання. А як яшчэ з такою нахабаю гаманіць?! Але было і такое пачуццё: з нас вывернулі наверх нешта нячыстае, пра што не хацеў бы нават ведаць, што яно ў табе тоіцца. Ці не таму так ахвотна паверылі, што ён сапраўды выдаў тую жанчыну? І як бы нават узрадаваліся такому факту, які апраўдваў, растлумачваў нашы да яго адносіны.

Рота пастроілася ісці, навічок наважыўся стаць ззаду, да яго пад'ехаў на сваім прыгажуне кані Васіль Емяльянавіч:

— А ты куды сабраўся?

— З вамі.

— У нас повары-шаўцы ёсць. Не маем патрэбы.

Здавалася, з ротай у камісара поўная згода. Ды і ў мяне з ім таксама. Таму я крыху здзівіўся, калі праз месяц ці два ў пасёлку Акцябарскі з воза, гружанага абрэзкамі дошак, нехта радасна мне крыкнуў:

— Добры дзень!

І як бы жадаючы ўзрадаваць:

— А я ў пякарні ў Міцькі!

«Міцька» — суседні атрад нашай жа брыгады. Самае дзіўнае: як ён мог пазнаць аднаго з паўсотні, што яго адверглі, не прынялі? Няўжо ў мяне неяк адрозніваўся тады твар, позірк, што ён мог бы ўспрыняць як спачуванне яму?

## 12

Блакада — такая штука, не дазваляе доўга на адным нечым затрымлівацца, спыняцца. Гоніць бязлітасна наперад, нават калі і бегчы ўжо няма куды. І для Франца з Палінай, для тых, хто поруч, такі момант надышоў — бегчы няма куды, шчыльная страляніна навокал, зусім блізка, поруч. Іх узялі. Франц слухае, чуе, як людзі ў плашчах, плямістых накідках па-нямецку перамаўляюцца: што рабіць з злоўленымі бандытамі? Цягнуць іх цераз балота ці лепш — пакласці на месцы. Тоўсты, у акулярах, яфрэйтар з нечаканай упартасцю пярэчыць старшаму афіцэру: зброі пры іх няма, іх трэба загнаць у лагер! Франц выгляду не падае, што разумее. Не хацеў, каб і Паліна ведала, аб чым змаўляюцца.

Так яны апынуліся ў лясным лагеры. Што за лагер, дзе гэта, не ведалі, дрэнна арыентаваліся, але часта чулася, гучала слова: Азарычы.

Ішлі доўга, амаль цэлы дзень. Зноў і зноў ззаду рэзка стукалі стрэлы — гэта прыстрэльвалі тых, хто ўпаў, не можа ісці. Колькі разоў у Франца вось-вось маглі вырвацца нямецкія словы, звернутыя да тых, каго ён павінен лічыць сваімі землякамі. Але ён маўчаў, хаваючыся за ўжо саромную, ужо ганебную сваю немату. Забраў у аслабелай жанчыны дзяўчынку, нёс яе на плячах, Паліна вяла дваіх за рукі. Дзяўчынка ўсё паўтарала, схіляючыся да вуха Франца: «Я не баюся, я не баюся, немец нас не застрэліць, ты, дзядзя, не бойся».



Лагер — гэта адгароджаны калючым дротам кавалак забалочанага лесу, аніводнага барака, нават зямлянкі, людзі, іх тут незлічоныя тысячы, стаяць, вяла пераходзяць з месца на месца, мёртва ляжаць у халоднай гразі. Вельмі мала мужчын, нават старых, найбольш жанчыны з дзецьмі. Здавалася, і тыдня пражыць тут немагчыма.

Пражылі ледзь не паўгода. Маці Лізы — дзяўчынкі, якую прынёс у лагер Франц, памерла ад тыфу. Цяпер дзяўчынка жыла пры Паліне і Францу. Цэлымі днямі, сіняя, велікавокая, ляжала яна на абжытай імі лапінцы гнілой куп'істай зямлі, грэючыся ўсім, што жывыя забіраюць у памерлых, а яе прыёмныя бацькі таўкліся ля варот у надзеі дачакацца прывозу якой-небудзь ежы. Калі прыходзіла машына, паліцаі, немцы шпурлялі ў галодны натоўп падмерзлыя баханкі хлеба, стараючыся абавязкова патрапіць каму-небудзь у галаву бурачнымі «гранатамі» — проста ў твар, весяліліся, забаўляліся. Налятай, не зявай! І наляталі з апошняе сілы, затоптваючы тых, хто слабейшы, выхопліваючы хлеб, як уласнае жыццё, з чужых рук. Але затое якое шчасце ў вачах дзіцяці (Лізы!), што бачыць хлеб у тваіх руках.

Франц, гледзячы на задаволеных сваёй сытасцю і ўладай над тысячамі жыццяў ахоўнікаў, мог уявіць сябе на іх месцы. Ён таксама мог стаяць на вышцы з кулямётам, на машыне, цэляючы з кулямёта ў Паліну, Лізу, забаўляцца страляніной па іх усіх, шпурляць хлеб, як цагліны, ім у галаву. І быў бы ён таксама Франц — дык хто ж, што ж такое людзі.

Лізачка пратрымалася ўсяго толькі да першага снегу. Выбраўшыся з-пад гары брудных целагрэек, кажухоў, глянула на белы саван, што пакрыў жывых і мёртвых у гэтым страшным лесе, сказала яшчэ: «Мама (Паліне), папрасі ў таты (у Франца) хлебца...» І памерла — з румянкам на змарнелым тварыку. Тыф, насцігаючы чалавека нават на апошняй стадыі знясілення, успыхваў вось такім непраўдападобным румянкам, падманным, развітальным. Чалавек паміраў, і тады ўсе вошы выпаўзалі наверх, бегучы ад халоднай смерці на мароз. На памерлых жанчынах, што ляжаць па ўсім лесе, калі хустка ці кажух — дык шэрыя ад гэтай пошасці.

Спачатку памерлых збіралі на павозкі, вывозілі да ям — ірвоў ля драцяной агароджы, а калі выпаў снег, ударылі маразы, і трупны смурод, што тхнуў у лесе на дзясятках гектараў, адступіў, гэтым перасталі займацца. І хлеб, нават гнілую бульбу амаль перасталі прывозіць. Ахова засела на сваіх вышках і ў бараках за дротам, а зачыненыя ў лагеры паўтрупы — у земляных но-

рах, амаль не выпаўзалі, толькі з некаторых ледзь прыкметна выходзіла на паверхню пара іх нямоглага дыхання.

Цяпер толькі Паліна дзяжурыла ля варот з некалькімі, такімі ж, як яна, чалавечымі істотамі, што змяніліся непазнавальна. Франц амаль не пакідаў брудней земляной нары пад адзіным у гэтым кволым сасновым лесе дубам. Паліна, вяртаючыся з хлебам (а гэта было ўсё радзей і радзей), часам знаходзіла яго ўжо наверсе: цярпліва чакаў, а раптам не з пустымі рукамі. Як у свой час — Ліза. Вошы паверсе ўжо ішлі, самае жахлівае, яны нават на бровах у яго. А ён не заўважае, не разумее, што гэта перашкаджае яго вейкам, жаласна міргае — о, Божа, і гэта яе Франц! Глядзіць на яе рукі, на хлеб, як бы баючыся, што не дадуць, што яму не дастанецца. Як быццам Паліна калі-небудзь не дзялілася з ім. Яна б і сваё аддала, але не ёй жа адной трэба, а яшчэ і дзіцяці, іх дзіцяці. Часам здавалася, што ён ужо і нежывы там, нічым аб сабе не нагадвае. Бывае, аддаўшы ўвесь хлеб Францу (ён хапаў і тут жа поўз у нару), яна падала на снег і плакала — ад крыўды на Франца. Як, як ён можа такім быць, так выглядаць перад ёю? Значыць, яму цяпер яе каханне не патрэбна, яе павага. Анічога, акрамя кавалка хлеба.

13

Мой сябар-філосаф зламіў удалую думку: а што, калі палічыць, колькі разоў слова «раптам» і яго сінонімы сустракаюцца на адной старонцы ў розных аўтараў. Г. зн. як часта час-жыццё спатыкаецца на бягу. У прозе Пушкіна падкрэсленыя чырвоным фламастарам словы мільгаюць толькі зрэдку, як верставыя слупы. У Талстога часцей, але ў той жа рытмічнай паслядоўнасці. І раптам запалалі старонкі! Гэта раман Дастаеўскага.

Ну а калі само жыццё можна было б вось так размеціць, уласнае ці нейчае? Колькі разоў «раптам» на працягу дня? Павароты, рыўкі, нечаканыя падзеі. Ну а калі існаванне, як у Франца з Палінай, калі нечаканасцю не з'яўляецца ўжо і смерць? Яна — штодзённасць, знікла мяжа, граніца паміж жыццём, быццём і нябытам.

У Азарыцкім лесе сам час спыніўся: здавалася, нічога ўжо не можа здарыцца. Памрэш — дык хіба гэта падзея?

Раз у некалькі сутак з ямы пад каранямі дуба, па краях якое брудная наледзь (быццам і дыханне ўжо нячыстае), выпаўзала непраўдападобная істота, мяркуючы па апратцы і шматах валасоў, што тырчалі з-пад хусткі, жанчына, не адразу выпрасталася, нейкі час яна абапіралася дзвюма рукамі аб дрэва. Затым, перабіраючы імі па ствале, выпросталася і, нарэшце, адштурхнуўшыся, пачынала рухацца… бягом. Але толькі пяцьдзесяць крокаў, і тут жа падала: ногі не паспявалі за целам. І ўсё пачыналася спачатку. Твар… У твар, у вочы лепш не зазіраць. Пашкадуем Паліну.



І не станем зазіраць у нару, дзе бязвылазна ўжо ляжыць той, хто быў Францам.

Але ўжо свеціць па-вясноваму сонца. І нейкія гукі даносяцца ўранку ў гэты мёртвы лес з таго боку, адкуль яно ўздымаецца. Людзі, якія рухаліся і жылі па-за лагерам, маячылі на вышках, рабіліся ўсё больш неспакойнымі і задуменнымі. Але не будзем і ў гэтыя твары зазіраць — што нам да іх? Мала яны нянавісці атрымалі і мелі, ці што? Хаця нікому ад гэтага не лягчэй.

І раптам нешта адбылося ў свеце, з якога, здавалася, назаўсёды пайшло яно, вялікае РАПТАМ. Паліна сяк-так дапаўзла да бруднай пляцоўкі блізка ля варотаў, убачыла звыклы натоўп з адных жанчын, нарыхтавалася чакаць, спадзявацца на цуд з'яўлення хлеба, як дарэмна чакала некалькі апошніх дзён. Але што гэта, куды ўсе так напружана і ашалела глядзяць? Глянула і яна, нічога не зразумела: вароты расчыненыя насцеж *і аніводнага ахоўніка навокал*! Цішыня неверагодная.

Людзі як быццам пабачылі некага там, за варотамі, на гразкай дарозе, што ішла ў лясную далеч, — закрычалі і пабеглі. Блытаючыся ва ўласных нагах, хістаючыся, некаторыя бабы падалі і ўзняцца не мелі сілы. Гэта быў дзіўны бег, як у сне, калі сэрца выскоквае ад шпаркіх удараў, а ногі ледзь-ледзь варушацца. Калі б Паліна азірнулася, яна пабачыла б, што іншыя бягуць назад, у свой лес, да пакінутых там дзяцей і блізкіх. Але такіх было няшмат. Астатнія не помнілі ў той міг нічога і адно бачылі расчыненыя вароты. І нават калі пачуліся першыя выбухі на дарозе, на паляне (беглі, рассыпаўшыся шырока), не спыніліся. Нічога не разумелі, а потым пачуліся крыкі: «Мі-іны! Людзі, мі-іны!»

І тут ірванула каля Паліны, не пад ёй, а пад старым, што бег наперадзе, смуродам і агнём паласнула яе па вачах, па твары. Заціснуўшы твар далонямі, рукамі, упала ў гразь. І паклікала:

— Мама!

Успомніла і нячутна сказала:

— Даруй, Франц.

Хто яе падняў, хто вёў назад, яна не бачыла: вочы заляпіла, ёй здавалася, гэта кроў перашкаджае глядзець, зліпліся пальцы, якімі закрывала твар. Галасы навокал, крыкі былі спалоханыя,

але ўсё роўна радасныя. Ёй трэба было пачуць Франца, яго голас. Нехта стагнаў побач, а жанчына пранізліва крычала, падумалася: як парадзіха! І пра свайго: спужаўся, маленькі? Гэта мама твая вінаватая, усё мама!..

Франца яна выглядзела з машыны. Перад гэтым загуло, і зноў закрычалі, усё так жа незразумела радасна. Паліна ў жаху, у адчаі церла вочы, сцірала кроў, ліпкую цёплую заслону, каб убачыць, каб глядзець — шчымеў твар, скура на левай шчацэ, на шыі і лбе, правым вокам чула святло, ды і толькі.

Потым каля яе пачуліся забыта спакойныя чалавечыя галасы, нехта кранаў яе твар мужчынскімі, з пахам тытуню, пальцамі, прасілі яе прыбраць свае рукі.

— Правае цэлае, здаецца… — пачула яна. Моцна запахла аптэкай, нечым халодным-халодным змачылі твар. Яна моцна прымружыла павекі, усё спадзеючыся: вось зробяць так і так — расплюшчыць вочы і будзе бачыць. І праўда — правым разгледзела высокага ваеннага ў шэрым шынялі, непраўдападобна тоўстую кабету ў белым халаце ўзверх целагрэйкі.

— Перавяжыце — і на машыну. Астатняе потым, — загадаў ваенны і адышоў да іншых.

З машыны і выгледзела Франца. Твар яе, пачварна і цёпла загорнуты ў вату, бінты, але адно вока расплюшчана. Пабачыла: стаіць адзаду за ўсімі, позірк тупа-разгублены, не, як у забытага, згубленага дзіцяці. Выгляд жудасны. Як бы цяпер толькі пабачыла напраўду ўсё. Тоўстая кабета ў халаце нецярпліва азірнулася на яе вокрык.

— Ну што там? Вы каго клічаце? Муж? Гэта які, хто? Нямы? Дзе тут нямы? Хто муж гэтай жанчыны? Давайце яго на гэтую машыну.

## 14

Калі вучыўся ў Мінскім універсітэце, у нашым пакоі на вуліцы Няміга былі адны толькі франтавікі і нядаўнія партызаны. Як і ў многіх іншых пакоях. Наш асабліва знакаміты быў баяністам — Іван Іванавіч з фізмата. Усе танцы на калідоры мяцелілі пад яго музыку. На вяселлях рэпертуар Іван Іванавіч вытрымліваў строга класічны. Па адным зводзілі нявесты-жонкі нашых франтавікоў-партызан, і праводзіў іх у мірнае жыццё Іван Іванавіч маршамі: з «Аіды», з «Фауста». Толькі потым, пазней, мы гэта пачулі ў выкананні сімфанічных аркестраў.



А вось на яго вяселлі нашых было мала. Па-мойму, не захацеў нас бачыць у сябе. А дакладней, каб мы бачылі.

Толькі ў дзень яго пахавання, Івана Іванавіча — праз доўгія гады, — я пабачыў яго жонку, пабываў у кватэры. Ляжаў ён у труне ў такім нязвыклым на ім касцюме (заўсёды ж у чорнай, усё адной і той жа, гімнасцёрцы), а на крэсле каля яго сядзела жанчына, увесь час адвярнуўшыся. Я ведаў, мы ведалі, а тут я ўпершыню разгледзеў: шчака чорная, як застаецца ад блізкага выбуху, вока адно жудасна нерухомае, устаўное. Ёй самой, магчыма, было ўсё роўна, як яна выглядае, адварочвалася ж (раптам падумалася) *дзеля нябожчыка*. Раз ён не клікаў нас да сябе, значыць, не хацеў, каб бачылі.

А ведалі ж яго гісторыю, на рэдкасць рамантычную ў наш не дужа рамантычны час. Помню, я перажываў яе амаль са слязой, калі неяк пачуў. Сам ён і расказаў. У групе яго падрыўнікоў, якую Ваня вадзіў на «жалезку», той раз апынулася ў ёй, магчыма, сама напрасілася, гэта здаралася, маладзенькая дзяўчына. Калі адыходзілі пасля ўзрыву эшалона, уцякалі, яна напаролася на міну. Некалькі вёрст ён нёс яе на руках. Успамінаючы, сказаў: «Прыціснулася, худзенькая, дрыжыць, як дзіця…». Вось гэтая памяць іх і пажаніла. Мабыць, ён ганарыўся сваім учынкам: не тым, ля чыгункі, а пасляваенным. А былі ці не шчаслівымі — хто ведае? Было гора на твары ўдавы, але дабраты, здаецца, няшмат. А Ваня і запіваў моцна і ўвесь час на сухоты хварэў. Сын іх трапіў у турму, на пахаванні бацькі яго не было.

Каб за ўсё добрае ўздавалася поўнаю меркаю — было б проста жыць. А жыццё не простае.

## 15

На сконе лета 1944 года над размытымі і зарослымі лебядой папялішчамі Петухоў чуўся адзінокі гук. Нямоцны, вялы, як бывае, калі счэсваюць кару, звонкі, сухі, калі проста на зрубе высякаюць канаўку, каб пакласці мох, — дзеля злучэння з наступным вянцом бярвёнаў.

На ўзлеску стаяць двое і ўслухоўваюцца. Зрэшты, іх трое — на руках у жанчыны, загорнутае ў марлевы шматок, прыкметна забруджаны, спіць малое. І хусцінка на галаве ў жанчыны з марлі, ад гэтага асабліва прыкметныя чорныя крапінкі на знявечанай левай шчацэ, на лбе. Ля ног мужчыны армейскі рэчмяшок, сам ён у рускім шынялі, як на яго кароткім, увесь у бурых плямах, заношаным.

— Гэта татка, мой татка! — шэптам ускрыквае жанчына. — Я як голас яго чую.

— І прыйшлі яны ў Віфлеем…

— Мне не верыцца, што мы зноў тут!

— І прыйшлі ў Віфлеем, бо казаў Аўгуст адправіцца кожнаму туды, дзе нарадзіўся. Язэп пайшоў запісацца з Марыяй, абручонаю яму…

Па дарозе Франц ужо некалькі разоў узгадваў пра біблейскі перапіс, а наогул жа яны з Палінай вельмі ўзрадаваліся, калі ў ваенным шпіталі ім выдалі паперку, адну на дваіх (са згадкай пра дзіця): «Пераправаджаюцца па месцы даваеннага пражывання».

У тым шпіталі яны прыжыліся надоўга. Франц працаваў на нарыхтоўцы дроваў, Паліна, крыху акрыяўшы, пры кухні і санітаркай, а затым надышоў час раджаць. Выявіла, што за час, пакуль хварэла, яе «нямко» стаў агульным любімцам у шпіталі, медсёстры яго шкадавалі, падкормлівалі. Нават прыраўнавала:

— Ты цяпер мяне такую памяняеш. Я ведаю.

А Франц усміхаўся так, што хацелася верыць: пачварна склеенае яе вока і гэтая жахлівая чарната, якую не змыць з шчакі, для Франца як бы нябачныя.

Стары Кучэра здалёк убачыў і стаў углядацца: што гэта за жанчына так спяшае, кіруючы да яго селішча, сядзібы. Белая хусцінка то ўзнікае, то хаваецца ў бярозавай зеляніне. Апошні раз цюкнуў сякерай і, не злазячы з высокага зруба, сачыў за жывой плямай вачыма, стомленымі ад шматдзённага бязлюддзя. Калі ўбачыў на руках у жанчыны дзіця, нясмелая думка — а раптам Паліна? — стала чэзнуць. Але ўсё адно цікава, хто гэта — а раптам знайшоўся яшчэ адзін петухоўскі жыхар?

Паліна ўжо бачыла, пазнала бацьку: галава зусім-зусім белая, а твар прыгожа-загарэлы і вусы, барада ўсё яшчэ цёмныя. Татка, татка! Камяк слёз не выпускаў голасу, крыку.

І калі яна выбегла з кустоў з заплаканым дзіцём, якому перадалося хваляванне, і выкрыкнула-ткі: «Тата!», — стары невядома як апынуўся на доле. Кульгаючы (Паліна спужалася, што стукнуўся, злятаючы са зруба), рушыў ёй насустрач. Паліна, дачка! Але што гэта ў яе з тварам, з шчакой? І чыё малое на руках? Як жа яна нагадвае сваю маму! Маладую, беламорканальскую.

— А донька мая, а што з табою зрабілася! — падобна па сабе загаласіў бацька. Абняў яе разам з дзіцём. — Ну нічога, нічога, галоўнае, жывыя, сустрэліся. А дзе ж мамка, жывая?

Паліна, павярнуўшыся, паглядзела на тое месца, дзе яны з Францам пакінулі ўзгорачак-магілу, там усё парасло бур'янам, травой.



— Дык гэта яна? Я чамусьці так і падумаў. Так і падумаў.

— Мы тут вырашылі пахаваць, — Паліна сказала «мы» і азірнулася ў бок узлеску. Франц там, чакае, калі паклічуць.

— А Паўлік? Ён што, у арміі? — у сваю чаргу спытала ў бацькі.

— Пайшоў наш Павал, сказаў, пайду дабіваць звера ў логаве. Некаторых пакідалі працаваць у раёне, а ён: пайду дабіваць. І вось…

Стаў шнарыць у кішэнях, затым махнуў рукой у бок буданчыка, каля якога валяюцца апраткі, кацялок стаіць з лыжкай, вядро.

— Там пахаронка. На Вісле склаў галаву наш Паўлік.

Відаць, каб не даць ёй заплакаць, тут жа спытаў у Паліны пра дзіця, якое моўчкі, ацэньваючы, вывучала дзеда.

— Тваё?

— Наш Паўлік, — знарок націск зрабіла: наш! — Мы яго так назвалі. О, Божа, як быццам адчувала!

— А бацька хто?

— Тут, тут, таксама прыйшоў, — Паліна паказала на лес. — А што ў вас з нагой?

— Ды крыху мінай зачапіла.

— І мяне, татка, во, бачыш! Але Франц кажа, што затое не згублюся, прыкметная.

І заплакала.

— Ну нічога, нічога. Затое во які ў вас харашун! Франц, кажаш? Што ж ён у лесе хаваецца, як салавей-разбойнік?

— Ой, я вам усё, усё растлумачу. Мама вам тое ж самае сказала б. Яны так пасябравалі.

— Чакай, чакай! Мне Павал расказваў… Дык гэта ён?!

— Так, ён, татка.

— Не-мец? Вось не чакаў, не гадаў! Ведаў, што адчайная ты ў нас галава, але каб на такое адважыцца! Ты кеміш, што пра цябе людзі казаць будуць? Як жыць нам цяпер? Тое і яно, што хаваецца ў лесе. Так і будзем жыць, дачка?

— Пабачыш, татка, пабачыш, які ён! Вы што, вось так адзін гэты зруб і складваеце?

— Дзякуй, хоць лес памаглі вывезці ваякі… Ага, дык гэта ты мне памочніка прывяла?

— Накіравалі нас — «па месцы жыхарства». І дакумент ёсць. Ён такі старанны, Франц, такі рукасты, лекары проста ўлюбіліся ў яго.

— Ну а ты, ясная справа, тым больш. Значыць, гэта ён вас выратаваў тады? Ну што ж цяпер рабіць будзеш? Кліч свайго салаўя-разбойніка. Будзем разбірацца.

Пакуль да іх набліжаўся немец-зяць, пакліканы радасным голасам любімай дачкі, партызан Кучэра з нейкім нутраным нервовым смяшком зноў прабягаў сваё жыццё: нічога не скажаш, толькі гэтага яму яшчэ не хапала!

— Дзень добры, Іосіф Герасімавіч! — сціпла і зусім патутэйшаму павітаўся цыбаты дзяцюк у заношаным рускім шынялі, галава караткаголеная — так выглядалі савецкія ваеннапалонныя ў 41-м. Што ж у ім ад немца засталося?

— Добры, кажаш, дзень? Што ж, будзем спадзявацца. А за іх — дзякуй! — паказаў на Паліну, глянуў на магілу жонкі. — Лёс, значыць, такі. Добры ў вас хлапчына, унё, чмыхае, як сярдзіты вожык.

— Ой, праўда, татка! — узрадавалася Паліна, што так усё добра складваецца. — Ніколі не плача, адно сярдуе, калі галодны.

— Ты што, — спытаў Кучэра ў Франца, — камуніст? Рот фронт, як гаворыцца?

— Найн… Не. Хрысціянін. Бацька ў мяне пастар.

— Гэта тое ж, што святар, татка.

— Ведаю, ксёндз. Я пра камуністаў сказаў, бо іх раней з палону дамоў адпусцяць.

— Пры чым тут палон, татка? Франц не ў палоне. Ён з намі.

— З намі-то з намі. Калі, вядома, атрымаецца. Чалавек плануе, а ўлада руйнуе.

— Не за дрот жа яму ісці!

— Ворагу не пажадаю, ты мяне, дачка, не хапай за вусы. Вось так, Франц, — усё-ткі не ўтрываў партызан Кучэра, — вашы марылі савецкіх бачыць палоннымі, цяпер самім даводзіцца. Ты курыш? Паліш? Як кажуць нашы і вашы суседзі на Вісле?

Выграб з кішэні зялёнага нямецкага фрэнча, што валяўся ля буданчыка, нейкую залезку, крэмень, сушаную чагу-цэру, металічную маслёнку, з якой на лапік газеціны сыпануў тытуню, згарнуў цыгарку і ўзяўся здабываць агонь.

— Кацюша, — паведаміў Францу, — дзівосы тэхнікі!

Агулам здабылі, высеклі агонь. Немец старанна трымаў сухі кнот, ловячы іскры. Затым сам выштукаваў сабе цыгарку і прыкурыў у цесця.

— Трубка міру! — сказаў крыху збянтэжана.

— А ты нічога сабе хлапчына! — прыкінуў Кучэра. — Глядзі, што і пражывем. Смеху дзеля.



16

Так і зажылі ўчатырох на пажарышчы вёскі Петухі. Паліна, трымаючы на вачах Паўліка, гаспадарыла «па дому», а гэта — увесь сад, агарод, наспех складзеная печка, на месцы лазенкі, адным словам, усё, акрамя хаты. А хату вось-вось падвядуць пад страху яе мужыкі.

Прыбіўся да іх сабака, спачатку напужаў Паліну: воўк! Вушы тырчма, морда рыжая, амаль сівая— Паліна адразу прыгадала таго, што з моста на яе глядзеў: ці не ён? Сабака-«воўк» круціўся воддаль: ляжа пад кустом і глядзіць. А то раптам прабяжыць, ну зусім поруч, зазіраючы людзям у вочы. Яшчэ ўкрадзе хлопчыка! — пужалася Паліна. Хаця б яго адагналі мужчыны! А аднойчы, калі абедалі, падышоў нерашуча на адлегласць рукі і, скавычучы, лёг ля старога Кучэры.

— Ну і правільна, — спакойна сказаў стары, — куды табе без людзей? Гэта ж ён просіцца назад да нас. Бачыш, і сабака не хоча быць воўкам. Як цябе будзем клікаць? Усё-ткі: Воўк. Добра? Ну мы гэта знарок. Мы ж ведаем, хто ты. А дрэнныя людзі няхай думаюць.

Так і прыжыўся воўкападобны сабака. Але Паліна не адразу паверыла ў яго сабачую пароду. Затое Паўлік з Воўкам пасябравалі імгненна. Вялізарны сабака як бы з павагі да пачуццяў маці стараніўся яго, але больш дзеля выгляду. Глядзіць пры гэтым на жанчыну: «Бачыш, гэта ён сам, я тут ні пры чым!»

Стары Кучэра і Франц ужо канчалі ставіць дом.

— Не, вы, немцы, што ваяваць, што будаваць, — майстры! — знізу казаў Кучэра падаючы кроквіну. — Як жа вы з гэтым Гітлерам лажануліся? Хаця хіба вы адны?

Бацька часта ездзіў у раённы цэнтр — па цвікі, інвалідны паёк забраць, прывозіў газеты. Выходзіў на шлях, гэта вярсты са тры ад Петухоў, там лавіў папутку. Вяртаўся часам і вясёлы. У «раёне» ў яго сябры-партызаны, многія начальнікамі парабіліся.

А аднойчы вярнуўся такі падаўлены і ўстрывожаны, што Паліна адразу заўважыла, спалохалася: што, што-небудзь з Францам?..

— Ды жыў будзе твой Франц. Проста стаміўся я.

Не схацеў расказаць дачцэ. Што з таго, калі і яна будзе нервавацца? А здарылася вось што. Ля гасмага сустрэў яго ваенкам, аднарукі капітан: зайдзі, медаль табе ўручым! Партызанскі. Не кожны дзень былому зэку медалі выдаюць — выкраіў час і забег у дом з цёмна-чырвонай цэглы. А капітан павёў сябе нейк

непуцёва. Сказаў пагуляць яшчэ з гадзіну, ён, маўляў, заняты, не можа адарвацца ад іншых спраў. А калі паўторна прыйшоў Кучэра, там сядзеў яшчэ адзін вайсковец, пухлы, як баба, маёр у лётчыцкіх пагонах. Скуль у такой дзірцы ды такія лётчыкі? Ну лётчык дык лётчык — дзе ж абяцаны медаль? Ажно ваенкам звязаўся з райкамам, а там узнікла ідэя правесці гэтую справу арганізавана: уручыць прынародна ўсім адразу. Капітан чамусьці вельмі мітусіўся, а лётчык вывучаў Кучэру з вялікай цікаўнасцю, як быццам яны знаёмыя былі і зараз: га, ды гэта ты! — абдымуцца. Але не кінуліся адзін аднаму ў абдымкі, а Кучэра пайшоў, чамусьці ненавідзячы лётчыка. Гэта які ж самалёт патрэбен, якая кабіна пад такога кныра?

Зноў стала праблемай: як быць з Францам? Дзе начаваць яму, што адказваць, калі хто-небудзь усур'ёз зацікавіцца нямым зяцем Кучэры? А калі самім Кучэрам зноў зацікавіліся (хутчэй за ўсё гэта!) ды знойдуць у яго хаце беглага немца — быць таму лётчыку падпалкоўнікам, калі не вышэй. Ці не занадта для яго?

І што стане з Палінай, з хлопчыкам: нямецкая подсцілка! Нямецкі байструк! Мала што немцы знявечылі дзеўку, цяпер гэтыя будуць здзекавацца. Аб сабе самім Кучэра, здавалася, ужо не дужа непакоіўся. Бярыце, жарыце з усім дзярмом, калі вы ніяк не нажарацеся! Калі ўсё жыццё дабіраецеся, супынку на вас няма!

Зноўку беднаму Францу начлег сталі ладаваць асобна, хацелі нават у лесе, а затым прыстасавалі дзеля гэтага незгарэлы хлевушок на чужой сялібе — гэта называлася: пайшоў Франц у прымы! Паліна яго праводзіла ды і заставалася з ім часам. А хлопчык спаў з дзедам. Тлумачэнне для іх Кучэра прыдумаў такое: усюды шнараць, адлоўліваюць паліцэйскіх, дэзерціраў, могуць і сюды набрысці. І яшчэ адну рэч прадугледзеў Кучэра: так распланаваць пакоі і каморкі ў новай хаце, каб у Франца была свая хованка. Не звыкаць гэта рабіць: навучылі фашысты, а яшчэ раней — і свае.

Кучэру час ад часу наведваў ягоны партызанскі сябрук — заўсёды ружовы, заўсёды вясёлы і шумны Каляда Віктар. Працаваў ён недзе ў леспрамгасе, няблізка, а тут вучылася дачка ў тэхнікуме: прывозіў ёй бульбу, рыбу, называючы гэта «дзяржпастаўкай». І штораз заверне ў былыя Петухі, і абавязкова з сваім «гаручым». Не расказвайце мне казкі, што зяць не п'е! Не п'юць або скнары, або хворыя. Ты што хочаш, Кучэра, каб пра зяця твайго такая пагалоска пайшла? А што нямко, дык ён у нас адразу разгаворыцца ад «палескай бранябойнай».



Усю тайну Кучэра нават сябру не выдаў, хаця на ўсякі выпадак загаворваў з ім, што, маўляў, калі што, памажы маладым. Хаця б перабрацца ў твой леспрамгас, калі там і праўда так вольна вам жывецца. А што што? Нічога такога. Але ўсе пад Богам ходзім. І пад НКУС. Пра даваеннае Каляда ловіць з паўслова. У партызанах абмяркоўвалі амаль адкрыта. І нават цяпер артачыцца Віктар Каляда: нас, партызанаў, лепш не чапайце, мы і фашыстаў не збаяліся! Фашыстаў — так, але гэтыя дастануць цябе гэтак, што забудзеш, хто і што ты.

Пагрозіцца, пабалакае Каляда і як бы весялей жыць.

— Добра табе, Паліна, ты свайму мужыку што ні кажы, а ён у адказ маўчок. Вось бы маёй такое шчасце. Ці мне. У маім доме ніхто не змоўчыць. Гэта як каму пашэнціць. Вось гэтыя два пальцы, якая мне карысць ад такой рукі (на правай у яго толькі два пальцы засталося), а вось Чэрчылю б такую: вікторыя! Перамога!

Дарэчы, калі паў Бэрлін і нават да Петухоў даляцела: Перамога! — вырашылі адзначыць. Якраз і ўлазіны паспелі. «Дом як звон!» — любы сказаў бы. Але не кожнаму дадзена даведацца, што дом гэты з сакрэтам. Франц, выявілася, прыроджаны майстар па дрэве. Кучэра крыху скіраваў, а далей ужо сам за ім ледзьве паспяваў. Францава прыдумка: дзверы ў сакрэтную камору-прасценак зрабіць у выглядзе жалюзі. Дошчачка за дошчачку заходзіць, узняў, апусціў — і ты ў прасценку, як у пенале, усіх чуеш, а цябе не бачаць.

Дом яшчэ пуставаты, але стол ёсць, лаўкі ўздоўж сцен, ложак, нават шафа. Ёсць на што сесці, за што сесці. А тым больш — вайне канец. Тут і без падганяння Каляды вып'еш. Калі ёсць што. Знайшлося. Паліна першая ўзняла сваю кропельку ў шклянцы:

— Каб нашым дзецям таго не ведаць, што нам давялося.

Мужчыны міжволі паглядзелі на Паўліка, што самавіта сядзеў за сталом, і на яе ўжо такі прыкметны, «новы жывот». Ловячы ўсмешку Паліны, Франц раптам скеміў: гэта ж Моны Лізы ўсмешка, павернутая, звернутая ў сябе! Ды ніякай іншай «загадкі» Моны Лізы не існуе — акрамя таямніцы яе цяжарнасці. У гэтым разгадка Джаконды: маці, што ўсмешкай гамоніць з дзіцём, якое ў ёй. (Вось што ён скажа бацьку, калі зноў яго пабачыць. І не ў Луўры, а ў Петухах прыйшло да яго гэтае разуменне.)

Як бы злавіўшы нешта ў яго думках, стары Кучэра ўзняў шклянку:

— За тваіх, Франц, бацькоў. Каб сустрэліся вы.

Франц устаў, пастаяў. І сеў.

— Ну і правільна, — згадзіўся Кучэра, — вып’ем моўчкі.

— Не, паспрабую, — зноў прыўстаў Франц. Пастаяў, падумаў. — Я забіў чалавека. Каб жыў у Германіі, лічылася б: забіў немца. Тут: забіў нацыста. Але і так і так: чалавека. Калі па Евангеллі. Я толькі не ведаю, на кім той габрэй.

— Не на табе, Франц, не на табе! — звыкла заспяшалася на дапамогу Паліна.

Франц нявесела ўсміхнуўся:

— Хіба што групавое. Але такое злачынства ацэньваецца нават зямным судом стражэй. Толькі б на іх не ўпала.

І зноў паглядзеў на Паўліка і на жывот Моны Лізы.

## 17

І трэба ж каб яны сваю дзяржаўную справу прымеркавалі да таго часу, калі Паліне прыспела раджаць.

Кучэра і Франц, абодва аднолькава разгубленыя, грэлі ў чыгунках ваду, а Паліна, лежачы ў пасцелі, саромеючыся сябе, саромеючыся бацькі, распараджалася, што трэба падрыхтаваць, з чым быць напагатове, калі гэта і сапраўды роды. Збіраліся праз тыдзень запрасіць вопытную бабку з суседняй вёскі, каб пажыла ў доме, чакаючы тэрміну. А тут, на табе, пачалося! Цяпер разлічваць даводзіцца толькі на сябе — ёсць з чаго разгубіцца. На вуліцы забрахаў Воўк, па вокнах паласнула святло ад машыны, што пад’язджала. Хутка ў тайнік — гэта яны! Не крыкнуў, а паказаў Францу рукой, збялелым тварам Кучэра. І дачцэ:

— Нічога, нічога. Ты толькі не палохайся. Гэта ў іх да мяне гаворка. Па старых справах. А са мной нічога не зробяць.

І тут пад акном ударыла аўтаматная чарга.

У свой час Іосіфа Кучэру арыштавала ОГПУ, затым НКУС. Цяпер да хаты пад’ехала МГБ — у асобе маёра Кароткага і двух яго малодшых супрацоўнікаў. Тым самым Кучэру аказвалася некаторая павага. Усё-ткі партызан, у яго магла захавацца зброя. Можна было б выклікаць пад нейкай зачэпкай у раён і там арыштаваць. Але раптам западозрыць нядобрае і знікне — лес жа побач, для партызана звыклы. Але нават не гэта галоўнае. Нехта не паверыў бы, але маёр Карkorоткі ведаў: тут не шараговы выпадак, тут высокая палітыка дыктуе правілы, паводзіны. У кіраўнікоў МГБ на самым версе (а з гэтымі не да жартаў!) умацавалася пераканане (падмацаванае сустрэчнай інфармацыяй з месцаў), што быў дапушчаны пралік, калі не палітычная памылка, раз у вызваленай ад акупантаў рэспубліцы, у сталіцы



і на месцах, многія партыйныя і савецкія пасады аддадзеныя былі партызанскім камандзірам і наогул усёй гэтай партызанскай піз…брацыі. Лічылася: яны лепш ведаюць абстаноўку і людзей, былі тут у вайну, добра арыентуюцца. Так яно ўсё, ды толькі Лаўрэнцій Паўлавіч ужо ў час вайны не дужа ім усім давяраў. Таму і засылаў свае спецатрады з добра праверaных людзей. Але за ўсімі ўсачыць было немагчыма. У іх, у мясцовых, склалася і наладзілася свая сістэма сувязяў і кадравых ацэнак людзей. Якая падмяняе тую, што ідзе з Цэнтра, часам нават з нахабнымі спробамі самастойнага выхаду на Сталіна. Колькі гадоў спатрэбілася Іосіфу Вісарыёнавічу, колькі намаганняў каштавала тым жа органам, каб раскалоць глыбы сувязяў часоў грамадзянскай вайны, дамагчыся, каб ніці, цягі ад улады ішлі выключна зверху ўніз, а ніяк не па гарызанталі. Калі замест строга кантраляваных узаемаадносін на ўсіх узроўнях пачынае панаваць Сістэма: «Вась-Вась». Я яго ведаю, я яму веру! Як быццам гэта не кампетэнцыя выключна органаў: ведаць, каму верыць, а каму не. Там былі сувязі непатапляльных і тых, якія палічылі, што яны непатапляльныя, Чапаевых. І калі з тымі саўладалі, дык ужо з гэтымі, ды пры набытым вопыце!.. Яны, дурні, разлічваюць, што Сталін іх падтрымлівае. Гэта каго ж — закаранелых тэрарыстаў? Гэтых якраз Іосіф Вісарыёнавіч больш за ўсё і любіць.

Вось і мясцовы выпадак, прыклад. Органы, ведучы працу па выяўленні тых, хто, скарыстаўшы напад ворага, уцёк з турмаў, з-пад аховы, выйшлі на след Кучэры Іосіфа. Вядома, ён прыкрываецца тым, што партызаніў. (Іншыя пабывалі на фронце, а некаторыя і ордэнаў нахапалі.) Але ёсць рэвалюцыйны правапарадак. Раней атрымай заслужанае, а потым будзем пра новыя поспехі твае гаварыць. Асабліва калі і поспехі — з разлікам прыкрыцца. Вось тут у іх запрацавала сістэма: «Вась-Вась». Амбіцыі партызанскія. Усе яны былі на акупаванай тэрыторыі, у кантакце з ворагам. Каго пакідалі, а хто і сам застаўся. Яшчэ трэба разабрацца, навошта, з якой мэтай. З-за нейкага Кучэры і ўжо, калі ласка, канфлікт, заступаюцца, умешваюцца ў працу органаў. І нават у саміх органах знаходзяцца такія. Туды таксама насовалі сваіх партызанчыкаў.

Чуваць гаворкі, што да самога Сталіна дайшла патрэбная інфармацыя. І нібыта Іосіф Вісарыёнавіч папыхкаў люлькай, пасмактаў і прамовіў такія словы:

— Партызанам і партызанкам слава! Якія аддалі жыццё за чэсць і незалежнасць савецкай радзімы. Ну а хто прымазаўся, на гэтых у нас ёсць правераныя бальшавіцкія метады.

Маёр Кароткі пакінуты быў у раёне, калі разгортвала сваю сецъ армейская контрразведка. Па вось столькі нахлёбаўся гэтых мясцовых амбіцыяў, замаскаванага нацыяналізму. Спыталі б яго тыя, хто вырашае, ён бы растлумачыў, адкуль ногі растуць.

Так што акцыя: арышт скрытага ворага народа — не проста выняцце нейкага калгасніка, а ўдар па парадках, што склаліся. І таму паехаў на заданне сам маёр Кароткі. А перад гэтым не паленаваўся, схадзіў у ваенкамат на апазнанне, куды па ўказанні органаў залучылі гэтага партызана.

Паездка атрымалася, аднак, невясёлая. І не ў самой акцыі справа тут, прычына, а ў барадаўцы. Некалькі дзён назад ён звярнуўся да знаёмага лекара, проста на вуліцы сустрэў яго і абыякава спытаў, паказаў: што гэта за храновіна ў мяне там пад каўняром? І адэкалонам, і ёдам прыпальваў — не праходзіць. Той пaглядзеў, адцягнуўшы каўнер лётчыцкага мундзіра: не хачу пужаць, але гісталагічны аналіз зрабіць трэба. Адшчыпнём і пашлём у абласную лабараторыю. А прыпальваць не варта. Сэрца адразу ўпала. Не паленаваўся, у той жа дзень заехаў у бальніцу. Ужо пяць прайшло дзён — а трэба дзесяць, каб быў вынік. Не хацелася нічога рабіць, так бы і ляжаў дома, чакаючы вестак, добрых ці злых. Але гэта не выхад. З шарыкаў скоцішся. Вырашыў паскорыць аперацыю з Кучэрам, каб пазбыцца цяжкіх думак. У машыне ўвесь час яму не хапала люстэрка, апошнія дні заняты быў тым, што станавіўся перад трумо, ручное люстэрка заносіў за голаў і ўглядаўся ў злавесную расколатую барадаўку. Чорная, як п'яўка, гадзіна! Перад дарогай заляпілі пластырам, каб не так шчымела, каб не муляць яе, паню. Ты яе не непакоіш, дык яна цябе. Пра якія гэта «прадаўгаватыя клеткі» гаварылі, шапталіся гэтыя мярзотнікі-лекары ў яго за спінай?

Да патрэбнае хаты, да гэтых Петухоў, дабіраліся лесам, магутны амерыканскі «додж» выхопліваў святлом крутыя павароты. У такіх паездках маёр Кароткі звычайна адчуваў сябе цудоўна, ведаў, што выконвае працу з немалой рызыкай: колькі поўзае яшчэ паследкаў, недабіткаў, пакінутых тут акупацыяй. Гэта жывіла, павышала пачуццё самапавагі. Ніколі б не паверыў, што нейкая барадаўка здасца страшнейшай за бандыта з-за куста. І вось, калі ласка, не глядзіць на дарогу, а ўсё прыслухоўваецца: як там, пад каўняром? Шчыміць яшчэ больш. Ад штуршкоў, торгання пластыр адклеіўся — лекары, такую вашу!

Таму, калі насустрач машыне кінуўся вялізны сабака, маёр, не раздумваючы, загадаў:

— Страляй!



Проста з кабіны сабаку расстралялі аўтаматнай чаргой.

Дзверы былі не зачыненыя, што маёру не спадабалася. Быў у гэтым нейкі выклік, самаўпэўненасць гаспадара.

— Смела жывём! — замест «добры дзень!».

— Немцаў прагналі, у сябе дома каго нам баяцца? — адказаў невысокі, маёру ўжо знаёмы, стары. Сівая галава, а вусы, бародка цёмныя, быццам падфарбаваныя. Інтэлігента з сябе строіць.

— Сабака не прывязаны. Давялося прывязаць нам.

— Значыць, маеце права, калі страляеце.

— А гэта хто ў вас?

— Дачка. Выбачайце, раджаць надумалася.

Бач, усё з падкавыркай, са здзекам. Пагляздім, пагляздім, як заспяваеш.

— Ёсць яшчэ хто-небудзь?

— Сынок на печцы. Мой унучак.

— А муж?

— Мужы цяпер, самі ведаеце…

Маёр не стаў дамагацца ўдакладнення. Чорт, загваздка! Як яе тут адну кінеш, парадзіху? Добра, што з сельсавета прыхапілі з сабой панятога, яму і даручыць, каб прывёз акушэрку.

Толькі цень маёра — лямпа звісае са столі, — запаўняючы прасторны пакой, перамяшчаецца па сценах з бярвення, па дашчатай столі. Усе астатнія чакаюць яго распараджэнняў: паняты, трымаючы картуз ля каленяў, аціх ля парога, малодшыя афіцэры дзяжураць ля вакон, стары каля ложка з парадзіхай.

Сказаў жанчыне як можна мякчэй:

— Выбачайце, нязваныя госці заўсёды не ў час. Калі б мы ведалі…

Сам унутрана пасміхнуўся: ну а калі б ведалі? Адмянілі б акцыю? Смешна. Трэба пачынаць.

— Абыдземся без пратакольных фармальнасцяў. Вы — Кучэра Іосіф Герасімавіч.

— Абсалютна дакладна.

— Год нараджэння? Іншае — потым. Партызан, наколькі нам вядома?

— З сорак першага.

— Ведаем. Нават тое, што раненне маеце.

— Нічога, на пераможцах, як на сабаку, раны зацягвае мігам.

— Дапусцім, хаця сабакі тут не да месца. Зброю маеце?

— Здаў, як паложана. Па спіску: паўаўтаматычную вінтоўку СВТ, дзве гранаты, пісталет сістэмы «наган».

— Гэта вы правільна зрабілі. А то адзін вось так жыў на водшыбе, пажар здарыўся, дык на тым месцы, дзе гумно стаяла, танк! Вылез, калі ласка. Як з штаноў. Але, кажуць, гэта ў Заходняй Беларусі было.

— Усякае расказваюць. Дзівакоў на свеце хапае.

— Дзівакоў ці ворагаў?

— А гэта — як паглядзець.

— Ну што, цямніць не будзем? Ведаеце, нябось, чаго пажалавалі?

— Здагадваюся. У вас цяпер чырвоныя пагоны. А былі, помніцца, нябесныя, лётчыцкія.

— І я вас прызнаў. Так што можна без лішніх цырымоніяў. Прыступайце, — загадаў сваім супрацоўнікам.

— Дом, як бачыце, пусты, знайсці, калі што ёсць, лёгка, — заахвоціў гаспадар.

— А ўсё-ткі пашукаем. Прыступайце. На гарышча дзе лесвіца?

— Там, у халодным пакоі.

Маёр падсеў да стала, пастукаў наганам па дрэве (так рабіў нехта з большых чыноў у нейкім кінафільме) і спытаў як не сваім голасам:

— Вам не сорамна?

— Гэта чаго ж мне саромецца?

— У вочы савецкай уладзе, народу глядзець не сорамна?

— Гэта вам? Нібыта не дужа.

— Значыць, тое, што народны камісарыят трэці раз вас змушаны арыштоўваць — пляваць на гэта?

Кучэра хацеў адказаць гэтаму таўстагрудаму і таўстазадаму, як баба, хмыру, але вочы яго сустрэліся з позіркам дачкі, ён адразу абмяк, плечы апусціліся, змаўчаў.

Маёр няўклюдна павярнуўся, і тут жа каўнер зачапіў праклятую бародаўку — гэта перашкодзіла Кароткаму паглядзець, унікнуць, чый кашаль глуха прагучаў недзе за печкай. Але з печкі прагучаў галасок (ах, вось хто гэта!):

— Не крыўдзіце дзядулю. Я татку скажу.

— Ты там дзе? У, які грозны! Пакажыся, казак. А дзе твой татка?

— Татка прыйдзе і вас наб'е! — Паўлік грозіцца з-за коміна, не адкрываючыся ворагу. Тоўсты дзядзька яго не бачыць, а мамка, лежачы на падушцы, робіць страшныя вочы, аж смешна. Паабяцаў тоўстаму:

— І за мамку наб'е.



— Хутка, унучак, хутка татка прыйдзе, — умяшаўся стары і растлумачыў маёру: — Каго ўбачыць, адразу: мой татка! Вы пойдзеце, будзе ўсім расказваць, што ў яго тата ваенны, у рамянях увесь.

Франц, здушыўшы ў сабе здрадніцкі кашаль, ляжаў у сваім пенале на тапчане, ім жа збітым, тварам у далоні. Мабыць, драўняны пыл удыхнуў неасцярожна.

Услухоўваўся ў размову за сцяной, у стукі, крокі, намагаўся злавіць голас, хаця б стогн Паліны, але яе як бы і няма там — што адбываецца, чаго яны прыехалі? Галасы: бацькі і незнаёмы, такі ўпэўнена-камандны, *ваенны* — толькі яны чутны. Лавіў аб сабе, аб «немцу» гаворку — не, нібыта ні слова. Тады што іх прывяло? Чаму так насядаюць на бацьку, у чым ён правініўся? Іх тутэйшае жыццё, з якім Франц і знаёмы быццам, але не ведае зусім. А таму міжволі шукае аналогіі з тым, што ўжо было. І што было б, магло быць, калі б гэта ў Германіі адбывалася. Калі прагучала ў двары аўтаматная чарга і завішчаў сабака, а Франц яшчэ толькі прыўзняў хітра зробленую сценку, каб запаўзці ў свой «пенал» (ці труну — называй, як табе больш падабаецца), яму здалося, што ўсё вярнулася да таго моманту, калі з дома, што потым згарэў на тым самым месцы, вось гэтак жа запаўзаў у нару. З Палінай, са старой. Тады было адчуванне абвалу яго жыцця, катастрофы, але хіба мог уявіць, якія яшчэ выпрабаванні чакаюць? Яго і ледзь знаёмую тады дзяўчыну. Але гэта была вайна, усё думалася, усе спадзяваліся: вось скончыцца вайна! Толькі б скончылася і застацца жывым разам з блізкімі тваімі! Яна ззаду, вайна, — для ўсіх, акрамя Франца. Нават для пераможанай Германіі і, калі жывыя, для бацькоў — скончылася. Як бы там цяпер ні было, нейкая пэўнасць надышла. У Франца менавіта гэтага няма — пэўнасці. Сваё жыццё абарвалася, а тое, якім ён жыве, — толькі прымерванне да чужога, натужнае намаганне ўтрымацца на плыву, не пайсці на дно. Трымаецца гульнёй выпадку ды яшчэ воляй гэтай незвычайнай дзяўчыны-жанчыны, што сустрэлася яму на шляху. У іх дзіця, будзе другое, але ўсё гэта толькі да таго моманту, калі даведаюцца, што ніякі ён не нямы, а немец. Неадкладна Паліну з дзецьмі і яго адбяруць адно ў аднаго, а далей — якая розніца, які лёс вызначаць яму тутэйшыя законы, парадкі? Ці ў лагер, ці ў Германію? Але ў яго ёсць і ў Германіі сям'я: бацька, маці, сёстры. Застацца назаўсёды тут — страціць іх. Калі ўжо не страціў. Стары Кучэра паказаў яму часопіс з фатаграфіямі: што засталося ад нямецкага Дрэздэна і японскага горада Хірасімы. Чорныя руіны, пустыня.

Аб чым жа яны так сярдзіта, нават грозна гамоняць са старым, калі не дзеля Франца прыбылі? Нешта шукаюць: чутно, як тупаюць па століі, над галавой. Што тых самых беглых паліцаяў, дэзерціраў шукаюць?

Былі хвіліны, калі Францу ўсё ж хацелася, каб яго знайшлі. Думка здрадніцкая ў адносінах да Паліны, да Паўліка і да таго, хто народзіцца, але што можа чалавек зрабіць, калі любы яго крок насустрач уласнаму інтарэсу — ужо здрадніцтва. Тады, у першай нары, хаваўся здраднік Германіі, фюрара. А цяпер, тут? Але не павесяць жа яго: ён выратаваў савецкіх людзей, ён забіў фашыста. Хіба за гэта тут караюць?

Раптам пачуў Палінін крык:

— Тата, тата! Што гэта? Куды вы яго забіраеце, куды ведзяце? Вы людзі ці хто вы? Што ён вам зрабіў дрэннае?

І гучны голас Кучэры:

— Нічога, дачушка, табе нельга так. А мяне патрымаюць і выпусцяць. Маёр абяцае: зараз прышлюць акушэрку. Чуеш? (Так гучна крыкнуў, што Франц скеміў: папярэджвае яго.) Сюды прыедуць людзі. Так што чакайце. А прыйдзе з Каралёва Стану… цётка, тады рашайце самі, як быць. За мяне не бойся. Не прапаў і не прападу.

Ад парога Кучэра азірнуўся яшчэ раз на Паліну і раптам убачыў прысеўшага за яе ложкам… Франца. Вылез! Што ён робіць? Загубіў! Думае, што ратуе, дурань, а губіць канчаткова. Адчайны позірк старога змусіў Франца дапасці да падлогі, затаіцца.

— Нічога, нічога, — з-за пляча Кучэры прагучаў чужы голас, — не непакойцеся, жанчына. Мы не звяры. (І засмяяўся.) Звяры не мы.

## 18

У Каралёў Стан пад крыло бестурботнага Каляды, у леспрамгас, трапілі не хутка. Яшчэ год пражылі ў сваім доме, пакуль Паліна гадавала другога хлопчыка ды ўсё пісала ў Мінск і ездзіла ў раённы цэнтр, дабіваючыся праўды, ратуючы бацьку. Каляда таксама стараўся. Але, як звычайна, больш размовамі, крыкам.

— Змрок і туман! — тлумачыў Францу. — Быў такі ў фашыстаў шыфр, у гестапа: чалавек знікае без следу. Каб астатніх да пят праняло. Але не на тых яны напалі. Вось паеду яшчэ раз у Мінск…



Нямко Калядзе падабаўся ўсё больш, асабліва, калі піў з ім нароўні, стаміўшыся аднекватцца. Тады Паліна падыходзіла і канфіскоўвала бутэльку.

— Не хапала мне яшчэ п'яніцы-мужа!

Каляда ўсё адукоўваў нямка:

— Усё таму, што ў Палітбюро ніводнага партызана. Ёсць у Маскве адзін чалавек Панамарэнка Панцеляймон Кандратавіч, кажуць, ён прыёмны сын Сталіна. Так што партызаны яшчэ скажуць слова. Вярні, Паліна, бутэльку, так не робяць. Цябе Кучэра не пахваліў бы за гэта.

Смех і бяда з такімі памочнікамі. Але калі давялося амаль уцякаць з Петухоў — не станавіцца ж і Францу калгаснікам, бяспраўным на ўсё жыццё, а да гэтага ішло, — Каляда быў адзіным святлом у ваконцы. Хату прадалі (за рэчы найбольш, апратку ды абутак) бежанцам з галадаючых раёнаў Украіны і накіраваліся ў глуш палескую, куды даўно клікаў Каляда. Грошай толькі і было — даехаць. Дзе машынай, цягніком, а апошнія дзесяць вёрст — чыгуначнай дрызінай па вузкакалейцы.

Вялізны пасёлак з лёгкіх баракаў і сяк-так скіданых дамоў — гэта і быў край запаветны, які так распісваў Каляда. Дом, дзе ім выпадала жыць (паводле апавядання Каляды, ледзь не палац), быў сапраўды прасторнай, але не даведзенай да ладу і ўжо напалову зруйнаванай будынінай, да таго ж жонка Каляды — прыкаваная да ложка найцяжэйшым рэўматызмам, артрытам і яшчэ дзясяткам хвароб — патрабавала староннняга догляду. Усё б нічога, урэшце і Франц з рукамі, цясляр-сталяр, і Паліна ніякай працы ў хаце не цураецца — пражывуць, а вось як з дакументамі быць? Тая нікчэмная паперка з шпіталя, якой ужо было мала для хоць якога спакойнага жыцця ў Петухах, насуперак запэўніванню Каляды, нічога не значыць і ў гэтай глушы: парадкі ўсюды аднолькавыя. Яно ўсё так, не тужыў Каляда, ды толькі людзі не ўсюды аднакія. Тут — усе ў яго сябры-таварышы, ім працаўнікоў не хапае, а не правільных паперак. З вялікімі нервамі і клопатам сяк-так утрэслася: бутэлька мацнейшая за Саўнаркам — Каляда сваю жыццёвую мудрасць справай пацвердзіў. Франц спачатку працаваў на лесапавале з бэнзапілой, затым перавялі да распіловачнага станка. Праца нялёгкая, але яму падабаўся *пах працы*: сасновае пілавінне, мазут. Не быў бы то немец. Сюрпрыз: на пільні і яшчэ немцы ёсць, працуюць, непадалёк лагер ваеннапалонных знаходзіцца. Вось гэта навіна дык навіна: Франц нават не чакаў, што гэта яго так усхвалюе, калі пачуў упершыню нямецкую мову і ўбачыў знаёмую армейскую форму, заношаную,

замазучаную да немагчымасці. Услухоўваўся, пра што між сабою гамоняць. Пра ежу найчасцей, пра Германію, але і пра нормы, пра план. Ну проста савецкімі сталі — больш, чым самі савецкія. Тыя вечна пра рыбалку ды чым бы пахмяліцца, а немцы: нормы, колькі выканалі, трэба яшчэ зрабіць. Потым разабраўся: ім ідзе залік, і тых, хто перавыконвае норму, раней адпусцяць дамоў, у Германію. Аж затужыў Франц: а хто залічвае тое, што давялося яму перажыць, хіба толькі Госпад Бог? Пагаманіць бы з імі, затужыў па самой нямецкай мове, чуе, што хутка не ўтрывае, выдасць сябе. Што здзівіла: адносіны да нядаўніх ворагаў мясцовых рабочых, а жанчын асабліва — абсалютна без злосці, быццам і не было ўсяго, што было. А аднойчы ледзь не ўмяшаўся неасцярожна ў падзеі, абурыўшыся сваімі немцамі. (Дык хто ж яму цяпер больш свае?) Каляда прынёс Францу абед (Паліна паслала), пры гэтым ён з торбы дастаў вялізнае колца каўбасы: адрэзаў сабе, Францу, а большую частку аддаў маладому Гансу, які даўно раздражняў Франца насмешачкамі, здзеклівымі заўвагамі аб мясцовым людзе. Асабліва аб жанчынах. Калі пра Паліну сказаў аднойчы такое, Франц ледзьве стрымаўся, каб не накінуцца на яго з кулакамі.

Прыняўшы каралеўскі дар ад Каляды з дагодлівай усмешкай, падзякаваўшы рускім «спасибо», Ганс чамусьці і не падумаў падзяліцца з двума сваімі напарнікамі-немцамі. Сунуў, нахаба, каўбасу за пазуху і, як прысуд, прамовіў: *нічога ў іх не будзе ніколі, калі такімі кавалкамі раскідваюцца!*

Вось і любі «свайго» за тое толькі, што ён свой, а не чужы. Але Франца здзіўлялі і яго новыя «свае», з імі таксама не засумуеш. У Каляды быў нікчэмны сабака з дзіўнай мянушкай Кабтыздох. Паводле азначэння гаспадара: сумесь мятлы з лаўкай. Заўсёды бегаў за ім на рыбалку.

У выходныя дні Каляда запрашаў парыбачыць і Франца. Навучыў яго абуваць лапці і нават плесці іх самому — Франц вымушаны быў пагадзіцца, што не адна толькі галеча прыдумала гэты лазовы абутак, але і кемлівасць. Пайшоў аднойчы ў гумовіках, так замучыўся, чэрпаючы гразь халявамі, а тут — што зацякло, тое і выцекла. Лёгка, зручна. Бывае, што і азябнеш, «як цюцік», ну але ад гэтага вядома, што за лекі. Каляда, паказваючы на жонак, скардзіўся: яны думаюць, што мы дзеля задавальнення п'ем, а мы — дзеля здароўя. На рыбалку два маршруты: кароткі — на Чорнае возера, доўгі — на Прыпяць, рака не вузейшая за Рэйн. Вада ў тарфяным балоце вугальна-чорная, зачэрпнеш далонню — мноства ўзважаных часцінак, і тым не менш адчуванне дзівоснай чысціні, нават стэрыльнасці. Кажуць, лячэбнае возера, і ў гэта можна паверыць. А вось рыбы ў ім малавата, мізэрная, дробная. Затое на Прыпяці столькі бралі рыбы таптухай — так тут называюць на дубцах распятую сетку, — што і вазок не пашкодзіў бы, данесці было цяжка. Трымай мацней вялізны сачок і не лянуйся, заганяй нагамі ў яго лянівых самоў, з кабана вагой. Па Прыпяці марудна праплываюць бясконцыя плыты, крапежнае дрэва для вугальных шахтаў Украіны — адчуванне прасторы, першастворанасці. А дубы, дубы — над вадой і наогул куды ні кінь вокам! Нешта падобнае, такія ж дубровы, на пад'ездзе да Берліна. Будзе пра што расказаць бацьку. Любіць ён экзотыку — і ў людзях таксама. Яму, напэўна, спадабаўся б Каляда. З гэтым чалавекам не засумуеш.

Сабраліся неяк з Калядой ісці на возера, падрыхтаваліся, як заўсёды, а Кабтыздоха няма. Дзіўна, Каляда сеў на бярвенне, што за домам, і Франца запрасіў: маўляў, пачакаем, пакуль прыбяжыць сабака… І вось ён бяжыць ужо з дзвюма «кілбаскамі» — другая ў зубах, натуральная каўбаса. Такая ж, якою Каляда Ганса абдарыў. Сабака ляціць проста на гаспадара, а той ужо і нож падрыхтаваў. Прыняў падношэнне з зубоў дварнягі, пакусанае месца адрэзаў і яму ж кінуў. Усё, пайшлі! Нічога Францу не тлумачыць, быццам і без таго ўсё зразумела. Але пабачыў, што нямко вось-вось залямантуе ад здзіўлення, паблажліва растлумачыў. Ды нічога асаблівага. Гэты сцярвец вынюхаў сцежку ў падвал прадуктовага магазіна, узяўся цягаць каўбасу праз разбітае акенца. Каляда і сам спачатку не разумеў нічога, калі сабака першы раз здабычу прыцягнуў, затым зноў, а трэці раз вырашыў за ім прасачыць. І пабачыў, як ён гэта робіць. Той раз Маруся не кольцы каўбасныя, а «палкі» завезла ў магазін. Дык гэты дурань, ну ніяк не дапетрыць, што за канец браць, а не пасярэдзіне. Біўся, біўся перад кратамі і ні з чым прыбег. Давялося падвучыць крыху, кідаючы звычайную палку, як яе трэба хапаць. Але кольцы сцервяцу ўсё роўна падабаюцца больш. Вось і сёння. Сумленны сабака, усё прыносіць гаспадару! Ну як, фатэр! І вось гэты народ вы хацелі прымусіць працаваць на Германію?

Усё цяжэй было Францу разыгрываць ролю нямка ў доме Каляды. Па-першае, Паўлік не ведае, што яго татка нямы, і звяртаецца да яго прылюдна, як да ўсіх, вымагае, дабіваецца адказаў на свае бясконцыя пытанні. І, натуральна, не разумее, чаму татка яго перастае з ім гаманіць, «ні мычыць, ні целіцца». (Таткі любімы выраз.) А па-другое, і акрамя таго, Францу ўжо

сорамна падманваць добрых людзей. Асабліва разумніцу-жанчыну, Каляды жонку. Францу ўвесь час здаецца, што ягоны сакрэт для яе даўно ніякі не сакрэт. У Паўліка распытаць магла, а то, магчыма, і Паліна прагаварылася. Вочы ў яе насмешлівымі робяцца, калі Франц размаўляе з ёю жэстамі і, сапраўды, мычаннем. Аднойчы ён у яе прысутнасці загаварыў з Паўлікам, як гэта рабіў, калі нікога блізка не было. Калі пабачыў, якія вочы парабіліся ў гаспадыні, спахапіўся і зразумеў: яна ні аб чым не здагадвалася!

— Дык вы… Дык што ж гэта?.. — сама амаль анямела, мычыць, як Франц да таго.

У той жа вечар яны з Палінай расказалі ўсю сваю гісторыю гаспадарам, адысею сваю, пачынаючы з таго ранку, калі лёс Франца надламаўся напалам і іх жыцці пайшлі поруч. Паліна не магла не плакаць, тым больш, што гаспадыня проста рыдала, мабыць, і над уласным лёсам: пасля блакадных балотаў яна стала поўным інвалідам. Але вось, не была б гэта жанчына: Паліна плакала яшчэ і таму, што цяпер, калі Франц ужо не «нямко», усім куды прыкметней будзе, што жонка ў яго «чарнамордая пачвара». (Зрэшты, скажы ёй хто-небудзь, што і гэта горыч у яе слязах, здзівілася б і запратэставала.) А Каляда ўсё ўспамінаў Кучэру, гэта ж трэба, затаіў, не паверыў нават сябру. А хіба Каляда не зразумеў бы, ён што — энкавэдыст ці стукач? Гітлеры прыходзяць і адыходзяць, а нямецкі народ застаецца.

Дамовіліся, як выводзіць Франца з нематы, каб не пасеяць да гэтага цуду нездаровую цікаўнасць. Каляда прапанаваў: «Чорнае возера», яно вылечыла! Ну а гаворыць Франц ужо амаль без акцэнту, даўно можна было выходзіць з падполля.

— Ты адно не перастарайся! — папярэдзіла Каляду яго жонка. — А то я ведаю цябе. Такога навыдумляеш, што і дурань здагадаецца.

Франц прагна слухаў радыё (часам, як бы выпадкова, круціў і замежжа па старэнькім прыёмніку), чытаў газеты. Хаця б адным вокам зазірнуць туды, дзе засталіся яго нямецкія блізкія. Усё больш рэзка адно аб адным выказваюцца ўчарашнія саюзнікі, а Германія — у руінах. Галеча і зласлівасць. Усё, як было перад вайной. Хаця людзям яшчэ столькі гадоў трэба, каб выбрацца з развалін, з варожасці мінулай вайны. У газетках невялічкага фармату з брудным друкам, якія тут ніхто не чытае, а скарыстоўваюць на курыва, Франц марна шукаў што-небудзь пра Дрэздэн. У іх найбольш пра амерыканцаў. Усё выглядала так, быццам не з Германіяй рускія ваявалі, а з амерыканцамі.



І цяпер трэба вызваліць нямецкі народ ад заходніх плутакратаў: ну зусім як пра Версальскі дагавор пісалі перад вайной. Новая звада, ужо між пераможцамі, вось-вось узгарыцца. Хаця яшчэ палонныя дамоў не дабраліся. А Франц і наогул невядома калі і як зможа патрапіць у Германію. Пасля яшчэ адной вайны?..

А тым часам яны з Палінай і з дзецьмі абжываліся на новым месцы. Вечарамі і ранічкаю Франц майстраваў-цяслярыў у доме Каляды, які цяпер і іх дом, Паліна падзяліла абавязкі з гаспадыняй: тая даглядала, колькі мела сілы, дзяцей, Паліна клапацілася на кухні, у агародзе. У месцах старых высечак падрыхтавалі агнём і сякераю, разрабілі дзялянку (круглае слова: «ляда») — пад проса. Франц раптам адчуў смак да такога менавіта гаспадарання, першабытнага, а паводле вызначэння Паліны — «дзікунскага». Пабачылі б муці і фатэр свайго сына: босы, у чорных ад сажы армейскіх галіфэ, торс, як у афрыканца, і ўвесь у брудных падцёках поту, запрэгшыся ў неверагодную барану — усяго толькі абпаленая вяршынка елкі, сукаваты вожык, — цягаў ён сукамі наперад з канца ў канец паляны, уздзіраючы пакрытую попелам зямлю. Паліна прыбягала да яго з абедам (салёныя агуркі і грыбы, рыба, бульба, хлеб), як жа яна клапацілася каля беднага свайго, як яна лічыла, катаржніка. І не верыла, што белазубая «негрыцянская» шчаслівая ўсмешка — гэта ўсур'ёз, што такая праца можа некаму падабацца. А Франц і сапраўды перажываў не знаёмае раней адчуванне паўнаты жыцця. Спрабаваў растлумачыць жонцы: менавіта так, менавіта з голымі рукамі адзін на адзін з прыродай, і вось, калі ласка, не прапалі б з Палінай і дзецьмі — без усякае дзяржавы, без усялякае ўлады. Вось пабачыш, вырасце проса, каша будзе, разварыстая — лыжку праглынеш! Глупства, фантазіі, але гэта Франц, не дарэмна яна кахае яго, аніколі іншага поруч з сабой уявіць не можа. Але на ўсякі выпадак казала:

— Ведаю, чаму табе так хочацца без людзей, у дзікім лесе жыць. З такой жонкай — ні сабе, ні людзям паказаць!

І звыкла трымаецца рукой за шчаку. Левае вока ў Паліны крыху зліплася, бачыць, але ўсё роўна не як у людзей. Франц не спрачаецца, проста глядзіць, але так, што Паліна, успыхваючы румянкам, смела прыбірае руку.

— А, як хочаш! Якая ёсць, такая ёсць! — кажа з гуллівай абыякавасцю, а ў вачах усё роўна блізкія слёзы.

Убачыў Франца я, усю яго немалую сям'ю на партызанскай сустрэчы ў лесе пабліз вёскі Зубаравічы. Гэта былі

ўжо хрушчоўскія 60-я, такія сустрэчы сталі дазволенымі, рэгулярнымі, звычайна 9 траўня. «Рамантыкі сталінізму», а менавіта так хочацца назваць многіх партызан гэтага часу, прынялі з рук выкрываўцы іх «галоўнакамандуючага» тое, да чаго ён сам, Сталін, блізка іх не падпускаў, але «Мікіту» тым не менш недалюблівалі, а «генералісімуса» па-ранейшаму ўшаноўвалі. Так і не даведаліся, а даведаліся, не паверылі б, што рыхтаваў і ім крывавую лазню, можа быць, адразу пасля габрэяў, і толькі смерць перашкодзіла яму аддзячыць іх па-сталінску.

Да таго часу на месцах ужо адбылося «амаладжэнне кадраў», у райкамах і райвыканкамах на змену былым партызанам прыйшлі іншыя людзі, але ў цэнтры, у Мінску, яны сядзелі шчыльненька, а таму раённыя кіраўнікі такія партызанскія святы арганізоўвалі з усім партыйным размахам. Высылалі на «месцы баёў» буфеты, загадзя будавалі дзе-небудзь на лясной паляне ці ля ракі трыбуну, вылучалі ўласных прамоўцаў, наструньвалі вясковых настаўнікаў, гэтых пакорлівых прыпражных ва ўсіх падобных мерапрыемствах, нават калгаснікаў стараліся не займаць тэрміноваю працаю, і нават уласнай начальніцкай прысутнасцю асвячалі выязныя папойкі. Як калі б да іх наехала начальства з вобласці ці з самой сталіцы. Улічвалася: заўтра хто-небудзь з гэтых партызанчыкаў папросту сустрэнецца з самім Мазуравым ці Машэравым дый падзеліцца ўражаннямі аб пастаноўцы патрыятычнага выхавання ў такім вось раёне.

Ну а мы, радавыя народныя мсціўцы, настроены былі мірна-настальгічна нават у адносінах да тых з свайго былога начальства, каго на дух не пераносілі. Самі ж нашы начальнікі працягвалі высвятляць, хто каго абскакаў пасля вайны і ці па заслугах. Але здаралася, што жыццё і нас сутыкала лбамі. Ды не, не жыццё, што нам было дзяліць, а зусім пэўныя, кампетэнтныя ў такіх справах, органы. Мне, напрыклад, з нейкага часу ездзіць на такія сустрэчы расхацелася, хаця многіх пабачыў бы з радасцю. Але неяк сорамна было сустракацца з вясёлым сваім камбрыгам, які, прасцецкая душа, падпісаў супраць мяне генеральскае пісямко ў беларускай газеце з гнеўным палкоўніцкім асуджэннем «пацыфіста» і «абстрактнага гуманіста». Ну што, высвятляць з ім, якія бываюць гуманізмы? Абстрактныя, не абстрактныя? Большае дурноты не прыдумаеш. Або такі ж ліст майго аднагодка, які аж у маскоўскай «Красной звезде» выліў сваю горыч, што давялося яму партызаніць з чалавекам, які паклёпнічаў на нашых гераічных генералаў.



Але першы час мы ездзілі на такія сустрэчы вельмі ахвотна. (Пасля адно брат мой туды накіроўваўся, а мне прывозіў прыветы.) Вось там я і ўбачыў Франца, яго вялікую сямейку. Каля машыны-буфета тоўпіліся чыста апранутыя калгаснікі, найбольш жанчыны з дзецьмі і падлеткі, у вочы кінуўся высокага росту блакітнавокі мужчына ў праставатым суконным касцюме і з гальштукам. Ён толькі што прыняў ад буфетчыцы на дзвюх талерках хлеб і горку сасісак, і яго акружылі тыя самыя падлеткі — колькі ж іх, ці не пяцёра? Невысокая поўная жанчына (такіх у нас часцей называюць: жанчынка, і яшчэ дужа добра кладзецца слова: кабета, кабетка), пашумліваючы на гэтую арду, пачала дзяліць сасіскі — па адной кожнаму. На галаве ў яе цёмная хусцінка, хаця сукенка вясёлая, у кветкі. (А калі прыгледзецца, убачыш, што левая шчака ў жанчыны пашкоджаная, як бывае ад блізкага выбуху.)

Калі ў сям'і шмат хлопчыкаў, а самая малодшая — дзяўчынка, яна звычайна агульная любіміца. Прыкметна адразу, што і тут гэтак жа. Зусім магчыма, што іх так шмат, хлопчыкаў, таму што бацькі хацелі дзяўчынку і ўсё «дабіраліся» да яе. Так што ёй гэтыя свавольнікі абавязаныя сваім з'яўленнем. Гукаюць да сваёй дабрадзейкі яны нетутэйшае імя: Марта.

Наўрад ці надоўга запомніў бы гэта мімалётнае адчуванне, разуменне, што бачу добрую, шчаслівую сям'ю, калі б пасля не пачуў такую гаворку:

— А бачылі тут немца? Ледзь не дваццаць гадоў яго хавала жанчына ў падвале.

— Ну і ну! Фрыца?

— Але. Фрыца. Дзяцей кучу нарадзілі, а потым аб'явіўся. На торфазаводзе працуе.

А потым і ў самім Мінску пачуў пра яго. У сувязі са «Слуцкай гісторыяй», што ўсхвалявала ўсю Беларусь. Я маю на ўвазе выпадак, калі разгневаны натоўп добрых беларусаў спаліў суд, жыўцом згарэла жанчына-суддзя, некалькі чалавек пасля гэтага расстралялі.

Неяк у мяне ўзнікла патрэба зайсці ў «першы аддзел» Акадэміі навук: мы ўжо сталі выязджаць па турысцкіх пуцёўках за мяжу, а за тымі жалезнымі дзвярыма захоўваліся нашы «справы», па якіх зваралiся падобныя жаданні з магчымасцю іх ажыццяўлення. Нейкая пячатка мне спатрэбілася. Убачыў за высокім бар'ерам маленькага чалавечка: мне не знаёмы, але на мяне глядзеў, як на вядомага яму ўдоўж і ўпоперак, з усімі трыбухамі. Я, вядома, не здзівіўся: а як яшчэ можа глядзець чала-

век («першы аддзел»), у якога пад рукамі, перад вачыма ўся твая паднаготная, нават тое, пра што сам не ведаеш і не падазраеш?

Але ён палічыў патрэбным свой позірк растлумачыць зусім проста:

— Вы ж родам са Случчыны? Я таксама адтуль. Зусім нядаўна ў вашай Акадэміі.

Не быў бы гэта правінцыял: тут жа паведаміў, што раней працаваў у райвыканкаме, але пераведзены сюды пасля славутай «Слуцкай справы». Жывы сведка! Я не мог не пакарыстацца нестатутнай гаварлівасцю земляка, паспрабаваў даведацца аб усім больш падрабязна. Сёе-тое ўжо было вядома. Увесь шум-бор узгарэўся з забойства, але не радавога: работнік райвыканкама прыстукнуў у пад'ездзе такога ж, як сам, маладога дзецюка. Маладзёжныя страсці. Але акрамя таго, што ўлада б'е грамадзян па галаве ў нейкім пад'ездзе, была і яшчэ адна абуральная акалічнасць: забойца — сын паліцая, а забіты з партызанскай сям'і. Для Беларусі гэта, выявілася, неабыякава і праз дзесяць, і праз дваццаць гадоў пасля вайны. *Тыя нас забівалі тады, а гэтыя цяпер!* Асабліва абмяркоўвалася тая падрабязнасць, што «паліцэйскі» загадваў «культурай» у выканкаме, а ўсім вядомыя абавязкі такога работніка: міжсабойчыкі, саўны, адпачынак на прыродзе для начальства, жаночае абслугоўванне. Ясна, што такога карыснага работніка начальства не пакіне без апекі і клопату, і пакарання за злачынства не адбудзецца. Завязаўся такі клубок чутак, перасудаў, страсцей, што развязаць яго можна было толькі адкрытым, галосным, на вачах усіх разборам і судом. Начальства ж зрабіла якраз наадварот (яшчэ не хапала ісці на повадзе ў мас!) — суд адбыўся ў забалотным райцэнтры, у пакойчыку для дзесяці прысутных. За вокнамі ж і сценамі суда сабраліся сотні, а на другі дзень і тысячы людзей з усёй ваколіцы, з самога Слуцка. Небывалая для рэспублікі сітуацыя. Мабыць, нанесены ўдар быў у нейкі патаемны нерв беларуса, народа, якога за незласлівасць і дабрадушша хваліў сам Іосіф Сталін і сам Адольф Розенберг. (Пахваліўшы, прашарсцілі да незалечных праплешын і шнараў.)

А тут яшчэ жонка падсуднага: некалькі разоў з'явілася, дурніца, з памяшкання, куды іншых не пусцілі, і фыркала на жанчын — чаго зляцеліся, крумкачы, нічога вам не abломіцца, не засудзяць майго мужа!

Што праўда тут, а што пазнейшыя выдумкі, сказаць цяжка. Адно вядома дакладна (і кадравік пацвердзіў): тыя, хто судзіў, перетрусілі, яны пераапранулі падсуднага ў адзенне міліцыянера



і правялі праз натоўп. Але самі пайсці не змаглі: стала вядома аб уцёках забойцы! Натоўп раз'юшыўся. Спынілі машыну, што ехала міма, гружаную тарфяным брыкетам, забралі каністры з бензінам, аблілі будынак і падпалілі. Міліцыянер, пераапрануты ў касцюм падсуднага, выскачыў з акна, пашкодзіў пазваночнік. А суддзя згарэла. Жах што нарабілі агулам, натоўп і начальства! Воінскую часць прыслалі, тыя адмовіліся страляць. Але падышла другая, больш надзейная (казалі: каўказцы), уціхамірылі натоўп. У газеце было кароценькае паведамленне: па такой справе столькі асудзілі, такіх і такіх — да вышэйшай меры.

Пад канец кадравік паведаміў:

— А вы ведаеце? Мабыць, не чулі? Там немец удзельнічаў. З вайны яшчэ затаіўся. Падагнаў машыну, бензін ім прывёз.

Так (я потым даведваўся), гэта быў Франц. Толькі ўсё адбывалася крыху інакш. У нашых «органаў» слабасць да сачыніцельства. А было ўсё прасцей: па звычайным сваім маршруце Франц праязджаў на машыне, вёз тарфяны брыкет. Перагарадзілі дарогу, бензін і ўсё, што ім трэба было, разгарачаныя людзі ўзялі, не пытаючыся шафёра. Але Франца абвінавацілі ў саўдзеле ці дапамозе, ці ў нечым іншым, і пасадзілі. Тры гады Паліна з дзецьмі чакалі яго, а вярнуўся — завербаваліся ў Сібір. Яшчэ да Чарнобыля. Недзе там, на поўначы, яны цяпер. Калі не павёз іх Франц у аб'яднаную Германію. Магчыма, нехта з нямецкай яго сям'і жывы застаўся. Колькі яму ды і Паліне пержыць давялося, што хацелася б для іх хоць крыху жыцця спакайнейшага.

Але чамусьці сумна было б даведацца, што яны ўсё-ткі паехалі.

*P. S.* Я працаваў над гэтай гісторыяй, калі ў санаторый «Падмаскоўе» мне пазванілі з Мюнхена — супрацоўнік радыё «Свабода», мой зямляк Васіль Крупскі. Родам ён з нашай Віцебшчыны, прозвішча па бацьку — Фрэйдкін, амаль увесь род Фрэйдкіных у вайну нацысты знішчылі. Пагаварылі пра справу, якую меў да мяне, а затым Васіль успомніў пра наш з Элемам Клімавым фільм. Карціну «Ідзі і глядзі» ў 85-м я вазіў у Заходнюю Германію, арганізатарка Мангеймскага фестывалю нястомная жанчына без узросту фраў Фэй Вайн параіла мне быць гатовым да жорсткай дыскусіі. А наогул можна было чакаць (мяне ў Маскве ўсур'ёз папярэджвалі), што неанацысты падпаляць кінатэатр. Непрыемны не для адных толькі нацыстаў фільм у нас атрымаўся. У час XIV Маскоўскага кінафестывалю я быў сведкам такой сцэны ў Крамлі: вядомы заходненямецкі

кінарэжысёр, добры знаёмы Элема Клімава, папракнуў яго ў лішне жорсткім паказе немцаў. Вочы ў Элема збялелі (знаёмы мне ягоны стан — па нашых сустрэчах з кіраўнікамі Дзяржкіно): «Ах так! Ды мы вось такую кропелечку праўды паказалі. Вось у наступны раз — на поўную катушку!»

У Мангейме дыспут атрымаўся ярасны, але мне ў ім удзельнічаць не давялося зусім. Сядзеў з краю сцэны, спусціўшы ногі ў залу, і ўсяго толькі назіраў за бойкай немцаў з немцамі. Двух пакаленняў: тых, хто пабываў на вайне, і маладых. «Ах вось вы чым там займаліся!» — а ветэранам, вядома, крыўдна.

Васіль Крупскі расказаў тут жа па тэлефоне пра падобную сітуацыю, гісторыю ў Мюнхене: ён запрасіў да сябе маладых немцаў і паказаў ім фільм. Адзін з гасцей папрасіў касету і пракруціў яе бацькам. Паглядзеў з імі фільм і сышоў з дому. Да Васіля прыходзіў потым немец-бацька, плакаў і запэўніваў, што, хаця служыў у Беларусі, але быў усяго толькі «пры конях». Прасіў, умольваючы, памагчы вярнуць сына ў сям’ю.

Ну а калі цэлыя народы пабеглі адзін ад аднаго, здавалася, на ўсё сваё наступнае гістарычнае жыццё напалоханыя існаваннем у таталітарным пацучніку? Як зараз мы бяжым, схапіўшыся за галаву. Ад іншых уцякаем, як ад самога сябе. Таму што ад уласнай памяці намагаемся схавацца.

І ў той жа час вяртаемся, вяртаем сябе адно аднаму — мы з немцамі. Значыць, няма нічога канчатковага ў гэтым свеце. У гэтым і наша надзея.

*13 красавіка (Падмаскоўе) — 15 жніўня (Губічы) 1992 г.*



# VIXI*

## *Скончаныя раздзелы незавершанай кнігі*

…я жыву апошні раз.

*Ганна Ахматава*

### ДЗЕЛЯ РАЗБЕГУ

1943 год, перадасенняя дажджы прыбілі летнюю суш, зжылі прыдарожную гразюку з пажоўклай травы, але спёка вярнулася, я ляжу ля дарогі, локцямі падціснуўшы вінтоўку, з боку Казловіч вядуць палонных немца і ўласаўца (ва ўласаўца мундзір жаўцейшы за нямецкі, мусіць, з запасаў вугорскай або чэхаславацкай арміі), бабы з нашае Крукаўшчыны выбягаюць на дарогу, сустракаючы і праводзячы палонных не так злым, як горкім галашэннем: «Дзе ж твае вочы? А маці недзе свае праплакала па такім сыночку!» Русявы прыгажун-уласавец воч не ўздымае, твар яго то бялее, то чырванее. Немец маленькі, нягеглы, у акулярах, спалохана, але і цікаўна пазірае на ўзброеных людзей; жах канца, асуджанасці яшчэ не ахапіў яго. Па той бок дарогі, дзе ідуць яны, даўгі шэраг узгоркаў-магіл, чатыры з іх свежыя, колькі дзён таму мы пахавалі тут сваіх хлопцаў.

Вось-вось пачнецца «блакада», грознае слова гэтае ўжо лунае ў паветры, акружэнне, блакіроўку партызанскіх вёсак і лясоў немцы звычайна прымяркоўваюць да дажынак. (Для мяне потым сцёрты газетны выраз «бітва за ўраджай» заўсёды поўніўся жорсткімі згадкамі.)

Гляджу ўслед нашым ворагам, што асуджана аддаляюцца, і раптам падумалася: калі б з’явіўся зараз нехта і прапанаваў мне, які пражыў шаснаццаць гадоў: «Хочаш яшчэ два тыдні? Гаран-

* Пражыта (*лац.*).

таваныя. Бесклапотныя. Як ты жыў у сваёй Глушы чатыры гады назад. Ну а затым, сам ведаеш, давядзецца плаціць, памерці».

Я не спяшаўся згаджацца. Але ж і не гнаў таго Некага. Падлічваў, выгадваў. Я ўжо навучыўся зазіраць у сябе, юнацкая рэфлексія была добра падагрэтая чытаннем Талстога, вечным здзіўленнем: *так, так, так, менавіта так*, калі ў яго вычытваў сваё. «Дык гэта ж я, а не Мікалайка Ірценьеў раптоўна азіраўся (Талстога тады яшчэ не было, г. зн. не чытаў), каб заспець свет не падрыхтаваны, які ён ёсць, існуе, калі я на яго не гляджу!» А калі агаломшыла ў засадзе ля вёскі Усцярхі, як звонам (не, калом), па галаве аўтаматная кулька, што саскрэбла скуру і жмут валасоў на макаўцы (затое зімовую шапку ў шмаццё!), я здзівіўся: «Хто гэта мяне палкай па галаве?» — выявілася, што амаль даслоўна думаў і Андрэй Балконскі на Аўстэрліцкім полі, дзе яго параніла. (Потым пра гэта я згадаў і зноў здзівіўся*.)

Так што я ўжо ўмеў у сябе зазіраць, пытаць у сябе і сабе ж адказваць. Вось чаму і не прагнаў прэч таго Некага з ягонай, як на цяперашні лад, дзікай прапановай. Але паводле настрою таго лета 1943 года такою яна не здавалася: два тыдні — ды гэта ж цэлае жыццё, калі ўжо заўтра ад цябе, магчыма, толькі і застанецца, што ўзгорачак вунь там ля дарогі! Пакапаўшыся ў сабе, зазірнуўшы глыбей, я адказаў: «Два тыдні — не. Але на месяц, на чатыры тыдні — так, згодзен!» І быццам быў нават рады, што, пахаўрусаваўшыся, моцна выгадаў: падвоіў тэрмін свайго жыцця.

Днямі хірургу, які замахваўся на маё тленнае цела ў імя таго, каб падоўжыць ягонае існаванне яшчэ гадоў на 5-10, я адказаў: 5 або 10 пад пытаннем для мяне куды менш важныя (патрэбныя), чым адзін год, але без такое рызыкі: яшчэ некалькі завершаных раздзелаў няскончанай кнігі ўсё ж зраблю.

***5 сакавіка 1993 г.***

Людзі, якія пішуць успаміны аб пражытым, па сутнасці, «трансплантуюць» свой мозг у нейчую чарапную каробку, сваё сэрца ў нейчую грудную клетку. (А чаму не быць і такому вызначэнню літаратуры, у адпаведнасці з навукова-медычным прагрэсам?)

* Пераправерыў па «Вайне і міры», там: «Как бы со всего размаха крепкою палкой кто-то из ближайших солдат, как ему показалось, ударил его в голову».



У адной з паездак, калі вучоныя, пісьменнікі, адрываючыся ад трыбуны шумных, яшчэ гарбачоўскіх, дэпутацкіх з'ездаў, выправіліся ў іншыя краіны («Лётай, пакуль можаш хадзіць!»), каб сумесна з учарашнімі супраціўнікамі шукаць «формулу згоды» — на гэты раз у зацалаваным акіянам амерыканскім курортным гарадку Ньюпарт высвятлялі тэму сучаснага Апакаліпсісу, — сустрэў я яе, Сільвію Клер. Як завуць яе, даведаўся пазней; спачатку, калі абедалі ў студэнцкай сталоўцы, кінулася ў вочы белавалосая дзяўчына з выразам нейкага беспярапыннага захаплення на твары. Амерыканкі наогул здаваліся мне такімі: увесь час нечаму радыя, усміхаюцца, але гэтая была асабліваю.

Мой сябра-філосаф, якому перад тым зрабілі ў ФРГ сур'ёзную аперацыю на сэрцы, першы даведаўся і нам аб'явіў, што ў Сільвіі Клер — сэрца сямнаццацігадовага хлопца, што загінуў у аўтамабільнай аварыі. І па праву «таксама сардэчніка» ён цалкам завалодаў увагай новай нашай знаёмай, стаў яе як бы распарадчыкам, пасярэднікам паміж ёю і намі.

Слухаючы і не чуючы даклады, выступленні аб пагрозе ўсім нам глабальнай небяспекі, — я не-не дый гляну на белавалосую жыццярадасную дзеўчынёху з сэрцам маладога хлопца, якога ўжо няма. У свядомасці маёй сітуацыя ніяк не магла набыць устойлівасць, раўнавагу. Дык жыве яна ці жыве ён? Дапаўняючы адно аднаго, жывуць?..

А недзе ёсць бацькі памерлага, ці знаёмыя яны з Сільвіяй (распытаць бы, але няёмка), сустракаюцца? Хоць бы па тэлефоне.

«— Як ты, дзетка, як пачуваешся?

— Дзякуй, мама, добра. Збіралася ісці ва ўніверсітэт.

— Не забываеш лекі прымаць? Цябе глядзяць лекары акуратна?

— Не турбуйцеся, мама, я ўжо і не помню…

Спахапілася: не помню, што жыву сэрцам вашага хлопчыка?

— Дзякую, я так шчыра ўдзячная!»

І ўявілася: маці таго, што загінуў, прыязджае, прыходзіць да дзяўчыны, гамонка аб усім, аб прадметах, далёкіх, старонніх, але думкі, але жаданне ў маці: *дазволь, дачушка, паслухаць яго!*

Святая і страшная хвіліна: прыпаўшы да чужых грудзей, маці слухае жывое сэрца памерлага сына!

Справы любоўныя, справы сардэчныя Сільвіі Клер: пра што гамоняць яны сам-насам з хлопцам, што аддаў ёй, не ў перанос-

ным сэнсе слова, а ў прамым — сваё сэрца? *Жыві маім сэрцам, любі маім сэрцам, Сільвія!..*

Гаворкі з чужым сэрцам у сваіх грудзях — гэта па-новаму цікава. Ну а ў мяне — старое як свет: размова з уласным сэрцам. Менавіта такая пара «прыступіла» (як скажа беларус) і да мяне. Больш як год мінула…

*5 красавіка 1993 г.*

## 1. З-ПАД КРОПЕЛЬНІЦЫ

*Канец 1991-га — першая палова 1992-га.*

Уначы з 20 на 21 снежня, калі здарылася гэта, было поўнае зацьменне месяца. Апроч таго — потым даведаўся — афіцыйная дата нараджэння І. В. Сталіна. (А ён жа пры чым? Ды ні пры чым.)

Дыягназ 7-й клінічнай бальніцы г. Масквы: «ІБС, востры трансмуральны інфаркт міякарда ў пярэдне-септальнай, бакавой і вяршковай частцы ЛЖ з развіццём хранічнай анеўрызмы».

З маёй запісной кніжкі*:

*23–25 снежня 91 г.*

Адбылося. Самае сур'ёзнае ў маёй мед. карце. «Вялікі», «абшырны», «з ускладненнямі» — тут у лекараў правіла рэзаць праўду-матку ў вочы хвораму. Што да мяне — робяць правільна. Жыццё маё, ці што, так ішло: у 16-ць маглі забіць дый пазней падстаўляўся, але пражытыя ажно за 60 лічу падарункам. Чаго скавытаць? Апроч таго, мабыць, я з тых, хто сябе не дужа высока ацэньваў. Ажыццявіўся, на колькі быў запраграмаваны, крыху больш, крыху менш — ужо не мае значэння.

Вось і спакойна ўсё ўспрыняў, а з боку — дык і легкадумна. У чалавека няма абавязку нарадзіцца. Але памерці — абавязак кожнага. Вось і памры.

…Дзіўныя сны ў гэтым стане. Колькі начэй адзін і той жа: выцягваю, выцягваю з паўтрызнення нейкую праўду… для кабінета Гайдара. А сёння чамусьці ўсю ноч забаўляўся стылістычнай

* На ўнутранай вокладцы: «Канец снежня 1991 г. і м. б. 1992 г. Запісы для сябе. Зрэшты, наўрад».



іроніяй з прозвішчам Бурбуліса[1] (чытаў у сне нейкі цікавы нарыс іншаземца).

З гэтым паміраюць? Наўрад. Павінны нейкія больш вечныя тэмы, пытанні абступіць. Вырашыў — папраўлюся.

*25.12.91.*

Стала лепш — захацелася яшчэ пажыць. Не, не эканомней, гэта навошта, а вось больш разумна і *сканцэнтравана*. На чым толькі, куды плыць?

*26.12.*

Добра быць запісной кніжкай Бога! — думка вылецела аднекуль са сну.

*28.12.*

Прачытаў у «Независимой газете», як сваё; увогуле банальнасць, але калі нядаўна (5 дзён таму) з гэтым згаджаўся не як з цытатай, але як з фактам, падзеяй — гэта іншае: «Каб жыць па-чалавечы, трэба згадзіцца са смерцю і перастаць яе баяцца».

Талстой кажа, што смерць страшная, калі не так пражыў. Дык што: не баішся — значыць, пражыў разумна? А колькі, што проста спальваюць сваё жыццё, аддаюць яго за задавальненне выпіць нешта спіртам пахкае? Дык што — прамой залежнасці няма. Проста не трэба пераацэньваць сябе, і будзеш ставіцца да гэтае падзеі спакайней.

*29.12.*

Гляджу на снежны дзень за акном. Утульнасць. Ты тут, а гэта — там. Смерць што — таксама такая ўтульнасць? Ты ўжо тут, а ўсё — яшчэ там. Так. Пра гэта Лермантаў марыў: (каб) «вздымалась тихо грудь»… Але калі адсюль туды (глядзець) услед — хваля, якая як мага глыбей пранікнуўшы — калі (з громам) адыходзяць куміры мільёнаў ці (нехта), наадварот, ціха, але помныя (успамінаемыя) стагоддзі — ці не так накатваецца (намываецца) дарога між жыццём і смерцю, акенца, дзірка ў скале (прабіваецца), пячорныя хады? Старажытныя ўжо праклалі (такую дарогу, якая звязвае, хады), для іх кожны памерлы быў поўны значнасці, а не асобныя абраныя*. Ну, здарылася б гэта ўжо некалькі дзён назад — завіхрэнне пачуццяў у нейкім коле

* Не вельмі разумею цяпер, што хацеў выявіць, але пакідаю, як напісалася. У дужках — цяперашнія словы-звязкі.

людзей, а далей — быццам нічога і не здарылася, быццам ты жывеш і далей, але цішэй, не так прыкметна, не гэтак гучна, і вось тут і пачынаецца знікненне: з памяці людзей, з адносін іх, са справаў. Вось тут і высвятляецца: жыў ці не жыў, які след пакінуў і ці пакінуў?

Таму так хоча чалавек напісаць на чым хочаш, хоць на НЛА: «Тут быў Вася!»

*30.12.91.*

Гэта Бог мяне выратаваў. Ад здрады. Няхай нават часовай. (Амаль як усе кароцічы, што бягуць.) Краіна слізганула ў прорву, а ты паплыў бы вывучаць Азію. На шмат месяцаў*. Самых рызыкоўных і страшных. Калі мільёны ахопленыя жахам. Не магу забыць, як нават Рыжоў[2], светлы, разумны, растлумачыў мне безнадзейнасць сітуацыі, а таму, маўляў, згадзіўся «прыняць Парыж». І не адчувае — аргументы накшталт таго, што маці хворая ўсё роўна безнадзейна — таму і пакідаю. Блаславўляю, дзякую свайму сэрцу — за тое, што адмовілася качаць кроў здрадніка. Японцы маюць рацыю: важна не як жыў, а як памёр. Мог усё пражытае жыццё загадзіць.

…Шчаслівай дарогі, «Асоба»**. А кітайскую сцяну, Вялікую, усё роўна шкада. Ну, і шкадуй дома, разам з усімі, каму падзецца няма куды. Расхлёбваць спаўна за ўсю 70-гадовую зграю нягоднікаў і злачынцаў, бязмежна вінаватых перад гэтым няшчасным народам.

*31.12.91.*

Ляжу з інфарктам, гляджу ў тэлевізар на тых, што ідуць па вуліцы напярэдадні 1992 г., і шкада не сябе, а іх. Госпадзе, што чакае гэтых людзей?

*3.1.92.*

Так, жыў я апошнія гады мітынгамі, з'ездамі, а ўсё ж, калі пачуў пра путч, — першае, пра што падумаў: не скончыў аповесць! І вось стукнуў інфаркт, усё на краі, пра што падумаў: добра, што скончыў аповесць***.

---

* В. М. Кузьмін рыхтаваў новы круіз (азіяцкі), накшталт таго, які ў 1990 адбываўся па Міжземнамор'і.

** Так называлася арганізацыя В. М. Кузьміна, што планавала круіз па краінах Азіі.

*** «Венера, або Як я быў прыгоннікам»[3].



*4.1.1992.*

Доктар Лена Аляксандраўна шчыра паведаміла: «Інфаркт вялікі, вельмі вялікі і на ўсю глыбіню сценкі»… Левы жалудачак. Утрымаўся на плыні, мабыць, дзякуючы ўсё ж мужыцкай прыродзе. Але ў любы момант… Што ж, і тут я, пэўна, ад дзядоў-мужыкоў пераняў: Бог даў, Бог узяў! Спакойны да непрыстойнасці. Колькасна я яшчэ мог бы нешта зрабіць, а якасна — наўрад. Гэта трэба яшчэ гадоў 7–10 у запасе. Ніхто не дасць. Ну, што ж, дзякуй і за 64 гады. 64 – 16 = 48. Вось які падарунак хлапчуку, што збіраўся стаць паэтам, верыў у нейкае сваё назначэнне. Кулі чамусьці вакол галавы віліся: і ў першай сітуацыі (на пасту ля Незнані), і ў засадзе ля Усцерхаў, калі чыркнула па чэрапе — «Нехта» яшчэ гадаў-прыкідваў: а можа, прыбраць яго? Вырашыў пакінуць. Можа, таму, а можа, па натуры — але жыў я, радуючыся самой гэтай магчымасці — жыць. І пераважна нічога не баяўся. І ў часы Страху. Таксама пашанцавала.

Так што распараджайцеся мною, як лічыце патрэбным. І нават скавытаць не буду, што хацеў бы камусьці (ёсць каму) памагчы выжыць у гэты цяжкі час. Сапраўды хачу. Многім. Але гэта не аргумент перад вечнасцю.

*6.1.92 (з 5 на 6-га).*

Ноч на Каляды ў бальніцы № 7 жахлівая была. Паміраў чалавек. Калісьці (уласная) літаратура (і вайна) падказалі мне: непрыгожы чалавек, які памірае! Што б ні казала аб тым сусветнае мастацтва, як бы ні гераізавала (смерць) тысячы гадоў.

Бедная мая мама[4], да жаху ў вачах баялася неахайнасці смерці, і ёй давялося прайсці праз гэта.

Пасля таго я асабліва забаяўся смерці працяглай. І як (жаданая) магчымасць — нават калі на 5, на 10 гадоў раней — імгненная. Была «рэпетыцыя» ў акадэмічнай гасцініцы гадоў 8 таму: хутка ўстаў, каб пайсці ў туалет, і… знайшоў сябе на падлозе з выбітым пальцам і разбітым ілбом. Вось бы так! І ўсё! Якая розніца — калі? Што значаць гады перад вечнасцю? А гэта менавіта вяртанне ў вечнасць.

…Пасыпаліся «шасцідзясятнікі», і часцей за ўсё інфаркт — Каракін[5], Бурцін[6], Акуджава[7], Баткін[8], не злічыць. Не з зайздрасцю (да ацалелых) і нават без здзіўлення: спасцігае гэта толькі адну палавіну шасьцідзясятнікаў, той бок, дзе «абстрэл асабліва

інтэнсіўны», ці што. Вунь і Бондараў[9], Праскурын[10], А. Іваноў[11] і г. д. таго ж пакалення. Ну, у іх нервы з дроту, як у сталінскіх членаў палітбюро. І наогул у чл. палітбюро.

У «Сов. писателе» мая доўгапакутніца — кніга: «Мы — шасцідзясятнікі». Назваў, як чуў. М. б., выйдзе.

У «Дне» прачытаў, праханаўскім[12]: «нянавісць Адамовіча», маўляў, патойбочная, нешта ў гэтым родзе.

Яны гэта хочуць называць нянавісцю (і ў лістах з лаянкай), тое, што нас спальвала, што шасцідзясятнікаў (гэтых) рабіла тымі, хто яны ёсць, былі. І менавіта сталі ў 80-я дражджамі працэсу ў краіне, які пераламаў ходу гісторыі, што вось-вось магла скончыцца. Ды не, не нянавісць рухала і рухае. Іншыя пачуцці. Зусім-зусім іншыя. Ну, ды пра гэта што!..

…У. Бандарэнка[13] адразу пасля путчу маліў шасцідзясятнікаў (у тым жа «Дне»): вы сваю справу зрабілі — адыдзіце! Затым Цыпко[14] гэтак жа ўгаворваў дэмакратаў: дзякуй і адыдзіце!

Што ж, адыходзім. Ну а што гэтак — выбачайце.

*7.1.92.*

Што ж не пішаш пра тое, што ніхто побач з табой не быў сапраўды шчаслівым? І ты сам таксама. Але ўсё па тваёй віне. Цябе любілі. А ты? У цябе было яшчэ нешта, што адцясняла іх, а ў іх? Кампенсаваў «сардэчную недастатковасць» чым? Сваёй літаратурай, справамі вонкавымі (гэтыя апошнія 10 гадоў), але вось надышоў час, і хочацца ва ўсіх папрасіць прабачэння. За тое, што так цяжка ім было побач са мной. Шкадаваць усіх і любіць — розныя рэчы. Іх шкадаваў, а любіў — сябе? І яшчэ — свабоду сваю. Вышэй за ўсё. Нават ад любові свабоду.

*8.1.92.*

Па «Свободе» зноў Кароціч[15]. І брыдка, і сорамна. Вось так было б. (Калі б я паплыў.)

…У Глушу! У Глушу! У Глушу!

Рыжоў — у Парыж, Фільшын — у Аўстрыю, а ты — у смерць. Усе дэзерціры. Не, вярнуцца і даць апошні бой — «заўтра бой!» — як збіраўся Сахараў[16]. Калі і паміраць, дык вось так.

…Перавезлі мяне ў Цэнтральную клініку. Сяджу з апаратам, хаджу, сплю, як паўлаўскі сабака.



А толькі што (13.1.92, у 18.30) пазваніў Гарбачоў. Падбадзёрваў я яго. На стале ў мяне ляжыць пачаты артыкул: пра тое, што наш развал, як ні цяжка, выратаваў свет і нас ад немінучай катастрофы, ад зрыву ў нікуды і назаўжды. І гэта звязана напрасткі з дзеяннямі (і бяздзеяннем) чалавека, з якім я толькі што гаварыў. Я яму параіў усміхацца. Праз яго спрацаваў інстынкт самазахавання чалавецтва. Праз яго. А астатняе, яго недзе правата або неправата — якое гэта будзе мець значэнне?

…Абмяняліся кампліментамі з Гарбачовым.

Ён: — Вы занадта спальвалі сябе.

— Не вам гэта казаць, Міхаіл Сяргеевіч!

*16.1.92.*

Званіў Ю. Рыжоў. Да таго — Яўлінскі[17], Акуджава, Чарнічэнка[18], ну і, вядома, Быкаў. Усе (яны) мой стан успрымаюць усур'ёз. Адзіны, хто не надта за мяне перажывае, — гэта Адамовіч, ён, той самы, каторы Алесь.

Учора — па-філасофску-фаталістычна, а стала лягчэй — быццам і не *гэта* адбылося са мной. Дактары проста ў лоб лупяць праўду і здзіўляюцца: ён што, не разумее?!

*17.1.92.*

Канстытуцыйны суд вырубіў указ Ельцына аб стварэнні новага «НКВД». Монстра. Я яго абазваў так, здаецца, першы. Пазванілі з «Эхо Москвы» (Чаркізаў), як толькі абнародавалі Указ па тэліку. Я і сказаў: монстр, трэба пайсці пагглядзець, ці не ўзабраўся Фелікс на свой п'едэстал? І вось пацвердзілі тую нашу акцыю скідвання (ідала на Лубянскай плошчы). Не, а шкада адыходзіць, усё-ткі шасцідзясятнікі, якіх так угаворваюць «пайсці», (яшчэ) здольныя вожыка запусціць Сістэме, што ўсё не адыходзіць канчаткова.

…Аб'явіўся Кісінджэр[19] у Маскве. Мусіць, забыўся, што прайграў мне бутэльку віскі: а партыя ж знікла!

Нейк забыўся, што ўсяго толькі 8–9 гадоў да 2000 года і мог бы дацягнуць. Вось бы, а! Ажно 6,5 млрд шчаслівчыкаў змогуць сказаць, што апынуліся на скрыжаванні тысячагоддзяў. Да наступнага вунь колькі яшчэ чакаць многім пакаленням! Праўда Пятрэнкі: выбух энергіі на такіх скрыжаваннях (стагоддзяў)

заўсёды велізарны. А тым больш — тысячагоддзяў. Ну але добра, чаго захацеў.

*25.1.92.*

Цімафееў-Расоўскі[20]: мэта жыцця — каб, калі давядзецца паміраць, не было б сорамна. Так? Ну а табе? У тым і рэч, што гэта іншым відно. Але і тваё самаадчуванне тут «прычым»: сорамна ці не сорамна — табе. Што ж, зазірай у сябе, самы час.

*26.1.92.*

Амерыканскі фільм: герой кінуўся наўздагон… А ты ўжо не пабяжыш! А ты ўжо тое і тое — не. Гэта і ёсць старэць, паміраць?

Год назад любіў гаварыць [думаў, што гэта (яшчэ) не ўсур'ёз]: «Пакуль можаш хадзіць — ездзі». Пакуль можаш. Цані ж тое, што яшчэ можаш. Напрыклад, за сталом. І вось правай рукой, нагой — можаш. Трапіш у такую бальніцу, адшукаюць такое ў цябе! Злева сасуды галавы благія. Значыць (пад пагрозай), правая рука, нага… А таму сэрца — гэта паратунак. Раз — і вечнасць.

*28.1.92.*

Здаецца, Падзея адкладваецца. Цяпер будзе цяжэй быць філосафам-фаталістам. Зноў спакуса ўсё магчы, усяго хацець — жыць.

…Нешта я стаў больш сентыментальным за гэтыя дні, слёзы блізкія на любое дабро (калі раптам на экране), але і больш смяшлівым, збоку хто пачуў бы — гэта што, што за гэтым?

*29.1.92.*

«З-пад кропельніцы»* (не ведаю, як назавуць артыкул у «Мегополисе») напісаў на зыходзе першага месяца вылежвання ў бальніцы. Дзіўна, вось выходжу ў лес (у парк), іду, і не так, як у 79-м (таксама пасля чакання блізкага канца), калі нюхаў сучча, галіны па-сабачы, а тут думкі вакол таго, што не да мяне адносіны мае, не прамыя — а што там, у артыкуле. Вунь як стаў жыць «справай», а не жыццём. Магчыма, таму і не спужаўся блізкае Падзеі. Ну, не *зробіш* яшчэ нешта. Дык ужо ж зрабіў сёе-тое. Гэта не «клейкія лісточкі». Што, у гэтым адказ?

* Артыкул у «Megapolis-express» № 7 называецца «Не забі чалавецтва».



*30.1.92.*

У сталоўцы (я ўжо ў санаторыі імя Герцэна) бачачы старых, хворых, падумаў: як адносяцца людзі у камерах смяротнікаў адзін да аднаго? Лепш, чым у агульнай жытцы (дзе таксама смяротнікі, але не ўсведамляюць гэтага штохвіліны), ці горш? У чым розніца? Там усе ў адным становішчы, толькі тэрмін розны. Але не могуць за кошт другіх уратавацца, адтэрмінаваць. Тут тыя ж смяротнікі, але гэтая магчымасць ёсць. Ну, і не помняць, што смяротнікі. А каб помніць? М. б., лепш і дабрэй былі б да такіх жа асуджаных.

*1.2.92.*

Я гэта ведаў тэарэтычна: чым далей чалавек ад смерці, якой (ужо) крануўся, тым больш баіцца гэтае Падзеі. Пачынае баяцца. «Сіндром Качагуры» — наш партызан, контрразведчык, які ўражваў храбрасцю, халоднай рызыкай, гуляў сваім жыццём, часам без патрэбы. Праваліўся пад лёд, захварэў на сухоты, і які ж гэта быў варты жалю чалавек пасля вайны: ні пра што не мог гаварыць, адно пра сваю хваробу. Не захварэць бы на гэтую хваробу, гэты сіндром.

…Глядзіш, як на марсіян, на ўсіх, хто можа бегчы, танцаваць, па лесвіцы ўзыходзіць. Але калі нават так: галава засталася, гэта твае ногі, твой бег і танец — сядай за стол!

*2.2.92.*

Дзіўна, але сны зусім спакойныя, не звязаныя аніяк з тым, што адбылося. Калі «матэрыялістычна» тлумачыць — ціск вельмі нізкі: 100/75. Ну а псіхалагічна — мала думаю пра Падзею, нават калі і запісваю штодня, то нейк збоку: «Паўлаў працуе!..»

*2.2.92.*

Цікава, калі б я зараз быў інтэрнаваны (перамаглі прахanавы-янаевы), ці здарылася б *гэта* са мной? Ці не да таго было б?

*2.2.92.*

Калі паміраla мама, я ляжаў у той жа бальніцы паверхам ніжэй з кровазліццём у страўніку, а яна не ведала («У Сашы грып»), не надта верыла, што грып, праз боль свой фізічны нешта па-мацярынску ўгадвала, але была і крыўда: «Дзе Адамовічы?» (Не «мае сыны», а Адамовічы.) Зразумела яна *там*, што ёй

хлусілі дзеля яе ж «спакою», як яна мяне сустрэне? Ні разу за хваробу яна мне не прыснілася (не, здаецца, днямі было), а раней снілася часта. У сувязі з падзеямі майго дамашняга жыцця. А тут — не. Ці не чакае? Яшчэ не чакае?

…Тут, у санаторыі, сэрца цягне на вельмі нізкі ціск: 100/75, увесь час галавакружэнне і тупое адчуванне пад пахай. У горадзе гэтага не было. Ну што ж, тым больш трэба сядзець за сталом. Гэта ж можаш.

…Артыкул у «М.-Э.» зноў пра ядзерныя справы, напісаны да *таго*, як Ельцын выступіў з сваёй ініцыятывай, у ім я якраз заклікаў да такой ініцыятывы (надрукаваны будзе *пасля* ўжо яго паездкі на Захад), напісаны дзякуючы бальніцы? Г. зн. дзякуючы хваробе. Чаму аддаў бы перавагу? Не, не скажу, што артыкулу: (добра б) без хваробы, але з артыкулам. Як сказала, пэўна, даруючы, Вера[21]: «Ён любіць толькі малако і сваю літаратуру». Што, больш за само жыццё? Ці «літаратура» і ёсць маё жыццё?

***2.2.92.***

Стаў слязлівы на дабро — фільмы глядзець не магу, нават дурныя.

***4.2.92.***

Раптам скеміў: спакойныя сны ў *такім* становішчы тлумачацца проста: мышца сэрца працуе слаба, сасуды мозгу не перапоўненыя крывёй, а значыць, і снамі, трызненнем. І нават якія ёсць сны, заштрыхаваныя, слаба праяўленыя. 300 метраў — і ціск падае да 100 ці 95 (а было за 140 і вышэй). Затое ночы спакойныя. Што ж, гэта памагае па-філасофску чакаць, будзе ці не будзе Падзея. І калі будзе.

***4.2.92.***

Бацька Герцэна: «Вось мне 76 гадоў, а я ўпершыню паміраю».

Я не скажу так. Гэта ўжо трэці (раз), калі я ведаў (што вось яна, смерць!). Ды не, у вайну было не менш пяці выпадкаў, калі (да смерці) не 4 крокі, а паўкрока было. Значыць, у 7-ы, 8-ы раз. Ну, і ў 79-м. Не апынуўся б у бальніцы, дзе памірала мама, 2,5 літра крыві ў страўніку мяне даканалі б. І тут мама (вось гэтак) выратавала.

Вось чаму я так стаўлюся да Падзеі. Таму?



***5.2.92.***

Упарта залятае сінічка (вось ужо 4-ы раз за 15 хвілін) у мой пакой. І да майго ложка ўсё, хаця рэшткі абеду на століку ў другім канцы пакоя. Ну, што хочаш мне паведаміць? Што чакаюць мяне недзе там? Ведаю і без цябе. Не, буду лічыць, што гэта падарунак мне, покліч да жыцця.

***7.2.92.***

Увайшоў зноў у працу (эсэ пра тры дні путчу), і зноў цана жыцця павысілася. Раней я пачынаў пабойвацца самалётаў, але толькі датуль, калі аповесць пісалася. Заканчваў — і гэтае пачуццё знікала. Ну а сёння сітуацыя пасляінфарктная і ўсё змешана. Але ранейшыя паводзіны і тут праяўляюцца. Хочацца скончыць — хочацца жыць.

***11.2.92.***

Усё, што я змог зрабіць, ужо зрабіў, што ўзяць ад жыцця змог (я!) — узяў, які ж сэнс трымацца за яго, калі сэрца ў цябе распалавінена, як шабельным ударам (лекары, лабаранты не тояць, якіх маштабаў паражэнне). Каб потым адбылася тая самая падзея, але ў вартым жалю выглядзе — навошта гэта?

Праўда, ёсць некалькі чалавек, дзеля якіх варта б жыць. Але потым на іх жа ляжа твая немач і *сорам смерці*. Ну, а 2000-ы год? Усё ж шкада, што не дацягнуў. Гэта амаль як з-за Месяца на Зямлю зірнуць, заляцеўшы туды, — чаго таксама хацелася.

…Бунін пра сэрца: «няма (яму) роўнага ва ўсім створаным па таямнічасці і тонкасці». І думка: што будзе з ім «праз секунду»…

З маім менавіта так і было: радасць жыцця, ранішняя бадзёрасць і раптам… У пот кінула, загу-улі рукі, і ты ўжо на краі. І нават хаця і жывы, гэтак шмат для цябе (ужо) забаронена. Узяць і пабегчы…

***12.2.92.***

Ну і што з таго, што Бунін увесь час думае, жыве ў боязі небыцця, смерці, а ты — побач будучы з гэтай падзеяй, бачачы ўжо нітачку, на якой вісіш, трымаешся з апошніх сіл свайго міякарду, — ты «не баішся»? Проста яму дадзены большы талент (яму, Талстому), г. зн. большая адказнасць, і ён ёю звязаны, *адказвае за нешта большае*, чым ты. Таму чапляешся, як маці, за край прорвы: за плячыма ж у яе дзіця прывязана. (Той самы

талент.) Не сябе толькі ратуе, а і яго. Вялікі дар, яму адпушчаны, на яго адказнасць пакінуты.

*19.2.92.*

Вось ужо 20 дзён у санаторыі імя Герцэна, побач і вакол наменклатура. Тое самае, як пасля бою параненых варожых войскаў сабралі б у адным шпіталі. Цяпер у нас агульны вораг — інфаркт, язвы, артрыты. Пра тое, што нас учора разносіла ў шмаццё, не размаўляем.

*20.2.92.*

Толькі Бунін з яго неадступнай думкай пратэсту аб смерці мог напісаць пра труну: «пакладуць у тое, ні на што ў свеце не падобнае, усяму свету чужое і варожае» («Да роду бацькоў сваіх»).

*20.2.92 (6 гадзін).*

Уся ісціна ў тым, што памерці я хачу ў Беларусі, а ляжаць у Глушы. Там я звязаны з усім. Тут жа толькі ты. Гэта — для жыцця. А для Вечнасці — Беларусь.

*23.2.92.*

Ён памёр у сне ад (цяжкога) сну. І ніхто не ведаў, чаму і што (пры)снілася. [Ад такога вось магло (можа) гэта здарыцца.]

*10.4.92.*

«Падмаскоўе». Каб я так усё жыццё ўкалваў, як зараз (інфаркт чакаць не будзе!), шма-ат бы паспеў. Што ж, не растраць апошні капітал (адпушчаных) дзён.

…Жырыноўскі — выкідыш КПСС.

…З Плутарха: «Цыцэрон, загадаўшы пакараць смерцю змоўшчыкаў, крыкнуў натоўпу: “Яны пражылі”». Так выказваліся рымляне пра людзей, якія памерлі, калі не хацелі прамаўляць злавесныя словы.

А пра сябе? «Я пражыў»?

*17.5.92.*

(Санаторый) «Падмаскоўе». (Ужо) магу дакрануцца да гэтага. 8-га днём пазванілі: дзень, маўляў, благі, поўня, папрасі зрабіць укол… Звыклыя трывогі, нічога не западозрыў. «Алесь!.. У цябе бяда, там дома… Толькі…». «— Жэня?! Брат? Памёр?» «Так, толькі… думай, што павінен яго любімых унукаў[22] падняць, паставіць на ногі»… І іншае, што кажуць у такіх выпадках.



Памёр. Не, не я памёр — Жэня! Ён усё ірваўся прыехаць да мяне, хворага, а я баяўся дарогі для яго цяжкай. Ніколі ў нас не было вонкавых праяваў, у словах, у абдымках [здаецца, толькі мёртвага (упершыню) я пацалаваў яго, за ўвесь час, колькі сябе помню], а тут ён (часам) загаворваць стаў, што мы вось удвух засталіся: мама і бацька[23] ўжо ў Глушы. Дзе і нам ляжаць. За дзень да таго, што адбылося, даслаў газету, якая магла быць цікаваю мне, і шматок-ліст: клікаў у Мінск. За ўсё жыццё Жэня (я не помню выпадку такога і не ўяўляю яго) наніводнага чалавека нават голасу не ўзняў. (Свае не ў лік, у дзяцінстве мы біліся і яшчэ як. Зрэшты, «лез» я, а не ён.) У пакой зайшоў Юра (Каракін), з ім Мая (лекар з Масквы), санаторныя лекары. Зразумелі, што паеду, што б ні казалі мне. І таму не настойвалі.

[Потым сказалі, што і (літфондаўская) Раіса Аляксееўна і Паліна Андрэеўна (з «Герцэна») былі рашуча супраць паездкі.] Але пра што тут можна гаварыць?.. У Мінску Вера і Марыя[24] зрабілі ўсё, што патрэбна; не толькі раджаць, але і хаваць Бог даручыў жанчынам. Хлапчукі затаіліся. (На ўсё жыццё гэта застанецца ў іх: дзед для іх быў вялізным любячым, грэючым сонцам. Да анекдотаў, нашых, сямейных даходзіла яго аб іх бязмежная ласка, клопат.)

Ён не мог легчы побач з бацькам і мамай, месца там ужо няма. Праз дзве магілы. Я папрасіў у Марыі пакінуць маё побач з ім. Я заўсёды ведаў, што буду там, на гэтых могілках, што цяпер (ужо) магу стаць і пастаяць там, дзе мая Вечнасць. («Вось тут буду ляжаць».) Калі адсартаваць усе мае (якія захаваліся) жаданні: нешта пабачыць, напісаць і інш., і інш., на першым месцы і галоўнае, якое засталося б: ляжаць там, у зямлі бацькоў, брата, дзяцінства і ўсяго, з чаго складаўся ўсё жывое жыццё.

*20.5.92.*

І тым не менш кожны дзень жыцця — адкрыццё. Хаджу вечарамі і раптам выявіў тое, чаго, здаецца, не заўважалі (не адзначылі): калі з’яўляецца салоўка, пачынае паласкаць горлачка, увесь птушыны лес услед асабліва стараецца — з’явіўся Майстар, і ўсе астатнія пачынаюць (тужыцца) старацца наперабой, кожны хоча падняць планку.

*16.6.92.*

За некалькі дзён да саракавін мне прысніўся Жэня. Мне ўсё хацелася дакрануцца да яго рукі, пераканацца, што рукі ў яго цёплыя. Так і было — цёплыя. Мне на гэта сказалі: *значыць, ён яшчэ тут*.

З «Падмаскоўя» да сяла Біцюгова — 3 км, там старая, 16-га стагоддзя, царква, зруйнаваная ў 1939 г., цяпер яе намагаецца адрадзіць бацюшка Яўген, цёзка Жэні, малады святар. Дамовіліся аб службе 40-га дня, але ён быў моцна прастуджаны і, апроч таго, павінен быў у той дзень везці бярвенне на пільню. Са спазненнем — а 17.00 усё-ткі з'явіўся, затым матушка яго.

Яны і справілі службу ў пустой царкве: голая цэгла, падцёкі і зяленіва, мох у алтары (сказаў, што грыбы там збіраюць), але нешта ў акалічнасцях было такое, што я ўпершыню ў жыцці некалькі разоў перажагнаўся — услед за бацюшкам Яўгенам.

Што памагае чалавеку пераносіць страту найблізкіх яму людзей? Тое, што і ён сам неўзабаве (ці не неўзабаве, я дык якраз хутка) будзе там жа, і, адпяваючы тых, чалавек чуе, як будуць яго адпяваць. Смяротныя — у гэтым апраўданне ўсяго нашага жыцця.

*13.7.92. Перадзелкіна.*

На экране японскага апарата «Рэха» — разрэз майго Сэрца, на плыткім фоне дражніцца язычок клапана. Вось дзе твой гадзіннік. Завод скончыцца і… Напісаў Сэрца з вялікай літары. Пішу, спяшаюся скончыць «Нямко». Бачыў гадзіннік і спяшаюся.

## 2. І ЗНОЎ ПАЧЫНАЕЦЦА ДЗЯЦІНСТВА

Італійскія грэкі-сібарыты не дзеля дзіцячае попкі стараліся 2500 гадоў таму назад, калі вынаходзілі начны гаршчок. Гэта быў прадмет раскошы, зусім царскі, каралеўскі. Каб дзяржаўная персона магла пасядзець-падумаць сам-насам, на свежую галаву. Зрэшты, недзе чытаў, што мітуслівыя, нецярплівыя да адзіноты Людовікі і нават Кацярына Вялікая дапускалі найбольш вартых прыдворных да сузірання і гэтае падрабязнасці свайго ранішняга туалету. Пры гэтым вяліся куртуазныя размовы.

Што ж дзіўнага, што маленькія грамадзяне, калі начны гаршчок зрабіўся іх прывілеяй, з усіх сіл стараюцца прыцягнуць



да сябе ўвагу навакольных менавіта ў такой позе, становішчы. Нават калі пераконваюцца, што гэта звязана з пэўнай рызыкай.

За сталом, вакол вялікай светлай лямпы, госці, чужыя цёткі і дзядзькі спажываюць, гамоняць, смяюцца. А ты павінен адзін сядзець у цёмнай кухні. Не дзеля гэтага ты папрасіўся на гаршчочак. Як бы міжволі пачынаеш дрэйфаваць у напрамку да святла, умела пакручваючы голай попкай. Да квяцістай шырмачкі, што аддзяляе кухню ад сталоўкі, яшчэ спакойна, а далей патрэбна гранічная асцярога і непаспешлівасць. Гаршчок пад табой не можа рухацца напрасткі, а складанымі петлямі, трэба пры гэтым і патрэбны кірунак вытрымаць і не вывернуць яго з усім змесцівам. А калі «вадзіцелю» два-тры гадкі і аблічыўся — задачка гэтая не з лёгкіх. Галоўнае — падруляваць непрыкметна і як мага бліжэй да стала. Не, не дзеля таго, каб сябе паказаць, а каб на другіх паглядзець, паслухаць жывы смех, гамонку… Мамін ускрык, жах і адчай у ім! Ну, можна падумаць, страшны воўк у пакоі з'явіўся і зараз распужае або з'есць усіх яе гасцей. Ускоквае з крэсла, кідаецца да цябе, загароджвае стол. Схапіўшы разам з гаршком, нясе на кухню. У цемру, адкуль ты і з'явіўся. Вас праводзіць няпэўны смяшок гасцей. Тата, ягоны голас, тлумачыць (не без задавальнення):

— Упарты парсюк!

Гэта наша першая кватэра, у якой я сябе бачу, помню. Вялікі пакой шырмай з вялікімі яркімі кветкамі па ўсім полі распалавінены: на «сталоўку» і «спальню». Спальні аддадзена вялікая ласкава-цёплая печ. Пашчай, што дыхае агнём, яна выходзіць на кухню. На кухні гаспадарыць мама, на печы — мы з братам «Занай» (наогул ён Жэня, але «з» лягчэй вымаўляецца). На печку ўзбіраемся проста з нашага ложка.

Але, бадай, самае прыкметнае ў прадметным свеце нашага дзяцінства была Лямпа — зіхоткі металічны шар на чорнай трынозе, шкло з крута раздзьмутымі шчокамі, падтрыманае знізу ўзорыстым венчыкам. Як толькі змрок выпаўзае з цёмных куткоў, запаўняючы спальню, кухню, а затым усю кватэру, і за вокнамі таксама пачынае цямнець, запальваецца, узгараецца Лямпа. Кнот у Лямпе не пляскаты, як у той бляшанцы, што на кухонным стале (тую я не стаў бы пісаць з вялікае літары), а круглы. Напачатку полымя ледзь трымаецца за чорны краёчак кнота, а павернуць зубчастае кольца, і святло затапляе пакой — сцены быццам рассунуліся, столь узляцела. Калі блізка прысесці, вуха пачуе шыпенне, жывы шэпт Лямпы. «Шасцілінейная» — помню гэтае загадкавае слова, якое вымаўляецца з павагай нават калі

яна, запыленая і забытая, стаяла на шафе, а са столі звісала пазначаная мухамі электрычная лямпачка на жорсткім перакручаным дроце. Начныя матылькі з крэйдавымі крылцамі — здавалася, што ўсё тыя ж, — віліся цяпер вакол гэтых лямпачак.

Вочы помняць квяцістую шырму-загарадзь, прасвечаную ззяннем Лямпы, калі ляжыш у ложку, ужо супакоена, вячэрняю валтузнёю адваяваўшы ў старэйшага брата табе належную палавіну ложка. Гэты малюнак лёгка і натуральна накладваецца на ярка-зялёны за домам лужок ля таўшчэзнага дуба, з жорсткімі амаль без паху жоўтымі люцікамі, мякенькай мядовай канюшынай і нечаканай, як спалох, ягадкай сунічкі, што раптам цябе гукнула.

Усе раннія хваробы помняцца як доўгае, да галавакружэння, углядванне ў плыткія малюнкі, зменлівыя контуры на празрыстым паркалі, з-за якога (хутчэй бы!) узнікне мама з заклапочаным і ласкавым тварам…

Калі на шкарлятыну захварэў, брата ад мяне выдалілі. Мне на зайздрасць — на нашу печ, ён там спаў. Звешваўся зверху і грымаснічаў. Як бы назло мне. Проста яму, нам было сумна адзін без аднаго.

Печка — наша чароўнае царства, да апошняга сантыметра абжытае, абнюханае, аблізанае. Так, і аблізанае. Калі навукова тлумачыць, дзіцячаму арганізму не хапала кальцыю. Вось чаму і глядзеў на любую пабеленую сценку ці бакавіну печкі як на мёдам намазаную. А ўжо калі свежавыбеленая!.. Некалькі крокаў цягнуў языком, мокрым ад задавальнення, па пахкай сценцы, вапне, крэйдзе, пакідаючы выкрывальную, нават калі высыхала, палосу. А паколькі брудны бардзюрчык цямнеў на ўзроўні майго росту, уважлівай гаспадыні не цяжка было вылічыць крэйдавага наркамана. Ну, мама, добра, яна адно сказала бацьку, што трэба мне аптэчнае крэйды, вугалю, у парашках купіць. Зусім іншы быў эфект, калі такі ж бардзюрчык на сцяне і печцы пабачыла ў сваіх апартаментах «пані Пагоцкая», гаспадыня дома, у якім мы наймалі кватэру.

Але гэта асобная гісторыя, асобная старонка нашага жыцця, аб ёй крыху пазней. Дэталь не простых і ў нечым загадкавых адносін нашай сям'і з сям'ёй Пагоцкіх. О, каб людзям вядома было загадзя, якім жахам могуць павярнуцца ўвогуле нікчэмныя дробязі! Калі жыццё раптам крута развернецца. (Пад старым, гнілым пнём можа хавацца вунь што: брат Зана, бы асілак, звярнуў яловую гнілушку на ўскрайку жытнёвага поля, а пад ёй мы, ахнуўшы, пабачылі зіхоткае кольца змяюкі, што неспакойліва заварушылася. Усё жыццё потым з асцярогай азіраў падобныя пні, перш чым на каторым сесці.)



Як і павінна быць паміж братамі з некаторай розніцай у гадах, мы заклапочана дзялілі сферы ўплыву ў сям'і. Я доўга і трывала ўтрымліваў плацдарм у ложку бацькоў — права малодшага спаць паміж імі. Брату толькі і заставалася — урачыстасць, што яму аднаму цалкам належала дзіцячая пасцель. Уладкаваўшыся паміж бацькам і маці, я, перад тым як заснуць, захопліваў маміну руку, прыціскаючы, абдымаючы яе цёплы малочны пах. А ёй, беднай, ні павярнуцца, ні расслабіцца. Бацька на месца яе рукі ціхенька прасоўваў у мае абдымкі сваю. Патрымаўшы нейкі час падмену, я абавязкова прачынаўся і пратэставаў са словамі:

— А, вялікая рука! Не маміна!

Зыгмунд Фрэйд сказаў бы, што я раўнаваў да маці не столькі брата, колькі бацьку. «Немцу» відней, ён малпу прыдумаў!

Брат адыгрываўся на іншым: вечарамі непрыкметна забіраўся на печку і сядзеў там ціхенька, пакуль я важдаўся ўнізе, за сталом або на кухні. Трэба спаць класціся, ужо святло тушыць сабраліся, і тут выяўляецца, як мяне бессаромна падманулі.

І вось яны ўсе трое ўнізе, у ложках, цёмна ў хаце, а я ўпарта сяджу на печцы і адседжваю недаседжанае.

— Сынок, — ласкавы голас бацькі, які быццам нічога не разумее, — што ты там робіш? Ідзі кладзіся спаць.

Што я, як быццам не ведаюць!

— Гэта яшчэ што такое? — Мама ўжо сярдуе. — Што за фантазіі? Зараз жа ідзі спаць.

— А-а-а! — чуецца з печы. — Зана больш сядзеў.

А вось зараз, не Занава, мая ўрачыстасць, перамога: я лётаю, няхай нават з гаршком. Злёгку (зусім не балюча!) адлупцаванага, з халоднай, спаласнутай на хаду попкай, мяне змяшчаюць побач з братам.

— Бессаромны! — папікае мама.

А брат дэманстратыўна адсоўваецца, паказваючы, што не хоча і ляжаць побач з ванючкам.

На святло Лямпы, як улетку белыя матылькі, з'яўляўся часам у нашай кватэры сівавусы сусед — гаспадар Пагоцкі. З вінаватай усмешкай сядаў збоку, заўсёды адмаўляўся, калі запрашалі за стол, вячэраць. Не, ён прыйшоў пагаманіць. А дакладней — гаманіць. Сядзеў і расказваў, расказваў. Як бы адна бясконцая гісторыя. Быццам шум дажджу чуеш — роўны голас чалавека, *які столькі помніць, ведае*.

У Пагоцкіх было некалькі сыноў, дачка, можа, таму, што яны старэйшыя за нас з братам былі, пра іх мая ранняя памяць анічога не захавала. Ну, проста анічога, затое сам Пагоцкі, яго гэтыя вячэрнія наведванні і мой паход на гаспадарову палавіну дома запомніўся. Яшчэ б: гэта скончылася скандалам, гучным у двары крыкам «пані Пагоцкай»: «А хоць бы вы падохлі, мае вы даражэнькія! Смаркачы паскудныя!»

Павёў мяне і брата Зану да сябе Пагоцкі, калі ні нашай мамы, ні гаспадыні дома не было, можа, у краму ці на базар, але некуды яны адлучыліся. Спярша ў прасторнай кладоўцы абдарыў нас прыгожымі, але вельмі цвёрдымі ігрушамі, затым мы прайшлі праз кухню ў «залу». Адзіны жыццёвы ланцуг маіх адкрыццяўздзіўленняў перад чымсьці даўнім, зніклым, «музейным» жыццём, калі называць палац графа Паскевіча ў не разбітым яшчэ вайной Гомелі, затым ленінградскі Эрмітаж у студэнцкія гады, — пачаўся ўсё-ткі з «залы» Пагоцкіх у заводскім пасёлку Глуша Бабруйскага раёна. Уразіла падлога: было страшнавата на яе ступіць, як на шкло. Ярка пафарбаваная ў жоўты колер. Вялізная, да столі, чорная шафа, а па дзверцах і па канту яе — розныя вянкі з ігруш, яблык, сліў, чорных, драўляных. На белых сценах (такіх свежых, што сліна ў роце набрыньвала) віселі, як я разумею, танныя літаграфіі, але яны тады здаліся нетутэйшым багаццем: на кожнай карціне — каляровая сцэнка палявання. І забітыя, абвялыя зайцы, і акрываўленыя велізарныя птушкі, і падцятыя, выгнутыя, як лук, паляўнічыя сабакі, самі паляўнічыя з ружжамі, белавусыя, дужа падобныя на Пагоцкага, — быццам з гісторыяў, апавяданняў гаспадара дома. Нейкае нязведанае — да нас — жыццё.

Але як я мог не аддаць належнае і свежавыбеленым сценам «пані Пагоцкай»? Злачынцаў яна вылічыла імгненна, і ўжо праз дзве гадзіны мама з жахам слухала яе кляцьбу за акном (пры гэтым перападала і самому Пагоцкаму), брат на мяне шыпеў («Ніяк ты не наліжашся!»), а сябе помню толькі праз страх, што злая старая зараз адвяжа, спусціць з ланцуга вялізарнага рыжага сабаку, які заўсёды бегаў і брахаў уздоўж працягнутага ад хлява да варот дроту, што ныючы павіскваў ад кольца, калі сабака цягнуў ланцуг.

Думаю, мама зноў упрошвала бацьку: пашукаць іншую кватэру, прасіць казённую, абы далей ад гэтага крыку, што кляне яе дзяцей.

У «Вайне пад стрэхамі», калі я расказаў пра «Жыгоцкіх», пра старую і яе сына Казіка, якія ледзьве не скінулі сям'ю «Корзунаў» у падвалы нямецкай службы бяспекі на пакуты і смерць, я ўсё сказаў.



Што «Вайна пад стрэхамі» — працяг усё той жа грамадзянскай, распачатай у 17-м, гэтая здагадка ў самой назве рамана закадаваная. Але, вядома, не разгорнута. Як гэта мы робім сёння, звяртаючыся да тых падзеяў. І я ўжо ў стане на падзеі паглядзець вачыма і іншай сям'і, Пагоцкіх-Жыгоцкіх. Іх сына, старэйшага (лейтэнанта ці нават вышэй па званні) забралі ў 37-м. А раней — раскідалі моцную іх гаспадарку. Не саслалі, а толькі абкарналі іх зямлю, аб якасці, урадлівасці якой выразна сведчылі магутныя дубы, што сцяной крыху воддаль стаялі (дрэва гэтае на беднай глебе не расце), не раскулачылі іх толькі таму, мабыць, што жылі не ў вёсцы, а ў рабочым пасёлку. (Не ўсіх адразу.) І вось на самым «жытнёвым» канцы іх поля пачалі будаваць бальніцу. А доктар гэтай новазбудаванай бальніцы — іх кватарант. Мабыць, характар у старой быў шкодны. Сам Пагоцкі, не-не дый загаворыць, здаралася, пра жонку сваю з нечаканай нянавісцю і сорамам. Але зірніце, якой д'ябальскай сумессю, кіслатой палівалі душы людзей. Жонка доктара, якая «замахнулася» на дабро Пагоцкай (наша мама) — сама з раскулачанай сям'і, як тут устрымацца старой і не нагадаць кватарантам-акупантам пра гэта? З радасным крыкам разносіла навіну, калі даляцела да Глушы, што сям'ю доктаркі саслалі: «Цяпер і вы паенчыце!»

У галовах нашага насельніцтва панаваў дзікі кавардак ад усіх падзеяў. Я ў вайну не раз чуў, як заводскія паліцаі з гарачлівасцю даваенных актывістаў лаялі «кулакоў», «куркулёў» вясковых. Дзе, як не ў падвалах НКУС, ішлі рэпетыцыі, браліся ўрокі таго, што вычваралі потым «нашы людзі» ўжо ў падвалах нямецкіх «службаў бяспекі», СД і гестапа? Ну, а вышукваць, знаходзіць і сігналізаваць аб «ворагах» (сёння — контррэвалюцыянерах, «кулаках», заўтра — камуністах, габрэях, партызанах), гэта проста-ткі ўбівалася ў людзей. Столькі гадоў.

…Так, магчыма, што гэта ўсяго толькі (і шкада, калі так) падмена сапраўднай веры ў бяссмерце — медычнай версіяй яе: усе гэтыя гісторыі пра жыццё пасля жыцця. Life after life. Расказаныя людзьмі, якія пабылі ў стане клінічнай смерці. Але як хочацца ў гэта паверыць: пралятаеш па тунэлі-трубе смяротнага жаху і адзіноты і раптам — вырываешся, цябе абдымае незямное святло, сустракаюць, да цябе вярнуліся тыя, каго страціў, здавалася, навек. Перад кім заўсёды перажываеш пачуццё віны, бо менавіта ты *адпусціў* тых, каго любіў. Не ўсё зрабіў, каб затры-

маць. Сустракаюць, каб табе не страшна было. Святло, добрае, нязвыклае, незямное любові святло ўзгадваюць усе, хто пабыў там і вярнуўся. Ні пекла, ні раю, а вось такая сустрэча з самымі-самымі?.. А што, калі ў ліку тых, хто сустракае *там*, і былыя нашы ворагі? Няхай ззаду, няхай за спінай тваёй мамы, бацькі, брата, сяброў… І што, калі «пекла» (побач ці ўнутры «раю» той сустрэчы) — гэта ты сам, раптам сярод тых, хто любіць цябе, убачаны вачыма тых, хто цябе ненавідзіць. Што, калі гэта і ёсць *бясконцае імгненне пекла*? (Там роўнае вечнасці ўсё.) Сустрэча з самім сабой — такім нягоднікам, такім паганцам, якімі нас бачаць, бачылі ворагі нашы (а мы — іх). Бо ж нават святыя старцы перад канцом прасілі ўсіх, малілі даравацъ ім.

Помню, у Мінску гэта было, садзіўся я ў тралейбус, і раптам чалавек, што ішоў следам, не проста мяне стаў штурхаць усярэдзіну (здавалася, што не было і асаблівай таўханіны ля ўваходу), мяне не піхалі, мяне спрабавалі раздушыць — такое было адчуванне. Такога пачуцця *фізічнай нянавісці*, што на мяне напірала, я ніколі ў жыцці да таго (дый пасля) не перажываў. Проста не ведаў, што вось так можна перажываць. Азірнуўся і адразу пабачыў пацвярджэнне — перакошаны ад злосці, наліты свінцовай варожасцю твар пісьменніка К. Гэта быў час нашае нядоўгае маладое ўрачыстасці над ганебна заголенымі, распранутымі перад грамадой вольнымі і міжвольнымі слугамі сталінска-берыеўскай д'ябаліяды. (Якія праз год-два зноў вярнулі свае трывалыя пазіцыі.)

Будучы ў Маскве, гэты К. даведаўся, што Адамовіч, які працаваў тады ў МДУ, адмовіўся падпісаць ліст супраць Сіняўскага і Даніэля[25]. Так падставіўся! Са словаў выпадковага суседа ў вагоне, уначы колькі разоў падскокваў на купэйнай лаўцы, садзіўся і ў шчаслівай урачыстасці, смакаванні выгукваў: «Не падпіса-аў!»

Ён ужо памёр, ён ужо *там*.

Якім жа я сам сябе пабачыў бы — яго вачыма! Што перажыў бы, нават адгароджаны ад нянавісці святлом любові, ужо незямной?..

Перада мной фатаграфія, на якой уся наша, тады такая маладая, сям'я, — 1928 ці 1929 год. Перазнята з падпсаванай, якую мама насіла ў вузялку на шыі амаль год (калі карнікі загналі наш атрад у самыя гіблыя балоты), ведаючы пра мяне і Жэню толькі тое, што ёй расказалі ўратаваныя партызаны: што яе сыноў нямецкі танк *вось так* (і нагой па рыпучым снезе!) запрасаваў у акопе…



Я ў шэрай куртачцы з паяском стаю на лаўцы, прыхіліўшы (пястун) галаву да бацькавай, справа за спінай мама, а бацька і брат Зана (у аксамітнай цёмнай куртачцы, у руцэ мамін кашалёк) сядзяць на той лаўцы.

Такіх кароткіх валасоў у маці, колькі яе помню, не было ніколі. Але, можа быць, гэта пасля хваробы ад сапсаванага свінога мяса (трыхінелёз), якую, як яна ўспаміналa, лячылі тады спіртам, гарэлкай, літаральна спойваючы хворага? Шырокі каўнер, відно, што шаўкова-мяккай сукенкі, твар звыкла строгі, заклапочаны (калі гэта 1929 ці 1930 год — тым больш зразумела, чым заклапочаны) і прыгожы. [Нейк ужо ў Мінску, пасля мамінай смерці, пазваніла мне жанчына, што калісьці жыла ў Глушы, і раптам расказала, як яны, школьніцы, у часе вялікіх перапынкаў бегалі ў аптэку быццам бы купіць «сен-сену» (замест цукерак), а насамрэч: «паглядзець на прыгожую жонку доктара».]

Дзе мы жылі, калі нас здымаў слуцкі, відавочна, фатограф (іншыя фатаграфіі, больш раннія, падпісаныя, маюць пазнаку: «Слуцк»)? Мабыць, гэта яшчэ да Глушы. Калі вучыўся на доктара, бацька ўлетку падзарабляў у Канюхоўскім доме адпачынку, гэта там жа, на Случчыне, дзе і родныя вёскі: Рачэнь — бацькі, Забалаць — мамы. Самае таямнічае, легендарнае месца ў маёй біяграфіі — гэтыя самыя Канюхі[26], у іх я нарадзіўся. Там быў нават мядзведзь, ланцугом навязаны да яблыні, памежнікі, што адпачывалі, яго частавалі, мы з братам таксама (сам не помню, расказваюць) — морквай. «Міска, Міска…» Мішка не жадаў быць вегетарыянцам, аднойчы сарваўся з ланцуга і задраў карову. Яго застрэлілі.

Я анічога з канюхоўскага жыцця не помню. А цікава: той, што стаіць на лаўцы ў куртачцы з паяском, — ён помніць «Міску»? І тое, як частаваў яго морквай. З якога моманту мы начыста забываем тое, што бачым, што востра перажываем, смеючыся і плачучы ў такім вось узросце? Хіба тады мы не *помнілі*? Што было ўчора, пазаўчора — помнілі ж. І раптам — як адрэзвае, адсякае! Нешта застаецца ў нас, але запячатанае, у нейкіх сотах. Што наглуха, а што ўдаецца раскалупаць, раптам прасочваецца пах, ліпкасць мёду раннедзіцячых уражанняў…

Магчымыя, зрэшты, і больш смелыя ўяўленні. На сцэнарных курсах са мной у Маскве вучыўся Эрлом Ахвледзіяні[27], дзівосны казачнік-філосаф. Калі я пабыў у ягоным тбіліскім «родавым доме», выявіў, што сам побыт яго, сам дом бацькі-дзеда такі ж таленавіты, інакш не назавеш. Столь, адфактураная часам, ні мел, ні шпалеры не ўжываліся тут апошнія гадоў сто, ля кожнай сцяны, драўлянай ці каменнай, свая сямейная легенда.

Зусім выпадкова ў «рускамоўным» грузінскім часопісе прачытаў ягонае апавяданне «Агу», у якім нехта апавядае нам пра сваіх бацькоў — сапраўдных дзяцей розумам ва ўяўленні гэтага апавядальніка. Сам жа ён нашпігаваны ведамі пра сусвет і чалавека на ўзроўні найначытанага прыродазнаўцы-навукоўца. Нейкі Эйнштэйн-Фрэйд плюс Дастаеўскі ў адной асобе. Падглядвае з гэтай вышыні за клапатлівымі ля свайго першынца бацькам і маці, замілавана радымі бачыць яго забаўныя грымасы і тым, як ён ножкамі сукае. І раптам мы бачым: апавядальнік жа і ёсць гэтае самае немаўля, гэта ён Эйнштэйн-Фрэйд-Дастаеўскі!

Раптам, на радасць бурна захопленым бацькам, прамаўляе сваё першае: «агу!» і… І затухае. Усё, што ведаў, помніў, увесь запас вопыту чалавецтва, спрасаваны ў немаўляці, некуды выпарaецца. «Агу!» — і вось ужо ўсё пачынаецца з нуля. А ўсё, што толькі было зараз, — дзе цяпер, куды схавалася?

Пішу гэта, а побач санаторная тэлескрынка нешта паказвае, міжволі ўслухоўваешся ў голас, які апавядае (такое супадзенне!) пра неверагодныя прарывы ў «будучыя веды» ў найстаражытнейшых народаў, у кітайцаў. Таксама потым забытыя веды, якія некуды зніклі ці схаваліся. Так што гэта агульная загадка — для чалавечай асобы і цэлых цывілізацыяў.

Вабяць мяне старыя фатаграфіі. Не толькі нашы сямейныя. А наогул старыя здымкі людзей, якіх ужо няма. Там сфатаграфаваны, спынены момант. Яны думалі, адчувалі, мітусіліся, а пра тое, што папера застанецца, выпадковасць іх вонкавага стану застанецца, а іх не будзе, наўрад ці хто ў той міг задумваўся. Цяпер ты за іх думаеш. Пасля, магчыма, нехта іншы разглядваць будзе і вашы групавыя: партызанскія, студэнцкія, аспіранцкія. Няма ўжо ўніверсітэцкіх Вані Пятроўскага, Касько Валянціна, Ільюшэнкі Валодзі, Уладзіміра Іванавіча Красоўскага… А я ўсё чую-помню іх галасы, смех, міне нейкі час — і ўсе касцяшкі даміно з хрумстам лягуць, даганяючы адно аднаго…

Пачаў я з падрабязнага запісвання таго, што захавала раннедзіцячая памяць незапячатаным у тых таямнічых сотах. Але паспрабуй захаваць строгі адбор: свайго і расказанага табе пазней іншымі, хто быў побач. Чым глыбей рука апускае ў ваду дзіцячы мячык, тым мацней супраціўленне і яго імкненне вырвацца на паверхню — помню, як мяне гэта ўражвала, мячык быццам ажываў у тваіх пальцах. Вось так ажываюць, зліваючыся са стыхіяй уласнай памяці, чужыя ўспаміны.

Але ж ніхто з дарослых не мог мне расказаць пра тое, як выглядаў свет нашай кватэры, забаўны свет ног, падгледжаных рухаў, калі сочыш за імі з-пад стала, а яшчэ лепш — з-пад нізенькай канапы. І як таямніча крыжуюцца драўляныя планкі гэтых прадметаў і выпінаюць падцёкі клею на іх — знізу. І вось гэты вечар — толькі мой. Менавіта страшнай першай адзінотай, пакінутасцю ўсімі я быў раптоўна напалоханы, пачаў плакаць. Не ведаю ўжо, дзе былі ўсе, але Лямпа не запалена, у пакоі паўзмрок, я гляджу ў акно, у бок шашы, а там ідуць, ідуць, едуць на конях салдаты… з белымі пікамі. Тое і яно, што Чырвоная Армія тады ўсё яшчэ ганарылася будзёнаўскімі пікамі, драўлянымі палкамі з металічнымі наканечнікамі. Потым мы не раз бегалі да шашы глядзець на чырвоную кавалерыю. Але вось гэтыя, у прыцемку рухаюцца з белымі палкамі па шашы, па «варшаўцы», па якой прыкаціла ў Глушу вайна, ад іх у памяці засталіся слёзы трывогі і пакінутасці…



Пра наша дзіцячае мінулае нам любіла апавядаць «цётка Віткоўская», маміна сяброўка, нашмат старэйшая за яе гадамі, якая нас з братам нейкі час «глядзела», пакуль мама вучылася на фармацэўта ў Магілёве. Невысокага расточку, проста маленькая, я ў яе пытаў:

— Цёця, вы ўжо ўніз расцеце, назад?

Умела з намі гаманіць на мове нашага ўзросту.

— Ой, Сашачка, у мяне нечага жывот забалеў!

Жывот? Гэта мы зараз! (Не быў бы сынам доктара.) Укладваў «хворую» на канапу і, як цяперашнія экстрасэнсы, пачынаў вадзіць рукамі. Але ў мяне было яшчэ і лекарскае закляцце:

— Па саломе, па мякіне, хай баліць ды пакіне!

Жанчынка хуценька падскоквала:

— Ой, дзякуй, доктар, перастаў ужо балець, палепшала.

Які лекар ці сённяшні экстрасэнс не засвеціцца радаснай, гордай усмешкай ад такога імгненнага выніку?

А вось мой уласны хворы жывот сапраўдны доктар, мой бацька, лячыў іншым спосабам. Казалі, што, калі вярталіся дадому з клуба, я раптам сядаў на шашу і заяўляў: баліць жывоцік. А што трэба, каб перастаў? Трэба мяне ўзяць на рукі, несці.

І яшчэ — дзіцячыя горкія слёзы, спалох і крыўда. На мяне нацягнулі ружовую сукенку, паставілі на крэсла і бязлітасна радуюцца (нават мама): якая дзяўчынка! А ўжо колькі ўрачыстасці на фізіяноміі брата — як тут не зараўці!

Мама потым растлумачыла: проста ў краме нічога на хлапчукоў не было, купілі дзяўчачае, каб перашыць, перафастрыгаваць на кашульку.

Бесперапыннасць малечае памяці з сваіх і чужых кавалкаў і кавалачкаў мы аднаўляем, я амаль пераканаўся, паводле

«законаў» літаратурнай творчасці. Лабараторыя, механізм той жа. Пачынаючы абдумваць новую аповесць, спачатку маеш вельмі і вельмі мала. Колькі зернятак ці нават адно толькі. Накшталт той, пачутай дзесяць гадоў назад гісторыі пра маладога немца і беларускую дзяўчынку, якія ратавалі адно аднаго. Усяго толькі факт: было такое. Фантазія стала ажыўляць, нарошчваць падрабязнасці. Тут ужо я ім аддаваў сваю «памяць», але сёння мог бы клясціся-бажыцца, што бег побач з імі, што так яно і было, як нафантазіраваў у «Нямку». Сваё дыфузіравала ў чужое, і наадварот. Ужо сам не здолею адно ад аднаго аддзяліць.

Наша з братам саперніцтва за сферы ўплыву, статус у сям'і непрыкметна неяк завяршылася маёй перамогай-паражэннем. Поўным. Зана па-брацку ўступіў мне ўсё — і маму, і бацьку, іх ласкі, варэнне, — затое набыў, забраў сабе павагу і становішча амаль дарослага, недзе поруч з бацькам і маці. У адносінах да мяне. Я раптам пабачыў, што адзін цягну лямку «дзіцяці» ў сям'і. І нават тое, што я раптам стаў усведамляць, як старэйшы брат мяне, малечу, любіць і шкадуе, радасці не давала. Наадварот, хацелася пабарукацца, я і задзіраўся без канца, пакуль у Заны (я ўжо ўмеў, але чамусьці доўга саромеўся вымаўляць: «Жэня») вочы не шклянелі (ускіпае! ускіпае!), ён апошні раз папярэджваў: «Зараз закрычыш: "мама!"» Але я ўпарта даводзіў справу да рукапрыкладства і сапраўды крывадушна заклікаў старэйшых умешвацца, абурацца, няхай сабе нават намі абодвума, абаронцу-маму.

Адразу пасталелы мой брат як адмовіўся ад салодкага на карысць малодшага брата, так потым і не еў, не любіў ні варэння, ні цукерак. (А мы калісьці жменямі запіхвалі ў рот пакінуты на стале *чырвоны* цукар — быў такі, мусіць, сырэц з буракоў.) Будучы лекар, ён усе мае дзіцячыя хваробы адзіным агуламдыягназам аб'ядноўваў:

— А гэта ён хоча, каб мама дала варэння.

У сям'і сярод іншых, толькі нам зразумелых, выразаў быў такі: «Не хочаш блінчыкаў з варэннем?» Г. зн. лупцоўкі. А ўзнік ён так. Мы ўжо выбраліся на казённую, нашу першую заводскую кватэру — у доўгім доме побач з базарам. Нейкая жанчына пабачыла, як «доктараў сын» паставіў нагу папярок глыбокай пясчанай каляіны і чакае сялянскі абоз, што паволі сунецца на яго. Што за эксперымент я хацеў паставіць, дасюль зразумець не магу. Жанчына адцягнула мяне, вылаяла, неўзабаве я і думаць забыўся на тое, загуляўшыся ў таўханіне базарных павозак з вісклівымі парсюкамі, спалохана-соннымі курамі, ігрушамі, ягадамі. І раптам чую ласкавы такі мамін голас за нашым частаколам:

— Саша, ты дзе? Хадзі, я табе блінчыкаў з варэннем дам!

І дала. Рэдка было, але ўжо калі зазлуе па-сапраўднаму, свету не рад будзеш. Не, не рукамі, — больш словам дастане.



Першыя свае паездкі, чыгунку — мабыць, у бацькаву Рачэнь (у маміну вёску на маёй памяці не ездзілі ні разу) — запомніў праз пахі: вараных яек і мачы (аж вочы шчыпле) у прыбіральні. Сама дарога не запомнілася як задавальненне. Магчыма, таму што побач увесь час адчуваў раздражнёны неспакой маці. Не так сеў, не тое робіш! «Ты гэта што!» — рэзка, ледзь не сарвала за руку. Сапраўды, сабраўся сесці, як на свой дамашні гаршчок, на брудную, са слядамі чужых ног, дошку ў вагоннай прыбіральні.

Цяпер дык разумею: у нашай маці ўвесь час жыло чаканне катастрофы, нейкай пагрозы над усімі намі. Выяўлялася гэта перш за ўсё ў жаданні абарваць, спыніць сваіх дзяцей — такіх неразумных, неабачлівых. Вось чаму ўсмешка яе, якую так любіў, з нейкае пары чужым даставалася часцей, чым нам з братам.

Запомнілася ахутанае парай кола сярдзітага паравоза, напалавіну чырвонае, людзі з запаленым пакуллем у руках — усё такое велізарнае ў параўнанні са мной.

А за гэтым: вясковая прастора, цёплае балотца адразу за агародам, крытая саломай бацькава (бабкі і дзеда) хата з дзівоснай земляной падлогай, халаднаватай, з нагоды гасцей пасыпанай жоўтым пясочкам. І вялізная, жоўтая ад пладоў, ігруша пад вакном: колькі потым перакаштаваў ігруш, міжволі шукаў у іх паўзабыты пах, смак. І не знаходзіў. Магчыма, і не ігруш, а дзяцінства быў гэта пах.

У «Вайне пад стрэхамі» я з асаблівым задавальненнем апісваў нашу забаўна ганарлівую бабку, якая лічыла, што яна, каталічка, і з дванаццаццю дзецьмі для дзеда Тодара была зайздроснай нявестай. Бацькаў айчым дабрадушна цікавіўся:

— Як жа гэта, маці, ты так прамахнулася? За мяне, мужыка, пайшла замуж.

— Бо маладая, дурная была.

«Гонар» бабкі-каталічкі ў свой час зламаў жаночы лёс яе дачкі Зоні. Неўладкаваная старая дзеўка не раз папракала састарэлую бабку за свой бязрадасны лёс. І з мамай нашай так і не наладзіліся душэўныя адносіны: стаяла між імі нейкая невядомая нам гісторыя. Падобна, што не хацела нявесткі-«мужычкі» гаспадыня «фальварка» з саламянай страхой і земляной пад-

логай. Супраць яе жадання, волі пажаніліся бацька наш з мамай. Калі старыя пераехалі жыць у Глушу да сына, усе гэтыя гісторыі выглядалі смешнай бязглуздзіцай, асабліва ў пераказах бацькавага айчыма. Але раптам узгаралася сварка ля агністага чэрава печкі, і які нядобры твар рабіўся ў мамы, які незнаёмы голас — Жэня, айкнуўшы, як ад болю, выскокваў за дзверы. Не пераносіў ён гэтага. А я? Я заўсёды быў на баку мамы. Але яна, як я разумею, больш цаніла не маю безумоўную салідарнасць, а нязгоду заўсёды справядлівага старэйшага сына. Хутка збіралася і ішла ў сваю аптэку, як бы засаромеўшыся таго, што адбылося. А бабка яшчэ доўга варушыла высахлымі, зморшчанымі вуснамі, прамаўляючы нячутныя нам словы. Калісьці, у свой час, мабыць, іх яна таксама гучна выкрыквала — у твар маладой нявестцы.

Не, але бабка, бабка! З-за яе «панскага» гонару, што, нас і на свеце не было б! І яшчэ я даведаўся, ужо калі і мамы не стала, — ад дзядзькі Антона, што я наогул захацеў з'явіцца занадта рана. Брату толькі яшчэ гадок споўніўся з хвосцікам, і тут, калі ласка, яшчэ адно дзіцятка просіцца ў сям'ю! Што гэта быў я, вядома, ні мама, ні тата не ведалі. Нейкі эмбрыёнчык, і ўсё. А ў мамы і для першынца малака свайго не хапала. (Таму я вырас на «штучным» малацэ.) Але я і не прэтэндаваў на ваша малако. Абуральна! Меў рацыю Ісус, няма ў чалавека большых ворагаў, чым калі імі стануць ягоныя блізкія. Вось так вырашаць за цябе — не перарэшыш.

Сусветныя генетыкі, якія цямяць у падліках генаў і храмасом, усё ўжо сказалі і пра мой выпадак. Калі б у маіх (і вашых) бацькі і маці нарадзілася дзетак 300 000 мільярдаў штук (нават не ведаеш, як гэта вымавіць), толькі тады была б нейкая, не, не гарантыя, а надзея на яшчэ адзін шанец. Гэта колькі ж сонцаў згарэла б над галавой у выштурханага са сваёй законнай чаргі? Думаеце, выпадкова на той фатаграфіі, дзе мы ўпершыню ўчатырох, у хлопчыка ў шэрай куртачцы з паяском такі пакрыўджаны твар: і гэта вы мяне, вось такога, не хацелі?!

А ёсць фатаграфіі і наогул нахабныя, калі ўгледзецца і ўдумацца. Гэта — партрэты нашых бацькоў, калі нас яшчэ не было з імі. Але што галоўнае: яны гэтага не ведаюць, не ўсведамляюць. Калі помніце, у Набокава: парожняя дзіцячая каляска, знятая аматарскай кінакамерай бацькоў, здалася чалавеку… труной. Яна стаіць, а яго яшчэ няма. Не нарадзіўся — гэта як памёр. А раптам нехта за цябе перавырашыць: рана, мы яшчэ не падрыхтаваныя абзавесціся табою! Сусвет мільярды гадоў стараўся дзеля гэтага імгнення — зачаць менавіта цябе,— а яны, ці бачыце, не падрыхтаваныя! І імгненне праслізнула, як і не было. Ніколі больш не паўторыцца.



Будучая, а дакладней — магчымая наша мама са сваім маладым мужам на фатаграфіі: «27.III.23 г., г. Слуцк». Дзве тоўстыя касы, што па-вясковаму звісаюць спераду, выразны абрыс вуснаў, носа, які робіць твар капрызна-ўпартым. Такая вясковая красуня зусім верагодна, што магла не стрымаць абурэння, плюнуць у твар польскаму «жалнежу», калі ён па-салдацку груба схапіў яе за руку. Яна гэта і зрабіла, наша магчымая мама, а потым суткі хавалася ў жыце, а яе шукалі раз'ятраныя палякі. Ну а знайшлі б? Дзядзька Антон лічыць, што плёткамі справа не абышлася, не скончылася б.

Не, старыя фатаграфіі — гэта не проста папера з выяўленым на ёй святлом і ценем, які адкідвае чалавек, людзі. Не толькі мы глядзім на тых, што адышлі, але і яны з пажоўклых кардонак — на нас.

Што гэта так — *яны відушчыя, фатаграфіі,* — я адчуў фізічна ў той момант, калі чакаў: вось-вось мяне знойдуць немцы, насцігне аўтаматная чарга, буду ляжаць ля іх ног, запэцканы ўласнай крывёю, а яны з мае кішэні дастануць маміну фатаграфію, і *яна ўбачыць*… Я спяшаўся не запаўзці далей, глыбей у кусты, а паспець, пакуль яны не з'явіліся, схаваць, закапаць у пясок кашалёк з фатаграфіяй. *Каб мама не ўбачыла нічога гэтага*.

У Забалаць, на радзіму мамы, у вёску, дзе нарадзіўся Жэня, мы не ездзілі. Ні разу — пасля таго, як сям'ю Мітрафана Тычыны (маміна дзявочае прозвішча) раскулачылі. Выслалі ў Сібір, разам са старымі, — Аляксандра, майго цёзку, Зіну і Любу. А дзвюх сясцёр — як з агню выхапілі — забралі да сябе дзядзька Антон і наша мама. Мама выгадавала з намі за кампанію Соню (і замуж аддала), дзядзька Антон павёз з сабой у самую-самую глыбінку Беларусі Волю (і таксама потым «аддаў замуж»). Нагадваць пра сябе ў Забалаці лішні раз не варта было, я так разумею. Большыя ўлады, вядома, ведалі, што жонка глушанскага доктара штомесяца адпраўляла «на Алдан» пасылкі: сала, цыбулю, часнок, крупы. Гэта ж рабіў і дзядзька Антон — са сваёй, тады зусім глухой, Хацімшчыны, куды яго, можна сказаць, таксама саслалі пасля таго, як настаўнік Тычына Антон Мітрафанавіч адмовіўся парваць з «бацькамі-кулакамі». Да нас таксама дабіраліся: перад вайной бацьку «раілі» развесціся з «кулачкай», клапатліва-пагрозліва настойвалі. Непасрэдная небяспека бачылася там, у забалацкіх «актывістах», якія, як і ў іншых многіх

месцах, не пасароmenіся забраць і дзіцячыя валёнкі, і «лішнюю коўдрачку» — разуць, распрануць выгнаннікаў. Так што на многія гады паміж высланымі і пакінутымі пры калгасных пасадах (а то і без іх) «актывістамі» захоўвалася невідочная сувязь, падсочванне, раўніва-злараднае: каму ўрэшце горш? Вядома, тым, каго замарозілі, голадам замарылі ў далёкай ссылцы, было безумоўна горш. Але здаралася, што абрабаваныя і даведзеныя да галечы ці хоць бы нехта з такіх сем'яў апынаўся ў становішчы, прынамсі, не горшым за калгаснае. Раўніва сачылі адно за адным зводдаль. А пісаць людзей навучылі. Так што ад грэху далей. Я помню, як далёкія нашы сваякі з калісьці багатага Засмужжа, па-калгаснаму збяднелага да таго часу, з'яўляючыся ў нас у доме, стараліся абудзіць у нашай маці застарэлую крыўду на землякоў. Але, па-мойму, гэта не атрымлівалася. Ці мама так умела трымаць сябе ў руках? Апроч таго — каму зайздросціць? Тым, хто застаўся ў калгасе? Барані Бог, прачуюць, што брат Аляксандр прыязджаў (гэта перад вайной было) з чамаданам, поўным падарункаў, — шарсцяных адрэзаў, скураных падноскаў навёз, аб якіх тут даўно забыліся. Пашчасціла і ў Сібіры Тычынам: не выкінулі ў тайгу на снег, не замарылі на лесапавале, завезлі ажно на Алданскія залатыя капальні. Немаведама як, але выжылі, а падрос Аляксандр і стаў рабіць «на золаце». І ўсё гэта потым купляць на цуд-грошы, нейкія «боны». Пакуль не забралі на фронт. Доўга ляжаў у шпіталі ў Алма-Аце, а вярнуліся ў Беларусь (дзядзька Аляксандр з кучай дзетак уласных і вясёлай «сібірачкай» Кацяй, што ўсім палюбілася) — раптам ператварыўся ў такога ж удачлівага, «прыроднага» палявода ў саўгасе, якім і золаташукальнікам быў, але гэта потым, пасля…

Мне, калі я дэпутатам быў, прыходзілі лісты ад дзяцей і ўнукаў раскулачаных і тых, хто сам быў «кулаком-перасяленцам» у пяці-сямігадовым узросце. Апісаўшы ўсе нягоды, пералічыўшы памерлых ад барачнага жыцця брацікаў і сястрычак, амаль абавязкова з пратэстам паведамлялі, што ў іх гаспадарка была, калі не зусім бядняцкая, дык серадняцкая, вось столькі кароў, коней, авечак, збудаванняў. Маўляў, несправядліва раскулачылі, замарылі голадам, катаргай. Тым самым як бы згаджаліся, што тых, у каго было больш за пералічанае, тых можна было, а вось нас — незаконна. І патрабавалі рэабілітацыі, аднаўлення справядлівасці дзеля сябе, сваіх, у каго на карову, на авечку было менш.

Баюся і сам прадэманстраваць вось такое перавернутае мысленне і таму не стану даведвацца знарок, удакладняць, колькі ж



было дзесяцін зямлі, ці лесу, ці балота ў Мітрафана Тычыны[28]: дзесяць або пяцьдзясят? Ведаю толькі, хаця ў доме ў нас пра гэта ніколі не казалася і толькі пазней дзядзька Антон паспеў мне сёе-тое пераказаць — рабілі ў сям'і Тычыны ўсе, пачынаючы з шасцігадовага ўзросту (гусі, парасяты былі іх клопатам).

Не пашанцавала Вользе, амаль не вучылася нават у школе, затое Аню, Антона Мітрафан Тычына аддаў вучыцца ў слуцкую гімназію, разумеў, што такое адукацыя. Але рабілі і гімназісты, наязджаючы дамоў, і стараліся нават больш за астатніх дзяцей. Таксама разумелі, на якую ахвяру пайшла сям'я. Міжволі ўзгадваю пачутую нядаўна легенду пра Багіню — заснавальніцу працавітай Даніі. Ёй сказана было: колькі за ноч узарэш, столькі і будзе зямлі ў твайго народа. Дык яна братоў і нават дзетак сваіх перакінула ў быкоў — народ дацкі ёй і дасюль удзячны.

Паводле беларускага паняцця, дасавецкага, «кулак» — гэта той, хто *спіць на кулаку*. Упаў дзе стаяў, запрацаваўшыся да бяспамяці, і не на падушку галаву, а на цвёрды кулак — каб лішне не заспаць. Дзядзька Антон успамінаў, як абрабаваны «цвёрдымі заданнямі» бацька скардзіўся не на тое, што забралі і скаціну, і інвентар, і зерне, а што: «рукі — сорам на вуліцу выйсці, як вітацца з чалавекам?». Мазалі-капыты сталі сыходзіць з далоняў, Мітрафан Тычына сароме́ўся такіх рук.

«Савецкая ўлада» падзяліць і супрацьпаставіць імкнулася ўсіх, і ўнутры сям'і таксама, яднаючы толькі ў адным памкненні, старанні: дагадзіць гэтай уладзе, нават калі загадаюць адрачыся ад бацькоў або дзяцей, неадкладна здрадзіць тым, на каго пакажуць. Ці не з прыроднага пачуцця ўпартасці і супраціўлення гэтаму, зусім інстынктыўна, але з тым большай нязменнасцю Тычынава дачка, наша мама, усё жыццё сваё была збіральніцай і хавальніцай роду Тычынаў-Адамовічаў, мацуючай сілай. У нас у доме жылі, і па шмат гадоў, усе, каму не было дзе жыць. У вайну сабрала пад сваю страху больш як дзесяць чалавек, і ўсіх трэба было зберагчы, карміць. Так і павялося — і пасля вайны. Сваякі, самыя далёкія, ведалі, у каго дзень нараджэння, калі хто памёр, а хто вяселле павінен спраўляць, каго памірыць, каго прысарамаціць, каму якія патрэбныя лекі, даведкі, — ад цёткі Ані. Я ўжо ўздрыгваў, калі яна, радасна ажыўляючыся, пыталася, вычытаўшы ці пачуўшы па радыё, тэлебачанні прозвішча Адамовіч, Тычына: яны, Саша, не маюць ніякіх адносін?.. Ніякіх да нас, абсалютна аніякіх, мама! Мала, дык я яшчэ атрымліваю ад яе заданне (такім вінаватым голасам, але ведаю, не супакоіцца, спаць не будзе, пакуль не здабуду, не памагу, не пазваню, не

павіншую) — радні, як у… не ведаю нават, у каго! Пакінула яна нас, і ўсе потым сталі гаварыць — скардзіцца: нейк радзей сустракаемся, бачымся, гаворым адно з адным. Анічога не ведаем, што ў каго і з кім што.

Але не толькі дзеля радні мама скарыстоўвала мой час і «аўтарытэт» (які б я шчаслівы быў сёння выканаць хаця б адну яе новую просьбу!). Пачаўся рамонт у кватэры, галава шабашнікаў Юра ўжо праз некалькі дзён зрабіўся маім «кліентам». Ён на мяне працуе за грошы, я ў Мінскіх архівах на яго — па просьбе маёй маці. Прачула, што Юра (з такім жа, як сам, братам-падлеткам) жыў у партызанскім лагеры, маці іх у блакаду згубіла, і, пакуль знайшліся, яна крыху кранулася з розуму. Туляцца яны ў цеснай камуналцы, партызанскай даведкі няма, нічога дабіцца не могуць…

Праз нейкія паўгода пасля рамонту сабраўся, накіраваўся ў сваю Акадэмію, бачу: Юра крочыць з авоськай у наш дом.

— Вось, — прыўзняў авоську, паказаў бутэльку «Сталічнай» (!) — іду да Ганны Мітрафанаўны, па даведцы атрымалі асобную кватэру.

Калі вярнуўся праз дзве гадзіны дамоў, убачыў дваіх шчаслівых людзей: Юра дапіваў сваю бутэльку, закусваючы мамінымі саленнямі, мне ж (ці не ўпершыню ў жыцці) мама аддзячыла простай пахвалой:

— Дзе Саша — там перамога!

Мабыць, надта ўжо прыкмячала: тое, што ёй на задавальненне, на радасць, мне, нам, — усё ж цяжар, праз не хачу.

Калі ў кожнага чалавека ёсць Анёл-Захавальнік, тады і род кожны павінен яго мець, мае. А інакш як растлумачыш такія розныя лёсы асобных сем'яў, якіх вайна з аднолькавай сілай круціла-матала: у адной — жывой душачкі не засталося (глушанскага Мішы Каваленкі род, 12 чалавек), другая, вось як наша, — чалавек 15 былі на фронце або ў партызанах, перакалечыла вайна, але ніводзін не загінуў? *Ні адзін*. Які ж павінен быць Анёл-Захавальнік, каб вось так! Аднак, бадай, яны не могуць быць лепшыя ці горшыя, анёлы. Тады, можа, адгадка ў тым: у нашага быў памочнік. Калі гэта так, дык усе, хто яшчэ жывы, засталіся з нашых, ці не «цётку Аню» назавуць?

Пасля вайны яна амаль усіх, каго Сталін і каго Гітлер раскідалі па свеце, паклікала, сабрала, вярнула ў свае краі. Толькі моцны беларускі селянін Мітрафан Тычына застаўся ляжаць у настыглай сібірскай зямлі.

У сваёй вёсцы, г. зн., дзе з'явіўся на свет, — у Канюхах, я пабыў аднойчы ўсяго. За ўвесь час пасля таго, як мяне гадавалага адтуль вывезлі. Позірк міжволі шукаў сад, дом з калонамі (такім чамусьці малявала фантазія «Дом адпачынку» майго маленства). Нейкія забытыя людзьмі хаціны, нават вуліца, не разабраць, дзе тут праходзіла. Аднекуль падышла жанчына, усхвалявалася, пачуўшы прозвішча майго бацькі: «Ой, а ў маёй мамы засталася фатаграфія! І ён там». Зараз і свайго «Міску» з морквай папярок пашчы пабачу пад той здзічэлай яблыняй… Да чаго ж слушна: нішто ў гэтым свеце не знікае канчаткова. Пакуль адна жанчына бегала па фатаграфію, да нас наблізілася другая. У яе праблема, можа, мы, гарадскія, ёй растлумачым, як ёй быць з дачкой. Бо ж замуж дзеўцы трэба будзе, хутка вось пашпарт атрымоўваць (ужо і вясковым выдаюць), а там месца нараджэння: «Канюхі»! Хто з гэтым замуж возьме? І наогул куды з гэтым?



Я ўрачыста здабыў з шырокіх, па тагачаснай модзе, штанін сваю пашпарціну: во, глядзі, цётка! Нічога, жыву, ніхто (з гэтае нагоды) каменем не шпурнуў.

* * *

Дзіўныя рэчы адбываліся з маёй душой ці маім «арганізмам», і неаднойчы: раптам пераставаў чуць вонкавы свет пры нібыта нармальным слыху, прытым так адключаўся, што хоць ты трактарам на мяне наязджай, хоць дзверы ўзломвай або акно пабі — разбудзіць мяне немагчыма. І толькі нечаканая цішыня пасля грукату і стуку вяртала мяне да самога сябе. Усё так і было, літаральна: трактар, які на мяне наязджае, — яшчэ ў Рачэні, куды мы выправіліся на лета да бабулі. Нацягаўшыся па спякотнасоннай вёсцы, я вяртаўся ў наш двор, перажываючы асалоду ад цёплага і пяшчотнага пылу пад пазбіванымі ступнямі босых ног, дзе ні каменьчыка табе, ні шкліны, ішоў, пляскаў па ім і назіраў, як шэрыя клубочкі выпыхкваюць паміж пальцамі. Што гэта на мяне глядзіць так стары, што абапёрся і рукамі, і падбароддзем на палку, нібы нешта кажа, а можа, проста жуе? Але вось гэтая баба, што бяжыць насустрач, на тоўстых, як ступы, нагах, ужо ж праўда нешта крычыць у мой бок, вырачыўшы вочы. А голасу ніякага, нічога не чую. Нарэшце прарвалася: «…раздушыць!» Быццам вушы ў мяне заклала: проста за спінай страшэнны роў і лупяць стрэлы! Я азірнуўся і адскочыў убок. Газануў і міма мяне прагрукатаў трактар, мацерна лаючыся, пагражаючы асіплым голасам — крыкам дзядзькі на высокім сядзенні, такога ж чорнага і прамасленага, як і труба, што страляе дымам у яго перад носам. Злосна прысядае на маленькія пярэднія колы «сталёвы

конь», вялікімі вострымі шыпамі задніх колаў, непраўдападобна вялізных, адкідвае назад камякі зямлі, я гляджу ўслед яму, і мне так нядобра-тужліва, быццам ён па мне праехаў. Да самай начы гнятлівая туга грызла маю дзіцячую душу, хацелася плакаць. Я і плакаў — у сне.

Калі перад вайной жыў і вучыўся ў школе дзядзькі Антона, куды спачатку Жэню, а затым і мяне выправілі («Хопіць сабак ганяць па Глушы!» — сказаў тата), са мной падобная гісторыя здарылася, паўтарылася. Дзядзька Антон з цёткай Лінай, якая таксама настаўнічала ў школе, у будынку якой яны (і я ў іх) жылі, аднойчы пайшлі ў госці, а я доўга чытаў, слухаў радыё. Паўтаралі ранішняе паведамленне радыёстанцыі «Камінтэрн» — аб забойстве Троцкага. Карчомныя сябрукі-сабутэльнікі ў далёкай Мексіцы ўдарылі яго бутэлькай па *башке* — так нам паведамілі.

Не заўважыў, калі заснуў, а прачнуўся ад таго, што нада мной стаіць дзядзька Антон, высокі-высокі, і дзіўна на мяне глядзіць, быццам я быў толькі што мёртвы і раптам ажыў. За спінай у яго шырока-спалоханыя вочы цёткі Ліны, а за ёй — бяздонны чорны праём расчыненых у начны парк дзвярэй. Нейк ухітрыўся дзядзька іх, цяжкія філянговыя дзверы, зачыненыя мною на кручок, зняць з петляў. Бо колькі ён ні грукаў, ні біў у дзверы, цётка Ліна ў акно бачыла, што я ляжу пад непатушанай лямпай нерухома і як бы не дыхаю.

Абсалютна тое самае адбылося пасля вайны: мама з бацькам вярнуліся з клуба, а іх сонны сын-студэнт не адказвае на роспачны грукат. Бацька забег з таго боку, дзе жылы пакой у аптэцы, выбіў шкло, адчыніў акно і ўлез усярэдзіну, запаліў святло, — толькі тады я прачнуўся. Ад яго пільнага трывожнага позірку.

А што, калі *пасля* бывае вось гэта: не чорная труба, якая імчыць нас да святла, да сваіх, а вось як: *расплюшчваем вочы, а на нас пільна глядзяць тыя, хто нас з любоўю і смуткам сустракае*? Не, ніводзін з тых, хто перажыў стан life after life, не казаў пра такое. Але ў мяне ёсць досвед адлёту немаведама куды. А што, калі гэта рэпетыцыя? Расстання, разводу душы з целам? Пробны выхад яе ў «касмічную прастору», як у першых касманаўтаў. На прывязі-«фале». Усё роўна ж некалі пакідаць «абжытае месца» (карабель? гняздо?), чаму і не патрэніравацца? Павучыцца лётаць, як вучыцца ліпка-мокрае птушаня, спалохана-радаснае ад свайго жудаснага вызвалення. Пырхае, пырхае, адлятаючы ўсё далей ад гнязда ў невядомы свет, з месца на месца, само не верачы, што атрымліваецца ў яго. Але вось узляцела і адчула, што крылы насамрэч яго трымаюць…



Аднак раней трэба пражыць табе адпушчанае. Доўга, як жа соладка доўга цягнулася дзяцінства, цэлую вечнасць прыглядваўся да вонкавага свету. Затым час апускання ў свой унутраны падлеткавы, юнацкі свет. Даводзілася яшчэ паваяваць — разам з усім светам. У снах ледзьве не трэць жыцця падглядваў за сподам сваёй натуры. Дадзена было табе сваё адлюбіць і сваё адненавідзець. Падступае тэрмін разабрацца ва ўсім, у чым за цэлае жыццё разабрацца або не меў часу, або не ўмеў. Або не імкнуўся.

…Забалаць, Рачэнь, Канюхі — усё гэта назвы, пункты пашпартныя. А сапраўдная малая радзіма, дзе я ўваходзіў ва ўзрост і ў жыццё, — рабочы пасёлак Глуша. Савецкае ўдакладненне: шклозавод «Камінтэрн». Або проста: гута — так называлі завод здавён, з часу яго заснавання. Польска-нямецкае слоўца, але зусім прыручанае, наша мясцовае. На паўшляху з Варшавы на Маскву, на ўсход сем соцень вёрст, на захад — амаль столькі ж, таму і «варшаўка», таму і «кацярынінскі тракт». А наша Глуша, пазначаная толькі на падрабязных беларускіх картах, — пацерка на тонкай нітачцы.

Перад вайной загучала новае слова: асфальтка. Вось ёй і давялося стагнаць і крышыцца пад гусеніцамі танкаў. Чорная, імклівая між сосен і бяроз, усмоктвае позірк, як лейка ваду, нясе нашу Глушу ў далёкі бяскрайні свет. Адкуль усё прыходзіць і куды ўсё аддаляецца, забіраючы, несучы з сабой і час: дзяцінства, юнацтва, жыццё.

Апроч гуты, у нас прыжылося і надоўга яшчэ адно слоўка: трэпы. Вось бачыце, вы яго не ведаеце. А ў нас і ў наваколлі любое дзіця ведала гэта слова-пароль, дар пралетарскай Сілезіі ці Познані. Азначае яно драўляны абутак: калодка-падэшва пад ступню і раменьчык, вугалок з якога-небудзь непрыдатнага матэрыялу (скуры, гумы), каб трымалася наназе. Не ведаю, адкуль прыйшла гэтая «мода» да немцаў, палякаў, ці не ад старажытных рымлян, а да нас — ужо ад іх, нашых заходніх суседзяў. Добрых гадоў з трыццаць выручала яна перамаганосных усходніх пралетарыяў, ва ўсе поры году замяняючы чаравікі, боты, асабліва на працы, хоць і ў клуб прыходзілі ў трэпах, агучваючы прыступкі высокага ганка і кіназалы звонкім драўляным перастукам.

Расейскія акружэнцы ў Заходняй Беларусі (паводле Янкі Брыля) спявалі прыпеўкі: «Спасибо Сталину-грузину, что обул он нас в резину!» «Резину» абувалі ў нас толькі ў святы ды ў

госці — эфемерныя белыя тапачкі з матэрыі або чаравікі на гуме, што прамакалі ўвесну, восенню і, як агнём ці кіслатой, палілі ступакі ног улетку. Пра скураныя падноскі загадана было забыцца. У імя таксама і заходніх працоўных. У гэтых тапачках, у гэтых чаравіках (а нехта і ў трэпах) 1 траўня і 7 лістапада завадчане на чале з парткамам праходзілі туды і назад калонай па шашы з паўвярсты, каб затым на знарок абсталяванай паляне, дзе ўжо ўзвышалася збітая з дошак трыбуна, куды пад'язджаў буфет і дзе зіхцеў трубамі гучнагалосы заводскі аркестр, каб там паслухаць знаёмыя словы, прамовы, поўныя спачування да прыгнечаных усяго свету, салідарнасці з імі і абяцання ім памагчы наладзіць у сябе справядлівае жыццё.

А вечарамі мы, падлеткі, але і нехта са старэйшых, забіўшыся за абцёртую спінамі, абадраную да цэглы клубную печку-галандку, у самазабыцці спявалі-марылі пра нашыя будучыя даліны і ўзгор'і, і як мы, нашы партызанскія атрады, займацьмем гарады.

Усе людзі для нас дзяліліся не толькі на пралетарыяў і буржуяў, чырвоных і белых, але і яшчэ — наша мясцовая спецыфіка — на «заводскіх» і «жлабоў» (г. зн. вясковых). Само сабою зразумела, што вяскоўцы нашых таксама не шанавалі. Святы з вялікім «заездам» вясковых гасцей у Камінтэрнаўскі клуб быццам дзеля таго і існавалі, каб яшчэ раз высветліць, чый верх у гэтым саперніцтве. Дзеля прынады падсылалі да праціўніка малечу, госці разумелі, што будзе далей («Не крыўдзі маленькіх!»), і доўга не прыкмячалі камарыных укусаў. Але ў нейкі міг — раптам ці святло затухала, ці гучны, ліпкі і такі агідны ўдар па жывому, і пачыналася! Але да гэтага часу «жлабы» звычайна ўжо адмабілізоўваліся, сабраўшы сваіх у «зграю»; раздаючы і атрымліваючы поўху, яны вырываліся з сцен клуба, а далей пачынаўся гон. Школьнікі, якія ўзімку будуць сядзець у адным класе, прагульвацца па адным калідоры, у адным школьным двары Глушанскай СШ, цяпер з палкамі, камянямі, грудамі зямлі даганялі «жлабоў» (ці адбіваліся ад «глушанскае шпаны»), вядомыя некалькімі дарослымі байцамі, з боку камінтэрнаўцаў — гэта звычайна два-тры рабочыя-баначнікі ў расхрыстаных на хударлявых грудзях кашулях, з характэрнымі для шкловыдзімальнікаў вострымі, як у рымлян на старадаўніх манетах, кадыкамі. І гора таму, хто адстане ці задужа вырвецца наперад, — расквасяць «сапатку» да крыві. Часам пасля дзвюхтрох вёрст перамаганоснага пераследу насустрач «жлабам» з іхняй вёскі выбягала падмога, і пасля пэўнай замінкі ўжо яны гналі нашых, а мы, адбіваючыся, адступалі да свайго пасёлка.



Вядома ж, ні «доктар», ні «доктарша», мае бацькі, не павінны былі ведаць, што іх малодшы ў гэтым удзельнічае. Няхай нават і не ў першых шэрагах, а там, дзе самая малеча. Галаву даводзілася берагчы, бо зусім смешна было б, калі б і трэці раз я прынёс яе ў тым выглядзе, у якім ужо двойчы бацьку давялося яе бачыць і апрацоўваць у амбулаторыі. Але ўжо так шанцавала чалавеку, без ніякай такой яго ўласнай віны. Адбыўся аднойчы пажар у драўляным прызаводскім шматпавярховым інтэрнаце. Мы, зразумелая рэч, хацелі быць пры справе, памагалі качаць ваду. Я бег поруч з пажарнай машынай, пастаўленай на калёсы-платформу, якую перлі да сажалкі, учапіўшыся ў аглоблі, і дарослыя, і дзеці, а яна вазьмі і перакуліся, распраклятая машына, — каго па галаве ручкай дастала? Ясна, каго.

А ўжо калі камень пераляцеў цераз дах школы (было ў нас і такое ідыёцкае спартыўнае практыкаванне), ледзьве не знёс чэрап (аблавушка адно ўратавала), мой, зразумела, чэрап, старэйшы брат, які ўжо вывучаў законы Ньютана, такое тлумачэнне знайшоў мне ў апраўданне:

— Гэта ў яго галава вялікая, прыцягвае.

Ну, а ў бальніцы, родны доктар, ад якога іншыя пакутнікі чулі заўсёды толькі: «галубчык», «галубка», абрываў мае нясмелыя стогны зусім спартанскім павучаннем: не скавычы! Не будзеш лезці, куды не след!

Самі глушанцы, адзіныя перад «жлабамі», унутры пасёлка таксама дзяліліся. Напрыклад, вылучалі «пшэкаў» (палякаў). Адрознівалі не дужа выразна, хто «пшэк», а хто не, і гэта не вельмі прысутнічала ў нашых узаемаадносінах, на дваровым і школьным узроўнях. Але вось у дарослых «пшэкаў», як мы лічылі, усё было з «понтам» (г. зн. манернае). Ну, навошта столькі кветак выстаўляць на падваконнях, такія клумбы перад домам: ясна, жаніхоў прыманьваць! Ядзя Вашкевічава, прыгожая настаўніца польскай школы, — што ні крок, такім цыркулем раскідвае носікі сваіх вострых лодачак, як яна толькі лыткі не выверне! А паглядзіце, паслухайце, калі пані Мураўская і пані Труханові́ч сустрэнуцца дзе-небудзь на базары, як учэпяцца адна ў адну, быццам у чужым горадзе выпадкова пабачыліся, і застракочуць, і запшэкаюць, абавязкова па-свойму. Галоўнае, на тых, што вакол, ужо глядзяць, як на далёкіх-незнаёмых. Адным словам: «Кеды я вышэдл за гумно до вятру, там седзі два вытарашчакі, дык я пошэдл і взел фузію (ружжо) — піз… цэго ўбіў, а х… цэго уцек!» Гэтае блюзнерства здавалася нам верхам дасціпнасці і нашай у нечым над «пшэкамі» перавагі.

Наогул жа я любіў бываць у кватэрах сваіх аднакласнікаў-«палякаў». Сапраўды, шмат кветак, «вазонаў», і ад іх утульнасць, цішыня, тут не разбяжышся і не раскідаеш абы-што і абы-як, бацькоў мае сябры на «вы» называюць, нечакана, нязвыкла і ў нашай сям'і было б проста немагчыма, але ў іх атрымліваецца вельмі нават добра. Затое і да дзяцей дарослыя звяртаюцца ціхім, паважлівым голасам. Падабаліся мне гэтыя іх дзіўныя, цёмныя з разьбой шафы, крэслы. Цікава разглядваць фатаграфіі на сценах. Абавязкова ў рамках, акуратна зробленыя, і бачна, што даўно. Мы звыклі бачыць Віткоўскага, Пацэвіча, Мураўскага, Стэфановіча ў нашай заводскай ці прамшвееўскай апратцы, у гэтых глушанскіх трэпах, а на фатаграфіях Віткоўскі, Мураўскі — ну пан панам! У белых манішках, у вусах, а жанчыны ў нябачаных, хоць і смешных сукенках. Дык кім жа былі гэтыя людзі тады, калі мы добра ведаем, як прыгняталіся і гаравалі рабочыя да савецкай улады? Пытанне гэтае ўзнікала ў школьнай галаве, разагравала нашы мазгі.

Здавалася, адказ атрымаць, тлумачэнне мы змаглі ўжо праз некалькі гадоў, калі амаль усіх, хто на «-скі» і на «-іч» ледзь не зараз, перасаджалі. Аднак я не помню, каб хоць хто ў нашай Глушы ўсур'ёз паверыў, што яны былі замаскаванымі «шпіёнамі», «ворагамі народа», якія затаіліся. Хоць перакананы, што фатаграфіі ў іх «справах» ляжаць і дасюль, мы ж не верылі, а вось як следчы?.. Пра што пытаў-дапытваў, любуючыся на беласнежныя манішкі майстроў-гутнікаў?

Дасюль помню смачныя малочныя клёцкі, якімі частавала маці Пецькі і Стася Пацэвічаў. Паколькі я ні разу, нават калі сыты па горла, не адмаўляўся і адразу ішоў і сядаў за абедзенны стол, мой брат Зана, якому даводзілася рабіць тое самае, а ён гэтага не любіў, дома горача абураўся мною.

— Ты, сынок, так не рабі, — вучыла маці, — глядзі, як Жэня, так і ты за ім.

Цяпер калі мяне клікалі да стала, я тут жа рапартаваў:

— Як Зана, так і я!

Брат яшчэ больш кіпяціўся: што ён усё, як Зана? Сам хочаш, ну і жары і забудзь пра мяне! А то не пайду нікуды з табой.

Якія гэта былі палякі і што за польская мова была ў нашай Глушы — баюся, што такая ж, як беларуская ці расійская. Гэта быў наш, глушанскі валапюк, неўяўляльная сумесь трох ці нават чатырох моваў (не лічачы дыялекты) на самым кароткім шляху з Варшавы ў Маскву. Напрыклад, я доўгія гады, таксама, як ад дзіцячага Заны, не мог пазбавіцца ад слова «мене» (у сэнсе: мне). «Дай мене, пакажы мене…»



Наогул жа павінны былі заставацца ў Глушы і карані, карэньчыкі першых майстроў-гутнікаў, не проста беларусаў-каталікоў (накшталт маёй бабулі), але і карэнных палякаў, 100 гадоў назад перамешчаных гаспадаром гуты на ўсход. У нас, поруч з беларускай школай, была і польская, у старым будынку над сажалкай. (Да самага 1937 года.)

«Бэ-эз» — да чаго ж пышны пахкі бэз рос у іх пад акном, я дасюль, калі бачу такі пышны, п'янкі, узгадваю польска-глушанскае слова «бэ-эз»!

У Глушы і дол пад нагамі быў не як у іншых мясцінах. «Зямля ёгаў», якія не падазравалі тады, што слова ёсць такое: ёгі. А вось слова «ракако» я ўпершыню пачуў не на ўніверсітэцкіх лекцыях па гісторыі мастацтва, а ў сваёй Глушы. Праўда, азначала яно вось што: заводскія падлеткі сядалі на рабочых коней і гналі іх за лес на пашу, у нейкае імгненне паварочваліся тварам да конскага хваста, забіралі яго ў абедзве рукі і лямантавалі, як апантаныя: «ра-ка-ко!» — лупячы пяткамі па конскіх баках.

Калі бачу на тэлеэкране, як чалавек топчацца басанож па бітым шкле, узгадваю сваіх аднагодкаў, якія вырабляць тое змушаныя былі дзень у дзень, усё лета. Рэч у тым, што за сто гадоў бесперапыннай працы завод, што вырабляў бутэлькі, не мог не памнажаць і колькасць «бою». Паступова сеяў і сеяў вакол сябе бітае шкло, і ўсё пашыралася, распаўзалася па пасёлку кола зіхоткай, як антрацыт, чорнай жорсткай сумесі перагарэлага шлаку і шкла. А нам па гэтым бегаць, і не будзеш штосекунды думаць: ах, шкло! Як бы не злавіць на пятку бутэлечнае донца! Ногі паступова набывалі дзівосную, амаль прыродную, здольнасць наступаць на ўсё з неўсвядомленай абачлівасцю, у глушанскага падлетка быццам паветраная падушка пад ступнямі з'яўлялася, бяжыш, увесь час як бы ўзлятаючы. Але да чаго ж яркая, светлая кроў адразу афарбоўвала хлапечую чорную ступню, калі бедны ёг з усяго маху раптам чапляў, як падкову, вострае-вострае донца на пятку!

Але ў нас быў яшчэ лес, засланы шыльнікам (хвойнымі іголкамі) і халаднаватым мякенькім імхом, — адразу ж за крайнімі хатамі, а сям-там, напрыклад, за аптэкай, балотца з кусцікамі запаўзала проста ў пасёлак, вялізныя жабы каля самае «варшаўкі» вечарам так надрываліся, гарлапанілі, што, здавалася, яны па-сабачы аббрэхваюць машыны, што ішлі міма.

Калі дацэнт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта «антычнік» Фактаровіч у лекцыях сваіх выспеўваў Арыстафанаў радок: «тысяча-ку-ув-шинное слово», перад мной адразу паўставаў

глушанскі лес: «тысячекувшинное» рэха! Слухаючы яго, блізкае-далёкае, пужлівае і заклікальнае, калі свет мой замыкаўся высокім плотам Пагоцкіх, за якім цямнеў таямнічы лес. Пазней мы агучвалі яго, лётаючы па рыжыкавым сасняку ці калі вышуквалі птушыныя гнёзды, вавёрчыны дуплы, яшчэ не ведаючы перасцерагальнага слова «экалогія», радуючыся сваёй драпежнай уладзе над лясным жыццём.

Але як тое самае расчуў Валодзя Высоцкі[29], такі ўвесь з горада? Як ён змог перадаць? Ён вярнуўся з Масквы (куды я яму даваў сваё першае выданне, бляклa-зялёнае, «Вайны пад стрэхамі») з песняй, з сваімі «Аистами». Тут жа праспяваў, трымаючы навесна сваю прыручана-прасцяцкую гітару. А я пачуў не проста лес і клёкат буслоў, а наш, глушанскі, — з працягнутай праз яго струной асфальткі, басіста-густымі яловымі лагчынамі, западзінкамі, што пераходзілі ў балоты, звонкімі медна-сасновымі і бярозавымі ўзгоркамі, задумліва-шматвёрстымі арэшнікамі ўскрай поля. Умоўна-беларускія буслы, звыкла ваенныя вароны — усё было б задужа песенна-традыцыйна, калі б не гучала над усім у яго «Аистах» тое самае «тысячекувшинное» слова-рэха.

Ну, а вечарамі мы бралі прыступам заводскі клуб, бо лічылася, што на танцах нам рабіць няма чаго, а на кінафільм патрэбны абавязкова білеты. Як быццам у клубе няма бакавых дзвярэй, а іх было ці чатыры, ці пяць, і не на адных, дык на другіх кручок раптам быў адкінуты. Мне дык грошы на кіно давалі, але з салідарнасці часта і я такім чынам пранікаў у кіназалу. (Я, але не Зана, гэта яму не было дадзена.) І што дарослыя рабілі б без нас, што, як цюлені на лежбішчы, засцілалі падлогу перад белым экранам, хто б ім агучваў смехам і лямантам нямыя фільмы, дружным хорам счытваў словы-цітры з экрана. (Зрэшты, гэта рабіў і дарослы люд, адным выдыхам гучна прамаўлялі за артыстаў або аўтараў фільма: «Прайшло тры дні», «У Івана з'явіліся сябры».)

Клуб знаходзіўся акурат насупраць завода. Збудавалі яго на месцы згарэлага (ад ранейшага засталіся ў памяці старажылаў нейкія «бліскучыя шары» — пра іх абавязкова гаварылі, узгадвалі). І збудавалі ў выглядзе самалёта: гэта быў «перыяд індустрыялізацыі». Спераду, дзе павінен быць «пламенный мотор» — высозная, аж дваццаць прыступак (не раз пералічваў), веранда. Тут вечарамі граў заводскі аркестр, звыклыя губы шкловыдзімальнікаў, старых і маладзейшых, старанна выдзьмувалі кракавякі, танга, а пазней — заляцелы і да нас факстрот.



У «крылах» клуба-самалёта змяшчаліся розныя службы культбыту, ад самадзейнасці да шахмат, да бібліятэкі і пакоя для начальства, каб магло адасобіцца перад кінасеансам. Далей — даўгая зала, як бы для пасажыраў-гледачоў, а ў самым хвасце за сцэнай — таямнічая кладоўка, куды мы забіраліся, каб сарваць апошнія струны з забытага старога раяля, мабыць, пакінутага ад згарэлага клуба.

Змецены каторы ўжо раз з веранды даўгімі нагамі напаўзвар'яцелага Франака, які шмат гадоў выконваў абавязкі загадчыка клуба, падлеткі з гіканнем выпраўляліся ў рэйд па начным пасёлку, суправаджаючы, пераследуючы, парачкі, што разыходзіліся дамоў і ў зацішныя куточкі. Дзіўнага я помню сябе ў гэтых кампаніях 10–12 гадовых, што гадзінамі стаялі насупраць ярка асветленых вокнаў інтэрната або кватэры якой-небудзь глушанскай красуні, да якой, мы ведалі, наведваюцца «ўхажоры». Мы імі пагарджалі з усяе сілы дзіцячае зайздрасці да шчаслівчыкаў, дапушчаных да зносін з гэтымі таямнічымі істотамі — дзяўчатамі.

Вядома, я больш ахвотна выправіўся б куды-небудзь са старэйшым братам, але ён не пераносіў «хваста», стараўся пазбавіцца, як яшчарка ўцякаючы. І сябрукі яго пераняллі ягоны тон, нязносна паблажлівы: «А, Зана!» Цяпер мяне так называлі сябры брата, тым самым як бы адкідваючы некуды назад, у той час, калі я сапраўды быў маленькі.

Ну і добра, затое мы зноў пойдзем у Пакроўку, у калгасны сад. Хаця мне ўжо аднойчы дасталося, тры дні жыцця не было ад мамінага шыпення і бацькавага пахмурнага здзіўлення: «Гэта каго мы выгадавалі? Моркву красці? Табе што, мала сваёй у гародзе?» Ну як растлумачыць, што не морква і нават не яблыкі вабяць, прыцягваюць, няўжо не ведаюць, што «цыган за кампанію павесіўся»?

Наш набег на пакроўскі сад скончыўся поўным канфузам, ды яшчэ якім. Пакуль калацілі яблыні, набіваючы свае бяздонныя запазухі, вартаўнік зайшоў ззаду і пачакаў ля высокай агароджы. Але калі дапялі да слуцкай бэры, не ўтрываў стары з ружжом, закрычаў тонка, па-бабску:

— А ты гэтыя грушкі саджаў, паршывец ты гэткі!

Птушкамі ўзляцелі на высокую агароджу, сцелючы сляды ўцёкаў дарожкай з яблык і груш, што градам сыпаліся з кашуляў. І тут грымнуў стрэл, здвоены, надаўшы зусім ужо шалёны тэмп падзеі: імчалі, што ласі, праз бульбянішча да лесу. А калі сабраліся там, Антака не далічыліся. Сталі прыгадваць, што,

калі пачуўся стрэл, нехта залямантаваў, як злоўлены за заднюю нагу заяц.

З узлеску азіралі родны пасёлак так, быццам яго вораг захапіў і нам заходзіць у яго небяспечна. Але што было рабіць, па адным, парамі, рознымі закавулкамі прайшлі да цэнтра, паслухоўваючы, што людзі кажуць. Нібыта нічога такога. Усё, як заўсёды. Зацеплілася надзея, што наш Антак ужо дома сядзіць, зацірку малочную сёрбае, а мы тут яго хаваем. Сышліся за клубам, як змовіліся, абгаварылі сітуацыю і вырашылі, што менавіта я (доктараў сын? але пры чым тут гэта?) павінен схадзіць да пацярпелага дамоў і разведаць, на якім мы свеце. Далі мне ў падмогу яшчэ аднаго хлопца. Мы з ім наблізіліся да веснічак таго даўжэзнага дома, дзе маці некалі аплаквалі нявест-тапельніц, патупалі нерашуча, затым рушылі вузкім праходам да сенцаў. Угледзелі ў акне спалохана-белы, як нам падалося, твар маці Антака. Доўга важдаліся ў цёмных сенцах, шукаючы клямку, пакуль дзверы не расчынілі насцеж нам знутры:

— Ды заходзьце ўжо! Што вы там шкрэбаецеся, як мышы?

На наша нявіннае: «Антак дома?» — жанчына агледзела паслоў абурана-насмешліва і махнула рукой у бок шырмы, што адгароджвала кухню:

— Там ён, ваш Антак! Ну, а вашы сракі — цэлыя? Балея вялікая, сядайце з ім.

Даўгалыгі Антак, шырака раскірэчыўшы ногі і вышэй за галаву трымаючы вострыя каленкі, звіс на руках над шырокай балеяй, апусціўшы голы зад у гарачую (ажно пара валіць) ваду. Выпарвае соль з задніцы? Паспрабаваў нам усміхнуцца, атрымалася вартая жалю грымаса. Колькі ж той гад зашпандорыў яму з двух стваллоў? Мы прыселі на лаўку, каб раптам не зваліцца ад дурнога здрадніцкага рогату, што закалаціў нас.

Хаця глушанскіх жыхароў клікалі ў наваколлі «заводскімі», але іх можна было назваць і «палявымі», і «ляснымі». Завод не мог пракарміць, цяжка было пражыць на зарплату нават майстра. А таму амаль у кожнага была свая гаспадарка: гародчык, кабанчык і калі не карова, дык козы. Адзінаму ў наваколлі аднаасобніку з канём, плугам Арцёму Лешчуну — хоць парвіся, усе клічуць, заклікаюць, каб узараў агарод, «абагнаў» бульбу. Але якраз дзякуючы такой сваёй патрэбнасці Ляшчун і змог устаяць, утрымацца на паверхні, нягледзячы на ўсе падаткі, якімі ўлады дабівалі апошняга прыватніка. Яго не прыбралі з вачэй, бадай, таму толькі, што і начальству ён патрэбен быў і небескарысны.



Амаль у кожнага рабочага свая каляска — двухколка ці на чатырох колах. У некаторых удасканаленыя, з тармазамі, на роварных колах; чалавек і пафарбуе, і ўпрыгожыць свайго несамавітага памочніка, кармільца. І бульбу на поле ці з поля прывезці, і шыльнік з лесу на падсціл карове ці кабанчыку, зжатую на ўзболатку цяжкую асаку ці траву ў лесе — без уласнай каляскі, як без рук. Міжволі будзеш да яе ставіцца, як да жывой істоты.

У Італіі, у рабочым клубе «партыі пралетарскага адзінства», нас проста-ткі замучылі недаўменнымі, амаль гнеўнымі пытаннямі, і не партыйныя функцыянеры, а рабочыя: чаму ды чаму ў вашых калгаснікаў захоўваюцца прысядзібныя ўчасткі? Які ж гэта сацыялізм?

Што мы маглі ім адказаць і як растлумачыць? Што, маўляў, калі пераможаце і вы, пасмакуеце гэтага самага, будзеце, як нашы рабочыя, радыя-радыя — дзе ўжо там машыну! — каляску займець ды ўпрэгчыся ў яе самому на пару з жонкай. І не будуць мучыць вас такія вось клопаты-пакуты аб чысціні ідэі, аб тым, каб нашы калгаснікі жылі правільна. Пра тое ёсць каму паклапаціцца і без вашае падмогі і падказкі.

Гэта было ў 60-я гады. А праз 25 гадоў у Барселоне зусім іншае давялося пачуць. Сядзелі ў кавярні насупраць храма Святога Сямейства Антонія Гаўдзі, што ўразіў нас, палюбіўся, з бацькам і сынам іспанцамі, бацька — былы нарадафронтавец, сын вярнуўся з Савецкага Саюза, куды быў вывезены дзіцянём, ясна, што пра тыя часы зайшла гаворка, пра 1937-ы, 1938-ы. (Іспанец-сын па-расійску гаварыў чыста, ён нам перакладаў і развагі бацькі.) Бацькавы нараканні, што пацярпелі тады паразу камуністы, выклікалі ў яго нечаканую рэакцыю:

— Каб перамаглі вы або трацкісты (ён узяў з вазы апельсін) — і вось гэтага таксама не было б цяпер у Іспаніі. А гэта (паказаў на дзівосны, як з падталага лёду ці аплылага зялёнага шкла, храм) узарвалі б.

У глушанскага доктара таксама была гаспадарка: і карову, і кабана трымалі, курэй — мы з братам памагалі маме, а потым пераехалі з Рачэні ў Глушу бацькавы старыя, і ім не давялося смуткаваць па звыклай сельскай працы. Госці да нас заходзілі часта, бацька любіў, а мама ўмела, што называецца, прыняць людзей. Гэта быў сапраўды святочны дзень для нашых бацькоў — каб на стале было і каб людзі пайшлі, задаволеныя бяседай, гамонкаю, смехам. (Не выпадкова ў беларусаў застолле так і завецца: бяседа.) У такі час вечнае напружанне, нескончоны

клопат-турбота на твары, у змружаных, як ад галаўнога болю, вачах у маці змяняліся на радасна-маладое ажыўленне, і калі яна выходзіла да нас (за стол нас звычайна не запрашалі), так добра было яе такой пабачыць, таму і я любіў, калі ў нас госці. Але я помню, што проста-ткі на другі дзень пасля шумнай, вясёлай бяседы ў бацькі адбылася зусім іншая размова з адным з пастаянных сяброў нашага дома — паўнатварым, усмешлівым Г. Яны пра нешта ціха гаманілі, зачыніўшыся ў «зале», і раптам бацька закрычаў, а наведнік выскачыў, як з парылкі, слепа стаў тыцкацца ў дзверы, бацька выбег услед:

— Прыйдзеце сюды, калі паразумнееце! У сватах патрэбы не маем.

Выявілася (потым мама нам расказала), што гэты «сват» прыходзіў афіцыйна паведаміць доктару Адамовічу думку заводскага «актыву»: нягожа такому аўтарытэтнаму ў пасёлку чалавеку, загадчыку бальніцы, працягваць быць жанатым з «кулачкай». Загадчык і не ў партыі! Зрабілі выключэнне з павагі. Але не вечна ж!

Некаторыя рэчы з тае жыткі ўзгадваеш цяпер і, ведаючы, як усе шляхі для чалавека, апроч нямногіх дазволеных, дапушчальных, былі перакрытыя і рызыкоўныя, са спазненнем здзіўляешся, што людзі стваралі і агулам захоўвалі нейкія формы і спосабы жыцця, не начальству і дзяржаве, а ім самім патрэбныя. Нягледзячы ні на што. Ну, скажам, як ты растлумачыш цяперашняму чытачу, што дзеля таго, каб забіць выгадаванага табой кабанчыка і асмаліць яго, ты павінен быў… украсці яго ў самога сябе, ноччу, патаемна, з аглядкай, без лішняга стуку-груку, завёзшы спярша ў лес. А суседзі павінны былі памагаць адзін аднаму ў дзіўнай гэтай зладзейскай справе, у адзіночку не справішся. А за любы ж недазволены чых пагражаў штраф ці турма. І ахвочых, а то і па службе абавязаных высачыць і «сігналізаваць» было аж занадта. І тым не менш нават наша сям'я, увогуле законапаслухмяная (і нават не з-за страху, а паводле сумлення), у гэтым пытанні рабілася ўпартай і нязгоднай. «Сала без шкуркі — не сала, а мыла!» — гэтая амаль прымаўка ўзнікла, буду настойваць, менавіта ў нашым доме. А тое, чаго хацеў бацька (ён зусім не шмат хацеў, заўсёды заняты хворымі), было законам для мамы, а значыць, і для астатніх у доме.

Пакуль не надыходзілі халады, 10–12 пудоў жывога сала, каўбас, вяндліны, сальцісону ў бальнічным хляве, які мы як бы арандавалі, чакалі свайго тэрміну. Мама пачынала спакваля рыхтавацца да рашаючай неспакойнай начы. Зналыя спецыялісты гэтае справы канспіратыўна (амаль як у вайну пры немцах) наведваліся ў наш дом, затым праведвалі, вывучалі сваю будучую ахвяру і нарэшце за сталом з выпіўкай, закускай распрацоўвалі план аперацыі. Дзеля гэтага патрабавалася як мінімум трох мужыкоў. Арцём Ляшчун з яго адзіным у акрузе канём — абавязкова. Блізкі наш сусед Іван Архіпавіч Дзегцярэнка, хаця і шчуплы з выгляду, не сілач, але без яго такія рэчы не рабіліся, так ужо заведзена. Любая нагода — клікалі яго, калі ў саміх неставала рук ці спрыту, патрэбнага інструменту. Ну, і яшчэ аднаго-двух чалавек, залежала ад таго, колькі пудоў і які «звер».



Забарон існавала вялікае мноства, часта без усякіх тлумачэнняў і матывацыяў, проста «так трэба», а многім (таму ж Лешчуну і Івану Архіпавічу) здавалася, што большасць іх прыдуманы, каб чалавека яшчэ мацней прыціснуць, не даваць яму «ні ўздыхнуць, ні пернуць». Ну, а гэтае распараджэнне — здымаць шкуру з забітых свіней і здаваць — мела сваю патрыятычную падкладку: у краіне не хапала скуры, трэба абуваць-апранаць армію і г. д. Чаму стала ўсяго не хапаць, усяго нeставаць, не тлумачылася. Самі знаходзілі адказы — Арцём Ляшчун: скаціны мала, не трывае ў калгасах нават скаціна; Іван Архіпавіч: занадта шмат партфеляў робяць, уся скура на іх ідзе.

Я, здаецца, не сказаў, што да гэтае пары мы перабраліся ўжо на другую казённую кватэру, жылі блізка ля бальніцы і зноў навідавоку ў Пагоцкіх. Сям'я ў нас, уключаючы старых, была часам 7, а часам — 8 чалавек, у залежнасці ад таго, колькі пляменніц у нас жыло-вучылася. Таму чатыры пакойчыкі былі так дарэчы. [Тут мы, як кажуць, і вайну сустрэлі, толькі побач была ўжо не бацькава бальніца, а нямецкая камендатура, што адразу ж размясцілася ў зручным бальнічным будынку ля самай шашы. Заадно і раптам падумалася: старая Пагоцкая пайшла ў камендатуру з даносам на сваіх былых жыхароў яшчэ і таму (апроч ужо ваеннага часу страсцей і матываў), яшчэ і таму гэта зрабіла, што ненавісныя кватаранты з'ехалі ад яе і яна гэтулькі гадоў не мела магчымасці ненавідзець уголас, крыкам — чаго мы наслухаліся ў раннія свае гады.]

Першым прыйшоў да нас у той вечар Іван Архіпавіч — прымак суседкі Марыі Адольфаўны, — дастаў з-пад крыса і расклаў на кухонным стале зброю забойства: востра завочаны нож, доўгае шыла, з напільніка зробленае, яшчэ некалькі не менш страшных прадметаў. Ён такі спакойны і ўсмешлівы, хахол Дзегцярэнка, але толькі да таго моманту, калі нехта, хто ведае яго характар і крыўды, не загаворыць пра Камсамольск-на-Амуры, дзе ён «адбываў тэрмін». Даволі спытаць: раскажы-тка, дзядзька,

як героі-камсамольцы горад на рацэ Амур у рэкордны тэрмін збудавалі, і гэты ціхі чалавек выбухаў:

— Ага! Камсамольцы, ага. За пайку.

Вось гэтак жа Арцём Ляшчун з паўабароту заводзіўся, калі засвішчаш у хаце. Наш бацька свістаў, калі ў яго быў добры настрой. І я ад яго навучыўся. Арцём ужо сані падагнаў, з ім двое яго сыноў, худзенькі Грыша і разлапісты Шура, — забыўшыся, я засвістаў, стары быццам на шыла сеў:

— Слухай, лепш падыдзі і дай мне ў морду!

Нарэшце прыбыў ляснік Вакула, карчавіты мужык са збітым, сальным тварам і непрыемна сухім бляскам выпуклых вачэй, хрыплагалосы, увесь такі нямірны, ён таксама прынёс свой інструмент. Самаробкі Івана Архіпавіча адразу пабляклі, паніклі перад наборам вастраколючых і вастрарэжучых фабрычных прадметаў. З уласцівым яму сарамлівым пацепваннем плячыма, кіўком галавы, ці то ў знак згоды, ці такой жа нязгоды, Дзегцярэнка рукамі памацаў гэтае багацце, пацмокаў запалым бяззубым ротам: нічога не скажаш! Ну, што ж, усё сёння не лішняе, бо ўсе бачылі і ацанілі праціўніка: вепрука гаспадыня адкарміла на ўсе чатырнаццаць пудоў, але ён пры гэтым не страціў ні рухавасці, ні сілы. Звер зверам! Пагрыз дошкі, як бензапіла, сцены паклычыў, вочкі маленькія, недаверлівыя — паспрабуй да яго падступіся.

Арцём як зазвычай памоўчваў, даючы іншым выказаць уласнае глупства. І пакуль яго не паклічуць — рассудзіць іх. Калі позіркі да яго павярнуліся, яшчэ з хвіліну памаўчаў. Нарэшце ўзгаварыўся:

— З якога боку да яго заходзіць? А ні з якога. Ёсць адзін фокус, калі гаспадыня дасць нам мучыцы, ну, а торба ў мяне на возе, з-пад аўса.

— Ого, ты каня аўсом корміш? — не ўтрываў Вакула. — На тое кулак, хутаранін!

— Аўсом не аўсом, а на лейцах пад бруха не падвешваю на вясну. Дык вось, толькі трэба, гаспадыня, прышыць да яе зашмаргі і…

Ён паказаў, як будзе завязваць торбу з мукой за вушамі ў кабана.

— Ціха, мірна, хочаш — укусі, калі зможаш. З такім зверам інакш і немагчыма.

Што за звяры, якія яны сабакі кусучыя — кабаны, нават падсвінкі, гэта і я мог бы расказаць. Тым больш, што мама адразу прыгадала мой выпадак і нават цяпер, пасля столькіх гадоў, не без перажыванняў:



— Вунь яго пакусала свіння, дык жывога месца не было. — І не магла не дадаць, на ўсякі выпадак, на будучае: — Вечна падлезе, куды не след.

Але, так і было — падлез, сам напрасіўся на бойку з кабаном. І каб жа кабан, а то нейкі худэразны падсвінак (ці падсвінка), якіх у нас нямала бадзялася па вуліцах, дварах, самастойна шукаючы сабе харч. А пад вечар, калі не прыйдуць дамоў, гаспадыні расшуквалі іх скрозь па пасёлку. Адзін вось такі падгольваў смачную траўку ля нейчае агароджы, дружалюбна махаючы хвосцікам. Я падышоў і пхнуў босай нагой у бок, той незадаволена торгнуўся, як бы адштурхнуўшы маю нагу. Я яшчэ і яшчэ. І раптам, без усякай прычыны, ён кінуўся да мяне, пагнаўся і пасабачы стаў хапаць мяне за лыткі, я павярнуўся да яго, схапіў за вушы і з усяе сілы, узмоцненай дзесяцікроць спалохам, стараўся ўтрымаць ашчэраны лыч далей ад маіх, такіх прывабных, смачных яму ног, а сам адступаў, адступаў да лавачкі ля агароджы, скочыў на яе. Дык гэты гад, зусім не па-свінячы, стаў на заднія ногі і ну кусаць, ну грызці мае, аголеныя, я ж яшчэ ў кароценькіх штоніках хадзіў. І як жа балюча, да костачкі пракусваў (некалькі тыдняў ногі былі ў сіне-чырвоных падцёках). Я ўсё спрабаваў за вушы трымаць яго далей, не падпускаць, а ён напружваўся дастаць мяне абавязкова. Лямантаваў я, мабыць, нема, ды яшчэ злосна вішчаў падсвінак — тут жа набеглі нейкія людзі.

— Дык вось, — працягваў Арцём, паблажліва выслухаўшы гаспадыню, — бяром торбу з мукой, дзю-дзю, ён туды лыч, нос і рот поўныя, не прадыхнуць, нічога не бачыць, тут і Дзегцярэнка з ім справіцца.

Вось як проста, не, Арцём ёсць Арцём, як бы ні падсмейвалася над хутаранцам Глуша. Але каго толькі не лічыла Глуша прасцей за сябе?

З захаваннем патрэбнай канспірацыі, сышліся ля хлява, калі Шура і Грыша падагналі ўжо сані, каня. Ні бацькі нашага, ні маму, вядома, з сабой не запрасілі: бацька і не пайшоў бы, ён наогул аніякай працы дома не выконваў. І нават не ў яго кругласутачнай занятасці была справа, а ў нечым іншым. Не помню, каб такое было, здарылася (а тады мы і не ўяўлялі), што наш бацька хадзіў бы з вёдрамі да калонкі па ваду або прынёс бы ў дом бярэмя дроваў — мама нізавошта такога не дапусціла б, дый пасёлак, бадай, не ўхваліў бы доктара, якому людзі давяралі сваё здароўе. А таму і сам доктар рабіў і паводзіў сябе адпаведна. Ну, а ўжо красці кабана, хаця б і ўласнага…

Мама ж, як і ўсякая гаспадыня, не павінна была не тое што бачыць, а нават віск чуць кабана, якога колюць, а інакш ён будзе доўга мучыцца. Гэта вядома.

Запалілі добра працёрты ліхтар і гурмой наблізіліся да загарадзі, за якой неспакойліва гуў наш гара-кабан, адступаючы ад нас далей, у самы дальні кут. Ляшчун перакінуў праз дошкі торбу і стаў жменяю набіраць і ссыпаць назад мучыцу, спакушаючы ахвяру. Кабан перарывіста гуў-чмыхаў, грозна і недаверліва, ледзь паблісквалі яго вочкі, здавалася, насмешліва: шукайце дурняў!

— Вось табе, дзед, і дзю-дзю! — не ўтрываў Вакула. — Будзеш да ранку, як дурань, стаяць з гэтай торбай. Без ружжа тут рабіць няма чаго. Хіба толькі Іван Архіпавіч палезе да яго туды.

Дзегцярэнка худымі плечукамі згодна-нязгодна пацепаў, рабізна зморшчын на яго твары ўскалыхнулася, як вада ад кінутага каменя. Але ўсё ж усумніўся:

— Страляць? Увесь пасёлак пабудзім.

— Ну, тады пайшлі спаць, — сказаў Вакула, — няхай іншых доктар кліча, не такіх зас…цаў.

Скончылася ўсё-ткі ружжом, па яго схадзіў Вакула, ён і страляў. Я глядзеў з-за спін, збоку, з біццём у сэрцы чакаў стрэлу разам з асуджанай істотай, як бы разам чакалі мы страшны міг. Здалося, страха, сцены абрынуліся — так аглушальна выбухнула цішыня, з двух ствалоў біў Вакула. Кабан нечакана паслухмяна зваліўся набок. Толькі гайданулася колькі разоў гара. Страх, што ўвесь свет нас пачуў, не тое што Глуша, прымусіў сціснуцца, як бывае, калі шум, што вырваўся, гук, смяротна небяспечны, стараешся і не можаш уцягнуць у сябе, удыхнуць, як распаленае паветра ўдыхаеш.

Ну а смалілі вепрука ў лесе, як і ўсе тады, хто краў сам у сябе сваё дабро. І зноў кожны прапаноўваў сваю працэдуру. Тут ужо не гук, а святло, зарыва трэба было хаваць, абмежаваць. Найлепшы, вякамі апрабаваны спосаб — запаленай саломкай, кулявой, распускаючы сноп за снопам, падкурваючы кабановы бакі задусюль у некалькі рук, вясёлымі байкамі падвясельваючы сябе, адзін аднаго і нават таго, каго падсмальваюць-падпякаюць, — такі спосаб, такая працэдура не для нас, нам яна не падыходзіла. Узамен гэтага вынаходлівыя завадчане пускаюць у ход паяльную лямпу. Праўда, казалі, сала аддае газай, ну, ды гэта тыя, хто ўсё яшчэ, як пры цары, «з раскошы шалее». І ўжо зусім не для нашага «шаснаццаціпудовага» (а менавіта столькі згадзіліся прызнаць за ім вагі, калі ўздымалі-ўскочвалі кабанову тушу на сані) тая штуковіна, якую прыцягнуў Дзегцярэнка: звычайнае вядро з прадзіраўленым, як рэшата, дном. Насыпаць вугалля, раздзьмухаць, распаліць дачырвана і пагладжваць па шчаціне, пакуль яна не сатлее.



— Палечыш гэтым, Іван Архіпавіч, сваю Марыю Адольфаўну — ад радыкуліту, — бесцырымонна вынес свой прысуд Вакула-ляснік, стоячы наўколенцы і ярасна накачваючы паяльную лямпу.

Бедны Іван Архіпавіч! Па яго надзіва непрыгожым і надзіва сімпатычным, зрэзаным уздоўж і ўпоперак зморшчынамі твары зноў, як па вадзе ад кінутага каменя, прайшла рабізна збянтэжанасці і адначасова як бы задавальнення: ён ніколі не крыўдзіўся, не злаваў на людзей, адно не кажы яму, што горад на Амуры будавалі энтузіясты-камсамольцы.

Не, без саломкі не абышлося, практычны Ляшчун прыхапіў з сабой некалькі кулёў. Ліхтаром у лесе не насвеціш, нават калі завіслы над лесам месяц памагае. Саламяныя паходні ідуць у справу, хоць Лешчуну і шкада на гэта кулі траціць. Салома пайшла па прамым прызначэнні, калі свіная туша з пачварна раздробленым чэрапам зусім счарнела, на вугаль зрабілася — пасля Вакулавай паяльнай лямпы. Як бы здымаючы газавы запашок, прайшліся па ўсёй тушы саламяным жаркам, ясным, чыстым. А потым акацілі кіпенем, знарок прывезеным у выварцы, і тут жа, наваліўшы саломы, захутаўшы кабана з галавой, загадалі нам: валіся на яго! трымай цяпло! І мы з Шурам, малодшыя з усіх, як забітыя пападалі ўпоперак тушы. Месца застаецца яшчэ і на трэцяга: прасторны, як наша канапа, пацягнутая цыратай, вяпрук. Галоўныя працаўнікі тым часам наладзілі перакур. Грэйцеся, грэйце, падбухторваюць нас старэйшыя браты Зана і Грыша. Цікава, калі б мой брат таксама закурыў, яму б і гэта сышло?

— Ну, усё, дайце і мне, — раптам камандуе, зганяе нас Вакула. — Прыгрэліся. Вось як трэба.

І валіцца на наша месца, але не ўпоперак, а ўздоўж свіной тушы, абхопліваючы яе нагамі, каленямі, як верхавога каня, падграбаючы рукамі з абодвух бакоў салому.

— Сілы набрацца!

— Як на гэтай… самай, — сарамліва хіхікае Дзегцярэнка.

— І-эх! — Вакула ўскоквае і звальвае салому набок: — Сваці!

Хапае нож з шырокім лязом, ці не з касы зроблены, а Дзегцярэнка свой такі ж — адна рука на ручцы, другой трымае за насок — і пайшлі, і пайшлі! Саскрэбваюць тлуста-тоўсты пласт

нагару да немаўлячае жаўцізны, чысціні. У вачах абодвух, дый ва ўсіх, хто любуецца тым, як атрымліваецца, — радаснае здзіўленне, амаль захапленне, мабыць, не меншае (адсюль бачу, гляджу), чым у рэстаўратараў, калі адкрываецца з-пад пацiны, копаці адпачатковая свежасць шэдэўра.

І зноўку паліваецца цёплай вадой, яе не хапае, у справу ідзе чысты снег з-пад елачак, мы адбягаем у бок, набіраем у вёдры, а Вакула рукамі растоплівае на цёплай, з зіхоткай жаўцізной тушы — яшчэ і яшчэ саскрабаюць лішняе, размякчаючы шкурку на будучым сале.

А дома нас ужо чакаюць жанчыны. На кухню выцягнулі вялікі стол, падрыхтавана нізкая шырокая лава пад разборку тушы, патрэбны посуд, вялікі, малы чыгуны з кіпенем. Скавароды, свае і пазычаныя, — пад свежыну. Бацькі дома няма, павезлі да хворага ў вёску, звычайная справа.

Жанчыны, дый усе мы, абкружылі Вакулу — глядзець першы надрэз, якое будзе сала. Ого, тры пальцы на жываце, значыць, на спіне, на загрыўку і пальцаў адной рукі не хопіць! Кампліменты гаспадыням — такога выгадавалі. А мама і бабуля пераконваюць, што гэта кабанчык дабрэнны трапіўся, еў, як песні пеў.

Вакула конаўкай зачэрпнуў крыві: ну, хто смелы? Не знайшлося. Сам выпіў, аж вочы заплюшчыў ад задавальнення, а расплюшчыў, дык сталі нават дабрэйшыя, цяплейшыя. Арцём, які, мабыць, не дараваў лесніку яго «дзю-дзю», заўважыў:

— Вось чаму ў лесніка такое мурло!

— Жонка не скардзіцца. Э, глядзіце, дзе ў яго сэрца! Дзіва ў рэшаце. Справа! Вось памучыліся б, а віску было б на дзве гадзіны. А ты кажаш, навошта страляць.

Усе міжволі прыкідваюць, дзе гэта справа, а дзе злева, і сваё сэрца шукаюць. Адразу спрэчка: а ці бывае ў людзей? Вось доктар вернецца, трэба спытаць.

Усё, што трэба для скаварод, засмажыць для працаўнікоў, — усё ўжо ўзята-адрэзана ў кабана, заадно Вакула і кончыкі вушэй адхапіў, урачыста ўручыў нам з Шурам: грызіце, каб не раслі лапавухімі. Да ранку ўсяго насмажылі, нагатавалі: абавязковай у такіх выпадках крывянкі, яечні з свежынай, некалькі чыгункоў бульбы (як жа без яе?), нават кілбас жанчыны паспелі накруціць, спяшаючыся ўслед за ўтойвальніцай-ноччу.

Бацька вярнуўся з вёскі ад парадзіхі акурат да застолля, уваліўся ў цёплы дом заспаны, у цяжкім, пацягнутым чорным сукном кажусе, яшчэ забалацкім. (Колькі разоў і ён і мама вінавата шкадавалі, што не змаглі вярнуць Мітрафану Тычыну яго вясельны падарунак, рэч, як бы для Сібіры і робленую.)



Ясна, што пад чарку загаварылі і пра сэрца справа. Бацька на гэта сказаў:

— Ды гэта што! Бывалі выпадкі, што ў чалавека два сэрцы. Толькі мала яму ад гэтага радасці. Не, не двайное здароўе і сіла не падвойная, памыляецеся. Сэрцу, як і цару… Саша, як там у твайго Пушкіна (гэта ён мной ганарыцца перад гасцямі)? «Ты цар…»

— …жыві адзін!

Я сапраўды да гэтага часу ўвесь гучаў радкамі з пушкінскага аднатомніка, мне падараванага. Як высушаны кабаноў посік — насыпанымі ў яго гарошынамі.

Такія вясёлыя дзіцячыя «шары» былі да сінтэтычных — з мачавога пухіра, стоўчанага з дапамогай попелу і пэўных фізічных маніпуляцыяў. Гэтыя шары і шары сінтэтычныя, якія я паспеў спазнаць за сваё кароткае-доўгае жыццё, цалкам маглі б служыць вешкамі прагрэсу, таксама, як і яго абвяржэннем, — не менш, чым ядзерная энергія. Набываючы, трацім. Ей-ей, свіныя з гарошынамі радасці прыносілі не менш, калі не больш.

Сярод заклапочаных жанчын і наша Соня, якая даўно жыве з намі, маміна малодшая сястра. Не ведала ні яна, ні ўсе мы, што вось сюды, у гэты дом, вернецца з мужам, у першыя дні вайны, так жахліва страціўшы дзяўчынку на пераправе цераз Бярэзіну, і адсюль вось гэты Арцём Ляшчун, якому яна падкладвае смачныя кавалкі, ратуючы яе мужа-камуніста ад даносу Пагоцкіх, на тых жа санях і на тым жа кані, што стаіць пад акном, шпарка памчыць да школы, да лесу, што бачны з акон.

Калі я іх потым бачыў, а бывала, што з нейкае святочнае або сумнае нагоды ледзьве не ўсіх пецярых адразу — маму і яе сясцёр, — міжволі параўноўваў. Да чаго ж падобныя і да чаго ж розныя. Дзядзька Антон і дзядзька Аляксандр, іх браты, што стаялі як бы наводшыбе, яшчэ лепш памагалі зразумець Тычынаўскі агульны корань.

Калі за пункт адліку браць маму, г. зн. характар выключна дзейсны і нават уладны, астатнія выстраяцца так: жорсткая (калі не жарсткаватая) Оля, што так і засталася непісьменнай сялянкай-гараджанкай, затым, бадай, разумна-іранічная Люба, якая адправіла ад сябе ажно двух мужоў, калі зразумела ім цану (першы, здавалася, і нарадзіўся з рукамі ў кішэнях, такі быў гультай, але з неверагоднымі прэтэнзіямі, а другі — партапантаны, ён нават ва ўласную прыбіральню зрабіў адвод ад тэлефона, хоць ніхто яго, вядома, там не шукаў па тэрміновых дзяржаўных справах).

Затым — Зіна, выключна, нават нейк не па-тычынаўску, цалкам замкнёная на самой сабе, ну, і нарэшце — Соня, да старасці худзенькая, як дзяўчынка, і ласкавая, як дзіця. Калі яна павышала голас на мужа — Пецю, ён глядзеў на яе з падбадзёрвальным здзіўленнем: ну, хоць на мяне ўзняла голас, і за тое хвала Богу!..

Ну а калі пачаць адлік з Соні, увесь ланцужок выстраіцца ў адваротным напрамку. І калі брат Аляксандр стане поруч з Соняй, яны вельмі падобныя характарамі, дык Антон будзе там у ланцужку, дзе і наша мама. Яны, Аня і Антон, заўсёды былі ў сямействе Тычын — не столькі ўзростам, колькі аўтарытэтам — старэйшыя. І калі яны ўдваіх разыходзіліся ў меркаваннях, у ацэнках (што здаралася дужа рэдка), дык апошняе слова звычайна заставалася за Аняй (нашай мамай).

Як жа ёй, што ўсё жыццё столькі трымала на сабе, адказвала не толькі за адну сваю сям'ю, хоць ніхто, вядома, ёй гэтага не даручаў, было балюча выявіць: напаткала старасць! Гэта не быў звычайны жаночы жах перад старасцю. Прырода адарыла яе хараством, свежасцю твару, яснасцю вачэй, без усякіх жаночых старанняў і хітрыкаў захавалася і пасля 60-ці. («Ды ў вас, Ганна Мітрафанаўна, твар свяжэй, чым у нявестак вашых», — здаралася, скажа хто-небудзь досыць нетактоўна, у прысутнасці ўсіх.) Дасюль болем аддаецца ўва мне памяць пра тое, як яна раптам заплакала. Нешта спатрэбілася дастаць з гарышча нашага глушанскага дома. (Бацька пасля вайны пачаў яго будаваць, ды так і не пажыў у ім, завяршылі мамін дом мы, калі пачалі ўжо з братам зарабляць. К гэтаму часу дзевяць пруткоў-бярозак, з якіх усё пачалося, вымахалі вышэй за прыдарожныя сосны.) Дык вось мама, не, каб сыну даручыць злазіць на гарышча і, што трэба, дастаць, сама захацела ўзлезці туды. Што раней не раз, вядома, рабіла. Я памог ёй пералезці праз нязручна шырокі застрэшак, але, калі трэба было спускацца, яна ніяк не магла дацягнуцца да лесвічнай перакладзіны. Як я ні стараўся памагаць, стоячы ніжэй. Хоць ты ёй на тым гарышчы заставайся назаўсёды! І тут яна заплакала — з такой дзіцячай крыўдай на сваю бездапаможнасць. На раптам спасціглую старасць. Плакала і злавала на мяне, што я гэта бачу. Падымалася па лесвіцы — была адна, а спускалася — другая, старая.

Да раніцы ў доме ўсё было прыбрана, падлога, сталы, лаўкі вільготна святлелі. Пах крыві, кмену, перцу, свежыны трымаўся яшчэ доўга. Кожны з памочнікаў панёс сумку з салам, мясам, кольца-два каўбасы, усяго крыху, але і дастаткова: калі б пачалося следства за парушэнне закону, які забараняў смаліць свіней,



было б каго і за што абвінавачваць, — у карыслівым саўдзеле. А калі патрэбна была «палітыка», дык, калі ласка: за сталом выскаляліся наконт таго, *колькі добрых партфеляў не далічацца.*

Наогул жа палітыка па-глушанску — гэта «палітыка мухамораў». Што гэта такое, магу растлумачыць.

Па шашы ідзе высокі, не па-вясковаму, а па-заводску стары чалавек, г. зн. худы і пласкагруды, затое «адамаў яблык» выпінае, як у старажытнай чарапахі. Без акладзістай сялянскай барады, у нас барод не насілі, затое вусы, як у польскага пана, а на босых нагах нязменныя трэпы. Гук дзеравяшак і пранізлівы голас чуваць далёка.

— Гэта яны толькі разумныя, не было нікога і нічога да іх, да маладых. А вось пайду, звару і з'ем, трэба ведаць, умець, а то таго нельга, гэтага няможна. Хто вам сказаў?

У руцэ ў старога Мікадыма вялізазны кош грыбоў, але цяжка вачам паверыць: мухаморы! Ярка-чырвоныя, з атрутнымі белымі налёпкамі. А наогул жа само па сабе прыгожа, калі не ведаць, што гэта такое. І каб не гразіўся Мікадым зварыць іх і з'есць, камусьці назло.

— Трэба ведаць як, а не казаць. Казаць вы навучыліся.

Праз тры гадзіны бягуць па майго бацьку: Мікадым атруціўся! Але затое адвёў душу дзед.

На заводскую тэрыторыю сына доктара пускалі бесперашкодна пажарнікі, што стаялі на прахадной, яны ж і ахова. Амаль праз дзень я прыносіў бацьку «зельтэрскую», дзеля гэтага меўся ў нас шкляны паўтаралітровы балончык з алавянай галоўкай, з рычажком-гашэткай — усё як на вялікім, металічным. Прыгожая штуковіна, але як жа яна мне апрыкрала — сімвал маіх хатніх абавязкаў: куды б цябе ні клікалі сябры, абавязаны перш схадзіць і прынесці ваду для бацькі. З гэтае нагоды з мамай лепш не спрачацца. Сабе даражэй.

А вось старэйшаму брату нічога такога не даручаюць: ён сам сабе справу, работу знаходзіў, тую, што больш дарослая і цікавая. Кажуць, характар у чалавека такі, якія валасы — мяккія ці жорсткія. У мяне — трусіныя, прытым яўна ангорскай пароды. Затое ў Жэні — быццам металічная нітка-стружка, што звіваецца ў дробнае-дробнае кольца, каляна-рыжаватая, ніякім грабянём не прадзярэш.

Я мог ладзіць сабе экскурсіі па гуце хоць штодня. Дзеля пачатку цікава і небескарысна пакапацца ў кучах-звалках жалезнага лому за майстэрнямі, там столькі трубак любых калібраў. Лішні самапал каму перашкодзіць? Дзе тры, там і чатыры, есці не просяць.

Галоўнае ўпрыгожанне заводскага двара — высачэзная чырвона-цагляная труба, калі стаіш побліз, яна так грозна нахіляецца ад імклівых хмар, вось-вось упадзе на заводскі цэх. (І ўпала, напалавіну пакарацела ў ноч з 3 на 4 сакавіка 1943 года, калі мы ішлі ў партызаны.) У цэх я заходзіў, ужо пабыў раней на электрастанцыі, з напоўненым газаванай вадой балончыкам і штораз заваражана глядзеў на «баначнікаў» і майстроўшкловыдзімальнікаў, што кідаліся па круглай драўлянай платформе, на іх паўторы-рухі, дзеянні і нейкія высушана-звонкія галасы, выкрыкі здаваліся адначасова і радасна-вясёлымі і безнадзейна-механічнымі. З года ў год, дзесяцігоддзямі гута гнала бутэльку — паўлітроўкі, чакушкі і яшчэ — маленькія, у далоні хаваюцца, «мярзаўчыкі». На слыху ў нас было забабруйскае Ялізава (па-польску, Елізова), сястра нашай гуты, дзе і посуд, чаркі-кубкі рабілі, а пасля перамаганоснага паходу ў Заходнюю Беларусь пачулі мы і пра «Нёман» з яго сусветнай славай каляровага выдзімання. Глуша ж як была каралевай няхітрай паўлітроўкі, так і дасюль засталася. Але ў глушанцаў з гэтае нагоды комплексаў не назіралася. Праца з расплаўленым шклом заўсёды цуд, большы, меншы, але цуд.

Шчаслівы лёс і турысцкая пуцёўка закінулі мяне ў Венецыю, і нас павезлі на дальні астравок, каб мы паглядзелі, як робіцца венецыянскае знакамітае шкло. Там я пабачыў… сваю гуту. Так, вядома, шкляная чырвона-сіняя кветка або раскошная ваза — гэта не зусім тое, што гарэлачная бутэлька. Але ўсё астатняе, сам працэс… Тыя ж металічныя трубкі з драўлянымі накладкамі — імі набіраецца расплаўленае шкло з ваннай печы (у нас гэта: «баначка», як у іх называецца — не спытаў). І тыя ж грубыя нажы-напільнікі, якімі, папярэдне змачыўшы іх у вадзе, аддзяляюць, адсякаюць шкло. Ну, і ўласныя лёгкія гутніка, іх форма-аб'ём угадваюцца і ў бутэльцы, і ў вазе. Але што больш за ўсё падыграла майму глушанскаму самалюбству і патрыятызму, дык гэта характэрна выпінаючыя кадыкі («адамаў яблык») на напружаным горле шкловыдзімальнікаў-італьянцаў, яны больш не здаваліся мне імператарскімі, з рымскіх манет, — такія прасцецкія, глушанскія.

Расплаўлены пясок у сумесі з содай, мудрагеліста ашкляненылы, — мабыць, гэта было адно з першых адкрыццяў чалавека, найстаражытнейшы пячорны цуд, і яно па-ранейшаму ўражвае ўяўленне, жывіць фантазію. Я мог падоўгу стаяць і глядзець, як робіцца адно і тое ж, адно і тое ж — бутэлька. Як баначнік намотвае шкло, быццам пражу, усунуўшы канец трубкі ў пякельнае



акенца ваннай печы, накручвае, адварочваючы твар ад жару. Затым раз, і яшчэ, і яшчэ раз дзьмухнуўшы ў халодны канец трубкі, якая бесперапынна круціцца між далоняў, і атрымаўшы палаючы шарык памерам з курынае яйка, ён вешае трубку на кручок стаяка і бярэцца за наступную, пачынае ўсё спачатку. Працягвае ягоную працу майстар. Майстры — гэта звычайна рабочыя, старэйшыя, іншыя з вусамі, але такія ж па-хлапчукоўску худыя: ванная-печ, пастаянная спёка высушаць хоць каго. Колькі ні бегай да балонаў з зельтэрскай вадой — па чарзе ўсе да іх бегаюць, стукаючы трэпамі, — толькі потам умыешся.

Майстар пачынае набіраць, намотваць на «баначку» яшчэ шкло, раздзьмуваючы яго ўжо да памеру невялікай чырвонай грэлкі, шкло выгінаецца, матляецца, як гумовае. З шарам-кропляй, вось-вось згубіць, спяшаецца да металічных формаў, падвешаных да драўлянага насцілу; ад націску нагой металічныя шчокі схопліваюць шар-грэлку і фармуюць яго ў бутэльку. Вырваўся з шчылін дымок, бутэльку мокрым жалезам аддзяляюць, адсякаюць проста ў латок, які падставіла, трымае памочніца, адна з жанчын з тварамі, быццам крэйдай напудранымі; па канвееры бутэлька важна накіроўваецца ў печзагартоўку, калі па дарозе яе не скінуць сартавальніцы ў «бой». Затым у рагожавым кулі — у Бабруйск, на склад і г. д. Я яшчэ заспеў пару, калі бутэлькі адвозілі габрэі-балаголы, даўгія абозы ішлі па варшаўскай гравійцы.

Улетку невыносная спёка, узімку лютыя скразнякі, гарызантальныя — з варот у вароты — і вертыкальныя: высока над галовамі работнікаў не шклом, а павуцінай зацягнутае наверша, што было калісьці шкляным. Гэтага ўсяго, плюс спадчыннага, сямейнага туберкулёзу, калі няўхільна паміралі адно за адным спачатку, здавалася б, зусім здаровыя дзеці (чамусьці ў 17, у 18 гадоў: «А гэта іх бацька знарок заражае, тайком харкае ў талеркі» — і такое тлумачэнне існавала), — усяго гэтага камусьці было мала. У 1937-м пачалося такое, што заводскае пекла ўжо павінна было здавацца жаданым раем.

Парой пачынаеш думаць: а ці не ў тым быў сэнс самай дзікай бяссэнсіцы, каб людзі, якіх абышла яшчэ горшая доля, сапраўды адчувалі сябе шчаслівчыкамі?

1937-ы год да Глушы падбіраўся, як і ўсюды, — праз газеты, радыё, паведамленнямі аб маскоўскіх і ленінградскіх змоўшчыках, шпіёнах. І чаго ім, такім вялікім начальнікам, неставала, што яны ў шпіёны завербаваліся? — хітра-праставата здзіўляліся глушанцы, на ўсякі выпадак адмяжоўваючыся.

Калі паказвалі фільм: І. В. Сталін выступае па праекце Канстытуцыі, ніводнае месца ў зале Камінтэрнаўскага клуба не пуставала. Ваша прысутнасць абавязковая! — ніхто гэтага не аб'яўляў, але прыйшлі ўсе колькі-небудзь прыкметныя глушанцы. Прыкметныя, значыць прыкметнай будзе іх адсутнасць. Было гэта ў каго ўсвядомленым, у каго не дужа, ва ўсіх парознаму, але прыйшлі ўсе. Затое звычайнае лежбішча падлеткаў на падлозе перад экранам на гэты раз было пустым. Сам парторг завода Зянкевіч стаяў там і дабрадушна-строга глядзеў у залу. Здавалася, і парторг жадаў, каб яго старанні былі прыкмечаны. Кім прыкмечаны, хто за ўсім назіраў — нават вунь за кім! — пераканаўча не растлумачыш. Але кожны адчуваў на сабе нябачны, уважлівы, ацэначны позірк. Апроч таго, было проста цікава: добра разгледзець Сталіна. Цэлыя дзве гадзіны Сталін на экране! Я міжволі збоку пазіраў на бацьку, на маці — глядзяць напружана, сур'ёзна. Адно і тое ж, адно і тое ж: чалавек на трыбуне, паўгадзіны гаворыць, час ад часу паказваюць, як апладзіруе зала — я пачаў стамляцца, а таму займацца розным глупствам. Заўважаць стаў: Сталін дрэнна гаворыць. Не, не акцэнт, не цягучы голас — вось гэта якраз здавалася абавязкова-сталінскім і неадметным. Але выглядаў ён чамусьці няўпэўненым і таму як бы сярдзітым.

«Як сказаў вялікі рускі пісьменнік Гегель… даруйце, Гогаль…» — наша зала не тое што крытычна, а хутчэй засмучана варухнулася. Быццам з аднаго, адседжанага клуба пераселі на другі. У чалавека на трыбуне і ў *яго* зале (яна як бы з нашай звязаная, толькі мы ў цемры, а яны на святле), у іх там цікавая гульня: ён сказаў слова — яны заапладзіравалі, ён схапіўся за шклянку з газіроўкай і прыгубіў, дастаў як бы з цеснай-цеснай шчыліны яшчэ слова, — воплескі гусцей, даўжэй, ён з бутэлькі налівае ваду ў шклянку і зноў падносіць яе да вусоў…

Не, гэта не заднім лікам пераацэнка ў тым часе сябе, сваіх думак і пачуццяў. Вядома: «Сталін» гучала ў мазгах увесь час. Як удары пульсу. Помню, мне нейк падумалася (ці гэта пазней? Бадай, так, пазней): іншыя словы паступова становяцца лішнімі, непатрэбнымі, яно іх замяняе… І нібыта нават здольнае замяніць.

Так, думкі мае былі па-школьнаму «правільныя», у асноўным. А вось пачуцця не было — даверу і ласкі, — якое мелася быць як існуючае і абавязковае. Проста ў нашым доме, у нашай сям'і не было гэтага, і ў мяне не ўвайшло. Больш таго, я заўважаў, што яго наогул не было і ў глушанцах, якія акружалі нас. Лічылася, што ёсць, але не было. І, помню, мяне гэта засмучала. І бянтэжыла.



Вяскоўцы, калгаснікі, тыя любілі яшчэ і паразважаць. Сядзіць дзядзька, і ў пакоі не расстаючыся з пугай, чакае доктара, каб павезці да хворага, і тлумачыць, чаму ў нас усё так:

— Бо ў ботах! Ленін — у чаравіках, абыдзе, калі яма. А тут у ботах!..

І ўсе робяць выгляд, што не разумеюць: пра каго гэта. Ад бацькі ці ад маці, колькі я помню сябе ў даваенным часе, нічога такога не чуў. Не, адзін раз бацька дазволіў сабе — нават лыжку ў гневе шпурнуў:

— Падзялілі Польшчу з Гітлерам!

А мама неадкладна: ты выпіў, гаворыш і не ўзважваеш, табе паспаць трэба, адпачыць! — быццам стала паміж заразным і намі. Але гэта ўжо быў 1939-ы. А тады падбіраўся да Глушы 1937-ы. Як усюды, але калі хваля дакацілася і да нас, спрацавала глушанская спецыфіка. Дзе яшчэ такая лафа для НКУС — цягні невадам «польскіх шпіёнаў», навошта вывуджваць ворагаў па адным? У дзясяткаў людзей польскія прозвішчы, а да мяжы з Польшчай нейкіх сто вёрст, чаго тут доўга раздумваць? І загрэблі больш за 80 чалавек (з няпоўных трохсот рабочых), амаль усіх з прозвішчам на «-скі». На «-іч» — таксама многіх, ну, а заадно і Вакулу, і Пода Міхаіла Кірылавіча, але гэтых па спецспісах: леснікоў, настаўнікаў. А іншых па іншых спісах: ветэрынараў («заражаюць коней сапам!») падабралі ўсіх да аднаго, прарэдзілі, як моркву, інжынерна-тэхнічны кантынгент і г. д.

Не адных «палякаў» (сёй-той з «палякаў» захаваўся, нават на адказных пасадах), але калі школы, напрыклад, ачышчалі ад ворагаў, пачалі, натуральна, з польскай (той, што ля сажалкі: невад — сажалка, усё як па-пісанаму), з дырэктрысы, палячкі Навіцкай, дырэктар беларускай школы Пода Міхаіл Кірылавіч тут жа пайшоў за ёю ўслед. (Недзе і нешта сказаў пра «перманентную рэвалюцыю».)

Жонка Пода — чарнабровая і чарнавокая Марыя Данілаўна — даўно сябравала з мамай, і яна цяпер, вяртаючыся з Бабруйска, куды кожны амаль дзень ездзіла і там суткамі дзяжурыла ля турмы (тым больш, што ўжо не заведвала дзетяслямі, натуральна, работу такую давяраць больш не маглі), адразу ж прыходзіла да нас, а тут ужо сядзела і плакала цётка Віткоўская.

Гэтыя заплаканыя, што гайдаліся, як нежывыя маятнікі, жанчыны, гэтыя іх твары, вочы — колькі потым у вайну на іх нагледзеўся. У Глушы пастаўлены помнік-стэла (вуглаватую цэментовую «маці ў скрусе» глушанцы ахрысцілі «Дзікай Барай», быў фільм з такой назвай), на стэле імёны 102 франтавікоў,

падпольшчыкаў, партызанаў. Няма дасюль стэлы з імёнамі яшчэ 83 ці 85, палеглых на вайне Сталіна з «уласным» народам. І цішком аплаканых.

Як я гэта помню: маленькая постаць цёткі Віткоўскай, гойдаецца ўзад-уперад, яна ўсё расказвае, як *яны* пастукалі, як зайшлі, а разгублены Віткоўскі, істота не толькі бясшкодная, але якая здавалася заўсёды мне бесславеснаю, стаў прасоўваць ногі ў рукавы пінжака. Дачка Люцэ страшна закрычала, калі прачнулася і ўсё гэта пабачыла. (Яна пасля гэтага засталася на ўсё жыццё крыху «дзіўнаватай», «ненармальнай» — яшчэ адно гора Віткоўскай.)

Куды пазней я стаў разумець, як рызыкоўна паводзіла сябе наша мама: ёй, «кулачцы», ды ў 1937 годзе, больш бяспечна было б не прымаць у сябе такіх гасцей, сяброў. Што і нашай сям'і пагражае такая ж бяда, зусім не думалася, ну а што ў нас у Глушы столькі «ворагаў», амаль усе суседзі — «шпіёны», у гэта не верылі нават школьнікі. Аднойчы ўначы я прачнуўся ад здушанага плачу мамы. (Нашы ложкі па-ранейшаму ў адной спальні.) Яна рыдала, а бацька яе супакойваў, але так, што яна пачынала плакаць ужо ўголас.

— Не трэба, Нюрачка! Я толькі хачу, каб ты не ездзіла, як Марыя Данілаўна, не шукала, не дамагалася. Не трэба. Я адтуль не вярнуся, калі здарыцца. Кажуць, там б'юць. Што пад руку трапіцца — графін, табурэт, але біць сябе не дазволю! Няхай будзе, што будзе.

Колькі было людзей, якія вось так рыхтавалі сябе да сустрэчы з той нябачнай гадзінай, што бесперапынна выхоплівала мужчын і жанчын, яны без следу знікалі ў жудаснай прорве, — мы ўжо ведаем; чулі, прачыталі і аб тым, з чым там чалавек сустракаўся і як яго паступова ператваралі ў нешта іншае, не тое, кім ён лічыў сябе і яго лічылі. Але я ведаў бацьку толькі такім, якім ведаў, вялікае шчасце, што і яму не давялося сябе нанава пазнаваць у тых катоўнях. А ўратавала чыстая выпадковасць: данос на «сына памешчыка» (вось так павысілі сацыяльны статус бабулінай сям'і) трапіў у рукі таго рачэнца, бабруйскі энкавэдыст вазьмі і скажы сваёй маці, маўляў, і на Адамовіча, камінтэрнаўскага доктара, напісалі. А тая па вясковай сваёй прастаце заступілася: які ж ён памешчык, ты ж іх ведаеш! Ну, памешчык, не памешчык, а калі яшчэ адзін данос паступіць…

У маім уяўленні бацька быў менавіта такі: ён не дазволіць нікому сябе прынізіць. Характар, запальчывасць — тут і да трох не лічы. Помню, якім ён здаўся мне страшным, калі бег ад бальніцы да нас, што расклалі вогнішча амаль пад саламянай страхой хлява. (А ўсё пачалося з павелічальнага шкла, якім мы з Мінькам выпальвалі на бярвенні свае імёны.) Да самай начы я не прыходзіў дамоў. А калі ляжаў у ложку, затаіўшыся, і бацька спытаў пра мяне, ён сам раптам сказаў:

— Добра, што парсюк гэты ўцёк! Гэта ж трэба, ледзь бальніцу не спалілі.

Мама неяк расказвала пра выпадак, як бацьку павезлі да парадзіхі ў «кацапскую» вёску. Кацапамі называлі ў акрузе старавераў, што пасяліліся тут у часы ніканаўскага расколу. У іх свая, «старая», царква, звычаі таксама свае, строгія, крутыя: не есці і не піць з аднаго посуду з «нячыстымі». «Лягчэй чалавека заб'е, чым закурыць», — пра іх казалі, «без Бога ні да парога», — у назве любой «кацапскай» вёскі «Бог» абавязкова: Багуслаўка, Багушоўка… Наогул, і пасля 300 гадоў іх лічылі крыху чужакамі, а таму небяспечнымі.

Тая бацькава паездка нібыта пацвярджала такую іх славу. Прывялі ў дом і раптам аб'яўляюць: выратуеш яе — нічога не пашкадуем, памрэ яна — памрэш і ты! Вось так, калі ласка! Бацька ім: «Будзе відаць. А пакуль усе ідзіце прэч. Жанчына няхай застанецца, грэць ваду, памагаць». Парадзіха, на шчасце, не памерла. Назад едзе ў санях, а ззаду за імі яшчэ нехта, суправаджаюць. З чым, чаго, усякае думалася: можа, хочуць прыбраць па дарозе, баяцца, што ўладзе паскардзіцца? Не, праводзілі ажно да хаты Пагоцкіх. Раніцай мама выйсці хоча, а дзверы падпёртыя, не паддаюцца. Ажно — на ганку нейкія бочачкі, мяшкі. Бацька загадаў у бальніцу аддаць усё гэта — мёд, сала, лой (таплёны тлушч). Мама частку лою ўсё-ткі прысвоіла: бацька хварэў на сухоты, а тады лячылі толькі тлушчам (нават сабачым, і бацька таксама ім лячыўся).

Як ён мне падабаўся, бацька, калі збоку назіраў за ім, што крочыў па шашы або праз базар. Усе з ім раскланьваюцца, і ён з усімі. Малады, стройны, на добра паголеным твары радасць нечаканага адпачынку, хаця кіруецца ён на выклік, да хворага. У руцэ прыгожая, лакам пацягнутая палка (з Кіславодска прывёз, адзіная іх, бацькі і маці, паездка на курорт), ён так здорава грае, пакручвае пад настрой сваёй палкай, часам «прапелер» атрымліваецца. Ніхто не здагадаецца, што палка гэтая — ад злых сабак, не раз даводзілася адбівацца яму.

У «Сынах» я пісаў пра «радыус аўтарытэту сельскага лекара». Вёрст за 30–40 ад Глушы якая-небудзь цётка, пачуўшы ад партызана (хлопцы на гэтым зараблялі яечню ці яшчэ што-

небудзь смачненькае), што вось гэты завашыўлены падлетак — доктараў сын, з Глушы, пачынала нада мной галасіць, як над нябожчыкам: «А Бо! А Госпадзе! І ён ходзіць з вінтовачкай, галодны…» — хапай шапку і ўцякай!

Думаю, што, калі б «сына памешчыка» ўсё-ткі забралі, маглі б спытаць, як у дзядзькі Антона пытаў следчы:

— Гэта навошта вам такі аўтарытэт? Што, рыхтуеце людзей, рыхтуецеся да моманту, калі пачнецца вайна, каб павесці насельніцтва супраць савецкай улады?

Тады дзядзьку Антону пашанцавала: магілёўскіх энкавэдыстаў струбіла нейкая іншая банда з іх жа ведамства і групу іх падследных выпусцілі: раз вас арыштавалі ворагі, значыць, вы не ёсць ворагі! — на жаль, не ўсюды такая логіка спрацоўвала. Нават калі саджалі і расстрэльвалі следчых, іх ахвярам гэта аніяк не дапамагала. А вось дзядзьку памагло, выпаўз ён з трубы (у нейкай падземнай цэментовай трубе іх трымалі, турмаў ужо не хапала), ссівелы і прыгорблены яшчэ больш (раней высокі рост яго горбіў).

Штогод у студзені месяцы ўся наша школа з класаў выходзіла ў доўгі школьны калідор і сотні нашых дзіцячых сэрцаў зміралі, трымцелі, асабліва калі мы спявалі словы: «закрыли орлиные очи твои». Дзень жалобы, дзень смерці Леніна. Не помню, як прайшоў гэты дзень у 1937, у 1938 годзе: стаялі побач дзеці «ворагаў народа» ці ім не дазволілі? А калі з намі разам спявалі і яны — пра каго былі іх слёзы? Пра яго, хто з такой чаканай радасцю аб'яўляў прышэсце *гвалту, не абмежаванага ніякімі законамі*?

Напярэдадні вайны Глуша ўзбройвалася. Калі мець на ўвазе ўзрост ад дзесяці і да шаснаццаці-сямнаццаці. Бадай, вінаватыя былі ў гэтым перш за ўсё кінафільмы, там усё больш стралялі, прытым ужо з гукам. А ў завадчан столькі спакуслівых металічных трубак, з якіх можна і самапал, і гранату зрабіць. Ад сярнічак (галовак ад запалак) хутка перайшлі да самаробнага пораху, хімію ў школе вывучалі і ведалі, што патрэбна толькі сера, салетра і вугаль. Ну, а для гэтага ёсць аптэка, больш таго — сярод самапальшчыкаў аказаўся і сын загадчыцы аптэкі. Націск быў такі, што я аддаў перавагу ролі злодзея, чым рэпутацыі, мянушцы баязліўца. Цягаў з «матэрыяльнай» (пакой у аптэцы, дзе захоўваліся запасы лекаў) салетру і серу, заміраючы ад жаху і чакання, што мама рана ці позна даведаецца, хто такі яе Саша, яе сын.

Краў ды яшчэ падстаўляў сваіх бацькоў. Сапраўды, хаця тады пра гэта зусім не думалася, але калі б каму-небудзь з бабруйскіх



энкавэдэшнікаў (як гэта было ў Саратаве ці дзе-небудзь у іншым месцы, пра тое напісана) захацелася адзначыцца, раскруціць справу пра «тэрарганізацыю дзяцей ворагаў народа», лепшага аб'екта, чым наша Глуша, яму б не адшукаць. Столькі гэтых самых «ворагаў», а ў іх дзяцей столькі, у многіх «ствалы», ды такія, што вавёрку, варону збіць можна вельмі проста. А чаму не каго-небудзь з актывістаў, парт- або саўработнікаў? Дзе порах доставалі? А, ясна — праз сына «кулачкі». Артыкул ад такога вось красавіка вось такога года: расстрэл дазваляецца з 12 гадоў, калі вораг, калі тэрарыст. Самім Сталінам санкцыянавана. А потым ён пераконваў пасланага Еўропай Рамэна Ралана, маўляў, затэрарызавалі бедную савецкую ўладу, камуністаў, актывістаў зласлівыя маленькія нягоднікі, нацкаваныя класавымі ворагамі. Мяккавусы правадыр трызніў наяве, а вялікі гуманіст сядзеў, слухаў — не ўстаў, не пайшоў, хаця б моўчкі, не, усё намагаўся зразумець логіку вар'ятаў…

Заставалася і ў нас даказаць, што была змова, але калі ўся Глуша была нашпігаваная «стваламі», зрабіць гэта было б працай простага.

Як яны не пайшлі гэтым шляхам, а ўсё перадаручана было ўчастковаму міліцыянеру — яшчэ адна загадка, выпадковасць, шанцунак?

Гром грымнуў нечакана: нехта зазірнуў у час уроку ў клас, назваў маё прозвішча! Да дырэктара! Такога яшчэ не было, калі мне і даставалася, дык на ўзроўні настаўніка, нават да завуча не цягалі. Увайшоў у настаўніцкі пакой, а там ніякага дырэктара, міліцыянер чакае. І адразу да справы. Колькі ў цябе (прозвішча? так, правільна), дык колькі ў цябе падпалянцаў? Вядома, ніводнага, хто ж у гэтым прызнаецца? (Кроў аж у цемечка б'е!) У мяне ў партфелі доказ, варта пайсці ў клас і зазірнуць у маю парту. Праўда, самы маленькі, амаль цацачны самапал. Але ні абшукваць, ні нават палохаць мяне ўчастковы не збіраўся. Ён нават заўсміхаўся падбадзёрваюча, бачыў, як доктараў сын збянтэжаны і напалоханы адным толькі падазрэннем, што ў яго, як і ва ўсіх, можа быць самапал. Добра, ідзі! А мне паклічце вось такога.

Прыйшоў я з школы, а дома яшчэ адзін сюрпрыз. Пячнік палез на гарышча і выпадкова знайшоў, выцягнуў з-пад лежака наган — «вось такі!» (мама рукі развяла зусім па-рыбацку). Не твой? Але мяне ўжо міліцыянер дапытваў і то… Недаўменна ўскінуў плечукі: адкуль я ведаю, мы ж не адны ў гэтым доме жывем. (Няпэўны намёк на Дзёму і Грышу Савіцкіх, нашых

суседзяў. Ці сумленна зрабіў — падумаць не паспеў, ужо сказаў.) Цікава, як многае даваеннае, передваеннае амаль як у люстры паўтарылася ў вайну. Хоць бы гэтыя самыя гранаты, нашы самаробкі, а потым сапраўдныя, запал ад адной з такіх выбухнуў пад рукой (пад сякерай, гэта трэба было дадумацца секчы!) Дзёмы Савіцкага, пашкуматаўшы яму руку, а Жэню дробнай меддзю пасекла ўвесь твар, пашкодзіўшы вока. Але мы ішлі да гэтага, калі ў лесе кідалі закляпаныя з двух бакоў трубкі-цыліндры, напоўненыя «маім» порахам. Не для цікавасці сённяшніх падлеткаў: сярод цыліндра напільнікам робіцца прарэз, ніткамі навязваецца дзясятак сярнічак галоўка да галоўкі — чыркануў і шпурляй! Бухала так, што здавалася — у Бабруйску пачуюць! Мы зараз жа разбягаліся. Як разбегліся і пасля выбуху запала, спалохаўшыся, што набягуць немцы.

Мы былі аднолькавыя, што да вайны, што ў вайну, — толькі з прыходам немцаў гульня стала справай.

Гэта калі мець на ўвазе нашу хлапчукоўскую страсць да стралянiны, выбухаў, зброі. Але ж многіх напрасткі датычыліся — і як хваравіта! — рэчы, якія мяне не кранулі. Я не ведаю, пра што размаўлялі начамі ў сем’ях, якія ў адначассе пазбавіліся бацькоў, а жонкі і дзеці сталі «сям’ёй ворага народа». Хутчэй за ўсё, звыкла шукалі злачынцаў-згубіцеляў сярод саміх жа глушанцаў, тых, хто мог напісаць данос, напаклёпнічаць. Здавалася, што ў іх уся справа, яны галоўныя віноўнікі.

— Некалі, калі ў турму трапляў адзін з вёскі, гэта была такая рэдкасць. Цяпер жа такое робіцца, што ж гэта робіцца? — пытала ў нас Віткоўская.

Пра ваеннапалонных і яшчэ — пра паліцаяў, уласаўцаў. Мая Глуша не ўсё растлумачыць, але сёе-тое раскрые, ужо ж тут я ведаю ўсё як след: каму ўлада даваенная і які шлях акрэсліла, куды штурхала-падказвала і як, тым не менш, той ці іншы чалавек павёў сябе ў вайну. 83 ці 85 сем’яў мелі поўнае права лічыць сябе ворагамі савецкай улады, яна сама іх аднесла да гэтай катэгорыі і ўсё зрабіла, каб гэтыя людзі ўспрынялі прыход немцаў як збавенне. Дык вось: значная большасць дзяцей і жонак «ворагаў народа» зрабіліся падпольшчыкамі, партызанамі. У паліцыю, ва ўласаўскую армію ўступіла з такіх сем’яў роўна сем чалавек. Не, я ад гэтага не прыходжу ў замілаванне. Не вартая была ўлада Сталіна таго, каб яе абараняць. Тым больш сабой і дзецьмі ахвяраваць, ім, адрынутым і апляваным. Тым больш што надзьмута-вусаты правадыр і ўся піраміда яго бессэнсоўна жорсткай улады паводзіла сябе, як банда, якая ў заложнікі



захапіла цэлы народ, краіну. Тым і прыкрыла сябе: змагаючыся з новым, не меншым азвярэннем, гітлераўскім, ратуючы сябе, краіну, народ ратаваў і сталінскіх катаў, учарашніх і заўтрашніх.

Учора так не думалі? Улетку 1942 года «кулачка» (наша мама) папярэдзіла сына «ворага народа» Эдзіка Віткоўскага ад непапраўнага кроку:

— Крыўдуй, Эдзічак, на каго хочаш. Ты маеш права. Адно не на Радзіму. Ты ж ведаеш, што і маіх бацькоў выслалі. Таму паслухай мяне!..

Так, Сталін усё рабіў, абы ў нашай свядомасці ён і радзіма зліліся ў адно цэлае, здалёк многім гэта так і бачыцца. А насамрэч…

Я чамусьці ўпэўнены, што адным з важнейшых складнікаў перамогі над фашызмам, над Гітлерам, было пачуццё (часам глухое, свядома прыціснутае) непрыязі, а то й нянавісці… да Сталіна. Ішлі ў бой з яго імем? Сапраўдныя франтавікі нічога такога не прыпамінаюць. А калі хто і крыкнуў: «За Сталіна!», дык салдацкая (а гэта пераважна сялянская, калгасная) раць успрымала заспінныя палітрукоўскія выкрыкі як горкі, амаль здзеклівы напамін: мала нам было свайго «фюрара», яго калгасаў, галадухі, турмаў, дык яшчэ адзін «вызваліцель» прыпёрся, аб’явіўся на нашу галаву! Не, гэтай уладзе заўсёды (але, здаецца, час гэты скончыўся) страшэнна і незаслужана шанцавала. Нават цяжкадонная нянавісць, якая старанна глушылася, якую змагла камуністычная ўлада ўзрасціць у народнай душы — да Сталіна перш за ўсё, — нават гэта паслужыла выратаванню ўлады Сталіна і яе ўмацаванню. Здушаны гнеў, які не мог проста прарвацца супраць Сталіна, накіраваўся на Гітлера, абрынуўся на немцаў. (Як злосць супраць нягодніка-айчыма, які прыйшоў на месца ліхадзея бацькі, што ўцёк: мала нам свайго, дык цяпер гэты!)

Доказ таму, што Сталін звярыным чуццём улавіў самую малую небяспеку, пагрозу сабе, ведаў сапраўдную цану прапагандысцкай «любові» да «правадыра і настаўніка» і меру глыбіннай народнай нянавісці да яго парадкаў і да яго самога, — у яго неадкладных рэпрэсіях пасляваенных. Ён усведамляў, што нават нібыта сумесная з генералісімусам Перамога над смяротным ворагам калі і прымірыла народ з ім, дык гэта ненадоўга. І заспяшаўся, тут жа ўзнавіў наступ на галоўным і пастаянным фронце — унутраным.

Ва ўсе гэтыя падзеі: 1937-ы і наступныя гады, у вайну я ўваходзіў адзінаццаці-чатырнаццацігадовым. Апроч таго, што

адбывалася з усімі, было яшчэ нешта — тое, што адбывалася са мной, ува мне, вядомае толькі мне аднаму.

Адкуль ні глянь: з далёкага-далёкага дзяцінства, з-за прасвечанай лямпай шырмы з лугавымі кветкамі-разводамі, за якой я хварэў на шкарлятыну і дзіцячую свінку, або праз паўвекавую мутнаватую далеч пражытага — адкуль я на сябе 12–14-гадовага ні гляну, здаюся сабе як бы *падмененым*. Магчыма, гэта здараецца і адбываецца з усімі, з кожным, як толькі ў дзіцяці пасяляецца адчуванне, покліч полу і веды пра смерць. Г. зн. калі нанава паўторыцца, ужо з табой асабіста: выгнанне з раю. Або: паўторнае пазбаўленне роду чалавечага яго неўміручасці. (Якое я таксама на *асабістым* узроўні перажыў, але не 6 жніўня 1945 года, калі выбухнула бомба Суднага дня, а мы нічога не зразумелі, а куды-куды пазней. Калі пачалі разумець.)

Жыццё мяне вельмі доўга аберагала ад уражанняў смерці, але любоўю адарыла вельмі рана.

У Глушы, вядома, паміралі, і дзеці таксама бачылі, як плакалі, як выносілі-адвозілі труну з *чалавекам* у бок бровара Дойнічава, там нашы могілкі. Але я *ўбачыў* смерць, яна ўвайшла ў мой зрок, засталася ў свядомасці (усвядомленая), калі ўскрывалі ў бальнічным двары цела самазабойцы. Спачатку трасянула, быццам токам, Глушу: «Клакоцкі застрэліў жонку!» Застрэліў з паляўнічага ружжа і кудысьці ўцёк. Глуша замерла ў чаканні і цікаўнасці, як будуць ісці падзеі. Ужо да паўдня — новая вестка, незразумела, як і кім распаўсюджаная: «Клакоцкі ўтапіўся ў Млынку!»

Бачылі гэта падлеткі, што купаліся ў Краснай, рачулцы, якая цячэ пад варшаўкай за тры вярсты ад Глушы. Менавіта там аб'явіўся збеглы забойца, вельмі ўзрушаны, як запомнілася дзецям. Потны дзядзечка спытаў, дзе тут глыбокае месца, пакупацца. Глыбокае на рэчцы Красная адно месца — Млынок, цёмная між алешын вада, дзе б'юць халодныя крыніцы, а дна не дастаць. На тым месцы стаяў калісьці млын. Дзядзька адразу ж нырнуў, не распранаючыся, паплыў, куды паказалі, а там раптам ускінуў рукі і знік пад вадой. Ды так і не вынырнуў, ні разу.

Ускрываў *цела* мой бацька — чамусьці ў двары, перад бальнічнымі вокнамі, пры тым прысутнічалі прыезджыя з Бабруйска незнаёмыя людзі. (Магчыма, яны і распарадзіліся так, каб заставацца на свежым паветры.) Уразіла стэарынава-празрыстая белізна мёртвага цела і тое чырвонае, што рукі бацькі як бы адкаркоўвалі.

І яшчэ глушанская смерць (дзве смерці адразу), таксама звязаная з Млынком. Сяброўкі купаліся, у адной нозе звяла сутарга, другая кінулася яе ратаваць, але тая, што танула, абхапіла яе за шыю, ды так, што потым іх ледзь разнялі, акачанелых.



На ўсё жыццё засталося ўва мне: любую смерць як бы бачыш вачыма маці нябожчыка. Заўсёды спытаеш: а маці ў яго жывая? Толькі так смерць даходзіць да свядомасці ўся, як ёсць.

Быў якраз базарны дзень, дом, дзе стаялі дзве труны і сярод тлуста-чырвоных вяргінь і пяшчотных флоксаў ляжалі ў белых сукенках, як нявесты, сяброўкі-тапельніцы, быў побач з базарнай плошчай. Хто прадаваў, хто купляў, а хто знарок прыйшоў, усе тоўпіліся перад домам дзяўчат і іх няшчасных маці. Заводскія кватэры іх праз сценку, тут жа перад акном гароды, і, каб прайсці да суседзяў, спачатку трэба было выйсці па вузка, плятнём выгараджанай сцежцы на вуліцу. А потым па такой жа вярнуцца да дома, у суседнія сенцы. Людзі праходзілі ў дом, выходзілі, адтуль чуўся плач, то з адной, то з другой кватэры або з абедзвюх адначасова. І раптам нейчы пачынаў гучаць ужо на вуліцы, тады і другі з дома выходзіў, няшчасныя маці ўжо бачылі адна адну і цяпер разам крычалі, клікалі сваіх дзяўчатак, сваіх красунь. З раскудлачанай галавой, з невідушчым позіркам і нейкім жывёльным выццём-лямантам ішлі, адна па сваёй вулачцы-сцежцы, другая па сваёй, а выйшаўшы на вуліцу, кінуліся адна да адной і, абняўшыся, ужо разам плакалі і крычалі. І тады, здавалася, пачынала плакаць, крычаць уся базарная плошча.

Не ведаў я тады, што вось з такім выццём, з такімі ж распарана, непазнавальна страшнымі тварамі будуць хадзіць слепабессэнсоўна мая мама і цётка Віткоўская, хаваючы (жыўцом, але яны таго не ведалі) сваіх сыноў. Калі смерць, што раней недзе хавалася і толькі час ад часу аб сабе нагадвала, вырвецца на варшаўку, уладна, па-гаспадарску будзе стукаць у вокны, у дзверы дамоў. (Але хіба яна не стукала, і ўжо куды як пагаспадарску, калі нібыта хавалася? Але, мабыць, так мы былі зробленыя: каб разгледзець свае лагеры смерці, нам трэба было пабачыць нацысцкія, а каб зразумець Сталіна, павінны былі пазнаць Гітлера.)

Смерці няма, сказаў мудрэц. Яе няма, пакуль я жыву. А калі яна прыходзіць, няма мяне. Сустрэча з ёю немагчымая. Калі нішто іншае ўжо не можа суцешыць, суцяшаюць сябе гэтым. Але ўсе ведаюць: ёсць. Чужая, як свая, свая, як чужая.

Цуд і загадку кахання я стаў разгадваць рана. Ледзьве не ў дзевяць гадоў. Колькі я помню, Лялю Стрэпетаву прывялі да нас у 2-і «Б» клас. Прывялі новенькую і пасадзілі за першую парту: быццам лёгкі матылёк заляцеў у акно і спусціўся проста перад

вачыма. Гарадскі бант на касе яшчэ больш нагадваў матылька. Адразу даведаліся, што яна пляменніца дырэктара школы. (Да Міхаіла Кірылавіча Пода быў у нас іншы дырэктар, але запомніўся толькі таму, што быў дзядзькам Лялі Стрэпетавай.) І яшчэ стала вядома: сірата, бацькі ў яе памерлі. Ці не таму такі засмучоны заўсёды і безабаронны ў яе выгляд? І ўся яна такая кволая, паветраная. Апранаў яе дзядзька, як лялечку (відавочна, па нашых, глушанскіх мерках), а тут яшчэ імя — Ляля. Плача, калі тройку атрымае, — памерці можна. Са смеху. Няхай нехта са смеху заходзіўся, а я, прыкідваючыся такім жа, абміраў ад шкадобы да дзяўчынкі-матылька. Што менавіта гэта называецца «страстью нежной», каханнем, падказваў мне Пушкін. Не аднымі толькі пявучымі радкамі, але яшчэ і тым незразумелым пачуццём, якое будзіла ўва мне само слова: Пушкін. Бясконца змалёўваў з партрэтаў імклівы профіль, успушаныя бакенбарды, адкладны белы каўнер. Бясконца мог глядзець у такі светлы, ні на чый не падобны твар. І як замёр-спалохаўся аднойчы, калі здалося: ён *глядзіць*, ён бачыць мой закаханы позірк! Вось гэтак жа адбывалася, калі Ляля азірнецца, а я свае вочы не паспеў адвесці ўбок: як варам залье ўсяго ўнутры.

Жыў у заўсёдным страху, што яна паглядзіць у мой бок ці, яшчэ горш, сустрэнемся з ёю нечакана твар да твару. Уяўляю, якім насупам я ёй здаваўся, калі яна, вядома, заўважала маё існаванне, недружалюбным і як бы злым на яе за нешта. І адначасова — неадступнае жаданне пабачыць, загаварыць, глядзець, глядзець на пяшчотны, як бы зусім празрысты тварык, у неpraўдападобна блакітненькія вочы. Чамусьці плакаць хацелася, мабыць, ад пяшчоты, што распірала мяне. Бег у клуб на кожны фільм: а раптам і яна прыйдзе? Чакаў да апошняга на верандзе, ужо і фільм пачнецца, а я ўсё гляджу на шашу: ці не яна там са сваімі дзядзькам і цёткай? Каб хаця пабачыць тоненькую фігурку, прасачыць, дзе яны сядуць у зале. Гэта мне трэба было ведаць дзеля таго, каб, калі святло патухне, ускочыць на ногі і глядзець, глядзець у той бок. Загараўся экран, я адразу садзіўся і чакаў-чакаў, калі што-небудзь сапсуецца і заглухне кінаперасоўка. Вечныя пакуты для глушанскай публікі — гэта заўсёдныя абрывы кінастужкі ці заглохлы матор — для аднаго чалавека ў зале былі хвілінамі асалоды. Пры святле або без святла, але я мог паглядзець *у той бок*, пабачыць яе або проста ведаць, што яна там. Кінасеанс зацягваўся часам да 2, да 3 гадзін ночы, цярплівыя кінагледачы ўжо высыпацца на крэслах ці лаўках, а падлеткі — на падлозе перад экранам. Кіно рана ці позна канчалася, а ў чалавека яшчэ адна шчаслівая магчымасць: у час выслізнуць на веранду і паглядзець на яе зблізку, хаваючыся за людзей.



Ды ці існавала яна для мяне фізічна? Ва ўсякім выпадку, я амаль не паверыў, калі ўбачыў, што сярод дзяўчынак, што беглі старонкай і стараліся як мага больш непрыкметна і далей ад «мужчынскіх», г. зн. нашых, вачэй праслізнуць у жаночую палавіну прыбіральні, якая стаяла наводшыбе, што ў гэтай чародцы і яна. Што, гэта і яна хіхікае там за сценкай, гучыць падаючым далёка ўніз струменьчыкам? Яна, як і ўсе? — крыўдна было мне з гэтым згадзіцца.

Мабыць, Ляля і сапраўды была прыгожая, таму што было шмат у нашай школе тых, хто закахаўся ў яе. Вось і мой аднакласнік Франц Стэфановіч, я з ім пасябраваў, як ні з кім, калі зразумеў: *і ён таксама*. Прыходзіў да мяне, і вечарамі, у цемры, далей ад чужых вачэй мы гаманілі пра Лялю. Гаварыў ён, а я слухаў гадзінамі, калі ж Франц выходзіў з ролі, якую я яму непрыкметна адводзіў — агучваць мае да яе пачуцці, — я зноў пераводзіў гаворку на тую, якую мы абодва кахалі, толькі ён адкрыта, а я тайна ад усяго свету. Пасябраваў я і з братам Лялі, калі б хапіла смеласці, лёгка магло б ажыццявіцца тое, што я і пасля дзесяцігоддзяў часам бачыў у сне: я прыходжу да яе ў дом, мы з ёю размаўляем, смяемся, яна паказвае нейкія кнігі, я, каб заняць уласныя рукі, што перашкаджаюць мне, важдаюся з патэфоннымі кружэлкамі і магу глядзець на яе тварык, пяшчотны рот, светлыя вочы, касу на худзенькай спіне. Але на гэта я ніколі б не адважыўся, затое мог колькі хацеў глядзець на яе брата і ў рысах яго твару, як далёкі водар, угадваць нешта агульнае з ёю.

І раптам яна паехала з Глушы. Матылёк заляцеў у акно, патрапятаўся пяшчотнымі, яркімі крыльцамі, дапаў на хвілінку да шторы, раптам адарваўся, і крыльцы расталі ў небе разам з хараством, невядома кім нанесеным на іх. Я месца сабе не знаходзіў. Але дзіўна, пераживаў і нейкую палёгку, нібыта надзею, што больш не будзе мучыць гэтая вечная туга, неспакой, якія мяне перапаўнялі.

А тут зноў у нашым класе новенькая — дачка прысланага на завод маладога інжынера. Яна адразу ж стала любіміцай глушанскіх шкаляроў. Было гэта не зусім тое, што наша каханне да Лялі, якая паехала ад нас. Тут хутчэй скандальная папулярнасць, чым прыгажосць. У клас увайшоў настаўнік гісторыі «Вельмі Дужы» (празваны так за ўлюбёны яго выраз і адпаведны вонкавы выгляд), руку ўздымае худзюшчая чарняўка з рэзкімі

рысамі твару і смелымі вачыма, просіць растлумачыць ёй «глушанскае слова». Якое? «Малафейка». Вельмі Дужы толькі і знайшоўся, што параіў — лепш выбіраць у Глушы сяброў.

Зблізілася чарняўка Валянціна з татавай пляменніцай Надзяй, што жыла ў нас, і я атрымаў рэдкую магчымасць пасябраваць з дзяўчынкай раней, чым закахаюся. Бо я адчуў: закахаюся! Зноў закахаюся! — з неспакоем і тугой гэта адчуў. Зноў пакутаваць на адлегласці, ад нясмеласці, трусасці. Спрабаваў пераламаць, загадзя перамагчы ў сабе гэта. Але не ўдалося. Вось ужо нямецы пачаў пры яе з'яўленні ў нашым доме, язык рабіўся шурпаты, сухі, а рукі, наадварот, мокрыя, потныя, як толькі пачую, што яна прыйшла, з'явілася. А дабіла мяне «Суліко». У Валянціны быў голас. Што пець і мець голас — гэта не адно і тое ж, мы ў гэтым не дужа разбіраліся, хто толькі не спяваў з клубнай сцэны, а тут перад залай устала ламана-худзенькая дзяўчынка, і нешта здарылася з людзьмі ў нашым звыкла-сумным заводскім клубе. І песня ж была як бы зверху ўхваленая (грузінская, а па тых часах усё, што з «сонечнай Грузіі», заключала ў сабе лірычны вобраз правадыра), і мерапрыемства было цалкам казённае, але пра гэта ніхто ўжо не помніў. Здзіўлена глядзелі на дзяўчынку, якая высокім дзіцячым і грудным жаночым голасам клікала і бласлаўляла каханне, горнае, чыстае, якое кожны носіць у сабе, як магчымасць, як мару, адно не ведае, як гэта выявіць, як пра яго, якімі словамі сказаць.

Бацька наш, калі выходзілі з клуба, камусьці (ужо не помню каму) сказаў і вельмі сур'ёзна: нельга ёй рана выходзіць замуж. Можа прапасці голас, паколькі ён не так прыродны, як дзіцяча-ўзроставы. *Голас цнатлівасці* ў такой, здавалася, развязнай і раскаванай, а, па глушанскіх мерках, і распушчанай дзеўчынёхі.

Я зноў не мог нават наблізіцца да любае істоты. А тым больш прабіцца не ўмеў, бо Валянціну заўсёды суправаджаў эскорт ухажораў, навербаваны з старэйшых класаў. Зноў марыў, як пабачу яе, хаця б зводдаль, у школе, у клубе, на шашы. І раптам у Глушу вярнулася маё першае каханне. Вярнулася ў школу Ляля. Вось тут на мяне абрынуліся тройкі і нават двойкі, дома не разумелі, што гэта раптам зрабілася з ранейшым пяцёрачнікам. Мне сталі забараняць тое, без чаго я жыць, здавалася, не мог: сядзі зубры, калі такі, ні кроку з хаты, а тым больш у клуб, у кіно. А я гляджу ў кніжку, рашаю задачкі, але думаю *пра іх*, адразу абедзвюх, мару, як пабачу Лялю, як пабачу Валянціну, хоць бы здаля пабачу беленькую, пабачу смуглянку, каго больш хочацца пабачыць, я ўжо і не ведаў. Сядзеў за школьнай партай,



а насамрэч знаходзіўся ў нейкім бесперапынным падзенні, аж галава кружылася, нават нудзіла: перада мной на пярэднняй парце зноў сядзіць дзяўчо-матылёк, а ззаду, «на галёрцы», нешта ўвесь час адбываецца, настаўнікі без канца: «Валянціна, чым ты занятая?», «Валянціна, зараз пойдзеш з класа». Спачатку гэтыя дзве руйнавальніцы нашых школьных душ (мы так гнёзды птушыныя руйнавалі, па-дзіцячы бязлітасна) стараліліся адна адной, як саперніцы, а затым, мабыць, зразумеўшы, якая яны сілішча, калі разам, сталі неразлучнымі, заўсёды поруч, усюды ўдзвюх. Але мне гэта было нават на руку, яны *ўва мне* і так поруч, адна і другая, як нешта адно. Але не, не яны адно, пачуццё маё *адно на абедзвюх*. Ну, зусім, як у Наташы Растовай, калі ёй думалася: а чаму нельга кахаць двух адначасова — князя Балконскага і Анатоля Курагіна? Перачытаў гэтае месца і зноў ахнуў і засмуціўся: куды ні сунься, у любы куточак уласнай душы, ва ўласную памяць, а там ужо бываў Леў Мікалаевіч, пакінуўшы сваю «візітоўку». Але ўсё ж не зусім так, раздваення на каханне «чыстае» і «прыніжана-плоцкае» не было, хоць, вядома, розніца заўважалася ў абедзвюх дзяўчынках, а магчыма, і ў пачуцці да іх. У ломана-стройнай чарнавокай Валянціне мацней угадвалася тое жаночае, што нас ужо хвалявала.

Але каб жа толькі хвалявала. У чарадзе падлеткаў, такой, як наша, рана ці позна адшукаецца спакуснік, маці не выпадкова так баяцца «падваротні». Але нам нінавошта былі падваротні, у нас быў лес, дзе схавацца лягчэй і дзе азарт, інстынкт пошуку, палявання на неспазнанае, неапрабаванае.

Аднойчы пасля шумнага катання-беганіны вакол слупа («гіганцкія крокі» на лясной паляне нам дасталіся ў спадчыну ад піянерскага лагера) я накіраваўся да групы хлапчукоў у кустах, якія чымсьці былі вельмі захопленыя, занятыя былі. Здзівіла, як ціха там у іх: яны што, у карты гуляюць? Стаяць шчыльнай групай і на нешта там у сярэдзіне глядзяць. Я пасунуўся, стаў на дыбачкі і раптам пабачыў! На пяньку сядзіць Генка «Сухарукі» і нешта там вырабляе ля сваіх каленак. Губа прыкушана, вочы скошаны на тое, што ён робіць, а калі ўскідвае іх і глядзіць на ўсіх, яны ў яго пуста-бессаромныя. А ўсе глядзяць на яго, на мільганне між пальцаў нечага агідна голага і чырвонага, верачы і не верачы ў тое, што перад імі, у іх перад вачыма. Тое самае і я, тое самае і са мной адбывалася ў тую хвіліну: быццам гэта я сам на тым пяньку, вось яно як гэта адбываецца, і я ўжо не ранейшы, ніколі ім не буду, назаўсёды нешта страчана, і жыць не хочацца…

Тое самае адчуў — як у шчыліну праваліўся, адкуль не дастаць, — калі я ўпершыню сеў гуляць у карты на грошы і нават выйграў. Выйгрыш вярнуў, пайшоў, і ўвесь дзень мяне тачыла нуда па чымсьці страчаным непапраўна, чаго мне не вярнуць, як я грошы вярнуў.

*Я абвінавачваю цябе, што ты здрадзіў свайму першаму каханню!..* Ян Багаслоў, кажучы гэта, меў на ўвазе нешта сваё. Але я ў той дзень, магчыма, гэта пачуў — ва ўласнай душы.

Ужо не помню, як было звязана тое, што я бачыў у лесе, і думкі пра самагубства, але яны мяне сталі пераследаваць, крадучыся, быццам кошка да птушкі. Зусім не пра тое нібыта думаеш, і тут прагучыць — як быццам твой голас, але дзіўна незнаёмы: «Павешуся!», «Застрэлюся!». Сядзіш, ляжыш і думаеш пра гэта, як гэта будзе. Марыш нават як быццам. Аднойчы зайшла ў спальню мама, убачыла, што я ўсё яшчэ ў ложку, не зрабіла звыклае заўвагі, што ўсе ўжо справай занятыя, а я тут валяюся, не, замест гэтага сказала:

— Паляжы, сынок, палетуцень!

Так ласкава, так добра сказала. Ведала б яна, пра што мае былі тады «мары». На сабе спазнаў, што такое «небяспечны ўзрост». Столькі раптам і аднамомантна прачынаецца ў табе, *абвальваецца на цябе знутры*, што справіцца з гэтым не ведаеш як.

У «Нямку» сваёй гераіні аддаў тое, што я сам тварыў і што са мною тварылася. Невядома навошта сцягнуў у бабулі круглую, з далонь памерам, іконку, мамінай п'янкой пахучай губной памадай мазаў сабе вусны, а затым станавіўся на калені дзенебудзь за бруднай шырмай на кухні, уладкоўваючыся ў цеснаце паміж ражак і вёдзер з прыгатаванай для парсюка і курэй кісла пахкай ежай, і жагнаўся, жагнаўся, гледзячы на Божую маці з дзіцяткам, біў паклоны. Смяротна баючыся, што нехта зойдзе, зазірне, убачыць. Але менавіта страх быў салодкі і заварожваў. Вось ім і цешыўся.

Між гэтымі днямі, падзеямі, што вядомыя былі толькі мне аднаму, і той ноччу, калі мы з братам у сваёй спальні, апрануўшыся, ляжалі і чакалі каманды — ісці ў лес, у невядомае партызанскае жыццё, было, мінула некалькі гадоў. І якіх. Мы паспелі здзейсніць «вызваленчы паход» у Заходнюю Беларусь (бацьку адразу мабілізавалі ў Чырвоную Армію), заключыўшы перад гэтым нечаканы дагавор з Гітлерам, Германіяй, мы разграмілі «белафінаў». А апошні год перад вялікай вайной я пражыў і правучыўся не ў Глушы, а ў дзядзькі Антона, і яшчэ два гады пражылі «пад немцамі». Усё гэта ўжо заставалася ззаду, ужо адбылося з намі, са мной, і, калі я ляжаў на ложку, адчуваючы сябе коканам у шматлікіх апратках, нацягнутых у запас, услухоўваючыся, як усё ходзіць па кватэры мама, выглядваючы ў вокны, і ўяўляючы, як мы апынемся ў партызанскім лесе і як мы будзем там жыць, я пры гэтым (добра помню) даваў сабе слова, што ўсё патаемна-благое я пакідаю тут, што *там* гэта са мною рабіцца не будзе. *Не да таго будзе*. Ішоў у лес, каб страляць, забіваць ворагаў, але я быццам ва ўласнае дзяцінства сабраўся, дзе ўсё так нявінна і чыста.



* * *

Пасля зімовай спячкі ў мядзведзя праблема: не можа «прасрацца». Ад доўгай лёжкі «корак» утвараецца. Ты і так, і сяк, а даводзіцца памучыцца.

— Так што цярпіце, грамадзяне эсэнгэ!

Прыблізна такімі словамі растлумачыў нашу сітуацыю таварыскі вадзіцель маскоўскага тралейбуса — гучна, праз мікрафон, не забываючы называць прыпынкі. Пасажырам яго аналіз спадабаўся, прынамсі, заўсміхаліся, атрымаўшы яшчэ і такую, яшчэ і ў такой форме інфармацыю.

Пішу пра сваю Глушу, а за спінай бальнічны тэлевізар: прэзідэнт Расіі аб'явіў асобы парадак кіравання на пераходны перыяд у краіне, не паспеў сысці з экрана, як узнікла фатаграфічна нерухомая чацвёрка. Гэта яшчэ што за «банда чатырох»? Не, твары якраз афіцыйныя, можна не непакоіцца. Але ж і тыя, у жніўні, былі знаёма-афіцыйныя і таксама вышэйшыя. Прыгадалася: вось гэты, вусаты ваяка, што так добра трымаўся ў жніўні, за два тыдні да путчу, нам, мемарыяльцам, з гарачлівасцю і гатоўнасцю да неадкладнага дзеяння, яму так уласцівага, паведаміў: Янаеў званіў і прапаноўваў узяцца за навядзенне парадку ў краіне! Што ж, цяпер разам з гэтымі вырашыў узяцца? Што, не тую курыцу зарэзалі ў жніўні?

Але вярнуся да віхі, да таго, што пражыта-пераэжыта ў часы дадэмакратычныя і датэлевізійныя.

Калі я пісаў свае першыя раманы, а дакладней, запісваў тое, што мая маці «ўласным жыццём напісала» (я так ёй сваю кніжку падпісаў, але яна як бы і не заўважыла) і дзе мы з братам толькі персанажы яе жыцця-рамана, прыйшло на думку параўнанне: жанчыны, што ваявалі пад стрэхамі сваіх хацін з акупантамі — гэта найняшчаснейшыя салдаты, якім у акопы падсадзілі іх малых дзетак. (Для маці дзеці яе заўсёды малыя.)

Я не збіраюся распачынаць безнадзейную ў літаратуры спробу — яшчэ раз выкарыстаць адпрацаваную, астылую пару. Перапісваць свае першыя раманы занава. (Калісьці такое пабуджэнне ўзнікала, але я яму не паддаўся.) Не, мэта ў мяне і задача іншая. Зірнуць на многае (і на самога аўтара раманаў) з такой будучыні, дзе ўжо бачны край жыцця. А раптам гэта здасца цікавым. Ці хоць бы карысным.

Адпачываў я ў Кактэбэлі[30] з сваёй дачкой Наташай[31] (якую бабуля, можна сказаць, і выгадавала), тады ўжо (ці яшчэ) другакласніцай. Пісьменніцкі Дом творчасці ў тое лета ўвесь амаль грыпаваў. Чарговы вірус, але былі і дадатковыя прычыны: нейкі дзеяч згроб і вывез на будоўлю прыхвалевую гальку, а потым, як і многае ў нас рабілася, пачалі адтуль сюды вазіць, але ўжо не адшліфаваныя морам каменьчыкі, а гліну, гразь. Давялося тэрмінова рабіць драўляныя насцілы на слупках — да віруса дабавілі пастаянныя скразнякі, услед за грыпам затэмпературылі пнеўманіі, плеўрыты. За тры дні да адлёту ў Мінск злегла і мая дачка, тэмпература высокая, а тут яшчэ перажыванні, слёзы, што спозніцца на заняткі ў школе. Прыйшоў малады доктар, паслухаў хворую, вымавіў: «Пляўрыцік». На тым бы яму і спыніцца, але ж не, удакладніў сваё ўражанне ад пачутага ў грудзях дзіцяці:

— Як свежы сняжок хрумсціць!

З мяне і хапіла. Заспяшаўся на веранду, на свежае паветра. Лекар выйшаў услед: «О, ды тут трэба тату ратаваць!» — і зрабіў мне ўкол «супраць спазмы».

Вось тады ўпершыню інакш паглядзеў на ўласную маці, на ўсё, што яна рабіла і як паводзіла сябе ў вайну. Задаў пытанне самому сабе: ну, а ты, мужык, ты змог бы з дня ў дзень, на працягу многіх і многіх месяцаў «працаваць на партызан» або кагосьці яшчэ, ведаючы, што наклікаеш, амаль напэўна наклічаш на ўласнае дзіця, вось на гэтае, жорсткую кару, пакуту, смерць. Не шкадавалі і дзяцей, сем'ямі вынішчалі, што было не выключэннем, а правілам у татальнай вайне. (Як, зрэшты, не шкадуюць і сёння прадстаўнікі народаў, што зусім нядаўна называліся «брацкімі».)

За вайну мы ўсяго набачыліся. Але вось адна сцэна, магчыма, таму што была першая, і назіраў яе зблізку — у двары, які ў думках усё яшчэ называў «бальнічным», — запомнілася асабліва. Я сядзеў, як часта тады рабіў, на лесвіцы, зверху назіраючы за тым, што адбывалася, а адбывалася тое, з чым мая школьная свядомасць усё ніяк не магла прымірыцца: акупацыя! Раптам расчыніліся дзверы камендатуры, за рукі з ганка звалаклі нейкага хлопца, следам выбеглі яшчэ два немцы — з палкамі. Хлопец (можа, старэйшы за мяне, але ўжо не старэйшы за Жэню), якога трымалі расцягнута, распята за рукі, быццам не ведаў і прыкідваў, куды ўпасці. Яго павалілі на траву, прыціснулі галаву, ногі да зямлі, а двое з палкамі тут ж приступілі да працы. Менавіта — *працы*. Гэта так страшна, і па гуку — быццам бабы валікамі выбіваюць мокрую бялізну над рэчкай ці сажалкай. Усё здавалася нерэальным, пакуль чалавек не закрычаў, а калі закрычаў — боль і жах чалавечай плоці, якая зразумела, што яе забіваюць насмерць, — здалося яшчэ больш немагчымым.



Потым даведаліся: хлопца схапілі ў вёсцы па падазрэнні, што да яго заходзілі «акружэнцы» — узброеныя чырвонаармейцы, якія пазбягалі палону, нашы першыя партызаны.

Што гэта, вось такое чакае і яе сям'ю, яе сыноў, калі раскрыюцца яе справы, куды непазбежна ўцягваліся і мы з братам — гэты жах у маці нашай жыў увесь час. На сябе, сваю Наташу падобную сітуацыю я прымерваў і не ў стане быў прымераць: як вось яе, дзіця, сам штурхнуў бы ў рукі мучыцеляў, катаў? Сваімі дзеяннямі, учынкамі асудзіў бы на нешта падобнае? Сябе гатовы падставіць пад любыя палкі, але дзіця, маё дзіця!..

Мабыць, меў рацыю сябра-філосаф, які напісаў, што радзіма — гэта не толькі нейкая прастора, але і час, у які табе давялося жыць. Так, сёння я не змог бы, як мая ўласная маці, дзейнічаць. Але гэта цяпер, а тады, раней? Ці каб быў я, напрыклад, жыхаром… старажытнай Спарты. Успомніў яе таму, што нядаўна ў Плутарха вось што вычытаў.

«Наступным ранкам, калі ўсім ужо сталі вядомыя імёны тых, хто загінуў і ацалеў, бацькі, родзічы забітых (г. зн. тых, хто загінуў у баі за інтарэсы Спарты. — *А. А.*) сышліся на плошчы і з ззяннем на тварах, перапоўненыя гонарам і радасцю, віталі адзін аднаго. Родзічы ж ацалелых, наадварот, заставаліся разам з жонкамі дома, як бы знаходзячыся ў жалобе; і калі хто-небудзь з іх вымушаны быў выйсці з дому, дык па яго вонкавым выглядзе, голасе і позірку бачна было, якія вялікія яго паныласць і прыгнечанасць. Гэта было асабліва прыкметна ў жанчын; тыя, што чакалі сустрэць свайго сына жывым пасля бітвы, хадзілі ў тужлівым маўчанні, тыя ж, аб смерці сыноў якіх было аб'яўлена, адразу з'явіліся ў храме ці наведвалі адна адну з вясёлым выглядам».

Калі з старога, яшчэ савецкага, Кактэбэля на гэта паглядзеў бы: дзіка! Ды і з Мінска, з Масквы, калі сёння глядзець — не зачароўваюць мяне спартанкі такім вось патрыятызмам. Куды больш нашаму часу сугучна, бадай, другая падрабязнасць, таксама зафіксаваная старажытным гісторыкам: «Маладзенькую

дзяўчыну-спартанку аднойчы нехта спытаў, ці даводзілася ёй спаць з мужчынам. “О не! — адгукнулася яна. — Гэта яму са мной даводзілася”».

Але вось у 1943-м у партызанскім лесе непадалёк ад вёскі Нязнань, дзе была наша веснавая стаянка, спартанкі Плутарха не здаліся б звар’яцелымі. У той красавіцкі (ці пачатак траўня) дзень, калі Кожычыха галасіла над сваім забітым сынам, амаль аднагодкам маім: яго забілі за 100 метраў ад таго месца, дзе я быў пастаўлены, стаяў на пасту. Для маці Міці — мы былі *там* разам, цяпер ён — мёртвы, а я жывы. Ён ляжыць на зямлі каля не астылых яшчэ кухонных катлоў, на скроні ледзь прыкметныя сінія плямачкі ад аўтаматных куль, ягоная маці ўздымае вочы і бачыць мяне. Мне хочацца схавацца за спіны або пайсці. Але самае галоўнае і крыўднае, хоча, каб я пайшоў, мая ўласная маці. Я гэта бачу, адчуваю па тым, як яна некалькі разоў незадаволена зірнула ў мой бок, як бы кажучы: «Ты яшчэ тут? Няўжо не разумееш?» Гэта яна, якая паўгадзіны назад атрымала свайго сына: ёй жа таксама паведамілі спачатку, што мяне немцы захапілі і павезлі, ці то жывога, ці то мёртвага. І вось, калі ласка.

Або яшчэ: калі наша мама, з той жа Кожычыхай і іншымі жанчынамі з санчасці і гаспадарчага ўзвода праводзіла групу на чыгунку ці ўвесь атрад — насустрач ужо бою, што грымеў воддаль, я і Жэня развітваліся з ёю, як і з астатнімі, паціскаючы руку. І яна нам паціскала руку, амаль так жа, як і ўсім іншым, хто да яе падбягаў, — *не ўласным дзецям*. Так, вочы нашы, сустрэўшыся, нешта і яшчэ, толькі наша, выказвалі, гаварылі, але наўрад ці хто-небудзь чужы, збоку, зразумеў бы, каму яна тут маці. Нібыта ўсім.

І толькі калі сына яе забівалі (г. зн. ёй так падумалася, здалося) — тут усё вырывалася на паверхню, цалкам руйнуючы вобраз інтэлігентна стрыманай жанчыны, якая так цнатліва ўтойвала свае матчыны пачуцці.

Калі ўжо ў партызанах Жэню параніла (яго напарніка Мішу Яфіменку немцы на тым бульбянішчы дагналі і дакалолі штыкамі), ёй пра гэта не казалі: пакуль яе сына не прывязуць і яна сама не пераканаецца, што, сапраўды, не забіты, а толькі паранены. Яна нешта адчула, занепакоена зазірала ўсім у вочы, а ад яе стараліся непрыкметна ўцякаць тыя, хто не ўпэўнены быў, што ўмела іграе як бы зададзеную кімсьці тэатральную ролю: *я нічога, і нічога не здарылася, усё як заўсёды*!

А тут у лагер вяртаецца з павозкай, нагружанай каровінымі шкурамі, шавец Бэрка, бачыць прыбітую, як яму здалося, горам жанчыну, атраднага лекара, спыніўся, каб суцешыць яе:



— Не бядуйце так, не трэба, Ганна Мітрафанаўна, яго прывезлі ўжо, там, на пасту, яны.

— Што? Жэня?! О Божа, забіты!

Упала, як падкошаная, да яе збегліся (здалёк за ёй сачылі), тут жа ўскочыла на ногі, адштурхоўвае нас, цяпер усе ёй ворагі, бо тояць праўду, страшную, якую пачуць баіцца больш за ўсё на свеце, але патрабуе яе, дамагаецца ад малодшага сына:

— Праўда? Скажы, сынок. Кажы!

І ласкавала-паддобрываючыся, і з нянавісцю. Я мармычу: так, праўда, мама, яго толькі паранілі, у плячо, лёгка — нават усміхаюся, каб толькі яна паверыла. Мне жудасна бачыць яе такую, на сябе не падобную, гэтыя ашалелыя вочы, гэтую раздушанасць і ў той жа час да ўсіх агрэсіўную непрыязь. Мне ўжо не да таго, каб брата шкадаваць, я цалкам з ёю. Але яна і гэта адчувае, яна ўсё адчувае, і таксама не даруе.

— Усе вы падманваеце, — раптам заплакала, адразу аслабеўшы. І тут жа: — Дзе ён? Дзе?

Пабегла па дарозе ў напрамку да паста, а мы следам за ёю. Але самы балючы ўспамін — першы выпадак, яшчэ ў Глушы.

Ужо прыйшлі-прыехалі немцы — на вычварна разнастайных машынах, на бране танкаў і ў люльках матацыклетаў, па-пляжнаму паўголыя, з закасанымі рукавамі, з шаўковымі шалікамі на маладых, брудна-потных шыях. Прыйшлі і прайшлі, а жыццё, здавалася, замёршы, насамрэч працягваецца, яно ў любых акалічнасцях цячэ, працягваецца. Нехта паехаў на заводскай машыне ў горад, вярнуўся, у іншых свае справы там, таксама сталі ездзіць. І Эдзік з Жэнем рашылі, ім таксама нечага спатрэбілася, захацелася. Са мной у мамы размова была б кароткая: яшчэ ён тут! Куды гэта ты паедзеш? І без цябе звар’яцееш! Але Жэня, кажы яму не кажы, ён з нецярплівай усмешкай, з бацькоўскай гарачлівасцю, але на сваім настоіць. І настаяў, і паехалі з Эдзікам. А пад абед вярнуліся машыны, і Глуша даведалася, што сына Адамовічыхі і Эдзіка Віткоўскага немцы схапілі каля рынка, там яны ўсіх хапалі, і некуды везлі.

Вось тут паўтарылася тое, што было на пахаванні сяброваквапельніц. Такі ж грубы, амаль жывёльны крык і выгляд, і ў каго — у нашай мамы! Яны, мама і Віткоўская, выбягаючы на шашу зноў і зноў, ішлі ў бок горада, як сляпыя, жанчыны-суседкі вярталі іх назад, угаворваючы, супакойваючы. А мне — лепш да сваёй маці не падыходзь, мяне яна проста не заўважала, а руку адштурхоўвала з незразумелай і крыўднай варожасцю. Як бы падазраючы мяне ў братняй нячуласці. (Мяне вечна ў

гэтым падазравалі: і калі бацька ішоў на фінскую вайну — пакрыўдзіўся, што я нібыта «не перажываю», як быццам нельга перажываць у адзіноце, лежачы ў цёмным пакоі, абавязкова за агульным сталом трэба.) Мама адштурхоўвала мяне гнеўна, амаль няўцямным позіркам, калі я пачынаў ёй нешта гаварыць: яшчэ нічога невядома, яны вернуцца, вось убачыш!..

І яны вярнуліся, як нічога такога не адбылося, на спадарожнай машыне, вясёлыя нахабы з закасанымі па-нямецку рукавамі, не разумеючы, а што, уласна, здарылася, у чым яны правініліся. У чым? Што? Ты б вось паглядзеў, што з мамай рабілася!

І зноў мама, як ранейшая, нават паверыць цяжка, што такое ёсць, тоіцца пад звычайнай яе стрыманасцю, *інтэлігентнасцю*, такой паважанаю ў Глушы. І вось, носячы ў сабе такі жах перад любой пагрозай яе дзецям, яна ўсё роўна паводзіла сябе так, як паводзіла, рабіла ўсё тое, што рабіла, — столькі дзён, месяцаў, нават гадоў. Чым далей я жыву, тым менш разумею яе ў гэтым. Але тым больш хачу гэта зразумець. Як і многае іншае…

Але што я зразумеў цяпер напэўна: усё яна рабіла не «з нянавісці да ворага». Хаця нас столькі гадоў выхоўвалі ў нянавісці да мінулых, цяперашніх, будучых ворагаў. «Навука нянавісці» — была навукай усіх навук.

Не, на бытавым узроўні гэтае пачуццё ёй было не чужым. Сведчанняў таму хапала. Як змяняўся яе голас, якімі непрымірымымі рабіліся вочы і адразу цямнелі, калі загаворвала з бацькам (не прама, але нават нам былі зразумелыя намёкі) пра Розу Маркаўну, якая загадвала аптэкай да мамы. Думаю, што мама паехала вучыцца ў Магілёў, перадаўшы нас «на рукі» цётцы Віткоўскай, каб не страціць у вачах мужа, з пачуцця саперніцтва з какетліва-круглавокай Розай Маркаўнай. Здаралася, што і пілавала мужа па начах, а спальня ў нас адна на ўсіх, і мы не маглі не пачуць. Аднойчы крык нас абудзіў: бацька некуды пабег, а мы, не верачы сваім вушам, чуем маміна: «Дзеткі, тата ваш забіць мяне хоча!» Ёй здалося, што ён пабег па сякеру, а мне, калі бацька вярнуўся з запаленай папяросай, здалося, што ў голасе маці, што так спужаў, было нешта знарок жаночае, *занадта жаночае*, для яе так не характэрнае. Так што са страсцямі ў нашай мамы было ўсё ў парадку.

І ў той жа час — ніякай, ну аніякай нянавісці і нават варожасці да тых, супраць каго яна тайна працавала, каго забівалі яе сябрыпадпольшчыкі, партызаны і хто, у сваю чаргу, мог і гатовы быў нас усіх знішчыць. Як гэта магчыма, не ведаю. Але менавіта так было, ужо ж я добра адчуваў сваю маму. Не было ў ёй, гэта дакладна, таго, што распірала, напрыклад, яе малодшага сына — злараднасці, калі я бачыў забітых або параненых немцаў, якіх, асцярожна здымаючы з пасечанай кулямі машыны, зносілі ў камендатуру. Маю гэтую неспатольную нянавісць, мабыць, адчуў малады немец, калі раптам кінуўся да мяне, да падлетка з вядром, што прагна шнырыў вачыма па залітых крывёю бартах машыны, — схапіў за плячук; я адскочыў у канаву і далей, далей ад яго, адступаючы да калодзежа, да якога я нібыта накіроўваўся.



Зімой 41-га ў дом да нас забег маладзенькі салдат, зваліўся на крэсла, сарваў закамянелы на марозе бот і, як шчаня скавычучы, пачаў расціраць збялелыя пальцы нагі, пры гэтым смешна грымаснічаючы, як бы правяраючы, ці ёсць у яго, ці жывыя нос, губы, шчокі. А, не падабаецца? Што, ад самае Масквы бяжыш? Са спальні выйшла мама з мякенькімі фланэлевымі анучкамі.

— Немцу? — крыкнуў сын.

— Які ён немец? — апраўдваючыся, сказала маці. — Дзіця нейкае.

Перад вайной да нас прыходзілі Віткоўская і жонка дырэктара школы Марыя Данілаўна, і мама не магла не падтрымліваць тых, каму горш, чым нам. У першыя дні вайны да нас зачасціла сям'я Левіных, як бы ведаючы ці ўгадваючы гэтую маміну ўласцівасць, бок натуры. Пайсці да каго-небудзь, выгаварыцца (чуткі такія страшныя аб расправах з габрэямі!), пачуць слова спагады, якую-небудзь параду, дома сядзець адным яшчэ страшней — зразумела, што гнала іх да нас, хаця да вайны мы не мелі ніякіх зносін з гэтай сям'ёй. Побач з аптэкай жылі Альтшулі (сын Мэер, дачка Бая), вось з імі мы сябравалі, — яны паспелі выехаць на заводскай машыне разам з сем'ямі дырэктара завода і праныры Бляхера, камерцыйнага дырэктара.

Левіны зноў і зноў вярталіся да думкі, якая здавалася ім паратункам: габрэі-начальнікі ўцяклі, а навошта немцам чапаць простых рабочых? Павінны немцы разбірацца. Павінны дык павінны, згаджалася мама, але лепш, калі Левіны пойдуць куды-небудзь у вёску, як мага далей ад шашы. (Яны так і зрабілі, у 1943 годзе іх дачка начавала ў лагеры нашага атрада, Левіны былі ў габрэйскім атрадзе.)

У адзін з першых дзён, калі прыйшлі да нас немцы, мама паклікала мяне і брата ў спальню, у руцэ нешта трымала, не паказвала:

— Вось, дзеткі, гэта ваша. Няхай будзе. Вы мяне павінны паслухацца.

Што там такое ў яе і чаму такое доўгае тлумачэнне? Развязала марлевы вузялок — крыжыкі! Два — паблісквають меддзю, маленькія крыжыкі.

— Гэта вас хрысцілі. Яшчэ калі ў Забалаці былі, жылі ў Канюхах.

— Начарта гэта нам? — я, вядома.

Мама, ажно пачырванеўшы ад збянтэжанасці, а таму яшчэ больш злуючыся, накінулася на мяне:

— Ты гэта што? Скажа, хоць ты…

І раптам жаласна папрасіла:

— Зрабеце дзеля мяне, дзеткі.

Крыжыкі схавалі ў кашалькі, кожны ў свой. Павесіць, насіць на шыі — аб гэтым мама і не прасіла.

У нашай маці любімая прыказка была: кінеш за сабою — знойдзеш перад сабою! На гэты раз не прагучала ўголас, але мне здалося, што менавіта пра гэта гаворка: з даўно адмененым Богам мы ўступалі ў хаўрус нанава і з тае нагоды, што прыйшоў вораг. Якія насамрэч у маці былі адносіны з Богам (не ў нас, хрышчоных нехрысцяў, а ў яе), пра гэта асобная гаворка. А тут яна (магчыма, сапраўды небескарыслівa) адмяняла ў сваёй сям'і савецкую адмену Бога. Калі немцы пераследуюць габрэяў, негабрэям лепш мець доказы таго, хто яны ёсць.

Але калі такі доказ мне мог спатрэбіцца — быў такі момант, — крыжыка ў маім кашальку ўжо не было. Выкінуў. Пасля таго, як забівалі ў нас на вачах ваеннапалонных. Ну, проста паводле «Карамазавых», мною яшчэ не прачытаных: «Калі Ты ёсць і такое дапускаеш — не трэба мне імя Тваё!»

Адбылося гэта 7 лістапада 1941 года. А выпадак, калі крыжык мог спатрэбіцца, — улетку 1942-га. Вяртаўся я ад глушанскага музыкі Зыгмуся Грабоўскага, у якога браў (без асаблівага поспеху) урокі ігры на скрыпцы. Мяне пабачыў немец, што ішоў па шашы (мабыць, не мяне, а скрыпку) і перабег цераз канаву да мяне. Я звыкла ацаніў ворага: у акулярах, без зброі, толькі штых-кінжал на поясе. Гэта супакоіла і надало смеласці, нават нахабства. Вораг працягнуў руку да смычка — я адвёў яго ўбок, да скрыпкі пацягнуўся — я стаў да яго бокам. Мабыць, немец усяго толькі хацеў апрабаваць смычок, скрыпку, хутчэй за ўсё музыка, засумаваў па інструменце. Але ён — узяць, а я — не даваць! А як з імі яшчэ?

— Юдэ? Юдэ? — Бяскрыўдныя акуляры раптам зазіхцелі гнеўна, пагрозліва. А мне здалося, што валасы на маёй галаве небяспечна закучаравіліся, пацямнелі, зараз набяжыць больш ворагаў, пацягнуць і скрыпку і мяне ў камендатуру. Але і гэты, адзіны, наадварот, ад мяне сярдзіта пабег, працягваючы лаяцца небяспечным словам.



(Нікуды не схаваешся ад тэлевізара, на гэты раз «рэабілітацыйна-санаторнага», «герцэнаўскага»: нервовая фізіяномія старшыні Канстытуцыйнага суда, якога абазвалі «дробным рэкеціграм», — чамусьці першае слова яго пакрыўдзіла больш, чым другое; зноў віцэ-прэзідэнт катапультаваў з прэзідэнцкага самалёта, пры гэтым прыхапіўшы адзінаццаць чамаданаў для спікера… Як сказала ў 1953 годзе старая габрэйка, пабачыўшы мінчукоў, якія чыталі ўрадавае паведамленне, і пачуўшы, што Берыя[32] — англійскі шпіён: «З нашай уладай не засумуеш!»)

Калі паспрабаваць зразумець, як маці, ахопленая страхам за дзяцей, чаму і як яна паступова траціла пачуццё асцярогі, самазахавання (у адносінах да ўласнай сям'і), адказ, тлумачэнне я знаходжу ў адным — ваеннапалонныя. Тое, што з ваеннапалоннымі, кінутымі на волю лёсу ўласнай дзяржавай, вытварала дзяржава акупантаў, перавярнула свядомасць не яе адной. Цэлага народа свядомасць была не толькі балюча абражаная, але і перавернутая. І гэта дорага каштавала немцам.

І пытанне ўжо другое: чаму немцы дзейнічалі на шкоду самім сабе? На вачах ва ўсяго насельніцтва марылі голадам, забівалі палкамі, як скаціну, тых, у кім кожны бачыў і свайго сына, брата. Што, такім спосабам Гітлер хацеў паставіць народ на Усходзе, які лічыў ад пачатку і загадзя пераможаным, на калені канчаткова? Зламаць сам дух яго. Дэманструючы сваю жорсткую волю германца.

Любыя падобныя тлумачэнні ўсяго растлумачыць не могуць. Ясна, што такія адносіны да тых, каго забралі ці хто здаўся ў палон, не здолелі не ўмацаваць волю да супраціўлення арміі, ды і ўсяго народа, па абодва бакі ад лініі фронту. Схаваць тое, што не схавалася, было немагчыма. Ці менавіта гэта Гітлеру было патрэбна: каб бачылі, якую масу ворагаў ён аддае на пакуты егіпецкія.

Менавіта *каб бачылі*, яму і трэба было. Пытанне толькі — хто? Хто павінен быў усё гэта ацаніць? Чые вочы? Калі я працаваў над «Карнікамі», пра «Ружу Свету» Данііла Андрэева яшчэ ніхто і не чуў. Але ўжо хадзіла па руках праца двух французаў: «Якому богу пакланяўся Гітлер?» Небывалая ў нас кніга «Ружа Свету» прымушае і свае даўнія здагадкі-думкі з «Карнікаў» прыгадаць, пераправерыць. Калі «Карнікі» ў 1980 годзе пайшлі да чытача, аўтар раптам атрымаў ліст ад палкоўніка авіяцыі, франтавіка. Ліст, поўны дакораў, які прысаромліваў: вашу аповесць крытыкі расхвальваюць, але ж у вас паўпраўда, дзе ў вас Галоўны Карнік?

Меў на ўвазе палкоўнік Сталіна. Але паколькі «Карнікі» і задуманыя былі, і пісаліся як «сны двух тыранаў», а раздзел пра Сталіна ляжаў з 1979 года, схаваны да лепшых часоў, папрокі лётчыка гучалі для мяне, як голас аднадумцы.

Вось што пісаў палкоўнік-франтавік, маючы на ўвазе дзеянні, віну Галоўнага Карніка: апроч таго, што абезгаловіў армію, ён перабазіраваў, падставіў пад удар не толькі знішчальную, але і цяжкую авіяцыю, разбурыў умацаванні на старой граніцы да таго, як яны ўзведзены былі на новай і г. д. і г. д. Лётчык пераканаы: Сталіну патрэбен быў моцны ўдар з боку Гітлера па савецкай арміі, краіне, па народу — вялікая кроў, вось чаму ён і падстаўляўся. Дзеля таго яму гэта было патрэбна, каб людзі забыліся на кроў, ім самім пралітую, каб гэтым баранам неба з аўчынку здалося і адпала ахвота (не да таго!) весці цяжбу з уласным правадыром, падлічваць і назапашваць старыя крыўды. Гэта і растлумачвае ўсе яго як быццам пралікі. Але наш Карнік тут ужо сапраўды пралічыўся, ён не чакаў такога сакрушальнага ўдару, калі пагроза навісла ўжо над усёй яго уладай і самім жыццём. Вось гэтага ён, мабыць, не чакаў і не хацеў.

Што Сталіну былі наруку зверствы, рэпрэсіі немцаў, а асабліва — адкрытае знішчэнне савецкіх ваеннапалонных — гэта відавочна. Ратуючы сябе ад палону, ад Гітлера, народ і яго, Сталіна, ратаваў. Пры гэтым пралітая Сталіным кроў замывалася той, якую цяпер германскі фюрар пускаў.

Але Гітлеру, вось яму навошта было падыгрываць свайму праціўніку, сапперніку? Наступаць, як знарок, на міну, якая пры больш гнуткай палітыцы на захопленых землях магла падарвацца не пад ім, Гітлерам, а пад Сталіным, яго ўладай.

Ці сапраўды (так у «Карніках») для Гітлера важныя былі зусім іншыя Вочы — не насельніцтва, якое бачыць усё і ўсё ацэньвае і якім ён пагарджае, а Вышэйшых Істот? У якіх ён маніякальна верыў. Толькі ім, Вышэйшым, служачы, ён мог захапіць у свае рукі лёс свету. У Данііла Андрэева («Ружа Свету») Гітлер і Сталін — толькі прыватны выпадак выкарыстоўвання самымі змрочнымі сіламі Сусвету зямных палітыкаў, якія, калі хочуць улады над светам, абавязаны пастаўляць туды, «уніз», людскую кроў, смяротную тугу чалавечых пакут — «чырвоную расу». Хто больш пральле крыві і большыя дрыжыкі болю пусціць па целе планеты, на тым і спыняцца Вочы Вышэйшых-Ніжэйшых сіл, таму яны і аддадуць перавагу.

Не ў тым пытанне, ёсць ці не, ці існуюць насамрэч Вышэйшыя-Ніжэйшыя. А ў тым, ці верылі ў іх тыраны ці не, і як яны, абодва, пераглядваліся зводдаль, спаборнічаючы ў жорсткасці, крыважэрнасці. Крывасмок на Захадзе глядзіць на такога ж вампіра на Усходзе, кровапускальнік на свайго дублёра-саперніка: ты колькі скінуў Ім гэтых сваіх калгаснікаў? а ваенных? сваіх партыйцаў — колькі? Шмат, кажаш, мне не зраўняцца? Ну, нічога, сёе-тое засталося і на маю долю — вось ужо амаль 100 мільёнаў з тваіх 200 мільёнаў у маіх руках! Так што паспаборнічаем па-бальшавіцку. Вочы Вышэйшых спыніліся на мне назаўсёды, старайся не старайся — табе не ўдасца вярнуць іх прыхільнасці. Твае ахвярапрынашэнні сталі і яшчэ стануць маімі, а неўзабаве і астатніх адбяру ў цябе. Што ты без 200 мільёнаў трупаў, каму ты будзеш патрэбен?

Некалькі мільёнаў ваеннапалонных — само сабою шмат, вельмі шмат, але калі гэта ахвярапрынашэнне для Вышэйшых, якія ўнізе, ці Ніжэйшых, якія наверсе (Вышэйшыя-Ніжэйшыя), дык гэта не такая ўжо значная порцыя «чырвонай расы». Для Ненаедных. Аднак калі боль аднаго пусціць па нервах многіх, пакуты тысяч прапусціць праз душы мільёнаў, а мільённыя, двухтрохмільённыя пакуты прадэманстраваць дзясяткам мільёнаў, выпусціць на прастору чужой агромністай краіны, каб і маці, і бацькі, і дзеці — усе пакутавалі, мучыліся разам з імі, — тады зусім іншыя маштабы. Ніжэйшыя-Вышэйшыя атрымаюць у шмат разоў больш «чырвонай расы».

У тым і рэч, што Сталін, ужо атрымаўшы верх над кровапускальнікам-сапернікам, раўніва падбіраў ацалелых «сваіх» ваеннапалонных — зграбаў усё, што засталося з адабранага ў яго. З якой помслівасцю ацалелых даморваў у сваіх лагерах.

(Калі гэта і блюзнерства, дык, бадай, толькі ім і можна растлумачыць самую вялікую недарэчнасць XX стагоддзя — гэтую парачку, праз якую Захад і Усход усё ж «пабывалі разам». Каб ачнуўшыся ад «спаравання ў нянавісці», мы выявілі ў сябе ў руках «плод» — адну на ўсіх Бомбу, адну на ўсіх смерць.)

На Глушу ўся праўда пра ваеннапалонных, што ўжо даходзіла да нас праз расказы відавочцаў, чуткі, абрынулася ўсё роўна нечакана. З ранку пранеслася: у Бабруйску ў крэпасці спалены палонныя, па шашы сюды гоняць велізарную калону, шмат тысяч, заводская машына прабіралася міма, аб'язджала трупы ледзь не цэлую гадзіну! На кожнай вярсце па дзясятку, па два застрэленых. Што немцы вырабляюць такое з нашымі палоннымі, ведалі, не раз чулі, але цяпер *гэта* сунулася сюды. Як бы прымеркавалі да Кастрычніцкага свята, да бальшавіцкага — у гэтым угадваўся

нейкі асобны сэнс, намёк: любіце свае дэманстрацыі, ну дык наце вам!

Да шашы памкнуліся дзясяткі глушанцаў, людзей у вясковых кажухах, хустках, усё новыя і новыя падыходзілі, падбягалі. У руках у многіх акрайцы хлеба, вараная бульба, хатні сыр — што хто прыхапіў дома. Твары спалохана-ўстрывожаныя, ужо выццё бабскіх галасоў чутно. Усе ўзіраюцца ў бок Бабруйска, але перад вачыма толькі збялелая шаша і пустата далечы, што варушыцца ад бязгучнага палёту, падзення снежных камякоў. Снег на шашы адразу ж растае, распырскваецца коламі. Яшчэ адна паўтаратонка *адтуль*, не затрымліваючыся, праехала да заводскіх варот, у тых, што сядзелі ў кузаве, былі нейкія асаблівыя твары. І тое, што ніхто з іх не крыкнуў, не сказаў ні слова тым, што чакалі, толькі пацвярджала застылы выраз іх твараў: *яны ўжо бачылі*! — тое, што павінны былі ўбачыць мы. Выраз іх твараў дзіўным чынам перадаўся, перамясціўся на многія жаночыя, плач, крык, як па нябожчыку, стаў грамчэй, трывожней.

Але нешта ўжо зачарнела ў снежнай імгле зводдаль ля мастка. З-за снегу вынырнулі чорныя чалавечыя фігуры, чуецца нейкі дзіўны, з шамаценнем і ныццём, шэпт-крык. Рэзка (як тыя чорныя фігуры з-за снежнай пялёнкі) прагучалі хлапкі-стрэлы, адзін, другі. Нарэшце можна разглядзець: паперадзе ідуць эсэсаўцы ў сваіх чорных плашчах, ля ног сабакі рвуцца, следам сунецца тая самая, з шамаценнем-хлюпаннем, людская маса, насоўваецца мутнай плямай, што ўсё разбухае. Бачна, як канваіры, што ідуць па абодва бакі ад калоны, то набягаюць на яе, узмахваючы рукамі, то адбягаюць (белыя бярозавыя палкі ў іх руках, нябачныя спачатку з-за снегу, мы разгледзелі пазней). Вось адзін спыніўся і, адкінуўшы аўтамат на рэмені за спіну, каб не перашкаджаў, узяў у абедзве рукі бярозавую доўбню і раз за разам апускае яе на галовы, на плечы, на рукі, што засланяюцца (а многія ўжо і не засланяюцца), людзей, якія ідуць міма. Шэрая шынельная маса, непраўдападобна вялізныя застыглыя вочы, аднолькава цёмныя ва ўсіх твары — рухаецца ўсё гэта, цячэ, працякае міма нас, праз нас. Хлюпанне-шэлест у снежным месіве соцень, тысяч ног, босых або ў анучах. Між імі і намі — гэтыя, у смаляных, мокра зіхоткіх плашчах, з бярозавымі, па-здрадніцку белымі палкамі і аўчаркі, што ірвуцца да жывога чалавечага мяса. Ашчэраныя зяпы. Палонныя ідуць спачатку скрозь нашу нематy, затым — як прарвалася — скрозь бесперапынны бабскі крык, выццё. Нехта спрабуе перадаць, перакінуць тое, што



прынеслі: хлеб, вузялкі з тварагом, сала, — да нас пад частыя ўдары палак цягнуцца худыя рукі, шэрыя шынельныя рукавы. (Колер лютага голаду, колер палону — шэры, шынельны, гэта засталося надоўга ў нашай свядомасці.) Здалося, што канваіры схапілі кагосьці з глушанцаў і зашпурнулі ў калону палонных, бярозавыя палкі цяпер з аднолькавай лютасцю апускаліся на галовы тых, што ішлі па шашы, і на галовы жыхароў, што напіралі ад канаваў. Высокі, асабліва прыкметны сярод тых, што ідуць, адкінутай назад галавой, пракрычаў, і яго ўсе пачулі:

— Вось, родныя, на пагібель нас!..

Колькі цягнуўся гэты паход людзей-ценяў, колькі іх прайшло перад намі, адказаць, бадай, не мог ніхто. Яны ішлі, адыходзілі ў бок Старых Дарог, Слуцка, пакідаючы на ўзбочынах сябе — новыя і новыя трупы. І ўсё гэта не канчалася, цягнулася, перамясціўшыся разам з намі ў нашы дамы, да вячэрніх капцілак, у паўзмрок цесных ад суседзяў пакояў.

Калі я прыбег да шашы і ўбачыў, што ў руках у многіх глушанцаў прадукты, харч, я кінуўся назад да свайго дома, але мама ўжо несла нешта ў глыбокай талерцы (клінок сыру, вараную бульбу), а Жэня валок некалькі буханак чорнага і шэрага хлеба (акурат учора Эдзік Віткоўскі прывёз з горада мяшок хлеба — тыднёвы паёк глушанскай медыцыне). Цікава, што мама не забылася талерку, хаця гэта было дзікавата па акалічнасцях. (Як дзікаватым здалося, калі ў 1946-м яна паклікала абедаць немцаў-ваеннапалонных, якіх яе сын прывёў з Глушанскага лагера рабіць для аптэкі склеп, і паклала перад кожным мельхіёравы прыбор — лыжку, відэлец, нож — ну зусім як да вайны, калі ў нас збіраліся госці.) Калі ўсё пачалося, людзі пабеглі, пачалі крычаць, імкнучыся перадаць, перакінуць палонным тое, што прынеслі, я ўбачыў, як Жэня шпурнуў проста ў сярэдзіну калоны хлеб, і там замільгалі рукі над галовамі. Я кінуўся туды, дзе з жанчынамі стаяла збялелая мама са сваёй не да месца талеркай, схапіў сыр, што заставаўся (мяккі, рыхлы, крышыўся ў руках) і паспрабаваў нейк наблізіцца да тых, што ішлі, ловячы момант, калі паміж імі і мной не будзе хоць бы аўчаркі. Але, калі ірвануўся наперад, на мяне наляцеў велічэзны, цяжэразны канваір і стаў лупцаваць па мне ўсім адразу: аўтаматам, палкай, каленкам, ботам і нічым не трапляючы — ад лішку гневу і абурэння. Але выбіў з рук сыр, і ён упаў метры за два ад ног ідучых. Адскочыўшы да канавы, я прызямліўся на міг на адразу прамоклыя калені, ледзь не скаціўся ў снежную жыжу, што запоўніла канаву. Сыр мой, які разваліўся на кавалкі, ляжаў пе-

рад вачыма палонных, што ішлі міма, нехта яго заўважаў, рабіў міжволі крок, рух да яго, і тут жа на іх падалі лютыя ўдары, удары, а адзін палонны, які нечакана вёртка ўхіліўся ад замаху немца, кінуўся, не, нырнуў туды, дзе ляжаў гэты няшчасны сыр. Упаў на яго і рукамі, доўгімі пальцамі стаў запіхваць кавалкі ў рот, не звяртаючы ўвагі на боты, што білі яго, таўклі яго з двух бакоў. Канваір, адступіўшы ўбок і адкінуўшыся ўсім целам назад, раптам ударыў з аўтамата ў чалавека. Страчыў і страчыў у нерухомага палоннага, які ляжаў над сырам, *падкінутым мною*.

— Кажуць, гэта фіны былі?..

Нявінна-запытальна, а мне здалося, што ілжыва-прыкідваючыся, загучаў голас Віткоўскай. Яна, як звычайна, усё гойдаецца сваім маленькім целам над уласнымі каленьмі. Як тады, пасля арышту мужа. Падае, кладзецца грудзьмі на свае каленкі — быццам заведзеная.

— Пакіньце вы, якія там фіны!

Віткоўская ўлавіла нязвыкла рэзкі тон мамінага голасу, так яна з Віткоўскай ніколі не размаўляла.

— Чаго ад ворагаў чакаць, — загаласіла жанчына, — ад чужых, калі свае вунь што з людзьмі вычваралі?..

У той вечар мама была сама не свая. Нешта адбывалася ў ёй, мабыць, многае вырашалася на будучае. Не ведаю, што яна бачыла за тым, што працягвалася, праходзіла, не канчаючыся, — у нас ва ўсіх перад вачыма. Сваіх бацькоў, сястрычак, у далёкую высылку гнаных. Ці ў такой вось працэсіі паўтрупаў — нашага бацьку, чуткі былі, што бачылі і яго ў палоне. (Нават, што павесілі яго ў Магілёве за тое, што атруціў нямецкіх афіцэраў. Мама хадзіла ў Дойнічава да чалавека, які нібыта бачыў гэта, ажно нічога такога ён не бачыў і не расказваў.)

Чаго напэўна не ведала наша мама, дык гэта таго, што ёй давядзецца расшукваць Жэню ўжо *ў нашых лагерах ваеннапалонных, вызваленых з нямецкіх лагераў*.

Упэўнены ў адным: з гэтага дня, з гэтага вечара яна за нас баяцца стала яшчэ больш, але па-іншаму ўжо. Нешта ўвайшло ў яе, з'явілася — што мацней і ўладней нават за боязь, страх за сям'ю.

Я ж менавіта ў гэты дзень, 7 лістапада 1941 года, бег, не думаючы, куды бягу, праз свой агарод да будынка школы, трымаючы ў руцэ бязважкі крыжык, якім мама хацела вярнуць нас да Бога, і не першы на зямлі папракаў кагосьці Там: *раз Ты такі, тады нічога ад Цябе не трэба*! А калі шпурнуў ад сябе крыжык, не адчуўшы ніякага вызвалення рукі ад цяжару, мабыць, зразумеў: віну сваю не адкінуў, яе не адкінеш, будзеш заўсёды насіць у сабе. *Гэта ж з-за мяне забілі чалавека!*



Тое, што мама, як тады казалі, «звязаная» з акружэнцамі, а пазней — з партызанамі, мы з братам пра гэта ведалі. І што ёй там, у вёсках ці ў лесе (хадзіла туды нібыта мяняць рэчы на прадукты), даюць грошы, мёд, сала, а яна ўсё гэта возіць у Бабруйск, каб абмяняць на аптэчным складзе на «перавязачныя матэрыялы», на каштоўны стрэптацыд. Ад нас не ўтойвала гэтага з самага пачатку, з лета 41-га. Мабыць, разумеючы: калі што, расплочвацца ўсім, а таму сама, можа, таго не ўсведамляючы, шукала і атрымлівала ад нас згоду. Вядома, самую бурную і радасную згоду. Але наўрад ці гэта яе супакойвала ці суцяшала. «Нічога вы не разумееце, вам усё гэта гульня!» — такая была рэакцыя на наш энтузіязм.

І ў Глушы немцы зрабілі лагер для ваеннапалонных. Адразу за пасёлкам, насупраць электрастанцыі і лазні. Лагер, агароджаны двума радамі калючага дроту, прыкметна пашыраецца ў раўназначныя два бакі: акуратныя збудаванні для нямецкай і «дабравольчай» аховы і равы-магілы ззаду за скляпамі-зямлянкамі каля лесу. Палонных ганялі рамантаваць асфальтку, нарыхтоўваць лес, расчышчаючы ўздоўж дарогі «паласу бяспекі», звыклым для Глушы рабіўся колер палону — нашы шынялі ў іржавых прапалінах, з абгарэлым крысом. Нацягнутыя на вушы пілоткі. У лагеры было шмат коней, але цяжэразныя бочкі з каменна-ледзяной вадой вазілі на людзях: учапіўшыся ў аглоблі, у градкі, штурхаючы павозку, валаклі абмерзлыя бочкі, а ледзяная вада, выплёскваючыся, аблівала іх з плеч да ног, ды яшчэ канваір падбягаў і біў прыкладам за тое, што рыўкамі цягнуць. Білі немцы, білі «дабравольцы», самі з учарашніх палонных.

І раптам нешта адбылося — не ў Глушы, а дзесьці, — палонных як білі на кожным кроку, так і працягвалі біць, па-ранейшаму марылі голадам, штодня трупы закопвалі каля лесу, але чамусьці сталі прыводзіць у медпункт і аптэку — лячыць. Нібыта быў нейкі пратэст Молатава, заява саюзнікаў, Чырвонага Крыжа — і вось вынік. Па аўторках чалавек 50–60 прыганялі да будынка аптэкі, дзе ў задніх двух пакоях Эдзік Віткоўскі размясціў глушанскі медпункт, па некалькі палонных спачатку запускалі да яго праз заднія сенцы, затым з рэцэптам і яны ішлі ў аптэку праз парадную зашклёную верандачку. Усё ў строгім парадку, хаця для знясіленых гэтых людзей ад хваробы патрэбны быў галоўны рэцэпт і асноўныя лекі — ежа. Мама з сваімі памочніцамі —

худзенькай ціхоняю Франяй і вясёлай таўстушкай Нінай, — калі першы раз нечакана прывялі галодных людзей, з ног збіліся, збіраючы ў «матэрыяльнай» і на кухні ўсё, што можна з'есці, чым можна падтрымаць сілы чалавека: глюкозу, нейкія свае запасы ежы. Да наступнага аўторка ў аптэцы было ўжо больш патрэбных «лекаў». Мы зацягнулі туды ўсё, што маглі ўзяць у сябе дома: сыр, малако, хлеб. Спецыяльна мама і бабуля наварылі бульбы, кашы. І маміны памочніцы нешта прынеслі. Але само так атрымалася, што да аўторка ў аптэку глушанцы, а то і вяскоўцы, пачалі зносіць што ў каго мелася, справа набыла зусім іншы размах. Немцы-канваіры самі ў аптэку не заходзілі, старонячыся брудна-вашывых шэрых шынялёў, прагульваліся ў двары, уздоўж шашы, ля вокнаў медпункта. Набівалася, збіралася перад шкляной аптэчнай стойкай па 20–30 чалавек, галодныя людзі стараліся, як маглі, навесці нейкі парадак, устанавіць чарговасць — каму атрымаць і каб тут жа з'ядаць, не выносячы на вуліцу. Галодным вар'яцтвам запаленыя ці мёртва пакорлівыя вялізныя вочы, зубы, якія выпіралі ўперад, і гэтыя па-бабску недарэчныя, нацягнутыя, здавалася, ужо не на галаву, а на чэрап, пілоткі — так балюча было іх бачыць, на іх глядзець. Шкляная стойка хадуном хадзіла, усе адзін аднаго ўгаворвалі не напіраць, і ўсе міжволі прарываліся наперад. Жанчыны з асцярогай пазіралі на вокны. І аднойчы адбылося тое, што не магло рана ці позна не адбыцца. Нехта з палонных у рукаве вынес акраец хлеба, не ўтрываў і адкусіў на вачах у канваіра. Той кінуўся да яго, выхапіў хлеб і, падняўшы яго, трымаючы высока, як доказ, кінуўся ў сярэдзіну аптэкі. Жанчыны ўсё гэта бачылі ў акно, і, пакуль ён прабіваўся праз збіты натоўп палонных, мы паспелі вынесці на кухню кошыкі, сумкі. Мы з братам уцяклі ў медпункт да Эдзіка і там затаіліся, а мама і яе памочніцы (потым яны весела апавядалі) паглыбіліся ў звыклую працу: старанна загортвалі нейкія парашкі, адлічвалі кроплі. Канваір заспеў іх за гэтым заняткам. Ад такога нахабства анямеў, закрычаў на маму, тыцкаючы кавалкам хлеба ледзь не ў твар, а затым пхнуў аўтаматам па вяртушцы так, што бутэлечкі пасыпаліся.

Палонных тут жа выштурхнулі з аптэкі, павялі ў лагер. А маму праз нейкі час выклікалі ў павет. Бургамістр Ельніцкі, «таксама з кулакоў», сарамаціў, дакараў «мадам Адамовіч» за такія з выклікам паводзіны. І хто б, а то — «разумная і культурная жанчына». (У чалавека свае ўяўленні былі пра гэта.) У канцы папярэдзіў, перадаў тое, што нямецкі камендант сказаў перакладчыку, фольксдойчу Бартэлю, а той — бургамістру: яшчэ такое паўторыцца — і не будзе ні аптэкі, ні аптэкара!



Калі праз два тыдні (адзін прапусцілі) зноў прывялі палонных на лячэнне, увесь склеп быў набіты прадуктамі. Людзі неслі, угаворвалі, прасілі: «Вы ўжо як-небудзь, Ганна Мітрафанаўна». Мама толькі забараніла нам з Жэнем напрасткі ў гэтым удзельнічаць (нашы пратэсты толькі раззлавалі яе), і ўсё працягвалася. Бачачы гэта, устрывожаны фельчар Эдзік Віткоўскі перамясціўся з сваім медпунктам у памяшканне былога радыёвузла. Заг. аптэкі прыняла гэта як належнае, так было нават зручней, вызваляліся два пакоі пад склад прадуктаў.

Невядома, чым бы ўсё скончылася — дзясяткі ж людзей ведалі, удзельнічалі ў гэтым, — але неўзабаве перасталі прыганяць палонных. Мабыць, сышло на нішто дзеянне «ноты Молатава».

У мяне былі свае справы з палоннымі. Некалькі чалавек прыводзілі пампаваць ваду ў камендатуру, а я да гэтай, калісьці бальнічнай, помпы, ездзіў з бочачкай на тачцы ці з санкамі, мне чамусьці не забаранялі браць ваду. Заходзіў у будку, Пятро (чарнавокага, падобнага на цыгана палоннага так звалі) тут жа закручваў ваду для камендатуры і адкручваў мне, каб пайшла ў навешанае знадворку на трубу маё вядро. Паліцай сумаваў на вуліцы, і я хуценька апустошваў свае кішэні ў кішэні шынялёў. Асабліва радаваліся тытуню: пры курыве не так есці хочацца. Заадно паведамляў навіны. Помню, як заспяшаўся з весткай, вялікай радасцю: немцаў папёрлі ад Масквы, хутка нашы будуць тут і для вас таксама ўсё скончыцца.

Чамусьці маўчалі палонныя, а Пятро нарэшце сказаў, але як бы просячы, патрабуючы яго абвергнуць:

— Кажуць, нашы не даруюць за палон?

І я, вядома, не згаджаюся, абвяргаю: няпраўда, хлусня нямецкая! Каму будзе сапраўды блага — вось гэтым! — і паказваю вачыма на паліцая. І палонныя радасна згаджаюцца, але ў вачах туга застаецца. Яны не маглі тады выразіць, а я нават падумаць: тыя двое, якія *намі ваююць і намі харчуюцца* — адзін у Маскве, другі ў Берліне — яны, калі каго ўзялі ці аддалі ў палон, дажаруць, абгрызуць да касцей.

…У тэлевізары паказалі, у газетах з'явіліся фатаграфіі: асколкі чэрапа Адольфа Гітлера з дзіркай ад кулі.

У 1945-м крамлёўскаму пераможцу, магчыма, прад'яўлялі доказы таго, што знойдзены ў двары Імперскай канцылярыі абгарэлы труп — у адной яме з рэшткамі Евы і сабакі — Адольф Гітлер.

І тут жа з усёй стараннасцю некалькі службаў МУС, ГРУ навыперадкі ўзяліся высвятляць, *куды знік Гітлер*? Без канца дапытваліся з гэтай нагоды камердынер фюрара Гейнц Лінге, ад'ютант Ота Гюньшэ, шэф-пілот Ганс Баўр, нейкія аўстрыйскія цёткі фюрара дапетрыць не маглі, чаго ад іх хочуць маскоўскія пераможцы: каб зманілі, што Адольф Гітлер жывы і недзе хаваецца? Навошта гэта ім, што за гэтым тоіцца? Але і генералы вышуку Круглоў, Сяроў, Абакумаў таксама не ведалі, чаго чакае, а галоўнае, хоча Правадыр, а таму шукалі, шукалі даўно адшуканае. Каб адно не спыняцца, каб не разгневаўся Гаспадар. Паддопытным здавалася, што ў Маскве дух ці душу фюрара не хочуць адпускаць, спрабуюць насцігнуць і вярнуць. Затое генералам «органаў» і разведслужбаў пачало здавацца: Сталін жадае — а хто пасмее яму ў нечым пярэчыць, не выканаць нават не выказанае адкрыта яго жаданне? — чакае і патрабуе *жывога Гітлера*. Добра яшчэ, што не жывога Нерона ці Чынгісхана.

Хаця зразумець яго можна (рашаліся думаць некаторыя з іх): адразу страціць такога ворага — усё роўна, што найблізкага сябра страціць! А тут яшчэ Рузвельт памёр! Чэрчыль сышоў з арэны. Не з Труманам жа ці Этлі мець справу Сталіну. Затужыш і па Гітлеру. Калі далажылі, што скончыў з сабой, вымавіў, магчыма, загадзя падрыхтаванае: «Даіграўся, падлюга!»

А магчыма, і не загадзя — шчыра вырвалася. Колькі можна было б цікавага высветліць у Гітлера — таго, што нікому невядома. А што сказана, абгаворана магло быць сам-насам — пра што не пагаворыш з Молатавым ці з Берыем. Колькі агульных успамінаў, хаця ніколі адзін з адным не сустракаліся, не гаманілі. Вось менавіта — ніколі. Тым больш…

Сляды «зніклага» Гітлера ўсё яшчэ шукалі ў Берліне, у Іспаніі, у Аргенціне, у той самы час, калі ён сядзеў за Крамлёўскай сцяной у невялікім зацемненым пакоі побач з кабінетам Сталіна, яны ўдвух сядзелі за сталом, але размова, дзеля якой Сталін усё гэта і задумаў, не ладзілася. Госць панічна баяўся, што назаўтра раніцой яго адсюль забяруць, не вернуць у камеру на Лубянцы, а пасадзяць у клетку і павязуць па Расіі. Як дзікага звера — на пацеху натоўпу.

Але ўсё адладзілася. Прывялі яго зноў, а гаспадара кабінета не пазнаць. Зняў мундзір генералісімуса, якім асабліва бянтэжыў спачатку: быццам выклікалі да фельдмаршала яфрэйтара. (Столькі раней яфрэйтарствам калолі вочы, што не магло цяпер не ўсплыць у свядомасці.) Гаспадар Крамля быў у сціплым паўваенным фрэнчы і ў грубых салдацкіх ботах. Усміхаўся ў пышныя, як у Ніцшэ, вусы; вочы — ветлівыя, цёплыя. Ані следу ранейшай пахмурнай пагрозы, што ўчора таілася асабліва ў жорсткіх, як луска, зморшчаках вакол жоўтых вачэй.



Сустрэў ля парога, як госця, правёў да стала, звычайнага канцылярскага стала, але накрытага на гэткую халасяцкую ці дзелавую вячэру. Два прыборы, лёгкая закусь і шмат зяляніны, салатаў, збоку дзве сціплыя бутэлькі віна, ніякай рускай гарэлкі. Затое многа-многа мінеральнай вады. Здагадаўся, ведае, што фюрар любіць мінеральную? Ці густы супадаюць? Усё вымушала прыгадаць выраз: па-ўсходняму гасцінны (гаспадар). А маглі ж і раней сустрэцца, маглі.

Ужо праз некалькі дзён (начэй) стол з падкрэслена вегетарыянскага ператварыўся ў грунтоўна-мясны, госць ахвотна аддаваў належнае чырвонаму віну і добраму кавалку падсмажанай свініны. П'янеў імгненна, але гаспадара не абдурыш: у яго быў ужо вопыт адносін са слабакамі, накшталт Кліма Варашылава, што разыгрывалі адключку задоўга да сапраўднай, і быў спосаб праверыць чалавека: гатоў, саспеў для шчырай гаворкі ці толькі прыкідваецца, блазнуючы, як які-небудзь Мікіта Хрушчоў. Спосаб просты: прымусь глядзець сабе ў вочы і раптам ашаламі пытаннем. Напрыклад, ты англійскі шпіён ці амерыканскі? пра што ўчора гаманілі, калі выйшлі з машыны?..

З Гітлерам іншае пытаннейка спрацуе, безадказна: дык, кажаш, баяўся, што ў клетцы па Расіі павязуць? Цікавая ідэя, трэба абмазгаваць, як кажуць мае сакратары райкамаў. Але перш пагамонім душэўна. Ужо ж мы можам не дурыць адзін аднаго!

Дзіўна, але яны цудоўна абыходзіліся без перакладчыка. А калі б прысутнічаў хто-небудзь трэці, нямала цікавага пачуў бы, даведаўся. З таго, што ў час пакутлівых бяссонніц чарадой праходзіла перад вачыма ў гэтых сценах ці на «бліжняй» дачы. Усё жыццё чалавека — суцэльны маналог, размова з самім сабой, за сябе і яшчэ за каго-небудзь, хто з'явіўся і тырчыць перад табой, не ідзе прэч.

Госць, асмялелы, разняволены віном, рабіўся нават балбатлівым. Перабіваў, аспрэчваў гаспадара, а той толькі паблажліва пасміхаўся і падліваў упадабанае каўказскае віно ў фужэры. Але ў нейкі момант госць лавіў на сабе *нерухомы жоўты позірк Яшчара* і імгненна цверазеў. Паспешліва вяртаўся да тэмы, гаворкі, якая, ён заўважыў, уціхамірвала гаспадара. Бясконцая гаворка пра тое, як ён, фюрар, не ўлічыў скіфскую

прыроду і стратэгію рускіх, а дакладней, Сталіна стратэгію і тактыку — заманьваць, заклікаць ворага ў глыбіню сваёй тэрыторыі, бліжэй да сцен уласнага дома: рускія перакананыя, што дома і сцены ім памагаюць. На Захадзе іншыя ўяўленні і перавагі. Шмат, шмат сюрпрызаў *вы нам паднеслі*! І пад Масквой, і пад Сталінградам, дый пасля. Госць, паступова захапляючыся, накідваўся на сваіх генералаў, тупых і саманадзейных бяздараў, што не цямяць, што інтуіцыя правадыра (фюрара) стакроць каштоўней, чымся іх падручнікі, знакамітыя «спецыяльныя» веды і правілы вядзення вайны. Гаспадару тэма гэтая таксама была да душы. Вусы правадыра пачыналі міжволі распушвацца, ён наліваў віно, падсоўваў закуску.

— Адольф?.. Гэта тое ж, што Вольф, воўк? Так, здаецца, у старажытных германцаў чыталася «Адольф»?

— Так, гэта так, таварыш Сталін. Але я дзіўлюся вашай эрудыцыі.

— Тое-сёе і мы ведаем, вывучалі. Нават нямецкую мову, у вольны ад рэвалюцыйных справаў час. Дарэчы, нам лёгка было разгадаць, хто хаваецца ва ўсіх гэтых «логавах»: Вольфшанцах і іншае. Вельмі неасцярожна, вельмі. Я разумею: малады рух, рамантыка. Але мы гэтае не скарысталі. Хоць і маглі. Ацані хоць ты зараз, Адольф.

— А хто нас пасварыў? Сусветнае габрэйства.

— Упусціў ты свой шанец. Давялося мне аднаму.

Прызнаюся, нялёгка ўявіць сабе гэтую парачку, іх гаворкі. Для мяне — куды лягчэй і больш звыкла: сустрэчу былога паліцая з тым, хто яго калісьці падстрэліў, падкараціў яму адну нагу. Была, здарылася такая сустрэча ў вясковай лазні недзе ў 59-м, у 60-м. Паліцай, «атрымаўшы сваё», вярнуўся ў родны край, і нічога, нават з пенсіяй, шахцёрскай, варкуцінскай, а гэта разоў у 5–10 вышэй, чым ва ўчарашніх партызан, а цяпер — калгаснікаў. Так што ў яго ўзнікла дадатковая прычына пабойвацца помсты. Што рабаваў аднасяльчан і суседзяў, палявав на партызан разам з немцамі — за гэта адседзеў, дый забываецца, як выяўляецца, усё, калі жытка прыцісне. А пасля вайны ўсіх прыціснула — партызан ты ці не партызан. Але вось пенсію землячкі не даруюць — гэта ён ведаў.

Жыў з вечнай аглядкай, бояззю. А тут такая сустрэча ў лазні. Дакладней, ужо ў прылазніку, калі выйшлі, распараныя, улагоджаныя, апранацца.

— Глянь, гэта ён! Як цябе там клічуць?

— А гэта вы, таварыш Татур? І я вас прызнаў.



— Яшчэ б! Ну, як жывеш? Выпусцілі?

— Дакумант маю. Ад званка да званка. Жыву, пакуль жывецца. Во, бачыце!

І запрасіў звярнуць увагу на яго нагу: во, карацей, крывая, не гнецца, падла!

— Пасля бою Зубарэвічаўскага, помніце? Здорава вы нас там. Ваша работа, таварыш Татур. Твая, Пятро!

Зрабіў і яшчэ рух, быццам прытанцоўваючы. З такім выразам на твары, з якім задаволены заказчык, сустрэўшы, дзякуе майстру-шаўцу за добры абутак, — маўляў, штодня ўспамінаю добрым словам!

— Улёг ты за мной тады, Пятро, ну, думаю, канцы мне!

— А дзе ты там схаваўся? Мы шукалі, шукалі: як скрозь зямлю праваліўся.

— А там была сабачая будка. Застрэлены сабака ляжаў. Яго кроў мяне і ўратавала. Маю не заўважылі.

— Дык ты ў будцы хаваўся? Я бачыў таго сабаку.

— Куды заўгодна палезеш, калі прыжучаць. Здорава вы нас тады, нічога не скажаш!

…Госць перабіраў самыя памятныя ім абодвум крытычныя сітуацыі, але ў яго асвятленні яны дэманстравалі перавагу Усходу над Захадам. З французамі, скандынавамі, з ангельцамі такое ў Гітлера праходзіла ўдала, з поспехам, а тут — як ні біўся, ні стараўся — адчуваў, што ў яго зусім іншы праціўнік. І як здорава Сталін засцярогся ад шпіёнаў. Ужо ж жучыў Гітлер, жучыў сваіх Гелена, Канарыса: чаму не папярэдзілі, што ў рускіх, як выявілася, танкаў больш, чым у Германіі, а самалётабудаўніцтва з вялізным запасам магчымасцяў? Спецыяльныя падраздзяленні змушаны былі стварыць для ачысткі аўтамагістраляў ад рускай тэхнікі. (Гэта прагучала двухсэнсоўна — як напамін аб страшным разгроме ўсёй успомненай тэхнікі. Давялося тут жа змяніць тэму.)

Некалькі начэй запар — толькі пра гэта, пра тое, як з Берліна бачылася, ацэньвалася. Але часта заўважаў, што яго ўжо не слухаюць, гаспадар пра нешта задумваецца, зноў незадаволена хмурнее, ці не прыкідвае ён: а ці патрэбен, ці не адправіць суразмоўніка куды-небудзь *назусім*. Раптам спытаў:

— Вам што-небудзь перадавалі балгары — увосені 41-га, калі вы свой «Тайфун» на Маскву запусцілі? Пра што была размова?

Гітлер помніў пра што: Сталін прапаноўваў «новы Брэсцкі мір», усё, усё аддаваў, што на захад ад Масквы, — абы пакінулі

яго самога ў Крамлі. Абяцаў рэсурсы Расіі паставіць на службу Нямеччыне, для вайны з заходнімі дэмакратамі-плутакратамі.

Не, прызнацца Гітлеру, што ён ведае, што помніць пра такое, — значыць, падпісаць сабе смяротны прысуд. Даразмаўляешся, даўспамінаешся, што гэты ўсходні сатрап замкне цябе ў клетку і загадае вазіць па ўсёй сваёй імперыі. Глядзі, што і ў Берліне будуць паказваць…

Госць сыграў поўнае выпадзенне памяці: не было аніякай балгарскай размовы, не абмяркоўвалася нават!

Дзіўна толькі, што пра сваіх военачальнікаў, Тухачэўскага і іншых, каго ён абвінаваціў у змове з нямецкім генштабам, Сталін не распытваў. Не цікавіўся гэтым. Затое проста-такі ўкручваўся ў мазгі: успомні і раскажы, ці выходзіла нямецкая разведка ці хаця б прыватныя асобы на Жукава, на іншых яго генералаў — з чым, калі, наколькі ўдала?

Падобна, што Сталіну ўжо і гэтыя намазолілі вочы, бярэцца за іх. Ну, што ж, ягоная справа. Нічога пэўнага яму не сказаў, але і не адмаўляў, што магло такое быць на ўзроўні зацікаўленых службаў. І нават нібыта былі размовы, што рускія ваенныя хацелі б скончыць вайну без Сталіна (зрэшты, як і нямецкія — без Гітлера), баяліся, што Сталін абыдзецца з імі так жа, як з Троцкім, Бухарыным, Тухачэўскім, — лічыць патрэбным не дзяліцца вынікамі перамогі.

Сталін выслухаў уважліва, з тварам непранікальна-спакойным. Прапанаваў:

— А ўсё-ткі вып'ем за нашых генералаў. Яны стараліся, як умелі. Выслухай іх і рабі ўсё наадварот. Вельмі памагала.

Гітлеру вельмі хацелася даведацца, усё прыкідваў, як падступіцца да размовы пра галоўнае — пра Вышэйшых: ці аб'яўляліся яны Сталіну і як, з якімі загадамі-прапановамі? Хацелася супаставіць даты, часавыя моманты: да каго з іх прыходзілі раней і з чым, як Яны выбіралі паміж двума? Калі рабілі стаўку на ўсходняга і калі адступаліся — на карысць заходняга. А потым зноў звялі Вочы на Сталіну. Цяпер пра гэта можна пагаманіць без раўнівай злосці і зайздрасці. Нейкім чынам прачытаў думкі і тут жа спытаў:

— Гэта хто вам падказаў: не скончыўшы справу з англасаксамі, кінуцца і на ўсход? Мабыць, нехта больш аўтарытэтны за ўсіх Бісмаркаў, хто ж *яны*?

«Яны» — вымавіў з націскам, але па яго схопленых іржою вачах не прачытаеш: каго мае на ўвазе.

— Што, фінская кампанія ўвяла ў зман: волат на гліняных нагах?



— Прызнаюся: так, і фінская. Але былі і іншыя галасы. Здаецца…

— У нас, атэістаў, у такіх выпадках раяць: калі нешта «здаецца» — перахрысціся.

Пазбягае прамой размовы пра іх. Мабыць, лічыць іх выключна сваёй таямніцай?

А аднойчы загаварыў напрамую вось пра што:

— Дурань ты, Адольф, я табе скажу! Ды мы напару, разам, ведаеш як апрацавалі б усіх гэтых чэрчыляў-рузвельтаў. І спераду, і ззаду. Што табе ў нашым камунізме? Ну, прыбраў бы адно слова з свайго нацыянал-сацыялізму. А трэба, дык мы б адно дадалі. Хіба ў словах справа? Сяброў сапраўдных няма, гэта праўда, але ж інтарэсы нашы супадалі? Дурань ты, дурань, Адольф!

Часта і падоўгу прастойвалі ля вялізнай, на ўсю сцяну, карты свету. Моўчкі пацягваючы віно, разглядалі контуры кантынентаў.

— Цікава, Бог іх бачыць такімі ж, Еўропу, Амерыку?

— Бог — не ведаю, а вось Вышэйшыя істоты (я даўно хацеў пра гэта, Іосіф!) бачаць, як яно ёсць насамрэч.

— А як насамрэч?

— Людзі поўзаюць унутры шара, як мухі, а нам здаецца, што па паверхні. Мае вучоныя праверылі.

— А ты ім і паверыў. Ва ўсіх вучоных мазгі, як вывернутая курыная трыбуха. Упраўляць трэба час ад часу.

Нехта з двух фужэрам або люлькай датыкаўся да якой-небудзь часткі планеты, што, заклікаючы да сябе, ляжала перад імі. Другі сваю кропку на карце адшукваў і тыцкаў у яе. Фужэры ім ужо перашкода, адставіўшы ўбок, растапыранымі пальцамі мацалі, казыталі планету, узгадваючы тое, што было год ці два назад, і прыкідваючы, што і дзе адбываецца, робіцца цяпер, у дадзены момант. Пальцы, рукі іх сустракаліся на пышнацелай Францыі, на Скандынавіі, што адскочыла ўбок, як палахлівы конь, спаўзалі ўніз на потна-спякотны поўдзень, тыцкаліся ў залівы, поўзалі па рэках. Разгарачана разбягаліся — госць да адной палавіны зямнога шара, гаспадар да другой, кожны настойваў на сваім варыянце, выстогнваў сваю правату, але затым іх рукі збягаліся — на Паўночнай Амерыцы. Адзін да яе ўзняўся ад Бразіліі, Аргенціны, другі спусціўся праз Аляску. Кулаку балюча ад прыкрытай тонкай картай старажытнай крамлёўскай цэглы. Перабегшы да велізарнага глобуса, пачыналі ўсё спачатку, з яшчэ большым азартам, натхненнем. У далонях глобус слізгае атласнакруглявымі клубамі, абодва яны то замінаюць адно аднаму, а то дапамагаюць, горача і радасна лямантуюць:

— Адсюль!
— Не, адсюль!
— Тут падбрушша мяккае…
— А пра бомбу забыў? Не забывай пра бомбу. Для цябе рыхтавалі, а бедным япошкам дасталося.
— Няма ніякай атамнай бомбы. Прапагандысцкі блеф — з амерыканскім нахабствам і размахам.
— А што табе застаецца казаць, калі ты прасраў яе? Так, ты, а хто ж! Калі б аб'ядналі сілы, нямецкая тэхніка, наша рабочая сіла. І не толькі рабсіла. Твае ж Эйнштэйны разбегліся. А мы сваіх — габрэй ці не габрэй — у надзейнае месцайка, пад замок: твары, рызыкуй!
— Ну, а дзе ваша бомба, калі так?
— Будзе. І сёе-тое яшчэ. Ці не думаеш ты, што скажу табе як ёсць. Наша гестапа не дрэмле. І таварыша Сталіна па галоўцы не пагладзіць.
Калі госць напіваўся (а гэта ўсё часцей), ён пачынаў плакаць ад крыўды: немцы яго прадалі, забылі! Жывуць бок ля боку з амерыканцамі, ангельцамі, гэтымі рускімі свіннямі. Часам спахопліваўся, пужаўся, але Сталін яго як бы не чуе, аднойчы толькі паправіў: «Я б сказаў: "рускія бараны"».
— На немцаў скардзішся. А ты б з маім народам паспрабаваў. Ты дык хоць прайграў вайну, а тут: паў-Еўропы прысабачыў да імперыі расійскіх цароў — і што? Удзячнасць хоць якая-небудзь? Толькі і ведаюць: «Сталін — гэта Ленін сёння». А што ваш Ленін, калі б яго паслухаліся, даўно мелі б коўдру з шматкоў, а не дзяржаву. Дарэчы, як ты глядзіш на гэта: пастаяць на Маўзалеі на кастрычніцкія святы? Засумаваў без парадаў?
Часам Іосіф грубавата паджартоўваў з Адольфа:
— Ну, ты і здатны жэрці! Сапраўдны Вольф! А казалі, што Гітлер — вегетарыянец.
— Ды ну іх! Чым мы дзеля іх не ахвяравалі. Во, я нават акуляры не насіў, народу правадыр у акулярах не падабаецца. — Зняў з носа і, прыжмурыўшыся, з асалодай паглядзеў на тоўстыя-таўшчэзныя лінзы, падарунак Сталіна. — Жывеш, як манах, усё дзеля іх. А якая ўдзячнасць? Не вартыя яны нас.
Часам размова аб мінулай вайне так захоплівала абодвух, што яны пачыналі сумесна нанова перайграваць галоўныя аперацыі — як з таго, так і з другога боку. Захапіўшыся, Сталін маляваў на карце стрэлы з захаду на ўсход, хвацка закручваючы іх вакол Масквы, Куйбышава, пры гэтым прыгаворваючы: «Вось так, і тут вас дастанем, бач куды пахаваліся, зашыліся, шкуры міністэрскія, — не так ад немцаў, як ад Сталіна, абы быць толькі далей!»



А то пачыналі співаць, разам: грузінскія і цірольскія мелодыі надзіва зладжана гучалі, спевы настройвалі на агульны смутак — і той і другі чужыя ў сваіх краінах, прышлыя, яны ўсё зрабілі, каб узвялічыць чужы народ, але засталіся ў адзіноце. Затое яны адзін аднаго разумеюць.
— Слухай, — пацікавіўся, як заўсёды, нечакана Іосіф, — у сваёй зоне ў Нямеччыне мы гэтага не адшукалі, вы ўсе архівы на захад зацягнулі, саюзнікам дасталіся. Вось ты мне скажы: што атрымліваў наш Ільіч грошы ад Вільгельма — гэта мне вядома, я гэта ведаю лепш, чым хто, але мяне іншае цікавіць: на якой дамоўленасці працаваў, ці была і якая мянушка ў яго?
Адольф ужо ведае, што нельга адразу адказваць: так ці не, трэба так выбудоўваць, выцягваць свой адказ, каб ён па ходу клаўся на патаемныя думкі Іосіфа, яго інтарэс.
Сказаць, пацвердзіць, што Ленін — германскі агент «па штату», не шкада Гітлеру, калі гэта трэба Сталіну. Але ці гэта жадае пачуць? Як-ніяк Ленін — іх святыня. А што, як раззлуецца? Пачаў няпэўна, але па яшчэ больш зацвярдзелай лусцы зморшчын ля зусім зжоўклых вачэй сцяміў без лішніх словаў, які адказ чакаецца.
— Была, была неяк гаворка, калі абмяркоўвалася пытанне аб прапагандысцкім забеспячэнні «плана Барбароса». Пра Сталіна, прабач…
— Гэта я ведаю, чытаў вашыя ўлёткі: прадаўся жыдам і заходнім плутакратам.
— Ну, а пра Леніна… Называлі, прыпамінаю, і яго агентурнае імя. Калі памяць не здраджвае: Мангол.
— Мангол? Вось дык Уладзімір Ільіч. «Чынгісхан, які прачытаў "Капітал" Маркса»… Гэта ён так выказаўся пра аднаго вядомага марксіста. Гаворым пра іншых, а што пры гэтым прагаворваемся, — не прыкмячаем. Ну, а ты, Адольфік, прызнавайся, прайшоў такую службу? Усе не без граху.
— Паклёп габрэйскі! Рэйхсвер нібыта плаціў яфрэйтару Адольфу Гітлеру за паслугі інфарматара. Немцы ўсяму паверыць, гэта такі народ.
Быў момант: Адольф, раптам расчуліўшыся, папрасіў дараваць яму за тое, што «нягоднікі Гімлера» застрэлілі сына Сталіна. Бацька ў адказ доўга маўчаў, адно хадзіў ля сцяны з пагаслай люлькай у сціснутым кулаку. І раптам, ускінуўшы абедзве рукі над галавой, закрычаў. Па-свойму, на грузінскай, мабыць, зрэшты, таксама зразумелай новаму яго сябру:

— Дзеці! Якія дзеці? Пры чым тут дзеці? Каму ад іх радасць? Нікому.

І каторы раз Гітлер быў у захапленні ад зноўку набытага сябра: сапраўды, фатальная памылка, што яны не пайшлі да канца разам. Ну ў каго яшчэ столькі агульнага?

І зноў быццам падслухаў яго думкі Сталін:

— Бачыш тое акно? Ды ты глядзі на тую вежу! З яе скочыў Грышка Атрэп’еў, калі ўцякаў ад маскоўскага люду, падманутага, узбунтаванага баярскай сволаччу. Ведаеш такога? Самазванец Грышка Атрэп’еў. Дарэчы…

Крануў слабасільную, падвялую руку Адольфа сваёй, такой жа:

— Дарэчы, у яго адна рука была таксама… убогая. Знак, ці што, такі? Не бойся, нам не давядзецца скакаць.

— У мяне і правая цяпер таксама, — паскардзіўся Гітлер, — падклалі, гады, бомбу пад стол. Усяму віною маё добрае сэрца. Не, я дрэнна вучыўся ў таварыша Сталіна.

— Ну, не трэба прыбядняцца. Я ж не выпадкова пасылаў майго Лаўрэнція на стажыроўку да твайго Генрыха.

— Гімлер — здраднік. Шкада, што я не паспеў яго расстраляць сам.

— Усё трэба рабіць у час. Своечасова. Гэта ты маеш рацыю. Як там мае Гімлеры, не крыўдзяць цябе на Лубянцы? А то яны ў нас жартаўнікі: адарвуць галаву і скажуць, што так і было.

— Не магу паскардзіцца. Я быццам госць у іх. Ветлівыя, абыходлівыя.

— А ты і ёсць госць, — і Сталін раптам заспяваў, тэатральна адкінуўшы ўбок руку з люлькай: — «Ты не пле-енник, ты гость у меня!» — І паабяцаў: — Мы цябе яшчэ ў Вялікі зводзім. Як ты наконт балерын? Ці таксама вегетарыянец? А вось мае паплечнікі — майстры па гэтай частцы.

Час ад часу у пакой, папярэдне паскрэбшыся ў дзверы, упаўзаў-уваходзіў лысы чалавечак без вачэй (ніводнага разу вачэй не ўзняў, і Гітлер іх не пабачыў), клаў на стол чырвоную папку і знікаў. Сталін неахвотна перабіраў лісткі, нешта падпісваў, а іншыя гняўліва перакрэсліваў або размашыста пісаў некалькі словаў зверху на палях. Аднойчы, пасміхаючыся, перадаў ручку госцю: «Ссумаваўся? Падпісвай!» — і паказаў дзе. Звыкнуўшы за гэты час нічому не здзіўляцца, Адольф з нечаканым задавальненнем прарабіў тое, па чым рука і вока сапраўды засумавалі, — паставіў подпіс. Гэты подпіс рухаў арміі, вырашаў лёсы людзей і краін.



— Няхай яны там!.. — зларадна вымавіў гаспадар кабінета, адштурхоўваючы ад сябе папку з паперамі.

Усё часцей з Крамля выходзілі дырэктывы, указанні за двума подпісамі: усім вышэйшым чынам знаёмы: «Сталін» і другі, незразумелы. Тымі, хто ведаў, прачытвалася лацінка: «Адольф Гітлер». Але паверыць у гэта спачатку ніхто не рашаўся. Зачыніўшыся ў кабінетах за двайнымі дзвярыма, сакратары абкамаў і крайкамаў узіраліся ў подпіс, як у нейкі кабалістычны знак. Не можа быць, гэта нешта іншае! Здагадкамі не дзяліліся, ні з кім гаворак не вялі, кожны прыкідваўся, што пасвечаны і анічога такога не прыкмячае, не бачыць. Партыя ведае, што робіць. Задужа ўсе вучоныя былі: не забягай паперадзе бацькі! Але і ратуй Божа замарудзіць, спазніцца, калі партыя разварочваецца на маршы на 180°. Тое, што было наперадзе, называлася пярэднімі рубяжамі, выкрываецца і ўжо называецца «хвасцізмам», а «хвасцістаў» б’юць. Колькі мідаўцаў, ды і чыстых партыйцаў не змаглі ў патрэбны момант прыкінуцца, што яны заўсёды так думалі і лічылі, калі фашысцкая Нямеччына і Гітлер з «ворага № 1» раптам зрабіліся сябрамі і саюзнікамі. Дзе яны тыя, няспрытныя? Але нельга ні на міліметр і наперад забегчы: а раптам разварот будзе адменены, а ты ўжо выбег з шэрагу. Назад не вернешся, не прымуць — правілы жорсткія.

Калі ты аддань сын партыі, верны ленінец-сталінец, ды і проста хочаш выжыць, — загадзя прымай усё, што можа паступіць, прыйсці зверху. Але пры гэтым будзь гатовы ад усяго ў той жа міг адрачыся, адмовіцца, калі сітуацыя зноў зменіцца. Няма нічога, з чым ты сябе атаясамліваеш, нічога, апроч аднагоадзінага выпадку. Затое тут: прымай усё як ёсць, безагаворачна. Раз зыходзіць ад Яго. Нават калі вось такое: папера з роспісам нябожчыка, і якога — Адольфа Гітлера!

Гаспадар ведае, што робіць, калі ён гэта робіць. Свет не раз ахкаў уражаны. Ахкне і яшчэ раз.

Свет, аднак, не ахкнуў, усё, што адбывалася, ён схільны быў утапіць у газетнай, у радыёбалбатні на тэму пра таталітарызм (знайшлі слоўка і ўзрадаваліся). Маўляў, з аднаго кораня выраслі, адзін ствол ссекла Другая сусветная вайна, другі на сябе ўсе сокі забраў і на яго пераляцела, перасела ўсё, што раней тулілася пад карой і ў кроне ссечанага дрэва. Тыранічнае блюзнерства, не больш. Ну, а што чуткі самыя дзікія ў Маскве і па ўсёй велізарнай краіне — менавіта агромністасць адлегласцяў, тэрыторыяў садзейнічае іх характару і інтэнсіўнасці. А калі яшчэ ўлічыць умовы, у якіх жывуць гэтыя людзі, і тое, як яны

жывуць, — чуткі і міфы адзіны сродак зберагчы сябе ад поўнага вар'яцтва. Вось і трызняць наяве: Сталіна, аказваецца, даўно няма ў Крамлі, атруцілі. Ці то Троцкі атруціў, ці то нямецкія шпіёны — пасля таго, як дабрэйшы грузін запратэставаў супраць калектывізацыі, раскрытыкаваў планы, намеры за кошт аграблення сялян рабіць машыны і танкі. З дапамогай трацкістаў немцам удалося пасадзіць у Крамлі свайго чалавека — на месца і пад выглядам Сталіна. І падабраць яму «саратнікаў» (многія з іх таксама двайнікі). А інакш і не вытлумачыш усё, што вычваралася ў краіне. Асабліва калі армію абезгаловілі, а потым не дазвалялі адбіваць напад Нямеччыны, пакуль ён не набраў сілу.

Так што народ як бы і не здзівіўся, калі Адольф Гітлер апынуўся ў Крамлі. А дзе яму яшчэ быць? Знайшлі дурняў! Ды ён заўсёды там сядзеў.

Ну а Палітбюро? Аніякага няма Палітбюро: міжсабойчык педэрастаў, яны сваіх жонак збагрылі ў лагеры і наўсю забаўляюцца на дачах, старыя ванючыя казлы. Спецыяльныя людзі адлоўліваюць на вуліцах маладзенькіх дзяўчат — яны іх, падсмажаных, з'ядаюць, каб раскачагарыць свае азызлыя тушы. (Дарэчы, вось яшчэ адно тлумачэнне таму, што здарылася ў дзень смерці і хаўтур крамлёўскага дыктатара: чаму так кінуліся да труны яго дзясяткі тысяч, душачы адзін аднаго ў нябачаных зборышчах, — падсвядомае імкненне самому пабачыць, пераканацца, знайсці пацвярджэнне ці абвяржэнне: дык ён гэта ці не ён?!)

Хвалі чутак і страсцей разбіваліся аб крамлёўскую сцяну, толькі пыркі далятаюць да кабінета-сталовай-спальні Сталіна, але на спробы спачатку яму нешта паведамляць ён так адрэагаваў, што інфармацыя амаль абарвалася. Госць пасяліўся ў кабінеце, спаў на канапе, больш яго не непакоілі, не адводзілі і не прыводзілі.

Сталін, аднак, не забываўся пра тое, што можа адбывацца па-за Крамлём. Наадварот, вельмі нават яму падабалася ўяўляць, якая збянтэжанасць царуе там, асабліва ў яго вернай партыі. Ну, а як яшчэ праверыш сілу свайго аўтарытэту, улады? Толькі так. Напрыклад: уступаем у антыкамінтэрнаўскую кааліцыю дзяржаваў! — намер такі быў напярэдадні вайны. Шкада, што не атрымалася. Дурань гэты заўпарціўся, а за ім — і дучэ, і японцы. Вядома, для тых, хто не па Сталіну дыялектыку вывучаў, гэта быў бы гром з яснага неба. Стаўку даводзіцца ўздымаць. Аж да вось такога сюрпрызу: Гітлер у Крамлі! Каб вочы на лоб лезлі. На наступны крок ужо і фантазіі не стае.



Аднойчы падумаў уголас:

— А ты, Адольф, добра глядзеўся б у Маўзалеі, побач з Ільічом.

Гітлер зноў убачыў накіраваны застыглы позірк Яшчара — скамянелыя зморшчыны вакол нерухомых жоўтых вачэй! Запратэставаў:

— Ніхто мне не дазволіць.

— Таварышу Сталіну лепш ведаць, што і хто ў гэтай краіне дазволіць ці не дазволіць. А то давай паспрачаемся. На што?

— Але калі на тое пайшло, — госць ледзь не плакаў, — там законнае месца Сталіна. І нікога больш.

— А ён мне і пры жыцці — во! (Сталін вяла крануў даланёю сваю зморшчакаватую шыю.) Дастаў ён мяне! Што жывы, што маўзалейны. І потым, я, можа, наогул не збіраюся. — Памаўчаўшы дадаў: — Паміраць.

На Кунцаўскай дачы («бліжняй») пад шум соснаў за цёмнымі вокнамі думалася пра смерць. Не любіў ні з кім пра гэта ўголас гаварыць, і ніхто не адважыўся б пра яе загаварыць у яго прысутнасці, але тут парушыў свае правілы. З Гітлерам чамусьці цягнула і гэта абмеркаваць. Як спецыяліст з спецыялістам? Ды не, пра смерці, якія з многімі нулямі, што за цікавасць гаманіць? Статыстыка. А вось пра тую, што і да цябе мае адносіны, да якой ты «прыпісаны», — паспрабуй пра яе не думаць. Госць, не быў бы то немец, сыпаў цытатамі з нейкага англійскага аўтарышкі (нянавісць звычайна прыварожвае, так і тут — ні кроку, каб не ўспамянуць англасаксаў), у гаспадара ж апошнім часам немаладая памяць усё часцей выкідвае на паверхню тое, чым насычаўся мозг у дзіцячыя і семінарскія гады: «Смерцію смерць папраў», «Сон — брат смерці…» Таму і не любіў гэты стан — спаць. Сустракацца з «братам смерці», прытым кожную ноч. Паступова зрушыў ноч, сон да самае раніцы. А калі б мог, дык і наогул вачэй не заплюшчваў бы. Спаў бы з расплюшчанымі.

Забаўна было чуць ад Адольфа развагі пра «касмічны век» тых, каго «Вышэйшыя Істоты» далучаюць да ліку «новых гігантаў», ці што. Гаворыць, лунае ў сваіх аблоках, а абодва ведаюць, што варта таварышу Сталіну пазваніць, і зойдуць, і возьмуць раба божага пад белыя рукі — вось і ўвесь твой век. Усе гэтыя фантазіі да месца былі ў Берліне, у сталіцы «тысячагадовага рэйха». А цяпер і жыццё, і лёс твой — у гэтых вось паплямленых узростам, старасцю руках. Ну, а яго, Сталіна, у чыіх?

Думак — на ўсю, што засталася, ноч. Услухоўваўся ў шум лесу за драўлянымі сценамі, прыглушаныя галасы, што

ўгамоньвалі каравульную аўчарку, да неспакойнага дыхання ў суседнім пакоі, да ўскрыкаў у сне фюрара разгромленай імперыі — дык што такое: «смерць Сталіна»? Як гэта можа быць і якая тады логіка і справядлівасць? Навошта было агарод гарадзіць, калі ўсё гэтым скончыцца? Ва ўсіх — у Аляксандра Македонскага, у таго ж Чынгісхана — канчалася гэтым. Але хіба параўнаеш: што ў свеце залежала ад іх рукі і волі, а што ад таварыша Сталіна. Не ў тым справа, каб паўсвету пад нейчай рукой (гэта было і не раз), а каб так, што нікому не схавацца, ніводнаму сярод мільёнаў — твая воля з кожным і штохвіліны. У гэтым розніца. Ты трымаеш (і як!) паўсвету, а значыць, паўсвету цябе затрымлівае на зямлі, трымаецца за цябе, не адпускае. Смешна, калі паплечнікі зазіраюць у вочы, але сказаць, нагадаць баяцца: ты ўжо стары — назаві пераемніка! Гэта вы можаце прыняць такую спадчыну і ўтрымацца ў кожнай душы на палавіне планеты? Думаеце, што вам удасца гэта зрабіць, як удалося таварышу Сталіну імем Леніна? Маім імем разлічваеце пражыць? Як бы не так — паміж пальцаў у вас усё выслізне.

Не з імі, аднак, начныя гамонкі ў Сталіна, таварыша Сталіна. Ёсць у яго іншыя суразмоўнікі, апошнім часам — пастаянныя. Вылепіліся, выступілі з паўзабытых уражанняў дзяцінства. З калісьці чытаных, успрынятых, а затым адрынутых са злоснай пагардай і юнацкай крыўдай на ўвесь свет кніг «духоўнага зместу». З усяго наступнага, а больш за ўсё з вечных крыўд на сваіх атэістычных настаўнікаў і паплечнікаў, якімі ён усё больш грэбаваў, узнікла патрэба ў іншых, зусім іншых суразмоўніках і апанентах. Не з матэрыялістамі ж ванючымі спрачацца. У іх адзін аргумент: старэчая тленнасць чалавечага цела, незваротнасць адмірання шэрага рэчыва. Як быццам у гэтым уся справа і да гэтага ўсё зводзіцца. Багі, урэшце, чаму неўміручыя (лічылася)? Грэцкія, рымскія. Бо за кожным было замацавана нешта вечнае: мора — Нептун, неба — Гера, ну і гэтак далей. А калі за табой замацавана (або ты замацаваны) паўсвету, а не нейкая там рачулка ці гара, як за Зеўсам? Ну, добра, гэта паганскія багі, а не тыя Адзіныя, якім сёння пакланяюцца — сотні мільёнаў людзей кожнаму. Хрысціянскаму, іудзейскаму, мусульманскаму. Яны таксама не недзе там у «эмпірэях» жывуць, а ў кожным воласе на чалавечай галаве, у кожным дыханні жывых істот. Проста пра гэта ва ўсіх галоўных кнігах сказана. Значыць, задача ў тым, каб распасцерці сябе на ўсё, на ўсіх, каб ужо ад тваёй добрай ці гнеўнай волі залежала, ці ўпадзе волас з чалавечай галавы. І адзін ён упадзе ці разам з галавой. «Смерцію смерць папраў…»



Добра Богу ад нараджэння зымітаваць уласную смерць, ведаючы пра гарантаваную неўміручасць сваю. Ну, а калі табе яе трэба яшчэ атрымаць, зарабіць — неўміручасць? І калі даводзіцца смерць адганяць ад сябе, трымаць на адлегласці, як той сібірак рабіў: конь ляцеў з санямі, а ён ваўкам, што даганялі яго, кідаў па адным барану? А была б тысяча, мільён бараноў пад рукой, хіба пашкадаваў бы?

Але дужа часта (а апошнія гады асабліва часта) падобныя лагічныя збудаванні руйнаваліся самі сабою, усё менш давалі супакаення. І тады ўзнікала патрэба ў малітве. Але гэта была асаблівая малітва.

«Калі Ты ёсць, як лічаць многія, і калі Ты, праўда, такі апякун, як пішацца ў Бібліі, у Каране, — забяры ўсіх і ўсё назад, каго я адабраў у Цябе, забірай і жывых, і мёртвых. (Мёртвыя асабліва неадступна за намі следуюць, яны, выявілася, самыя «адданыя».) Калі трэба, я адыду ад справаў, пакіну гэтую краіну, паўсвету — каму хочаш і на каго хочаш. Я ўжо амаль зрабіў гэта, Ты ж бачыш. Ты пакінь мне самога сябе. Назаўсёды, навек. Ну, хіба Табе цяжка парушыць «законы прыроды», калі Ты сам іх прыдумаў і сцвердзіў? А мне не патрэбен ніхто, ні верныя, ні няверныя. Зрэшты, яны заўсёды гатовыя ў любы момант «адляпіцца» ад бога, ці нябеснага, ці зямнога — Ты гэта спазнаў раней за мяне. Я мог бы і далей з Табой сапернічаць, адбіраючы, як у капіталістаў адбіраем, — краіну за краінай, народ за народам, руйнуючы Твае храмы на ўзгорках і ў душах так званых «вернікаў». Але навошта ўсё, калі няма ў мяне фізічнага бяссмерця? І яшчэ, я зразумеў тое, што Ты, мабыць, заўсёды ведаў: калі нават усе краіны і ўсе народы, усе, якія ёсць, людзі сыдуцца на адной плошчы, каб славіць свайго Бога, заўсёды адшукаецца ў гэтым зборышчы нехта, хто ціхенька шле Табе праклёны. Ты знішчыў «серным агнём» (Ты аддаў яго амерыканцам!) Садом і Гамору, не адшукаўшы ў горадзе ніводнага праведніка. А калі адзін вось такі гнюсны двурушнік сярод суцэльных праведнікаў — хіба не заслугоўваюць яны (усе да аднаго!) нашага агню?.. Але не, гэта проста так, на астатак кажу, мне нішто і ніхто не патрэбен, пакінь толькі мяне. Старым, хворым, адзінокім, нікому невядомым — я на ўсё згодзен. Калі хочаш, я памяняюся месцам нават з ім, што ўсё прайграў, вартым жалю нахлебнікам — Адольфам Гітлерам…»

Краіна, парадку і беззлачыннасці якой многія зайздросцілі, стаміўшыся ад сваіх дэмакратыяў, змяняцца стала на вачах. Як

бы ўпала ў ціхае шаленства: звыклая норма адыходзіла, змяняючыся нязвыклай ненармаванасцю. Прыпыненыя былі расстрэлы ў цэнтры і на месцах, больш не судзілі тых, хто па-паклёпніцку абвінавачваў уладу ў расстрэлах і катаваннях; ніхто больш не сачыў, колькі сотак зямлі пры хаце калгасніка і ці няма лішніх; ці не будуюць недазволеныя гаражы пры дачах гараджане; не адлоўлівала больш міліцыя грамадзян, што непрапісана жывуць у гарадах; цэнзары не вышуквалі глыбокі «падтэкст» і «алюзіі», дазволеныя і недазволеныя лічбы і факты гатовых да выдання часопісаў, кніг, запрашальных білетаў, этыкетак і бутэлечных наклеек; строгія райкамаўскія дамы не сядзелі ў пустых залах тэатраў і не «прымалі» больш новых пастановак і канцэртаў. На прывакзальных плошчах ніхто не сачыў, каб бабулькі не прадавалі кроп, пятрушку ці нейкія вырабы прыватніка; сусед не прыслухоўваўся, а пра што там суседзі гамоняць ці спяваюць за сценкай або за дзвярыма прыбіральні; у дзіцячых садках і яслях уся выхаваўчая і патрыятычная работа пушчана была на самацёк; нават вар’ятні перасталі прымаць новых кліентаў з ліку тых, што не разумеюць і не прымаюць палітыку партыі і ўрада — сапраўды, краіна ўваходзіла ў паласу вар’яцтва, ціхага шаленства.

І адбывалася ўсё гэта таму, што адзін чалавек у велізарнай краіне раптам павёў сябе не так, як учора ці пазаўчора. Усяго толькі адзін чалавек, але на ім усё ў гэтай дзяржаве замыкалася — як на шчыце, на пульце кіравання. Усё, да апошняе драбязы. Аднойчы ў гэтай краіне такое ўжо адбывалася. У першы тыдзень пасля нападу Нямеччыны, Гітлера. «Чалавек-пульт» пацягнуў сябе на дачу (на гэтую ж, «бліжнюю»), выключыўсяадключыўся. Усе астатнія сістэмы кіравання адладжаныя былі так, што маглі ўзаемадзейнічаць толькі праз яго. А таму замёрлі, заглухлі і яны. Франты рваліся, камусьці ўдавалася прабіцца, выйсці на сувязь з Крамлём — тэлефоны трызвонілі па ўсіх кабінетах, апусцелых. Чалавек з сумным, памятым тварам Касыгіна пераходзіў ад апарата да апарата, паднімаў трубку і без канца паўтараў адну фразу: «Таварыш Сталін у курсе».

І вось такая ж сітуацыя паўтарылася. Механізм дзяржаўнага кіравання ўсім і ўсімі быў адладжаны так, што ён або дзейнічаў на поўную катушку, або не дзейнічаў зусім. Усё было збудавана на тым, што перад вачыма ў кожнага грамадзяніна — Калыма. Не, не далёкая, сібірская, гаворка пра геніяльнае вынаходніцтва Правадыра: пры кожным калгасе, у кожным калектыве, поруч, рукой падаць — свая Калыма. Аступіўся — і ты ўжо там, крок



управа, крок улева — калона, астатнія пайшлі без цябе, а ты — за рысай.

Але страх застацца за рысай скоўваў, як ніколі, мазгі саміх захавальнікаў і збудавальнікаў Агульнага Страху. Яны так паглыбіліся ў звышскладаную задачу — абслужыць з усёй павагай госця Правадыра, не падвяргаючы сябе небяспецы апынуцца заўтра пасобнікам самога Адольфа Гітлера, што ні на што іншае ўвагі ўжо не звярталі. І грамадзяне адразу сталі адбівацца ад рук.

Партыя — у яе ўзніклі свае праблемы і складанасці, якія забіралі (і паралізавалі) усю ранейшую яе энергію. Партыя заўсёды помніла, што яна амаль цалкам замяніла сабой ранейшы склад: тыя ранейшыя не падабаліся Генсеку. Падабацца Яму і толькі Яму — гэтае калектыўнае гарэмнае пачуццё панавала ў партыі. Вечная гарэмная паніка: а раптам не ўлагодзім! Што тады будзе? І вось такое выпрабаванне: Гітлерам! Нічым займацца ўжо не маглі, а толькі ўслухоўваліся: «Што, што там, за Сцяной?»

Саветы розных узроўняў — пра іх і гаварыць не варта, яны і ў лепшыя свае часы былі ўжо пры партыі слугой-служанкай, а тут — толькі і маглі, што следаваць па пятах за паняй, што ўпала ў ціхую істэрыку. Зрэшты, не ўпускаючы пры гэтым выпадку што-небудзь цішком зжаваць, каб не збянтэжыць паню самагонным духам.

(Каго яшчэ ўспомніў новы лідар пасляжнівеньскіх камуністаў Г. Зюганаў, калі нядаўна гаварыў пра неадменных «кітоў» дзяржаўнасці? КДБ, Партыя, Саветы, ага, яшчэ армія! Тая, 1945 года армія, асабліва была нязручная для развароту на 180°. Якніяк 4 гады ваявала з Гітлерам. Ну, але меўся ў запасе лозунг: «Камуністы, наперад!» — было, было каму разгарнуць і армію.)

Забылі мы пра членаў Палітбюро (як усё-ткі хутка забываюцца такія рэчы). Як яны, «прынебажыхары», сябе адчувалі, калі Гаспадар ім усім даў ад варот паварот дзеля аднаго? Іх ані не збянтэжыў Гітлер у Крамлі. Хлопцы гэтыя да чаго толькі не прывыклі. Адзінае, што мучыла: не дапускае да сябе Коба, і яны не маюць магчымасці сказаць-паказаць яму: згодныя! згодныя! На ўсё, як і заўсёды, згодныя.

Непастаянны і непрадказальны ў сваіх сімпатыях-схільнасцях «просты народ» асабліва з нагоды гэтых людзей зларадніча ў. Адставіў іх Гаспадар, турнуў, ну, і правільна зрабіў! Даўно пара! Хто яны такія, каб быць поруч з Ім, штодня бачыць Яго, слухаць Яго, тады як астатнія гэтае шчасце маюць толькі на святы, і то зводдаль? А зводдаль — каго табе не падстаўяць! Атруцілі! Падмянілі! Абдурваюць народ!

Прыйшоў такі момант, калі Сталін ад госця стаміўся, нават да яго за Сцяну пранікла тое напружанне, у якім знаходзіўся свет, не кажучы ўжо пра краіну — ад падзеяў у Крамлі. Як ні дзіўна, але раптам засумаваў па сваіх апрабаваных паплечніках. І яшчэ па многім іншым, што ён так лёгка, легкадумна гатовы быў саступіць камусьці (няхай нават самому Богу) — гэта дзеля чаго? Дык жа не, адыдзі-адсунься!

Пакуль не прыняў канчатковага рашэння, падумалася, што цікава было б звесці іх за адным сталом — пачаставаць паплечнікаў Гітлерам. Не кожны дзень такое пабачыш.

Пасадзіў фюрара за сталом на тое месца, дзе звычайна сядзеў сам: праверыць паплечнікаў на «паўлаўскі рэфлекс». Цырульнік спарадкаваў звыклую валасатасць Адольфа, не пазнаць немагчыма. Праўда, азыз, раздаўся ў шчоках ад начных застолляў, другое падбароддзе з'явілася — як бы за Берыю не прынялі. «Гітлер і Берыя ходзяць у адны дзверы…» Пра Сталіна распавядалі, цяпер можна і пра Гітлера — нічога больш дасціпнага гэты народ не прыдумае.

Бясхітрасныя кабеты, дачная абслуга, пазналі адразу, не ўмеюць схаваць простанароднае агіды і жаху, ну але нічога не папішаш, Адольф, яны ў мяне не палітыкі. На дачы палітыкаў не трымаю.

З'явіліся адразу двое: Лаўрэнцій і Малянкоў. «Мы з Тамарай ходзім парай…» Ужо і не тояцца, што спеліся, дуэт у мяне за спінай. Але чамусьці разуліся: Малянкоў трымае пад пахамі свае чаравікі, Берыя боты ў руках. Ашалелі яны, ці што? Апамяталіся і кінуліся назад, да парога. Пераглянуўся з Адольфам: ну, цяпер бачыш, з кім мне даводзілася працаваць? А ты скардзіўся на сваіх…

Вярнуліся абутыя, як нічога не здарылася, Берыя, бліскаючы акулярамі і распухлай мордай, шуміць, гаворыць, балбоча за ўсіх, але госця не бачаць. Не заўважаюць, як бы і няма нікога такога ў пакоі: адзін толькі таварыш Сталін, да яго ўся ўвага. Прасцяк Варашылаў, калі ўвайшоў, на міг зачапіўся позіркам за чалавека, што сядзіць на звыклым месцы гаспадара, па-бабску замітусіўся, учапіўся ў руку таварыша Сталіна і не адпускае, давялося стрэсці яго: ты хаця не заплач, жалезны наркам, не ганьбі Чырвоную Армію!

Лазар Майсеевіч малайцом, нічога не скажаш! Патрымаўшы руку гаспадара ў абедзвюх далонях і як бы набраўшыся ад яго энергіі, упэўненасці, што ўсё ідзе, як трэба, павітаўся з астатнімі, працягнуў руку і госцю, не зміргнуўшы вокам. Фюрар прыўстаў з крэсла, вітаючыся з крамлёўскім габрэем, абрадаваўся, што яго нарэшце бачаць. Зайшоў Андрэй Андрэевіч Андрэеў, але яго самога ніхто не заўважае — пустое месца. Ён у Палітбюро безгалосы і безаблічны, як бы замест каня ў рымскім сенаце. Так таварышу Сталіну зажадалася.



З'явіўся Молатаў з партфелем пад пахай — хоць ты сам перад ім уставай! Здзіўлення, няўпэўненасці — ані ў воку. Можна падумаць, учора сустракаліся і рассталіся. «Каменная задніца» — але гэта з лексікону Ільіча. Хаця па сутнасці — верна. Паперкаю прыцісне чалавека, як магільнай плітой. Ведае справу. Гэта Ільіч не ведаў, а таму і балбатаў, без касцей, ну, ды яму мала заставалася, можна было і дазволіць. Пра таварыша Сталіна: «Пан Картатэкін». Ім, жэнеўцам, гаварунам, няўцям, што сіла, улада ў таго, у каго картатэка.

Так, але ты, Вячаслаў, не можаш не ведаць, не пазнаць гэтага тыпа з варашылаўскімі вусікамі: сустракаліся ў Берліне, перамовы вялі. Знаёмы ж з ім, пазнаёміўся раней за мяне. Глядзі, і Адольф цябе пазнаў, як узрадаваўся, нябога, быццам роднаму! Ды падыдзі, падбадзёр, прылашчы. Ну не, камень і ёсць камень, звык, сволач, глядзець далёка наперад. А тут забеглі гэтыя двое: добры дзень, я ваша цётка! Як Бобчынскі і Добчынскі — у творы класіка расійскай літаратуры Гогаля. (Гегеля? Не, менавіта Гогаля. Адзін раз памылішся, і потым увесь час скача чахарда: Гогаль-Гегель-Гогаль.) Прасцяк Мікіта, хітрун з хітруноў Анастас, што іх звязвае — Хрушчова з Мікаянам? Давядзецца нанова з усімі імі разабрацца.

А дзе Калінін, гэты дзе хаваецца, казёл капусны?

— Дзе Міхаіл Іванавіч? Без усесаюзнага старасты нейк нядобра пачынаць.

— Забыў дарогу, — хіхікнуў Берыя, з папрокам-намёкам таварышу Сталіну. Доўга, маўляў, не клікаў. — А во, лёгкі на ўспамін.

— Сядайце, Міхаіл Іванавіч, будзеце займаць госця, вось сюды. — Гаспадар не дазволіў старасту шмыгануць у кусты, падцягнуў і пасадзіў поруч з Гітлерам. А потым даводзь, што не сядзеў! Але нічога, можа, яшчэ і не давядзецца.

— Знаёмцеся, хто яшчэ не знаёмы: Адольф Гітлер. Просім любіць і шанаваць.

І адразу зніклі напружанасць, няпэўнасць, усе ажывіліся, заўсміхаліся з палёгкай. Гаспадар выразна паглядзеў на Берыю.

— Думаю, варта госця пасвяціць у рыцары нашага стала.

Мікіта адразу ж працягнуў зводдаль свой фужэр, прапаноўваючы госцю чокнуцца, той прыўстаў з крэсла, а яму раз — і падклалі туды вялікі памідор. Апусціўся на сваё месца, і на твары разгубленага Адольфа Гітлера з'явіўся цягуча-здзіўлены выраз, які будзе ў кожнага, у любога, хто…

Берыя сфармуляваў перажыванні госця так:

— Захацеў пердлнуць, а ўсраўся!..

І адразу ўсе перашкоды, перапоны ўпалі: камунізм, нацызм, Расія, Нямеччына, — за сталом былі свае, што разумелі адзін аднаго ва ўсім. І асабліва ў гэтым. Берыя ўсё пераконваў госця:

— Дык дапетрыў: сам сабе не вер? Захацеў, а атрымалася што?

Пілі доўга, шмат жартавалі, гаманілі, смяяліся — адвялі душу за ўпушчаны час. Госця літаральна на руках занеслі ў суседні пакой, паклалі на атаманку. Варашылаў расшнураваў чаравікі яму, Калінін сцягнуў штаны. Пры гэтым Берыя падміргнуў Лазару Майсеевічу:

— Глянь, ён не абразанец?

Назаўтра зайшлі нейкія людзі і разбудзілі госця. Строгія, нешматслоўныя, такіх ён помніць па першых днях на Лубянцы. Загадалі апрануцца. У паўадчыненыя дзверы бачыць Іосіфа, што сядзіць за сталом. Чамусьці ў фантастычным сваім мундзіры, знаёмым з першай сустрэчы. Затрапятаўшы ад благога прадчування, выкрыкнуў:

— Тут людзі прыйшлі…

— Гані іх пад такую тваю!.. — супакойліва-марудліва пpaракатаў голас гаспадара, што не ўздымаў галаву ад сваіх папер. Але страшныя людзі нічога не чуюць, адно толькі камандуюць: збірайся! хутчэй! І прадбачліва перакрываюць шлях у пакой, дзе гаспадар, пазіраючы туды з бояззю.

Адтуль раптам голас:

— Ты не помніш, якія словы сказаў у ноч з 21 на 22 чэрвеня? Калі аддаваў апошнія распараджэнні. Ну, калі ўспомніш, скажаш мне.

Ужо выведзены з пакоя пачуў, услед прагучала:

— Прабач, друг дарагі, мне яшчэ трэба папрацаваць. Падзапусціў справы таварыш Сталін. Савецкі народ мае права пакрыўдзіцца на таварыша Сталіна.

…Тонкі і крохкі на выгляд асколак чэрапа з кулявой дзіркай, сківаца з пазнанымі асабістым дантыстам Адольфа Гітлера каронкамі былі схаваныя ў кардонны карабок на той выпадак, калі Сталін запатрабуе паказаць яму. Але той, мяркуючы па ўсім, не спытаў. Паказалі нам (у тэлевізары) праз сорак гадоў пасля смерці самога Сталіна.



Добра перажыць фюрара, якое патрэбна шанцаванне дзеля гэтага! А двух адразу, і чужога, і свайго, і тым лепш. Што ім было прыбраць раней нас, як прыбіралі многіх і многіх. Але падлай сталі не мы, а яны. Яе, не ведаючы, як пазбавіцца, цягаюць, цягаюць з месца на месца. (А з душамі іх таксама так?) І свет зноў пераканаўся ў благаславёным дэмакратызме смерці. Ну, і не будзем да яе несправядлівымі, толькі таму, што самім нам хочацца жыць і жыць. Дзеля суцяшэння сабе: мы як бы плоцім жыццямі, каб пазбавіцца ад іх. Хіба мала знайшлося б на нашым баку (помню гарачлівыя размовы партызан пра гэта) тых, хто ахвяраваў бы сабой, абы прыбраць фюрара нямецкага, і адпаведна — на другім баку, тых, хто марыў цаной свайго жыцця адправіць у пекла Сталіна? А сёння дык ужо і «наш бок» з тугой і непаразуменнем пытае: ну чаму той жа Тухачэўскі ці яшчэ хтонебудзь, усё роўна ж былі асуджаныя, чаму не зрабілі гэтага?..

Так што, згаджаючыся на ўласную смерць, мы тым самым пацвярджаем волю і права быць вольнымі. «Нічым не можа валодаць чалавек, пакуль ён баіцца смерці (гэта П'ер Бязухаў, а па сутнасці — Леў Талстой). А хто не баіцца яе, таму належыць усё».

Радасць, захапленне 1945-га, цьмяная здагадка 1953-га, што «ўсенародны плач» па кату-забойцу сваім — гэта істэрычная рэакцыя пажыццёвых зэкаў, перад якімі раптам расчыніліся вароты на волю, — для нас, хто перажыў і тое і другое, пароль надзеі ўвесь у формуле: добра перажыць фюрара! Радасць ідыётаў? — ну што ж, не большае, аднак, ідыёцтва, чым наша жыццё было (і якім зноў прываньваюць краіну.)

Аднак пара канчаць з блюзнерствам нябожчыка, пасмяротнымі фантазіямі фюрараў-правадыроў і абудзіць свой тэкст дзеля жывых…

* * *

За вайну я зрабіў не адно адкрыццё ў адносінах свайго не толькі «духу», але і цела, «арганізма». Напрыклад, што можна спаць на нагах. Ісці за кімсьці, а ўслед за табою хтосьці (гэта калі мы ўсю ноч атрадам ішлі рваць чыгунку), і, засынаючы на хаду, нават сны бачыць. Або: спаць не ўсім целам (на снезе, на марозе), а асобнымі яго частачкамі, кавалачкамі — тымі, якія

сяк-так грэюцца, калі з падціснутымі каленямі прытуляешся да спіны таго, хто ляжыць перад табой, а да тваё спіны таксама нехта прытуляецца (клаліся на снег шчыльна адзін да аднаго). Засынаеш на нейкія секунды, не больш, і спіш не ўвесь, а толькі каленкамі, жыватом, падпахамі — што крыху сагрэлася. Як бы і мозг адпачывае толькі тымі частачкамі, клеткамі, якія адказваюць за нагрэтыя мясціны.

Калі сон — гэта «брат смерці» ці рэпетыцыя (многія пра гэта пісалі, даўно), калі думкі ідуць у гэтым напрамку, тады лермантаўскае: «не тем холодным сном могилы я б хотел навеки так уснуть», — на паўшляху да талстоўскага: «я умер — я проснулся. Да, смерть — пробуждение».

Абуджаемся ад мітусні, з яе абыякавасцю ці варожасцю на кожным кроку, імкнучыся да таго, што Талстой называе любоўю, агульны выток якой — Бог. (А раней, да абуджэння, жылі «каленкамі», «падпахамі», нейкімі часткамі, а не ўсёй істотай.)

Праўда, калі я перачытваў «Вайну і мір» у 1941-м, зусім іншыя старонкі рамана хвалявалі: паход Напалеона на Маскву і як гэта ў яго не атрымалася. Аднойчы немцу-афіцэру пра гэта нагадаў, калі ён паказваў нам карту, як будзе ўзята Масква (дом ля самай варшаўкі, і немцы забягалі да нас пагаліцца, прывесці сябе ў парадак). Афіцэр сярдзіта пайшоў «да сябе» (у суседні пакой), а калі сабраўся зусім адыходзіць, на развітанне пастукаў па ілбе мне сагнутым пальцам і паабяцаў: «Павесім!»

Ясна, што сёння перачытваеш талстоўскія старонкі (а менавіта гэтым зараз заняты поруч з пісаннем, тэлевізарам і хваробамі) іншымі вачыма. Здавалася б, вайна павінна была настройваць на думкі аб смерці. Што неабавязкова адбывалася. Як ні дзіўна, але думкі пра яе як бы адкладваліся на пасля, для мірнага часу (г. зн. калі цябе, магчыма, ужо не будзе). Занадта захаплівалі чалавека самі падзеі, у тым ліку і галоўная падзея: гульня ў кошкі-мышкі з гэтай самай смерцю, што пагражала ўвесь час, штохвіліны.

Глуша пасля прыходу немцаў заставалася на тым самым месцы, і людзі ў ёй жылі ў асноўным усё тыя ж. А таму захоўваліся і вельмі адчувальнымі былі, а часам усё вызначалі ранейшыя адносіны адзін да аднаго, чалавека да чалавека, суседа да суседа — унутры ці над новымі, прынесенымі акупацыяй. Людзі і на халодных вятрах вайны як бы працягвалі жыць тымі «цёплымі» часткамі, што грэліся чалавечай блізкасцю кагосьці да некага, што ўстанавіліся раней. Чалавек, сям'я (хоць бы і мы, наша сям'я) павінны былі загінуць паводле новых нормаў паводзін, пакарання, але гэтага не здарылася, і менавіта дзякуючы таму, што дзейнічалі, спрацоўвалі не да канца разбураныя ранейшыя сувязі чалавечай блізкасці, якія і да вайны камусьці дапамагалі выжыць, ацалець. Але ж цяпер было яшчэ больш складана: на выхаваную, назапашаную да вайны нянавісць накладвалася новая, ваенная.



І сёння бачу: як бургамістр Ельніцкі рыдлёўкай з размаху біў мёртвых — распранутых дагала вясковых хлопцаў, якіх прывезлі да камендатуры на падводах (іх, бяззбройных, паліцаі перахапілі на дарозе «ў партызаны» — так растлумачылі). Гэтыя жахлівыя тупыя ўдары рыдлёўкай па нежывых целах і ёсць грамадзянская вайна «ўнутры» нашай Айчыннай. (Яны мне да жаху знаёмыя пачуліся на днях, калі ўбачыў-пачуў, што адбывалася на Гагарынскай плошчы ў Маскве. Асабліва калі да машыны, што раздушыла Уладзіміра Талакнеева, кінуліся, як з пікамі, тыя, з чырвонымі сцягамі, каб перашкодзіць, не даць адагнаць, адцягнуць машыну, вызваліць раздушанага. Твары, якія гэта былі твары! Зусім як у таго, што рыдлёўкай біў мёртвых.)

У першым сваім рамане я «рэканструяваў» нашу вайну пад стрэхамі з усімі падрабязнасцямі яшчэ свежых успамінаў. З адушаўленнем таго, хто выжыў, *як бы жыве пасля смерці*. Свежыя былі і страсці, пачуцці, у тым ліку сталай непрыязі ці адкрытай нянавісці да ворага (ці тых, каго ворагамі лічылі). Многія пачуцці сёння ці прытупіліся, ці адступілі, а то і перамяніліся. Многія рэчы ўжо нецікавыя, затое інтарэс набываюць зусім іншыя бакі даўніх падзеяў і паводзіны людзей, у тым ліку і самых блізкіх.

У гэтым шэрагу той факт, што ў вельмі нават актыўнага падпольшчыка не заўважаў аніякага пачуцця варожасці, а тым больш нянавісці да немцаў і іх памагатых. Не магу прыгадаць аніводнага выяўлення такога пачуцця, хаця ўвесь час былі разам, — гэта ж мая мама. На чым жа ўсё трывала, мацавалася? Нейк я ўсклікнуў удзячна: «Ты, мама, артыстка!», а яна, яшчэ не вызваліўшыся ад пражытага жаху, калі ўсё вісела на валаску (і яе, і наш лёс, жыццё), слаба нам усміхнулася. (Адно заставалася паднесці кветкі «артыстцы».)

Не на нянавісці трымалася — дык на чым жа? На пачуцці самазахавання? Магчыма, але памножаным на ўсведамленне матчынай віны за ўсё, што можа здарыцца з дзецьмі, з сям'ёй. А сям'я складалася ўжо з дзесяці чалавек. Збегліся пад глушанскую страху аж дзве маміны сястры (Соня і Зіна) з дзецьмі. З Соняй муж яе Пеця (ён камуніст і павінен быў з'ехаць з Парычаў, дзе жылі да вайны).

Ну а калі не зможа адвесці бяду: раскрыецца яе — а праз яе і дзяцей, і шурына — сувязь з партызанамі? І не тое важна, што па чыёй неасцярожнасці (дзясяткі людзей уцягнутыя ў падпольныя справы). Што б ні загубіла — віна яе! Яна сама пайшла на гэта. Перад сабой не апраўдаешся.

У немцаў на акупаванай тэрыторыі быў страшны праціўнік — такія вось жанчыны. Яны занадта многім рызыкавалі, а таму прайграць у паядынку з любым немцам, паліцаем, даносчыкам было занадта страшна. І самыя часам непрыкметныя, што нічым нібыта не вылучаліся, станавіліся, вось менавіта, артысткамі мімаволі. Часам — вялікімі.

Прайграла не яна, наша мама, а ўсе, з кім яна ўступіла ў міжвольны паядынак: і бургамістр Ельніцкі, і паліцай Гузікаў, і нямецкі камендант, кожны з іх нешта там абараняў (сваю новую пасаду, права на помсту савецкай, што іх перамаследавала, уладзе, інтарэсы «вялікай Германіі»), і толькі яна ратавала самае галоўнае, без чаго ёй не жыць — дзяцей, сям'ю. А таму яна змагла тое, што не змаглі яны, хоць адным рухам рукі, словам — загадам маглі яе знішчыць. І тым не менш прайгралі яны.

Прыгадаю тут толькі тры выпадкі, калі паратунку, здавалася, не было. Але нешта такое адбылося — парыў, у якім жаху было не менш, чым вытрымкі, — і пагібель зноўку адступіла.

Перанесціся жывой памяццю ў рэальнасць таго летняга дня 1942 года, той ранішняй гадзіны — магчыма. І цяпер стаіць перад вачыма. Але немагчыма ўявіць, што пяцідзесяці гадоў з потым пражытага табой — гэтага проста не было б, жыццё абарвалася б на пятнаццаці. Нічога, што было потым! Затое можна дамаляваць ва ўяўленні, што казалі б суседзі: «Пагналі ў камендатуру Адамовічыху з дзецьмі, усіх, і старых таксама, знайшлі ў іх зброю, лістоўкі…» Затым павезлі б у Старыя Дарогі, там стацыянарна працавалі катоўні-падвалы палявой жандармерыі, СД. (Звычайна туды адвозілі, і як правальваліся чалавек, сям'я.) А пасля вайны доктару Адамовічу ўсё гэта расказвалі б, як і завошта яго сям'ю знішчылі, а ён не разумеў бы сваю Нюрку: як яна магла, навошта яна ўсё гэта рабіла? Хіба вайна і без гэтай яе страшнай ахвяры не скончылася б секунда ў секунду ў той самы дзень, у які яна і скончылася? На нашага бацьку не падобна. Але такая бяда здарылася з іншай сям'ёй, пры гэтым маці ўратавалася, жывая засталася. Яе муж, вярнуўшыся з фронту, тут жа ад яе пайшоў, яго яна таксама страціла. І нядобра пайшоў, папікнуў: ты да мужыкоў ірвалася бліжэй, да сваіх партызан!

«…Мы, мадам Адамовіч, павінны зрабіць у вас вобыск!»



Са спальні нейчы голас чуем і насталую ў суседнім пакоі («зале») страшную немату. А ў руках у нас — у мяне, у Жэні, у Сонінага Пеці — улёткі. На беларускай мове вершыкі Кандрата Крапівы — даволі-ткі дурныя — пра «паламаную вось»: Берлін — Рым, фюрар — дучэ, але мы толькі што весяліліся, чытаючы іх. Сунулі іх пад матрац, страшны, смяротны доказ, і выйшлі на той голас і насталую ў суседнім пакоі цішыню. У дзвярах, што вялі на кухню, застыў немец з вінтоўкай на плячы, сярод залы стаіць Гузікаў, паліцай у скураным паліто і лётчыцкім шлеме на галаве, а перад ім наша мама. Сказаў пра вобыск, а цяпер глядзіць на Казіка Пагоцкага (ён нас чакаў, збіраліся разам ісці на работу — шашу рамантуем немцам і тым ратуемся ад высылкі ў Нямеччыну). Казік збялеў не менш, чым гаспадыня дома. І мабыць, нездарма, паліцай падкрэслена недружалюбна ў яго пытае:

— А вы, таварыш Пагоцкі, што тут?

Здавалася, не гітара, а каленкі Казіка, ударыўшыся аб стол, калі ён падхопліваўся, брынкліва загулі. (Што пагнала старую, яго маці, даносіць: даўняя бабская непрыязь да «падсуседзяў», падагрэтая падазрэннем, што яе сына хочуць «аблытаць», жаніць з развядзёнкай з дзіцём — Казік сапраўды нудна строіў з сябе кавалера-залётніка да мамінай сястры Зіны — няўжо гэта?)

Круглатвары ад лётчыцкага шлема паліцай не спяшаецца са справай, яму прыемна адчуваць усю значнасць сваёй ролі і свайго становішча. Кажа ўжо нам тром, што выйшлі са спальні:

— Ваш таварыш па рабоце паведаміў, што ў вас ёсць зброя, улёткі. Я павінен зрабіць вобыск.

Нага яго, бот за тры метры ад ложка, ад плеценага каша для бялізны (на высокім ложку сядзіць Соня з гадавалай Галкай, падобна было, што нават немаўлятка анямела). У кашы, я ведаю, дзве гранаты-лімонкі (учора Пеця паклаў, а ноччу збіраўся аднесці — ці аднёс?).

Мама сама толькі на золку вярнулася з лесу, з Мішам Каваленкам хадзіла на сустрэчу з партызанамі, насіла медыкаменты. Міша — прамое начальства Гузікава, памочнік начальніка паліцыі. Вось так усё пераблытана, але нешта ўпусціў наш Міша, данос прайшоў, праслізнуў міма яго. І наогул год жыцця на вачах у даволі-ткі даверлівых немцаў, усё ж удала-шчаслівы, усіх зрабіў задужа бяспечнымі. Як не паддацца было і маме? Хаця яна не раз і сябе, і нас, і Пецю асабліва спрабавала вярнуць да пагрозлівай небяспекі: «Вам усё цацкі!»

І вось грымнуў гром — не над страхой, а пад страхой нашага дома.

Загаварыла мама. Гэта былі амаль бессэнсоўныя словы, нічога быццам яны не азначалі ў такой грознай сітуацыі, але пакуль яны гучаць, Гузікаў стаіць, слухае і нічога не распачынае. А мама гаворыць, гаворыць, як бы сама да канца не верачы ў жахлівасць становішча (вось яна, тая хвіліна!). Вылятаюць словы пра тое, што камусьці зайздросна, што мы, такой сям'ёй, не дохнем з голаду і што быў бы дома Міхаіл Іосіфавіч, можа, пасаромеліся б, ён столькі для ўсіх рабіў…

Я гляджу на маму так, як глядзеў у маленстве, спапялёны дрыжыкамі ад хваробы: яна ўратуе, яна заўсёды ратавала, яна не можа не выратаваць!

Але вось мама змоўкла. Мы стаім асуджана, на парозе статуя-немец, а сярод пакоя чалавек, ад якога ўсё залежыць: зараз зрушыць з месца — і ўсё пакоціцца да страшнага канца. А мама маўчыць. Чаму, чаму яна маўчыць?

І тут яна раптам упала на крэсла, рукамі, локцямі на стол, і зарыдала. Страшна і безнадзейна. Як жа яна рыдала! Жэня падышоў, узяў яе за плечы:

— Не трэба! Мама, ну, не трэба!

Што не трэба? Што трэба, што не трэба? Я гатовы быў адштурхнуць брата. Толькі мама ведае, што цяпер трэба, што можа ўратаваць.

*Яна плакала шчыра, больш шчыра не бывае, але ў той жа час яна ведала, што слёзы яе і павінны быць шчырымі.* (Калі ўсё скончыцца, яна выгукне: «Госпадзе, як я толькі вытрывала!») Не дзіва, што не ўстояў бедны Гузікаў? Ён, здаецца, гэтага не чакаў, не гатовы быў да таго, што вось так рыдаць будзе перад ім жонка доктара. І раптам сказаў:

— Так, ад Гузікава залежыць, мадам Адамовіч. Я не стану наносіць абразу сям'і доктара. Аднак трэба лепш сяброў выбіраць. (І, здаецца, паглядзеў на канапу, адкуль толькі што сагнаў Казіка Пагоцкага.)

Што, калі б гэты чалавек (тут ужо не нашы, а яго інтарэсы, лёс) мог ведаць, што, не абшукаўшы наш дом і не загубіўшы тым самым нашу сям'ю, ён рыхтаваў, наблізіў страшную ўжо для яго самога падзею? Праз паўгода большасць з глушанскіх падпольшчыкаў пайшлі ў лес, у партызаны, і ў гэтую ж ноч з 3 на 4 сакавіка 1943 года партызаны павялі з сабой, выкраўшы ў немцаў з-пад носа (як зімой ваўкі сабаку выкрадваюць ад самага парога гаспадара), усю паліцыю. Падрыхтаваў гэта, вядома, Міша Каваленка і яго група ў самой паліцыі — яны ў тую ноч усе стаялі ў караўле, і астатніх дваццаць трох паліцэйскіх узялі «цёпленькімі», соннымі. Калі іх вялі праз лес, Гузікава зарэзаў партызан (алтаец, сам з уласаўцаў) Федзя Злобін: яму сказалі, што менавіта гэты паліцай забіў іх сябра Мікіту Храпко, і скуранка на ім — Мікітава, і дзесяцізарадка была ў яго Мікітава. Каравул не ўсачыў, як даўгім цесаком Федзя ўдарыў Гузікава ў жывот — тут жа, у калоне паліцэйскіх, што стаялі прыгнечана-пакорліва. Але з астатнімі адбылося нешта яшчэ горшае. (У іх ліку і Уладзік Іваноўскі, мой амаль аднагодак, калі я радасна-ўзрушаны падышоў да іх, — у тым начным партызанскім ужо лесе, — ён так і ўчапіўся, каб хоць мне расказаць, што ў паліцыі ён усяго толькі месяц, гэта маці яго ўгаварыла — абы ў Нямеччыну не забіралі.) Іх пагналі кудысьці асобна ад нашага абоза, а калі наляцелі нямецкія самалёты і ўзяліся нас бамбіць, паліцэйскіх (так расказвалі) зачынілі ў нейкім хляве, каб не разбегліся. Але адтуль яны так і не выйшлі, і толькі потым мы пачулі, што адбылося: ляжалі там дровы, і камусьці з начальнікаў аховы прыйшла ідэя — няхай самі канчаюць сябе. Сказалі паліцэйскім: «22 — гэта перабор, далей павядзём толькі палавіну, самі вось гэтым (паленнем) вырашайце, каму жыць, а каму не». Слухалі праз сцены, як унутры *гэта* адбывалася, а потым зайшлі і перастралялі «пераможцаў турніру» (так гэта называлі з нядобрым смехам).

Ідучы ад нас і выводзячы немца (з некаторым, мабыць, здзіўленнем і шкадаваннем: што гэта жанчына зрабіла з намі?), Гузікаў не ведаў свайго лёсу. І мы, вядома, не ведалі, што будзе праз паўгода. Толькі помню, як гнятліва падзейнічала на маму расправа з Гузікавым у тым лесе (але не на мяне, вядома), а пра хлеў яна чуць не магла без жаху. Але самому Гузікаву не было ад таго лягчэй, што нехта за яго перажываў. Як бы там ні было, ён нас не загубіў і тым самым падрыхтаваў уласную пагібель. Не выявіў паліцэйскай стараннасці падчас вобыску, пэўна, лічыўся з тым, як да яго паставяцца ў пасёлку, калі ён нешта адшукае ў сям'і доктара і арыштуе яе. А тут яшчэ перакладчык Бартэль, які выяўна апекаваўся гэтай сям'ёю. Як, зрэшты, і іншымі глушанцамі — стараўся «фольксдойч», як толькі мог, адгарадзіць іх ад жорсткасці далёкай радзімы — Нямеччыны, якая раптам прыкацілася да яго.

Пасля вобыску, які не адбыўся, мінула месяцы тры, і зноў старая Пагоцкая пайшла з даносам. На гэты раз яе ўсё-ткі перахапіў Каваленка Міша, уважліва выслухаў папярэджанне, што шурын Адамовічыхі — камуніст, што збіраецца ў партызаны, зманьвае

іншых (яе Казіка) і наогул гэта бандыцкая сямейка. «Памочнік начальніка паліцыі» (дарэчы, Міша з старавераў) самым строгім чынам загадаў старой ні да каго больш не хадзіць, ён усё сам зробіць, што трэба, — тут жа паведаміў маме, адшукаўшы нейкую нагоду зазірнуць у аптэку. (Хаця яны звычайна пазбягалі прылюдных сустрэч.) Зайшла мама ў дом, амаль упала на крэсла: ну вось, цяпер мы сапраўды прапалі! Казала я вам, але хіба вы паслухаецеся? Старую перахапіў Каваленка, але хто ведае, да каго яна яшчэ схадзіла ці пойдзе. Папярэджвала ж, хто такія гэтыя Пагоцкія! (Папрок Сонінаму Пецю, які паспеў-ткі пашчыраць з Казікам.)

Што пагнала старую і другі раз даносіць? Ці не страх (ужо і Казікаў жах), што пра першы данос ведаем (мы і не хавалі гэтага), а таму назад ходу няма. Камусьці з нас не жыць: прагоняць немцаў, што тады?

У «Вайне пад стрэхамі» я досыць падрабязна распісаў вядомыя мне акалічнасці і нават «псіхалогію» старой і яе сына так, як я ўсё ўяўляў. Цяпер жа пра адно расказ: матчын паядынак са смерцю, на гэты раз — з бургамістрам Ельніцкім. Важная акалічнасць: бургамістр з раскулачанай сям'і. Яго *глушанская* павага да доктара дапаўнялася пачуццём салідарнасці з жанчынай такога ж лёсу. Магчыма, тое, што і мадам Адамовіч таксама «кулачка», уздымала яго ва ўласных вачах. Не кажыце, што раскулачвалі непісьменных мужыкоў! Наўрад ці быў ён зацікаўлены — аддаць і гэтую сям'ю «бандытам». Так што і яго, мабыць, задаволіў вынік першага вобыску.

Другі ж выпадак павінен быў збянтэжыць яго па-сапраўднаму. Збеглі ў «банду» сястра доктарыхі з мужам, які, як выявілася, да ўсяго ж камуніст. Вось каго яна прыгрэла, а калі нехта з сям'і пайшоў у лес — гэта ўжо не «раскулачаная» сям'я, а партызанская, «бандыцкая».

За адну ноч «сацыяльнае становішча» наша ў вачах бургамістра і нямецкіх уладаў адразу змянілася — з плюсавога на мінусавое. (Як да вайны, калі нехта ўтаіў, а потым выявілася, што бацька «рэпрэсаваны органамі» ці што брат-сват служыў у белых.)

Мы ў тую ж ноч усе збіраліся бегчы да партызан, сцежка да іх была ўжо пратаптаная. Мама і плакала, пытаючы: «Куды я павяду старых перад самай зімой?», пасля таго як сані Лешчуна памчалі ўжо Соню з малой Галкай і Пецю, а мы з братам яе ўгаворвалі: «Пойдзем, мама!», але яна і сама разумела — застацца, значыць, быць тут жа схопленымі, немцы такога не даруюць! Леглі, не распранаючыся: «Паспіце крыху, дзеткі!», нешта абдумвала, вырашала і, мабыць, рашыла, але, калі ранішняе святло ўламалася ў вокны, яна, ачнуўшыся, тут жа пагнала нас з дому: што, што мы, дзеткі, нарабілі, мы загінулі, ідзіце неадкладна да Ляўковіча (дарожна-шашэйны наш начальнік, таксама быў звязаны з партызанамі) і не вяртайцеся, Богам малю, не вяртайцеся, пакуль сама не паклічу! Што б ні здарылася!



Мы ўжо вось так аднойчы ўцякалі, а яна заставалася — гэта калі прыехалі эсэсаўцы забіваць Глушу, усіх глушанцаў збіраліся спаліць жыўцом (як суседнія Восы-Калёсы і Каменку спалілі), але мы ж думалі, што машыны гэтыя — моладзь хапаць будуць у Нямеччыну. Вярнуліся толькі пасля таго, як глушанскіх жанчын, дзяцей выпусцілі з хлява (казалі, што перакладчык Бартэль выратаваў, патлумачыўшы немцам, што ўцекачы-моладзь тут жа стануць партызанамі), і мы ледзь пазналі маму, Соню, цётку Зіну. Нейкія чорныя, быццам іх ужо абпаліў агонь. Мама вялым голасам апавядала: спачатку людзі крычалі, плакалі, потым змоўклі, стала нейк усё роўна…

На гэты раз яна свядома свой і астатніх, хто ў доме заставаўся, лёс аддзяліла ад нашага з братам: раней мы не ведалі, што чакала тых, якія засталіся, тут усё было ясна. Была толькі надзея, што і на гэты раз ёй удасца адвесці бяду.

Ад «старога свету» (ужо старога савецкага) нам засталіся героі: Паўкі і Паўлікі, Алегі і Зоі. Сярод іх і беларуска-савецкі «бацька Мінай[33]». Чалавек, які не памяняўся лёсам са сваімі дзецьмі, як прапаноўвалі яму, партызанскаму камандзіру, нядобрыя немцы, не прыйшоў з лесу, і дзяцей расстралялі. З усіх прапагандысцкіх сіл узвялічвалі яго «подзвіг», да амаль антычных вяршынь. «Агульнае» паставіў вышэй за «асабістае», тым больш, што фашысты ўсё роўна дзяцей не выпусцілі б і г. д. і да т. п. Але нешта не сыходзілася, не атрымлівалася з яго антычнага героя: тыя ж маглі пайсці супраць волі цара, а то і багоў, каб толькі выканаць абавязак перад роднай крывёю. Няшчасны савецкі бацька, савецкі камандзір, які добра разумеў: могуць і свае расстраляць, калі праявіш «слабасць». Герой дык ты герой, але раптам вырашыш выкупіць жыццё дзяцей і сваё там, у ворагаў, за кошт партызанскіх таямніц, сакрэтаў.

Бацька не прыйшоў да дзяцей, не паспрабаваў ратаваць іх. Ну, а калі дзеці, сыны пакінулі б маці, не прыйшлі? Няхай нават паслухаўшы яе мальбу — не прыходзіць. Ні пры якіх акалічнасцях не вяртацца — не павялічваць яе пакут шматкроць. Як гэта называлася б, што гэта было б?

Перамогшы, ты выратавала нас, мама, яшчэ і ад такога выбару! Я не ведаю, якім бы ён быў. Ведаю толькі, што ў любым выпадку, пры любым варыянце выбар быў бы самы страшны ў нашым з братам жыцці.

Хаця нейкі, няхай сабе і паслаблены варыянт падобнага выбару меў месца праз год ляснога, партызанскага жыцця. Пасля цяжкіх баёў на Бярэзіне толькі невялікая частка атрада ацалела, а я апынуўся за лініяй фронту і мог, яшчэ не прызваны, ісці-ехаць куды хацеў і як мага далей ад вайны. Замест гэтага раптам памкнуўся назад: *там жа засталася мама і яна нічога не ведае пра мяне!* Зусім дзіцячае рашэнне: пабадзяўшыся ўздоўж фронту, з вялікай радасцю і палёгкай далучыўся да групы з суседняга атрада (яны перапраўлялі сем'і, а цяпер вярталіся), і мы рушылі да ненаедна рыкаючага фронту. Нават калі б мы змаглі праскочыць праз яго, што адбылося б, калі б я з мамай сустрэўся? Якую радасць я ёй нёс у блакадныя (яшчэ надоўга) лясы, балоты? Шкадаванне, адчай — гэта дакладна. А радасць толькі ў першыя секунды, хвіліны: сынок, жывы! Але тут жа даведалася б, што сын ужо быў у поўнай бяспецы і вярнуўся толькі дзеля таго, каб паказацца, што жывы. Вярнуўся толькі дзеля яе! Нічога сабе «дзеля», абрадаваў бы, нічога не скажаш.

* * *

Уся мізансцэна пасля нашага з братам адыходу была выбудавана ў чаканні каго-небудзь з паліцыі, воласці ці нямецкай камендатуры. Старым растлумачана, што яны нічога не бачылі і не чулі. Зіна з дачкой схаваліся ў суседзяў. Мама запаліла ў печы: збіраецца на работу. Праўда, здарылася ў доме непрыемнасць, сям'я сястры пайшла жыць да настаўніка Гарнастая, дом якога за школай, каля лесу. Але так, можа, нават лепш, у яе свае дзеці і свае клопаты. (Пецю, калі ён уцякаў да санак Лешчуна, мама нагадвала: не забудзь, пакінь запіску там, толькі з крыўдай напішыце! Найнаіўны ход нават для даверлівых немцаў. Але ўсё нейкая зачэпка, зыходная фраза, калі самі не пойдзем, застанемся.)

Выбудаваную мізансцэну дапоўніла ўнушальная постаць Ельніцкага, які з'явіўся ў дзвярах. Высокі і вялізны ў раскошным даўгім футры. З парога спытаў біблейскім голасам:

— Мадам Адамовіч, дзе ваш шурын?

Расчырванелая ад пячнога жару з-за шырмы выйшла гаспадыня. А што такое? Нешта здарылася? Рэч у тым, што я папрасіла яго пакінуць наш дом. Даўно не ладзілі, у мяне свае дзеці, сям'я і без таго вялікая, цяжка. Пайшоў жыць да Гарнастаяў.

— Ваш шурын пайшоў у банду.

— Што? Госпадзе! Пагубіў, пагубіў, сволач!

Хаця словы былі, магчыма, падрыхтаваныя, але страх, жах перад тым, чым усё можа скончыцца, былі шчырыя. Скажыце, што мне рабіць, пане бургамістр? Вось і рабі дабро чалавеку! Хіба я магла ведаць? Што нам рабіць, што нам рабіць?..

—А чаго вы хацелі ад камуніста? Ён жа быў парцейны, так?

—Ён муж маёй сястры. Я ж не магла…

— Вось ён вам і аддзячыў!

Калі мама ішла ў госці да бургамістра — на вяселле дачкі запрасіў, — яна дастала з чамадана лепшы свой адрэз на сукенку, шоўк палевага колеру, перад самой вайной прывезены з Кіславодска, мужаў падарунак. Доўга ім любавалася, але: кінеш за сабой — знойдзеш перад сабой! — гэта перамагло. Нават развесялілася, што яна такая хітрая, дальнабачная. Але і праўда, дальнабачная. Не думаю, аднак, што бургамістр у гэтую хвіліну помніў пра падарункі. Хутчэй пра тое мог успомніць, што немцу-каменданту было прыемнае суседства за сталом гэтай культурнай жанчыны, нават фатаграфію сваіх дзяцей ёй паказваў. І яшчэ, пра што думаеш: зненавіджаны ў пасёлку, а асабліва ў вёсках начальнік воласці (яму ўжо аднойчы закінулі ў акно гранату, пашанцавала, што ў тым пакоі нікога не было), не мог не ацаніць непадробную (а прыкідванне ён добра адчуваў) добразычлівасць гэтай жанчыны. Дурную, бязглуздую, нетутэйшую незласлівасць. Калі кожны гатовы ў шмаццё разадраць і цябе, і ўсіх, хто з табой поруч, — на радасць усяму пасёлку — хочаш не хочаш, а ацэніш дабрату, прытым такой аўтарытэтнай жанчыны.

Мабыць, пайшоў ён з асуджанага дома ўсё яшчэ з няясным уяўленнем, як быць, як яму паводзіць сябе ў гэтай сітуацыі. «Кулачка-бандытка» — пачуцці яго былі збянтэжаныя. Многае цяпер залежала ад перакладчыка Бартэля, каменданту ён будзе тлумачыць. Дарэчы, адыходзячы, Ельніцкі спытаў пра сыноў: дзе яны? Дзе ж ім быць, пайшлі на работу. Яны яшчэ нічога не ведаюць. (А мы ў гэты час сядзелі ў хаце незнаёмага вясковага дзядзькі, які, аднак, нас ведаў, ён усё адыходзіў даведацца, што там у Глушы?)

Нешта залежала і ад Мішы Каваленкі, у яго былі асаблівыя адносіны з камендантам: звонкагалосы, вясёлы хлопец немцам

падабаўся. Калі ішлі, ён і наша мама, у лес ноччу ці вярталіся, на вокрык вартавога яму было дастаткова падаць голас, і адразу ж з бункера: «О, Міхаіл!» Каменданта галіў кожнае раніцы глушанскі хлопец з чароўнай «гагарынскай» усмешкай, тыя ж ямачкі на шчоках. Менавіта так: калі паляцеў касманаўт, і я пабачыў ягоны твар, першае, што падумаў: «Ну, копія Міша! Наш Каваленка!» (Загінуў у Берліне ледзь не ў той самы дзень, калі Гітлер атруціўся-застрэліўся.) Так што ў Бартэля ў камендатуры быў наш добры памочнік-саюзнік.

Мы з Жэнем вярнуліся ўвечары ў той жа дзень. Хаця мама і настойвала (праз Ляўковіча), каб пабылі да наступнага ранку. Але Жэня не паслухаўся, ну, і я з ім быў згодзен: магчыма, гэта пастка, ну а калі не і калі заўважаць, што сыны не начавалі дома?

І зноў Гузікаў. Яму даручана (Бартэль нас папярэдзіў) сачыць за домам: пад асабістую, персанальную адказнасць, калі гэтая сямейка збяжыць!

Калі каму больш за ўсё абавязана Глуша (а не толькі наша сям'я), што ацалелі, дык гэта Бартэлю, «фольксдойчу»-перакладчыку пры нямецкім каменданце. Бартэль да вайны працаваў механікам на электрастанцыі, перакладчыкам зрабілі таму, што немец і ведаў мову. Сын ягоны стаў салдатам вермахту, аднойчы бачыў яго ў групе нямецкіх салдат: гэтак жа коратка пастрыжаны, апрануты, як яны, толькі ўсмешка, як у бацькі, сарамлівая. Не хацелася, але яшчэ тады адзначыў: добрая! Добра, калі б лёс абышоўся з імі па-божаму. За тое дабро, якое Бартэль рабіў людзям. Хаця, вядома ж, застанься ён тут, атрымаў бы ўсё тыя ж дваццаць пяць гадоў лагераў.

Дзе ён апынуўся потым, калі застаўся жывым, не ведаю, а вось Ельніцкі — у Аўстраліі. У 60-я гады Глуша разглядвала фатаграфію высокага прыгорбленага іншаземца ў шортах, пазнавальнага, на фоне спраўнага доміка і шыкоўнай машыны — Ельніцкі даслаў родзічам, каб не забывалі.

Што Ельніцкі таксама памог нам пасля адыходу Пеці ў партызаны, пацвярджаецца наступнымі яго помслівымі ўчынкамі — калі і мы пайшлі. Тым, як ён гневаўся, які пакрыўджаны і злосны быў, што гэтая баба так яго перайграла, а ён жа ёй так верыў! І калі праз год дайшла да яго вестка, чутка, што «сын Адамовічыхі папаўся-ткі», што бачылі яго ў Слуцкім лагеры ваеннапалонных, Ельніцкі не паленаваўся памчацца за сто кіламетраў — ужо ж ён адпомсціў бы! Праз сына — маці. Адквітаўся б, вярнуў даўжок праігранта. Вялікая ўдача Жэні, наша шчасце, што ў гэты час ён хварэў на тыф, ляжаў у бараку



смяротнікаў. Усіх ваеннапалонных, апроч заразнага барака, выгналі на пляц, бургамістр і раз прайшоў, вывучаючы твары, і другі, а калі пайшоў, дык тут жа вярнуўся, расказвалі, і трэці раз прабег уздоўж шарэнгі…

Ну а перамога над камендантам — гэта ўжо нешта зусім неверагоднае. Мама рэдка вярталася да тых падзеяў, але калі апавядала і праз дваццаць гадоў, голас яе дрыжаў, перасякаўся ад запозненага неўразумення і перажывання: як яна магла, на што разлічвала, калі такое казала немцу-каменданту?

Пайсці ў камендатуру яе вымусіў Гузікаў. Перапоўнены пачуццём уласнай значнасці — яму ўручылі лёс сям'і доктара, але цяпер ужо «бандыцкай сям'і»! — раптам вырашыў, што можна ўсё. Прыйшоў і раз, і другі ў дом, паўп'яны, яго пачаставалі, ён пакуражыўся, хвалячыся і вінтоўкай, і скуранкай забітага ім партызана, і пры гэтым патрабуючы да сябе не проста ўвагі гаспадыні, а *жаночай* увагі «мадам Адамовіч». Не ведаў ён гэтую «мадам», якая ў шаснаццаць гадоў польскаму жаўнежу, усяго толькі за руку яе ўзяў, прылюдна канфуз учыніла.

— Што-о та-акое? — спытала яна, калі паліцай дазволіў сабе заявіць нейкія «правы». — Ды вы пры сваім розуме? Заўтра ж іду ў воласць, у камендатуру!

— Пойдзеш… Толькі не сама — павядуць! Як міленькіх!

Ён пайшоў, лаючыся, п'яна вываліўся ў ноч, адкуль і з'явіўся, а мама адразу загадала:

— Перакуліце вазоны, кветкі! Стол! Ну, што вы, не разумееце? Ён загубіць нас!

Мы з братам учынілі належны разгром у кватэры, мама ранічкай збегала дамоў да Бартэля: ідзіце, паглядзіце, што Гузікаў нарабіў! Прыходзіць, пагражае, патрабуе Бог ведае чаго!..

Бартэль прапанаваў ёй ісці да каменданта і самой пра гэта расказаць. Таму самаму немцу, які паказваў, Бартэль помніць, фатаграфіі сваіх дзяцей на вяселлі ў дачкі Ельніцкага.

І зноў нас сплавіла як мага далей ад дома, а сама, пабачыўшы ў акно, што перакладчык пайшоў па шашы ў бок камендатуры, хуценька сабралася і накіравалася туды ж.

Што ёй падказвала словы, інтанацыю, усе паводзіны — на мяжы безразважнай, але адзіна выратавальнай рызыкі? Не інакш сам Бог, казала яна потым.

— Або арыштуйце нас, або дайце нам жыць, або мы пойдзем у партызаны!

Яна ведае, што на пагібель, але што ёй застаецца, калі няма аніякай магчымасці жыць; гэты паліцай Гузікаў прыходзіць,

буяніць п'яны, патрабуе Бог ведама што — вось так у вас і партызанамі робяцца: паліцэйскім гэта і трэба, каб людзі разбягаліся, а барахло ім заставалася; яны і вас прададуць, як радзіму прадалі; дзеці для мяне самае галоўнае, але я вымушана буду весці іх на пагібель, нічога іншага не застаецца; або дайце нам жыць, або арыштуйце нас, або мы пойдзем у лес!

Дзе ён цяпер, той немец, які ўсё гэта выслухаў ад жанчыны з вачыма то нервова сухімі, то раптам залітымі слязьмі, слухаючы цярпліва яе нечувана па тым часе нахабныя словы, — не арыштаваў неадкладна, не крыкнуў, не стукнуў кулаком па стале? Пад дапытліва насмешлівым позіркам другога немца (мама перакананая, эсэсаўца) камендант вынес свой прысуд: вы, жанчына, не вінаваты, я гэта бачу, пакараны будзе паліцэйскі.

І сапраўды пасадзілі Гузікава ў «халодную». І хаця яго ўжо на наступную раніцу выпусцілі і, больш таго, менавіта яму даручана было вачэй не спускаць з неспакойнага дома, страляць у любога з гэтай сямейкі, калі апынецца за рысай пасёлка, і было ясна, што ўжо цяпер Гузікаў пастараецца расквітацца за ўсё — як бы там ні было, але невядомы мне афіцэр — немец, закінуты ваеннай выпадковасцю ў Глушу, даў нам выратавальную паўзу, дазволіў сябе абыграць пры ўсіх яго магчымасцях нас вельмі проста знішчыць — як не быць яму ўдзячным?

Што, мода такая: усім дзякаваць, ва ўсіх прасіць даравання, адвешваць пакаянныя паклоны на ўсе бакі? Ужо і за перамогі дзякуем. Ці нават просім даравацъ.

Ужо калі зайшла гаворка: трэба б папрасіць. За перамогі выкрадзеныя, адабраныя. Напрыклад, у мільёнаў бяспашпартных (і беларускіх вяскоўцаў), якія з вызваленай імі ад фашысцкага рабства Еўропы, з партызанскіх лясоў вярнуліся — напрасткі ў прыгонную залежнасць ад калгаснага, раённага начальства. Папрасіць, хоць бы са спазненнем, даравання ў дзясятка народаў, якія амаль на паўстагоддзе пазбаўленыя былі адваяванай у Гітлера свабоды таму, што перамогу ім прынеслі мы, самі несвабодныя. І хто ў нас даравання папрасіў за несвабоду вызваліцеляў? А «свае» народы, нацыі (беларусы, украінцы, літоўцы, латышы, эстонцы, малдаване, многія, многія), што, падобна да нашых ваеннапалонных, з фашысцкага лагера перамешчаныя былі ў савецкі, з кляймом ледзь не здраднікаў. Не кажучы ўжо пра народы, проста сасланыя ў лагеры і на пасяленне.

Хто расейскі народ маліў аб дараванні за яго распятую культуру, годнасць, рэпутацыю?



Не, ну хаця б якая камуністычная сволач (саграшыў-ткі злосцю, даруй, Госпадзе!), што цягае па вуліцах Масквы, Мінска, Кіева партрэты Сталіна, пакаялася перад тымі франтавікамі, інвалідамі, ветэранамі, у якіх Вярхоўны Галоўнакамандуючы адразу ж пасля вайны расціснуў далонь і адабраў мятыя рублёўкі, што атрымлівалі за баявыя ордэны? Дзе вы там, Зюганавы-Лук'янавы-Праханавы? Ці ў ленінградскіх блакаднікаў даравання папрасілі б — усе былыя і цяперашнія Толсцікавы-Раманавы; у маскоўскіх апалчэнцаў, дабітых жданаўшчынай, — ужо не ведаю, каму і прасіць. Толькі ва ўсіх у іх Перамогу ўкралі. Утрапёны Бакунін папярэджваў: бойцеся перамогі, з яе вянкоў вам скуюць ланцугі! Наш вопыт: калючага дроту наробяць для новых лагераў.

* * *

Шмат гадоў пасля ўсяго, што памяць звязвала з вайной, да нашага глушанскага дома, пад выраслыя бярозы, прыйшла маміна паплечніца па санчасці Валя Бузак, жанчына з голасам дзіўна ціхім для настаўніцы, якой яна працавала да і пасля вайны. Валя, прысеўшы на лавачку побач са сваёй былой «начальніцай», якая чысціла для ўнучак моркву, з усмешкай на добрым твары стала прыгадваць самыя цяжкія для нашай мамы дні, калі мы з Жэнем і паўатрада зніклі недзе каля Бярэзіны, не вярнуліся ў свае лясы, а тыя партызаны, абмарожаныя, зраненыя, што дабраліся да сваіх, прыносілі страшныя весткі. Пра тое, як загінуў камісар Голадаў і больш за восемдзясят нашых хлопцаў у вёсцы Коўчыцы, як увесь узвод Шуева ў вёсцы Слабодка нямецкія танкі запрасавалі ў акопах. А Р-н удакладніў, што ён сваімі вачыма бачыў, як «абодвух сыноў Ганны Мітрафанаўны танк…» — і ён абцасам, падэшвай бота крутануў па сухім рыпучым снезе. А калі вочы яго сустрэліся з позіркам маці, што стаяла тут жа, Р-н немаведама чаму дадаў: «Як гэта ні сумна, Ганна Мітрафанаўна…» Навошта ён сказаў, зрабіў гэта ў прысутнасці маці, растлумачыць цяжка. Не хочацца думаць, што з-за старой між імі непрыязі, а ўзнікла яна з таго, што Р-на падазравалі ў стукачоўстве, «слухачоўстве», і мама нейк пагардліва цуралася на выгляд інтэлігентнага балбатуна. Магчыма, ён ёй чымсьці нагадваў Казіка Пагоцкага.

Але, можа, прычына ў той сумятні, што парою авалодвае душой чалавека пасля асабліва крывавага бою, калі здаецца, што выратаваўся ты адзін, а калі яшчэ нехта, дык нібыта тваё выратаванне ўжо не такая цудоўная, выключная падзея. На жаль, людзі, на жаль, чалавекі!

Сапраўды, вельмі многіх партызан і чырвонаармейцаў (мы ўжо ваявалі бок у бок з савецкай арміяй) у вёсцы Слабодка нямецкія танкі запрасавалі ў акопах. Я там не аказаўся толькі таму, што адмахнуўся ад Шуева, калі ён з пагрозай скіраваў на мяне з акопа аўтамат: «Ану, вярніся!» Куды вярніся, калі я сувязны пры сваім камандзіры ўзвода Лазаравым, а ён паранены ў абедзве рукі, і я павінен быць з ім…

Жэня быў у тым акопе, усё магу ўявіць, а вось як ён устаў з-пад пяску і які ён быў пры гэтым — яму заўсёды за ўсіх няёмка, заўсёды збянтэжаная ўсмешка ў самы недарэчны момант! — малюю сабе гэта і не магу: балюча.

Ачнулася мама ад тых словаў Р-на ў будане, дзяўчатысанітаркі ля яе і камісар брыгады, дабрадушна-круглатвары Х-о, ён убачыў, што ў жанчыны расплюшчыліся вочы, тут жа стаў казаць: нічога не зробіш, Ганна Мітрафанаўна, гэта такая вайна, але савецкая ўлада вас не забудзе, вы дзеля яе ахвяравалі дзецьмі…

Тут апавядальніца зрабіла вялікія-вялікія вочы, а голас яе ўсё такі ж ціхі:

— Ой, Ганна Мітрафанаўна, ён загаварыў, а вы так прыўсталі, вочы зрабіліся, не ведаю, якія… І вы я-ак плюнеце яму ў твар!

— Што ты, Валечка?! — Мама рукі з нажом і морквай апусціла на калені. — Я нічога такога не помню. Нічога не помніла. Няўжо? Які жах! Што ж ты маўчала столькі гадоў, я павінна хоць цяпер папрасіць у чалавека дараваць.

Не ведаю, ці паспела гэта зрабіць? Калі не, я прашу за яе.

Але каго, каго яна бачыла перад сабой, паўачуняўшы ад жаху нечаканай страты адразу абодвух сваіх сыноў? З кім і з чым яна так па-бабску бездапаможна і бязглузда расквіталася? Не ведаю. А сама яна нават не помніла.

* * *

Колькі ж разоў я прыязджаў у Глушу! Часцей — з боку Бабруйска, часам — праз Старыя Дарогі, з боку Слуцка. Спачатку вочы шукаюць нашы бярозы — радасны дзевяцівяршынны выкід зеляніны ў неба, — востры дах дома, сінюю веранду: ці сядзіць мама-бабуля на ганку, ці каля бяроз шарэе яе халат. Дзе там бегае мая Наташа, Жэніны Галя[34], Інка[35]? Бацькі то наязджаюць, то ад'язджаюць — з Мінска, з Магілёва.

З Глушы, дзе б ты ні знаходзіўся, на ўвесь свет распаўсюджваюцца ціхія, мяккія хвалі марудлівага плыткага часу, ранішніх дзіцячых і птушыных галасоў: прыехаў на два-тры дні ці нават проста пазваніў — і ты зноў спакойны, свабодны для іншых думак і клопатаў, самае дарагое на сваім месцы і нічога не здарылася. Тое месца на зямлі, дзе для цябе сышлося жыццё і смерць, цяпер, калі вайна ў мінулым і толькі ў памяці, месца гэтае як астравок устойлівасці, нязменнасці. У моры ўжо новых падзеяў і хваляванняў. Летні цёплы вечар, і ўсё, усе побач, вакол цябе Глуша твайго дзяцінства і дзяцінства нашых дзяцей, на лавачцы сядзіць наша мама, што нібыта змірылася са старасцю, з хваравітай замаруджанасцю любых дзеянняў, усё больш маўклівая, але па-ранейшаму неадступна ўдзельнічае ў жыцці сыноў ды і ўсёй шырокай радні, — хочацца спыніць стан такой самадастатковасці жыцця: нідзе няма нічога, што было б больш патрэбным, даражэйшым.



З дзясяткаў маіх вяртанняў у Глушу адзін прыезд — лета 1945 года, — вядома, запомніўся асабліва.

Разарванае вайной жыццё нашай сям'і збіралася, сцягвалася нанова — як рана зацягваецца.

З вайны Глуша выйшла ўдала, ёй пашанцавала. Ну, проста-ткі як нашай вялікая сям'і. Што, і ў пасёлкаў, вёсак, гарадоў ёсць свой Анёл-Захавальнік? Глушанскі распарадзіўся, каб Сталін прыняў удакладненні Ракасоўскага ў адносінах «аперацыі Баграціён» — частку наступлення, войск пусціць праз Палессе. А тым самым Глуша, хаця яна і прыляпілася небяспечна да варшаўкі, заставалася ў баку ад галоўных баёў, смерцяў, пажараў.

Партызаны, тыя жыхары, што хаваліся ў лясах ці далёкіх вёсках і там іх не перабілі, не спалілі жыўцом, як многіх іншых, — вярталіся ў сваю Глушу. Поўнымі ці няпоўнымі сем'ямі. Мама вярнулася адна-адзінюткая. Яна потым скупа ўспамінала, апавядала, як увайшла ў нашы веснічкі, двор, у наш дом — цэлы год у ім жылі, збегшыся з другіх гарнізонаў, паліцаі, зрабілі тут каравулку. Як усё загадзілі і што даламалі, сцягнулі суседзі — можна толькі здагадвацца. Мама з сабой прынесла тое, што ў яе было ў рэчмяшку: г. зн. нічога. Здабыла бярэма чыстай саломы, паслала ля сцяны, дзе чысцей, і так правяла першую ноч у сваім доме. Нехта зазіраў у вокны, верылі і не верылі, што вярнулася Адамовічыха, што гэта яна. У Глушу не раз прыходзілі весткі, што і сыны, і сама — загінулі, забілі іх.

Калі мы ішлі ў партызаны, хвалюючыся, чакалі, калі пакінем дом, у куфар, закапаны ў падполе, паскідвалі тое, што шкада было пакідаць проста так: нейкія сталовыя прадметы, медычныя

кнігі бацькі, я — свой альбом акварэльных малюнкаў і вершы (сшытак). Няхай ляжыць, хаця, вядома, былі перакананыя, што «бобікі», з іх выключным нюхам, тут жа ўзарвуць падлогу і ўсё выцягнуць. Так былі ў гэтым перакананыя, што мама і не падумала пра куфар, пра рэчы, ёй патрэбныя. А калі ўсё-ткі ўзадралі падпол, яшчэ праз некалькі месяцаў, знайшлі ўсё зусім згнілое (апроч шкла і відэльцаў з лыжкамі). І мае вершы, і альбом адсырэлі, счарнелі. Вершаў не пісаў болей, маляваць не цягнула, не ведаю чаму.

У галаве ў мамы, якая вярнулася, было адно: Жэня! Дзе ён, што з ім? Да сустрэчы з дзядзькам Антонам пра мяне ёй было вядома толькі тое, што Р-н паведаміў: запрасавалі! Праўда, нехта нібыта бачыў малодшага за фронтам, але як яна магла не думаць, што ёй спецыяльна гэта кажуць, каб вярнуць надзею? Тая ж Валя Бузак апавядала, як раптам знікала Ганна Мітрафанаўна і яе шукалі вакол па лесе, зімнім балоце, а выйдуць на яе: сядзіць на купіне, снег ля ног растаў — ад слёз.

І раптам: о, радасць, о, жах! Шуеў і з ім некалькі партызан аб'явіліся ў атрадзе, жывыя, цэлыя, яны ўцяклі са слуцкага лагера. З імі збіраўся і Жэня, але яго зваліў тыф, і ён застаўся. (Той самы тыф, які ўратаваў ад Ельніцкага.) Куды падзеўся лагер потым? Мама ездзіла, кідалася, шукала сляды яго: куды маглі пагнаць?..

А пра мяне і бацьку нашага ад Антона пачула. У вайну цудаў было нямала: напрыклад, два салдаты схаваліся пад плашч-палатку, закурыць, прыкурыць: шчоўкнулі запальнічкай — ты? ты?! — выявілася, бацька і сын, тры гады нічога не ведалі адзін пра аднаго, і вось, калі ласка! Так павінна было супасці, здарыцца, што падраздзяленне, у якім дзядзька Антон быў сапёрам, праходзіла праз Глушу. Ён пабег усіх распытваць пра сям'ю доктара. Што яму маглі расказаць? Сустрэлася яму нават Пагоцкая, пасля ён казаў: што больш за ўсіх гаравала, бедавала, што Адамовічы прапалі, пабілі іх. Ужо ні на што не разлічваючы, у кожнай беларускай вёсцы, дзе спыняліся і дзе бачыў людзей са зброяй, партызан, пытаў: а такую вось не ведаеце? Непадалёк ад Слуцка гэта адбылося, зноў спытаў, а яму:

— Ганна Мітрафанаўна? Дык вось жа яна!

Яна ішла з поўным вядром ад калодзежа і ўзіралася ў незнаёмага, высокага, як брат Антон, салдата ў недарэчных абмотках і караткаватым шынялі. Ішла, пазнавала і не верыла, але вось ўпусціла вядро з вадой і горка заплакала. Дзядзька Антон падбег, абняў, а яна яму:



— Я адна, Антон, я адна!

— Ды не адна ты, Аня, вось, вось, глядзі!..

Ён пашукаў у кішэнях, знайшоў, выцягнуў — лісты з маім почыркам, з татавым почыркам. Вось, глядзі!

Дзядзька ўсю вайну перапісваўся з сястрой Воляй, што жыла ў алтайскім Ленінагорску. Калі аб'явіўся там я, вядома, даведаўся пра гэта, стаў пісаць мне, атрымліваць мае лісты, а тут і тата здагадаўся паведаміць аб сабе на Алтай — там замкнулася кольца перапісак.

Дзядзьку ўразіла, як узрадаваліся яму незнаёмыя партызаны: за доктара, вядома, свайго, узрадаваліся. Праз паўгадзіны ўжо сядзелі за шумным сталом і, перабіваючы адзін аднаго, апавядалі, як яны ўсе ведалі, не сумняваліся, што Ганна Мітрафанаўна адшукае дзяцей, пра гэта і сны гаварылі.

Чытаючы ў Плутарха, у Ціта Лівія пра македонцаў і наогул старажытных, як разгадвалі сны, кроку без гэтага не рабілі, не пачыналі, я ўспамінаў свой атрад, партызан. Ну, чыстыя македонцы! Уяўляю, якія ў нашых пачаліся сны-разгадкі, калі стала зусім немагчыма, загналі іх у Камар-Мох, яны стольких страцілі, а жыццё саміх на валаску. Нават камісар Буянаў, са словаў Валі Бузак, прыходзіў у санчасць і «палітработу» праводзіў па снах. Сны сведчылі, што хутка справы пойдуць лепш, а для немцаў — зусім блага. Маме прыснілася, што брыла па глыбокім снезе і раптам бачыць — бохан хлеба. Узяла ў рукі, а ён — цёплы! Праз некалькі крокаў — яшчэ адзін такі ж. Галоўнае, цёплы, значыць, жывыя, і абодва.

І вось цяпер, калі знайшоўся малодшы, упэўнена прадказвалі: знойдзецца і Жэня.

Але ён не знаходзіўся. Куды толькі не ездзіла мама: і ў Заходнюю Беларусь, і ва Украіну. Брала вузялок з хлебам і імчалася ў белы свет, прачуўшы, што там і там былі лагеры нашых ваеннапалонных ці туды вось, на шахты, прывезлі іх з Нямеччыны. А палонных, недаморaных у лагерах нямецкіх, везлі і везлі на ўсход — у нашы. Маці ў адчаі раскідвала рукі перад гэтым выгнаннем-зыходам, у надзеі не прапусціць, вылавіць, затрымаць. А ўжо расшукаўшы сына, яна ўсё зробіць, каб забраць яго, адабраць — няўжо нічога не значыць усё тое, што людзі рабілі (і яна таксама) у вайну?

Ужо і перамога адбылася, адрадаваліся, адсвяткавалі, адплакалі. І раптам — ліст. Ад Жэні, салдацкі трохкутнічак.

Брат паведамляў: ён у шпіталі, вайна ідзе да завяршэння, а значыць, ён жывы застанецца. Не пісаў раней таму, што на гэта

не разлічваў. «Ты, мама, ужо адплакала, не хацеў, каб табе другі раз давялося». (Вось дурань, вось дурань у мяне брат!) Потым ён так тлумачыў свае паводзіны: уцёк з калоны ваеннапалонных у Польшчы, стаў чырвонаармейцам, на Віслe стаялі, у акопах нашых людзей раз-два і палічыў. Ад кулямёта да кулямёта перабягалі, каб паказаць немцам, каб думалі, што ў Расіі яшчэ ёсць салдаты. Дзе ўжо было разлічваць, што жывы дабрыдзеш да канца вайны?

— Ага, мама, а ў Слуцкім лагеры мне сустрэліся твае знаёмыя, помніш палонных, якіх ты карміла ў аптэцы? Яны даведаліся, чый я, і калі выйшаў з тыфознага барака (а есці, есці хацелася, яны гэта ведалі), далі мне мяшэчак сухароў, назапасілі, назбіралі са сваіх кавалачкаў, пакуль я там ляжаў.

Мама не прамовіла, не нагадала сваё ўлюбёнае: кінь за сабою — знойдзеш перад сабою! — яна проста заплакала.

Магчыма, гэта былі апошнія яе ваенныя слёзы.

І вось я вяртаюся ў Глушу. У Новасібірску мог засесці на цэлы месяц (эшалоны з войскам, з тэхнікай гналі ў бок Японіі), мабыць, так яно і было б, калі б мяне не чакала Глуша, мама. Пазнаёміўся на забітым людзьмі вакзале з інвалідам-франтавіком, на пратэзе, вырашылі сумесна шукаць выхад са становішча, з нашага пункту гледзішча, недарэчнага: ёсць білеты, а выехаць не можам. Трэба закампасціраваць, ну, ды гэта ўжо празмернасць, дурыкі не ваенных людзей. Мы ж лепш ведаем, як нам абавязкова ехаць трэба. Пабрылі ўздоўж пустога эшалона, які чакаў свае пары на запасной каляі. Калі добра прыгледзецца, заўсёды адшукаеш, калі не дзверы, дык шчыліну. Гэта любому франтавіку вядома, а партызану ўжо — тым больш. І сапраўды, у адным вагоне нехта не падняў, пакінуў прачыненым акно ў прыбіральні. Вось ён, наш шанец! Інвалід паслаў мяне ў разведку, падмог знізу, ззаду: вось я і ў вагоне, няхай пакуль толькі ў прыбіральні. Падаў мне рэчмяшок, сумку. Цяпер давай ты, я працягнуў уніз рукі, але франтавік раптам засумняваўся, не, ён не палезе, шчаслівай табе дарогі, братка! Што ж, шкада, удвух было б лягчэй качаць правы перад праваднiцай. Адзін я ў пустым вагоне, садзіся, кладзіся дзе захочаш. Але мы не гордыя, нас і верхняя, трэцяя паліца цалкам задаволіць. Забраўся і заціх, услухоўваючыся. Цягнік ціхенька, на дыбачках падбіраецца да вакзала, чутнага зводдаль. Людзі, што па цэлым месяцы чакаюць ад'езду, — ясна, што і залямантуеш, і штурхацца пачнеш. Праваднiца таксама лямантуе, вішчыць — так, мабыць, у яе характар яшчэ той. Хутка сустрэнемся. Тупат, чамаданныя стукі ўжо ў тамбуры, унізе пада мной — маёр! Другі і яшчэ горш — палкоўнік з трыма чамаданамі! І яшчэ, і яшчэ — хаця б адзін невaенны, цывільны. Падобна, што я забраўся ў вагон для высокіх чыноў. Так што і не разлічвай, не ўдасца зацерціся сярод пасажыраў. Белая варона! Вагон зазелянеў мундзірамі, зазіхацеў пагонамі, што луг веснавы. Прабегчыся, ці што? — я скочыў з сваёй высокай паліцы: «Добры дзень!» — і прысеў ля акна, насупраць маёра. Ён здзівіўся. І ўсе навокал здзівіліся: а гэты адкуль тут? Але маўчаць, я спытаў, колькі да адыходу цягніка, адказу не пачуў. А вось і красуня-праваднiца, уставілася на мяне.



— Вы як тут? Як вы прайшлі?

— У дзверы, а то яшчэ як!

Працягнула руку па білет, я заадно і сваю партызанскую даведку падаў (дзейнічала, спрацоўвала, калі год з лішнім таму назад ехаў на ўсход). На даведку не зірнула, а з білетам усё і так ясна: без месца, незакампасціраваны, і затым — гэта вагон для вышэйшага камсаставу. Даведка з пячаткай Цэнтральнага штаба партызанскага руху (выдадзена ў Гомельскай Нова-Беліцы ў самым пачатку 1944 года) запрашальна бялее на століку, усё больш сіратліва бялее, любы можа зірнуць, пераканацца, што перад ім не зладзяйчук і не які-небудзь паліцай — не зацікавіўся ні адзін маёр, ні адзін палкоўнік. Ні слова ні за, ні супраць. Праваднiца, штосьці скеміўшы, хуценька прапанавала: я вас у суседні, у агульны, перавяду. Што ж, абы ехаць. Як толькі я апынуўся ў тамбуры, дзверы за мною зачыніліся, ніхто мяне і не збіраўся падсаджваць у суседні вагон. А цягнік ціхенька крануўся, і за тое дзякуй Богу, — наўздагон ляцелі стогны і лямант тых, што засталіся на пероне. Ваенна-міліцэйскі патруль, што праходзіў па эшалоне, маімі дакументамі зацікавіўся. Павялі з сабой, я ўжо рыхтаваў гарачую прамову ў апраўданне свайго ўчынку, каб дайшло, працяла, адчулі. Але не спатрэбілася нічога. Правялі ў свой службовы вагон, паглядзелі дакументы: паедзеш з намі, пацан! Добра, пацан дык пацан, абы рухацца — да Казані, да Масквы, да Глушы.

І вось ён, гэты момант! Скочыў з машыны, прыняў свае рэчы, а вочы ўжо ахапілі ўсё, што змаглі, абнялі, прысунулі: прышашэйныя сосны, дом, нашы вокны, бальніца-камендатура з пачарнелымі ад знятых земляных прызбаў сценамі, аптэка, дзе, я ведаю, цяпер і працуе і жыве *яна*. Нехта ў белым халаце кінуўся за акном, я накіраваўся да верандачкі, але *яна*, мабыць, пабегла праз сенцы — звярнуў, заспяшаўся туды, амаль бягу. Я туды, а яна — праз веранду на вуліцу, следам за мной, здаг-

нала ў сенцах, а ў руках у мяне рэчы, шпурнуў іх пад ногі, і вось мы ў аптэчнай куханьцы стаім адно перад адным. Як бы не ведаючы, што рабіць. Пацалаваліся. Гэтыя секунды кудысьці далёка-далёка адкінулі месяцы, гады, вечнасць, дзе мы ўжо маглі і не сустрэцца ніколі.

— Сынок…

(Госпадзе, колькі потым было выпадкаў, дзён, калі я мог быць поруч з ёю, нешта сказаць, пачуць яе голас, няхай у ім і недарэчная старэчая паніка, спалох, які чамусьці раздражняў. Ну, звоніць тэлефон, ну, у дзверы пазванілі — што, што здарылася, якая прычына бегчы, палохацца: «Саша, званок!» — ды што здарылася, што за паніка, мама? Нічога, дурань, не здарылася, усяго толькі жыццё прайшло, адыходзіць, канчаецца. Цяпер хацяб, дапетрыў, разумееш?) Нас абкружылі нейкія незнаёмыя людзі, прайшлі праз аптэку на кухню, Ніна і Франя гучна расказваюць, як смешна мы кідаліся, бегалі адно за адным. Маму віншуюць вясковыя бабы, трымаючы ў руках паперкі-рэцэпты. Усё так, быццам не яны толькі што ад вайны ўратаваліся, а я, што больш за год быў ад яе далёка-далёка, ажно за Уралам. У 8-м класе вучыўся, у горна-металургічным тэхнікуме. Калі адтуль ехаў, спыталі, ці вярнуся давучвацца. Дзякуй горнаму, дзякуй металургічнаму, дзякуй гораду Ленінагорску, але я больш не сірата — я ў Беларусі, я знайшоў сям'ю, і яна мяне знайшла.

Калі засталіся ўдваіх, мама паказала мне лісты бацькі і Жэні, а я ёй апавядаў, як там, далёка ад вайны, я раптам на брушны тыф захварэў (хаця ў партызанах ні разу нават насмарку не схапіў) і як тата даслаў на бальніцу лекі і ліст уклаў, для цэнзараў. Маўляў, знайшоўся сын, прашу забраць палову стрэптацыду, лекаў, я спецыяльна дзве порцыі паклаў. (Рэч у тым, што ў папярэдніх яго пасылках я знаходзіў цэглу, а аднойчы — ірваны, струхлелы кажух.)

Мяне кармілі, мне ўсміхаліся, са мной гаманілі звонка-шчаслівымі галасамі, а мне ўжо хацелася выйсці і прайсціся па Глушы. Глушанцы — хто пазнае, а хто не пазнае мяне. Чакай, гэта, здаецца, Ельніцкага зяць, ён быў у паліцыі, а потым цесць яго ад паліцыі вызваліў («па хваробе», але ж мы ведалі — па блату, і тым выратаваў яго ў тую ноч). На мяне азірнуўся са здзіўленнем і амаль спалохам, а я міжволі павітаўся. Ад паўнаты шчасця. А чаму не вітацца цяпер, калі не ваша, а наша Глуша? Я і з Казікам, і з Пагоцкай (а ўжо тым больш са старым) павітаўся б, пагаманіў. Хацеў бы паглядзець на іх, дом іх бачны каля лесу. І з дрэвамі, з соснамі павітаўся (кара ўсё яшчэ па-ранішняму



халаднаватая), перакінуўся словам. Вось гэтая самая тоўстая, каля аптэкі, мяне выратавала ў ноч, калі мы па адным адыходзілі да таго вунь лесу. Перабег шашу, і тут пачуліся галасы, смех: паліцаі ідуць! Пакуль праходзілі міма, я зрабіў поўны абарот вакол ствала дрэва. А заўважылі б — ноччу, з чамаданчыкам! — чым бы ўсё для мяне скончылася?

На маё пытанне: «А як тут Пагоцкія?» — мама ўвечары паведаміла:

— А ведаеш, да мяне прыязджалі, пыталіся пра іх. Дакладней, тут пачаў працаваць упаўнаважаны ад Бабруйскага іх гэтага НКВД ці як гэта цяпер? Зайшоў у аптэку, паглядзеў, паклікаў мяне ў заднія пакоі. Так і так, у яго дакументы важныя, ён часта ад'язджае. «Магу я ў вас іх захоўваць? Мы ведаем, што вы партызанка і муж усю вайну ў арміі». Я яму кажу: «Няма ў мяне сейфа, баюся я вашых папер!» — «А нічога, вы ж захоўваеце атруту, вось там і маё схавайце».

Аднойчы мне кажа: так і так, паступіла заява (назваў Лешчуна і яшчэ двух партызан), што Пагоцкія на вас даносілі немцам, Вы пацвердзіце? Разумееш, сынок, я сказала: нічога не ведаю і нічога не буду пацвярджаць! Ну, як жа так, усе пра гэта ведаюць. Яны ведаюць, а я не ведаю. Не пытайцеся ў мяне ні пра што.

Мабыць, заўважыўшы, што сын не дужа яе разумее, растлумачыла:

— Мне Бог усё вярнуў, а я буду… Няхай Ён іх судзіць, Яго воля. Я паклялася, калі вас знайшла, усім усё дараваць!

Але калі старая сама прыйшла ў аптэку, прынесла слоік мёду, сала — як жа мама яе турнула!

— Ніна і Франя стрымалі, а то б я яе з ганка спусціла.

Пра Казіка мама паведаміла: з'ехаў некуды ў глыбінку, нібыта настаўнікам працуе. Камусьці мёд іх да смаку прыйшоўся, у армію не забралі, хаця ўсіх падмялі, каго толькі можна.

* * *

Тады я маму не дужа разумеў, затое зразумеў пазней. Так, менавіта пасля такой вайны, такога ўсплёску нянавісці, лютасці трэба было пачынаць перарываць ланцуг, хаця б на сваім узроўні, участачку. Наўрад ці яна пра гэта думала або так разважала. У яе свае доказы: яна адмаліла сыноў у Бога — і цяпер не яна, а Ён усяму суддзя. Палітыкамі нашы бацькі не былі, іх адвучылі начыста. Даваенны страх працягваўся і ў пераможцах. А мы, хто маладзейшы, што прынёсшы з вайны, а што зачэрпнуўшы пасля

ХХ з'езда, усё больш набывалі «смак» да «палітыкі». Мама прыглядвалася не без трывогі.

Званок мне ў Мінск:

— Саша, дык што гэта такое?

— А што?

— У газеце вось напісана, мне паказалі, у «Звяздзе» — што ты нігіліст!

— Ну і што? Базараў таксама быў нігіліст.

— Але тут напісана: іржавы!

У пасляваенных «органах» апынулася нямала былых партызан. І наш адзін — Мікалай С. Ад яго я шмат цікавых рэчаў пачуў, і пра сябе таксама.

— Чаму маё начальства так цябе не любіць? — пытаў Мікалай.

— А не любіць?

— Гэта дакладна. Па-першае, кажуць: не савецкі чалавек. І другое: ён нас не любіць, органы.

З другім я спрачацца не стаў бы: забілі, замучылі, падставілі пад кулі кожнага трэцяга жыхара велізарнай краіны, а вы іх любіце! Крыўдзяцца. Але вось савецкі, не-савецкі — гэта трэба было яшчэ даказаць. Калі быў, заставаўся «савецкім», а калі перастаў ім быць. Ва ўсякім выпадку, калі бацька, вярнуўшыся з арміі ў Глушу, раптам задумаў і пачаў будаваць уласны дом (не жыць жа вечна па закутках у аптэцы!), я здзівіўся:

— Уласны? Дык хутка ж камунізм!

Самае дзіўнае, што не ўсё было жартам, была доля зусім шчырага пераканання, чакання: мы ж перамаглі, цяпер усё адолеем, зможам!

Ну што, хіба не цалкам савецкі (ідыёт)? Дом бацькаў, намі дабудаваны, стаіць, можаце пераканацца, у Глушы. Ну, а камунізм на адной шостай… Тут была яўная недапрацоўка і саміх органаў. Больш рашуча з намі трэба было, больш крута абыходзіцца. Каб аніякіх адліг, аніякіх перабудоваў. Народ наш па-добраму не разумее, тут жа робіцца нахабным. Вось і мы — у раннехрушчоўскія часы. Нас стараліся паклікаць на дапамогу, каб разам «паляпшаць сацыялізм», у адной запрэжцы з органамі, а мы хацця і марылі аб палепшаным, але каб без органаў, без такіх, прынамсі, а калі з імі, дык без нас.

Мы тады часта збіраліся ў гасцінным фінскім доміку на ўскраіне Мінска — у Мастака[36]. Пасядзець за сталом, пашумець, у гучных спрэчках разгрызці ўсе пытанні, што раптам і адразу адкрыліся нам. Лічылася, што «чужых» у нашай кампаніі няма



(дый абрыдла азірацца), таму гаварылі пра ўсё адкрыта. А тым больш, мы былі заадно з Хрушчовым — каго ж баяцца? Аднойчы сабраліся, пытаем: «А Паэт[37] дзе?» Няма Паэта. І раптам з'яўляецца: выгляд чалавека — крыху збянтэжанага, але задаволенага: «Хлопцы, дзе я бы-ыў!» Яго, аказваецца, «выклікалі». Даў падпіску аб неразглашэнні. Падрабязна стаў апавядаць, што абяцаў не выдаваць, а ў заключэнне параіў: падрыхтуйцеся, кожны павінен мець «версію», каб не заспелі, як яго, знянацку.

Я чакаў свае чаргі нават з цікаўнасцю. Мы ж былі дужа самаўпэўненыя: нядаўнія партызаны, франтавікі — нас голымі рукамі не возьмеш! Быццам і не помнілі, што ў многіх іншых заслугі вунь якія гучныя, а загрымелі так, што і следу не засталося.

Але ж быў усё-ткі ўжо ХХ з'езд!

І вось надышла мая чарга. Нейкая шустрая фізіяномія зазірнула ў дзверы акадэмічнага Інстытута літаратуры, ветліва прагучала маё прозвішча — просяць у калідор. Не паспеў выйсці — у твар мне кніжачку. А, дужа прыемна! Малады чалавек нават нейк пакрыўдзіўся, што аніякага ўражання. Паведаміў: вас запрашаюць у дом на праспекце Сталіна, нумар такі, надта просім, для размовы. Зайсці трэба з боку Камсамольскай, там ёсць сталовая, агульная, гарадская — праз яе і прайсці. Усё прадугледжана: каб непрыкметна, не падводзіць сваіх людзей.

Усё так і было: абедзенная таўхатня, нейкія дзверы — гэтыя, здаецца? Ну, а далей — калідоры вядомага ў Мінску будынка, які ў зруйнаваным горадзе быў узведзены (немцы будавалі, ваеннапалонныя) у ліку першых пасля вайны, калі наогул не першым.

Пра гэтыя бясконцыя калідоры мне потым апавядаў Мікалай С., той самы супартызан, забаўную гісторыю, прынамсі, як забаўную, хацця, думаю, яму было не да смеху, калі за ім імчаўся на кароткіх ножках міністр унутраных спраў Цанава, мінскі Берыя, з лямантам: «Стой! Хто такія? Стой, кажу!»

Ішлі маладыя два лейтэнанты па калідоры сваёй арганізацыі і раптам бачаць — Цанава насустрач. Рэфлекс спрацаваў: не трапляць на вочы, невядома, што яму цюкне ў галаву. Развярнуліся і наўцёкі, ды — крута ўніз па лесвіцы, у прыбіральні, адзін у мужчынскую, другі — у жаночую. Доўга чуўся немы крык раз'ятранага Цанавы[38].

У названым пакоі мяне чакалі. Твар вострага на вока капітана нібыта знаёмы, недзе бачыў, але як бы бакавым зрокам. Наўпрост — не трапляўся. Праз пяць хвілін я скеміў: ведае пра пісьменнікаў усё. Пра жывых, пра мёртвых, пра рэабілітаваных

і яшчэ не рэабілітаваных. У гэтай справе і прапануе мне паўдзельнічаць — удзячнай справе рэабілітацыі беларускіх пісьменнікаў. А справа працаёмістая: са ста дванаццаці — сотню, ці што, угробілі. Прыкрыя памылкі ўсё. Без вашай (нашай) дапамогі не абысціся.

Зразумела, усё зразумела. Ды толькі лепш: вы самі па сабе, а мы самі па сабе. Вось у мяне ў часопісе «Полымя» серыя артыкулаў менавіта пра такіх пісьменнікаў, рэпрэсаваных, пра многіх. Калі ласка, выкарыстоўвайце.

Так яно так. Але нам бы (ім) хацелася… Вочы паляўнічага ці птушкалова: зоркія, азартныя. Кіпцюрык, толькі кіпцюрык твой ім патрэбен!

А вось кіпцюрык мне за ўсё даражэй. Таму аніякія заклікі да патрыятызму, удзелу ў высакароднай справе не даходзяць, не дзейнічаюць. Тым больш, што ў запасе ў мяне «версія». Падрыхтаваўся скарыстаць яе ў самы крытычны момант. А момант такі ўсё не наступае. Гамоняць са мной паважліва, мы як бы разам палюем. Толькі я — птушка, а ён — клетка з прачыненымі дзверцамі.

Падпісаў мне пропуск на выхад: дазвольце як-небудзь яшчэ раз з вамі пагаманіць. Падумайце.

Памчаў да сяброў расказаць пра такое лёгкае вызваленне.

Але якое там. Праз тыдзень — тэлефонны званок. Ці не маглі б прыйсці? Тым жа маршрутам.

Што і казаць, цікава вось так проста прайсці ў будынак, самому ўвайсці і выйсці, куды прыводзілі і адкуль выхад быў ох які цяжкі. У. А. Кручкоў, да путчу — старшыня КДБ, пажартаваў з намі, народнымі дэпутатамі, што прыйшлі з прапановай Лубянку пераўтварыць у «Мемарыял»: а вы, маўляў, заўважылі, што дзвярныя ручкі, што звонку і што знутры, сцёртыя ў нас у аднолькавай ступені? У іншыя часы ўнутраныя былі сцёртыя менш: рукі краналі іх куды радзей, чым звонку, — мабыць, у гэтым соль жарту. І прыкмета нашага часу. Але гэтую прыкмету мы бачылі (ці хацелі бачыць) і ў часы хрушчоўскія — як знак незваротнасці.

А яшчэ, помніцца, ішоў па праспекце імя Сталіна, калі вартавыя нават звонку ахоўвалі тых, хто працаваў на паверхах і хто сядзеў у падвалах, зацікавіла: а што гэта за пракладкі паміж магутнымі гранітнымі плітамі, фанера ці шкло? Калупнуў пальцам і тут жа адскочыў: вартавы імчыць на мяне, трымаючы перад сабой штык. Вось такі гэта быў будынак.

А зайсці ў яго, аказваецца, проста, толькі трэба было ведаць: праз гарадскую сталовую. Мабыць, і ў гэтым была спакуса: атрымаць права не баяцца таго, што пужае ўсіх. Так што не толькі страх заганяў у «невідзімкі», але і жаданне ад яго пазбавіцца, ад вечнага страху — хоць бы такім спосабам. Але ж я ішоў з «версіяй» у запасе, мне страшна не было.



Высокі чын у грубым швэдры з-за стала глядзеў на мяне амаль сумуючы. Што чын высокі, хаця і не ў мундзіры, я скеміў адразу: бо мой капітан з мінулай сустрэчы быў адкінуты некуды да самага парога, ледзьве затрымаўся за краёчак стала, сядзеў сціпла, твар быў не як у мінулы раз — чалавека, які ўсё разумее, а тупавата-казённы, прысутны, і не больш.

— Я вас слухаю, — прамовіў чын так, быццам просьбіт да яго з'явіўся: ён, маўляў, яшчэ паглядзіць, ці падыходзіш ты да такой высокай ролі. Ну што ж, тым лепш, ты мяне слухаеш, і я цябе слухаю. Давялося гаварыць яму. Зноў пра «перабудову ў органах», пра патрэбу ў правераных сумленных грамадзянах. Вы самі патрабуеце аднавіць сумленныя імёны пісьменнікаў. Вось і памагайце нам у гэтай справе.

Прыберагаючы «версію», цягну тую ж бадзягу: артыкулы мае надрукаваныя, больш сказаць мне няма чаго. Ён: а вы напішыце спецыяльна для нас. Чаго вы баіцёся? Ці не паважаеце нашу работу?

Бакавым зрокам я бачыў свайго вастравокага ўчарашняга капітана. Заўважыў, як ён насцярожваўся, напружваўся, калі чын у швэдры пачынаў падцягваць, падцягваць мяне да сябе.

— Вы што ж, такой дробязі не можаце зрабіць для дзяржавы, якая вас вывучыла, выхавала? Прытым высакародная справа — памагчы ў рэабілітацыі.

Ну што тут скажаш яму? Запярэчыць сапраўды няма чаго. Уладзіміру Аляксандравічу Кручкову я ў твар сказаў пра сорак мільёнаў, імі загубленых. Але гэта ўжо 1990 год, а то быў яшчэ 1957-ы.

Чын пачынае злаваць:

— Вы думаеце, мы не ведаем, пра што вы там гамоніце на вуліцы Усходняй?

Фінскі дамок Мастака стаяў на вуліцы Усходняй.

— Дык вы ў якасці западозранага паклікалі мяне?

Шары, сутыкнуўшыся, адразу разбегліся. Чын нават заўсміхаўся. Але папярэджанне было зроблена. Пара выцягваць «версію». Ці яшчэ не пара?

Я ўбачыў, як занепакоіўся капітан ля парога. Ды ён зусім не хоча, каб чын раскалоў мяне і паказаў бы, што капітан працаваць не ўмее, не ведае, як з такімі трэба дзейнічаць. Вядома ж, чын зазірнуў сюды на хвілінку, каб паказаць, як гэта робіцца.

А ўжо гадзіна, калі не больш, прайшла. Гэта ж трэба — столькі я чалавека трымаю.

Нахабна паспачуваў: маўляў, і яшчэ гадзіна, і яшчэ праміне — нічога, апроч часопісных артыкулаў, прапанаваць не магу.

— Добра. Вось гэты, як яго пісьменнік… Галавач (запытальны позірк у бок капітана), цяпер яго справа па рэабілітацыі на стале.

— Я і пра яго напісаў. У часопісе «Полымя» (такі вось нумар).

— Добра. Тое ж самае напішыце для нас.

Я ўбачыў, як напружыўся капітан.

— Я прышлю часопіс.

— Часопіс мы і самі можам. Што, вы так не паважаеце нашу дзейнасць?

— Дзейнасць як дзейнасць.

— Значыць, напішаце? Тое ж, што ў часопісе.

— Не.

— Чаму?

Па твары капітана пабачыў: я амаль у лавушцы, дазволіў сябе падцягнуць да самых дзверцаў.

— Чаму не можаце такую дробязь? Дзеля свае дзяржавы? — напіраў чын.

— Не магу — і ўсё.

— Ага, вось як, значыць! — тут убачыў я кулакі на стале. Вялікія.

Памаўчалі. Раптам заўсміхаўся чын, гэта было так нечакана:

— Ага, зразумела. Вы думаеце, што з вас хочуць зрабіць сексота. Памыляецеся, дабра гэтага ў нас хапае. Зразумейце ж, ваш брат пісьменнік — людзі вельмі бесклапотныя. Калі іх не перасцерагчы, у такое ўлезуць. Потым самі не радыя. Мы цяпер занятыя прафілактыкай, выключна прафілактыкай. Але для гэтага павінны разумець, што адбываецца ў пісьменніцкім асяроддзі. Каб потым не займацца рэабілітацыямі. Патрэбны кваліфікаваныя людзі, якія маглі б нас прасвятляць. Разумееце? Не даносіць, а прасвятляць. Менавіта каб не звяртацца да ўсякіх тайных супрацоўнікаў.

— Сапраўды, — згадзіўся яго суразмоўнік (я), — нядобра атрымліваецца. Сядзяць на партсходзе поруч. Той, хто «сядзеў» гадоў дваццаць пяць, і той, хто яго пасадзіў.

Мог бы расказаць яму амаль вясёлую гісторыю, як двое такіх ездзілі ў Маскву. Пасадчык купіў на дваіх білеты.

— Грыша, ты маладзейшы, я сабе ніжняе месца бяру.

— Як ніжняе? Ды я з-за цябе на нарах столькі гадоў!..



— Добра, добра, я наверх палезу.

Гасцініца.

— Грыша, тушы святло, ужо дзве ночы.

— Ды я з-за цябе столькі кніг не прачытаў!

— Добра, добра, прабач.

Гісторыю гэтую не расказаў. Замест гэтага прапанаваў:

— Дайце мне шынель.

— ??

— Калі я абавязаны дзяржаве, не адслужыў у арміі, няхай яна выдасць шынель, каб бачна было: чалавек пры службе.

Гэта і ёсць мая «версія», якую прыберагаў на крытычны выпадак.

— Ну, навошта ж? У вас ужо склалася навуковая кар’ера. (А на твары: а на храна ты нам патрэбен у шынялі?) Значыць, па-добраму ў нас не атрымліваецца…

Чын змоўк. Маўчаў капітан. А я, помню, прыкідваў: мне — 30, нават калі 10 гадоў адбяруць, змагу жыць далей, пісаць (крадком пісаў свае партызанскія раманы). Калі ж завязне кіпцюрык — жыццю канец, а ўжо літаратуры — тым больш.

— Так і быць, мы вам давяраем. Я вам раскажу…

— Не, не, нічога не расказвайце, не давярайце!

Пасля чатырох гадзін вось такіх падцягванняў і адскокаў (зацікаўленая рэакцыя капітана, які яўна і ўсёй душой жадаў правалу свайму начальніку, памагла мне кантраляваць сітуацыю) раптам гнеўны вокрык:

— Пішыце!

— ??

— Пішыце, што нікому ніколі не раскажаце пра гэтую гаворку.

Шпурнуў ліст, які слізгануў па стале…

Але я вось сабе ўявіў: іншы час, ці ты не ўстояў, ці не змог вывернуцца, і яны цябе заарканілі. З якім пачуццём выйшаў, выходзіў? Мая глушанская біяграфія прызямляе, падказвае прыклады-паралелі, якія, мабыць, выклічуць не зусім эстэтычную рэакцыю. Нейк мы лёталі па прыбраным бульбянішчы, прывыкнуўшы і не заўважаючы, што на ўскрайку яго стаіць дашчаны сарцір, адзін на ўвесь заводскі інтэрнат. Хлапец пабег па мячык, што стукнуўся аб заднюю яго сценку і ўпаў там. Пабег і раптам знік: адно галава тырчыць над зямлёй і плечы, абапёртыя на локці. Калі выцягнулі за рукі з выграбной ямы, не ведалі, смяяцца ці плакаць. Яму, гэта дакладна, не да смеху было. Да падпахаў у жоўта-зялёным дзярме, а водар, а смурод! І галоўнае,

не ведаеш, што рабіць: абцерціся — бацвіння з усяго поля мала дзеля гэтага, адмыцца — дзе, і як будзеш ісці праз пасёлак, міма людзей. Чаму, чаму абавязкова са мной такое! — проста-такі крычыць твар хлапца. У вачах яго я раптам убачыў шалёную рашучасць: нырнуць *туды*, галавой уніз, і ўжо не вынырваць!

А ныралі ж, і колькі, безаглядна.

Не думаю, што «крыўда» органаў, выкліканая маёй незгаворлівасцю, так доўга вісела, даваў і іншыя нагоды да нелюбові. Трэба быць справядлівым. Бо яны ж, «органы», не толькі на вуліцы Урыцкага, а і «падсуседзьмі» — у любым будынку-ўстанове. І вядома ж — у Саюзе беларускіх пісьменнікаў. А ў нас там свае страсці, асабліва калі ты крытык і не цэніш «вытворчыя раманы». Нейчае цярпенне лопнула. («Якая табе справа, што мае раманы тоўстыя, сумныя, — твае, ці што, грошы?!») І я раптам даведаўся: расшукалі Казіка Пагоцкага (гэта ж трэба ўмець, глушанцы і тыя не ведалі, дзе ён, што з ім), ад яго прыйшоў ліст, і ўсе цяпер маглі даведацца, пераканацца, што не толькі Адамовіч-сын — чалавек сумніцельны, але і яго маці… Сябравала з нямецкім камендантам, ён яе нават не арыштаваў. (Пагоцкі ніяк і праз столькі гадоў не мог пазбавіцца ад шоку, калі нават пасля другога даносу старой нас не кранулі.)

Я расказаў пра гэта маці, яна адрэагавала зусім нечакана: навошта ты, сынок, пра іх пісаў? А яшчэ гэты фільм! (Да таго часу прайшоў па экранах Тураўскі фільм «Вайна пад стрэхамі».)

Спалохалася — за мяне:

— Табе яны нічога не зробяць?

І паведаміла:

— Ведаеш, мне прыслалі медаль «За адвагу» другі раз. Гэта памылка? Ці гэта азначае, што зноў вайна будзе? Раз успомнілі пра нас.

* * *

Жэня далечваўся ў Нямеччыне, армія генерала Пухава, дзе служыў бацька, стаяла ў Роўне. Ну, а мы з мамай зноў жылі ў Глушы, і да яе цягнуліся нябачныя ніці, што ўсё звязвалі. Час быў асаблівы — 1945 год. Пра што ў іншыя часы падумваў бы хлопец з васьмікласнай адукацыяй (плюс адзін курс тэхнікума)? Як скончыць сярэднюю школу. Мы ж адразу — у які інстытут паступіць? Чатыры гады вайны зарадзілі рашучасцю не толькі ў цягніках безбілетна ездзіць. Я выбіраў паміж медінстытутам і ўніверсітэтам, а дакладней, яны выбіралі, спаборнічаючы,



каб мне спадабацца: калі медінстытут засумняваўся (і не без падставаў), што за круглая пячатка на даведцы аб здачы экстэрнам экзаменаў, і я, прысаромлены, намерыўся забраць у іх дакументы, тут жа кінуліся прасіць прабачэння за празмерную здагадлівасць (усё ж нязначны быў працэнт мужчын, што паступалі на вучобу, а ім мужчыны былі патрэбны). Але я ўсёткі забраў дакументы, калі на вуліцы ў Мінску сустрэў Жэню Семенчука, якога ў школе мы называлі Жома і якому ў вайну ў бабруйскім нямецкім шпіталі ампутавалі руку (як ахвяры партызанскага бандытызму, хаця паранілі яго немцы і быў ён сам партызан).

— Куды паступаеш?

— У медінстытут.

— Ідзі да нас у БДУ (Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт).

— А можна? Ведаеш, у мяне даведка за дзесяць класаў і з пячаткай, але крыху таго… (я крутануў рукой, паказваючы, як пячатку паварочваюць, каб нельга было нічога разабраць).

— Затое партызанская ў цябе нармальная?

— Нармальная.

Жэня-Жома ўзмахнуў кароткім абрубкам рукі:

— Яе і прад'явім.

У Роўна, паказацца бацьку і паглядзець на яго, я ехаў, ужо стаўшы студэнтам і жыхаром, які меў часовую прапіску сталічнага Мінска. Не здагадваўся, што мяне яшчэ і ў разведку пасылалі, у мамы былі свае меркаванні. Яна ўжо распачынала сваю шырокую праграму, акцыю па зборы пад глушанскую страху ўсяго нашага роду. Ужо былі напісаныя і пасланыя лісты куды толькі можна — у Сібір, на Урал. Вядома, не толькі таго і свету, што ў Глушы, але само сабою зразумела: калі людзей гвалтоўна разагналі каго куды і калі ўсё нарэшце змянілася (а тады верылі, што вайна, перамога многае змянілі), ясна, што трэба аднаўляць раскіданае жыццё, памагчы вярнуцца выгнаннікам. Праўда, многія ўжо іншыя карані набылі, пусцілі ў іншую глебу, для некаторых Глуша ўжо гучала этымалагічна — *глуш*. Але што датычыцца доктара Адамовіча, дык ужо тут дакладна: няма чаго яму, новаспечанаму падпалкоўніку, рабіць у арміі, калі вайна скончылася! Мяне не прасілі перадаць такі мемарандум, але ён, вядома ж, меўся на ўвазе (а неўзабаве мама сама паехала ў Роўна і выклала яго публічна, пры ўсіх бацькавых сябрах-палкоўніках).

Бацька мне здаўся моцна ўзмужнелым: твар агрубеў, голас цвярдзей, больш рашучы, мундзір ужо не ляжаў на ім як на цывільным чалавеку, ён быццам прырос да крыху ацяжэлай

постаці. Толькі вочы стомлена запаленыя, задумлівыя і нечакана лёгкія на слёзы. Абняў мяне і праслязіўся, не бянтэжачыся, што глядзяць яго медсёстры. Зноў і зноў ім тлумачыў, што чатыры гады лічыў нас нежывымі, назаўсёды страчанымі і што мы, і жонка, і сыны, — храбрыя партызаны, а вось ён (я) ужо студэнт… Сам не мог ніяк у гэта паверыць і без канца паведамляў пра гэта палкоўнікам, што ішлі да яго. Мне ўжо рабілася няёмка за бацьку-падпалкоўніка, якога ўсе яны, я бачыў, паважаюць, і, мабыць жа, не за сентыментальнасць. Увечары, калі засталіся адны, наслухаўшыся маіх апавяданняў пра без яго пражытыя гады, сёе-тое паведаміў пра сябе: як пад Курскам па сто, па дзвесце рук-ног адразаў «па-жывому», а пасля гэтага — аглушаў сябе шклянкай спірту, каб адключыцца.

У маёй памяці горад Роўна застаўся нечым накшталт лермантаўскай Тамані: мяне там ледзьве не застрэлілі. Горад лічыўся «бандэраўскім», і таму пасля пачастункаў у мой гонар, калі ўсе разыходзіліся, а адна медсястрычка засталася без суправаджэння, бацька, што не стамляўся ганарыцца сынам-партызанам-студэнтам, сам прапанаваў мне яе праводзіць дамоў. Ужо не помню, як звалі яе, але была яна не па-гарадскому (ці таму, што Заходняя Украіна) маўклівая, сарамлівая і, здаецца, прыгожая. (Кажу: «здаецца» таму, што ўсе дзяўчаты тады здаваліся мне хвалююча-цудоўнымі.)

Мы ішлі з ёю, не датыкаючыся нават рукой рукі, па рана апусцелых вуліцах чыстага гарадка з клапатліва пакладзенымі пад пышнымі дрэвамі драўлянымі тратуарамі. Зрэдку траплялiся патрулі, а недзе воддаль пастрэльвалі. Ну зусім як у сваёй Глушы мы ўслухоўваліся ў аўтаматныя чэргі здалёк. Але там, тады гэта былі *нашы* стрэлы, партызанскія, тут жа — чужыя, *бандыцкія*. (Але гэта з якога боку глянуць.)

Нечаканы дождж загнаў нас у нейкі двор пад нізкі брыль хлеўчука. Насупраць рад цёмных вокнаў даўгога, у некалькі сенцаў дома. Дождж як з вядра, даводзіцца шчыльна прыціскацца да варотаў хлеўчука, што ўзяты, зачынены на моцную металічную завалу, міжволі прыціскаемся адно да аднаго, а дождж усё роўна дастае, засякае па нагах. Але дождж цёплы, летні, і вялікай бяды ў ім няма. Затое можна вось так стаяць з дзяўчынай. Вочы яе зусім блізка, а што ў іх, хіба гэта хтосьці можа ведаць?

Магчыма, мне ўдалося б пацалаваць другую ў маім жыцці дзяўчыну (першая засталася ў далёкім алтайскім горадзе), калі б не здарылася, не адбылося тое, што раптам адбылося.



Расчыніліся са стукам дзверы над высокім ганкам, але ніхто не выходзіў, а толькі панукванне, як бы сабаку: «Пайшоў! Пайшоў!» Сабаку мы не пачулі, затое коратка трэснуў стрэл (з «ТТ»?) і тут жа другі. Ды што ён, ачумеў?! Я чамусьці адразу сцяміў, не толькі што адбываецца, але і ход думак таго, хто страляў: з вакна ён доўга назіраў, як двое важдаюцца ля замка на ягоным хляве, і вось вырашыў пужнуць зладзейчукоў, ды не, прыстрэліць свалачэй! Наш афіцэр, мабыць. Мне б падаць голас, адазвацца: ды ты што! мы тут ад дажджу хаваемся… («Добра ад дажджу прыладзіўся — з дзяўчынай! І чым вы там займаліся?» — але гэта ўжо хада думак не таго, хто страляў, а кагосьці абагульнена-дарослага, іранічнага, ад каго лепш — чым далей.) Я штурхнуў ад сябе дзяўчыну, выпіхнуў яе з «зоны агню», абстрэлу і сам кінуўся ўслед. (І ўсё моўчкі, моўчкі.) Параўняўшыся з вокнамі, рукой нахіліў спалохана-паслухмяную дзявочую галаву, каб з акна той дурань не стрэліў, дабеглі да вугла дома, не выпроставаючыся, а там, таксама, напаўсагнуўшыся, уздоўж сцяны, уздоўж сцяны. Уф, выратаваліся! Ад чаго толькі? Вельмі падазраю, што ратаваўся я ад сораму. Яшчэ б, заспелі з дзяўчынай і якраз на думцы яе пацалаваць! Але вельмі дзіўна, што і яна паводзіла сябе ў поўнай згодзе з маімі недарэчнымі дзеямі. Ці яе так загіпнатызавалі ўнушэнні майго бацькі, што з ёю — бывалы і надзейны ваяка. Ведае, як паводзіць сябе.

І тым не менш вярнуўся ваяка дамоў з самым брыдкім пачуццём на душы. Вось тады ўпершыню нечакана ўзнікла здагадка пра многія смерці, якія я ў вайну назіраў: існуе не толькі страх, але і *сорам* смерці. Не страх сціснуў мае вусны, калі па нас стралялі, а сорам, але не ўсяго толькі дзіцячы сорам, што *заспелі з дзяўчынай*, не, больш арганічны, магчыма, той, што перажываеш наогул перад канцом, смерцю. Яго я бачыў, заўважаў (але не разумеў) у вачах смяротна параненых, пасля пакут, што спустошылі, адступілі, калі чалавек раптам убачыў, ужо *бачыць смерць*. Мабыць, не толькі ў звяроў, жывёл патрэба, паміраючы, забіцца ў гушчар, схавацца, сысці з вачэй?.. А тое, што ў задушаных пятлёй пры гэтым адбываецца семявывяржэнне, можа навесці на думку: а ці не падобны сорам смерці да тых сноў, калі ты з голай жанчынай, а вакол людзі глядзяць, як яна табой, а ты ёю спрабуеце авалодаць, атрымаць асалоду, *паспрабаваць*. Вось менавіта: не толькі смерць ахоплівае чалавека, але і чалавек раптам пачынае перажываць да яе род прыцягнення, а менавіта *сараматнага*. А побач, вакол людзі…

Вяртаўся з Роўна, гэтак жа, як і туды ехаў, на перакладных — больш у таварных вагонах, чым у пасажырскіх. На адной са

станцыяў ускочыў у таварняк ды проста ў лапы да «фюрара». Агідна маленькага, нікчэмнага, але вось жа запомніўся, на ўсё жыццё. Пасля яны нас суправаджалі на кожным кроку, куды ні сунешся — уладалюбцы, якія перажываюць асалоду, упіваюцца сваёй маленькай уладай, гаспадары не столькі лёсаў, колькі нерваў суграмадзян, — але каб падумаць: «фюрар!» — нам трэба вайну было прайсці. Да вайны іх, мабыць, інакш успрымалі.

Гэта быў звычайны таварны вагон, але, як знарок, з нарамі ў некалькі ярусаў, і пасажыры — тыповыя для таго часу, з бруднымі вузламі, з дзецьмі, твары галодна-брудныя, вочы запаленыя ад стомы, але таксама, як знарок, — габрэі, некалькі габрэйскіх сем'яў. (Перабіраліся аднекуль з заходніх, цяпер ужо нашых, раёнаў ва ўсходнія.) Усё як знарок, каб пра гаспадара вагона падумалася: фюрар! Ён яшчэ не з'явіўся — пабег у буфет падзаправіцца, як мне паведамілі, — але па тым, як пра яго ўпаўголаса казалі, як спалохана не раілі мне звязвацца і лепш пашукаць іншае месца ў цягніку, але галоўнае — амаль лагерная туга і чаканне чарговай пакуты прыніжэннем у вачах жанчын — гэта многа сказала пра пана лейтэнанта, што адсутнічаў. (Яны яго так называлі.) Але ўсяго я, вядома, уявіць не мог, павінен быў (і хацелася) пабачыць і сам перажыць. (Ці сябе выпрабаваць.) Папаўзлі ўжо міма нас згарэлыя прыстанцыйныя будынкі, а лейтэнанта ўсё няма. Дасць Бог, адстане ад цягніка… Ого, ён адстане, такога нізавошта не здарыцца! (Нават надзеі ў людзей не было з ім больш не ўбачыцца.) І сапраўды: раптам завіс у праёме дзвярэй на локцях, крэкча, лаецца. Як жа кінуліся бедныя габрэі ўцягваць у вагон свайго дабрадзея-ката. Але ён не паверыў у іх стараннасць, тут жа папракнуў у двурушнасці:

— Радыя, радыя былі б! Ці калі б пад калёсы. Увесь свет абдурваеце, а мяне не падманеце. Так, прыдавім вуха хвілінак на 600. Каб ні гу-гу! Калі вы мне нумарны аб'ект ачысціце-вызваліце? Я што, наняўся катаць вас у казённым вагоне?

— Мы хутка даедзем, мы так удзячны пану лейтэнанту…

— Гэта хто тут пан? Паноў мы адмянілі ў сямнаццатым. Нічога, хутка дапетрыце, што да чаго.

Глянуў у мой бок. А накінуўся на жанчын:

— Гэта вы так сцеражэце вагон? Выганю ўсіх! Дакументы?

— А ў цябе яны ёсць? — спытаў я.

— У мяне дык у парадку. Мне твае патрэбны.

— Вось і прад'яві свае, што маеш права пытаць у мяне.

Цалкам савецкая гаворка. Але мы ўжо асмельваліся, вучыліся высвятляць, а чаму, уласна?



Колькі я ехаў з імі, столькі перабрэхваліся мы з ім, нашым паханам-лейтэнантам, што ляжаў наверсе. Спачатку вагон быў на маім баку: хоць нехта нахабніку-кату дае адпор. І мне гэтая роля падабалася. Я бачыў нясмела-ўхвальныя позіркі і ўсмешкі, якіх не мог зверху заўважыць гаспадар вагона. Але я пайду, а яны застануцца з ім сам-насам. І ён ужо ж пастараецца вярнуць пахіснуты «аўтарытэт», недатыкальную ўладу, і невядома, чым давядзецца ім плаціць за маю смеласць. Якой новай прыніжанасцю, якой яшчэ ступенню дагодлівасці? Нічога сабе — памог людзям, Аляксандра-абаронца адшукаўся!

Калі выскачыў з вагона, ён высунуў сваю вусата-бакенбардную фізіяномію і спытаў напаследак:

— А ты выпадкам сам — не жыд?

— Ужо цікавіліся. Немцы.

Маміна паездка следам за маёй у Роўна і яе акцыя па выемцы мужа з арміі надоўга стала сямейнай нашай легендай: спачатку вясёла-шчаслівай, а неўзабаве і сумнай (нечакана кароткім быў век адстаўнога лекара-падпалкоўніка). Але да таго як мама да яго паехала ў Роўна, пераведзены быў у армію Пухава гвардыі радавы Яўген Адамовіч і неўзабаве дэмабілізаваны. Не паспеў з'явіцца ў Глушу, як яму прапанавалі паступіць у школу (ці як у іх называлася) МДБ, г. зн. «звязаць сваё жыццё з органамі». Партызан, сям'я партызанская — каму, як не нам, у іх служыць, змагацца з недабітымі ворагамі? А што ў сям'і ў самой карані напалавіну кулацкія — гэтым можна пагарджаць, вайна зрабіла нам праверку.

Адзінае, не былі, падобна, паінфармаваныя, што Жэня пабываў у палоне. Тут мама змагла іх перайграць. Як раней перайграла паліцая, бургамістра, нямецкага каменданта. Думаю, гэта яе нябачнай воляй перакінуты быў мой брат з Нямеччыны ў Заходнюю Украіну, дзе ў генерала Пухава начальнікам армейскага шпіталя служыў наш бацька. Працавалі штабныя пісары, падпісваліся дакументы, атэстаты, а затым —дэмабілізацыйныя паперы, і наўрад ці падазравалі людзі ў пагонах, што выконваюць волю жанчыны з нейкага пасёлачка. Але тут яе перамога магла павярнуцца паражэннем, бядой: дамогшыся анкетнай стэрыльнасці для сына, маці тым самым прывабіла вунь якіх сарок. У дзяцінстве нас палохалі: будзеш мыць-церці мордачку доўга — сарокі ўкрадуць, вырашаць, што сыр! Уяўляю, як яна адрэагавала на навіну, на прапанову — вучыцца яе сыну на «чэкіста». Таму што помню яе рэакцыю на прапанову партызан летам сорак другога, каб Жэня ўступіў у паліцыю. У інтарэсах

справы. «Не хачу! Нізавошта. *Каб людзі яго праклiналі?* А што кажаце: па заданні, дык потым, пасля вайны, даказвай кожнаму, чыё і якое заданне! Што хочаце, толькі не гэта!»

Жэня паехаў да мяне ў Мінск — вучыцца на лекара. А мама накіравалася ў Роўна. Куды муж яе даўно запрашаў з несхаванай упэўненасцю, што роля афіцэрскай жонкі для яго Нюркі — куды як падыдзе! Каму, як не ёй?

Пра сваю паездку мама заўсёды апавядала з асаблівай, пераможнай весялосцю і больш ахвотна, чым пра ўсе іншыя свае паядынкі.

— Прыязджаю я, а Міша ўсё падрыхтаваў, усе там падрыхтаваліся. Яго сябры-палкоўнікі. Быццам агляд наперадзе, прыязджае нейкі важны начальнік. Гэта ім так не хацелася адпускаць Міхаіла Іосіфавіча, і трэба пераканаць мяне, што нічога лепш, чым іх жыццё, не бывае. Ну, усё добра, усё цудоўна, стол зрабілі, якіх і не пабачыш: насмажылі шніцэляў ці, як іх там, — біфштэксаў, панастаўлялі бутэлек з нянашымі наклейкамі, сам генерал Пухаў прыехаў, жонкі разадзетыя сядзяць, ну і, вядома, прамовы, тосты, так добра ўсе пра Мішу кажуць, як ён ваяваў, які патрабавальны начальнік і добры, адданы сябра. І пра мяне — быццам сто гадоў ведаюць. Адно заставайся! Я ўсё паслухала і таксама ўстала — падзякаваць. Ну і кажу: Міша, чатыры гады ты быў, як і твае сябры, на вайне, а мы, а Глуша і твае бабкі-галубкі ў вёсках без цябе абыходзіліся. Вайна, калі вы помніце, скончылася. Я табе не абяцаю, што будуць біфштэксы, нічога гэтага там няма, але бульбачку абяцаю, была і ёсць, — збірайся, Міша, дзякуй тваім сябрам, усім вам за такі прыём, але мы едзем дахаты.

І ў Глушы зноў з'явіўся доктар Адамовіч. І зноў: галубка, галубчык, але і раптоўны гнеў, рэзкасць, больш крута, як было. Незадоўга да развязкі яго паклікалі тэрмінова: сусед сякерай засек суседку, а за што? За тое, што ля яго парога выклала крыж — злое закляцце; бацька пабачыў той знак (з палачак ці яшчэ чаго) ля парога, боязка захаваны. У тым і сіла крыжа-закляцця: лічылася, што чалавека, які крануў, парушыў яго, чакае немінучая расплата. Крыж выкладваўся ля парога, каб той, каму жадаюць зла, пагібелі, яго не заўважыў, растаптаў. (Таксама «данос», але каму — сатане? Тады чаму — крыж?) Бацька люта адшпурнуў нагой начараваную недарэчнасць. І магу ўявіць ягоны твар у гэты міг. А калі праз некалькі месяцаў ён памёр, Глуша, ахкнуўшы, сказала: вось, гэта таму!

Смяротнае захворванне прывёз са звычайнай паездкі да парадзіхі. На саўгаснай машыне выехаў, а яна па дарозе сапсавалася, пешшу пайшоў праз начную завіруху ў сваім цяжкім, усё тым жа «нераскулачаным» тычынаўскім кажусе (мама яго зберагла ў знаёмай цёткі ў вёсцы), успацеў, прадзьмула, прастудзіўся. Вярнуўся дамоў з высокай тэмпературай — раптоўная страта мовы, аняменне рукі, нагі. Інсульт. Усё хацеў нешта сказаць, не мог, сляза выкацілася, з ёю на шчацэ і адышоў.



Калі я, выкліканы з Мінска тэлеграмай (Жэня быў у Глушы), на бабруйскім вакзале ўбачыў заводскую машыну і знаёмую бальнічную медсястру, яна толькі загаварыла — адразу зразумеў: еxаў я не да цяжка хворага (так у тэлеграме), а да памерлага бацькі. Адразу адчуў сябе вінаватым за староннія ў вагоне думкі. Убег у дом і ў цесным пакойчыку ўбачыў яго, пахлапчукоўску худога, вяла паслухмянага, — *цела* майго бацькі жанчыны абмывалі ў нізкай, шырокай балеі. Мне не здалося, як бывае (Талстой пра гэта), што нехта іншы, не ён перада мной і не нехта, хто жахліва падмяніў дарагога табе чалавека. Менавіта ён, але толькі які ж бездапаможны, варты жалю. І ў труне не стаў чужым. (Хаця такія пачуцці потым, у іншых выпадках, я перажыў: варожай падмены.) Мама заснула на хвілінку ноччу, раптам прачнулася і заплакала, але не як да гэтага, каля труны, плакала, а па-дзіцячы пакрыўджана: дык гэта праўда? усё гэта праўда?! Мабыць, у сне бачыла яго жывога (столькі гадоў быццам удава пры жывым мужу), прачнулася, а ў суседнім пакойчыку ціха гамоняць бабулькі над яго *целам*!

— Нам ногі цалаваць не будуць, — сказаў пасля могілак — над памінальным сталом — бабруйскі сакратар, па прозвішчы Акуліч (помню прозвішча).

Ён меў на ўвазе вясковых і глушанскіх цётак, што ўразілі яго — падыходзілі і цалавалі ногі глушанскага доктара.

Колькі разоў я гэтыя словы ўспамінаў: не будуць!

Індусы ведаюць больш за іншых з таго, што ведаць трэба абавязкова. Яны пачалі задумвацца над многім даўно, раней за іншых.

«Калі ты ўвайшоў у свет, ты горка плакаў, а ўсе радасна смяяліся. Зрабі жыццё такім, каб, пакідаючы свет, ты радасна смяяўся, а вакол цябе плакалі».

Каб радасна смяяўся?.. «Хорошую религию придумали индусы!» — блазнаваў Валодзя Высоцкі. Ён жа, як сапраўдны індус, вырываў з уласных грудзей «с гибельным восторгом» і кідаў нам: «Погибаю! Погибаю!» Калі ёсць што, бывае, чаму можна пазайздросціць, ужо наступіўшы на апошнюю рысу, дык хіба што гэта: радасна смяяцца з гібельным захапленнем! А чаму б

і не? Атрымаў у сваё распараджэнне Сусвет (няхай на міг, на імгненне), так, табе было дадзена ўсяго толькі з Вечнасці перабегчы ў Вечнасць, але на шляху ты ўбачыў і зямлю з тым, што на ёй, і неба (над сабой, але добра, калі і ў сабе), усё, усё паспеў (у параўнанні з нічым — каму жыццё не выпала). («І калі вы пражылі адзін-адзіны дзень, вы бачылі ўжо ўсё», — у Мантэня і пра гэта адшукаеш.)

«Мы забіваем толькі шчаслівых свіней» — дзіўную рэкламу паказалі мне ў Іспаніі. Ды не пакрыўдзімся, перанёсшы гэта на саміх сябе: прырода забівае толькі шчаслівых (г. зн. каму выпала шчасце нарадзіцца).

Хітрая бабуля ўгаварыла ўнучку, што рана ўстала, набегаўшыся, паспаць удзень («адну-адну хвілінку»), дзіця разаспалася і расплюшчыла вочы на сонца, якое ўжо заходзіла, падала за стрэхі хат, адгарала: як сунічкі, пасыпаліся з вачэй слёзы:

— А заўтра дзень яшчэ будзе? Такі — будзе?..

У сярэдзіне свайго веку чалавек звычайна растрачвае, разменьвае на іншыя радасці і мэты падараванае дзяцінствам чаканне-веданне, што кожны наступны дзень — зноў шчасце, бо жыццё само па сабе — шчасце. Але перад канцом жыцця ўсё можа вярнуцца, не, не пачуццё дзіцячай неўміручасці, а толькі арыфметыка, але якая! Нават калі няма ўжо ўпэўненага ліку на гады, тады — на месяцы, дні. Няхай толькі гадзіны, хвіліны, секунды, але, затое колькі, палічы! Гэта колькі любімых, любячых, ці проста дарагіх, ці прыемных чалавечых твараў? Галасы, галасы, гукі, якімі навакольны свет столькі гадоў гаманіў з табой. Словы чалавечай мовы, што гучаць, і знакі напісання, калі маеш магчымасць вярнуць (хаця б для сябе) не тое што дні, гадзіны, а гады, дзесяцігоддзі. Як жа не быць удзячным: прырода адорвае смерцю толькі шчаслівых.

Як, як там у «Доследах» у Мішэля Мантэня? У 15 стагоддзі яны вось так рыхтаваліся да сустрэчы з непазбежным: «Прызначэнне гэтай кнігі — даць своеасаблівае задавальненне маім сваякам і сябрам: страціўшы мяне (а гэта адбудзецца неўзабаве), яны змогуць адшукаць у ёй сякія-такія сляды майго характару і маіх думак і, дзякуючы гэтаму, дапоўніць і ажывіць тое ўяўленне, якое ў іх стваралася пра мяне».

Пра смерць найбольш думаюць, як гэта ні дзіўна, у пачатку жыцця і ў канцы. Дзеці і старыя. Калі яшчэ не ўключыліся ў бег жыцця і калі бег прыпыняецца. «Вызваліце месца другім, як другія вызвалілі яго дзеля вас», — падрыхтоўваў і сябе, і іншых да непазбежнага шматвопытны Мантэнь. А вось гэта — мая шасцігадовая Наташа: «Я ведаю, навошта людзі паміраюць! (Усё пытала, пакутавала над гэтым пытаннем.) Гэта як у кіно ходзяць. Адны паглядзелі і іншым трэба».



Марксізм яшчэ і таму давёў сваіх паслядоўнікаў да незміронай супярэчнасці з прыродай чалавека, што выключыў саманадзейна з філасофіі, а значыцца, і маралі, праблему смерці. Хаця яшчэ Цыцэрон ведаў: філасофстваваць — гэта не што іншае, як рыхтаваць сябе да смерці.

А ўслед за Цыцэронам, Сенекам — Мішэль Мантэнь: «…уся мудрасць і ўсе развагі ў нашым свеце зводзяцца ўрэшце да таго, каб навучыць нас не баяцца смерці».

«Пазбавім яе загадкавасці, прыгледзімся да яе, прывыкнем да яе, разважаючы пра яе часцей, як аб чым іншым».

«Разважаць пра смерць — значыць разважаць пра свабоду. Хто навучыўся паміраць, той развучыўся быць рабом. Гатоўнасць памерці пазбаўляе нас ад усякага падпарадкавання і прымусу. І не існуе ў жыцці зла для таго, хто спасціг, што страціць жыццё — не зло».

«І калі вы можаце адшукаць суцяшэнне ў добрай кампаніі, дык ці не ідзе ўвесь свет той жа сцяжынаю, што і вы?»

Стоп! Нявінна-суцяшальная для веку Мантэня сентэнцыя зусім не так можа адгукнуцца ў душах людзей веку Дваццатага. Яны атрымалі Бомбу і цяпер маюць магчымасць у «добрую кампанію» з сабою захапіць увесь род людскі, каб «знайсці ў гэтым суцяшэнне». Васьмідзесяцігадовая бабуля ў маім мінскім двары аднойчы паскардзілася і палетуцела: «Каб якая вайна, а то адной паміраць неахвота». Дзякуй Богу, пры ёй не было «прэзідэнцкага чамаданчыка». А вось цэкоўскі Іван Іванавіч — той быў набліжаны да тых, хто «прымае рашэнні», — ён мне растлумачыў дыялектыку гуманізму «неабстрактнага» (ніяк забыць не магу): калі на зямлі застанецца дзесяць чалавек, галоўнае, каб яны засталіся савецкімі людзьмі!

«Філасофія», якая выключыла з поля зроку індывідуальную чалавечую думку пра смерць, заканамерна стала праграмай калектыўнага самагубства.

* * *

Усё добра, усё правільна, усё гэта так. Але чаму паўтараеш сам сабе: словы ўсё гэта, словы… Бо я заўсёды памятаю, як памірала мама. Не пра сваю, пра яе смерць — самая вострая памяць.

А нічога ж такога няма ў гэтых трох запісных кніжках («май 1979 г.», «чэрвень 1979 г.»), каб баяцца іх раскрыць, прачытаць. Тым не менш з таго мая я ў іх ні разу не зазірнуў, баючыся болю, сціскаючыся ад адной думкі зноў да гэтага дакрануцца.

Пасля вайны мама цяжка хварэла толькі двойчы. (Калі не лічыць «партызанскі артрыт», што мучыў яе ўсе апошнія гады, — захворванне суставаў.)

Калі ў Мінску здарыўся з ёю інфаркт у 1961 годзе, я «ўдзельнічаў» у яе хваробе напрасткі — і псіхалагічна, і проста-ткі фізічна — у асноўным ёй жа на шкоду. У бальніцу не паклаў, «не аддаў». Вырашыў, што сам буду «несці крыж». Але неслі яго ўсе, нават суседзі — мілая Ніна Васілеўна і яе муж, бездакорныя памочнікі, калі трэба было прыпадняць хворую, падбіць сяннік, каб не было, ратуй Божа, пролежняў. У хатніх умовах на ўсю моц выявілася тое, што ні хварэць на інфаркт у тыя гады, ні лячыць яго яшчэ не навучыліся. Чалавека трымалі не менш чым месяц у стане нерухомасці (уявіце, што вам трэба праляжаць, не паварочваючыся, хаця б суткі!), і пры гэтым лічылася, што хворага палохаць страшным словам «інфаркт» ні ў якім разе нельга — і вось паспрабуйце ўтрымайце яго ў такім невыносным становішчы столькі часу, калі ён нават не ўсведамляе цяжкасці захворвання. Але мая хворая не ўсведамляць не магла: усё было напісана на твары сына, яе паніка, страх, пакуты цалкам адлюстроўваліся на мне і ўва мне. Калі нехта збоку бачыў двух сыноў каля ложка хворай у час прыступу хваробы: паніку на твары аднаго і тупавата-спакойнае *чаканне* на твары другога, мог бы рашыць, што вось гэты любіць-перажывае, а гэты, «як цурбан». Я і злаваў на брата, але ён жа са сваім тварам, прафесійна «доктарскім», дзейнічаў супакойваюча на хворую, што толькі і трэба было, я ж, збіраючы і люструючы на сваім пакуты і трывогу хворай, толькі шкодзіў ёй. І праляжалі мы (менавіта «мы»), пакутуючы ад прыступаў, аж два месяцы. Мама выходзіла з хваробы, а я пагружаўся — у безнадзейную (колькі гадоў потым не мог пазбавіцца) бяссонніцу, што зусім разладзіла маё і начное і дзённае жыццё.

Але ніяк не лепш і не больш разумна паводзілі мы сябе, калі спасцігла нас бяда незжывальная — у мамы выявіўся рак лёгкіх. Яна праляжала некалькі тыдняў дома, потым, на гэты раз ужо зразумеўшы, што «для гэтага і існуюць бальніцы» (словы брата), я пагадзіўся, і яе забралі ў бальніцу санкіравання.

22 траўня 1979 года раннім халаднавата-сонечным світанкам я вяртаўся з бальніцы дамоў па вуліцах Мінска, які прачынаўся, а ў моргу засталася мая мама. Белая-белая прасціна, а пад ёю тое, што адбылося — з ёю, з намі. Дзіўна, што пад той прасцінай як бы нікога няма — так плоска яна ляжала…



Пахавалі ў Глушы — непадалёк ад магілы бацькі. Вярнуўшыся ў Мінск, я нешта запісаў і вось упершыню, роўна праз 14 гадоў, раскрываю запісную кніжку.

*25.5.1979.*

Мама памерла, апошні раз ехала ў Глушу і там засталася, ужо не вернецца, і нічога не вярнуць, павярнуць нельга, а столькі цяпер хацелася б. Навошта хаваў боль, слёзы, і яна, так пакутуючы, амаль не бачыла нашых слёз, і ўсё таму, што мы «не павінны былі» паказваць ёй, што яна памірае, а яна хавала ад нас невыносны боль, адгароджваючыся раздражненнем на нашу, усіх, няўмеласць і нязграбнасць, але мы пра яе боль ведалі, а яна наш «не павінна была бачыць», і пайшла, так і не ўбачыўшы. А можа, слёзы нашы — не пасля, а тады! — патрэбныя былі ёй больш за бескарысныя лекі і мумiё і нашыя кругласутачныя дзяжурствы. Апошнія два дні свядомасць затуманеная была, вочы глядзелі востра, але кудысьці нам за спіну (ці зрэнкамі ўсярэдзіну), і ўспрымала тых, хто каля яе, абагульнена: вы!.. «Што вы не даеце мне ўстаць?.. Піць! Ну хто так падае? Мне трэба ўстаць. Чаму вы не даеце мне ўстаць?.. Не кажыце мне пра дактароў!..»

(Пра дактароў раней яшчэ: «Мы запаленне вылечвалі без антыбіётыкаў. А яны пяць месяцаў не могуць!»)

Удзень 21-га ўсё скардзілася: «Хачу дыхаць!..», «Хачу дыхаць!..» Па-дзіцячы прасіла: «Хачу дыхаць» — і ўвечары. Не хапала паветра. Пра рак сказала пры мне адзін толькі раз: «У мяне рак, таму я так пакутую». Але думала, ведала, а наша, як ёй здавалася, няведанне крыўдзіла: «Мама, нельга так часта ўставаць (на стул), ты пакутуеш толькі». — «Не ведаеце вы, ніхто не ведае маёй мукі», — вырвалася адзін-адзіны толькі раз. І яшчэ — Брылю: «Іван Антонавіч, вы калі-небудзь бачылі, каб так хто мучыўся?» (Вера — нам з Жэнем: «Яна ж рабіла дабро толькі, за што ёй гэта?»)

«Запаленне», а Саша нічога не можа, не робіць, не шукае іншых лекараў, якія вылечылі б… Непаразуменне, дакор, нават пачала была скрозь зубы дзён дзесяць назад: «Ды калі б…» Я зразумеў: «Ды калі б вы хто-небудзь, ты хварэў, я б разбілася, а знайшла!» (спосаб вылечыць). Прафесар Ганчарык на адзін дзень узняў настрой — яе, а мой зусім зруйнаваў, пацвердзіўшы

дыягназ. А потым яна ўжо пра медыцыну і чуць (не хацела). Усё зразумела, а мы ўсё хавалі слёзы, а яна іх чакала, мабыць. І «дачакалася» — калі я адкінуў бескарысную, недарэчную ў гэтыя імгненні чорную кіслародную падушку і, усё зразумеўшы па твары дзяжурнага доктара, што падбег, перастаў стрымлівацца. І ўсе гадзіны потым, калі яна страшна ляжала пад прасцінай, і калі прывезлі дамоў ужо ў труне, і ў Глушы перад сотнямі людзей, можна было не хаваць слёз. Але яны ёй патрэбны былі!..

Нейк па «Свабодзе» я пачуў амерыканскую гісторыю пра бацькоў, што пахавалі сына і ў памяць пра яго стварылі нешта накшталт клуба, у якім людзі маглі б вучыць адзін аднаго, як трэба *праводзіць блізкіх у смерць*. Самі яны сына праводзілі і правялі, як у дальнюю дарогу, туды, дзе рана ці позна яны сустрэнуцца абавязкова, толькі ён выправіўся раней за іншых. Ні схаваных словаў, ні падману, «каб не было лішніх пакут» (а па сутнасці — зберагаянне ўласных нерваў і сіл); апошнія дні і гадзіны, ім дараваныя, яны правялі разам, не згубілі, не патрацілі на бессэнсоўнае вывёртванне ад праўды, правялі ў адкрытых праявах любові і спачування.

Але галоўнае, не было тлуму, недарэчнага стаяння «пад акном вагона», жахлівага чакання, калі кранецца «цягнік» і вы зробіце некалькі крокаў праводзячы, а нехта паспешліва саскочыць з прыступак — гэты рабіў выгляд, што ён з тым, хто «ад'язджае», на роўных, каб да апошняга не верыў, што ён «паедзе», а ўсе застануцца…

Што, не падобна? А колькі разоў мы маглі бачыць (і нас маглі бачыць): доктара акружылі сваякі, хочуць пачуць не такі бязлітасны прысуд, усе са шчыра спакутаванымі тварамі. Але праз дваццаць, трыццаць крокаў яны ж, што накіроўваюцца ў палату асуджанага, — ну, зусім іншыя ў іх вочы, твары, проста-такі мясцкамаўскія актывісты, пасланыя павіншаваць юбіляра, дачная кампанія, што памкнулася да берага ракі. Яны зойдуць да таго, хто паміраe, не з тым, што на душы ў іх, а што на тварах, — а яны жахлівыя, гэтыя нашыя хлуслівыя твары.

У той травеньскі дзень 1979 года, калі б хто здымаў мой твар, кадр за кадрам, уражанне атрымаў бы тое ж. Сядзеў з раніцы за сталом і пісаў «Карнікаў» (нічога лепшага не знайшоў, чым схавацца ад чорных думак у гэты змрок!), потым ішоў па сонечным праспекце, спачатку прыслухоўваўся, але разышоўся і забыўся, што ногі нейкія ватныя, да будынка бальніцы на Чырвонаармейскай прыкрочыў зусім прыгодны, каб зайсці да



паміраючага: бадзёры з выгляду, загарэлы і моцны — хворыя на лавачцы ля парога праводзілі зайздрослівымі вачыма. Зайшоў у палату. Гэтую ноч побач з бабуляй правяла Наташа, толькі што напаіла хворую чаем. Я глядзеў на белы, з саском парцалянавы паільнік: калі з яго глушанская бабуля паіла малаком траіх сваіх унучак — было на што паглядзець. Седзячы за бяспечным плотам, усе трое ўважліва глядзелі, як дояць кароўку, затым кожная выпівала свой кубачак малака — атрымаўшы парцалянавы сасок праз шчыліну ў плоце. Была Глуша, было ўсё…

Хворая глядзела на нас уважліва і строга, але адчувалася — не бачыць, яна ўвесь час услухоўваецца ў нешта, мабыць, зноў пагрозліва заварушыўся боль…

*11.4.1979.*

Апрануўся ў тое, у чым прыйшоў у бальніцу тыдзень назад, глянуў на кашулю, абутак з некаторым адчужэннем: вось гэта ўсё сабралі б і паставілі ў прыбіральні на шафе — памерлага Сплашнова і папка цяпер там ляжыць — і ўзняўся на паверх вышэй, у палату мамы.

Сядзіць на ложку ў блакітнаватай байкавай кофтачцы, і зноўку, як у дзяцінстве, — не рысы (мамінага) твару і нават не твар, а *святло*… Калі б тыдзень назад здарылася (са мной), апярэдзіў бы яе — гэта была б такая жорсткасць! У адносінах да яе. А тое, што адбываецца, хіба не жорсткасць? А за акном — усё тое ж. І заўсёды будзе. (Без цябе, без вас.) Так думалі заўсёды. Але іншыя, не мы.

Колер вачэй у мамы раптам здасца такім бессэнсоўнадзіцячым. І тады прыкметна, як далёка завялі яе гэтыя тры месяцы. І надзея разам з сэрцам падаюць. Баішся заўважаць.

*16.4.1979.*

Усё збіраўся, выплыўшы з крывавага вопыту сваіх апошніх прац («Я з вогненнай вёскі…», «Хатынская аповесць», «Карнікі»), вярнуцца да Пушкіна, з якога пачынаўся сам і якім уздымаўся ўвесь час гадоў да дваццаці васьмі — як аэрастат «лятучым газам». Перачытаць яго і ім выгнаць шлакі, якімі, вядома ж, атручаны. І, здавалася, абноўлена пачну зноў з лёгкага кроку. Але ўсё не мог узяць сінія томікі ў рукі, будучы несвабодным для гэтай сваёй першай і галоўнай любові. А несвабодна дзяліць сябе, не ўсяго аддаць Пушкіну проста не мог. А тут падумалася (на бальнічным ложку): не паспеў бы і гэта! Але, здаецца,

паспею, недзе да канца года, вызваліўшыся ад гіпербарэяў («Карнікаў»), буду піць, піць яго строфы і гнаць, гнаць з сябе ўсё, што, пакуль працаваў, было энергіяй, а робіцца, калі скончыў, атрутным шлакам стомы ад чалавечай жорсткасці і дурноты.

*16.4.1979.*

Бедная, плача ад болю, слабая, бездапаможная, але туды, дзе яе хвароба — грозная! — нават не глядзіць і таму не разумее, чаму ёй прапаноўваюць наркотыкі, абураецца іх медычнай непісьменнасцю. Яна помніць, як бегалі да яе (у аптэку) марфіністкі, якія яны былі. З яе любоўю да чысціні ва ўсім — гэта жах, а таму гатова цярпець боль. І доўга расказвала медсястры, які жах гэтыя наркотыкі. А мы згаджаемся і ведаем, што падзеі прывядуць да такога стану… І жах — быццам мы ў змове ўсе супраць яе. Вось ужо дзе будзеш пытацца бессэнсоўна: завошта ёй такое?

*17.4.1979.*

З яе дзівоснай, рэдкай энергіяй, актыўна пражытым жыццём — колькі людзей, якім яна, хворая, бязногая, была патрэбна да апошніх дзён, ды і цяпер яшчэ нейкія клопаты яе мучаюць разам з болем у баку, спіне — яна абсалютна няздольна думаць аб смерці — сваёй, аб хваробе смяртэльнай. Ні разу не загаварыла, што гэта, можа быць, рак… Быццам забыла, што бывае гэта з людзьмі. Церпіць боль мужна, і дактары гавораць пра гэта з павагаю, якую ў іх нялёгка заслужыць.

Успомніла, як у бальніцы ў Глушанскай: прыйшоў тата наш, а сваячка (хворага) стаіць у куце, моліцца, хацела ўстаць (з каленяў), а ён: «Не, не, прадаўжай, галубка, ты мая памочніца. Удваіх, можа, і вылечым нашых хворых».

*24.4.1979.*

Гіпербарэі — найнешчаслівейшы народ. Яны ніколі не ўмеюць адчуць свае віны перад іншымі, віна іншых перад імі — галоўнае і пастаяннае іх пачуццё. А не ведаючы пачуцця віны, яны не ведаюць выхаду… Гэта і народу (нацыі) датычыцца, але і сацыяльнай групы, але і чалавека асобнага.

Наташа пабегла ва ўніверсітэт, я застаўся, нешта пытаю, гавару, расказваю, але адчуў: зараз страчу прытомнасць! Што гэта са мной? Ці гэта ад цяжкага бальнічнага паветра? Паспеў прамармытаць: «Я на хвілінку да доктара», выйшаў у калідор,



прылёг на канапу: халодны пот, столь паплыла. Медсястра прабягала, спытала: сэрца? Ды не, нічога, зараз пройдзе… І вось я ўжо ў кабінеце хірурга. Крывацёк у страўніку? Які крывацёк? Выклічце мне, калі ласка, таксі… А ўжо прывалаклі каталку: у вас поўны страўнік крыві! Чакайце, куды гэта вы мяне, я павінен яшчэ вярнуцца ў палату і нейк растлумачыць. Санітары чакалі за дзвярыма, а я маме дзелавіта тлумачыў, куды так тэрмінова іду, чаго і хто зараз сюды замест мяне прыйдзе. Раней бы наўрад ці прайшло такое, а тут — *амаль* не пачула. І вось ужо ў маю палату (гэта паверхам ніжэй) зазіраюць іншыя хворыя: ці не тыя самыя, што, зайздросцячы, сустракалі мяне ля пад'езда? Яны прыйшлі паглядзець на чалавека, які ішоў па вуліцы і не ведаў, што «прабадзенне язвы», што «2,5 літра крыві выцекла». Лічбу гэту і мне паведамілі, каб угаварыць легчы пад нож. Не лёг. Не захацеў застацца без страўніка. І акрамя таго, як растлумачыць ляжачай на паверх вышэй, куды я падзеўся на столькі дзён? (Потым прафесар Філіповіч скажа: «Ну, вы шчаслівчык!»)

У запісных кніжках знайшоў два лісткі — нашу з мамай бальнічную перапіску.

*«Дарагая мая мама!*

*Збіраўся прыйсці сёння, але, мабыць, усё-ткі ў сераду. Прастуда, горла маё прайшлі цалкам амаль. А вось Ганна Іванаўна (доктар) раіць мне, паколькі вясна і многа разоў за зіму абвастралася, прайсці абследаванне ў лечкамісіі. Чаго ні разу не рабіў. А можа, і варта, пабудзем побач з тыдзень, не будзе і хадзіць далёка.*

*Наконт муміё я раіўся з дактарамі. Пагаворым і з Аляксеем Іванавічам, не будзем самалячэннем займацца, гэта ясна. Кажуць мне, што ўсё-ткі табе весялей — выгляд твой гаворыць. Вось толькі бок твой не балеў бы!*

*Цалую моцна. Саша».*

*«Дарагая мая мама! Як ты там, бедняга, можа, крыху лепш табе? Апетыт у цябе які-небудзь ёсць?*

*Мне расказалі пра гэтую гісторыю з кашулямі. Можа, мне пазваніць заг. аддзялення Аляксею Іванавічу, ён вельмі добры чалавек.*

*Са мной усё нармальна, але прыйду да цябе ў пачатку таго тыдня, t° трымаецца, хаця і невялікая. Цалую. Саша».*

Пра кашулі — іх сушылі на батарэі ў палаце, вельмі пацела, бесперапынна, а нехта з сясцёр гучна запратэставаў супраць парушэння правіл.

*«Саша!*

*Не смей званіць і нікому гаварыць, нянечкі як сушылі, так і сушаць (кажуць, не слухайце гэтую дурніцу), гэта ж адна выскачыла, а то можа такое зрабіць з уколамі, што і хірургі не памогуць — паўтараю, нікому ні слова. Ем — усяго патрохі, па гэтым жыць буду. Будзь здароў, не спяшайся. Цалую. Мама».*

Бадай, чарговасць лістоў была іншая: спачатку — пра кашулі, потым — пра маю «прафілактыку».

І вось я, узышоўшы на паверх, з'явіўся ў яе зноў, у бальнічным касцюме, нібыта толькі што мяне «паклалі»: цяпер будзем разам! Спачатку прыняла ўсяго толькі як зручную магчымасць не карыстацца дапамогай, паслугамі чужых людзей: для яе гэта заўсёды была пакута з пакут. Каб нехта ды нешта для яе зрабіў! Яна для іншых — гэта зразумела, але каб для яе — заўсёды паніка, не ведае куды падзецца. А яшчэ гэтая бязмежная любоў да чысціні. Павінны адвезці на рэнтген: Саша, прыйдзі абавязкова, паможаш устаць, ты сам усё зробіш. Добра б, але мне ніяк нельга з маім страўнікам. І трэба прыдумляць, што тэрмінова доктар паклікаў… І г. д. і да т. п.

У нейкі момант не вытрывала, спытала ў нявестак: «Дзе Адамовічы?» — ды так варожа-староннe спытала.

Вось так! Дзе там сыны, чым яны ўсе там занятыя?

У апошнюю ноч усё паўтарала: «Кліч, Антон…» Каго кліч? Ці не сыноў? Бо гэта ж ён памог ёй знайсці іх, быў добрым вестуном — у вайну. Але, здаецца, нават затуманеная ўколамі ад болю матчына свядомасць угадвала, у чым і дзе падман.

«Інтуіцыя ўсё сказала. Нейк за дзён 6 да развязкі, калі я сабраўся ў Аксакаўшчыну далечвацца і паехаць не змог, таму што трывожна было… мама раптам сказала: «Пагублю я цябе!»

— Ты пра што, мама?

— Не даюць табе палячыцца. Пагублю я цябе!..

Значыць, не верыла, што ў мяне проста лёгкае абвастрэнне і з гэтым ляжаў на паверх ніжэй.

«Раніцой 22 траўня, калі мы былі пры ёй (з Соняй), яна ўсё клікала Антона, дакладней, звярталася да яго: “Кліч, Антон… Кліч, Антон…” І так разоў дваццаць. А перад гэтым разы два, калі я падымаў яе, назвала мяне таксама “Антонам”: свядомасць пайшла туды, дзе дзяцінства? Не сыны, не ўнучкі, а браты і сёстры і калі сама была маленькаю і таксама бездапаможнаю. Старэйшая за Антона, але ён у школу пайшоў разам з ёй (у пяць гадоў) і быў заўсёды побач…»

«А пахаванне ўжо, памінкі — гэта было пацвярджэнне яе жыцця. Неслі яе пляменнікі (усіх амаль яна так ці інакш накіроўвала ў жыццё), партызаны нашы. А каля “падпольнай” аптэкі раптам збегліся ўсе партызаны (іх было чалавек 15) да труны і ўзнялі труну яе на выцягнутых руках. А хто ім сказаў, падказаў, потым не маглі ўспомніць…»

«…У мамы кроў — група першая, рэзус адмоўны. Мне яе перадала. У адносінах да мяне гэта не мае таго сэнсу. Затое пра яе падумалася: такую кроў можна аддаваць усім, сумяшчальная з любой групай. Нібыта так па медыцыне. Вось яна і аддавала ўсім сябе, хаця з яе даволі ўладным характарам людзі звычайна бяруць, а не аддаюць».

«Мама гаварыла з унучкамі, што хоча памерці летам. І сваёй сяброўцы (па Глушы) Холад тое ж самае:

— У траўні памру. Не хачу зімой, а то такі дурны звычай, што трэба без шапак праводзіць, усе папрастуджваюцца».

«— Мне тут так адзінока, страшна!» (Гэта яна сказала, калі Інка і Наташа пакінулі яе на дзве гадзіны з бальнічнай нянечкай.)

І заплакала, так па-дзіцячы зморшчыўся цёмна-схуднелы тварок яе.

О, Госпадзе, усё гэта стаіць і не адыходзіць, і не трэба, каб хоць нешта пайшло.

*6.4.1979.*

Я ўвесь час лаўлю сябе на думцы і пачуцці пра ілжывае і подлае сваё становішча: я лячуся тут (у Аксакаўшчыне), таму што яе няма, я адпачываю, *спакойна* чытаю, пішу, таму што яна *памерла ўжо*, і не трэба трывожыцца, званіць і рвацца ехаць у Мінск. Вось што такое сумленне: збоку нібыта «не вінаваты», а свой прысуд: «вінаваты, вінаваты!»

Вярнуўся з батанічнага (саду), дзе гэта запісалася, пачаў паспешліва шукаць Пушкіна, схапіў сінія томікі, каб вярнуцца туды, дзе я быў неаддзельны ад Яе — да дзяцінства, юнацтва, Глушы. Але Пушкін ужо не той, не, я не той, усё не тое…

Аказваецца, і ў Пушкіна трэба пагружацца паступова — пасля вялікага перапынку, не варта кідацца разгарачанаму з абрыву ў крынічную ваду — не адразу прыме, адштурхне рознасцю тэмператур.

Старажытныя егіпцяне на саркафаг ставілі жука-скарабея, з надпісамі-заклінаннямі, *каб не сведчыла сэрца нябожчыка супраць яго на судзе…*

Дзіўная формула. Наша сэрца — супраць нас? Гэта што, стараліся ўлашчыць, угаварыць сумленне быць больш стрыманым *там*?

Так, жыццё пражыць — не поле перайсці. Як усё проста, але сказана назаўсёды, пра ўсіх. З Вечнасці перабегчы ў Вечнасць. А па шляху — столькі ўсяго.

*25 траўня 1993 г.*
*(Пачата ў снежні 1992 г.)*

# ПУБЛІЦЫСТЫКА

## КУРАПАТЫ, ХАТЫНЬ, ЧАРНОБЫЛЬ

*(З артыкула ў «Литературной газете»)*

1

Мы вялікія паспяшайлы. Семдзесят гадоў былі ганімыя, адзін аднаго прыспешваючы ў зададзеным напрамку. Зрабілі колькі крокаў у адваротным напрамку і ўжо самі паверылі, другіх пераконваем: усё, са Сталіным пакончана! Цяпер галоўны рэдут Сістэмы, Наменклатуры — дасталінскія часы і постаці! А са Сталіным пакончана!

Ну, а пасля таго, што бачылі, чулі на канферэнцыі, з'ездзе РКП і на XXVIII з'ездзе КПСС, гэтак жа ўпэўнена будзем сцвярджаць, што *за Сталіна яны ўжо не трымаюцца*?

Я не стану завастраць увагу на састарэлых партыйных наздровых, якія гэтак нахрапіста і шумна спрабавалі зноў збываць нам, падсунуць свае «каштоўнасці», як гогалеўскі персанаж — старых кляч. Я пра тых, хто маладзейшы, хто пры Сталіне і не жыў, не ведаюць і не ўсведамляюць, што для няшчаснай краіны азначаў бы адкат да ранейшых формаў існавання — і дзеля чаго? Дзеля права і наперад быць некампетэнтнымі і паўпісьменнымі паганяламі народа, які іх ненавідзіць? Спакусы дзеля лакейскіх прывілей, якімі пагрэбуе любы працаўнік у развітых краінах, як зняважлівымі і нікчэмнымі.

Таму ўсё-ткі пра сталінізм.

2

Нейк трапіў я ў сям'ю старых бальшавікоў. Даніл Сямёнавіч Данін[1] мяне з імі пазнаёміў, і пачалі прыгадваць, як гасціў тут калісьці А. І. Мікаян[2] («вось на гэтай канапе сядзеў») і ў яго спыталі: «Ну, навошта пры рэабілітацыі (а гэта была хрушчоўская «адліга»), навошта гэтулькі часу на кожную справу траціць? Што вы строіце дурня? Хіба не ясна, што ўсё гэта беззаконне было?» — «Вядома, — адказаў былы саратнік Сталіна, — так і трэба было б зрабіць — адразу рэабілітаваць усіх «палітычных». Ніякія яны не ворагі. Але тады злачынцамі акажамся мы, — прыкінуў Мікаян. І раптам скончыў: — Кім мы, зрэшты, з'яўляемся».

Вось і на такія прызнанні здольны быў Анастас Іванавіч.

Для майго пакалення гэта ўсё — частка нашай памяці, дзіцячай, юнацкай, дарослай. Пасля суда — працэсу па іску І. Ц. Шахаўцова[3] я атрымліваў сярдзітыя пісьмы: «Ну, што вы ведаеце пра Сталіна, пра той час?»

Помнім, ведаем нямала. На нашай памяці вунь колькі войнаў было: «вызваленчы паход» у Заходнюю Беларусь і Украіну, вайна з Фінляндыяй і Айчынная. Ну і, вядома, наша ганьба сённяшняя — уварванне ў Афганістан.

Але самая працяглая і цяжкая, злачынная — вайна Сталіна супраць свайго народа. Галоўная віна, у якой гатоў быў прызнацца імпульсіўны Мікаян.

Знакі, асабліва балявыя кропкі гісторыі маёй Беларусі: Курапаты, Хатынь, а цяпер яшчэ і Чарнобыль.

Бо краіна жыла ў стане перманентнай вайны і ў даваенныя часы. У згодзе з сталінскай формулай пра абвастрэнне класавай барацьбы па меры нашага «паспяховага» руху да сацыялізму.

Людзі з цяжкасцю вераць у страты, якімі аплацілі мы 70 гадоў утопіі. І ў 40 мільёнаў Роя Мядзведзева[4], і ў 60 — Аляксандра Салжаніцына[5], і нават у 3,7 мільёна У. А. Кручкова, старшыні КДБ.

Калі чытаеш «Вялікі тэрор» Роберта Конквіста[6], не можаш не адчуваць, што аўтар бярэ лічбы па мінімуму, не можа, проста не здольны заходні розум паверыць у дзясяткі мільёнаў забітых уласнымі ўладамі.

А між тым любыя ўдакладненні ідуць менавіта ў бок павелічэння, як па стратах у вайне з Гітлерам, так і па выніках сталінскай вайны ўнутры краіны. Гадоў пятнаццаць назад беларусы паведамілі свае страты ў Айчыннай вайне: 2 мільёны 230 тысяч. Кожны чацвёрты жыхар рэспублікі.



Але гэта такая ж умоўна прыблізная лічба, як і 20 мільёнаў усіх страт (названыя Хрушчовым) — супраць 7 мільёнаў (лічбы, «назначанай» Сталіным), бо сёння гісторыкі ўжо наблізіліся да 30 мільёнаў. А Беларусь, аказваецца, страціла, заплаціла 4 мільёны жыццяў у вайне з фашызмам — гэта ўжо амаль кожны другі. (Артыкул «Цана перамогі» праф. С. Польскага і С. Мацёніна, «Літаратура і мастацтва» ад 6.VII.1990.)

Так узнікае лічба 110 (яна ўжо называецца) мільёнаў — агульных прамых страт за нашу менш чым стогадовую гісторыю.

Курапаты і Хатынь — у адным радзе. Курапаты — гэта сталінскія Хатыні, генацыд па-сталінску. Ніводзін народ нашай краіны, ніводная сацыяльная група, ніводная прафесійная катэгорыя людзей і ніводзін узрост — нават дзеці сядзелі ў лагерах, ссылаліся, а з 12 гадоў расстрэльваліся па красавіцкаму ўказу 1935 года — не пазбеглі агульнага лёсу.

Ну, а што такое нямецкія Хатыні, як не сталінскія Курапаты? Бо ж Курапаты (як і нашы канцлагеры) з'явіліся на зямлі раней.

Калі мы пачулі, даведаліся з расследаванняў Зянона Пазняка, як «чорныя вороны» ў 1937–1938 гг. начамі шнырылі па наваколлі, хапалі мужыкоў з першых, што траплялася, хат і везлі расстрэльваць у курапацкі лес, мы не маглі не ўспомніць практыку нямецкіх карнікаў. І ніяк не магу забыць свае два неўразуменні, калі, па-першае, мінская цэнзура і «органы», якія стаяць за ёю, пярэчылі супраць назвы аповесці: «Карнікі». Пакрыўдзіліся: у нас, маўляў, таксама карныя арганізацыі ёсць. Другое неўразуменне: Пётр Нілыч Дзёмічаў[7] пакрыўдзіўся на тое месца ў нашай з Барысам Луцэнкам[8] п'есе «Вяртанне ў Хатынь», дзе немец-карнік спасылаецца на загад («Навошта ж вы? — павучаў нас ідэолаг. — У нас таксама загады трэба выконваць!»).

Не ўсведамляючы таго, яны сваяцтва душ і спраў пачулі — вось і на такім узроўні.

Генацыд ёсць генацыд, па расавым ці праскрыпцыйным спіску, ці па класавым. Ці проста, як у Курапатах: спушчаны план «па ворагах народа» і яго трэба выконваць, а лепш перавыконваць (для сябе бяспечней), хоць за кошт безадказных мужыкоў-калгаснікаў.

Вайна з уласным народам пачалася ўжо ў 1918-м, называлася «ваенны камунізм». НЭП быў непрацяглай па часе, але ўсё-ткі

перамогай народа (сялянства перш за ўсё) у бойцы з бязлітаснай утопіяй. Але, здаецца, адзінай і апошняй перамогай у той курапацкай вайне.

На многія дзесяцігоддзі над зверженым народам быў устаноўлены рэжым, падобны да ваенна-акупацыйнага. Таму што сталінскія калгасы і палітупраўленні пры МТС — гэта не што іншае, як гарнізоны. А ГУЛАГ па ўсёй краіне — чым не лагеры палоннікаў? А суды за 10 хвілін спазнення над рабочымі, што гэта, як не ваенны рэжым акупантаў?

Праўда, калі прыйшлі замежныя акупанты на змену ўнутраным, мы ўпарта паўтаралі: «Далоў гітлераўскія сто грамаў, няхай жыве сталінскі кілаграм!» Але тыя, што атрымлівалі ў нашых лагерах «сталінскую» пайку, пасля таго, як атрымлівалі нямецкую, вялікай розніцы, вядома, не заўважалі. Як і ва ўсім астатнім.

Каб перамагчы нямецкіх акупантаў, нам трэба было хаця б у думках аддзяліць свайго правадыра ад іх правадыра, свае парадкі ад іх парадкаў — давалася гэта не лёгка, але дзеля перамогі стараліся з усіх сіл.

У тым і трагізм быў сітуацыі, што, плацячы вялізную цану за перамогу над Гітлерам, народ набліжаў і поўную перамогу, абсалютную ўрачыстасць сталінскай тыраніі. Як да самазабыцця ілгалі мы, партызаны, сабе і няшчасным бабам, калгаснікам, якіх фашысты палілі, забівалі за дапамогу нам, «сталінскім бандытам»: затое калгасаў не будзе ўжо! І ўсё будзе не так, як да вайны!

Трэба было перамагчы Гітлера. Любой цаной, нічога іншага не заставалася. Яго імперыя, яго бесчалавечны рэжым збіраўся існаваць тысячу гадоў. Ну, а сталінізм, хочацца спадзявацца, сапраўды канае. Важна было не адчаяцца, не паддацца пачуццю помсты за ўсё перажытае (многія ўсё-ткі паддаліся), устаяць паміж дзвюх тыраній, заставацца чалавекам у бесчалавечных умовах. (Дарэчы, гэта глыбінная тэма ўсёй ваеннай прозы Васіля Быкава.)

У маім родным пасёлку Глуша, побліз Бабруйска, устаноўлены помнік подзвігу і ахвярам землякоў у Айчынную вайну. Усе знаёмыя прозвішчы. А ў свядомасці побач такія ж, таксама з канчаткам на «скі»: Слаеўскі, Віткоўскі… Гэтых няма на памятнай стэле, іх забралі і забілі ў 1937–1939 гг. — амаль столькі ж, як і немцы забілі. 83 «ворагі народа» на заводскі калектыў з 300 чалавек! І ўсяго толькі за польскія канчаткі прозвішчаў: вядома, шпіёны польскай ахранкі, дэфензівы!



Як наогул раздзяліць-аддзяліць: гэтых забіў Гітлер, а гэтых — Сталін? Калі яны народ наш забівалі напару, адзін, уварваўшыся ў краіну звонку, другі — знутры. Дублёры.

Зусім не нацяжкаю будзе сцвярджэнне: кожны з іх забіваў і ворагаў другога. Колькі гітлераўскай «ваеннай машыне» спатрэбілася б намаганняў, часу, каб перамалоць 40 тысяч савецкіх вопытных ваенных камандзіраў? Сталін зрабіў за яго гэтую працу напярэдадні вайны.

А ўжо як пасадзейнічаў Гітлер сваім страшэнным генацыдам ў лагерах ваеннапалонных і на акупаванай тэрыторыі таму, каб не аб'явіліся ў Сталіна сапраўдныя праціўнікі пасля вайны, калі людзі нашы выйшлі часова з-пад гіпнозу ўлады Сталіна, за межы навязанага ім «раю» і ўбачылі, як жывуць іншыя. Думаецца, не раз у думках ці пачуццях добрым словам уцалелы тыран узгадваў мёртвага: колькі той працы патрэбнай выканаў! Вось толькі яўрэяў не ўсіх прыкончыў, гэтых забойцаў у белых халатах, даводзіцца самому гэтым займацца навідавоку ўсяго свету… А як добра папрацаваў Гітлер над гэтымі акулярнікамі — інтэлігентамі, маскоўскімі і ленінградскімі апалчэнцамі, — добра, з астатнімі справіцца цяпер і Жданаў[9]!

Вядома, Сталін самазабойцам не быў. Наадварот, трусам быў, які вечна дрыжаў за ўласную скуру. За што і помсціў усім, таму што баяўся ўсіх. І, напэўна, спецыяльна і асабліва за той параліч волі і страх расплаты, які перажыў у першыя тыдні і месяцы вайны…

Перамогі ён, вядома, жадаў. Над Гітлерам, які так абмануў яго, — адзіны чалавек, якому ён паверыў. «Дагуляўся, падлюга!» — гэта яму хацелася сказаць павержанаму Гітлеру, і ён змог гэта сказаць.

Але не менш імкнуўся ён да канчатковай перамогі над уласным народам, над уласнаю краінай. І таму ахвяры той і другой вайны падсумоўваліся. Перамагчы Гітлера ён імкнуўся, шкадаваць «сваіх» людзей ён не толькі не ўмеў (не дадзена было ад прыроды), але і разліку ніякага ў яго не было шкадаваць «патэнцыяльных ворагаў».

У Беларусі гадоў дзесяць назад створаны быў мастацкі фільм «Полымя» — шматсерыйная партызанская эпапея. Пра тое, як партызаны Беларусі выканалі заданне Масквы, а дакладней — самога Сталіна. Гераічны бок падзей адлюстраваны старанна, пра астатняе ў той час аўтары кінафільма расказаць не пасмелі.

Добра памятаю, як радасна адгукаліся партызаны на любы намёк, што вось такая аперацыя — «па заданні фронту, Масквы». На «рэйкавую вайну» — узрываць чыгунку ў час Курскай бітвы — ішлі як на свята.

Думаю, што так разварочваліся падзеі і на Віцебшчыне, куды ў 1944 годзе сабраныя былі для «стратэгічнага ўзаемадзеяння з фронтам» атрады і брыгады амаль з усёй Беларусі — дзясяткі тысяч партызан.

Разграмілі, разагналі на значнай тэрыторыі ўсе нямецкія і паліцэйскія гарнізоны — акупанты спачатку былі ў паніцы. Тым больш што чакалі, вядома, наступлення тут Савецкай Арміі.

Але наступлення не паследавала. Ці то ў савецкага камандавання планы змяніліся, ці то сама ідэя Сталіна — сабраць у адно месца партызан — была ўсяго толькі «ваенная хітрасць»: няхай немцы пахвалююцца.

Начальнік Цэнтральнага штаба партызанскага руху П. К. Панамарэнка ў сваіх успамінах хаця і апісвае гэту аперацыю, ніяк не тлумачыць: чаму партызан у час не абвясцілі, калі яны самі апынуліся ў «мяшку», што агульная ўзгодненая аперацыя адмяняецца? Ці не адважыўся пайсці да таго, хто яму гэта заданне даваў, і высветліць: як далей быць партызанам?

Яны чакалі, яны трымаліся да апошняга, звыкла верачы, што «раз Сталін сказаў — жалезна», а разам з імі ў блакадным мяшку апынуліся дзясяткі і дзясяткі тысяч мясцовых жыхароў, жанчын, дзяцей.

Вось ужо калі Гітлер мог падзякаваць Сталіну: гэтыя няўлоўныя партызаны самі сабраліся, палезлі ў мяшок. Ніколі не ўдавалася акружыць столькі атрадаў, цэлыя брыгады прытым сядзяць і не выходзяць.

І калі за шмат тыдняў ушчыльнілася яно (франтавымі дывізіямі) да немагчымага, вырашылі нарэшце партызаны прарывацца. На Віцебшчыне стаіць помнік «Прарыў» — вось тут летняю ноччу 1944 года 800 аўтаматчыкаў (партызанам здавалася: ніхто не спыніць такі націск!), а ўслед атрады і насельніцтва кінуліся наперад. Прама на прыхаваныя нямецкія танкі. І палеглі — тысячы.

Наўмысна гэта Сталін падстроіў? Не станем гэтага сцвярджаць. А што бязлітасна — дык ці ўпершыню? Але калі пасля вайны, ужо на зыходзе крывавага самаўладдзя, запала ў свядомасць яго падазрэнне, навязлівая думка, што былыя партызаны і падпольшчыкі — патэнцыяльныя тэрарысты, а таму трэба з імі з усімі нанава разабрацца, думаецца, што нітачка цягнулася і да таго 1944-га: «Слава нашым партызанам і партызанкам», але лепш, спакайней, надзейней, калі гераічна загінулі!

Пакаленне маё ў асноўным уцалела, хаця ваявала з Гітлерам. Яно ўцалела і пасля Перамогі. А гэта было таксама не проста. Мабыць, толькі таму не ператварыліся ў лагерны пыл, што не дайшла да нас чарга (а толькі-толькі даходзіла) у графіку сталінскіх рэпрэсій супраць кожнага пасталелага пакалення.

Мы, вядома, вельмі б здзівіліся, калі б з намі, партызанамі, учынілі, як раней — з нашымі праціўнікамі паліцаямі і ўласаўцамі. Як можна нас, правераных самой вайной?! Як быццам не былі правераныя рэвалюцыяй і грамадзянскай вайной тыя, каго знішчыў Сталін у 30-я гады. За гэта самае і знішчыў: правераны, значыць, самаўпэўнены, а такія нам не патрэбныя. Запэцканыя і запалоханыя — накшталт Вышынскага[10], на ўсё гатовыя — куды лепш.

Ці не з гэтага зыходзіў Лаўрэнцій Берыя, калі ставіў задачу, мэту: кожнага трэцяга грамадзяніна краіны зрабіць «сексотам». Каб ужо запэцканыя, а значыць, свае, былі амаль усе! Вось да якога «ідэала» нас вялі — аб ім вы тужыце, партназдровы, пратэстуючы супраць «дэідэалагізацыі» КДБ, арміі, устаноў?

Курапаты, Хатыні. А сёння — Чарнобыль…

### 3

Май 1986 года… Хлопчык нясе дзве бутэлькі малака, сур'ёзны, горды: мамін памочнік. Што б ён падумаў, як спалохаўся б, калі б дарослы, што ідзе насустрач, падскочыў да яго і выхапіў гэтыя «гранаты». Такімі яны здаваліся ў руках дзяцей у той час. Я ўжо наведаў першага сакратара ЦК КПБ М. М. Слюнькова, з 6-гадзіннай гутаркі пераканаўся: прыбораў для замеру ўзроўню радыяцыі ў прадуктах харчавання ў рэспубліцы няма. І, здаецца, прасіць іх не вельмі збіраліся: навошта, усё амаль у норме, вось толькі там на поўдні, у куточку, не надта добра! Ну, ды ўсё пад кантролем! «А прыбораў усё-ткі няма?» — «Так, няма…» Вось такая гутарка напярэдадні маёй паездкі да М. С. Гарбачова. (Даведаліся ад мяне аб гэтай паездцы і паклікалі пагаварыць, пераканаць, пераканаць у адваротным…)

Не буду расказваць, як адвёз пісьмо, якія былі званкі і размовы праз памочніка Генсека Чарняева Анатоля Сяргеевіча. Вынік быў, трэба сказаць, неадкладны: у Мінск выехала

прадстаўнічая камісія, і ўсе на ўзроўні міністраў і замаў — сам не чакаў. Па незнішчальнай нашай інтэлігенцкай наіўнасці я, хаця і здагадваўся, што зрабіў рэспубліканскаму начальству непрыемнасць, дэзавуалізіраваўшы звышаптымістычную яго інфармацыю, але перакананы быў, што мы адзін аднаго зразумеем. Пісьменнік узяў на сябе ролю панікёра-просьбіта, што ж, пакарыстаемся цяпер прыездам камісіі і атрымаем усё, што можна.

Але адбылося нешта розуму недаступнае. Таварышы Слюнькоў, Барташэвіч (другі сакратар ЦК КПБ), Кавалёў (Старшыня Савета Міністраў БССР) проста-такі сценку выбудавалі супраць усякай дапамогі рэспубліцы. Не думаю, што і камісія прыкладвала звышнамаганні, каб прабіць гэтую сценку. Не трэба, дык не трэба! Раз у вас усё добра, нам тым лепш! Дзе ў нас тыя прыборы, або лішнія медыкаменты, або будматэрыялы!

Потым ужо я зразумеў, наколькі невыпадковаю была тая радасць (Салтыкоў-Шчадрын называў гэта «адміністрацыйным захапленнем»), з якою першы сакратар ЦК КПБ паведамляў у размове са мною аб «праколе» ўкраінцаў і поспеху беларусаў. Гэта калі кіраўнікоў УССР і БССР паклікалі ў Маскву — з прычыны чарнобыльскай аварыі, — Ляшко (украінскі прэм'ер) паўтары гадзіны клянчыў і плакаўся, як у іх усё дрэнна і трэба ім дапамагчы. А наш Кавалёў за дзесяць хвілін зрабіў справаздачу. Мікалай Іванавіч Рыжкоў[11] паляпаў яго па плячы: «Вось, вучыцеся ў беларусаў».

Дарагі Мікалай Іванавіч, ну што вы нарабілі? Мы, вядома, удзячныя, што заўсёды ставяць у прыклад непатрабавальнасць і сціпласць беларусаў. Але ж трэба і свае кадры ведаць. Яны што пасля гэтага — дзе ўжо шукаць дапамогу, — яны і свае палівальныя машыны адправілі ў Кіеў. А ўсіх, хто не аптыміст па-слюнькоўску, па-барташэвіцку, тут жа адхілілі ад чарнобыльскіх спраў. Усім, хто хацеў застацца пры пасадзе, строга-настрага загадана было спавядаць адну ісціну: у нас няма прычын для неспакою. Дырэктара атамнага цэнтра В. Б. Несцярэнку[12] звольнілі, прэзідэнта АН БССР М. А. Барысевіча[13] знялі, сакратара па ідэалогіі А. Т. Кузьміна[14] (пасмеў звязацца з панікёрамі) выправілі на пенсію…

Да слова, калі двое першыя трапілі ў спіскі на рэспубліканскіх выбарах, іх і праз тры гады спасціг усё той жа высокі гнеў. Хаця, здавалася б, рэспубліканскае начальства моцна змянілася. Але не, памятлівы апарат на такое. Ледзьве не ў адзін дзень адзін і той жа артыкул, які ачарняе Барысевіча і Несцярэнку (і за што?.. Менавіта за Чарнобыль!), з'явіўся ў «Вячэрнім Мінску» і маскоўскай «Рабочей трибуне»…



А мне вельмі хацелася б даведацца аб падрабязнасцях гаворкі кіраўніка саюзнага КДБ тав. Чэбрыкава з адпаведнай арганізацыяй у Мінску — у адносінах да мае асобы. Вось і такая была рэакцыя, гэта мне вядома. Як жа, умяшаліся ў «іх» справы! Такія справы заўжды лічыліся не нашымі, а іх — нават калі табе на галаву пасадзілі цэлы рэактар. («Бач ты, куды палез — у вялікую палітыку!» — даносілася, як рэха. І чарговы раз «трапіў пад каўпак».)

Але ўсе нашы асабістыя непрыемнасці — якое гэта мае значэнне ў параўнанні з тым, што нарабілі з народам Беларусі, з украінскімі і рускімі абласцямі за больш чым тры гады злачыннай бяздзейнасці. А калі і дзеянняў, то чыста адцягненых, дэкаратыўных, хаця і вельмі дарагіх: абмыўка дрэў і дарог, актыўнага будаўніцтва «культаб'ектаў» у заражаных раёнах і да т. п.

У гэтай Вялікай Дзяржаўнай Хлусні прамы ўдзел прымала і наша кіраўнічая медыцына (яе Інстытут біяфізікі і сёння калі і адступае пад націскам грамадскасці, то ў самым ар'ергардзе), на жаль, многія і многія вучоныя: фізікі, біёлагі і інш. Апошні іх магутны залп па праўдзе аб Чарнобылі, які прарваўся праз сцяну сакрэтнасці, — гэта звернутае наверх «пісьмо 92-х». І хаця ў ім нямала тытулаваных імёнаў, не пачуў іх Вярхоўны Савет СССР, не прыняў 35-бэрную канцэпцыю, паводле якой дзеці і цяжарныя жанчыны прыроўніваюцца да работнікаў-спецыялістаў АЭС. Так, завод Вялікай Хлусні яўна канчаецца.

Але вось цікавая заканамернасць: усе, хто ўдзельнічаў у абмане народа, пайшлі на павышэнне. З раёна — у вобласць, з вобласці — у Мінск. Ну, а з рэспубліканскай сталіцы, вядома, — у Маскву, калі трэба, то прама ў Палітбюро. Можа, і не ўсе за гэтыя справы, але народу не загадаеш думаць, як каму зручней.

Неяк спытаў у акадэміка Андрэя Іванавіча Вараб'ёва: ці можна вызначыць крыніцу Вялікай Хлусні пра Чарнобыль? Згадзіліся, што крыніц было шмат. Кожнае ведамства, якое было не на вышыні (а хто на вышыні?), зацікаўлена ў гэтай хлусні: малая аварыя — і іх віна малая, а калі гэта катастрофа, значыць, і віна іх вялікая. І як гэта бывае: хаваючы адны злачынствы, натварылі новых, яшчэ большых: хіба не злачынства супраць чалавечнасці вось гэта — *свядомае* ўтойванне ад соцень тысяч людзей праўды аб тым, што жыць на гэтых землях нельга.

Яшчэ Сталіным адрэгуляваныя партыйна-дзяржаўныя структуры, пазбаўленыя ад кантролю знізу, сфармаваныя ў мэтах перманентнай вайны з народам, дзейнічалі і на гэты раз, як ім і трэба. На вайне як на вайне: абман не толькі дапускаецца, але і ўзнагароджваецца. Галоўнае, каб не было панікі. Ну, а ахвяры — яны непазбежныя.

Уся наглядная карціна Вялікай Хлусні і ўсе нашы малавыніковыя спробы праламаць або абысці сцяну (аж да канца 1988 г.) — усё гэта так і прасілася прама ў раман-антыўтопію. Але, як цяпер часцей бывае, энергія ішла, трацілася на ўсё новыя і новыя спробы прамога, непасрэднага дзеяння, не да раманаў было. Але фабула выбудоўвалася вось такая.

Свет расколаты па-ранейшаму: «…лепш быць мёртвымі, чым чырвонымі» (або наадварот, «нечырвонымі»). Нацэленыя на гарады, краіны, кантыненты ядзерныя арсеналы, вось-вось здарыцца зрыў — псіхікі або тэхнікі.

А ў нас яшчэ адзін Чарнобыль, ды не, цэлы пякельны ланцужок (па «графіку Лягасава[15]»). Свет, вядома, зафіксаваў шалёнае павышэнне радыяцыйнага фону, але МАГАТЭ і падобныя арганізацыі на Захадзе, як і ў гісторыі з першым Чарнобылем, берагуць аўтарытэт атамнай энергетыкі і дапамагаюць нам ілгаць. Ну, а ў нашых «зонах», як і ў часы першага Чарнобыля: «аніякай панікі», становішча лепшае, чым калі-небудзь раней, менавіта там будуем дамы адпачынку, культурныя цэнтры, фабрыкі па перапрацоўцы харчовых прадуктаў, аром, сеем, збіраем — ну, усё, як у Беларусі ў 1986–1989 гадах. Спецыялісты з Мінздрава, Дзяржкамгідрамета, Інстытута біяфізікі, членкары і акадэмікі запэўніваюць народ, што есці і піць можна ўсё (толькі рукі мыць), галоўнае, не паддавацца радыефобіі. Насельніцтва паспяхова вымірае, а ў газетах — подзвігі, перамогі.

Адваротны бок западозрыў няладнае. Чаму абязлюдзелі гарады? Ці не засоўваюць насельніцтва ў бамбасховішчы, ці не рыхтуюць ядзерны напад? Не вытрывалі нервы — ударылі з усіх шахтаў. І забілі, атруцілі ўсе краіны, усе кантыненты — і сябе таксама.

Маё другое пісьмо пра чарнобыльскія справы М. С. Гарбачову (апублікаванае як артыкул у «Новом мире»: «Далібог, больш не ўзарвецца, або Думка неспецыяліста») мела больш прамыя і прыкметныя вынікі. Але і час быў ужо другі — 1988 год. Але як жа ў нас усё цяжка даецца, нават пры прамой падтрымцы і зацікаўленасці Першай асобы ў дзяржаве!



А што, калі гэта парушэнне самой прыроды Сістэмы, запатэнтаванай самым крывавым у гісторыі правіцелем: яна не прымае на месцы Першага чалавека ў дзяржаве нікога з добрымі, чалавечнымі намерамі, не крывапійцу, не з жорсткім сэрцам? Вунь як канвульсіўна Сістэма гэтая спрабавала ад яго пазбавіцца, адрынуць — на апошніх партыйных з'ездах.

## 4

Цяжка самім сабе прызнацца, ад якога свету мы адыходзім, у што нас ператварыла Сістэма. У газеце «Совершенно секретно» надрукаваны ўрывак з кнігі Мікаласа Бетэла[16] пра лёс казакоў, якія ваявалі на баку немцаў і былі перададзены англічанамі Сталіну (№ 6, 1990 г.). Уся трагедыя ў тым, што казакі не адны, а з сем'ямі, пры іх дзеці, а значыць, і іх перадаюць у рукі Сталіна. А якія рукі ў «лепшага сябра дзяцей», ведалі добра. Бацька страляе, забівае жонку і дзетак — толькі б не гэта. Маці кідаецца з моста з дзіцяткам — лепш на дно, чым да Сталіна.

У працы Бетэла прысутнічае і тая праўда, што казакі, якія служылі ў немцаў, паводзілі сябе ў Югаславіі, куды іх пасылалі змагацца з партызанамі, як жорсткія карнікі, на іх сумленні нямала забітых, спаленых жывымі жыхароў, нейчых маці, дзяцей. Пра гэтыя часці жахлівая памяць і ў нашых людзей, дзейнічалі яны і ў Беларусі.

Дык што: так злодзею і трэба? Па справах яго? Але, па справах, пакуль гэта датычыцца саміх карнікаў, нават калі ў іх была руская ідэя, казацкая ідэя, украінская ці беларуская: калі ты кат, замучыў дзіцятка, ты губляеш права называцца змагаром за ідэю. Ты ўсяго толькі маленькі Сталін, які ўзненавідзеў «вялікага». Яблык, які недалёка падае ад яблыні.

Калі мы[17] збіралі матэрыял для кнігі пра Хатынь — «Я з вогненнай вёскі», — былыя ахвяры карных акцый усё пыталі ў нас і як бы ў саміх сябе: «Ну, добра, чужаземцы, але як маглі свае гэтак здзекавацца са сваіх?!» Ну, а да вайны не здзекаваліся са сваіх? Вось там тады і навучыліся. Ну, а хто быў наш правадыр і настаўнік — вядома. І якраз па дзецях самы спецыяліст быў: умеў раскалоць самага цвердакаменнага ленінца, прымушаючы называць сябе шпіёнам і падонкам — і менавіта з дапамогаю дзяцей. Арыштаваныя разумелі, у чыіх і якіх руках апынуліся дзеці.

Добра, ён. Але ж мы, мы! Як лёгка (не адразу, але старанні настаўнікаў пайшлі на карысць) людзі згаджаліся, што, калі чалавека аддзяліць ад астатніх слоўцам «элемент», «кулак», «вораг

народа», «шкоднік», з ім можна рабіць што хочаш. Галоўнае, што мы чыстыя. Пакуль, вядома, чарга да цябе не дайшла, але чалавек гэтага ведаць не хоча.

Раз чалавек — вінцік, яго не так ужо складана прыстасаваць да іншага механізма, ну, а змазка новая, нацысцкая: «бі жыдоў!», «бі камуністаў!», «бі сталінскіх бандытаў!».

А часам ідэалагічную змазку бессаромна змешвалі, я сам чуў, як паліцай роў на сялян: «Кулацкае насенне!»

Мне заўжды здаваўся напоўненым страшнага сэнсу лёс дзвюх вёсак на Палессі, дзе жорсткі механізм перамолвання народа спрацаваў асабліва наглядна. Непадалёк ад Бярэзіны гэтыя вёскі абедзве называліся Коўчыцы («першыя» і «другія»). Адну з вёсак называлі яшчэ: Коўчыцы-яўрэйскія. З часоў «аседласці» там сапраўды жылі яўрэі ўперамешку, вядома, з беларусамі. У нас у атрадзе быў хлопчык Рубін (імя забыў). Ён расказваў, што, калі яўрэяў сталі забіваць у Бабруйску, у Парычах (гэта па суседстве), на вуліцы яго спыніў сусед, ён убачыў у руках у хлопчыка канькі (кавалю нёс у рамонт) і сказаў: «Аддай канькі майму Кольку (Колька быў сябар таго хлопчыка), цябе ўсё роўна заб'юць».

Заплакаў, пабег дадому. А калі прыехалі, прыйшлі забіваць (і гэты сусед, ужо з паліцэйскай вінтоўкай), Рубіны схаваліся на гарышчы ў другога суседа і чулі гаворку ўнізе:

— Не ведаеш, куды гэтыя пабеглі?

— У лес, куды ж. Цяпер ад іх ты будзеш бегаць.

Партызаны перабілі коўчыцкіх паліцаяў восенню 1943 года, а самі пасяліліся ў іхніх хатах, у іхніх сем'ях. Нас гаспадыня карміла бульбаю, мы з ёю і дзецьмі яе дзяліліся мясам, кансервамі. (Ужо наведваліся да сваёй арміі праз лінію фронту.)

Але менавіта так: у хатах, у сем'ях забітых намі мужоў, бацькоў. А што было рабіць, калі пачатая ў грамадзянскую вайна са сваімі працягвалася *ўнутры* вайны з немцамі?

Раніцай 25 снежня 1943 года (такія даты помніш) Коўчыцы атакавалі немцы і ўласаўцы. Пад вечар нас з вёскі выцеснілі. Цяпер там помнік 82 партызанам, якія загінулі. І 102 жыхарам Коўчыц — сем'ям паліцэйскіх, якіх немцы і ўласаўцы перабілі, амаль усіх, каго дасталі. Такая яна, наша гісторыя.

А калі прыйшла адна на ўсіх Перамога, многія, вельмі многія хутка пераканаліся, што не, перамог шмат. Адна — тая, што на грудзях у Сталіна, ужо генералісімуса, адзінаўладнага гаспадара краіны. Другая — у тых, каму дасталіся пашпарты. І зусім іншая (і ці перамога?) у бяспашпартных калгаснікаў. Дасюль помню, як мы, гараджане, сустракаліся з хлопцамі, нашымі былымі партызанамі, і як не атрымлівалася, гасла гаворка пра агульныя нашы справы ў вайну. Мы ж іх Перамогу ўкралі: Сталін — у нас ва ўсіх, а мы, гараджане, — у калгаснікаў.



Калі мы зноў чулі на XXIII з'ездзе партыі настырнае, наздроўскае расхвальванне пераваг сталінскай сістэмы земляробства, было і агідна, і сорамна: яшчэ ж у 1943 годзе мы добрасумленна ілгалі нашым бабам і мужыкам наконт новых парадкаў там, пад Масквой — людзям так крыўдна было паміраць за гэтыя самыя калгасы. І смешна рабілася ад бязглуздзіцы таго, што адбывалася, калі ў дапамогу сабе на трыбуну Ягор Кузьміч, як Вія (зноў-такі Гогаль), клікаў: «Старадубцаў! Дзе Старадубцаў[18]?» Мабыць, ужо не пачуем Лігачова з такіх трыбун, але Старадубцаў застанецца на сваім месцы. Тэрорам і шматгадовай прыгоннай залежнасцю пазбавілі земляроба ўсіх жаданняў, а цяпер нам старшыня Сялянскага саюза гаворыць: не хочуць людзі быць вольнымі на зямлі, а хочуць нас, старшыняў!

Колькі ж гэта можа цягнуцца? Хто і навошта, па якім мандату ад народа, на колькі гадоў уручыў лёс нашага земляробства Лігачову[19], а справу перабудовы прамысловасці — Слюнькову? Ну, хаця б у беларусаў спыталі або ў тамічан. Але і тое сказаць: у гэтай партыі свае традыцыі ў такіх справах, ды і мэты хутчэй за ўсё праследаваліся ўнутрыпартыйныя, а не дзяржаўнагаспадарчыя.

## 5

У Іспаніі была ў нас гаворка з парламентарыямі. Дзяліліся з намі вопытам пераходу ад таталітарнай сістэмы да сучаснай дэмакратыі — па тонкім канаце дыялогаў і палемікі розных грамадскіх груп. Для таго, каб быў цвёрда абазначаны «цэнтр» і каб існаваў нацыянальны сімвал, каб раўнавагу захоўваць, іспанцы і караля вярнулі. «Толькі не сарвіцеся!» — папярэджвалі яны. [...]

Іспанскія парламентарыі так тлумачылі правату і неправату нашых перабудоўшчыкаў у спрэчках з Гарбачовым, якія ўзнікалі. Ён, Гарбачоў, адмыкнуў вам дзверы, ну, і рухайцеся, дзейнічайце, не патрабуйце, каб і ён заўсёды быў наперадзе першых. І перад тымі, хто ўслед збіраецца ісці. У тым і складанасць становішча Гарбачова: быць наперадзе і адначасова там, дзе ўсё яшчэ моцныя і небяспечныя кансерватыўныя сілы.

Сёння многія заходнія палітолагі лічаць: таму ён і з партыяй застаўся. І няма чаго дакараць Прэзідэнта рашучасцю, учынкам Ельцына, Сабчака, Папова, а іх, у сваю чаргу, — яго паводзінамі. Тая самая раўнавага, пра якую гаварылі ўмудроныя ўласным вопытам іспанцы.

Галоўнае, разумець адзін аднаго: інтарэс жа агульны — прайсці па канаце перабудовы і не зваліцца ні ў дыктатуру, ні ў грамадзянскую вайну.

І апошняе, як кажуць народныя дэпутаты, калі даўно перабралі ўжо рэгламент. Вярнуся да таго, пра што Мікаян гаварыў: хто ж злачынцы і па чыіх справах ствараць камісіі? Гэта да пытання аб Камісіі Палітбюро па рэабілітацыі ахвяр рэпрэсій. І не толькі ў тым праблема, што з Камісіі, мабыць, выходзіць А. М. Якаўлеў[20], чыім сумленнем і энергіяй справа рухалася. (Грамадства, нават не ўсё ведаючы, усё адчувае.) Але не ў гэтым нават сутнасць, а ў тым, што прыйшоў час сказаць прама: такія дазіраваныя рэабілітацыі, якія цягнуцца гадамі і дзесяцігоддзямі, азначаюць, што мы ўсё яшчэ не адважваемся ісці да канца, не гаворым галоўнае: рэпрэсіраваны практычна быў увесь народ. Сялянства як такое. Рабочыя і інтэлігенцыя як такія. Гэта і павінен прама заявіць Вярхоўны Савет, а не нейкія камісіі. Заявіць і закрыць пытанне аб «віне» народа — гэта перад кім жа, перад ідэалагізаванаю шайкаю крымінальнікаў? — а тым самым і пытанне аб рэабілітацыі.

Калі пытанне і існуе, то толькі аб той ступені віны тых, хто ўсё гэта ажыццяўляў. Ну, і аб рэабілітацыі, калі хто ў гэтым не вінаваты. Слова за Вярхоўным Саветам.

*1990*



## ТВАРАМ ДА АПАКАЛІПСІСА

*Даклад у Ньюпарце (ЗША) на канферэнцыі амерыканскіх і савецкіх вучоных і публіцыстаў (чэрвень 1990 г.)*

### 1. Фізічныя рэальнасці суднага дня

Апакаліпсіс — паняцце філасофскае, тэалагічнае або псіхалагічнае. Ну, а Апакаліпсіс — фізічная рэальнасць, што ён такое.

Сёння гэта перш за ўсё ядзерная зброя. Джанатан Шэл[1] у сваёй цудоўнай працы «Лёс зямлі» даўно назваў яе зброяй Суднага дня.

Калі паказаў свае зубы дракона «мірны» атам — у Чарнобылі, — праз разгублены журналісцкі лепет і апраўдальнае мармытанне навукі грозна прарваліся словы прама з прароцтваў Іаана Багаслова: «Трэці анёл уструбіў, і ўпала з неба вялікая зорка… і апала на трэцюю частку рэк і вытокі вод… Імя той зорцы «палын»… На ўкраінскай мове «чарнобыль» азначае «палын звычайны». Помню, калі я пачуў гэта ад аднаго фізіка летам 1986 года, мой матэрыялістычны, атэістычны розум пасаромлена пакланіўся перад невытлумачальным. І я вырашыў пасарамаціць яго яшчэ і публічна, працытаваўшы Казанне Іаана Багаслова на з’ездзе пісьменнікаў, які праходзіў у Маскве, — шок быў у зале. Думаю, што і ў прэзідыуме, дзе сядзеў сам Ягор Лігачоў. Але мы ўсё роўна яшчэ не ўсведамлялі блізкасці бяздоння, якое адкрылася ля ног нашых…

Зрэшты, аб сім-тым мы здагадваліся. Асабліва ў нас, у Беларусі. Краіна гэтая, выяўляецца, асаблівая. Ведаеце, як гэта бывае з некаторымі людзьмі, іх называюць няўдачнікамі. І іншыя хварэюць, трапляюць у аварыі. Але няўдачлівых не абыдзе ніводная хвароба і ніводная аварыя. Хоць плач. Вось так і з маёй Беларуссю. Колькі войнаў вяла Расія і з Расіяй вялі, усе самыя галоўныя пракочваліся па Беларусі і яе народу. І шведская, і з Напалеонам, і ўсе войны з немцамі. Тое, што мы перажылі ў час Другой сусветнай вайны, можна назваць «атамнай вайной звычайнымі сродкамі». Адзін амерыканскі публіцыст пабыў на могільніку беларускіх вёсак пад Мінскам (іх сотні і сотні), спаленых разам з людзьмі, забітых вёсак, потым напісаў: цяжка рэальна ўявіць трагедыю іншага народа, для гэтага трэба тое ж самае спраецыраваць у думках на сваю краіну, на свой народ. Уявім, працягвае ён, што забіта 50 мільёнаў амерыканцаў, спалены ўсе гарады і вёскі Амерыкі, за выключэннем, напрыклад,

усходняга ўзбярэжжа, — вось маштабы трагедыі Беларусі. Параўнальныя (па выніках) хіба толькі з атамнай вайной…

І вось свет зноў выявіў, што мы ўжо ў 1986 годзе адчулі, пра што спрабавалі сказаць, крыкнуць, але нас доўга не чулі ні ў Маскве, ні за мяжою, ні ў самім партыйна-ўрадавым Мінску: Беларусь зноў накрыў цень Апакаліпсіса!..

…Ясна, што, жывучы на гэтак пазначанай трагічным лёсам зямлі, нельга было не ўспрымаць з асаблівай, фізічнай вастрынёю і любыя знакі «ядзернага Апакаліпсіса». Якія мы асабліва сталі прыкмячаць пасля пачатку брэжнеўскай авантуры ў Афганістане і спаборніцтва, якое пачалося ва ўсім свеце: хто больш нарыхтуе ядзернага гаручага для агульнага акта самаспалення.

Было натуральна, што ў гэты час асабіста мяне вельмі цягнула сустрэцца, пагутарыць з людзьмі, якія непасрэдна ля кнопак Суднага дня, перш за ўсё з капітанамі ядзерных падводных лодак. Каб зразумець, чаго чакаць ад іх.

Лёс мяне звёў з трыма (адзін з іх амерыканец). На кім душа супакоілася? На салдаце-хлапчуку, таксама ракетчыку, — ён абслугоўваў «кабелі» на ядзернай устаноўцы.

Пра іх пра ўсіх і раскажу.

## 2. Дык націснем ці не націснем?

Час і сапраўды быў крытычны і, як выявілася, паваротны (набліжалася перабудова). Тады здавалася: два цяжэразныя цягнікі па аднапутным насыпе імкліва збліжаюцца лоб у лоб, вось-вось урэжуцца. Усе і перад усімі заўжды правы! Так вызначаў для сябе формулу, паводле якой загіне свет, у аповесці «Апошняя пастараль»[2], якую пісаць пачаў дзень за днём, слухаючы прамовы «ўсіх» у ААН, дзе працаваў восенню 1982 года ў складзе беларускай дэлегацыі. У красавіку 83-га мы арганізавалі ў Мінску сустрэчу, канферэнцыю пісьменнікаў і публіцыстаў, здаецца, першую ў нас, на тэму ядзернага Апакаліпсіса.

Класічна прагучала на канферэнцыі скарга майго іранічнага сааўтара па «Блакаднай кнізе» Данііла Граніна[3]: «Адамовіч цягне мяне на край прорвы — намаляваў жахлівую карціну канца свету, а тут яшчэ Каракін дадаў — і кажуць: працуй! А я не магу працаваць на краі прорвы».

Сапраўды, гэта тады была праблема: адчуванне ўсеагульнага канца, пагібелі — яно ратавальнае ці згубнае? Мабілізуе чалавека, людзей на супраціўленне пагрозе ці абязвольвае ўжо зусім перад непазбежнасцю, толькі паскараючы спаўзанне да прорвы?



Задоўга да гэтага (у 1955 годзе) прагучаў «на ўвесь свет» маніфест — папярэджанне Расела-Эйнштэйна. На ўвесь дык на ўвесь, але пачулі яго нямногія (у нас апублікаваны адкрыта і цалкам толькі ў 1988 годзе ў часопісе «Дружба народов»). Час новага мыслення яшчэ не надышоў. Нават неўтаймоўны акадэмік Пётр Капіца не прыняў галоўную думку маніфеста: свет загіне, чалавеку не выжыць, калі ядзерная зброя будзе заставацца на планеце, а свет будзе па-ранейшаму ідэалагічна і палітычна разарваны. Вялікі фізік дзеля чагосьці стаў гадаць-прыкідваць, наколькі арганізм чалавечы зможа адаптавацца да радыеактыўнага заражэння…

Спачатку і акадэмік Сахараў ствараў Зброю Апакаліпсіса (і яго падпарадкавала думка, што паратунак — у раўнавазе страху) і толькі ў 60-я гады зразумеў: паратунак — на шляхах канвергенцыі сацыяльных сістэм, а свой абавязак стаў бачыць у барацьбе за тое, каб грамадства, якому ён уручыў свой геній фізіка, перастала быць закрытым, каб паважаліся правы чалавека, жыццё чалавека, а тым самым правы і жыццё роду чалавечага.

Выклікалі ж мяне, напрыклад, пасля той мінскай канферэнцыі ў ЦК Кампартыі Беларусі, дзе паведамілі дзівосную «формулу палітыкі», вышэйшай, напэўна: «Калі з усяго нашага народа ацалее 10 чалавек, важна, каб яны засталіся савецкімі людзьмі. САВЕЦКІМІ». Вось што, выяўляецца, важней за самое выжыванне роду чалавечага.

Зрэшты, генерал Хейг, былы дзяржсакратар Злучаных Штатаў Амерыкі, спавядаў нешта падобна-канібальскае; помніце, знакамітае: «Ёсць рэчы куды важней, чым мір, і куды страшней, чым вайна…»

Я ўсё імкнуўся прарвацца да капітанаў падводных монстраў, якія існуюць дзеля таго, каб «пры неабходнасці» сваімі двума дзясяткамі ракет знесці цэлую Еўропу або Амерыку.

Першую такую гутарку я «рассакрэціў», выступаючы на маскоўскім форуме «За бяз'ядзерны свет, за выжыванне чалавецтва». Быў ужо 1987 год. «Московские новости» надрукавалі[4], і ўзняўся шум, абвінавачванні ў «кашчунстве» і «здрадніцтве». Як: яны нас так, а мы іх не? Яны — мільярд, два мільярды жыццяў знясуць, спапяляць і не атрымаюць таго ж у адказ? Ды і наогул, ніякага капітана не было, Адамовіч яго прыдумаў! З прычыны злашкоднага свайго пацыфізму.

Але капітан быў, і гутарка была. У сямейнай, хатняй абстаноўцы, за гарбатай. Я прапанаваў «мадэль сітуацыі»: «яны» нанеслі ўдар, спапялілі паўсвету і другую палавіну засыпалі

радыяцыяй, кнопка адплаты пад вашым пальцам — адкажаце агрэсару (але, магчыма, што і памылка камп’ютараў), націснеце ці не націснеце? Жыццё ацалелых людзей і краін, а магчыма, і сама будучыня роду нашага і наогул існаванне жыцця на зямлі — у вашых руках.

Маці і дачка капітана, якія сядзелі за сталом, адгукнуліся неадкладна: «Вядома! Яны ж нас забілі. Нашу краіну». Галасы з ранейшых часоў: «Тата, адпомсці!» — плакаты і заклікі нядзернай Вялікай Айчыннай вайны жывуць аж дасюль у нашай памяці, у нашай свядомасці.

Капітан усё не адказваў. І раптам вярнуў мне пытанне: ну, а вы як бы зрабілі?

Не, не націснуў бы ні пры якіх абставінах! Інакш менавіта я, мы будзем забойцамі чалавецтва. Той, хто націснуў першы, — падлюга, забойца палавіны чалавецтва, а я — усяго роду людскога. Усекаін! «Ну, а я, — нарэшце адказаў капітан, — я не скажу, як зраблю. Яны не павінны гэтага ведаць».

Гісторыя гэтая мела працяг павучальны. У тым сэнсе, што праявіла, ад чаго і да чаго мы ўздымаліся ў сваёй свядомасці. І як імкліва. Летам 1987 года генерал Дзмітрый Валкагонаў[5], тады другая асоба ў Палітупраўленні Савецкай Арміі, вельмі лёгка выклікаў гнеў і абурэнне не тралейбуснай, а пісьменніцкай публікі ў зале Дома літаратараў, калі папракнуў нейкага пісьменніка (не называючы імя) у неймавернай безадказнасці і кашчунстве (пераказаў гаворку з капітанам, уяўным, па яго перакананні, бо савецкія воіны, у адрозненне ад некаторых пісьменнікаў, «не такія»).

Калі я ўсё-ткі не пажадаў быць ананімам і выйшаў на трыбуну — маўляў, гэта я такі дрэнны! — і паспрабаваў растлумачыць і развіць сваю гаворку з капітанам, пераканаць, што часы «адплат» прайшлі незваротна, давялося пераадольваць некалькі шквалаў шчырага абурэння з пісьменніцкае залы. А пасля ў вестыбюлі знаёмы, блізкі мне франтавік-паэт сказаў неяк разгублена: «Не ведай я цябе, вырашыў бы, што гаворыць здраднік!»

Але прайшло ўсяго паўгода, гарбачоўская палітыка новага мыслення прывяла яго ў Вашынгтон, быў заключаны першы ў гісторыі дагавор аб ліквідацыі цэлага класа ядзернай зброі, і калі ў газеце «Советская культура» зноў распалілася палеміка: націснуў бы ці не націснуў!.. — у адказ на пісьмо маіх землякоў Бягуна і Боўша, яна прагучала глуха, амаль без рэзанансу ад грамадства.



Людзі звыкалі да многага, што нядаўна здавалася абсалютна непрымальным.

Помніцца, што там, у Вашынгтоне, Гарбачоў, шчаслівы ад таго, што ім з Рэйганам удалося здзейсніць, адзначыў, падкрэсліў удзячна, што вяла яго да гэтага і грамадская думка, якую падштурхоўвалі публіцысты, пісьменнікі і г. д.

Раскажу пра такога вось «штурхача» — салдата савецкіх ракетных войскаў, які прыязджаў да мяне спецыяльна, пагутарыць. Яго ледзьве не пасадзілі (але потым датэрмінова дэмабілізавалі) за ўпартую думку, фразу: «А я на месцы Гарбачова не адказаў бы нават на першы ўдар…» — «Значыць, ты пасячэш кабелі?» (Ён абслугоўваў кабельную гаспадарку пры ракеце.) — «Не, я свой абавязак выканаю, але на месцы Гарбачова я б…»

Пазваніў ён мне з Чарнігава і папрасіў «дзесяць хвілін для гаворкі». Не па тэлефоне, з вока на вока. Калі з’явіўся ў мяне дома, адразу ж пачаў з палемікі. Прачытаў, маўляў, «Апошнюю пастараль», ці не здаецца вам, што вы запрашаеце праціўніка нанесці першы ўдар (гэта значыць, правакую яго, умацоўваючы ў ім надзею, што не адкажам ударам на ўдар)? Раз у імя жыцця чалавецтва мы гатовыя ахвяраваць сабою, уласным народам…

Пытанні сапраўды крутыя і нават страшныя. Але ў тым і справа, што новае мысленне, калі ўсё дадумваць да канца, — гэта нешта больш страшнае і больш трагічнае, чым гамлетаўскае, асабістае: «Быць альбо не быць?» Тут пра народ, пра чалавецтва!

Я спрабаваў растлумачыць, што ўкладваў у «Апошнюю пастараль», ад чаго іду, але салдат (ужо ў джынсах, дэмабілізаваны) нарэшце адкрыўся: ён толькі выпрабоўваў маю логіку і доказы. Каб пераканацца ў сваіх перакананнях. Бо гэта і яго перакананні, і прыйшоў ён да гэтага сам, у арміі. І расказаў, як угаворвалі і пагрозамі суда «за здрадніцтва» стараліся вярнуць яго да даатамнага мыслення. Каб ён публічна, перад усёй часцю адрокся ад «новай веры». Не адрокся: «Я сваю, салдацкую, службу выканаю, але на месцы Гарбачова…»

Ну, а Гарбачоў — на сваім месцы? Сёння ў нас у краіне яму не вельмі ўтульна ў ролі лідара перабудовы: бэлькі перакрыцця старога, падгнілага будынка падаюць, абрынуліся ледзь не на галаву, куды і ўхіляцца? Але што ні здарылася б, як бы ні пайшлі справы, адно сёння ясна: гэтага парадаксальнага лёсу лідар дае свету яшчэ адзін шанец — пазбавіцца ад значных запасаў ядзернай зброі, самай цяжкай, небяспечнай, якая заўтра можа стаць і зброяй (і прыладаю) хаосу. У краіне і ва ўсім свеце. На захадзе нямала пішуць з апраўданаю трывогаю: а хто будзе ім

распараджацца, савецкім ядзерным арсеналам, калі захлісне краіну анархія? Ну, дык не марудзьце, усё трэба зрабіць разам з Гарбачовым і заранеей зруйнаваць гэты магчымы хаос. Раззбройвайцеся разам з ім, не таргуючыся, не да таго цяпер, зразумейце!

Даядзерная зброя суправаджалася такім мысленнем: калі ў другога боку ёсць гэта, трэба, каб і я такое ж меў, а то і яшчэ мацнейшае. Пацягаемся! Ядзерная зброя павінна дыктаваць зусім іншую логіку: калі яна ёсць у магчымага праціўніка, а ў мяне таксама ёсць — яна аднолькава небяспечная для абодвух бакоў і таму як сродак вайны бескарысная. Трэба ад яе пазбавіцца. Пакуль не позна. А тым больш у цяперашняй сітуацыі. Калі вашы і нашы дарадцы па гэтых справах пачнуць з разлікам таргавацца, спрабуючы выгадаць на нейкім другім класе ракет (марскія і да т. п.), а ў выніку шматмегатонныя так і застануцца ў шахтах, ці не давядзецца заўтра пашкадаваць, калі яны апынуцца зусім у іншых руках: а іх жа магло і не быць, была магчымасць не мець іх супраць сябе!

Адбывалася ўсё апісанае і адбываецца на фоне, я сказаў бы, на грэбні, з глыбіні напіраючай яшчэ адной хвалі — экалагічнай катастрофы, якая нарастае. Калі хуткасці або сілы суміруюцца з сустрэчнай, момант апошняга ўдару (калі падзеі да яго валакуць) скарачаецца адпаведна. І гэта трэба ўлічваць: ваенную пагрозу — калі гаворка аб экалагічнай, і наадварот. І спяшацца (не спазняцца!) удвайне. Будзь вялікая вайна (нават няядзерная), вынік быў бы блізкі да той жа ядзернай катастрофы. Першачарговай мэтай няядзерных удараў сталі б ядзерныя рэактары, АЭС. Многія паклапаціліся ўжо, каб іх было сотні: «Калі б адбыўся выкід толькі 10 працэнтаў радыеактыўных рэчываў з усіх еўрапейскіх АЭС, — піша Леў Сямейка ў часопісе «Новое время» (18/19), — то, па ацэнках некаторых вучоных, на працягу 10–75 гадоў катастрафічныя вынікі гэтага былі б у чатыры разы большыя, чым пры ядзерных выбухах агульнай магутнасцю 2500 мегатон».

Калі да Чарнобыля (вось дзе ваенны атам пераміргнуўся злавесна з «мірным» — як змоўшчыкі) гэта было яшчэ камусьці няўцям, то сёння…

Раскажу яшчэ пра дзве гутаркі з капітанамі атамных падлодак. З амерыканскім і адным савецкім. Джэймс Буш прыехаў у казахскі стэп па тое ж, што і я, — назіраць мірнае знішчэнне, першае (нарэшце-такі!), ракет сярэдняй дальнасці. Высокі, спартыўны, хоць ужо злёгку сівы, падводнік-пацыфіст мае пытанні — націснуў бы ён ці не націснуў, калі не пацыфістам быў, а па-зладзейску хаваўся пад вадою, — успрыняў амаль іранічна:

— Вядома! І не разлічвайце на нешта іншае. Нас да гэтага рыхтавалі, а інакш мы не служылі б у арміі. Больш таго, скажу: калі спісвалі на бераг, некаторыя мае афіцэры выказвалі нешта накшталт шкадавання: эх, не давялося на справе апрабаваць такую моц!

І яшчэ раз націснуў на галоўную думку сваю:

— Не разлічвайце надта на ваенных у гэтай справе. Прыйдзе каманда — і ўсяму канец. Вось таму і прыехаў я сюды, стаў пацыфістам. У ваенных трэба адабраць гэтыя цацкі.

Расказаў я пра гэту сустрэчу яшчэ аднаму капітану, беларусу, сябру маленства, таксама адстаўному:

— Зразумела, прысяга — абавязак ваеннага чалавека. Але ж вам ужо сказана: у ядзерным паядынку перамагчы немагчыма, вы ж не на перамогу працаваць будзеце. Тады на што? Хто большы ўклад унясе ў калектыўнае самазабойства? Як ставіцца задача пры тым, што гэта ўжо сказана?

Ён мне:

— Задача ставіцца свядома вузкая: знішчыць вось такую цэль. Напрыклад, падлодку ворага з ракетамі і боегалоўкамі. Зрэшты пра гэту — цэль — даведваемся ў апошні міг.

— І ні пра што больш не думай? Цэль — плі?!

— Ні пра што больш. Іменна.

— Ну, а калі цэль — цэлы кантынент? Сёння — гэта якраз для аднаго залпа, адной падлодкі.

— Перамагчы ў канкрэтным паядынку. І не зазіраць, што далей. А што яшчэ тут можа быць пры такой вось сітуацыі?

Значыць, выратаванне— думаць аб цэлым, аб усім і не вылучаць для сябе цэль — «ворага». У ядзернай зброі цэль адна — чалавецтва. Усё чалавецтва.

Юрый Каракін некалі (якраз у той час, пра які гаворка ідзе) выкрыкнуў востра, пранізліва: «Не спазніцца!»

Цяпер, калі столькі праблем (акрамя ядзерных і разам з імі) навалілася на нас — экалагічных, сацыяльных і іншых, — хочацца дадаць да гэтага: «Не разгубіцца!» Перад каменяпадам праблем — здаецца, што невырашальных, — не разгубіцца. Не адчаяцца.

## 3. Апакаліпсіс — гэта колькі рэнтген?

Народ наш — беларусы, украінцы, жыхары заходніх рускіх абласцей, таксама паражоных радыенуклідамі, — ужо вымяраюць гістарычны час так: да 26 красавіка 1986 года і пасля. Да Чарнобыля і пасля Чарнобыля. Усё больш усведамляем: Чарнобыль не ззаду, ён наперадзе. Нам жыць і жыць (і паміраць) поруч з ім, дзесяцігоддзі, стагоддзі, нават пасля таго, як усе блокі чарнобыльскага «мільённіка» будуць прыбраныя з вачэй. Цяпер Чарнобыль у глебе, у вадзе, у прадуктах харчавання. Потым ён будзе праяўляць сябе праз гены — на працягу стагоддзяў. Гэта так сур’ёзна для ўкраінцаў, рускіх, якія жывуць на паражоных землях, а для беларусаў — для ўсіх, для цэлай нацыі (у нас паражонае практычна ўсё, а што яшчэ чыстае, заўтра можа загразніцца), што і такія вось ідэі-прапановы гучаць: адсяліць некалькі дзясяткаў тысяч беларусаў далей ад роднай зямлі з тым, каб пасля, праз 100, праз 200 гадоў, іх, здаровы генафонд, вярнуць назад… Пісьменна гэта ці непісьменна па навуцы — не так важна. Але само па сабе страшна, што пра такое мы вымушаны ўжо думаць.

Такія біялагічныя вынікі Чарнобыля, але ёсць і сацыяльныя. І яны будуць нарастаць — у Беларусі, ва Украіне, ды і ў Расіі таксама.

Напрыклад, у красавіку 1990 года ў самых забруджаных раёнах, на Гомельшчыне, прайшлі забастоўкі на буйных заводах (да гэтага былі ў раённых цэнтрах) з патрабаваннем суда над тымі партыйнымі, дзяржаўнымі дзеячамі і «вучонымі» (пайменна), якія абслугоўвалі іх інтарэсы, хто вінаваты ў вялікай хлусні, у злачынным утойванні праўды пра катастрофу і яе вынікі. Вінаватых у сітуацыі, калі над велізарнай масай людзей і над вялікімі тэрыторыямі праводзіцца нейкі бюракратычны эксперымент: а што будзе, калі рабіць усё не тое і не так, як дыктуе здаровы сэнс? Напрыклад, не лакалізаваць тэрмінова небяспечныя зоны радыяцыі, а вырабляць там прадукты харчавання, нарошчваючы гэтую справу, вывозячы іх, «гразныя», каб завозіць «чыстыя». Або: замест таго каб людзей з гэтых зон адсяляць, усе сродкі і рэсурсы кінуць, накіраваць на сізіфаву працу: адмываць ад радыяцыі хаты, платы, дрэвы, называючы гэта «дэзактывацыяй». (2,5 мільярда рублёў затрацілі ў Беларусі ў асноўным на гэта, ды яшчэ на будаўніцтва «культаб’ектаў» і асфальтаваных дарог, вуліц там, дзе жыць нельга, немагчыма і адкуль сёння ўсё роўна вымушаны адсяляць.)



За гэтым абсурдам — што? І хто? Наша цудоўная камандна-бюракратычная сістэма на аснове аднапартыйнасці, калі вырашае некампетэнтнасць і псеўданавуковая самаўпэўненасць догмы, а абгрунтоўвае гэтыя рашэнні ведамасная, пазбаўленая ўсякай маралі навука.

Аднак ці толькі некампетэнтнасць усяму віной? Няўжо ў такой глабальнай хлусні не было карысці? У кагосьці і ў чымсьці.

Што ж на самай справе адбылося, чаму так павялі сябе ўлады, многія вучоныя, атамшчыкі, медыцына, экалагічная служба? Ды сама таталітарная сістэма, ад якой мы пазбаўляемся, але якая сфарміравала гэтых людзей і пэўныя структуры, традыцыі, усё гэта прадвызначыла. Але больш канкрэтна — як усё адбывалася?

У нас у краіне існавала проста-такі эйфарыя ў адносінах да атамнай энергетыкі. Самая чыстая, самая бяспечная і танная! Можна рэактары прама пад сцяной маскоўскага Крамля ўстанаўліваць. (Вось бы ўстанавілі!) Гэта пацвярджалі праектанты рэактараў (акадэмікі Аляксандраў, Даліжаль і інш.), работнікі атамнага міністэрства, будаўнікі АЭС.

А калі ахнула, першая рэакцыя і імкненне ўсіх гэтых людзей і ведамстваў — прыменшыць маштабы бяды, а тым самым і ўласную віну. Як не імкнуцца прыменшыць пагрозу здароўю людзей кіраўнікам Міністэрства аховы здароўя, калі яны не мелі, не падрыхтавалі дастаткова спецыялістаў? А тыя ведамствы і начальнікі, якія пакінулі краіну без дазіметраў, вымяральнікаў чысціні прадуктаў харчавання, і гэта адразу выявілася?..

Усе яны — ад галоўатама да Інстытута радыефізікі і Міністэрства аховы здароўя — кінуліся не вывучаць абстаноўку, а закрываць яе заслонаю сакрэтнасці. Каб віна іх перад народам, краінай не была такой вялікаю.

А ў выніку гэтая віна падвоілася, бо тры гады людзей угаворвалі жыць там, дзе жыць нельга, харчавацца тым, што нельга выкарыстоўваць у ежу, удыхаць атручаны пыл, — вось чаму сёння ніхто не верыць ні гэтым кіраўнікам, ні гэтым вучоным або медыкам. І радыефобія тут ні пры чым (яны ўсё на яе звальваюць). Навідавоку злачынства перад уласным народам.

Цікава, што паслухмяная ведамствам навука, людзі і ўлады, якія губляюць давер у свайго народа, усё часцей апелююць да аўтарытэту міжнароднай навукі. Але не да незалежных вучоных, а да такіх жа самых лабістаў атамнай энергетыкі, як і яны самі (з МАГАТЭ, з Сусветнай арганізацыі здароўя).

Але грамадскасць (у прыватнасці, Сахараўскі камітэт, створаны ўдавой акадэміка Аленай Бонэр) самастойна ўстанаўлівае

сувязі з незалежнай навукай, незалежнымі вучонымі іншых краін — у інтарэсах усяго чалавецтва. Чарнобыль — гэта не наша толькі катастрофа. Гэта планетарная бяда. І пераадольваць яе вынікі (наколькі гэта магчыма) даводзіцца агульнымі намаганнямі.

На другім пасяджэнні Маскоўскага міжнароднага энергетычнага клуба, якое праходзіла ў Бохуме (Заходняя Германія), я, хоць і не спецыяліст, прапанаваў вярнуцца да амерыканскага «плана Баруха», але прымяняльна да «мірнага» атама. Гэта значыць увесці самы строгі міжнародны кантроль за ўстаноўкай і эксплуатацыяй АЭС. І, можа быць, прыняць ідэю А. Д. Сахарава аб выключна падземных АЭС. Ва ўсякім выпадку, прыбраць з планеты ўсе патэнцыяльныя Чарнобылі, дапамагаючы ў гэтай справе адзін аднаму.

Вывады напрошваюцца самыя сур'ёзныя, калі зыходзіць з горкага вопыту самай буйной (як сказана ў пастанове Вярхоўнага Савета СССР па Чарнобылю) катастрофы XX стагоддзя. Напрошваецца некалькі варыянтаў вырашэння праблемы атамнай энергетыкі ў сусветным маштабе.

1. Поўнае адмаўленне ад «мірнага» атама, які не аказаўся ні мірным, ні надзейным у энергетыцы.

2. Схаваць усе АЭС пад зямлю, будаваць толькі ў скальным грунце, а тыя, што цяпер існуюць ва ўсім свеце «на паверхні», зачыніць.

3. Самы строгі кантроль, міжнародны, над атамнай энергетыкай — на ўсіх этапах: ад праектавання да эксплуатацыі, падрыхтоўкі абслугоўвага персаналу і г. д.

Разгледзім варыянт апошні, трэці. Так, нешта накшталт новага «плана Баруха». (Хоць думаецца, што не закрыта канчаткова пытанне і аб калектыўным уладанні, праз ААН, атамнай зброяй, якая застаецца пасля ўсіх скарачэнняў.)

Вось некаторыя аспекты гэтага магчымага пагаднення па атамнай энергетыцы:

а) распрацоўка, канструяванне, стварэнне агульнымі намаганнямі аптымальнага бяспечнага рэактара і абавязацельства краін не выкарыстоўваць іншыя, якія горшыя, ніжэй па ўзроўні бяспекі;

б) калектыўная дапамога тым, хто вымушаны будзе пазбаўляцца ад устарэлых тыпаў рэактараў, АЭС;

в) падтрымка ідэі падземнага будаўніцтва АЭС, якое, зрэшты, мае свае, ужо выяўленыя, праблемы;



г) абавязацельства поўнай кампенсацыі насельніцтву ўсіх страт, калі нехта пацерпіць ад атамнай энергетыкі (каб не паўтаралася недапушчальнае, тое, што і цяпер працягваецца на тэрыторыях, абяздоленых Чарнобылем).

*1990*

## …НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ — ГЭТА ТАЯ МАРА, ЯКОЙ МНОГІЯ ЖЫВУЦЬ, АЛЕ ДА ЯКОЙ ЯШЧЭ ДАЛЁКА…»

*Гутарка з карэспандэнтам Беларускага радыё Леанідам Свірыдавым.*

**Кар**.: — *Алесь Міхайлавіч, мне хацелася б павіншаваць Вас з тым, што Беларусь ужо стала незалежнай суверэннай дзяржавай. Быў нададзены статус Канстытуцыйнага Закона Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце. Вашы думкі: ці зможам мы стаць сапраўды незалежнай суверэннай дзяржавай у той сітуацыі, у тым становішчы, у якім апынулася зараз Беларусь?*

**Адамовіч**: — Мой дзед заўсёды любіў гаварыць: не кажы гоп, пакуль не пераскочыў. Таму ваша фармуліроўка, што мы сталі незалежнай дзяржавай, — гэта тая мара, тая думка, якой многія жывуць, але да якой яшчэ далёка. Незалежная дзяржава — гэта незалежная самастойная эканоміка, гэта свае формы жыцця, дэмакратыі. А інакш я і не мыслю незалежнасці. Тое, што атрымалі грузіны, таксама ў эйфарыі незалежнасці — гэта, бачыце, ім самім мала радасці дало. Хоць яны 87 працэнтаў галасавалі за Гамсахурдзія[1]. Гэта не значыць, што не трэба было гэты акт рабіць, калі такая нагода здалася. Вядома, карыстайся, пакуль… Кажуць, «куй жалеза, пакуль Гарбачоў». Пакуль Ельцын ці пакуль барыкады. Так што ўсё гэта зразумела. Але тут жа трэба спыніцца, азірнуцца: а што ў суседзяў робіцца? Якія таксама гэтым шляхам пайшлі? Я чуў, што ў Таджыкістане свой путч адбыўся, знайшлі там нейкага старога Слюнькова ці Сакалова, прыцягнулі яго на партыйны трон (свайго Слюнькова) і кажуць: усё, хопіць з нас гэтай самастойнасці, гэтай дэмакратыі, будзем жыць, як жылі 75 гадоў. Таму трэба, абвясціўшы гэтую незалежнасць, паглядзець: а на самой справе ці маем мы яе?

**Кар**.: — *І ўсё ж, апошняя нечарговая сесія выбрала новага Старшыню — Станіслава Шушкевіча, мы сталі называцца*

*Рэспублікай Беларусь, у нас ужо новы дзяржаўны герб «Пагоня», новы дзяржаўны сцяг — бел-чырвона-белы…*

**Адамовіч**: — Тое, што ёсць, што атрымалі — атрыбутыка і назва — гэта добра. І што мяне яшчэ парадавала: калі Казахстан, Украіна і нейкія прэтэндэнты на першую ролю раптам «захварэлі» зудам ядзернай моцы, мяне вельмі парадавала тое, што Народны Фронт, нашы дэмакраты зусім іншую пазіцыю маюць. Думаю, што гэта вельмі правільна і ўздымае аўтарытэт Беларусі. Таму што блізкая выгада, за якой гоняцца ў Казахстане ці Украіне, павернецца потым трагедыяй, такой дыскрэдытацыяй народа і самой Рэспублікі, што будзе вельмі крыўдна. А нашы хлопцы заявілі, што Беларусі не трэба ядзерная зброя, але яны прапануюць — а я, дарэчы, гэта таксама прапанаваў на сесіі Вярхоўнага Савета і ў пісьме да Ельцына, — каб ядзерную зброю не везлі некуды за Урал. Гэта стварае нейкую незразумелую сітуацыю: вам не трэба, а нам трэба. Не. Усё гэта павінна знішчацца ў рамках міжнародных узгадненняў, а можа, і без усялякіх дагавораў. І чалавецтва праславіць тую краіну, якая знішчыць гэтую гадзіну ў сябе. Мы яе самі не ставілі, мы яе не хацелі, і нам яна не патрэбна, гэтая ядзерная смерць. Так што мяне вельмі ўсцешыла, узрадавала, што нашы хлопцы так вельмі разумна робяць і разважаюць.

А гэта выклікае давер да іх дзеянняў і ва ўсім астатнім. Таму што для мяне гэта наогул лакмусавая паперка: тут Назарбаеў правяраецца, і Краўчук[2]. І хто заўгодна. Я думаю, што фізік Шушкевіч лепш за нас разумее праблемы ядзернай зброі. І спадзяюся, што ён менавіта так будзе глядзець, як глядзіць і Народны Фронт. Калі гэта так, то я яму дарую нейкія рэчы, якія я яму ўчора яшчэ не дараваў: нейкую незразумелую пазіцыю з рабочым рухам. Гэта не я адзін — гэта ўсім не спадабалася. Думаю, што ён і сам разумее — нешта не так ён гаварыў і рабіў. Не будзем зласлівымі, злапамятнымі. Калі чалавек будзе весці ўзважаную палітыку на ўзроўні самастойнай дзяржавы — спадзяюся, ён будзе весці яе — тады будзем і адносіцца да яго так, як ён гэтага будзе заслугоўваць.

Я ведаў яго бацьку — Станіслава Шушкевіча, добрага паэта, чалавека, які 25 гадоў быў у Сібіры. Ён у нас Шушкевіч-фізік. Не драматург. Не Вацлаў Гавел. Але ён — Шушкевіч. Сын паэта! Тут нейкая аналогія нават ёсць з Гавелам, сувязь. І таму дай Бог табе, Станіслаў, аказацца на ўзроўні свайго бацькі, яго лёсу і таго даверу, які ты атрымаў!



Ён чалавек дастаткова разумны і самакрытычны.

Я правяраю зараз усіх іх праз статус бяз'ядзернай дзяржавы. Калі тут чалавек разумна сябе вядзе, тады я магу давяраць яму і ў астатнім. Тут узнікае такая дробязная палітыка! Ім здаецца: а, вось у Расіі ёсць, хай будзе ў Казахстана, хай будзе ва Украіне — і так далей. Не разумеючы, якія страсці і жахлівыя сітуацыі могуць узнікнуць. Бо калі ў Расіі ёсць гэта, — гэта праблема Амерыкі… Я ўпэўнены, што да 2000 года стратэгічная зброя будзе знішчана. А калі ў Казахстане і ва Украіне будуць свае прэтэнзіі, то ніколі мы не выцерабімся з гэтай страшэннай сітуацыі. І наогул, мы ў нечым перастанем людзьмі быць. Калісьці Альберт Швейцар[3] верна сказаў, што справа не ў тым, каб прымяніць ядзерную зброю і ад гэтага перастаць быць людзьмі. Варта толькі падумаць, што ты яе прыменіш, варта толькі прымерыцца, што ты яе выкарыстаеш (нават і не думаючы выкарыстоўваць), але прымерыцца! Тады ты ўжо нават не чалавек…

**Кар**.: *— Алесь Міхайлавіч, на вашу думку, якія зараз будуць адносіны паміж Расіяй і Беларуссю?*

**Адамовіч**: — Калісьці тут выступаючы перад маскоўскімі беларусамі, я такую думку развіваў, што да беларусаў усе добра адносяцца. Але давайце не будзем лічыць, што мы сапраўды ўсе добрыя такія беларусы, такія ў нас якасці нацыянальныя душэўныя, што нас павінны любіць. Можа, нас часам любяць, што мы заўсёды былі слабыя і нікому не наступалі асабліва на мазоль? І нікому не было пагрозы з нашага боку? Людзі з глыбінкі расійскай, якія ў палітыку не вельмі ўнікаюць, але хто быў у Беларусі ці жыў побач з беларусамі (сапраўды, «куды не трапяць беларусы!», як казаў Якуб Колас), яны адзначаюць душэўныя добрыя якасці самога беларуса. Хоць і ўсякіх сярод нас хапае, мы гэта ведаем лепш за ўсіх. Дык вось, калі мне гавораць, з кім мне мець справу, а з кім не мець…У нас ёсць такія крайнасці, калі гавораць: «А з рускімі, нават з дэмакратамі, мы справы не хочам мець!» Будзем мець з палякамі, з літоўцамі, з балтамі, з украінцамі, а ад рускіх нам лепш далей трымацца, бо вунь якая гісторыя была ў нас з імі». Але такая гісторыя была ў нас з усімі. Трэба заглядваць недзе глыбей. Я калісьці з адным разумным хлопцам з Беларусі на гэту тэму гаварыў і выказваў такую думку — я яе трымаюся — тая масавая народная расійская пазіцыя (не бяру афіцыйную — маскоўскую, крамлёўскую — а проста ў народзе рускім), тая прыязнасць да беларуса вельмі дорага

каштуе, і яна і можа вызначаць нашы будучыя ўзаемаадносіны. Не палітыканства, якое можа ісці з Крамля ці з другога дома, не часовыя палітычныя і геапалітычныя меркаванні, мэты — не гэта! А сімпатыі і нават замілаванасць да беларуса, якая ёсць у рускім народзе, якая і будзе тым грунтам, той асновай нашых узаемаадносін далейшых на многа дзесяцігоддзяў і вякоў.

**Кар**.: — *Алесь Міхайлавіч, як вы ставіцеся да ўвядзення пасады Прэзідэнта Беларусі? Ведаеце, я ў Мінску чуў нават такую размову: «А было б добра, каб Прэзідэнтам Беларусі стаў Адамовіч!»*

**Адамовіч** (смяецца): — Я вам скажу, грузіны, якія так рваліся да таго, каб у іх была прэзідэнцкая пасада, сёння патрабуюць (і інтэлігенцыя, і дэмакраты — усе) гэтую пасаду скасаваць. Яны аказаліся не гатовыя да той сітуацыі, калі можна перадаваць аднаму чалавеку такую моцную ўладу. Тым больш, што чалавек гэты можа аказацца маленькім Сталіным, вялікім параноікам, хоць кім. Мы такога ўжо бачылі нямала. Дык вось, у Беларусі зноў паўстае пытанне, хто дарвецца да гэтай пасады.

Пра Адамовіча — гэта не сур'ёзна.

**Кар**.: — *Чаму?*

**Адамовіч**: — Я прапанаваў бы Васілю Быкаву стаць нашым Вацлавам Гавелам. А паколькі Васіль Быкаў на гэта не згодзіцца, мы не атрымаем гарантавана чалавека, які ніколі не дазволіць сабе быць тым, чым стаў Гамсахурдзія. А тым больш, што тыя, хто ірвецца да высокай пасады, — усім зразумела, з якога дома туды рвуцца. Таму, я думаю, не час нам дабівацца прэзідэнцкай пасады. Нам патрэбны моцны Вярхоўны Савет, які б адлюстраваў сацыяльна-палітычную сітуацыю ў Беларусі. Таму патрэбны свабодныя новыя выбары, якія далі б нам новы заканадаўчы орган. Сапраўды аўтарытэтны, мабільны, дынамічны, здольны на адказныя хады, рашэнні і ўчынкі. А вось калі ўзнікне такі Вярхоўны Савет і калі мы трохі агледзімся і на справе пазбавім манапольныя сілы ўлады… Не думайце, што яны такія рахманыя, паслухмяныя і добранькія. Мы ведаем, як яны могуць заявіць аб сабе. І заявяць! Калі толькі ўзнікне сітуацыя. Вось калі пазбавімся іх манапольнай моцы, тады можна будзе забыць пра сваіх пісьменнікаў — і правільна. Ёсць дастойныя, вартыя людзі сярод моладзі, у Народным Фронце. Тады і паспрабаваць іх выбіраць.



**Кар**.: — *Алесь Міхайлавіч, я месяцы тры таму размаўляў са Святланай Алексіевіч, і яна тады сказала: «Я не знаю, что может остановить Адамовича, Быкова, Афанасьева[4], что может заставить их сдаться. Разве что собрать можно всех в одну прекрасную ночь на одном стадионе». І мы атрымалі праз тры месяцы ў жніўні такую сітуацыю. 250 тысяч наручнікаў рыхтаваліся для жыхароў Масквы. Ці можа такое паўтарыцца ў нашай рэспубліцы?*

**Адамовіч**: — Мне здалёк не вельмі бачна, і не надта я ведаю падрабязнасці. Але я ведаю, што беларускае кіраўніцтва выступала за надзвычайнае становішча. І ведаю, як падтрымалі яны гэтую афёру, ведаю, як яны неахвотна ад гэтага адступалі і адступаюць. Ці рашацца яны на гэта? Будзе залежаць, як калісьці марксісты казалі, ад суадносін сіл, ад эканамічнага становішча, ад паводзін дэмакратыі, ад таго (і для мяне гэта здаецца самым важным), ці ёсць у нас выдатныя кіраўнікі Народнага Фронту, выдатныя хлопцы, гатовыя ісці на касцёр. Тое, што казала Алексіевіч, — гэта і іх датычыцца. Але ёсць адзін вялікі недахоп у дзейнасці БНФ. Сам фронт недастаткова шырокі. Ён недастаткова захапіў у сваю арбіту тых, хто мог быць саюзнікам. Гэта шырокую інтэлігенцыю, дэмакратыю ў ліберальным, хай неактыўным значэнні, вясковую, мясцовую інтэлігенцыю, нават рабочых. Мне здаецца, каб тое не адбылося, пра што вы гаворыце, трэба каб БНФ, беларускія дэмакраты і радыкалы, працягваючы барацьбу ў сценах дома на плошчы Леніна, каб яны ўмелі знаходзіць агульную мову з усімі, хто мог бы стаць саюзнікам. Гэта вельмі важна.

Гэту работу трэба праводзіць абавязкова ў Беларусі, каб заўтра нехта даў каманду, а каманда павісла ў паветры, як павісла ў Маскве!

**Кар**.: — *Вярхоўны Савет прыняў у першым чытанні праект Закона аб грамадзянстве. Там ёсць пункт, які дапускае двайное грамадзянства. Вы будзеце грамадзянінам Беларусі?*

**Адамовіч**: — Я і буду, і застаюся грамадзянінам Беларусі. Я член Саюза пісьменнікаў беларускай арганізацыі. І наогул для мяне гэта ніякае не пытанне і не праблема. Для мяне нават двайное грамадзянства і не трэба. А ў прынцыпе, я лічу, што гэта правільна. Беларусь павінна паказаць прыклад ( і яна здольна паказаць, гэта ў натуры народа, у яго гісторыі закладзена), паказаць сапраўдную талерантнасць, цярпімасць, шырыню і гуманнасць адносін да ўсіх. Тады мы будзем мець сапраўды са-

мастойную дзяржаву, якая можа мець права не толькі юрыдычнае і прававое, але і маральнае права на такую самастойнасць і на павагу ўсіх суседзяў. Хаця для мяне хопіць і аднаго беларускага грамадзянства…

*Падрыхтавала да друку Т. Мельнічук*

*Верасень 1991 г.*

## НАШ ВЕК ДАКАЗАЎ БЯССІЛЛЕ ЎСЯКАЙ СІЛЫ

*Гутарка з журналістам Аляксандрам Лукашуком 8 снежня 1994 года ў Маскоўскім інстытуце праблем кінамастацтва*[1]

*— Алесь Міхайлавіч, калі Вы апошні раз былі ў Беларусі?*

— У Беларусі я быў даўно, таму што амаль цэлы год я быў у бальніцы, як гэта ні сумна. Праўда, з гэтай бальніцы я вынес аповесць[2]. І там ёсць раздзел «З-пад кропельніцы». Тут ніякай паралелі, але нейкая горкая іронія ёсць з кнігай «Из-под глыб». Аповесць я адправіў у Беларусь, а сам амаль што цэлы год хварэў, толькі нядаўна выйшаў на працу.

*— Аповесць «Віксі» з'явілася ў «Полымі». Магчыма, гэта Ваша самая асабіста трагічная рэч… Вы прысутнічалі сёлета ў Беларусі яшчэ і ў часопісе «Беларусь», дзе друкаваліся Вашы апавяданні. На якой мове Вы пісалі свае апошнія творы?*

— Я лічу сябе рускім і беларускім пісьменнікам. Каб быць такім упэўнена беларускім празаікам, трэба быць чалавекам з вёскі. Наша мова цалкам з вёскі, а тая мова, якую мы мелі ў Мінску, ва ўніверсітэце і ў маёй Глушы, дзе быў нейкі валапюк польска-руска-беларускі, стварала і стварае ў мяне пэўную няўпэўненасць у сэнсе моўнага багацця. Я, як чалавек, які дзвюма рукамі трымаецца за парэнчы, трымаюся і за рускую мову, і за беларускую. Яно так і працягваецца: і на рускай мове пішу, і на беларускай.

Жывучы ў Беларусі, я часцей друкаваўся ў Маскве. Мы знаходзіліся ў такіх умовах, калі лічылася, калі ты на беларускай мове напісаў, то ў Маскве не мог друкавацца раней, чым ў Беларусі. Каб толькі я паказаў «Карнікаў» на беларускай мове ці падаў на беларускай мове ў Беларусі, мне б іх тады, канечне, пахавалі, загубілі, і я наогул не змог бы выйсці ў друк. І гэта таксама дыктавала моўную двааякасць. А цяпер, калі я і па



неабходнасці і ўсякіх іншых прычынах жыву ў Маскве больш, чым у Мінску, я гэтым не звязаны і я з вялікай ахвотай пішу пабеларуску. «Беларусь» узяла маю аповесць «Нямко», «Полымя» ўзяло «Віксі». І ў «Полымі» на беларускай мове раней выйшла, чым у «Дружбе народаў».

*— У аповесці «Віксі» Вы многа гаворыце, узгадваеце, разважаеце пра сваю маці. Такія адносіны чалавека Вашага веку да маці не зусім звычайныя. Чаму гэта для Вас важна сёння?*

— Ну, мабыць, пачуццё віны, якое ў нас узнікае ў канцы жыцця да тых, каму штосьці ты не сказаў, недадаў, не змог выказаць, не змог аддзячыць па-сапраўднаму. Для кожнага маці ёсць маці, а мая для мяне — у самой аповесці адчуваецца, што яна была за чалавек. А галоўнае, што я раптам адчуў ужо пасля 60 гадоў, — толькі я цяпер пачаў разумець сваю маці.

Калі я пісаў «Вайну пад стрэхамі», «Сыны ідуць у бой», мая ўвага неяк спынялася вось на чым. Маці была падпольшчыцай, партызанкай, і я ні разу — я гэта толькі цяпер зразумеў — ні разу не адчуў яе нянавісць да тых, з кім яна змагалася. Змагалася, як мільёны людзей, як сотні тысяч у Беларусі. Прыйшлі немцы, побач нейкія людзі, якія пагражаюць табе і тваёй сям'і знішчэннем. І мы, я памятаю, гэтым пачуццём толькі і жылі.

І я раптам адчуў і цяпер зразумеў, успамінаючы самыя крутыя моманты нашай ваеннай адысеі: усё, што яна рабіла, — а рабіла яна рэчы, якія для яе і сям'і ўяўлялі пагрозу велізарную, — усё гэта не заключала ніякага пачуцця нянавісці.

*— Што такое нянавісць да чалавека?*

— Нянавісць — гэта перш за ўсё несправядлівасць. Як толькі ты чалавека пачынаеш ненавідзець, ты яму адмаўляеш ва ўсіх тых якасцях, якія лічыш уласцівымі сабе і тым, хто побач з табой. Ворагі — гэта тыя людзі, якіх ты ненавідзіш і тым самым адмаўляеш ва ўсіх чалавечых якасцях, што ўласцівы табе. І мы так жылі, так змагаліся. Калі я пісаў свае першыя кнігі, я ў нашых ворагах — паліцаях, немцах, бургамістрах, уласаўцах не бачыў тых чалавечых якасцей, што прызнаваў у сабе.

А маці — гэта, відаць, народнае такое пачуццё, не ёй адной уласцівае, гэта якраз народу ўласцівае, жанчынам нашым, сялянкам, — яна не адмаўляла ім у гэтым. Так, яны на тым баку, яны нашы ворагі, яны страшныя для нас людзі, яны нас знішчыць хочуць, а мы іх — але вось гэтай нянавісці не было. Чаму гэта для мяне так важна? Вы памятаеце наша літаратурнае жыццё ў

Мінску і тут, — у якім д'ябальскім катле, чыгуне варыліся мы ва ўзаемнай нянавісці на нашых ужо літаратурных апанентаў, літаратурных праціўнікаў!.. У мяне ў «Віксі» ёсць адна рэальная дэталь. Я аднойчы садзіўся ў тралейбус у Мінску, людзей нямнога было, і раптам я адчуў, хтосьці мяне запіхвае ў гэты тралейбус з не проста незвычайнай сілай, а з сілай нянавісці. Я ўпершыню адчуў нянавісць як нешта фізічнае. Я азірнуўся і ўбачыў усяго толькі пісьменніка. І тады мне стала страшна. Не таго, што ён мне нешта зробіць, а — у што мы ператварыліся? Што нас так развяло, што ён мяне так ненавідзіць? І, мабыць, у мяне нейкія пачуцці да яго такія нялюдскія… І цяпер, калі гэты чалавек даўно памёр, памром і мы хутка, цяпер думаеш: пастой-пастой, вось калі мы сустрэнемся Там, цікава, мы і туды перанясем нашы літаратурныя, палітычныя і іншыя пачуцці? І вось тут я ўспамінаю сваю маці, якая нават у самыя страшныя, 42–43 гады, удзельнічаючы ў супраціўленні, на гэту хваробу не хварэла. Для мяне яна ў гэтым сэнсе не проста маці. Гэта такі маральны ўрок, які цяпер мне асабліва патрэбны.

*— Алесь Міхайлавіч, калі меркаваць па страснасці, мне здаецца, Ваш пацыфізм быў прадыктаваны не адной любоўю…*

— Калі Вы пра гэта загаварылі, я не магу не пачаць вось з чаго. Я вельмі ганаруся маёй Беларуссю, што яна адмовілася ад ядзернай зброі і паказала прыклад усім дзяржавам, маючы на ўвазе і Расію, і Украіну, і Казахстан, і іншыя, якія сёння шукаюць гэтую згубу на сябе і на іншых. Беларусь аказалася адзінай краінай, адзіным народам, які меў гэтую зброю і меў магчымасць прытрымаць яе, патрымаць у руках, пагуляць гэтай страшэннай рэччу, — і адмовіўся.

Я не думаю, што гэта погляд усіх палітыкаў нашых, не думаю, што гэта погляд палітыкаў і справа, і злева, і радыкальных, і дэмакратаў. У мяне былі спрэчкі, нават з людзьмі блізкіх мне поглядаў, якія гаварылі так: «Хай хоць заплацяць нам!» І тым не менш Беларусь робіць вельмі шчыра, адмаўляючыся ад гэтай згубы, якая, вядома, для ўсіх згуба, для ўсяго свету і для нашай краіны. І думаю, што гэта ідзе ад — у нас вельмі любяць слова менталітэт — ад беларускага, народнага. І не толькі ад чарнобыльскай памяці, але нешта ёсць у нас — ці было? Можа, мы і страцім гэта, што праявілася так выдатна…

Калі я думаю пра рэакцыю людзей на ўсё, што сёння адбываецца і ў Расіі, і ў Беларусі, і ва Украіне, у былым Савецкім



Саюзе, — я думаю, можна пашкадаваць, што не ўсе ў свой час па-сапраўднаму спалохаліся гэтай зброі. Не ўсе па-сапраўднаму зразумелі тую пагрозу, якая была вельмі рэальная. Не ўсе таму і разумеюць, ад чаго мы выратаваліся, ад чаго адышлі. Калі б гэта ўсе мелі на ўвазе, памяталі, я думаю, не было б вось гэтага лямантy, стогну, плачу: «Вось развалілі ўсё, усё разбурылі, стала горш, чым было, і невядома, як з гэтага выйсці, і трэба вяртацца назад!», і г. д. і г. д. Калі паглядзець на 10, 15, 20 гадоў наперад, а ўжо калі на сто, дзвесце, трыста, пяцьсот, дык тым больш гэты развал — гэта было выратаванне. Інакш выратавацца не толькі мы, а ўвесь свет не мог.

Гэтая сістэма гатова была знішчыць усіх, каб толькі пражыць яшчэ, праіснаваць. Мы цяпер ведаем, якія рыхтаваліся бункеры пад Масквой на дзясяткі кіламетраў, другі горад для дзясяткаў тысяч наменклатуры. Яны гатовы былі там як пацукі жыць пяць, дзесяць, трыццаць гадоў, падставіўшы і сваю краіну, і свой народ пад ядзерны ўдар, толькі б існаваць у той якасці, у якой яны існавалі. Я калісьці вельмі пакрыўдзіў Івана Іванавіча Антановіча[3], ён там у Мінску цяпер, ён быў вялікі чалавек у Маскве…

*— Ён і цяпер, Алесь Міхайлавіч, «вялікі». Калі ў Мінск заязджаў дзяржсакратар ЗША Уорэн Крыстафер, дык Кебіч размаўляў з ім і побач сядзеў Антановіч. Так што чалавек як быў «вялікім», так і застаўся…*

— Я і кажу, тут ён быў пры Палазкове[4] «вялікі», там ён пры Кебічу — гэта значыць, што чалавек гэты яшчэ патрэбны. Значыць, мала што змянілася.

*— Ведаеце, па тэлебачанні паказалі яго побач з прэм'ерам, а на фотаздымку ў газеце зарэтушавалі, не было.*

— Гэта ўжо цікава. Я яго вельмі пакрыўдзіў калісьці, успомніўшы ў «Литературной газете» пра тое, як ён паклікаў мяне ў ЦК, а потым мы сустрэліся з ім, калі прыязджала рэдакцыя часопіса «Музыкальная жизнь», ён палічыў патрэбным гэта другі раз мне паўтарыць, што вось я, як пацыфіст, дрэнна вельмі разумею, як трэба на ўсё глядзець. І, ведаеце, з такімі светлымі вачыма мне сказаў: «Ну што ж, загінуць усе, але калі застанецца нават дзесяць чалавек, галоўнае, каб яны засталіся савецкімі людзьмі».

Іван Іванавіч потым казаў, што ён такога ніколі не гаварыў, ну і даказаць я гэтага не магу. Я магу толькі ў яго апраўданне

сказаць, што гэта не яго была думка. Я думаю, што гэта была тая ваенная дактрына, якая на ўзроўні маскоўскага ЦК, мінскага ЦК, на ўзроўні розных ваенных будынкаў існавала ў нашай краіне. Ну як можна было, маючы на ўвазе, што перамогі ў вайне не можа быць, як выхоўваць народ у адданасці сістэме, якая гатова з ядзернай зброяй абараняць сваё існаванне? Толькі так можна было: вайна загубіць усіх, але самае галоўнае, каб людзі, якія пад руінамі застануцца, былі савецкімі людзьмі.

Ну вось рухнула сістэма, руіны камунізму ляжаць, прыдушылі рускі народ, беларускі народ, украінскі і іншыя народы. І вось клопат ва ўсіх нашых учарашніх кіраўнікоў, каб людзі пад гэтымі руінамі заставаліся савецкімі людзьмі. Вельмі парадаксальна, што так яно і адбываецца. Вельмі многія, адчуваючы на сабе гэтыя руіны, калі цяжар каменя ўчарашняга камунізму не дае падняцца, не разумеюць, што іх душыць. Ім здаецца, што іх душыць нешта новае. Ды нішто новае іх не душыць! Ніякая дэмакратыя іх не душыць. Іх душыць усё той жа сацыялізм! Усё той жа камунізм, усё тая ж наменклатура. Гэтыя руіны і прыдушылі. І Іван Іванавіч аказаўся прарокам: яны ўсё ж выхавалі мільёны людзей у тым духу, што многія і пад руінамі камунізму застаюцца тымі ж савецкімі людзьмі. І гэта вялікае няшчасце. Рэформы ідуць цяжка і ў Расіі, і ва Украіне, а ў Беларусі амаль не ідуць. І не толькі таму, што кіраўнікі засталіся ранейшымі. Я думаю, і самі мы пад гэтымі руінамі сацыялізму ўсё яшчэ застаёмся ўчарашнімі савецкімі людзьмі.

*— Алесь Міхайлавіч, памятаеце, прыязджала першы раз у Маскву «жалезная лэдзі», Маргарэт Тэтчэр, і была такая паказальная тэлеперадача, калі супраць яе выставілі трох баявых савецкіх публіцыстаў. Спрэчка ішла пра атамную бомбу, і Тэтчэр сказала, што толькі дзякуючы ядзернай зброі Еўропа не ведала вайны апошнія амаль пяцьдзясят гадоў, Наколькі, Вы думаеце, сіла важная для захавання міру і перамогі дабра?*

— Ведаеце, здаецца, праўда на баку Тэтчэр, таму што так і атрымалася. Яны патрымалі ядзерную бомбу, не спалохаліся пагрозы з Усходу — у нас былі страшэнныя ракеты па дзесяць, па сотні мегатон, адна такая ракета магла знішчыць Англію разам з Тэтчэр і ўсімі астравамі. Быццам бы праўда на іх баку, і тады можна сказаць, што і Антановіч па-свойму справядліва разважаў, і Брэжнеў, і ўсе тыя, што на бомбе будавалі сваю палітыку. Але гэта толькі таму, што — не ведаю, што выратавала чалавецтва і людзей. Магло б быць зусім па-іншаму, мы б з Вамі тут не разважалі, не сядзелі б тут, і не было б памяці ні пра Тэтчэр, ні пра каго.



Гэта не толькі на ўзроўні Тэтчэр. Калі Андрэй Дзмітрыевіч Сахараў прыехаў з Горкага, мне так пашчасціла з Уладзімірам Сінельнікавым[5] быць у яго. Сахараў не Тэтчэр і не хто-небудзь іншы. І з Сахаравым я тады павёў сябе як непапраўны пацыфіст. Я стаў пытаць: Андрэй Дзмітрыевіч, скажыце, у Вас жыве комплекс Апенгеймера[6]? Вы адчуваеце віну за тое, што ў гісторыі будзеце бацькам вадароднай бомбы? Ён сказаў: па-першае, не я адзін, калектыў рабіў, але гэта было патрэбна, — і тая ж логіка, што ў Тэтчэр. Я другі раз зайшоў з гэтай размовай, з іншага боку. Андрэй Дзмітрыевіч кажа: не. Я гавару: вось Вы сталі праваабаронцам, сталі канфліктаваць з Хрушчовым, з нашай сістэмай, патрабаваць адкрытага грамадства, адным словам, спалохаліся, што не ў тыя рукі аддалі гэтую страшную зброю. Ён — стаіць на сваім усё роўна. І тады я сказаў: Андрэй Дзмітрыевіч, давайце цяпер уявім, усё-такі ўсё ўзарвалася і мы ляцім, мой попел ляціць і Ваш побач. І мой попел у Вашага пытае: Андрэй Дзмітрыевіч, і цяпер Вы скажаце, што мелі рацыю і што правільна, трэба было гэтую гадзіну рабіць дзеля таго, каб зберагчы мір? Ён сказаў: пра тое я яшчэ не ведаю, бо яшчэ не адчуў.

Потым, калі я чытаў яго ўспаміны і іншае, я ўсё-такі зразумеў, што гэты комплекс Апенгеймера ў ім жыў, быў. Тое, што ён стаў сапраўды гераічным, змагаром, адзін супраць усёй сістэмы, усё ж ішло ад таго, што ён адчуваў адказнасць за тое, што зрабіў.

Мы ўсе лаем КДБ, НКУС, ДПУ, і ўсё правільна, але адзінае, за што можна іх пахваліць, што яны падслухоўвалі вялікіх людзей і нейкія дакументы засталіся. Вось яны падслухалі калісьці гаворку акадэміка Ландау. Ён у 56-м годзе ўжо гаварыў, што ці сістэма наша сацыялістычная мірна сыдзе з гістарычнай арэны, ці будзе абавязкова атамная вайна. І ніхто, ні Ландау, ні Сахараў, ні Салжаніцын не верылі ўсур'ёз, што яна можа мірна сысці з гістарычнай арэны. Так адбылося — гэта вялікае шчасце, вялікая ўдача, і таму той развал, аб якім столькі льюць слёзы — проста плата за тое, што чалавецтва выратавалася. Ну, а калі ўжо выратавалася, можам цяпер гаварыць: правільна, так і павінна было быць, затое мы выратаваліся. Не, не таму, што бомба была, мы выратаваліся. Не ведаю, хто нас выратаваў, Бог ці закон нейкі захавання ўсяго жывога, але не бомба нас выратавала.

Вы гаворыце — сіла. Сіла або бяссілле? Жывучы тут, у Маскве, я бачыў, як бяссілле ўлады правакуе ўладу фашысцкую, ула-

ду рэакцыйна-шавіністычную, уладу тых, хто можа нас адкінуць у страшэнную прорву ГУЛАГа і Асвенціма. Але ёсць рознае разуменне сілы і бяссілля. Сіла закона, сіла маральнага аўтарытэту, сіла сапраўды сумленнай палітыкі, сумленных, а не карыслівых мэтаў, і г. д. А калі сіла эгаізму сацыяльнага, нацыянальнага, класавага, якога заўгодна, то гэта сіла разбуральная. Наш век даказаў бяссілле ўсякай улады. Колькі спрабавалі вялікія сістэмы — наша і тая сістэма — вырашыць сілай маленькія праблемы, не глабальныя нават, на нейкім вузкім участачку. Давайце ў Карэі паспрабуем сілай, давайце ў В’етнаме, давайце ў Афганістане, у Венгрыі, яшчэ недзе… І аказвалася, што перамагчы адна адну сістэмы, у якіх вялізныя сілы, якіх ніколі не было на зямлі, не могуць. Гэта ў маштабах усёй планеты. А вось уступілі ў канфлікт дзве суседнія рэспублікі, Азербайджан і Арменія. Вырашыць яны нічога не вырашылі і вырашыць не змогуць. Сілай нічога яны не змогуць. Паспрабавалі ў Малдавіі вырашыць — не змаглі і не змогуць. Не дай Бог, Расія з Украінай пачне праз сілу вырашаць свае праблемы…

*— Алесь Міхайлавіч, скажыце: Ваша знакамітая размова з камандзірам падводнай лодкі — апокрыф?*

— Не, гэта ніякі не апокрыф. Завуць гэтага капітана Лёня, так па-сямейнаму. Прытым у мяне ж не адна размова была, мне вельмі важна было сустрэцца з гэтымі істотамі, я іх нават людзьмі не ўяўляў, якія адным пальцам, націскам кнопкі могуць знішчыць Еўропу, Азію, Амерыку, наогул планету. І вось я сустрэўся з трыма капітанамі савецкімі і адным амерыканскім. І з усімі размаўляў. Скандал выбухнуў у 87-м годзе ці 86-м. На міжнародным форуме ў Маскве я ўпершыню сказаў, што размаўляў з капітанам, і спытаў, ці націсне ён кнопку. Ён не адказаў, а калі мяне спыталі, я сказаў, што ні пры якіх умовах гэтага не зрабіў бы. Помніце, як нашы землякі, Бягун і Боўш, на мяне накінуліся, як палкоўнікі мінскія на мяне накінулся, не кажучы ўжо пра маскоўскіх? Але ўсцешыў мяне адзін хлопчык. Я жыў тады яшчэ ў Мінску, і вось аднойчы званок з Чарнігава. Чалавек назваўся, кажа, хацеў бы сустрэцца. А што такое? Прачытаў «Апошнюю пастараль» і вельмі з ёй нязгодны. Ну, нязгодны, што ж я магу сказаць? Не, ёсць пытанне. І ён назаўтра заявіўся ў Мінск. Аказалася, што гэта не проста апанент мой, а ён, можа, і далей пайшоў за ўсіх нас.

18–19 гадоў хлопчыку, ён служыў у ракетных войсках, абслугоўваў ракетны кабель. Стаў размаўляць з салдатамі, з афіцэрамі, маўляў, каб я Гарбачоў быў, я б нізашто не адказаў нават на ядзерны ўдар. А ты што, яны адразу спалохаліся: дык ты пасячэш кабелі, калі пачнецца?! Не, я выканаю свой абавязак, але калі б я быў Гарбачоў, я б… Пачалі яго да камандзіраў цягаць, патрабавалі, каб ён перад усімі адмовіўся ад сваёй вар’яцкай, як ім здавалася, непатрыятычнай пазіцыі. А ён на сваім. І каб не рабіць вялікага шуму, яго з арміі звольнілі.



Ведаеце, калі 19-гадовы хлопчык раптам уявіў сябе Гарбачовым і нават уявіў сябе чалавекам, які вырашае лёс усяго чалавецтва, гэта для мяне было велізарнай падтрымкай! Мы жывём у такі час, што кім бы ты ні быў — салдатам, пісьменнікам, журналістам, настаўнікам, ты не можаш ужо разважаць і думаць як асоба прыватная, толькі як рускі, толькі як беларус, толькі як француз.Ты ўжо павінен разважаць як гома сапіенс, як чалавек, адказны за існаванне не толькі Беларусі, не толькі Расіі, не толькі Польшчы — за існаванне чалавецтва, за існаванне чалавека, усяго жывога на планеце.

Памятаю, я выпадкова аказаўся у Вене, у прэзідэнцкім палацы знакамітым. Там я ўпершыню пабачыў Шэварднадзе, міністра замежных спраў. Размова ішла аб еўрапейскай бяспецы. І ўпершыню я пабачыў нашых дыпламатаў, якія перасталі лгаць, якім дазволілі не лгаць, якія загаварылі як людзі з тым бокам. Я памятаю, быў так здзіўлены, так усцешаны, што выйшаў у парк.

Сярод дрэў нікога няма, нейкія птушкі, нейкія жучкі, матылькі. І я, як апошні вар’ят, ім кажу: ну, усё. Вы застанецеся жывыя.

Мы жылі ў той час з такім настроем. Потым, калі пагроза адступіла, мы сталі жыць зноў толькі сабой, толькі тым, што ёсць у магазіне і што ў кішэні, і г. д. Я думаю, што рана нам яшчэ пакідаць пазіцыю таго салдата, які думаў за ўсё чалавецтва. Думаючы за ўсё чалавецтва, лягчэй і разумней будзе думаць і за Беларусь, і за беларускі народ, і за наш Чарнобыль страшны, і за нашу будучыню… Я страшэнна ганаруся сваёй Беларуссю. Яна ўсяму свету паказала прыклад. Потым стане нормай тое, што адбылося з беларускай ядзернай зброяй, — але ніхто, акрамя беларусаў, не зможа сказаць: мы былі першыя. І гэтае першынства беларусы не павінны нікому аддаць. Не павінна быць, каб на нейкім этапе нас зноў купіла таннасць сілы. Уяўнай сілы! На адну тваю сілу тры такія сілы нацэльваюцца, і ты становішся ў тры разы слабейшы. Наша сіла — у нашай маральнай чысціні, праўдзе. І самае галоўнае, каб мы маральную нацыянальную

палітыку выпрацавалі, трымаліся. І гэтая маральная сіла будзе той сілай, якая лепш забяспечыць надзейнасць незалежнасці Беларусі, чым любая іншая сіла.

…У Беларусі на мяне пакрыўдзіліся пэўныя людзі, калі я сказаў гэтыя словы — «Вандэя перабудовы». Знайшлі гістарычныя недакладнасці, удакладнілі, што такое Вандэя, спасылаюцца на Салжаніцына. Аказваецца, з аднаго боку, Вандэя — гэта добра, а з другога — крыўдзіць увесь беларускі народ. Хоць, калі той артыкул мой пачытаць, там канкрэтная размова ідзе пра Сакалова, Паўлава, Антановіча, пра гэтую кампанію, якая ад імя Беларусі ўсю палітыку будавала. Пры чым тут беларускі народ?

А пра гэтых людзей, цяперашніх, я скажу слова яшчэ больш крыўднае: Парагвай. Што такое Парагвай быў пасля вайны? Туды ўсе нацысты пабеглі па пацуковых норах ратавацца. Што адбылося пасля путчу Хазбулатава-Руцкога? Пабеглі куды — у Мінск, у Барысаў. У нас тут ёсць Чыкін, і ў Мінску ёсць Чыкін, адзін рэдактар «Советской России», другі — «Мы и время». Я ўяўляю такую пацуковую нару: тут адзін Чыкін праводзіць макашоўцаў, баркашоўцаў, а там другі Чыкін іх сустракае. Вось чаму можна назваць «Парагвай». Але ж гэта не Беларусь Парагвай, а тыя палітычныя дзеячы, якія ператвараюць Беларусь у прытулак шушары чырвона-карычневай.

*— Алесь Міхайлавіч, што Вы ўвогуле думаеце пра ролю слова ў наш час? Мы памятаем, якой магутнай сілай было слова сем, восем гадоў таму, калі тая ж Ваша гісторыя пра атамную падлодку альбо Вандэя ўзрывалі грамадства. Зараз у мяне такое ўражанне, што слова спустошылася, страціла свой сэнс, сваю ранейшую сілу. У Вас няма такога адчування?*

— Вядома!.. Калі было забаронена ўсякае слова і раптам прагучалі нейкія праўдзівыя словы — гэта было страшэнным эмацыянальным ударам. Быў такі грамадскі суд над капітанам Саблiным[7] — ведаеце гэту падзею 70-х гадоў, калі палітрук карабля словам падняў каманду і павёў за сабой. Словам! І на судзе ў матросаў спыталі: вы разумелі, што нічога не можаце зрабіць? Разумелі. Вы разумелі, што, ідучы за Саблiным, вы сябе асуджаеце на турму, а можа, на нешта больш страшнае? Разумелі. А чаму ж пайшлі за ім? Ведаеце, ён сказаў тое, што ўсе мы думалі, але ніхто не гаварыў.

Чаму так першы з'езд паўплываў на ўсю краіну? Не таму, што з трыбуны гаварылі нейкія незвычайныя рэчы. Пра іх ужо ўсе думалі, але ўпершыню людзі пабачылі іншых людзей, якія адкрыта, з трыбуны, з Крамля гавораць тое, што ўсе думалі. Сёння слова дэвальвавана таму, што сапраўды кожны можа гаварыць што хоча, і няма за гэтым ніякага гераізму, ніякай рызыкі. Але дэвальвацыя ідзе і свядомая, свядома абясцэньваюць слова. Я прачытаў у адной беларускай газеце артыкул, які не здзівіў бы мяне ў прахханаўскай газеце «День», але ў беларускай газеце здзівіў. Малады журналіст піша, што ў яго ёсць свая канцэпцыя, свая разгадка Чарнобыля. Я думаю, ну вось, нехта мае сваю разгадку! Якая ж разгадка? Чарнобыль узарвалі дэмакраты на чале з Гарбачовым, каб радыяцыяй знішчыць тры брацкія славянскія народы. Я, прачытаўшы гэта, думаю: ці ты вар'ят, ці правакатар, ці тваё прозвішча Праханаў і ты ўзяў беларускі псеўданім. Мы тут прывыклі, што ў газеце «День» пішуць, што хочуць, прычым такое прыдумаюць, што больш прыдумаць ужо нельга. І калі чалавек выступае і проста гаворыць праўду, гэта ўжо не ўплывае. Я не ведаю, што цяпер на чалавека можа ўплываць. Слова? Я не ведаю, але ж Вы маеце справу са словам. Ваша радыё «Свабода» — толькі слова. Значыць, Вы верыце ў слова, шукаеце тыя словы, якія могуць дайсці да людзей? Я ў вас спытаю: якія Вашы рэцэпты, каб нас слухалі?

*— Спрабаваць гаварыць праўду і шукаць яе… Магчыма, зараз слова пачало займаць тое месца, якое і павінна займаць у нармальным грамадстве?.. Але ёсць другі бок працэсу — публічная хлусня.*

*Выступае прэм'ер-міністр Беларусі з эканамічнай праграмай, а праз месяц падпісвае пастановы, якія перакрэсліваюць яе сэнс. Гаворка не толькі пра старую наменклатуру. Адзін з кіраўнікоў парламента з дэмакратычнымі поглядамі заяўляе, што не перасяліцца ў новую кватэру, пакуль не будзе ўладкаваны апошні чарнобыльскі перасяленец — і неўзабаве спраўляе ўлазіны. Прычым уражанне, што ўнутрана яны не адчуваюць ніякіх маральных пакут…*

— Гавораць, палітыка — брудная справа. Праўда, гавораць: калі людзі брудныя, дык і палітыка такая, а калі чыстыя, дык палітыка чыстая. Усё ж такі палітыка, мабыць, не самая чыстая справа. Мы ведаем вельмі чыстых людзей, пісьменнікаў, мастакоў, і варта было ім наблізіцца да верху, да ўлады, як раптам нейкі бруд клаўся і на іх. Я пра палітыку і не гавару, палітыкі — гэта аднадзёнкі, сёння ёсць — заўтра не будзе. Іншая

справа, калі гэта адбываецца з вельмі высокага ўзроўню людзьмі, маральнымі аўтарытэтамі, якія страчваюць якасць маральнай чысціні, сумленнасці, калі набліжаюцца да ўлады. Мабыць, трымацца трэба як мага далей ад палітыкі, але…

*Так, на ўдыху, перад новым вітком думкі субяседнік, як сказана ў адной з яго кніг, патрабаваў думаць да канца, магнітафонны запіс абрываецца — скончылася стужка. Не буду па памяці перадаваць словы Адамовіча пра яго разуменне маральнасці, якая ўсё ж прымушала ўстаць і ісці, каб рабіць сваю справу і збродяй, і словам, і ўласным сэрцам. Пра гэта — усё яго светлае жыццё і смерць на людзях.*

***1994***

# ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА

## ТАЛСТОЎСКІ КРОК

Гэта было бадай што заўсёды — тая ці іншая ступень узаемнай сувязі літаратурнага развіцця любой краіны, народа са знешнім светам.

Толькі вельмі часта «не сваё», далёкае ўспрымалася, ацэньвалася як «варварскае» альбо ў лепшым выпадку — экзатычнае.

Гэта настолькі было «ў крыві» літаратуры, што ў «Персах» Эсхіла нават ворагі Элады глядзяць на саміх сябе вачамі грэкаў, абзываюць самі сябе «варварамі». Ганец-перс расказвае пра разгром персаў:

> Раздался в стане греков шум ликующий,
> На песнь похожий. И ему ответили
> Гремящими отголосками скалы острова,
> И сразу страхом сбитых с толку варваров
> Прошибло…

Праўда, бывалі і такія часы, калі чужое рабілі сваім, прытым надоўга: рымляне — грэчаскае мастацтва, французы — рымскае…

Аднак свет людзей не заўсёды ўсведамляў сябе як чалавецтва, сваю гісторыю — як частку ўсеагульнай, сваю будучыню — звязанай з будучыняй другіх народаў і краін, — адным словам, наша планета вельмі адрозніваецца ад той, якой яе ўяўлялі старажытныя.

Само паняцце «сусветная літаратура» ўзнікла параўнальна нядаўна (недзе ў XVIII стагоддзі), але ж і рэалізм у літаратуры існаваў задоўга да таго, як ён быў яскрава ўсвядомлены і тэарэтычна асэнсаваны і названы. Паняцце «сусветная літаратура» ўзнікла ў выніку таго, што людзі пасля тысячагоддзяў існавання

адасобленых цывілізацый і культур пачалі канкрэтней усведамляць, што яны — чалавецтва, пачалі збірацца ў чалавецтва.

Праўда заключаецца, аднак, і ў тым, што «збіранне», збліжэнне народаў у чалавецтва суправаджалася сапраўднай «культурнай дзікасцю» (па выказванні Л. Талстога). Збліжэнне кантынентаў за апошнія некалькі стагоддзяў і асабліва ў эпоху імперыялізму азначала ў той жа час бесчалавечную каланізацыю краін і народаў з боку капіталістычных «цывілізаваных» еўрапейскіх дзяржаў, ЗША і Японіі.

Чалавецтва — паняцце шматграннае. Важныя ўсе яго грані: і дэмаграфічная сітуацыя, і эканоміка, і тэхнічнае, сацыяльнае, культурнае развіццё.

Ёсць, аднак, у паняцці «чалавецтва» нешта вельмі «абстрактнае» і ў той жа час самае абавязковае, неабходнае. Чалавецтва — гэта паняцце, пачуццё высокагуманістычнае. Чалавецтва паявілася, узнікла не проста таму, што былі «адкрыты» Кітай, Індыя, Амерыка, што ваенныя і гандлёвыя караблі адкрылі людзям, адзін другому, не толькі блізкіх, але і самых далёкіх зямлян. Толькі ўсведаміўшы, паверыўшы, што чалавек — усюды чалавек і «ўсе мы людзі» (а не «варвары» або «людзі з сабачымі галовамі»), толькі адчуўшы і зразумеўшы, што побач з тым, што раздзяляе народы, існуе і тое, што аб'ядноўвае іх у адзінае «племя людзей», «зямлян», — толькі ў выніку гэтага механічная сума народаў і краін станавілася (і становіцца) паступова і ўсё больш чалавецтвам.

Вельмі многа ў гэтым сэнсе дала эпоха Адраджэння, што разышлася, як кругі па вадзе, амаль па ўсёй планеце хвалямі гуманізму, а потым — асветніцтва XVIII стагоддзя, якое скасоўвала культурнае і рэлігійнае раздзяленне і раз'яднанне свету на замкнёныя, ізаляваныя зоны.

А што больш, мацней, чым мастацтва, літаратура і наогул кніга, пераконвала, што ўсе тыя, каго лічылі «варварамі» — такія ж людзі, з тымі ж страсцямі, пачуццямі радасці, гора, болю, шчасця. Хоць, магчыма, і са сваім асаблівым разуменнем дабра і зла.

Такім чынам, літаратура, якая ўзнікла і развілася намнога раней, чым такая з'ява і паняцце, як чалавецтва, таксама падрыхтоўвала гэтую з'яву, а потым пачала яе абслугоўваць, і ўсё з большым разуменнем сваёй агульначалавечай гуманістычнай задачы і мэты, застаючыся пры гэтым, безумоўна, прадуктам сваёй эпохі, класавай, грамадскай сітуацыі. І прадуктам нацыянальнага развіцця. Пры гэтым змяняліся, ускладняліся задачы



і характар такога развіцця. Гётэ, назіраючы і ацэньваючы працэс станаўлення нацыянальнай нямецкай літаратуры, з самага пачатку бачыў яе як частку сусветнай літаратуры. Ён лічыў, што ўзрастаюць і ўзмацняюцца ў нацыянальных літаратурах тэндэнцыі, якія ўжо з самага пачатку адносяць літаратурныя з'явы да *сусветнай літаратуры**. Тое ж адбывалася і з рускай літаратурай у XIX стагоддзі. В. Р. Бялінскі адчуваў гэта глыбока, як ніхто іншы, і таму Пушкін і Гогаль для яго — пісьменнікі сапраўды нацыянальныя, народныя і адначасова — з'ява сусветнай літаратуры. Калі ж Еўропа, а потым увесь свет прачыталі Талстога і Дастаеўскага — пачалася «ланцуговая рэакцыя» далучэння да залатога фонду сусветнай класікі многага з таго, што за рамкі рускай літаратуры да таго часу не выходзіла. А пра саміх Талстога і Дастаеўскага ў пачатку XX стагоддзя заграніца будзе выказвацца так:

«Ніхто з тых, хто ўважліва ўглядаўся ў XIX стагоддзе, не можа адмаўляць, што толькі рускі дух наблізіў чалавецтва ў нашы дні да немінучай мэты. Толькі ў рускай літаратуры я чую трубны голас новага часу: пісьменнікі іншых народаў толькі забаўляюцца ля ног такіх талентаў, як Талстой і Дастаеўскі; з імі, хоць свет яшчэ не ведае пра тое, закончылася цэлая эпоха ў развіцці чалавечай думкі».

Так пісаў у кнізе пра Дастаеўскага (1916) англійскі даследчык М. Мэры**.

Пра тое, як класікі беларускай літаратуры Купала, Колас, Багдановіч, Чорны, закладваючы асновы новай беларускай паэзіі, драматургіі, а потым і прозы, беларускага рамана, з самага пачатку адчувалі, улічвалі і «фон» і «кантэкст» літаратур суседніх і сусветнай літаратуры ў цэлым, — пра гэта нам ужо даводзілася пісаць спецыяльна ў рабоце «Маштабнасць прозы. Урокі творчасці К. Чорнага»***.

Даўно склаўся і існуе залаты фонд чалавечай культуры — гуманістычнае яго багацце. Цяжка і ўявіць сабе, як насіла б па бурных хвалях масавых псіхозаў карабель сучаснай цывілізацыі, каб не было ў яго труме гэтага «залатога» грузу. Носіць і ця-

* Гл. работу Г. Мендэ ў кнізе «Мировая литература и философия». М.: Мысль, 1969.

** Цыт. па працы: Б. Бурсов. Личность Достоевского // Звезда. 1989. № 12. С. 134–135.

*** Адамовіч А. М. Маштабнасць прозы: Урокі творчасці К. Чорнага. Мінск: Навука і тэхніка, 1972.

пер, нават з гэтым грузам, але ж і хвалі, валы — вунь якія! Без гэтага «залатога запасу» цяжка было б, ды і проста немагчыма «забяспечыць», «гарантаваць» сам сучасны прагрэс. Выдатны вучоны-марксіст М. І. Конрад іменна такое развіццё — накапленне і ўзмацненне, узбагачэнне гуманістычных каштоўнасцей у чалавецтве і чалавеку ў выніку рэвалюцыйнага працэсу — называе асноўным вымяральнікам, асноўнай адзнакай прагрэсу*.

Б. Кузняцоў паказчыкам прагрэсу лічыць перш за ўсё «павышэнне чалавечнасці ў чалавеку»**.

Паэт жа (А. Вазнясенскі) выказаў гэта так:

Все прогрессы реакционны,
Если рушится человек.

Так, побач з прагрэсам і рэгрэс — і тады чалавек «рушится». У свеце існуе, а час ад часу і нарастае, узмацняецца напор дэгуманістычных тэндэнцый, «ідэй», сіл, а то і адкрытага фашызму. У барацьбе сацыяльных, класавых сіл прагрэсу, сацыялізму, гуманізму з гэтымі тэндэнцыямі, з гэтай небяспекай велізарнае значэнне мае той гістарычны факт, што ўздзеянне прагрэсіўных літаратур, мастацтваў на народы, на людзей сёння — сумеснае, аб'яднанае. Рускі чытае альбо «глядзіць» японца, а француз — кіргіза часам з такой жа лёгкасцю, як і «свайго» (дзякуючы новым сродкам зносін, інфармацыі і актыўнай перакладчыцкай дзейнасці). Пры гэтым да «старых» літаратур — еўрапейскіх, азіяцкіх, паўночнаамерыканскай далучыліся сёння вельмі моцныя лацінаамерыканскія, а таксама афрыканскія. «Сумешчаны» літаратурны паток гуманістычнай іянізацыі, аздараўлення духоўнага клімату стаў намнога мацнейшы і ўстойлівы.

І зусім не выпадкова тое, што «фюрары» ўсіх цемрашальскіх сіл у сучасным свеце пачынаюць атаку на рэвалюцыйны прагрэс з абавязковых спроб звузіць, а то і наогул «забараніць» уздзеянне сусветнай прагрэсіўнай культуры на «свае» народы.

* * *

Усё больш прывычна гавораць, пішуць пра чалавецтва як сучасны стан існавання народаў на Зямлі.

І аб літаратуры крытыкі, літаратуразнаўцы ўсё больш настойліва пішуць, думаюць — аб сваёй, нацыянальнай — у кантэксце

---

* Гл.: Конрад Н. И. Запад и Восток. М.: Наука, 1971.

** Кузнецов Б. Г. Наука в 2000 году. М.: Наука, 1969.



шырокіх з'яў, такіх, як «усесаюзная літаратура», «славянскія літаратуры», «сусветная літаратура».

[…]

Праблема: нацыянальная літаратура ў кантэксце літаратуры сусветнай перастала быць толькі тэарэтычнай, вузка літаратуразнаўчай. Можна сказаць, што для нас такой яна і не была ніколі. З таго часу, як яе ўзнімае Максім Багдановіч, — гэта практычнае пісьменніцкае пытанне да самога сябе: як нам пісаць? куды расці? на што абапірацца? ад чаго адмаўляцца, а за што трымацца?

Дарэчы, іменна пісьменнікі, а не «чыстыя тэарэтыкі» першыя пра гэты клопат у нас пачыналі гаварыць, вярталіся да яго зноў і зноў.

Пасля Максіма Багдановіча — асабліва Кузьма Чорны. А разам з ім — Уладзімір Дубоўка. З тэарэтыкаў — Адам Бабарэка.

Многіх і многіх гэта клапаціла, але мы гаворым пра тых, хто спецыяльна займаўся праблемай, спецыяльна акцэнтаваў на ёй сваю і іншых увагу.

У 60-я і 70-я гады нашага стагоддзя паставілі яе крыху інакш.

У чым заключаецца розніца і чым яна абумоўлена?

Перш за ўсё абумоўлена гэтая розніца новым станам і становішчам Беларусі і беларускай літаратуры ў свеце. Самім новым часам абумоўлена.

Успомнім, як перад Кузьмой Чорным паўставала праблема «культуры творчасці». Пісаць пра сваё (пра «цімкавічоўцаў», якіх «хопіць на ўсё жыццё»), але трымаць у галаве, у душы ўсё тое, чым жылі іншыя літаратуры. Пра «Цімкавічы», але так, каб цэлы народ гаварыў пра сябе, пра шлях свой з мінуўшчыны ў будучыню.

Як важна было для Кузьмы Чорнага, каб пра яго «цімкавічоўцаў» чыталі не адны беларусы, бо не для іх адных гэта і пісалася, можна адчуць з яго артыкула «Пісьменнік пісьменніку — брат» (на рускай мове).

Расказаўшы, над чым ён працаваў на мяжы 20–30-х гадоў, Кузьма Чорны напярэдадні Першага з'езда пісьменнікаў выказвае такія свае думкі, пісьменніцкія перажыванні:

«Раней часам узнікала думка, што мае працы не будуць мець дастатковага рэзанансу, што за межы Беларусі яны не пойдуць. У час працы не было адчування, што пішаш у Мінску, а прачытаюць усюды, не было таго адчування, якое шчасліва спадарожнічае працы рускіх пісьменнікаў. Адарванасць, ізаляванасць ад рускіх, украінскіх, армянскіх чытачоў,

тэрытарыяльная замкнёнасць — вось што перашкаджае… У большасці выпадкаў усе мы валодаем рускай мовай, а хто, акрамя беларусоў, ведае нашу мову? Узнікае, такім чынам, праблема перакладу нашых твораў»*.

Селянін, вясковец Кузьмы Чорнага сваімі «вострымі пачуццямі» і тым, што «на грані думаў і пачуццяў», падключаны да сілавога поля «праклятых», «вечных» пытанняў, якія мучылі і герояў Шэкспіра, Дастаеўскага, Талстога, Горкага.

А як тыя ж сусветнага маштабу праблемы паўсталі ў 60-я і 70-я гады перад І. Мележам, Я. Брылём, В. Быкавым, А. Куляшовым, А. Макаёнкам і інш.? Пра гэта будзе ў нас гаворка.

А пакуль што звернем увагу на зусім не «магістральны» жанр нашай літаратуры — на дарожныя замалёўкі, нарысы, якія прывозіліся з замежных паездак. Скажам адкрыта, што мастацкі плён ад такіх паездак у паэтаў большы — вершы Пімена Панчанкі**, вершы Максіма Танка, у ліку якіх такі шэдэўр, як «Ave Maria». Ну, дык гэта і зразумела! Для нараджэння добрага лірычнага верша хапае і знешняга ўражання ад іншых краін. Дастаткова ўласнай перапоўненасці пачуццём. Проза патрабуе большага знаёмства з бытавой рэальнасцю «замежжа». Але і тут ёсць удачы, у прозе таксама. Характэрна, што ёсць яны ў празаіка іменна лірычнага складу. Мы маем на ўвазе замежныя замалёўкі і нататкі Янкі Брыля, яго мініяцюры.

Хоць і не перабольшваем мы мастацкія вынікі нашай пісьменніцкай мабільнасці, вандровак у іншыя краіны, але за самім фактам такіх паездак і за некаторымі мастацкімі ўдачамі бачыцца нешта прынцыпова важнае для разумення сучаснага стану беларускай літаратуры.

* Литературная газета. 1934. 4 лютага. № 12.

** Адкрыў для сябе «замежны» свет П. Панчанка і паэтычна асвоіў яшчэ ў гады вайны — «Іранскі дзённік». Р. Бярозкін у кнізе «Пімен Панчанка» вельмі цікава і шырока паглядзеў на іранскі цыкл П. Панчанкі: «Іранскі дзённік» — першая «вылазка» беларускай паэзіі за далёкія межы Беларусі, першая паэтычная кніга, створаная на чужыне і чужыне прысвечаная… Упершыню ў беларускай паэзіі з'явілася нізка вершаў, пабудаваная па законах адваротнай, так сказаць, сувязі: паэт глядзіць на радзіму, на добра знаёмыя яму карціны і з'явы з далёкай персідскай далечыні і ў новай — нязвыклай і ненатуральнай паслядоўнасці… Іменна гэты погляд «з канца», з Перса — на Беларусь, з боку «ўзору» — на «цвяток васілька», надае «Іранскаму дзённіку», акрамя ўсяго іншага, адценне нечаканасці…» (Рыгор Бярозкін. Пімен Панчанка: Крытыка-біяграфічны нарыс. Мінск, 1968. С. 85, 87, 88).



Падарожнічаюць не проста аўтары будучых вершаў ці нарысаў, рушыла ў сусветнае падарожжа і сама літаратура беларуская. Цяпер, калі так наблізіліся да Мінска Парыж і Дэлі, наблізіліся да нас вочы і твары рэальных італьянскіх і амерыканскіх рабочых, канадскіх фермераў і сіцылійскіх сялян, галасы і цёплыя сяброўскія рукі нашых славянскіх сяброў — толькі цяпер і адкрылася сапраўдная магчымасць рэальна адчуць і паказаць не толькі сувязь свайго з усечалавечым, але і «адваротную сувязь» — усечалавечага з тваім нацыянальным.

Сябе адкрываць, угадваць у іншым чалавеку — гэта наогул важнейшы шлях, сродак пазнання чалавекам сваёй існасці. Не менш важна і для літаратуры тая «адваротная сувязь» — магчымасць бачыць іншыя куткі планеты, а адтуль — сваё, сябе. Нашы пісьменнікі — той жа Янка Брыль у сваіх замалёўках, нататках, мініяцюрах — у далёкім угадваюць, любяць сваё, роднае. Далёкае (Канада, Індыя) набліжаецца да вачэй, слыху, да тваіх пальцаў, а блізкае (Беларусь) аддаляецца ў прасторы. І тым самым яны становяцца нечакана побач — на планеце і ў сэрцы зямляніна. «Бо што за карысць з вачэй, у якіх няма дабраты?» — услед за старажытнымі індусамі паўтарае беларус Янка Брыль.

«Яшчэ ж толькі тры дні таму назад быў не бязмежны акіян, не Парыж, не Масква, нават не Мінск, а ціхая лясная вёсачка над Віліяй… Там я пакінуў малога сына. І мне так прыемна бачыцца, што ён цяпер, іменна ў гэты момант, нясе перад сабой заціснуты ў падрапаных катом руках жоўты, крыху шчарбаты збаночак малака, толькі што ад каровы…»*

Так, мы не проста пра падарожжы пісьменнікаў, а пра тое, што з месца скранулася, «выйшла на людзі» сама Беларусь Савецкая. Падарожнічае Беларусь — яе партызанская слава, яе трактары, кібернетыка, яе мастацтва… А суправаджае яе «ўласны карэспандэнт» — беларуская літаратура.

Адтуль, з-за мяжы, і Беларусь беларускаму пісьменніку бачыцца трохі інакшай. Не толькі вачыма беларуса, але і трохі — балгарына, ці серба, ці француза, ці англічаніна… Узнікае, замацоўваецца новае «самапачуццё», светаадчуванне — у самой літаратуры беларускай, паяўляецца ў беларускіх творах, у поглядзе на самую Беларусь тое, што называюць «стэрэаскапічным» бачаннем. Для такога, «з двух кропак», «аб'ёмнага», бачання зусім не абавязкова кожнаму ехаць далёка.

* Брыль Я. На тым баку планеты: Збор твораў: У 4-х т. Т. 4. Мінск: Беларусь, 1968. С. 369.

Важна іншае — каб беларускі пісьменнік сапраўды адчуваў, як усё звязана з усім на сённяшняй планеце. І літаратура наша гэта сучаснае адчуванне робіць усё больш сваім і ўсё больш асабістым.

Калі мы гаворым пра аб'ёмнае, стэрэаскапічнае бачанне самога сябе — Беларусі, беларуса ў сучасным свеце, — мы маем на ўвазе не нешта такое, чаго наогул не было ў нашай літаратуры і толькі цяпер узнікае, паяўляецца.

Было, бо каб не было, дык не стварылі б Багушэвіч, Багдановіч, Купала, Колас, Гарэцкі, Чорны ні тыпаў беларуса, ні вобраза самой Беларусі. Калі няма на сябе погляду з двух кропак: не толькі «з сярэдзіны», але і збоку таксама — няма і «псіхалагічнага» рэалізму.

Але важна і другое: як далёка гэтыя «дзве кропкі» знаходзяцца адна ад адной.

У Ф. Багушэвіча, у «Новай зямлі» Я. Коласа (дзядзька Антось) аб'ёмны вобраз селяніна ўзнікае, бо на селяніна, на Беларусь паэты глядзяць вачыма сына свайго народа, краю, але адначасова — і вачыма (парадзіруючы) «інтэлігента»-падпанка, для якога мужык — «хамула», якога ад «навукі адвярнула» і г. д.

Дзякуючы вось такому падвойнаму бачанню і ўзнікае ў літаратуры XIX і пачатку XX стагоддзяў каларытны вобраз беларускага селяніна: на знешні погляд — праставатага і смешнага, а на самай справе — больш разумнага, дасціпнага і больш шчодрага душой, чым усе тыя паны-падпанкі («нашымі дабрадзеямі» іх называў Якуб Колас), што «зверху» на мужыка, на беларуса пазіраюць.

Планета для беларускай літаратуры тых часоў — гэта пераважна бліжэйшыя суседзі, іх лёс у звязку з лёсам беларусаў.

Рэвалюцыя, сацыялізм умацоўвалі, паглыблялі пачуццё, разуменне брацкай блізкасці не толькі народаў-суседзяў — перадольваючы, перамагаючы шавіністычную і нацыяналістычную памяць былых стагоддзяў, — але і пашыралі «геаграфію» брацкіх пачуццяў, абуджалі ўсведамленне класавага брацтва з краінамі і народамі, якіх беларуская літаратура раней не ведала («Будучыня» Э. Самуйлёнка, «У краіне райскай птушкі» Я. Маўра і г. д.).

Так што пашырэнне «геаграфіі» тэм, вобразаў, пачуццяў у беларускай літаратуры пачалося не сёння. Размова можа і павінна ісці аб іншым: аб новых, сучасных якасцях і баках гэтага працэсу.

Важна падкрэсліць, аднак, што якраз вопыт нашых класікаў сведчыць: сапраўды мастацкі і глыбокі погляд на свой край, свой народ даецца толькі таму, хто за блізкім бачыць і далёкае, сябе пазнае ў другіх, а другіх знаходзіць у сабе. Інакш не ўзнікне



і адчуванне нацыянальнага характару ў літаратуры, бо толькі праз параўнанне (у думцы, у пачуцці аўтарскім) узнікае яго акрэсленасць.

Гэта Марксава думка, што чалавек пазірае ў другіх людзей, як у люстра, тым самым пазнаючы розныя бакі сваёй уласнай, чалавечай, сутнасці. А ці не так і цэлыя народы: кожная нацыя пазнае свае істотнейшыя якасці ў іншых нацыях — хоць і ў выглядзе перайначаным.

Пошукі мастацкага паказу нацыянальнага характару беларуса ў паэмах і вершах Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, у прозе Максіма Гарэцкага — гэта заўсёды погляд на сябе таксама і вачыма іншых ці, ва ўсякім разе, — у параўнанні. (Мы гаворым не пра сюжэты «параўнаўчыя», а пра агульнае пачуццё, адчуванне свету.) Без гэтага — без уважлівасці, без цікаўнасці да іншых народаў, культур, літаратур не ўбачыш і самога сябе як акрэслены нацыянальны характар.

А гэтага — выразнасці, нацыянальнага характару — нестае, здаецца, нашай літаратуры сёння.

Дык як жа яно так атрымліваецца: «геаграфія» нашай літаратуры, «стэрэаскапічнасць» погляду на саміх сябе якраз сёння пашыраецца і быццам бы якраз цяпер нестае літаратуры таго, што называюць «нацыянальным характарам»?

З Парыжа ды з Дэлі — вунь як далёка «другая кропка»! — можна ж ужо з усіх бакоў разгледзець, што яно такое беларус сярод іншых на гэтай зямлі. Вунь колькі цяпер магчымасцей у беларускіх пісьменнікаў параўноўваць свой народ з характарамі, тыпамі, мовамі, звычаямі людзей з самых розных кантынентаў. Глядзецца ў люстра — ды не ў адно!

Думаецца, што якраз гэты шлях і вёў, вядзе беларускую літаратуру да поспехаў. Ужо прызнаных, значных. А складанасці, цяжкасці ўсё ж не малыя.

У часы, калі «беларус» і «селянін» — словы, паняцці гэтыя амаль вычэрпваліся адно другім, дастаткова было спрэчкі з панскім поглядам на «мужыка», каб перад чытачом вымалёўваўся каларытны вобраз нацыянальнага характару беларуса.

Сёння «беларус» — гэта чалавек, за спіной і ў душы якога біяграфія вялізнай краіны — Савецкага Саюза, біяграфія шматнацыянальнага народа, які ўсечалавечы цяжар узяў на сябе ў гады рэвалюцыі і Айчыннай вайны, нясе сёння.

Каб гэтага беларуса (рускага, украінца, кіргіза, узбека і г. д.) акрэсліць як нацыянальны характар, ужо мала таго, на што

абапіраўся, напрыклад, Кузьма Чорны: мала глядзецца ў люстра іншых, хай нават самых вялікіх, літаратур. Гэта і многа — іншыя літаратуры — але сёння ўжо і мала. Бо ўвесь свет мяняецца з такой хуткасцю, імклівасцю, што трэба кожнай літаратуры старацца быць «на месцы падзей», не спадзеючыся толькі на іншыя літаратуры. Хоць яны і «бліжэй» да саміх падзей. І не чакаючы, пакуль пра Сангмі напішуць самі в'етнамцы. Гэта і наш боль — Сангмі. Гэта і нашы праблемы, трагедыі — Чылі, Блізкі Усход. Гэта і наша трывога, гнеў — калі недзе прыводзяць у баявы стан стратэгічныя ракеты, а нехта там, седзячы на багдыханскай гары, злавесна і радасна абяцае свету «каласальныя катаклізмы».

Усё гэта пачуцці, тэмы таксама і беларускай літаратуры, усёй савецкай літаратуры. Усё гэта мае адносіны — зусім прамыя — і да нацыянальнага характару беларускага народа, што жыве адным жыццём з чалавецтвам.

Але мы не маем на ўвазе гэтакую «лятучую мабільнасць» нацыянальнай літаратуры: адгукацца непасрэдна на ўсё, што дзе важнае дзеецца.

Галоўны матэрыял кожнай нацыянальнай літаратуры — жыццё, духоўны свет свайго народа. Але ж свет гэты сёння — вунь які багаты, шырокі! Якраз таму, што так выразна бачыцца сувязь «усяго з усім» у цяперашнім свеце, сапраўды значная нацыянальная літаратура, расказваючы аб сваім, будзе абавязкова гаварыць чалавецтву і пра само чалавецтва.

Беларусь, беларускі савецкі народ — а значыць, і літаратура — маюць што расказаць свету. Пра тое, што важна для ўсіх.

Пра мужнасць, стойкасць, нязломнасць чалавека ў самых невыносных умовах татальнай вайны — пра тое ведае наша літаратура, як гаворыцца, «з першых рук». А вера ў чалавека, у яго магчымасці, стойкасць і розум яго — чалавецтву асабліва неабходны сёння!

І пра іншае можа расказаць і расказвае свету наша літаратура, — што таксама аплочана мужнасцю і пакутамі самога народа.

Жанчына з Борак, што на Бабруйшчыне, дзе фашысты забілі, спалілі каля дзвюх тысяч жыхароў, ці з Красніцы Быхаўскага раёна, дзе застрэлілі каля 700 чалавек — жанчыны, мужчыны, дзеці з гэтых і многіх соцень іншых беларускіх вёсак зблізку спазналі фашызм не толькі той, які бачыла і Заходняя Еўропа, але і той, які б яна разгледзела, на сабе адчула б назаўтра пасля «канчатковай перамогі» Гітлера — калі ўступілі б у дзеянне планы «канчатковага ўрэгулявання ў Еўропе». Беларуская савецкая



літаратура, таксама як руская, украінская, можа расказаць свету пра той фашызм, які ўжо ўявіў, што наступіў запланаваны час «канчатковага ўрэгулявання», а таму тут, на Усходзе, ён скінуў усе маскі «еўрапеізму». Расказваць чалавецтву пра тое, якім «звышзверам» робіцца кожны, хто захоча стаць «звышчалавекам», — гэта, можа, мае права і абавязана рабіць літаратура беларускага народа. Хто яшчэ столькі разоў — вачыма дзіцяці, вачыма маці, у якой забіваюць, жывымі паляць дзяцей — бачыў фашыста адзін на адзін, калі той быў упэўнены, што ніхто пра тое не даведаецца, і раскрываўся ўвесь — з усім, што ёсць у яго чорнай душы і чаго там ужо няма!

Тое, што Беларусь ведае пра вайну і пра нядаўняе азвярэнне людзей у цэнтры Еўропы і можа расказаць чалавецтву — тое ведаць, можа, і страшна. Але забыць не мае права ніхто, забыць тое — небяспечна. Асабліва ў век «атамных магчымасцей», якія спакушаюць і будуць спакушаць патэнцыяльных «фюрараў».

* * *

Лічыцца, што Гётэ першы адчуў, загаварыў пра тое, што сёння называецца «сусветнай літаратурай», — у гутарцы з Экерманам ужо ў 1827 г. Генію Гётэ рабілася цесна ў граніцах тагачасных германскіх княстваў. Нямецкая паэзія, літаратура, на яго думку, мела патрэбу ў большых кантактах з іншымі літаратурамі.

«Мы хочам паўтарыць, што не можа быць размовы пра ўніфікацыю характару думак розных нацый, але пра тое і толькі пра тое, каб нацыі больш даведаліся адна пра другую, і нават, — пісаў суровы алімпіец, — калі яны не змогуць узаемна палюбіць адна другую, дык навучацца ва ўсякім разе ўзаемнай цярпімасці». А нам, казаў Гётэ пра свой народ, ніяк не пашкодзіць, «калі свет прымусіць нас задумацца пра саміх сябе».

І гэта, вядома, кожнаму народу, нацыі не шкодзіць — глядзець на сябе таксама і «збоку», вачыма суседзяў, іншых народаў — праз іншыя культуры, літаратуры. Гэта і для нацыянальнага літаратурнага развіцця карысна, і для маральнага здароўя нацыі — таксама.

Дык што ж яно такое — сусветная літаратура? Колькі б ні давалася адказаў, тлумачэнняў, вызначэнняў — зноў і зноў будзе прарывацца недаўменне перад няўлоўнасцю, цякучасцю, няпэўнасцю межаў і структуры гэтай з'явы — сусветнай літаратуры.

Бо сапраўды!

Калі палічыць, што маецца на ўвазе сума ўсіх літаратур і ўсіх твораў, якія толькі ёсць, былі, тады нават з сучаснай кібернетыкай у руках, нават узброіўшыся матэматыкай, навука літаратуразнаўства страціць усякую надзею — сёння ва ўсякім разе — нешта зразумець, разглядзець у гэтай бясконцасці.

І ўсё ж (хай не сёння, а заўтра!) і такое «матэматычнае» вывучэнне сусветнага багацця літаратур, мабыць, не выключана. Дзеля чаго? Але ж мы не ведаем заўтрашніх мэт навукі: яны адкрыюцца навуцы заўтра…

Сённяшняе разуменне паняцця «сусветная літаратура» — больш вузкае, але і куды больш плённае ў навуковым сэнсе (у адпаведнасці са станам сучаснага літаратуразнаўства — дзеля асцярожнасці робім усё ж такую агаворку).

Прынята ўключаць у паняцце «сусветная літаратура» толькі тое, што, як удала кажа венгерскі даследчык Ласла Кардаш, трапіла ў агульную «крывяносную сістэму» — тое, што свет ведае, лічыць сваім здабыткам, што вызначае самы высокі (*гуманістычны*, дабавім і падкрэслім мы) узровень мастацкай культуры ці ўплывала, уплывае на агульначалавечы літаратурны працэс. Свет ведае, лічыць?.. Але яшчэ ўчора межы «літаратурнага сусвету» замыкаліся Еўропай і яе гісторыяй. У наш час «сусветная» — гэта абавязкова і Азія, і Афрыка, і Лацінская Амерыка, і Аўстралія…

Зноў і зноў межы паняцця «сусветная літаратура» — чым больш іх канкрэтызуеш — пашыраюцца і зноў робяцца няпэўнымі. Імкнучыся, здаецца, да ўсё той жа бязмежнасці, бяскрайнасці.

Бо пісьменнік, літаратура могуць мець сусветнае значэнне, хоць у свеце яны (пакуль што!) не гучаць. Не адразу ў «крывяносную сістэму» сусветнай літаратуры трапіла і «Слова аб палку Ігаравым» — стагоддзі мінулі.

Быў час, калі толькі патэнцыяльна ўваходзілі ў сусветную і Гётэ, і Пушкін, і Талстой, і Дастаеўскі…

Вельмі цякучая, рухомая гэта з’ява, гэтае паняцце — «сусветная літаратура»!

І вось чаму чалавецтва багацейшае, чым само пра сябе — у кожны момант сваёй гісторыі — думае, ведае.

На «Слова аб палку Ігаравым» было чалавецтва багацейшае, само таго не ведаючы. Было багацейшае на Талстога, нават яшчэ не пачуўшы пра Ясную Паляну. На цэлую літаратуру свет стаў багацейшы раней, чым даведаўся пра тое, — на літаратуру, напрыклад, беларускага народа.



Ды што казаць: літаратурнае багацце цэлых кантынентаў доўгі час не ўлічвалася, не заўважалася.

Так, чалавецтва, а значыць і мы ўсе, заўсёды багацейшыя, чым самі пра тое ведаем. Гэта — як нетры зямлі: улічваем і лічым разведанае, а што яшчэ не знайшлі, пра тое, у лепшым выпадку, толькі здагадваемся.

Але добра, што ўжо памятаем: ёсць, існуюць і схаваныя да часу ад нашага вока багацці!

Ды толькі (зноў няпэўнасць!) чалавецтва заўсёды таксама і бяднейшае, чым яно лічыць.

І багацейшае, але і бяднейшае — у кожны момант свайго жыцця.

У наш час — асабліва. Так, у наш, хоць здавалася б, вунь якія магчымасці адкрыліся для культурнага ўзаемаўзбагачэння, дзякуючы навейшым сродкам камунікацый. Але такая ўжо тут дыялектыка. Дзякуючы сучасным сродкам сувязяў, чалавецтва не толькі багацее, але і бяднее: ніколі не пладзілася, не распаўзалася па планеце столькі падробак пад літаратуру, мастацтва, культуру, навязваючы сябе ў якасці «агульначалавечых» каштоўнасцей, здабыткаў. Колькі «фальшывага золата», «дутай пазалоты» кідае сучасная тэхніка інфармацыі, рэклама на «культурны рынак», і многае лічыць сябе і лічыцца вялікім багаццем, а назаўтра аказваецца смеццем, вугельчыкамі — як у вядомых казках-легендах пра падарункі «нячыстай сілы».

Калі браць маштабы не «сусветныя», а «ўсесаюзныя», а тым больш нейкую адну нацыянальную літаратуру, дык тут, здавалася б, немагчыма гаварыць пра нейкія значныя, схаваныя да часу ад нашага вока, багацці. Сваю ці свае літаратуры ведаюць лепш, бліжэй. Зразумела, гэта так — лепш ведаюць свае. Але вось «Песню пра зубра» — беларускае «Слова» — мы ўбачылі зблізку, ацанілі зусім нядаўна — дзякуючы перакладчыцкаму таленту Язэпа Семяжона.

А колькі значных беларускіх пісьменнікаў і значных твораў 20-х і 30-х гадоў новыя пакаленні чытачоў у апошнія часы адкрылі для сябе?

Ды калі і не гэта браць, не згубленае ў архівах, і не тое, што было несправядліва адкінута, «закрыта», а браць калі звычайнае жыццё твораў ужо вядомых і прызнаных, і тады мы ўбачым тое ж самае. Усю гісторыю літаратуры, пры жаданні, можна разглядаць як узаемавыцясненне твораў творамі, імёнаў імёнамі: прызнанае, узнесенае забываецца, страчвае ўсякае значэнне для новых пакаленняў і часоў, а нешта з «запаснікоў» падымаецца, пачы-

нае актыўна ўзаемадзейнічаць з жывым працэсам, грамадскім і літаратурным, каб заўтра, можа, уступіць месца яшчэ нечаму ці зноў таму, што яно адцясніла на задні план.

Але ж ёсць «залаты фонд», каштоўнасці, непадуладныя часу!

Што яны зусім непадуладныя — гэта не зусім дакладна. Шэкспір ёсць Шэкспір, а Дастаеўскі ёсць Дастаеўскі. І яны застаюцца і застануцца. Але бывалі ж «часы Шэкспіра», а бывала, што рамантыкі Шылер і Байран аказваліся больш сугучнымі часу. Бывала. І бывае. Не ў маштабах усёй планеты, дык у асобнай краіне ці для пэўных сацыяльных груп. А нешта дык і ў планетарных маштабах выходзіць на першы план: часамі Талстой, а часамі дык Дастаеўскі. Нават іх творы, безумоўныя каштоўнасці чалавецтва, не заўсёды ўплываюць на людзей планеты з аднолькавай сілай.

І для твораў мастацтва таксама існуюць старэнне, смерць. Гэта сумна, вядома. Але ў адрозненне ад саміх творцаў, ад людзей мастацкія творы здольны таксама і амалоджвацца, нават уваскрасаць.

Калі яны сапраўды мастацтва.

А таму, гаворачы пра бяссмерце нейкага літаратурнага твора, мы тым самым не сцвярджаем, што яно не можа памерці. А толькі тое, што яно здольна ўваскрэснуць.

Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі,
Над хвалямі сінеючага Ніла,
Ўжо колькі тысяч год стаіць магіла:
У гаршку насення жменю там знайшлі.
Хоць зернейкі засохшымі былі,
Усё ж такі жыццёвая іх сіла
Збудзілася і буйна ўскаласіла
Парой вясенняй збожжа на раллі.

Багдановіч гэта — пра «забыты краю родны!». Але і пра сілу сапраўднага мастацтва таксама.

Затое з «немастацтвам», з «жывымі мерцвякамі» час абыходзіцца з жорсткай бясстраснасцю магільшчыка-філосафа. А быць, калі не жыць, прысутнічаць, калі не існаваць, хочацца і немастацтву. Яшчэ мацней, чым мастацтву, хочацца, бо тут ужо няма ніякай надзеі на ўваскрашэнне.

Час, вядома, паўплываў і на крытэрыі беларускай літаратуры. Яны мяняюцца і будуць мяняцца, і цяпер ужо, заўсёды, у тым напрамку, што літаратура наша ўсё больш відавочна будзе



ўключацца ў сістэму высокаразвітых сучасных літаратур. Гэта не азначае абавязкова — «зраўняцца» з тымі літаратурамі. Тым больш што ў кожнай ёсць свае некаторыя рысы, асаблівасці, якія наогул немагчыма параўноўваць.

Але што беларуская літаратура ўжо ўключана ў «сістэму», у «сілавое поле» сусветнага літаратурнага развіцця і гэта працэс пастаянны, — адчуваецца ва ўсім.

* * *

Ва ўмовах сучаснага актыўнага збліжэння нацыянальных культур і форм існавання народаў, лёсаў цэлых кантынентаў, калі паняцце «чалавецтва» матэрыяльна рэалізуецца не толькі ў нарастаючай рэвалюцыйнай творчасці народаў і тэхнічным «выроўніванні», але таксама і ў пагрозлівым накапленні запасаў усеагульнай смерці — тэрмаядзерных бомбаў, — у сённяшніх умовах сваё і чужое, нацыянальнае і сусветнае на літаратурнай планеце паўстае па-новаму не толькі ў параўнанні са старажытным светам, але і з нядаўнім, літаральна ўчарашнім днём.

Такім чынам, у наяўнасці небывалае ў ранейшыя часы збліжэнне: вось якой абжытай становіцца і літаратурная планета!

Гэта з аднаго боку — збліжэнне.

З другога боку — адштурхоўванне, палярызацыя, ідэалагічная, эстэтычная, гэта неміnuча ва ўмовах сучаснага спаборніцтва сацыяльных сістэм, ва ўмовах несціханай ідэалагічнай барацьбы. Але часам гэта была рэакцыя на нязвыклую блізкасць «акопаў» праціўніка, з якой наша крытыка асвоілася не адразу. Бывалі і панічныя стрэлы і нават залпы не па той мішэні, напрыклад, — у бок італьянскага неарэалізму. І нават Хемінгуэя…

Але здаралася і адваротнае: калі мы проста некрытычна прымалі творы зарубежнага мастацтва (асабліва кіно), спакусіўшыся «аптымізмам» некаторых твораў буржуазнай «масавай культуры».

Вось гэта — кантактаванне і ўзаемнае апладненне сапраўдных эстэтычных каштоўнасцей розных народаў і культур пры адначасовай рэзкай палярызацыі ідэалагічных мэт — характарызуе сучасны аб’ектыўны літаратурны працэс у сусветным маштабе.

З аднаго боку, узбагачэнне і нават недзе, у нечым размыванне нацыянальных традыцый, граняў у нацыянальных літаратурах пад уздзеяннем «сілавога поля» блізкай групы літаратур і ўсёй сусветнай літаратуры, а з другога боку — рэакцыя на гэты працэс. Рэакцыя гэтая можа быць дваякая: альбо імкненне за-

кансерваваць сваё, нацыянальнае, баючыся адкрытай прасторы сусветнай літаратуры, каб не згубіцца ў ёй, не страціць сваё аблічча. Альбо смелы, самастойны, добраахвотны рывок у гэтыя прасторы.

Вядома, смеласць — гэта добра. Складанасць задачы, аднак, заключаецца ў тым, каб не ўлегцы, не «петушком-петушком» бегчы за сусветным літаратурным працэсам, а несці ў агульную скарбніцу сусветнай культуры сваю, патрэбную табе і другім, нацыянальную культурную ношу.

Гэта добра разумеў і пра гэта некалі добра сказаў класік беларускай літаратуры Максім Багдановіч. У 1915 годзе ён пісаў у артыкуле «Забыты шлях»:

«Намагаючыся зрабіць нашу паэзію не толькі мовай, але і духам, і складам твораў шчыра беларускай, мы зрабілі б цяжкую памылку, калі б кінулі тую вывучку, што нам давала светавая (найчасцей еўрапейская) паэзія. Гэта апошняя праца (побач з развіццём беларускай фальклорнай традыцыі. — *А. А.*) павінна ісці поўным ходам. Было б горш, чым нядбальствам нічога не ўзяць з таго, што соткі народаў праз тысячы год сабіралі ў скарбніцу светавой культуры. Але заносіць толькі чужое, не развіваючы свайго, — гэта яшчэ горш: гэта знача глуміць народную душу. Да таго ж адны жабракі могуць праз усё жыццё толькі браць. Трэба ж і нам, беручы чужое, калі-нікалі даць нешта сваё»*.

Пытанне аб сусветным літаратурным развіцці, як ужо гаварылася, зусім не вузка літаратурнае, а агульнагуманістычнае пытанне. Вось чаму так важна, каб чалавечая культура ўзбагачалася за кошт усіх духоўных рэсурсаў і патэнцый.

А між тым колькі страчана, і часта беззваротна.

Неўраджайны год дзяржава, краіна, планета можа пакрыць і перакрыць наступным годам, «звышураджайным». У мастацтве так не бывае. Што не з'явілася, не напісана, чаму абставіны перашкодзілі нарадзіцца ў свой час, у яго час, не народзіцца ніколі. З'явіцца нешта, але ўжо іншае і ў іншым «кантэксце».

Як мільярды людзей на зямлі ўсё-такі не могуць поўнасцю паўтарыць аднаго-адзінага чалавека, калі той гіне, памірае, і таму «мацярык чалавецтва», як гаварыў Джон Дон, робіцца меншы, колькі б ні нараджалася новых людзей, — так і сусветная літаратура не можа не быць бядней, калі хоць адна нацыя,

* Багдановіч М. Збор твораў. Т. 2. Мінск: Навука і тэхніка, 1968. С. 171.



хоць адзін народ пазбаўлены цяпер альбо былі пазбаўлены магчымасці раскрыць сябе праз мастацкае слова.

І таму не будзем пытацца, чыя, якая нацыянальная літаратура багацейшая. Пытанне ставіцца інакш: на чыю, на якую нацыянальную літаратуру бядней альбо багацей было ці стала чалавецтва, сусветная літаратура?

У XVII–XVIII і нават у XIX стагоддзі сусветная літаратура «бядней была» на беларускую літаратуру. У пачатку XX стагоддзя яна ўзбагацілася «Новай зямлёй» Якуба Коласа, паэзіяй Янкі Купалы, Максіма Багдановіча. Можна спытаць: як узбагацілася, калі ніхто амаль іх не перакладаў, мала іх ведалі? Не, ужо і перакладалі крыху, і ведалі. Але важней тое, што творы гэтыя нарадзіліся і, няхай яшчэ непазнаныя і непрызнаныя па-сапраўднаму, але ляглі ў агульную скарбніцу. Заўтра іх знойдуць, разгледзяць, узрадуюцца — як запозненай, але ўсё роўна каштоўнасці. І пачнуць перакладаць.

Сусветная літаратура так і развіваецца: адразу ў двух напрамках.

Адзін — калі паяўляюцца і адразу набываюць сусветную значнасць новыя творы.

Другі: вяртаючыся ў мінулае, такія каштоўнасці адкрываюць у запасніках; іх нечакана знаходзяць, ці нарэшце «рукі даходзяць», ці ўзнікае запозненая, але вострая і ўсеагульная цікавасць да таго, што створана даўно.

Вось так здарылася і з прозай Я. Коласа і К. Чорнага ў 50–60-я гады (з паэзіяй — намнога раней).

У цэлым 50–60-я гады былі для беларускай прозы ў сэнсе яе выхаду за межы Беларусі вельмі плённыя. Цікавасць да яе сёння значная і ў многім зразумелая, калі мець на ўвазе сур'ёзнасць ідэйна-творчых пошукаў, якія спадарожнічалі і спадарожнічаюць яе развіццю.

Калі гаварыць не пра ўвесь фронт развіцця нашай літаратуры, а пра тое, што адбываецца на самым вастрыі, на самым «разцы», то тут цяжэй пазбегнуць суб'ектыўнасці меркаванняў і ацэнак. Адчуваючы гэта, я звярнуўся да анкетнага метаду. На пытанне пра месца беларускай літаратуры сярод іншых літаратур, пра тое, чаго ёй усё яшчэ нестае, пра галоўныя тэндэнцыі ў сучаснай беларускай прозе і яе заўтрашні дзень пісьменнікі Брыль, Быкаў, Лобан, Мележ далі адказы, якія ў многім супадаюць. Гэта перш за ўсё — перакананне, што неабходнай умовай для плённага

руху наперад з'яўляецца яшчэ больш смелы выхад беларускай прозы да вялікіх сучасных праблем, якія хвалююць чалавецтва і якімі жыве вялікая літаратура. Гэта — прызнанне, што напрамак развіцця савецкай літаратуры ў апошнія дзесяцігоддзі быў надзвычай важным і плённым. І незваротным. Не ў тым сэнсе, што немагчымы зварот да праяў ілюстрацыйнасці і да т. п. Такі зварот нават назіраецца ў некаторых сённяшніх творах, што настройвае В. Быкава, напрыклад, на даволі суровы і трывожны тон пры ацэнцы бліжэйшых перспектыў развіцця.

«Мне думаецца, — піша В. Быкаў у «Анкеце», — што ёсць два шляхі: або аналітыка, максімальнае паглыбленне ў сацыяльнасць, непрадузяты рэалізм жыцця, або псеўдарамантыка, псеўдарэалізм, стылёвыя вышукі, ілюстрацыйнасць».

Тое ж і ў адказах Я. Брыля, М. Лобана: нашы празаікі клапоцяцца пра плённае развіццё савецкай літаратуры. Усякая спроба перапыніць працэс збліжэння літаратуры з жыццём, адвесці яе ў бок ад асноўных праблем рэчаіснасці накіравана супраць саміх асноў існавання літаратуры як мастацтва.

У адказах на «Анкету» вельмі важным уяўляецца меркаванне, якое прагучала амаль ва ўсіх: што сучаснай прозе неабходна больш завастрыцца думкай, аналізам, з тым, каб праўда жыцця выступала не ўсяго толькі як праўда быту, штодзённасці або дакумента, але каб яна была болей узброена філасофскай, аналітычнай думкай мастака, каб праўда паўставала не безабароннай перад няпраўдай.

Каб форма была ў гэтым сэнсе больш актыўнай, «мускулістай».

М. Лобан: «Семдзесят гадоў XX стагоддзя — каскад найграндыёзнейшых падзей… Ва ўсякім разе настаў час, калі без сумiравання вопыту, урокаў далей рухацца нельга. Дакументалізм прозы — гэта немагчымасць устаяць перад сілай факта, гэта калі адзінкавае пераважае над абагульненнем. Але такое ўспрыняцце факта — таксама з'ява часовая. Чытач прагнуў голай натуры вайны, пакуль не здаволіўся. Але, відаць, гэта датычыць не толькі тэмы вайны».

Не сакрэт, што многія вельмі праўдзівыя, блізкія да дакумента творы апошніх 10–15 гадоў, пры ўсіх бясспрэчных вартасцях сваіх, у сэнсе літаратурнай формы былі тым, што А. Твардоўскі называе «яздой са спушчанымі лейцамі», а акадэмік Д. Ліхачоў «пошасцю растарможанага стылю». Гэта быў «мядовы месяц» іменна бытавой рэальнасці. Працэс быў надзвычай важны, неабходны — яго можна параўнаць з тым станам, калі партызаны, бывала, дабраўшыся да солі, елі яе лыжкамі. Але толькі да таго часу, пакуль абяссолены арганізм не прыходзіў у норму.



Аднак, прагнучы жывой рэальнасці ў літаратуры, мы занадта схільныя былі (ды і цяпер яшчэ схільныя) не ўлічваць адну рэч: само жыццё — гэта яшчэ не ўсё мастацтва; толькі абграненае вялікай думкай, дакладным словам, вялікім пачуццём мастака, яно становіцца вялікім мастацтвам. Твораў сапраўды значных, твораў вялікага мастацтва паявілася нямала ў гэтыя гады. Яны застануцца ў савецкай літаратуры і ў чымсьці будуць апладатвараць і далейшае яе развіццё.

Побач з тым, што стымулявала паяўленне саміх гэтых твораў, — класікай.

У савецкай літаратуры былі свае прылівы і адлівы і ў сэнсе асваення традыцый класікаў, у прыватнасці Талстога і Дастаеўскага. Творчае засваенне іх вопыту, асабліва калі гэта дыктавалася вялікімі задачамі часу і адбывалася на шляху збліжэння з народным жыццём, аказвалася надзвычай плённым для нашай многанацыянальнай літаратуры.

Прыліў, які пачаўся ў 50-я гады, прадаўжаецца — глыбокі, шматабяцаючы. Але не толькі прадаўжаецца. Здаецца, што ён сапраўды зазнае і якасныя змены.

Нядаўна яшчэ класіка «прачытвалася» і засвойвалася нашай літаратурай пераважна ў зыходнай сваёй якасці: *праўда, толькі праўда і нічога, акрамя праўды!..*

Так, гэта найважнейшы прынцып рэалістычнай класікі — пафас праўдзівасці. Але нават да гэтага найвышэйшага прынцыпу ўрокі класікі звесці нельга.

Канстанцін Левін у Талстога выказваецца пра французаў, якія ўзнялі ўмоўнасць у мастацтве як ніхто іншы, і таму яны асаблівую заслугу бачаць у вяртанні да рэалізму. У тым, што яны ўжо не лгуць, яны бачаць паэзію*.

Маляваць жыццё самім жыццём: быт пісаць бытам, вайну — вайной, трагедыю паказваць трагедыяй, а прозу — прозай, у праўдзе бачыць маральны сэнс, радасць, паэзію мастацтва — хіба мала гэтага і хіба гэта лёгка даецца? Не мала і не лёгка — сучасная літаратура гэта ведае.

Так, на гэтым шляху ў апошнія паўтара дзесяцігоддзя створана многа значнага.

---

* Толстой Л. Н.Собрание сочинений: В 12-ти т. Т. 9. М.: ГИХЛ, 1959. С. 292.

Нельга, аднак, як ужо гаварылася, зводзіць усю філасофію і эстэтычную мэту мастацтва да паэзіі «нялгання», калі літаратура хоча мець «Вайну і мір», «Братоў Карамазавых», «Гамлетаў» і «Фаўстаў». Праўдзівасць, поўная шчырасць, пра якую Л. Талстой гаворыць як пра галоўную ўмову мастацтва, — гэта надзвычай важна. Без гэтага проста няма рэалістычнага мастацтва. Але калі гэта ёсць, адразу паўстае пытанне пра большае: пра тое, чым і вылучаецца класіка, якая ўмее жыць адначасова і сучаснасцю і вечнасцю, і сваім і ўсёчалавечым. Сёння ясней паўстае пытанне іменна пра гэта: пра большую філасофскую змястоўнасць літаратуры, а значыць, пра большую ўвагу і да яе формы. Бытавой і нават дакументальнай праўды сёння ўжо яўна недастаткова.

Жыццё, рэальнасць, «дакумент» у раманах, напрыклад, Талстога і Дастаеўскага, існуюць над велізарным напружаннем думкі. Аўтарскай думкі, аўтарскіх адносін да свету, за якімі — усведамленне найвялікшай мастакоўскай і чалавечай адказнасці, якое прымусіла Талстога сказаць аднойчы, што ў яго часам такое адчуванне, што «ўвесь свет загіне», калі ён, Талстой, «спыніцца».

Калі мы вядзём размову пра нацыянальнае літаратурнае развіццё і пра сусветны літаратурны кантэкст, паўстае пытанне і самае агульнае: пра эстэтычныя крытэрыі. Так, ёсць мноства іншых крытэрыяў, але праз усё прабіваецца гэты — эстэтычны. Гэта важна нават практычна — пры велізарным патоку перакладаў, выданняў, — каго чытаюць і будуць чытаць па меры росту эстэтычнай патрабавальнасці і пісьменнасці чытацкай масы. Але ці магчыма гэта ў прынцыпе, — гавараць пра сусветныя эстэтычныя крытэрыі?

Адзін крок, але гэта крок гіганта, талстоўскі, цэлага чалавецтва крок. Многія дзесяцігоддзі, напружанне многіх талентаў нацыянальных літаратур спатрэбіцца, каб выйсці «на лінію» гэтага кроку! Так, Талстой (побач з Дастаеўскім) быў настаўнікам і для Хемінгуэя, і для Фолкнера, і для Бёля, і для Ясунары Кавабаты… Гэтую ісціну, засведчаную самімі пісьменнікамі розных краін, некаторыя нашы крытыкі ўвенчваюць такімі парадамі, рэкамендацыямі: навошта хадзіць-блукаць па планеце, калі ўсё роўна, абышоўшы шарык, вернешся ў тое ж месца да Талстога! Нашто, маўляў, нашаму пісьменніку вопыт Хемінгуэя ці Бёля, калі ёсць Талстой! Так, сапраўды вернешся «на тое ж месца», але хіба мала па дарозе ўбачыш, даведаешся, навучышся? І Талстога лепш убачыш, зразумееш.

Эстэтычны крок наперад, зроблены чалавецтвам праз Льва Талстога, вядома, зусім не азначае, што ўзровень твораў Льва Талстога — і ёсць той узровень, да якога неабходна ўзняцца, каб твор ці нацыянальная літаратура атрымалі «ўваходны білет» у літаратуру сусветнага стандарту. Важна другое: каб тое, што пасля Талстога, хоць і не на «талстоўскім узроўні», але стала нормай сучаснай літаратуры, каб гэта ўвайшло арганічна ў вопыт і тваёй нацыянальнай літаратуры. Вядома, не адным Талстым «сусветны» ўзровень падтрымліваецца, як вісячы мост — не адной апорнай вышкай. Але сваю мэту мы бачым цяпер іменна ў тым, каб спецыяльна разгледзець пытанне, якое сфармуляваць можна так: што ж прынцыпова новае ўвайшло ў літаратуру з Талстым, без чаго сёння проста няма сучаснай літаратуры, няма неабходнага ўзроўню?



А каб такі просты зварот да Льва Талстога ў працы пра беларускую сучасную прозу не выглядаў нечаканым, прывядзём тут некалькі адказаў на пытанне (не вельмі ўдала сфармуляванае) нашай «Анкеты»: «Якія два-тры пісьменнікі сусветнай літаратуры ідуць з Вамі праз усё творчае жыццё? Чаму?»

*Янка Брыль:* «Талстой і Чэхаў. Глыбіня агульначалавечага зместу і мастацкая дасканаласць. А таксама — што вельмі важна — іх чалавечы воблік».

*Іван Мележ:* «У розныя перыяды жыцця мне спадарожнічалі розныя і многія пісьменнікі. Я паграшыў бы супраць праўды, калі б выбраў двух-трох… Люблю Бальзака і Купалу, Ражэ Мартэна дзю Гара і Кузьму Чорнага, Скота Фіцджэральда і Івана Буніна, і Міхайлу Кацюбінскага. Нязменна — Льва Талстога, Міхаіла Шолахава (асабліва «Ціхі Дон»), Аляксандра Фадзеева (асабліва «Разгром»). Схіляюся перад магутным талентам Дастаеўскага. Ганаруся, што карэньчыкі яго — у нашым Палессі».

*Васіль Быкаў:* «Два-тры — гэта мала. Нават самых лепшых двух-трох недастаткова. Кожны з вялікіх добры па-свойму. У Талстога мяне прыцягвае ўсеабдымнасць і глыбіня жыцця, а таксама чалавечнасць; у Дастаеўскага — яго цікавасць да праклятых бакоў жыцця і да чалавека як біялагічнай істоты; у Чэхава — яго ціхая, сціплая чалавечнасць; у Чорнага — глыбіня і дакладнасць у жывапісанні беларускага мужыка. Хемінгуэй для мяне дарагі перш за ўсё сваёй непрадузятасцю да вайны, якую ён называў вялікім бардаком, і нейкай даверліва-сяброўскай стрыманасцю. Акрамя таго, ёсць сучасныя…»

*Мікола Лобан:* «Назаву двух: Льва Талстога — найвышэйшае майстэрства ў спалучэнні з вялікай мудрасцю — і Кузьму Чорнага, вялікага майстра паказу душы беларускага селяніна».

Хоць аўтару «Анкеты» і не ўдалося (і не трэба было, відаць, старацца) звузіць усе адказы да двух-трох імён, але і сярод многіх Леў Талстой, яго аўтарытэт, як бачым, прызнаецца і ставіцца асабліва высока сучаснымі беларускімі празаікамі.

Вартыя высокага прызнання творы час «суміруе» ў сусветную класіку. Але іншы раз адбываецца большае: «множанне», «узвядзенне ў ступень». Сусветная літаратура не проста павялічылася на Талстога. Яна была «памножана» на Талстога, «узведзена» да Талстога.

Эстэтычная «столь» чалавецтва адразу стала іншай…

З вышыні сваёй гіганцкай мастацкай практыкі, ужо будучы аўтарам большасці сваіх раманаў і аповесцей, працуючы над «Уваскрасеннем», Леў Талстой так адказвае на ім жа вострапалемічна пастаўленае пытанне, што такое мастацтва:

«Мастацтва не ёсць, як гэта гавораць метафізікі, праяўленне нейкай таямнічай ідэі, красы Бога; не ёсць, як гэта гавораць эстэтыкі-фізіёлагі, гульня, у якой чалавек выпускае лішак накопленай энергіі; не ёсць праяўленне эмоцый знешнімі знакамі; не ёсць вытворчасць прыемных прадметаў, галоўнае — не ёсць асалода, а ёсць неабходны для жыцця і для руху да дабра асобнага чалавека і чалавецтва сродак зносін людзей, які злучае іх у адных і тых жа пачуццях».

І далей: «Каб не было ў людзей здольнасці ўспрымаць усе тыя перададзеныя словамі думкі, якія былі передуманы людзьмі, што жылі раней, і перадаваць другім свае думкі, людзі былі б падобныя да звяроў або да Каспара Гаўзера.

Калі б не было другой здольнасці чалавека — «заражацца» мастацтвам, людзі наўрад ці не былі б яшчэ больш дзікімі, і галоўнае, раз’яднанымі і варожымі.

І таму дзейнасць мастацтва ёсць дзейнасць вельмі важная, настолькі ж важная, як і дзейнасць мовы, і настолькі ж распаўсюджаная»*.

Гэта былі 90-я гады, у той час Л. Талстой не вельмі высока цаніў сучаснае (ды і не толькі сучаснае) мастацтва, калі яно пазбаўлена сапраўднай усеагульнасці (маральнай і мастацкай).

Ён і свае выдатныя раманы мог выносіць за дужкі сапраўднага, «патрэбнага ўсім», «сусветнага мастацтва», за якім — будучыня. І ўсё-такі той гімн мастацтву, што прыведзены вышэй, гэта голас і аўтара «Вайны і міру» і «Анны Карэнінай», а не толькі аўтара

* Толстой Л. Н. Что такое искусство? Полное собрание сочинений. Т. 30. М.: ГИХЛ, 1951. С. 66.



цудоўнага «Каўказскага нявольніка», амаль адзінага твора, які Талстой у артыкуле «Што такое мастацтва?» удастойвае назвы «патрэбнага» твора. Пры ўсіх «прапаведніцкіх» крайнасцях артыкула «Што такое мастацтва?» у ім усё-ткі вопыт Льва Талстога, а яго каштоўнасць для разумення мастацтва невымерная.

Л. Талстой перабраў усе «за» і «супраць» у мастацтве і нарэшце выдзеліў і надзвычай высока ацаніў магчымасці «сусветнага мастацтва».

«Калі мастацтвам магло быць перададзена пачуццё глыбокай пашаны да іконы, да прычасця, да асобы караля, сорам перад здрадай сяброўству, адданасць сцягу, неабходнасць помсты за абразу, патрэба ахвяраваць сваю працу на пабудову і ўпрыгожанне храмаў, абавязкі абароны свайго гонару альбо славы бацькаўшчыны, то тое ж мастацтва можа выклікаць і пачуццё глыбокай пашаны да гонару кожнага чалавека, да жыцця кожнай жывёліны, можа выклікаць сорам перад раскошаю, перад гвалтам, перад помстай, перад карыстаннем для свайго задавальнення прадметамі, якія складаюць неабходнасць для іншых людзей, можа прымусіць людзей свабодна і радасна, не заўважаючы гэтага, ахвяраваць сабой дзеля служэння людзям»*.

Сугучным, радасным рэхам талстоўскаму гімну мастацтву як «сродку зносін паміж людзьмі» гучаць словы пра творчасць самога Льва Талстога, якія належаць французу Л. Мары: «Нейкі дваранін, нейкі салдат Кутузава або селянін з далёкай невядомай мне краіны хвалюе мяне непараўнальна больш, чым герой рамана, які з’яўляецца маім сучаснікам і суайчыннікам»**.

У чым жа, такім чынам, сусветнае мастацтва эстэтычна стала іншым з паяўленнем і пасля Л. Талстога?

Відавочна, у галоўным: у поглядзе на чалавека, у разуменні чалавека і перш за ўсё ў *ступені пранікнення* літаратуры ў дыялектыку яго душы.

Праўда чалавечай псіхалогіі ў літаратуры стала іншай.

Якой жа?

Вернемся зноў да трактата «Што такое мастацтва?».

«…Выклікаць у сабе раз перажытае пачуццё і, выклікаўшы яго ў сабе, пры дапамозе рухаў, ліній, фарбаў, гукаў, вобразаў, выражаных словамі, перадаць гэтае пачуццё так, каб другія перажылі тое ж пачуццё, — у гэтым заключаецца дзейнасць

* Толстой Л. Н. Что такое искусство? С. 194–195.

** Л. Н. Толстой и зарубежный мир // Литературное наследство. 1965. Кн. 2. С. 64.

мастацтва. Мастацтва — ёсць дзейнасць чалавечая, якая заключаецца ў тым, што адзін чалавек свядома пэўнымі знешнімі знакамі перадае другім пачуцці, якія ён адчувае, а другія людзі заражаюцца гэтымі пачуццямі і перажываюць іх»*.

Гэта і ёсць у мастацтве тое самае агульнае і абавязковае, лічыць Л. Талстой, без чаго мастацтва няма.

Але што азначае выклікаць у сабе раз перажытае пачуццё? У якой меры гэта магчыма і з якой мерай шчырасці і тым самым паўнаты пісьменнік, мастак, кампазітар перадае яго другім?

Вось тут якраз і пачынаецца тая талстоўская, ні з чым непараўнальная «мера праўды», якая і зрабіла такі моцны ўплыў на сусветнае літаратурнае развіццё.

Сам Л. Талстой так піша пра гэтую самую «меру»:

«Прыкмета, якая выдзяляе сапраўднае мастацтва ад падробленага, ёсць адна несумненная — заразлівасць мастацтва... *Чым мацней заражэнне, тым лепшае мастацтва як мастацтва, не кажучы пра яго змест, г. зн. незалежна ад якасці тых пачуццяў, якія яно перадае*.

Мастацтва ж становіцца больш ці менш заразлівым пры трох умовах: 1) пры ўмове большай альбо меншай асаблівасці таго пачуцця, якое перадаецца, 2) пры ўмове большай ці меншай яснасці перадачы гэтага пачуцця і 3) пры ўмове шчырасці мастака, г. зн. большай ці меншай сілы, з якой мастак сам перажывае пачуццё, якое перадае»**.

Так, для Талстога на першым плане заўсёды і абавязкова — маральная змястоўнасць мастацтва. *Для чаго, у імя чаго, што новае, патрэбнае і карыснае людзям ты здольны сказаць?* — галоўнае ў мастацтве.

Але шлях да сэрца чытача, гледача і слухача пачынаецца з сэрца самога мастака. Іменна шчырасць (гэта значыць перакананасць, адданасць праўдзе) Талстой лічыць абавязковай умовай «заразлівасці мастацтва». Умова гэтая змяшчае ў сабе і ўсе астатнія, «таму што калі мастак шчыры, то ён выкажа пачуццё так, як ён успрыняў яго. А паколькі кожны чалавек не падобны на другога, то і пачуццё гэтае будзе асаблівым для ўсякага другога, і тым больш асаблівым, чым глыбей зачэрпне мастак, чым яно будзе больш задушэўным, шчырым. Гэтая ж шчырасць

* Толстой Л. Н. Что такое искусство? С. 64.

** Тамсама. С. 148–149 (падкрэсленне Л. М. Талстога).



прымусіць мастака і знайсці выразнае выяўленне таго пачуцця, якое ён хоча перадаць»*.

[...]

Шчырасць, па Талстому, ёсць той рубеж, які рэзка раздзяляе мастацтва і «не-мастацтва». І таму ступень шчырасці хоць і не вызначае поўнасцю ўзровень мастацтва (таму што адразу ж паўстае пытанне пра значнасць, чалавечую і грамадскую, аўтарскага зместу), але непасрэдна на яго ўплывае. Л. Талстой на гэтым настойвае не толькі ў трактаце «Што такое мастацтва?», але і на працягу ўсяго жыцця — гэта глыбокае перакананне Талстога-практыка.

«З таго, што сказаў мне Талстой, — успамінае французскі вучоны Поль Буэйе, — вынікала, што ў пісьменніках сваёй краіны, старых і новых, а таксама ў нашых пісьменніках ён вышэй за ўсё ставіць шчырасць думкі, а затым — шчырасць выяўлення. Іменна да шчырасці — вось да чаго заўсёды вяртаешся ў гутарках з Талстым і пра яго таксама можна будзе сказаць з часам: «veritatum delixit» («праўду выбраў»). Найменшае падазрэнне ў няшчырасці, нават у галіне стылю, выклікае ў яго агіду і абурэнне»**.

«Індывідуальнасць, — гаварыў Л. Талстой, — гэта шчырасць. Калі *будзеце шчырым*, тады заўсёды будзеце і індывідуальным» (успаміны Б. А. Лазарэўскага)***.

У размове з Ізабелай Хэпгуд — пра тое ж:

«Патрэбны тры ўмовы, каб быць добрым пісьменнікам: трэба, каб яму было пра што гаварыць, каб ён расказваў своеасабліва і быў праўдзівы. Дзікенс спалучаў у вышэйшай ступені ўсе тры ўмовы; яны спалучаюцца таксама і ў Дастаеўскага»****.

У пісьме да А. Н. Пыпіна, гаворачы пра Тургенева, Леў Талстой падкрэслівае (студзень 1884 года):

«Галоўнае ў ім гэта яго *праўдзівасць*... Тургенеў... добра гаворыць заўсёды *тое самае, тое*, што ён думае і адчувае... уплыў Тургенева на нашу літаратуру быў самы добры і плённы... Ён не выкарыстоўваў свой талент (уменне добра маляваць сло-

* Толстой Л. Н. Что такое искусство? С. 150.

** Л. Н. Толстой и зарубежный мир // Литературное наследство. 1965. Кн. 1. С. 389.

*** Гл.: кніга «О Толстом». Международный толстовский альманах, изд-во «Книга», 1909. С. 97.

**** Л. Н. Толстой и зарубежный мир. Кн. 1. С. 410.

вам) для таго, каб хаваць сваю душу, як гэта рабілі і робяць…»* (падкрэсленне Л. М. Талстога).

Можна тут прыгадаць і гарачыя словы Л. Талстога ў «Севастопальскіх апавяданнях» аб праўдзе як галоўным герою, самым прыгожым і вечным герою мастацтва, і многія іншыя яго выказванні і запісы ў дзённіках.

Іменна ў ступені шчырасці самавыяўлення і адлюстравання свету ў сабе (небывалай, часам нясцерпнай) адна з таямніц уздзеяння вялікага таленту Л. Талстога на літаратуру ўсяго свету. (Талент не зводзіцца да шчырасці, але больш за ўсё роднасны ёй: не ўсякая шчырасць — талент, але няма таленту без шчырасці перад сабой і светам).

У гэтым Леў Талстой — бязлітасны. Любоў да праўды і да чалавека робіць яго такім, спапяляючае пачуццё ідэйна-маральнага пошуку сэнсу жыцця.

Соф'я Андрэеўна Талстая з жахам, уласцівым звычайнаму чалавеку, гаварыла: «Ён у дзённіку такія рэчы пра сябе пісаў, што я не разумею, як можна пра сябе так пісаць»**.

Бязлітасная праўдзівасць, якая зрывае ўсе маскі, агаляе самую глыбіню чалавека і якая дасягае амаль нясцерпнай вастрыні ў «Крэйцаравай санаце» і «Смерці Івана Ільіча», безумоўна ж, не самамэта для Л. Талстога. Яна дыктуецца самім зместам і кірункам грамадскага жыцця, а таксама маральнымі пошукамі мастака. (У што можа ператварыцца, перарасці бязлітаснасць аналізу чалавечай псіхалогіі, калі яна становіцца самамэтай альбо дыктуецца пагардай да людзей, можна бачыць на шматлікіх прыкладах сучаснай літаратуры Захаду).

«Галоўная мэта мастацтва, — пісаў Л. М. Талстой у дзённіку, — калі ёсць мастацтва і ёсць у яго мэта, тая, каб выявіць, выказаць праўду пра душу чалавека, выказаць такія таямніцы, якія нельга выказаць простымі словамі. Ад гэтага і мастацтва. Мастацтва ёсць мікраскоп, які наводзіць мастак на таямніцы сваёй душы і паказвае гэтыя агульныя для ўсіх таямніцы людзям»***.

* Толстой Л. Н. Полное собрание сочинений. Т. 63. М.: Гослитиздат, 1934. С. 149–150.

** Бунин И. Собрание сочинений. Т. 9. М.: Художественная литература. С. 120.

*** Толстой Л. Н. Полное собрание сочинений. Т. 54. М.: Гослитиздат. С. 94.



Іван Бунін адзначае ў сваім глыбокім артыкуле «Вызваленне Талстога»:

«Ненармальнай» была колькасць яго штодзённых запісаў пра свае думкі, пра пачуцці і ўчынкі, «ненармальнай» была і якасць іх (у сэнсе праўдзівасці, адкрытасці)»*.

Л. Талстой пераканаsuccessful быў, што мастак, пра каго б ні пісаў, у канчатковым выніку ў самім сабе, у глыбінях сваёй псіхалогіі, знаходзіць тлумачэнне, ключ да душы і цара, і разбойніка, і селяніна, і салдата**. І чым глыбей і бязлітасней ён здольны заглядваць у сябе, тым глыбей убачыць і пакажа, намалюе другіх.

«Не, я застаюся пры сваёй думцы. Вы кажаце, што Дастаеўскі апісваў сябе ў сваіх героях, думаючы, што ўсе людзі такія. І што ж! вынік той, што нават у гэтых выключных асобах не толькі мы, родныя яму людзі, але іншаземцы пазнаюць сябе, сваю душу. Чым глыбей зачарпнуць, тым агульней для ўсіх, знаёмей і радней»***.

Іменна талстоўская мера праўдзівасці, бязлітаснасці ў імя праўды — мастацкая і адначасова маральная мера — паступова ўсведамляецца пісьменнікамі многіх краін як сапраўдны крытэрый самога мастацтва, на якое трэба раўняцца. Вялікі пісьменнік зямлі рускай становіцца ўзорам мастацкай смеласці для многіх і многіх.

«Калі ў вас знойдзецца час і жаданне прачытаць яго, — пісаў Л. Талстому амерыканскі пісьменнік Джон У. Форэст, былы маёр, пасылаючы свой раман «Міс Равенел», — вы заўважыце адзін вялікі недахоп: мне не хапіла вашай смеласці і сумленнасці ў выкрыцці ўсяго жаху вайны.

Я не адважыўся сказаць свету, якія сапраўдныя пачуцці чалавека, нават і храбрага на полі бою. Я баяўся, што людзі скажуць: «О, у глыбіні душы ты — баязлівец. Герой любіць бітву».

Цяпер, прачытаўшы «Вайну і мір», я горка шкадую, што быў такі нікчэмны і не змог дасягнуць той праўды, якая магчыма толькі пры поўнай шчырасці. Праўда — велічная і прыгожая, але яе цяжка дасягнуць і іншы раз ёй боязна глядзець у вочы»****.

* Бунин И. Собрание сочинений. Т. 9. С. 120.

** Гётэ пра гэта ж: «Кожны пісьменнік да пэўнай ступені малюе ў сваіх творах самога сябе, нават наперакор сваёй волі», — у кнізе «Толстой и зарубежный мир» (Литературное наследство. 1965. Кн. 1. С. 351).

*** З пісьма Л. Талстога М. Страхаву. Цыт. па артыкулу: Бурсов, Б. Личность Достоевского // Звезда. 1969. № 12. С. 103.

**** Л. Н. Толстой и зарубежный мир. Кн. 1. С. 344.

Усе, хто па-сапраўднаму пісаў пра сусветную вайну, да якой Л. Талстой не дажыў, але якую прадчуваў і грозна папярэджваў пра яе магчымасць (Анры Барбюс, Рэмарк, Хемінгуэй, Гарэцкі, Шолахаў і іншыя), — усе яны імкнуліся глядзець у вочы страшнай праўдзе вайны талстоўскімі вачамі.

Амаль талстоўскімі словамі гаворыць аб ролі і прызначэнні пісьменніка, аб праўдзе як галоўным сваім герою Хемінгуэй:

«Задача пісьменніка нязменная. Сам ён мяняецца, але задача яго застаецца тая ж. Яна заўсёды ў тым, каб пісаць праўдзіва і, зразумеўшы, у чым праўда, выказаць яе так, каб яна ўвайшла ў свядомасць чытача часткай яго ўласнага вопыту»*.

Маючы на ўвазе іменна «талстоўскую меру» праўдзівасці і шчырасці, Хемінгуэй сцвярджаў, што ваенны вопыт для пісьменніка нішто замяніць не можа: толькі перажыўшы пачуццё чалавека на вайне, можна асмеліцца пісаць пра вайну. Да Л. Талстога гэта зусім не лічылася абавязковым: не тая мера праўдзівасці лічылася «прыстойнай», «маральнай» для раманістаў.

Уся сусветная літаратура ў канцы XIX і ў XX стагоддзі развівалася і развіваецца, адчуваючы прысутнасць Л. Талстога (не выпадкова, што першая рэакцыя А. Блока, М. Горкага, А. Купрына на вестку пра смерць Талстога была амаль аднолькавая: без Талстога *боязна*, *пуста*…).

Пачуццё ўсеагульнага прызнання талстоўскага аўтарытэту, яго «зямной несувымяральцасці» па-свойму ахарактарызаваў і выказаў адзін галандскі пісьменнік, сказаўшы, што калі б пан Бог захацеў напісаць раман, ён не мог бы гэтага зрабіць, не ўзяўшы за ўзор «Вайну і мір».

Іменна ў гэтым напрамку эстэтычна развіваецца прагрэсіўная сусветная літаратура з паяўленнем і пасля Талстога — у напрамку талстоўскага бязлітасна шчырага, агаляючага, шматграннага, «цякучага» псіхалагічнага аналізу.

Ад назірання за «ненатуральнай» і тым не менш такой праўдзівай і чыстай «халоднасцю» хлопчыка ля труны любімай маці (у першых аповесцях), праз вялікую праўду перажыванняў Мікалая Растова ў першым баі і П'ера Бязухава на Барадзінскім полі і ў Маскве ў час пажару, праз нясцерпна блізкае святло, што выпраменьвае «свечка жыцця» Анны Карэнінай, так жудасна пагашаная, праходзім мы, каб (у «Крэйцаравай санаце», «Смерці Івана Ільіча») стаць твар у твар з такой праўдай пра чалавека,

* Хемингуэй Э. Писатель и война // Собр. соч. Т. 3. М.: Гослитиздат.



якая была б ужо і вельмі крыўднай, калі б побач не стаяў усё той жа Леў Талстой, які ўсё ведае, усё бачыць і «карае» сваіх герояў за здзек чалавека з самога сябе.

Чаму талстоўскае адкрыццё чалавека, невядомых да таго часу глыбінь яго душы аказала такі лавінападобны ўплыў на ўсю сусветную літаратуру.

Сіла генія? Так. Рыканне льва, як сказаў адзін японец, будзіла ўвесь свет. Але трэба ўлічыць, што сама Расія была рэзанатарам гэтага голасу — рэвалюцыйная Расія.

Талстоўскае адкрыццё чалавека, яго глыбінь адначасова было новым адкрыццём для свету і самой Расіі, у якой усё перавярнулася і рыхтавалася перавярнуцца яшчэ глыбей і ўжо — канчаткова.

Што гэта паспела ў Расіі, Леў Талстой добра ўсведамляў, і ён усведамляў таксама сусветнае значэнне рускіх рэвалюцый.

«Цяперашняя рэвалюцыя, — пісаў ён у 1906 годзе, — многа духоўна пасуне чалавецтва, якое становіцца ўсё больш і больш салідарным»*.

Леў Талстой для свету быў часткай (небывала страснай, шчырай «часткай») Расіі, якая «варочалася», гатовая падняцца на ўвесь свой рэвалюцыйны рост.

Шэро Рышар пісаў: «Больш за ўсё мяне захапляе ў Талстым бляск яго асобы, адзінай яго абароны ад усіх помслівых сіл на яго радзіме. Цэлых дваццаць гадоў вядзе ён вайну з самадзяржаўем, якое выкрывае, з арміяй, якую праклінае, з духавенствам, якое абсмейвае, з цывілізацыяй, якую не прызнае, — адным словам, з усім сваім векам. І што ж! Ні цар, ні армія, ні царкоўныя služкі не асмеліліся падняць на яго руку… Памёр ён — і ўжо ні адзін голас не парушыць расійскай нямой цішыні, ні адзін агеньчык не блісне ў змроку гэтага велізарнага поля бітвы»**.

Была і другая, сустрэчная хваля, якая садзейнічала гэтаму шырокаму «разліццю» талстоўскага ўплыву ў сусветнай літаратуры — гэта сацыяльна-гістарычныя і псіхалагічныя працэсы ў жыцці Заходняй Еўропы і ўсяго свету напярэдадні першай сусветнай бойні, у ходзе яе і асабліва пасля яе. «Зрыванне масак» з буржуазнага свету і расчараванне ў самой ідэі гістарычнага прагрэсу складана пераплятаюцца адно з другім у літаратуры «страчанага пакалення». «Бязлітаснасць» у поглядзе на ўсё, і ў

* Л. Н. Толстой и зарубежный мир. Кн. 1. С. 472.

** Тамсама. С. 385.

тым ліку на чалавечую асобу, яе ўнутраны свет, становіцца самім прынцыпам еўрапейскай і сусветнай літаратуры. На гэтым шляху яна дабілася вялікіх эстэтычных заваёў іменна ў талстоўскім напрамку (асабліва ў творчасці Хемінгуэя).

Але на гэтай жа пасляваеннай хвалі, як вынік гістарычнага песімізму і расчаравання ў гуманістычных ідэалах перад тварам сусветнай вайны, паяўляюцца тэндэнцыі дэгуманізацыі мастацтва: «развенчванне» чалавека наогул, нявер'е ў яго магчымасці, сцвярджэнне зла як галоўнага пачатку чалавечай натуры, — і ўсё гэта нібы «працягваючы», «развіваючы» талстоўскую «бязлітаснасць», «праўду», хоць, вядома ж, нішто так не супярэчыць гуманістычнаму, талстоўскаму адкрыццю чалавека, як гэта. Аднабакова, у яшчэ больш скажоным выглядзе гэтая літаратура выкарыстоўвае мастацкія адкрыцці Дастаеўскага, «падпраўляючы» ім і самога Талстога, тым больш што ў гэтага другога генія рускай літаратуры бязлітасная любоў да чалавека змяшчала ў сабе столькі горычы і болю, што штучна выдзеленая «горыч» гэтая здольна была разбуральна дзейнічаць на веру ў чалавека, у яго будучыню, у чым зноў-такі — зусім не вінаваты сам Дастаеўскі.

Адна і тая ж высокая «пляцоўка» можа аднолькава служыць як для высокага палёту, так і для падання ўніз.

Небывалы ўплыў Талстога, а разам з ім і Дастаеўскага на ўвесь сусветны літаратурны працэс вельмі садзейнічаў усведамленню самой літаратурай яе сусветнай ролі, місіі, яе прызначэння як голасу прагрэсіўнага чалавецтва. Добра пра гэта сказаў прафесар Сарбоны Г. Сейль у 1910 годзе, калі свет здрыгануўся, застаўшыся без Талстога.

«У Талстым мы трацім аднаго з тых людзей, якія надаюць сэнс слову *чалавецтва*. З'яўляючыся голасам свайго народа, выказваючы яго самыя глыбокія імкненні, ён гаварыў усеагульнай мовай розуму і сэрца, прыцягнуў да сябе ўвагу другіх народаў, ён прымусіў іх засяродзіцца, лепш пазнаць саміх сябе, зразумець, што існуюць пачуцці куды больш глыбокія, чым розніца ў поглядах, і праблемы, якія паўстаюць у свядомасці ўсіх людзей. Вось чаму ў самадзяржаўнай Расіі маглі забараняць яго творы, нават знішчаць іх, але не маглі прымусіць яго змоўкнуць, а тым больш — кінуць яго ў турму, саслаць у Сібір. Ён жыў вольна на зняволенай зямлі. Талстой у Расіі знаходзіўся пад аховай усяго чалавецтва, таго вялікага грамадства, якое ўжо існуе, калі яно можа прадпісваць цару аказанне ўсіх неабходных атрыбутаў павагі старому, якога выбрала грамадства ў якасці свайго правадыра і прадстаўніка»*.



Талстой і Дастаеўскі як дзве найвышэйшыя вяршыні ў сусветнай літаратуры відаць адусюль. І, як бывае ў гарах, дзе, адыходзячы ад далёкай вяршыні, на самай справе, магчыма, ідзеш да яе абходной дарогай, так і з Талстым і Дастаеўскім (асабліва з Дастаеўскім) — усе аддаленні ад іх для савецкай, напрыклад, літаратуры заканчваліся новым, на новым вітку, набліжэннем. І ўсе такія набліжэнні звязаны былі з імкненнем літаратуры да сапраўднага свайго, да вялікага прызначэння: «Разгром», «Ціхі Дон», раманы К. Чорнага ў 20–40-я гады, літаратура пра вёску і пра Айчынную вайну ў 60-я гады.

Дзве сусветныя вяршыні, але над адной заўсёды ўзыходзіць або заходзіць сонца, над другой жа — варушыцца хаосам грозная хмара. Выходзячы зноў і зноў да Талстога, сусветная літаратура асвятляецца вечным чалавечым шчасцем жыцця на зямлі і новай верай у чалавека, гледзячы ж на другую вяршыню, якая папярэджвае пра небяспеку ўперадзе, яна трывожна азіраецца і як мага глыбей заглядвае ў чалавечую душу, шукаючы адказу на вечнае пытанне: «Чалавек — хто ён для сябе самога, чаго яму чакаць ад сябе?» Разам з Талстым Дастаеўскі адкрывае чалавека на тую, на такую глыбіню, дзе фарміруюцца і нараджаюцца, часам са страшэннага хаосу грамадскіх і прыродных пачуццяў, учынкі чалавека.

Як паказаў час, Дастаеўскі зусім не адрываў чалавека ад часу, грамадства. Ён бачыў і паказаў чалавека не толькі проста звязанага са сваім часам і грамадствам, але і ў прадчуванні часу, які настане. Крытык М. Тураўская ў артыкуле «Злачынствы веку» і «масавая цывілізацыя»** зрабіла цікавы і шматзначны дослед: на падрабязнае апавяданне пра злачынствы, якія раз'ядаюць «хворае грамадства», буржуазны свет і маштабы якіх пагрозліва растуць, яна «накладвала» без усякіх каментарыяў цытаты з Дастаеўскага.

І аказваецца, што каментарыі сапраўды не патрэбны: здаецца, што менавіта гэтыя з'явы і меў на ўвазе Дастаеўскі, калі пісаў:

«Але мяне цікавіць пры гэтым другая акалічнасць, цэлае, так сказаць, пытанне. Не гаворачы ўжо пра тое, што злачынствы ў ніжэйшых класах, за апошнія пяць гадоў, павялічыліся; не гаворачы пра паўсюдныя і бесперапынныя рабункі і гвалтоўніцтва,

---

* Л. Н. Толстой и зарубежный мир. Кн. 2. С. 397–398.

** Новый мир. 1968. № 7.

больш за ўсё дзіўна тое для мяне, што злачынствы і ў вышэйшых класах такім жа чынам павялічваюцца і, так сказаць, паралельна… І калі цяпер гэтая старая працэнтшчыца забіта адным з грамадства больш вышэйшага… то чым жа растлумачыць гэтую, з аднаго боку, распушчанасць цывілізаванай часткі нашага грамадства?

— Перамен эканамічных многа, — адазваўся Засімаў («Злачынства і пакаранне»).

«Тут справа фантастычная, змрочная, справа сучасная, нашага часу выпадак-с, калі памуцілася сэрца чалавечае; калі ўсё жыццё прапаведуецца ў камфорце. Тут кніжныя мары-с, тут тэарэтычна раздражненае сэрца» («Злачынства і пакаранне»).

«І што такое змякчае ў нас цывілізацыя? Цывілізацыя выпрацоўвае ў чалавеку толькі шматбаковасць адчуванняў і… рашуча нічога больш. А праз развіццё гэтай шматбаковасці чалавек яшчэ, бадай, дойдзе да таго, што знойдзе ў крыві асалоду… Па крайняй меры, ад цывілізацыі чалавек стаў калі не болей крыважэрны, то ўжо, мабыць, горш, паскудней крыважэрны, чым раней. Раней ён бачыў у кровапраліцці справядлівасць і са спакойным сумленнем знішчаў каго трэба было; цяпер жа мы хоць і лічым кровапраліцце паскудствам, а ўсё-такі гэтым паскудствам займаемся, ды яшчэ больш, чым раней» («Запіскі з падполля»).

Сучасным «фонам» для злавесна-прароцкіх прадчуванняў гэтага генія служаць і амерыканскія злачынствы ў Сангмі, дзе дзевятнаццацігадовых салдат вучылі забіваць жанчын і дзяцей зусім гэтак жа, як гітлераўскія эсэсаўцы забівалі жыхароў у сотнях беларускіх Хатыняў.

Ю. Каракін у артыкулах «Антыкамунізм, Дастаеўскі і «дастаеўшчына»*, «Праўда пра свет»** паставіў Дастаеўскага ў іншы сучасны кантэкст, і зноў быццам пра гэта і гаварылася Дастаеўскім.

«Кантэкст» гэты — усе небяспечныя шаленствы маоцзэдунаўскага «казарменнага камунізму» і яго «арыфметыка галоў», «неабходных» для атамнай перамогі над праціўнікамі (да ліку якіх пад № 1 мааісты адносяць сёння і СССР).

Прыводзячы вядомае месца са сну Раскольнікава пра «нябывалую моравую язву, якая ідзе з глыбінь Азіі», Ю. Каракін піша:

* Проблемы мира и социализма. 1963. № 5.

** Вопросы философии. 1967. № 9.



«А ўсё гэтае «трагладзіцтва» пачалося з «арыфметыкі», усё пачалося з таго, што вырашылі, быццам з ісцінай 2 × 2 = 4 можна вызначыць лёс людзей… Чалавецтва вечна будзе ўдзячна Дастаеўскаму: ён можа больш чым які-небудзь іншы мастак прымушае людзей літаральна апячыся думкаю аб небяспецы «арыфметыкі» і аб выратавальнасці «ліку» з дакладнасцю да адзінкі. У марксізме ёсць і найбагацейшая традыцыя непрымірымай барацьбы супраць «грубага», «ураўняльнага», «казарменнага», «непрадуманага» камунізму, гэта значыць супраць таго самага «камунізму», які ўсё жыццё быў ворагам Дастаеўскага і які ён змешваў з усякім камунізмам. Гэты псеўдакамунізм не толькі вядомая тактыка, асноўнай рысай якое з'яўляецца сектанцтва, але цэлая сістэма поглядаў, асобны светапогляд, галоўная прыкмета якога — «уяўленне пра нейкі мінімум» або «пэўная мера» (К. Маркс і Ф. Энгельс. З ранніх твораў. С. 586). Гэтая мера прымушае ўласны вузкі кругагляд навязваць свету ў якасці закона светабудовы, нізкую столь прымаць і выдаваць за неба. А потым на «неба» гэтае ўскарасквоюцца новыя багі, добра, што караскацца невысока… Гэта — гранічнае зніжэнне крытэрыяў сацыяльнага прагрэсу, крытэрыяў камунізму, якія ўключаюць у сябе ўсю сукупнасць эканамічных і палітычных, ідэйных і эстэтычных паказчыкаў. Адмаўленне асобы — такі зыходны і канечны пункт ідэалогіі «казарменнага камунізму»… Ідэолагі «казарменнага» камунізму замяняюць хлусню пра той свет хлуснёй пра свет гэты, пераўтвараюць жывое вучэнне марксізму ў мёртвую свецкую рэлігію, пакорлівых прыхільнікаў гэтай рэлігіі — у папоў-інквізітараў, а ўсіх, хто інакш мысліць, —у ерэтыкаў»*.

Чым далей адыходзіць чалавецтва ад часу напісання твораў Талстога і Дастаеўскага, тым бліжэй яно да іх: аддаляючыся — набліжаемся. Гэта заканамерна для твораў сапраўднага мастацтва, а тым больш такіх, якія ствараліся з заглядваннем далёка ўперад, з думкай пра ўсё чалавецтва. Пачуццё, якое заўсёды жыло ў Талстым: «мне здаецца, усё загіне, калі я спынюся» (з пісьма да А. А. Талстой), уласцівае было Дастаеўскаму, ды, відаць, усім вялікім мастакам яно ўласцівае і нават абавязковае (што зусім не пярэчыць іх чалавечай сціпласці). Толькі вялікая мэта нараджае вялікую энергію, у тым ліку і творчую. Той жа Талстой сціпла называў гэта «энергіяй самазаблуджэння», але

* Вопросы философии. 1967. № 9. С. 149, 157–158.

ўсё-такі лічыў, што без такіх высокіх «падмосткаў» не ўзвядзеш высокі будынак, «толькі сцяну заваліш».

У кантэксце нашага часу вялікія пісьменнікі зямлі рускай гавораць са светам ад імя ўсяго чалавецтва і ў той жа час усё больш — ад імя Расіі, таму што лес свету, чалавецтва сёння з лесам Расіі, Савецкай Расіі, звязаны куды больш моцна і непасрэдна, чым у часы Талстога і Дастаеўскага.

Сёння ўздзеянне сусветнай класікі на беларускую прозу не толькі ўзрастае ў сіле, але і ў нечым якасна змяняецца. Не проста пашыраецца фронт сусветнага літаратурнага ўплыву ўзаемадзеяння, што наогул характэрна для нашага часу, але ўзрастае і ступень, «тэмпература пераплаўкі» таго літаратурнага матэрыялу і вопыту, які прыходзіць да нас збоку. А гэта заўсёды сведчанне большай нацыянальнай і эстэтычнай сталасці літаратуры, сілы яе ідэй і традыцый і прывычкі да кантактаў з «чужым» матэрыялам, што таксама набываецца не адразу.

Так што не толькі сіла таленту ў гэтым праяўляецца, але і большая сталасць нацыянальнай літаратурнай традыцыі, на якую талент, нават самы моцны, павінен абаперціся. Бо не розніцай і сілай талентаў тлумачыцца тое, што ўплывы чужых літаратур больш адчуваюцца ў Пушкіна (асабліва ранняга), чым у Блока або Чэхава. Тое ж самае можна сказаць, калі параўнаць «палескія хронікі» Я. Коласа і І. Мележа. Нягледзячы на ўсю самабытнасць коласаўскага таленту, пэўная кніжнасць афарбоўвае некаторыя старонкі яго трылогіі «На ростанях». «Пячорынскія прыёмы» Лабановіча ў псіхалагічным паядынку з Ядвісяй альбо старонкі, на якіх Лабановіч трохі ўпіваецца страшнымі, але і дзіўна хвалюючымі думкамі пра немінучасць смерці — усё гэта часам падобна да не зусім «пераплаўленых» думак альбо прыёмаў то Лермантава, то Дастаеўскага… Яшчэ больш такіх «слядоў» знаходзім мы ў К. Чорнага, таму што ён асабліва бясстрашна і рашуча браў у вялікіх на «пераплаўку» (у гарніле свайго вопыту, таленту) тое, што яго хвалявала. Хвалявала яго перш за ўсё жыццё свайго народа, праблемы свайго часу, але адказы ён мог шукаць (і часта шукаў) таксама і ў іх, вялікіх. Адказы на пытанне: як стварaць сваю, нацыянальную літаратуру, каб яна не была правінцыяльнай.

Ісціна, магчыма, заключаецца яшчэ і ў тым, што ніхто з сённяшніх празаікаў не «замахваецца» на тое, на што рашыўся Чорны: «пераварыць», «пераплавіць» самых вялікіх. Ён сапраўды рашыўся быць у літаратуры, як гаварыў Дастаеўскі, «тыграм», які не адных кароў з усім спажытым імі паглынае і пераварвае, але і другіх усемагутных «тыграў» таксама…



Ёсць агульнае ў тым, што адбываецца ў нас і ў іншых рэспубліках. Паўвекавы працэс сацыялістычнай садружнасці стварыў агульную тэндэнцыю развіцця нацыянальных літаратур (пры ўсёй шматфарбнасці кожнай з літаратур, дзе і свае традыцыі і мноства сваіх праблем).

Сучасная беларуская літаратура надзвычай напружаная ў сваіх творчых пошуках: гэта можна ўявіць, як спружыну, адзін канец якой замацаваны недзе «на» фальклоры, «на» народнапаэтычнай традыцыі, а другі імкне за сучаснасцю, за праблемамі, надзеямі і трывогамі сучаснага свету, чалавека. Гэтае расцяжэнне не магло б прадаўжацца бясконца, нейкі «канец» абавязкова сарваўся б (і зрываецца ў творчасці менш таленавітых і менш глыбокіх аўтараў), калі б сама глеба народнага жыцця заставалася нерухомай, а не ўзнімалася насустрач сучаснасці. А так яно і ёсць — узнімаецца, рухаецца.

Беларус сёння — жыхар індустрыяльнага краю, сучаснасць прыйшла нават на Палессе (шахты, нафтавыя вышкі, аўтастрады). Савецкая Беларусь — гэта кібернетыка і хімія, вышэйшая адукацыя і да т. п. За гэтым стаіць і велізарны эмацыянальны, гераічны і трагічны вопыт усё яшчэ нядаўняй для Беларусі вайны: мы ўсё яшчэ падлічваем свае Хатыні, і іх занадта многа нават для такой вайны, якая была. Лічбы: не дзясяткі нават, а многія сотні і сотні забітых разам з жыхарамі вёсак — гэта ўжо нешта з «атамнай эры».

Вось чаму трывогі сучаснага свету, такія зразумелыя народу беларускаму, адгукаюцца ў самой так сказаць «глебе». І вось чаму клопаты ўсёй планеты і эмацыянальнае, штодзённае жыццё беларускага савецкага народа могуць так натуральна збліжацца, суседнічаць. У аповесцях В. Быкава, напрыклад, у раманах і апавяданнях І. Мележа, Я. Брыля, І. Навуменкі, М. Стральцова, Я. Сіпакова, А. Кудраўца і іншых. Гэта калі гаварыць аб прозе. А ў паэзіі — у А. Куляшова, М. Танка, П. Панчанкі, А. Пысіна, Р. Барадуліна, А. Вярцінскага, У. Караткевіча, у драматургіі — у К. Крапівы, А. Макаёнка… Я не называю ўсіх.

Чытаючы, хвалячы і крытыкуючы В. Быкава, мы дарэмна не бяром, не вывучаем гэтага пісьменніка ў сувязі з народнай глебай, якая жывіць яго творчасць. Так, Быкаў вельмі сучасны. Але гэта адзін бок. Ён у той жа час (у лепшых сваіх аповесцях) вельмі народны ў сваім поглядзе на вайну. За яго аповесцямі — край, народ, які столькі ведае пра вайну, што не можа не адчуваць

па-асабліваму і пагрозу будучай вайны. Гэтым і жывіцца высокая трагедыйнасць быкаўскіх твораў.

У нас ёсць традыцыя арганічнага спалучэння ў літаратуры сусветных праблем і свайго нацыянальнага існавання, паэтычны вопыт наказу ўсеагульнага, важнага для ўсіх, праз беларускае жыццё-быццё. Традыцыя такой маштабнай размовы пра свае праблемы і справы — у паэзіі Купалы, Коласа, Багдановіча. І ў прозе М. Гарэцкага, К. Чорнага.

Маштабнасць размовы, бачання зусім не адэкватная жанру. Так, гэта мы знаходзім у палескай эпапеі І. Мележа, але і ў мініяцюрах Я. Брыля таксама. Гаварыць сваё, беларускае слова пра само чалавецтва, пра цэлы свет, не збіваючыся на рыторыку, на прэтэнцыёзнасць, лепшым нашым аўтарам удаецца таму, што выходзіць гэта ў іх само сабой: у сабе самім і ў глыбінях народнага жыцця знаходзіць пісьменнік гэтыя пытанні, праблемы, а не ловіць іх «з ветру».

Калі гэтага няма, тады — альбо безаблічны «сучасны стыль», альбо наадварот, запозненая стылізацыя пад фальклор.

Так, сваё, нацыянальнае вялікая літаратура шукае і знаходзіць у глыбінях народнага жыцця, псіхалогіі. Але патрэбна вышка ўсечалавечага, каб у глыбіні гэтыя пранікнуць. Палескую нафту здабываюць пры дапамозе такіх жа вышак, як і каспійскую і цюменскую…

Інтэрнацыянальнае ў літаратуры — гэта зусім не нейкае там пілавінне альбо уніфікаваныя прасаваныя пліты, з якіх робіцца мэбля (а так, менавіта, асобным філосафам і публіцыстам уяўляецца працэс інтэрнацыяналізацыі культуры, літаратуры).

Але і нацыянальнае — гэта не адзінокае дрэва, якое стаіць наводшыбе. Здавалася б, якая розніца, дзе яно стаіць. Але ж суседства другіх дрэў фарміруе кожнае дрэва паасобку.

А кожная літаратура (асабліва ў наш час) адчувае ўплыў суседства другіх літаратурных крон і ўсяго масіву сусветнай літаратуры.

Нацыянальнае ў літаратуры выжывае не кансервуючыся, а ўзбагачаючыся, развіваючы і ўскладняючы сваю (эстэтычную) сістэму, як робіць гэта жывы арганізм, калі змяняюцца ўмовы існавання, асяроддзе. Без гэтага «арганізм» ператвараецца ў музей самога сябе, музей свайго былога «жывога» існавання.

Абагульняючы ўсё сказанае наконт «талстоўскага кроку» ў мастацкім развіцці чалавецтва і праблем нацыянальнага літаратурнага развіцця, адважымся сфармуляваць гэта так: *з аднаго боку — бязлітасная шчырасць, бязлітасная праўда жыцця і псіхалогіі, а з другога (правільней, побач з гэтым) — збіранне, накапленне «чалавечага ў чалавеку», барацьба з дэгуманізацыяй жыцця і мастацтва, — вось што стала «талстоўскай нормай», вышэйшай эстэтычнай нормай сусветнага мастацтва. Крытэрыем эстэтычным.*



Нацыянальнае літаратурнае развіццё тады толькі і развіццё (ва ўсякім выпадку, у літаратурах сталых), калі яно імкнецца да самых вяршынь: ідэйных, маральных, эстэтычных.

Тое, што пасля Талстога (і Дастаеўскага) стала ўзроўнем, галоўным кірункам эстэтычнага, мастацкага развіцця прагрэсіўнага чалавецтва, эстэтычнай прыкметай сучаснасці ў літаратуры, Я. Колас, М. Гарэцкі, К Чорны, нашы сённяшнія лепшыя празаікі імкнуліся і імкнуцца зрабіць якасцю беларускай прозы. І гэта працэс заканамерны, неабходны для таго, каб літаратура беларуская магла паспяхова выконваць грамадска-эстэтычную і гуманістычную ролю сталай літаратуры. Ідэя збірання сіл чалавецтва і чалавека ў імя прагрэсу, якая з'яўляецца самай шырокай ідэяй савецкай літаратуры, патрабуе і адпаведнага эстэтычнага ўзроўню. Без гэтага не было б нашага эстэтычнага аўтарытэту, нашага ўплыву ў свеце.

* * *

Дык як глядзець нам, нашай літаратуры на сябе, усведамляючы ўсё гэта — і новыя магчымасці і новыя складанасці, што адкрываюцца перад нацыянальнай літаратурай?

Ёсць дзве пазіцыі — аднолькава непрымальныя.

Першая — правінцыяльная і какетлівая «сарамлівасць»: дзе ўжо нам на «іх» раўняцца! Мы ўжо як-небудзь збоку!

Другая — самазадаволенасць, таксама правінцыяльная: хопіць, насядзеліся іншыя на покуці, цяпер — мы, цяпер на нас глядзіце!

Ёсць і трэцяя пазіцыя: не спяшацца падлічваць свой уклад у сусветны літаратурны «залаты фонд». Важна і патрэбна зусім іншае: бачыць сваю літаратуру не ізалявана, а ўключанай у сілавое поле як многанацыянальнай савецкай, так і сусветнай літаратуры. Як уключана само жыццё беларускага народа ў жыццё краіны і цэлага свету.

Гэта і ёсць наша тэма, праблема нашай працы.

*1970, 1974*

## ПАЭТЫЧНАЕ ВЯРХОЎЕ БЕЛАРУСКАЙ ПРОЗЫ

У той час, калі ўжо стваралі свае эпахальныя раманы Бальзак, Леў Талстой, Горкі, беларуская проза прадстаўлена была гумарэскай, бытавым анекдотам, апавяданнем. Так склаўся гістарычны лёс беларускага народа, яго культуры і літаратуры.

Беларускае пісьмовае слова доўгі час было пад забаронай. Калі ў гэтых умовах паэтычныя жанры яшчэ маглі існаваць і нават развівацца даволі інтэнсіўна, абапіраючыся на вусную фальклорную традыцыю, на памяць народа, то аб колькі-небудзь сур'ёзным развіцці прозы не магло быць і размовы.

Проза больш, чым усе іншыя жанры, залежыць ад друкарскага станка.

Не было ўмоў і для сапраўднага развіцця тэатральнага мастацтва, драматургіі.

І хоць энтузіясты роднага слова, пісьменнікі-дэмакраты, насуперак усім умовам зрабілі нават больш, чым можна было зрабіць, нягледзячы на гэта беларуская літаратура ў жанравых адносінах адстала ад узроўню мастацкага развіцця суседніх народаў.

Толькі паэзія, што раскрывала самую душу народа, зямля якога, кажучы словамі М. Танка, «грае», толькі верш і паэма дасягнулі даволі высокага развіцця ў дакастрычніцкай беларускай літаратуры.

І зусім зразумела, што пры сваім зараджэнні беларуская проза не магла абмінуць вопыту паэтычных жанраў. Беларуская проза рабіла свае першыя крокі, абапіраючыся на вопыт паэзіі, яе формы, шырока выкарыстоўваючы паэтычную стылістыку, паэтычную трансфармацыю фальклору.

Не выпадкова, што З. Бядуля ішоў да прозы праз паэтызаваныя «Абразкі», і не выпадкова тое, што Колас і Бядуля ўсё жыццё заставаліся ў прозе ў значнай ступені паэтамі.

Што датычыцца канкрэтна жанру рамана і аповесці, дык яны пры сваім зараджэнні шырока выкарысталі нацыянальны вопыт паэтычнага эпасу.

Паэзія праклала шлях беларускай прозе. Паэма не толькі пракладвала шлях раману, але і брала на сябе яго функцыі, пакуль жанр празаічнага рамана не склаўся.

Мы маем на ўвазе перш за ўсё «Новую зямлю» Якуба Коласа — беларускі вершаваны раман.

Вершаваны раман, паэма-раман — не такая ўжо рэдкая ў гісторыі літаратур з'ява. Але цікава адзначыць пераходны



характар літаратурных эпох, якія парадзілі класічныя ўзоры гэтага жанру.

Байран сваім раманам у вершах «Дон Жуан» развітваўся з рамантызмам і станавіўся на творчыя пазіцыі рэалізму.

Рускі вершаваны раман «Яўгеній Анегін» Пушкіна таксама ўзнік як адмаўленне рамантызму, рамантычнай паэмы, якая, кажучы словамі Бялінскага, «малюе ідэальную рэчаіснасць і схоплівае жыццё ў яго вышэйшых момантах»*. Для рускай літаратуры час напісання «Яўгенія Анегіна» пераходным быў яшчэ і ў тых адносінах, што ў ёй толькі-толькі нараджаўся жанр празаічнага рамана.

І «Дон Жуан», і «Яўгеній Анегін» узніклі ў эпоху, калі жыццё раптам прад'явіла да жанру паэмы павышаныя патрабаванні, як бы ўскладаючы на паэму зусім новыя мастацкія функцыі, якія да гэтага паэма не выконвала. Увышку жанравыя магчымасці заходнееўрапейскай і рускай паэмы вельмі пашыраюцца, узнікае тып паэмы настолькі сінтэтычнай і ўсеабдымнай, што яна пачынае нагадваць раман.

Трэба сказаць, што іменна раман у сусветнай літаратуры пракладваў шлях сучаснаму рэалізму: калі з'явілася рэалістычная паэма, гэта таксама зближала яе ў свядомасці сучаснікаў з жанрам рамана.

Так узнікла патрэба ў новым жанравым вызначэнні паэмы, асабліва шырокай па задуме, па ахопе жыцця і асабліва рэалістычнай па фактуры, так узнік тэрмін «раман у вершах», «вершаваны раман». Тэрмін гэты замацаваўся перш за ўсё за паэмамі, якія з'явіліся ў пераходныя эпохі і таму асабліва моцна ўплывалі на станаўленне жанру рамана празаічнага. А іменна такое месца ў гісторыі беларускай літаратуры, у гісторыі жанраў беларускай літаратуры займае «Новая зямля» Коласа.

Нельга з усяго сказанага рабіць вывад, што жанр паэмы-рамана магчымы толькі ў перыяд складвання рэалізму і рамана празаічнага. Магчымасць ці немагчымасць чаго-небудзь у мастацтве даказваецца толькі практычна. А калі зыходзіць з тэарэтычных палажэнняў, то можна таксама сказаць: хіба не патрабуе наш час шырокіх эпахальных палотнаў не толькі празаічных, але і паэтычных?

Праўда, жанр паэмы-рамана настолькі нялёгкі, што ён, па словах Бялінскага, патрабуе геніяльнасці: даць усеабдымную і сапраўды мастацкую карціну нацыянальнага жыцця ва ўсёй яго

* Белинский, В. Г. Полное собрание сочинений. Т. VII. 1955. С. 401.

бытавой канкрэтнасці, пры гэтым сродкамі верша, — задача, якая сапраўды патрабуе асабліва ўдалага спалучэння ў мастаку вельмі многіх якасцей.

У чым гістарычная своеасаблівасць паэмы, якая атрымала назву «рамана ў вершах», і наогул сучаснай паэмы?

Класічны тып паэтычнай эпапеі страціў Глебу, як вядома, ужо ў часы развітага антычнага грамадства. «Іліяда» і «Адысея» магчымы былі толькі ў эпоху, калі народна-міфалагічнае светаразуменне было светаразуменнем самога грамадства.

Вось чаму «Энеіда» Вергілія магла быць толькі падробкай, хоць і выдатнай: Вергілій пісаў у часы, калі народна-міфалагічнае светаразуменне хоць і выкарыстоўвалася вельмі актыўна ў інтарэсах умацавання пэўнага грамадства (рымскай дзяржаўнасці), але не было арганічным для чалавека гэтага грамадства.

Як толькі чалавек пачаў вылучаць сябе з родавай агульнасці, а тым больш супрацьпастаўляць сябе ёй, на месца народна-міфалагічнага светаадчування ў мастацтва прыходзіць светаадчуванне чалавечай індывідуальнасці: лірызм, інтымнасць, самааналіз. А тым самым эпапеі тыпу «Іліяды» становяцца немагчымымі, як немагчымы сёння творы, накшталт цудоўных рускіх былін.

Лірычныя, ліра-эпічныя творы, якія прыйшлі на змену эпапеям, адыгралі велізарную ролю ў духоўным і мастацкім развіцці чалавека, асабліва ў часы, калі яны выяўлялі імкненне чалавечай асобы сцвердзіць сябе перад варожымі ёй сіламі рэлігійнага цемрашальства ці жорсткасцю сацыяльных умоў. Лірызм становіцца настолькі абавязковым элементам нават сюжэтных паэтычных твораў, што адсутнасць яго ў паэмах класіцыстаў вельмі скора пачала ўспрымацца як хадульнасць і фальш. Рамантыкі адкінулі гэту хадульнасць, халоднасць класіцызму, зрабіўшы сваім дэвізам страснасць, эмацыянальнасць. Сюжэт у рамантычных паэмах рухаецца чалавечымі страсцямі, перажываннямі. Праўда, і страсці, і перажыванні гэтыя таксама прыўзняты над рэальным жыццём, сувязь іх з канкрэтнай гістарычнай рэальнасцю толькі ўгадваецца.

Рэалізм надаў лірызму паэтычных твораў жывую канкрэтнасць, тую глыбіню і сілу, што дае перажыванням чалавека само жыццё.

Адначасова рэалізм адкрыў шырокі доступ у паэзію, асабліва ў паэму, аб'ектыўна-рэальнаму жыццёваму матэрыялу, узмацніўшы эпічны пачатак паэмы. Такім чынам, узмацненне



эпічнага пачатку ў рэалістычнай паэме адбылося не за кошт лірызму, інтымнасці, а адначасова з узмацненнем лірычнага пачатку: паэма развівалася не ў бок старажытнай эпапеі, а ў бок сучаснага рамана.

В. Бялінскі, маючы на ўвазе аўтара «Яўгенія Анегіна», пісаў: «Ён зразумеў, што час эпічных паэм даўным-даўно мінуў і што для паказу сучаснага грамадства, у якім проза жыцця так глыбока пранізала самую паэзію жыцця, патрэбен раман, а не эпічная паэма. Ён узяў гэта жыццё як яно ёсць, не вылучаючы з яго толькі адных паэтычных момантаў, узяў з усім холадам, з усёй яго прозаю, пошласцю»*.

* * *

Ва ўсёй беларускай літаратуры першай чвэрці XX стагоддзя знойдзецца не многа твораў настолькі ж паэтычных, як «Новая зямля». Аднак паэтычнасць яе не тое, што паэтычнасць «Кургана» і «Бандароўны» ці «Страцім-лебедзя» — твораў, цудоўных па чалавечнасці і сіле рамантычнага пафасу.

У «Новай зямлі» паэзіяй стала, уласна кажучы, сама проза жыцця, проза штодзённага сялянскага працоўнага быту. Размова тут ідзе не аб тым, што лепш і што горш, а толькі аб тым, якое месца ў развіцці пэўнага жанру займае той ці іншы твор. Размова ідзе аб жанравых адзнаках «Новай зямлі».

Іменна таму, што «Новая зямля» з'явілася найбольш смелай і паслядоўнай паэтызацыяй самога быту чалавека працы, паэма гэта, застаючыся творам да канца паэтычным, разам з тым стала этапам у развіцці беларускага рамана, надоўга вызначыла асноўны напрамак яго развіцця.

Трэба, аднак, агаварыцца, што «Новая зямля» не была ў гэтым сэнсе чымсьці нечаканым ці выпадковым у беларускай літаратуры: беларускі раман у вершах з'явіўся творчым падагульненнем (найбольш выдатным і манументальным) усяго вопыту беларускага паэтычнага эпасу пачынаючы ад «Тараса на Парнасе».

Беларускія паэты XIX і пачатку XX стагоддзя (у іх ліку і сам Колас) узнялі беларускую літаратуру на такую вышыню творчай культуры, што стала магчымым паяўленне твора, які па праву лічыцца шэдэўрам беларускай літаратуры, здабыткам сусветнай культуры.

* Белинский, В. Г. Собрание сочинений: В 3-х т. Т. III. 1948. С. 504.

На гэту вышыню Колас падняўся, абапіраючыся на паэтычную культуру іншых народаў. На аўтара «Новай зямлі» адчувальна ўплываў Міцкевіч («Пан Тадэвуш»), а таксама Пушкін («Яўгеній Анегін»).

Але перш за ўсё нацыянальны шэдэўр вырастаў на народнай глебе, на глебе народнага жыцця, народных уяўленняў аб рэчаіснасці. «Новая зямля» ўзнікла як завяршэнне пэўнага этапу ў станаўленні беларускай літаратуры і як пачатак новага, савецкага перыяду яе развіцця.

Вялікі шлях росту павінна была прайсці наша літаратура, многія якасці павінна была яна набыць, перш чым мог з'явіцца такі твор, як «Новая зямля».

Якія ж новыя якасці замацаваліся ў беларускай літаратуры разам з «Новай зямлёй»?

Як вядома, на шляху развіцця беларускай літаратуры на працягу многіх стагоддзяў стаялі сацыяльныя перашкоды. Паколькі на беларускай мове размаўляла пераважна сялянская маса, усякія спробы пісаць на гэтай «мужыцкай» мове, ствараць на ёй літаратуру расцэньваліся сацыяльнымі вярхамі як імкненне «мужыка», «хама», «хлопа» выйсці з бяспраўнага, прыгнечанага становішча. А гэтага стараліся не дапусціць не толькі польскія магнаты ці царскія чыноўнікі, але і сацыяльныя вярхі беларускага народа, якія даўно здрадзілі нацыянальнай культуры. Праўда, пазней, калі нацыянальная буржуазія ўзмацнела, калі больш моцнай стала яе канкурэнцыя з рускай буржуазіяй, яна пачала «цікавіцца» справай «беларускага адраджэння», беларускай літаратурай і яе будучыняй.

Буржуазія імкнулася надаць беларускай літаратуры нацыяналістычны кірунак.

Аднак на гэтай глебе, на глебе буржуазнага нацыяналізму, не вырасла ні аднаго колькі-небудзь значнага таленту. Найбольш моцным і плённым быў і заставаўся і ў XIX і ў пачатку XX стагоддзя той напрамак беларускай літаратуры, які выяўляў інтарэсы працоўнай масы беларускага народа. Усе найбольш значныя творы беларускай літаратуры XIX і пачатку XX стагоддзя— гэта творы аб «мужыку», аб яго цёмнай долі і светлых марах.

Зразумела, што сацыяльны пафас твораў Купалы і Коласа, якія пісалі ў эпоху наспявання пралетарскай рэвалюцыі ў Расіі, не мог не быць больш моцным і высокім, чым у іх папярэднікаў. Дэмакратычная і рэвалюцыйна-дэмакратычная літаратура пачатку XX стагоддзя была больш сталай і ў мастацкіх адносінах.



Іменна ў гэты перыяд беларуская літаратура ўсё больш рашуча вызваляецца ад рысаў этнаграфізму і правінцыялізму. Літаратура набывае ўсё больш выразныя якасці мастацкай сталасці. Працэс гэты становіцца асабліва інтэнсіўным у паслякастрычніцкі час.

Але пачаўся ён яшчэ ў тыя гады, калі былі напісаны драма «Раскіданае гняздо», камедыя «Паўлінка» і выдатныя паэмы Купалы, цудоўныя вершы Багдановіча, першыя апавяданні Коласа, Бядулі, Гарэцкага ў час, калі былі створаны першыя раздзелы «Новай зямлі».

Рысы, якасці мастацкай сталасці беларуская літаратура ў пачатку XX стагоддзя пабывае па многіх лініях. Разгледзім некаторыя з гэтых «ліній», а іменна: *узровень развіцця літаратурнай мовы, эстэтызацыю быту ў літаратуры, паказ чалавека (псіхалагізацыя і індывідуалізацыя).*

У адным з сваіх артыкулаў Бялінскі пісаў, маючы на ўвазе ўкраінскую мову:

«І якая розніца ў гэтым выпадку паміж маларасійскай гаворкай і рускай мовай! Рускі раманіст можа вывесці ў сваім рамане людзей усіх саслоўяў і кожнага прымусіць гаварыць сваёй мовай: адукаванага чалавека — мовай адукаваных людзей, купца — па-купецку, салдата — па-салдацку, мужыка — па-мужыцку. А маларасійская гаворка адна і тая ж для ўсіх саслоўяў — сялянская…» І далей: «Праставатасць сялянскай мовы абмяжоўвае ўкраінскую паэзію сферай «мужыцкага жыцця»*.

Безумоўна, у такім поглядзе на ўкраінскую мову, у такой ацэнцы яе магчымасцей ёсць пэўная звужанасць, што тлумачыцца часам, у які жыў Бялінскі. Аднак цяжка спрачацца са сцвярджэннем крытыка, што, пакуль літаратурная мова не стане па-сапраўднаму шматграннай у стылістычных адносінах, пакуль у ёй пануе стыхія бытавой мовы і не распрацаваны разнастайныя кніжныя стылі, пісьменніку цяжка, а часам і немагчыма даць дакладны моўны і псіхалагічны партрэт прадстаўнікоў «несялянскіх» саслоўяў.

Як вядома, беларуская мова ў літаратуры XIX стагоддзя гучала перш за ўсё як мова «мужыка» — цёмнага, забітага, асмеянага, які тым не менш не жадаў адмовіцца ад такой жа асмеянай, «хамскай», «хлопскай» мовы. На мове гэтай не друкаваліся кнігі, не выдаваліся газеты, не вяліся канцылярскія справы. Сфера ўжывання яе была выключна бытавой.

* Белинский, В. Г. Полное собрание сочинений. Т. VI. 1903. С. 201.

Вялікую па сваім часе смеласць праявілі аўтары паэм «Тарас на Парнасе» і «Энеіда навыварат», узвёўшы на літаратурны Парнас беларускага мужыка, зрабіўшы «хамскую» мову гэтага мужыка мовай багоў, мовай паэзіі. Неабходна мець на ўвазе, што многім сучаснікам гэтыя паэмы здаваліся толькі цікавым літаратурным казусам: мужыцкі дыялект і раптам у якасці паэтычнай мовы! І, нават завучваючы на памяць гэтыя таленавітыя творы (а такіх, што ведалі паэмы, было нямала сярод інтэлігенцыі), многія ўсё ж лічылі, што «мужыцкая» мова, на якой так цікава размаўляюць багі і антычныя героі, толькі і падыходзіць для такіх вось «пародый» на літаратуру і на літаратурную мову. Аб тым, што магчыма «сур'ёзная», а тым больш вялікая літаратура на гэтай мове, дагадваліся нямногія. Што да абывацельскага асяроддзя, дык яно проста адмаўлялася ўсур'ёз прымаць і мову беларускага селяніна, і тыя рэдкія творы на гэтай мове, якія хадзілі па руках.

Беларуская мова заставалася ў асноўным мовай сялянскай масы, таму і ў літаратуры яна гучала як «мужыцкая»: стылістычна была замацавана за вобразам мужыка. Вядома, што ў школьных драмах XVII–XVIII стагоддзяў мужыка і іншых «нізкіх» персанажаў пазнавалі на сцэне па беларускай мове. «Высакародныя» і «адукаваныя» героі размаўлялі на «панскай» мове. У XIX стагоддзі стылёвыя функцыі, магчымасці беларускай мовы ў літаратуры значна пашырыліся: у Дуніна-Марцінкевіча чыноўнік, «паніч» і нават «пані» часам размаўляюць на беларускай мове, хоць часцей на польскай.

Неабходны былі вялікія і глыбокія сацыяльныя змены ў грамадскім жыцці, ва ўсім складзе думак і пачуццяў людзей, каб беларуская, «мужыцкая», мова ўспрымалася ў літаратуры не як мова пэўнай сацыяльнай групы людзей, а як мова цэлага народа, мова сапраўды літаратурная. Перш чым маглі з'явіцца творы з вялікай разнастайнасцю сацыяльных тыпаў і характараў (а без гэтага раман немагчымы), трэба было, прарабіць велізарную працу па стылістычным узбагачэнні, літаратурнай апрацоўцы мовы.

Многа павінны былі папрацаваць энтузіясты роднага слова, каб беларуская літаратурная мова стала дастаткова багатай для стылёвай характарыстыкі не толькі мужыка, але і інтэлігента, чыноўніка і г. д. Але самае важнае заключалася ў тым, каб працоўная маса беларускіх гарадоў і вёсак сапраўды пачала адчуваць сябе народам: толькі ў гэтым выпадку і беларуская мова магла загучаць як мова цэлага народа, а не толькі мужыцкая. А гэта прыйшло не само па сабе і не дзякуючы дзейнасці асобных прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі, гэта прыйшло разам з рэвалюцыйным уздымам.



Мы ведаем, што Купала і Колас таксама адчулі сябе *беларускімі* паэтамі толькі над уздзеяннем агульнага ўздыму народнай і нацыянальнай самасвядомасці. Купала ўспамінаў:

«Яшчэ да рэвалюцыі 1905 года мне трапіліся кніжкі вершаў Марцінкевіча і Багушэвіча, і, наколькі памятаю, я імі надзвычайна захапіўся, не бессвядома, таму што ўжо ў гэты час я адчуваў сацыяльную і нацыянальную несправядлівасць да беларускага працоўнага люду… Я ўсведамляў, што кніжкі на беларускай мове не горш за іншыя, таму што ў іх гаварылася пра гора блізкіх мне людзей, з якімі я разам фізічна працаваў.

Гэта канчаткова вырашыла, што я беларус і што адзінае мае прызванне — служыць свайму народу ўсімі сіламі сваёй душы і сэрца»*.

Я. Купала і Я. Колас пачалі з таго, на чым спынілася беларуская літаратура XIX стагоддзя, — са сцвярджэння права мужыка «чалавекам звацца», з барацьбы за яго права тварыць культуру на роднай мове. Цікава бачыць, як разам з тым пастунова пашыраецца і ўзбагачаецца аспект наказу селяніна і наогул чалавека ў творах Купалы, Коласа, Багдановіча, Гарэцкага, Бядулі, Цёткі. Духоўны свет селяніна ў «Новай зямлі» намнога багацей за духоўны свет селяніна ў Дуніна-Марцінкевіча і Багушэвіча.

Для таго каб апавядаць пра селяніна, матэрыяльна і духоўна абрабаванага панамі і падпанкамі, Багушэвічу дастаткова было той мала распрацаванай, чыста бытавой мовы, якой гэты паэт карыстаўся. Праз такую мову асабліва каларытна можна было «знутры» абмаляваць светаўспрыманне цёмнага, забітага, але па-свойму вельмі дасціпнага мужыка, дакладней — «непрыняцце» гэтым мужыком свету, у якім столькі непатрэбнага і незразумелага яму. Каб паказаць багацце духоўнага жыцця селяніна (а іменна гэтым вызначаецца змест і пафас «Новай зямлі»), патрэбна была мова больш багатая, больш літаратурна апрацаваная.

Той, хто ў «Энеідзе навыварат» высмейваў «высокія формы» класіцызму, не толькі не меў патрэбы ў мове літаратурна апрацаванай, а, наадварот, шукаў слоў, выразаў, паняццяў як мага больш «нізкіх», «грубых», далёкіх ад якой-небудзь культурнай

* Купала, Я. З аўтабіяграфічных матэрыялаў // Полымя. 1946. № 6. С. 126.

і літаратурнай традыцыі. Адчуваецца, што ў паэме спецыяльна падбіраюцца самыя што ні ёсць правінцыялізмы і дыялектызмы. Гэта толькі ўзмацняе сатырычны і парадыйны эфект апавядання пра традыцыйных антычных герояў.

Тую мастацкую задачу, якую ставіў Багдановіч у сваіх вершах на антычныя матывы, мовай «Энеіды навыварат» вырашыць нельга было. Тут патрабавалася мова, багатая не толькі чыста бытавымі, але і кніжнымі асацыяцыямі і адценнямі.

На аснове жывой беларускай народнай мовы, на аснове той літаратурнай мовы, што пакінулі ім папярэднікі, Купала і Колас разам з іншымі пісьменнікамі пачатку XX стагоддзя распрацоўваюць літаратурную мову, якая давала магчымасць маляваць чалавека ва ўсёй складанасці яго духоўнага жыцця, паказаць быт яго ва ўсім багацці жыццёвых фарбаў і адценняў. Сам час, эпоха (асабліва паслярэвалюцыйная) садзейнічалі інтэнсіўнаму ўзбагачэнню беларускай літаратурнай мовы не толькі бытавымі, але і кніжнымі стылямі. У той час, калі ствараліся апошнія раздзелы «Новай зямлі» (а пасля Кастрычніка напісана большая частка паэмы), беларуская мова стала мовай навукі, газет, радыё, справаводства. Гэта надзвычай пашырала яе стылёвыя магчымасці.

У чым жа аўтар «Новай зямлі» пайшоў далей за пісьменнікаў XIX стагоддзя ў сэнсе мастацкай характарыстыкі быту, паказу чалавека і яго псіхалогіі?

Мы ведаем, што некаторыя пісьменнікі XIX стагоддзя, такія, як Чачот, Баршчэўскі, былі не столькі мастакамі, колькі этнографамі. Іх цікавіў перш за ўсё этнаграфічны, а не сацыяльны і штодзённы быт беларуса-селяніна.

Этнаграфізм вельмі адчуваецца яшчэ і ў стылі вершаваных рэчаў Дуніна-Марцінкевіча. Вядома, не этнаграфічная, а іменна сацыяльная цікавасць да беларускага селяніна з’яўлялася асновай творчасці гэтага першага беларускага пісьменніка-прафесіянала. За этнаграфізмам твораў Дуніна-Марцінкевіча, за аўтарскім рамантычным захапленнем старажытнымі легендамі і абрадамі, святочным бытам беларуса заўсёды адчуваецца жаданне дапамагчы прыгоннаму селяніну, імкненне неяк упрыгожыць і аблегчыць яго жыццё.

Паэт імкнецца даць абрабаванаму народу нейкую духоўную страву, вярнуць яму яго ж фальклор у літаратурна апрацаваным выглядзе.

Трэба мець на ўвазе і другое.



Многія паэтычныя творы Дуніна-Марцінкевіча звернуты не столькі да селяніна, колькі да пана, да аўдыторыі «адукаванай».

Паэт імкнуўся абудзіць цікавасць і спачуванне да прыгоннага селяніна ў тых, хто, на думку яго, мог зрабіць лёс селяніна не такім цяжкім. Вось для гэтага і патрэбен яму этнаграфічны каларыт.

На першы погляд гэта не зусім лагічна. Паэт хоча выклікаць у эксплуататараў спачуванне да мужыка, але замест таго, каб маляваць пакуты і няшчасці яго, ён распісвае святочны быт сялян, якія толькі тым і заняты, што слухаюць баечніка Ананія, танцуюць, спяваюць і г. д.

Але, мабыць, паэт ведаў тых, да каго ён звяртаўся.

Расказаць панам і падпанкам пра тое, які мужык цёмны, забіты, няшчасны, значыла толькі пацвердзіць іх перакананне, што лепшай долі мужык і не заслугоўвае.

Такая ўжо логіка эксплуататараў.

Не задумваючыся над тым, чаму прыгонныя рабы цёмныя і неадукаваныя, панства «здзіўлялася»: якія могуць быць патрэбы ў істоты, што ледзь нагадвае чалавека? Дунін-Марцінкевіч і стараўся паказаць гэтаму «панству», што мужык не такі грубы, дзікі, якім лічаць яго, што і жыццё і быт яго па-свойму яркія, маюць сваю паэзію.

Каб сцвердзіць такі погляд па селяніна, не было патрэбы ў паказе рэальнага, штодзённага побыту яго. Дастаткова было перадаць этнаграфічныя рысы гэтага быту.

«Логіку эксплуататараў», іх погляд на мужыка добра ведаў паэт-дэмакрат Багушэвіч.

З болем за мужыка і нянавісцю да папоў і іх «панскай логікі» Багушэвіч піша свой верш «Дурны мужык, як варона».

Весь свет кажа, б’ець у звона:
«Дурны мужык, як варона!»
Гэта такі справядліва:
Ён дурнейшы ад вароны.
І не дзіва — было б дзіва,
Каб мужык ды быў вучоны.
        Дык крычыце ж, біце ў звона:
        Дурны мужык, як варона!
Да навукі ён не браўся,
Закасіўся, зааραўся;
Дурнем умрэ, як радзіўся,
Сам сабой дурным зрабіўся.

Ведама, мужык-хамула —
Ад навукі адвярнула!
Дык крычыце ж, біце ў звона:
Дурны мужык, як варона!*

У адрозненне ад Дуніна-Марцінкевіча дэмакрат Багушэвіч не ўпрыгожвае мужыка, каб «вывесці яго на людзі», не стараецца расфарбаваць яго быт, зрабіць мову яго больш ласкавай, мяккай. Наадварот, ён свядома агрубляе і мужыка, і мову яго. У вершах «У судзе», «Быў у чыстцы» і да т. п., звяртаючыся да «адукаванай» аўдыторыі, Багушэвіч як бы гаворыць: вось мужык, якім вы яго ўяўляеце сабе (цёмны, дзікі, неадукаваны), вось мова яго, якой яна вам здаецца (грубая, каравая), але наколькі гэты праставаты мужык дасціпнейшы і больш чалавечны за панкоў, што ведаць яго не хочуць, і як добра мова гэтага цёмнага мужыка агаляе пачварнасць і непатрэбнасць панскага ладу жыцця!

Прадаўжаючы традыцыю «Тараса на Парнасе», Багушэвіч стварае каларытны тып праставатага ў паводзінах, але па-свойму дасціпнага селяніна, які дае сваю прасцяцкую на першы погляд, а калі ўдумацца, — знішчальную ацэнку жыццю і звычкам «адукаванага панства». Мужык Багушэвіча — яркая індывідуальнасць. Аднак гэта збіральная індывідуальнасць. Гэта не Антось, Янка ці Міхал — гэта збіральны вобраз праставатага, наіўнага і па-свойму мудрага беларускага мужыка, якім зрабілі яго ўмовы жыцця.

З твора ў твор у Багушэвіча пераходзіць, па сутнасці, адзін і той жа псіхалагічны тып беларускага селяніна.

У кожным новым творы яго — тая ж збіральная, вельмі каларытная індывідуальнасць цёмнага, праставатага, але назіральнага і дасціпнага селяніна. Ад імя такога селяніна часцей за ўсё і вядзецца апавяданне ў творах Багушэвіча.

Гэты псіхалагічны тып селяніна не абышлі і пісьменнікі пачатку XX стагоддзя, бо ўмовы жыцця мала змяніліся і ў часы Купалы і Коласа. Пад пяром Коласа тып гэты атрымаў пасапраўднаму майстэрскую завершаную характарыстыку. Мы маем на ўвазе раздзелы «Новай зямлі»: «Па дарозе ў Вільню», «Дзядзька ў Вільні», «На Замкавай гары».

Малюючы Антосева «хаджэнне» ў Вільню, Якуб Колас вяртаецца непасрэдна да вопыту і псіхалагічных фарбаў пісьменнікаў

* Беларуская літаратура ХГХ стагоддзя. Выд. АН БССР. 1950. С. 250–251.



XIX стагоддзя. За межамі свайго паселішча дзядзька Антось з вельмі дасціпнага і здольнага на ўсе рукі звычайнага селяніна раптам вырастае ў фігуру фальклорна-збіральную, нават эпічную. Гэта ўжо як бы не дзядзька Антось — увішны, спрытны, з мяккай дзіцячай усмешкай, жывымі разумным вочкамі чалавек, а нейкая збіральная фігура беларускага мужыка, што раптам вырасла на гарадскім бруку сярод варожага лагера, сярод чысценькіх і тлустых панкоў і падпанкаў. Ужо на вакзале дзядзька пачынае «вайну»:

Плячук тут дзядзька прынапрудзіў,
Крутнуўся моцна навакола,
Чуць з ног не збіўшы балагола,
Ды наступіў на бот падпанку,
Зато між цел прабіў палянку
Ён гэтым модным паваротам,
У цвёрды грунт упёршысь ботам*.

Дзядзька рашуча, хоць і не без страху ў душы ўламваецца туды, дзе пра яго, «сярмягу», ні чуць, ні ведаць не жадаюць. Праўда, на кожную новую, нязвыклую для яго рэч дзядзька Антось налятае знянацку і на хвіліну губляецца, як разгубіўся ён, калі «ўзбіўся» на слуп, якіх тут для нечага «нарабілі». Праўда і тое, што «забіты дух яго вякамі ўжо чуе страх перад панамі». Але калі дзядзька і губляецца, то ненадоўга. У яго ёсць сялянская настойлівасць. Не звяртае на яго ўвагі патрэбны чыноўнік? Няхай сабе. Дзядзька можа і пачакаць.

Стаіць наш дзядзька, не адходзіць.
«Ну што ж? няхай пяром паводзіць:
Не на дажджы я, часу маю,
Не пан я, трохі пачакаю».

І дзядзька перамог.

Чыноўнік лыпнуў зноў вачыма,
Як бы на цёшчу ці айчыма,
Зноў у паперы ён уткнуўся,
А дзядзька наш не зварухнуўся,
Злаваць чыноўнік пачынае,
Што дзядзька вытрыманасць мае.

* Колас, Я. Збор твораў. Т. IV. 1952. С. 247.

Чыноўнік злосны не стрымаўся:
— Табе чаго тут? — запытаўся…*

Смешная фігура дзядзькі Антося паступова вырастае ў гэтых апісаннях у фігуру сапраўднага гаспадара жыцця. Бо ўсе гэтыя надзьмутыя панкі — толькі «порхаўкі», што лезуць з зямлі пасля дажджу. Чалавек працы — вось хто стварае ўсё каштоўнае ў жыцці. Праўда, чалавек працы яшчэ ў загоне, з ім не хоча лічыцца нават пісарчук. Але дзядзька і тут можа «трохі пачакаць». Не можа быць, каб не прыйшлі іншыя часы…

Ф. Багушэвіч ды і амаль уся беларуская літаратура XIX стагоддзя сказалі, магчыма, не больш пра беларускага селяніна, яго аблічча, псіхалогію, чым Колас у тых раздзелах «Новай зямлі», дзе ён апавядае пра падарожжа Антося ў Вільню. У гэтых раздзелах паэт, уласна кажучы, даў мастацкае завяршэнне псіхалагічнага тыпу беларускага селяніна, так грунтоўна распрацаванага папярэднікамі.

Але тут і паўстае пытанне: што новае ўнесла беларуская літаратура пачатку XX стагоддзя і ў прыватнасці аўтар «Новай зямлі» ў паказ чалавечага характару? Перш за ўсё прыходзіцца гаварыць аб разнастайнасці характараў, створаных Купалам і Коласам. Калі для твораў Багушэвіча быў уласцівы, па сутнасці, адзін збіральны псіхалагічны тып селяніна, то ў адной паэме «Новая зямля» мы знаходзім некалькі ярка індывідуалізаваных тыпаў. Гарачы, нястрыманы рабацяга Міхал вельмі адрозніваецца ад Антося — чалавека мяккага, вельмі непасрэднага, не без дзівацтваў. А якая разнастайнасць у паэме тыпаў другарадных: добры чалавек і не вельмі добры гаспадар Хадыка з яго прыслоўем «ядзяць іх мухі з камарамі», ганарысты сабака і даносчык Абрыцкі, якога так правучыў дугой дубаваты Пшавара, і інш.

У літаратуру прыходзіць сапраўдная індывідуалізацыя і псіхалагізацыя.

Дзякуючы таму, што ў працэсе ўзбагачэння і нармалізацыі беларуская мова перастала быць стылістычнай адзнакай мужыка і толькі мужыка, паяўляецца магчымасць даваць паўнакроўныя псіхалагічныя тыпы прадстаўнікоў не толькі сялянства. Такая мова дазваляе і псіхалогію селяніна раскрываць з большай глыбінёй і больш living рознабакова.

* Колас, Я. Збор твораў. Т. IV. 1952. С. 263.



У «Новай зямлі» быт — штодзённы. Колас, калі гэта патрэбна, шырока выкарыстоўвае народныя абрады, песні і г. д. для характарыстыкі жыцця і духоўнага свету беларускага селяніна. Раздзел «Падгляд пчол» у гэтым сэнсе нагадвае нечым «Вечарніцы» Дуніна-Марцінкевіча. Аднак у Коласа і этнаграфічны матэрыял цалкам падпарадкаваны рэальнай бытавой плыні жыцця, чаго не было ў Дуніна-Марцінкевіча.

У «Новай зямлі» асабліва поўна выявілася мастацкая сталасць, якой беларуская літаратура дасягнула на парозе XX стагоддзя.

Наш нацыянальны літаратурны шэдэўр «Новая зямля» ўзнік, такім чынам, па самым пераломе, калі літаратура беларуская пераадольвала недахопы мастацкай маладосці, калі літаратурная беларуская мова станавілася многастылёвай, калі ў літаратуру прыходзіў штодзённы быт чалавека, прыходзіла сапраўдная псіхалагізацыя і індывідуалізацыя.

У дакастрычніцкі час шлях беларускай літаратуры да творчай сталасці праходзіў у нялёгкіх умовах. Літаратура ўвесь час павінна была сцвярджаць свае права па існаванне, гістарычнае права беларускага народа тварыць культуру на роднай мове. Нельга зразумець ідэйнага зместу ні аднаго дакастрычніцкага твора, калі не ўлічваць, у якой атмасферы здзекаў, насмешак, недавер'я да іх справы прыходзілася тварыць Дуніну-Марцінкевічу, Багушэвічу, Купалу, Коласу, Багдановічу, Бядулю, Гарэцкаму.

І таму, аб чым бы канкрэтна ні пісалі гэтыя мастакі, амаль у кожным творы іх заключаецца захаваная ці адкрытая палеміка з тымі, хто не хацеў прызнаваць ні народа беларускага, ні мовы яго, ні літаратуры. Здавалася б, вельмі далёкі ад гэтай палемікі Багдановіч у сваіх творах на антычныя матывы ці ў творах аб каханні («Зорка Венера»). А між тым у вершах гэтых усё палемічна, уключаючы і самую форму. Уводзячы ў беларускую літаратуру традыцыйную форму санета, трыялета, рандо, Багдановіч як бы гаварыў: вось як натуральна можна пісаць на мове беларускага мужыка аб самых высокіх пачуццях і ў самых класічных формах.

У свой час, калі адзін з рэакцыйных літаратараў заявіў у рускім часопісе аб тым, што беларускі народ мала здатны да культурнага развіцця, у абарону беларускага народа выступіў Дабралюбаў — прадстаўнік прагрэсіўнай, рэвалюцыйнай Расіі. Дабралюбаў пры гэтым раіў розным «тэарэтыкам» пачакаць, пакуль пра свой народ скажуць самі беларусы.

Аб сваёй здольнасці да гістарычнага прагрэсу працоўны беларускі народ не раз заяўляў, падымаючы паўстанні супраць рэакцыянераў — магнатаў і самаўладства. Сваю «здатнасць» да гістарычнага прагрэсу беларускі рабочы клас і сялянства паказалі і ў рэвалюцыі 1905 года, якую ўзначаліў рускі пралетарыят. Іменна гэта рэвалюцыйная бура і абудзіла да творчасці цэлую пляяду беларускіх пісьменнікаў, у іх ліку Купалу і Коласа. Як бы пры святле маланкі ўбачылі яны народнае жыццё, чорную долю працоўнага чалавека, глыбіню народнага гора і сілу нянавісці народнай. І яны, Купала і Колас, зрабіліся песнярамі і гэтага гора і гэтай сілы.

Я. Купала і Я. Колас з найбольшай паўнатой паказалі свету, хто такі працоўны беларус, куды ідзе ён, што нясе «на сваіх плячах», чаго ён хоча. Паэма-раман «Новая зямля» з’явілася найбольш энцыклапедычным мастацкім творам, у якім паэт імкнуўся паказаць свету працоўнага беларуса ва ўсіх сферах яго сацыяльнага, матэрыяльнага і духоўнага жыцця. Сацыяльныя імкненні дарэвалюцыйнага беларускага сялянства і тут жа — паэзія земляробчай працы; зацятая нянавісць працоўнага беларуса да пана і побач — сямейны быт, паэзія дзяцінства, беларуская прырода і г. д.— такі шырачэзны дыяпазон ахопу жыцця ў «Новай зямлі». Твор гэты ва ўсёй нашай літаратуры вылучаецца іменна шырынёй ахопу і паказу народнага жыцця. Гэта, аднак, не робіць яго зборам жанравых карцін: «Новая зямля» — сюжэтна стройны, з вельмі канкрэтнай мастацкай ідэяй твор.

Мы падкрэсліваем іменна шырыню ахопу жыцця ў «Новай зямлі», бо з самага пачатку, як толькі з’явіўся гэты твор, крытыка наша не згаджалася прымаць яго ва ўсім багацці зместу і доўгі час спрабавала ўціснуць у вельмі куцую вульгарызатарскую схему. А паколькі ні ў якую схему твор гэты не ўкладваўся (як не ўкладваецца ў схему і само жыццё), з’явіліся глыбакадумныя разважанні аб тым, што Колас у «Новай зямлі» ідэалізуе хутар, дробнаўласніцкія інстынкты і да т. п. Безумоўная заслуга нашага літаратуразнаўства апошніх год у тым, што яно адкінула гэтыя бяздоказныя тэарэтызаванні ідэйна і эстэтычна глухіх людзей, якія не здольны былі разгледзець, што перад імі твор, да якога трэба падыходзіць з меркай непараўнальна большай, чым была ў іх пад рукамі*.

* Сам Я. Колас так пісаў аб адносінах некаторых «крытыкаў» 30-х гадоў да «Новай зямлі» ў вершы «Аўтару прадмоў да «старых» пісьменнікаў»:

Піша, піша Бэндэ,
Крытык наш суровы,
Да паэм даўнейшых
Грозныя прадмовы.

Час ідзе, і твораў
Тых не знойдзеш з свечкай,
І аб іх заціхлі
Гутаркі і спрэчкі.

«Новая зямелька»
Сталася старою,
Выраслі калгасы
Гэтаю парою.

І наш крытык піша,
Піша і сівее,
Мабыць, іх напіша,
Калі Колас стлее.

Новая эпоха,
І кірунак новы…
Можа ці патрэбны
Бэндавы прадмовы?

*(«Літаратура і мастацтва». 1933. 24 мая.)*



Але ці бачым мы ўсё багацце ідэйнага і мастацкага зместу «Новай зямлі» і сёння? Ці не звузіўся і наш погляд у вельмі патрэбнай барацьбе з вульгарызатарскім разуменнем коласаўскага твора: барацьба з адной крайнасцю і аднабаковасцю вельмі часта выклікае да жыцця супрацьлеглую крайнасць і таксама аднабаковасць.

Ідэйны змест і пафас «Новай зямлі» звычайна вызначаюцца так: «Смерцю галоўнага героя паэмы Колас развенчвае дробнабуржуазныя ілюзіі сялянства, паказвае іх поўны крах». Але чамусьці лічыцца, што развянчаць дробнабуржуазныя ілюзіі сялянства паэт можа, толькі паказаўшы, што жыццё перавыхавала самога Міхала. І хоць у паэме няма паказу псіхалагічнага працэсу, які прывёў героя да адмаўлення ад мэты ўсяго жыцця — ад набыцця зямлі, а ёсць толькі трагічная нечаканасць—хвароба і смерць Міхала, тым не менш у большасці артыкулаў пра «Новую зямлю» можна прачытаць тое ж, што напісана і ў каментарыях да сямітомнага Збору твораў, а іменна: «Толькі перад смерцю Міхал пераконваецца ў тым, што шлях яго быў памылковы, што здабыць зямлю і волю можна, толькі перабудаваўшы жыццё нанова». Вывад гэты ніяк не вынікае з усяго сюжэта паэмы, ён засноўваецца выключна па адной фразе (прытым даволі алегарычнай):

Бог не судзіў мне бачыць волі
І кідаць зерні ў свае ролі…
Зямля… зямля… туды, туды, брат,
Будуй яе… ты дай ёй выгляд…
На новы лад, каб жыць нанова…*

* Колас, Я. Збор твораў. Т. IV. С. 287.

Нельга, ігнаруючы ўвесь ідэйна-эмацыянальны і псіхалагічны змест твора, хапацца за адну фразу героя і будаваць на ёй тэарэтычны вывад аб тым, што герой «усвядоміў» і г. д. Бо калі гаварыць нават аб гэтай фразе, то і ў ёй чуецца, што Міхал застаўся верным мэце ўсяго жыцця свайго: «бачыць волю і кідаць зерні ў свае ролі».

«Зямля… зямля… туды, туды, брат» — з такім завяшчальным стогнам памірае Міхал, быццам марскі падарожнік, якому і перад канцом мроіцца жаданае — «зямля!», але які з болем усведамляе, што не ўбачыць яму ўжо берага, не ступаць па зямлі.

Ці паказвае паэт, што герой выбірае няправільны, фальшывы шлях свайго вызвалення? Безумоўна, паказвае. У гэтым, пісаў Колас у прадмове да «Новай зямлі» выдання 1934 г., «вялікі і сапраўдны трагізм» героя, бо «ўласны кавалак зямлі, свая гаспадарка, да якой з усёй палкасцю свайго сэрца імкнецца Міхал і ў якой бачыць ён свае вызваленне, не могуць даць яму гэтай волі, гэтага вызвалення». Асаблівы трагізм сітуацыі іменна ў тым, што выключную палкасць свайго сэрца, вялізную сілу жадання ўкладвае герой у міражную мэту, і ў тым, што ён так і «згарае», застаючыся верным сабе, верным сваёй нерэальнай мэце. І няма ніякай патрэбы рабіць нацяжкі, даказваць, што перад самай смерцю героя «азарыла», што ён у гэты момант «пераконваецца» і г. д. Памылковасць шляху героя ў «Новай зямлі» раскрываецца эмацыянальна, а не псіхалагічна, не праз усведамленне героем «памылковасці свайго шляху» і г. д., а праз трагізм лёсу чалавека, які абраў гэты памылковы шлях.

Паказваючы трагізм жыццёвага шляху свайго героя, паэт разам з тым з усёй шчырасцю і сілай свайго таленту паэтызуе і мару Міхала аб зямлі, якая пазбавіць яго ад «панскіх пут», і самую зямлю, і працоўнага чалавека, які толькі і можа «прывесці яе да ладу», «даць ёй выгляд». Сказаць аб гэтым крытыка наша на поўны голас не адважваецца. Яна знаходзіць тут лоўкі ход: аказваецца, зямля для Міхала — «толькі сродак» і ні ў якой ступені не мэта.

А між тым Колас не быў бы вялікім рэалістам, калі б, малюючы селяніна канца XIX стагоддзя, ён прымусіў бы яго глядзець на зямлю выключна як на сродак вызваліцца ад пана і не паказаў бы, што ўся сістэма поглядаў гэтага селяніна на шчасце, будучыню, на жыццё чалавека, увесь маральны кодэкс яго засноўваюцца на ўяўленні аб зямлі і аб працы на ёй як аб нечым самым трывалым і галоўным. Зямля для такіх, як Міхал



ці Антось, — не толькі «сродак», але і «матухна», «карміцелька», «святая святых» усяго, што ёсць у жыцці.

Хоць і цяжка працаваць на чужой зямлі, якую, магчыма, заўтра прыйдзецца пакінуць «чорту лысаму», і ўсё ж Антось заўсёды ўсю душу ўкладвае ў сваю справу. Ён не працуе, а «імшу правіць».

Вось як праходзіць малацьба:

Ну, хлопцы: зараз дамо жару!
Саб'ем пасадаў яшчэ з пару. —
Снапы ў радочкі палажылі,
Так і дзяды яшчэ вучылі,
Каб каласы ды з каласамі,
А да пярылаў гузырамі.
— Ну, грымнем, хлопцы, каб звінела! —
І пяць цапоў ідуць у дзела.
Не малацьба, а бубнаў хоры!
Здаецца б цэпам вадзіў хворы!
Бічы кладуцца так рытмічна,
Само гудзенне іх музычна;
Снапы не ўлежаць, скачуць самі
І сыплюць жыта пад бічамі,
А дзядзька рэй вядзе, гукае
І адным крыкам памагае:
— Дай, дай яму, брат! дай з-за вуха!
Гэ-гэх, скачы, баба-псяюха! —
Гудуць цапы ўгары праворна,
Ідзе работа дружна, спорна,
Аж падшыбае ўсіх ахвота,
Бо мае свой захоп работа*.

Антось апошнімі словамі лае ранейшага гаспадара зямлі — «гультая» і «абібока», што запусціў зямлю, даў ёй «задзернавець». А на касьбе:

Пахібка знойдзецца якая,
Наш дзядзька першы не ўтрывае
І на пакошу тыкне пальцам:
Бяда няўмекам і нядбальцам,

* Колас, Я. Збор твораў. Т. IV. С. 142–143.

Хто шнур зжуе няроўным плехам —
Антось яго ўжо дойме смехам…*

Сам жа ён «заложна і цярпліва ў зямлю ўкладваў свае сілы». І колькі паэзіі бачыць Колас у гэтай блізкасці чалавека да зямлі, у светаадчуванні чалавека працы:

Калі ўжо сонейка прыгрэла,
Антось на полі кончыў дзела
І выпраг коніка сівога,
Свайго памочніка старога,
Сівак з вялікім здавальненнем
Прайшоўся вольна загуменнем
І, баючыся ашукацца,
Раллю панюхаў, стаў качацца
З такім засосам і ахвотай,
Бакі намуляўшы работай,
Антось глядзеў і пацяшаўся
І ціха сам сабе смяяўся**.

Праўда, Антосеў брат Міхал працуе лесніком, а не на зямлі. І ён працаўнік сумленны, але не даспадобы яму такі лес: ва ўсім залежаць ад «пана ляснічага», які, калі захоча, можа аблаяць, прымусіць кідаць абжытае месца і перабірацца на новае і наогул можа пазбавіць сям'ю Міхала кавалка хлеба. Гэтага не было б, калі б Міхал меў сваю зямлю, сваю гаспадарку. Так думае Міхал і тым часцей думае аб гэтым, чым больш адчувае над сабой панскую ўладу:

Міхал ідзе, і думкі ходзяць,
І ў пункт адзін яны прыводзяць:
Каб як зямлі сабе прыдбаць
І службы гэтае не знаць***.

І калі з вобразам Антося звязана паэзія земляробчай працы, паэзія працоўнага жыцця, то з вобразам Міхала — зацятая сялянская дума аб тым, каб не ведаць над сабой пана, «панскіх пут». Аднак разрываць гэтыя дзве ідэйна-эмацыянальныя плыні «Новай зямлі» ніяк нельга. Сцвярджаць, што для Міхала зям-

* Колас, Я. Збор твораў. Т. IV. С. 212.
** Тамсама. С. 73.
*** Тамсама.



ля — толькі «сродак», і не адчуваць, што і яго мары аб зямлі асветлены паэзіяй земляробчай працы, значыць вельмі збядняць і вобраз Міхала і змест усяго твора.

Дык чаму ж і ў імя якой логікі змест твора ў нас заведама збядняецца?

Атрымалася так, што крытыка наша ўслед за тымі, з кім яна сёння не згаджаецца, услед за крытыкай 20-х — пачатку 30-х гадоў, недастатковую ўвагу звяртае на тое, у якіх канкрэтна-гістарычных умовах стваралася «Новая зямля» і што ў тых умовах азначала паэтызацыя сялянскай мары аб зямлі. Падыходзячы да гэтага пытання без усякага гістарызму, некаторыя крытыкі 20-х — пачатку 30-х гадоў (з «лёгкай» рукі Бэндэ) у марах Міхала аб уласнай зямлі бачылі пераклічку з «кулацкімі настроямі», якія перашкаджалі калгаснаму будаўніцтву. Палемізуючы з гэтым прымітыўным поглядам на твор аб дарэвалюцыйным жыцці сялянства, мы часта хапаемся за асобныя радкі з паэмы («па новы лад, каб жыць нанова» і г. д.), замест таго каб улічваць той канкрэтна-гістарычны сэнс, які ўкладваў паэт у твор аб спрадвечным імкненні селяніна да вольнай працы на зямлі.

Паспрабуем удумацца, што на самай справе азначала паэтызацыя сялянскіх мар аб зямлі ў тыя часы, калі паэма пісалася.

Я. Колас пачаў пісаць «Новую зямлю» ў 1910 годзе, скончыў у 1923 годзе. Гэта эпоха сацыяльнай рэвалюцыі, на сцягу якой было: «фабрыкі — рабочым, зямлю — сялянам, мір — народам». І ніяк нельга ацэньваць ідэйнай задумы «Новай зямлі» з пункту гледжання пазнейшых задач рэвалюцыі — калектывізацыі і г. д., а іменна так падыходзіла ў свой час крытыка да гэтага твора.

Першыя радкі «Новай зямлі», першыя малюнкі яе створаны Коласам у мінскім астрозе, куды паэт папаў за ўдзел у арганізацыі нелегальнага настаўніцкага з'езда. Між іншым, прыгадалі яму і петыцыю, якую пісаў настаўнік Міцкевіч ад імя сялян, патрабуючы, каб пан вярнуў захопленыя ім сялянскія землі. Гэта быў час, калі аграрнае, зямельнае, пытанне з'яўлялася воссю рэвалюцыйнага руху ў Беларусі. Пісаць у гэты час эпічны твор аб зямлі, паэтызаваць яе, паэтызаваць сялянскія мары аб зямлі — азначала пісаць аб тых сацыяльна-псіхалагічных перадумовах, якія ўздымалі на рэвалюцыйную барацьбу мільёны сялян.

Паэма «Новая зямля» назаўсёды застанецца эпахальным творам, народжаным тым этапам рэвалюцыйнай барацьбы ў Беларусі, калі пытанне аб зямлі было ў цэнтры ўвагі.

Не патрэбна ніякіх крыўдных нацяжак, ніякага чараўніцтва вакол асобных радкоў і сафістычных тэзісаў, для таго каб уба-

чыць і паказаць велізарнае ідэйнае значэнне «Новай зямлі». Для гэтага патрэбен толькі гістарычны падыход да мастацкай задумы твора, жаданне і ўменне бачыць усё багацце зместу «Новай зямлі».

* * *

Мы сказалі пра ўменне бачыць усё багацце зместу «Новай зямлі» і тут жа агаворваемся: гэта немагчыма. Для аднаго чалавека — немагчыма.

Паэма-раман «Новая зямля» належыць да ліку тых шэдэўраў мастацтва, пра якія ніколі не будзе сказана «апошняе слова».

Такі лёс мастацкіх твораў сапраўды эпахальных, у якіх праўда свайго веку перададзена з велізарнай сілай, у якіх жыццё паказана ва ўсім багацці яго форм і граней. Праходзіць пэўны час, і тады па-новаму ўспыхваюць грані такога твора, становяцца бачнымі якасці, якія раней нікім не заўважаліся.

Пра мову народа Чорны сказаў: «Яна жыве, а не існуе». Тое ж можна сказаць і пра сапраўды мастацкі твор: ён жыве, і ў кожную новую эпоху па-новаму. Кожная эпоха па-свойму прачытвае «Іліяду», «Фаўста», «Яўгенія Анегіна». Не так, як у 20-я ці 30-я гады, чытаем мы сёння і «Новую зямлю». Але ці «прачыталі» мы яе так, як можна было б, ці не збядняем мы гэтага твора? Думаецца, што збядняем, хоць зроблена ў сэнсе вывучэння яе нямала. Але ў адносінах да «Новай зямлі» заўсёды будзе мала.

У рэдактарскай рабоце ўжываецца выраз: «свежае вока». Апошнюю карэктуру газеты прачытвае чалавек, які да гэтага свядома зусім і не чытаў матэрыялаў, што ўвайшлі ў нумар. Чалавека такога і называюць «свежае вока». «Свежае вока» здольна лепш бачыць памылкі і промахі, чым тыя, што чыталі ўжо нумар, «зачыталі» яго.

Калі твор доўга і дэталёва вывучаецца, часам узнікае пагроза, што яго «зачытаюць». Паэтычная атмасфера твора, канкрэтны змест яго пачынаюць губляцца за нагрувашчваннем тэарэтычных разважанняў.

Мы не супраць тэарэтычных разважанняў, мы супраць таго, каб твор «зачытваўся». І таму мы за тое, каб час ад часу твор прачытваўся нанова, «свежым вокам», з тым, каб праверыць, ці ўвесь вобразны і эмацыянальны змест твора «ідзе ў работу», ці не час ужо глыбей адчуць задуму мастака.

Кажуць, стукні вялікім молатам па маленькім званочку — ён адгукнецца ледзь чутна, стукні маленькім малаточкам па вялізным звоне, і ён прагучыць, як гром. Удзячны гэта занятак для даследчыка — мець справу з вялікім звонам, мець справу з такім творам, як «Новая зямля».



Вяртаючыся да таго, што вышэй гаварылася пра «Новую зямлю» як пра беларускі раман у вершах, яшчэ раз учытаемся ў яе змест, услухаемся ў магутны і такі чысты, «срэбны», паэтычны гук гэтага «цар-звона» беларускай паэзіі.

Мой родны кут, як ты мне мілы!..
Забыць цябе не маю сілы!
Не раз, утомлены дарогай,
Жыццём вясны мае убогай,
К табе я ў думках залятаю
І там душою спачываю.
О, як бы я хацеў спачатку
Дарогу жыцця па парадку
Прайсці яшчэ раз, азірнуцца,
Сабраць з дарог каменні тыя,
Што губяць сілы маладыя, —
К вясне б маёй хацеў вярнуцца*.

З невялічкай і чыстай крынічкі лірычнага пачуцця, лірычных успамінаў аб вясне свайго жыцця пачынаецца раман-паэма аб жыцці беларускага працоўнага люду. Рэчышча лірычных успамінаў усё расшыраецца, усё паглыбляецца. Вось ужо рачулка філасофскага роздуму аб «законах, жыццём напісаных», уліваецца ў гэта лірычнае рэчышча, вось ужо ўзнікае жывы малюнак лесу, лугу, «пасады лесніковай». І ўсё гэта пакуль што застаецца лірычным пачуццём, хоць і робіцца ўжо карцінай:

Вось як цяпер, перада мною
Ўстае куточак той прыгожа,
Крынічкі вузенькае ложа
І елка ў пары з хваіною,
Абняўшысь цесна над вадою,
Як маладыя ў час кахання
Ў апошні вечар расставання…**

Яшчэ шырэй разліваецца плынь лірычнага пачуцця паэта: на хвалях гэтага пачуцця пераліваюцца — быццам сонца

* Колас, Я. Збор твораў. Т. IV. С. 7.
** Тамсама. С. 8.

выкацілася — праменні шырокай і такой мудрай аўтарскай усмешкі:

У глыбі двара стаяла хата
І выглядала зухавата
Паміж запушчанай будовы,
Як бы шляхцянка засцянкова,
Што ў дзень святы каля касцёла,
Чуць-чуць падняўшы край падола,
Так важна ходзіць з парасонам,
Спадніцай верціць, як агонам,
З дарожак пыл, пясок зганяе
І ў вочы хлопцам заглядае*.

Рэчышча лірычнага роздуму, лірычнага пачуцця настолькі расшыраецца і паглыбляецца, паэтычная плынь становіцца такой моцнай, што цяпер усё — абы толькі трапіла ў гэту плынь — панясецца наперад, захопленае магутным разлівам паэтычнай думкі. І вось ужо вывернутыя з карэннем «нёманскія дубы» нясе, цягне за сабой магутная рака, што пачалася з крынічкі. Здаецца, няма ў жыцці нічога, што не стала б паэзіяй, будучы захопленым у плынь аўтарскага пачуцця: самая празаічная рэч ператвараецца ў «золата паэзіі».

Дзень быў святы. Яшчэ ад рання
Блінцы пякліся па сняданне
І ўжо пры печы з чапялою
Стаяла маці… Пад рукою
Таўкліся дзеці, зміналі,
Або смяяліся, спявалі**.

Тут усё, што трапляе ў поле зроку аўтара, становіцца паэзіяй: «услон», «дзяжа», «апалонік», які

…то і дзела
Па дзежцы боўтаў жвава, смела
І кідаў цеста ў скавародкі***.

* Колас, Я. Збор твораў. Т. IV. С. 13.
** Тамсама. С. 14.
*** Тамсама.



Якой паэзіяй дзяцінства вее ад гэтых празаічных рэчаў, калі аб іх бярэцца апавядаць Колас! Здаецца, што можа быць паэтычнага ў снеданні? Але вось прачытаеце раздзел «За сталом», і хоць, магчыма, вы не зможаце нічога расказаць аб тым, як учора праходзіла снеданне ў вас дома, што гаварылася і што цікавага было за сталом, затое вы на ўсё жыццё запомніце, як снедала сям’я Міхала: як налівала маці верашчаку і як на яе «падгатаўлялі ўжо атаку, — на гэта хлопцы былі хваты», як тыя ж хлопцы (а іх — быццам «снапкоў на току») «аладкі кроілі ў квадраты, хоць геаметрыі не зналі». Запомніцца вам і спрэчка Міхала з братам:

А пападалася там скварка,
Была між імі чуць не сварка:
— Бяры, Антось! — Я намакаўся,
Бяры, брат, ты: ты больш цягаўся, —
І спрэчку тым яны канчалі,
Што гэту скварку разразалі*.

Захопленая магутным лірычным пачуццём, з якога бярэ пачатак паэма, бытавая эпічная плынь усё ўзмацняецца і расшыраецца. І вось ужо яна, бытавая плынь апавядання, убірае ў сябе і лірыку, і філасофскую думку, і промень аўтарскай усмешкі. Паэма паступова разліваецца ў раман, «Новая зямля» становіцца паэмай-раманам.

Услухайцеся, якая амаль празаічная свабода апавядання ў «Новай зямлі», і адначасова як проста, здаецца, без усякага намагання, умее Колас звычайнае бытавое слова ператварыць у паэзію:

Калі ж хто, часам, з ім не зладзіць,
То дзядзька толькі вус пагладзіць,
Але не скажа ён нічога,
Бо ведаў, чым даняць малога, —
Гаворыць з тым, з кім дзядзька ў згодзе:
— Калі такі ён, ну, то годзе! —
І дзядзька змоўкне, пачакае,
Кісет дастане і закурыць
І вочы чутачку прыжмурыць,
Як бы і ў памяці не мае
Таго, што з хлопцам пасварыўся.

* Колас, Я. Збор твораў. Т. IV. С. 25.

— А як авёс наш урадзіўся?
Схадзіць бы ў Ліпава, пабачыць! —
Ўжо знаюць дзеці, што то значыць
Гаворка дзядзькава такая,
Куды ён вуды закідае:
У Ліпава пайсці з ім! божа!
І хто ўстаяць прад гэтым можа!
Ды гэта ж свята, ягамосці!
Набок тут норавы і злосці!
І мяккім робіцца паганы —
Хоць ты кладзі яго да раны*.

З гэтай бытавой, паўсядзённай плыні жыцця і вырастае той лейтматыў пошукаў, мар Міхала, які з кожным раздзелам гучыць усё больш безнадзейна і трагічна, і тым больш безнадзейна і трагічна, чым з большай «палкасцю» сэрца імкнецца герой да сваёй мэты.

Вось паснедала сялянская сям'я, і наступіла невялікая мінута пярэдыху перад працоўным днём:

А дзядзька сеў курыць на ўслоне.
Злажыўшы шчыльненька далоні,
Міхал сядзеў, не варушыўся
І ў мыслі нейкія ўглыбіўся.
Ды маці з дзядзькам добра зналі,
Дзе тыя мыслі вандравалі,
Што іх гарнула, што туліла
І дзе было ім гэтак міла.
Даўно ўжо бацька жыў думою
Разжыцца ўласнаю зямлёю
І не належаць ні да кога,
Не знаць начальства ніякога**.

І калі Міхал вёў размову пра зямлю, то «з такім жарам, што бацьку ўсе дазвання, як бы ксяндза таго казанне, так шчыра слухалі…».

Міхал ведае, чым можна зацікавіць жонку і Антося. Жонцы ён кажа, што там гароды добрыя «і надта родзіцца капуста», а Антося лягчэй за ўсё завабіць тым, што «рэчка ёсць, а рыбы, рыбы!»:

* Колас, Я. Збор твораў. Т. IV. С. 56.
** Тамсама. С. 25–26.



Як сонца, твар яго свяціўся,
І ад прыемных ціхіх смехаў
Чуць не за вуха вус заехаў*.

Але калі для жонкі і для Антося — гэта толькі далёкая і нерэальная мара, то Міхал увесь жыве думкай пра тое, каб прыйсці да мэты. Міхал — натура дзейная, здаецца, у ім увесь час гарыць нейкі ўнутраны агонь, які час ад часу можа прарвацца сярдзітым вокрыкам на дзяцей, крыўдай на жонку.

Душэўны агонь гэты ўспыхвае на ўсю моц, калі новы ляснічы нізашто пачаў лаяць яго, Міхала:

Міхал маўчаў, ды нечакана
Ён сам як рушыцца да пана!
Ляснічы зразу ўзад падаўся.
— Чаго пан гэтак раскрычаўся?
Завошта пан мяне так лае?
Згарыць яна няхай такая
І служба гэта, і пасада,
І гэта крыўда, й гэта здрада,
І гэта панская адплата!..
Міхал тут плюнуў, завярнуўся —
Хоць раз, ды добра агрызнуўся**.

Такому чалавеку, як Міхал, асабліва цяжка быць бяспраўным служкам у пана: чалавек гарачы, натура актыўная, дзейная — ён павінен быць ледзь не парабкам у «пана ляснічага», чалавеку сумленнаму — яму трэба круціцца ў асяроддзі, дзе ўсё трымаецца на даносах і падкусваннях, чалавек працавіты — ён усяго сябе вымушаны аддаваць чужой, нялюбай, панскай справе.

Не верыць, што можна выбіцца з такога становішча, для Міхала значыць не жыць. А само жыццё, сама служба раз-пораз напамінаюць яму:

…Няма, брат, ходу,
Хоць з моста кідайся ты ў воду;
Няма зямлі свае і хаты,
І мусіш гнуцца, як пракляты***.

* Колас, Я. Збор твораў. Т. IV. С. 27.
** Тамсама. С. 86–87.
*** Тамсама.

Здаровая, сумленная, такая багатая працоўная натура селяніна Міхала не можа мірыцца з тымі пачварнымі формамі жыцця, у якія пастаўлены беззямельны селянін. Увесь змест «Новай зямлі» падпарадкаваны задачы паказаць, раскрыць душэўнае багацце чалавека працы і тым самым сцвердзіць права гэтага чалавека на лёс лепшы, чым у Міхала і яго сям'і.

Чым багацейшым паўстане перад чытачом душэўнае жыццё чалавека працы, тым больш выявіцца пачварнасць тых умоў, у якія пастаўлены ён, тым больш карыкатурна будзе выглядаць прэтэнзія паноў гаспадарыць у жыцці.

Вось заявіліся паны на паляванне, па «панскую пацеху», а ты, Міхал, чамусьці павінен клапаціцца:

Бадай тут іх нуда паела!
Вязі з гумна для іх салому
І стол цягні апошні з дому,
Каб мелі дзе на чым пажэрці,
Бога не нашага вы чэрці*.

У лесе, дзе Міхал, як дома, сярод збажыны, што вырасціў Антось, паны — зусім лішняе і нікому не патрэбнае.

І не толькі ў лесе ці ў полі паны «лішнія», такім жа непатрэбным выглядае і іх «гарадское жыццё». Дзядзька Антось, як бы ў адказ на прыезд гарадскіх паноў, аддае ім «візіт» — едзе ў Вільню. Ен ходзіць па гарадскім бруку, «адзін за дзесяць робіць груку» і дзівіцца:

Ото паноў! О божа мілы!
Якія гладкія іх рылы!
Якія вусы і бароды.

На што яны маглі б згадзіцца, разважае Антось:

Паставіць бы іх ў агароды —
Ні вераб'і і ні вароны
Не смелі б сесці на загоны**.

Чалавек працы ў Коласа — маральны крытэрый усяго, што ёсць у жыцці. Варта было звычайнаму селяніну, дзядзьку Антосю, з'явіцца на віленскім бруку, як усё тут неяк здрабнела, быццам сярод панкоў раптам вырасла фігура новага Гулівера…

* Колас, Я. Збор твораў. Т. IV. С. 195.

** Тамсама. С. 254.



І камічным у раздзелах пра дзядзьку ў Вільні выглядае не столькі дзядзька Антось, колькі панкі-ліліпуты, што бегаюць, мітусяцца вакол Гулівера і звысоку паглядаюць на «хама», які аднекуль з'явіўся тут.

Зацятая сялянская нелюбоў да пана ў «Новай зямлі» адчуваецца ва ўсім, у самой стылістыцы твора.

Вось як апісваецца сялянскі двор і яго жыхары (падкрэслена мною.— *А. А.*):

Ў кампанні важнай з індыкамі
І, распусціўшы хвост мятлою,
Павук пахаджываў з павою,
*Як пан вяльможны, радавіты*:
Ў кутку двара каля карыта
Шныралі качкі-плюскатухі;
*Япрук заможны*, лапавухі
Спацыраваў паміж платамі…
А каля кухні пад аконцам
Сабакі грэліся на сонцы —
*Таксама панскае пароды*,
І ім было жыццё, выгоды*.

З кім жа яшчэ параўнае селянін фанабэрыстага павука, лянівага тоўстага япрука, лайдакаватага сабаку, як не з панам?

Бо гэта ён, пан, панскі лад жыцця засцяць свет героям «Новай зямлі».

І, здаецца, ужо наблізіліся яны да сваёй мэты — набыць зямлю і вырвацца з панскіх пут. Ужо і зямлю нагледзелі ў Хадыкі, і ў Вільню дзядзька з'ездзіў, па канцылярыях пахадзіў. Аднак Антося ўсё больш і больш бярэ роздум: грошы, запрацаваныя потам, незаўважна плывуць, бо кожны пісарчук стараецца «ў тваю сярмяжную кішэню спрытней, глыбей засунуць жменю».

Але ці ёсць, ці ёсць парука,
Што будзе сэнс мець гэта мука?
Ці дасць зямля табе збавенне
Ад злога панскага насення?
З адным рассватаешся тут,
Там у другі залез хамут,

* Колас, Я. Збор твораў. Т. IV. С. 67.

Паны ж і розныя чынушы
І тым патрапяць выбіць душы*.

Што да Міхала, дык ён стараўся на гэтым не вельмі спыняцца ў думках, баючыся, мабыць, безнадзейнасці. У яго стане, з яго натурай чалавеку патрэбна абавязкова верыць у блізкае збавенне:

Адзін Міхал і грэў імкненне
Давесці справу да сканчэння**.

У тым і трагедыя гэтага чалавека, што ўвесь ён аддаецца справе безнадзейнай і марнай. Здаецца, што нават не хвароба, а гэты ўнутраны агонь марных надзей спаліў Міхала. І апошнія словы яго былі пра тое ж: пра волю, пра зямлю…

Усім эмацыянальным зместам свайго твора даводзячы, што надзеі Міхала на вызваленне ад «панскіх пут» праз набыццё зямлі былі марнымі, Колас разам з тым паэтызуе вось гэту сілу народнага імкнення да вольнай працы на зямлі. Апошнія раздзелы «Новай зямлі» былі скончаны ў час, калі гэта імкненне ўжо здзейснілася праз сацыялістычную рэвалюцыю. У гэтых умовах трагізм памылковага шляху Міхала ўспрымаўся асабліва востра.

* * *

Якраз у тым жа годзе, калі Колас пачаў пісаць «Новую зямлю», у «Записках Северо-Западного отдела Русского географического общества» (кн. 1) паявіўся артыкул В. Стукаліча. Ацэньваючы працы М. Нікіфароўскага і іншых рускіх этнографаў, якія стараліся сцвердзіць правільны погляд на беларуса і яго культуру, Стукаліч, між іншым, цікава характарызаваў уяўленні аб беларускім народзе, што бытавалі ў асяроддзі мясцовай чыноўніцкай інтэлігенцыі і шляхты. Вось якім уяўляўся беларускі народ і яго край гэтаму «адукаванаму» асяроддзю:

«Клімат няўстойлівы, сыры і нездаровы. Прырода аднастайная, панурая і бедная. Усюды бясконцыя багны, балоты. Народ грубы, цёмны і бедны, хілы і слабы фізічна. Мова няправільная і непрыгожая. Характар народа няўстойлівы. Крайняя грубасць пераходзіць у прыніжаную ўгодлівасць. Гультайства, бесклапотнасць, коснасць, схільнасць да п’янства, дробных краж — вось

* Колас, Я. Збор твораў. Т. IV. С. 276–277.
** Тамсама. С. 272.



характэрныя рысы беларускай народнай масы. Адным словам, народ і краіна без мінулага і будучыні».

Дзякуючы працы выдатных этнографаў — энтузіястаў Нікіфароўскага, Шпілеўскага, Шэйна, Раманава, Сержпутоўскага і другіх — вядомымі сталі багацейшыя скарбніцы беларускага фальклору.

Этнаграфічнае аблічча беларуса ў зборніках і працах гэтых вучоных ужо вызначалася даволі акрэслена. Беларуская ж літаратура паступова знаёміла чытача з «жывым» беларускім селянінам, з яго паўсядзённым побытам. Асабліва поўна гэта задача вырашалася ў «Новай зямлі». Іменна тут сацыяльнае, гістарычнае, бытавое, маральнае, а таксама этнаграфічнае і моўнае аблічча беларускага народа выяўлена з асаблівай паўнатой.

«Новая зямля» ў гэтым сэнсе — сапраўдная энцыклапедыя дакастрычніцкага жыцця беларускага народа.

У раздзеле «Каля зямлянкі» паэт гаворыць:

Я буду рады, калі ўдасца
Маім людцам у вашай ласцы
Хоць на кароценькі часочак
Заняць хоць цесненькі куточак.

Жыццё іх, праўда, не цікава,
Пра іх нідзе не ходзіць слава,
Аб іх гісторый не складаюць…
Пра іх і песень не спяваюць…*

Пачынаючы свой твор, паэт як бы стараўся сказаць: вось народ, у самім існаванні якога сумняваліся, вось духоўны свет чалавека працы, які некаторым здаецца дзікуном, вось чым жыве, аб чым думае, як працуе, святкуе, вось як радуецца і як пакутуе беларускі працаўнік!

Нялёгкія ўмовы жыцця ў такіх, як Міхал і Антось, але няма ў працоўным асяроддзі нічога, што нагадвала б духоўную беднасць. Іменна багацце духоўных сіл чалавека з народа — вось што на першым плане ў «Новай зямлі» і што так упрыгожвае карціны народнага жыцця, намаляваныя Коласам. У гэтых адносінах «Новая зямля» была нечым прынцыпова новым у беларускай літаратуры дакастрычніцкага перыяду і з’явай вельмі

* Колас, Я. Збор твораў. Т. IV. С. 47.

своечасовай у літаратуры пачатку 20-х гадоў. Дакастрычніцкая літаратура (асабліва ў XIX стагоддзі) дала шмат рэалістычных малюнкаў жыцця працоўнага народа, матэрыяльна і духоўна абрабаванага эксплуататарамі. Разам з тым літаратура раскрывала і духоўную перавагу працоўнага чалавека над тымі, хто лічыў яго за дзікуна.

І ўсё ж не было яшчэ твора, у якім бы не ў рамантычнай, а ў строга рэалістычнай форме, на бытавым матэрыяле раскрывалася б духоўнае багацце чалавека працы з такой сілай, мэтанакіраванасцю і паўнатой, як гэта робіцца ў «Новай зямлі». Іменна таму твор гэты, які завяршыў развіццё дакастрычніцкай беларускай літаратуры, так арганічна ўвайшоў у новую, савецкую літаратуру.

«Новая зямля» — гэта не толькі твор аб трагічным шляху селяніна, што не мог здзейсніць сваёй мары аб волі ў тых умовах, у якіх ён жыў. «Новая зямля» — гэта адначасова выдатны гімн чалавеку працы. Паэтызуючы працоўнага беларуса, Колас з найвялікшай дэталёвасцю малюе «каляндар» яго працоўнага жыцця, «труды і дні» беларускага селяніна. Нам дакладна вядома, як і чым жыве сям’я Міхала вясной, летам, восенню, зімой, у свята і ў будні.

Не вельмі шчодрае на радасці жыццё ў беларускага селяніна Міхала і яго сям’і. Але багатая душа ў гэтых людзей, і таму самыя простыя і няхітрыя радасці выглядаюць, як нешта надзвычай яркае. Згарэла ў Міхала «хата з варыўнёю», сям’я жыве ў зямлянцы. Але і гэта жыццё не выглядае безнадзейным. Паэт лаканічна зазначае, што «зазнала жалю гаспадыня» і што «дужа з горам спазнавалісь», і потым пераходзіць да апавядання пра штукарствы дзядзькі Антося, які ўмее пацешыць і сябе і дзяцей вельмі простымі рэчамі, напрыклад, наварыць клёцак з сокам.

Аптымізм народа, яго здатнасць быць моцным перад любой бядой выдатна перадаў Колас у «Новай зямлі».

Усе радасці жыцця для герояў «Новай зямлі» звязаны з працай і яе вынікамі, хоць яны ведаюць і другое: як дрэнна і цяжка, калі праца твая ідзе на карысць «чорту лысаму», абясцэньваецца парадкамі, пры якіх даводзіцца жыць.

«Труды і дні» беларускага селяніна ў «Новай зямлі» малююцца чалавекам, які ведае і любіць тое, аб чым піша: ведае сялянскую працу, бачыў, як па-рознаму ўзыходзіць зімой і ўлетку сонца. Паэт не раз сам «абмыўся расою», і ён добра разумее стараннасць, з якой Антось выбірае касу:



Купіць касу — о, гэта штука!
Яшчэ больш важная навука —
Умець дагнаць касу да ладу
І даць ёй выклепку, асаду.
Мастак быў дзядзька і на гэта,
Ён ладзіў многа кос у лета
І так наклепле іх, асадзіць,
Што хто на коску ні паглядзіць,
То ажно ахне ўжо ад дзіва
Ці галавой кіўне маўкліва*.

Кожная пара года ў «Новай зямлі» мае сваю асаблівую паэзію. І гэта заўсёды паэзія працы. Бо працуе не толькі селянін, але і сама прырода:

Вясна была яшчэ ўпачатку,
Але снягі ўжо раставалі.
І дружна ў полі балбаталі
Раўчкі, рачулкі, і ў грамадку
Яны ваду сваю злівалі,
Ад сну гаі, лясы будзілі
І людзям душу весялілі.
І ўсё патрошку ажывала:
На дрэве покаўка трашчала,
Ў сабе лісточак далікатны,
Пахучы, свежанькі, прыўдатны,
На добрым сонцы гадавала**.

Раўчакі і рачулкі «ваду сваю зліваюць», ад сну «лясы будзяць», людскую душу «весяляць»; покаўка на дрэве «гадуе ў сабе лісточак далікатны» — гэта не проста жыццё, гэта жыццё-праца прыроды.

Зіма «працуе» на вясну і на лета, лета — на восень, восень — на зіму.

Куцця. Марозна. Хмурнавата.
Сняжок падкідвае заўзята;
Снег на куццю — грыбы на лета,
Такая матчына прымета***.

---

* Колас, Я. Збор твораў. Т. IV. С. 213.
** Тамсама. С. 50.
*** Тамсама. С. 175.

Так глядзіць на прыроду селянін, вачыма народа бачыць яе і паэт.

Земляроб і прырода ў Коласа працуюць як бы разам. Чым горш ставіцца да такіх, як Антось і Міхал, «адукаванае грамадства», тым з большай удзячнасцю прымаюць яны падарункі роднай прыроды. І чым цяжэй іх «зарабіць», гэтыя падарункі, тым даражэй яны для селяніна. А прырода дорыць свайму сапраўднаму гаспадару за яго цяжкую працу не толькі хлеб, але і прыгажосць. Бо іменна ён, працаўнік, толькі і здольны разгледзець прыгажосць там, дзе «мясцовая інтэлігенцыя» Стукаліча бачыла «аднастайнасць», панурасць і беднасць:

Адна работа за другою
Ідзе-плыве сваёй чаргою
То ў агародзе, то на полі
І не спыняецца ніколі;
І так у клопаце, ў рабоце,
Ці то ў няволі, ці ў ахвоце
Вясна мінецца, прыйдзе лета,
Тады штодня ўставай да света,
І агнявокая дзянніца,
Як маладая чараўніца,
Цябе сагрэе мілым смехам,
Авее духам чыстым бораў,
Палёў, лясоў, нябёс прастораў
І сыпне радасць нізкім стрэхам.
Ды толькі будзе той дастойны
Вітаць у ранічак спакойны
Златавалосую багіню,
Той да грудзей яе прыхіне,
Яе пацешыцца красою,
Хто сам абмыецца расою*.

Толькі той, хто сам «абмыецца» расой і потам, здольны ўбачыць прыгажосць роднай прыроды-працаўніцы, здольны бачыць, як раніцой «мак чырвоны, раскрыўшы гожыя лісточкі», стараецца выткаць «прыўдалыя вяночкі», толькі той адчуе хмяльны пах прывялага сена, толькі той заўважыць, што «ружовы захад» пасля працоўнага летняга дня «повен ласкі», толькі той скажа:

* Колас, Я. Збор твораў. Т. IV. С. 211–212.



Я шчасця большага не знаю,
Ці знаць яго ўжо не прыйшлося,
Як толькі тут, на сенакосе*.

У гэтым поглядзе на прыроду, прыгажосць, працоўнае шчасце паэт не аддзяляе сябе ад народа. Эстэтычныя погляды народа, народная этыка — яго погляды і яго этыка.

Толькі ідучы ад народных уяўленняў аб жыцці, можна зразумець і самую паэтыку «Новай зямлі».

За гэтым творам сапраўды стаіць цэлы народ. Калі б патрэбна было для будучых часоў пакінуць толькі адзін твор, які б даў уяўленне аб тым, што такое беларускі народ, хіба не «Новую зямлю» назваў бы кожны з нас!

Паэтыка і жанравыя адзнакі сучаснай беларускай паэмы ў многіх адносінах далёкія ад таго, што характэрна для «Новай зямлі». І гэта зусім заканамерна. Змянілася само паняцце народнага, нацыянальнага характару беларуса.

Але «Новая зямля» вучыць нашых паэтаў самаму галоўнаму: за творам павінна стаяць не толькі таленавітая індывідуальнасць самога мастака, неабходна, каб за творам праглядваўся цэлы народ. І гэта датычыцца як зместу, так і самой паэтыкі твора.

Поўнасцю «Новая зямля» была надрукавана ў 1923 годзе. І адразу крытыка адчула:

«Цяпер ад гэтага манументальнага эпічнага твора шлях развіцця беларускай паэзіі ідзе да закончанага беларускага рамана» («Полымя». 1923. № 5–6).

***1957***

## ПРАБЛЕМА: КУЗЬМА ЧОРНЫ І ДАСТАЕЎСКІ

Аб творчасці К. Чорнага напісана не менш, як аб прозе Я. Коласа. Пісьменнік — гэта не толькі яго творы і яго біяграфія. І не толькі яго час, але і тое, як творы, творчы воблік і шлях К. Чорнага адбіваюцца ў люстры нашага часу.

К. Чорны заўсёды шукаў у народных глыбінях тую плынь, што хай і не бачна зверху, але ўсё роўна злучана з усімі морамі і акіянамі чалавецтва. Разам з тым для Чорнага народ — гэта не нешта абстрактна-бязлікае, а тыя Міхалкі, Нявады, Волькі,

* Колас, Я. Збор твораў. Т. IV. С. 216.

Кастусі, тыя сяляне, краўцы, цесляры, што жылі і жывуць з ім побач і ў яго творах, што сталі ўжо часткай яго самога, з'яўляюцца і рэальнасцю, і яго фантазіяй аднаchасова. Гэта — галоўнае ў Чорным. І іменна таму, што яно, галоўнае, было такім моцным, творчая вучоба ў другіх літаратур і іншых мастакоў слова толькі ўзбагачала Чорнага і ніяк не высушвала нацыянальныя фарбы яго палітры.

Тут будзе цікава параўнаць яго з М. Зарэцкім — аўтарам ранніх апавяданняў і рамана «Сцежкі-дарожкі». І Чорны, і Зарэцкі перажылі вельмі моцны ўплыў пакутнага генія Дастаеўскага.

Але вынік быў неаднолькавы. Зарэцкі, які ішоў да Дастаеўскага занадта прама і не несучы моцнага нацыянальнага, народнага пачатку ў сваім таленце, аказаўся на нейкі час усяго толькі паслухмяным спадарожнікам гэтай звышмагутнай літаратурнай зоркі. Нават тое сваё, што было ў Зарэцкага, нават яго ўласны жыццёвы вопыт — усё перабудоўвалася ў адпаведнасці з прыцягненнем да яе. Прачытаўшы «Сцежкі-дарожкі», амаль немагчыма паверыць, што і прыгажуня Раіса з яе «дастаеўскай» прагай кахання-пакуты, і злавесна-паталагічны яе дзядзька, што ўсё гэта не з кніг, а з самога жыцця. Як сцвярджае жонка пісьменніка, намаляваныя ім людзі былі суседзямі Зарэцкага, рэальнымі, звычайнымі. Пад яго ж пяром яны ператварыліся ў кніжныя копіі герояў Дастаеўскага.

У пазнейшых творах, асабліва «Вязьме», Зарэцкі пазбываўся такога творчага бязволля перад тварам свайго літаратурнага настаўніка.

З Чорным такога наогул не здарылася ніколі, хоць ён, магчыма, бліжэй за іншых наблізіўся да той велізарнай зоркі, імя якой — Дастаеўскі.

А між тым пазбегнуць такога творчага бязволля, пападаючы ў сілавое поле генія Дастаеўскага, нялёгка. Дастаеўскі, калі забірае ў палон другога мастака, дык забірае ўсяго. У адрозненне, напрыклад, ад Талстога, які ўзбагачае, але не імкнецца заняволіць чужы талент. У свой час крытыкі, што ваявалі за «літаратуру факта», супраць рамана і наогул мастацкай літаратуры, каб дыскрэдытаваць «вучобу ў класікаў», старанна выпісвалі калонкі цытат з «Разгрому» Фадзеева і побач з Талстога. І сапраўды — цытаты пераканаўчыя. Калі б на такую блізкасць асмеліўся нехта да Дастаеўскага — гэта не быў бы нават мастацкі твор, а ўсяго толькі «чыстапісанне з класіка». Таленавітае ж набліжэнне да стылю, да прыёмаў Талстога не пазбаўляе мастака свайго твару.



У чым тут загадка? І ў чым разгадка? Думаецца, што ў характары светаадчування стылю Талстога і Дастаеўскага. Дастаеўскі геніяльна дэфармуе жыццё і чалавека, каб вывернуць наверх усё схаванае ад прывычнага вока. Талстой і пылінкі не скране з месца, ён толькі прымусіць усё засвяціцца нечаканым святлом бязлітаснай праўды, нараджэння, любові…

Талстой вучыць так стаць, так павярнуцца да жыцця, што ўсё здаецца вось-вось створаным, узнікла з небыцця. Чалавек застаецца адзін на адзін з прыродай, з людзьмі, са светам. Талстой пакажа, а сам адступіць назад. Дастаеўскі ўжо не адступіць, бо толькі ў яго прысутнасці свет, чалавека мы бачым так незвычайна і вострa, самае нерэальнае здаецца рэальным і пануючым.

Стаць побач з Дастаеўскім і застацца самім сабой, глядзець сваімі вачыма, думаць і адчуваць па-свойму нялёгка, не проста.

Кузьме Чорнаму такое ўдалося. Бо ён заўсёды ішоў у глыбіню народнага жыцця, у глыбіню нацыянальнага характару — своеасаблівасць, нацыянальная і сацыяльная канкрэтнасць жыцця і характару для Чорнага перш за ўсё. Калі ў некаторых творах (зборнік «Пачуцці», раманы «Сястра», «Млечны шлях» і інш.) Дастаеўскі адчуваецца вельмі моцна, то гэта той Дастаеўскі, якога, уласна кажучы, і не было: «беларускі Дастаеўскі», які стаў бы з уласцівай яму вастрынёй аналізаваць іменна «беларускае жыццё-быццё».

У Зарэцкага ж атрымлівалася так, што ён не настаўніка наблізіў да свайго, да беларускага матэрыялу, а матэрыял — да настаўніка, не прыём падпарадкоўваў матэрыялу, а матэрыял — прыёму.

Праз паглыбленне ў жыццё, у яго сацыяльную і нацыянальную стыхію, праз творчую вучобу ў класікаў К. Чорны наблізіў беларускую прозу да выдатных узораў сусветнай класічнай прозы.

Я. Колас сцвердзіў у беларускай прозе героя з надзвычай багатым псіхалагічным, інтэлектуальным жыццём, унутраны свет якога вельмі не проста звязаны з акаляючай рэчаіснасцю, мае свае, уласныя вымярэнні і адносна самастойныя законы існавання.

К. Чорны пайшоў сваім шляхам, хоць таксама ў тым жа кірунку. Яго герой — чалавек з такім напружаннем унутранага жыцця, якое кожны момант пагражае ўзрывам. А між тым герой яго — усё той жа працавіты, мяккі, маўклівы беларус. Толькі рэвалюцыя паказала, якія буры хаваюцца ў цішыні. А народная партызанская вайна потым пацвердзіла гэта.

У цішыні Чорны шукае буры — вось яго ключ да нацыянальнага характару беларуса.

Чалавек у творах К. Чорнага — той эмацыянальны цэнтр, да якога цягнецца ўсё. Псіхалагічная драма чалавека, яго напружаны роздум і пакутліва вострыя перажыванні — аснова кампазіцыі ў К. Чорнага. Храналагічна-біяграфічная кампазіцыя трылогіі Коласа і «Сокаў цаліны» Ц. Гартнага, дзе раўнапраўнымі былі і чалавек, і навакольны свет, для Чорнага празмерна апісальная. У творчасці Чорнага беларуская проза і перш за ўсё раман робяцца падкрэслена псіхалагічнымі. Псіхалагізм Чорнага не адмаўляе ні гістарызму, ні сацыяльнасці, ні бытавізму, ні жанравых карцін. Але ўсё падпарадкавана псіхалагічнаму стану чалавека, у душы якога ўздрыгваюць маланкі будучых бур. К. Чорны імкнецца ўсё «сабраць у адну кропку», у адзін згустак чалавечай энергіі. Не заўсёды яму гэта ўдавалася ў буйных творах, часам то гісторыя (раман «Бацькаўшчына»), то сучасныя падзеі («Ідзі, ідзі»), то раптам сюжэт («Трэцяе пакаленне») вырвуцца з рамак чалавечага характару, чалавечай драмы і зажывуць самастойным жыццём. Але ў кожным новым творы Чорны зноў і зноў імкнецца і гісторыю і сучаснасць, і цішыню і буры — усё сабраць у чалавеку, выявіць праз чалавека і толькі праз яго.

* * *

У чым асноўная метадалагічная памылка тых крытыкаў, што і сёння час ад часу патрабуюць ад літаратуры ўяўнай, ілюстрацыйнай усеабдымнасці замест характараў? Вось І. Мележа папракаў У. Карпаў у тым, што, маўляў, у рамане «Людзі на балоце» ўсё ж не адчуваецца сапраўднай шырыні, размаху падзей*.

Дзіўна б выглядаў чалавек, які б сцвярджаў, што, калі вучоны прыкладае вока да лінзы мікраскопа ці глядзіць у трубку тэлескопа, ён тым самым «абмяжоўвае свой кругагляд». А вось пра пісьменніка, які праз чалавека, праз характары глядзіць (і павінен глядзець) на падзеі, на гісторыю, такое гавораць.

Чалавек для мастака і ёсць тая прызма, што незвычайна ўзмацняе, павялічвае магчымасць паглыбіцца ў грамадскі працэс. Вось чаму мастак, кажучы словамі Луначарскага, здольны пранікаць у тыя сферы, якія недаступны навукам («статыстыцы і логіцы»). Толькі датычыцца гэта мастака-першаадкрывальніка, а не ілюстратара.

* Полымя. 1966. № 3.



Калі б не было ў мастацтва сваёй сферы пазнання і сваіх сродкаў, нічым іншым не перакрытых магчымасцяў, яно б даўно ўжо страціла сур'ёзнае значэнне побач з навукамі.

А тым больш не магло б яно ўзбагачаць самі навукі.

Усім знаёма прызнанне Энгельса, што Бальзак даў яму ў сэнсе чыста эканамічных ведаў больш, чым спецыяльныя працы*.

«Дастаеўскі даў мне больш, чым Гаус», — прызнаваўся Эйнштэйн.

Між іншым якраз Дастаеўскі — дзіўны прыклад таго, як узмацняе праніклівы погляд мастака гэта незвычайная прызма — чалавек, чалавечы характар, псіхалогія.

Дастаеўскі-публіцыст, калі ён карыстаўся інструментам «статыстыкі і логікі» (у сваіх артыкулах), часам дрэнна бачыў і менш за многіх сваіх сучаснікаў разумеў тое, што ў яго час адбывалася ў Расіі. Затое як многа ўбачыў нават у далёкай будучыні Дастаеўскі-мастак, калі глядзеў на жыццё, на чалавецтва скрозь прызму чалавечай псіхалогіі. Сёння нямала пішуць аб надзвычайнай, амаль прарочай сіле генія Дастаеўскага. «Парадокс Дастаеўскага» — рэакцыянера па поглядах на самаўладства і рэвалюцыю і разам з тым мастака, які незвычайна далёка глядзеў, — не так лёгка вытлумачыць. Мы пішам аб супярэчлівасці, што хавалася ў саміх поглядах аўтара «Д'яблаў», які так і не пераставаў быць у нечым петрашэўцам, сацыялістам-утапістам. І гэта, мабыць, так і ёсць.

Хочацца, аднак, акцэнт зрабіць вось яшчэ на чым.

Рэакцыйнасць поглядаў, калі гэта датычыцца мастака, можа мець розны характар. У адных выпадках яна вядзе да ігнаравання чалавека, яго складанасці. Так найчасцей і бывае, і тады разам з грамадзянінам памірае і мастак.

З Дастаеўскім такога не адбылося. Бо галоўным аргументам ва ўсіх спрэчках з сучаснікамі ён якраз і абраў чалавека, натуру чалавечую, яе складанасць. Самаўладства?.. А як гэта звязана з чалавечай прыродай? Рэлігія?.. А як на гэта адгукаецца чалавек? Будучая сацыяльная гармонія? Загляньце раней і як мага глыбей у душу чалавечую, у яго падсвядомае, ці ёсць у вас падставы для такіх тэорый і спадзяванняў?

* Маркс, К., Энгельс, Ф. Соч. Т. 37. С. 36.

Адказы Дастаеўскага былі розныя і часта непрымальныя для яго прагрэсіўных сучаснікаў. Многае зусім непрымальна і для нас.

Але час зрабіў значныя напраўкі да погляду на «жорсткі талент» Дастаеўскага. Талент гэты больш павярнуўся да нас якраз «будучым Словам».

Сёння, як ніколі, будучыня людзей, само існаванне іх на зямлі вельмі залежыць і ад таго, якія маюцца патэнцыі паскоранага ўздыму маральнага, гуманістычнага стану чалавецтва. Што ж ён такое — чалавек. Чаго ў ім больш, і што мацней? Ці можна спадзявацца, што разрыў паміж тэхнічнай рэвалюцыяй і маральным узроўнем чалавецтва будзе пераадолен раней, чым выбухне катастрофа? Во падлічана на электронных машынах, колькі мільярдаў чалавек загіне ў выпадку глабальнай вайны. Ёсць нават спецыяльны тэрмін для вызначэння калектыўных і аднахвілінных смярцей: «мегасмерць».

Дастаеўскі досыць насцярожана адносіўся да чалавека, да яшчэ не раскрытых тайн яго натуры. І вывучаў гэтыя тайны са смеласцю сапраўднага вучонага.

1 ён прадказаў многія супярэчлівасці нашага часу, іменна дзякуючы сваёй пастаяннай цікаўнасці да чалавечай псіхалогіі, дзякуючы смеласці даследчыка. Ю. Каракін (артыкул «Праўда гэтага свету»)* лічыць, што Дастаеўскі прадчуваў, напрыклад, такую злавесную з’яву, як калектыўныя псіхозы XX ст. Дастаеўскі неназіраў у жыцці нічога такога, што адпавядала б маштабам нашага часу. Але псіхалагічныя магчымасці будучага фашызму разгледзеў — у самім чалавеку, народжаным векам «чыстагану». Імкненне і гатоўнасць «пераступіць» праз усе маральныя нормы, узняцца над «чалавечым мурашнікам», забіваць «па тэорыі» — усё гэта ўжо ведаў і паказваў Дастаеўскі. Склаліся ўмовы, і яно выбухнула ў маштабах цэлых дзяржаў, у душах мільёнаў.

Дык вось што азначае ісці ў літаратуры ад чалавека, бачыць праз чалавека. Як многа, як далёка і шырока здольна бачыць мастацтва іменна дзякуючы спецыфіцы сваёй. Без яе няма ды і непатрэбна сучаснае мастацтва. Сучаснае. Ну, а ў будучым? У свой час Гегель сцвярджаў, што ў век навукі, аналітычнага мыслення мастацтва страціць свае першаступеннае значэнне. Сёння многія вучоныя бачаць будучыню, новыя магчымасці мастацтва якраз

* Вопросы философии. 1967. № 9.



у такім збліжэнні з навукай. Бо навука стала рэальнай часткай свядомасці і псіхалагічнага стану чалавека — галоўнага аб’екта мастацтва. І яшчэ таму, што «мастацтва пачынае эвалюцыянаваць ад чалавеказнаўства да «чалавецтвазнаўства», — сцвярджае І. Забелін у артыкуле «Чалавецтва — дзеля чаго яго?». І на гэтым этапе далейшы лес «розных відаў мастацтва ў значнай ступені вызначаецца мерай іх пранікнення ў будучыню»*.

Але любая ступень «зліцця» з навукай у адзіным «чалавецтвазнаўстве» не можа вызваліць мастацтва і ад функцыі, ад ролі «чалавеказнаўства». Хіба толькі калі чалавецтва страціць усякую цікавасць да індывідуальнасці. Але ж у нас іншае ўяўленне аб будучым чалавецтва.

Можна па-рознаму ацэньваць характар і напрамак творчых пошукаў К. Чорнага ў сярэдзіне 20-х гадоў, калі ён (і не адзін ён) адкрыта захапляўся псіхалагізмам Дастаеўскага. Адно нам здаецца безумоўным: пошук вёў да чалавека, у чалавечую душу, і гэта быў здабытак на ўсё жыццё. Здабытак, які перакрываў усе магчымыя страты.

Ёсць у К. Чорнага апавяданне «Трагедыя майго настаўніка» (1927). Расказаўшы свайму знаёмаму пра бяду старога чалавека, якога ўласныя дзеці гоняць з хаты, бо ён, удавец, раптам дазволіў сабе пакахаць жанчыну і не хоча паверыць, што «яму паміраць трэба», апавядальнік пачуў ад «свайго знаёмага» такі прыгавор чалавеку:

«...я падводжу яго пад агульны закон для такіх людзей — хто з іх больш правы: ён ці дзеці? Па-мойму, дзеці павінны поўнай жменяй чэрпаць жыццё, а ён — «пастолькі, паколькі»**.

«З аднаго боку, — гаворыць пісьменнік, — трагедыя чалавека, з другога — формула». Халодны лёд гэтай формулы пісьменнік разбівае такой канцоўкай апавядання:

«— Чаго ты прыйшоў сюды? — сказаў сын.

— Я трохі паляжу тут на лаве, — адказаў бацька.

— Ідзі вон, тут табе не месца.

— Тут жа мой дом, я паляжу трохі, дзе ж я дзенуся.

— Дзе дзенешся? Унь студня. Ідзі і дзенься там.

Тады ён пайшоў «дзецца» ў студню. Як атручаны, прайшоў па вуліцы, даючы дзяньдобры ўсім сустрэчным. У студню ён палез паволі, па выступах. Вада заняла яму толькі да грудзей. І ён там

* Москва. 1968. № 5. С. 160.

** Звязда. 21 жніўня 1927 г.

стаяў у немай роспачы. Як збегліся і хацелі яго выцягнуць, ён паволі падкурчыў ногі, каб схаваць у ваду галаву і захлынуцца.

Дасталі яго нежывога»*.

Халодны погляд на чалавека як усяго толькі «аб'ект», «сродак» чаго б там ні было малады празаік палемічна адмаўляе. «Я ведаў, што ласкавае слова — гэта саматужніцтва і што адзінае ўстанаўленне жыцця — гэта індустрыя, аднак нічога з сабою зрабіць не мог. Такая ўжо ў мяне брыдкая натура»**.

Не шкадаваць, паважаць чалавека трэба, кажа горкаўскі Сацін.

«Спачуванне ёсць найгалоўны і, магчыма, адзіны толькі закон быцця ўсяго чалавецтва»*** — гэта з рамана Дастаеўскага «Ідыёт».

У 20-я гады К. Чорны не толькі прытрымліваецца погляду Дастаеўскага ў гэтым пытанні, але і палемічна настойвае на спачуванні як абавязковай чалавечай рысе ў такіх творах, як раманы «Сястра» і «Зямля», у апавяданнях «Сосны гавораць», «Захар Зынга», «Вечар» і інш. Можна, вядома, хуценька «рэабілітаваць» пісьменніка: маўляў, над уздзеяннем крытыкі ён пазбавіўся ад такога погляду на чалавека.

І сапраўды, К. Чорны прарабіў пэўную эвалюцыю ў 20–30-я гады. Але ж быў і працяг (у пэўным сэнсе адваротны) эвалюцыі — у творах 40-х гадоў.

Пры гэтым, аднак, узнікае пытанне: а ці сапраўды памылковы гэты «спачувальны пафас» у творах К. Чорнага 20-х гадоў?

Для некаторых крытыкаў і нават пісьменнікаў 20-х — 30-х гадоў быццам і рэвалюцыі не адбылося, хоць яны ёю кляліся на кожным кроку. І быццам не ў імя чалавека сацыялістычная рэвалюцыя рабілася, а дзеля нечага іншага, бо самай нязначнай і падазронай для гэтых «гуманістаў» катэгорыяй была катэгорыя «чалавек», «асоба». Крытыкі гэтыя не хацелі разумець, што пасля прыходу да ўлады працоўнага народа па-іншаму трэба ставіцца да многіх маральных катэгорый, якія раней, магчыма, выкарыстоўваліся эксплуататарамі дзеля ўвекавечання свайго панавання. «Архірэвалюцыянеры» ад літаратуры з кітайскай прасталінейнасцю ціснулі ў адзін бок: спачуванне да чалавека — не наша пазіцыя («саматужніцтва», як горка піша К. Чорны).

* Звязда. 21 жніўня 1927 г.

** Тамсама.

*** Достоевский, Ф. М. Собр. соч. Т. 6. М., 1957. С. 261.



Ці супярэчыць такое «саматужніцтва» таму, што па-горкаўску паважаць чалавека трэба? К. Чорны ўсім сэрцам спачувае чалавеку, што яшчэ так прыдаўлены мінуўшчынай, яе ідыятызмам, і разам з тым глыбока паважае яго неспакой, яго імкненне вырвацца да новага жыцця. Хіба не больш у такім поглядзе сапраўды горкаўскага, чым у халодным, бяздушным узвышэнні формулы над жывым і справядлівым чалавечым пачуццём.

Няўменне і нежаданне паспачуваць чужой бядзе К. Чорны лічыць такой жа спадчынай уласніцкай мінуўшчыны, як і беднасць, цемру, нішчымніцу. Лічыць у 20-я гады, будзе лічыць і ў 30-я. Успомнім сцэнку з «Трэцяга пакалення». Маленькая Ірынка Назарэўская засталася адна, хворая, бяздомная. «Рукі яна трымала схаванымі ў рукавах, але часамі з рукавоў выцягвала свае худзенькія кулачкі, каб пачухаць грудзі ці галаву. Кулачок тады ўзнімаўся ўгару, белы, касцісты. Ён аж свііціўся навылёт. Тварык белы, нос завастрыўся. Нейкая жанчына дала гэтаму дзіцяці хлеба і агурок. Дзіця страсянула галавою:

— Мне не можна гэтага есці, у мяне жывот хворы.

Яна гаварыла, як сталая. Усе чулі гэты цвёрды голас, у якім гучэла шмат жорсткай практыкі. Нейкі стары, з сукаватай палкай і мехам за плячыма, раптам накінуўся на жанчыну:

— Што ты даеш ёй, добра кажа, агурок там нейкі! Можа б ёй сала ці прысмакаў якіх!.. Вы тут над ім охкаеце, а яно на тры сажні ў зямлю бачыць! Яно больш за цябе ведае, дармо, што яно малое. Нябось, каровы дзе пасвіць, дык не ўгаворыш, каб прыйшлося, скажам. Я вам раскажу, як гэтым летам у мяне было. (Ён расказаў, як гэтым летам у яго было.) От сядзіць ды выпрошвае, а непадалёку, напэўна, недзе маці або бацька сядзіць ды паглядае, ці многа навыпрошвае — абы работы не рабіць!»*

Іменна таму, што ён паважае і разумее кіпенне бур у чалавечай душы, ведае, якая гэта каштоўнасць на зямлі чалавек, іменна таму К. Чорны поўніцца спачуваннем і нават замілаваннем да чалавека, які не проста, але праз пакуты «ўзыходзіць на дарогі іншыя». А калі бяда ў чалавека, ён не стараецца заглушыць у сабе пачуццё чалавечага спачування тым здаўна вядомым эгаістычным спосабам, калі чужое (не сваё, вядома) гора пачынаюць вымяраць касмічнымі і гістарычнымі маштабамі. Гора старога Язэпа («Хвоі гавораць»), у якога памёр сын, не адмяняе ніякіх законаў грамадскага развіцця, але і не робіцца меншым нават на ўлонні гэтых законаў. «Я выйшаў за вароты,

* Чорны, К. Збор твораў. Т. 3. С. 284–285.

глянуў на асеўшую сцяну пад жоўтыя клёны: на накошанай учора і прывяўшай за ноч палявой траве ляжаў ніцма дзядзька Язэп. Плечы яго трэсліся, твар уехаў у траву і з травою ж пераблыталіся чорна-сівыя валасы на галаве»*.

Гэта той самы стары Язэп, што ўжо некалькі дзён вёў сябе ў сваім горы дзіўна-спакойна, так, што апавядальнік нават падумаў аднойчы: «Раптам мае думкі пераскочылі на чорную муху. Яна поўзала па яго пальцах, а ён не чуў гэтага. Я пачаў думаць, што ў яго на нагах вельмі ж таўстая скура, ды яшчэ ў засохшай зямлі — хіба тут нейкая муха будзе прыкметна!

Ён маўчыць. Можа, гэта ўсякае гора — толькі муха іншаму чалавеку?»**

Апавядальнік паважае людзей, у якіх бунт, як у дзядзькі Язэпа, «схаваны ў глыбіні»… І такіх, як хлопчык з апавядання «На пыльнай дарозе», які яшчэ сам дзіця, а ўжо думае аб тым, што маці не пажыве «доўга не свеце», а «мы ж яшчэ яе нічым не пацешылі»***.

Гэтыя людзі не любяць выпрошваць чужога спачування, але тым больш яны заслугоўваюць і спачування, і павагі, бо не бывае жыцця без трагедый, бо ёсць яшчэ і беднасць, і жорсткасць, а смерць дык і заўсёды, відаць, будзе.

Людзі з «высокім парогам болю» заслугоўваюць усялякай павагі. З такімі можна рабіць справу, яны ўмеюць пераадольваць цяжкасці і пакуты без лішніх і бескарысных стогнаў.

Але ж такі «высокі парог» у некаторых бывае і да чужых пакут і гора. Тады ён называецца не мужнасцю, вынослівасцю ці чалавечай годнасцю, а жорсткасцю, эгаізмам, бессардэчнасцю.

У пісьменніка «парог болю» павінен быць самы нізкі, калі гэта датычыцца чужых пакут, чалавечага гора. Інакш пісьменніка проста няма. Тым больш значнага.

* * *

Чаму мы разглядаем творчасць К. Чорнага як бы ў пастаянным суседстве з Дастаеўскім? Не толькі таму, што геній вялікага рускага мастака-псіхолага быў асабліва блізкі Чорнаму на працягу ўсяго творчага шляху беларускага раманіста і што Дастаеўскі быў для яго тым мудрым і блізкім суседам, з якім так

* Чорны, К. Збор твораў. Т. 1. С. 238.

** Тамсама. С. 229.

*** Тамсама. С. 203.



карысна і цікава нават не згаджацца (а ў 30–40-я гады Чорны часта палемізуе з ім).

Па ўспамінах І. Мележа, пісьменнік гаварыў яму ў 1944 г. пра Дастаеўскага. «От знаўца душы! От псіхолаг! Геніяльны чалавек! Адны «Браты Карамазавы» — якая глыбіня пачуццяў… Усім бы нам пісаць сваіх Карамазавых. Не хворых — з такой сілай»*.

Але для нас тут не менш важна іншае: магчымасць праз гэта безумоўнае суседства «выводзіць лініі» (як кажа Чорны) да многіх з'яў сусветнага маштабу. Во Дастаеўскі — такі «вузел», ад якога прама вядуць дарогі да самых буйных з'яў у сусветнай літаратуры.

У 20-я гады многім яшчэ магло здавацца, што адзіна важнае — гэта праклясці ў жыцці магутнае, аб'ектыўна правільнае эканамічнае рэчышча, а чалавек сам прыстасуецца і адпаведна зменіцца. Няма быццам бы ніякай неабходнасці вельмі паглыбляцца ў чалавека, улічваць нейкія асаблівыя складанасці чалавечай псіхалогіі.

А між тым яшчэ Энгельс лічыў патрэбным папярэджваць, што «справа выглядае зусім не так, што толькі эканамічнае становішча з'яўляецца прычынай, што толькі яно з'яўляецца актыўным, а ўсё астатняе — толькі пасіўны вынік. Не, тут узаемадзеянне на аснове эканамічнай неабходнасці, якая ў канчатковым выніку заўсёды пракладвае сабе шлях»**.

Сёння вастрэй, чым калі-небудзь, усе адчуваюць, як карабель зямной цывілізацыі пагрозліва ўздрыгвае ад удараў магутных хваль — чалавечых страсцей і масавых псіхозаў, што сатрасалі Германію і Еўропу, а сёння бушуюць у Кітаі.

За чалавечымі страсцямі стаяць зусім пэўныя палітычныя, эканамічныя і сацыяльна-гістарычныя перадумовы і працэсы. Але страсці таму і страсці, што яны, успыхнуўшы, жывуць і бушуюць па законах чалавечай псіхалогіі. І законы гэтыя сёння вывучаць асабліва неабходна. Навуковае вывучэнне чалавечай псіхалогіі з пазіцый марксісцкага светаразумення — задача не менш актуальная, чым спробы навуковага сінтэзу бялку ці «прыручэння» тэрмаядзернай плазмы. Такое вывучэнне абапіраецца на сусветную літаратуру, мастацтва, і сама наша сучасная літаратура неяк уключана (а павінна быць больш уключана) у гэту справу.

* Літаратура і мастацтва. 3 снежня 1955 г.

** Маркс, К., Энгельс, Ф. Соч. Т. 39. С. 175.

Калі мець на ўвазе беларускую літаратуру, дык К. Чорны і ў гэтым сэнсе вельмі сучасны пісьменнік. Ён вывучаў чалавека з такой страснай і амаль навуковай паслядоўнасцю і дакладнасцю, як ніхто іншы ў нас.

Калі мы гаворым аб смелым раскрыцці чалавечай псіхалогіі ў сучаснай сусветнай літаратуры, неабходна ўлічваць уплыў і тых пісьменнікаў, што асабліва завострана выказваюць і выяўляюць тое, што атрымала ўслед за К. Марксам назву «адчужанасць чалавека».

Мы гаворым не пра тую прадукцыю, дзе свядома, з камерцыйным разлікам прапагандуецца зло і варожасць людзей як вечная норма чалавечага існавання. Гэта — па-за літаратурай.

Але ёсць сур'ёзная літаратура, якая мае значных прадстаўнікоў, якая здольна адыгрываць не толькі адмоўную, але часам і станоўчую ролю ў сучасным свеце (як французская экзістэнцыяльная літаратура ў гады фашысцкай акупацыі) і якая тым не менш у нечым вельмі істотным азначае разрыў з гуманістычнымі традыцыямі класікі.

Як раслінны свет стварае, збірае вакол нашай планеты неабходны для жыцця кісларод, так класічная літаратура, мастацтва выдзяляе з сябе, акружае чалавека і чалавецтва нябачнай, але пастаяннай атмасферай гуманнасці, чалавечнасці, узаемаразумення. Мастацтва накаплівае, збірае чалавека ў чалавеку, яно праробляе велізарную працу па гуманізацыі свету.

Цікава тут нагадаць успаміны Э. Міндліна аб Паўстоўскім: «Я пытаўся: дзе яны, відавочныя вынікі ўздзеяння мастацтва на паводзіны людзей? Што змяніла з'яўленне геніяў у маральным жыцці чалавецтва?

Паўстоўскі гнеўна адсунуў ад сябе недапіты стакан кавы. Ніколі да гэтага я не бачыў яго такім разгневаным… Сурова, сіплаватым голасам ён пытаў, асуджальна гледзячы на мяне:

— Хіба можна ўявіць сабе, што за жыццё было б цяпер, якімі былі б людзі, калі б не Бетховен, Рэмбрант, Талстой! Хіба свет змог аб'яднацца супраць фашызму, калі б у свеце не было Талстога, Гётэ, Бетховена, Леанарда!

О, калі б яшчэ больш прыслухоўваліся да гэтых вялікіх — Дантэ, Шэкспіра, Сервантэса, Чэхава, Дастаеўскага, Баха, Чайкоўскага, Левітана, калі б яшчэ лепш навучыліся чуць і бачыць зямлю, неба, дрэвы, травы, кветкі, азёры, рэкі, моры — мы сталі б маральна яшчэ больш дасканалымі»*.

* Миндлин, Э. Необыкновенные собеседники. М., 1968. С. 408.



Можна ўявіць, як нармальным сучасным людзям страшна было б застацца ў свеце, пазбаўленым раптоўна гэтай «атмасферы». Вопыты ўжо былі — фашызм. Сёння — мааізм, які, топчучы сусветную культуру, імкнецца запхнуць у мільярд душ свой «цытатнік», нашпігаваны нянавісцю і ўладалюбствам.

Колькі разоў ужо гэта было, калі дэмагогі спакушалі чалавека, натоўп тым жа спосабам, што і ардынарны, зашмальцаваны чорт Івана Карамазава: «Сумленне! Што сумленне. Я сам яго раблю. Дык нашто мучаюся? Бо звычка. Сусветная чалавечая звычка, за сем тысяч гадоў. Дык адвыкнем і будзем багамі»*.

І вось іменна ў наш век, калі так патрэбен «кісларод» чалавечнасці, узаемаразумення, калі адчужанасць чалавечая пагражае самой цывілізацыі, узнікае літаратура, — і яна ахоплівае значную плошчу ад усяго «літаратурнага пакрыцця планеты» — літаратура ў пэўнай ступені пазбаўленая той пышнай паэтычнай кароны, якая якраз і выпрацоўвае «кісларод» чалавечнасці — узаемаразуменне, пачуццё кантакту.

Атрымалася зачараванае кола: у абесчалавечаным свеце мілітарызму і фашызму ўзнікае літаратура з паніжанай верай у чалавека, у яго розум, тады як іменна ў такі час асабліва неабходна збіраць, вырошчваць чалавечае ў чалавеку, гуманізаваць свет.

Якраз як у заводскім парку, дзе ссыхаюць, чарнеюць сосны, бо не хапае кіслароду, і самі гэтыя дрэвы таксама ўжо менш выпрацоўваюць яго, такога неабходнага кіслароду.

У гэтым — адна з трагедый нашага веку.

Трэба разумець і гэтых пісьменнікаў і гэту літаратуру. Сасна ўсё ж расце, нават у задымленым паветры, і хоць не пышная, але ўсё ж зеляніна нагадвае пра лес, пра дыханне на поўныя грудзі…

* * *

Дастаеўскі, магчыма, першы ў XIX ст. паставіў пытанне: прагрэс — добра, але калі ён зусім не наканаваны чалавецтву, тады як? З чым у душы застанецца чалавек, калі акажацца, што ўсё пойдзе не так, як намалявалі сацыялісты-ўтапісты? Дастаеўскі нямала эксперыментаваў у гэтым напрамку ў сваіх творах. Схема яго псіхалагічнага эксперымента прыблізна такая: а) ідэя сацыяльнага прагрэсу робіць непатрэбнай, выцясняе ідэю

* Достоевский, Ф. М. Братья Карамазовы. Т. 10. М., 1958. С. 184.

Бога, рэлігійную мараль; б) сама гэта ідэя церпіць крушэнне; в) чалавек або вяртаецца да Бога, або гіне, узарваны знутры сілай вызваленых з дна душы жорсткіх, разбуральных інстынктаў.

Гінуць Раскольнікаў, Іван Карамазаў, героі рамана «Д'яблы», і ў кожным выпадку Дастаеўскі зноў вяртаецца назад, да сумнення, бо канчаткова праблему мог вырашыць не псіхалагічны эксперымент, а толькі сама гісторыя.

Але праблема ўжо была пастаўлена, і іменна Дастаеўскім.

Вырашыць жа яе здольна толькі гісторыя. Вырашае і сёння.

Першая сусветная вайна; дзесяць дзён Кастрычніка, што ўскалыхнулі свет; даваенная гісторыя будаўніцтва сацыялізму з усімі супярэчнасцямі; фашызм у Еўропе з яго глабальнай праграмай адзічання і азвярэння; Другая сусветная вайна — самая крывавая з войнаў; атамны грыб над Хірасімай і новая, тэрмаядзерная пагроза чалавецтву і існаванню чалавека на планеце; супрацьстаянне сістэм сацыялізму і капіталізму…

Так пайшло развіццё чалавецтва ў XX ст.

Пасля Першай сусветнай бойні ўзнікла філасофскае сумненне ў ідэі гістарычнага прагрэсу, не толькі вытлумачанага па-марксісцку, але і наогул як руху да больш цывілізаванага, высокага чалавечага быцця. У часе Другой сусветнай вайны, калі многім у «зафашызаванай» Еўропе здалося, што ідэя прагрэсу пахавана, можа і не назаўсёды, але на вякі, з новай і практычнай вастрынёй паўстала праблема, якая мучыла герояў Дастаеўскага і самога пісьменніка. Ідэя Бога, «жыцця ў вечнасці» ўжо не здольна падтрымліваць, ідэя гістарычнага прагрэсу разбурана, што застаецца чалавеку? Як жыць, як паводзіць сябе ў такім маральным вакууме?

У «Сне смешнага чалавека» герой Дастаеўскага ставіць перад сваім сумленнем пытанне: заўтра я перабяруся на іншую планету і ніколі больш не ўбачу зямлян і яны мяне таксама. Ці будзе мучыць мяне за «трыдзевяць планет» зробленая так далёка, аж на Зямлі, якая-небудзь страшэнная подласць?

Дастаеўскі пацвярджае — усёй творчасцю сваёй — будзе! І за «трыдзевяць планет» — будзе!

Тыя ў «зафашызаванай» Еўропе, хто апраўдваў свой калабарацыянізм, пераконвалі сябе і іншых: цяпер усё роўна, ніхто ж не ацэніць, нават гісторыя, тваіх ахвяр, а таму прыстасоўвайся, подлічай, здраджвай, затое будзеш жывы.

Мастацкая літаратура французаў Сартра і Камю перыяду Супраціўлення давала (гл. артыкул Э. Салаўёва «Экзістэнцыялізм»)* на такую сітуацыю іншы адказ: калі сапраўды прагрэс спыніўся, калі нават і немагчымы ён, а існуе толькі стыхія выпадковасцей, у кожнага чалавека ёсць на што абаперціся. На ўласную да сябе павагу. Яна — плата табе за ўсё, нават за пагібель. Ласка Бога, павага гісторыі — усё гэта зне цябе і, магчыма, наогул не існуе. Адзінае, што не патрабуе доказу, — тваё ўласнае існаванне. Дык шукай у самім сабе апору паводзінам і плату за сумленную пазіцыю. Плата гэта— павага да сябе, ды яшчэ (па Камю) пагарда да тых (людзей, багоў), што так абыссэнсілі твае намаганні.



* * *

Што дае нам погляд на Дастаеўскага скрозь праблемы літаратуры XX ст.

Мы бачым, як яшчэ больш ускладніўся свет, які і ў часы Дастаеўскага быў зусім не просты.

Бачым, што і ў наш час, калі здавалася б больш выявіліся сацыяльна-гістарычныя тэндэнцыі ў жыцці народаў, магчымасць крызіснага светаадчування ў індывідуума засталася.

І ўзрос цяжар, што кладзецца на душу, на сумленне чалавека, які вырашае, як быць. Чалавек заўсёды выбіраў для сябе пэўную пазіцыю ў жыцці, а тым больш у крызісныя перыяды.

Вырашаў за сябе і за чалавецтва таксама.

Жывучы жыццём Макара Дзевушкіна або Радзівона Раскольнікава, або Стаўрогіна, чалавек не проста існаваў, але вырашаў, як будуць жыць людзі заўтра. Кожны выбіраў чалавецтву пэўны лёс.

Але ніколі яшчэ не меў чалавек праклятай магчымасці выбіраць: быць ці не быць чалавеку на планеце?

Бо ўжо нікому невядомы лётчык Ізэрлі можа рашаць: у гэты момант ці праз пяць хвілін загіне горад Хірасіма!

Выбар асобнага чалавека сёння можа аказацца апошнім ударам, ад якога абрушыцца гара.

Ад таго, як складзецца гістарычны вектар усіх грамадскіх сіл, імкненняў, інтарэсаў, страсцей, разумных ці неразумных учынкаў, сацыяльных груп і мільярдаў асобных людзей, залежыць ужо не толькі блізкая сацыяльная будучыня, але і само існаванне чалавечай цывілізацыі.

* Вопросы философии. 1966. № 12; 1967. № 7.

Вось як завастрылася сёння пытанне, што ставіў Дастаеўскі: чалавек — што ён такое?

Мы ведаем, што «чалавек наогул» не дзейнічае ў грамадстве, ён абстракцыя. Рэальнасць жа — людзі сацыяльна і маральна афарбаваныя, больш або менш, у колеры свайго класа, свайго грамадства, свайго часу. Але тое, што для нас абстракцыя, вельмі канкрэтным будзе здавацца здалёку, з будучыні: на планеце Зямля ўзнікла разумнае жыццё — чалавек; гэты розум, гэта істота вось так, а не інакш распарадзіліся сабой і планетай.

Не хто-небудзь за яго, а сам чалавек распарадзіцца ў меру сваёй разумнасці ці, наадварот, неразумнасці.

Вось чаму такая адказнасць кладзецца і на мастацтва, якое, прама ўплываючы на душы, на псіхалогію, на страсці мільёнаў індывідуумаў, тым самым таксама выбірае для чалавецтва яго заўтрашні дзень.

У савецкай літаратуры ніколі не мяняўся гэты выбар: камунізм і толькі камунізм! Усе 50 год яе развіцця ў гэтым сэнсе — адзіны напрамак і працэс.

Але ў пэўныя перыяды — і гэта зусім заканамерна — цэнтр цяжару ў разуменні рэчаіснасці і чалавека перамяшчаўся.

Мы не гаворым тут пра кан'юнктурнае мітусенне асобных літаратараў, пагоню за дробнымі зігзагамі жыцця. Былі і глыбокія этапы.

Такім этапам з'явілася другая палавіна 50-х гадоў. Абумоўлены ён быў вядомымі зменамі ў нашым грамадскім і ідэалагічным жыцці.

Аднак нябачна ўплываў і той факт, што ўсё чалавецтва ўступіла ў тэрмаядзерны век. Нельга ўжо было адчуваць, думаць, жыць так, быццам нічога гэтага няма. Сваю светлую будучыню чалавецтва вымушана шукаць на дарогах, дзе схаваны міны. Шукаючы будучыню, чалавецтва не мае права знайсці смерць. Бо гэта ўжо не смерць дзеля шчаслівай будучыні наступных пакаленняў, што б там ні казалі мааісты, а смерць самой будучыні — наступных пакаленняў таксама.

Такі тонкі інструмент чалавечага духу, як літаратура, не можа не фіксаваць новую дылему, аб чым бы яна не апавядала, якімі б іншымі пытаннямі ні займалася. Гэта ўжо яе ўнутранае пачуццё, пастаяннае, неад'емнае.

Асобныя пісьменнікі могуць яшчэ і думаць, і пісаць, як пісалі ўчора і пазаўчора. Літаратура ў цэлым — не можа. І гэта нават не пахвала ёй, а непазбежнасць, з якой трэба лічыцца.



Лічыцца трэба і з тым, што сённяшняя літаратура інакш, шырэй выбірае сабе і традыцыі.

Мы маем на ўвазе не толькі новае жыццё ў літаратуры твораў М. Булгакава, А. Платонава, М. Забалоцкага і інш. Не толькі той відавочны факт, што многае, паднятае з «запаснікаў», знайшло сваё месца сярод класічных нашых твораў. Маецца на ўвазе і тое, што класічныя творы савецкай літаратуры таксама непазбежна прачытваюцца ў кантэксце сучаснасці. А некаторыя творы і імёны мяняюцца месцамі: напрыклад, з ценю выступаюць ужо такія раманы Кузьмы Чорнага, як «Зямля», «Млечны шлях», многія апавяданні 20-х гадоў. А таксама зусім не прачытаны па-сапраўднаму не толькі чытачом, але і намі, крытыкамі, раман «Сястра».

Пры гэтым можна бачыць, як вельмі плённа прадаўжалі ці прадаўжаюць традыцыі сталага Чорнага-раманіста І. Мележ, А. Чарнышэвіч, М. Лобан, і ў той жа час ранні Чорны — аўтар апавяданняў і самых першых аповесцей і раманаў («Хвоі гавораць», «Пачуцці», «Буланы», «Вераснёвыя ночы», «Сястра», «Зямля» і г. д.) — неяк асабліва змыкаецца з прозай пакалення, што прыйшло ў літаратуру ў 50-я гады (асабліва з прозай М. Стральцова, В. Адамчыка).

*[1972]*

## НА БЕСТЭРМІНОВАЙ ПЕРАДАВОЙ

Васіль Быкаў у лісце-анкеце, адрасаваным аўтару гэтага артыкула, напісаў: «Сталася так, што я прызвычаіўся свае ідэі, часта агульначалавечага, маральнага плана, вырашаць на матэрыяле вайны. Мусіць, гэта таму, што мінулая вайна ўсеабдымная, і там усяму было месца. Але гэта не значыць, што майго асабістага вайсковага вопыту хапіла для літаратурнага ўвасаблення ўсіх маіх ідэй. Часта здаралася так, што яго не хапала, і тады ідэі павісалі ў паветры без неабходнага для іх жыццёвага грунту. Там жа, дзе я цалкам давяраўся матэрыялу, атрымлівалася надта, празмерна па цяперашнім часе. «Трэцюю ракету» я скампанаваў з розных кавалкаў майго ваеннага вопыту, «Здраду» амаль усю прыдумаў, як паводле сюжэта, так і па характарах, таксама як і «Альпійскую баладу»… «Мёртвым не баліць» напісалася як успамін, там найменш ад выдумкі, там амаль усё, што тычыцца сюжэта і абставін — дакументальна,

як цяпер прынята гаварыць. Многае ўзята з «маёй» вайны ў «Праклятай вышыні», хоць гэта і не перашкодзіла крытыкам папракаць мяне няведаннем матэрыялу…»

Аповесці Быкава якраз гэтак і групуюцца паводле ступені дакументалізму. І справа, відаць, не ў адным толькі біяграфізме быкаўскіх твораў: «не пераджыты асабіста», партызанскі «Сотнікаў» якраз бліжэй да другой групы твораў, больш дакументальных.

Аднак сіла лепшых твораў Васіля Быкава не ў адным дакументалізме, а ў нечым большым.

Пра гэтае «нешта большае» і пачнём гаворку.

Быкаву ўласціва пачуццё максімальнага суперажывання разам з героямі ўсіх абставін вайны, якая ў сотні разоў даўжэйшая і вось за гэты, што раве цяпер, смяртэльны бой, і за тваё салдацкае, гэткае ненадзейнае, жыццё. Холад, голад, пагроза смерці, боль у целе і ў душы, гнеў і парыў — усё нібы адбываецца з табою сёння. Васіль Быкаў свой «франтавы запас» скарыстоўвае вельмі ашчадна, павялічваючы яго карысны каэфіцыент за кошт вострага сюжэта і непасрэднага падключэння да напружання сучаснага жыцця, да яго праблем і трывог.

Праблема выбару ва ўмовах крайняй, крызіснай сітуацыі, так характэрная для твораў В. Быкава, ставіцца і вырашаецца ім у 60-я гады так, што чалавек сам сабе не суддзя. Чалавек судзіць другіх ці другія — яго, бо «маральная сістэма» кожнага замкнута наглуха: калі сумленны — дык сумленны, а падлюга, дык ужо да канца падлюга: і на практыцы і нават (як Блішчынскі ў «Здрадзе») «у тэорыі». І судзяць яны, розныя, адзін аднаго і справай і словам, а аўтар адкрыта выступае супроць аўсеевых («Жураўліны крык»), задарожных («Трэцяя ракета»), блішчынскіх («Здрада»), чарновых і петуховых («Пастка»), брытвіных («Круглянскі мост»). Гэтыя баязліўцы эгаісты, хітруны-спрытнюгі, бессардэчныя кар'ерысты дзелавіта, абдумана перакладваюць сваю частку ношы на другіх і тым самым губяць іх. Пры гэтым яны ўсімі сродкамі і спосабамі абараняюць сваё права (выдаючы гэта нават за «патрыятычны» абавязак) быць гэткімі, якія яны ёсць. Іх судзіць час, партыя, іншыя людзі (часта іх ахвяры). І ўсімі гэтымі блішчынскімі, гарбацюкамі валодае толькі страх ці нахабная ўпэўненасць, што ім нічога не зробяць, яны астануцца. Яны за глыбока эшаланіраванай абаронай подласці і прыстасавальніцтва. Перад іх маральнай глухасцю, непрабівальнасцю і ўзрываецца гневам аўтар, а за ім — і яго героі, якія так часта хапаюцца за аўтамат (лейтэнант Клімчанка ў «Пастцы», Сцёпка ў «Круглянскім мосце»), а Лазняк у «Трэцяй ракеце» —той б'е ва ўпор нават з ракетніцы. У максімалізме гэтых герояў — і гнеў супроць падлюг і ўсведамленне свайго справядлівага права судзіць іх.



З «Сотнікава» пачынаюцца 70-я гады. Так здарылася, што менавіта ў гэтай аповесці выразна прагучала новая нота, інтанацыя, з'явілася крыху іншая, магчыма больш сталая маральная «факусіроўка»: судзіце, але і вас судзіць будуць! Не за суд ваш, бо ён быў справядлівы, а за ўласнае жыццё, якое ж таксама трэба пражыць, а гэта ўсё-такі — не поле з аўтаматам перабегчы, хай нават пад агнём!

І ўсё гэта не ў апраўданне блішчынскім, брытвіным і не дзеля «змякчэння прысуду» над імі, а ў імя ўсё той жа барацьбы з жывучасцю іх «філасофіі», іх звычак.

З гэтым, відаць, звязана і тое, што ў «Сотнікаве» псіхалагічны аналіз не дзеля аднаго толькі суда над іншымі. У «Сотнікаве» нават погляд Рыбака шмат разоў скіроўваецца ў сябе. А Сотнікаў самога сябе ставіць перад маральным зрокам часцей, чым таго самага Рыбака. І да сябе ён болей жорсткі.

Васіль Быкаў з упартай паслядоўнасцю не пакідае «ваяваць» у сваіх аповесцях. З вайною ваяваць. Тыя, хто пачынаў разам з ім ці раней за яго, ужо не адзін раз пераключаліся на іншыя тэмы, на іншы матэрыял (Р. Бакланаў, Ю. Бондараў і інш.), а Быкаў зноў і зноў вяртае сваіх герояў і чытачоў у агонь і холад 1941–1945 гадоў, усё мацней адчуваючы, усведамляючы значэнне пераджытага, жорсткага вопыту вайны і перамогі. Думка, што палеглых пад Кіраваградам ці Ржэвам не меней, чым вызваленых наступленнем жыхароў у самім горадзе, апякла б і ў 1944 годзе. Але сёння, калі яе вычытваць у Быкава, гэтая думка здольна прабіцца да сэрца нават таго, хто не вельмі прывык усведамляць, якой цаной заплачана за права жыць, працаваць, гадаваць дзяцей.

Ваеннае мінулае ў аповесцях Васіля Быкава ажывае максімальна праўдзіва, рэальна, ва ўсёй жорсткай будзённасці. І менавіта ў гэтым, перш за ўсё, сучасны пафас, тон многіх нашых твораў аб вайне. Чым далей мы (у часе) ад ваеннага ліхалецця, тым вастрэйшая памяць нашай літаратуры на падрабязнасці, на рэаліі тых дзён, на самую «атмасферу» іх.

Быкаву заўсёды важна, каб чытач адчуў па магчымасці ўсё, што адчуваў салдат, камандзір, партызан — усё «надвор'е» вайны: холад, голад, боль, страх, сорам і адчай паражэнняў, вострае пачуццё перамогі над страхам смерці і над ворагам,

любоў і нянавісць, унутраныя слёзы болю ці бязмернай радасці. Быкаву трэба, каб чалавек 50-х, 60-х, 70-х гадоў свае праблемы, выпрабаванні суразмерыў з тымі, што выпалі на долю людзей 40-х гадоў, якія ўсё ж выстаялі. Ён павінен прымусіць чытача, *як наяве*, адчуць сябе побач з байцамі, спазнаць іх боль, «зачэрпнуць» іх мужнасці і іх нянавісці, пагарды, непрымірымасці да фашызму, а таксама і да подласці, баязлівасці, здрадніцтва, кар'ерызму… І падзяліць іх нянавісць да вайны.

Вось чаму аблічча вайны ў Быкава такое жорсткае.

Маючы гэты двухтомнік В. Быкава, чытач нанава і па-свойму зможа праверыць сваё ўспрыняцце творчасці выдатнага беларускага празаіка, бо тут упершыню сабраны ледзь не ўсе яго аповесці і лепшыя апавяданні.

Выданне гэта — адказнае выпрабаванне і для творчасці В. Быкава: многа ж спрачаліся пра «самапаўтарэнне» пісьменніка, а тут усё будзе чытацца падрад.

Кожны, хто быў на вайне, ведае, што ні адзін бой не падобны на другі. Ніводнае перажыванне ў баі не паўтарае ранейшых (колькі б ты ні ваяваў і як бы ні «прывык да смерці»), і няма бою, які быў бы «сумны». Таму што бой — гэта заўсёды пытанне аб жыцці і смерці. Тут не засумуеш!

І чытач не загаворыць пра «паўтарэнні», калі толькі талент мастака прымусіць яго ўвайсці ў атмасферу вайны, як у рэальнасць, разам з героямі твора ступаць па грані жыцця і смерці.

* * *

Вось яна, вайна, — бой, смерць, паражэнне, перамога над сваёй слабасцю і ворагам — у першым значным творы Васіля Быкава «Жураўліны крык».

Шэсць чалавек пакінуты прыкрываць адступленне батальёна на пераездзе. Першыя, самыя трывожныя дні і гадзіны вайны. Адчуванне страшэннай і незразумелай катастрофы. І няверʼе, што гэта праўда, што гэта можа быць. І рэальнасць — усе шасцёра бліжэй за ўсіх да той злавеснай сілы, якая сунецца з захаду і перад якой усё, гэткае, здавалася, надзейнае, незразумела адступіла і адступае. А яны асталіся — загад і абавязак, — хоць кожная жылка крычыць, патрабуе не чакаць, адыходзіць, пакуль можна…

Гэтае пачуццё разліта ў аповесці як штосьці агульнае, што захоплівае і чытача, хоць кожны з шасцёх байцоў перажывае яго



па-свойму і ўсе трымаюцца па-рознаму. Пачуццё гэта ствараецца і перадаецца і адзінокім зламаным шлагбаумам, і каламутнай шэрасцю раніцы, і золкасцю паветра, і холадам зямлі, у якую чырвонаармейцы закопваюцца… І ўсё гэта адчуваем і мы як рэальнасць, што абступае і нас, забірае нашы думкі, адчуванні, наш настрой. І чытачу ўжо здаецца, што гэта ён на тым пераездзе, а побач — ледзь знаёмыя яму людзі, але цяпер самыя блізкія на ўсёй планеце, бо з імі яму сустракаць усю нямецкую армію і, магчыма, сваю смерць. І яму цяпер гэтак трэба, гэтак важна ўведаць — хто ж яны, тыя, што побач з ім, якія яны?.. Аўтар нібы і не навязвае нам свой расказ пра кожнага з шасцёх, а толькі адказвае на нашу нецярплівасць уведаць пра іх усё.

Уся аповесць і складаецца з «біяграфій» персанажаў, узятых у агульную рамку вайны, блізкага бою, чакання немінучай пагібелі. Гэтая «рамка» якраз і надае значнасць усяму, што калісьці было з чалавекам і што ёсць, выяўляючы вялікае або нікчэмнае ў ім.

Адзін за адным гінуць: і хліпкі, але сумленны інтэлігент Фішар, і здаравяка і «статутнік» Карпенка, які ім пагарджаў, і бесклапотны блатняк Свіст. Забіты і тыя, што спрабавалі абхітрыць і таварышаў і самую смерць: Аўсееў, Пшанічны.

У акопе астаецца самы малады, але страшэнна пастарэлы за адны суткі Глечык… Ды яшчэ — невідочна — чытач, які, дзякуючы праўдзіваму таленту Быкава, таксама ўспеў перажыць увесь бой і ўсе страты, адну за адной, адчуў бязлітаснасць і тугу смерці. Але чытач можа адысці ў свой, у мірны час, да сваіх спраў, клопатаў, радасцей. Пакінуўшы на тым адзінокім пераездзе з абломкам шлагбаума байца, ледзь не хлопчыка. Пакінуўшы яго паміраць замест сябе, за сябе. Бо час незваротны. Але што ён не можа (і не здолее), не павінен, не мае права — гэта забыць! Во гэтых франтавых хлапчукоў:

«Скочыўшы з бруствера, Глечык схапіў адзіную сваю гранату, прыціснуўся спіной да дрыготнай сцяны траншэі і чакаў. Ён разумеў, што гэта канец, і з усяе сілы зацяў у сабе нясцерпную журбу душы, у якой вялікаю прагай да жыцця ўсё біўся далёкі прызыўны жураўліны крык…»

Праз год (у 1960) Васіль Быкаў напісаў другую аповесць — «Здрада», якую ён, калі ўспомніць яго словы з ліста-анкеты, «амаль усю прыдумаў, як паводле сюжэта, так і па характарах». «Прыдумаў», вядома, на падставе свайго немалога франтавога, жыццёвага вопыту. І зноў перад намі — жорсткая рэальнасць

вайны, фронту, бою, але не самага першага, як у «Жураўліным крыку», а праз бясконца доўгія тры гады, калі ў вайны ўжо выпрацаваўся свой быт, свая працяглая ў часе і па-свойму ўстойлівая штодзённасць, калі праясняюцца, рэалізуюцца не толькі складзеныя раней уяўленні, характары, але і новыя рысы ў людзях, рысы, якія выпрацаваліся ўжо самой вайной.

Цяжка, нечалавечы цяжка героям Васіля Быкава і ў 1944 годзе. А хто сказаў, што ў сорак чацвёртым ці ў сорак пятым паміраць салдату было лягчэй? Смерць прымаць асабліва крыўдна, найбольш несправядліва было якраз у Дзень Перамогі…

І яшчэ: якраз пад канец вайны, пасля стольких ахвяр, выпрабаванняў людзі (героі Быкава) больш разважаюць, задумваюцца — і над заўтрашнім днём таксама. Вайна — паколькі з нашага боку гэта была справядлівая, чалавечная вайна супроць фашызму — зусім не прытупіла ў нашых людзях пачуцця дабрыні, справядлівасці да ўсяго харошага, але ж і абвастрыла непрымірымасць да рознай поскудзі.

Нялёгка, недзе паўтараючыся ў матэрыяле, з'яўляцца чытачу кожны раз новым, цікавым, рабіцца з кожным творам усё глыбейшым ці, ва ўсякім выпадку, больш сур'ёзным. А ў Быкава якраз гэта і ёсць, сведчаннем чаго служыць, між іншага, і пастаянная цікавасць чытачоў да яго твораў.

Быкаў пачаў нанава вяртацца да некаторых тыпаў, сітуацый, думак, можна сказаць, з першых сваіх твораў, хоць, як мы цяпер ведаем, «запасаў» у яго было яшчэ, прынамсі, на паўтузіна аповесцей. (І ўпэўнены — асталося нямала і надалей.)

Пісьменнік можа мець схільнасць да «самапаўтарэння» і ў тым выпадку, калі нейкая думка, праблема (ці праблемы) не даюць яму спакою і пасля таго, як ён выказаў, увасобіў іх у творы. Часта бывае, што напісаў — і вызваліўся: боль, думка, «адпусцілі». Ну, а калі не адпускае? Па-сапраўднаму трымае, і калі гэтая думка, клопат, праблема — боль велізарны і востры? Садзіся і пішы эпапею, пакуль выпішашся, разрадзішся ўвесь. Ну, а калі Васіль Быкаў гэта робіць па-свойму: піша ў выглядзе аповесцей, закончаных, мастацка самастойных, але ўсё роўна «пра тое» і толькі «пра тое», пакуль яму баліць, пакуль ён жывы?!

Папракаць пісьменніка можна ў тым выпадку, калі ён з кожнай аповесцю, з кожным творам драбнее, робіцца менш цікавы, імітуе самога сябе, сваё першапачатковае пачуццё, хваляванне. Пра Васіля Быкава гэткага не скажаш.

Мы ўжо спрабавалі растлумачыць, як гэта ўдаецца Быкаву прымусіць нас перажыць кожны новы бой нанава. Прадоўжым



гэтую гаворку на матэрыяле «Трэцяй ракеты» і «Пасткі», і адначасова — гаворку пра тую галоўную думку, якая праходзіць праз усе аповесці Быкава, не трацячы першапачатковага напалу, а нават распаляючыся яшчэ мацней.

«Трэцяя ракета» (1961) — твор, які мае вартасці немалыя: цэласнасць і яснасць думкі, завершанасць формы (калі не лічыць некаторых залішне растлумачальных уставак), востры гуманістычны антываенны пафас. У аповесці гэтай як бы сабраны ўсе галоўныя думкі і аргументы Васіля Быкава ў яго вайне супроць вайны. Гэта вельмі публіцыстычная (не толькі паводле выяўленчых сродкаў, але перш за ўсё пафасам) аповесць яго. Ды і адступленняў публіцыстычных, страсна-асабістых, вынашаных у гэтай аповесці асабліва шмат.

Жорсткі вобраз вайны ў Быкава выступае не толькі ў сцэнах батальных, у карцінах бою. Вайна, сама вайна, яе галоўныя і «вечныя» рысы, прыкметы, «знакі» выступаюць пазней: калі бой адгрымеў, калі зрабілася ціха, мёртва, калі вярнулася здольнасць усё заўважаць і спакойна думаць.

Менавіта гэткія «ціхія», «спакойныя» і страшныя сваёй будзённасцю дэталі, сцэны праяўлення бесчалавечнасці вайны асабліва ўражваюць у аповесцях Быкава. Прадметнасць, канкрэтнасць бачання, дакладная перадача франтавых «рэалій», усіх абставін, але не праз падрабязнае апісанне, а канцэнтравана, праз дэталь, якую калі і можа прыдумаць, дык толькі бывалы і сапраўдны франтавік, — усё гэта выдатная асаблівасць рэалізму Васіля Быкава. І гэтыя стрэлкі, што бягуць на гадзінніку забітага, і боты, сцёртыя на костачках, і знойдзеная партызанамі ў лесе пілотка, відаць, чырвонаармейца, што загінуў у пачатку вайны (знізу, ад зямлі, вільготная і запылена-сухая, выгаралая зверху), без гэтага ўсяго, без быкаўскага рэчавага, прадметнага свету не гучалі б гэтак моцна і не «рэзаніравалі б» гэтак яго і яго герояў страсныя філіпікі супроць войнаў, фашысцкага адзічэння, заняволення народаў і душ чалавечых.

Яшчэ больш, чым у «Трэцяй ракеце», жорсткая рэальнасць вайны раскрываецца, наждаком праходзячы па душы чытача, у невялікай і вельмі цэласнай аповесці Васіля Быкава «Пастка» (1962).

Вайна на кожным кроку стварае сітуацыі, якія пагражаюць не толькі пагібеллю. Да думкі аб смерці гэткія людзі, як гарачы і мужны Клімчанка з «Пасткі», калі не прывыклі, дык амаль прымеркаваліся. Тут даволі адной рашучасці: змагацца, памерці.

Але магчымы і іншыя сітуацыі, становішчы, калі ўсе якасці рашучага чалавека і салдата нібы страчваюць значэнне.

У пагібелі, у смерці шукае Клімчанка выйсця з пасткі, у якую загнаў яго гестапавец Чарноў-Шварц, арганізаваўшы ад яго імя перадачу па радыё. Трэба перамагчы акалічнасці, а калі не ўдаецца, дык хоць знайсці ў сабе сілу, годнасць нават смерцю сваёй зрабіць штосьці апошняе для людзей, для жыцця. Пра гэта падумае ў апошнія свае хвіліны і Сотнікаў…

Мабыць, сапраўды ёсць свая заканамернасць у тым, што пасля такога сурова рэалістычнага твора, як «Пастка», Быкаў раптам напісаў сваю самую «рамантычную» аповесць, узвёў чытача да альпійскіх фарбаў і панарам, да шчымліва кароткага кахання Івана Цярэшкі і Джуліі, і зрабіў гэта перад тым, як зноў і нанава ўвайшоў у цёмна-агняныя будні вайны, амаль дакументальнай («Праклятая вышыня»). Ёсць жа ў мастакоў-жывапісцаў перыяды «блакітныя», «фіялетавыя» і розныя іншыя. І ў пісьменніка, які так неадступна распрацоўвае адну тэму, відаць, павінна ж узнікаць патрэба «памяняць фарбы» — каларыт, тон…

У ранейшых рэчах Васіля Быкава мы вылучалі і падкрэслівалі яго ўменне прымусіць чытача адчуць увесь агонь і холад вайны, бою, смерці — усё яе суровае «надвор'е».

Але Васіль Быкаў у некаторых сваіх аповесцях паўстае перад чытачом як тонкі, хоць і стрыманы і нешматслоўны, лірык. Лірычная, настраёвая інтанацыя афарбоўвае вобраз самога апавядальніка ў «Жураўліным крыку», «Трэцяй ракеце», «Праклятай вышыні»: журба, тамлівая прага юнай душы, адкрытай усім марам пра далёкае, нязведанае — перад набліжэннем бязлітаснай развязкі… Менавіта праз непасрэднае суседства лірычнай стыхіі і суровай сапраўднасці перадаецца чытачу адчуванне жорсткасці вайны, фашызму ў «Альпійскай баладзе».

Крытыкі пісалі пра слабую матывіроўку развязкі, «аблегчаную» развязку ў гэтай аповесці. Трэба сказаць, што ў першапачатковай рэдакцыі не было падобнага на цуд, выратавальнага палёту Джуліі ў прорву. А было штосьці больш высокае паводле тону. Эсэсаўцы, загнаўшы свае ахвяры на пляцоўку перад смяртэльным абрывам, раптам убачылі, што можа атрымацца неблагі тэатр. А каты маюць слабасць да падобных спектакляў (з пакутамі, смерцю ахвяр), яны і ў лагеры гэтым цешылі сябе не раз.

Але Іван Цярэшка, які і ў лагеры не дазволіў сябе затаптаць, дадушыць у сабе чалавека, а цяпер, калі глынуў паветра свабоды і кахання, зрабіўся яшчэ мацнейшы, цвярдзейшы духам — Іван Цярэшка гатовы да смяротэльнага паядынку з фашыстамі.



Лёс, аднак, падрыхтаваў гэтаму чалавеку штосьці страшнейшае за смерць: «выбар» Івана, бадай, самы невыносны для чалавека, самы страшны з усіх, якія ёсць у аповесцях Быкава.

…На фоне бязлітасна прыгожых горных вяршыняў, амаль як на пляцоўцы антычнага тэатра, разыгрываўся апошні акт сучаснай трагедыі: Іван, вымушаны, павінен уласнай рукой забіць сваё нечаканае, нядоўгае шчасце, каб выратаваць Джулію ад пакут, ад мучыцеляў…

Так заканчвалася «Альпійская балада» па першай рэдакцыі. Аднак аўтар спыніўся на другой канцоўцы, да якой ужо і сам, мабыць, прывык, ды і чытачы з ёю звыкліся. Тым болей, што і ў выратаванні Джуліі, у яе лісце землякам беларуса Цярэшкі ёсць і свая эмацыянальнасць, паэтычнасць.

Рамантыку быкаўскай «Балады» адцяняе не толькі псіхалагічны рэалізм, але і страсная філасофская думка, напружаны роздум.

Усё гэтак блізка адно да аднаго ў Альпах: пранізлівы холад і тут жа — шчодры сонечны прамень; мёртвае каменне і раптам — казачныя кветкі… Джулія, Іван усё вышэй падымаюцца ў горы, каб трапіць за перавал да партызанаў, да волі і барацьбы. Тэрасы і тэрасы: мёртвага каменя і багатай зеляніны, снегу і кветак, благога і добрага, пакут, кахання, смерці, надзеі…

Кожная аповесць Васіля Быкава — закончаны і самастойны паводле думкі, пафасу, выканання твор.

Паўтараецца, але з новай сілай і непасрэднасцю толькі вось гэта — блізкае адчуванне вайны, фронту, якое і чытач пачынае ўспрымаць слыхам, зрокам, скурай.

* * *

Адно агульнае, вельмі сучаснае пачуццё пранізвае творчасць В. Быкава: ад кожнага залежыць усё! Ад таго, як зробіць, як будзе трымаць сябе чалавек на нейкім богам забытым участку вайны ці кутку зямлі, — здаецца, што менавіта ад таго залежыць усё ў свеце. «Вычытваецца» гэтая ідэя не ў адным якім-небудзь яго творы, а менавіта ў сістэме аповесцей, і асабліва праяснена ў «Сотнікаве».

У аповесці, у сістэму аповесцей Васіля Быкава (як і ў творы многіх іншых пісьменнікаў) увайшло як пачуццё і вызначылася

як галоўная думка тое, што было адчута, пераждыта мільёнамі людзей у час вайны: гэта і адступленне ў сорак першым з надзеяй, што хтосьці дзесьці спыніць жа ворага, і разуменне, жорсткае, апошняе, што ты, вось тут, і спыніш, бо ты і ёсць фронт, ты і ёсць надзея ўсіх («Жураўліны крык», «Дажыць да світання»), гэта і наступленне, вызваленчы паход апошніх гадоў і месяцаў вайны, калі агульная надзея, агульная радасць аплачвалася і здабывалася ўсё тым жа спосабам: жыццямі рэальных, з цела і крыві, а не з жалеза, людзей, якім і балюча, і пакутліва пакідаць жыццё, але галоўная думка якіх — каб свет, калі ўжо ім гінуць, стаў лепшы, дабрэйшы для тых, хто астанецца, прыйдзе, для дзяцей, унукаў… («Трэцяя ракета», «Здрада», «Сотнікаў», «Абеліск»).

Менавіта яшчэ тады кожны асабліва адчуў сваю адказнасць за будучыню, за ўсё, што прыйдзе ці не прыйдзе заўтра. Відаць, яшчэ адтуль у Быкава гэтае вельмі сучаснае пачуццё: кожны адказвае за ўсё!

У «Сотнікаве» перад намі людзі, характары, пра якія адразу, загадзя не скажаш, хто з іх хто. І хто да чаго прыйдзе. Сапраўды, самога пісьменніка вядуць характары, яго свядомасцю народжаныя, часта ўступаючы ў спрэчку з ім самім. З Брытвіным, Задарожным, Блішчынскім аўтару ўсё зразумела загадзя — хто яны ёсць. Трэба толькі «выкрыць» іх, прасачыўшы за іх учынкамі. Над Рыбаком суду справядлівага не ўчыніш, не прайшоўшы ўслед за ім яго ўнутраны шлях падзення. Тут даследаванне перш за ўсё псіхалагічнае. Аўтар уцягвае чытача ў няпросты псіхалагічны працэс, што адбываецца ў Рыбаку, уцягвае тым, што спачатку выклікае да яго добрыя пачуцці, нават давер: Рыбак чымсьці больш прыемны за таго самага Сотнікава (на першым часе). Каб потым, разам з Рыбаком, чытач раптам убачыў прорву пад нагамі — не ў аднаго Рыбака пад нагамі, а ў кожнага, хто надумае адкупіцца ад вялікай бяды «дробнымі» ўступкамі…

Няма ў гэтай аповесці ранейшага быкаўскага рэзкага размеркавання святла і ценяў: «паласатыя» абодва — і Рыбак і Сотнікаў.

Сотнікаў — максімаліст у сваіх адносінах да людзей, да сябе. Здаецца, якасць вельмі станоўчая з пункту гледжання ранейшых твораў Быкава. Але тут аўтарская думка, клопат, трывогі ідуць куды далей, бо жыццё занадта часта сведчыла, што сотнікаўскія станоўчыя якасці могуць павярнуцца не толькі гераізмам, подзвігам, але і вузкім фанатызмам, нецярпімасцю, жорсткасцю.

Таму Быкаў не безумоўна прымае Сотнікава, не з самага пачатку, а толькі разам з вынікам — з яго чалавечым подзвігам.



І не безумоўна адхіляе Рыбака, не загадзя, а толькі таго Рыбака, якім ён аказаўся ў канцы.

Чалавек не «канчатковы» для Быкава ў «Сотнікаве»: з аднаго і таго ж душэўнага запасу можа вырасці і тое, і другое, і трэцяе, бо чалавек не інертна добры ці благі, а ў той ступені, у якой ён здольны да самаачышчэння, глыбокай самаацэнкі, здольны выкідаць з душы сваёй «шлакі» эгаізму, самападману, баязлівасці. Без гэткага працэсу, пастаяннага, бесперапыннага, чалавек можа непрыкметна для самога сябе ператварыцца ў нешта зусім іншае. Сам пасля здзівіцца, як ён мог зрабіць гэтак.

Рыбак менш, чым Сотнікаў, здольны да гэтай унутранай работы. Да паланення, здавалася, зусім хапала яго «прыроднага» маральнага здароўя, якое мела нават свае перавагі. Але надышоў момант, калі падзеі нібы сарваліся з гары і ўсё панеслася ўніз (і ў душы Рыбака таксама). Вось тут і дала сябе адчуць няздольнасць Рыбака аддзяляць, адрозніваць у самім сабе — што разумны разлік, а што баязлівасць, жывёльная прага жыцця, што ваенная хітрасць, а што здрадніцтва…

Так, складаны чалавек у гэтай аповесці Васіля Быкава, не знарочыста, а жыццёва складаны. Пісьменнік бачыць, паказвае, як паварочваюцца ў тым жа Рыбаку нейкія грані душы, яе якасці — паказвае не з імкненнем загадзя выкрыць Рыбака, а з трывогай і болем за чалавека.

А што Сотнікаў? Ён увесь ва ўладзе болю, пакут, гатовы да горшага, адчувае віну сваю перад Рыбаком, якога звязаў, губіць сваёй бездапаможнасцю…

Самая прыкметная ў характары Сотнікава рыса: нежаданне, боязь сваё, сябе перакласці на плечы другога, стаць цяжарам, страціць здольнасць выконваць тое, што вайна на цябе ўсклала. Часамі проста па-дзіцячы ў ім гэта прарываецца: «Я — сам!»

Так, Сотнікаў на другога не пераложыць! Але ці безумоўная гэта якасць у героя, якою трэба захапляцца? У тым і справа, што і гэтая якасць, станоўчая, сімпатычная аўтару, здольна несці ў сабе «лыжку дзёгцю», перарастаць у штосьці зусім іншае. Чалавек не «канчатковы», ён здольны развівацца з усімі сваімі добрымі і благімі якасцямі. І гэта прачытваецца ў вобразе Сотнікава.

Той, хто бярэ ўсё сваё на сябе, ці возьме ён у патрэбны момант штосьці з плячэй таго, хто слабейшы? Ці не запатрабуе ён ад слабога таго, чаго патрабуе ад сябе, гэткага валявога, цвёрдага? Бязлітасна, фанатычна… А ад гэтага недалёка ўжо і да несправядлівасці, быццам і неўласцівай Сотнікаву. Не, таксама ўласцівай, калі ён робіцца такі, які быў у хаце старасты.

У страшны, у апошні свой момант перад смерцю ён сам гэта ўбачыў, па-новаму зразумеў…

І для Сотнікава палон — падзенне. Ён адразу гэта адчуў. Але і падзенне бывае працяглае. У Рыбака яно ўвесь час працягваецца з таго моманту, як ён, «напаследак жахнуўшыся, рэзка адкінуў ад сябе пакулле», падняўся і падняў рукі. Для Сотнікава яно тут жа спынілася. І пачалося ўзыходжанне. Як для генерала Карбышава і тысяч іншых вядомых і невядомых пакутнікаў фашысцкага палону. Узыходжанне па прыступках непахіснасці, мужнасці, барацьбы нават у безнадзейнай сітуацыі.

Цяпер перад імі паўстае «машына», якая ўся «запраграмавана» не толькі на фізічнае вынішчэнне людзей, але і на тое, каб задушыць, зламаць іх духоўна, маральна і па магчымасці ўтылітарызаваць чалавечыя слабасці (перш чым прыйдзе пара ўтылітарызаваць, выкарыстаць іх валасы на матрацы, косці на ўгнаенні). Спачатку гэта быў усяго толькі паліцай — зверavaты, аброслы барадой мужык і «вясёлы кат» Стась, якіх «машына» ўжо «ўтылітарызавала», прыстасавала да сваіх мэт. За імі — злавесны касталом Будзіла і следчы Партноў, а далей — фашысты нямецкія, галоўныя часткі машыны, што выпаўзла з Германіі.

Разлік перш за ўсё на прагу жыцця, на страх перад пакутамі, смерцю. Але як самы моцны і апошні сродак — выклікаць у чалавека адчуванне бессэнсоўнасці супраціўлення, барацьбы, ахвяр.

Рыбак перад тварам смерці траціць перш за ўсё чалавечыя сувязі з людзьмі аднаго з ім лёсу. Каб, адарваўшыся ад іх, неяк схавацца і ад няўмольнага лёсу.

Сотнікаў жа толькі тут, цяпер адчувае гэтыя сувязі па-сапраўднаму. Як самае важнае, галоўнае, што толькі і дасць яму хоць у нейкай меры «завяршыць тое, што не паспела спраўдзіць жыццё».

Да жыцця і смерці, да іншых людзей адносіны яго ў нечым мяняюцца.

«Цяпер, у апошнія імгненні свайго жыцця, ён нечакана ўсумніўся ў сваім заўсёдным праве — нароўні з сабой патрабаваць ад іншых». Патрабаваць, не слухаючы, не жадаючы зразумець, пачуць гэтых іншых. Як у хаце старасты.

Ён разумее, як жорстка памыліўся ў гэтым старым і непахісным чалавеку. Ён балюча перажывае пачуццё віны за лёс Дзёмчыхі, якая асуджана пайсці на смерць разам з ім…

Ён шукае вачыма тых, каму мог бы пакінуць апошнюю сваю ласку, любоў да людзей і сваю апошнюю ўвагу. І заўважае хлапчука з насунутай на галаву старой армейскай будзёнаўкай…



Сотнікаў, які памірае «агітацыйна» (каб не страшна было аставацца ў гэтым свеце «хлопчыку ў будзёнаўцы»), у апошнюю сваю хвіліну здзяйсняе і яшчэ штосьці, але ўжо спецыяльна для Рыбака (толькі Рыбак гэта і мог прыкмеціць).

«Падстаўка яго кіўнулася ў раптам аслабелых руках Рыбака, які нязграбна курчыўся ўнізе, баючыся і, мабыць, не могучы наважыцца на апошнюю і самую страшную цяпер справу».

І тады Сотнікаў, «каб апярэдзіць непазбежнае» (і апярэдзіць страшную справу Рыбака), сам штурхае ад сябе цурбан…

Вось як павярнулася тое пастаяннае сотнікаўскае: «Я — сам!»

Ніхто, вядома, і не заўважыў, што ён «сам». Ніхто, апроч Рыбака. Гэта быў апошні падарунак яму ад былога таварыша — велізарны чалавечы, якога Рыбак, магчыма, і не заслугоўвае.

Але Сотнікаў ужо не можа зрабіць інакш.

Хай хоць якая-небудзь павага да самога сябе астанецца ў Рыбаку. Каб лягчэй яму было (калі здолее, зможа ўсё-такі!) вярнуцца назад: калі не да жыцця чалавечага, дык хоць бы да смерці, вартай чалавека.

Гэткім паўстаў перад намі Сотнікаў пад канец аповесці. Над Рыбаком паўстаў.

Акцэнт у аповесці — і ён прадыктаваны самім часам — не толькі на акалічнасцях, на свабодзе чалавечай волі, на абавязку чалавека выбіраць так, каб павялічыць, умацаваць не зло, а дабро ў свеце. Рыбаку ж здаецца, што галоўнае — астацца жыць, нават калі давядзецца загубіць другія жыцці, зламаць чужыя лёсы. Ён жа, Рыбак, «каштоўнейшы» за ўсіх астатніх (за старасту, за Дзёмчыху, за хворага Сотнікава, які цяпер не баец), яго і трэба ратаваць. Маўляў, дзеля справы, а не толькі дзеля яго самога! Ён ужо гатовы па другіх людзях ступаць, пераконваючы сябе, што робіць гэта ў імя таго, каб забегчы збоку і сунуць палку ў колы «машыны»… І нават не заўважае, што ён гэтую самую «машыну» падштурхоўвае ўжо, упрогся ў яе. «Машына» утылітарызавала яго прагу выжыць любой цаной, яго выяўленую гатоўнасць ступаць па чужых жыццях. Цяпер і на Рыбака людзі глядзяць як на гэту машыну: як на немцаў, на паліцаяў.

І жанчыны, і «хлопчык у будзёнаўцы», і тыя, што ў лесе…

«І яго нібы абухом па галаве аглушыла нечаканае разуменне, што ўцякаць яму няма куды… Цяпер ён скрозь вораг. Усім. І, пэўна, самому сабе таксама».

У ім усё-такі асталося яшчэ штосьці ад ранейшага Рыбака: ён не «прывык» яшчэ да сябе самога, якім ён раскрыўся, выявіўся. Сябе *гэтага* ён гатовы нават пакараць. Бяжыць у прыбіральню,

шукае рэмень, каб павесіць *яго*, павесіцца. А рэменя няма. Нават смерць адабралі ў Рыбака, якую ён сам мог бы яшчэ выбраць. «Хоць кідайся ўніз галавой!..»

Не, ранейшага Рыбака ўжо няма. Гэты ненавідзіць і сябе, але, можа, і ўсіх таксама: цяпер увесь свет, усе людзі — сведкі яго подласці, нікчэмнасці, здрадніцтва. І хто ведае — ці не праўвецца яшчэ ў ім (як гэта здаралася неаднойчы) помслівае жаданне «прыбіраць» гэтых сведак як мага болей, нагрувашчваючы новыя і новыя жорсткасці і здрадніцтва. Перад такім катам і Стась будзе толькі зласлівым дурнем!

Але, можа, Сотнікаў меў рацыю, калі сам адштурхнуў цурбан, калі разлічваў, што Рыбаку так лягчэй будзе «вярнуцца да людзей» і вярнуць у свет тую чалавечую часцінку, якую ён адабраў у людзей, паслужыўшы злу, «машыне»? Вярнуць, не разлічваючы на ўдзячнасць і нават на тое, што людзі даруюць…

Гэта ўжо «за даляглядам» аповесці. Тое, што перад намі, што відавочна: прага выратавацца любой цаной, нават за кошт іншых, бездухоўнасць, няздольнасць да маральнага самакантролю завялі Рыбака туды, куды, на жаль, заводзілі многіх.

Але над гэтым нікчэмным і многімі ўстае другое, сапраўднае мноства людзей, падобных Сотнікаву ў апошнія гадзіны і хвіліны яго жыцця: якія здолелі і ўмеюць падняцца над самымі жорсткімі акалічнасцямі, захоўваючы, прадаўжаючы і памнажаючы ў сабе Чалавека.

Менавіта гэтыя, такія людзі ўсё больш прыцягваюць увагу Васіля Быкава, пра што і сведчыць яго наступная аповесць — «Абеліск» (1971).

Страсна, палемічна расказаная інвалідам Ткачуком гісторыя Мароза-настаўніка, які аддаў сябе на пакуты і смерць, каб быць побач з вучнямі ў самыя страшныя хвіліны іх жыцця — гэта свядомае перанясенне В. Быкавым у нашу літаратуру маральных крытэрыяў, якія дазваляюць нам, напрыклад, бачыць і высока ставіць подзвіг Януша Корчака. Так, таго польскага педагога, што сам адправіўся ў газавую камеру — разам з дзецьмі, якіх фашысты асудзілі на знішчэнне.

Адначасова «Абеліск» В. Быкава — гэта спрэчка з недарэчным звужэннем паняцця гераізму. Спрэчка, якую даўно ўжо вядзе наша літаратура. Няма тут супрацьпастаўлення розных форм гераізму. Ёсць больш шырокае яго разуменне — у адпаведнасці з самімі ўмовамі жыцця і барацьбы на часова акупаванай фашыстамі зямлі. Ва ўмовах, калі за лістоўку, медыкаменты ці за тое, што жанчына накарміла «акружэнцаў» ці партызан, пагражала смерць усёй сям'і і нават цэлай вёсцы — у такіх умовах з ксяндзоўскім (персанаж «Абеліска») крытэрыем: «забіў немца ці не забіў?» не заўважыш самае галоўнае — масавы подзвіг народа, незвычайную самаахвярнасць мільёнаў нашых суайчыннікаў.



І нарэшце — «Дажыць да світання» (1972). Так, зноў аб чалавеку, якому супрацьстаяць грозныя, невыносныя абставіны, і зноў аб гэтым расказана па-новаму, з упэўненасцю майстра. Нечалавечныя абставіны, здаецца, вось-вось перамогуць, зломяць чалавека, паселяць у яго душы адчай — і тым не менш герой аповесці В. Быкава змагаецца да апошняга дыхання. І выходзіць пераможцам.

Пераможцам? Іваноўскі, які замест нямецкіх складаў ці штаба, як спадзяваўся, узрывае, разам з сабой, нейкіх нягеглых абознікаў?

Галоўнае — чалавечая стойкасць перад сілай абставін, гатоўнасць застацца Чалавекам, нягледзячы ні на што. Ёсць гэта — будзе і перамога. Бо не на табе ўсё канчаецца. Але і без цябе — нельга. І ад цябе залежыць канчатковы вынік.

«Ён хацеў верыць, што ўсё, зробленае ім у такіх пакутах, павінна недзе адбіцца, у чымсьці выявіцца. Няхай не сёння, не тут, не на гэтай дарозе, можа, у іншым месцы, праз нейкі няпэўны час…»

Герой В. Быкава, галоўны, пастаянны яго герой — чалавек з перадавой. З бестэрміновай перадавой, дзе чалавек выпрабоўваецца на стойкасць перад сіламі сацыяльнага зла, вайны, грозных абставін XX стагоддзя. Бо сапраўды, як казаў Ю. Фучык, «абавязак быць чалавекам» — бестэрміновы.

Аб гэтым абавязку зноў і зноў напамінаюць быкаўскія аповесці. І хто скажа пра трывожны вечавы звон, што ён «паўтараецца»?

*[1973]*

## СЛОВА ПРА ІВАНА ПАЎЛАВІЧА МЕЛЕЖА

Вясной 1975 года ў будынку Купалаўскага тэатра адбылася сустрэча чытачоў (ці не апошняя) з Іванам Паўлавічам Мележам. Ён сядзеў у ложы, глядзеў і слухаў неяк вельмі ж сур'ёзна, нават строга і тады, калі мы, выступаючы, спрабавалі падвясельваць сябе, аўдыторыю і яго самога рознымі гісторыямі пра яго палешукоў, яго родныя Глінішчы…

Увесь вечар быў, заставаўся задумлівы, невясёлы, бо ведаў больш за нас. Ужо занатавана была ў яго запісных кніжках балючая думка: «Адламала галіну, на якой поўна зялёных яблык, я як гэтая галіна. Поўна ва мне задум, якія прападуць са мной».

Але ён усё ж выйшаў на сцэну і падзяліўся «планамі на будучае». Гэта было так па-сялянску: паміраць збірайся, а жыта сей!..

Сённяшняе наша ўсеагульнае адчуванне — і чытачоў і яго калег па пісьменніцкім цэху: вельмі ж нам не стае Мележа, без яго цяжэй несці нашу ношку, трымаць і ўздымаць справу, якой ён так самаахвярна служыў!

Але здараецца з намі, людзьмі, і такое: сумуем, што няма сярод нас, пайшоў чалавек, маральны аўтарытэт якога дапамагаў трымацца, як кажуць, на ўзроўні, а дзейнічаем, нават калі пра таго ж Мележа пішам, з такімі замашкамі, што нехта збоку можа падумаць: разгуляліся, пажвавелі мышы, калі кот пайшоў! Пачынаем, як крупы, расцягваць па сваіх закутках багацце Мележавага аўтарытэту. Ва ўспамінах пра яго, дзе «я» на першым плане, а ўжо потым — Мележ. У своеасаблівых артыкулах…

Час ад часу паяўляюцца на старонках нашай пісьменніцкай газеты артыкулы, калі малады ці толькі «ўмоўна малады» празаік дэманстратыўна, каб усе бачылі, прывязвае да вялікага карабля свой човен-«пласкадонку». Мабыць, сабраўся ў далёкае плаванне — услед за акіянскім лайнерам.

Не, тут жа, на нашых вачах, робіць нешта дзіўнае: пачынае грэбці ў свой бок, спрабуе цягнуць, буксіраваць вялізны карабель у сваю бухтачку.

А назва той бухтачкі — хутар. Літаратурны хутар. За Мележам на тым хутары слабенькай, шэранькай літаратуры, вядома, было б як за сцяной!

Ды толькі Мележ — можа, самы нацыянальна-самабытны з усіх раманістаў пасля Чорнага — ніколі не быў хутаранінам. Ні па светаадчуванні, ні па поглядах на справы літаратурныя. Ніколі ён не ўяўляў, не хацеў бачыць беларускую літаратуру гэткім



хутарам наводшыбе ад усіх. Хутарам, да якога і ад якога калі і ёсць адна-дзве сцяжынкі, дык ледзь прыкметныя: бо чым менш дарог і сувязей з суседзямі і ўсім светам, тым надзейней і спакайней. Яшчэ сцягнуць нешта наша альбо яшчуру (літаратурнага, вядома) занясуць на сваіх падэшвах!

Адно пісаць пра хутар (мы ведаем, з якой усечалавечай вышыні ўмеў пагладзець на хутар і хутараніна Кузьма Чорны!) і нешта зусім іншае, калі сам аўтар — «хутаранін». Па кругагляду і імкненнях, па стаўленні да нацыянальнай і сусветнай літаратуры і культуры.

Вядома, каб нешта значыць для людзей, трэба быць самім сабой. Гэта слушна і ў адносінах да асобнага чалавека і да цэлага народа. І да асобнага пісьменніка і да ўсёй літаратуры. Але ёсць мудрая прымаўка, якую любіў паўтараць Максім Горкі: «Калі сам я не за сябе, дык хто тады за мяне, але калі я толькі за сябе, дык навошта я?»

Нацыянальнае і агульначалавечае ў кожнай клетачцы Мележавай «Хронікі» прысутнічае ў самым арганічным, высокім адзінстве. Не таму, што Мележ гэтага спецыяльна дабіваўся. А таму, што ён не на словах, а па-сапраўднаму паважаў свой народ і лёгка, без нацяжкі ўмеў убачыць, разгледзець у палешуку ці паляшучцы і Андрэя Балконскага, і Івана Карамазава, і Анну Карэніну… (Памятаеце палемічны запавет Кузьмы Чорнага, які пісаў пра некаторых літаратараў, для якіх калгаснік — гэта той самы мужык, які згаліў бараду, а не чалавек, «дзе, хто мае вочы, убачыць і знойдзе і Эжэні Грандэ, і Івана Карамазава, і Андрэя Балконскага»).

Іван Мележ палемічна абвяргаў у сваіх раманах абразлівы, хоць і ўзаконены традыцыяй, погляд на палешука, на беларуса як на істоту з нейкага гістарычнага запаведніка. На яе, гэтую істоту, глядзяць спачувальна быццам, але ўсё ж — зверху.

Шчыра паважаючы ўсё лепшае, што народ вынес з мінуўшчыны — найбагацейшую мову, працавітасць, душэўную мяккасць селяніна-палешука — Іван Мележ сцвярджаў усёй сілай таленту свайго: гэтыя людзі не на паказ вам жывуць, не дзеля экзатычнай забаўкі! Іх жыццёвыя страсці — Васіля Дзятла, Ганны Чарнушкі ды і ўсіх куранёўцаў — іх радасць і гора, каханне і страты, іх мары і сумненні — усё гэта па вышэйшаму рахунку далучана да страсцей, калі хочаце, шэкспіраўскіх і талстоўскіх. Толькі ўмей з павагай і як мага глыбей заглянуць у душы гэтых людзей, а калі ты пісьменнік, дык і паказаць умей гэтую прыналежнасць сваю да чалавецтва!

Вось які ці не галоўны ўрок, запавет, што пакінуў нам аўтар «Палескай хронікі»!

І яшчэ: чалавек надзвычай уражлівы, эмацыянальны, Іван Паўлавіч пры ўсім тым вельмі ж цаніў, паважаў думку — чалавечую здольнасць мець свой на ўсё погляд. Ды ўспомніце жывога, гляньце на яго фатаграфіі — не было моманту, каб на яго твары нават праз усмешку не адбіваўся напружаны роздум. Пра што чалавек думаў так неадступна? Яго творы, яго артыкулы і запісныя кніжкі даюць аб гэтым уяўленне, хоць, вядома ж, няпоўнае. Ніякая папера выказаць усяго чалавека не здольна.

Самы ўдумлівы з яго герояў, Апейка, не раз звяртаўся да напісанага, сказанага Леніным, каб даць рады самаўпэўненаму, як усе недавучкі, Башлыкову ці неяк саўладаць з уласнымі сумненнямі. Ды і сам Іван Мележ стаў лаўрэатам Ленінскай прэміі па праву не толькі выключнага таленту, але яшчэ і таму, што вельмі ж асабіста ўспрыняў і кіраваўся ленінскім: ні слова на веру, нічога не рабіць без асабістай перакананасці, без павагі да людзей, якім служыш. Цікава ў ім, Мележу, гэта спалучалася, дапаўнялася адно адным: вельмі ж народнае, паляшуцкае імкненне ўсё ўзважыць, памацаць сваімі рукамі і разам з тым — разуменне свайго партыйнага і пісьменніцкага права і абавязку ўсё праверыць думкай, аналізам, сапраўды марксісцкім аналізам. Ніхто ў нас да яго так рашуча і смела не ўводзіў у жывую тканіну твора, не ставіў у кантэкст, часта вельмі напружаны, палемічны, думкі і палажэнні Энгельса і Леніна з практыкай Башлыковых, вялікіх і маленькіх.

Не мог Мележ без гэтага абысціся, бо «Палеская хроніка» — твор аб карэнных пытаннях нашай сучаснай гісторыі і лёсу народнага, мінулага і будучага.

* * *

Івану Паўлавічу Мележу — 60 год. Было б. З гэтае нагоды яго віншавалі б, выказвалі б любоў, павагу, чытачоўскую ўдзячнасць і блізкія, і далёкія, нават з ім не знаёмыя людзі. Мы б яму казалі, што ён малады і талент яго ў самым росквіце, і казалі б шчыра: такім маладым і рабіў Мележа талент, магутны талент, што адкрыўся на ўсю глыбіню праз «Палескую хроніку», працу над ёю. Мабыць, мы яму, жывому, казалі б не зусім усур'ёз тое, што пішам, гаворым сёння сур'ёзна і ўдзячна: класік! А ён па-паляшуцку насцярожана і як бы вінавата ўсміхаўся б, а сам скіроўваў бы гаворку зноў на іх — сваіх літаратурных дзяцей, з якімі яму ўсё болей клопатаў і перажыванняў, нездарма ж кажуць: вялікія дзеці — вялікія клопаты… Што далей з імі рабіць, як быць з Васілём, Ганнай, Міканорам, Апейкам, Башлыковым, а таксама з Яўхімам, а таксама з Дубадзелам?.. Бо вунь куды выводзіць іх жыццё і цяжар страсцей чалавечых, а каб напісаць пра гэта — патрэбна і падумаць, і рашыцца! Ды і столькі варыянтаў магчымага — мільёны, а выбраць трэба адзін, што найбольш адпавядае характару героя і яго часу. А на гэта накладваюцца яшчэ і сучасныя, надзённыя праблемы вёскі і наогул усё XX стагоддзе — паспрабуй і гэта абысці.



Яшчэ ў 1947 годзе, ужо задумаўшы «Мінскі напрамак», прыступаючы да працы над ім, аспірант Белдзяржуніверсітэта Іван Паўлавіч Мележ запісвае на «калі-небудзь»:

«Напісаць вялікую рэч (калі-небудзь) пра тое, як мянялася і ламалася псіхіка беларускага селяніна з 1914 года да нашага дня. Пражыты страшэнна жорсткія, ломкія гады. Этапы — 1914, 1917, 1921, 1926, 1930, 1937, 1941, 1945. Ісці недалёка за вобразамі — узяць жыццё бацькі або маткі».

І зноў — у тым жа 1947 годзе:

«…Наступленне на балоты — вялікая, прыгожая, нацыянальная тэма. Напісаць».

Пачынаючы з 1956-га — а гэта быў год XX з'езда партыі — на пісьменніцкім стале Івана Паўлавіча — «Палеская хроніка». Галоўная яго кніга.

Мабыць, да сённяшняга дня, да 1981 года, Іван Паўлавіч ужо скончыў бы і трэцюю кнігу «Хронікі» («Завеі, снежань») і, магчыма, чацвёртую, хоць увесь час, як і раней, клікала б яго і іншая праца, патрэба — расказаць пра «сваю» (а не Васіля Дзятла ці Апейкі) вайну, пра сваё пакаленне і яшчэ — «напісаць аповесць пра каханне» (як ён часта гаварыў, абяцаў). Ды ці мала магло ўзнікнуць новых задум, рашэнняў і складанасцей у такога чалавека і таленту! Але ўсё ж, думаецца, Палеская Кніга заставалася б галоўнай — як неаплатны доўг, абавязак перад зямлёй «бацькі і маткі» і як найвялікшае творчае шчасце, але і пакута таксама… Адправіўшы ідэйнага і маральнага банкрута Башлыкова «назад у Гомель» (Мележ не раз казаў, што зробіць так) і вярнуўшы беглага Васіля з лесанарыхтовак у Курані, на гэтым, мабыць, закончыў бы «Завеі, снежань».

У запісных кніжках Івана Паўлавіча пазначана:

«У канцы даць сцэнку: Васіль вяртаецца ў Курані. Пацягнула. Калі вясной запахла, калі пачуў пах зямлі, можа, з Куранёў данёс вецер, пацягнула — не ўседзець тут. Няміла стала ўсё тут. Хай будзе што будзе — толькі там быць, хадзіць па сваёй зямлі, чуць

яе пад нагамі, дыхаць яе пахам. Ураз сабраўся, усё кінуў. Ляцеў дадому. І вось куранёўская грэбля, цагельня, стрэхі… Хай хоць што, толькі тут быць! Толькі тут!..»

Прыгажуня і любіміца Івана Паўлавіча Ганна Чарнушка (і наша любіміца!) на тых жа шляхах жыцця і часу вырастала ва ўяўленні пісьменніка, у душы і сэрцы яго, у абагульнены трагічны вобраз (як сказана ў адным з запісаў — «доля жанчыны, жонкі-маці, пакутніцы»). Аказалася, што лёс яе жаночы — не Васіль і, вядома, не Яўхім, і ўжо ні ў якім разе не Башлыкоў, а Міканор. Так, былы чырвонаармеец Міканор. Яго нарэшце выбрала Ганна (ці лёс яе жаночы выбраў), і спачатку яна адчувае, што не любіць яго. «Халодны ён. Чагосьці не хапае ў яго. Увесь у справах. Дзеці — адна радасць…»

Але Міканор, які так добра пачынаў свой шлях у Куранях — з людзьмі і для людзей (будаўніцтва грэблі), — які пасля збіўся на нейкі час на «метады» Башлыкова і Дубадзела, гэты самы Міканор аказаўся здольным на крок, які хоць і скончыўся бядой для яго і сям'і, але вярнуў яму навагу вяскоўцаў, іх удзячнасць і спачуванне. Ганна ж нарэшце зразумела, які ён чалавек, як варты ён іншага лёсу і сапраўднай жаночай адданасці, кахання. Хоць у яе ўжо іншыя, не дзявочыя клопаты. Бо адна засталася — з дзецьмі…

«…Людзі спачуваюць. Добрым словам успамінаюць Міканора».

А зрабіў ён вось што: калі нейкі раённы дзеяч хацеў пакінуць калгаснікаў без хлеба, з пустым працаднём, дык старшыня калгаса Міканор сваё «абяцанне людзям спраўдзіў. Наперакор усяму. Здаў нарыхтоўкі. Выдзеліў насенне. А ўсё астатняе размеркаваў. І дачакаўся пракурора…»

Так альбо інакш трохі ці зусім не так, як у гэтых запісах, павярнуўся б лёс Міканора і Ганны — хто ведае? Бо гэта толькі адзін з варыянтаў — той, што запісаў Іван Паўлавіч, калі яшчэ працаваў над «Подыхам навальніцы» і «Завеямі, снежнем». А колькі іх яшчэ магло быць, варыянтаў! А пасля быў бы апошні, самы неабходны, абавязковы, і сёння б мы яго ўспрымалі як адзіна магчымы…

Як і што сёння бачыў бы Іван Паўлавіч, а ўслед за ім і мы — на шырокай, як само жыццё, сцэне яго раманаў, можна толькі прыблізна ўгадваць.

…Знік перад самай вайной Башлыкоў — трапіў пад тое кола падазронасці і парушэнняў законнасці, якое калісьці сам так узбуджана раскручваў. І з Міканорам так здарылася. А Дубадзел (Крываротым — так яго ўсе называюць, якая б улада над людзьмі ў яго ні была!) — гэты раскрыўся найлепш у вайну.



«Ён у душы кар'ерыст, — піша Мележ.— Яму, Крываротаму, галоўнае быць наверху. «На кані», як ён сам кажа… Зноў п'янее ўладаю. Хваліць немцаў, распінаецца за іх доўгімі прамовамі, як некалі за Савецкую».

Самы моцны і жывучы з усіх аказаўся Васіль Дзяцел. Бо і клопат яго на зямлі вечны — рабіць хлеб. Лёс яго бачыўся Івану Паўлавічу неадназначна — калі чытаць запісы розных год. Але ўсюды і заўсёды галоўнае для Васіля было і заставалася — усё тая ж зямля. Нават калі і глядзець на яе не хацеў, баяўся…

Вярнуўся ён ранены з фронту ў свае Курані: «Пасля вандраванняў нядаўніх, грукату бою, смерці жыў Васіль цішынёю, спакоем, звыкласцю родных з'яў і клопатаў.

Першы час успамінаў усе крыўды, якія былі яму ад савецкай улады: асабліва — як запісалі падкулачнікам, як забралі радасць — хату, адрэзалі зямлю, прымусілі, можна сказаць, бадзяцца па свеце. Злосць была на Міканора… Злосць была: от хваліліся — усіх пераможам, адной пяткі зямлі — не аддадзім, на чужой зямлі ваяваць будзем!..

Але гэта была злосць не зларадная, а — усё часцей — злосць балючая, балюча было ад яе самому».

Не, не збіраўся пісьменнік «выпростваць» характар Васіля. Было што развіць, куды паглыбляцца, калі б распачаў палескі раман пра ваеннае ліхалецце.

…Васіль як бы ўсё той жа. Ва ўсякім разе такі ж неадназначны, як і ў «Людзях на балоце», у «Подыху навальніцы». Але гэта ўжо бацька, і гэты чалавек ужо пабываў на вайне. І наогул бачыў, ведае не адны свае Курані.

Ёсць у запісах Мележа фраза, якая магла ўсё павярнуць, скіраваць у свой бок — калі б усур'ёз распачата была праца над гэтым раманам. Вось гэтая фраза: «Калі палалі Курані — сям'я загінула. Выратаваўся сынок адзін. Яго выпадковая смерць абмінула».

Першая балючая і страшная навіна, якую Іван Паўлавіч пачуў і перажыў, пачуўшы, калі пасля вайны прыязджаў у свае Глінішчы, магла быць (і была, вядома) — пра тое, як у суседніх з Глінішчамі Алексічах жыўцом спалілі, перабілі ўсіх жыхароў. Ды і ў шмат якіх вёсках навокал…

Спрабаваў апавядаць пра такія вёскі Іван Мележ і ў «Мінскім напрамку».

Але можна ўявіць, як заглыбіўся б ён у гэтую тэму (таксама нацыянальную для беларусаў, ды толькі нясцерпна жудасную!), калі б напісаў ваенны лёс Куранёў (і Васіля). І як дзеці засланілі б усё астатняе! І ў рамане. І ў душы Васіля. І з чым у душы пайшоў бы Васіль на фронт — пасля вызвалення. І якім вярнуўся б!

Бо Мележ так бачыў (на нейкім этапе сваёй працы) далейшы лёс Васіля:

«Пасля вызвалення — узялі ў армію. Кончыў вайну — у Германіі ці Аўстрыі. Ваяваў непагана. Кулямётчыкам…

Вярнуўся. Сустрэча з Куранямі. Боль. На могілках. Колькі тут пахавана! Але ніхто не бачыў такой бяды!..

Курані. Нідзе мне без вас жыцця не будзе. Толькі ў вас і маё гора, і мая радасць. Маё жыццё».

А далей — запіс, словы, што не вельмі, можа, вяжуцца з вобразам Васіля, які ёсць у напісаных раманах, але з Васілём ваенным і пасляваенным, мабыць, вязаўся б:

«І ўсё-такі мы будзем жыць. Нас — не знішчыць. Бо мы — народ!»

У артыкуле «Знайсці сябе» Мележ зафіксаваў тую гістарычную праўду, што ў Айчынную вайну — і «пасля такой вайны» нашы людзі па-новаму і як ніколі адчулі, зразумелі, «што мы — народ».

Дык чаму не адчуць было гэтага Васілю? Якога нішто не абышло і абысці не магло, бо такіх, як ён, — мільёны, асноўная маса народа.

Вось дзе і як магла адгукнуцца тая першапачатковая думка пра «вялікую, прыгожую, нацыянальную тэму», з якой усё пачыналася. Вось які гістарычны маштаб, якую гуманістычную глыбіню яна набывала ў працэсе работы над раманамі.

* * *

Іван Паўлавіч быў шчаслівы чалавек. Гаворачы словамі Пушкіна — любімец багоў! Але гэта не тое, што любімчык. Любімчыка багі і жыццё часам так залашчаць, закормяць, што не раскрыецца і тое багацце, талент, што меў ад прыроды.

Затое «любімца багоў», калі гэта пісьменнік, не абыдзе нічога: што міру, тое і бабінаму сыну! Ён сам шукае сабе і працу звыш меры і лёс нялёгкі. І ў гэтым яго шчасце.

Іван Паўлавіч шчасліва нарадзіўся сярод людзей, якія ведалі столькі песень і таямнічых гісторый пра чалавечыя лёсы, у краі, дзе, як з гордасцю сам Мележ казаў, «карэньчыкі» роду самога Дастаеўскага…



Вайна, якую мы перажылі, вытрымалі, — вялізарнае няшчасце для народа… Але калі яна ўжо была, тая вайна, дык падвойным няшчасцем для пісьменніцкага таленту было б — не прайсці праз яе разам з народам.

На вайне народнай, у шпіталях Мележ знайшоў сябе — пісьменніка. Адтуль — з рускага горада Бугуруслана — прывёз сваё высокае каханне, будучую сям'ю сваю. У якой, дарэчы, сёння гадуецца яшчэ адзін Іван — маленькі ўнук Івана Паўлавіча. Хай здароў будзе!

На творчым шляху Мележа, пры першых літаратурных кроках, яму шчасліва сустрэліся Кузьма Чорны і Аляксандр Фадзееў.

Але найбольшае яго шчасце як пісьменніка ў тым, што Іван Паўлавіч Мележ не пайшоў, задаволены, па кругу… Не, ён раптам і рэзка пераўзышоў самога сябе, ранейшага. Рэзка навярнуўся да таго, што, здавалася, заўжды было ля яго, з ім: «Я суткамі мёрз у акопах, а перад маімі вачыма стаяла маё гарачае Палессе. Я месяцамі валяўся ў шпіталях — ля майго ўзгалоўя стаялі палешукі. Я пісаў раман аб вайне — яны стаялі за маімі плячыма, узбуджаючы маю фантазію…»

Так ужо з намі бывае: пішам, нават нядрэнна, «не горш, як іншыя», але радасці, шчасця ад нашай працы неяк мала — і людзям, і самім сабе. Здаецца ўсё нам, што і крытыка ў нас не такая, якой павінна быць, і Інстытут літаратуры не тое і не пра тых піша… Адны з гэтым пражывуць і сыдуць, у глыбіні сэрца незадаволеныя сабой і ўсімі — колькі б узнагарод, званняў, тыражоў ні мелі. Нямногія, вельмі нямногія спазнаюць шчасце, якім лёс і талент адарылі Івана Паўлавіча.

Усе мы заўважылі, як змяніўся ён пасля таго, як напісаў «Людзей на балоце», і калі на твор гэты, як на чаканы ранак, павярнуліся ўсе і разам — і чытачы, і крытыка. Але не ў гэтым нават справа — не ў чытачах і крытыках, —а ў тым, што мастак раптам сам зразумеў, паверыў: вось яна, мая Галоўная кніга, дайшоў, дацягнуўся да яе!..

З усіх твораў Мележа «Палеская хроніка» — твор пра найглыбей перажытае, пра самае блізкае сэрцу пісьменніка. Перажытае асабіста і бацькам, маткай, роднай зямлёй перажытае тут злілося, сплавілася — не раз'яднаеш.

Але каб так узбуйнена, свежа, шматфарбна ўбачылася, адкрылася тое, што заўсёды было з ім, пры ім, Мележу, можа, якраз трэба было свет прайсці і шмат што пабачыць.

Прайсці праз шмат што ў жыцці, каб вярнуцца да самага запаветнага і каб здолець зрабіць самае простае, але не самае для

пісьменніка лёгкае: расказаць з усёй шчырасцю пра тое, пра што ніхто на свеце не раскажа, калі не ты.

Іменна з гэтага яны паўстаюць, Галоўныя кнігі — з самага запаветнага. Але не ўсякага запаветнага, а да якога не абыякавыя і іншыя людзі, твой народ не абыякавы, а калі ты вялікі мастак — дык і іншыя народы таксама.

Сапраўды шчаслівы пісьменнік, які да гэтага дацягнуўся…

Не, ён і пасля пакутаваў, Іван Паўлавіч, калі праца не ладзілася, ці ад сваіх, яшчэ шпітальных, хвароб, пакутаваў ад пастаянных думак і спраў, бо і далёкае для яго было блізкім, балючым. Але гэта быў ужо другі, іншы Мележ — сапраўды шчаслівы чалавек! Такім ён нам і запомніўся найбольш: яго раманы як бы ўзнялі яго над дробязнымі літаратурнымі страсцямі і інтарэсамі, але затое наблізілі да яго інтарэсы *ўсёй літаратуры*. *Вялікай літаратуры!* Тыя інтарэсы, пра якія, хоць усе і разумеюць, што яны галоўныя, ды пра іх няма калі думаць за штодзёншчынай нават сакратарам СП.

Памятаеце выступленне Івана Паўлавіча на сёмым з’ездзе пісьменнікаў: там ён гаварыў, хто і як уплывае на літаратуру. Але мы добра адчувалі: іменна яго, Мележаў, аўтарытэт найбольш уздзейнічаў на наш літаратурны працэс.

Гэтае ўздзеянне працягваецца. І на паверхні: мы не стамляемся спасылацца на вопыт, традыцыі, на спадчыну Івана Мележа. Але намнога важней уздзеянне глыбіннае: сама прысутнасць у нашай літаратуры зоркі першай сусветнай значнасці — «Палескай хронікі» абавязвае нашу літаратуру арыентавацца на самыя высокія ідэйна-эстэтычныя крытэрыі.

Чалавек, які падарыў людзям вялікае шчасце, сам робіцца шчаслівым. Насуперак усяму. Такім быў, стаў, такім пайшоў з жыцця Іван Паўлавіч Мележ. Мецць творы такога пісьменніка — шчасце літаратуры. Нашай зусім не беднай літаратуры.

І мы ўдзячны лёсу, што ён адарыў нашага земляка выключным талентам слова і любві да людзей, да народа, а нас праз яго «Хроніку» яшчэ раз далучае да ўсяго самага вяршыннага, што ёсць у сусветным мастацтве.

*1981*

# ЛІСТЫ

## 1. ВАСІЛЮ БЫКАВУ

*17 верасня 1968 г., [Мінск–Гародня]*

Дарагі Вася!

Прачытаў я тваю партызанскую аповесць[1]. Пры ўсёй веры ў твае магчымасці браўся я за яе з нейкай насцярогай. Вось жа аўтару вялікай «Жестокости»[2] не ўдалося сцерці налёт нейкай другаснасці з матэрыялу, які ўзяты з іншых рук («Через кладбище»). А ў цябе гэта атрымалася. Рэч атрымалася нікольні не слабей за твае франтавыя.

Моцна я гэтаму рады, Вася. Цяпер я асабліва адчуў, чаго не хапае мне: вось гэтай рэчыўнасці, няспешнасці ў дэталях рэчыўнага свету (пры ўсім тваім лаканізме). (…Пілотка забітага, пыльная зверху і адсырэлая знізу ды г. д.)

Ёсць у мяне і некалькі заўвагаў.

Разумею, навошта табе ўстаўныя аповеды, але яны ўсё ж надаюць некалькі дыдактычны характар галоўнай думцы. Тое ж самае і аповед, як атаварвалі фальшывыя карткі — непатрэбнае падкрэсліванне, а таму і спрашчэнне таго, што было ўжо на мосце.

І вось яшчэ што. Ты, здаецца мне, ва ўзаемаадносіны партызан перанёс крыху франтавога. На фронце людзі побач жывуць нядоўга, вялікая цыркуляцыя. Партызаны ж мелі час і магчымасці прыжыцца адзін з адным да поўнага сяброўства (ці, наадварот, непрыняцця), ва ўсялякім разе не павінна быць уражання, што яны кепска знаёмыя адзін з адным. Ты агаворваешся, што некаторыя з іншага атрада і г. д. І ўсё ж не перашкодзілі б штрыхі нейкай большай блізкасці (хаця б «старых» партызанаў) да бедалагі, што патрапіў у яму. Гэтая «блізкасць» «старых» была вельмі моцная і нават раўнівая. Усё ў цябе выдатна ў

частцы трагедыі, але партызаны пры ўсім тым прымудраліся ваяваць ледзь-ледзь весялей, з нейкім хахмацтвам. Гэта іншы бок праўды, і нейкія штрыхі толькі б падкрэслілі галоўнае ды стварылі б больш партызанскую атмасферу. Падумай.

А ў цэлым — дай Бог!

Цісну тваю працоўную лапу.

*Саша.*

## 2. ЯНКУ БРЫЛЮ

*[Студзень 1973 г., Кіславодск–Мінск]*

Дарагі Янка!

Ты нас загоніш у сарамлівы румянец сваёй працавітасцю[1] Я таксама ўлез было ў справу, ва ўсякім разе 2 раздзелы (адзін на аснове палымянскага свайго артыкула) склаліся[2].

Першы — каты і іх логіка-псіхалогія.

Другі — ахвяры, дакументальнасць іх расказаў (псіхалагічная), тыпы расказчыкаў.

Нешта трохі даследчае, і такое, думаю, патрэбна, і тут «вучоны муж» (як кажа Бакланаў)[3] дарэчы.

Бяда ў другім: раптам, якраз 31-га захварэў. І падазрэнне на запаленне лёгачнае, малатэмпературнае. Вось так у нас!

Толькі не кажы пра гэта маім, не трэба псаваць настрой. Хопіць, што табе псую.

Артыкулы мае (я ўжо ўлавіў) атрымліваюцца ў той ступені, у якой я прапітваюся матэрыялам і наколькі магу свабодна ўспамінаць тую ці іншую дэталь, факт. Думаю, што нават паўтараючы іх (калі і ў тваіх нарысах ці ў расказах тыя ж факты), мы не парушым норму. Бо я гэта даю зусім у другім ключы, не столькі мастацкім (як у цябе) колькі даследчым. Чаго мне трэба, ох, як трэба — дык гэта пратаколы, дакументы працэсаў!

Не хварэй! І мне забарані!

*Твой А/дамовіч/.*



## 3. ЛЕАНІЛЕ І ГАЛІНЕ ГАРЭЦКІМ

*10 лістапада 1974 г.*

Дарагія Леаніла Усцінаўна і Галіна Максімаўна[1]!

Дзякую Вам (адсюль, з Мінска) за дапамогу, што меў ад Вас у Ленінградзе. І за тую, што маю цяпер.

Раніцай сёння Гаўрыла Іванавіч, як добры селянін, ужо ўстаўшы і напрацаваўшыся, прынёс мне Вашы, Галіна Максімаўна, успаміны, а я — мінскі лайдак — яшчэ драмаў.

Пачаў чытаць і адразу прачнуўся, прачытаў і адразу пішу Вам. Таленавітыя Вы ўсе Гарэцкія-Чарняўскія: гены, ці што, а мо багацьеўская вада? І нездарма Вам сны бацькавы бачацца. Я перадрукую на машынцы, пакіну сабе экзэмпляр (Ваш наказ памятаю), астатняе — Гаўрылу Іванавічу, а Вам трэба (я ўпэўнены!), пачакаўшы трохі, набраўшы паветра, вярнуцца да артыкула і, нарошчваючы на яго жывое, зрабіць нешта большае — сямейную хроніку. Яна будзе мець і самастойнае значэнне.(Акрамя таго, што будзе значыць — для даследчыкаў творчасці Максіма Гарэцкага.)

Бачыце, Вам ужо заданні даюць!

Не, сапраўды, Галіна Максімаўна: так пачата, што недаравальна не працягваць. Жадаю вам быць здаровымі як толькі можаце, і творчых радасцей! (Яны — адзіна надзейныя.)

*Адамовіч.*

## 4. ЛЕАНІЛЕ І ГАЛІНЕ ГАРЭЦКІМ

*16 лістапада 1974 г.*

Дарагія Леаніла Усцінаўна і Галіна Максімаўна!

Ці атрымалі маё пісьмо, дзе гаварылася пра Вашы, Галіна Максімаўна, успаміны?

А я разахвоціўся (а можа, распісаўся ўжо занадта, бо цэлая кніга[1] атрымліваецца) і прашу ў Вас яшчэ порцыю.

Прашу вось аб чым: напісаць гісторыю захавання рукапісаў (пасля 37-га, у часе вайны, пасля яе) — асобна — пра «Віл/енскіх/ /камунараў/»[2]. З усімі магчымымі падрабязнасцямі, драматургіяй.

Усё, што памятаеце наогул пра рукапісы (нават і пра той час, калі Максім Іванавіч яшчэ дома быў) — але гэта ўжо «звыш». Асноўнае — пра тое, як «не гараць рукапісы», хоць яны і папера — праз чые рукі яны ішлі і чые іх збераглі, знайшлі.

А ведаеце, ужо «Лит/ературная/ газета» просіць пісьмаў колькі Лёні[3], але я сказаў, хай з «Юностью»[4] дамаўляюцца. Найлепшага вам, асабліва здароўя!

*Адамовіч.*

## 5. ВАСІЛЮ БЫКАВУ

*[На штэмпелі канверта: 10 чэрвеня 1975 г., Мінск–Гародня]*

Васіль, вітаю цябе!

Добра б і самому так думаць пра сваю працу, як той дзіўны энтузіяст!

Ды вось аб літаратуры (у тым ліку і сваёй) я думаю падобна. Нешта з ёй насамрэч адбываецца, з нашай ваеннай літаратурай. Мы ненавідзім вайну, але так уцягнуліся ў ролю яе «летапісцаў» і выкрывальнікаў, што пачынаем ужо (а многія даўно пачалі) любіць сваю памяць пра вайну. Упрыгожванне, эстэтызацыя вайны праз выкрыванне (якое стала любімым заняткам) — нечакана вось як гэта паварочваецца.

Як пазбегнуць гэтага?

Думаю, адзіны шлях ёсць — з яго і пачыналі ў свой час. Даставаць так глыбока, што нібыта насамрэч вяртаешся на перадавую. І рызыка ўжо рэальная, а не далёкая, ва ўспамінах. У тых самых баб няма і намёку на тое, каб яны любілі сваю памяць пра вайну. Гэта і ёсць урок, які я ва ўсялякім разе атрымаў. Аднак заўважыць нашмат цяжэй, чым атрымаць.

Нёман — гэта здарова, але там у цябе не папрацуеш. А трэба! Акадэмія з'ядае час. Еду ў Кактэбель. Добрага табе лета!

*Адамовіч.*



## 6. ЛЕАНІЛЕ І ГАЛІНЕ ГАРЭЦКІМ

*17 снежня 1975 г.*

Дарагія Леаніла Усцінаўна і Галя!

Вельмі я рады, што зробленае мною[1] так адгукнулася ва ўсіх Гарэцкіх— сям'ю і род, якіх нельга не любіць і не паважаць.

Дарэчы, калі працу абмяркоўвалі ў інстытуце, адзін з нашых сказаў, што «здаецца ні пра каго Адамовіч не пісаў з такім пачуццём». І ён угадаў. Справа не у адной толькі літаратуры (хоць яна, сапраўды, выдатная), але і ў чалавеку. Зайздросны лёс не таго, хто як «вяпрук на саломе век пракачаўся» (кажучы, словамі /Кузьмы/ Чорнага), а хто змог чалавекам застацца да канца. Не ўсім удалося. І нават вельмі не многім, калі дрэнна прыйшлося. А на Гарэцкім і вока, і душа, і сэрца адпачывае: усе ж такі можна! Можна быць не падобнымі і на Б. і на К. і на Г.!

Кніга ўжо набіраецца — крытычная. Калі нічога не перашкодзіць, у 1977 г. выйдзе гэтая праца пра Гарэцкага і на рускай мове[2].

З Новым вас віншую годам! І дай вам Божа, каб больш было здароўя, радасці!

*Ваш Адамовіч.*

## 7. ГАЛІНЕ ГАРЭЦКАЙ

*26 верасня 1976 г.*

Дарагая Галіна Максімаўна!

Шчыра Вам спачуваю ў горы вялікім Вашым[1]. Столькі яна перажыла, жонка Максіма Гарэцкага, столькі і Вам давялося, але адна ёсць уцеха: і Леаніла Усцінаўна, і Вы, і Лёня, і Максім Гарэцкі перамаглі сам час — такая ўжо сіла сумленнасці, мужнасці, чалавечнасцІ.

Не стала Маці, але ў Вас ёсць і праца, такая патрэбная беларускай літаратуры, і Гаўрыла Іванавіч з Ларысай Іосіфаўнай[2] — цудоўныя людзі, ёсць і сябры ў Мінску, і мы Вас любім.

Будзьце такія ж мужныя і дай Вам Бог здароўя паболей!

*Ваш Адамовіч*

## 8. ГАЛІНЕ ГАРЭЦКАЙ

*3 красавіка 1981 г.*

Дарагая Галіна Максімаўна!

Пазваніў вось цяпер на кватэру Г/аўрылы/ І/ванавіча/, а ён і кажа: «Толькі што праводзіў, гадзіну назад!» Чамусьці мне здавалася, што Вы едзеце ў нядзелю. Закруціўся ў сваім коле.

Ну ды я ў пісьме скажу галоўнае. Вельмі важна, каб мы маглі ад Вас атрымаць, калі ён ёсць у Вас, найбольш блізкі да арыгінала тэкст «Камар/оўскай/ хр/онікі/»[1]. Тады наша Галіна Іванаўна — Вы з ёю знаёміліся — яшчэ зверыла б усё з арыгіналам (бібліятэчным) і было б надзейна. Без Вашай дакладнасці, уважлівасці і дасканалага ведання тэксту памылак мы не пазбегнем — Вы перакаланіся па маіх кніжках.

Ну і расшыфроўка прататыпаў.

Ну да Вы самі ўсё гэта робіце і ведаеце.

Хочацца, каб атрымалася як мага лепш. Гэты твор я асабліва люблю, і здаецца ён мне асабліва вялікім, яшчэ не ацэненым намі, багаццем. Жадаю Вам моцы, здароўя!

*Адамовіч*

## 9. МІХАІЛУ СЯРГЕЕВІЧУ ГАРБАЧОВУ

*1 чэрвеня 1986 г.*

Глубокоуважаемый Михаил Сергеевич!

Пожалуйста, не отнесите то, что Вы здесь прочтете, на счет писательской фантазии Алеся Адамовича. Я пишу то, что знают и думают многие крупнейшие ученые Белоруссии и некоторые партийные работники, у нас были самые горячие обсуждения этих проблем.

Не станем шуметь «на всю Европу», но мы-то понимаем, что Белоруссия переживает нечто сопоставимое лишь с ее трагедией в годы минувшей войны.

Под вопросом само существование (физическое) десятимиллионного народа. Радиация ударила, прежде всего, по нашей республике. Как писала одна центральная газета, не соображая, что пишет: «К счастью, ветер дул не на Киев». Действительно, в самые грозные дни, с 26 по 30 апреля (а потом еще много дней), ветер тащил радиоактивные осадки и выпадения на Гомель, Могилев, Жлобин, Мозырь, Славгород, Краснополье, Речицу, Хойники, Наровлю, Брагин, Пинск, Слуцк, Брест… Досталось и Минску. А между этими городами тысячи деревень. Сколько людей получили различные дозы радиации и через сколько дней или лет это скажется на каждом, сказать трудно. Но если иметь в виду, что БОЛЬШАЯ ПОЛОВИНА РЕСПУБЛИКИ была засыпана ею (Гомельская, Брестская области и части Могилевской и Минской),— речь пойдет о цифрах тяжелейших*.



Но, не об этом уже речь. Ладно, что случилось, то случилось, что сумели, смогли, а к чему оказались не готовы (к очень многому) — тоже поздно размахивать руками.

В республике делается многое, чтобы локализовать и победить беду в белорусских районах, непосредственно примыкающих к Чернобылю, руководство, люди действуют, учась на ходу, самоотверженно.

Но не всё подвластно руководству нашей республики.

За спиной вызревает новая опасность, может, еще более грозная. Если не будут немедленно приняты меры, не будет сделано в кратчайшие сроки то, что абсолютно необходимо (по мнению ученых), еще миллионы людей в Белоруссии пострадают (а многие погибнут), и тогда можно будет сказать, что произошла трагедия — пострашнее той, которую наш народ пережил в 1941–44 гг.

Всем этим людям (в пределах Белоруссии и в сопредельных районах других республик), так же, как, очевидно, и на Украине, сейчас грозит РАДИАЦИОННОЕ ОТРАВЛЕНИЕ ЧЕРЕЗ ПРОДУКТЫ ПИТАНИЯ.

И руководство республики, и ученые наши могут с этим справиться, если получат помощь и поддержку. У НАС ФАКТИЧЕСКИ НЕТ НУЖНОГО КОЛИЧЕСТВА ПРИБОРОВ ДЛЯ

---

* Зам. директора Института им. Курчатова Л. П. Феоктистов такую трагедию предсказывал в мае 1983 г. на конференции советских ученых: «Как показывают более точные оценки, по совокупности причин радиоактивное заражение, вызванное полным разрушением одной АЭС, сопоставимо с радиоактивными последствиями приземного термоядерного взрыва в 1 мгт в период до 1 месяца…» (одна мегатонна, как известно, это 50 Хиросим). «Непригодной для обитания оказывается территория, примыкающая к АЭС (в направлении ветра) площадью, составляющей десятки тысяч квадратных километров».

Мы, Белоруссия, оказались в «направлении ветра».

